


Беларускі інстытут навукі й мастацтва




**Бібліятэка Бацькаўшчыны**
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 25

# ЭМІГРАНТ ФРАНЦЫСК СКАРЫНА,
## ЦІ АПАЛОГІЯ

**Аўтар-укладальнік**
**ЛЯВОН ЮРЭВІЧ**

Мінск
«Кнігазбор»
2015

УДК 94(476)+929 Скарына
ББК 63.3(4Беи)
Ю64

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны» заснавана МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» ў 2004 годзе*

Рэдактар, аўтар прадмовы, каментараў і іменнага паказніка
Наталля Гардзіенка

Кніга выдаецца сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

**Юрэвіч, Л.**
Ю64 Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія / Лявон Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 624 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 25).
ISBN 978-985-7119-59-2.

Кніга беларускага архівіста з ЗША Лявона Юрэвіча «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія» (25-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») адлюстроўвае разнастайнасць даследавання, рэпрэзентацыі і спадчыннасці справы беларускага першадрукара на эміграцыі. Пад адной вокладкай можна знайсці і скарыназнаўчыя тэксты беларусаў часоў міжваеннай Прагі ці паваеннай Нямеччыны, і змястоўнае ліставанне аднаго з найбольш значных эміграцыйных скарыназнаўцаў В. Тумаша, і аўтарскія аповеды пра рэдкія выданні, выдаўцоў, інстытуцыі, што працягвалі Скарынаву справу на Захадзе цягам XX–XXI стст.

**УДК 94(476)+929 Скарына**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-59-2**

# ЛЮДЗІ КНІГІ

Францыск Скарына для беларускіх эмігрантаў быў знакавай постаццю ў розных аспектах. Асоба «першага эмігранта» ўспрымалася суродзічамі па-за метраполіяй з асаблівай цеплынёй праз усведамленне агульнасці выгнанніцкага лёсу і пэўнай уласнай місійнасці ў служэнні Бацькаўшчыне. Нездарма імя Скарыны стала бадай самым папулярным у назвах эміграцыйных суполак і арганізацый, а яго знакі і партрэты выкарыстоўваліся і публікаваліся найбольш з усіх беларускіх гістарычных дзеячаў (канкурэнцыю па папулярнасці складала, бадай, толькі Еўфрасіння Полацкая).

Сваім лічылі яго не толькі пражскія студэнты-беларусы, што мелі магчымасць рэальна хадзіць яго сцежкамі. Нашчадкамі Скарыны ўспрымалі сябе і беларускія навучэнцы гімназій у лагерах Ды-Пі ў паваеннай Нямеччыне, і студэнты ўніверсітэтаў у Лювене, Рыме, Лондане і інш. У моладзевых выданнях эмігрантаў пасля Другой сусветнай вайны, як і ў міжваенных пражскіх, першадрукар займае сваё больш як пачэснае месца.

Дзякуючы разнастайнасці сваёй дзейнасці Францыск Скарына быў блізкім і выдаўцам, і кнiганошам, і лекарам, і перакладчыкам, і падарожнікам, і чытачам. З піетэтам ставіліся да яго асобы свецкія і духоўныя…

Постаць Францыска Скарыны звяртала на сябе асаблівую ўвагу эміграцыйных навукоўцаў сваім выразным «рэпрэзентацыйным» патэнцыялам. Асоба, што выдала першую кнігу ва Усходняй Еўропе, зрабіла адзін з першых перакладаў Біблii на еўрапейскую мову, не магла не выклікаць павагі (а часам і зайздрасці, і спробаў прысабечыць першадрукара) з боку суседзяў. Скарынам беларусы на Захадзе адкрыта ганарыліся, яго дасягненні не выклікалі ні пытанняў, ні пярэчанняў. Папулярызуючы першадрукара эміграцыйныя навукоўцы і грамадскія дзеячы выконвалі тое ж заданне «паставіць Беларусь на сусветную мапу», засведчыць еўрапейскасць беларускай культуры, нацыянальную адметнасць беларусаў.

Усё гэта было тым больш важна, што ў Савецкай Беларусі постаць Францыска Скарыны, якая не ўпісвалася ў ідэалагічныя каноны, вывучалася мала, выглядала непажаданай. Эміграцыйныя ж скарыназнаўцы, не звязаныя ідэйнымі абмежаваннямі, мелі яшчэ і большыя, чым метрапольныя, магчымасці пошуку і доступу да дакументаў дзейнасці першадрукара. Відаць, менавіта таму значныя адкрыцці скарыназнаўства былі зробленыя найперш беларускімі эмігрантамі. Так, яшчэ ў 1950 г. у «Зале сарака» Падуанскага ўніверсітэта лекар-эмігрант Баляслаў Грабінскі першы ўбачыў партрэт Францыска Скарыны. У 1960 г. скарыназнаўца Янка Садоўскі ў тых самых падуанскіх архівах адшукаў новы дакумент пра экзамены будучага

першадрукара, што сведчыў пра яго сакратарства ў «караля Дацыі». Айцец Аляксандр Надсан у 1972 г. паводле знойдзенага ў Капенгагене асобніка «Малой падарожнай кніжыцы» здолеў удакладніць час выдання першай Скарынавай кнігі ў Вільні, перасунуўшы яго з 1525 на 1522 год. Сітуацыю з паленнем кніг друкара ў Маскве, магчымым канфіскаваннем ва Уроцлаве і іншае даказаў ці не найбольшы беларускі эміграцыйны скарыназнаўца Вітаўт Тумаш. Працы апошняга, як і наогул дасягненні эміграцыйнай скарынаведы, у метраполіі або замоўчваліся, або проста выкарыстоўваліся без спасылак. Адэкватная ацэнка і эміграцыйнай, і метрапольнай скарыніяны яшчэ чакае свайго часу.

Сёлетні год можна лічыць умоўна юбілейным. Праз невядомасць дакладнай даты сёння больш шырока выкарыстоўваецца ў айчыннай літаратуры 1490 год як год нараджэння Францыска Скарыны. Цалкам заканамерна, што на 525-я ўгодкі першадрукара выходзіць прысвечаная яму кніга. Пададзеныя ў ёй тэксты адлюстроўваюць розныя аспекты стаўлення да Францыска Скарыны, яго справы, яго спадчыны на эміграцыі. Скарыназнаўчыя артыкулы розных часоў, ліставанне, аповеды пра кнігі і кніжнікаў даюць уяўленне пра адметную кніжную культуру, створаную паслядоўнікамі першадрукара на Захадзе. Дый сам аўтар кнігі, апантаны даследчык-эмігрант, выступае, хутчэй, як адзін з яе герояў, таксама нашчадак Скарыны і яго справы, што даказвае і гэтае выданне.

Францыск Скарына стаўся для беларусаў пачынальнікам кніжнай культуры, якая да традыцыйных сацыяльных, рэлігійных ды іншых падзелаў грамадства на групы, саслоўі, класы дадала яшчэ адзін — на людзей «кніжных» і «някніжных». Кніга Лявона Юрэвіча менавіта пра першых, пра тых, для каго пісанне, выданне, збіранне, чытанне кніг былі неад’емнай часткай жыцця.

У часе аднаго са спатканняў з айцом Аляксандрам Надсанам прагучала вызначэнне: *«Добры беларус, але не кніжны»*. Для дырэктара лонданскай Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны стаўленне да кнігі было пэўным каштоўнасным маркерам. Яго сяброўска-бацькоўскія адносіны, яго цікавасць, нават блаславенне даследчай эміграцыязнаўчай працы стала важным фактарам нашай супольнай дзейнасці. Таму і аўтар, і рэдактар разам прысвячаюць гэтую кнігу памяці айца Аляксандра Надсана.

*Наталля Гардзіенка*



# *Частка I*
# ПАЧАТКІ СКАРЫНАВЕДЫ НА ЭМІГРАЦЫІ

## АД ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА, ПЁТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА ДЫ ТАМАША ГРЫБА ПАЧАТАК

Зь бязьмежнай прорвы тхленнага зьмярканьня
падняў радзіму дух яго глыбінны…
Гартай балонкі мудрага выданьня:
радкоў чырвоных краскі і галіны,
паўмесяц, сонца — як вянок адзіны,
як непагаснасьць вечнага сьвітаньня!

*Алесь Салавей*

Свядомы свайго шляху беларус у эміграцыю — Прагу або Коўна 1920-х гг. ці паваенныя Лондан, Нью-Ёрк, Мельбурн — нёс нацыянальныя палітычныя сімвалы: Пагоню і сцяг.

Былі ў эмігрантаў і культурныя сімвалы — тры імёны: Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Кастусь Каліноўскі. Еўфрасіння — сімвал адраджэння свае Царквы; яе імем называліся цэрквы, парафіі, сястрыцтвы. Кастусь Каліноўскі — сімвал Беларусі ў змаганні, асабліва важны для выхавання моладзі; з ягоным імем быў павязаны моладзевы і скаўцкі рухі. Імя ж Скарыны як сімвал шматстагоддзевых традыцый культуры і навукі ды іх гістарычнай непарыўнасці і пераемнасці асацыявалася з інтэлектуальнаю дзялянкаю: Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны ў Празе; часопіс «Іскры Скарыны»; школка імя Ф. Скарыны ў Рызе; «Беларускае Общество ім. Георгія Скарыны» ў Берыса (Аргенціна); Крывіцкае (Беларускае) навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны, заснаванае Янкам Станкевічам у Нью-Ёрку; Друкарска-выдавецкая суполка імя Францішка Скарыны, закладзеная тамсама ў 1962 г.; Скарынаўская бібліятэка ў Лондане; Англа-беларускае таварыства з скарынавымі сонцам і месяцам; Беларускі інстытут навукі і мастацтва, на эмблеме якога партрэт Скарыны…

Імёны-сімвалы мелі для эмігранта падвойны сэнс: да гістарычнага чыну, здзейсненага гэтымі постацямі, дадавалася іх ганьбаванне ў БССР. Таму абранне ў назве арганізацыі ці перыёдыка аднаго з гэтых імёнаў увасабляла сабой супраціў антыбеларускай палітыцы на радзіме, нішчэнню беларушчыны.

Калі з Еўфрасінняю і Каліноўскім больш-менш усё зразумела (адна — манашка, рэлігійная асоба, а другі — бунтар), дык імя Скарыны ў гэтым шэрагу можа выклікаць здзіўленне ў беларуса XXI стагоддзя. А таму зробім невялічкі экскурс у 1930-я гг. — час змагання з нацдэмаўшчынаю.

На самой з'яве, як і на тэрміне *«нацдэм»*, запыняцца не будзем (адашлем чытача да артыкулаў Тамаша Грыба «Што такое нацыянал-дэмакратызм?»[1] і Антона Адамовіча «Палітыка правакацыі й разгону Крывіі (Беларусі)»[2]), паглядзім толькі, як у гэтым кантэксце трактавалася імя Францыска Скарыны.

У кнізе «"Навука" на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі», выдадзенай Інстытутам філасофіі Беларускай акадэміі навук пад рэдакцыяй дырэктара гэтага Інстытута акадэміка Сямёна Вальфсона, у раздзеле «Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму» чытаем: *«Адным зь вельмі пашыраных мэтодаў дзейнасьці нацдэмаў зьяўляецца самая бессаромная фальсыфікацыя гістарычнага мінулага Беларусі. Адным з важнейшых актаў гэтай фальсыфікацыі зьяўляецца ператварэньне ў продка беларускай пролетарскай культуры Францішка Скарыны. 400-годзьдзе перакладу Скарынай біблії на беларускую мову дае нацдэмам повад да шумнай нацыяналістычнай дэмонстрацыі, якая пракацілася па ўсёй БССР. Навуковыя ўстановы Беларусі аддаюць сваю энэргію высьвятленьню пытаньне аб тым, ці быў Скарына "католік хрышчоным паводле лацінскага абраду", ці ён "перакінуўся ў праваслаўе". Шаноўныя вучоныя з запалам абмяркоўвалі "Шчакаціхінскую гіпотэзу", якая ўстанаўляе на аснове дасьледваньня скарынінскага гэрбу і астролёгічных прынцыпаў XVI веку дакладны дзень нараджэньня Скарыны. Імя Скарыны прысвойваецца культурным установам БССР. Навокал Скарыны ўтвараецца орэол роданачальніка беларускай культуры, якая ставіцца пад знак "скарынінскай традыцыі"»*[3].

Гісторыкам закідвалася, што яны *«акапваліся ў Ягелонскай і Скарынінскай тэматыцы»*[4]: *«Асноўным ідэолёгічным ядром беларускага нацдэмократызму зьяўляецца тэорыя нацыянальнай самабытнасьці. Беларускія нацдэмы мобілізуюць усе магчымыя аргумэнты — ад гісторыі, ад філёлёгіі, ад антрополёгіі, ад псыхолёгіі, ад географіі, ад экономікі і інш. Для азначэньня сваёй самабытнай тэорыі. Яны ўсёк даводзяць, што Беларусь гэта нейкі "асаблівы сьвет", што яна мае "іншую гісторыю". Вось тыповыя прыклады таго, як нацдэмы займаліся падобнымі довадамі:*

*"Глаўныя нацыянальныя асобнасьці беларускага народу — цяга да культурнасьці, мяккасьць і далікатнасьць душы. Мы ведаем, што ў той час, калі ў Маскве ішчэ ніякага друкаванага слова ні было, ужо ў Беларускім*

---

[1] Гл.: Грыб, Тамаш. Два артыкулы // Запісы БІНіМ. № 35. Нью-Ёрк — Менск, 2012. С. 104–180.

[2] Гл.: Недасек, Н. [Адамовіч, Антон]. Палітыка правакацыі й разгону Крывіі (Беларусі) // Запісы БІНіМ. № 35. Нью-Ёрк — Менск, 2012. С. 181–193.

[3] Вальфсон, С. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму // «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі. Т. 1. Ч. 1. Менск, 1931. С. 62.

[4] Вальфсон, С. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму. С. 24.

*Полацку друкаваліся кнігі. Біблія Францышка Скарыны друкавалася ў тых часох, калі ў Вялікарасії аб гэтым яшчэ нават і ні думалі. У часе Літоўскага Князьства перамагала беларуская культура над моцным узброеньнем літоўскіх князёў і ўсё кіраўніцтва князьства вялося па беларуску" ("Беларускі шлях", 1918. № 39).*

*Але з тае прычыны, што аргумэнты ад «барадатых продкаў» не заўсёды аказваюцца пераканальнымі, у распараджэньні нацдэма аказваюцца і аргумэнты аб сучаснасьці»*[5].

Дасталося і мовазнаўцам: *«Нацдэмократы імкнуліся "адрадзіць" беларускую мову пад знакам рэстаўрацыі сівой старыны. Кіруючым лёзунгам лінгвістычнага "адраджанізму" нацдэмаў было — тварыць мову, ігноруючы беларускую моўную сучаснасьць і орыентуючыся на мову XVI стагодзьдзя. У гэтай орыентацыі сваёй яны і ўтварылі культ Францішка Скарыны, пэратворанага побач з Кастусём Каліноўскім у гістарычнага продка Беларускай Савецкай Рэспублікі, у асновапаложніка сучаснай беларускай культуры, у найвышэйшы аўторытэт у пытаньнях беларускай словатворчасьці. Дзеячы "Навукова-тэрмінолёгічнай камісіі Інбелкульту" і "Інстытуту мовы" БАН мобілізавалі сябе на варту «скарынінскай традыцыі"»*[6].

*«Было-б недабачлівасьцю за ўсім гэтым сярэднявяковым рызьзём ня бачыць зусім пэўнай політычнай тэндэнцыі — утварыць скарынінскі культ, паставіць процэс беларускай словатворчасьці пад знак "скарынінскай традыцыі"». Да гэтага былі накіраваны ўсё намаганьні адзінага нацыянальнага фронту, і таму па адным шаблёну пабудаваліся юбілейныя выступленьні ў гонар Скарыны — Станкевіча ў Вільні, Ластоўскага ў Коўне і іх таварышоў па зброі ў Менску»*[7].

У іншай кнізе, «Літаратура — зброя клясавай барацьбы» Канакоціна[8], як сведчыць яе назва, пляжылася мастацкая творчасьць: *«Між іншым, яшчэ й да гэтага часу дзе-ні-дзе імкнуцца давесьці, што пролетарская літаратура на Беларусі вырасла не ад Кастрычніка, а ад пэрыоду "Нашай Нівы" і зыходзіць сваімі карэньнямі да Скарыны і Сямёна Тураўскага*[9]*. Гэта ня што іншае, як нацыянал-дэмократычная ідэалізацыя фэўдальнага і буржуазнага мінулага Беларусі, гэта шкодніцкая тэорыя клясаваг ворага. <…> І так, не ад Скарыны, не ад сьпевакоў фэўдалізму — Дуніных-Марцынкевічаў і не ад "Нашай Нівы" расьце беларуская пролетарская літаратура, а толькі ад вялікага Кастрычніка»*[10].

Не дзіва, што на фоне падобнага змагання імя Скарыны пачало рабіцца сімвалам куды большым за адно толькі знак культуры. Гэта і адзначыў у

[5] Вальфсон, С. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму. С. 17.
[6] Вальфсон, С. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму. С. 107.
[7] Вальфсон, С. Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму. С. 109.
[8] Канакоцін, О. Літаратура — зброя класавай барацьбы. Менск, 1931. — 126 с.
[9] Так у кнізе. Напэўна, кантамінацыя Кірылы Тураўскага і Сімяона Полацкага.
[10] Канакоцін, О. Літаратура — зброя класавай барацьбы. С. 67, 69.

свой час Адам Бабарэка: *«Мы і Скарыну цэнім не за слова, бо слова для нас ужо страціла сваю значнасьць, а менавіта за тое, што ён вопытам свайго жыцьця перасіліў цемру, што ён адкрыў людзям наяўнасьць у іх тэй уласьцівасьці, якую мы зараз называем зацікаўленасьцю асобы грамадзкімі паспалітымі інтарэсамі, уласьцівасьць, якую мы ўсьведамляем як канечнасьць сьвядомасьці, што асабовае (радасьць) магчыма толькі праз грамадзкае, індывідуальнае праз агульнае»*[11].

Скарына ў разуменні дзеячаў эміграцыі стаўся першым свядомым сваёй нацыянальнасці, пісьменнікам-патрыётам. Як пісаў у Празе Ігнат Дварчанін: *«Гэтая рыса мастацкай творчасьці (патрыятызм) да Скарыны не сустракалася таксама. Ва ўсякім разе — у сьвецкай літаратуры на Беларусі. Красамоўным прыкладам для Скарыны магло-б быць "Слова пра паход Ігаравы" з даўнейшых Кіеўскіх часоў, але ў нас няма ніякіх зьвестак пра тое, што ён мог яго ведаць. Акрамя гэтага, застаецца толькі афіцыйная літаратура й прыклад Захаду. Вось чаму і тут постаць Скарыны зьяўляецца выдатнай, паколькі распачынае сабой шэраг пісьменьнікаў патрыятычнага напрамку аж да аўтара знакамітай "Прамовы Мялешкі"»*[12].

Шмат пазней, калі імя палачаніна было вернутае ў культурны кантэкст на бацькаўшчыне, даследчыкі ў БССР вымушаныя былі не толькі *«даганяць»* эміграцыйную Скарыніяну, але і змагацца з ёю: *«Жизненный путь Ф. Скорины был связан с многими европейскими странами, а в его творчестве явственно отразились веяния европейского Возрождения. Используя факты "европейской" биографии первопечатника, буржуазно-националистическая историография пытается превратить его в идеолога буржуазного национализма»*[13].

*«Нашы ідэалагічныя праціўнікі за мяжой ствараюць аблудную скарыніяну, прабелы ў праўдзівых ведах запаўняюцца там варожымі і абразлівымі беларускаму народу прыдумкамі. Ф. Скарына ўціскаецца ў нацыяналістычны міф і падаецца гэткім узгадаваным на Захадзе місіянерам заходняй цывілізацыі, які на дзікім славянскім Усходзе цярпеў адны толькі ганенні ад кансерватыўнай "еўразійскай Масквы"»*[14].

Для саміх жа эмігрантаў імя Скарыны заставалася тым культурным сімвалам, які мог бы з’яднаць іх па-над партыямі і групоўкамі, што не здолелі зрабіць сімвалы палітычныя: 25 Сакавіка, БНР. Эміграцыя для выканання сваёй культурніцкай місіі — найперш *захавання* — у асобе Скарыны шукала той падмурак, на якім можна было б пабудаваць сваю дзейнасць і разам з

---

[11] Бабарэка, Адам. Збор твораў: у 2 т. Т. I. Вільня — Беласток, 2011. С. 569.

[12] Дварчанін, Ігнат. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве. Мінск, 1991. С. 85–86.

[13] Голенченко, Г. Критика буржуазно-националистских построений в изучении жизни и деятельности Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. Москва, 1979. С. 197.

[14] Калеснік, Уладзімір. Тварэнне легенды. Мінск, 1987. С. 6.

тым аб'яднаць усіх беларусаў незалежна ад таго, з БЦР яны ці БНР, Усходняй Беларусі або Заходняй, *крывічы* ці *зарубежнікі*, праваслаўныя або рымакаталікі, аўтакефалісты ці з якой іншай юрысдыкцыі.

Цягам XX стагоддзя думка беларуса на выгнанні зноў і зноў вярталася да постаці дзеяча Адраджэння, асэнсоўваліся яго імя і справа. І датычыла гэта не толькі *акадэмічных* колаў: Скарынавы гены выявіліся трывушчымі.

Вядома, у артыкулах паўтараюцца звесткі, часам з спасылкамі на папярэднікаў — аўтараў-эмігрантаў, і часта факты або іхная інтэрпрэтацыя не адпавядае нашым сённяшнім ведам пра Скарыну ці тую эпоху, але галоўнае ў гэтых артыкулах для нас сёння — па-першае, як развілася эміграцыйнае скарыназнаўства, а па-другое — і тое мо больш істотна, — *што* менавіта ўкладалі аўтары ў імя Скарыны, *чым* гэтае імя было для іх.

Ігнат Абдзіраловіч у эсэ «Адвечным шляхам» заклікаў: *«Гэта — праўда, што мы мала маем, гэта — праўда, што мы шукалі па чужых дарогах і, не знайшоўшы, або здрадзілі бацькаўшчыну і шлі да чужынцаў, або вагаліся паміж варожымі кірункамі. Але зараз прыходзяць часы, калі багач зрабіўся бедаком і пойдзе на вялікі шлях шукаць з намі, гаротнымі, новага багацьця, новага чалавечага ідэалу. А з глыбіні вякоў пазірае на нас Скарына, такі ж вагаўшыйся, шукаючы, і, жадаючы нас, кажа: Над зімнымі хвалямі Дзьвіны я быў візантыйцам — Юрым, а ў Кракаве, куды мяне пацягнула за эўрапэйскаю ведай, — лацінікам Францішкам. А дапраўды, я ня быў ні Юрым, ні Францішкам, а быў вольным, незалежным духам, якога вы шукаеце, духам агульначалавечым толькі ў беларускай скуры. Шукайце ж!»*[15].

І яны шукалі[16].

*Вацлаў Ластоўскі*[17]

## Доктар Франціш Скарына (1525–1925)[18]

Безумоўна, найвялікшай постацьцю нашай гісторыі зьяўляецца Доктар Франціш (Франціск) Скарына; першы чалавек з вучоным

---

15 Абдзіраловіч, Ігнат. Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Вільня, 1921 — Львоў, 2007. С. 4.

16 Усе змешчаныя ніжэй у кнізе тэксты і цытаты падаюцца з захаваннем арыгінальнага правапісу.

17 **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), грамадскі дзеяч, празаік, паэт, этнограф, мовазнаўца, мемуарыст. У 1923–1927 гг. у Коўне выдаваў часопіс «Крывіч».

18 Друкуецца паводле: Крывіч. № 2 (8). Красавік — сьнежань, 1924. С. 3–13. Гэты нумар пачынаецца рэдакцыйным зваротам *«Юбілейны год»: «У 1925 годзе прыпадае 400-летняя гадаўшчына крыўскага (беларускага) друку. Гэтаму вялікаму культурнаму сьвяту будзе пасьвячаны цэлы 1925 год. На нашых культурных дзеячах ляжыць абавязак радам лекцый і юбілейных сабраньняў*

тытулам доктара на ўсходзе, гуманіста, перакладчык Бібліі на народную мову і друкар.

Родам ён быў з слаўнага места Полацка, са старой калыскі крыўска-беларускай культуры, дзе яшчэ ў XII сталецьці пісаліся і перапісываліся кнігі, а пазьней існавалі «лацінска-грэцка-рускія» школы, праз якія шырылася вышэйшая асьвета.

Скарына называе сябе ў сваіх кнігах *«русіном»*, *«рускім»*: *«нарожаный в руском языку»* (у прадмове да кніг Даніэля), сваю дзейнасьць пасьвячае *«своёй братії Русі»*, сваю Біблію называе: *«Библія руска выложена доктором Франціском Скориною... богу ко чти и людем посполитым к доброму научению»*. Гэта паказуе, што Скарына прыналежаў да ўсходняга, праваслаўнага абраду, які ў нас называўся ад найдаўнейшых часоў «*русской верой*», і што ён, абычаем таго часу, не аддзяляў народнасьці ад веравызнаньня. Для ўсіх яго сучасьнікаў *«руская вера»* была адначасна *«рускім языком»* і процістаўлялася шыранай у тыя часы Ягельлёнамі *«нямецкай»*, або *«ляцкай»* веры і штораз больш наплываўшаму ў край *«ляцкаму языку»*.

Францішк Скарына становіцца на старану свайго народу і дае ў яго рукі *«працаю і стараньнем»* сваім Біблію на мове таго народу, з якога сам выйшаў: *«иже мя милостивы Бог съ таго языка на свет пустил»* (у прадмове да Псалтыра).

На жаль, гэтага эпохіяльнага праваслаўнага мужа не спрамаглося ацаніць консэрватыўнае «рускае» духавенства і наагул яго сучасьнікі. Духавенства сьлепа трымалася «сьвятой» царкоўнай славяншчыны і з падозрывасьцю глядзела на вялікага значэньня нацыянальную дзейнасьць Скарыны, ня толькі ў XVI ст., але нават у пазьнейшыя сталецьці аж да нашых часаў. Бо й дагэтуль праваслаўныя вучоныя багасловы лічаць пераклад Бібліі Скарыны не кананічным, адзіна таму, што між іншымі тэкстамі, якімі карыстаўся Скарына пры перакладзе, быў тэкст вульгаты, прызнанай Рымам.

З дайшоўшых да нашых часаў актаў можна бачыць, што сям'я Скарынаў прыналежала да заможных Полацкіх мяшчан — купцоў. Радзіў-

*урочыста адсьвяткаваць гэты год разам з усім грамадзянствам па гарадох, мястэчках і вёсках. Акром таго, у старой Вільні, на памяць гэтай 400-летняй гадаўшчыны, нашае грамадзянства павінна спрамагчыся купіць сабе дом імяні Скарыны, у якім былі-б памешчаны музэй і Навуковае Таварыства. Мы зьвяртаемся да ўсяго крыўскага (беларускага) грамадзянства з клічам паказаць у гэты юбілейны год, што мы жывы й хочам жыць і ісьці сьледам сваіх вялікіх мужоў да звальненьняся з-пад усякіх чужых, культурных і палітычных уплываў, хочам будаваць свой уласны храм веды й красы, і на гэту мэту ўмеем быць ахвярнымі. Хай кожды з нас зложыць на будынак імяні Скарыны, што можа, і з малых даткаў стане векапомная справа. Мы зьвяртаемся да прыяцеляў нашага народу з просьбай такжа прыйсьці нам з дапамогай у гэты юбілейны год, каб змаглі мы стварыць першае вогнішча нашай культуры і навукі»*.

ся Скарына каля 1485 году і быў хрышчоны імем Юр'я (Георгій). Пачатковую асьвету атрымаў Скарына дома, пад бацькаўскім вокам і паводле старасьвецкіх традыцый свайго народу. Вучыўся, мабыць, на Псалтыру, які паводле яго слоў: *«детем малым початок всякое доброе наукы»*.

Кончыўшы школы ў сваім родным крывічанскім Полацку, здольны хлапец рваўся да вышэйшых навук. Бацька яго, Лукаш, паслаў яго ў Кракаўскі унівэрсытэт. Тагочасны Кракаў меў значную крыўскую калёнію, бо пасьля жаніцьбы Ягайлы з каралеўнай польскай Ядвігай найчасьцей Вялікі Князь Літоўска-Рускі (Беларускі) быў адначасна і каралём Польскім, а знача, мусіў пражываць і ў Кракаве, а пражываючы там, меў сталую канцэлярыю для спраў В. Кн. Літоўска-Беларускага з выдатнейшых літоўскіх і крыўска-беларускіх дзеячоў. У самым Кракаве была ў тыя часы «руская» царква.

У 1504 годзе, заплаціўшы 2 грошы ўступнага, запісаўся Скарына студэнтам на філёзофскі факультэт. У унівэрсытэцкія кнігі запісалі Юр'я Лукашавіча Скарыну на лацінскі лад: *Franciscas Luce de Polecko*, прыданым яму імем Францішак, а ня Юры. Сярод тагачасных кракаўскіх прафэсараў быў выдатны вучоны Ян Глоговчык[19] (1507), які раней (1490–1492) быў вучыцелям праваслаўнага князя Івана Гашталда ў Вільні. Аб гэтым Глоговчыку гісторык Сымон Старапольскі[20] перадае, што ён перакладаў Біблію на «рускую» мову, гэта знача, — на мову, якой гаварылі і пісалі праваслаўныя, а знача, — крывічы-беларусы ў В. Кн. Літоўска-Рускім (Беларускім). Мабыць, гэты Глоговчык ушчапіў у Скарыну любоў да кнігі і нахіліў яго да працы над перакладам Бібліі на агульна зразумелую мову

У 1506 гаду Скарына атрымаў на філёзофскім факультэце Кракаўскага унівэрсытэту вучоную ступеню бакаляра. Але, акром філёзофіі, Скарыну цікавілі багаслоўе і мэдыцына. Мэдычнага факультэту ў Кракаве ня было, і Скарына павінен быў шукаць гэтай веды ў другіх унівэрсытэтах на заходзе Эўропы. Шэсьць гадоў ён недзе вучыўся, але дзе, дагэтуль невядома. Ёсьць пашлякі, што быў на Пражскім унівэрсытэце, што бываў у нямецкіх гарадох. За гэтыя шэсьць гадоў ён здабывае сабе яшчэ адну вучоную ступеню доктара.

У лістападзе 1512 году прыбыў Скарына ў Італію, у горад Падую, які славіўся на ўвесь сьвет у тыя часы сваім мэдычным факультэтам. Прыбыўшы ў Падую, Скарына стануў перад віцэ-прыёрам доктарам Тадэушам Мусакі, які ацаніў здольнасьці Скарыны і заапекаваўся ім.

---

[19] **Ян Глагоўчык** (польск. *Jan z Głogowa, Głogowczyk,* 1445–1507), польскі астраном, матэматык і філосаф.

[20] Верагодна, маецца на ўвазе вялікалітоўскі гісторык і пісьменнік **Шыман Старавольскі** (1588–1656) і яго праца *«Scriptorum Polonicorum Hecatontas, seu centum illustrium Poloniae scriptorum elogia et vitae»* (1625).

У гэтым часе Скарына быў у вялікім недастатку, бо бацька яго Лукаш памер, і малады вучоны ня меў, чым заплаціць нават за доктарскі экзамен. Памог яму ў гэтым трудным палажэньні доктар Мусакі[21].

Таго ж 1512 году 5 лістапада, на 5-ю гадзіну па палудні, склікаў віцэ-прыор др. Мусакі паседжаньне мэдычнага факультэту ў касьцеле Сьв. Урбана. На паседжаньні Мусакі спавесьціў, што з дужа далёкіх краёў прыбыў у Падую нязвычайна вучоны, але бедны маладзён, які ўжо мае ступеню доктара навук (*eximus atrium doctor Franciscus gn. Domini Lucae Scorina de Polocko Ruthenus*) і просіць пазволіть яму экзамінавацца безплатна (*de gratia speciali ad amore Dei*). Пасьля прамовы прыора на паседжаньні быў пакліканы сам Скарына, і ён сам асабіста горача прасіў прафэсараў пазволіць яму бязплатна (*amore Dei*) трымаць экзамены на доктара мэдыцыны. Паседжаньне вырашыла справу ў карысьць Скарыны.

У суботу, 6 лістапада, у тым жа касьцелі пачаліся ўступныя экзамены Скарыны перад 14 прафэсарамі мэдычнага факультэту. Гэтыя экзамены вытрымаў Скарына сьветна і аднагалосна быў дапушчан да доктарскіх экзаменаў. 9-га лістапада, у аўторак, сабралася ўся мэдычная калегія Падуанскага унівэрсытэту ў біскупскі палац, у ліку 24 асоб, і пад прэдседацельствам вікарнага біскупа П. Забарэльлі пачаліся выспыты Скарыны. Усе прафэсары задавалі яму пытаньні, усім Скарына адпавядаў надзвычай разумна і сьветла бараніў свае думкі. Урэшце Скарына аднагалосна быў прызнаны годным ступені доктара мэдыцыны і гэту годнасьць атрымаў з рук прафэсара Бартламея Барызоні. З гэтага часу Скарына да свайго подпісу зазвычай дадае: *«в науках вызволеныхъ и лекарствахъ докторъ»*, або: *«в лекарскыхъ наукахъ докторъ»*.

Дабыўшы вышэйшыя навуковыя ступені, Ф. Скарына вярнуўся на бацькаўшчыну; тут ён пазнаёміўся з тагочаснымі краёвымі грамадзкімі дзеячамі і братчыкамі, пабываў у Вільні, тагочаснай сталіцы В. Кн. Літоўска-Беларускага, пераняўся мясцовымі злыбедамі і пастанавіў пасьвяціць сябе прасьветнай працы, а галоўна — перакладу біблейскіх кніг на тагочасную крыўска-беларускую мову. У той час у нас вельмі адчуваўся недахват поўнай Бібліі, так патрэбнай для царкоўнага і дамовага чытаньня. Тое, што было да яго перакладзена, не станавіла поўнасьці і траплялася ў злых паперакручаных сьпісках і то найчасьцей у чужой, малазразумелай баўгарскай, царкоўнай мове. І Скарына задумаў перакласьці ўсю Біблію і выдрукаваць яе. Гэта на тыя часы быў вельмі сьмелы крок, бо славянскія народы толькі што яшчэ знаёмяцца з друкарскай справай.

Дзеля таго, што ў родным яго Полацку ня было спрыяйных варункаў, а ў Крававе, дзе ён атрымаў вышэйшую асьвету, друкаваньне сла-

[21] Маецца на ўвазе віцэ-прыёр **Тадэй Мусаці**, які згадваецца ў дакументах пра Скарынавы экзамены ў Падуі.

вянскіх кніг, распачатае Фіолям[22] у 1491 гаду, было спынена дзякуючы цемнаце і фанатызму тамтэйшага духавенства, то Скарына, сабраўшы патрэбныя старыя рукапісы, паехаў у Прагу (*«старое место Пражское»*). Прага маніла да сябе Скарыну таму, што там, у тыя часы, была поўная рэлігійная свабода, і ён спадзяваўся, што там яго ня сустрэне доля Фіоля[23].

Асеўшы ў Празе, Скарына сарганізаваў друкарню і ўзасобіў яе літарамі, зробленымі паводле рысункаў тых старых рукапісаў, якія вывез з роднага Полацка. Скарынаўскія літары адтвараюць лепшыя пробкі стара-крыўска-полацка-смаленска-тураўскага — кірылаўскага пісьма, выстылізаванага ў цэнтрах крыўскай асьветы. Прыгатаваўшы ўсё патрэбнае да друкарні, Скарына ў 1516–1517 гг. прыступіў да друкаваньня сваіх кніг, пад агульным агалоўкам: *«Библія руска выложена доктором Франціском Скорыною из славного града Полоцька богу ко чти и людем посполитым к доброму научению»*. У гэтай вялікай справе дапамагалі Скарыне матар'яльна Полацкіе і Віленскіе мяшчане і грамадзкія дзеячы, як віленскія бурмістры Багдан Онькові[24] і Якуб Бабіч[25], а такжа распашыраныя ў тыя часы ў нас брацтвы.

Кнігі друкаваў Скарына некаторыя на царкоўна-славянскай мове (Псалтыр, Апостал), а іншыя на тагочаснай нашай літэратурнай мове. Псалтыр і Апостал былі вельмі пашыраны, дык Скарына агранічыўся толькі рэдакцыйнай папраўкай тэксту і дадаткам тлумачэньняў у крыўска-беларускай мове, а такжа памешчаньнем на белягах кнігі слоў, незразумелых для чытачоў. Другія кнігі Бібліі, менш пашыраныя і вядомыя толькі ў адрыўках, ён дапоўніў і прарэдагаваў, а некаторыя кнігі пераклаў нанова, карыстаючыся старымі рукапісамі, лацінскім тэкстам і тэкстам чэскай Бібліі, якая была надрукавана ў 1506 годзе. Прыступіўшы да працы з 1517 году, Скарына выпушчае са сваёй друкарні кнігу за кнігай: у 1517 годзе — Псалтыр, Іова, Притчи, Сираха; у 1518 годзе: Экклезіаст, Песнь-Песней, Премудрость Соломона, кнігі Царств, Ісуса Навіна; у 1519 годзе: Юдит, Судей, Пятикнижие Моисея, Руфь, Эсфирь, Плачь Іеремии, Даниила.

---

[22] Маецца на ўвазе **Швайпольт Фіёль** (ням. *Schweipold Fiol,* 1460?–1525/1526), славянскі першадрукар, які ў 1491 г. у Кракаве выдаў першыя кнігі набажэнстваў у царкоўнаславянскай мове кірылічным шрыфтам.

[23] Вядома, што Швайпольта Фіёля колькі разоў арыштоўвалі па падазрэнні ў ерасі і ён быў вымушаны з'ехаць з Кракава ды пасяліцца ў Левачы на Славаччыне. Праўда, у апошнія гады жыцця ён вярнуўся ў Кракаў.

[24] **Багдан Онькаў** — віленскі мешчанін, адзін са спонсараў друкарскай дзейнасці Францыска Скарыны.

[25] **Якуб Бабіч** (? — каля 1526), старшыня гарадскога магістрата Вільні, адзін са спонсараў друкарскай дзейнасці Францыска Скарыны.

Скарына многа старэньня клаў на тое, каб кнігі яго былі як найлепшымі ня толькі тэкстам, але і са зьнешняга выгляду. І, запраўды, паводле друкарскай тэхнікі кніга Скарыны — гэта найлепшае, што было друкавана ў тыя часы. Яго друкі сталіся прыкладам для друкароў усей Заходнай Эўропы. Найлепшымі ня толькі тэкстам, але і са зьнешняга выгляду. І, запраўды, паводле друкарскай тэхнікі кніга Скарыны — гэта найлепшае, што было друкавана ў тыя часы. Яго друкі сталіся прыкладам для друкароў усей Заходнай Эўропы. Найлепшыя тагочасныя Венэціанскія і Нюрэнбэрскія друкі не стаялі вышэй, а ў многім значна ніжэй скарынаўскіх друкаў. Скарына першы ўвёў у друкарстве рысункі ў тэксьце, разьбіўку літар і слоў шпэціямі і, грамаднага значэньня для друкарства рэч, увёў нумэрацыю страніц, чаго да яго друкары не рабілі, а нумэравалі толькі аркушы ці сшыткі.

Слава аб выданьнях Скарыны разыйшлася па ўсім славянскім сьвеце, як роўна і яго кніжкі разыйшліся па найдалейшыя нават закутках славяншчыны.

Зь невядомых для нас прычын Скарына пасьля 1519 году спыняе друк сваіх кніг у Празе і друкарню перавозіць у Вільню. Тут наладжвае сваю друкарню Скарына ў доме віленскага бурмістра Якуба Бабіча. Дом гэты, паводле мясцовай традыцыі, знаходзіўся недалёка ад ратушы, каля «Інбараў», але ў каторым з існуючых тут дагэтуль старасьвецкіх дамоў памяшчалася друкарня Скарыны, напэўна невядома. У Вільні, каля 1529 году, Скарына ажаніўся з Магарэтай (Маргаритай) удавой на Юр’ю Адзьверніку, які быў віленскім дамаўласьнікам. Жонка прынясла ў пасадзе Скарыне ўласны дом у Вільні, аб якім таксама невядома, дзе ён быў.

У Вільні ён, каля 1525 году, выдае «Апостол» і каля таго ж часу «Малую падарожную книжицу», якая зьмяшчае ў сабе: Псалтыр, Часословецъ, Акафисты, Каноны, Шестодневец, Святцы краткия и Пасхалию. Але скарынаўская друкарня ў Вільні не працуе так энэргічна, як у Празе: пасьля выпуску гэтых двох кніжак, невядома яшчэ дагэтуль, ці было што тут у яго друкарні надрукавана. Магчыма, што па надрукаваньні Бібліі Скарына заняўся падгатоўкай новых рукапісаў да сваей друкарні, і гэтым тлумачыцца перарыў у яго працы. Але вось у 1530 годзе вялікі пажар зьнішчыў дзьве трэція часьці Вільні, і ў гэтым пажары была зьнішчана скарынаўская друкарня, а магчыма, — разам надрукаваныя і не распрададзеныя яшчэ кнігі і прыгатаваныя да друку рукапісы.

Год сьмерці Скарыны невядомы, але яшчэ ў 1535 годзе ён жыў. Многа розных няпрыемнасьцяў дазнаў Скарына ў Вільні. Скарына меў брата Івана, які заблутаў Францішка ў свае матар’яльныя справы. Пачаліся суды, і яны давялі да таго, што маёмасьць Скарыны была сканфіскавана. Даканаў урэшце пажар, так што Скарына закончыў сваё жыцьцё ў вялікім недастатку.

У асобе Скарыны мы бачым культурнейшага чалавека сваіх часаў, які нічым ня ўступаў тагочасным заходна-эўрапейскім дзеячам ні розумам, ні энэргіяй, ні сваімі шырокімі помысламі. Дабыўшы шырокую асьвету ў эўрапейскіх унівэрсытэтах, ён пасьвячае сябе выключна служэньню свайму народу. Гэту мэту свайго жыцьця ён усюды зазначае ў чысьленных прадмовах да сваіх выданьняў. Прыкладам: *«всехсотворителю богу в тройци единому… ко чти и всемъ небесным силам, святым и святицам божим ко славе и людем посполитым рускаго языка к добраму наученію»*.

Выдае ён кнігі Сьв. Пісьма таму, што яны, згодна яго пераконаньню, абапертаму на тагочасным схолястычным сьветаглядзе, месьцяць у сабе ўсё, што патрэбна да збаўленьня душы чалавека: *«понеже не только докторове а люди вченые в нихъ разумеюць, но всякии человек простый и посполитый чтути их или слухаючи может разумеци что есть потребно къ душному збавению его»*. У Бібліі месьціцца і ўся мудрасьць: *«В сей книзе всей прирожоное мудрости зачало и конец, Бог вседержитель познаванъ бываетъ… В сей книзе вси законы и права, ими же люди на земли справоватися имеютъ пописаны суть… В сеи книзе вси лекарства душевные и телесные зуполне знайдете… Ту научение седми наук вызволеныхъ достаточное. Хощеши ли умети граматику или по руски говорачи грамоту еже добре чести и мовити учить, знадеши в зуполнои Библии псалтыру, чти ее… Ащели же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делехъ чти книги Судей, или книги Макавеевъ. Более и справедливеев нихъ знайдеши нежели во Александрии или во Трои»*. Акром гэтага ў яго прадмовах праглядае гарачае патрыотычнае пачуцьцё. Выдатным прыкладам гэтага пачуцьця зьяўляецца сказ у прадмове да кнігі Юдыт: *«Понеже от прирожения звери ходящие въ пустыни знаютъ ямы своя, птицы летающие по воздуху ведаюць гнёзды своя. Рыбы плывающие по морю и реках чуюць виры своя, пчёлы и тым подобная боронять ульев своих, також и люди игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имеютъ»*.

Сьв. Пісаньне ён друкаваў, па магчымасьці, на зразумелай для народу мове. Ён не адважаецца яшчэ перайсьці на чыста народную гутарку, у мове яго яшчэ многа баўгарызмаў у слоўніцтве і ў формах, але ўсё ж такі ў аснову паложана народная крыўская (беларуская) мова з тымі асобнасьцямі, якія характэрызуюць старакрыўскую літэратурную мову. Часьцю гэта быў консэрватызм самога Скарыны, а часьцю прымушалі яго да гэтага аб'ектыўныя варункі: народная мова тады яшчэ ня была вывучана. Скарына і так зрабіў больш, чым можна было: ён унёс у сваю Біблію многа чыста народных слоў. Падходзячы, на сколькі пазваляў тагочасны стан моваведаньня, да народнай мовы, ён і так перарос сваё грамадзянства на цэлае сталецьце.

Біблія Скарыны была другой друкаванай Бібліяй (пасьля чэскай) у славянскіх мовах і на дзесяткі гадоў папярэдзіла пераклад Бібліі на нямецкую і французскую мову.

Выданьні Скарыны вызначаюцца яшчэ мастацкай старанай. Новыя аддзелы яго кніг і агалоўкі аздоблены рысункамі і асобнымі прыгожымі літарамі ў рамках ды застаўкамі. Кнігі маюць дрэварыты, якія, акром прыданьня аздобнасьці кнігам, кіруюцца яшчэ мэтаю, паводле слоў самога Скарыны: *«абы люди посполитыя, чтути могли лепей разумети»*. Аб рысунках Скарыны расійскі бібліограф Стасаў[26] кажа: *«у Апостале загалоўныя літары, герб Скарыны і манаграма з літарай Т выкананы так дасканальна, з гэткім дзіўным смакам, што перавышаюць усё вырытае ў падобным выглядзе ў Бібліі»*. А гэты Апостал друкаваўся ўжо ў Вільні. Пад крыптонімам Т. скрываецца адзін са спатужнікаў Скарыны, хтось колечы з крыўскіх тагочасных мастакоў.

Асабліва цэнны і цікавы скарынаўскія прадмовы да выдаваных кніг. Скарына ў гэтых прадмовах, паказваючы на зьмест кнігі, зазвычай стараецца падкрэсьліць яе маральнае, рэлігійнае і асьветнае значэньне, чаму ён лічыць патрэбным друкаваць гэту кнігу. Прыкладам, у прадмове да Псалтыра ён так кажа: *«И видечи таковые пожитки в такъ малой книзе, я, Францишек Скарынинъ сын с Полоцька, в лекарскых науках докторъ, повелѣл есми псалтырю тиснути рускими словами а словеньским языкомъ напред ко чти и к похвалѣ богу в тройци единому и пречистой его матери Марии и всемъ небесным чиномъ святым божьим, а потомъ к пожитку посполитаго доброго, наболей с тое причины иже мя милостивыи богъ с того языка на свет пустилъ»*.

У сваіх выданьнях Скарына часам дае вершы сылябічнага характару. Гэткія вершы знаходзім у канцы прадмовы да кнігі Эстэр:

«Не копай под другомъ своимъ ямы
сам ввалишся в ню
Не став Амане Мардохею шибенице
сам повиснеш на ней».

У кнізе «Исход» маецца вершам дзесяць загадоў Божых:

«Веруй в бога единого
А не бери на дармо имени его.
Помни дни святыя святити,
Отца и матку чтити.
Не забывай ни едина.
И не делай греху блудна.
Не вкради что дружнего.
А не давай сведец(с)тва лжива

[26] Маецца на ўвазе **Уладзімір Стасаў** (рус. *Владимир Стасов*, 1824–1906), расійскі гісторык мастацтва, крытык.

Не пожедай жены ближнего.
Ни именя и ли речи его».

Апром гэтага маецца чатырохрадковы верш у кнізе Іова:

«Богу в Тройцы единому ко чти и ко славе,
Матери его Пречистой Маріи къ похвале,
Всем небесным силам и светым его к веселию,
Людем посполитым къ доброму научению».

Дзеля больш яснага прадстаўленьня характару перакладу Скарыны падаем адрыўкі зь некаторых яго кніг:

Песьнь-песьняў, раздзел 1. (Владим., 338)[27].

*«Поцалуй мя поцалованиемъ оустъ своих яко лепшая суть милости твоя над вино Воннейшая над масти драгие. Олей излиянъ имя твое, сего для отроковицы возлюбиша тебе. Тягны мя за собою: Побегнемъ въ добровонности мастей твоихъ.. Ввелъ ест мя въ покои свое тайныи, Возвеселимся и возрадуемся о тобе помняще на перси твоя, паче вина правии возлюбятъ тебе…»*

Эстыр, раздзел 12 (Владим., 344).

*«Асъверъ Царь пресилный владеющии От индии даже До ефиопии. Ста и ддвадцати и седъми странъ князем, И воеводамъ под властию моею сущимъ Ласку свою всем указую. Понеже над многими народы Царствую, И вси земли подбилъ есми под власть свою. А протож николи не хотехъ обращати ко злому моци свея превеликое. Но добротливостию мыслихъ всегда справовати свое подданые. Абы безо всякого страху, тише живот свой ведучи, миру егоже вси люди жадаюць поживали».*

Кніга Судзьдзяў (Первольф «Славяне», т. III, 228)[28].

*«Тогда иде Гедеон и увари козля, и напече хлебовъ пресных съ муки, и вложи мясо въ кошъ и юху влил в горнецъ, и принесе все то подъ дубъ и пода ему. И рече къ нему ангелъ божии: Возьми мясо и хлебы и накладі на оную скалу, и юху на верхъ вылии… И ангел божии зъмизалъ отъ очию его…»*

Выданьні Скарыны мелі вялікае значэньне для свайго часу, яны разыходзіліся ня толькі па ўсіх крыўскіх (беларускіх) землях, але такжа па Украіне, Масковіі, у землях Вялікага Ноўгараду, палуднёва-славянскіх і нават заходзілі далёка на Заход Эўропы. Выданьні скарынаўскія паслужылі прыкладам для друкарань Тюбігенскай, Несьвіжскай,

[27] Тут і далей спасылка на: Владимиров, П. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888. — 414 с.

[28] Маецца на ўвазе: Первольф, І. Славяне, ихъ взаимные отношения и связи. Т. III. Ч. 2. Варшава, 1893. — 339 с.

Тяпінскага. Мала таго, друкаваныя выданьні Скарыны перапісываліся. Да нашых часаў захавалася некалькі рукапісных кніг, якія былі перапісаны з друкаў Скарыны; у некаторыя зь іх трапілі і лішнія кнігі, якія былі надрукаваны, але затрачаны. Адны з гэткіх рукапісаў даслоўна перадаюць друкі скарынаўскія, з утрыманьнем прадмоў і імя Скарыны; ёсьць сьпіскі, у якіх пераменена правопісь Скарыны; а такжа заменена імя яго другім, прыкладам у Галіцкім (Яраслаўскім) сьпіску1568 году чытаем прыпіску: *«протожь я василій жугаев снь зь ярославля В лекарскых наоуках докторь... казал есми списати книгоу стго іова рускым языком. б(г)у къ чтии людем посполитым къ наоученію»*. Замест скарынаўскага правапісма тут модны тагочасты баўгарскі. З рукапісаў скарынаўскага перакладу зь лішнімі (раўняючы з захаваўшыміся друкаванымі экзэмплярамі) кнігамі трэба адзначыць біблійныя кнігі 1575 г. Львоўскага Сьвята-Ануфрэеўскага манастыра (паходзяць зь Зенкава (Падольшчына). Прадоўжаньнем гэтай апошняй рукапісі зьяўляецца рукапісь Лукі Тарнопальскага 1569 г. Калі разгледзіць лішнія кнігі гэтых рукапісаў са стараны мовы, то яны акажуцца сходнымі з тымі, якія запраўды вышлі з пад пяра Скарыны. Згэтуль натуральны вывад, што яны, відаць, былі перакладзены Скарынай, які або іх ня сусьціг надрукаваць, або надрукаваў ды яны загінулі (Карскій «Белоруссы». Т. III)[29].

Скарына ў кнігах біблійных памесьціў 42 рысункі, рытыя на дрэве. Некаторыя з гэтых рысункаў маюць на сабе вязаны подпіс, у які стала ўходзіць літара Т (у Апостале). Пад партрэтам Скарыны вязь выразна мае тры літары: Т, М, З, гэта ёсьць подпіс мастака-рысаўніка, які аздабляе скарынаўскія друкі рысункамі. Гэты мастак рысаўнік, скарынаўскі сучасьнік, дагэтуль невядомы. Адно пэўна, што ён, як і Скарына, быў «русін»; на гэта паказуе пераезд яго, разам са Скарынай, з Прагі ў Вільню і яго манаграма, зложаная са славянскіх літар.

*Пётра Крэчэўскі*[30]

## Скарына і незалежнасьць[31]

Гісторыя па невядомым нам прычынам, бэзь ніякай думкі з боку сучасьнікаў, злучыла дні выхаду першай беларускай кніжкі з друкарні Скарыны ў Вільні і абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі на 25 сакавіка.

[29] Маецца на ўвазе: Карскій, Е. Бѣлорусы. Т. III. Очерки словесности бѣлорусскаго племени. Ч. 2. Старая западнорусская писменность. Петроград, 1921. — 246 с.

[30] **Пётра Крэчэўскі** (1879–1928), палітычны і грамадска-культурны дзеяч. У 1919–1928 гг. — прэзідэнт Рады БНР. Жыў у Празе.

[31] Друкуецца паводле: Замежная Беларусь. Прага, 1926. С. 7–16.

У гэты дзень 1525 г. выйшла першая кніжка «Малая падарожная кніжыца», у якой была змешчана — Псалтыр з Пражскай Бібліі, Часасловец, Акафісты, Шастыднёў і Саборнік (сьвятцы). (Гісторыя беларускае літаратуры. М. Гарэцкі. 2 выд. бал. 22)[32].

Тагож самага дня 1918 г. была прагалошана незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, роўна 400 гадоў пазьней, як Скарына пачаў сваю друкарскую працу ў Празе Чэшскай.

Выпадковае злучэньне гэных дат у народным жыцьці бэзварункава ня можа лічыцца выпадковым у гісторыі, якая мае свае законы і падставы.

Вынахад друкарства, па выразу самаго пачынальніка і вынаходцы друкарства Іоганна Гутэнбэрга[33], — ёсьць найвялікшы вынахад у сьвеце. Само сабой разумеецца, што народы другія, прылучыўшыеся да гэтага вялікага вынаходу, маюць права на назову культуртрэгероў у агульна-чалавечай культуры.

Эўропа ў гэтым выпадку далёка аперадзіла славянскую раўніну на ўсходзе, аднак і Беларусь займае тут не апошняе мейсца. На ўсходзе Эўропы ў друкарстве ёй належыць першынства.

Бацько друку Гутэнбэрг пачаў сваю працу ў Нямеччыне ў 1456 г. У 1465 г. друкарства зьявілась у Рыме, у 1470 г. — у Францыі, у 1478 — у Швэйцарыі й Чэхіі, у 1480 г. — у Англіі, у 1489 — у Партугаліі, у 1491 — у Кракаве (Польшча), у 1499 — у Гішпаніі, у 1525 — у Вільні (Беларусь), у 1564 г. — у Маскве і 1574 г. — Львові (Украіна).

Многа было спрэчак аб друках Скарыны, дзякуючы таму, што старадаўная славяншчына служыла падставай мовы ўсіх славянскіх народаў на ўсходзе і таму прэтэндавалі на Скарыну ў першую чаргу вялікаросы і часткова украінцы.

Агульна-расейская культура да гэтае пары не дае спакою расейскім прафэсарам; аднак навуковыя досьледы строга аб'ектыўных у навуцы асоб змушаны былі прызнаць беспадстаўнасьць такіх досьледаў ужо па таму, што ва ўсіх яго кнігах уведзяны чыста мяйсцовыя словы беларускае мовы, якія ўжываюцца на Беларусі і да гэтае пары: борзда, бараніць, вінаваціць, вір, жыта, карагод, пражыцца, пуга, скрыня, цяміць, узгорак, віхар і інш.

Адыграла пэўную ролю ў гэтых доследах і паходжэньне Скарыны з Полацку, самага сэрца тагачаснае Беларусі. Калі ў часы панаваньня Расеі было мажліва рэнэгатства і культурная праца на пануючай мове, то ў той час, калі працаваў Скарына, мейсца паходжэньня адбівала і

[32] Тут і далей у падобных спасылках маецца на ўвазе: Гарэцкі, Максім. Гісторыя беларускай літаратуры. Выд. 2. Вільня, 1921. — 207 с.

[33] **Ёган Гутэнберг** (ням. *Johannes Gensfleisch zur Laden zum Gutenberg,* каля 1398 — 1468), нямецкі ювелір, вынаходнік кнігадрукавання ў Еўропе.

яго нацыянальнасьць, і залічыць Скарыну з Полацка маскоўцам альбо украінцам — немагчыма. Гэты доказ нікога ў правідловасьці перакanаць ня мог і сягоньня аб гэтым сур’ёзна ніхто не гаворыць.

Нічога не дадае да гэтага і прадмова да надрукованых у Празе 22[34] кніжак: *«Біблія руська, вылажана Доктарам Францыскам Скарынаю із слаўнога града Полоцька, Богу ко чці і людзям посполітым к доброму научэньню»*. Назова «Русь», якая належала выключна Беларусі і Украіне, паколькі Літоўска-Беларускае Княжаства аб’еднывала гэтыя тэрыторыі за часоў Вітаўта[35] і Альгэрда[36], ніякім чынам не магла належаць князям маскоўскім, бо німа ніводнага старога дакумэнту, які бы абшары на ўсход ад Літоўска-Беларускага Княжства называў інакш, як Масковіей, московітамі.

Барацьба за Беларускую «вотчыну» распачалась у 1491 г., пры Іване III[37] зь беларуска-літоўскім князям Александрам Ягайлавічам[38]. Гэта барацьба дасягае найвялікшага напружэньня ў 1500 г., калі Іван III пачынае вайну са сваім зяцям, жанатым на яго дачцэ Галене[39], — Аляксандрам Ягайлавічам за тое, што апошні ў аднэй з грамат не назваў Івана *«Гасударам усея Русі»*.

Разумеецца, што беларуска-літоўскіе князі не хацелі аддаваць гэтае назовы маскоўскім князям.

Змаганьне за назову «Русь» і першынства ўзнаўляецца ў 1508, 1513, 1516, 1518, 1519, 1534, 1535 і 1536 г. Абедзьве стараны, змораныя барацьбой, заключаюць мір, які трывае 25 гадоў і пачынаецца зноў у 1563 г., пры Іване IV Грозным[40], калі ён, варваўшысь у Полацк, абрабаваў і вывяз у Маскву золата, срэбра, гістарычныя памяткі і архівы.

На гэтай падставе і Скарына называе Біблію «руськой», знача беларускай, бо ў сваіх прадмовах да друкованых кніг гаворыць ясна: *«Понеже от прырожэньня зверы, ходяшчія у пустыні, знаюць ямы своя; птіцы лятаюшчыя па воздуху, ведаюць гнезда свая; рыбы, плываюш-*

---

[34] Лічыцца, што Францыск Скарына выдаў 23 кнігі Бібліі.

[35] **Вітаўт** (каля 1350 — 1430), вялікі князь літоўскі (1392–1430), адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага.

[36] **Альгерд** (каля 1295 — 1377), вялікі князь літоўскі (1345–1377), дзядзька Вітаўта.

[37] **Іван III Васільевіч** (1440–1505), вялікі князь маскоўскі (1462–1505), у часе кіравання якога адбылося аб’яднанне значнай часткі ўсходнеславянскіх земляў пад уладай Масквы і абвастрыліся дачыненні з Вялікім Княствам Літоўскім.

[38] **Аляксандр Ягелончык** (1461–1506), вялікі князь літоўскі (1492–1506), кароль польскі (1501–1506), унук князя Ягайлы.

[39] **Алена Маскоўская** (1476–1513), дачка вялікага князя маскоўскага Івана III, ад 1495 г. — жонка вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка.

[40] **Іван IV Грозны** (1530–1584), вялікі князь маскоўскі і ўсяе Русі (1533–1584).

*чыя па мору і у рэках, чуюць віры свая; пчолы і тым падобныя бароняць вульлей сваіх, — такжа і людзі, ікдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку імаюць»* (Прадмова да кнігі Юдіф).

Не мог тут Скарына гаварыць аб Маскве ці той Русі, якой яшчэ не было і да якой Полацк, тое мейсца, якое мела ў Скарыны такую ласку, не належала. Тым барджэй гэнай назовы «Руська» не мог Скарына даваць і мове Маскоўскага Княжества, бо ў другай прадмове кажа, што распачаў сваю працу друку на беларускай мове *«найболе з тое прычыны, іжа мя Міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў»* (Прадмова да Псалтыри).

Калі Скарына радзіўся і памёр, мы не знаем. Дапусьціўшы, што Скарыне было ў 1504 г. 14 лет, калі ён запісаўся студэнтам у Кракаўскі ўнівэрсытэт, заплаціўшы ўступных два грошы, пад назовай *Franciscas Luce de Polocko* — можна прыгадліва сказаць, што ён радзіўся ў 1490–1491 гг.

Доля Скарыны, як і ўсей беларускай гісторыі, занатавала нам найважнейшые моманты народна-палітычнага і культурнага жыцьця, пагубіўшы ў архівах нашых насільнікаў усе драбносткі так дарагіх нам зьявішч на нашай гісторычнай дарозе. Мажліва, што гэтыя дарагія нам памяткі былі папаляны і зьнішчаны, альбо ў часе нападаў на Полацк у 1563 г. Івана Грознага, альбо спаляны палякамі ў Вільні ў 1581 г.

Паленьне беларускіх кніг і дакумэнтаў прадаўжалась амаль два стагодзьдзя і даканчывала гэта барбарства яшчэ ў 1860 г. расейская ўлада ў біскупствах — Віленскім, Менскім, Вітэбскім, Валынскім і Падольскім. Колькі іх было спалена, нікому ня ведама (Крывіч, № 1 (7), 1924 г., бал. 59–61). Але нягледзячы на жорсткую барацьбу зь беларускай гісторыяй і культурай, на яе знішчэньне, яна расла і разьвілась, хоць пакінула па сабе менш, як у другіх народаў, пісаных памятак і давяла народнае жыцьцё пасля 300-летняга заняпаду да выяўленьня цьвердае волі незалежнага істнаваньня — 25 сакавіка 1918 г.

Асновапаложнікам гэтага быў Скарына з Полацку і яго друк.

Скончыўшы праз два гады, у 1506 г., Кракаўскі ўнівэрсытэт бакалаўрам, Скарына дзесь вандруе па Заходняй Эўропе. Вучыць жыцьцё эўрапэйскіх народаў і штудуе мэдыцыну, да якой ён меў вялікую прыхільнасьць. Дзе гэта адбывалась і як, гісторыя не мае данных, але ў Падую, у Італіі, Скарына зьяўляецца ў 1512 г. зусім падгатаваным да экзамэну на доктара і просіць, каб яго дапусьцілі экзамэнавацца бясплатна, так як ён па беднасьці ня мае грошы, каб заплаціць патрэбную суму.

Доктар Мусаті, адзін з прафэсароў Падуанскага ўнівэрсытэту, надзвычайна спагадліва аднёсься да маладога вучонага Скарыны і запрапанаваў яму прыйсьці 5 лістапада на 5-ую гадзіну вечара ў

касьцёл Сьв. Урбана, куды ён склікаў прафэсароў мэдычнага ўнівэрсытэту[41].

На сходзе прафэсар Мусаті абвесьціў, што ў Падую прышоў з далёкіх краёў, у адлегласьці 4-х тысяч кілямэтраў, надзвычайны вучоны, але бедны муж, які мае ўжо доктарскую адзнаку (*Eximus atrium doctor Franciscus gn. Domini Lucae Skorina de Polocko Ruthenus*) і прасіў дазволіць яму *«de grata speciali ad amore Dei»* бясплатна экзамэнавацца. Пасля дакладу прафэсара Мусаті быў пакліканы і сам Скарына, які горача вылажыў сваю просьбу, каб яму пазволілі бясплатна трымаць экзамэн на доктара мэдыцыны.

6 лістапада распачаліся ўступныя іспыты ў тым самым касьцёле, перад 14 прафэсарамі мэдычнага факультэту, а 9 лістапада ў Біскупскам палацы, пад старшынствам вікарнага біскупа П. Забарэльлі, у прысутнасьці ўсей калегіі Падуанскага ўнівэрсытэту з 24-х асоб пачаліся іспыты на доктарскае званьне.

Іспыты Скарына вытрымаў надзвычайна добра і аднагалосна быў прызнаны годным званьня доктара мэдыцыны, у чым і атрымаў з рук прафэсара Барызоні атэстат.

З гэтага часу Скарына да свайго подпісу заўжды дадае: *«Навук вызваленых і лекарскіх доктар»*.

Пасьля гэтага Скарына зноў зьнікае з гістарычнай памяці. Разумеецца, ня меўшы грошы на іспыты, ён ня меў іх і на падарожу, і, хутчэй усяго, на пяхоту накіраваўся на бацькаўшчыну. Быў у Чэхах і Нямеччыне, знаёміўся зь людзьмі. Пабываў у Полацку і Вільні, прыглядаўся да абставін і рыхтаваўся да працы, якая яшчэ мусіць з Кракава, пад уплывам яго прафэсара Яна Глагоўчыка, які ўжо перэкладаў Біблію на рускую мову, цягнула... але адпаведных варункаў для гэтае працы Скарына на бацькаўшчыне не знайшоў і вырашыў падацца ў Чэхію як самую свабодную старану таго часу.

Апрача агульных падстаў, якія змусілі Скарыну ўзяцца за перэклад і друк Бібліі, як яго прадмовы да выданьня: *«Понежэ не только докторове, а люди вчэные в ніх разумеють, но всякий чэловек простой и посполиты чтучы іх, или слухаючи, может разумети, что есть потрэбно к душному збавению его»*, альбо: *«в сей книзе всея прирожоное мудрости зачало і конец, Бог Вседержитель познаван бываеть... В сей книзе вси закони и права, ими же люди на земли справоватися имеют, пописаны суть... В сей книзе вси лекарства душевные и телесные зуполия знойдете... Ту научение седми наук вызволеных достаточное. Хошчеши ли умети граматику или по руски гворячы грамоту, еже добре чести и мовити учить, знойдеши в зупольноі Библии Псалтыру, чти её... Ашчели же кохание имаше ведати о военных а о богатырских делех чти книги судей, или книги Моковеев. Более и справедливее в них*

[41] Так у тэксце. Магчыма, маецца на ўвазе факультэт.

*знайдеши, нежели во Александрии или во Трои»* («Крывіч», № 1, 1924, бал. 10).

Але мы не застанаўліваемся на агульных падставах Скарынінскага друку, нас цікавіць маральная і нацыянальная старана працы Скарыны.

Любоў да сваёй зямлі — тэрытарыяльны нацыяналізм, як я адзначыў раней з яго прадмовы да кнігі Юдіф, выяўляецца яскрава ў словах: *«Також и люди и где зродилися и ускормлины суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають»*.

Любоў да народу і сваёй мовы — нацыянальнае ўсьведомленьне — можна бачыць з прадмовы да Псалтыру: *«Я, Францишек Скорынин сын з Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есьми Псалтырю тиснути рускими словами а словенським языком напред ко чти и к похвале Богу в Тройци единому и Пречистой Его Матери Марии всем небесным чином сватым Божьим, а потом к пожитку посполитаго добраго, найболей с тое прычины, иже мя милостивый Бог с того языка на сьвет пустил»*.

Запраўды, у чалавека эўропэйскі асьвечанага, у эпоху барацьбы за свабоду вызнаньня, першай думкай зьяўляецца жаданьне — не пашыраць сваю навуку, не дабівацца высокага становішча паміж другімі, а прыблізіць да свайго знаньня народ. Скарына сьпяшаецца даць свайому народу кніжку на сваёй роднай мове, ці набліжаючэйся да яе, каб і яго народ мог далучыцца да агульна чалавеччай культуры таго часу.

Агледзіўшысь, што на бацькаўшчыне спрыяючых варункаў да друку німа, а можа і баючыся, каб і яго не спаткала доля Фіоля — першапечатніка — друкара Бібліі на славянскай мове ў Кракаве ў 1491 г., разбуранага фанатычным духовенствам[42], Скарына едзе ў Прагу Чэшскую, дзе панавала поўная рэлігійная свабода і ў 1517 г. распачынае працу. Час ня церпіць, і Скарына з надзвычайнай быстрынёй выпушчае са сваёй друкарні кніжку за кніжкай.

У 1517 г. выйшлі з друку: Псалтыр, кніга Іова, Прытчы, кніга Сіраха; у 1518 г. — Эклезіаст, Песьнь песьняў, Прамудрасьць Саламона, кнігі Царстваў, Ісуса Навіна; у 1519 г. — Юдіф, Суддзяў, Пяцікніжжа Маісея, Руф, Эсфір, Плач Іереміі, Кніга Прарока Данііла.

Праца ідзе шпарка, бо Скарына як найхутчэй, карыстаючысь спрыяючымі абставінамі, хоча даць *«Вырозуменьня радi простых людзей»*, Бібліейскія кніжкі на беларускай мове нават з малюнкамі.

Мажліва, што абставіны былі ўжо не так спрыяючыя, як раней у свабоднай Чэхіі, бо мы да гэтае пары ня ведаем, дзе і з кім у Празе друкаваў Скарына свае кніжкі. Гэта наводзіць на думку, што друк Скары-

[42] Швайпольт Фіёль сапраўды быў у 1491 г. абвінавачаны ў ерасі, аднак абвінавачанне было знятае, і ён быў вызвалены ў 1492 г.

ны адбываўся патаемна. Сьведчыць аб гэтым і раптоўны зрыў працы, не дакончыўшы яе і пераезд у 1519–1520 гг. Скарыны ў Вільню.

Калі ўзяць пад увагу, што ўжо ў часы побыту Скарыны ў Празе распачалась барацьба паміж Ягелонамі, пасьля сьмерці Людовіка[43], і Габсбургамі — (Фэрдынанд[44]) — за Чэшскую карону, якую і атрымалі немцы ў асобе Фэрдынанда 13 сьнежня 1526 г., то стане ясна, што свабоды гусітаў[45], табарытаў[46] і братоў — скарачаюцца, а павялічываюцца і пашыраюцца правы каталікоў зь нямецкімі баронамі, духавенствам і чэшскай шляхтай па загаду Рыма. Магчыма, што і Скарыне, як Швайпольту Фіолю ў Кракаве — пагражаў арэшт за гэрэтыцтво, чаму ён так хутка і перанёсься ў Вільню. А можа яго прымусіў да гэтага мор, быўшы ў Празе.

Народны дух і абставіны, сярод свайго народа, у найлешую пару панаваньня беларускай культуры, надавалі Скарыне яшчэ больш сілы, каб сваімі друкамі далучыць беларускую мову і культуру да ўсечалавечай культуры.

Перакінуўшысь у Вільню, Скарына закладае друкарню: *«в дому почцівого мужа Якуба Бабіча, найстаршага бурмістра славнаго і вялікаго места Віленскаго»,* і 25 сакавіка 1525 г. выдае «Апостола» і «Малую падарожную кніжыцу».

Так, на ўсходзе Эўропы першым вучоным доктарам Скарыной быў заложаны моцны асяродак культуры ў Вільні, у Скарынінскай друкарні. З гэтага асяродку, як іскры з вогнішча, раскідаліс ва ўсе бакі славянскага міру друкі Скарыны. Кніжкі яго Бібліі разыходзіліс па абшарах Баўгарыі, Сэрбіі, Чэхіі, Польшчы, Украіны, Маскоўшчыны, не гаворучы ўжо аб Беларуска-Літоўскім Княжстве.

Трэба ведаць, што Скарынінская Біблія зьявілася трэцяй у Эўропе. Першай у 1445 г. была надрукавана — нямецкая, другой — у 1448 г. — чэшская, і трэцяй — у 1517 г. беларуская.

І па істоце, і па характару друку Скарынінскія выданьні былі лепшые за Нюрэнбэргскія і Вэнэцыянскія. Скарынінскі друк браўся за прыклад, а ўвесь славянскі сьвет карыстаўся імі як больш зразумелымі ніж старацаркоўныя рукопісы старого пісьма.

---

[43] **Людовік II** (чэшск. *Ludvík Jagellonský*, венг. *II Lajos*, 1506–1526), апошні кароль Чэхіі і Венгрыі (1516–1526) з дынастыі Ягелонаў (сын Уладыслава II). Загінуў у Мохацкай бітве.

[44] **Фердынанд I Габсбург** (1503–1564), аўстрыйскі эрцгерцаг (ад 1518 г.), імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі (1558–1564). Быў мужам Ганны Ягелонкі — сястры Людовіка II, праз што і перамог у барацьбе за Чэшскую карону.

[45] **Гусіты** — прадстаўнікі чэшскага рэфарматарскага рэлігійнага руху, паслядоўнікі Яна Гуса (1369–1415), змагаліся супраць Каталіцкай царквы і нямецкага засілля ў Чэхіі.

[46] **Табарыты** — прадстаўнікі радыкальнага крыла гусітаў.

Паволі ад друкаў Скарыны пачынае друкарства распаўсюджывацца і на Ўсход. Думка аб друкарні зьяўляецца ў Маскве ў 1551 г. і зьдзейсьніваецца толькі Іванам Грозным у 1563 г., куды былі запрошаны са Скарынінскай друкарні масковец Іван Фёдараў[47] і беларус Пётра Мсціславец[48] з Магілёва.

Лёс першых друкароў у Маскве быў кепскім, ім хутка прышлось уцякаць ад цемры маскоўскай на Беларусь.

Дзякуючы беларускаму гэтману — Рыгору Хадкевічу[49] яны змаглі адчыніць друкарню ў родным мейсцы Хадкевіча — Заблудаве[50], дзе ў 1569 г. надрукавалі «Паучыцельнае Евангеліе»[51]. Гэта «Евангеліе» Хадкевіч хацеў надрукаваць на беларускай мове і казаў: *«Помыслил же был есьмы же и се, иже бы сию книгу, выразуменьня ради простых людзей, преложици на просту мову»*. Але зрабіць гэтага не ўдалося. Люблінская вунія разьбіла пляны Хадкевіча[52], ярым праціўнікам якое ён быў, і друкары, ня маючы падтрымкі з боку Хадкевіча, прымушаны былі выехаць з Заблудава.

Фёдараў выязджае ў Львоў і з 1572 г. закладае там украінскую друкарню і выдае ў 1574 г. першую кніжку «Апостол» як пачатак украінскага друку, а Мстіславец параязджае ў Вільню і ўзнаўляе перэрванае пасьля Скарыны беларускае друкарства з 1574 г.

Такім чынам, першая кніжка, друкаваная на Беларусі, зьявілася 400 гадоў таму назад, у Маскве на 40 г., а на Украіне — на 50 гадоў пазьней.

400 гадоў таму назад верны сын свайго народу Скарына, атрымаўшы эўрапэйскую асьвету і апярэдзіўшы свой народ ня менш як на 100 гадоў, не адышоў ад народа, не стаў толькі сьведкай народнай цемры, а адразу панёс сьвятло навукі ў свой народ і адкрыў сапраўды на Беларусі залатую эру разьвіцьця культуры і веды.

Без Скарыны і яго друкаў ніколі беларуская мова не стала б дзержаўнай у Літоўска-Беларускім Княжастве.

Надзвычайны напор польскай культуры са ўсім дзяржаўным апаратам і прывілеямі для староннікаў Люблінскай вуніі толькі таму і не

---

47 **Іван Фёдараў** (каля 1510 — 1583), асветнік, кнігавыдавец, заснавальнік рускага і ўкраінскага кнігадрукавання. Лічыцца, што паходзіць з беларускага роду Рагозаў.

48 **Пётра Мсціслаавец** (? — пасля 1576), кнігадрукар, гравёр, калега І. Фёдарава.

49 **Рыгор Хадкевіч** (каля 1513 — 1572), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, вялікі гетман ад 1566 г., уласнік Заблудава.

50 **Заблудаў** (польск. *Zabłudów*) — сёння горад у Падляскім ваяводстве Польшчы, на паўднёвы ўсход ад Беластока.

51 **«Евангелле вучыцельнае»** (1569) — першае друкаванае Евангелле на Беларусі, помнік старажытнабеларускага кнігадрукавання.

52 У 1570 г. Рыгор Хадкевіч спыніў дзейнасць друкарні ў Заблудаве.

перамог, што народ узгадовываўся на друках Скарыны. Як камяннай сьцяной Беларуска-Літоўскае Княжаства адгарадзілася ад Польшчы і пасьля падпісаньня Люблінскай вуніі, тымі ж самымі здабыткамі культуры, якія пакінуў свайму народу на яго роднай мове Скарына. Ня толькі народ, а нават і шляхта, якая разам з Ягайлам у 1380 г. адарвалась ад роднага карэньня, чытаючы кнігі Скарыны, вярталась да роднай мовы і гуртавалась каля Кракаўскага манастыра Грэцкага абраду.

Хадкевічы, Радзівілы, Сапегі, Астрожскія і інш., як стаўны, стаялі на варце беларускага народу і яго роднай мовы.

Толькі Скарына і яго наступнікі, узгадаваныя на яго друках, спасьлі Літоўска-Беларускае Княжаства ад поўнага зьліцьця з Польшчай, чаго так дабіваліся палякі.

Творчасьць, выхова народа, звычаі, распарадак жыцьця і судовыя законы — усё апіралась на пройшласьць Скарынінскага друку і тварыла далей беларускую культуру, літэратуру і законы.

Горы спаляных кніг, старых памятак мінуўшчыны сьведчыць нам аб гэтым, але і тое, што засталося, не можа нас выкрэсьліць з радоў культурных народаў і цяпер.

Мабыць, гісторыя мела свае пляны і законы, выкрэсьліўшы з нашай гісторыі ўсё дробнае і пакінуўшы толькі галоўныя фактары народнай творчасьці і культурнай сьпеласьці.

Ніхто ня ведае напэўна ні дня, ні года, калі радзіўся і памёр наш вялікі друкар і вучоны Скарына. Да гэтае пары спрачаюцца, якога вызнаньня быў Скарына, праваслаўнага ці каталіцкага. Ніхто ня ведае абставін жыцьця Скарыны ў часы яго вучэньня, таксама як у працы. Аддаўшысь друку, як пэўнаму служэньню свайму народу, Скарына ня меў зусім, відаць, свайго асабістага жыцьця. На гэта паказывае той факт, што ён, толькі скончыўшы працу ў 1529 г., калі яму было каля 40 гадоў, ажаніўся са ўдавой Юрыя Адверчанкі — Маргарытай. Жыў бедна аж да самай сваёй сьмерці…

Аднак усе ведаюць, колькі Скарына ў такі кароткі час надрукаваў кніжак. Усе ведаюць, што на падставе Скарынінскіх друкаў беларускі народ захаваў сваю самабытнасьць і ня зліўся з польскай дзяржавай, нягледзячы на тое, што нацыянальнага ўсьведамленьня, у нашым сэнсе слова, тады яшчэ ня было.

Скарынінскім друкам, разам з самабытнасьцю, захаваў беларускі народ і сваю веру, не раструсіўшысь паміж іншымі каталіцкімі народамі.

Друкі Скарыны перасьцерагалі нас і ад навалы Маскоўскай, нягледзячы на еднасьць рэлігіі, народная беларуская маса не паддалася дэнацыяналізацыі і пад страшэнным уціскам і забаронай вуснага — у царквах і касьцёлах і — пісанага слова — у газэтах, журналах і кніжках, не страціла Скарынінскай беларускай мовы і жывець ею дасюль.

Ці можа быць якое-небудзь параўнаньне паміж беларускай культурай апошніх часоў і расейскай. Разумеецца, не — мы толькі пачынаем, а маскоўцы ўсімі сіламі свайго дабрабыту, сваёй дзяржавы, на працягу некалькіх сотак гадоў толькі і працавалі над ею, каб гэтай культурай, блескам вялікай дзержавы задушыць культуры малых народаў. І што ж? дасягнулі мэты? Не, — народ беларускі адвярнуўся ад іх вялікай культуры і трымаўся, хоць і малой, але сваёй культуры, сваёй мовы, якую далі яму Скарынінскія друкі.

Ні школы, ні ўнівэрсытэты, ні прымусовае ўвядзеньне расейскае мовы, таксама як і раней польскай, ва ўсе ўстановы дзержаўнага жыцьця не перарабілі беларуса на расейца. Ён заўжды заставаўся самабытным, са сваёй простай мовай і не прыймаў мовы панскай.

Улада расейская думала, што ўсе скончана. Мова беларуская застаецца як пережытак, але душа селяніна ўжо перарабілась на расейскую.

65 % расейцаў у агульнай статыстыцы былі сьведчаньнем гэтага погляду. Ні аб якіх беларусах альбо украінцах успаміну там не было.

Гісторыя, як я казаў раней, па сваім законам укрывала ад людскіх вачэй усе драбязгі нашага жыцьця, і на гэты раз у 1917 г. паставіла нават часовы расейскі ўрад, ужо дэмакратычны, перад фактам існаваньня беларускага народу. Ён голасна загаварыў у Менскай, Віленскай, Вітэбскай, Гродзенскай, Магілеўскай і Смаленскай губерні на мейсцох і ва ўсіх арміях на фронце.

Дух Скарыны і старых традыцый загаварыў раптоўна ізноў і выдзяліў беларусаў з агульна-расейскай лічбы.

На Кангрэсе ў сьнежні 1917 г. зьбіраецца каля 2000 дэлегатаў, якія і абвешчаюць, што Беларусь павінна стаць дэмакратычнай рэспублікай. Ідзе глухая барацьба паміж астаткамі расейскай дзяржавы і беларусамі ў створаным дзяржаўным органе, выбраным на Кангрэсе. Расейцы накіроўваюць на фэдэрацыю, беларусы патрабуюць незалежнасьці.

Пасьля продажы Заходняй Беларусі немцам у Берэсьці, чаша беларускага цярпеньня перэпаўняецца і, ня бачучы ніадкуль помачы, абарону сваей тэрыторыі Рада Зьезду бярэ на сябе і 25-га сакавіка 1918 г. абвешчае Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Абвешчае якраз у той самы дзень, калі 392 г. таму назад Скарына ў Вільні выдаў першую сваю «Малую падарожную кніжыцу», *«Абы брацьця моя, русл, людзи поспалитыя, чтучы, магли лепей разумеци; дзецям малым, — пачаток усякое добрае навуки, граматы, еже добра чести и мовици вучыць; каб беларусы — падарожники мели на чым малицца на чужой старане, ведалиб, кали сьвяткаваць якие дни»* (Гісторыя літэратуры, Гарэцкі, бал. 25).

Знаць, добра беларусы чыталі кніжкі свайго першапечатніка-друкара і шанавалі яго запавядзі, калі нават на чужыне, раскідаўшысь па

ўсім фронтам і заграніцай, вучылісь чытаць і гаварыць па-свойму, каб у пэўны момант скінуць зь сябе чужацкую вопратку і зьявіцца на першы покліч сваёй Бацькаўшчыны.

Зьявілісь усе, верные заветам Скарыны, але лёс не судзіў яшчэ нам вярнуць былую славу нашых продкаў. Незалежнасьці мы не дасягнулі, дзякуючы ворагам пераможчыкам, але мы яе дасягнем. Скарына нам у гэтым зарука.

Вось гэны факт інстыктыўнага, магутна-стыхійнага абуджэньня народных масс, пасьля трохсотлетняга заняпаду, найяскравей сьведчыць аб нацыянальным пачуцьці беларускага народу.

Верны сваім традыцыям, народ беларускі на працягу 300 гадоў пасыўна бароніцца ад чужацкай навалы, захоўваючы толькі сваю беларускую мову як галоўную адзнаку свайго нацыянальнага жыцьця.

Бэз мовы — німа нацыі, бэз культуры — німа народу і не можэ быць незалежнасьці, сваей уласнай дзяржавы.

Народную беларускую мову першы зафіксаваў Скарына ў сваіх вечных помніках — друках Бібліі на простай мове.

Наступнікі ўзмацавалі і разьвілі яе далей, зрабілі мовай дзяржаўнай, на якой ня толькі гаварылі, але і пісалі дзяржаўные законы — граматы літоўска-беларускіх князёў і Літоўскі Статут.

Беларускі народ пасьля таго, як баярэ і нават духавенства адрэклісь ад роднай мовы і культуры, захаваў яе і не страціў у самую жорсткую пару трохсотлетняга панаваньня чужынцаў і перадаў нам да ўжытку сягоньняшняга дню.

Хто, любячы свой народ ці шануючы яго правы на мову і свае звычаі, адважыцца сказаць, што сучасьнікі павінны адрэчысь ад гэтай мовы і культуры, бо ёсьць культура вышэйшая, лепшая, а мова прыгажэйшая.

На Парыжскім конкурсу пекнаты сучасных моў першую прэмію атрымала мова эстонская, ці ж з гэтага можа хто зрабіць вывад, што іншыя мовы павінны адмовіцца ад сваей і гаварыць толькі на мове эстонскай.

А між іншым такімі довадамі карыстаюцца расейцы і палякі адносна другіх нацый наогул і асабліва беларусаў.

Над такімі довадамі беларускі народ не задумываецца і ідзе сваей дарогай да вольнага і незалежнага жыцьця, пасьля якога знойдзе спосабы раўнапраўнага сужыцьця са ўсімі славянскімі народамі, якія рука аб руку ішлі на змаганьне за сваю незалежнасьць і памагалі беларускаму народу вызваліцца зь няволі.

Дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і дзень 400-летняга юбілею Скарынінскага друку неразрыўнымі ланцугамі зьвязаны паміж сабой.

Памяць аб слаўнай пройшласьці мінулага, самастойнага істнаваньня Беларусі ў часы Скарыны, росквіт і залаты век беларускай культу-

ры вабіць нас і цяпер сваей прыгажосьцю. Успамінаючы старыя часы свайго незалежнага і магутнага панаваньня на абшарах беларускай зямлі, мы набіраем усё больш і больш сілы, каб прагалошаную 25 сакавіка 1918 г. Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі абярнуць у рэальны факт часоў Скарыны. Жыцьцё мацней усялякіх выкладаў. Народ, адчуўшы ўсю пекнату незалежнага істнаваньня, ніколі ня згодзіцца на рабства. Мы бачылі ў самастойным істнаваньні росквіт культуры і адраджэньня; таксама, як у братскім еднаньні раней з Польшчай, а потым з Расеяй — заняпад і блізка што ня сьмерць нацыі.

Цяпер нам расейскія цэнтралісты бэз рожніцы, як левые, так і правые, а таксама і заграніца, якая стаіць на поглядзе, што народы для дзяржавы, а не наадварот — вуснамі *«непомнящих родства»* прафэсароў гавораць: *«Что понятіе родины, как общее правило входит в понятіе отечества, но что часто незаметно для себя в понятіе родины вкладывается понятіе отечества — это является одной из причин местных сепаратизмов»* (Руль[53] 15.III. 25 г. № 1302). Для расейцаў гэта так, мы згодны, але — лічыць для ўсіх славян *«Отечеством»* Расею рызыкоўна: замест аб'еднаньня выйдзе раз'еднаньне.

Вось вам уваскрашэньне ідэі *Pax Ramana* і пазьнейшай — панславізму і пангерманізму. Так гаварылі прадстаўнікі Аўстра-Вэнгэрскай манархіі славянскім народам да вайны. Інтарэсы *«Родіны»* вы павінны забыць, а адчуваць толькі інтарэсы *«Отечества»*. Дзяржаўнасьць на першым мейсцы, а потым народ.

З мэтаў інтэрэса *«Отечества»* панславізм імкнуўся і імкнецца пад назвай *«Адзінства рускай культуры»* правесьці граніцу ад Кенігсбэрга да Тріэста і закрэсьліць магучай рукой назву *«Родіны»* для ўсіх славянскіх народаў, не гаворучы ўжо аб інародцах.

Мы, беларусы, ведаем, што для нас *«Родина і отечество»* — тое самае, за што мы з Масквой білісь больш як чатыры стагодзьдзі.

Горы трупаў і рэчкі беларускай крыві навучылі нас цаніць сваю Бацькаўшчыну не як частку Расеі, а як самастойную, раўнапраўную адзінку ў сям'і славянскіх народаў і дзяржаў.

Цень Скарыны ў сягоньняшні дзень яшчэ больш узмацуе нашы сілы на змаганьне за сваю незалежнасьць, а ўдзячныя сыны Беларусі, пры дапамозе нашых прыяцеляў, яшчэ больш аб'яднаюць навуковыя сілы нашай Бацькаўшчыны ў барацьбе за сваю і культурную і палітычную незалежнасьць.

*Прага, 15.III.1925 г.*

---

[53] Маецца на ўвазе руская эміграцыйная штодзённая газета **«Руль»**, што выходзіла ў Берліне ў 1920–1931 гг.

*Тамаш Грыб*[54]

## Мейсца й значаньне Францішка Скарыны ў сучасным беларускім вызвальна-адраджэнскім руху[55]

### I

1925 год на Беларусі прайшоў пад знакам урачыстага сьвяткаваньня 400-лецьця беларускага друку. Ладзіліся ўрачыстыя акадэміі, літаратурныя сходы, навуковыя даклады, на якіх зь вялікаю пашанаю, з пачуцьцём пэўнае дастойнасьці ўжывалася імя доктара лекарскіх навук Францішка Скарыны, бо ён першы распачаў друкарскую справу на Беларусі, ён першы даў літары беларускага друку.

400-летні юбілей беларускага друку быў адзначаны і ў Празе, дзе знаходзілася ў той час значная колькасьць беларускае эміграцыі — пераважна студэнцкая моладзь. Было заснована Беларускае (Крывіцкае) Культурнае Т-ва імя Др-а Францішка Скарыны. Гэта-ж у Празе чатырыста гадоў таму назад Францішак Скарына распачаў сваю друкарскую справу, выдаючы пераклад бібліі на беларускую мову; у старадаўняй чэскай Празе, дзе так нядаўна яшчэ перад тым грымелі словы праўды Яна Гуса, баёўныя словы проці Рыму.

Дзеля ўшанаваньня памяці Францішка Скарыны, вялікага й векапомнага друкара Беларусі, у беларускім друку за апошні час зьявілася шэраг вельмі каштоўных выданьняў: кніга В. Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі»[56], зборнік Інбелкульту «400-лецьце беларускага друку»[57], кніга А. Станкевіча[58] «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі. 1525–1925»[59]; у беларускай пэрыёдыцы зьмешчаны шэраг артыкулаў. Трэба адзначыць пры гэтым, што аб Скарыне існуе ўжо вагромністая літаратура ў іншых мовах. Скарыніяна —

---

[54] **Тамаш Грыб** (1895–1938), грамадска-палітычны і культурны дзеяч. Загадчык беларускага Замежнага архіва ў Празе.

[55] Друкуецца паводле: Iskry Skaryny. № 1. Lipień 1931. S. 14–15. Арыгінал друкаваны лацінкай.

[56] Маецца на ўвазе: Ластоўскі, Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясніцельнай кнігопісі ад канца X да пач. XIX ст. Коўна, 1926. — VIII + 776 с.

[57] Маецца на ўвазе: Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925. Мінск: Інстытут Беларускае Культуры, 1926. — VIII + 360 с.

[58] **Адам Станкевіч** (1891/1892 — 1949), грамадска-палітычны дзеяч, каталіцкі святар, выдавец, гісторык, публіцыст.

[59] Маецца на ўвазе: Stankiewič, Adam. Doktar Francišak Skaryna — pieršy drukar biełaruski, 1525–1925. Wilnia: Biełaruskaje Nawukowaje Tawarystwa, 1925. — 56 s.

гэта ўжо вагромністае множства літаратурных і навуковых твораў, у якіх знаходзімо дакладны агляд жыцьця й дзейнасьці Францішка Скарыны, яго эпохі, мейсца й значаньне яго ў гісторыі беларускай культуры, у гісторыі культуры славянскіх народаў і ўсяго чалавецтва.

Але якая падзівагодная зьява! Амаль усё, што мы ведаем аб Францішку Скарыне, гэта — яго друкарская дзейнасьць. Скарына друкар і перакладчык біблії на беларускую мову. Гэтым і абмяжоўваецца ўсё наша веданьне.

Дзеля ўшанаваньня Скарыны друкара ёсьць названы яго імем на Беларусі шэраг беларускіх друкарняў — у Вільні, Воршы ды інш. Як першаму беларускаму друкару запраэктавана паставіць яму і помнік у Полацку, старадаўнім месьце Крывіцкае зямлі, родным месьце Францішка Скарыны.

У беларускім суспольстве, такім чынам, ствараецца ўява, узмацняецца культурная традыцыя, што Францішак Скарына быў толькі друкар і перакладчык біблії на беларускую мову. У гэтым, маўляў, і палягае ўся веліч яго ў гісторыі беларускае культуры, усё вагромністае значаньне яго для нашай сучаснасьці.

А між тым Францішак Скарына ня толькі друкар і перакладчык біблії на беларускую мову. Перадусім, ён глыбокі мысьліцель, арыгінальны філёзаф, рэлігійны й сацыяльны рэфарматар, вялікі рэвалюцыянэр свайго часу, змагар за дабро паспалітага люду.

Без Скарыны і паміма Скарыны мы ні ў якім разе не зразумеемо такіх волатаў беларускай культуры, як Васіль Цяпінскі[60], Сымон Будны[61] і Лявон Сапега[62]; не зразумеемо цікавейшую й найбольш слаўную эпоху ў гісторыі беларускага народу, эпоху рэфармацыі і гуманізму, эпоху адраджэньня; няяснай будзе нам і настаўшая потым эпоха каталіцка-праваслаўнай рэакцыі, эпоха заняпаду беларускае культуры, асыміляцыя вышэйшых упрывіліяваных станаў беларускага суспольства.

Маім заданьнем ёсьць наяўна выявіць, выкрыць і даказаць, што Скарына ня толькі даў пераклад біблії на беларускую мову, але даў выклад тлумачэньне біблії ў сваіх векапомных прадмовах да зробленага ім перакладу; ён даў нам сваю «біблію», сваю «кнігу быцьця» — Скарына даў нам аснаўныя падваліны беларускае філязофіі.

---

[60] **Васіль Цяпінскі** (каля 1540 — 1603), гуманіст, асветнік, перакладчык, кнігавыдавец, пачынальнік традыцыі выданняў Новага Запавету на беларускай мове.

[61] **Сымон Будны** (каля 1530 — 1593), гуманіст, філосаф, асветнік, дзеяч рэфармацыйнага руху, адзін з заснавальнікаў навуковай крытыкі Біблії на Беларусі.

[62] **Леў Сапега** (1557–1633), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, канцлер (1589–1623), стваральнік Статута ВКЛ 1588 г.

Выявіць гэта — значыць сказаць праўду аб Скарыне. Гэта будзе зроблена ў наступных разьдзелах[63].

*Тамаш Грыб*

## Пад сьцягам Скарыны[64]

Яшчэ ў пачатку XVI-га стагодзьдзя вялікі наш гуманісты Францішак Скарына казаў: *«Бяз мудрасьці і бяз добрых абычаяў нельга чэсна жыць людзям у супольстве на зямлі»*.

Мудрасьць, чэснасьць, добрыя абычаі — гэта ёсьць тры аснаўныя падваліны жыцьця супольства. Дзе няма хоць аднэй з гэтых падвалін — супольства гіне, распадаецца.

Мудрасьць, паводле Скарыны, — гэта ёсьць веданьне жыцьцёвае праўды, праўды з жыцьця і для жыцьця. Напрыклад: мудры ведае, што чалавек народжаны на сьвет не для сябе толькі, але і для служэньня дабру паспалітага люду.

Чэснасьць — гэта заўсёды быць у згодзе сваей чалавечай уроджанасьці. Напрыклад: чэсны ніколі не зракаецца сваей уроджанай асабістасьці.

Добрыя абычаі — гэта калі можа бяз усякага страху поўнасьцю карыстацца сваей чалавечай уроджанасьцю. Напрыклад: любоў да роднага краю. Чалавек ня можа не любіць свой родны край. Пачуцьцё любові да роднага краю, паводле Скарыны, зьяўляецца ўроджанай уласьцівасьцяй чалавечае натуры. Ён кажа: *«Як ад уроджаньня свайго зьвяры, што бегаюць у лесе, ведаюць логвы свае, птушкі, якія лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае, рыбы, што плаваюць у моры і рэках, чуюць віры свае, пчолы ды ім падобныя бароняць вульлі свае, так і людзі, дзе роджаны і ўскормлены, да таго мейсца вялікую ласку маюць»*.

Нельга, дзеля гэтага, не любіць мейсца свайго нараджэньня — свой родны край. Любоў да роднага краю — прыродная сіла, якая злучае чалавека зь зямлёй; гэта ёсьць закон зямлі, які злучае людзей у супольствы, стварае народы.

Усякае запярэчаньне ў сабе або страта пачуцьця любові да роднага краю — да свае зямлі — як і кожнае запярэчаньне законаў прыроды, жорстка помсьціцца.

---

63 Гэтая праца Тамаша Грыба засталася няскончанай. У наступным нумары часопіса быў змешчаны другі раздзел артыкула, прысвечаны гісторыі Біблії, і пра Скарыну там не згадваецца. Раздзел заканчваўся абяцаннем працягу, але яго не было.

64 Друкуецца паводле: Iskry Skaryny. № 3. Studzień 1934. S. 1–2. Арыгінал тэксту надрукаваны лацінкай.

Хто траціць пачуцьцё любові да роднага краю, той разам з тым траціць і сваю ўроджаную асабістасьць: перастае быць вольным чалавекам, памірае, як памірае птушка ў няволі, як памірае кветка ў чужым асяродзьдзі.

Вось чаму, каб жыць, каб захаваць і наяўна выявіць сваю ўроджаную асабістасьць, сваю самабытную натуру, трэ заўсёды быць у згодзе з сваёй чалавечай уроджанасьцю: ніколі, ні пры якіх абставінах не зракацца пачуцьця любові да роднага краю, не пакідаць зямлю сваю родную.

Згэтуль наш покліч: Беларусы, не пакідайце зямлю сваю родную, каб не памерлі!

Мудрасьць, чэснасьць і добрыя абычаі таго вымагаюць, каб беларусы як нацыянальнае суспольства, жывучы спрадвеку на сваей зямлі, каб бяз страху і сумліву баранілі сваё суспольнае дабро — сваю зямлю, свой родны край, сваю Бацькаўшчыну, каб так заўзята і самаахвярна баранілі, як пчолы бароняць свае вульлі.

Таму наш покліч: ані аднэй пядзі беларускае зямлі чужынцам!

*Тамаш Грыб*

## Шляхам Скарыны[65]

Народ дзівіўся Яго навучаньню:
Бо навучаў, нібы маючы сілу, а не
як кніжнікі і фарысеі.

*Эв. ад Мацея, 7, 29*

У гісторыі беларускага народу назіраецца пэўны рытм чарадаваньня ўздойму і заняпаду. Гэты своесаблівы рытм — вось нібы зьмена дня і ночы, сьвятла й цемры, прыліву і адліву — адбываецца ў гісторыі ўсяго чалавецтва. І нічога няма вечнага, трывалага, нязьменнага — усё цячэ, мінае, бязупынна зьмяняецца ў цягу стагодзьдзяў, во, нават і ў цягу дзесяцігодзьдзяў: адны падзеі зьмяняюцца іншымі, адна эпоха пераходзе ў іншую, процілежную; эпоха ўздойму чарадуецца з эпохаю заняпаду, пэрыяд рэвалюцыі зьмяняецца ў контррэвалюцыю, дэмакратыя ператвараецца ў дыктатуру і наадварот, няма такой дыктатуры, якая-б не ператварылася ў дэмакратыю, у волю народную, у народапраўства.

Але гісторыя народаў, як і ўсяго чалавецтва, ня ёсьць нейкі падасобны працэс, не адбываецца паміма волі й чыннага ўдзелу ў ім людзей і народаў.

---

[65] Друкуецца паводле: Iskry Skaryny. № 4. Travień, 1934. S. 1–10. Арыгінал тэксту надрукаваны лацінкай.

Гісторыя — гэта нібы дзяўчына за кроснамі: яна тчэ свае ўзорыстыя тканіны з таго матэрыялу, які ўжо раней быў прыгатаваны. Каб умелая ткачыха магла выткаць абрус ці-то дыван, павінна мець, як неабходныя прылады свае працы, ніткі й кросны. А што такое кросны, як не ўцелаішчаная (зматэрыялізаваная) наўмысная і ўсьвядомленая дзейнасьць чалавецтва; таксама і ніткі. Вольная творчасьць нават і найлепшай ткачыхі ёсьць абумоўлена тымі ніткамі, зь якіх яна тчэ, і тымі кроснамі, на якіх яна тчэ: абумоўлена наўмыснай і ўсьвядомленай дзейнасьцю іншых людзей, якія ўсё гэта падрыхтавалі, якія ўсё гэта стварылі.

Бязупынная творчасьць людзей і народаў абумоўлівае цяг гістарычных падзеяў.

Ня іначай адбываецца і ў гісторыі беларускага народу.

Гісторыя Беларусі, поўная вялікага трагізму, зьяўляецца вынікам творчасьці беларускага народу. Беларусы і сяньня маюць тое, што хочаць мець; прынамсі, маюць тое, што хоча пераважная большасьць беларускага народу.

Гэта ёсьць сумная зьява… Беларусы знаходзяцца сяньня ў вабставінах калоніяльнага нявольніцтва, прыгнечаны і паняволены чужацкімі наездцамі. Дык можа і ўзаўпраўды беларусы хочаць быць нявольнікамі? Не, гэта няпраўда, што беларусы хочаць быць нявольнікамі. Беларусы хочаць волі, хочаць незалежнасьці. З усёй яскравасьцю аб гэтым сьведчыць тое напружанае змаганьне, якое ўсьцяж адбываецца з гнабіцелямі на ўсім абшары беларускае зямлі ад Ловаці аж да Мухаўца.

Кожны сьвядомы беларус, які ня можаісьці на кампраміс з сваім сумленьнем, ня можа спакойна ўзірацца на зьдзірства і паняверку свайго роднага краю, ня можа пагадзіцца з існуючымі сяньня парадкамі гнёту і паняволяньня беларускага народу — становіцца беларускім народным рэвалюцыянэрам. Ён не апускае ўжо безрадна сваіх рук, не паўтарае заёрзаных словаў, што, казаў той, мая хата з краю і я нічога ня знаю, або, маўляў, галавой сьцяну не праб’еш; адважна становіцца ў шэрагі змагароў за волю і незалежнасьць Беларусі. Ён сваім жывым прыкладам запалівае сэрцы мільёнаў. І недалёка ўжо той час, калі ўзварухнецца наш аграблены, прыгнечаны народ, на сьвет цэлы пакажа сваю моц і сілу, што аж зямля задрыжыць, аж віхры зашумяць, загудуць. І пранясецца тады над нашым родным краем вялікая бура. І распачнецца тагды новая бачынка ў гісторыі беларускага народу…

Растуць і пашыраюцца шэрагі беларускіх народных рэвалюцыянэраў!

* * *

Чалом табе, спрадвечны рытм падзеяў, бо ты ёсьць рух, бо ты само жыцьцё.

Чалом табе, людзкая творчасьць, бо ты заўзятая, імкнешся аўладаць стыхійны цяг падзеяў.

Чалом табе, чалом, уваскрасаючы лазар, табе, лапцюжніку, табе, беларускі народзе, бо ты сягнуў стварыць лад новага жыцьця.

Чалом табе, беларуская народная рэвалюцыя, бо ты наша надзея, бо ты адзіная нясеш нам праўду, волю, незалежнасьць.

Чалом табе, чалом!

* * *

Быў час, калі беларускі народ быў вольны і меў сваю незалежную дзяржаву; стаяў на ўзвышшы дасягненьняў агульналюдзкае культуры. Гэта была эпоха Францішка Скарыны: з канца XV-га і аж да канца XVI стагодзьдзяў; найвялікшы ўзьём культурнай, гаспадарчай і палітычнай магутнасьці Беларусі. Гэта была эпоха, калі беларускі народ, у асобе сваіх вышэйшых станаў, заўладаўшы вялікім водным шляхам з Варагаў у Грэкі, замацаваў і пашырыў свае дзяржаўныя межы ад Балтыцкага і аж да Чорнага мора. У беларускай гістарычнай літаратуры гэта эпоха называецца эпохаю адраджэньня і рэфармацыі.

Францішак Скарына, родам з старадаўняга Полацку, у лекарскіх навуках доктар, слаўны друкар і перакладчык Бібліі на беларускую мову, у сваіх векапомных прадмовах да зробленага ім перакладу Бібліі, даў выклад і тлумачэньне сыстэмы праўды, дабра і справядлівасьці, даў глыбокі ідэйны зьмест тагочаснай беларускай культуры, даў цьвёрды кірунак тагочаснай беларускай дзяржаўнай палітыцы.

* * *

*«Праца, якую распачаў Скарына»* — чытаемо ў прадмове да зборніку «400-лецьце беларускага друку», які апрацаваны быў Інстытутам Беларускае Культуры (Менск, 1926)[66], — *«была вынікам таго нацыянальна-культурнага руху, што ахапіў беларускую шляхту і буржуазію ў XVI сталецьці. Рух гэты меў у сваей аснове шмат супольнага з пaглядамі і настроямі італьянскага адраджэньня. Францішак Скарына паклаў сваей працай пачатак літаратурнай беларускай мове і беларускай нацыянальнай літаратуры, будучы прадстаўніком тагочаснага адукаванага беларуса. Працу Скарыны пераймальна вялі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, перакладчык эвангельля на беларускую мову, які імкнуўся наблізіць яго да народных мас у мэтах падняцьця іх маральнага і*

[66] Маецца на ўвазе згаданы вышэй зборнік: Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925.

*культурнага ўздойму. Нацыянальная і культурная дзейнасьць Скарыны і яго пераймальнікаў ёсьць яскравы пакзьнік таго высокага культурнага становішча, якое займала Беларусь у XVI-м сталецьці»*.

Францішак Скарына быў першы беларускі гуманіст-адраджэнец.

*«Гуманізм»* — кажа праф. Ул. Перцаў[67] — *«зьяўляецца аднэй з самых выдатнейшых эпох у гісторыі разьвіцьця чалавецтва. Гэта была ўзапраўдная рэвалюцыя духа, якая перавярнула ўвесь стары круг прадстаўленьняў і прымусіла ўсіх захопляных ёю адчуваць, думаць і жадаць па-новаму»* (Гуманізм у Італіі, бач. 1)[68].

Вялікая рэвалюцыя духа адбывалася таксама і на Беларусі. Францішак Скарына — гуманіст-адраджэнец — быў першы беларускі рэвалюцыянэр-народнік.

* * *

Уважліва паўзіраемся на тыя новыя думкі-ідэі, што ўзварушылі чалавецтва ў эпоху адраджэньня.

Гуманізм ў эпоху адраджэньня — гэта поўнае запярэчаньне сярэднявечнага сьветапагляду, усёй сярэднявечнай культуры.

У аснове сярэднявечнай культуры ляжала, як ведама, схолястычнае навучаньне аб божаскае субстанцыі, аб сутнасьці таго, што называемо Богам, аб межах Яго моцы, аб Сьвятой Тройцы, аб гіерархіі анёлаў, арханёлаў, аб іх уласьцівасьцях і асаблівасьцях, аб тым, як выглядала душа чалавека, калі ня быў яшчэ дакананы першапачатковы грэх Адама ў Раі. Чалавецтва зграшыла праз Адама ў Раі, але збаўлена праз Езуса Хрыста на Галгофе. Крыж на Галгофе — сьмерць і ўваскрашэньне да вечнага жыцьця ў небе — гэта сымбаль сярэднявечнае культуры. Тэалёгія як адзіная тагачасная веда накіроўвала людзкое думаньне выключна ў бок штодзённых клопатаў аб збаўленьні душы. Да гэтага лучыўся яшчэ аскетызм — уцяканьне ад жыцьця. Кляштар стаў адзіным мейсцам, дзе ўзапраўдны хрысьціянін, зракаючыся ўсіх радасьцяў жыцьця, сваіх бацькоў, радні, усяго супольства, можа знайсьці супакой і падрыхтавацца да вечнага блажэннага жыцьця ў небе. Страх перад пеклам. Згэтуль пагарда і поўнае засуджваньне ўсіх праявяў людзкіх пачуцьцяў ласкі, сьвецкай радасьці. Цярпець і сумаваць аб шчасьці вечным, жыць у пакоры, у паненскай чыстасьці — вось ідэал жыцьця сярэднявечнага чалавецтва.

Гуманізм у супярэч з сярэднявечным аскетызмам і супранатуралізмам паставіў мэтаю прабуджэньне і адраджэньне чалавека, усіх здольнасьцяў чалавечае натуры, натуралізм. Не ўцяканьне ад жыцьця, а

[67] **Уладзімір Перцаў** (1877–1960), гісторык, доктар гістарычных навук, акадэмік АН БССР, заслужаны дзеяч навукі БССР.

[68] Маецца на ўвазе артыкул Уладзіміра Перцава «Гуманізм у Італіі» ў зборніку «Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925» (Мінск, 1926).

зварот да жыцьця; поўнае і ўсебаковае выкарыстоўваньне ўсіх праяваў жыцьця, якія выныраюць з прыроднае натуры чалавека: браць ад жыцьця поўнымі прыгоршамі ўсё тое, што толькі можна ўзяць!

У супярэч з сярэднявечным дагматызмам і суправацыяналізмам, надразумовым веданьнем, паставіў гуманізм на першым мейсцы прыродны розум чалавека, вольную думку кожнае чалавечае асабістасьці. У працілежнасьць з аўтарытарызмам — поўнае самаазначаньне чалавечае асабістасьці. Згэтуль індывідуалізм. Не паходжаньне й не прыналежнасьць да таго ці іншага стану стварае вартасьць чалавечае асобы, а толькі тое, чым зьяўляецца сам чалавек: яго розум, воля, прыродная натура[69].

Чалавек, абуджаны з доўгага сярэднявечнага сну, накінуўся зь няўтомным жаданьнем на ўсе рэальныя праявы жыцьця; у яго вачох закрасавала жыцьцё ўсімі барвамі радасьці. Радасьць з жыцьця — аснаўная падваліна гуманізму.

У супярэч з сярэднявечным уцяканьнем ад жыцьця, клопатамі аб збаўленьні душы — паземскае жыцьцё ня мела ніякай вартасьці, усё па сьмерці, чаканьне сьмерці, якая збавіць ад цярпеньняў, — гуманізм, не адкідаючы неба, цьвёрда становіцца нагамі на зямлю, абапіраецца на глебу, дзе бачыць шмат красы. Прырода нібы ізноў адчыняецца перад вачыма чалавека. Распачынаецца досьлед і навуковае вывучэньне прыродных зьяваў. Не манах, які пагарджаў паземскім веданьнем, а жывая чалавечая асабістасьць; не тэалёгія, а філязофія пачынае церабіць шлях да новага жыцьця; пачынаецца расьцьвет прыродных і суспольных навук. Згэтуль іншы пагляд на прыроду і чалавека, на

---

[69] Параўн. з думкай С. Падокшына: *«З гледзішча светапогляднага, пратэстантызм сцвярджаў аўтарытэт індывіда, асобы. Даследнікамі гэты важны момант рэфармацыйнай дактрыны трактуецца як духоўная рэвалюцыя. Гэта адыграла вялікую ролю ў станаўленні светапогляду новага часу, раннебуржуазнай свядомасці. Адным з стваральнікаў і выразнікаў канцэпцыі пазітыўнага індывідуалізму, духоўнай свабоды з’яўляўся вялікі палачанін Францыск Скарына. У сваіх прадмовах да Біблії ён сцвярджаў рэфармацыйна-гуманістычны прынцып асабістага, пазацаркоўнага стаўлення да Бога і веры. Менавіта з гэтай мэтай ён пераклаў Святое Пісанне «для люда простого, посполитого», г. зн. аддаў яго на суд індывідуальнага розуму простага чалавека, дэмакратычнага беларускага чытача. У сваіх шматлікіх прадмовах Скарына, па сутнасці, заклікаў адукаваных беларусаў самастойна вывучаць Біблію і свабодна абмяркоўваць яе змест. Больш за тое, Скарына сцвярджаў не толькі свабодную, пазацаркоўную рэлігійнасць, але і мараль, падставай якой павінна быць Біблія, а таксама розум і сумленне чалавека»* (Падокшын, Сямён. Рэфармацыя ў Беларусі: сэнс, вынікі, лёс // Рэфармацыя і грамадства XVI стагоддзя: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. Мінск, 29 лістапада 2003. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. С. 15).

суспольства, на этыку; кожны чалавек індывідуальна нясе адказнасьць за свае правіннасьці перад суспольствам і перад Богам.

Жаданьне пакоры, так характэрнае для сярэднявечнага чалавека, замяняецца выбойнасьцю, замяняецца баёўнасьцю за прыродныя правы чалавека.

Гэтак новая гуманістычная культура зьвярнула ўвагу чалавека зь неба на зямлю; чалавек стаў у цэнтры ўсіх імкненьняў. Паглыбіць і ўдасканаліць уласнае духовае жыцьцё, дасягнуць найбольшага ўзвышша разьвіцьця ўсіх прыродных здольнасьцяў чалавечае натуры — вось новы ідэал гуманізму.

Згэтуль разуменьне дабра і зла: дабром будзе ўсё, што спрыяе разьвіцьцю і ўдасканаленьню чалавечае асабістасьці.

Пад націскам гуманізму ламаўся і распадаўся стары сярэднявечны сьветапогляд, а разам зь ім і ўсе яго аснаўныя падваліны: супранатуралізм, супрарацыяналізм, тэалёгія, аскетызм, дагматызм, аўтарытарызм. На шырокі прастор волі выходзіў новы чалавек: вольная крытычна-думаючая асабістасьць; узьнікалі новыя формы суспольнага жыцьця і новае асьветы.

Гуманізм зрабіў вялікі пераварот: сэкулярызаваў сьветапогляд; перамясьціў цэнтр людзкога думаньня зь неба на зямлю, з клопатаў аб вечным загробным жыцьці ў сьвет рэальных чалавечых інтарэсаў, у сьвет рэальных міжлюдзкіх узаемаадносін.

Супранатуралізм быў зьменены рэалізмам, а тэалёгія — філязофіяй.

* * *

Гуманістычны рух, распачаты яшчэ ў другой палавіне XV-га сталецьця ў Італіі, хутка пашырыўся на ўсё асьвечанае суспольства Эўропы. І калі ўжо ў пачатку XVI-га стагодзьдзя наш Францішак Скарына быў у Падуі, дзе атрымаў навуковую годнасьць доктара лекарскіх навук, гуманізм быў у поўным росквіце. Усе вышэйшыя і заможныя станы эўрапэйскага суспольства былі натхнёнымі вызнаўцамі гуманітных ідэалаў. Гэта мела, аднак, і сваю адʼемную бачынку: гуманістычны рух пачаў выраджацца ў крайні індывідуалізм і арыстакратызм.

Адначасова ў шырокіх народных масах — пэўна-ж, ня без уплыву гуманізму — распачаўся вялікі рэлігійны рух ва ўсёй Эўропе, які вядомы ў гісторыі пад назвай рэфармацыі. Гуманізм у злучэньні з рэфармацыяй даў аснаўны зьмест культуры новае эпохі.

* * *

Галоўная мэта рэфармацыі палягала ў тым, каб ачысьціць касьцёл ад усіх напластаваньняў сярэднявечнае схолястыкі, вярнуцца да чыстых крыніц узапраўднага хрысьціянства — да Эвангельля.

Хрысьціянскае веравызнаньне, якое спачатку азначала адраджэньне чалавека ў духу і ў праўдзе, у дадзенай любові да бліскага, абярнулася ў сярэднявеччы ў касьцёльна-царкоўную ўстанову, дзе запанавала вонкавая форма, абраднасьць. Унутранае духоўнае жыцьцё хрысьціяніна было заменена вонкавым культам. Напроці шчырасьці і непасрэднасьці першапачатковых хрысьціян зь іх вялікай самаахвярнасьцю ўзьнікла казуістыка, шахрайства[70], гандаль з адпушчэньнем грахоў. Касьцёльная гіерархія, пачынаючы ад папежа і аж да клерыка, займалася тым гандлем: за грошы можна было адкупіцца ад учыненых грахоў; за грошы можна было купіць сабе збаўленьне і вечную блажэннасьць у небе.

Рэлігійная рэфармацыя, такім чынам, адбывалася ў двух напрамках: маральнае аздараўленьне або і зусім адстырчаньне касьцёльнае гіерархіі і зварот да першапачатковага хрысьціянства.

* * *

У гісторыі рэфармацыі вызначнае мейсца займае Прага-Чэская, дзе распачаў сваю дзейнасьць Ян Гус і яго асабісты прыяцель Еронім Пражскі[71]. У Празе-Чэскай распачаў сваю дзейнасьць і наш Францішак Скарына: у 1517 годзе зьявіўся тут першы адбітак яго перакладу Бібліі на беларускую мову.

Нельга не адзначыць пры гэтым, што пераклад Бібліі на жывыя народныя мовы быў абумоўлены ідэйным зьместам рэфармацыі і гуманізма: прабуджэньня ў чалавеку самастойнае думкі.

Індывідуалізм як аснаўная падваліна гуманістычнага руху з усёй яскравасьцю выявіўся і ў рэфармацыі. Асабістая адпаведнасьць кожнага чалавека за свае пастулкі — гэта быў галоўны стыржэнь ідэйных мэтаімкненьняў рэлігійнае рэфармацыі. Няхай кожны думае і развважае аб сваіх добрых і благіх пастулках, бо кожны асабіста нясе за іх адказнасьць перад Богам. Кожны чалавек можа дасягнуць збаўленьня свае душы толькі асабіста, сваім асабістым жыцьцём, добрымі пастулкамі, як аб гэтым навучае Эвангельле. Няхай кожны чытае Эвангельле ў той мове, якая найбольш яму зразумела, — у сваей роднай мове, каб добра зразумеў, а зразумеўшы, каб жыў паводле Эвангельля.

Пэўна-ж, гэтым самым разьбівалася ў шчэпкі сярэднявечнае цьвярджаньне, што чалавек можа дасягнуць збаўленьня сваёй душы толькі праз каталіцкі касьцёл — верай у тое, аб чым навучаюць каталіцкія аўтарнікі.

Трэба мець на ўвазе пры гэтым, што навучаньне каталіцкага касьцёлу, як і праваслаўнай царквы, закладаецца пераважна не на

---

[70] **Шахрайства** — ашуканства.

[71] **Іеранім Пражскі** (чэш. *Jeroným Pražský*, каля 1380 — 1416), чэшскі рэфарматар, навуковец, сябра Яна Гуса.

Эвангельлі, а на тых догматах, якія ўстаноўлены касьцёльна-царкоўнымі айцамі ды іх зборамі (касьцёламі і саборамі).

* * *

Гуманізм і рэфармацыя ў гісторыі Эўропы азначаюць пераходную эпоху ад сярэднявечнага касмапалітызму да сучаснага разуменьня нацыі.

Ідэя нацыі як жывой калектыўнай асабістасьці наяўна выяўляецца нават у самым факце ўжываньня роднае мовы. Заместа латыні — жывая народная мова. А на Беларусі: заместа латыні і старабаўгаршчыны — жывая беларуская народная мова.

Зразумела, дзеля гэтага, што ў касьцёльным жыцьці, побач з жывой народнай моваю, пачалі набываць адпаведнае мейсца і значаньне ўсе іншыя элемэнты народнае творчасьці: адзіны і ўнівэрсальны каталіцкі касьцёл пачаў распадацца на шэраг народных веравызнаньняў.

*«Янам Гусам»* — кажа Францішак Дрціна[72] — *«пачынаецца рэлігійная рэфармацыя чэскага народу, робяцца першыя спробы заснаваньня чэскага хрысьціянства»* (František Drtina. Myšlenkovy vyvoj evropskeho lidstva. Praha, 1926. Sv. II. Бач. 60).

Аналягічную зьяву бачымо ў Нямеччыне (Лютэр[73]), у Англіі (Уікліф[74]), у Швэйцарыі (Кальвін[75]).

Чэскае гусіцтва, нямецкае лютэранства (пратэстантызм), швэйцарскі кальвінізм (гэльвецкае веравызнаньне) — усё гэта ёсьць факты жывой рэчаістасьці, якія наяўна сьведчаць аб уплыве рэфармацыі і гуманізму на заснаваньне народных веравызнаньняў.

Ня іначай было і на Беларусі: Францішак Скарына сваім перакладам Бібліі на беларускую народную мову, усёй сваёй дзейнасьцю палажыў пачатак беларускай рэлігійнай рэфармацыі, палажыў моцныя падваліны для заснаваньня беларускага народнага веравызнаньня, беларускага хрысьціянства.

---

[72] **Францішак Дрціна** (чэш. *František Drtina*, 1861–1925), чэшскі філосаф, педагог, прафесар Пражскага ўніверсітэта.

[73] **Марцін Лютэр** (ням. *Martin Luther*, 1483–1546), нямецкі багаслоў, пачынальнік рэфармацыйнага руху ў Еўропе ў XVI ст.

[74] **Джон Уікліф** (анг. *John Wycliffe*, каля 1331 — 1384), англійскі багаслоў, прафесар Оксфардскага ўніверсітэта, заснавальнік вучэння, што стала асновай руху лолардаў, які папярэднічаў пратэстантызму.

[75] **Жан Кальвін** (фр. *Jean Calvin*, 1509–1564), французскі багаслоў, дзеяч Рэфармацыі ў Швейцарыі, заснавальнік аднаго з кірункаў пратэстантызму — кальвінізму.

* * *

Францішак Скарына ўважаў сябе хрысьціянінам; але нідзе, ні ў адным месцы сваіх твораў, ні адным словам ня кажа ён аб тым, што ён праваслаўны ці-то каталік. Мабыць, не належаў ні да праваслаўнае царквы, ні да каталіцкага касьцёлу. Ва ўсялякім прыпадку праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл былі чужыя для рэлігійнае сьвядомасьці Скарыны; чужыя былі яму ня толькі сваёй вонкавай, паказной абраднасьцю, але і сваім унутраным зьместам — сваім выкладам і тлумачэньнем хрысьціянскага навучаньня. Скарына дае свой выклад і сваё тлумачэньне аснаўных падвалін хрысьціянства. Хто з гэтым не пагаджаецца, запрашаемо разам з намі ўважліва чытаць яго векапомныя прадмовы да зробленага ім перакладу Бібліі.

Возьмем хоць бы такі прыклад: пагляд Скарыны на Біблію. Ён кажа: *«Сьвятое пісьмо ўсе іншыя навукі перавышае, таму што ў ім чытаемо, як пад простымі словамі тайна хаваецца, і моладзі, як і людзям простым простым, ёсьць навука, учыцелям і людзям мудрым ёсьць падзіўленьне. Як рэчка дзіўная: мелкая — па ёй ягнё брысьці можа, а глыбокая — бо слон плаваці можа. У гэтай кнізе ўсяе прыроднае мудрасьці пачатак і канец. Бог усядзяржыцель пазнаваны бывае. У гэтай кнізе напісаны ўсе законы, якімі людзі маюць кіравацца на зямлі. У гэтай кнізе ўсе лякарствы душэўныя і цялесныя поўнасьцю знойдзіце. Тут навучаньне філязофіі добранраўнае, як маемо любіць Бога для самога сябе і бліжняга для бога. Тут справа ўсякага сходу людзкога і ўсякага места, што вераю, злучэньнем ласкі і згодаю паспалітае дабро памножана бывае. Тут навучаньне сямі навук вызваленых ёсьць поўнае»*.

Скарына дае наступную клясыфікацыю навук, пачынаючы ад канкрэтных і да найбольш абстрактных: граматыка, лёгіка, рыторыка, музыка, арытметыка, геаметрыя, астраномія. У іншым мейсцы Скарына дабаўляе да гэтых сямі вызвальных, бо самастойных, навук: гісторыю, навуку аб мудрасьці добрых абычаяў (этыку), лекарскія навукі (мэдыцыну).

Усе гэтыя навукі патрэбны чалавеку дзеля памнажэньня мудрасьці, чэснасьці, добрых абычаяў і дабра паспалітага люду.

Але чытаемо далей. У Бібліі, кажа Скарына, знаходзімо вялікую мудрасьць: *«бо ўся Салямонава і Арыстоцелева — божаская і жыцейская мудрасьць у гэтай кнізе кароткімі словамі ёсьць сказана»*. Аднак, паводле Скарыны, *«найвышэйшая мудрасьць — гэта разважаньне аб сьмерці і пазнаньне самога сябе»*.

Уся Біблія, паводле Скарыны, гэта энцыкляпэдыя людзкога веданьня, у якой простымі словамі апавядаецца аб праўдзе божаскай, і аб праўдзе жыцейскай; знаходзімо ў ёй вялікую мудрасьць Салямона і вялікую мудрасьць Арыстоцеля: рэлігію і навуку.

Скарына не адкідае, такім чынам, ні рэлігіі дзеля навукі, ні навуку дзеля рэлігіі: ён злучае рэлігію і навуку ў творчым сынтэзе пазнаньня

чалавекам самога сябе і вырашэньня праблемы сьмерці. Ён кажа: *«узапраўды мусім больш дзівіцца вялікай боскай моцы, чымся навучацца»*.

Далей Скарына кажа наступнае: *«мы, хрысьціяне, ведаючы ўсе навукі мінаючыя, патрабуем рэчы вечнае: збаўленьне душы. Чытайма няўстанна Сьвятое Эвангельле, а чытаючы, насьлядуйма прыклады нашага збаўцы Ёзуса Хрыста, а так зь Яго дапамогаю ўвойдземо ў жыцьцё вечнае і ў царства нябеснае, прыгатаванае збраньнікам божым»*.

Гэткі ёсьць пагляд Францішка Скарыны на Біблію й на Эвангельле. Ставімо пытаньне: хіба-ж так узіраецца праваслаўная царква? хіба-ж так узіраецца каталіцкі касьцёл?

Ня будземо ўваходзіць у тонкасьці багаслоўска-тэалягічнае казуістыкі. Для ўзапраўднага хрысьціяніна, паводле Скарыны, каб мець збаўленьне душы, трэба чытаць Эвангельле, а чытаючы — насьлядоўваць прыклады Езуса Хрыста.

* * *

Возьмем яшчэ і такі прыклад: пагляд Скарыны на права. Ён кажа: *«Закон ці-то права — па-рознаму ад людзей называецца — гэта ёсьць еднасьць суспольная, таму што ўсе народы аднолькава яго выконваюць — як мужа з жонкаю сумленнае злучэньне, дзяцей пільнае выхаваньне, блізкажывучых сходжаньне, рэчы пазычанае вяртаньне, насільству сілаю адпіраньне, роўная воля ва ўсім, агульная маёмасьць для ўсіх. Тым законам жывуць веруючыя ў Хрыста па ўшэствію Яго на неба, як сказана: Народу-ж веруючаму мае быць сэрца адзінае і душа адзіная, і маёмасьць адзіная, ніхто-ж ад маёмасьці свае не павінен выводзіць сваё быцьцё, але ўся маёмасьць для людзей агульная. Другое права язычаскае, бо ад многіх языкоў паходзіць — як зямель чужых мячом дабываньне, гарадоў і мест замацаваньне, паслоў без перdesignated казу адпушчэньне, міру да часу ўмоўленага выкананьне, вайны непрыяцелям сваім адпушчэньне. Іншае царскае, аб якім піша Самуіл, кажучы: Тое будзе права: забярэ сыны вашы і наробіць зь іх ездцаў і ганцоў і ўстановіць сабе ваяводаў і сотнікаў і ратаёў сваіх і кавалёў сваіх збройных ды іншых... Яшчэ ёсьць іншае права рыцарскае ці-то ваеннае, якое на вайне саблюдаецца, як упраўляці паўкамі, знаці свае месты, разумеці голасу трубаў, дзяліць карысьці, даваці аброкі. А яшчэ ёсьць іншае права мястовае, іншае марское ды яшчэ іншае купецкае — аб тых усіх і аб іншых пісаці для краткасьці перастаю»*.

Права хрысьціянскае, паводле Скарыны, — гэта закон Езуса Хрыста: роўная воля ўсім і агульная маёмасьць для ўсіх.

* * *

Мо нехта скажа: Францішак Скарына, доктар лекарскіх навук, сам чалавек рэчаістае веды, як мог ён бачыць у Бібліі адзіную крыніцу ўсяго людзкога веданьня?

Пэўна-ж, сяньня нам гэта можа паказацца дзіўным і незразумелым. Але, каб правідлова ўцяміць тое, што казаў Скарына, мусімо ўзірацца на справу з гледзішча гістарычнае пэрспектывы: чатыры стагодзьдзі таму назад Скарына іначай ня мог уяўляць сабе людзкое веданьне, як толькі ў Бібліі. Трэ мець на ўвазе, што на Бібліі і зь Бібліі вырастала ўся сучасная навука ў Эўропе. Гуманізм і рэфармацыя — гэта пераходная эпоха ад сярэднявечча да новага часу. Таму і ў паглядах Скарыны на Біблію, як гэта лёгка заўважыць, назіраецца ўжо элемэнт новага часу: прызнае самастойнае значаньне навукі, у аснове якой ляжыць праўда жыцейская; гэта ёсьць праўда з жыцьця і для жыцьця.

Аднак усё наша веданьне навуковае — мінучае, рэлятыўнае, умоўнае. Чалавек, паводле Скарыны, патрабуе нешта больш пэўнае, абсалютнае: патрабуе веданьне праўды божаскае. Калі праўдзе жыцейскае можна навучыцца, то праўдзе божаскае — толькі дзівіцца. У гэтым палягае крыніца яго рэлігійна-філязофскага сьветапагляду.

* * *

Францішак Скарына распачаў на Беларусі эпоху гуманізму і рэфармацыі. Гэта была эпоха адраджэньня — найвялікшага ўздыму беларускае культуры і незалежнае беларускае дзяржаўнасьці.

Шляхам Скарыны ішлі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі — у культурным будаўніцтве Беларусі; а ў дзяржаўным будаўніцтве Беларусі — Мікола Радзівіл[76] і Леў Сапега.

Гэта была эпоха, калі Беларусь займала свой пачэсны пасад між народамі.

* * *

Канец XVI-га і пачатак XVII-га стагодзьдзяў ў гісторыі Эўропы быў вельмі трывожны: пачала ўзрастаць і пашырацца каталіцкая рэакцыя, баёўным органам якой стаў езуіцкі ордэн. Неўзабаве ўся Эўропа апынулася ў жалезных абцугах езуітаў; падлегла каталіцкае рэакцыі.

На Беларусі езуіты распачалі сваю місыянэрскую дзейнасьць пры дапамозе Польшчы, якая з даўнейшых часоў лучыла сваю гістарычную долю з каталіцкім касьцёлам; каталіцкая рэакцыя ў Польшчы адразу прыняла палітычныя формы польскага вялікадзяржаўніцтва.

---

[76] **Мікалай Радзівіл Чорны** (1515–1565), дзяржаўны, палітычны, вайсковы, культурна-рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, пачынальнік Рэфармацыі на беларускіх землях.

Польшча стала галоўнай баштаю[77] баёўнага каталіцызму на Ўсходзе Эўропы. Каталіцкая рэакцыя на Беларусі, такім чынам, азначыла нішто іншае, як наплыў на беларускія землі польскага элемэнту, аб чым наяўна сьведчыць уся дзейнасьць Пятра Скаргі[78], аднаго з выдатнейшых прадстаўнікоў езуіцкага ордэну. Гэты польскі езуіт у кароткім часе змог павярнуць у каталіцтва значную колькасьць найбольш уплывовых прадстаўнікоў беларускае шляхты і магнатаў. За імі пайшлі іншыя. Нават родны сын Міколы Радзівіла — Юры[79] — перайшоў у каталіцтва; ламаючы слаўную традыцыю свайго бацькі, ён пачаў нішчыць на Беларусі ўсе культурныя здабыткі беларускага адраджэньня.

Езуіты, каб паглыбіць і пашырыць сваю дзейнасьць на Беларусі, выкарыстоўвалі спачатку проці беларускае рэфармацыі заняпаўшую ў той час праваслаўную царкву. Гэтым самым, у значнай меры, актывізавалі яе; прабудзілі да больш актыўнай дзейнасьці. Потым праваслаўная царква на Беларусі, знайшоўшы моцнае падтрыманьне з Масковіі, дзе самадзяржаўны праваслаўны цар, пасьля заняпаду Бізантыі, зьяўляўся нібы сымбалем магутнасьці ўсяленскае праваслаўнае царквы; з таго часу праваслаўная рэакцыя на Беларусі пачала ўсё больш і больш схіляцца ў бок Масковіі, аж пакуль, нарэшце, не абярнулася ў прыладу ўсерасейскага вялікадзяржаўніцтва.

Езуіты выкарысталі ў сваім змаганьні проці беларускае рэфармацыі касьцёльна-царкоўную вунію. Вуніяцтва, або тое-ж самае каталіцтва — толькі ўсходняга абраду, зьяўлялася ў руках езуітаў толькі прыманкаю для вясковага, сялянскага люду; змушана было, дзеля гэтага, прыстасоўвацца да беларускае народнае мовы, да народных звычаяў і абычаяў. Але, нарэшце, гэта была ўсяго толькі пераходная ступень да ўзапраўднага каталіцтва, якое на Беларусі, пад уплывам місыянэрскай дзейнасьці айцоў езуітаў, стала выключна польскім веравызнаньнем.

Так, пад напорам каталіцка-праваслаўнае рэакцыі, зьнявечана і задушана была беларуская рэлігійная рэфармацыя. На Беларусі запанавала цемра культурнага і сацыяльна-палітычнага заняпаду. Нібы тая пошасьць, пачала шырыцца асыміляцыя беларускага народу: кожны каталік пачаў уважаць сябе палякам, а кожны праваслаўны — рускім. Вуніяты — гэта сярмяжна-лапцюжнае мора беларускага сялянства — пачалі разглядацца асьвечанымі станамі спалянізаванага ці-то зрусыфікаванага беларускага суспольства як пэўная магчымасьць палянізацыі або русыфікацыі, як этнаграфічны матар'ял для ўзросту і

[77] Бастыёнам.

[78] **Пётр Скарга** (сапр. Павенскі, 1536–1612), рэлігійны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, езуіт, заснавальнік і першы рэктар Віленскай езуіцкай акадэміі, Полацкага езуіцкага калегіума, ініцыятар Брэсцкай царкоўнай уніі.

[79] **Юры Радзівіл** (1556–1600), рэлігійны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, першы каталіцкі кардынал з Вялікага Княства Літоўскага.

пашырэньня польскага ці-то рускага вялікадзяржаўніцтва; у пачатку XIX-га стагодзьдзя вуніяцтва на Беларусі было скасавана, а ўсе вуніяты былі абвешчаны рускай самадзяржаўнай уладаю *«ісконі русскімі людьмі»*, якія часова былі *«іспорчены западным латінством»*.

* * *

Каталіцка-праваслаўная рэакцыя на Беларусі прадаўжаецца ўсё яшчэ аж па сёньняшні дзень. Гняце беларускі народ. Стрымлівае магутны ўздым беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Пэўна-ж, па-рознаму ўзірацца можна на рэлігійную справу на Беларусі. Але адно трэба сьцьвердзіць як факт жывой рэчаістасьці: прабуджаная ўжо нацыянальная думка беларускага народу пільна шукае шляхі й спосабы, каб выйсьці на шырокі прастор волі і незалежнасьці. Гэта шуканьне шляхоў і спосабаў рэчаістага зьдзяйсьненьня самаістае творчасьці беларускага народу адбываецца ва ўсіх галінах культурнага, гаспадарчага і палітычнага будаўніцтва Новай Беларусі. Зразумела, дзеля гэтага, што беларускі народ ужо ня можа далей спакойна ўзірацца на тое, як праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі, зьяўляючыся палітычнымі экспазытурамі чужых уладаў, зьдзяйсьняюць сваю антыбеларускую дзейнасьць: нявечаць і нішчаць культурныя здабыткі беларускай народнай рэвалюцыі. Надыходзе час, калі беларускі народ, перамагаючы гвалт і насільства чужацкіх наездцаў, належны дасьць адпор і сваволі каталіцка-праваслаўнаму аўтарніцтву на Беларусі.

Поўнае і ўсебаковае нацыянальнае вызваленьне і адраджэньне беларускага народу немагчыма аж да таго часу, пакуль панаваць будзе на Беларусі каталіцка-праваслаўная рэакцыя, пакуль хоць адзін каталіцкі ксёнзд ці-то праваслаўны поп будзе зьяўляцца на Беларусі палітычным экспонентам польскага або расейскага вялікадзяржаўніцтва.

* * *

*«Насільлю сілай отпреніе»*.

Так, змагацца з насільствам сілаю — гэта ня ёсьць не па-хрысьціянску!

Узапраўдны хрысьціянін ёсьць толькі той, хто прызнае, а прызнаючы, выконвае закон Езуса Хрыста: роўная ўсім воля! Хто-ж гэты закон не прызнае, а прызнаючы, не выконвае, той адыходзе ад Хрыста, той перастае быць хрысьціянінам.

Праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі даўно ўжо адышлі ад ўзапраўднага хрысьціянства: яны сталі органамі насільства; палітычнага, культурнага і гаспадарчага насільства чужых уладаў на Беларусі.

Вось чаму ня будзе не па-хрысьціянску, калі беларускі народ, ужываючы сваю магутную сілу проці чужацка-гнабіцельскіх уладаў на Беларусі, не праміне ўжыць сваю сілу і проці каталіцка-праваслаўнае гіерархіі на Беларусі.

* * *

Беларускае нацыянальнае адраджэньне!

Распачынаецца новая эпоха ў гісторыі беларускага народу, эпоха волі і дзяржаўнай незалежнасьці.

Мімаволі ўспамінаецца Францішак Скарына і яго пасьлядоўнікі: Сымон Будны, Васіль Цяпінскі ды іншыя. Успамінаецца эпоха беларускага гуманізму і беларускай рэфармацыі. З глыбядзі нэтраў гістарычнае мінуўшчыны і сучаснасьці выныраюць кантрасты і паралелі. І хто з пэўнасьцю можа сказаць, што шлях Скарыны ня ёсьць той адзіны і ўзапраўдны шлях, ідучы па якім беларускі народ не дасягне ўзвышша свайго новага рэнэсансу?

Гэта пытаньне рубам ставіцца сяньня перад кожным беларускім незалежнікам. Трэба вырашаць!

Для кожнага беларускага незалежніка, які шукае рэлігійную праўду, адзіны ёсьць шлях — гэта ёсьць шлях Францішка Скарыны.

*Aut — aut, tertium non datur!*[80].

*Тамаш Грыб*

## Адвечны шлях — гэта ёсьць шлях Скарыны[81]

Ён быў сьветач, які гарэў і сьвяціў.

*Эвангельле ад Яна, 5, 35.*

Перажываем эпоху, калі ў завірусе розных падзеяў, вялікіх і малых пераваротаў, сацыяльных і нацыянальных рэвалюцый, агульнай зблытанасьці і зьбянтэжанасьці людзі і народы, нібы страціўшы свой шлях падарожны, блукаюць па вузкіх сьцежках і дарожках, усім стала цесна, усе хочаць выйсьці на шырокі шлях праўды і волі.

Дзе-ж той праўдзівы шлях?

Па якому шляху мае пайсьці наш беларускі народ, усе мы, беларусы, каб не заблудзіцца, каб не загінуць?

З глыбядзі стагодзьдзяў пазірае на нас Францішак Скарына. Ён таксама вагаўся, таксама сумаваў, мучыўся і цярпеў у сваіх сумнівах, нарэшце перамог, знайшоў той шлях праўдзівы.

---

[80] *«Або — або. Трэцяга не дадзена»* (лац.).

[81] Друкуецца паводле: Iskry Skaryny. № 5. Travień, 1935. S. 1–4. Арыгінал тэксту надрукаваны лацінкай.

Ігнат Канчэўскі, паводле мянушкі Абдзіраловіч[82], адзін з выдатнейшых прадстаўнікоў нашай народніцкай інтэлігенцыі, уяўляў сабе вобраз Скарыны як вольнага і незалежнага духа: *«Гэта — праўда, што мы мала маем, гэта — праўда, што мы шукалі па чужых дарогах і, не знайшоўшы, або здрадзілі бацькаўшчыну і шлі да чужынцаў, або вагаліся паміж варожымі кірункамі. Але зараз прыходзяць часы, калі багач зрабіўся бедаком і пойдзе на вялікі шлях шукаць з намі, гаротнымі, новага багацьця, новага чалавечага ідэалу. А з глыбіні вякоў пазірае на нас Скарына, такі ж вагаўшыйся, шукаючы, і, жадаючы нас, кажа: Над зімнымі хвалямі Дзьвіны я быў візантыйцам — Юрым, а ў Кракаве, куды мяне пацягнула за эўрапэйскаю ведай, — лацінікам Францішкам. А дапраўды, я ня быў ні Юрым, ні Францішкам, а быў вольным, незалежным духам, якога вы шукаеце, духам агульначалавечым толькі ў беларускай скуры. Шукайце ж!»*.

Так, Францішак Скарына быў вольны і незалежны дух, агульналюдзкі дух, толькі ў беларускай вопратцы.

*«Ваганьне паміж захадам і усходам»*, — кажа Канчэўскі, — *«і шчырая непрыхільнасьць ні да аднаго, ні да другога зьяўляецца асноўнай адзнакай гісторыі беларускага народу. Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары нямедама хто ён быў такі, ці каталік, ці праваслаўны, і напэўна, што ён быў і той, і другі разам, адбівае гэта зьявішча беларускага духу ў індывідуальнасьці, у душы нашага першага інтэлігэнта. Гэтую рысу беларускага беларуская народная інтэлігэнцыя захавала і да нашай пары»*.

Нам не залежыць на тым, да якіх мэтрыкаў быў запісаны Францішак Скарына, — да праваслаўных ці да каталіцкіх. Мэтрыкаваных каталікоў і праваслаўных сярод беларусаў і цяпер ёсьць многа. Нам ідзе аб тое, кім уважаў сябе Скарына.

Францішак Скарына казаў: мы — хрысьціяне; ён ніколі не казаў: мы — каталікі або мы — праваслаўныя. З усёй яскравасьцю гэта бачымо ў яго векапомных прадмовах да зробленага ім перакладу Бібліі на беларускую мову.

Што знача быць хрысьціянінам?

*«Мы, хрысьціяне»*, — кажа Скарына, — *«ведаючы ўсе навукі мінуючыя, патрабуемо рэчы вечнае: збаўленьня душы. Чытайма няўстанна Сьвятое Эвангельле, а чытаючы, насьлядуйма прыклады нашага збаўцы Езуса Хрыстуса, і так зь яго дапамогаю ўвойдземо ў жыцьцё вечнае»*.

Гэтым ёсьць даны адказ на пытаньне, што знача быць хрысьціянінам.

Быць хрысьціянінам — гэта не абавязкова быць каталіком або праваслаўным.

[82] **Ігнат Канчэўскі** (псеўд. Абдзіраловіч, 1896–1923), філосаф, паэт, публіцыст, аўтар вядомага эсэ «Адвечным шляхам».

Каталіцтва і праваслаўе ёсьць толькі формы ўшанаваньня Езуса Хрыстуса. Гэта ёсьць абраднасьці рэлігійнага культу, канфэсыі. А хрысьціянства — гэта рэлігія, адвечны шлях жыцьця.

Разважаньне аб сьмерці і пазнаньне самога сябе, — кажа Скарына, — гэта ёсьць найвышэйшая мудрасьць.

Каханьне дабра — гэта ёсьць найвышэйшая дасканаласьць.

Форма рэлігійнага культу як найвышэйшая дасканаласьць мае служыць дабру паспалітага люду.

Ці можамо гэта сказаць аб каталіцтве і праваслаўі на Беларусі?

Хіба каталіцтва і праваслаўе на Беларусі зьяўляюцца найвышэйшай дасканаласьцю беларускага рэлігійнага культу?

Каталіцтва і праваслаўе на Беларусі як формы рэлігійнага культу ёсьць наносныя і зусім чужыя беларускаму народу.

Беларускі народ мае сваю народна-традыцыйную форму рэлігійнага культу. Наяўна гэта бачымо пры ўсіх народных урачыстасьцях.

Ідэал найвышэйшай дасканаласьці ў сьвядомасьці беларускага народу як ідэал чыстай красы, абсалютнага дабра і справядлівасьці ня ёсьць ідэалам праваслаўнай царквы на Беларусі, ня ёсьць таксама ідэалам і каталіцкага касьцёлу на Беларусі.

У гэтым корань супярэчнасьцяў і няўхільнае змаганьне беларускага народу як з праваслаўем, так і з каталіцтвам на Беларусі.

Беларускі народ заўзята абараняе ад касьцёльна-царкоўнага напору сваю ўласную форму рэлігійнага культу, узіраецца на праваслаўную царкву і на каталіцкі касьцёл як на ўрадова-афіцыяльныя ўстановы, дзе трэба хрысьціць, вянчацца, спраўляць хаўтуры. З усёй яскравасьцю мы гэта бачымо на вёсцы, дзе селянін, адбыўшы ўсе касьцёльныя або царкоўныя павіннасьці, спраўляе ў сваёй хаце ўрачыстасьць так, як гэта трэба: зусім па-свойму, па-нашаму, па-беларуску, як за дзядоў і прадзедаў было.

Наш селянін ідзе адвечным шляхам.

На гэты шлях — на шлях адвечнага жыцьця — павінна ўзыйсьці і наша народная інтэлігэнцыя. Годзе блудзіць па чужых сьцежках-дарожках!

Францішак Скарына ачысьціў хрысьціянства ад касьцёльна-царкоўнага навучаньня, даў свой выклад і тлумачэньне Сьвятога Пісьма. Гэта было ў эпоху, калі ўсё народы Эўропы прабуджаліся да новага жыцьця: ухілялі сярэднявечны касмапалітызм і ўзыходзілі на шлях будаўніцтва свае ўласнае народнае культуры; закладалі свае нацыянальныя веравызнаньні як найбольш дасканальныя формы свайго нацыянальнага рэлігійнага культу.

Ян Гус палажыў пачатак чэскага хрысьціянства, Лютар — нямецкага, Кальвін — швэйцарскага, а Францішак Скарына палажыў пачатак беларускага хрысьціянства.

У іншых краёх, як у Польшчы, напрыклад, рымскае каталіцтва стала нацыянальным веравызнаньнем; візантыйскае праваслаўе асымілявалася ў Расіі і стала рускім нацыянальным веравызнаньнем.

Беларускае хрысьціянства, вядомае ў гісторыі пад агульнай назваю — Рэфармацыя, ня ўтрымалася так доўга пад націскам чужых і варожых сіл, як чэскае гусіцтва, нямецкае лютаранства, швэйцарскі кальвінізм; было зьнявечана ў раз'юшанай навале касьцёльна-царкоўнай рэакцыі.

Пад жорсткім націскам каталіцка-праваслаўнай рэакцыі зьнявечана была наша мінуўшчына, збэшчана мова, культура: беларускі народ заняпаў.

Па ўсім абшары беларускае зямлі гудзеў хаўтурны звон.

Скарына ўжо ня жыў, забыты быў Скарына.

Беларуская інтэлігенцыя, адарваная ад родных карэньняў, пачала хістацца паміж Усходам і Захадам.

Тодар Дастаеўскі[83], родам зь Віцебшчыны, шукае агульначалавечы ідэал у праваслаўі, а ў рэчаістасьці стварае рускі мэсыянізм, аснову рускага вялікадзяржаўніцтва.

Адам Міцкевіч[84], родам з Наваградчыны, шукае агульначалавечы ідэал у каталіцтве, а ў рэчаістасьці стварае польскі мэсыянізм, аснову польскага вялікадзяржаўніцтва.

Людвік Сыракомля-Кандратовіч[85], родам зь Меншчыны, сумнатужліва ўзіраецца на родны край, плача яго ліра, сьпявае песьні-жальбы расчэплянай душы.

Гэтак жыла наша інтэлігэнцыя, што выйшла з асяродзьдзя шляхты і мяшчанства, зблудзіла й загінула.

Пачалася пара адраджэньня.

З глыбядзі нэтраў народных выходзе новая беларуская інтэлігэнцыя.

І што-ж мы бачымо?

Ізноў хістаньне прдаўжаецца: адны ідуць шляхам Дастаеўскага і робяць *«общерусское дело»*, другія ідуць шляхам Міцкевіча і будуюць *«ойчызну»*, а іншыя ў бязьдзейнасьці сумуюць з расчэплянай душой.

Але ўзыходзіць золак новых дзён.

---

[83] **Фёдар Дастаеўскі** (рус. *Фёдор Достоевский*, 1821–1881), расійскі пісьменнік і філосаф.

[84] **Адам Міцкевіч** (1798–1855), беларуска-польскі паэт, публіцыст, дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

[85] **Уладзіслаў Сыракомля** (сапр. Людвік Уладзіслаў Францішак Кандратовіч, 1823–1862), беларуска-польскі паэт, драматург, перакладчык, літаратурны крытык і краязнаўца.

Адбываецца магутны ўздым беларускай народнай рэвалюцыі. Сярод інтэлігэнцыі назіраецца ўсеагульная зблутнасьць і поўная зьбянтэжанасьць.

У гэты час грыміць прарочы голас: «*Хай будзе нашым правадыром і сьветачам Францішак Скарына!*».

*«Уплывы Захаду і Ўсходу»*, — кажа Канчэўскі, — *«у перакручаных, […] часамі карыкатурных выразах круцілі і гвалцілі душу беларуса, толькі прымушаючы яго ўбачыць, што ў чужой скуры заўсёды дрэнна, што трэба вытвараць нешта сваё, роднае, блізкае, архаічнае. Шмат вякоў беларусы вялі змаганьне з чужынскімі варожымі ўплывамі за сваю душу, […] прыбліжаюцца часы, што будзе яна вольнай»*.

Браты беларусы!

Стварайце сваё роднае, блізкае, архаічнае, стварайце сваю ўласную беларускую нацыянальную форму рэлігійнага культу!

Хай нашым сьветачам і правадыром будзе Францішак Скарына!

Адвечны шлях жыцьця — гэта ёсьць шлях Скарыны!

*Тамаш Грыб*

## Да пытаньня аб паходжаньні гэрбу Пагоня[86] (прычынак да высьвятленьня беларускай гэральдыкі)

Многа стагодзьдзяў мінае ўжо з таго часу, як на Беларусі пачаў ужывацца дзяржаўны гэрб Пагоня: на белым кані сядзіць удалы ваяка, у правай руцэ ён трымае высока падняты меч, а ў левай мае шчыт, на якім ёсьць знак шасьціканцовага крыжа, апрануты ён з галавы і аж да ног у жалезны панцыр-броню, на галаве жалезны шлем, які закрывае ўсё аблічча, украшаны даўгім квяцістым пяром, моцна і ўпэўнена трымаецца ён у сядле, вострымі астругамі паўзбуджае каня да борскага скоку. Куды ён сьпяшыць, ваяка ўдалы; на каго ён нападае, ці мо бароніцца ён ад каго?

Ваяка на белым кані, пачынаючы з XIII ст., а можа нават і раней, і аж да канца XVIII ст., — гэта быў сымбаль дзяржаўнай самастойнасьці і незалежнасьці беларускага народу; узнаўленьне беларускае народнае дзяржаўнасьці ў 1917 г. — Першы Ўсебеларускі Кангрэс, на якім абвешчана было, што на ўсім абшары беларускае зямлі ўстанаўліваецца беларуская народна-рэспубліканская ўлада, — адбылося пад знакам старадаўняга сымбалю: на бел-чырвона-белым сьцягу ў залатых пра-

---

[86] Друкуецца паводле: Грыб, Тамаш. Два артыкулы // Запісы БІНіМ. № 35. Нью-Ёрк — Менск, 2012. С. 170–180. Першапублікацыя: Iskry Skaryny. № 5. Travień, 1935. S. 69–77.

меньнях сонца ваяка на белым кані; гэта ёсьць сымбаль дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Што азначае гэты сымбаль — ваяка на белым кані; хто ведае цяпер, які зьмест укладаўся ў гэты старадаўні сымбаль нашымі продкамі на ўсьвеце гісторыі?

Спрабуемо адказаць на гэтыя пытаньні.

На Беларусі, асабліва ў асяродзьдзі беларускага сялянства, існуюць аж па сяньняшні дзень такія звычаі і ўрачыстыя абраднасьці, якія сваім паходжаньнем сягаюць у глыбіню старадаўнасьці, або, як гэта кажуць, у даўно мінулыя часы паганства. Адным з такіх звычаяў зьяўляецца, напрыклад, урачыстае спатканьне вясны: юр'еўскае сьвята, юр'я, калі вітаюць вясну.

У старыя часы юр'я спраўлялася вельмі гучна і слаўна; прыпадала на другую палавіну красавіка месяца або на пачатак траўня па новаму стылю, калі распачыналіся першыя працы ў полі пад ярыну. Гэта было сьвята вітаньня бога сонца Ярыла.

Яшчэ ў канцы XIX ст., як сьцьвярджае А. Фамінцын[87], у сьвядомасьці беларусаў, якія наагул захавалі ў абраднасьці і вераваньнях сваіх многа вельмі старадаўніх рысаў і матываў, — не пераставаў жыць Ярыла ў сэньсе бога вясеньняга сонца (А. Фаминцын. Божества древних славян. Спб., 1884. С. 220).

Успаміны аб Ярыле захаваліся на Беларусі, як сьцьвярджае А. Афанасьеў[88], вельмі жыва: *«Беларусы ўяўляюць яго маладым прыгожым хлапцом на белым кані і ў белай вопратцы, на галаве ў яго вянок зь вясеньніх палявых кветак, а ў руцэ трымае жмені жытных каласоў, ногі ў яго босыя. Там, дзе ступаў старынны бог Ярыла сваімі босымі нагамі, то зараз-жа вырастала густое жыта, а куды абяртаўся ягоны пагляд — там расьцьвіталі і каласы: «А дзе-ж ён нагою — там жыта капою, а дзе-ж ён зірне — там колас зацьвіце»* (А. Афанасьев. Поэтические воззрения славян на природу. Том второй. Москва, 1865. С. 441–442).

Назва Ярыла захавалася на Беларусі аж да апошняга часу; сягае сваім паходжаньнем аж у глыбядзь старадаўнасьці.

Слова Ярыла складаецца з кораня *«яр»* і канцоўкі *«ыла»*.

Корань *«яр»* адпавядае санскрыцкаму *ar*, якому, у свой чарод, адпавядае грэцкае *Ερ*.

*Ar* у санскрыце азначае дзейнасьць узвышаную, рух наверх; канцоўка *«ыла»*, як, скажамо, *«іла»*, *«ала»*, маючы ў сабе суфікс мінулага

---

[87] Відаць, маецца на ўвазе: **Аляксандр Фамінцын** (рус. *Александр Фаминцын*, 1841–1896), музычны крытык, кампазітар, аўтар прац па фальклоры.

[88] **Аляксандр Афанасьеў** (рус. *Александр Афанасьев*, 1826–1871), расійскі збіральнік фальклору, даследчык славянскай культуры, гісторык, літаратуразнаўца.

часу прычасьця дзейнага залогу, азначае бязупынную дзейнасьць, як пэўную ўласьцівасьць таго, што дзейнічае. Напрыклад: Купала, Вазіла, ня йначай і Ярыла.

Канцоўцы «іла» адпавядае ў санскрыце *van*, якое, у свой чарод, прыраўніваецца да грэцкага *ώς*, *ώτς*.

У цэлым славянскае слова Ярыла адпавядае санскрыцкаму *Arvan* і грэцкаму *Ερώς*.

*Arvan* у пазьнейшым санскрыце азначае «кон», але ў Ведах яно больш захавала сваё першапачатковае значаньне — хуткі, бягучы, пряткі, імклівы. Гэта назва ў Ведах адносіцца да сонца і ўжываецца нават заместа сонца; інагды ўжываецца ў сэньсе каня і верхніка (усадніка, коньніка). Гэны верхнік — узыходзячае сонца. Ёсьць нават гімны ў Ведах аб сонцы, як і аб кані.

Падобна санскрыцкаму *ar*, славянскае *«яр»* таксама захавала значаньне хуткасьці, бягучасьці, прыткасьці, імклівасьці, а таксама палкасьці, сілы, сьвятла; вясеньняга або ўзыходзячага сонца. Як і санскрыцкае *ara* азначае хуткі і прыткі, так і наша беларускае *«ярам»* — хутка, прытка.

Галоўная свомасьць сьвятла ёсьць хуткасьць яго распаўсюджаньня; у корні *«яр»* сумешчаецца значаньне хуткасьці і сьвятла.

Вясеньні сьвет узбуджае ў прыродзе сілу адраджэньня і аплоджаньня; дзеля гэтага *«яр»* ужываецца ў значаньні пладатворнай сілы вясеньняга сонечнага сьвятла.

Тое, што корнем *«яр»* трэба разумець сьвет вясеньняга сонца, можамо бачыць, напрыклад, з назвы вясны: *«яро»*, як гэта ўжываецца аж да апошняга часу ў чэскай мове; адсюль назва вяснавых пасеваў: *«ярына», «яравое поле»;* у нямецкай мове, напрыклад, захавалася нават і назва году: *Jahr*.

Вясна — гэта ёсьць час, калі ўзбуджаецца імкненьне да аплоджаньня: ярун, ярыцца, ярыць. Апрача таго, вясеньні сьвет узбуджае сілу, мужнасьць. Корань *«яр»*, дзеля гэтага, у сучаснасьці, як і ў санскрыце, азначае сілу, мужнасьць, здатнасьць; *«яры»* — гэта ўсё роўна што сільны, мужны, здатны. *Jarost* па-чэску — сьвежасьць, юнацкая сіла. Згэтуль паходзіць і яшчэ адно значаньне корня *«яр»* — гнеўны, заўзяты, ярасны; адпаведная латынскаму *ira*, а грэцкаму *ατγς*, што таксама азначае гнеўнасьць, заўзятасьць. У беларускай мове слова ярасьць ужываецца ў сэньсе буйнасьці, палкасьці, жарыстасьці, гарачнасьці (В. Ластоўскі. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 760).

Слова *«Ярыла»*, такім чынам, азначае хуткую распаўсюджанасьць вясеньняга сьвятла, якое ўзбуджае сілу ўзросту ў травах, дрэвах, плоцкую сілу ў зьвяроў і ў людзей; а таксама — юнацкую сьвежасьць, здатнасьць, адвагу і храбрасьць у чалавеку.

Згэтуль вынікае, што Ярыла як увасабленьне вясеньняга сонца зьяўляецца богам аплоджаньня, богам каханьня, радасьці, красы, сілы і дасканаласьці.

Уява сонца ў вобразе каня ёсьць супольна многім народам: у Персаў, напрыклад, — белы конь, у скандзінаўскіх народаў — сьветлагрывы конь, ня іначай і ў славян, асабліва ў нашых продкаў, — белы конь.

Узьнікла гэта ўява ў пастушаскія часы, калі ў вобразе розных зьвяроў увасабляліся сілы прыроды; гэта была эпоха зооморфізму. Напачатку земляробскае эпохі, калі пачаў узьнікаць антропоморфізм — увасабленьне сілаў прыроды ў вобразе чалавека — народная фантазія злучыла папярэдні зооморфічны вобраз з новым антропоморфічным: на белага каня быў пасаджаны малады чалавек; гэтак зьявілася ўява маладога прыгожага ўдалага хлапца, які сядзіць на белым кані — уява вясеньняга сонца.

Уява сонца ў вобразе прыгожага юнака, які разьяжджае па сьвеце на белым кані, існуе таксама і ў іншых народаў: у індусаў — Вішна, у рымлян — Апалон, у персаў — Мітра.

Наш беларускі Ярыла як бог сонца яўляецца ня іначай, як у вобразе прыгожага юнака на белым кані.

*«Аж да апошняга часу»,* — кажа П. Ефіменко[89], — *«беларусы ўяўляюць сабе Ярылу маладым, прыгожым чалавекам, які разьяжджае на белым кані»* (П. С. Ефименко. О Ярыле, языческом божестве славян. «Записки императорского русского географического общества по отделению этнографии». Том второй. СПб., 1869. С. 83).

Вобраз Ярылы ўяўляўся беларусам таксама і ў постаці дзяўчыны. Беларусы, кажа Ефіменко, у сьвята Ярылы прадстаўніком яго выбіраюць ня хлопца, але маладую прыгожую дзяўчыну, якую апранаюць так, як уяўляюць сабе Ярылу, і саджаюць яе на каня (ib., с. 83)[90]. Аб гэтым сьведчыць таксама і Дрэўлянскі ў сваёй працы «Белорусския предания» (Прибавление к Журналу Министерства Народнаго Просвещения. СПб., 1846. Книга I. С. 20–21).

Уява бога сонца ў вобразе жанчыны паходзіць, мабыць, з часоў матрыярхату, калі жанчына-матка ўважалася за прадстаўніка роду; не мужчына-бацька, але жанчына-матка стаяла на чале радавога супольства.

Нельга не адзначыць пры гэтым, што ў старадаўнія часы была вельмі пашырана ўява прыраўнаньня сонца з чалавекам: узыходзячае сонца прыраўнівалася з прыгожым дзіцянём, паўдзённае сонца —

---

[89] **Пётр Ефіменка** (рус. *Пётр Ефименко*, 1835–1908), расійскі этнограф, статыстык, бібліёграф.

[90] Ефименко, П. О Ярыле, языческом божестве славян // Записки Императорского русского географического общества по отделению этнографии. Т. 2. СПб., 1869. С. 83.

з мужам поўналетнім, вячэрняе сонца — з старым дзедам. У выніку гэтага сонца ўвасаблялася ў розных вобразах: дзіцяці, юнака і старога дзеда. Узыходзячае сонца заўсёды ўяўлялася ў вобразе прыгожага дзіцяці на руках маткі-зямлі. Гэтак: у індусаў дзіця-сонца сядзіць на руках маткі-зямлі Лакшмы, у эгіпцян сонца сядзіць на руках маткі-зямлі Ізіды, у фрыгійцаў і ў рымлян яно ўяўляецца з маткаю Цыбелаю; у славян сонца-дзіця сядзіць на галаве Жывы або Сівы, у фінаў — на руках Залатой Бабы. Аб гэтым сьведчыць, між іншым, і М. Кастамараў[91] у сваей працы «Словянская мифология» (с. 30–33)[92]. На Беларусі, аднак, гэта ўява ў яе першапачатковай форме не захавалася; поўнасьцю, можна сказаць, была выцесьнена ў народнай сьвядомасьці хрысьціянскім вобразам Маткі Боскай Вострабрамскай, што пэўна-ж па свайму паходжаньню і першапачатковым значаньню ёсьць адное і тое-ж самае — дзіця-сонца сядзіць на руках маткі-зямлі.

Ярыла як бог вясеньняга сонца ўяўляецца на Беларусі выключна ў вобразе прыгожага юнака, які сядзіць на белым кані: адзеты ў белую вопратку, на галаве ў яго вянок зь вясеньніх кветак, у правай руцэ трымае людзкі чэрап — сымбаль перамогі над сьмерцю, у левай руцэ трымае жменю жытных каласоў — сымбаль жыцьця і ўроду; ногі ў яго босыя.

Гэта ёсьць уява ўдалага і здатнага героя, які перамагае зло — зіму, як кажа І. Ружычка, і нясе людзям дабро — сьвет вясеньняга сонца (Jozef Ružička. Slovanska mythologie. Прага, 1907. С. 148).

У вобразе Ярылы, як яго ўяўляюць беларусы, злучаецца, на думку І. Снегірова[93], ідэя мужнасьці, здатнасьці і пажадлівасьці, якая праяўляецца ў цёплы і пладатворны час году — вясной, калі ўсё жывое, казаў той, бывае ў яры (И. Снегирев. Русские простанародные праздники. Выпуск IV. Москва, 1838. С. 53–54).

Час панаваньня бога сонца Ярылы быў абмежаваны — прадаўжаўся да Купальля, калі сонца дасягала найбольшага ўзвышша; з гэтага часу пачыналася ўжо панаваньне бога Купалы.

Урачыстае сьвяткаваньне Ярылы пачыналася звычайна ў той дзень, калі цяпер прыпадае Юр’я. Вясковая моладзь — хлопцы і дзяўчаты ў лепшай сьвяточнай вопратцы — зьбіраліся рана пры ўзыходзе сонца на вызначанае мейсца, прыбіралі Ярылу, пяялі пры гэтым песьні, у якіх праслаўлялі бога сонца і вясну, пасьля яны ўсёй грамадой у стройнай працэсыі на чале зь Ярылам адыходзілі на луг, дзе ладзілі гульні і розныя забавы.

---

91 **Мікалай Кастамараў** (рус. *Николай Костомаров*, 1817–1885), расійскі грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст.

92 Костомаров, Н. Славянская мифология. Киев, 1847. С. 30–33.

93 **Іван Снегіроў** (рус. *Иван Снегирёв*, 1793–1868), расійскі гісторык, этнограф, фалькларыст.

Сьвяткаваньне бога сонца Ярылы адбывалася ў старадаўнія часы і ў іншых славянскіх народаў, але ў значна пазьмененай форме (Machal. Nakres slovanskeho bajeslovi. Прага, 1923. С. 203).

Украінскае вясеньняе сьвята Каструбы (М. Грушэўскі. Істория украинской литературы. Частына перша. Київ, 1923. С. 189–191)[94], як і рускае сьвята Кастрамы (А. Афанасьев. Поэтические воззрения славян на природу. Том третий. С 725–729)[95] — гэта ёсьць толькі водгук старадаўняга, мабыць, яшчэ праславянскага ўрачыстага сьвята вясны, сьвята адраджэньня прыроды і ўваскрашэньня да новага жыцьця. Гэта сьвята ў чыстай форме захавалася толькі на Беларусі, дзе, паводле праф. др. *Lubora Niderle*[96], яшчэ ў перадгістарычныя часы была калыска славянства і скуль у наступным часе пад уплывам розных чыньнікаў разыйшліся на захад, на ўсход і на паўдзённы захад усе славянскія народы; беларусы, застаўшыся на адным і тым самым месцы, спрадвечныя тубыльцы краіны ў вадазборніку рэкаў Дняпра, Сожа, Прыпяці, Бярэзіны і Дзьвіны — ад Ловаці і аж да Буга! — захавалі ў чыстай форме ня толькі свой антрапалягічны славянскі тып, але і ўсе найбольш характэрныя асаблівасьці славянскае культуры (Проф. Др. Lubor Niederle. «Slovanske starožitnosti». Oddil I. Svazek IV. «Puvod a počatky slovanu vychodnich». V Praze, 1924. S. 11–12, 132–139 і 203–213).

Уява бога сонца Ярыла ў вобразе прыгожага юнака на белым кані захавалася толькі на Беларусі — гэта быў беларускі народны бог!

*«У іншых славян,* — кажа Афанасьеў, — *Ярыла ведамы быў пад назваю Яравіта, якога старынныя кронікі прыраўніваюць да Марса; Марс-жа першапачаткова — грамавік, спараджаючы дэманаў, а затым — бог вайны. Як нябесны ваяка (бог ярасны, гнеўны) Яравіт уяўляўся з баёным шчытом, але разам з тым ён быў і тварцом усялякае пладароднасьці»* (А. Афанасьев. Поэтические воззрения славян на природу. Том первый. С. 443)[97].

Уяўленьне Ярылы ў вобразе ваякі з баёўным шчытом у руцэ ня ёсьць чужое для беларусаў: удалы ваяка на белым кані — гэта ёсьць вобраз бога сонца Ярылы!

Калі і як адбылася ваенізацыя ўявы бога сонца Ярыла, які спачатку быў мірным богам пастухоў, а затым — земляробаў, аб гэтым нельга сказаць нічога пэўнага: настала, мабыць, у эпоху вялікіх войнаў, калі

---

94 Грушэўскі, М. Істория украинской литературы. Ч. 1. Київ, 1923. С. 189–191.

95 Афанасьев, А. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 3. Москва, 1865. С. 725–729.

96 **Любар Нідэрле** (чэш. *Lubor Niederle*, 1865–1944), чэшскі археолаг, этнограф, гісторык.

97 Афанасьев, А. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 1. Москва, 1865. С. 443.

мірная праца земляроба заменяна была на востры меч і баёўны шчыт ваякі.

Эпоха, калі мірны бог Ярыла адзеў вайсковае ўбраньне, гэта ёсьць адна з найцікавейшых эпохаў у гісторыі беларускага народу; з усёй праўдападобнасьцю можна сьцьвердзіць, што гэта эпоха прыпадае на XII і XIII стст. Беларусы ў той час вялі геройчнае змаганьне на два фронты: супраць нападаў нямецкіх крыжакоў — з захаду, і супраць татарскіх наездаў — з усходу. Гэта была вайна, як кажа М. Доўнар-Запольскі[98], у якой прыймала ўдзел усё вольнае насельніцтва — сьмерды і баяры; увесь беларускі народ ішоў у паспалітае рушэньне дзеля абароны свае бацькаўшчыны (М. В. Довнар-Запольский. Государственное хозяйство Литовской Руси при Ягеллонах. С. 8–11)[99].

Спосаб вядзеньня вайны спачатку быў чыста партызанскі. Беларусы вылаўлівалі чужацкіх наездаў, заганялі іх у лясы і балоты і там іх разьбівалі. Але вораг быў напорысты: наезды нямецкіх крыжакоў і татарскіх багдыханаў адбываліся звычайна на конях; яны лёгка маглі пераяжджаць зь мейсца на мейсца і ўхіляцца ад боя там і тагды, калі ім гэта было ня зручна; адыходзілі назад з тэрыторыі Беларусі, каб пасьля ізноў, выбраўшы адпаведны час, зьнянацку напасьці на мірнае земляробскае насельніцтва. Беларускае паспалітае рушэньне — пераважна пяхотнае сялянскае войска — павінна было рэарганізавацца ў адпаведнасьці з вымогамі часу і спосабам вядзеньня абароннае вайны: проці коньніцы чужацкіх наездаў трэ' было паставіць сваю коньніцу і праганяць ворага аж у глыбядзь іх краінаў. Гэтак паложаны быў пачатак утварэньня сталага беларускага войска. Беларускія коньнікі неўзабаве воўкам лёталі ад берагоў Балтыйскага аж да Чорнага мора: разьбілі магутную сілу татараў і нанесьлі руйнуючы ўдар нямецкім крыжакам пад Грунвальдам у 1410 г. Беларусь была вольная і ні ад каго незалежная дзяржава!

Утварэньне сталага коннага войска мела ў той час далёкасягальныя вынікі. Узьнікла значная лікам група людзей, якія займаліся выключна толькі вайсковымі справамі; гэта былі ваякі-фахаўцы. У наступным часе, паскольку справа абароны краіны і бязупыннае вядзеньне вайны прадаўжала быць першай і галоўнай справай у жыцьці і дзейнасьці супольства, ваякі-фахаўцы паступенна набывалі ўсё большае і большае моцы, занялі, нарэшце, вызначанае становішча ў суспольстве і выдзяліліся ў асобны ўпрывілеяваны стан; у летапісах таго часу знаходзімо аб іх такія азначаньні, як *seniors, majores, boni viri*. Сярод гэтых

[98] **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867–1934), гісторык, этнограф, фальклярыст і літаратуразнаўца. Быў чальцом камісіі БНР па арганізацыі Беларускага ўніверсітэта.

[99] Довнар-Запольский, М. Государственное хозяйство Литовской Руси при Ягеллонах. Киев, 1901. С. 8–11.

«лепшых людзей» не мала было, пэўна-ж, і патомных тых радавых старэйшын і тых радавых князькоў, аб якіх зь вялікай любасьцю апавядаюць нашы летапісы; большасьць, аднак, складалася з удалых ваякаў паспалітага рушэньня.

З ваякаў-коньнікаў, такім чынам, узьнікла новая радавітая шляхта; цікава, між тым, што слова шляхта паходзіць ад нямецкага слова *schlagen* — біць, а нямецкае слова *Schlact* азначае бітву; даслоўны пераклад на беларускую мову слова шляхта азначае: баёўныя людзі, ваякі.

З узьнікам шляхты на Беларусі ўзьнікла новая зямельная арыстакратыя; за сваю службу ў войску ваякі-коньнікі атрымлівалі землі, на якіх працавалі ўжо з таго часу запрыгоняныя сяляне-земляробы.

Вярхі шляхты — магнаты — займалі вышэйшыя пасады ў дзяржаве і зьяўляліся раднікамі князя — ваходзілі ў склад дзяржаўнае рады; нізы былі звычайнымі *sabienulites* — ім дано было права самаўрадаваньня, што наяўна выяўлялася ў павятовых і земскіх соймах. У наступным часе ўсе правы і вольнасьці шляхты былі кодыфікаваны ў зборніку законаў, які мае назву «Літоўскі Статут». Чаму так сталася і скуль паходзіць гэта назва «Літоўскі», «Літва», існуюць розныя дамнеўкі; дакладна пагаворымо аб гэтым пры разборы «Літоўскага Статуту». Адно тут скажамо: хай нас ня блытаюць розныя назвы, справа ня ў назьве, а ў нечым іншым; шукайма канкрэтна-рэчаісты зьмест гістарычных падзеяў.

У абставінах вайны зь нямецкімі крыжакамі і татарскімі багдыханамі, упартае й заўзятае вайны, якая вымагала напружаньня ўсіх сілаў і вялікай самаахвярнасьці, злучаліся і аб'ядноўваліся дзеля абароны свайго жыцьця і маёмасьці ўсе спародняныя славянскія пляменьні на вагромністым абшары ад Ловаці і аж да Буга; гэтак, на рубяжы XII і XIII стст. узьнікла беларуская дзяржава з цэнтрам у Наваградку. У наступным часе, пасьля адстырчаньня нямецкіх крыжакоў на захад, сталіца незалежнай беларускай дзяржавы перанесена была ў Вільню. Прыгожае места Вільня, пабудаванае ў далёкай мінуўшчыне на шляху гандлёвай пераправы праз раку Вяльлю, прадаўжала быць галоўным цэнтрам Беларусі аж да часу заняпаду беларускае дзяржаўнасьці ў канцы XVIII ст.

Беларуская шляхта як упрывілеяваная суспольная група ваякаў-коньнікаў, маючы сваё паходжаньне ў мінуўшчыне з паспалітага рушэньня ўсяго земляробскага насельніцтва, сацыяльна-палітычна адасобнілася ад працоўнага народу, уважала сябе за «шляхецкі народ», але культурна і псыхалягічна захоўвала ўсе старадаўнія звыкі і вераваньні; успрынятае ў той час хрысьціянства ня мела спачатку значнага ўплыву на культурную сьвядомасьць беларускага народу.

Гэтак: калі для беларускага селяніна-земляроба ідэалам здатнасьці, красы і сілы прадаўжаў быць прыгожы хлапец на белым кані, адзеты ў белую сялянскую вопратку, зь вянком палявых кветак на

галаве і жменяй жытных каласоў у руцэ, то для ваякі-шляхціца ідэалам здатнасьці і сілы ёсьць ваяка на белым кані, адзеты ў жалезны панцыр, з высока паднятым мячом у правай руцэ, з баёўным шчытом у левай руцэ, жалезным шлемам на галаве, які аздобляны квяцістым пяром, з жалезнымі астругамі на ботах.

Як бачымо, гэта ёсьць ніштo іншае, як звычайны соцыямарфізм: старадаўні бог сонца Ярыла адзеваецца ў розныя вопраткі!

У вобразе ваякі на белым кані мы бачымо бога сонца Ярылу і ў дзяржаўным гербе Беларусі.

Уява ваякі на белым кані ў дзяржаўным гербе Беларусі — гэта ёсьць наяўнае сьведчаньне аб тым, што ваякі-коньнікі стаялі на чале дзяржаўнага будаўніцтва беларускага народу. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: так узьнікалі на ўсьвеце гісторыі ўсе эўрапейскія дзяржавы.

Уява старадаўняга бога сонца Ярылы сустрачаецца і ў іншых гербах на Беларусі; у беларускай гэральдыцы гэта ёсьць звычайная зьява.

Паўзіраемся, напрыклад, на гэрб Скарыны: на паўкруглым шчыце чалавечае аблічча — лоб, вочы, нос і шчокі; вочы ўзіраюцца проста, адважна і мудра; на ўсе бакі ад аблічча веярам разыходзяцца вогняныя пасмы сьвятла; правы бок аблічча, частка шчакі зьнізу ўверх засланяецца іншым абліччам, якое абернута бокам і ўзіраецца кудысьці ўніз напружана і гнеўна.

Што гэта азначае — мо’ перад намі двулікі Янус?

Не, гэта ёсьць увасобленьне сьвятла і цемры, або, як гэта кажуць, сонца і месяца; гэта ёсьць вобраз узыходзячага сонца, якое праганяе начную цемрадзь.

Інакш кажучы: у гэрбе Скарыны зьяўляецца перад намі старадаўні бог сонца Ярыла ў адменным уяўленьні і ў іншай падобе; гэта ўжо ня вобраз прыгожага хлапца ў сялянскай вопратцы, ня вобраз ваякі на белым кані, але вобраз людзкога аблічча, вочы якога ўзіраюцца проста, адважна й мудра; гэта ёсьць увасобленая мудрасьць, сусьветны логос, спрадвечны творчы розум.

Гэткае ёсьць уяўленьне старадаўняга бога сонца Ярылы ў першага беларускага інтэлігента-народніка доктара Францішка Скарыны.

М. Шчакаціхін[100] уважае, што гэрб Скарыны мае сваё паходжаньне ў зацьменьні сонца; гэту сваю дамнеўку ён абапірае на тым, што сонца ў гэрбе абкружана праменьнямі-пратубэранцамі; якія можамо спасьцерагаць толькі ў часе сонячных зацьменьняў. Устанаўлівае, паводле гэтага, і дзень нараджэньня Францішка Скарыны, сына Лукі, кушніра з Полацку. 6 сакавіка 1486 г., у той дзень, калі адбылося зацьменьне сонца, якое можна было спасьцерагаць у Полацку. Гэта, маўляў, ёсьць дзень нараджэньня Францішка Скарыны; згэтуль паходзіць і гэрб Ска-

---

[100] **Мікола Шчакаціхін** (1896–1940), гісторык мастацтва.

рыны: зацьменьне сонца (М. Шчакаціхін. Калі нарадзіўся Францішак Скарына. «Полымя». Менск, 1925. № 5. С. 148–151).

Дамнеўка М. Шчакаціхіна не пазбаўлена дасьціпнасьці. І ўзапраўду: хіба можна пярэчыць таму, што 6 сакавіка 1486 г. адбылося зацьменьне сонца, якое можна было спасьцерагаць у Полацку і што ў той дзень мог нарадзіцца Францішак Скарына? Усё магчыма; магчыма нават і тое, што Францішак Скарына, ня маючы шляхецкага гэрбу, бо паходзіў з паспалітага люду, узяў сабе за гэрб матыў зацьменьня сонца; гэты матыў поўнасьцю мог адпавядаць уяўленьню старадаўняга бога сонца Ярылы, які змагаецца зь цемрадзяй.

Тое, што ў дзень нараджэньня Францішка Скарыны магло адбыцца зацьменьне сонца, або, наадварот, у дзень зацьменьня сонца мог нарадзіцца Францішак Скарына, далёка яшчэ не азначае таго, што гэрб Скарыны ёсьць толькі прыпадковае астранамічнае здарэньне — зацьменьне сонца; мае глыбейшы сэнс і сусьветна-касьмічнае значаньне. З усей яскравасьцю аб гэтым сьведчыць ужо нават хоць-бы і тое, што ў Бібліі, якую пераклаў Францішак Скарына на беларускую мову і выдаў друкам у Празе, сярод розных гравюр і аздобаў вельмі часта сустракаецца чалавечае аблічча, вочы якога ўзіраюцца проста, адважна й мудра; гэта аблічча мы бачымо і на гравюры, дзе зьмешчаны партрэт Скарыны; згэтуль узьнікла дамнеўка, што гэта, маўляў, ёсьць гэрб Скарыны. У рэчаістасьці — гэта ёсьць вобраз старадаўняга бога сонца Ярыла!

Беларуская гэральдыка ёсьць вельмі багатая, мо найбагацейшы скарб народнае творчасьці; існуе вагромністае множаства гэрбаў, якія ўжываліся рознымі асобамі й станамі беларускага супольства, як пэўныя сымбалі-знакі іх здатнасьці, красы і сілы. Але ў кожным беларускім гэрбе пры ўважлівым яго разглядзе знойдземо таемны знак бога сонца — гэта ёсьць старадаўны сымбаль бога сонца Ярыла.

Паводле гэрбаў, якія ўзьніклі на Беларусі, можамо вывучаць гісторыю разьвіцьця беларускае культуры з найдаўнейшых часоў і аж да нашых дзён; спасьцерагаемо ў іх вобразы-ўяўленьні самаістае творчасьці з эпохі старадаўняга паганства і напластаваньні пазьнейшых уплываў хрысьціянскае цывілізацыі. Наяўна гэта бачымо ў дзяржаўным гэрбе Пагоня; зьмілітарызаванае ўяўленьне бога сонца Ярыла дапоўнілася знакам хрысьціянскае цывілізацыі: на баёўным шчыце ў ваякі на белым кані з высока паднятым мячом у правай руцэ пастаўлены быў шасьціканцовы крыж.

Хрысьціянская цывілізацыя зь яе касьцёльна-царкоўнай сымболікай вядзе напорыстае змаганьне, у цягу стагодзьдзяў, з культурнай спадчынай паганства; пасьпела ўжо зьнішчыць шмат вялікіх каштоўнасьцяў самастойнае творчасьці беларускага народу.

Пад уплывам касьцёльна-царкоўнай сымболікі зьмянілася вобразатворнасьць беларускага народу; значна зьмянілася і першапачатковае

ўяўленьне бога сонца Ярыла: вясеньняе сьвята Ярыла замянілася ўжо на Юр'я.

Але ў песьні народнай, якую сьпявае беларуская моладзь на Юр'я, вобраз Ярыла застаецца ў поўнай красе і сьвежасьці: *«Разыграўся Юра конік — залаценькі конік»*.

Нашы старадаўныя продкі, як сьведчыць П. Ефіменко (ib., с 101)[101], злучалі ўяўленьні сьвятла з барвамі залатымі, белымі і чырвонымі, а ўяўленьні цемры злучалі з барвамі цёмнымі і чорнымі. У залаценькім коніку, дзеля гэтага, нельга ня бачыць вясеньняга сонца — Ярылу — у яго першапачатковым зооморфічным вобразе.

Белы конь, або залаценькі конік, у народным уяўленьні, белы конь у дзяржаўным гэрбе Пагоня — хіба гэта ня ёсьць наяўны доказ узапраўднага паходжаньня гэрбу Пагоня?

Белы конь у залатых праменьнях сонца — гэта ёсьць вобраз сілы, красы і здатнасьці; гэта ёсьць сымбаль адраджэньня і ўваскрасеньня да новага жыцьця.

Ваяка на белым кані — гэта ёсьць сымбаль перамогі.

Белая барва як уяўленьне сьвятла вельмі пашырана ёсьць на Беларусі; згэтуль, мабыць, паходзіць і назва Беларусі — белая, чыстая, вольная, як сьвет сонца.

Ня менш пашырана ёсьць на Беларусі і чырвоная барва, як чырвоны ёсьць золак на небе перад усходам сонца; згэтуль наш бел-чырвона-белы сьцяг — сьцяг адраджэньня і вызваленьня беларускага народу.

---

[101] Ефименко, П. О Ярыле, языческом божестве славян // Записки Императорского русского географического общества по отделению этнографии. Т. 2. СПб., 1869. С. 101.



# *Частка II*
# СКАРЫНАВА СПРАВА НА ЭМІГРАЦЫІ: ПЕРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАННІ І ПОСТАЦЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ Ў ІХ

## «ЗЬВІНЯЦЬ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ»[102]

Цалкам магчыма, што гэта адзінкавы выпадак, калі назва перыядычнага выдання дала назву мастацкаму твору, як тое адбылося з паэмай Алеся Салаўя «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі» (1946)[103].

Часопіс з такой назвай заснаваў і выдаваў Юрка Віцьбіч у лагерах *DP* у Нямеччыне — спачатку у Рэгенсбургу, потым у Міхельсдорфе. Выходзіў ён, паводле сведчання самога рэдактара, накладам ад 300 да 500 асобнікаў[104]. Рататарны часопіс карыстаўся попытам: у афіцыйным лісце да камендантa латышскага *DP*-лагера, куды Віцьбіч спрабаваў перабрацца (дзеля чаго нават запісаў сябе грамадзянінам Латвіі), пісалася, што ён не толькі вядомы пісьменнік, але і рэдактар рэлігійнага часопіса, які за год атрымаў 268 чытацкіх водгукаў[105].

5 траўня 1946 г. у Рэгенсбургу адбыўся з’езд праваслаўных беларусаў. Трэцім пунктам у праграме ішоў рэферат «Праваслаўе на Беларусі», што напісаў, як выглядае па стылі, сам Юрка Віцьбіч. Ён як рэдактар рэлігійнага часопіса таксама выступіў са справаздачаю. Таму калі на з’ездзе было

---

[102] Тэкст друкаваўся ў: Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 532–541.

[103] Гісторыя паэмы няпростая. Яе выхад прыйшоўся акурат на пік вайны «крывічоў» з «зарубежнікамі», што прымусіла Алеся Салаўя выступіць у друку з заяваю: *«Аўтарам назову “Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі” зьяўляецца Юрка Віцьбіч, што ведама кажнаму, хто цікавіцца беларускай прэсай. Гэты назоў запазычаны мною ў Юркі Віцьбіча. Прысьвята зьяўляецца фактычна зазначэньнем таго, у каго запазычаны назоў, і дадзена на падставе пэўных правілаў у літаратуры»*. Цалкам ліст гл.: Шыпшына. № 4. 1947. С. 40–41.

[104] Ліст Юркі Віцьбіча да Міколы Панькова ад 17.11.1947 г. Захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк).

[105] Архіў БІНіМа (Нью-Ёрк).

заснаванае Беларускае праваслаўнае аб’яднанне, лагічным сталася абвяшчэнне часопіса афіцыйным органам новапаўсталай арганізацыі.

Пад шыльдаю БПА Віцьбіч паспрабаваў заснаваць «Прэсавы Фонд імя Францішка Скарыны» — для патрэбы сваіх абодвух часопісаў (другім была «Шыпшына»), але беспаспяхова. Магчыма, гэта і было падставаю знікнення з вокладкі восьмага нумара пазнакі БПА.

Так ці інакш, але ад першага да апошняга нумара Віцьбіч, пад асноўным псеўданімам і радзей ужыванымі (А. Крыжаніч, М. Крыніцкі) ды з ці малой колькасцю непадпісаных артыкулаў і прадмовак да публікацый, выдаваў уласны літаратурна-рэлігійны часопіс (чыста рэлігійным яго было б назваць недарэчным перабольшаннем), што адлюстроўваў найперш густы свайго талерантнага рэдактара, сярод продкаў якога былі святары-ўніяты, як погляды і ацэнкі эмігрантаў-беларусаў праваслаўнага веравызнання. Тым гэтае выданне сёння і цікавае.

**№ 1. Люты 1946 г. Часапіс праваслаўных беларусаў. Рэгенсбург**

(Змест выдрукаваны на другой старонцы вокладкі; пад зместам — «Абвестка».)

**№ 2. Сакавік 1946 г. Часапіс праваслаўных беларусаў. Рэгенсбург**

(Змест выдрукаваны на другой старонцы вокладкі; пад зместам — «Абвестка», «Падзяка», «Шукаю сям'ю», адрас рэдакцыі: *Regensburg, Galgofer-Siedlung, White-Ruthenian Komitee.*)



**№ 3. Красавік 1946 г. Часапіс праваслаўных беларусаў. Рэгенсбург**

(Змест выдрукаваны на другой старонцы вокладкі; пад зместам — «Абвестка», «Шукаюць».)

Радзівілоўскі, Антон. З слова: На в’еханіе в’ Іерусалім Госпада Нашего Ісуса Хрыста. З казаньня: На уваход у Ерусалім Госпада Нашага Ісуса Хрыста. (С. 10–11)
Вялікія людзі аб Богу і рэлігіі. (С. 11–12)
Крыніцкі, Міхась. Не дазволім абражаць нашую веру. (С. 12–13)
Віцьбіч, Юрка. Можна зьнішчыць звон, але нельга зьнішчыць звон. (С. 13–14)
Сяднёў, Масей. Пра мяне ты злога ня помні. Уступ да паэмы. (С. 15–16)
Арсеньнева, Натальля. І сьніцца мне. [Верш.] (С. 16)
Віцьбіч, Юрка. Аб чым крычыць каменьне. (С. 17–18)
Салавей, Алесь. Зямля ў агні. [Верш.] (С. 18)
Золак, Янка. Я пасею песьні. [Верш.] (С. 19)
Паўлюкоўскі, У. Вялікдзень на Беларусі. (С. 19–21)
Благавешчанійка сьвятое. Валачобная. (З народнай творчасьці.) (С. 22)
На тэму дня:
Крыжаніч, Алесь. Чаму «Беларус». (С. 23–27)
В-а. Беларуская Праваслаўная Царква павінна быць нацыянальнай. (С. 28)
В-а. Царква і народ. (С. 29)
Хроніка. (С. 30–31)
Каляндар падзеяў. (С. 32)
Народны каляндар. Прыкметы, абрады і звычаі. (С. 32)
Красавік. [«Сьвятцы на красавік».] (С. 33)

**№ 4. Травень 1946 г. Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб’еднаньня. Рэгенсбург**

Асіпчык, Алесь. Найсьвяцейшая абароньніца беларускага народу. (С. 1–2)
Узор сапраўднага манаства. (З жыцьця прэпадобнага Серапіона, якога памяць ушаноўваецца 27 травеня.) (С. 2)
«Трымай дар Божы» (З жыцьця сьвятога прарока Ераміі, якога памяць ушаноўваецца 14 травеня.) (С. 3)
Псалом 76. Псалом Асафа. (С. 3)
Крыніцкі, Міхась. З крыжам прэпадобнае Ефрасіньні-Прадславы. Першы Зьезд Праваслаўных Беларусаў. (С. 4–8)
Беларусы ведалі яго напамяць. «Плач» архіяпіскапа Мілеція Сматрыцкага. Урывак з «Плачу». (С. 9–10)
Колас, Якуб. Песьня аб званох. (З паэмы «Сымон-музыка».) (С. 10–12)
Гарун, Алесь. Песьня-звон. [Верш.] (С. 13–14)
Арсеньнева, Натальля. Пачакай. [Верш.] (С. 14–15)
Б. З. Аляксей — чалавек Божы. (Працяг. Пачатак гл. у № 2.) (С. 15–21)
Багдановіч, Максім. Цемень. [Верш.] (С. 21)
Салавей, Алесь. Ля Вострай Брамы. [Верш.] (С. 22)
Віцьбіч, Юрка. «Сьвятому Благавешчаньню чалом ударыўшы». (С. 22–23)

Золак, Янка. Жыцьцё-Мора. [Верш.] (С. 23)
Вярба, Мікола. Ты мая, Беларусь. [Верш.] (С. 24)
Паўлюкоўскі, У. Юр'е. (С. 24–25)
Аб сьвятым Ягорыю. «Сьвяты Юры». (З народнай творчасьці.) (С. 25–26)
«А хто Мікалая любіць». (З валачобнае песьні.) (С. 26)
На тэму дня:
Яго Эксцэленцыі Глыбокапаважанаму Спадару Прэзыдэнту Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі Труману. [Ліст.] (С. 27)
Пастанова Беларускага Праваслаўнага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5 травеня 1946 году. (С. 27)
Зварот Беларускай Грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату. Яго Блажэнству Блажэньнейшаму Панцялейману, Мітрапаліту Беларускае Праваслаўнае Царквы. (С. 28–29)
Са справаздачы рэдактара часопісу «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі» на Першым Зьезьдзе Праваслаўных Беларусаў. (С. 29–30)
Крыжаніч, Алесь. Гара нарадзіла мыш. (С. 30–32)
Д-р Войт. Пад хруст бісквітаў. [Фельетон.] (С. 32–34)
Хроніка. (С. 34–37)
Каляндар падзеяў. (С. 37)
Народны каляндар. Прыкметы, абрады і звычаі. (С. 38)
Травень. [«Сьвятцы на травень».] (С. 39)
Шукаюць. (С. [40])
Зьмест. Абвестка. (С. [41])

**№ 5. Чэрвень 1946. Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня. Рэгенсбург**

(Змест змешчаны на асобнай старонцы. Пад ім — «Абвестка».)

Селянін. Прэпадобная Еўфрасіньня-Прадслава, князёўна Полацкая. [Артыкул.] (С. 1–4)
[Абвестка.] (С. 4)
Запалі сваім полымем нашае сэрца. Сьвятая Сафія і сьвятыя Вера, Надзея і Любоў. (С. 5)
Ці трэба абараняць сваю веру? (З жыцьця прэпадобнага Ісакія Далмацкага, памяць якога ўшаноўваецца 12 чэрвеня.) (С. 5–6)
Доказ Найсьвяцейшае Троіцы. (С. 6)
«Абы люде своей веры моцность держалі». (З «Баркулабаўскай Кронікі».) (С. 7–8)
Ідэя самабытнасьці Беларускай Праваслаўнай Царквы. [Гістарычны дакумэнт.] (С. 8–10)
Купала, Янка. Перад Сёмухай. [Верш.] (С. 10)
Жылка, Уладзімер. Сёмуха. [Верш.] (С. 10–11)

Віцьбіч, Юрка. «Божа, міласьціў будзь мне грэшнаму». «Каменная тройца» ў Віцебску. [Нарыс.] (С. 11–12)
Багдановіч, Максім. Ян і маці. [Верш.] (С. 13)
Золак, Янка. Малітва. [Верш.] (С. 13)
Чорнагай, В. Жагнаньне. Апавяданьне. Пераклад з украінскай. «Час». (С. 14–16)
Геніюш, Ларыса. Нішто так ня міла. [Верш.] (С. 16–17)
Вярба, Мікола. З табой. [Верш.] (С. 17)
Шэйн, Павал. Сёмуха на Беларусі. [Нарыс.] (С. 18)
М. Ш. Царкоўнае пяяньне на Беларусі. [Артыкул.] (С. 18–20)
«Быў на Русі чорны бог». «Із пад Слуцка, із пад Клецка». (З народнай творчасьці.) (С. 20)
На тэму дня:
Архіяпіскап Венедзікт. Палажэньне Беларускай праваслаўнай Царквы на эміграцыі. (С. 21–23)
Беларускае Праваслаўнае Аб’еднаньне. Зьлёту Беларускіх Скаўтаў. (С. 23)
Стэллінг-Мішо, О. Ватыкан і палітыка. [Артыкул.] (С. 23–25)
Уайт, Вільям Л. Савецкая царква. (С. 25–26)
Архіяпіскап Ратміраў паведамляе. (З жыцьця Праваслаўнае Царквы ў БССР.) (С. 26)
Цытата без камэнтарыяў. (С. 27)
За зялезнай куртынай. (С. 27)
Доктар І. М. Жыве Беларусь! (Да зьмены назову нашае Бацькаўшчыны.) (С. 28)
Крыжаніч, Алесь. Колькі слоў ад шчырага сэрца. (С. 29)
Хроніка. (С. 29)
[Спачуваньне.] (С. 30)
Каляндар падзеяў на чэрвень. (С. 31)
Народны каляндар на чэрвень. (С. 31)
[Зварот.] (С. 31)
Чэрвень. [«Сьвятцы на чэрвень».] (С. 32)
(Трэцяя старонка вокладкі: «Падзяка», «Шукаюць», «Шыпшына № 3».
Тамсама пазначаны адрас: *Michelsdorf bei Cham/Oberpfalz/ UNRRA, Team 187, Weissruthesches DP Lager N 4 Block 6, zim. 3*.)

**№ 6. [1946 г.] Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб’еднаньня. Рэгенсбург**

[Малітва Господняя.] (С. 1)
Бандарчык, Мікола. Прэпадобнамучанік Афанасі, ігумен Берасьцейскі. [Артыкул.] (С. 1–2)
«Любіце адзін аднаго». (З жыцьцья апостала Іоана Багаслова.) (С. 2–3)
«Ідзі да ўбогіх і жабракоў». (З жыцьця прэпадобнага Паісія Вялікага.) (С. 3)

**№ 7. [1947] Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб’еднаньня. Рэгенсбург**

Павіншаваньне. (С. 1)
Паводле Лукі Сьвятое Эвангельле. Разьдзел 2. (С. 1–2)
Віцьбіч, Юрка. «Пад Тваю міласьць прыбягаем, Багародзіца Дзева». (Абраз Божае Маці Менскае.) [Нарыс.] (С. 2–5)
Паходжаньне літургіі сьвятога Васіля Вялікага. (С. 5)
Хто даў сьвяціцелю Іоану імя Златавуснага? (С. 5–6)
Чаму разам сьвяткуюць памяць Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова і Іоана Златавуснага. (С. 6)
Гарыць лямпада Данілы Паломнка. Урывак з «Хождения Данила русьския земли игумена». Уступны артыкул М. Крыніцкага. (С. 7–8)
З мастацкае літаратуры:
Цётка. З чужыны. [Верш.] (С. 9)
Геніюш, Ларыса. Новы Год. [Верш.] (С. 9–10)
Таполя, Вольга. Ялінка. [Апавяданьне.] (С. 10–12)
Сяднёў, Масей. Пад Новы Год. [Верш.] (С. 12)
Салавей, Алесь. Каляды. [Верш.] (С. 12)
Сдуд. Юда. Фрагмэнт з аповесьці. (С. 13–16)
Крушына, Рыгор. Перад сьвятам. [Верш.] (С. 16–17)
Кавыль, Міхась. Новы Год. [Верш.] (С. 17)
Хадзілі, гулялі калядоўшчыкі. З народнае творчасьці. [Песьня.] (С. 17)
А. Гуткевіч. Каляда. З гадавога абрадавага кола. [Нарыс.] (С. 18–20)
Салавей, Алесь. Ялінка. [Верш.] (С. 20)
Мік. Шк. Беларусь. [Артыкул.] (С. 21–22)
Шабуневіч, Віктар. Зіма на Беларусі. [Нарыс.] (С. 22–24)
Караткевіч, Макар. Наваградак. [Нарыс.] (С. 24–26)
Беларускі Епіскапат і Беларускае Праваслаўнае Аб’еднаньне. (Хроніка.) (С. 26–27)
Беларускі юбілейны царкоўны каляндар на 1947 г. (С. 28)
Беларускі юбілейны гістарычны каляндар на 1947 г. (С. 28–29)
Народная мудрасьць. (С. 29)
Сьвятцы на студзень. (С. 30)
Шукаюць. (С. 30)
[Падзяка.] [Абвестка.] (С. [31])

**№ 8. Красавік 1947 г. Часапіс праваслаўных беларусаў**

М. Лапіцкі, пратаярэй. Хрыстос Уваскрос! (С. 1–2)
Эвангельле ад Іоана 1–14. (С. 2)
Сьвятога айца нашага Іоана Златавуснага, Архіяпіскапа Царгародзкага Навучальнае Слова на Сьвяты Дзень Вялікодні. (С. 3)
Духоўнік. Вера, Надзея, Любоў. (С. 4–5)

Хрыстос уваскрос, дарагая наша Радзіма. (С. 6)
К. Б. Апостал любові. (С. 6–7)
Купала, Янка. Хрыстос Уваскрос. [Верш.] (С. 7)
Палуян, Сяргей. Хрыстос Уваскрос. (С. 8–9)
Салавей, Алесь. Хрыстосаў лёс. [Верш.] (С. 9)
Крушына, Рыгор. Малітва выгнанца. [Верш.] (С. 9)
Вялікдзень на Беларусі. З гадавога абрадавага кола. [Нарыс.] (С. 10–11)
Валачобная. [Песьня.] (С. 11–12)
Нэкралёг. (С. 12–13)
Каляндар падзеяў. (С. 13)
Народны каляндар. (С. 13)
Сьвятцы на красавік. (С. 14)

*Міхась Крыніцкі*[106]

## Доктар Францішак-Юры Скарына

Друкарскі знак на кнізе мае большае значэньне для чалавецтва, чымся імпэратарскі гэрб на манэтах.

*Эразм Ратэрдамскі*

У кажнага народу ёсьць свае нацыянальныя героі, імёны якіх гучаць для яго, як імя Бацькаўшчыны. Для нас, беларусаў, імі зьяўляюцца гордая красуня Рагнеда[107], вялікі князь Усяслаў Чарадзей[108], прэпадобная Еўфрасіньня-Прадслава[109], Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі[110], Янка Купала[111] і шмат іншых слаўных. Нібы зоркі гараць гэтыя імёны на нашым небе. І чым цямней ноч, тым ярчэй гараць яны, асьвятляючы нам, сваім суродзічам, шлях да вольнае Беларусі.

---

106 **Міхась Крыніцкі** — псеўданім Юркі Віцьбіча. **Юрка Віцьбіч** (Стукаліч) (сапр. Серафім Шчарбакоў, 1905–1975), пісьменнік, публіцыст, краязнаўца, грамадскі дзеяч.

107 **Рагнеда** (966–1000), полацкая князёўна, дачка Рагвалода, адна з жонак кіеўскага князя Уладзіміра.

108 **Усяслаў Брачыславіч** (Усяслаў Чарадзей, 1029–1101), найбольш вядомы полацкі князь (1044–1068 і 1071–1101), а таксама князь кіеўскі (1068–1069). Пры ім у Полацку быў пабудаваны Сафійскі сабор.

109 **Еўфрасіння Полацкая** (свецк. Прадслава, 1104–1167), полацкая князёўна, ігумення, беларуская святая.

110 **Кастусь Каліноўскі** (1838–1864), палітычны дзеяч, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. на Беларусі і Літве.

111 **Янка Купала** (сапр. Іван Луцэвіч, 1882–1942), паэт, драматург, публіцыст, класік беларускай літаратуры.

Чаму яны сталіся для нас сьвятымі? Іхныя імёны абпальваюць нам подых і прымушаюць яшчэ мацней тыхкацца непагамаваныя сэрцы. Таму што праз усё іхнае жыцьцё ад калыскі да труны праходзіла адна ідэя — бязьмежная любоў да свае Бацькаўшчыну й народу. Тут успамінаецца й меч шматпакутнае, але разам з тым нязломнае Рагнеды, і незгасальная лямпада, якую запаліла прэпадобная Еўфрасіньня перад Труной Гасподняй у Ерузаліме за Беларусь, і гул званоў полацкае Сьвятое Сафіі, які пачуў у Кіеве князь Усяслаў Чарадзей, і кліч Кастуся Каліноўскага з-пад шыбеніцы маскоўскае: *«Мужыкі! Браты мае родныя!»*, і хіракіры Янкі Купалы ў катавальні захопнікаў.

Мы, беларусы, не ўяўляем нашае гісторыі без Францішка Скарыны, *«сына Лукаша з Полацку»*. Тая-ж вялікая ідэя знайшла адбітак і ў ягоным жыцьці і ў творах. Доктар мэдыцыны й філязофіі, які меў у сувязі з гэтым прысутнічаць на сходах ураду, ён бяз усякага жалю адкідае гэтае права й бярэцца за друкаваньне кнігаў на роднай беларускай мове, бо хоча, каб *«Братія моя Русь, люді посполітые (простыя) чтучі моглі лепей розуметі»*.

Дзеля гэтага ён не шкадуе нічога, бо *«люді, дзе нарадзіліся і ўзгадаваліся, да таго месца вялікую ласку маюць»*.

Ні нястачы, ні перашкоды, ні эміграцыя не спыняюць ягонае вялікае дзейнасьці. Нам нічога невядома аб апошніх днёх жыцьця нашага славутага супляменьніка. У адным толькі няма ніякага сумлеву, што доктар філязофіі й мэдыцыны Францішак Скарына памёр у вялікай беднасьці.

Чужыя помнікі стаяць сёньня на пляцох нашых гарадоў. Няма там ні Рагнеды, ні Усяслава Чарадзея, ні Францішка Скарыны, ні Кастуся Каліноўскага, ні Янкі Купалы. Аманалам узарваныя сьвятыні ва імя прэпадобнае Еўфрасіньні-Прадславы, князёўны Полацкае. Але ніякая чорная моц ня выкрэсьліць іх із нашых сэрцаў таксама, як ніякая чорная моц ня здолее зьнішчыць наш народ. Мы яшчэ зьвернемся на Бацькаўшчыну. І тады, разам з намі прыйдзе бронзаваю хадою Францішак Скарына і ўзыйдзе на пастамэнт, на якім будуць адбітыя ягоныя словы:

*«Всякого труженія і скарбов для посполітого доброго і для отчыны своея не лютовалі»*.

# «ШЫПШЫНА»[112]

Часопіс «Шыпшына», напэўна, адно з найбольш вядомых эміграцыйных выданняў ці, прынамсі, якое часцей за іншыя згадваецца, калі заходзіць гаворка пра літаратуру; тым не менш варта коратка нагадаць ягоную гісторыю як уводзіны да бібліяграфіі[113].

Літаратурнае згуртаванне «Шыпшына» паўстала 5 студзеня 1945 г. у Берліне. Тады на сходзе заснавальнікамі выступілі Наталля Арсеннева, Юрка Віцьбіч, Янка Золак, Уладзімір Клішэвіч, Тодар Лебяда, Алесь Салавей, Лявон Случчанін, Уладзімір Сядура, Вольга Таполя, Мікола Целеш і Андрэй Чэмер. Але ваенныя падзеі не дазволілі згуртаванню хоць неяк праявіцца.

«Шыпшына» была адноўленая ў лагеры *DP* у Рэгенсбургу 9 красавіка 1946 г. Да паспеўшых выехаць пісьменнікаў далучыліся Мікола Вярба, Хведар Ілляшэвіч, Аўген Кавалеўскі, Масей Сяднёў, троху пазней — Уладзімір Дудзіцкі, Сымон Жамойда, Міхась Кавыль, Рыгор Крушына.

Арганізатарам згуртавання і рэдактарам часопіса быў Юрка Віцьбіч, сябра разгромленага «Узвышша». Яму і належала ідэя назвы.

На пытанне, чаму «Шыпшына», адказ знаходзім у дэкларацыі згуртавання: *«Хто адважыцца ўзяць шыпшыну галаруч?! Сотні дзідаў бароняць яе ад ворагаў. А ейныя чырвоныя кветкі нагадваюць кроў тых суродзічаў, што аддалі ці аддадуць яе да апошняе кроплі за Беларускі народ»*.

Згуртаванне паставіла сабе за мэту аб’яднаць беларускіх празаікаў, паэтаў, крытыкаў, што знаходзяцца на эміграцыі, і разам працаваць над стварэннем вялікай літаратуры, годнай вялікага народа.

«Шыпшына», гаварылася ў дэкларацыі, стаіць на варце творчых пошукаў, але для яе сяброў з’яўляецца абавязковым крытэрый высокае мастацкасці літаратурнага твора, імкненне да ідэйнай насычанасці і арыгінальнасці, глыбокая пашана да літаратурнае спадчыны і пачуццё спадкаемства да ўсяго самага лепшага ў ёй; узаемная пашана да творчасці адзін аднаго.

Аднайменны часопіс, заснаваны ў тым самым 1946 г., мусіў пастулаты дэкларацыі адбіць на сваіх бачынах, дзе, акрамя новых твораў сяброў згуртавання, часта змяшчаліся творы з літаратурнае спадчыны, перш-найперш узвышэнцаў.

Часопіс, як пазней Юрка Віцьбіч паведамляў Міколу Панькову, выходзіў накладам ад 300 да 800 асобнікаў[114]. У сваім імкненні стацца над палітыкай ён вылучаўся сярод вялікай колькасці эміграцыйных выданняў, і гэта не заставалася незаўважаным. Так, газета «Беларускі Эмігрант» пісала: *«Нумар дзявяты “Шыпшыны” вартасны яшчэ й тым, што не закранае*

[112] Тэкст быў апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 35. Нью-Ёрк — Менск, 2012. С. 358–388.

[113] Падрабязней гл.: Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1997. С. 331—339.

[114] Ліст Ю. Віцьбіча да М. Панькова ад 17.11.1947. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*палітыканства, як гэта здаралася ў некаторых з папярэдніх нумароў. Як такі, павінен знайсьціся ў хаце кажнага беларуса»*[115].

Знайшоў водгук часопіс і сярод украінцаў, з якімі літаратурныя сувязі былі найшчыльнейшымі: *«Пераглядаючы нумары літаратурна-мастацкага часопісу “Шыпшына” і воргану праваслаўных беларусаў “Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі”, міжволі даводзіцца паўтараць словы “Жыве Беларусь”, бо жыве гэтая краіна, лёс якой у мінулым і сёньня гэтак падобны на лёс нашага народу, а часам зусім аднолькавы»*[116].

Выданне часопіса працягвалася, хоць і нядоўга, і ў ЗША. Апошнім нумарам стаўся 9-ы, а да нявыдадзенага, 10-га, Віцьбіч у прадмове ад рэдакцыі пісаў: *«Нашыя высокашаноўныя чытачы часам запытваюцца: Чаму “Шыпшына” не друкаваная? Чаму яна ня пяройдзе хаця-б на фотадрук? Чаму яна ператварылася з штомесячніка ў штогадовік? Пэўне, нашыя чытачы не сумняваюцца ў тым, што нам таксама вельмі хочацца, каб яна сталася друкаванай і штомесячнай, але на перашкодзе гэтаму стаяць дзьве істотныя прычыны: адсутнасьць вольнага часу ў тых, хто рэдагуе часопіс, і адсутнасьць сродкаў у тых, хто яго выдае. Становішча яшчэ значна ўскладняецца тым, што і першая, і другая прычыны амаль цалком абвальваюцца на плечы аднае асобы, якая і рэдагуе, і выдае “Шыпшыну”. Першая прычына больш-менш перамагальная. Няма або зусім няма ў нас на эміграцыі рэдактароў, якія ў стане прысьвяціць увесь свой час рэдагаванаму выданьню. Перамагаючы стомленасьць пасьля фізычнае працы, яны, не зьвяртаючы ўвагі на гадзіньнік, працуюць над сваймі газэтамі і часопісамі, успрымаючы гэтую дадатковую працу як свой грамадзкі абавязак. Аднак другая прычына цалкам залежыць ад чытачоў».*

Віцьбіч пісаў, што папярэдні нумар меў наклад 400 асобнікаў і амаль цалкам разышоўся, але толькі 17 чалавек даслалі грошы.

Што Віцьбіч сапраўды спадзяваўся працягваць выданне часопіса, сведчыць не толькі змест нявыдрукаванага 10-га нумара, але і ягоныя лісты да Янкі Юхнаўца, публікацыя якіх папярэднічае бібліяграфіі «Шыпшыны». З гэтых лістоў даведваемся пра рэдакцыйную кухню, пра далейшыя планы на часопіс, а таксама пра погляды самога рэдактара на тагачасны літаратурны працэс.

---

[115] Беларускі Эмігрант. 10 красавіка 1951. С. 3.
[116] Новини. № 29. 6 верасьня 1946. С. 4.

## Лісты Юркі Віцьбіча да Янкі Юхнаўца[117]

13.5.50

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец[118]!

Вельмі ўдзячны за Ваш ліст. Прыкра, што Вам бракуе часу, каб перапісаць новае. Спадзяюся аднак, што неўзабаве Вы прышлеце ў «Шыпшыну» свой новы твор.

«Шыпшына» як Згуртаваньне аднавілася амаль у ранейшым складзе. Неўзабаве мае выйсьці № 8 «Шыпшыны» — ён ужо зрэдагаваны. Тымчасам гэты нумар будзе ратататарны, але вельмі магчыма, што наступны выйдзе друкам. Сёньня мы дбаем больш пра зьмест, чым пра форму. Хочацца як найбольш стылёвае й жанравае разнастайнасьці — у гэтым сэньсе Вы маеце ў беларускай паэзіі на эміграцыі сваё апрычонае ўласнае мейсца. Характэрна эпіграма Міхася Кавыля[119] на Вас:

У яго зусім другія скрыдлы,
Ён ні на каго не падобны з нас.
Руінаў моўкнасьць — яго Парнас,
А куст крапівы — яму Азырыс.

Зразумела, што ў двох апошніх радкох няма нічога зьдзеклівага — гэта проста сяброўскі жарт, уласьцівы кажнай эпіграмы. І ад усяе душы жадаю Вам захаваць сваю паэтычную своеасаблівасьць. Нашыя-ж беларускія пушчы і гаі цікавыя менавіта тым, што там кожны птах мае свой уласны голас. Можна толькі ашалець у тым лесе, дзе ўсе птушкі сьпяваюць на адзін капыл.

Нам, шыпшынаўцам, вядома пра тое, што на чужыне паўстала новае Беларускае Літаратурнае Згуртаваньне «Баявая Ускалось»[120]. І ад шчырага сэрца мы вітаем новае Згуртаваньне. Калісьці на Беларусі існавала некалькі літаратурных Згуртаваньняў — «Узвышша»[121],

[117] Лісты захоўваюцца ў прыватным архіве Л. Юрэвіча.

[118] **Янка Юхнавец** (1921–2004), літаратар, мастак. Аўтар кніг «Шорах моўкнасьці» (1955), «Новая элегія» (1961), «Калюмбы» (1967), «Творы» (Т. 1–3, 1987–1990), «Дань майго часу» (1993), «Драматычныя начыркі» (1996).

[119] **Міхась Кавыль** (сапр. Язэп Лешчанка, нар. 1915), пісьменнік, рэдактар, грамадскі дзеяч. Выдаў зборнікі паэзіі «Ростань» (Рэгенсбург, 1947), «Пад зорамі белымі» (Нью-Ёрк, 1954), «Першая рана» (Манчэстэр, 1960), «Цяжкія думы» (ЗША, 1961), «Міжагнёўе» (Нью-Ёрк, 1990).

[120] **«Баявая Ускалось»** — літаратурнае аб’яднанне на эміграцыі, створанае ў 1949 г. пісьменнікам, журналістам і палітычным дзеячам Сяргеем Хмарам (1905–1992), выдавала аднайменны часопіс.

[121] **«Узвышша»** — літаратурнае аб’яднанне, якое існавала ў БССР у 1926–1931 гг., выдавала аднайменны часопіс. Пасля працэсу аб «Саюзе вызвалення Беларусі» некаторыя сябры згуртавання (Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Антон Адамовіч, Фелікс Купцэвіч, Уладзімір Жылка) былі высланыя.

«Полымя»[122], «Маладняк»[123], «Пробліск»[124], Літаратурна-Мастацкая Камуна[125] і г. д. Такая колькасьць Згуртаваньняў спрыяла толькі росту беларускае літаратуры, у сяброў усіх гэтых Згуртаваньняў было адзінае крэда — Жыве Беларусь! Таму зусім невыпадкова бальшавікі ліквідавалі ўсе гэтыя Згуртаваньні і стварылі пісьменьніцкі калгас — Саюз савецкіх пісьменьнікаў БССР[126]. Частка пісьменьнікаў апынулася на Калыме, частка трапіла ў калгас, а некаторыя засталіся паміж Калымой і калгасам, як Юрка Віцьбіч. Думаецца, што і тут, на эміграцыі, мусіць паўстаць некалькі Літаратурных Згуртаваньняў, аднак мы, літаратары, пазьбегнем (спадзяюся) тае грызьні, якая разадрала на дзьве часткі нашую эміграцыю. Тыя ці іншыя шыпшынаўцы маюць поўнае права зачытаць свае творы на тым ці іншым беларускім вечары незалежна ад таго, хто яго арганізаваў — ці прыхільнікі Абрамчыка[127], ці прыхільнікі Астроўскага[128]. Але ні адзін шыпшынавец ня мае права ўдзельнічаць у тым вечары ці выданьні, якія арганізавалі сьвядомыя

[122] **«Полымя»** — літаратурнае аб’яднанне, якое існавала ў БССР у 1927–1932 гг. Пазіцыянавала сябе як нейтральнае згуртаванне. Менавалася таксама «групай Гартнага», паводле імя кіраўніка суполкі Цішкі Гартнага. У склад літаб’яднання ўваходзілі Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гурло, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Алесь Ляжневіч і інш. З часу заснавання вяло жорсткую палеміку з узвышэнцамі.

[123] **«Маладняк»** — найбольш маштабнае літаратурнае аб’яднанне, існавала ў БССР у 1923–1928 гг., налічвала да некалькіх сотняў сябраў. У 1928 г. было рэарганізаванае ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў.

[124] **«Пробліск»** — літаратурнае аб’яднанне ў БССР, утварылася ў выніку драблення «Маладняка», дзейнічала ў 1927–1928 гг. Мела таксама назву «Пралетарска-сялянскай беларускай літаратурная суполка», праіснавала каля года. Сябры — Нічыпар Чарнушэвіч, Алесь Звонак, Янка Туміловіч, Ізраіль Плаўнік, Мікола Хведаровіч і інш.

[125] **«Беларуская літаратурна-мастацкая камуна»** — футурыстычнае літаратурнае аб’яднанне ў БССР, утварылася ў выніку драблення «Маладняка», дзейнічала ў 1927–1928 гг. Арганізатар — Паўлюк Шукайла. Сябрамі ў розны час былі Янка Скрыган, Пятрусь Броўка, Макар Шалай і інш. Выпусціла два нумары часопіса «Росквіт».

[126] **Саюз пісьменнікаў БССР** — адзіная пісьменніцкая арганізацыя, складовая частка Саюза пісьменнікаў СССР, створанага пасля прыняцця пастановы ЦК УКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» ад 23 красавіка 1932 г.

[127] **Мікола Абрамчык** (1903–1970), палітык, грамадскі дзеяч, прэзідэнт аднаўленай ім жа ў 1947 г. Рады БНР.

[128] **Радаслаў Астроўскі** (1887–1976), палітык, грамадскі дзеяч, педагог, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. У другой палове 1940-х гг. у асяроддзі беларускіх эмігрантаў на Захадзе паўстаў падзел на прыхільнікаў БЦР (з яе прэзідэнтам Радаславам Астроўскім) і прыхільнікаў БНР (з яе прэзідэнтам Міколам Абрамчыкам).

ворагі Акту 25 Сакавіка. Дык дазвольце яшчэ раз ад імя ўсіх шыпшынаўцаў пажадаць росквіту «Баявой Ускалосі».

Над чым працуе Сяднёў[129]? — цікавіць Вас. Наш Сяднёў закаханы, а таму і ўсе ягоныя апошнія вершы напісаныя на вечную тэму — Ён і Яна. Сам я напісаў тут, у ЗША, дзьве навэлі і артыкул пра Юлія Таўбіна[130] («Не чарнілам, а крывёю»).

Ад душы жадаю Вам усёга добрага.

Прашу перадаць прывітаньне Вашай сям'і і прыміце тое-ж ад мае сям'і.

Чакаю Ваш ліст.

З пашанай

18.5.1950

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Вельмі ўдзячны за Ваш ліст. Перш за ўсё мушу адзначыць, што ён мяне ні на каліва не абурыў і не пакрыўдзіў, хаця Вы двойчы просіце ім не абурацца. Таксама прачытаў копію дасланага перад тым мной Вам лісту і не знайшоў там нічога, што «крыху зьдзіўляе», як Вы адзначылі ў адказным лісьце да мяне.

1. Тое, што Вы належыце да «Баявой Ускалосі», зьяўляецца Вашай асабістай справай. Усё роўна, як тое, што я належу да «Шыпшыны», зьяўляецца маёй асабістай справай. Кожны з беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў знаходзіцца ў тым Згуртаваньні, якое лічыць для сябе бліжэйшым. Гэта зусім нармальная і зразумелая зьява. Толькі ў СССР існуе агульны пісьменьніцкі калгас. Вітаў я «Баявую Ўскалось» ад шчырага сэрца. А менавіта праз Вас таму, што паводля паведамленьня ў газ. «Беларускі Эмігрант» Вы зьяўляецеся прадстаўніком «Баявой Ускалосі» ў ЗША.

2. Цалкам згаджаюся з Вамі, што ў Згуртаваньні «Шыпшына» няма гэніяў. Што зробіш. Нашая беларуская літаратура яшчэ параўнальна маладая, ды й расьце яна ў варунках неспрыяльных для зьяўленьня гэніяў.

3. Вы пішаце, што Вы ніколі не зьбіраецеся чытаць свае вершы ворагам Акту 25 Сакавіка. А хто Вас, дарагі Юхнавец, у гэтым абвінавач-

[129] **Масей Сяднёў** (1913–2001), паэт, празаік. Аўтар кніг «На край сьвятла» (1947), «Спадзяваньні» (1947, 1948), «У акіяне ночы» (1947), «Цень Янкі Купалы» (1947), «Ля ціхай брамы» (1955), «Патушаныя зоры» (1975), «Раман Карзюк» (1985), «І той дзень надышоў» (1987), «А часу больш, чым вечнасьць» (1989).

[130] **Юлі Таўбін** (1911–1937) — паэт, перакладчык, сябра БелАПП. Выдаў зборнікі «Агні» (1930), «Каб жыць, спяваць і не старэць…» (1931), «Тры паэмы» (1931), «Мая другая кніга» (1932), «Таўрыда» (1932). У 1933 г. асуджаны да 2 гадоў высылкі, у 1936 г. арыштаваны паўторна, этапаваны ў Мінск, расстраляны ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 г. з групай іншых беларускіх літаратараў.

вае? Я пісаў пра дэклярацыю шыпшынаўцаў, а Вы-ж да іх не належыце. Між іншым мушу зазначыць, што калі ў газ. «Новое Русское Слово» ў разьдзеле «Русская жизнь» зьяўляецца паведамленьне пра Сп. Абрамчыка ці пра Сп. «Ивана Станкевича»[131], дык гэтае яшчэ зусім не азначае, што яны зьяўляюцца русафіламі і ворагамі Акту 25 Сакавіка. Таксама, калі пра тых-жа асобаў зьяўляюцца цёплыя радкі ў польскай газэце «Амэрыка-Эхо»[132], дык гэтае зусім не азначае, што яны зьяўляюцца палёнафіламі і ворагамі Акту 25 Сакавіка. Мы жывём у надзвычай складаных палітычных умовах.

4. Вы пішаце, што *«Абрамчыка я ня ведаю»*, а Астроўскі гэта ёсьць *«Нямецкага Райху фон Астроўскі»*. Мне думаецца, што гэтая заўвага аб Абрамчыку і аб Астроўскім сьветчыць толькі аб Вашых палітычных пераконаньнях, якія нас зусім не цікавяць.

5. Згадзіцеся з тым, што «ода пахвалы» Астроўскаму, пра якую Вы прыгадваеце, а таксама Вашыя далейшыя радкі, накіраваныя супраць Астроўскага, у аднолькавай ступені зьяўляюцца палітыкай. Адзін паэта лае Астроўскага, дык чаму другі паэта ня мае права яго ўшаноўваць? У дэмакратычных умовах можна і лаяць і ўшаноўваць. Толькі Сталіна ў СССР рэкамэндуецца вылучна хваліць.

6. Радкі з Масея Сяднёва, якія Вы цытуеце, а менавіта:

Маліцца хараству — закон,
Закон адзіны мой

ні ў якім разе не характарызуюць цалкам Сяднёва. Ён менш за ўсё нагадвае вылучна *«паэту чыстага хараства»*. Прынамсі ў тых-жа «Спадзяваньнях»[133] Вы знойдзеце такія вершы, як «Сустрэчы», «Сябром», «Дзе вы, трыбуны?», «Моладзь», і інш. Не кажу ўжо пра такі агульнавядомы верш, як «Дазвольце вам паставіць помнік» («Шыпшына», № 2), які зьяўляецца клясычным творам палітычнае паэзіі.

Як бачыце, у мяне няма аніякіх падставаў абурацца Вашым лістом, як і у Вас (думаецца) няма падставаў зьдзіўляцца майму лісту.

Дык дазвольце моцна паціснуць Вам руку і пажадаць усялякіх посьпехаў у творчай працы і ў жыцьці ўвогуле.

---

[131] Маецца на ўвазе **Янка Станкевіч** (1891–1976), грамадскі дзеяч, мовазнаўца, журналіст. Стваральнік Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Выдаваў часопіс «Веда». Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных прац, дзясяткаў артыкулаў, першага поўнага перакладу Бібліі (супольна з М. Гітлінам).

[132] ***«Ameryka-Echo»*** — польскі тыднёвік, які выходзіў у 1902–1971 гг. спачатку ў Таледа (Агая), а потым (ад 1961 г.) у Чыкага (Ілінойс).

[133] Маецца на ўвазе зборнік вершаў Масея Сяднёва «Спадзяваньні» (Рэгенсбург, 1947).

12.8.50

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Вельмі прыемна, што Вам № 8 «Шыпшыны» спадабаўся. Вашую думку падзяляе шмат хто і з чытачоў. Аднак мне асабіста гэты № 8 не зусім падабаецца. У ім ёсьць пэўныя мінусы, якіх імкнуся пазьбегнуць у наступным № 9. Для гэтага наступнага № ужо арганізую матар'ял і пакрысе рэдагую яго. Па свайму памеру ён будзе удвойчы больш за папярэдні і хочацца думаць, што і лепшым у якасным сэньсе.

Для № 9 Масей Сяднёў піша крытычны агляд беларускае эміграцыйнае паэзіі за апошнія 5 год паводля зьмешчанага ў «Шыпшыне». Ведаю, што пэўнае і значнае мейсца ў гэтым аглядзе ён прысьвячае Вам. Хочацца думаць, што ягоныя заўвагі прычыняцца да далейшага Вашага росту. Дарэчы, мушу зазначыць, што Масей Сяднёў заўсёды вельмі цёпла і прыхільна ставіцца да Вас як да паэты.

Са свайго боку ветліва запрашаю Вас прыняць удзел у гэтым нумары і прыслаць што-небудзь сваё новае. Увогуле старонкі «Шыпшыны» для Вас заўсёды гасьцінна адчыненыя. Калі тымчасам нічога ня маеце для № 9, дык будзе і № 10, і № 11, і г. д. Спадзяюся, што пэрыядычнасьць «Шыпшыны» будзе 6 нумароў у год, і пры чым № 9 выйдзе ў верасьні.

Шчыра зычу ўсяго добрага.

Чакаю Ваш ліст.

З пашанай да Вас

7.11.50

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Вельмі ўдзячны за Ваш ліст. Пэўны час таму назад я атрымаў з Таронта ад Сп. Ліпчанскага досыць цікавы ліст, на які даў самы падрабязны адказ. Цяпер адначасна пасылаю Вам адбітку з гэтага адказу, паколькі ў ім закранаюцца нашыя літаратурныя справы. У лісьце Сп. Ліпчанскага ёсьць розныя закіды па адрасу Акулы[134], Адамовіча[135], Арсеньневай[136], Каханоўскага[137], Янкі Станкевіча. Гэтыя закіды я

---

134 **Кастусь Акула** (да эмігр. Аляксандр Качан, 1925–2008), пісьменнік, грамадскі дзеяч. У 1948–1954 гг. рэдагаваў газету «Беларускі Эмігрант». Аўтар раманаў «Змагарныя дарогі» (1962), «Гараватка» (1965–1981), *«Tomorrow is Yesterday»* (1968), «За волю» (1991).

135 **Антон Адамовіч** (1909–1998), грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар, аўтар вялікай колькасці літаратуразнаўчых прац.

136 **Наталля Арсеннева** (у шлюбе Кушаль, 1903–1997), паэтка, грамадская дзяячка. Аўтарка шэрагу паэтычных зборнікаў, а таксама слоў гімна «Магутны Божа».

137 **Аўген Каханоўскі** (да эмігр. Калубовіч, 1912–1987), грамадскі дзеяч, гісторык, пісьменнік. Аўтар шэрагу прац па гісторыі і культуры Беларусі.

падзяляю толькі ў дачыненьні да апошніх двох. Між іншым, як сьведчыць почырк, стыль і адрас, Ліпчанскі ёсьць Сяргей Хмара[138].

Мяне цешыць Ваш творчы ўздым, але разам з тым мяне зьдзіўляюць Вашыя пэсімістычныя заўвагі наконт таго, дзе зьмяшчаць свае творы. Ва ўсякім разе «Шыпшына» зь вялікай прыемнасьцю зьмесьціць Вашыя новыя творы. Цяпер рэдагуецца № 9, які, спадзяюся, ва ўсіх адносінах будзе цікавым. Дасылайце свае творы, і яны займуць у гэтым нумары пачэснае мейсца.

Рэцэнзію на «Шыпшыну» ў «Беларускім Эмігранце» чытаў. На маю думку, рэцэнзія не благая, але разам з тым не зусім аб'ектыўная. Асабліва калі параўнаць яе з тым лістом, што прыслаў Сяргей Хмара.

Цяпер наконт майго прымірэньня з Антонам Адамовічам[139]. Асабіста я жадаю гэтага прымірэньня. Мне хочацца сустрэцца зь ім дзенебудзь у Нью Ёрку і шмат аб чым пагаварыць. Хочацца, каб мы абодва сталі вышэй за таго, што паміж намі было за апошнія гады і, шчыра паціснуўшы адзін аднаму рукі, пачалі супольна працаваць у галіне нашай літаратарскай. Вельмі магчыма, што нашыя погляды ня зусім супадаюць, аднак гэтае, на маю думку, ні ў якім разе не перашкаджае разам змагацца з супольнымі ворагамі нашае Бацькаўшчыны. Спадар Юхнавец, буду вельмі ўдзячны, калі Вы больш актыўна прычыніцеся да гэтага прымірэньня.

Аднак у мяне ёсьць пэўныя засьцярогі што да стварэньня адзінага Саюзу Пісьменьнікаў і Паэтаў. Мне чамусьці адразу прыгадваецца Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў у БССР (ССПБ), які быў створаны бальшавікамі на зьмену зьнішчаным імі «Ўзвышшу», «Полымю», «Маладняку» і іншым больш-менш вольным Беларускім Літаратурным Згуртаваньням. Няма нічога страшнага ў існаваньні некалькіх літаратурных згуртаваньняў, у кажнае зь якіх уваходзіць група пісьменьнікаў і паэтаў, што па тых ці іншых прычынах лічуць сябе блізкімі адзін аднаму. Нават больш, існаваньне некалькіх літаратурных Згуртаваньняў спрыяе росту паасобных пісьменьнікаў і літаратуры ўвогуле. Аднак ёсьць

---

[138] **Сяргей Хмара** (сапр. Сіняк, на эмігр. Марыян Зіняк, 1905–1992), паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч, выдавец. Выдаваў газету «Беларускі голас», часопіс «Баявая ўскалось», таксама шэраг літаратурных і сатырычных выданняў.

[139] Пасля расколу на «крывічоў» і «зарубежнікаў» (прыхільнікаў БНР і БЦР адпаведна) былыя ўзвышэнцы Антон Адамовіч і Юрка Віцьбіч апынуліся ў варожых адзін аднаму палітычных лагерах. Прымірэнне, пра якое гаворыць Віцьбіч, нягледзячы на былыя закалоты, было дасягнутае (гл.: Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум. Мінск, 2012. С. 52–53). *«9 ліпеня 1951 г. Дзень, калі Юрка Віцьбіч афіцыйна выйшаў з БЦР і абвясціў сябе "нэўтральным" у дачыненні да БЦР і БНР. І гэта быў той дзень, ад якога пачалася Віцьбічава самота»* (Ibid. С. 38).

патрэба ў паўстаньні Вышэйшае Літаратурна-Мастацкае Інстытуцыі, у якую ўвайшлі-б як і паасобныя пісьменьнікі і паэты, гэтак і Згуртаваньні («Шыпшына» і «Баявая Ўскалось») як аўтаномныя адзінкі. Гэтая Вышэйшая Інстытуцыя створыць сяброўскі кантакт паміж усімі беларускімі пісьменьнікамі на чужыне. Яна-ж зможа мець і свой часапіс, і свой літаратурны фонд. Яна-ж прылучыцца да стварэньня тых сяброўскіх апалітыканскіх умоваў, дзе, напрыклад, ня будуць цалкам атаесамляць Віцьбіча з Турам, а Адамовіча зь Перчыкам[140], бо і Тур, і Перчык гэта тымчасовае, а Антон Адамовіч і Юрка Віцьбіч — гэта сталае, істотнае.

Ці чыталі Вы № 2 «Беларускае Трыбуны»[141]? Мне асабіста ён не падабаецца — асабліва фэльетон. Цяпер трэба чакаць адпаведнага адказу з боку «Беларуса», і зноў пачнецца ранейшая грызьня. Пачнецца на вялікую пацеху для ўсіх адвечных ворагаў нашае нацыянальнае справы. Можна не вызнаваць Сп. Абрамчыка як Прэзыдэнта, але зьняважаць яго гэта значыцца зьняважаць значную частку свае-ж беларускае эміграцыі, якая вызнае яго як Прэзыдэнта. Можна не любіць Кушаля[142], але зьдзеквацца над ім з прычыны ягонае цяперашняе працы можа толькі этычна брудная асоба[143]. Можна спрабаваць зрабіць з Адамовіча дурня, але ўсё роўна ў інтэлектуальным сэньсе ён будзе стаяць вышэй за ўсіх пасейкаўскіх *«чудо господоров»*[144]. І гэтае ўсё называецца палітычным змаганьнем? Сумна!

Зычу ўсёга добрага.

Прывітаньне ад Сяднёва.

Прывітаньне ад маёй сям’і.

Пішэце.

З пашанай да Вас

---

[140] **Ігнат Тур —** псеўданім Юркі Віцьбіча; **Перчык —** хутчэй за ўсё, адзін з псеўданімаў Антона Адамовіча.

[141] **«Беларуская трыбуна»** — газета, запачаткаваная як орган Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта. Выходзіла ў ЗША ў 1951–1953 гг. Рэдактарамі яе былі Мікола Шчорс і Язэп Ляшчынскі (Міхась Кавыль).

[142] **Францішак Кушаль** (1895–1968), вайсковы і грамадскі дзеяч, муж Н. Арсенневай.

[143] Віцьбіч, відаць, згадвае пра тое, што Ф. Кушалю даводзілася некаторы час працаваць ліфцёрам, старому чалавеку было складана знайсці працу ў ЗША.

[144] У мястэчку Пасейк (англ. *Passaic*) у Нью-Джэрсі ў той час склалася кола прыхільнікаў БЦР, сярод якіх былі Эмануіл Ясюк, Аляксандр Русак, Яўхім Кіпель і інш.

22.4.51

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

На жаль, ня ведаю адрасу Сп. Крывічаніна (Савёнка)[145], а таму і ня маю магчымасьці непасрэдна даслаць яму ліст. У сувязі з гэтым ветліва прашу Вас пры нагодзе перадаць яму дасылаемы пры гэтым ліст.

Працую над № 10. Хочацца, каб Вы ўзялі ў ім чынны ўдзел. Стараюся ўнікаць перадрукаў, але ў крайнім выпадку вазьму адзін Ваш добры верш з час. «Наперад»[146].

Тымчасам усяго добрага.

Прабачце за клопаты.

З пашанай да Вас

П. С. Вось толькі завітаў да мяне Масей Сяднёў і, пабачыўшы гэты ліст, папрасіў перадаць прывітаньне Вам, што і раблю з ахвотай.

Яшчэ раз усёго добрага.

30.4.51

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Удзячны за Ваш ліст — атрымаў яго, лежучы ў шпіталі — сталася нешта благое з сэрцам.

Вашыя «Эскізы» і «Яму жадалася сказаць усё» — падабаецца, як і амаль усё, напісанае Вамі.

Не падзяляю аднак Ваш погляд на артыкул Сяднёва «Зацемкі аб нашай літаратуры». Ён занадта палітычны, бо патрабуе ад нашых паэтаў і пісьменьнікаў адмаўленьня ад палітычнасьці. Калі ўлічыць, што нашая нацыя знаходзіцца ў працэсе станаўленьня, стане адраджэньня як дзяржаўная, дык тады адмаўленьне зможа прынесьці значную шкоду нам, беларусам, і суцешыць нашых ворагаў — расейцаў і палякаў. А між тым апошнія як раз ад палітычнасьці не адмаўляюцца — яны аж зашмат пішуць у мастацкіх творах аб сваіх каляніяльных правох на Беларусь. Крый Божа, не падумайце, Спадар Юхнавец, што я заклікаю да голае палітыкі — накшталт некаторых твораў, якія галоўным чынам знаходзяць прытулак на старонках «Баявой ускалосі», надаючы ёй часам нават нейкі рабселькораўскі характар. Мне хочацца, каб Сяднёў ішоў ня толькі па лініі адвечных тэмаў (што ён прапагуе), як «Хусьцінкі», «Вятрак» і г. д., але і па такой лініі, як «Забраны Менск» і г. д. — ад чаго ён заклікае цяпер адмаўляцца. Сяднёў закідае, што ў нас

[145] **Лявон Савёнак** (псеўд. Л. Крывічанін, Свэн, 1897–1974), грамадскі дзеяч, пісьменнік, журналіст. Аўтар сатырычных нататкаў «Дзённік Ів. Ів. Чужанінава». Ініцыятар заснавання газеты «Бацькаўшчына».

[146] **«Наперад!»** — моладзевы часопіс, орган «Дванаццаткі», які выходзіў у 1947–1953 гг., спачатку на шляху ў Вялікабрытанію, потым у Брытаніі, а ў 1953 г. — у Бельгіі. Выйшлі 26 нумароў.

зашмат прыгадваецца Акт 25 Сакавіка, што гэты Акт у сувязі з гэтым зашмульганы (!!!). Гэтае сьцьверджаньне не адпавядае запраўднасьці. У нас няма ні аднаго добрага высокамастацкага твору ні пра Акт 25 Сакавіка, ні пра Першы Кангрэс, калі не лічыць слабенькіх вершаў Машары[147] і Сергіевіча[148]. У той час як палякі арамантызавалі і рамантызуюць (маю на ўвазе нядзельны дадатак да «Новага Сьвята»[149] і інш.) сваіх нацыянальных гэрояў — у нас тымчасам нічога падобнага няма, або амаль нічога няма. Вычуўшы з самага пачатку, што «Шыпшына» не падтрымае гэтых ягоных выказваньняў, Масей Сяднёў аддаў свой артыкул у «Беларускую Трыбуну», а на старонках № 10 «Шыпшыны» будзе артыкул «Зацемкі наконт зацемкаў». Зразумела, што гэтае ні ў якім разе не сапсуе адносінаў «Шыпшыны» з Сяднёвым і наадварот. У спрэчках нараджаецца ісьціна.

Магчыма, Вы ўжо чулі, што пасьля некаторых разьбежнасьцяў Уладзімер Клішэвіч[150] зноў зьвярнуўся ў «Шыпшыну» і даслаў нізку добрых вершаў. Наконт Спадара Адамовіча. Дзьверы «Шыпшыны» шырака адчыненыя для ягоных твораў — калісьці ён-жа зьмяшчаў іх у ёй. Гарантую, што ніякіх рашуча зьменаў, як гэта было раней, цяпер ня будзе. Але-ж паколькі ён дагэтуль не адказаў на мой шчыры цёплы ліст, дык мне проста няёмка.

Чытаў № 2 «Веды»[151]. На жаль, для Д-ра Янкі Станкевіча і на сёньня самай актуальнай тэмай ёсьць тэма аб зьмене нацыянальнага назову[152]. Думаецца, куды больш істотная тэма — змаганьне за Незалежнасьць свае Бацькаўшчыны. Такім змаганьнем і зьяўляецца артыкул Д-ра Янкі Станкевіча ў № 1 «Веды» аб пашырэньні беларускае мовы на Ўсход. Не надаецца Янка Станкевіч на прапагандыстага. Адна справа, калі Крывію прапагуе Вацлаў Ластоўскі (адзін з найвялікшых беларусаў) і зусім іншая справа, калі за гэтае прапагаваньне бярэцца Янка

---

[147] **Міхась Машара** (1902–1976) паэт, перакладчык, публіцыст. Пачаў свой творчы шлях у Заходняй Беларусі, дзе выдаў шэраг паэтычных зборнікаў («На сонечны бераг», «Напрадвесні» і інш.). Па вайне пераважна быў вядомы як празаік, паслядоўнік сацрэалістычнага канона.

[148] Верагодна, вядзецца пра **Юльяна Сергіевіча** (1910–1976), заходнебеларускага паэта, педагога.

[149] **«*Nowy Świat*»** — польская штодзённая газета, якая выдавалася ў Нью-Ёрку недзе ад 1919 г.

[150] **Уладзімір Клішэвіч** (1914–1978), пісьменнік, грамадскі дзеяч. Выдаў зборнік вершаў «Далячынь» (1965) і паэму «Васіль Каліна» (1965). У Мінску быў выдрукаваны зборнік «Сняцца сны мне залатыя» (1973).

[151] **«Веда»** — навукова-літаратурны часопіс, орган Крывіцкага (беларускага) навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. Выдавец Янка Станкевіч. Выходзіў у 1951–1954 і 1973–1975 гг.

[152] Маецца на ўвазе змена назвы «Беларусь» на «Крывія».

Станкевіч. Асабіста я ёсьць прыхільнікам зьмены нашага нацыянальнага назову, але толькі не на эміграцыі і не гвалтам.

Тымчасам усяго добрага.

Чакаю Ваш ліст.

З пашанай да Вас

4.8.51

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Раблю цяпер № 10 «Шыпшыны». Прашу Вас прыняць удзел у ім і даслаць свае новыя творы. Прыемна, што № 9 шырака разыйшоўся па ўсіх беларускіх асяродках і атрымаў самы добры водгук з боку нашых суродзічаў, раскіданых злым лёсам па ўсяму сьвету. Спадзяюся, што № 10 будзе лепшым за № 9.

У № 10 пойдзе артыкул М. Сяднёва «Зацемкі аб літаратуры», уключаючы і тую частку, што ўжо друкавалася ў «Бел. Трыбуны», але без заўвагі аб Арсеньневай. «Зацемкі» зьяўляюцца прадмовай да літаратурных партрэтаў паасобных нашых эміграцыйных пісьменьнікаў і паэтаў. Паміж імі будзе Ваш партрэт.

Дык чакаю Вашых добрых твораў, якіх шчырым прыхільнікам зьяўляюся.

Тым часам усяго добрага.

З пашанай да Вас

28.12.51

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

У сувязі з набіваньнем на матрыцы «Шыпшыны» маю няшмат вольнага часу, але хочацца хаця-б крыху напісаць наконт Вашае аповесьці «Чалавек бязь сьветача». Прачытаў яе з аднаго подыху. Яна сьветчыць аб тым, што Вы як празаік стаіце ня ніжэй, а магчыма і вышэй за Я. Юхнаўца як паэту. Ва ўсякім разе гэта адзін з найлепшых празаічных твораў, які зьявіўся ў часе эміграцыі. Непараўнальна вышэй стаіць гэтая Вашая аповесьць за Вашае апавяданьне «Карнавух». Ёсьць, на мой асабісты погляд, у Вашай аповесьці і некаторыя недахопы, аб якіх пісаць не хачу. Мне думаецца, што Вы без дарадчых іх знойдзеце і выправіце. Ад шчырага сэрца вітаю Вас як здатнага празаіка.

Тымчасам усяго добрага.

З пашанай да Вас

П. С. Карыстаюся сваёй машынкай, бо з Вашай зьнята лента. Пакрысе вывучыў ейны характар, бо ў яе ёсьць свае выбрыкі. Некаторыя літары, а галоўным чынам «і», імкнуцца да таго, каб на іх канчалася слова. Але гэта дробязь. Спадзяюся неўзабаве з падзякай вярнуць яе Вам.

Яшчэ раз усяго добрага.

6.1.52

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Мне спадабаліся Вашыя апавяданьні «Сьледчы Гаевіч» і «Пасьля гутаркі». Першае зь іх на маю думку мацнейшае за другое, а разам і паасобку ўзятыя яны лепшыя за «Карнавуха» — яны не эпізадычныя і не на анекдоце пабудаваныя.

Мне асабліва спадабаўся «Сьледчы Гаевіч» таму, што боскае ў ім перамагло д’ябальскае. Безумоўна, што ягоны ўчынак (самазабойства) не спадабаецца асобным чытачам накшталт а. Татарыновіча[153], якія, на жаль, не разумеюць, што самагубствам канчаюць не слабыя, а моцныя людзі. Мне падабаецца таксама, што Вы знайшлі ў Гаевіча тую боскую іскру, якая не пагасла пад попелам. Добрае апавяданьне.

У мяне ёсьць толькі некаторыя заўвагі наконт мовы. Мне думаецца, што цалкам захоўваючы свой сваесаблівы лексікон, Вы разам з тым мусіце пазьбягаць палянізмаў, якіх мы тут на эміграцыі набраліся ад беларусаў заходнікаў. Мне таксама думаецца, што цалкам захоўваючы свае стылёвыя сваесаблівасьці ў сэньсе пабудовы сказаў, Вы разам з тым мусіце [пазьбягаць] цьмянасьці.

Між іншым, калі Вы ў наступны раз завітаеце да мяне, дык я Вам (калі толькі захочаце) пазычу адзін із сваіх беларуска-расейскіх слоўнікаў. Калі ў іх зірнеш, дык лішні раз пераканаешся, што ў нашай літаратурнай мове ёсьць шмат цікавых тэрмінаў, якія мы чамусьці не ўжываем.

А тымчасам усяго добрага.

Прашу перадаць прывітаньне Вашай сям’і.

З пашанай да Вас

20.1.52

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Маю да Вас наступную прапанову і просьбу. Ад Вас даведаўся, што Вы зьбіраецеся прадаць сваю машынку Сп. Паланевічу[154]. Ці не прадалі-б Вы яе мне? Апошняе мае пэўныя выгоды для ўсіх пісьменьнікаў, а менавіта:

1. заўсёды, калі ў Вас зойдзе патрэба ў гэтым, змагу Вам пазычыць яе, як і Вы мне яе пазычалі.

---

[153] **Пётра Татарыновіч** (1896–1978), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, педагог, перакладчык, публіцыст. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс «Źnič», які і рэдагаваў цягам 1950–1975 гг. Заснаваў Беларускую рэдакцыю Радыё Ватыкана і быў галоўным яе супрацоўнікам.

[154] **Гіпаліт Паланевіч** (1907–1997), грамадска-культурны дзеяч, педагог, гісторык.

2. гэтай машынкай атрымаюць магчымасьць карыстацца ўсе пісьменьнікі, што жывуць у Саўт-Рыверы, — Віцьбіч, Сяднёў, Кавыль, Крушына[155].

3. на працягу 1952 г. я мяркую выдаць № 11, 12, 13, 14 «Шыпшыны», і наява машынкі забясьпечыць гэтае выданьне.

У гэтым агульнаграмадзкім сэньсе машынка, бязумоўна, будзе больш карыснай, чым калі трапіць у прыватныя рукі. Што датычыць ейнага кошту, дык я аплачу адразу гатоўкай.

А тымчасам сёньня раніцой я аднёс яе Сяднёву, што Вы мне дазволілі.

Шчыра зычу ўсяго добрага.

Чакаю Ваш ліст.

З пашанай

22.1.53

Дарагі Спадар Юхнавец.

Мяне зьдзівіла дасылка Вамі мне Вашага добрага апавяданьня «Карнавух», якое пэўны час таму назад Вы забралі ў мяне. Апавяданьне гэтае прызначалася, як Вам вядома, у № 10 «Шыпшыны» і нават ужо было набітае на матрыцы, аб чым сьветчаць азначэньня старонак на рукапісу — 37, 38, 39. На вялікі жаль, № 10 дагэтуль ня выйшаў, хаця я й зусім не зьяўляюся безнадзейным пэсімістым у гэтым напрамку. Калі існуе Згуртаваньне «Шыпшына», дык будзе і часопіс «Шыпшына».

А можа Вас пакрыўдзіла рэдакцыйная праўка Вашага твору? Дык, на мой асабісты погляд, яна зроблена вельмі асьцярожна. Я прасачыў за тым, каб пры гэтым захавалася ўся апрычонасьць Вашага стылю. Ва ўсякім разе гэтая праўка зроблена больш далікатна, чым яе практыкуе доктар Янка[156]. Спадзяюся таксама, што Вы ніколі не сумняваецеся ў маёй заўсягдышняй прыхільнасьці да Вашых здатнасьцяў.

Чакаю на Ваш ліст,

Усяго добрага.

З пашанай да Вас

23.1.54

Дарагі Спадар Юхнавец!

Прабачце, што гэтак спазьніўся з адказам на Ваш ветлівы ліст ад 7.1.54 г. Увогуле ў мяне паназьбіралася ладне лістоў, на якія, на жаль, замарудзіў з адказам. Тлумачэньне гэтае зьявы вельмі простае — каб

---

[155] **Рыгор Крушына** (сапр. Рыгор Казак, 1907–1979), паэт, празаік, крытык, грамадскі дзеяч. Аўтар кніг: «Лебедзь чорная» (1947), «Выбраныя творы» (1957), «Хвіліна роздуму» (1968), «Вясна ўвосень» (1972), «Дарогі» (1974), «Сны і мары» (1975).

[156] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

стацца на 75 адсоткаў *«тараканам у саладусе»*, я набыў *«тэлявіжыён»*, і тымчасам ён забірае амаль цалкам кароткі вольны час. Аднак усё-ж я першаму адказваю Вам — спадзяюся, Вы не сумняваецеся ў маёй шчырасьці — запраўды першаму.

Удзячны за Ваш цёплы водгук аб маім творы «Вышэй галаву, Дубавец!»[157]. Вам асабліва спадабаўся канчатак у ім. Не захаваю ад Вас, што гэны твор спачатку меў іншы канчатак, які мне самому нібы спадабаўся, нібы не. Масей Сяднёў, якому я першаму прачытаў гэны свой твор у першым ягоным варыянце, гэтак выказаўся аб канчатку, што я пасьля знайшоў новы канчатак — менавіта той, які Вам спадабаўся. І мне ў сувязі з гэтым прыгадваецца тое колішняе, яшчэ па той бок, добрае пісьменьніцкае асяродзьдзе, сябры якога знаёмілі адзін аднаго з рукапісамі сваіх новых твораў, каб лепш знайсьці самога сябе ў разьвязваньні тае ці іншае тэмы. Гэта было запраўды сяброўскае асяродзьдзе, у якім ніхто нікому нічога не накідваў, а, наадварот, дапамагаў знайсьці сваё асабістае, адменнае ад іншых сябраў.

Прабачце за шчырасьць, але калі Вам спадабалася маё «Вышэй галаву, Дубавец!», дык вось мне не спадабаліся тыя Вашыя вершы, якія Вы даслалі ў «Агні»[158]. Яны, на жаль, не нагадываюць тыя Вашыя вершы, што калісьці зьмясьціла «Шыпшына». Абстрагуючыся ад *«лёкальнага патрыятызму»*, хачу гэтым сказаць, што Вашыя творы ў «Шыпшыне» значна мацнейшыя за тыя, што Вы даслалі ў «Агні». Чаму?

Мне чамусьці здаецца, што Вы цяпер менш прыслухоўваецеся да думкі сяброў, чым калісьці. Вы цікавы і сваесаблівы празаік (люблю прозу!) — лепшую параду ў гэтай галіне атрымаеце ад Антона Адамовіча. Вы добры паэта, у Вас ёсьць вобразы, пасьля якіх ня бачыш тых ці іншых тэхнічных недакладнасьцяў, — ня лічыце ўсё-ж для сябе непатрэбным часам параіцца з Масеям Сяднёвым, які да Вас заўсёды гэтак добра ставіцца.

Маючы сталую лучнасьць адзін з адным, мы заўсёды дапаможам адзін аднаму стацца самім сабой. Крый кажнага з нас Божа захварэць на хваробу Міколя Цэляша[159] — на самазадавальненьне, на пісьменьніцкі артэрыясклероз. Ад усяе душы жадаю Вам сталага незадавальненьня самім сабой. Ад усяе душы жадаю Вам як найбольш пакутаў у мастацкіх пошуках.

Ваш

---

[157] Апавяданне Юркі Віцьбіча. Надрукавана ў: Шыпшына. 1950. № 8. С. 12–13.

[158] Часопіс з такой назвай ніколі не быў выдадзены.

[159] **Мікола Целеш** (1900 — пасля 1976), літаратар, перакладчык. Аўтар выдадзеных на эміграцыі кніг: «Дзесяць апавяданьняў» (1965) і «Хмары над Бацькаўшчынай» (1995).

2.8.54

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Надысь я атрымаў досыць своесаблівы ліст ад Сп. Хмары, у якім ён прыгадвае Вашае імя. Таму, кіруючыся самымі сяброўскімі меркаваньнямі, лічу за патрэбнае даслаць Вам копію майго адказнага ліста да Сп. Хмары, хаця ў ім я Вашае імя і не прыгадваю. Чаму не прыгадваю? — калі Вас гэта цікавіць.

Менавіта таму, што вельмі добра ведаю Ваш творчы шлях, каб без асаблівае патрэбы прыгадваць яго ў лісьце да палітыкана. Помню, як Вы дэбютавалі на старонках «Шыпшыны», маючы зь ейнага боку цяплыню і падтрымку. Помню, калі Вы адмовіліся ўвайсьці ў склад Згуртаваньня «Шыпшына», дык у адказ перад Вамі ня толькі не зачыніліся старонкі час. «Шыпшына», а, наадварот, Згуртаваньне «Шыпшына» ў той ці іншай ступені зпрычынілася да таго, каб дапамагчы Вам працерабіць шлях і да розных іншых выданьняў. Разам з тым помню, як Сяргей Хмара без усялякае падставы залічыў Вас у сябры Сустані «Баявая Ўскалось» і нават давёў да грамадзкага ведама, што Вы зьяўляецеся прадстаўніком Сустані ў ЗША. Помню, як Вы абурыліся з гэтае прычыны. І цяпер я ўсё гэтае прыгадваю вылучна ў сувязі з тым, што ніхто ня мае права заганяць літаратараў пугай у свой ня гэтулькі літаратурны, колькі палітыканскі закутак.

А тымчасам усяго добрага.

Пішэце, калі займеяце час і ахвоту.

З пашанай да Вас Ваш

12.2.55

Глыбокапаважаны Спадар Юхнавец!

Запрашаю Вас да сталага супрацоўніцтва ў літаратурна-мастацкім час. «Шыпшына». Ейны № 10 мае выйсьці друкам у пачатку сакавіка. За ім плянуюцца на працягу 1955 г. №№ 11, 12 і 13. Магчыма, што аб усім гэтым Вам падрабязьней напісаў Сп. Ян[ка] Золак[160]. Ён зьяўляецца адміністратарам і друкаром № 10 «Шыпшыны», Віцьбіч і Сп. М. Кавыль — рэдакцыйнай калегіяй.

Спадзяюся, Вы не сумняваецеся ў тым, што Вашыя добрыя творы знойдуць на старонках «Шыпшыны» сваё ранейшае пачэснае мейсца, а таму й чакаю іх для № 10.

Шчыра зычу ўсёго найлепшага.

З пашанай да Вас

---

[160] **Янка Золак** (сапр. Антон Даніловіч, 1912–2000), пісьменнік, журналіст, выдавец, грамадскі дзеяч. Заснаваў Беларускае культурна-мастацкае і навуковае таварыства. У 1960–1983 гг. — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка». У 1979–1981 гг. выйшлі два тамы яго «Твораў».

## ЧАСОПІС «ШЫПШЫНА»

**№ 1. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага аб’яднаньня «Шыпшына». [1946]**

Дубоўка, Уладзімер. О, Беларусь, мая шыпшына. (С. 1)
Арсеньнева, Натальля. Студзень. Сівой вярбой. (С. 2)
Сяднёў, Масей. Маё хуліганства. (С. 3)
Сяднёй, Масей. Хусьцінкі. (С. 4)
Віцьбіч, Юрка. Як сацьмела золата найлепшае. Урывак з аповесьці. (С. 4–5)
Салавей, Алесь. З таго сьвету. Плыве вадаплаў і плыве. (С. 6)
Лебяда, Тодар. Разьвітаньне з маленькай дачкою. У выгнаньне. (С. 7–8)
Геніюш, Ларыса. Мы былі і будзем крывічамі! (С. 8)
Зарэцкі, Міхась. Крывічы. Раман. Пралёг. Сьмерць Андрэя Беразоўскага. Частка першая (С. 9–15)
Жылка, Уладзімер. Ляпей жабрачы лёс. (С. 15)
Чарот, Міхась. Люблю. (С. 16)
Хадыка, Уладзімер. Пасярод зямлі аблонь. (С. 16)
Юстапчык, С. Безруч. Апавяданьне. (С. 17–21)
Клішэвіч, Уладзімер. Ноч. Пэнтамэтры. (С. 22)
Случанін, Лявон. Песьня цяплу. (С. 23)
Случанін, Лявон. Поўнік. (С. 24)
Золак, Янка. З народнага. Ня пытай. (С. 24–25)
Хмара, Сяргей. Курапачы вывадак. (С. 26–27)
Ільляшэвіч, Хведар. Нехта стаў за вакном і маўчыць. (С. 27)
Крушына, Рыгор. Паясок. Смутак на чужыне. (С. 28)
Дудзіцкі, Уладзімер. Маем сілу і край свой. (С. 29)
Кавыль, Міхась. Гатоў штодзень я быць данарам. Песьня-кліч. (С. 30)
Таполя, Вольга. Сустрэча. (С. 31)
Глыбінны, У. Лірычнае адтварэньне прыгожага. Паэзія Масея Сяднёва. (С. 32–41)

**№ 2. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». [1946]**

Я — Узвышэнец. Да дваццацігодзьдзя стварэньня літаратурнага згуртаваньня «Узвышша». 1926–1946. (С. 1)
Дубоўка, Уладзімер. І пурпуровых ветразей узьвівы. Уступ да паэмы. (С. 2–3)
Пушча, Язэп. З цыклю «Чорная дарога». ІІІ. (С. 3–4)
Жылка, Уладзімер. «Над нядоляй Тваёй не заплачу». (С. 4)
Віцьбіч, Юрка. Над возерам Шпірдынг. (С. 5–8)
Ільляшэвіч, Хведар. Цымбалы. (С. 9)

Арсеньнева, Натальля. Ён дайшоў… (С. 9–11)
Золак, Янка. Бывай, незваротная! Апавяданьне. (С. 11–15)
Сяднёў, Масей. Дазвольце вам паставіць помнік. Дарожныя ўражаньні. (С. 15–16)
Салавей, Алесь. Перачытваючы «Калевалу». (С. 17)
Кавыль, Міхась. Ніяк мне ня упіцца… (С. 17)
Зарэцкі, Міхась. Крывічы. Раман. II–III. (С. 18–24)
Вярба, Мікола. Сьвятых — сьвятым. Як з братам брат. (С. 25)
Брага, Сымон. Рукою Андрэявай. Беларускае малярства ў Польшчы. З працы «Беларуская культурная экспансыя на Захад і Усход». (С. 26–29)
Альгердзіч, Глеб. Нашчадкі і спадкаемцы. Крыху думак каля «Слуцкіх песьняроў» і нашае літаратурнае сучаснасьці. (С. 30–40)
Глыбінны, У. Ня згаснуць іскры Скарыны. (С. 40–44)
Дэклярацыя беларускага літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». (С. 45)
Хроніка. (С. 45–46)
Літаратурнаму згуртаваньню «Шыпшына». (С. 46)

**№ 3. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». 1946**

[Прысьвячэньне:] 1942–1946 29 чэрвеня. Чатыры гады таму, на чужыне, адышоў у вечнасьць наш вялікі беларускі нацыянальны паэта-прарок Янка Купала. (С. 1)
Купала, Янка. А хто там ідзе? На сход. Паўстань з народу нашага, прарок. (С. 1–3)
Сяднёў, Масей. Цень Янкі Купалы. Паэма. (С. 3–7)
Зарэцкі, Міхась. Крывічы. Раман. (С. 7–13)
Арсеньнева, Натальля. О, шыпшына мая, Беларусь. (С. 13)
Хмара, Сяргей. Беларусь! (С. 14–15)
Віцьбіч, Юрка. Схілілася над абразом шыпшына. З кнігі «Не чарнілам, а крывёю». (С. 15–17)
Салавей, Алесь. У дзень нарадзінаў. (С. 17–18)
Клішэвіч, Уладзімер. Муза. (С. 18)
Ільляшэвіч, Хведар. Чорныя цені. (С. 19)
Юстапчык, С. Безруч. Апавяданьне. (С. 20–23)
Чарнушэвіч, Нічыпар. Дзіва. (С. 23)
Палтава, Леанід. У імя жыцьця. (С. 24)
Лебяда, Тодар. Ліст другі. (С. 24–25)
Кавалеўскі, Аўген. Алеся. (С. 26–29)
Вярба, Мікола. Ці-ж мне ня даў нічога Бог? (С. 29)
Кавыль, Міхась. О, матуля мая, Беларусь. (С. 30)
Глыбінны, Уладзімер. Волат беларускага мастацкага слова. Янка Купала. 1943–1946. (С. 30–36)
М. Ш. Наша старадаўняе музычнае мастацтва. (С. 36–39)

С. З. Нашы песьняры. Наталья Арсеньнева і Масей Сяднёў. (С. 40–42)
Беларускі юбілейны літаратурны каляндар на 1946 год. (С. 43–44)
У літаратурным згуртаваньні «Шыпшына». (С. 44–45)
Зьлёту беларускіх скаўтаў. (С. 45)
[Хроніка]. (С. 45)
Падзяка. (С. 45)
З нашае выдавецкае нівы. (С. 46–47)
Украінцы аб нас. (С. 47–48)

**№ 4. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Год II. 1947**

Дудар, Алесь. У музэі залатую бранзалетку. (С. 1)
Трус, Паўлюк. З студэнцкага дзёньніка. (С. 1–2)
Хадыка, Уладзімер. Гудуць слупы… (С. 2)
Гарэцкі, Максім. Лірныя сьпевы. Апавяданьне. (С. 3–6)
Арсеньнева, Наталья. У бубны і літаўры. (С. 6–7)
Сяднёў, Масей. Вечар. Прага. Над морам. Сьнегапад. Дзеці. Разьбітае летнішча. Аб новым годзе для каляндара, які яшчэ не напісаны. (С. 7–10)
Салавей, Алесь. Пачні з Гомэра, ці пачні з Сакрата. (С. 10)
Ластоўскі, Вацлаў. Легэнды: Бяздоннае багацьце. Векавечная мяжа. (С. 11–12)
Крушына, Рыгор. Лебядзь чорная. Крушына. (С. 13–14)
Віцьбіч, Юрка. Дзе мой Паўлюк? З кнігі «Не чарнілам, а крывёю» (С. 15–17)
Ільляшэвіч, Хвёдар. Клёны. (С. 17–18)
Дудзіцкі, Уладзімер. Ізноў тут. А я — наадварот. У жоўталістую, рудую восень. (С. 18–19)
Клішэвіч, Уладзімер. Срэбных словаў жывая крыніца. (С. 20)
Чарнушэвіч, Нічыпар. Ой, юнацтва гады. (С. 20)
Богдан, Янка. Мне сьняцца сны… (С. 21)
Дамантовіч, В. Помста. З цыклю «Рамантыка». (С. 21–25)
Кавыль, Міхась. Адзін, адзін… Мне цыганка варажыла. Вячоркі. (С. 25–27)
Вярба, Мікола. Ня плач прад чужымі. (С. 27)
Золак, Янка. У дзень маіх нарадзінаў. (С. 27)
Шэрэх, Ю., праф. Гарыць Шыпшына. (С. 28–30)
Віцьбіч, Юрка. Вялікі сын вялікага народу. Францішак Скарына. (С. 31–35)
Беларускі юбілейны літаратурны каляндар на 1947 год. (С. 36)
У літаратурным згуртаваньні. (С. 37)
Бібліяграфія. (С. 38–39)
Лісты ў рэдакцыю. (С. 40–41)

**№ 5. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Год II. 1947**

[Прысьвячэньне:] 1917–1947. 30 год з дня сьмерці Максіма Багдановіча. (С. 1)
Багдановіч, Максім. Песьняру. Санэт. Тэрцыны. (С. 1–2)
Песьняры Максіму Багдановічу
Дубоўка, Уладзімер. Нават мора зьмяніла свой колер. (На магілцы Максіма Багдановіча). (С. 2–3)
Салавей, Алесь. Максіму Багдановічу .(С. 3)
Гай, Леанід. Вечар на Случчыне. (С. 3)
Чорны, Кузьма. Скіп’ёўскі лес. (С. 4–13)
Сяднёў, Масей. На пляжы. Гераіня. Жаданьне. Радасьць. Адзіноцтва. Спадзяваньні. Вятрык. (С. 14–16)
Салавей, Алесь. У дзень маіх нарадзінаў. Так і сталася: тую, другую. (С. 17–18)
Крушына, Рыгор. Маім братом. Каштаны. Пад вогненным дажджом. Суніцы. Цымбаліст. (С. 18–21)
Залужны, Сьвятаслаў. Танго «Нотурно». (С. 21–26)
Дудзіцкі, Уладзімер. І мала слоў… дарэмна прамяняў я сон начны. Ня першы раз і не апошні мусіць. (С. 26–27)
Юхнавец, Янка. Зямныя песьні. На руінах. Вежы стрункія узвысіў замак. (С. 27–31)
Таполя, Вольга. Прыгоды сумленнага юнака. (С. 32–38)
Кавыль, Міхась. Трыццаць першая восень. (С. 38)
Золак, Янка. Прызнаньне. (С. 38–39)
Вярба, Мікола. Паміж пахучых руж. (С. 39–40)
Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя. Урывак з аповесьці. Увязаць, узгадніць трэба. (С. 40–43)
З украінскае літаратуры
Славуціч, Яр. Як на сьвяце — людзі і майданы. (С. 43)
Кастэцкі, Ігар. Змаганьне за сьцяг. (С. 44–47)
Палтава, Леанід. Хто мы? (С. 48)
Вератэнчанка, Олэкса. Эпілёг да паэмы. (С. 48)
Танк, Максім. Зіма на Бацькаўшчыне. Камяні. Рубікон. (С. 49–50)
Панчанка, Пімен. І трэба-ж мне было сустрэцца зь ёю. Урывак з паэмы. (С. 50–51)
Гамолка, Мікалай. Пшаніца. (С. 51)
Віцьбіч, Юрка. Фрагмэнты з кнігі «Не чарнілам, а крывёю»: Калі ўзыходзіла сонца (Сымон Баранавых). Прышлеце мне гальштук (Мікола Гваздоў). На ганьбу, на зьдзекі, на мукі (Мікола Хведаровіч). Ганарар дзядзькі Галубка (Уладыслаў Галубок). Я хацеў далучыць Беларусь да Індыі (Макар Шалай). (С. 52–55)
[Абвесткі]. (С. 56)

У літаратурным згуртаваньні «Шыпшына». (С. 56)
Украінцы. (С. 57)
Літоўцы. (С. 57)
Бібліяграфія. (С. 58–59)

**№ 6. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Год ІІІ. 1948**

[Прысьвячэньне:] 110 год таму назад 21 студзеня 1838 г. на Горадзеншчыне ў сям'і беларускага ткача нарадзіўся Вялікі Змагар за Беларусь Кастусь Каліноўскі. (С. 1)
Беларусы, браты мае родныя! […] Яська гаспадар з-пад Вільні. (С. 1)
Салавей, Алесь. Гуманізм. Смутлівая маці. Споведзь. (С. 2–4)
Сяднёў, Масей. Верш без назову. Вокамгненьне. У пушчы. (С. 4–5)
Ільляшэвіч, Хведар. Ашалелы вецер на прасторы сьвішча. (С. 5)
Клішэвіч, Уладзімер. Разьвітаньне. Прышоў пад сонца я толькі ў госьці. З Амара Хаяма. З Катула. З Мэтэрлінка. (С. 5–7)
Вярба, Мікола. Дождж. Валтава. Прывід. (С. 8–9)
Крушына, Рыгор. Злое шчасьце. Мроі. Матчына сьляза. (С. 9–10)
Кавыль, Міхась. Я і роспач закілзаю. Калі мы пойдзем зноў у бой. Прароцтва. (С. 11–12)
Золак, Янка. Сонца ў зэніце. Вецер з крыві. (С. 12–13)
Юхнавец, Янка. Сустрэча. Яшчэ на ўсходзе ня было сьвітанку. (С. 13–14)
Залужны, Сьвятаслаў. На рубяжы. Апавяданьне. (С. 15–19)
Таполя, Вольга. Навальніца. Урывак з раману «Дачка». (С. 20–29)
Садковіч, М., Львоў, Е. Францішак Скарына набывае годнасьць бакалаўра. Урывак з аповесьці. (С. 30–39)
З украінскае літаратуры
[Памяці Юры Клэна]. (С. 40)
Клэн, Юры. Памолімся за тых, што у разлуцы. (С. 40–41)
Глебка, Пятро. Пра кнігі. (С. 41)
Куляшоў, Аркадзь. Елка. (С. 42–44)
Жыглевіч, Міхась. Як абкарналі песьні крылы. (С. 44–45)
Савіцкі, Васіль. Пра паэму з малінавай каймой. (С. 45–47)
Бацька. Пакліч бацькі. (С. 47)
Віцьбіч, Юрка. Ой-жа сынкі былі ў Бацькі Булака! (С. 48–53)
Кастусёнак. Ня ный! (С. 53–54)
Ажгірэй, Зьмітро. Які няўлюдак зможа зракчыся яе? Дзяцінства К. Езавітава. (С. 54–56)
Кляшторны, Тодар. [Верш]. (С. 57)
Салагуб, Янка. «Ходзім мы пад месяцам высокім, а яшчэ пад ГПУ». (С. 57–58)
Беларускі літаратурна-мастацкі каляндар на 1948 год. (С. 59)
У літаратурным згуртаваньні «Шыпшына». (С. 60–61)

**№ 7. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Год III. 1948**

Жылка, Уладзімер. Меч. (С. 1)
Сяднёў, Масей. Спынак. Ізноў, ізноў. Белая ноч. Патрыёты. (С. 2–3)
Салавей, Алесь. Актавы (Ну што. Пакінуў я. Нішто. Слупы. Чалом, чалом, слухмяныя актавы. Спакой. Альпы. Не ўспамінай). (С. 4–5)
Клішэвіч, Уладзімер. Песьні суму ліюцца далёка. (С. 5–6)
Лебяда, Тодар. Годзе! (С. 6)
Кавыль, Міхась. Муза. Галгофа. Падзямельная песьня. Недабітыя рыцары. Менск. (С. 7–12)
Вярба, Мікола. Крывавы клічнік. Вясна. Санэт. (С. 12–13)
Крушына, Рыгор. Эротава скрыпка. Астралёг. (С. 14–19)
Золак, Янка. Васількі. (С. 19–20)
Юхнавец, Янка. З лістоў да брата. У дом бацькоўскі ізноў я завітаў. Мінуўшчыны зрудзелае прачытаны тамы. (С. 20–23)
Сяднёў, Масей. Тут сонца, а за даляглядам. (С. 23)
Чорны, Кузьма. Скіп'ёўскі лес. (С. 24–34)
Таполя, Вольга. Безназоўнае. (С. 34–39)
Жамойда, Сымон. Як жартуюць у Малінавічах. (С. 40–44)
З недрукаванае спадчыны.
Васілёк, Міхась. На магілу нязнаных. (С. 45)
З узвышэнскае паэзіі.
Дубоўка, Уладзімер. Ты руку сваю забінтавала. (С. 46)
Пушча, Язэп. Песьня песень. (С. 46–47)
Лужанін, Максім. Вільнянка. (С. 47–48)
Віцьбіч, Юрка. Да рэшты бой! (С. 48–49)
Я. К. Пясьняр, змагар, бядняк празь век. Мае ўспаміны аб сьмерці Ўладзімера Жылкі. (С. 49–52)
Гай, Ігнат. Зацемкі аб культуры мовы. (С. 53–58)
Мікола Шыла ня жыве. (С. 58)
У літаратурным згуртаваньні «Шыпшына». (С. 59–60)
Ліст чытача ў рэдакцыю. (С. 60–62)
Бібліяграфія. (С. 62–63)

**№ 8. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Год 5. 1950**

Дубоўка, Уладзімер. Плач навальніцы. (С. 1)
[Прадмова]. (С. 1)
Сяднёў, Масей. Ты насустрач — болем. Ах, стаміўся я. Баялася ты ўвечары ісьці адна. Хліпнуў агонь — лягла. Малітва. Едзеш ты. (С. 2–4)
Клішэвіч, Уладзімер. Змаўкаю я, зьнікае голас слова. (С. 4)
Салавей, Алесь. У сузор'і зазьзяе Колас. (С. 4–5)

Кавыль, Міхась. Міжагнёўе. Паэма. (С. 5–8)
Ільляшэвіч, Хведар. Сябром. Прадмова Ю. В. (С. 9)
Дудзіцкі, Уладзімер. Дымяцца хмары. Каля вакна равесьнік клён. (С. 10)
Крушына, Рыгор. Вечавы звон. (С. 10–11)
Золак, Янка. На чаўне шчасьлівых дум. (С. 11)
Сокал, Янка. Прыдзем мы да цябе. (С. 11)
Віцьбіч, Юрка. Вышэй галаву, Дубавец! (С. 12–13)
Жывіца, Юрка. Пушча шуміць. (С. 14–17)
Жамойда, Сымон. І так дрэнна, і гэтак ня добра. (С. 17–29)
Коўш, Сьвятаслаў. Таямніца Сулы. (С. 20–21)
З іншанацыянальнае літаратуры
Гайнэ, Генрых. Два грэнадзеры. (С. 22)
Украінка, Лэся. Як-бы праменьні тыя. (С. 23)
Тычына, Павло. Смутлівай маці. (С. 23)
Лужанін, Максім. Дзьве вясны. (С. 23–25)
Віцьбіч, Юрка. Фрагмэнты з кнігі «Не чарнілам, а крывёю». Шолах шын і шум машын. Юлі Таўбін. (С. 25–26)
К., Міхась. Эпіграмы. (С. 26–27)
Францішак Багушэвіч. 1900–1950. (С. 27–28)
Уладзімер Дубоўка. 1900–1950. (С. 28–29)
Сьпяшайцеся, бо спозьніцеся. (С. 29–30)
Хроніка. (С. 30–31)

**№ 9. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Год 5. 1950**

[Прысьвячэньне:] 30 год таму назад 28 ліпеня 1920 на чужыне памёр Алесь Гарун. (С. 1)
[Гарун, Алесь]. Чаму з маленства… (С. 1)
Віцьбіч, Юрка. Мы дойдзем! (С. 2–3)
Сяднёў, Масей. Акіян. Чалавек бяз адрасу. Маленькая просьба. (С. 3–4)
Дудзіцкі, Уладзімер. Адменная ода. Зрада. (С. 4–6)
Салавей, Алесь. Чорны крук закракаў на ўсё горла. (С. 6)
Ільляшэвіч, Хведар. Сон. (С. 7–9)
Кавыль, Міхась. Два крыжы. З прастораў. Тэрцыны. Вясёлка. Трымайся, Марыя. (С. 9–11)
Юхнавец, Янка. Урывак з паэмы. З цыклю «Таёмнасьці». Уночы на акіяне. (С. 11–12)
Жывіца, Юры. Пушча шуміць. (С. 13–22)
Вярба, Мікола. Да берагоў зямлі не абяцанай. Фрагмэнты. (С. 23–25)
Золак, Янка. Псальм 126 Саламонаў. (С. 25)
Жамойда, Сымон. Здарэньне ў Крупніках. (С. 26–28)
Крушына, Рыгор. Чужая зіма. (С. 28)
Случчанін, Лявон. Песьня мая, песьня. (С. 29)

Коўш, Сьвятаслаў. Бірута. (С. 29–30)

Пушча, Язэп. Прарокі і вучні. З цыклю «Перад скупым аблічам часу». (С. 31)

Жылка, Уладзімер. Ізноў пытаньні. (С. 32)

Хадыка, Уладзімер. Трывожны шум. (С. 32–33)

Лужанін, Максім. Надзея. З цыклю «Словы бяз мэлёдыі». (С. 33–34)

Гомэр. Разьвітаньне Гэктара з Андрамахай. (С. 34–36)

Шыла, Мікола. Алесь Гарун. Успаміны. (С. 36–38)

Леўчык, Гальляш. Хто адрокся сваіх. (С. 38–39)

Сьвітка, С. [Гальляш Леўчык]. (С. 39)

Віцьбіч, Юрка. Завулак імя Янкі Купалы. (С. 40–43)

Віцьбіч, Юрка. Горад Ірвідуб. (С. 44–45)

Віцьбіч, Юрка. Сакрат ёсьць сябра, але ісьціна яшчэ большы сябра. (С. 45–47)

Па старонках беларускае прэсы. (С. 47–49)

На Бацькаўшчыне. (С. 49–50)

Бібліяграфія. (С. 51–54)

«Шыпшына» і грамадзкасьць. (С. 54–55)

**№ 10. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». Год 6. 1951.**
**Нумар нявыдадзены**

[Прысьвячэньне:] 25 год таму назад 26 траўня 1926 г. заснавалася Беларускае Літаратурнае Згуртаваньне «Узвышша».

Дубоўка, Уладзімер. Занадта ціха стала на Парнасе. З паэмы «І пурпуровых ветразей узьвівы»

Салавей, Алесь. Гэкзамэтры. Верш.

Віцьбіч, Юрка. Паданьне аб таямнічым сьвятле. Ходзіць па нашай краіне Рагнеда. Сказы.

Ільляшэвіч, Хведар.

3-я ўгодкі ад дню сьмерці.

Сяднёў, Масей. Нязжатая радасьць.

Салавей, Алесь. Вязьмо ў жалобны вянок.

Віцьбіч, Юрка. Мы заўсёды вітаем яго, як жывога.

Кавыль, Міхась. Хведару Ільляшэвічу. Верш.

Ільляшэвіч, Хведар. Літаратурнаму Згуртаваньню «Шыпшына».

Дудзіцкі, Уладзімер. Адменная ода. Каб хоць раз усьміхнулася шчасьце. Вершы.

Жывіца, Юры. Пушча шуміць.

Клішэвіч, Уладзімер. Месяц. У невядомы сьвет другі. Вершы.

Кавыль, Міхась. У акіяне. Скарпіён. Хутчэй, хутчэй, сымфонія грымотаў. Восень. Мейсца мала. Вершы.

Жамойда, Сымон. Сінічка. Апавяданьне.

Юхнавец, Янка. Эскізы. З восеньскіх уяў. Чалавек. Вершы.
Грэскі, В. Пагібель сэксота. Апавяданьне.
Вярба, Мікола. Мы сьведчыць будзем. Верш.
Крушына, Рыгор. Бяздомны бусел. Верш.
Змагарка, Ніна. Божая жалейка. Сказ.
Лебяда, Тодар. Дзяўчыне. Верш.
Золак, Янка. На прасторах Случчыны. Верш.
Юхневіч, К. Карнавух. Апавяданьне.
З паэзіі Заходняе Беларусі.
Прадмова ад Рэдакцыі.
Арсеньнева, Натальля. Сталёвы зьвяз. Верш.
Танк, Максім. На акопах. Верш.
Генюш, Ларыса. Надходзіць зноў гуманны час. Верш.
З іншанацыянальнае літаратуры.
Янонiс, Юліус. Мае песьні. Ці бачыў ты? Вершы. Зь літоўскае — Ул. Дубоўка.
Чарэнц, Егішэ. Вось іду я да вас. Верш. З армянскае — Уладзімер Дубоўка.
Максімаў, Сяргей. Алім Ахтыраў у Патокіна. Урывак з раману. З расейскае — Юрка Віцьбіч.
Сараян, Вільлям. Грунт пад нагамі. Апавяданьне. З ангельскае — Мікола Вярба.
З клясыкаў і да клясыкаў.
Сафо. Гэта цела. Верш. Пераклаў Уладзімер Клішэвіч.
Гётэ. Над вяршынямі гор цішыня. Верш. Пераклаў Міхась Кавыль.
Жылка, Уладзімер. Да Пэрсі Шэлі. Верш.
Салавей, Алесь. Паводля Дантэ.
З літаратурнае спадчыны.
Купала, Янка. Царскія дары. Верш.
Гартны, Цішка. Перад вобразам Хрыста.
Успаміны, крытыка, публіцыстыка.
Фолкнэр, Вільлям. Аб прызначэньні пісьменьніка. Стакгольская прамова.
Шыла, Мікола. Цётка. Да 35-х угодкаў ад дню сьмерці. Успамін.
Вярба, Мікола. Сучасная беларускя літаратура.
Стасюк, Міхась. Хведар Ільляшэвіч. Да 3-х угодкаў ад дню сьмерці. Артыкул.
Шымановіч, Ал. Па старонках беларускае прэсы. Агляд.
Беларускі літаратурны каляндар на 1952 г.
Хроніка.

*Юрка Віцьбіч*

## Вялікі сын вялікага народу (Францішак Скарына)[161]

«Людзі, дзе нарадзіліся і ўзгадаваліся,
да таго месца вялікую ласку маюць».

*Францішак Скарына*

Да аднэй з кніг, надрукаваных Францішкам Скарынай, прыкладзены ягоны партрэт. Першадрукар, апрануты ў доктарскую мантыю і барэт, з гусіным пяром у руцэ, сядзіць у сваім пакоі за працай. Аб выключнай напружанасьці гэтае працы сьветчыць і пясочны гадзіньнік і пчала, у вобразе якой мастакі заўсёды ўяўлялі сабе нястомную працу, і загадзя падрыхтаваная, яшчэ сярод белага дня, сьвечка з рэфлектарам. Скарыну акружаюць кнігі — ён быў адным з самых асьвечаных людзей першае паловы XVI стагодзьдзя. Разам з тым ён ніколі ня вылазіў зь нястачы, што бяз слоў пацьвярджаюць і напышлівыя гэрбы мэцэнатаў на сьпінцы крэсла, і звычайныя вясковыя плеценыя кошыкі пад лаўкай, на якой стаіць такі-ж убогі гліняны жбан. На пюпітры можна заўважыць малюнак, вельмі падобны да гэрбу: месяц закрывае сабою напалову сонца. Але Скарына не належыў да шляхецкага стану і таму ня мог мець родавага геральдычнага гэрбу. Гэта нішто іншае, як своесаблівая фабрычная марка, што сустракаецца на ўсіх друкаваных ім кнігах. У астралёгіі, зь якой яму давялося пазнаёміцца ў Кракаўскім унівэрсытэце, малюнак сонечнага зацьменьня азначае: *«Кароткае жыцьцё, смутак, клопаты, нястача»*.

Ніхто так вычарпальна не расказаў пра гаротнае жыцьцё першадрукара нашага народу, як ён сам, выбраўшы для сваёй дзейнасьці такую адзнаку. І разам з тым, калі бачыш гэты «гэрб» славутага Скарыны, адразу ўспамінаюцца словы ягонага вялікага сучасьніка — немца Эразма Ротэрдамскага[162]: *«Друкарскі знак на кнігах мае большае значаньне для чалавецтва, чымся імпэратарскі гэрб на манетах»*.

Вельмі характэрна, што доктар Францішак Скарына паходзіў *«з слаўнага граду Полацку»*, як ён любоўна падкрэсьліваў гэта ў сваіх прадмовах да кнігаў. Полацак у ягоную пару быў буйным беларускім цэнтрам, што налічваў да 100 тысячаў жыхароў. Тут, прыблізна каля 1490 году, у сям’і сярэдняе заможнасьці мешчаніна Лукі Скарыны нарадзіўся сын, якому далі імя Францішак. Скупыя дадзеныя захаваліся

[161] Першапачаткова артыкул быў апублікаваны ў газеце «Раніца» (30 ліпеня 1944 г.). Друкуецца паводле: Шыпшына. № 4. 1947. С. 31–35.

[162] **Эразм Ратэрдамскі** (лац. *Erasmus Roterodamus*, 1467–1536), нідэрландскі мысляр-гуманіст, пісьменнік.

аб жыцьці Скарыны. Усё-ж вядома, што пачатковую асьвету хлапчук атрымаў у родным горадзе, а пасьля пераехаў у Вільню, дзе жыў яго стрыечны брат Раман. У Вільні ён пашыраў свае веды, бо ўжо ў 1504 годзе, у прыходных кнігах Кракаўскага ўнівэрсытэту сустракаецца запіс: *«Францішак, сын Лукаша з Полацку, заплаціў два грошы за навучаньне»*.

Кракаўскі ўнівэрсытэт і асабліва ягоны філёзафічны факультэт, дзе вучыўся Скарына, зьяўляўся цэнтрам сярэднявечнае рэлігійнае схалястыкі. Нават формулы фізыкі і тэарэмы геамэтрыі прытарноўваліся ў ім для патрэбаў багаслоўя, але вольнае паветра эпохі Адраджэньня пранікала й сюды. Яшчэ геніяльны Дантэ[163] гаварыў, што жывая італійская мова вышэй за мёртвую лацінскую, і адзін з Кракаўскіх прафэсараў Ян Глагоўчык упарта працуе над перакладам біблії з лацінскае мовы на беларускую. Няма сумленьня, што гэта зрабіла некаторае ўражаньне на будучага нашага першадрукара.

Ужо ў Кракаве юнак пазнаёміўся зь нястачай, бо перадчасна памёрлі ягоныя бацькі і дзядзька, якія нічога, апрача даўгоў, не пакінулі сваймо сыну й пляменьніку. Аплата за навучаньне была тады вельмі высокай, і ад яе звальняліся толькі адзінкі. Значна больш, чым навучаньне, каштавалі пісьмовыя прылады. Таму студэнтам XVI стагодзьдзя ўласьцівы дробны, уборысты почырк і адсутнасьць у іхніх сшытках палёў. Яшчэ даражэй каштавалі рукапісныя кнігі. У бібліятэках падручнікі прыкоўваліся да паліц ланцугамі. Часам выпадковае ўладаньне тэй ці іншай кнігай вызначала сабой выбар факультэту. Усё-ж, нягледзячы на гэтыя цяжкасьці, у 1506 годзе Францішак Скарына скончыў унівэрсытэт, атрымаўшы навуковую годнасьць бакалаўра — дыплём доктара філёзофіі.

Здавалася, што малады вучоны пачне цяпер парадкаваць сваё асабістае жыцьцё, але ў 1512 годзе ён нечакана накіроўваецца ў далёкую Італію. Старая Эўропа разьвіталася ў той час са сваім сярэднявеччам і пачынала новую гісторыю. Толькі за 72 гады да гэтага Іоган Гутэнбэрг надрукаваў першую кнігу — «Каляндар на 1440 год». І калі раней толькі каралі маглі зьбіраць вялікія бібліятэкі, а выдатныя вучоныя 15–20 рукапісных кнігаў, дык цяпер друкаваныя кнігі разыходзіліся ў розныя бакі больш, чымся з 1000 друкарняў. Вялікага вынаходніка друку ўжо ня было ў жывых — у 1467 годзе ён, абрабаваны ліхвярамі-паразытамі, памёр блізу жабраком[164]. Усяго за 20 год да гэтага скарынавага падарожжа генуэзец Хрыстафор Калумб[165], шукаючы

[163] **Дантэ Аліг’еры** (італ. *Dante Alighieri*, 1265–1321), італьянскі паэт, адзін з заснавальнікаў літаратурнай італьянскай мовы.

[164] Насамрэч Ёган Гутэнберг памёр у 1468 г.

[165] **Хрыстафор Калумб** (італ. *Cristoforo Colombo*, 1451–1506), італьянскі мараплаўца родам з Генуі, які ад 1492 г. здзейсніў чатыры падарожжы з Еўропы ў Амерыку, пачаўшы каланізацыю Новага Свету.

карацейшага шляху ў Індыю, адкрыў Амэрыку. Гэты вялікі чалавек таксама ўжо ляжаў у труне, куды па яго перадсьмяротнай просьбе паклалі кайданы, у якія ён, па загаду караля, быў закуты. Толькі 5 год аддзялялі гэтае падарожжа ад таго дню, калі Мартын Лютар прыбіў да дзьвярэй маленькае капліцы свае тэзы[166] й гэтым пахіснуў вялізныя палацы й хорамі папскае рэзыдэнцыі — Ватыкану.

Гэны-ж прагрэсыўны рух, падхапіўшы патрыёта сваёй айчыны, сына беларускага мешчаніна, Францішка Скарыну, накіраваў яго ў Італію.

Юнак *«з слаўнага граду Полацку»* ішоў з хатулём за плячыма, праз Эўропу, ішоў у горад Падую, каб вучыцца зноў.

Падуйскі ўнівэсытэт славіўся ў той час сваім прыродазнаўчым факультэтам. У 1506 годзе яго скончыў Капэрнік[167], тут вучыліся Бакачыо[168] і Тасо[169], у канцы XVI стагодзьдзя ў ім выкладаў матэматыку сам Галілей[170]. Пасьля навучаньня тыя студэнты, што вытрымлівалі папярэднія праверачныя іспыты, дапушчаліся да *«страшнага»* экзамену на адпаведную навуковую годнасьць. Апрача каштоўных падарункаў для сяброў, калегіі й наладжаньня для іх банкету, той, хто ставаў да іспытаў, павінен быў заплаціць 500 ліраў (6000 рублёў золатам). Ня можа быць, каб пра гэта ня ведаў юнак з хатулём за плячыма, і тым ня менш ён упарта крочыў да Падуі. А калі ён нарэшце прыйшоў да былога палацу герцагаў, дзе зьмяшчаўся ўнівэрсытэт, дык даведаўся, што заняткі ў ім у сувязі з вайной спыненыя яшчэ з 1509 году і адбываюцца толькі экзамэны на навуковыя годнасьці.

Няведама, дзе вучыўся першадрукар Францішак Скарына на працягу тых шасьці год, якія аддзяляюць ў ягоным жыцьці Кракаў ад Падуі. Затое ведама што 5 лістапада 1512 году ў царкве Урбана сабраліся прадстаўнікі мэдыцынскае калегіі ўнівэрсытэту, і віцэ-прэор факультэту Мусаці зьвярнуўся да іх з прамовай:

— *Шаноўныя панове дактары. Прычына скліканьня вашага шаноўства наступная. Ёсьць нейкі вучонейшы юнак, доктар навук, бядняк, які з надзвычайна далёкіх краін, магчыма, за тысячы зь лішкам вёрст ад гэтага славутага месца, дзеля павялічэньня славы й чэсьці ягонае, а*

---

[166] Маюцца на ўвазе напісаныя ў кастрычніку 1517 г. 95 тэзісаў Марціна Лютэра, што лічацца афіцыйным пачаткам Рэфармацыі.

[167] **Мікалай Капернік** (польск. *Mikolaj Kopernik*, 1473–1543), польскі навуковец, астраном, стваральнік геліяцэнтрычнай тэорыі свету.

[168] **Джавані Бакача** (італ. *Giovanni Boccaccio*, 1313–1375), італьянскі паэт і празаік, гуманіст.

[169] Магчыма, маецца на ўвазе **Тарквата Таса** (італ. *Torquato Tasso*, 1544–1595), італьянскі паэт.

[170] **Галілеа Галілей** (італ. *Galileo Galilei*, 1564–1642), італьянскі філосаф, фізік, астраном. Вядомы сваімі даследаваннямі ў галіне механікі і астранамічнымі назіраннямі.

*таксама гэтае гімназіі і калегіі нашае прыйшоў сюды пехатой і жадаўбы ад калегіі атрымаць ступень доктара мэдыцыны дарма*.

Пасьля гэтага, як успамінае ўнівэрсытэцкі летапіс, увайшоў *«бедны юнак магістар Францішак Скарына, сын памерлага Лукі з Полацку»*. Пазнаёміўшыся зь ведамі юнака, калегія аднадушна дапусьціла яго да экзамэнаў і вызваліла ад платы. Гэты экзамен у прысутнасьці сьпярша 14-ці, а пасьля 24-х экзаменатараў Скарына вытрымаў бліскуча і быў аднагалосна прызнаны доктарам мэдыцыны. Пры вельмі ўрачыстых абставінах доктар Барталамей Барызон пацалаваў юнака і ўсклаў на яго зьнешнія адзнакі доктара мэдыцыны.

Цяпер ужо здавалася, што пасьля сканчэньня двух унівэрсытэтаў нарэшце пачнецца жыцьцё для сябе. Гэта здавалася тым больш пэўным, што набытая зь вялікімі цяжкасьцямі доктарская ступень давала шмат жыцьцёвых пераваг. Доктар меў права нават прысутнічаць на сходах ураду й прымаць удзел у кіраваньні. Але Скарына пераяжджае ў Прагу Чэскую, дзе адчувалася вялікая патрэба ў людзях ягонае спэцыяльнасьці, і там, замест таго, каб настаўнічаць або лячыць, вывучае друкарскую справу і марыць аб першай друкаванай кнізе ў роднай яму, беларускай мове. Спачатку мары заставаліся толькі марамі. Францішак Скарына быў доктарам філёзофіі і доктарам мэдыцыны, а не магнатам Радзівілам і ня біскупам Сангушкай. Таму ён ня мог на ўласныя грошы набыць друкарню, але, даведаўшыся аб ягоным намеры, ягоныя заможныя суайчыньнікі, віленскія мяшчане, адразу прыходзяць свайму вучонаму на дапамогу. З асаблівай удзячнасьцю ўспамінаў заўсёды Скарына райцу (судзьдзю) Багдана Оньку і бурмістара (галаву) Якуба Бабіча, ад якіх ён меў матар’яльную і маральную падтрымку.

6 жніўня 1517 году ў Празе выйшла з друку першая кніга ў беларускай мове — «Псалтыр». Каб зразумець вялізарнае гістарычнае значэньне гэтае падзеі, трэба ўлічыць, што «Псалтыр» у той час зьяўляўся ня толькі рэлігійнай кнігай, але і падручнікам. Вучні ў школах вучыліся па яму на мала знаёмай царкоўна-славянскай мове чытаць і пісаць. Цяпер яны атрымалі падручнік у сваёй роднай мове, і гэта добра разумеў Скарына, напісаўшы ў прадмове да кнігі: *«Детем малым — пачатак всякае добрае навукі-граматы — еже добрае често (чытаць) і мовіті вучыць»*.

Вялікая любоў да Бацькаўшчыны натхняе Скарыну, дае яму магчымасьць на працягу двух год перакласьці і надрукаваць 22 кнігі зь біблії. Біблія, выданая ў беларускай мове, адыграла таксама вялізную ролю. Кнігі ейныя са знакам месяца й сонца ішлі ня толькі ў бібліятэкі каралёў і біскупаў, але і ў самую гушчыню гарадзкога жыхарства. Асабліва апошняга й дамагаўся Скарына, адзначыўшы ў прадмове да аднэй зь іх, што хоча, каб: *«Братія моя… людзі посполітые (простыя) чтучы, маглі лепей разумеці»*.

І ягоныя кнігі ў роднай мове абуджалі ў беларускім народзе нацыянальную самасьвядомасьць, натхнялі на змаганьне з ворагамі Бацькаўшчыны. Яны зьяўляліся грознай зброяй, сілу якога ведалі ворагі нашага народу.

У 1520 годзе Францішак Скарына пераяжджае з Прагі ў Вільню. Пазнаёміўшыся там з друкарскай справай і з чэскімі перакладамі, яго пацягнула бліжэй да Бацькаўшчыны, да свайго народу. І ў часе гэтага пераезду ён ледзь не загінуў.

Па дарозе Скарына заехаў у Вітэнбэрг, дзе тады Лютар выступаў супроць папы. З гэтае прычыны каталіцкія манахі абвінавацілі яго ў тым, што ён спачувае Лютэру. Скарыну пад імем *«Францішка з Польшчы»* арыштавалі і засудзілі на спаленьне. Ён здолеў апраўдацца, але ўсё-ж значную колькасьць ягоных кнігаў інквізытары спалілі.

Перавёзшы ўсё тэхнічнае абсталяваньне ў Вільню, Францішак Скарына заснаваў у доме Якуба Бабіча на Вялікай вуліцы першую на Беларусі і на ўсім усходзе Эўропы друкарню. Тут ён у 1525 годзе выдае першую на Беларусі друкаваную кнігу — «Апостал», а крыху пазьней — «Малую падарожную кніжыцу». Скарыне ў той час было 35 год, але пазьнейшых ягоных выданьняў мы ня ведаем. Ён вымушаны быў спыніць улюбёную ім працу...

У Вільні Скарына спадзяваўся пасьля вандраваньня па ўсіх краінах займець нарэшце сваю сям'ю. Ён ажаніўся. Але сваякі жонкі адразу-ж пачынаюць цягаць яго па судох. Судовая валакіта гэтак надакучыла яму, што ён нават скардзіцца на суседзяў каралю. Адначасна перапісчыкі кнігаў падбухторваюць мяшчан спаліць друкарню і забіць першага друкара.

У 1530 годзе згарае першая на Беларусі скарынінская друкарня, і ў ейным полымі, разам з чэскім абсталяваньнем, гінуць новыя працы Скарыны, а ён сам уцякае ад прасьледу ў Кэнігсбэрг. Тамашні прускі герцаг Альбрэхт[171] піша аб ім хвалебны і абаронны ліст да вялікага князя літоўскага і да віленскага магістрату, характарызуючы Скарыну як выдатнага вучонага, ведамага ў Эўропе. Гэта не дапамагло, бо з граматы польскага караля, датаванай 1532 годам, відаць, што ў доктара Скарыны была канфіскаваная ўся маёмасьць, і ён прыцягваўся да розных пабочных працаў. Нічога ня ведама аб апошніх днях жыцьця нашага славутага супляменьніка. Адно, няма ніякага сумлеву, што доктар філёзофіі і доктар мэдыцыны, вялікі сын беларускага народу Францішак Скарына, гэтак-жа, як і Іоган Гутэнбэрг, памёр у беднасьці. Значная колькасьць кніг Скарыны спаленая езуітамі-палёнізатарамі. Найбольш поўны камплект перакладзенай і выдадзенай ім бібліі за-

---

[171] **Альбрэхт Брандэнбург-Ансбахскі** (ням. *Albrecht von Brandenburg-Ansbach*, 1490–1568), апошні магістр Тэўтонскага ордэна, першы герцаг Прускі (1528–1568).

хоўваецца ў Лёндане, у Брытанскім музэі. Унікум «Псалтыру» 1517 году знаходзіцца ў Маскве. Зусім выпадкова адзін аматар старадрукаваных кнігаў знайшоў яго і купіў на Ніжгарадзкім кірмашы.

У мове перакладаў Скарыны сустракаюцца словы царкоўна-славянскія, украінскія, чэскія, польскія, літоўскія і нямецкія, але аснова яе — тагочасная жывая, народная беларуская мова. І сяньня ад Віцебску да Беластоку, ад Горадні да Гомелю мы пачуем, прыкладам, такія словы, як: *праца, помста, каханьне, шкода, крыўда, згода*. Цікава, што Скарына ўжываў [словы] Полаччыны: як: *увонках* (знадворку), *жужэлка* (яшчарка), *зараніца* (плянэта Вэнэра) і г. д. Адсюль, ад гэтых перакладаў і арыгінальных прадмоваў Скарыны, бярэ свой пачатак беларуская літаратурная мова.

Кнігі Скарыны, надрукаваныя на добрай, трывалай паперы, якую цалкам характарызуе знак папяровай фабрыкі — бычыная галава, аздобленая загалоўнымі літарамі і прыгожымі віньеткамі з тонка гравіраваным арнамэнтам, што складаецца з кветак, лісьцяў, пладоў, птушак, жывёл, ілюстраваныя высокамастацкімі сюжэтнымі гравюрамі, — нічым не адрозьніваліся ад найлепшых у той час нюрэнбэргскіх і вэнэцыянскіх выданьняў. Выразны іхны шрыфт атрымаў назоў скарынінскага, і яны на працягу 150 год зьяўляліся на ўсходзе Эўропы ўзорам друкарскага мастацтва. Кнігі Скарыны разыходзіліся ня толькі па Беларусі, але траплялі да бальканскіх славянаў, да немцаў, у Італію і Ангельшчыну. Друкарні 16 стагодзьдзя пераймалі іхны фармат і шрыфт, а ў паасобных выпадках нават падраблялі скарынінскі знак — месяц і сонца

Францішак Скарына назаўсёды ўвайшоў у гісторыю як першадрукар нашага народу, як выдатны дзеяч і патрыёта сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі. Цяжка зважыць усю каштоўнасьць самаадданай працы, праробленай ім за карокі час і пры самых няспрыяльных умовах. З пашанай і ўдзячнасьцю ўспамінаем мы аб нашым славутым палачаніну.

У Бэрліне і Майнцы стаяць помнікі Іогану Гутэнбэргу. У Празе стаіць, схіліўшыся над друкарскім станком, бронзавы Сэвэрын Крамарж[172]. І хочацца думаць, што прыйдзе час, і на плошчах нашых гарадоў стане Францішак Скарына — вялікі сын вялікага народу.

[172] **Севярын Крамарж** (чэш. *Severin Kramář*), адзін з чэшскіх першадрукароў.

*Уладзімер Глыбінны*

## Ня згаснуць іскры Скарыны[173]

Праз колькі месяцаў нам было зайздрасна бачыць і чытаць украінскую, расейскую, польскую прэсу — часапісы й газэты, кнігі, што ад якога часу пачалі ўжо выходзіць на заходніх акупацыйных зонах Нямеччыны. Сэрца чакала роднага слова, людзі прагнулі беларускіх друкаў. На вялікі жаль, больш было і ёсьць людзей, што больш і ахвотней аб патрэбе нашага друку гавораць, чым робяць. Людзі ўдаліся ў розныя вузка-групавыя малакаштоўныя або зусім непатрэбныя народу спрэчкі, а часам і сваркі, што толькі адводзяць сілы ад належнае культурна-творчае чыннасьці. Таму асабліва вартаснымі, можна сказаць, гэраічнымі чынамі зьяўляюцца сёньня спробы асобных людзей аднавіць беларускі пэрыядычны друк і закласьці новую беларускую замежную прэсу.

Цяжка перадаць узрушэньне, якое ахапіла беларускіх культурнікаў, калі яны ўрэшце атрымалі гэтак даўно чаканыя новыя беларускія выданьні ў Рэгенсбургу, як «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі» — часапіс праваслаўных беларусаў, «Шыпшына» — літаратурна-мастацкі часапіс, «Зважай»[174] — часапіс беларускіх скаўтаў, альбо «Шляхам Жыцьця»[175] — літаратурна-грамадзкі часапіс, што выдаецца на ангельскай зоне ў Ватэнштэце Беларускім Дапамаговым Камітэтам.

Чытаючы й перачытваючы гэтыя часапісы, сэрца поўнілася ўдзячнасьцяй да людзей, што знайшлі ў сабе сілы й здольнасьці пераадолець нязьлічоныя цяжкасьці, што стаяць на шляху да стварэньня беларускай прэсы тут, за мяжой, і зь любасьцяй, рупнасьцяй і пэўным майстэрствам зноў аднаўляюць слаўныя традыцыі беларускіх першадрукароў, як Скарына і ягоныя наступнікі.

Дарма, што сяньня гэта яшчэ толькі ратататарным спосабам адціснутыя параўнаўча тонкія невялікія сшыткі, хаця-ж, калі ходзіць аб рэгэнзбургскіх выданьнях, справядлівасьць патрабуе прызнаць, што зробленыя яны з густам, пісьменна й досыць прыгожа, чаму дапамагаюць і элементы беларускай арнамэнтыкі на вокладцы. Урэшце, пры ўсёй пажаданасьці і канечнай патрэбе друкаваных выданьняў, сапраўдная вартасьць кнігі палягае ў ейным зьмесьце, культурна-нацыянальнай выразнасьці і ідэёвасьці, тэхнічны-ж бок выданьняў мае службовую ролю.

---

[173] Друкуецца паводле: Шыпшына. № 2. 1946. С. 40–44.

[174] **«Зважай»** — скаўцкі часопіс, які выдаваўся ў Рэгенсбургу ў 1946 г. Выйшла 2 нумары. Рэдактар В. Кіпель.

[175] **«Шляхам жыцця»** — часопіс Беларускага дапамаговага камітэта ў Ватэнштэце, які выходзіў у 1946–1948 гг. Рэдактары Я. Сурвіла, Хв. Ілляшэвіч, М. Шыла.

Што-ж тычыцца зьмястоўнасьці згаданых выданьняў, дык тут мы мусім асабліва вылучыць рэгензбургскія выданьні.

Ужо пры першым азнаямленьні зь зьместам часапісаў «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі», якіх мы ў часе пісаньня гэтай рэцэнзіі маем тры нумары, пераконваешся, што гэта паважны, вельмі зьмястоўны й надта патрэбны беларускаму грамадзтву часапіс. І хаця-ж на вокладцы зазначана, што гэта часапіс праваслаўных беларусаў, аднак ягоны сур'ёзны беларускі зьмест, наяўнасьць, побач з матар'яламі рэлігійнага зьместу, багатых матар'ялаў з гісторыі нашай Бацькаўшчыны, літаратурна-мастацкіх і грамадзкіх матар'ялаў, датрыманых цалкам у дусе выразнага і пасьлядоўнага нацыянальнага выхаваньня, робіць гэты часапіс агульна-беларускім, каштоўным кожнаму беларусу бяз розьніцы веравызнаньня.

Рэдакцыя вельмі добра абрала назву для часапісу, якая ўдала спалучае ў сабе й пашану да нашае слаўнае далёкае мінуўшчыны зь сяньняшняй патрэбай прадоўжыць духовыя шляхі, што церабіліся нашымі вялікімі папярэднікамі — творцамі высокае духовае культуры, адным з сымбаляў якой дайшла да нашых дзён памяць аб сьвятой Сафіі.

*«Зьнішчаны званы нашых сьвятыняў»,* — піша рэдакцыя ў першым нумары часапісу — *«але і сяньня мы чуем іхні ўрачысты трызвон. І калі чытач, перагортваючы балонкі нашага новага часапісу, таксама адчуе, як зьвіняць званы Сьвятой Сафіі, дык, значыцца, нашая праца не прайшла дарэмна. Да паможа нам у гэтым Гаспод Бог і Сьвятыя ўгоднікі нашае Маці-Беларусі»*.

Так, паважаная рэдакцыя, мы, беларусы, што апынуліся на эміграцыі ў Нямеччыне, пачулі звон сьвятых званоў. Ён гучыць у кажным артыкуле часапісу, гучыць і заклікае да аб'еднаньня, да духовага дасканаленьня, лучыць нашыя раскіданыя душы аднымі ідэямі нацыянальнага й духоўнага адраджэньня, вяртае нашаму народу тую доўга адыманую духовую страву, якая вяртае нам зноў годнасьць Чалавека зь вялікай літары.

Патасам гэтае ідэі насычаныя ўсе гістарычныя нарысы Юркі Віцьбіча і рэлігійныя артыкулы нашых сьвятароў, і ўрыўкі зь сьвятога пісаньня, і мудрыя словы даўніх беларускіх асьветнікаў-духоўнікаў, як «Словы Божыя» сьвятога Кірылы Тураўскага[176], або духоўных пісьменьнікаў Сьцяпана Зізанія[177], Антона Радзівілоўскага і другіх беларускіх асьветнікаў.

---

[176] **Кірыла Тураўскі** (каля 1113 — каля 1182), прапаведнік, пісьменнік, царкоўны дзеяч.

[177] **Стэфан Зізаній** (каля 1570 — каля 1634), праваслаўны пісьменнік-палеміст, прапаведнік, педагог.

Кажны чытач-беларус знойдзе ў часапісе цікавы сабе матар'ял. І вернік, які цікавіцца пераважна рэлігійным зьместам, і чытач, якога побач зь першым цікавіць і агульна-грамадзка-беларускі зьмест, знойдуць тут сабе добрую ежу для задаволеньня сваіх духовых патрэбаў. Чытач зь пераважна літаратурнымі зацікаўленьнямі знойдзе тут шмат вартасных і з чыста-мастацкага боку і з боку духовага і з боку ідэёва-нацыянальнага зьместоўны літаратурны матар'ял. Вылучаюцца тут натхнёныя патрыятычныя гістарычныя нарысы Юркі Віцьбіча — «Крыж Прэпадобнай Еўфрасіньні» (№ 1), «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі» (№ 1), «Б'е з-пад муру сьвятая крыніца» (№ 2), «Там, дзе шуміць незабытнае Пола» (№ 2), «Аб чым крычыць каменьне» (№ 3), «Можна зьнішчыць звон, але нельга зьнішчыць народ» (№ 3), артыкулы і нарысы Алеся Крыжаніча «Перагортваючы старонкі гісторыі» (№ 2), «Чаму "Беларус"», а таксама артыкул М. Крыніцкага «Не дазволім абражаць веру» (№ 3).

Глыбокае веданьне фактаў нашае гісторыі тут лучыцца з глыбокім патрыятычным пачуцьцём, з запалам у абароне нацыянальна-духоўных помнікаў, у абароне нашае культуры й веры ад усіх варожых нападкаў і шматвяковага паніжэньня. Тут войстрае таленавітае літаратурнае пяро аўтара служыць высокім мэтам змаганьня. За ўсё тое, што становіць наш нацыянальны гонар. Усе яны напісаныя з натхненьнем і ўвойдуць у няўміручы скарб прыгожага беларускага пісьменства, што прыслужыцца высокім мэтам нашага шматвяковага духоўнага змаганьня. Чытаючы й перачытваючы гэтыя нарысы, уяўляеш сабе выразна постаць тых змагароў духа, якіх ужо неаднокраць нараджаў у гісторыі змагальны дух нашага народу і які ўжо даў нам ці мала вялікіх волатаў як мастацкага слова, гэтак і выдатных чыноў-дзеяў.

А той гарачы запал, зь якім напісаны артыкулы М. Крыніцкага і Алеся Крыжаніча ў абарону нашае веры й нацыянальнае годнасьці, зусім зразумелыя кажнаму беларускаму патрыёту і робяць іх яшчэ больш дарагімі кажнаму беларускаму сэрцу.

Артыкулы, што праводзяць думкі аб нацыянальным характару беларускае праваслаўнае царквы й робяць спробы даць еднасьці, узаемапомачы, сужыцьця паміж народамі і дзяржаваю як палітычнай арганізацыяй народу й Царквою як духоўнай арганізацыяй насельніцтва, асабліва на часе і могуць добра прыслужыцца ідэі адраджэньня беларускае нацыянальнае царкоўнасьці. З гэтага гледзішча яны могуць быць карыснымі і ўсім беларусам іншых веравызнаньняў, ня кажучы ўжо пра беларусаў-праваслаўных.

Добрым дапаўненьнем і канкрэтна-наглtimes мастацкімі ілюстрацыямі да рэлігійнага матар'ялу служаць неблагія мастацкія перакладныя апавяданьні, як «Аляксей — чалавек Божы» або «Архіярэй і разбойнік».

Аднак тут наперадзе нашы беларускія паэты, якія ўжо далі колькі добрых рэчаў рэлігійна-нацыянальнага зьместу, на перш верш Масея Сяднёва «Богу», выдатная беларуская нацыянальная «Малітва» Натальлі Арсеньневай, зьмешчаная ў № 1 гэтага часапісу. Апошняя («Малітва») наагул можа зьявіцца ўзорам спалучэньня нацыянальнае ідэі з рэлігійным зьместам і формаю. Тут вельмі прачула й гарманійна выяўленыя нашыя народныя пажаданьні ў форме малітоўнай просьбы, вымальваньнем у Госпада лепшае долі нашаму Краю — ціхай і ветлай Беларусі — даць *«спор у працы... на лусту хлеба, на родны край, павагу, сілу і веліч веры у нашу праўду, у прышласьць...»*.

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым — пашлі ўмалот,
зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу і наш народ.

А паэта Масей Сяднёў знайшоў моцныя і выразныя словы для паэтычнага выяўленьня звароту веры ў Богу праз няшчасьце, гора, пакуту, калі адноўленая яна, гэтая вера, становіцца зноў крыніцаю адраджэньня чалавечае душы, нібы бальзам гоіць яе і не дае заняпасьці н'ат у самых страшэнных абставінах жыцьця.

Передрукі прыгожых вершаў М. Багдановіча[178], як «Кніга» або «Апокрыф», як і шэраг іншых, апрабаваных гісторыяй беларускае літаратуры твораў, можна апраўдаць заўсёднай цягай чалавечае душы да ўсяго азначанага прыгажосьцяй, што ачышчае яе ад бруду, узвышае да высокай мэты, чысьціні, яснасьці духа. Пра іх можна сказаць словамі самога Багдановіча зь іншага вершу:

Мы цягнемся к старым паэтам,
каб хоць душой у прошлым патануць.

Гэта яны становяць тую чыстую крыніцу для нашага духа, пра якую гаворыцца ў вершы «Кніга»:

Як вее сьвежасьцю яе краса жывая,
як радасна далей сьпяшыць душа мая.

Можа пройдуць вякі, а вечна будуць жыць Багдановічавы словы з «Апокрыфу» пра красу як аздобу жыцьця, што *«няма лепш цьвяточка над васілёчка»,* і той дакор чалавецтву, што яно затаптала Хрыстовыя сьляды.

Да зьяўленьня ў сьвет адмысловага літаратурна-мастацкага часапісу «Шыпшына» цэлы шэраг паэтаў і пісьменьнікаў рэалізавалі свае

[178] **Максім Багдановіч** (1891–1917), паэт, публіцыст, перакладчык, класік беларускай літаратуры.

творы на балонах часапісу «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі». У першых трох нумарох часапісу зьмешчаныя творы Арсеньневай, Сяднёва, Золака, Салаўя[179], Крушыны і інш. Працягваючы галоўныя напрамкі свае ранейшай творчасьці, яны сваімі новымі творамі ўносяць і шмат новых настрояў і іх адценьняў, характэрных ужо для новых умовінаў эмігранцкага жыцьця. Яны ўсе патрабуюць асобнага разгляду, чаму мы й прысьвяцім асобны артыкул у бліжэйшы час.

Акрамя ўсяго пералічанага часапіс прысьвячае артыкулы да чарговых сьвятаў (Грамніцы, Вялікдзень), дае што-колечы з народнае творчасьці, зьвязанай з абрадавым бокам гэтых сьвятаў, часам балоны народнае мудрасьці, каляндар падзеяў, месячны каляндар сьвятаў, хроніку беларускага рэлігійнага і грамадзкага жыцьця, абвесткі, пошукі і да гэтага падобнае. Усё разам робіць яго разнастайным зьместам і неабходным як настольная кніга ў кажнай беларускай сям'і.

<…> Часапіс «Шляхам жыцьця» цалкам дадатная зьява і сьведчыць, што жыве й будзе жыць у беларуса цяга да творчасьці наагул і мастацкае асобна, дзе-б ні апынуўся ён на чужыне. Жыве беларускае прыгожае мастацкае слова, жыве беларуская прэса, бо жывуць і будуць жыць людзі, якія пайшлі шляхам Скарыны. Гэта значыць, што ніколі ня згаснуць скарынінім іскрам і разгарацца яны некалі ў такое зыркае полымя, што яго запраўды ўрэшце ўбачаць вякі і народы.

179 **Алесь Салавей** (сапр. Альфрэд Радзюк, на эмігр. Альберт Кадняк, 1922–1978), паэт, журналіст, грамадска-культурны дзеяч. Ад 1944 г. жыў у Аўстрыі, у 1949 г. перасяліўся ў Аўстралію.

# «САКАВІК»

Часопіс «Сакавік» меў усе шанцы стацца найлепшым эміграцыйным літаратурным выданнем, гэткім нацыянальным варыянтам украінскага «Муру», каб не спыніўся на трэцім нумары. Заснавальнік, рэдактар і выдавец Антон Адамовіч тады разаслаў ліст наступнага зместу:

*«Радзе Міністраў БНР (на рукі сп. Каханоўскага)*
*Рэдакцыям часапісаў “Бацькаўшчына”[180] й “Сакавік” (на рукі ліцэнзіятаў сп. сп. Кендыша[181] і Манькоўскага[182])*
*Радзе ДП-лягеру Остэргофэн (на рукі сакратара сп. Кірыліка[183])*

*Стан нэрваў катэгарычна змушае мяне адыйсьці, прынамся на нейкі час, ад усякай адказнай працы, якая вымагае, асабліва цяпер, ці малога нэрвовага напружаньня. Таму зь сяньняшнім днём складаю зь сябе рэдактарства часапісаў “Бацькаўшчына” й “Сакавік” і старшынство ды сяброўства ў Радзе ДП-лягеру Остэргофэн, а таксама мае функцыі па лініі БНР.*
*18 жнівеня 1948 г. Остэргофэн.*
*А. Адамовіч».*

Нагрузка сапраўды была вялізнаю: Адамовіч жа яшчэ і выкладаў у Беларускай гімназіі. У «Сакавік» нават пры наяўнасці такіх аўтараў, як Наталля Арсеннева, Янка Юхнавец, Мікола Панькоў (Вольны), малады Дзмітры Сямёнаў (З. Алесіч) ды бадай усіх найцікавейшых пісьменнікаў, пры багатым рэдакцыйным партфелі недрукаваных твораў падсавецкіх паэтаў (дзякуючы фенаменальнай памяці рэдактара) Адамовіч сам пісаў багата. Падпісанае В. Аганьком, В. Бірычам, Р. Склютам, К. Каліноўцам, М. Грыбелем, С. Юстапчыкам, а таксама літмантаж «У месячных сецях» — ягонае.

**№ 1, 1947**

Ад Рэдакцыі. (С. 2)
В. Аганёк. Васілёк і Незабудка. (С. 3–12)
Нязнаны верш М. Васілька. (С. 12)
К. Каганец. Сын Даніла. (С. 13–22)
Зь нядрукаванае спадчыны. Л. Геніюш. У. Дубоўка. (С. 23)
В. Бірыч. Афрадыта-Ост. (С. 24–34)
Р. Крушына. Пэрсыдзкая легенда. (С. 35–44)
Новыя вершы. Н. Арсеньнева. М. Сяднёў. (С. 45–47)
З паэзіі Савецкай Беларусі. А. Бялевіч. (С. 47–48)

---

[180] **«Бацькаўшчына»** — газета, што выдавалася ў Нямеччыне ў 1947–1966 гг.
[181] **Васіль Кендыш** (1908–2003), грамадскі і рэлігійны дзеяч. Актыўны ўдзельнік аднаўлення БАПЦ.
[182] **Пётра Манькоўскі** (1916–2002), грамадскі дзеяч, публіцыст.
[183] **Сцяпан Кірылік** (? — ?), грамадскі дзеяч.

**№ 1 (2), 1948**



**№ 2 (3), 1948**

*Р. Склют*[184]

## Ля вытокаў нацыянальнага[185]

Наш слаўны першадрукар Праньціш Скарына ў прадмове да аднае з кнігаў свае Бібліі («Юдыт») запісаў простыя, але надзвычай прачулыя, векапомныя словы: *«Панежа ад прыраджэньня зьверы, хадзячыя ў пустыні, знаюць ямы свае, пціцы, лётаючы па воздуху, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плаваючыя па мору і ў рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобныя бароняць вульляў сваіх — також і людзі, ідзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку маюць»*. Гэтак упяршыню ў нас быў сфармуляваны ў няхітрай і нявыдумнай форме вялікі і адвечны закон жыцьця — закон сілы каханьня да роднага, ці, выслаўляючыся ў тэрмінах аднае з сучасных плыняў у навуцы — закон *нацыянальнага эрасу*.

Нацыянальны эрас — каханьне да роднага — становіць сабой глыбокую эмацыянальную (пачуцьцёвую) падаснову ўсяго нацыянальнага наагул, усякае нацыянальнае сьведамасьці, кажнае нацыянальнае ідэі, зь яго ўзростае й на яго-ж абапіраецца кажны нацыяналізм. І ў гэтым таямніца тае вялікае сілы, зь якою дзеіць кажная нацыянальная ідэя ці нацыяналізм на суродзічаў свае нацыі, бо бязь лішніх довадаў само сабою ясна, што і ўсякая ідэя наагул будзе больш моцнай і дзейнай тады, калі выплывае з глыбінных нетраў пачуцьця, карэніцца і абапіраецца на адным із глыбейшых і інтымнейшых пачуцьцяў — на пачуцьці каханьня, эрасу, што сягае сваймі вытокамі да самае біялёгічнае істоты чалавека. Можна не згаджацца із Фройдам і ягоным псыхааналізам у паглядзе на ўнівэрсальную вызначальнасьць эратычнага

[184] **Р. Склют** — псеўданім Антона Адамовіча.
[185] Друкуецца паводле: Сакавік. № 1 (2). 1948. С. 40–42.

пачуцьця наагул, на абумоўленасьць ім усіх і ўсякіх выяваў жыцьця й творчасьці, але нельга не прызнаць, што ў дачыненьні да свае аж біялёгічнае моцы й трываласьці пачуцьцё гэтае займае ў людзкой прыродзе адно зь першых і важнейшых месцаў, калі не найпершае й найважнейшае. Дык і адна з адменаў ягоных — нацыянальны эрас — таксама мусіць падзяліць гэтае месца й тым самым абумаўляць і падпіраць моц заснаванае на ім нацыянальнае ідэі.

Праньціш Скарына быў у нас толькі першым, хто публічна выказаў — пры тым, цікава падчыркнуць, із чыста-біялёгічным абгрунтаваньнем — вялікую і ўсеабсяжную формулу нацыянальнага эрасу, зраджваючы ў самой цёплай, прачулай форме выслаўленьня яе й сваю асабістую цесную прычыннасьць да гэтага пачуцьця. Няпомысы й перагасы народнага і асабістага ягонага жыцьця не далі нашаму вялікаму мужу, ягонай глыбокай думцы (ці мо толькі слову) узьняцца з глыбіняў усьведамленьня сілы нацыянальнага эрасу на ўзвышшы вызнаньня ўсяе велічы й магутнасьці нацыянальнае ідэі, на ўзвышшы нацыяналізму. Сучасная яму і асабліва наступная эпоха працавала на поўным ходзе над тым, каб як глыбей пахаваць навет самы апрычоны нацыянальны быт нашага народу. Але сярод тых дзейнікаў, якія ня далі ўдацца гэтай змове й замаху часу зь ягонымі варожымі сіламі на самы наш апошні нацыянальны быт, бясспрэчна, адно зь першых, калі зноў-жа, не найпершае мейсца займае той самы нацыянальны эрас, каханьне да роднага, гарачы прысак якога перахоўваўся глыбака на дне душы кажнага Скарынінага суродзіча, што й дало пасьля магчымасьць лепшым і чульлейшым зь іх удзьмухаць ізноў вялікае полымя нацыянальнага адраджэньня і ўзвышэньня. Але навет і тыя, што аказаліся слабейшымі ў нацыянальным дачыненьні й хоцькі ці няхоцькі адразу скапітулявалі перад часам, перакінуўшыся цалком у той ці іншы чужы табар — не маглі ўсё-ж пазбыцца гэтага неадчэпнага пачуцьця да свае роднае «Літвы-айчыны», як, напрыклад, па-свойму вялікі Адам Міцкевіч. А калі й перакідаліся, дык ня ўсе маглі вытрываць там, *«на чужой старане»*, да канца, а варочаліся ці хоць наварочваліся ад часу да часу, валадарна гнаныя ўсё тым-жа стлумленым нацыянальным — да роднае хаты, да дому каханьня. Такім быў Людзьвік Сыракомля-Кандратовіч і, сярод іншых неадзінкавых, асабліва можа Вінцэсь Каратынскі[186], прачулая элегія якога — «Туга на чужой старане» — становіць сабой першае глыбака паэтычнае выяўленьне нацыянальнага эрасу ў нашай ужо мове. З гэткіх скарыніных нашчадкаў і пачалі выходзіць тыя ўзьдзьмухвальнікі-абуджальнікі нацыянальнае сьведамасьці з глыбака захаванага прыску нацыянальнага пачуцьця — нацыянальнага эра-

---

[186] **Вінцэсь Каратынскі** (1831–1891), пісьменнік, перакладчык.

су, першае месца сярод іх належыць, бясспрэчна, агульнапрызнанаму бацьку нашага руху Праньцішу Багушэвічу[187].

Пераняўшы як-бы проста з рук свайго вялікага прародзіча й цёскі Праньціша Скарыны гэтую сьведамасьць усевызначальнае сілы нацыянальнага, Праньціш Багушэвіч першы пачынае выказваць пачуцьцё нацыянальнага эрасу ўжо не ў нэгатыўнай форме *«тугі на чужой старане»*, а ў простых словах шчырага, адкрытага прызнаньня ў каханьні, замілаванасьці да *«свае хаткі»*. І нездарма акадэмік Карскі[188], зацытаваўшы ў сваіх «Беларусах» самыя словы гэтага прызнаньня, мусіць сьцьвердзіць у шырэйшым абагульненьні: *«Любовь к своей неприглядной родине — черта каждого белорусса»*, сьветчачы лішні раз аб тымжа ўсенародным абсягу пачуцьця нацыянальнага эрасу ў нас.

Пачынаючы ад Багушэвіча, нацыянальны эрас становіць сабой эмацыянальную, пачуцьцёвую дамінанту ўсяго нашага народнага руху, асабліва рупна і любасна выпешчаваную ягонай натхняльніцай і ідэйнай кіраўніцай — нашай адраджэнскай паэзіяй. Так Багушэвічаў вучань і наступнік, працягальнік, а пасьлейшы вялікі нацыянальны прарок Янка Купала ад першых сваіх зборнікаў не пакідае на розныя лады паўтараць свае шчырыя прызнаньні ў каханьні да роднага — *«ды люблю-ж я яе»* («Гэта крык, што жыве Беларусь» — зборнік «Жалейка»), *«дай-жа ты мне сілы, каб цябе любіў так да самай магілы»* («Люблю тваіх межаў» — зб. «Гусьляр»), — каб, зьвярнуўшыся зноў да нэгатыўнай формы *«тугі на чужой старане»* сьлядамі В. Каратынскага («Я ад вас далёка» — зб. «Шляхам жыцьця»), даць нарэшце непараўнальны ў сваёй глыбокай народнасьці й высокай мастацкасьці шэдэўр эстэтычнага выяўленьня нацыянальнага эрасу — паэму «Яна і Я» (зб. «Спадчына»). Гэтая паэма вартая таго, каб над ёй спыніцца хоць крышку, тым больш, што якраз гэты — асноўны, вызначальны ейны бок заставаўся дасюль для крытыкі зусім незаўважным. Бо дасюлешняя крытыка, за вонкавым індывідуальным плянам, за шырмамі ідылічнасьці й фальклёрнасьці, што асабліва захапілі Карскага, за мастацкім, здавалася-б, чыста сэксуальным эратызмам (прыкл. канец перадапошнага разьдзелу 13:

Ногі падкасілі і мне, і ёй,
Зьліліся вусны з вуснамі самі сабой
Полымем прыпалі грудзі да грудзей,
Зьмяшаліся мы з сонцам, з кветкамі, з травой, —

---

[187] **Францішак Багушэвіч** (1840–1900), грамадскі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

[188] **Яўхім Карскі** (1861–1931), філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф.

зусім правочыла раскрыты паэтам толькі пад самы канец твору, у сама апошніх ягоных зваротках выразны нацыянальна-сымбалічны сэнс яго:

Я песьняй мілую сваю праслаўлю
Паміж народамі сваіх, чужых зямель,
Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю, —
Жыла й тагды, як ляжа ў вечную пасьцель.
А воля мне зялезная патрэбна
За крыўды мае мілай помстай заплаціць,
Што гаравала так яна бясхлебна,
Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.

Купалаўская «Яна і Я» — гэта запраўдная песьня песьняў нашага нацыянальнага эрасу, дзе на шырокім нацыянальным народна-бытавым і фальклёрным фоне паўгадавога паўкола селавога жыцьця асноўнае масы нацыі (дарэчы, мала вузейшым і бяднейшым навет у зьмястоўнасьці за абраз поўнага гадавога кола ў Коласавай «Новай Зямлі»), само пачуцьцё, задушэўнасьць якога адзначае й Карскі, а нацыянальны сэнс раскрывае паэта, дасягае найвышэйшых формаў мастацкага выяўленьня, рэалізуючыся ў вобразах індывідуальнага й навет чыста сэксуальнага эратызму і гэтым самым завяршаючы навет фармальна сваё напаўненьне, як пачуцьця якраз эратычнага ў самым простым і звычайным, а не якім-небудзь пераносным сэньсе.

Купалавы паплечнікі й пераймальнікі таксама йдуць у сваёй паэзіі пад знакам эмацыянальнай усевызначальнасьці і ўсепрасякальнасьці пачуцьця нацыянальнага эрасу. Так, пра Я. Коласа[189] ягоны суровы, але справядлівы крытык Максім Багдановіч проста сьцьвярджае: *«Ня ў пекнасьці формы, мовы ці малюнку хаваецца цэннасьць яго вершаў, але ў праўдзівай — далёкай ад усякай хвальшы — любові да Бацькаўшчыны; гэтая любоў, як цудоўная жывая вада ў казках, ажыўляе іх і робіць роднымі, блізкімі ўсякаму, у кім яшчэ ёсьць душа жывая, хто не забыўся аб долі свайго народу, а мо й сам пəражывае апісанае ў яго вершах»* («Глыбы і слаі», 1911). Таксама, *«праўдзівае — далёкае ад усялякай хвальшы»* каханьне да *«мілае, роднае старонкі-маці»* прасякае й паэзію Алеся Гаруна[190]. А наймалодшая зорка нашаніўства, вершы якое яшчэ больш, як у Гаруна і іншых, ад пачатку й да канца застаюцца пад магутным Купалавым гіпнозам, высноўвае ціхі, але глыбока-натхнен-

[189] **Якуб Колас** (сапр. Кастусь Міцкевіч, 1882–1956), пісьменнік, крытык, педагог, грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы.

[190] **Алесь Гарун** (сапр. Аляксандр Прушынскі, 1887–1920), паэт, празаік, публіцыст, дзеяч беларускага Адраджэння пачатку XX ст.

ны, і дасюль улюбёны ўсімі запраўдны гімн нацыянальнаму эрасу — ведамае «Люблю наш край».

Аднак ужо сярод нашаніўцаў назначаецца й новая лінія паглыбленьня й завастрэньня пачуцьця нацыянальнага эрасу, ускладненьня яго мамэнтамі аж трагічнай часам аканаванасьці й самаахвярнасьці — мамэнтамі ня чужымі й бадай заўсёды глыбака захаванымі ў кажным эратычным пачуцьці. Гэтую лінію пачынае адзін із найвыдатнейшых нашаніўскіх валатоў духу Максім Багдановіч, уздымаючы самы фактар нацыянальнага эрасу ізноў на ўзвышша магутнага закону, поўнага ў сваёй глыбіні безагляднай аканаванасьцяй, — на тое самае блізу ўзвышша, на якім паставіў яго ўжо ў сваім сфармуляваньні Праньціш Скарына. У сваіх слаўна-ведамых «Слуцкіх ткачыхах» ён якраз і выказвае магутнасьць сілы роднага, што прабіваецца заўсёды і ўсюды, як той *«цьвяток радзімы васілька»* праз *«пэрсыдзкія ўзоры»* чужых уплываў, прабіваецца ня толькі міжвольна, *«забыўшыся»* (першая рэдакцыя вершу), але нарэшце й надвольна-аканавана, мэханічным проста дзеяньнем *«бязвольнае рукі»* (апошняя аўтарская рэдакцыя вершу). І як тонка падгледзіў быў сваім часам Адам Бабарэка[191] ў гэтым запраўдным шэдэўры думкі й выславу глыбака сымбалічны абраз самых вытокаў нашага адраджэньня, пачатага міжвольнымі, *«забыўшыся»*, ці нат бязвольнымі рукамі як-бы тых самых «слуцкіх ткачыхаў» пад магутным дзеяньнем сьляпое, аж біялёгічнае сілы роднага, сілы нацыянальнага эрасу!

Ды той-жа самы Максім Багдановіч у другім ведамым шэдэўры — векапомнай «Пагоні» — першы даў і яшчэ адзін новы мамэнт у разьвіцьці нацыянальнага эрасу ў нашай паэзіі — мамэнт самаахвярнасьці бясконца, да болю закаханага ў родным. Хоць, распрацоўваючы трагічную тэму «каханьня й сьмерць» у індывідуальным разрэзе, паэт як-бы й ставіць індывідуальны эрас вышэй за нацыянальны —

Тым вянкі суворай славы,
Што за край свой у баю
Жрэбі вынялі крывавы,
Напаткалі сьмерць сваю.
Ды слаўней цяжарнай доля, —
Ў сэрцы маючы любоў,
За дзіцё зазнаці болі,
За дзіцё праліці кроў, —

усё-ж у «Пагоні» ён зварачаецца зноў зь *«няўсьцішаным болем»* маленьня аб прыняцьці ахвяры ў імя нацыянальнага:

[191] **Адам Бабарэка** (1899–1938), празаік, літаратуразнаўца.

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня ўсьцішыцца гэтакі боль.
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына, —
За Цябе яму ўмерці дазволь.

Гэтыя новыя мамэнты, унесеныя М. Багдановічам, асабліва падхапляюцца й распрацоўваюцца ягонымі простымі наступнікамі й спадкаемцамі — узвышэнцамі. Іхны правадыр Уладзімер Дубоўка[192] ў сваёй ведамай праніклай нацыянальнай прысязе — «О, Беларусь, мая шыпшына» — ня толькі выказвае зноў, у новай толькі форме, старое нашаніўскае прызнаньне ў каханьні да роднага —

Вачэй тваіх пад колер сталі
Праменьне яснае люблю —

але яшчэ беспасярэдня перад гэтым падчырквае той-жа мамэнт самаадданасьці й самаахвярнасьці —

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю…

І ў жаданым самому сабе пасьмяротным *«эпітафе сьветлым»* паэта хоча, каб яму сьціпла запісалі нічога больш, як толькі вынікі ягонае самаахвярнае працы для любай радзімы:

На Беларусі ён ня марна жыў,
Ён працаваў сумленна і няспынна,
Тугой затым ён сэрца надужыў,
Што доўг ня ўвесь аддаў сваёй краіне.

А ягоны малодшы сучасьнік і пераймальнік Паўлюк Трус[193] даходзіць проста да экстазу гэтае самаахвярнасьці каханаму роднаму, з багдановіцкім *«няўсьціішным болем»* заяўляючы пра сябе:

Аддам усё, чым сэрца плача,
Дастану сэрца й падару,
Бо я людзей яшчэ ня бачыў,
Каб так любілі Беларусь.

Нарэшце, Уладзімер Жылка[194] ў сваім пасьмяротным, а няўмірушчым «Тэстамэньце» першым дарам-спадчынай сваёй роднай *«крывіцкай хаце»* адказвае свой высокі нацыянальны эрас:

Ўсім найдарожшым прысягаю —
Сваіх грахоў ня ўтаю,

192 **Уладзімір Дубоўка** (1900–1976), паэт, празаік, перакладчык, крытык.
193 **Паўлюк Трус** (1904–1929), паэт.
194 **Уладзімір Жылка** (1900–1933), паэт, перакладчык, крытык.

I любасьць гэтую да краю,
I гнеў, і ненавісьць сваю,
I што набыў, усё, што маю,
Ўсе скарбы, усе свае багацьці
I песьні ўсе — крывіцкай хаце.

Паэты нашае літаратурнае сучаснасьці таксама ўсе жывуць і дыхаюць тым самым пачуцьцём вялікага нацыянальнага эрасу. Ня толькі Алесь Салавей ці Майсей Сяднёў, што могуць вольна выказаць свае думкі й пачуцьці, апынуўшыся на гэты бок пракуднае «зялезнае заслоны», але навет і такі сталінскі ляўрэат і нявольнік, як Пятрусь Броўка[195], ня можа ня выпісаць хоць на маргінэсе афіцыйна-казённае алялюйшчыны шчырыя й пранікліўыя словы й свайго прызнаньня ў каханьні да свае нацыі:

Беларусь!
Хто любоў да цябе можа зьмерыць?
Акіяны ня маюць такой глыбіні.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як ты дарага нам,
Як нішто і ніколі ў жыцьці,
Беларусь…

Аднак перад у гэтым дачыненьні сярод нашых паэтычных сучасьнікаў, бясспрэчна, належыць нікому іншаму, як Натальлі Арсеньневай, мо таму, што ейнае жаночае пачуцьцё як найлепш умее знайсьці цёплыя й прачулыя словы для выслаўленьня вялікіх пабудак нацыянальнага эрасу. Тэмпэратура гэтага пачуцьця стала ўздымацца ў паэзіі Арсеньневай ад *«роднай старонкі ціхога каханьня»* (першы зборнік вершаў «Пад сінім небам») да *«процьмы цёплага каханьня»* (апошні збонік «Сягоньня»). Цікавая й характэрная тут навет тая драбніца, што Арсеньнева бадай першая й ці не адзіная гаворыць не аб простай любасьці ці «любові», а ўжо аб палкім каханьні роднага. I ў гэтым каханьні, аддаючы даніну й таму-ж багдановіцка-дубоўкаўскаму мамэнту самаахвярнасьці —

Не шкада нам жыцьця маладога,
Не шкада нам гарачай крыві
— Абы толькі праменнай дарогай
Крочыў горда народ наш жывы —

Арсеньнева ўздыймаецца праз балюча-пакутную сучаснасьць чужыны й эміграцыі — да натхнённай візіі будучыні новага росьцьвігу нацыянальнага эрасу пры некалішнім спатканьні з сама дарагім родным

[195] **Пятрусь Броўка** (1905–1980), грамадскі дзеяч, пісьменнік, перакладчык.

на родных-жа землях, як-бы замыкаючы пры гэтым і пачатае калісь В. Каратынскім кола *«тугі на чужой старане»* як нэгатыўнае формы таго-ж каханьня роднага, што памагае яшчэ вастрэй і глыбей і ацаніць яго:

І ўсьміхнуцца нам
аж сэрца забаліць,
І ўсьміхнуцца йзноў,
аж у грудзёх заколе
Крывіччыны мае блакітныя палі,
Каханыя ў чужой краіне, як ніколі.

Так, ад далёкіх часоў мінуўшчыны праз усе перагасы гісторыі бліжэйшае сучаснасьці пульсуе ў нашым народзе, у ягоным духу й лепшай выяве яго — паэзіі — усё тая-ж вялікая і ўсёвызначальная сіла нацыянальнага эрасу, самаадданага й самаахвярнага каханьня роднага. І хоць не заўсёды й не ўва ўсіх давалася гэтай сіле ўзьняцца на вышэйшую ступень нацыянальнае ідэі, узвышша нацыянальнага, дык затое заўсёды й назаўсёды застаецца яна тэй магутнай падасновай, на якой абапіраецца й зь якой кажным часам можа быць адбудаваны і ўзбудаваны вялізманы гмах гэнае ідэі. Гэта вялікая сіла становіць сабою непахісную заруку няўмірушчасьці нашае нацыі й нашае нацыянальнае ідэі пры ўсіх сучасных і магчымых яшчэ няпомысах і перагасах долі. Яна-ж дае нам сяньня ізноў і ізноў валадарны загад — катэгарычны імпэратыў безагляднага служэньня і ахвяраваньня сябе дарэшты гэтаму няўмірушчаму народу і ягонай справе. Выканаць гэты загад безаглядна й да канца — сьвяты абавязак кажнага Крывічаніна, дзе-б ні стаяў у змаганьні — ці на постані варты, ці на полі бою за край і народ.

# «У ВЫРАІ»

Захаванне культуры немагчымае без пераемнасці пры перарваных традыцыях. Далёка не ўся выехаўшая ў Нямеччыну моладзь, падлеткі па сутнасці, або вывезеныя раней, як остарбайтары, была свядомая сваёй гісторыі. Дзе і калі было ім атрымаць патрэбныя веды?

Да гонару тае часткі беларускае інтэлігенцыі, што выехала ў эміграцыю, усведамленне гэтага простага жыццёвага закону было відавочнае ад самага пачатку. Таму побач з палітычным змаганнем — і змаганнем будзённым, за выжыванне — ствараліся школы і школкі, курсы, скаўцкія сябрыны, гурткі, чыталіся лекцыі.

Сведка таго часу, часу навучання і ўсведамлення, — адзіны выпуск часопіса літаратурнага гуртка беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу «У выраі» з вершамі-вітаннямі старэйшых паэтаў — Наталлі Арсенневай і Масея Сяднёва ды творамі саміх навучэнцаў: вучняў 8-га класа Сяргея Ясеня (Янка Запруднік[196]), Архіпа Паплліскі (Уладзімір Цвірка[197]) ды іншых. Пра захаванасць традыцый — і ва ўводным, «рэдакцыйным», артыкуле вучня 8-га класа В. Рыся, будучага дырэктара БІНІМа Вітаўта Кіпеля[198].

**Часапіс літаратурнага гуртка беларускае гімназіі ў Баварыі. № 1. Рэгенсбург — Міхельсдорф: «Крыніца», 1947**

В. Рысь. Сьлядамі Францішка Скарыны. (С. 3–5).
Натальля Арсеньнева. Моладзі (верш). (С. 5–6).
Масей Сяднёў. Хвала маладосьці (верш). (С. 6).
А. Бута. Пачатак выгнаньня (п’еса). (С. 7–15).
Леанід Карась. Чужына! (разважаньне). (С. 15–16).
Сяргей Ясень. Гады бягуць (верш). Мая Беларусь (верш). (С. 16–17).
Натальля Куліковіч. Ян Чачот. (С. 18–20).
Уладзімер Бакуновіч. Прыпяць (верш у прозе). (С. 20–21).
М. Багун. У купальскую ноч (апавяданьне). (С. 21–22).
Сяргей Ясень. Ты (верш). Асеньнім днём (верш). (С. 22–23).
Уладзімер Бакуновіч. Пайшоў сьнег (верш у прозе). (С. 23–24)
М. Багун. Мацеяў кот (апавяданьне). (С. 24–26).
Архіп Паплліска. Няпрошаны госьць (апавяданьне). «Чаго-ж плакаў месяц?» (апавяданьне). (С. 26–28)
Мікола Фабулевіч. Пераклады з лацінскіх арыгіналаў: Фэдрус. Варона й ліса. Воўк і ягнё. Жаба й вол. Ліса й вінаград (байкі). (С. 28–29).

---

[196] **Янка Запруднік** (да эмігр. Сяргей Вільчыцкі, нар. 1926), грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст.
[197] **Уладзімір Цвірка** (да эмігр. Вадзім Сурко, 1928–1992), журналіст.
[198] **Вітаўт Кіпель** (нар. 1928), грамадскі дзеяч, навуковец, даследчык беларускай эміграцыі.

Літаратурны каляндар на 1947 год (С. 30).
Хроніка гімназіі. (С. 31).

*В. Рысь*[199]

## Сьлядамі Францішка Скарыны[200]

Зашумела нудна восень,
Шумам лісьцяў, шумам сосен,
Даўшы волю хмурам;
Адно з гоняў Беларусі
Ў вырай выляцелі гусі,
Паплылі ўдаль шнурам.

*Я. Купала «У вырай»*

Так!.. Зноў і зноў шэрая восень. Сьветлы Край суровая зіма зноў закоўвае сваімі ланцугамі. Толькі вольныя птушкі, што так любяць сонца й свабоду, тысячамі лятуць «*з гоняў Беларусі ў вырай*». Спаміж іх ёсьць ужо старыя, каторым ня першы раз разьвітвацца з роднымі мясьцінамі ды перамагаць цяжкі шлях у чужыну. Але ёсьць і такія, што ймкнуць у вырай упяршыню.

...Прыходзіць вясна, і яны зноў вяртаюцца на Бацькаўшчыну, вяртаюцца радасныя, вясёлыя, умудраныя вялікай жыцьцёвай практыкай, а тады з новымі сіламі бяруцца адбудоўваць сваё жыцьцё, разбуранае чорнаю стыхіяй.

Падобна гэтым птушкам, ужо каторы раз у гісторыі беларускі народ пацягнуўся ў вырай-выгнаньне, пацягнуўся шукаць ратунку сябе й сваіх дзяцей ад чорнай няволі.

Шмат давялося ператрываць яму, асабліва за апошнія 30 гадоў. Бацькаўшчына была падзеленая між усходам і захадам. Частка Краю стагнала пад «апекаю» Масквы, з «ласкі» якое мільлёны найлепшых сыноў нашага народу загінулі ў турмах, канцэнтрацыйных лягерах, ссылках. Другая частка была акупаваная Польшчаю, дзе таксама ня было ўмоваў для жыцьця й працы. А затым чорныя гады нямецкае акупацыі, што прынясьлі з сабою тысячы спаленых вёсак і гарадоў, нязьлічоныя людзкія ахвяры.

Апынуўшыся на эміграцыі, мы былі расьцярушаныя па ўсіх кутках Нямеччыны, зусім ня мелі сваіх нацыянальных асяродкаў, вакол якіх маглі-б гуртавацца.

Але нашае старэйшае грамадзтва прыклала шмат высілкаў, каб згуртаваць нас, а нат і даць магчымасьць вучыцца ў сваёй роднай мове.

[199] **В. Рысь** — псеўданім Вітаўта Кіпеля.
[200] Друкуецца паводле: У вырай. № 1. 1947. С. 3–5.

Адным з такіх асяродкаў, дзе згуртаваліся беларусы-выгнанцы, стаўся горад Рэгенсбург — гэтая сівая сталіца Обэрпфальцу, паўночны фарпост Вялікае Рымскае Імпэрыі. Яшчэ ў пачатку XVI ст. якраз праз Рэгенсбург праходзіў пяхотай у Італію, шукаючы навукі, вялікі сын нашага народу — вучоны, паэта й першадрукар — Францішак Скарына. Ягонымі сьлядамі ішлі сотні іншых слаўных беларусаў. Унівэрсытэты Падуі, Амстэрдаму, Сарбоны, Парыжу, Прагі, Міляну, Бэрліну, Мюнхэну, Рыгі, Марбургу, Рыму і г. д. ня раз віталі ў сваіх сьценах беларусаў, што прыйшлі на далёкую чужыну здабываць асьвету. Таму ня дзіва, што горад на беразе сіняга Дунаю, воды якога сустракаюцца ў Чорным моры з водамі нашага Дняпра й Прыпяці, стаўся адным з культурных асяродкаў беларусаў-выгнанцаў, беларусаў у выраі. Тут, дзякуючы стараньням Беларускага Акруговага Камітэту 22-га сьнежня 1945 году была заснаваная Беларуская Гімназія[201] — гэтая першая кузьня беларускае нацыянальнае культуры і асьветы на чужыне. Адразу-ж, як матылькі да сьвятла, з усяе Баварыі пачалі зьяжджацца вучні. Шмат зь іх — гэта перарасткі, каторым ваенная завіруха разьбіла ўсе пляны на будучыню. Але век ня браўся намі пад увагу: вучыцца ніколі ня позна.

І мы пачалі вучыцца.

А тым, каму давялося вучыць і ўзгадоўваць нас — нашым настаўнікам, колькі прышлося перамагчы перашкодаў! Цяжка знайсьці слоў, каб справядліва ацаніць іхную працу.

Але зь бегам часу перашкоды былі пераможаныя, і праца ў гімназіі пайшла нармальна.

Цяпер у гімназіі вучыцца 86 вучняў. У ёй ёсьць розныя гурткі, спаміж якіх паўгода таму назад паўстаў і гурток літаратурны. Сябры літаратурнага гуртка пад кіраўніцтвам выкладчыка літаратуры ладзяць рэфэраты на літаратурныя тэмы, абходзяць юбілейныя літаратурныя даты, робяць спробы самастойнае творчасьці. Вынікам гэтае працы й ёсьць наш літаратурны часапіс «У выраі».

Часапіс — гэта наш духовы сьлед на выгнаньні, памятка нашае навукі на чужыне. У ім — толькі жменька нясьмелых пробаў пяра гімназыстых — сяброў літаратурнага гуртка. Няхай сабе гэтая проба нясьпелая, мы ведаем, што нас за гэта ня будуць строга судзіць, але яна для нас дарагая тым, што ў ёй мы пакідаем адбітак свае душы, крупіцу сваіх думак, пачуцьцяў і перажытых хвілінаў. Наш часапіс застаецца сьветкаю таго, як беларуская моладзь, ня годзячыся з чорнай няволяю на забранай і разганянай Беларусі, шукала праўды і асьветы на чужыне, з сваімі найшчырэйшымі думкамі-марамі засталася із сваім родным краем і народам:

---

[201] Пазней установа стала называцца Беларуская гімназія імя Янкі Купалы.

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні, —
На чужое неба я гляджу сягоньня,
Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю
Як і жыў, жыву я ў сваім родным Краю.
І няма на сьвеце, так вялікай меры,
І няма на сьвеце так каваных дзьвераў,
Каб хоць на часіну ў будні ці нядзелі
Беларусь са мною разлучыць пасьмелі.

*Я. Купала. Я ад вас далёка.*

І мы верым, такі ўжо закон гісторыі, што ня вечна будзем таптаць чужыя дарогі й палеткі, ня вечна будзем выгнанцамі ў выраі. Прыйдзе дзень, калі й мы, як тыя птушкі з выраю, вернемся на свае Беларускія гоні. Нас будзе грэць сонца 25 Сакавіка — сонца запраўднае свабоды, справядлівасьці й шчасьця.

Ой, вы, гусі-вырайніцы,
Жыць нядоўга ў чужаніцы,
Зноў к нам прыплывеце,
Зноў вас будуць сустрачаці
Наша сонца ў сьвеце.

*Я. Купала.*

І тады мы будзем гордыя сьведамасьці таго, што дарма не змарнавалі часу, што й на чужыне, падобна вялікаму Ф. Скарыне, вучыліся служыць свайму народу й Беларусі.

...А покуль што... у выраі.



# *Частка III*
# ІМЯ СКАРЫНЫ Ў ДЗЕЙНАСЦІ ЭМІГРАЦЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ

## БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ І МАСТАЦТВА

## ГІСТОРЫЯ ЗАСНАВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТА НАВУКІ І МАСТАЦТВА Ў ДАКУМЕНТАХ І ПАВЕДАМЛЕННЯХ[202]

### Раннія навукова-даследчыя беларускія арганізацыі на эміграцыі

Арганізацыйнае аб'яднанне беларускай эміграцыі пачынаецца ў першай чвэрці XX ст., калі з Беларусі выязджаюць свядомыя беларускія дзеячы: Аляксандр Сянкевіч, Сцяпан Бубешка, крыху пазней Іван і Антон Чарапукі, Язэп Варонка, а. Ян Тарасевіч ды шэраг іншых. Гэтак паўсталі грамадскія, палітычныя ды культурна-даследчыя арганізацыі эмігрантаў у ЗША, Чэхаславаччыне, Францыі, Нямеччыне. Мы затрымаемся на арганізацыях навукова-даследчага профілю — фактычна папярэдніках Беларускага інстытута навукі і мастацтва.

У траўні 1925 г. у Празе было створанае *Беларускае (крывіцкае) культурнае таварыства імя Францішка Скарыны*, якое ўзначаліў гісторык Мікола Ілляшэвіч. Адным з сябраў Таварыства быў таксама тады студэнт Пражскага ўніверсітэта Янка Станкевіч, што пазней дало яму падставу для сцвярджэння, нібыта заснаванае з яго ініцыятывы ў Рэгенсбургу ў 1946 г. Навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны ёсць працягам Таварыства імя Францішка Скарыны ў Празе.

У той жа Празе ў 1927 г. быў арганізаваны *Беларускі навуковы кабінет*, кіраўніком якога стаў Тамаш Грыб.

[202] Тэкст быў апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 29. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 5–23.

Праз год там жа быў створаны *Беларускі замежны архіў*. Заснавальнікам і кіраўніком архіва быў Мікола Вяршынін.

Гэтыя тры арганізацыі запачаткавалі па-за Беларуссю навукова-даследчую ды бібліяграфічна-ўліковую дзейнасць у беларусаведзе. Колькасць сябраў тых арганізацый у розных крыніцах падаецца па-рознаму — ад 50 да больш як 100 чалавек.

Лідарам у галіне збірання беларусікі, наладжвання бібліяграфічнага ды інфармацыйнага банка за мяжой стаўся Беларускі замежны архіў, які пасля смерці Міколы Вяршыніна пераняў Тамаш Грыб. Апошні меў шырокія стасункі з іншымі эміграцыйнымі дзеячамі і арганізацыямі ды праз свае ўніверсітэцкія кантакты трымаў сувязь з такімі даследчыкамі беларусікі, як, прыкладам, француз Марсэль Рэнэ ды немец Барыс Унбэгаўн.

Іншых арганізацый навукова-даследчага профілю па-за Беларуссю ў гады перад Другой сусветнай вайной не было. Праўда, паводле сведчання Станіслава Грынкевіча, гутаркі пра стварэнне падобнай арганізацыі вяліся ў Берліне падчас вайны.

## Разбудова пасля Другой сусветнай вайны

У выніку падзей Другой сусветнай вайны значная колькасць беларусаў, як і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў з тэрыторый СССР, Польшчы, балтыйскіх краінаў, апынуліся ў Заходняй Еўропе. Для іх быў створаны адмысловы тэрмін *DP* (англ. *displaced person* — перамешчаная асоба). Усе гэтыя масы ўцекачоў былі ўзятыя пад апеку спачатку вайсковымі ўладамі, потым *UNRRA* (*United Nations Relief and Rehabilitation Administration* — Адміністрацыя Арганізацыі Аб’яднаных Нацый па дапамозе і аднаўленні) ды размешчаныя ў лагерах. Лагеры былі шматнацыянальныя, нацыянальная інтэлігенцыя там арганізоўвала школы, тэатры, літаратурныя суполкі, выдавала перыёдыкі, стварала ўласную адміністрацыю. Беларусаў найбольш было ў амерыканскай і англійскай акупацыйных зонах, а таму там было арганізавана некалькі ўласнабеларускіх лагераў. У горадзе Рэгенсбургу, дзе ад лета 1945 г. дзейнічалі беларускія арганізацыі, сканцэнтравалася інтэлігенцыя, было шмат настаўнікаў, інжынераў, больш за дзясятак дактароў ды наогул асобаў з вышэйшай адукацыяй з савецкіх, польскіх і заходнееўрапейскіх універсітэтаў.

Таму акурат у Рэгенсбургу ў 1945 г. паўстаў *Беларускі народны ўніверсітэт*, на чале якога былі доктар Янка Станкевіч, Антон Адамовіч, доктар Аляксандр Багдановіч, прафесар Сяргееў, акрамя таго, прыязджалі выкладчыкі з Мюнхена і Аўгсбурга. Заняткі адбываліся ў памяшканнях беларускага селішча, а таксама ў галоўным будынку *UNRRA*, дзе месцілася *Беларуская гімназія*. Тут даваліся лекцыі з гісторыі, мовы, этнаграфіі, грамадазнаўства. Праўда, пасля зімовага сезона 1946–1947 гг. Беларускі народны ўніверсітэт не аднавіў сваёй лектарскай праграмы.

У Рэгенсбургу ў 1945 г. была створаная пісьменніцкая арганізацыя *«Шыпшына»* пад кіраўніцтвам Юркі Віцьбіча, якая пачала выдаваць аднайменны часопіс.

У чэрвені 1946 г. тамсама было закладзенае *Крывіцкае (беларускае) навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны*. Напрыканцы 1940-х гг. таварыства перамясцілася ў ЗША разам з большай часткай яго сябраў.

У Марбургу ў 1947 г. было арганізаванае прафесійнае медычнае таварыства *«Аб'яднанне беларускіх лекараў на чужыне»*, на чале якога стаў доктар Вітаўт Тумаш, а само таварыства пачало выдаваць часопіс «Мэдычная Думка».

У 1946 г. у беларускім лагеры Міхельсдорф было створанае *Таварыства беларускіх настаўнікаў*.

Аднак знаходжанне вялікай хвалі эміграцыі ў паваеннай Еўропе ў 1948–1949 гг. падыходзіла да канца. Арганізацыя *IRO* (*International Refugee Organization* — Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў), што пераняла кіраванне ўцекачамі і *«праблемаю ўцекачоў»*, дамаўлялася з урадамі розных краінаў, улучна з ЗША, наконт паэтапнага рассялення сем'яў з Еўропы. Гэтак пачалася наступная фаза эміграцыі — выезд на сталае жыхарства ў розныя краіны. Пачынаючы ад канца 1948 г. беларусы пераязджалі ў Канаду, Аўстралію ды найбольш у ЗША.

У ЗША эмігранты рассяляліся досыць шырока, кіруючыся найперш пошукамі працы, але па нейкім часе пераязджалі ў Нью-Ёрк ды ў сумежныя штаты Нью-Джэрсі і Канектыкут. Пад канец 1950 г. у Нью-Ёрку сабралася досыць ладная грамада беларускай інтэлігенцыі, а з ёю распачалося і культурніцкае жыццё: ладзілі літаратурныя вечарыны, чыталі даклады з гісторыі, запрашалі даследчыкаў іншых нацыянальнасцяў на дыскусійныя вечары. Рабілася гэта часта за межамі дзейных тады арганізацый. У згаданай актыўнасці вызначыліся найбольш Наталля Арсеннева, Мікола Куліковіч, Янка Шакун, доктар Вітаўт Тумаш. Гэтак у Нью-Ёрку склалася група дзеячаў, у якой паўстала ідэя стварэння інтэлектуальна-навуковай беларускай арганізацыі.

Ініцыятыўная група — доктар Вітаўт Тумаш, Наталля Арсеннева, Янка Ліманоўскі, Мікола Дарашэвіч, Аляксандр Орса — вырашыла склікаць арганізацыйны сход навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, каб абмеркаваць далейшыя крокі ў стварэнні згаданага аб'яднання. Сход быў пакліканы на 26 жніўня 1950 г. Паводле архіўных матэрыялаў — не афіцыйных пратаколаў, а прыватных занатовак — магчыма аднавіць наступнае: на сход з'явіліся каля 20 асобаў. Адбылася дыскусія — не так наконт патрэбы стварэння арганізацыі, у чым ніхто не сумняваўся, як наконт кірунку дзейнасці. Пераважная большасць схілялася да таго, што кірунак мусіць быць літаратурна-мастацкі, што абдыме ўсё беларускае эміграцыйнае грамадства (трэба мець на ўвазе, што падзел эміграцыі на «крывічоў» і «зарубежнікаў» быў у самым зеніце). З падобным поглядам усе згаджаліся, але Вітаўт Тумаш, Леў Акіншэвіч, Мікола Дарашэвіч уважалі, што арганізацыя павінна быць шырокага

даследчага профілю: мусіць распрацоўвацца гістарычная тэматыка, мовазнаўства, этнаграфія. На тым сходзе была абраная група, якой даручылі зрабіць улік беларускіх навукова-даследчых кадраў найперш у ваколіцах Нью-Ёрка, а паралельна і сярод усёй беларускай эміграцыі на Захадзе, падрыхтаваць праект статута, магчымыя планы дзейнасці ды адначасна празандаваць грамадскую думку наконт успрымання яшчэ адной арганізацыі.

Пасля правядзення падрыхтоўчай працы 16 снежня 1951 г. адбылося першае пасяджэнне, на якім прысутнічалі Вітаўт Тумаш, Масей Сяднёў, Мікола Дарашэвіч, Янка Юхнавец, Мікола Гарошка, Францішак Кушаль, Часлаў Ханяўка, Аляксандр Махноўскі, Наталля Арсеннева, Лявон Савёнак, Апалонія Савёнак, Іна Рытар, Станіслаў Грынкевіч, Наталля Орса, Аляксандр Орса, Уладзімір Клішэвіч, Мікола Целеш, Мікола Панькоў, Уладзімір Сядура, Гіпаліт Паланевіч, Леў Акіншэвіч, уладыка Васіль, Барыс Данілюк, Пётра Манькоўскі, Антон Адамовіч, Баляслаў Грабінскі. Доктар Вітаўт Тумаш заявіў, што прысутныя на сходзе з'яўляюцца заснавальнікамі Інстытута.

*«Пратакол[203]*
*арганізацыйнага сходу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНІМу) у Нью-Ёрку*
*дня 16 сьнежня 1951 г.*

*<u>Парадак дня</u>:*
*1. Адкрыцьцё сходу.*
*2. Уступнае слова прафэсара М[іколы] Дарашэвіча*[204].
*3. Прыймо Статуту БІНІМу.*
*4. Выбары Ўраду БІНІМу.*
*5. Бягучыя справы.*

*Арганізацыйны сход БІНІМу адкрыў старшыня БАЗА інжынэр М[ікола] Гарошка*[205].

*На старшыню арганізацыйнага сходу БІНІМу быў выбраны аднагалосна доктар Аляксандар Орса*[206]*, які запрасіў у Прэзыдыюм сходу: япіскапа БАПЦ уладыку Васіля*[207]*, прафэсара Л[ява] Акіншэвіча*[208]*, Натальлю Арсеньневу*

[203] Гэты і наступныя пратаколы захоўваюцца ў архіве БІНІМа. Публікуюцца з захаваннем правапісу арыгінала.

[204] **Мікола Дарашэвіч** (1898–1974), грамадскі дзеяч.

[205] **Мікола Гарошка** (1902–1979), грамадскі дзеяч.

[206] **Аляксандр Орса** (1896–1959), грамадскі дзеяч, педагог. Быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, Міхельсдорфе.

[207] **Уладыка Васіль** (свецк. Уладзімір Тамашчык, 1900–1970), рэлігійна-грамадскі дзеяч, архіепіскап БАПЦ.

[208] **Леў Акіншэвіч** (1898–1980), гісторык, публіцыст, крытык. Працаваў у цэнтры па вывучэнні СССР у Вашынгтоне.

*й доктара В[ітаўта] Тумаша*[209]*. Пісаць пратакол даручылі Ч[аславу] Ханяўку*[210]*.*

*Ва ўступным слове прафэсар М[ікола] Дарашэвіч адзначыў, што яму давялося быць сьведкам адкрыцьця шэрагу навуковых установаў на Бацькаўшчыне як Тэхнічны й Пэдагагічны інстытуты, Інстытут Сельскае Гаспадаркі, Беларускае Акадэміі Навук і інш. Глеба да гэтага была цалкам падрыхтаваная, але ўзьнікалі супярэчнасьці між партыяй і навуковымі працаўнікамі. З часам супярэчнасьці паглыбляліся. Прафэсар М[ікола] Дарашэвіч прыводзіць чарод прыкладаў і ўспамінаў, якія характарызуюць цяжкія ўмовы навуковай працы ў БССР. Тут, у ЗША зусім іншыя абставіны. Калі падлічыць колькасьць беларускіх навуковых працаўнікоў на эміграцыі, дык іх акажацца каля сотні. Бальшыня зь іх працуе фізычна й зрабіць шмат ня можа, але будзе добра, калі зробіцца й хоць трошкі, бо ў нас ёсьць шэраг пытаньняў, якія мы тут можам і мусім вырашыць.*

*Сп. П[ётра] Манькоўскі прачытаў праект Статуту БІНІМу, апрацаваны прафэсарам Л[явом] Акіншэвічам і ўзгоднены ў статутовай камісіі, пакліканай да гэтага праз БАЗА. У дыскусіі над праектам Статуту прыняло ўдзел шмат прысутных. Спн. Н[аталья] Арсеньнева зьвярнула ўвагу, што ў праекце Статуту амаль нічога ня кажацца пра мастацтва, на што прафэсар Л[еў] Акіншэвіч выясьніў, што пачаткова Статут быў апрацаваны толькі для навуковае ўстановы. Сп. М[ікола] Цэлеш і Сп. М[ікола] Панькоў*[211] *даюць свае заўвагі наконт неабходнасьці ўзгадненьня назову й структуры Інстытуту й больш дакладнай апрацоўкі Статуту. Сп. А[нтон] Адамовіч заўважае, што пакуль няма яшчэ сяброў Інстытуту, дык няма каму й прымаць Статут. На гэта доктар В[ітаўт] Тумаш выясьняе, што ўсе тыя асобы, якія бяруць актыўны ўдзел у арганізацыйным сходзе БІНІМу, зьяўляюцца аўтаматычна сябрамі-закладчыкамі. Сп. А[нтон] Адамовіч уважае справу сяброўства БІНІМу справай навуковага ці мастацкага цэнзу дадзенай справы. Прафэсар Л[еў] Акіншэвіч кажа, што калі мы сяньня нічога ня прымем, дык і нічога ня зробім, бо нельга будзе зрабіць і выбараў Ураду. Ініцыятыўная група можа прыняць часовы Статут.*

*Больш доўгая дыскусія ўзьнікла над справай назову ўстановы. Быў пададзены цэлы шэраг прапанаваных назоваў, якія ў канцы зьвяліся да 4-х: 1) Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва; 2) Беларускі Інстытут Навукі й Культуры; 3) Беларуская Вольная Акадэмія Навук; 4) Беларускі Інстытут Культуры. У галасаваньні найбольш галасоў (14) было пададзена за першы назоў. Іншыя прапановы атрымалі па парадку 3, 2 і 8 галасоў. У справе Статуту была прынятая 20-цю галасамі пры 2-х тых, хто ўстрымаўся, пачатковая прапанова доктара В[ітаўта] Тумаша: арганізацыйны сход*

---

[209] **Вітаўт Тумаш** (1910–1998), грамадскі дзеяч, медык, навуковец (скарыназнаўца).

[210] **Часлаў Ханяўка** (1909–1988), грамадскі дзеяч.

[211] **Мікола Панькоў** (1911–1995), грамадскі дзеяч, бібліёграф, публіцыст.

*прымае зачытаны праект Статуту БІНІМу як часовы, даручаючы абранаму Ўраду апрацаваць канчатковы тэкст Статуту да прыняцьця на наступным паседжаньні БІНІМу.*

*Доктар В[ітаўт] Тумаш прапануе абраць пяціасабовы Прэзыдыюм БІНІМу. За прапанову выказалася 15 асобаў, а 5 устрымалася ад галасаваньня. Гэтымі ж 15-цю галасамі сход пастанавіў абіраць асобна старшыню БІНІМу супроць 5 галасоў, якія выказаліся за сумеснае абраньне Прэзыдыюму й старшыні БІНІМу. На старшыню БІНІМу былі пададзеныя наступныя кандыдатуры: 1) Прафэсар Л[еў] Акіншэвіч; 2) Прафэсар М[ікола] Дарашэвіч; 3) Япіскап БАПЦ уладыка Васіль 4) Доктар В[ітаўт] Тумаш 5) Доктар Б[аляслаў] Грабінскі*[212] *й 6) Доктар А[ляксандар] Орса. За выняткам уладыкі Васіля ўсе кандыдаты зракліся сваіх кандыдатураў, падаючы да гэтага адпаведныя прычыны. За кандыдатуру ўладыкі Васіля галасавала 18 асобаў пры аднэй "супраць". У Прэзыдыюм былі абраныя наступныя асобы: доктар В[ітаўт] Тумаш (21 голас), прафэсар Л[еў] Акіншэвіч (20 галасоў), прафэсар М[ікола] Дарашэвіч (20 галасоў), Н[атальля] Арсеньнева (15 галасоў) і як кандыдат Сп. Ул[адзімер] Клішэвіч (9 галасоў).*

*У бягучых справах доктар В[ітаўт] Тумаш зьвярнуўся да прысутных з заклікам дасылаць на адрас Ураду БІНІМу матэрыялы для праектаванага беларускага навуковага часопісу. Матэрыялы могуць быць дасыланыя ў дзьвюх мовах: беларускай і ангельскай, але калі толькі ў беларускай, дык неабходна яшчэ й рэзюмэ артыкула ў ангельскай мове. Прысутны на арганізацыйным сходзе старшыня Ўкраінскага Навуковага Інстытуту імя Тараса Шаўчэнкі*[213] *прафэсар Чубатый*[214] *раіць выдаваць навуковы часопіс толькі ў ангельскай мове. Калі ж будуць матэрыяльныя магчымасьці, дык можна будзе выдаваць непэрыядычныя працы БІНІМу й на беларускай мове.*

*Першым прывітаў БІНІМ як новапаўсталую беларускую навуковую ўстанову на эміграцыі ўладыка Васіль. Прафэсар Чубатый вітаў ад Украінскага Навуковага Інстытуту імя Тараса Шаўчэнкі, зьвяртаючы ўвагу, што сяньня беларуская навука мусіць быць на службе вызваленьня Беларускае*

---

[212] **Баляслаў Грабінскі** (1899–1991), грамадскі дзеяч, лекар. У міжваенны час быў старшынёй Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Беларусі, намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства.

[213] **Навуковае таварыства імя Т. Шаўчэнкі** — сусветная ўкраінская акадэмічная арганізацыя. Заснаваная ў Львове ў 1873 г. як Літаратурнае таварыства, у 1892 г. атрымала назву Навуковага таварыства. У 1939 г. было ліквідаванае савецкай уладай, але ў 1947 г. адноўленае на Захадзе, дзе стала вядомае яе *Shevchenko Scientific Society*. Ад 1989 г. дзейнічае зноў на тэрыторыі Украіны.

[214] **Мікола Чубатый** (укр. *Микола Чубатий*, 1889–1975), украінскі грамадскі і рэлігійны дзеяч, гісторык украінскай царквы і права, публіцыст. Заснавальнік і першы старшыня Амерыканскага аддзялення Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі.

*нацыі. Інжынэр Ярэменка*[215] *вітаў ад імя казакаў, а Сп. А[нтон] Адамовіч ад Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны. Прафэсар Л[еў] Акіншэвіч падчыркнуў неабходнасьць аб'яднаньня ўсіх беларускіх навуковых і мастацкіх сілаў у імя інтарэсаў беларускага народу, а генэрал Ф[ранц] Кушаль зьвяртае ўвагу на патрэбу гістарычных досьледаў і гістарычнага абаснавання беларускае дзяржаўнасьці. Сп. Б[арыс] Данілюк*[216] *вітае ад імя Беларускага Студэнцкага Таварыства, Сп. А[ляксандар] Махноўскі*[217] *— па даручэньні Прэзыдыюму Рады БНР, доктар В[ітаўт] Тумаш — ад Аб'яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне, а Сп. Ул[адзімер] Клішэвіч — ад свайго імя. Заключнае слова сказаў доктар А[ляксандар] Орса. На гэтым арганізацыйны сход БІНІМу закончыўся».*

Такім чынам, паводле пратакола, на старшыню БІНіМа быў абраны ўладыка Васіль (Уладзімір Тамашчык), а ў кіраўніцтва арганізацыі ўвайшлі доктар Вітаўт Тумаш, прафесар Леў Акіншэвіч, прафесар Мікола Дарашэвіч, Наталля Арсеннева ды як кандыдат Уладзімір Клішэвіч.

Першае пасяджэнне новаабранага кіраўніцтва адбылося праз колькі дзён, 21 снежня 1951 г. На гэтым жа сходзе была аформленая ўправа інстытута ў наступным складзе: уладыка Васіль — старшыня, прафесар Леў Акіншэвіч — першы заступнік старшыні, прафесар Мікола Дарашэвіч — другі заступнік старшыні і скарбнік, др. Вітаўт Тумаш — генеральны сакратар, Наталля Арсеннева-Кушаль — заступнік сакратара, альбо другі сакратар.

Гэтымі адміністрацыйна-арганізацыйнымі крокамі аформілася стварэнне Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Далейшае дзеянне было ў руках арганізатараў-піянераў ды новаабранага кіраўніцтва. Неўзабаве пасля ўтварэння БІНіМа былі выдадзеныя «Запісы», у перадавіцы якіх яшчэ раз каротка выказвалася думка наконт патрэбы стварэння інтэлектуальнай творчай арганізацыі на эміграцыі ды акрэсленыя кірункі працы.

У прыватнасці, там пісалася:

*«Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паўстаў летась з мэтаю гуртаваньня працаўнікоў беларускае навукі, літаратуры й мастацтва за межамі Беларусі дзеля падтрыманьня, ажыўленьня й каардынаваньня беларускае культурна-навуковае працы на эміграцыі.*

*Інстытут быў закладзены з насьпелай нутраной сьведамасьці беларускіх культурна-навуковых працаўнікоў пра неабходнасьць і нацыянальны абавязак весьці далей ва ўмовах вольнага дэмакратычнага сьвету тую*

---

[215] Магчыма, маецца на ўвазе казацкі дзеяч на эміграцыі **Георгі Яроменка**, старшыня Казацка-амерыканскага народнага саюза ў ЗША. Таксама выступаў ад імя Казацкага нацыянальнага вызваленчага руху за мяжой.

[216] **Барыс Данілюк** (1923–2011), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны — актыўны ўдзельнік беларускага студэнцкага жыцця, сябра Беларускага студэнцкага згуртавання і рэдкалегіі часопіса «Студэнцкая думка» (пазней — «Крывіцкі светач»).

[217] **Аляксандр Махноўскі** (1902–1967), грамадскі дзеяч, педагог. У той час быў старшынёй Прэзідыума Рады БНР.

*працу пакаленьняў нашых вучоных, пісьменьнікаў і мастакоў, натугамі й рупнасьцяй якіх расла й шырылася беларуская навука й культура на працягу мінулых дзесяцігодзьдзяў.*

*Папярэднія пакаленьні не шкадавалі на гэта сваіх здольнясьцяў, сілаў, а часта й свайго жыцьця. Не адзін стаўся мучанікам ахвярнай працы на службе роднае навукі й культуры. Такія імёны, як Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі*[218]*, браты Максім*[219] *і Гаўрыла Гарэцкія*[220]*, Аркадзь Смоліч*[221]*, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Браніслаў Эпімах-Шыпіла*[222]*, Мікола Шчакаціхін, Сьцяпан Некрашэвіч*[223]*, Язэп Лёсік*[224]*, Язэп Пушча*[225]*, Уладзімер Дубоўка, Уладзімер Тэраўскі*[226]*, Еўстыгней Міровіч*[227]*, Уладзіслаў Галубок*[228] *— і тысячы іншых заслужаных вучоных, пісьменьнікаў і мастакоў застануцца ўзорным прыкладам ахвярнасьці й шчырае адданасьці як мастацтву й навуковай праўдзе, так і свайму народу, за што яны й загінулі.*

*На Бацькаўшчыне сяньня ўся вольная, аб'ектыўная навуковая праца над вывучэньнем навуковых пытаньняў беларускага народу й беларускае зямлі перасьледуецца й караецца. Таму якраз беларускія працаўнікі навукі й культуры, што апынуліся сяньня за межамі Беларусі, павінны пераняць цяжар гэтае працы ды весьці яе на эміграцыі.*

*Дзеля спаўненьня гэтага вялікага заданьня, ускладзенага гісторыяй на плечы тых нашых сьціплых культурна-навуковых кадраў, што захаваліся*

---

[218] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881–1931), дзяржаўны дзеяч, гісторык, публіцыст. Наркам асветы (1921–1926), стваральнік і старшыня Інбелкульта (1926–1929), першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук (1929–1930).

[219] **Максім Гарэцкі** (1893–1938), пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, лексікограф, фалькларыст.

[220] **Гаўрыла Гарэцкі** (1900–1988), геолаг, географ, эканаміст, грамадскі дзеяч, брат М. Гарэцкага.

[221] **Аркадзь Смоліч** (1891–1938), палітык, навуковец, дзеяч культуры, міністр сельскай гаспадаркі БНР. Аўтар першага падручніка «Геаграфія Беларусі» (1919).

[222] **Браніслаў Эпімах-Шыпіла** (1859–1934), педагог, выдавец, грамадскі дзеяч, бібліёграф. Кандыдат філалогіі (1887). Доўгі час працаваў у бібліятэцы Пецярбургскага ўніверсітэта.

[223] **Сцяпан Некрашэвіч** (1883–1937), мовазнаўца, адзін з арганізатараў акадэмічнай навукі Беларусі.

[224] **Язэп Лёсік** (1883–1940) — мовазнаўца, палітык, педагог.

[225] **Язэп Пушча** (сапр. Плашчынскі, 1902–1964), паэт, крытык, перакладчык.

[226] **Уладзімір Тэраўскі** (1871–1938), кампазітар, дырыжор. У 1920-я гг. (з перапынкамі) працаваў галоўным хормайстарам БДТ-1, кіраваў харавымі калектывамі пры БДУ, Мінскім педтэхнікуме, прафсаюзе паштавікоў-тэлеграфістаў.

[227] **Еўсцігней Міровіч** (сапр. Дунаеў, 1878–1952), драматург і тэатральны рэжысёр.

[228] **Уладзіслаў Галубок** (сапр. Голуб, 1882–1937), драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, мастак.

*ад зьнішчэньня, нам неабходна цясьней згуртавацца, нягледзячы на розьніцу палітычных паглядаў ды арганізацыйную прыналежнасьць, да чаго й заклікае Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ўсіх нашых культурна-навуковых працаўнікоў як у Злучаных Штатах Амэрыкі, так і па ўсіх іншых краінах сьвету.*

*З мэтаю большага зацікаўленьня найважнейшымі пытаньнямі беларусаведы сваіх і чужых, з мэтаю публікаваньня працаў у гэтай галіне Інстытут пачынае выдаваць свой навуковы орган — "Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва"»*[229].

Пра заснаванне ў Нью-Ёрку беларускай навукова-даследчай арганізацыі шырока паведамляў друк, як беларускамоўны, гэтак і іншамоўны, ды было разаслана шмат спецыяльных прэс-камунікатаў. Трэба сказаць, што заснаванне беларускай арганізацыі даследча-навуковага профілю беларускае і навукова-амерыканскае грамадства ўспрыняло з задавальненнем і прыязю. Стварэнне БІНіМа віталі не толькі прыхільныя беларусам групы, як, прыкладам, украінцы, але і рускія ды польскія арганізацыі. Некаторыя амерыканскія бібліятэкі паведамілі БІНіМу пра сваё жаданне займець у новапаўсталай арганізацыі дарадчыка ў разбудове беларускіх кнігазбораў. Прывітальныя лісты даслалі такія навукоўцы, як Юры Шавялёў, Барыс Унбегаўн, Нікалас Вакар, Аляксандр Далін ды шмат іншых. Адразу БІНіМ пачаў атрымоўваць запросіны да ўдзелу ў навуковых канферэнцыях, прэсавых сустрэчах у Нью-Ёрку і Вашынгтоне ды паведамлення беларускага пункту гледжання на праблемы. Гэткім чынам, БІНіМ ад самага пачатку замацаваў за сабою апінію беларускай нацыянальнай установы. На той час гэта было піянерскае з'явішча, бо нацыянальнай навуковай грамадскасці Беларусі ў замежжы, па сутнасці, не было, а сувязі з афіцыйным навуковым асяродкам у БССР былі ўскладненыя.

Праца па разбудове БІНІМа пачалася пасля яго афіцыйнага заснавання. Разаслалі каля сотні анкетаў на сяброўства ў новай інстытуцыі беларускім навукоўцам і грамадскім дзеячам дыяспары, якія запоўнілі Мікола Абрамчык, Антон Адамовіч, Леў Акіншэвіч, Кастусь Акула, Наталля Арсеннева, Мікола Арцюх, Вольга Арэхва, Часлаў Будзька, Томас Бэрд, архіепіскап Васіль (Уладзімір Тамашчык), Дзмітры Верасаў, Барбара Вержбаловіч, Аляксей Вініцкі, Юрка Віцьбіч, Аўген Вярбіцкі, а. Леў Гарошка, Мікола Гарошка, Расціслаў Гарошка, а. Язэп Германовіч, Язэп Гладкі, Баляслаў Грабінскі, Станіслаў Грынкевіч, Аляксей Грыцук, Язэп Гуткоўскі, Мікола Дарашэвіч, Юліяна Дубейкаўская, Віктар Жаўняровіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Раіса Жук-Грышкевіч, Янка Запруднік, Эльза Зубковіч, Рыгор Казак (Крушына), Аляксандр Калодка, Сымон Кандыбовіч (Кабыш), Алесь Карповіч, Аўген Каханоўскі, Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, Тамара Стагановіч-Кольба, Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Мікола Кунцэвіч, Францішак Кушаль, Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), Язэп Малецкі, Пётра Манькоўскі, Аляксандр Марговіч, Аляксандр Махноўскі, мітрапаліт Мікалай (Міхась Мацукевіч), Пётра Міра-

[229] [Прадмова] // Запісы БІНІМ. № 1. Нью Ёрк, 1952. С. 2.

новіч, Уладзімір Набагез, Міхась Наўмовіч, Мікола Нікан, Аляксандр Орса, Ала Орса-Рамана, Гіпаліт Паланевіч, Мікола Панькоў, Ян Пятроўскі, Мікола Равенскі, Барыс Рагуля, Аляксандр Рамаоўскі, Аляксандр Ружанец-Ружанцоў, Лявон Рыдлеўскі, Апалонія Савёнак, Лявон Савёнак, Янка Садоўскі, Алесь Салавей, Міхась Саўка-Міхальскі, Віктар Сянкевіч, Юры Сянькоўскі, Мікола Сільвановіч (Вярба), біскуп Часлаў Сіповіч, Яўхім Скурат, а. Аўген Смаршчок, Станіслаў Станкевіч, Масей Сяднёў, а. Пётра Татарыновіч, Вітаўт Тумаш, Часлаў Ханяўка, Антон Шукелойць, Дзмітры Чайкоўскі, Уладзімір Цвірка, Мікола Целеш, Эміль Цяўлоўскі, Янка Шакун, Уладзімір Шыманец, Янка Юхнавец ды іншыя.

У гэты ж час закладзеныя картатэкі беларускіх арганізацый на эміграцыі і даследчыкаў беларусаведы (як беларусаў, гэтак і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў). Таксама быў наняты адвакат і зробленыя неабходныя ў такіх выпадках адміністрацыйныя захады па рэгістрацыі ўстановы ў штаце Нью-Ёрк.

*«Пратакол*
*паседжаньня Ўраду БІНіМу*
*дня 20 кастрычніка 1952 г.*

*Прысутныя: прафэсар Л[еў] Акіншэвіч, прафэсар М[ікола] Дарашэвіч, уладыка Васіль, доктар В[ітаўт] Тумаш, Н[аталья] Арсеньнева.*

*Парадак дня:*
*1. Справа Зьезду.*
*2. Народны Ўнівэрсытэт.*
*3. Бягучыя справы.*
*4. Легалізацыя Інстытуту.*

*Да пункту 1 пастаноўлена: склікаць Зьезд БІНІМу 14 сьнежня 1952 г. а 14.30. Дзеля гэтага не пазьней як 14 лістапада кожнаму сябру БІНІМу павінен быць высланы праект Статуту й адмысловы ліст, які далучаецца да пратакола. Сп. М[ікола] Дарашэвіч мае падрыхтаваць фінансавую справаздачу. Сп. В[ітаўт] Тумаш мае зрабіць справаздачу наконт часопісу «Запісы». Уступнае слова даручаецца старшыні БІНІМу ўладыку Васілю. Паклікаецца рэвізійная камісія ў асобах: Сп. [Пётры] Манькоўскага й Сп. [Міколы] Гарошкі. Справу Статуту зрэфэруе Зьезду Сп. прафэсар Л[еў] Акіншэвіч.*

*Да пункту 4 пастаноўлена: легалізацыю БІНІМу вырашана даручыць старшыні ўладыку Васілю, абмеркаваўшы гэтую справу з адвакатам.*

*Да пункту 3 пастаноўлена: па бягучых справах даручана зрабіць даклад Сп. [Міколу] Кулікові чу[230] 8 лістапада 1952 г. у памяшканьні Ўкраінскага*

[230] **Мікола Куліковіч-Шчаглоў** (1893–1969), кампазітар, музыка, музыказнаўца, грамадска-культурны дзеяч.

*літаратурна-мастацкага клюбу. У гэтай справе мае быць дадзеная абвестка ў наступным нумары «Беларуса».*

*Да пункту 2 пастаноўлена: па абмеркаваньні яшчэ раз справы й жывое дыскусыі пачаць арганізацыю Ўнівэрсытэту неадкладна тым часам з гэткаю праграмай:*

*1. Эканамічная й фізычная геаграфія Беларусі. Месяцова — 4 гадзіны.*
*2. Гісторыя й культура Беларусі — 6 гадзінаў.*
*3. Гісторыя літаратуры й літаратура — 6 гадзінаў.*
*4. Гісторыя Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня.*
*5. Беларускае мастацтва.*
*6. Амэрыканаведа.*

*На лектараў прапануецца запрасіць: Сп.Сп. А[ляксандра] Орсу, М[іколу] Гарошку, М[іколу] Дарашэвіча, Л[ява] Акіншэвіча, Г[іпаліта] Паланевіча, А[нтона] Адамовіча, доктара В[ітаўта] Тумаша, Я[нку] Ліманоўскага*[231]*, Ул[адзімера] Клішэвіча, М[іхася] Тулейку*[232]*.*

*На гэтым паседжаньне было скончанае.*

*Сакратар Н[аталья] Арсеньнева».*

Першы сход адбыўся, згодна з пастановай, 14 снежня 1952 г. у Нью-Ёрку. Паводле пратакола, у ім узялі ўдзел 40 сяброў БІНІМа ды каля дзясятка ўпаўнаважаных. Інфармацыя пра мерапрыемства была выдрукаваная ў «Беларусе»:

*«У нядзелю 14 сьнежня сёлета ў Беларускай Хатцы адбыўся гадавы сход сяброў заснаванага год таму Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.*

*Леташні, першы сход, на якім БІНІМ быў закладзены, шмат шырэйшы й больш урачысты, з запрошанымі гасьціма й дакладчыкамі, не патрапіў, аднак, абмеркаваць, правесьці й зацьвердзіць таго, што ўдалася зладзіць сёлетняму, першаму сходу сяброў гэтае маладое, а гэтак патрэбнае арганізацыі.*

*У справаздачы з працы, праробленай за гэты першы, арганізацыйны пэрыяд тымчасовым Урадам БІНІМу, выявілася, што, хоць умовы працы былі вельмі цяжкія, у асноўным усе заданьні, ускладзеныя леташнім сходам на тымчасовы Ўрад, — выкананыя. На запросіны тымчасовага Ўраду Інстытуту, які разаслаў у гэтай справе каля ста адмысловых анкетаў і запросінаў блізу ўсім, бяз розьніцы палітычных перакананьняў, беларускім навукоўцам і мастакам, вакол Інстытуту задзіночылася ўжо ладная грамада (звыш 50 сяброў).*

*Апрацаваны Статут арганізацыі, выдадзены коштам ахвяраў, сабраных сярод беларусаў добрае волі, два нумары часопісу БІНІМу — “Запісы”, цалкам падрыхтаваныя да друку, вялікі зборнік вершаў Янкі Купалы, зборнік*

---

231 **Янка Ліманоўскі** (1896–1989), пісьменнік, літаратуразнаўца.
232 **Міхась Тулейка** (1915–1998), грамадскі дзеяч.

*вершаў Максіма Багдановіча, кніжка "Ахвяры бальшавізму" з імёнамі звыш 500 беларускіх дзеячаў, пісьменьнікаў, навукоўцаў і патрыётаў, зьнішчаных бальшавікамі й інш. У асноўным, усё падрыхтаванае патрэбнае дзеля адчыненьня паасобных сэкцыяў Інстытуту; наладжаныя два навуковыя рэфэраты й абыход 10-х угодкаў сьмерці Янкі Купалы з рэфэратам і мастацкай часткай; апрацаваная праграма й падабраныя лектары для Беларускага Народнага Ўнівэрсытэту, што будзе адчынены, як толькі знойдзецца належнае памяшканьне, ды заладжана яшчэ шмат больш дробных справаў, працу ля якіх мо' не заўсёды й відаць, але якая забірае шмат часу й безь якое нельга абысьціся.*

*Пасьля ўступнага слова дасюлешняга старшыні БІНІМу ўладыкі Васіля й справаздачы з працы за мінулы год, зробленай першым сакратаром Ураду доктарам Вітаўтам Тумашам, прысутныя выказалі старому Ўраду абсалюторыюм з падзякай.*

*Пасьля гэтага пачалося чытаньне Статуту й дыскусія зь яго. Статут быў прыняты з колькімі, тут жа выпраўленымі, невялічкімі зьменамі.*

*Скончыўшы з Статутам і кіруючыся ім, сабраныя сябры прыступілі да выбараў новага першага сталага Ўраду БІНІМу.*

*Тайным галасаваньнем, бальшынёю галасоў у новы ўрад выбраныя: на старшыню — дацэнт Янка Ліманоўскі, сябрамі — доктар Вітаўт Тумаш, доктар Уладзімер Сядура[233], Натальля Арсеньнева (Кушаль) і Мікола Панькоў. Апрача гэтага, выбраныя тры кандыдаты да Ўраду й Наглядная рада ў складзе старшыні прафэсара Лява Акіншэвіча, уладыкі Васіля й паэты Рыгора Крушыны.*

*Дарма што арганізацыйны пэрыяд працы Інстытуту ў асноўным скончаны, на плечы новага Ўраду ўскладзена ці мала важных абавязкаў. Адным з найважнейшых — стварэньне матэрыяльнае базы для працы нашае навуковае арганізацыі, без чаго яна ніколі не патрапіць набраць належнага імпэту, арганізацыя паасобных сэкцыяў, выдавецкая праца, навязаньне трывалых сувязяў зь іншанацыянальным ды амэрыканскім навуковым сьветам і шмат чаго іншага.*

*Беручы на ўвагу матэрыяльнае становішча нашае маладое эміграцыі й цяжкасьці ў атрыманьні дапамогі на беларускую навуковую працу з боку розных пакліканых да гэтага інстытуцыяў, — кожнаму ясна, што ня толькі ахвярнасьць Ураду ці сяброў інстытуту, якія не шкадуюць ні грошай, ні часу для разьвіцьця свае ўстановы, — але й усяго нашага грамадзтва можа адно*

---

[233] **Уладзімір Сядура** (псеўд. Глыбінны, 1910–1995), пісьменнік, літаратуразнаўца, культуролаг. Аўтар кніг: «На берагох пад сонцам» (1964), «На Святой зямлі» (1972), «Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу» (1979), «Пад лебядзіным знакам. Аповесць пра Максіма Багдановіча» (1983), «Вялікія дарогі» (1997).

*прычыніцца да належнага росту Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва — адзінае шырока разбудаванае навуковае інстытуцыі на эміграцыі»* [234].

27 снежня адбылося наступнае пасяджэнне, на якім нямала ўвагі было аддадзена канчатковай рэдакцыі Статута БІНіМа ды планам на будучыню. У прыватнасці, было запратакалявана выдрукаваць у 1953 г. чатыры нумары «Запісаў» памерам у 60 бачынаў, падрыхтаваць праект бюджэту на «Запісы» і зборнік твораў Янкі Купалы дзеля падавання ў Фордаўскі фонд[235], рэдакцыйную калегію часопіса паклікаць у складзе доктара Вітаўта Тумаша, Язэпа Гуткоўскага[236], Наталлі Арсенневай. Пастанавілі таксама стварыць групу даследчыкаў дзеля агляду іншамоўных кніжак, у якіх закранаецца пытанне Беларусі, у складзе Міколы Панькова, Іны Рытар[237], Вітаўта Тумаша, Аўгена Вярбіцкага[238], Льва Акіншэвіча.

Праца па разбудове БІНіМа вялася і надалей. На пасяджэнні 10 снежня 1953 г. было пастаноўлена закласці Усебеларускі архіў, аб'яднаўшы ў ім прыватныя архівы Міколы Панькова і архівы Бібліяграфічнай службы, пра што ў «Беларусе» было напісана:

*«Выконваючы даручэньне Агульнага Зьезду з 14 сьнежня 1952 г., Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва прыступіла да арганізацыі ў Нью-Ёрку Ўсебеларускага Архіву беларускае эміграцыі.*

*Дзякуючы ахвярнасьці архівара Інстытуту Сп. Міколы Панькова, які аддае пад Архіў адпаведнае памяшканьне, сталася магчымым прыступіць да арганізаваньня Архіву безадкладна, каб так патрэбная ўстанова была як найхутчэй адчыненая й аддадзеная для карыстаньня ўсяму беларускаму грамадзянству бяз розьніцы палітычных паглядаў ці груповае прыналежнасьці.*

*Ужо праведзеная пачатковая праца паказала, што арганізаваньне Архіву — справа насьпелая, і ўжо шмат хто згадзіўся перадаць у Архіў свае прыватныя зборы для агульнага карыстаньня ці то на собскасьць Архіву, ці на ўмовах дэпазыту.*

*Усебеларускі Архіў будзе складацца з трох галоўных аддзелаў: архіўнага, музэйнага й бібліятэкавага. Архіўны аддзел зьбірае й перахоўвае акты, дакумэнты, рукапісы, успаміны, фатаграфіі, біяграфічныя й іншыя падобныя матэрыялы з гісторыі Беларусі й з гісторыі й жыцьця беларускае эміграцыі.*

*Музэйны аддзел зьбірае памяткі й прадметы, што маюць гістарычную, навуковую, этнаграфічную, мастацкую вартасьць для нашых будучых*

---

[234] Беларус. 25 сьнежня 1952.

[235] **Фонд Форда** (англ. *Ford Foundation*) — амерыканская прыватная дабрачынная арганізацыя, заснаваная ў 1936 г. для падтрымкі дэмакратыі, міжнароднага супрацоўніцтва і чалавечага развіцця. Штаб-кватэра арганізацыі знаходзіцца ў Нью-Ёрку.

[236] **Язэп Гуткоўскі** (сапр. Ізідар Плашчынскі, 1908–1986), грамадскі дзеяч, публіцыст, брат Язэпа Пушчы.

[237] **Іна Рытар** (у першым шлюбе Сеўрук, у другім — Каханоўская, 1906–1997), пісьменніца, грамадская дзяячка, другая жонка А. Каханоўскага.

[238] **Аўген Вярбіцкі** (1922–1986), грамадскі дзеяч, навуковец, хімік.

*пакаленьняў. Сюды будуць належаць і творы беларускіх мастакоў, як абразы, скульптура, замалёўкі, а таксама творы чужых мастакоў зь беларускаю тэматыкай.*

*Бібліятэкавы аддзел будзе намагацца канцэнтраваць ды ахоўваць усе друкі беларускія й пра Беларусь як кнігі, брашуры, часопісы, газэты, ноты, паштоўкі, улёткі й г. д.*

*Інстытут бярэ на сябе абавязак і адказнасьць за справу аховы збораў ды за даступнасьць іх для навуковых і грамадзкіх патрэбаў. Дзеля сталай рупнасьці пра ахову сабраных каштоўнасьцяў і пра разьвіцьцё Архіву паклікаецца з прадстаўнікоў грамадзянства адумысловая Архіўная рада як наглядна-дарадчы орган для кіраўніцтва Архіву.*

*Паведамляючы пра закладзіны Ўсебеларускага Архіву, Урад Інстытуту даручае гэтую так важную й неабходную з грамадзка-нацыянальнага гледзішча ўстанову ўвазе й маральнай ды матэрыяльнай апецы беларускай эміграцыі ўсіх краінаў сьвету ды заклікае да перасланьня ў Архіў вышэй пералічаных матэрыялаў. Просім усе беларускія выдавецтвы перасылаць па 3 экзэмпляры ўсіх сваіх выданьняў для Архіву. За большую колькасьць Архіў будзе заўсёды вельмі ўдзячны, бо лішнія экзэмпляры будуць выкарыстаныя для вымены з чужамоўнымі архівамі й бібліятэкамі, лучнасьць зь якімі ўжо навязваецца»*[239].

На тым самым пасяджэнні 10 студзеня дыскутавалася справа правапісу эміграцыйнага друку і была пакліканая камісія для апрацавання плана ўніфікацыі правапісу: Янка Ліманоўскі, Уладзімір Сядура, Ізідар Плашчынскі, Язэп Гладкі. Таксама стваралася камісія па крытычным аглядзе і аналізе іншамоўных кніг, прысвечаных праблемам, звязаным з Беларуссю. У гэтую камісію ўвайшлі Мікола Панькоў, Леў Гарошка, Вітаўт Тумаш, Іна Рытар, Леў Акіншэвіч, Аляксей Сянкевіч, Часлаў Сіповіч, Мікола Сільвановіч, Мікола Нікан, Аўген Вярбіцкі.

Асобна дыскутавалася напісанне англамоўнага нарыса пра Беларусь. У камісію па апрацоўцы нарыса ўвайшлі Леў Акіншэвіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Юрка Віцьбіч, Уладзімір Сядура, Леў Гарошка, Гіпаліт Паланевіч, Аўген Каханоўскі, Аўген Вярбіцкі, Сымон Кандыбовіч (Кабыш), Іна Рытар. Льву Акіншэвічу таксама было прапанавана ўтварыць гістарычную секцыю, а Уладзіміру Сядуру — секцыю выяўленчага мастацтва. Таксама пастанавілі стварыць секцыю літаратурную, што даручылі Янку Ліманоўскаму з дапамогаю Ізідара Плашчынскага (Гуткоўскага), Наталлі Арсенневай, Рыгора Крушыны, Юркі Віцьбіча, Уладзіміра Сядуры. Гэтая секцыя забавязалася ад 1954 г. выдаваць літаратурна-мастацкі часопіс і абвясціла конкурс на самае лепшае апавяданне[240].

Гэтак БІНіМ распачынаў сваю працу.

[239] Беларус. 21 лютага 1953.
[240] Беларус. 28 лістапада 1953.

## Літаратурны побыт, Скарына і кнігаведа ў лістах дырэктара БІНіМа Вітаўта Тумаша[241]

4 жніўня 1954 г.

Дарагі Стась[242]!

Толькі атрымаўшы Твой ліст, зразумеў, чаму гэтак доўга не адказаў: дастаў высокую пасаду[243] зь вялікай пэнсіяй, разбагацеў — ну і цяпер заганарыўся ўжо! *«Головокружение от успехов»*[244], як кажуць расейцы. А тымчасам сабралася шмат справаў, і трэба іх разгледзіць папарадку. Перш чым перайсьці да трох галоўных: Інстытут СССР[245], Купалавай кнігі[246] і альманаху[247], трэба заладзіць пару драбнейшых.

1. «Дзьвёх душаў» Гарэцкага[248] ня маю. Некалі пісаў, што знайшоў — гэта ў значэньні, што даведаўся, дзе яны ёсьць. Казаў мне Абрамчык, што ў ягонай бібліятэцы кніга гэтая ёсьць, і я адразу напісаў да Ніны,

---

[241] Важная частка ліставання — з даследчыкам жыцця і дзейнасці Скарыны Антонам Флароўскім — была выдрукаваная самім В. Тумашам у: Запісы БІНіМ. № 18. Нью-Ёрк, 1988. С. 26–82. Арыгіналы змешчаных тут лістоў захоўваюцца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк).

[242] Ліст адрасаваны **Станіславу Станкевічу** (1907–1980), грамадска-культурнаму дзеячу, літаратуразнаўцу, публіцысту, крытыку, выдаўцу. У час напісання ліста С. Станкевіч быў галоўным рэдактарам газеты «Бацькаўшчына» (Мюнхен).

[243] Маецца на ўвазе, што 13 ліпеня 1954 г. на генеральнай асамблеі сябраў Інстытута вывучэння гісторыі і культуры СССР у Мюнхене Станіслаў Станкевіч увайшоў у склад Навуковай рады гэтай установы.

[244] Выраз стаў вядомы пасля публікацыі артыкула Генеральнага сакратара ЦК ВКП(б) Іосіфа Сталіна ў газеце «Праўда» за 2 сакавіка 1930 г. Артыкул меў назву *«Головокружение от успехов. К вопросам колхозного движения»* і быў прысвечаны праблемам гвалтоўнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў СССР.

[245] Маецца на ўвазе **Інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР**, заснаваны ў Мюнхене прадстаўнікамі расійскай эміграцыі і ад 1951 г. фінансаваны Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі. Ад 1953 г. апошні ўзяў курс на пашырэнне прадстаўніцтва «нярускіх» у інстытуце. Падрабязней пра гэтую ўстанову можна прачытаць: Гардзіенка, Наталля. Да гісторыі беларусаў у Мюнхенскім інстытуце вывучэньня СССР // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 422–438; Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. С. 70–80.

[246] Тут і далей ідзецца пра падрыхтоўку выдання: Купала, Янка. Спадчына. Нью-Ёрк — Мюнхен, 1955. — LXVI + 497 с.

[247] Тут і далей ідзецца пра падрыхтоўку да друку выдання: Ля чужых берагоў: альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн: выдавецтва «Бацькаўшчына», 1955. —230 с.

[248] Маецца на ўвазе аповесць Максіма Гарэцкага.

ягонай жонкі[249], каб тая ці зрабіла мікрафільм на месцы, ці пераслала мне зрабіць яго тутка. Але на гэта не атрымаў ніякога адказу. Дык спрабуй цяпер сам патрудзіцца раздабыць «Дзьве душы». Трагэдыі вялікай ня будзе, калі й не дастанеш[250], бо-ж Ты ўнадзіўся ў Коласа[251], а мусіць забыўся, што Тарас Гушча[252] напісаў дзьве вялікія аповесьці «У палескай глушы» і «У глыбі Палесься»[253], якія, зь нястачы матар'ялаў, заўсёды можна перабіваць у падвалах «Б»[254]. Абедзьве гэтыя повесьці ў мяне ёсьць (віленскія выданьні). Дык як бяда прыцісьне — магу паратаваць[255].

---

[249] **Ніна Абрамчык** (дзяв. Ляўковіч, 1916–2003), грамадская дзяячка, жонка Міколы Абрамчыка.

[250] Аповесць «Дзве душы» Максіма Гарэцкага не публікавалася на старонках газеты «Бацькаўшчына».

[251] В. Тумаш мае на ўвазе тое, што ад чэрвеня 1954 г. на старонках газеты «Бацькаўшчына» публікавалася паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка». Гл.: Колас, Якуб. Сымон Музыка. Паэма // Бацькаўшчына. № 22 (204). 6 чырвеня 1954. С. 2–4; № 23 (205). 13 чырвеня 1954. С. 2–4; № 24–25 (206–207). 27 чырвеня 1954. С. 3–6; № 26–27 (208–209). 18 ліпеня 1954. С. 4–6; № 28–29 (210–211). 25 ліпеня 1954. С. 3–5; № 30–31 (212–213). 15 жнівеня 1954. С. 3–5; № 32–33 (214–215). 29 жнівеня 1954. С. 3–6; № 34 (216). 12 верасьня 1954. С. 2–3; № 35 (217). 26 верасьня 1954. С. 2–3; № 36–37 (218–219). 10 кастрычніка 1954. С. 3–4; № 38 (220). 17 кастрычніка 1954. С. 2–3; № 39–40 (221–222). 31 кастрычніка 1954. С. 4–5; № 41 (223). 7 лістапада 1954. С. 2–3; № 43–44 (225–226). 28 лістапада 1954. С. 2–4; №45 (227). 5 сьнежаня 1954. С. 2–3; № 46 (228). 12 сьнежаня 1954. С. 2–3; № 47–48 (229–230). Каталіцкія Каляды 1954. С. 2–3.

[252] **Тарас Гушча** — адзін з псеўданімаў Канстанціна Міцевіча (Якуба Коласа).

[253] **«У палескай глушы»** і **«У глыбі Палесся»** — першыя дзве аповесці з трылогіі Якуба Коласа «На ростанях».

[254] Тут і далей маецца на ўвазе газета «Бацькаўшчына» (Мюнхен).

[255] Аповесць «У палескай глушы» сапраўды друкавалася ў наступным годзе на старонках газеты «Бацькаўшчына». Гл.: Колас, Якуб. У палескай глушы // Бацькаўшчына. № 43 (273). 23 кастрычніка 1955. С. 2–3; № 44 (274). 30 кастрычніка 1955. С. 2–3; № 45 (275). 6 лістапада 1955. С. 2–3; № 46 (276). 13 лістапада 1955. С. 2–3; № 47–48 (277–278). 27 лістапада 1955. С. 5–7; № 49 (279). 4 сьнежаня 1955. С. 2–3; № 50 (280). 11 сьнежаня 1955. С. 2–3; № 3 (284). 15 студзеня 1956. С. 2–3; № 4 (285). 22 студзеня 1956. С. 2–3; № 5 (287). 29 студзеня 1956. С. 2–3; № 6–7 (288–289). 11 лютага 1956. С. 3–6; № 7 (290). 19 лютага 1956. С. 2–3; № 9 (291). 26 лютага 1956. С. 2–3; № 10 (292). 4 сакавіка 1956. С. 2–3; № 11 (293). 11 сакавіка 1956. С. 2–3; № 12–13 (294–295). 25 сакавіка 1956. С. 3–7; № 14 (296). 1 красавіка 1956. С. 2–3; № 15 (297). 8 красавіка 1956. С. 2–3; № 16 (298). 15 красавіка 1956. С. 2–3; № 17–18 (299–300). 29 красавіка 1956. С. 6–7; № 20 (302). 13 травеня 1956. С. 2–3; № 21 (303). 20 травеня 1956. С. 3. Пазней аповесць была надрукаваная і асобным выданнем. Гл.: Колас, Якуб. У Палескай глушы. Мюнхэн: выдавецтва «Бацькаўшчына», 1957. — 158 с.

2. Адну бяду Ты сам навярнуў на мой карак і цяпер мусіш памагчы нейк зь яе выпутацца. Атрымаў доўгі ліст ад спн. Вержбаловіч[256] з жалем на тое, што ані ейнай фатаграфіі, ані артыкулу пра яе ніхто й ня думае зьмяшчаць у «Б», калі тымчасам некалі далі фатаграфіі ўсіх і нават вельмі слабенькіх мастакоў аматараў, і што гэта ёй вялікая маральная крыўда. Да мяне зьвяртаецца, бо Ты казаў ёй, што некалі пісаў ліст мне, каб прыслаць фатаграфіі мастакоў зь Ню Ёрку. Значыцца, я вінаваты за ўсё й таму мушу аплаціць кошты клішэ (бо быццам дзеля гэтага Ты не зьмяшчаеш ейнай фатаграфіі, бо цяпер няма грошаў на клішы) — ёй-жа самой ня выпадае яшчэ й клішу аплачваць, а ўся справа дзее на ейны *«гонар»*. Кошт клішы быццам — 6 даляраў. Гэта праўда, што некалі Ты ў сваім лісьце ўспамінаў пра клішы хору ды сьпевакоў у Ню Ёрку, але я палічыў, што Ты пішаш не да аднаго мяне, а перадусім да тых, хто хорам ды сьпевамі займаюцца, і таму — палічыў, што гэта нехта іншы заладзіць справу. Тымчасам справы ніхто не заладзіў, і спн. Барбары запраўды выходзіць жаль і крыўда за ўсе бязінтэрэсоўныя труды-клопаты для беларусаў Ню Ёрку. Грошаў то я і сам цяпер ня шмат маю, жыву, як птушка боская з дня на дзень, бязь ніякіх запасаў, але маю сякі такі разрахунак з Выдавецтвам «Бацькаўшчыны». Ходзе пра тое, што на прыгатову Купалавай кнігі выклаў ужо больш 30 даляраў (больш 10 на паперу, кальку для перабітак тэксту + больш 10 на перасылкі лётнаю поштай машынапісу іншых, зьвязаных з гэтым, матар'ялаў + каля 10 на фотаклішы). Мы пра гэта гаварылі з інж. Абрамчыкам, што ён пастараецца ўсе гэтыя расходы матар'яльныя выраўнаць (праца даецца дарма). Ён меўся накіраваць на гэта лішніх 15 кнігаў Купалы для прадажы й выраўнаньня рахунку. Я прапаную іншае: прашу з круглай (закругленай) сумы 30 даляраў 6 узяць на клішу для спн. Барбары, на конто рэшты пераслаць мне кнігу «Нядоля Заблоцкіх»[257], а ўсю рэшту залічыць на падпіску на «Бацькаўшчыну». Гэтак хіба Вам ніякой крыўды ня будзе, і справа будзе выраўнаная для агульнага задаваленьня, асабліва спн. Барбары[258], і я больш ня буду мець ніякіх прэтэнсіяў да Выдавецтва.

---

256 **Барбара Вержбаловіч** (1901–1967), оперная спявачка, грамадская дзяячка. У 1950–1954 гг. жыла ў ЗША, пасля пераехала разам з пляменніцай Галінай Ганчарэнкай у Мюнхен.

257 Маецца на ўвазе кніга: Калюга, Лукаш. Нядоля Заблоцкіх: Аповесьць. Мюнхэн: выдавецтва «Бацькаўшчына», 1954. — 127 с.

258 Тэкст, прысвечаны Барбары Вержбаловіч, неўзабаве з'явіўся на старонках газеты «Бацькаўшчына». Гл.: Куліковіч, М. На службе роднай песьні (Барбара Вержбаловіч) // Бацькаўшчына. № 32–33 (214–215). 29 жніўня 1954. Літаратурны дадатак. С. 5–6.

3. Не забудзься зрабіць і пераслаць для Інстытуту мікрафільм Тваёй працы пра беларускія элемэнты ў польскай паэзіі рамантычнай[259]. Цяпер хіба больш дый часьцей бываеш у Мюнхэне, і гэта будзе Табе лёгка зрабіць праз праф. Коцмідэра.

І. Справа Інстытуту СССР.

У справах Інстытуту СССР, бязумоўна, што будзеш мець заўсёды падтрыманьня ў межах нашых магчымасьцяў, якія не такія й вялікія, праўда, за што спадзяёмся, што будзе заўсёды й падтрыманьне для Інстытуту з боку Інстытуту СССР у выпадку патрэбы, які мае куды большыя, бадай неабмежаваныя магчымасьці.

У дадзенай стадыі хіба самае важнае мацаваць дый разбудоўваць здабытыя ў Інстытуце пазыцыі дый меркаваць, што можна больш там здабыць. Усё будзе шмат залежыць ад Цябе самога — што ад нас, хіба таксама падтрымаем. Аднак трэба помніць, што гэтай справе ёсьць межы — межы фізычнай магчымасьці і межы прынцыповыя. Межы фізычныя — разумею тое, што нашыя кадры тут не такія лічныя, разцярушаныя. Межы прынцыповыя — што мы не павінны-ж кідаць усё іншае, закрываць ці спыняць працу сваіх навуковых інстытуцыяў дый ліквідаваць свае выдавецтвы на тое толькі, каб належна рэпрэзэнтавацца ў Інстытуце СССР. Патрэбна тое й тое. Пераходзячы да канкрэтных пытаньняў:

Стыпэндыі: на жаль, гэтая справа не такая простая ў нас. Стыпэндыі Інстытуту СССР на амэрыканскія ўмовы вельмі мізэрныя[260]. Такія грошы тут зарабляе кажны, самы дурны, фізычны работнік. Дык ніхто, асабліва маючы сям'ю, ня будзе кідаць сваёй сталай працы, каб брацца за няпэўную (толькі на 3 месяцы) дый мізэрную *«стыпэндыю»*. Такую стыпэндыю тут маюць толькі студэнты, а не закончаныя, з стажам навуковыя працаўнікі. Другая рэч — частка нашых навукоўцаў раскіданая па іншых краінах сьвету, дзе стыпэндыі маюць большую практычную вартасьць, але тамка ізноў няма адпаведнай літаратуры. Навуковыя працы аб СССР не паэзія, якую можна пісаць толькі *«натх-*

[259] Маецца на ўвазе польскамоўная праца Станіслава Станкевіча, выдадзеная ў Вільні ў 1936 г. На беларускай мове кніга выйшла значна пазней. Гл.: Станкевіч, Станіслаў. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі. Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 212 с.

[260] У абвестцы пра стыпендыі інстытута было сказана: *«Для арыентацыі, падаём пры гэтай нагодзе аб вышыні стыпэндыяў: для ЗША і Канады — 200 амэр. даляраў у месяц, для іншых краінаў Амэрыкі і Аўстраліі — 150 дал., для Эўропы, Азіі й Афрыкі — 100 амэрыканскіх даляраў. Першы раз стыпэндыі выдаюцца толькі на тры месяцы. Але калі стыпэндысты за гэты час добра вывяжыцца з узятага на сябе заданьня, дык у далейшым стыпэндыя можа быць яму прызнаная на даўжэйшы пэрыяд часу, але не даўжэй як на адзін год»* (Р. С. У Інстытуце для Вывучэньня СССР // Бацькаўшчына. № 35 (217). 26 верасьня 1954. С. 2–3).

*неньнем»* — патрэбны матар’ял. У Ню Ёрку матар’ял ёсьць — грошаў замала, у іншых краінах мо’ й грошаў хапае — няма матар’ялаў. Вось над гэтымі пытаньнямі павінен Ты цяпер і падумаць, як іх разьвязаць — накш вынікі будуць мізэрныя. Па-мойму, у Эўропе некаторых можна *«зьблізіць»* да бібліятэкаў і матар’ялаў (напр. Карповіча[261] мо’ варта спрабаваць перакінуць на нейкі час у Мюнхэн, да бібліятэк, хай пакажа, што можа й умее — у Ольдэнбургу[262] ня ведаю, як ён можа нешта саліднейшае напісаць). Для Амэрыкі трэба было-б падвысіць ганарары-стыпэндыі — накш будзеце мець толькі прыпадковыя агрызкі, а не салідную ўважную працу чалавека. Наагул вымаганьні працаваць за такія грошы тут навуковымі працаўнікамі адчуваецца як самая вострая эксплёатацыя. Я цісную на нашых многіх сяброў — вынік невялікі дзеля вышэй пададзеных прычынаў. Калі хочыш, можыш накіраваць яшчэ запросіны на навуковае супрацоўніцтва й прапанову стыпэндыі для Рыгора Казака (Крушыны) — ён цяпер згубіў працу, нічога не зарабляе й хоча напісаць працу пра Лістападаўскі рух і лістападаўскі працэс[263] (на якім сам выступаў як сьветка й пра які некалі ў Менску ўжо пісаў[264]). Гэта ён напэўна зможа выканаць, газэты савецкія з тае пары тут ёсьць. Дык не забудзься, накіруй яму запросіны — будзе за гэта ўдзячны (ён цяпер мае й другі клопат — ужо некалькі дзён ходзе па Ню Ёрку дый ня можа сабе прыпомніць, калі гэта дый дзе ён пісаў паэму «Васіль Каліна», каторую Ты цяпер друкуеш пад ягоным іменем!!![265]). Можыш скіраваць яшчэ запросіны й для сп. Дарашэвіча[266] (пра якога пісаў) — хоць для ліку будзе больш нашых. Цэлеша[267] напэўна шчыркнулі дзеля адмоўнай апініі Рысарч Програм[268], бо агульная апінія тут, што ён там ня вывязаўся з пастаўленага сабе заданьня і яму хутка стыпэндыю адабралі.

---

[261] **Алесь Карповіч** (1908–1992), кампазітар, грамадскі дзеяч, сябра БІНіМа.

[262] Пасля Другой сусветнай вайны Алесь Карповіч некаторы час працаваў як выкладчык у музычнай школе ў Ольдэнбургу (Заходняя Нямеччына).

[263] Навуковая праца на тэму Лістападаўскага працэсу не была напісаная.

[264] У 1925 г. Рыгор Казак (Крушына) быў арыштаваны разам з братам Міколам па справе Юркі Лістапада, але праз нейкі час вызвалены. Згадкі пра той працэс Рыгор Крушына апублікаваў у колькіх артыкулах: Рамановіч, К. Слуцкія змагары. (Да 30-х угодкаў арганізацыі руху Лістападаўцаў) // Бацькаўшчына. № 33 (263). 14 жніўня 1955. С. 1–2; Рамановіч, К. Юрка Лістапад. Да 30-ых угодкаў лістападаўскага руху // Бацькаўшчына. № 35 (265). 28 жніўня 1955. С. 1.

[265] У газеце «Бацькаўшчына» (№ 28–29 (210–211) за 25 ліпеня 1954) была надрукаваная першая частка паэмы Уладзіміра Клішэвіча «Васіль Каліна», памылкова падпісаная імем Рыгора Крушыны. Наступныя часткі публікаваліся ўжо з правільным пазначэннем аўтарства.

[266] Маецца на ўвазе сябра БІНіМа Мікола Дарашэвіч.

[267] Маецца на ўвазе сябра БІНіМа Мікола Целеш.

[268] ***Research Program*** (англ.) — праграма даследаванняў, даследчая праграма.

Выдавецкія справы. На наш Інстытуцкі пагляд чым хутчэй спыняць выдаваньне расейскага «Вестника»[269] як агульнага органу Інстытуту СССР — тым будзе лепш. Лепш няхай усё выдаецца па-ангельску. Нашто яшчэ на эміграцыі мацаваць значэньне ды ўплыў расейскай мовы, калі дома гэта робіць МВД, а на вонках савецкія грошы (ды й амэрыканскія! — напр., Чэхаўскае выдавецтва[270]). Дык няма ніякага палітычна-ідэялягічнага сэнсу за амэрыканскія грошы дый нашымі яшчэ натугамі пашыраць яшчэ больш вагу гэтага *«языка Леніна»*. Найвышэй мог-бы ён выходзіць толькі як вестнік справаў расейскіх ці РСФСР. Прынцып хіба павінен быць: усе агульныя справы СССР і ўсе важнейшыя справы павінны друкавацца па-ангельску, каб яны былі лёгка даступныя для захаду, а ня толькі для расейскай эміграцыі, бальшавікоў дый русафільскіх амэрыканцаў, якія гэтую мову ведаюць.

Калі ня ўдасцца зьліквідаваць зусім расейскага вестніка, тагды ўжо трэба бараніць другую канцэпцыю — асобнага выданьня нерасейскіх народаў (і не ўкраінскага, паводле Тваёй інфармацыі) і — Тваё становішча зусім правільнае — лепш ужо разам з Каўказцамі дый Туркменістанцамі, чымісьці ў вадзін кошык з украінцамі, якія пры кажнай нагодзе ігнаруюць або і гандлююць беларускімі інтарэсамі.

З матар'яламі ў меры магчымасьці будзем памагаць, хоць гэтая справа таксама не такая простая дзеля раней ужо разгледжаных прычынаў: ганарары на амэрыканскія ўмовы нізкія й пры іншай сталай працы зарабковай нялёгка людзям за гэта брацца.

Агульныя меркаваньні. Мацуючы дый пашыраючы свае ўплывы й пазыцыі ў Інстытуце, неабходна ўжо цяпер думаць пра тое, каб знайсьці шляхі й магчымасьці на тое, каб ад гэтага Інстытуту атрымліваць і некаторыя датацыі на самастойную навуковую культурна-выдавецкую працу народаў, якія падтрымліваюць Інстытут СССР маральна й сваім супрацоўніцтвам. Ходзіць асабліва пра такія народы, як мы, каторыя дзеля невялікай лічбовай колькасьці ня можым на сваіх собскіх сілах утрымаць гэтага матар'яльнага цяжару, хоць могуць сабе гэта пазволіць расейцы, украінцы, багатыя армяне. Асноўная ідэя маёй думкі гэткая: у інтэрэсе Інстытуту дый Амэрыканскага Камітэту[271]

---

[269] ***«Вестник Института изучения истории и культуры СССР»*** (ад 1956 г. ***«Вестник Института изучения СССР»***) — афіцыйны агульнаінстытуцкі навуковы перыёдык, што выдаваўся ў Мюнхенскім інстытуце ў 1951–1960 гг.

[270] Маецца на ўвазе **Выдавецтва імя Чэхава** (англ. *Chekhov Publishing House of the East European Fund, Inc.*) — амерыканскае выдавецтва, што дзейнічала ў 1952–1956 гг. у Нью-Ёрку і друкавала літаратурныя, гістарычныя, мемуарныя і навуковыя працы расійскіх аўтараў, што не маглі быць апублікаваны ў СССР. Выдавецтва было падраздзяленнем «Усходнееўрапейскага фонду», што, у сваю чаргу, з'яўляўся філіялам Фонду Форда.

[271] **Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі** (англ. *American Committee for the Liberation of the Peoples of Russia, AMCOMLIB*, пазней

павінна быць тое, каб усе культурна творчыя сілы народаў з прастору СССР мелі магчымасьць сталага выяўленьня сваёй творчай ініцыятывы ў галіне ня толькі навуковай, але й культурнай — літаратурнай, мастацкай, каб мелі магчымасьць друку й пісьменьнікі, крытыкі, і магчымасьці творчага разьвіцьця, што найлепш могуць гарантаваць акурат не *«казённыя»* ўсё-ж у вялікай меры выданьні Інстытуту СССР, а створаныя адпаведныя свае нацыянальныя навуковыя выданьні, у каторых будзе месца й на справу ідэялягічнага ўзгадаваньня дый падцягваньня ўверх інтэлектуальных кадраў дадзенай нацыянальнай групы, утрымліваньне ў сталай інтэлектуальна-баявой гатовасьці, каб у выпадку патрэбы кадры гэтыя былі для дыспазыцыі й на вызваленай Бацькаўшчыне, і — для рознай практычнай працы й тут. Ходзе пра тое, каб самую інтэлектуальную верхавіну эміграцыі гадаваць, падцягваць, утрымліваць усьведамленнай у бягучых палітычна-баявых заданьнях і справах Беларусі. Бальшавікі для такіх інтэлектуальных правадыроў утрымліваюць адумысловыя школы ў Маскве (для ўсіх нацыянальнасьцяў сьвету) — нам трэба старацца знайсьці магчымасьці, каб хаця існуючыя на эміграцыі сілы не зачахлі, не асталі ад актуальных палітычных справаў і падзеяў на Беларусі. Вось дзеля гэтага неабходная будзе помач матар’яльная на адпаведныя свае выдавецтвы, выдавецтвы адпаведных часапісаў, як, паводля магчымасьці, і выдавецтваў твораў паасобных пісьменьнікаў ці аўтараў.

Пра гэта сяньня мо’ яшчэ зарана гаварыць, калі Інстытут яшчэ толькі ў тракце арганізацыі, але думаць неабходна й паволі прыгатаўляць грунт. Дапамогі тут ад Фордаўскага фонду скончыліся, і хутка ўжо закрыецца тое, што за гэтыя грошы выдавалася.

Усе гэтыя заўвагі пакульшто толькі мае асабістыя, паколькі ня было часу яшчэ абмеркаваць справу на паседжаньні. Калі будзе нешта цікавае новае — напішу пра гэта асобна.

---

Амерыканскі камітэт вызвалення ад бальшавізму) — прыватная ўстанова ў штаце Дэлавэр, створаная з ініцыятывы Дзярждэпартамента ЗША. Галоўнай задачай арганізацыі было стварэнне каардынацыйнага цэнтра змагання народаў Расіі і СССР супраць бальшавікоў. Менавіта з ініцыятывы і пры падтрымцы Камітэта паўсталі Радыё «Вызваленне» і Інстытут вывучэння СССР у Мюнхене.

4 жніўня 1954 г.

Дарагі Стась!

II. Купалава кніга.

1. Разам пасылаю прыгатаваны для друку зьмест кнігі й важнейшыя эррата[272]. Што да зьместу, ніякіх увагаў больш ня маю — Табе прыйдзецца толькі дапісаць цыфры бачынаў уводных артыкулаў. Што да важнейшых памылак друку — іх ня шмат. Я выпісаў на паказ некаторыя такія, якіх друкаваць нават і ня варта, бо кажны дурань дагадаецца, як павінна быць. Трэба падаць толькі такія памылкі, якія, нявыпраўленыя, могуць быць прычынаю благога зразуменьня ці мяняць тэкст. Дзеля гэтага частку адразу й вычыркнуў сам чырвоным алавіком. Пару яшчэ можаш вычыркнуць сам. Застанецца менш 20 памылак, зь якіх 4 у вершы «Царскія дары» памылкі машынапісу. Я цяпер праверыў паводле арыгіналу ў бібліятэцы, і, аказваецца, там ёсьць ня *«гукі»*, а *«гікі»* і падобнае. У двох мясцох пакінуў месца для эвэнтуальных Тваіх паправак, бо тэкстаў гэтых у мяне няма, і я не магу іх праверыць. На 369 бач. другая строфка зьнізу — нешта перапутана, бо ніводзін радок не рыфмуецца. На бач. 444 3 радок зьверху — таксама нейкі нонсэнс — *«са старонкі левай»*?? На бачыне 433 ёсьць словы *«як баш»*. Калі гэта не памылка, калі так ёсьць і ў арыгінале — дык вычыркні маю папраўку, бо хоць лёгічна павінна быць *«як бач»*, аднак у некаторых мясцовасьцях, здаецца, вымаўляюць *«як баш»*. Калі-ж у арыгінале *«як бач»* — папраўку пакінь.

Заўвага. Я ўсюды стала і кансэнквэтна ўжываю слова *«бачына»* ў значэньні рус. *«страніца»*, а *«балонка»* толькі ў значэньні *«ліста», «карткі»*. У такім разуменьні адна *«балонка»* мае дзьве *«бачыны»*; бачыны звычайна нумаруюць, цытуюць, але не балонкі, затое балонкі лістаюць, пераварачваюць, але ня можна лістаць бачыны, бо яе не адарвеш ад балонкі. Паймо *«балонка», «балона»* (польскае *«блона»*) лёгічна замыкае ў сабе ценькую бляшку нейкай матэрыі, якая мае два бакі, і таму ўжываць слова *«балонка»* ў значэньні толькі бачыны, аднаго боку балонкі — яўны нонсэнс, супраць якога пратэстуе самы просты *«мужыцкі»* розум. Ня можна мовы гвалціць, заводзячы словы ці надаючы ім значаньне, зусім супроцьлежнае іхнаму папулярнаму ўжываньню ў народзе. Скуль узялася ў нас *«балонка»* ў значэньні бачыны? Нехта некалі з узвышэнцаў натрапіў у старой кнізе (XV ці XVI ст.) зацемку, што ў кнізе гэтай столькі то *«балонаў»*. Кнігі гэтай ня ведаю, але калі-б і гэтак было, дык на адным выпадку з-прад поўтысячы гадоў ня можна тварыць слова — лепш кажачы, надаваць яму значэньне, супроцьлежнае сучасным поймам *«балоны», «балонкі»*. Гэта гвалт над сучаснай мовай, непатрэбнае ўводжаньне ў блуд лёгічны чытача. Слова *«балонка»* ў значэньні бачыны нагвалт трымаецца Адамовіч, і толькі на аснове

---

[272] ***Errata*** (англ.) — абдрукоўкі.

адной — гэта завялі ўзвышэнцы, гэта сьвята! Да ўзвышэнцаў адносімся з пашанай, паважаем іх, бо яны шмат добрага зрабілі ў мове, але ўсё -ж клічам сучаснага беларускага пісьменьніка ў справе мовы павінна быць не: назад да узвышэнцаў і ня кроку ад іх! — але, наперад у дасканаленьні мовы, прыняўшы ўсё добрае ад узвышэнцаў, але не палохацца й папраўляць іх там, дзе яны памыліліся, ці да чаго яны не дайшлі. І ўзвышэнцы ня былі-ж людзі з папскаю непамыльнасьцяй. У бібліяграфіі і наагул у мове абодва словы вельмі патрэбныя й маюць сваё месца — *«балона»* для абазначэньня карткі, *«бачына»* для абазначэньня боку гэтай карткі, і няма патрэбы ніводнага зь іх адкідаць.

Увесь гэты *«трактат»* пра бачыну пішу не дзеля таго, каб Ты перамяніў тэрміналёгію сваёй «Бацькаўшчыны», гэта чыста Твая справа — але каб не зьмяняў *«бачыны»* на *«балоны»* ў Купалавай кнізе, дзе гэтак напісана, бо слова гэтае там так ужываецца не прыпадкова, а сьведама.

2. Пра «Слова»[273], ці ягоную беларускасьць, напішу дый прышлю разам з уводным словам. Час напісаньня яго дакладны хоць ня ведаем, але можна дагадвацца, што коратка перад тым, як быў друкаваны. А час друку «Слова» знойдзеш у дасланай Табе раней бібліяграфіі. Між іншым, перад тым, як Купала перапяяў «Слова» вершам, ён пераказаў яго прозаю. Тэкст празаічны ёсьць надрукаваны першы раз у «Хрэстаматыі» М. Гарэцкага з 1921 г., Вільня[274].

Не згаджаюся на тое, што трэба памяняць клішы з куды горшых перарысовак «Жалейкі»[275] і Купалу зь свінкай. Гэта будзе блага сьветчыць аб мастацкіх густах рэдактароў. Паўтараю — лепш не паступаць так: смачна, ня смачна — купіў — трэба зьесьці. Гэтак можна трактаваць селядцы, але ня кнігу Купалы.

3. Альманах пісьменьнікаў беларускай эміграцыі.

Спачатку справы зьместу і ўкладу кнігі — у канцы знойдзеш пагляд наш на справу выданьня і ўмовы.

Асноўны плян зьместу знойдзеш на асобнай картцы, дзе пералічаны аўтары, пададзена агульна тое, што мае ісьці ў кнігу (на нашую думку) дый паказаная й прыблізная колькасьць бачынаў, колькі займе паасобны аўтар. Асобна далучаны падрабязны плян кнігі з паказаньнем, якія творы паасобнага пісьменьніка маюць ісьці (калі гэтае пералічэньне патрэбнае — бо ў некаторых ідзе ўсё). Назоў кнігі — «На чужых берагох» — мой праэкт. Управа Інстытуту ніякога свайго канкрэтнага праэкту ня высунула.

---

[273] Маецца на ўвазе «Слова пра паход Ігаравы».

[274] Відаць, маецца на ўвазе выданне: Гарэцкі, Максім. Хрэстаматыя беларускае літаратуры: XI век — 1905 год. Вільня: Віленскае беларускае выд-ва Б. Клецкіна, 1922. — 264 с.

[275] **«Жалейка»** — першы зборнік вершаў Янкі Купалы. Быў выдадзены ў Санкт-Пецярбургу ў 1908 г.

Уклад праведзены паводле раней абгавораных прынцыпаў: не друкаваць твораў, якія ўжо былі друкаваныя ў паасобных зборніках, выдадзеных друкам на эміграцыі; не друкаваць твораў неэміграцыйных, даваенных. Ну і яшчэ трэці прынцып — не друкаваць няграматнага зь літаратурнага гледзішча напісаных твораў, бо гэта толькі прынясе шкоду кнізе, беларускай літаратуры — і самому аўтару.

У прадмове да кнігі неабходна падаць дакладна, на якіх прынцыпах кніга складзеная, каб ня было фальшывых разуменьняў дый неабаснаваных прэтэнсыяў. У прадмове таксама неабходна падаць і назовы, год дый месца выданьня тых зборнікаў вершаў, якія выйшлі на эміграцыі, каб чытач, які захочыць, ведаў, дзе шукаць іншых твораў паасобных аўтараў.

Пераглядаючы творы паасобных аўтараў дый перадумваючы ўсю справу, паявіліся розныя заўвагі, паўсталі й некаторыя цяжкасьці з паасобнымі пісьменьнікамі, пра якія тут дакладней і пішу. Біяграфічныя зацемкі пададзеныя толькі тых аўтараў, якіх дадзеныя былі ўжо пад рукою. Іншых трэба яшчэ расстарацца.

Заўвагі да паасобных аўтараў.

Натальля Арсеньнева. Вершаў усіх каля 60, бачынаў займе дакладна каля 40[276], значыцца два разы прыблізна столькі, як іншыя пісьменьнікі з найбольшаю колькасьцю вершаў. Паэтка гаварыла, што некаторыя выпусьціць, але перагледзіла й не знайшла нічога да выпушчэньня за выняткам аднаго вершу «Беларусі», які быў друкаваны ў «Сакавіку». Трэба лічыцца з тым, што будуць закіды з боку іншых пісьменьнікаў, што адной А. падзяляецца аж 20 % усёй кнігі, будуць закідаць палітычна-партыйнае фаварызаваньне і г. д. Прыйшлося пераканацца, што нашыя пісьменьнікі зайздросныя й самалюбівыя, як каты. З другога боку, Арсеньнева ня мела на эміграцыі ніводнага зборніка друкам[277], хоць прыгатаваныя да друку кнігі ёсьць, дык мае поўнае маральнае права карыстаць з прынцыпу: друкую толькі нідзе больш ня друкаваныя вершы. Аднак падчас абмяркоўваньня справы насунулася тут такая ідэя: каб захаваць пісьменьніцу ад непатрэбных праяваў зайздрасьці і не дражніць іншых, трэба — ужо даўно пара — выдаць зборнік вершаў Пісьменьніцы й даць у альманах толькі палову выбраных вершаў. Пры тым зборнік вершаў павінен выйсьці з друку не раней альманаху, а пару месяцаў пазьней. Усіх вершаў, разам з друкаванымі ў «Ко-

---

276 У выдадзеным альманаху «Ля чужых берагоў» было змешчана 56 вершаў Наталлі Арсенневай, што занялі 50 старонак выдання.

277 Апошні на той час паўнавартасны зборнік вершаў Наталлі Арсенневай быў «Сягоння», што пабачыў свет у Мінску ў 1944 г. Пазней, у 1947 г., у Ватэнштэце быў выдадзены зборнік «Выбраныя вершы», але гэта быў перадрук ранейшых твораў. Наступны зборнік паэткі «Між берагамі» быў выдадзены БІНіМам у Нью-Ёрку толькі ў 1979 г.

наднях», ды пару ў іншых выданьнях, зьбярэцца каля 70 ці мо і больш. Паколькі ў альманаху яны маюць друкавацца адзін за другім і займуць ня так шмат месца, дык у зборніку яны мусяць ісьці толькі па адным вершы на бачыне. Разам з уводнымі-загаловачнымі бачынамі дый бачынкамі на зьмест, зборнік займе ня менш 100 бачынаў друку, значыцца, будзе зусім салідны й не малы як на зборнік вершаў. Фармат — фармат «Раскіданага гнязда»[278]. Партрэт-клішу выдавецтва «Б» мае ўжо гатовую з пары юбілею[279]. Выдаць для пісьменьніцы зборнік ужо даўно пара й з гледзішча маральнага дый палітычнага. Выглядае, што мы зусім ня дбаем пра сваю перадавую, як ні як, пісьменьніцу, найбольш плодную й з найбольшым стажам літаратурным. Некаторыя здабыліся ўжо нават выдаць па два зборнікі вершаў — для яе не знайшлося грамадзкіх грошаў нават на адзін. Дык выданьнем маглі-б застрэліць два зайцы: і адладаваць крыху альманах, пакінуўшы там толькі палову (каля 20 бачынаў) дый пастараніць прычыну нездавальненьня іншых дый закідаў ад пратэгаваньня, а разам і танным коштам — бо-ж набор ужо гатовы — выдаць новую кнігу: зборнік вершаў *«танным коштам»*, бо тыраж хапіла-б біць толькі 500 экз. Такія тыражы для зборнікаў вершаў б’юць сяньня нават украінцы з большым рынкам. Дык сьпешна абгавары ўсю справу з інж. Абрамчыкам, знайдзі скромныя фонды — дый да работы. Гэта добра яшчэ й з другога боку: паводле далучанай схэмы можна з’арыентавацца, што самыя тэксты 18 аўтараў зоймуць роўна 200 бачынаў (найменш!). На загаловачныя бачыны, зьмест, уводнае слова трэба яшчэ дакінуць каля аркуша. Гэта павялічвае кнігу й кошты. Дык рэдукцыяй твораў Арсеньневай можна было-б заашчадзіць сьмела гэты аркуш і ня выходзіць па-за 200 плянаваных бачынаў. Зьмяшчаць усё ў альманаху — а пасьля ізноў усё ў зборніку — лішняе паўтарэньне дый страта грошаў. Пусьціць толькі ў альманаху й тэкст раскідаць дый зборнік ня выдаваць — таксама маральная страта — бо альманах усё-ж не заступіць зборніка вершаў, які і для пісьменьніцы, і для нашай літаратуры мае сваё рэпрэзэнтацыйнае значэньне. Дык як ні мяркуй — усё выходзіць, што лепш зборнік вершаў друкаваць, з усіх гледзішчаў. Напішы, што думаеш пра гэта.

Дудзіцкі[280]: мой такі пагляд, што як дом на чатырох вуглох, дык наша эміграцыйная паэзія трымаецца на чатырох стаўбох, галоўных

---

[278] Маецца на ўвазе выданне: Купала, Янка. Раськіданае гняздо: Драма ў 5-ёх дзеях. Мюнхэн: выдавецтва «Бацкаўшчына», 1953. — 83 с.

[279] Маецца на ўвазе адзначэнне 30-х угодкаў творчай дзейнасці Наталлі Арсенневай на старонках газеты Бацькаўшчына. Гл.: Брага, Сымон Ад сіняга неба да шэрай зямлі. Трыццацілетні творчы шлях Натальлі Арсеньневай // Бацькаўшчына. № 11–12 (90–91). 25 сакавіка 1952. С. 4–5; № 13 (92). 30 сакавіка 1952. С. 4; № 14 (93). 6 красавіка 1952. С. 3–4.

[280] **Уладзімір Дудзіцкі** (сапр. Гуцька, на эміграцыі Гіцкі, 1911 — пасля 1976), літаратар, публіцыст, грамадскі дзеяч. У 1949 г. выехаў у Венесуэлу, дзе заснаваў

паэтах: Арсеньневай, Салаўі, Сяднёву і — Дудзіцкім. Дудзіцкі моцны й формаю, і зьместам, і думкаю. Таму варта даць ягоных вершаў больш, асабліва таму, што ў «Б» папалі не найбольш моцныя, не найбольш характэрныя. Таму вось дасылаюцца разам тэксты 8 дадатковых вершаў, якія варта памясьціць у кнізе, каб належна рэпрэзэнтаваць пісьменьніка, бо зборніка друкаванага ён свайго ня меў[281]. Вершы гэтыя ўзятыя з «Шыпшыны», «Божым Шляхам»[282], «Баявой Ускалосьсі». Можыш іх нанава сабе перадрукаваць і ў «Б», калі залежыць на ашчаднасьці коштаў — стыду яны газэце ня зробяць; можыш пускаць адразу ў кнігу, калі на коштах так моцна не залежыць. Але памясьціць іх напэўна варта — прачытай, сам пераканаешся. Парадак, у якім яны маюць быць друкаваныя, зазначаны: вершы, друкаваныя ўжо ў «Б», трэба ўціснуць перад двумя перадапошнімі ўрыўкамі з паэмаў (перад «Для несьмяротнай Беларусі»). Ім там месца і хранолёгічна, і дзеля некаторых іншых меркаваньняў. Біяграфіі Дудзіцкага ня маю. Да Віцьбіча з розных прычынаў лепш, каб Ты зьвяртаўся асабіста. Я тут яшчэ шукаю ў вадным месцы ягонай біяграфіі. Адрысу тут яго ніхто ня мае[283].

Кавыль. Адабраныя ўсяго 7 вершаў, якія зоймуць усяго 6 бачынаў. Амаль усе яны трапілі ўжо ў ягоны нядаўна выдадзены зборнік «Пад зорамі белымі»[284]. Хоць дзеля выдадзенага нядаўна зборніка ён змусу й выдамліваецца з нашага прынцыпу: друкаваць толькі нядрукаваныя ў зборніку, аднак варта такую скромную колькасьць ягоных вершаў для рэпрэзэнтацыі нашай эміграцыйнай паэзіі аднак даць, выпускаць яго дзеля гэтага няможна. Ён усё-ж цікавы, сьвежы, хоць і слабы тэхнічна, дый дае «бракі». Зь ім ёсьць такія «праблемы»: 1. некаторыя вершы тут пададзеныя, здаецца, ня знойдуцца ў Тваім наборы, бо яны друкаваліся ў «Б» яшчэ ў 1952 г. (між імі адзін з найлепшых ягоных вершаў «Ідзі, ідзі»), аднак трэба іх даць. 2. друкуючы свой зборнік, паэта некаторыя вершы крыху зьмяніў, выправіў (не заўсёды на лепшае). Дзеля гэтага тое, што ў Цябе ёсьць набранае, перад друкам трэба яшчэ праверыць з зборнікам «Пад зорамі белымі» (думаю, Ты яго маеш)

---

Згуртаванне беларусаў у Венесуэле. Працаваў у інстытуце сельскай гаспадаркі. У 1956–1962 гг. — кіраўнік Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» ў Мюнхене.

[281] Пры жыцці Уладзіміра Дудзіцкага не было выдадзена ніводнага яго зборніка. Толькі ў 1994 г. у Нью-Ёрку БІНіМ выдаў збор твораў паэта «Напярэймы жаданням».

[282] **«Божым шляхам»** — часопіс беларускай рэлігійнай думкі, што выдаваўся ў 1947–1980 гг. спачатку ў Парыжы (рэдактар а. Леў Гарошка), потым у Лондане (рэдактар а. Язэп Германовіч).

[283] Уладзімір Дудзіцкі жыў у той час у Венесуэле.

[284] Маецца на ўвазе выданне: Кавыль, Міхась. Пад зорамі белымі. Нью-Ёрк, 1954. — 70 с.

дый адпаведна зьмяніць. Ня гож будзе друкаваць у кнізе неактуальныя, самым пісьменьнікам ужо адкінутыя тэксты. Пра гэта трэба не забыцца. Зь біяграфіяй напішы да яго.

Клішэвіч. З усіх набраных вершаў узята 20. Вычыркнута толькі пераклады з чужых моваў і вершы, пад якімі стаіць дата, зь якой відаць, што яны былі пісаныя яшчэ на бацькаўшчыне. Ніякіх іншых скарачэньняў ня зроблена. Паколькі вершы зоймуць усяго каля 8 бачынаў дый яны ўсе тэхнічна «граматныя», паважнейшых заганаў няма — дык хай усе ідуць, хоць ёсьць і слабаватыя з мастацкага гледзішча, але аднак усе магчымыя. Біяграфічнай зацемкі няма — пішы да яго асабіста. Мы ня маем цяпер зь ім ніякога кантакту.

Крушына. Маеісьці 6 лепшых вершаў і «Кантата самотных»[285]. Займе ўсё каля 15 бачынаў. Некаторых вершаў набору можа няма, але трэба аднак іх даць. Асабліва ня можна выпускаць «Два лісты» — яны цікавыя тым, што гэта адзіныя ў нашай ўсёй літаратуры вершы падобнага эротычнага зьместу і як адменныя ад усіх іншых — гэтым цікавыя й важныя.

Салавей. Даць усё набранае. Пасьля праверкі аказалася, што з усіх друкаваных у «Б» вершаў ніводзін не друкаваўся ў зборніку «Сіла гневу»[286]. Па біяграфічную зацемку да яго напішам[287].

Сыч[288]. Гэта зусім моцны паэта (хоць мала плодны), і я яго люблю. Аднак мае тэхнічныя часам зрывы (слон на вуха наступіў — кульгае рытм). Дзеля гэтага няможна друкаваць, не паправіўшы тэхнічна. Аднак гэтых паправак няшмат, і яны невялікія. У пару мясцох папраўленая крыху й мова. Папраўкі зрабіў я, і перад друкам нейк трэба іх *«аўтарызаваць»*. Бязь іх друкаваць ня варта (гавару пра папраўкі тэхнічныя). Дык пры нагодзе скажы далікатна гэта аўтару і вазьмі згоду на дробныя зьмены або нават дай яму перагледзіць — няхай правера й пераканаецца, што нічога яму не напсавана, нічога лішняга ня зьменена. Вершы даюцца 4, займуць 4 бачыны. Першы, вельмі добры, верш узяты з часапісу «На шляху»[289], другі, дыдактычны, і чацьвёрты друкаваўся ў «Б», і магчыма маем іх набор. Трэці, «Асеньнія лірыкі», узяты з

[285] Гл.: Крушына, Рыгор. Кантата самотных // Бацькаўшчына. № 25–26 (104–105). 29 чырвеня 1952. Літаратурны дадатак. С. 6.

[286] Маецца на ўвазе выданне: Салавей, Алесь. Сіла гневу. Лірыка (1937–1947). [Остэргофэн], 1948. — 96 с.

[287] Ад 1949 г. Алесь Салавей жыў у Аўстраліі.

[288] **Пётра Сыч** (1912–1964), літаратар, журналіст. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопіса «Шарсцень», супрацоўнічаў з газетай «Бацькаўшчына». Ад 1954 г. быў намеснікам галоўнага рэдактара Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне».

[289] **«На Шляху»** — бюлетэнь Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, што выходзіў у Лондане пераважна лацінкай у 1946–1951 гг.

«Напераду». Сыча як паэта трэба пусьціць, ён варты гэтага па якасьці сваіх вершаў і прыемна ўзбагачае нашую літаратуру на эміграцыі і колькасна (новым імем) і якасна. Біяграфію возьмем ад яго асабіста. Тэксты ўсіх вершаў дасылаю.

Сяднёў. Вершаў 24, займе каля 10 бачынаў. Вычыркнутыя толькі ўсе вершы, якія былі ўжо друкаваныя ў ягоных зборніках. Апрача таго на прапанову іншых сяброў Управы выпусьціў у далучаным сьпіску 3 вершы: «Патрыёты», «На захадзе сонца» і «Сьмерць музыкі». «Сьмерць музыкі» (пра Равенскага[290]) напэўна трэба выпусьціць: ён паэту няўдаўся й прынясе толькі шкоду самому пісьменьніку. Гэта крыху рымаваная проза бязь ніякога цікавага зьместу. Што да «Патрыёта», быў закід такога парадку, што там ганіцца ўсіх патрыётаў бяз разбору, што, зразумела, выклікае недаразуменьне ў чытача, паколькі агульна ўважаецца патрыётызм за дадатную зьяву — чаму гэта паэта ня любіць патрыётаў? «На захадзе сонца» — дзеля таго, што там нейк неасьцярожна абыходзіцца паэта зь сьвятымі памятнікамі, і можа выклікаць закід сьвятататцтва. Што да «Музыкі», я пэўны, што лепш яго выпусьціць. Што да другіх — мой асабісты пагляд такі, што Сяднёў ужо самастойны, дасьпелы паэта й можа адказваць сам за тое, што напісаў. Дык прачытай сам гэтыя вершы й вынясі ўжо сваю доктарскую пастанову. Трэба лічыцца з тым, што калі будзе вычыркнуты верш «Патрыёты», адразы паявяцца закіды выдавецтву, што яно праводзіць палітычную цэнзуру. «Патрыёт» друкаваны ў № 41–42, 1953 «Б», «На захадзе сонца» ў № 50–51, 1953.

Юхнавец. Прапануецца даць усяго 5 вершаў, 4 зь іх друкаваныя былі ў «Б», пяты друкаваны ў «Наперадзе». Тэкст ягоны тут разам дасылаецца. Вершы Юхнаўца займуць усяго 3 бачыны. Гэта моʼ ня так шмат для такога хоць і маладога, але плоднага паэты. Але трэба помніць, што ў прозе яму мае быць выдзелена яшчэ 6 бачынаў. Дык разам зьбіраецца нямала.

10. Ясень[291]. Прапануецца даць пералічаных у сьпіску 8 вершаў. Усе друкаваныя ў «Б». Біяграфію дастань ад яго сам — ад Цябе ён бліжэй[292].

11. Геніюш[293]. Даць усё друкаванае, займе разам зь біяграфіяй 8 бачынаў. У біяграфіі трэба паправіць зробленую памылку з годам на-

[290] **Мікола Равенскі** (1886–1953), кампазітар, хормайстар. Аўтар гімнамалітвы «Магутны Божа» (словы Н. Арсенневай).

[291] **Сяргей Ясень** — псеўданім Янкі Запрудніка.

[292] Янка Запруднік у той час працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» ў Мюнхене.

[293] **Ларыса Геніюш** (1910–1983), паэтка, празаік, грамадскі дзеяч. У 1949 г. была прыгаворана да 25 гадоў зняволення ў лагерах. Да 1956 г. адбывала пакаранне ў лагерах Інты і Абедзе (Комі АССР) і ў Мардоўскай АССР, таму таксама трапляла ў катэгорыю пісьменнікаў «ля чужых берагоў».

раджэньня (трэба даць 1910 г., а не 1907). Пад біяграфіяй, каб была аналёгія зь біяграфіяй Случчаніна[294] і Ільляшэвіча[295], трэба дадаць подпіс С. Брага[296]. Трэба таксама адмяніць правапіс прозьвішча *Гэнію*ш на *Генію*ш, як яна і ўжывала дый як падпісаны і ейны першы зборнік (які Ты маеш), бо я і Табе даслаў, каб не выглядала, што мы крыўдзім пісьменьніцу месцам дзеля таго толькі, што не дзеля ейнай віны яе ўжо *«між намі няма»*.

12. Ільляшэвіч. Даць усё набранае, займе 4 бачыны. У біяграфіі словы Віцьбіча *«назову першага зборніка ня помню»* трэба замяніць: першы зборнік вершаў называўся «Веснапесьні».

13. Лявон Случчанін. Даць усе набраныя вершы. Займе каля 6 бачынаў разам зь біяграфіяй.

«Абарваныя струны» — такі падзагаловак прапаную для групы трох апошніх паэтаў, заместа доўгага Твайго «Тыя, якіх ужо няма між намі». Трэба да гэтага назову даць зноску прыблізна такога зьместу: *«У гэтым разьдзеле памешчаныя вершы пісьменьнікаў эміграцыі, творчасьць якіх спынілася або дзеля сьмерці (Хведар Ільляшэвіч, Лявон Случчанін[297]), або дзеля арышту й ссылкі савецкімі ўладамі (Ларыса Генію*ш)».

Проза

14. Бірыч[298]. Апавяданьне «Афрадыта-Ост»[299] займе каля 13 бачынаў друку. Біяграфічную зацемку ён мае Табе прыслаць асабіста — у першым лісьце да яго прыпомні гэта. Намаўляў яго, каб зьвёў усе свае пісьменьніцкія псэўданімы да нейкага аднаго супольнага назоўніка й не рабіў непатрэбнага замяшаньня ў нашай эміграцыйнай літаратуры. У біяграфіі тады можна было-б падаць, што выйшла друкам ягоная *«завязка раману»* на эміграцыі «Каханы горад» пад псэўдонімам Юстапчыка[300]. Ён аднак пакульшто на «канцэнтрацыю» не згаджаецца.

---

[294] **Лявон Случанін** (сапр. Шпакоўскі, 1914–1995), паэт. У 1945 г. быў асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Адбываў пакаранне на Поўначы Расіі. Пасля вызвалення да 1973 г. жыў у Варкуце.

[295] **Хведар Ілляшэвіч** (1910–1948), грамадскі дзеяч, журналіст, пісьменнік. Аўтар кніг: «Навагоднія запросіны» (1946), «У Купальскую ноч» (1946), «Песні выгнання» (1947), «Апавяданні» (1948). Загінуў у аўтакатастрофе.

[296] **Сымон Брага** — псеўданім Вітаўта Тумаша.

[297] Дакладны лёс Лявона Случаніна пасля 1945 г. суродзічам на Захадзе быў невядомы, таму В. Тумаш піша пра яго, як пра памерлага.

[298] **В. Бірыч** — псеўданім Антона Адамовіча.

[299] На старонках газеты «Бацькаўшчына» навела «Афрадыта-Ост» друкавалася на пачатку 1954 г. Гл.: Бірыч, В. Афрадыта — Ост. Навэля // Бацькаўшчына. № 4–5 (186–187). 31 студзеня 1954. Літаратурны дадатак. С. 6; № 6 (188). 7 лютага 1954. С. 2–3.

[300] Маецца на ўвазе выданне: Юстапчык, С. Каханы горад: Завязка раману. [Остэргофен]: «Сакавік», 1948. — 81 с.

15. Віцьбіч. Сярод усіх друкаваных у «Б» рэчаў Віцьбіча толькі апавяданьне «Над возерам Шпірдынг»[301] належыць да чыста літаратурнага жанру. Рэшта (адкінуўшы рэчы, пісаныя яшчэ на бацькаўшчыне як прынцыпова не падыходзячыя да альманаху «эміграцыі») гэта фактычна больш публіцыстычныя, чым літаратурныя нарысы. Дзеля гэтага куды лепш і для кнігі, і для пісьменьніка, каб у альманах пайшло толькі адно «Шпірдынг». Будзе пры гэтым захаваная і яшчэ адна аднalітасьць — усіх празаікаў будзе толькі па адной рэчы, нікому не павінна быць крыўды. Зусім, на нашую думку, не падыходзіць у такі зборнік «Завулак Янкі Купалы» — гэта чысьцейшая публіцыстыка, і добрая яна на сваім мейсцы, але ня тут. Біяграфіі Віцьбіча не падаў, бо, думаю, у гэтай справе будзеш пісаць да яго, калі будзеш прасіць біяграфічнае зацемкі пра Дудзіцкага. Аднак даныя ў мяне ёсьць, і на ўсякі выпадак магу падаць тут: Юрка Віцьбіч нарадзіўся 15 чэрвеня 1905 г. у Вяліжы. Друкуецца ад 1929 г. Аўтар аповесьцяў, апавяданьняў, нарысаў. Жыве цяпер у Злучаных Дзяржавах Амэрыкі.

Назваў аповесьцяў даваць ня варта, бо яны былі друкаваныя ў БССР, і ўсе маюць прымусова заведзеную ў іх бальшавіцкую ідэалягічную лінію.

16. Люціч[302]. Апавяданьне «Янка сеяў — людзі жалі»[303] займе прыблізна 22 бачыны. Біяграфічную зацемку лепш вазьмі (папрасі) ад яго сам.

17. Сыч. Ягоныя «Каляды на чужыне»[304] займуць 12 бачынаў друку. Іх варта памясьціць, у іх прабіваецца бясспрэчны празаічны талент. Калі гэтым часам яшчэ напіша нейкія адны, другія калядныя ўспаміны — варта іх далучыць. Біяграфічную зацемку вазьмі ад яго сам.

18. Юхневіч[305]. У мяне ўжо ёсьць ягонае апавяданьне на бачынаў 6 — «Дзень пачынаўся». З часам яго дашлю — неабходна выправіць памылкі, якіх у яго маса, можа, прыйдзецца пры гэтым нанава перапі-

---

[301] Апавяданне было апублікаванае ў: Бацькаўшчына. № 50–51 (181–182). 25 сьнежаня 1953. Літаратурны дадатак. С. 7.

[302] **Марцін Люціч** — псеўданім Міколы Целеша.

[303] Апавяданне было апублікаванае: Бацькаўшчына. № 31–32 (162–163). 16 жнівеня 1953. С. 6–7; № 33–34 (164–165). 30 жнівеня 1953. Літаратурны дадатак. С. 5–8.

[304] Маецца на ўвазе твор Пётры Сыча, які першапачаткова публікаваўся як «Чатырнаццаць Калядаў на чужыне. Успаміны». Гл.: Бацькаўшчына. № 50–51 (181–182). 25 сьнежаня 1953. Літаратурны дадатак. С. 6–7; № 3 (185). 17 студзеня 1954. С. 3; № 4–5 (186–187). 31 студзеня 1954. Літаратурны дадатак. С. 7. У альманаху «Ля чужых берагоў» ён быў выдрукаваны ўжо як «Каляды на чужыне».

[305] **Юхневіч** — псеўданім Янкі Юхнаўца.

саць. Але рэч напэўна надаецца да друку, і варта таму памясьціць яе, каб гэтым і павялічыць малы адносна лік празаікаў у альманаху.

Зьмест.

Ясна, у канцы кнігі мусіць быць пададзены і зьмест зь пералікам усіх аўтараў і ўсіх іх памешчаных твораў у кнізе, што займе таксама хіба ня менш 5–6 бачынаў, паколькі паводле вышэй пададзенага пляну ў альманаху будзе ня менш 200 твораў.

Апушчаныя пісьменьнікі.

Як бачыш ізь сьпіску агульнага, з тых пісьменьнікаў, якіх творы друкаваліся ў «Б» у часе прыгатовы альманаху, выпушчаныя два прозьвішчы: Міколы Вярбы[306] і Янкі Шакуна[307]. Неабходна выясьніць, чаму нам выглядае гэтак правільна.

Вярба. У «Б» у № 46–47, 1953 надрукаваныя 4 ягоныя вершы. Першы зь іх «З Табой» — адзіны апрацаваны з боку тэхнічнага. Тры іншыя — маюць столькі тэхнічных зрываў, што накш іх ня можна назваць, як бязграматнымі з боку паэтыкі. Друкаваліся, праўда, у такім выглядзе некалі ў «Шыпшыне» (рэдакцыя якой ня вельмі чулая на тэхнічныя зрывы), паявіліся цяпер і ў «Б» бязь ніякіх паправак, але ня думаю, што будзе каму карысьць і гонар з таго, калі яны яшчэ і ў альманах пойдуць. У нас цьвёрдае перакананьне, што ў такім прынамся выглядзе, як цяпер, тры вершы «Дождж», «Асеньні пэйзаж» і «Сыгналы» ў кнігу не павінны ісьці, бо яны прынясуць толькі шкоду кнізе, іншым побач аўтарам, нашай літаратуры на эміграцыі і — самому пісьменьніку. Асабліва зьвярні ўвагу на «санэт» — «Дождж». Замахнуўся пісьменьнік на санэт — а выйшаў з гэтага нейкі неданосак, без захаваньня формы санэту, разьмеру вершаў, балаганам у вобразнасьці. Спачатку паўстала ў нас ідэя *«паправіць»* іх. Узяўся за гэта я й выправіў тэхнічныя зрывы, давёў да нейкага *«санэтнага ладу»* санэт. Але пры гэтым аказалася, што толькі два вершы — «Асеньні пэйзаж» і «Сыгналы» могуць абыйсьціся толькі адносна нязначнымі папраўкамі. «Дажджы» ўжо прыходзіцца згрунту перааараць, каб зрабіць яго годным да друку, — верш ужо ў вялікай меры перастае быць вершам самога аўтара, бо толькі галоўная ідэя захоўваецца, а ўжо вобразнасьць прыходзіцца моцна мяняць. Шукаючы разьвязкі да гэтай сытуацыі, я перагляну ўсё друкаваныя ў «Шыпшыне» вершы Вярбы. Зь іх нават выбраў яшчэ адзін дый крыху падправіў, давёў да паэтычнай граматнасьці («Праз прасторы»). Але ўсюды — тое самае: поўная сырызна, вершы робяць уражаньне толькі першага накіду. Пра іх дапрацоўку пісьменьнік або ня думае зусім, або ня ў сілах гэта зрабіць. І гэта пасьля таго, як піша

---

[306] **Мікола Вярба** (сапр. Сільвановіч, 1917–1975), грамадскі дзеяч, літаратар, філатэліст. Адзін са стваральнікаў у 1946 г. у Заходняй Нямеччыне творчага аб'яднання «Шыпшына». У 1949 г. выехаў у Канаду. Жыў у Вініпегу.

[307] **Янка Шакун** (1916–1993), пісьменнік, сябра БІНіМа. Жыў у ЗША.

каля 10 гадоў! і мае каля 37 гадоў веку! Калі-б былі вершы Вярбы нейкія рукапісныя, каторыя можна дый варта было-б выпраўляць, — дык можна было-б яшчэ гэта зрабіць. Але друкаваць у альманаху папраўленыя тыя вершы, якія ўжо раней друкаваліся ў сырым стане (калі дапусьціць нават, што гэтыя праўкі аўтар *«аўтарызуе»*), — гэта рабіць ня варта. Кажны зацеме, што тут не Вярбы рука, што тут штучна *«будуюць»* пісьменьніка, папіхаюць іншыя ватаю ягоныя паэтычныя слабыя плечы, каб выглядаў дужэйшым. Будзе няпрыемна. Пусьціць толькі першы верш бяз паправак і два — «Асеньні пэйзаж» і «Сыгналы», — у якіх паправак яшчэ адносна мала, г. зн. усяго тры вершы, каторыя займуць мала больш адной бачыны — замізэрна. Вось дзеля гэтага — пастанавілі выпусьціць яго зусім, нягледзячы на тое, што мелі якнайбольш шчырую ахвоту захаваць ягонае імя ў альманаху. Усё-ж існуе нейкі маральны абавязак дбаць і пра мастацкую роўню кнігі, якая, як ніяк, у нейкай меры будзе рэпрэзэнтаваць літаратурны твар пісьменьнікаў беларускай эміграцыі. Каб мог належна арыентавацца ў справе, дасылаю тут разам чатыры выпраўленыя тэксты ягоных вершаў, каб меў магчымасьць прачытаць іх, параўнаць і пераканацца, што пастанова правільная дый — можыш спробаваць знайсьці нейкі іншы выхад, які не абніжаў аднак вартасьць мастацкай кнігі. Трэба, аднак, не забывацца, што кніга не ратататарная «Шыпшына», у якой рэдактары часта проста фотакапіявалі ўсё — моцнае й слабое — што пад руку папала. Дасланыя вершы перачыркнутыя чырвоным алавіком на знак, што іхныя тэксты не да друку.

Шакун. Шакуновы нарыс «У вабдымках лясной цемры»[308] гэта бадай адзіны й першы сяньня выступ аўтара ў нашай літаратуры. Твор нічым асаблівым не адзначаецца, слабы з кажнага гледзішча. Пару гадоў таму мне прыйшлося прачытаць цэлы *«раман»* гэтага-ж аўтара ў машынапісе — «Бура ў шклянцы вады». Ува ўсім *«рамане»* няма ніводнай бачыны, якая зраджала-б нейкі, хоць невялікі, літаратурны талент. Нарыс «У вабдымках», падпраўлены стылістычна й моўна Адамовічам, крыху лепшы, але я асабіста ня маю перакананьня, што пасьля паяўленьня гэтага нарысу ўжо маем дастаткова довадаў на тое, што аўтар запраўды пісьменьнік і можым браць на сябе маральную адказнасьць за важны крок — фармальнага ўводу яго ў нашую эміграцыйную літаратуру. У гэтай справе я маю свой пагляд, што на такі крок яшчэ далёка зарана, пасьля апублікаваньня аднаго-адзінага нарысу (калі ня лічыць яшчэ куды слабейшага школьнага выпрацаваньня, друкаванага некалі ў «Беларусе»). Іншыя сябры Управы ня былі гэтак адмоўнымі ў гэтым пытаньні, але ў канцы дайшлі ўсе да супольнага вываду, што лепш выпусьціць і Шакуна, і Вярбу. Шакун хай яшчэ апублікуе пару рэ-

[308] Апавяданне было надрукаванае ў: Бацькаўшчына. № 15–16 (197–198). Вялікдзень, 1954. Літаратурны дадатак. С. 4, 7; № 17 (199). 2 травеня 1954. С. 3.

чаў — тады можна будзе запраўды больш бесстаронна ацаніць ягоны *«талент»* дый справу вырашыць. Сяньня пра гэта зарана гаварыць. Хіба ніводная літаратура сьвету ня ўводзіла ніводнага пісьменьніка ў сваю літаратуру на падставе толькі першага й такога слабога твору, зь якога яшчэ наагул ня відаць, ці аўтар пісьменьнік, мае на гэта задаткі, ці толькі чалавек, што пробуе пісаць.

Іншыя. Альманах у такім выглядзе, як прапанаваны, бясспрэчна абыйме ўсіх нашых найважнейшых пісьменьнікаў эміграцыі. Ён абыйме і ўсіх сярэдніх. Не рэпрэзэнтаваныя ў ім толькі некаторыя, калі так можна сказаць, *«трэцярадныя»* — гэта або пачынаючыя, якія на эміграцыі мала праявіліся. Вазёрнага[309], пра якога раней разважалі, ці ня даць нешта — пакінулі, усё-ж рэчы пераважна яшчэ маладыя. Тое-ж зь іншымі «Дванаццаткі»[310]. Ёсьць яшчэ пара, якія маглі-б эвэнтуальна быць, як Кавалеўскі[311], як Змагар[312], як яшчэ пара іншых. Ня думаю, што вялікая страта будзе, калі яны й не паявяцца ў альманаху — апошнім часам творчасьць іхная, наагул слабаватая, нейк з тых ці іншых прычынаў не выяўлялася. А цяпер думаць пра тое, каб нейк дапаўняць кнігу, ужо й запозна.

Справа грашовай дапамогі з боку Інстытуту.

Інстытут, безумоўна, меў і мае ахвоту ў меру сваіх магчымасьцяў дапамагчы выданьню альманаху ня толькі парадаю што да ўкладу й зьместу, але й нават матар'яльна, калі запраўды такая дапамога была-б неабходнаю для Выдавецтва. Прыгатаваны нават праэкт умовы, якой два экзэмляры перасылаю для дыскусыі-ўзгадненьня. Інстытут, у назове якога стаіць слова *«і Мастацтва»*, заўсёды быў і ёсьць зацікаўлены выданьнямі нашай літаратуры. Аднак ёсьць паважныя прычыны, якія стаяць гэтаму на перашкодзе, і сяньня Управа яшчэ ня ца-

---

309 **Паўлюк Вазёрны** (сапр. Павал Урбан, 1924–2011), гісторык, грамадскі дзеяч. Літаратурнай творчасцю займаўся пераважна ў студэнцкія гады. Закончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта, абараніў дысертацыю пра дзейнасць вялікага князя літоўскага і польскага караля Аляксандра. Працаваў у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене.

310 **«Дванаццатка»** — група беларускай моладзі, што ў 1948 г. паехала з Нямеччыны ў Вялікабрытанію працаваць у капальнях, каб зарабіць на навучанне. З Брытаніі большасць хлопцаў паступілі ў Лювенскі ўніверсітэт у Бельгіі. Ад 1948 г. сябры «Дванаццаткі» выдавалі часопіс «Наперад!». Падрабязней пра гэта можна знайсці ў кнізе Янкі Запрудніка «Дванаццатка» (Нью-Ёрк, 2002).

311 **Аўген Кавалеўскі** (1921—1963), культурны дзеяч, драматург. Пісаў п'есы. Напрыканцы 1940-х гг. выехаў у Францыю, жыў у Парыжы.

312 **Алесь Змагар** (сапр. Аляксандр Яцэвіч, 1903 — ?), грамадскі дзеяч, пісьменнік, выдавец. Сябра Літаратурнай сустані «Баявая ўскалось». Аўтар кніг: «Рэпка» (1946), «Случчакі» (1947), «Да згоды» (1962, 1963), «Змагарны шлях» (1962), «Дзень маці» (1964), «Вызвольныя шляхі» (1965), «Лесавікі» (1973), «Мае ўспаміны» (1985), «Случчына ў вагні» (1986).

лкам здэцыдаваная, ці зможа аднак на такую дапамогу на выданьне альманаху адважыцца коштам сваіх вельмі скромных сродкаў. Дакладней справа прадстаўляецца так:

Матар'яльны бок пытаньня.

Інстытут надзеіўся, што будзе магчыма ўсё-ж атрымаць нейкую дапамогу з амэрыканскіх жаролаў. Цяпер маем ужо канчальны адказ, што Фонд Усходняй Эўропы[313] ўсё-ж напэўна ліквідуецца, і ніякіх дапамогаў нікому прыдзяляць ня будзе. Інстытут ад Фонду, як ведама, пасьпеў атрымаць толькі адну дапамогу й вельмі скромную, і яе хопіць толькі — у вельмі скромных разьмерах — на выкананьне выдавецкага пляну Інстытуту (Запісы[314]+Конадні[315]) у гэтым годзе. Ці знойдуцца нейкія магчымасьці зь іншага боку — сяньня гэтае пытаньне вельмі праблематычнае. А свае собскія рэсурсы, як ведама, мінімальныя, іх ня прыходзіцца паважна браць і на ўвагу. Гэта вельмі паважна нас стрымлівае ад асыгнаваньня грошаў на пабочныя ад пляну Інстытуту выданьні.

Справа другая, што сябры Управы ня маюць і перакана75ньня, што Выдавецтва «Б» ня ў стане само выдаць кнігі, пакольні адначасна, ня кончыўшы адной справы, распачынае іншыя вялікія выданьні, як «Сымона музыку»[316], «Дзьве душы»[317] і г. д.

У выніку, разьлічваючы на яшчэ дадатковую дапамогу з боку Фонду, мы думалі асыгнаваць на выданьне альманаху 400 дал. Калі такой

---

[313] **Усходнееўрапейскі фонд** (англ. *East European Fund*) быў філіялам Фонду Форда.

[314] **«Запісы Беларускага інстытуту навукі і мастацтва»** — навуковы альманах, што выходзіць ад 1952 г. спачатку ў Нью-Ёрку, потым у 1962–1970 гг. — у Мюнхене, пасля зноў у Нью-Ёрку, а ад 2002 г. — сумесны нью-ёркска-мінскі праект.

[315] **«Конадні»** — літаратурна-мастацкі часопіс, выдаваны Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку і Мюнхене ў 1954–1963 гг. Рэдактар Антон Адамовіч. Выйшлі 7 нумароў.

[316] Пра планы выдаць паэму Якуба Коласа «Сымон-музыка» асобнай кнігай было паведамлена ў адмысловай абвестцы ў газеце «Бацькаўшчына» № 22 (204) за 6 чэрвеня 1954 г. Сама ж кніга пабачыла свет у наступным годзе. Гл.: Колас, Якуб. Сымон Музыка (паэма). Мюнхэн: выдавецтва «Бацькаўшчына», 1955. — 214 с.

[317] У артыкуле «Максім Гарэцкі. 60 год ад нараджэньня й 40 год ад пачатку творства пісьменьніка», змешчаным у газеце «Бацькаўшчына» № 3 (185) за 17 студзеня 1954 г., было пазначана, што ў *«выдавецкім пляне «Бацькаўшчыны» — на сёлета — выданьне зборніка выбраных твораў Максіма Гарэцкага»*. Аднак ажыццявіць план Станіславу Станкевічу ўдалося толькі ў 1975 г. Менавіта тады ў Нью-Ёрку пабачыла свет кніга, куды ўвайшла і аповесць «Дзве душы», аднак было гэта выданне ўжо газеты «Беларус». Гл.: Гарэцкі, Максім. Выбраныя творы. Т. 3. Нью-Ёрк, 1975. — 160 с.

дапамогі, як цяпер выясьняецца, ня будзе, дык такой сумы ня зможым даць. Максымум, аб чым можа ісьці гутарка, гэта 300 дал., але і ў гэтай справе яшчэ будзе раз паседжаньне дый змушаныя будзем справу яшчэ раз абмеркаваць з усіх бакоў перад апошняй пастановай. Вось чаму ў праэкце ўмовы пастаўлена: *«каля 400 дал., ня менш 300»*.

Іншыя мамэнты.

Пры глыбейшым разглядзе справы паявіліся і іншыя мамэнты, каторыя стрымліваюць некаторых сяброў Управы перад хуткаю пастановаю «за». Вось яны: 1. Сама ідэя-праект кнігі паўстала ў Выдавецтва, уся аснаўная праца па збору і друку матар'ялу была таксама праведзеная без ніякога, фактычна, удзелу Інстытуту. Ставіць пасьля гэтага ўсяго фірму Інстытуту на кнізе — гэта крыху выглядае на прысабечваньне чужой ідэі і працы. 2. Гатуючы матар'ялы да кнігі, Выдавецтва ўжо парабіла некаторыя забавязваньні адносна некаторых аўтараў, хаця-б тым, што друкавала прысланыя матар'ялы й гэтым быццам прыракла, што яны будуць зьмешчаныя ў кнізе. Тымчасам, калі выдаваць кнігу паважна, напэўна трэба адкінуць усё тое, што ўжо выпушчана ў прадстаўленым гэтта нашым пляне, ці прынамся прыблізна тое, значыцца, трэба выпусьціць шмат твораў, а нават і некаторых аўтараў, на нашую думку. Праўда, Выдавецтва пазьней апублікавала паведамленьне, што ўсяго друкаванага даць ня зможа. Калі нічога не выпускаць — кніга разрасьцецца да 250–300 бачынаў, кошты яшчэ значна падрастуць. І вось, калі цяпер Інстытут фармальна ўвойдзе ў гэтую справу пры канцы ўжо выданьня, і аўтары будуць абразаныя — усё незадавальненьне накіруецца супроць Інстытуту, што для Інстытуту тымбольш нявыгадна, што ў бальшыні тут ходзе пра сяброў Інстытуту. Выдаваць-жа ўсё як ёсьць і ставіць фірму Інстытуту — ніяк немагчыма. Калі яшчэ Выдавецтва можа (хоць не павінна) пазволіць сабе выдаваць кнігу з паэтычна бязграматнымі творамі, дык ня можа ніколі рабіць гэта Інстытут, бо гэта ўжо паважна абніжае яго аўтарытэт.

Вось прычыны, дзеля якіх у пункце 5 нашага праекту ўмовы стаіць, што на кнізе эвэнтуальна можа быць толькі зазначэньне, што яна выдаецца з грашовай дапамогі Інстытуту, але нічога ня кажыцца пра тое, што Інстытут бярэ адказнасьць і за рэдакцыю кнігі.

Апошнімі тыднямі выплылі і яшчэ некаторыя цікавыя мамэнты, пра каторыя Цябе паведамлю, каб арыентаваўся. Прышлося мець тут у Ню Ёрку дыскусыю-гутарку пра альманах. Размоўца закінуў, што альманах будзе «партыйны», бо ў ім ня будуць прадстаўленыя <u>ўсе</u> пісьменьнікі беларускай эміграцыі, а частка іх не дапускаецца туды дзеля партыйных прычынаў. Я сказаў, што ня думаю, каб гэта была праўда — былі друкаваныя рэчы ўсіх. Мне былі тады пададзеныя прозьвішчы: а дзе Хмара, Золак, Змагар? Я сказаў, што напэўна яны нічога не даслалі, і таму іхнага нічога не друкавалася. Дык закінуць *«партыйнасьць»* трэ-

ба ім самым, а не Выдавецтву «Б». На гэта атрымаў цьверджаньне, што і Золак, і Хмара быццам выслалі свае творы, аднак з тых ці іншых прычынаў яны ня былі друкаваныя. Зразумела, што такія гутаркі ідуць з боку т. зв. *«трэцяй сілы»*[318], і я на іх паважней не зьвярнуў увагі. Аднак нядаўна ў мае рукі трапіла копія ліста Віцьбіча да Цябе з 8.VIII.54, у якім ён крытыкуе «Конадні», паведамляе аб сваім выступленьні з Рэдкалегіі і — у канцы — дае фразу: мне хочацца, каб альманах «Б» не нагадваў «Конадняў»! Копію гэтага ліста Віцьбіч тут пашырае па Ню Ёрку.

Напачатку пару камэнтарыяў да ліста Віцьбіча: арыгінальна, што ён сам быў у рэдкалегіі, сам ведаў, як часапіс мае называцца, нічога супроць гэтага не казаў, ані падаў праекту свайго назову, і — тры тыдні пасьля выхаду пратэстуе, што назоў неадпаведны! Адным словам, сам кум, які быў пры хрысьцінах дзіцяці і адказны за ягонае імя, пасьля абураецца на неадпаведны назоў!? Ён-жа як сябра рэдкалегіі і адказны за прозу ў часапісе бачыў апавяданьне Люціча перад друкам, абураўся на няведу мовы аўтарам, бачыў і зробленыя папраўкі, і сваім аўтарытэтам іх аўтарызаваў — цяпер выступае з пратэстам супроць іх!!! Трэцяя рэч: Рэдкалегія зьярталася па матар'ялы да кажнага, хоць не ад кажнага атрымала. Зь пералічаных Віцьбічам прозьвішчаў у лісьце большая палова мела запросіны, іншым слабейшым не высылалі, бо баяліся клопату — прышлюць дрэнь, і невядома, што рабіць. Віцьбіч, хоць даволі добра гэта ведаў, выступае неспадзявана ў абароне драбнейшых пісьменьнікаў, мабілізуе *«літаратурныя масы»* супраць «Конадняў» (галоўна супроць аднаго зь сяброў рэдкалегіі — Адамовіча) і пробуе аднаўляць даўнюю варажнечу й падзел: «Шыпшына» — «Сакавік». І вось чытаючы ягоны ліст, мяне ўразіла, што ён у ім б'е на тую-ж нотку, што й мой размоўца з *«трэцяй сілы»*: «Конадні» памінулі шмат якіх драбнейшых, глядзеце, каб у альманаху ня было гэтага самага!

Гэта, па-мойму, выразная проба здабываць сабе аўтарытэт у літаратурных *«нізох»* хай сабе і коштам забурэньня-замяшаньня на літаратурным фронце. За прычыну тут паслужыў канфлікт Люціча за папраўленую Адамовічам мову[319]. І вось зусім ня выключана, што й на альманах, пасьля ягонага выхаду, адразу Віцьбіч накінецца з боку

---

[318] Маецца на ўвазе ініцыятыва Сяргея Хмары, што фігуравала пад азначэннем *«трэцяй сілы»* і была скіраваная адначасова супраць і прыхільнікаў Рады БНР, і прыхільнікаў БЦР.

[319] У газеце «Бацькаўшчына» № 27–28 (208–209) за 18 ліпеня 1954 г. было змешчанае «Пісьмо ў Рэдакцыю» Марціна Люціча з пратэстам супраць выпраўленняў, унесеных у яго апавяданне «Каінава племя» пры публікацыі яго ў часопісе «Конадні» (№ 1. 1954).

*«няпоўнасьці»*, каб здабыць сабе сымпатыі слабейшых. З гэтакай магчымасьцяй трэба лічыцца, але ні ў якім выпадку дзеля гэтага ня варта паніжаць узроўня кнігі. Трэба, па-мойму, пастараніць асновы для аднаго закіду — фаварызаваньня некаторых, і дзеля гэтага Арсеньневай палову з кнігі выпусьціць, а за тое выдаць асобны зборнік. Калі-б выдаць зборніка ніяк ня было магчыма — павінна ісьці ў альманаху ейнае ўсё.

Змучыўся ўжо доўгім пісаньнем, але хацеў закончыць наканец справу, каб больш да яе не варочацца. Напішы мне, што пра ўсё думаеш, а я буду старацца ўсё-ж выціснуць з Управы хоць нейкіх 300 даляраў.

Прывітаньні!

Твой

27.8.1954

Дарагі Стась,

II. Альманах.

Ты таргуешся за 400 даляраў, як той шляхціц з казак Сержпутоўскага[320], каторы таргаваўся ў касьцёле з Богам ды бажыўся, што для гонару 200 рублёў, калі будуць бяз аднаго, ніколі ня возьме. А тымчасам увесь гэты торг стаў няістотнаю справаю, і справа вырашаецца зусім накш. Мушу, нажаль, ізноў пісаць крыху абшырней, каб Ты быў у курсе ўсяго палажэньня й зразумеў, скуль, што і як.

Спачатку *«ўводны»* пралёг! Пасьля выхаду «Конадняў» на літаратурным фроньце гэтта зварушылася. Аснаўны падклад — старая традыцыя — варажнеча «Сакавік» — «Шыпшына», дае свой голас і «Баявая Ўскалось» — Хмара. Калі паўстаў канфлікт Люціч + Адамовіч за мову «Каінавага племя», у «Конаднях» знайшлася, значыцца, нейкая дзірка, Віцьбіч адразу, як стары пацук, кінуўся прагразаць гэтую дзюрку шырэй з надзеяй, што справу разваліць і сабе зноў створыць нейкіх прыхільнікаў для «Шыпшыны». Узяўся адразу за аднаўленьне часапісу, разаслаў лісты, зьвярнуўся й да Хмары. Хмара сустрэў яго баявым прыёмам «Баявой Ускалосі» — бязуважна заехаў *«карыфэю»* нагой у зад, абазваў у лісьце *«літаратурнаю прастытуткаю»* ды заявіў, што «Баявая Ўскалось» куды дужэйшая за «Шыпшыну». Гэта ўсё відаць зь лістоў, якія сяньня кружаць па Ню Ёрку (таму будзь асьцярожны зь лістамі). Вычуваецца, што як Віцьбіч, гэтак і Хмара лічаць «Конадні» за пагрозу, якая можа згуртаваць літаратурны фронт, і былыя правадыры могуць застацца бяз сваіх даўнейшых памоцнікоў, і таму распачалі нанава вайну за занікаючыя ўплывы.

---

[320] **Аляксандр Сержпутоўскі** (1864–1940), этнограф, фальклярыст, мовазнавец, літаратар. Сярод іншага выдаў зборнік «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў» (1911).

Вось у гэтай атмасфэры, часткова дзеля яе, пачалася, ужо не ад сяньня тут дыскусыя й пра альманах. Раней усе пагаварывалі, што Ты друкуеш у «Б» бесперaборліва ўсякае барахло, і калі пойдзе ўсё гэта ў Альманах — нічога людзкага ня выйдзе. Пару месяцаў таму, калі Ты зьвярнуўся за помаччу на альманах і пра гэта напісаў апрача мне яшчэ Адамовічу (магчыма й каму іншаму), пачалі ізноў справу дыскутаваць. З боку Інстытуту я, хіба-ж і іншыя сябры Управы, ніякіх паведамленьняў у гэтай справе, ці Інстытут будзе мяшацца ў справу альманаха, ці не, не выдавалі, да нікога не зьвярталіся зь пісьменьнікаў у нейкіх зьвязаных з гэтым справах дагэтуль, тымбольш ня будзе Управа зьвяртацца і ў будучыні (чаму — у канцы). Аднак так ці інакш прасачыліся весткі, што ў нас гэта справа абмяркоўваецца ды што будуць шмат каго з аўтараў *«абразаць»*, скарачаць дзеля паменшаньня разьмеру кнігі. На гэта, бязумоўна, хоць сам Ты некалі ў «Б» прыабяцаў ужо гэта, што *«ня ўсё друкаванае зможа пайсьці»* — ніхто з аўтараў *«дабравольна бяз прымусу»* ня згодзіцца. Лічаць, відаць, што рэдактар Станкевіч, добры чалавек ды вялікадушны, надрукаваў ім усё прысланае ў газэце, гэтым самым даў сваю маральную заруку, што матар'ял пойдзе і ў альманах, а тут нейкія *«ворагі літаратуры»* хочаць *«рэзаць»*.

Аднак гэта толькі адна старана мэдалю. Гавораць, што Хмара Табе таксама нешта даслаў да альманаху, а Ты дзеля палітычных меркаваньняў (як і некаторых іншых аўтараў), дзеля *«партыйнага»* падыходу, проста ня пусьціў іх, не даеш геніям ходу. У выніку Хмара становіцца на галаве, робіць усё, каб да альманаху наагул не дапусьціць, вядзе сваю агітацыю з свомай усім хуліганам рухлівасьцяй і намагаецца выкарыстаць для гэтага ўсякія дэталі ствaрыўшагася палажэньня. У выніку пашыраюцца чуткі, што, падобна, як у «Конаднях», будзе мову выпраўляць Адамовіч (ці нехта іншы), што альманах будзе зрэдагаваны *«партыйна»*, бо ў ім рассядзецца шырака Арсеньнева, зойме ўсё месца, і іншым застануцца толькі куткі ды закуткі і г. д., і г. д., і г. д.

І якое тады ствараецца палажэньне? Ты вычуў добра з папярэдняга ліста, што тады мы ня былі здэцыдаваныя, што рабіць, ці наагул мяшацца ў гэтае псэўдолітаратурнае балота. Што ня ходзе гэта пра нейкую фанабэрыю, можыш сам бачыць хаця-б з гэтага, колькі ўкладзена працы для прастудыяваньня пытаньня, для абмеркаваньня, як было-б найлепш для дабра беларускай літаратуры на эміграцыі, каб якнайменшым коштам выдаць якнайбольш і якнайбольш вартаснае, у першую чаргу тое, што ня было друкаванае зборнікамі. Мы атрымалі заклік, што справа альманаху гіне, і сумленна разважылі справу, як памагчы.

Аднак у такой справе ёсьць яшчэ адно пытаньне, якое мусіць быць вырашанае заўсёды перад тым, каб даваць канчатковую пастанову: згоду самых аўтараў. Альманах заініцыявала й правяла ўсю прыгатаваўчую працу «Б». На ейны заклік былі прысланыя матар'ялы паасоб-

нымі аўтарамі, што само сабой было ўжо выражанаю згодаю аўтара на прымо ўдзелу ў альманаху. Калі цяпер прычэпліваць раптам, без папярэдняга апытаньня ўсіх удзельнікаў, новага выдаўца — гэта дае неабмежаваныя магчымасьці выступаць з пратэстамі, што *«бяз маёй згоды й ведама»*, могуць нават выступаць з прэтэнсыямі ганарару і г. д. Пры нашых умовах гэта ўсё магчыма й напэўна будзе, ды ўжо і ёсьць. Палажэньне «Б» як выдаўца крыху іншае — калі-б нехта цяпер нават адказваўся ад «Альманаху», захацеўшы, рэдакцыя «Б» магла-б сказаць гэтак: мы друкавалі Вашыя творы, як Вам ведама, каб пусьціць у альманах, дзеля гэтага ўжо набор і ляжыць з год. Калі Вы цяпер зьмянілі свой пагляд і хочаце адказацца ад удзелу — калі ласка, але мусіце спачатку пакрыць усе кошты, патрачаныя на друк і трыманьне набору. Вось таму выдавецтва «Б» аўтар ня можа шантажаваць цяпер: друкуй усё, што прыслаў, або я наагул адмаўляюся, хоць можа кажнага іншага выдаўца, хто ня мае ягонай згоды на друк. Ставіць сябе ў такую нявыгадную пазыцыю пры створаным палажэньні Інстытут ня можа, г. зн. каб усе ўдзельнікі дыктавалі ўстанове, якая дае грошы, што мусіш друкаваць усё, нават і бязграматныя рэчы й барахло, таму толькі, што яно прайшло ўжо ў газэце.

Ты пішаш, што Віцьбіч будзе злы, калі пусьціць ягоную толькі адну рэч, як робіцца для ўсіх празаікаў. Я ручаюся, што будзе, і хіба да сьмерці. Хоць гэта й не малады пісьменьнік, але наіўны быў-бы той, хто думаў, што самому аўтару сваіх-жа твораў можна давясьці аб’ектыўную праўду, што ў літаратуры ня ёсьць гэтак, што чым больш, тым лепш. Пушчаны ягоны адзін расказ, хай сабе й не даўгі (часткова акурат таму, што кароткі), будзе зіяць у кнізе ўсімі сваімі літаратурнымі добрымі якасьцямі, як брыльлянт у начы, і высуне яго перад чужым, напр., чытачом на месца ледзь не найлепшага празаіка (калі нехта судзіць яго будзе толькі па гэтым творы). Дачэпка-ж да яго іншых твораў, ужо ня столькі з літаратурным характарам, колькі публіцыстычнай закваскай, ня толькі яго ня ўзмоцьніць, але наадварот моцна паслабіць, бо падчыркне аснаўную ягоную загану як пісьменьніка — наклон да трактаваньня тэмы з павярхоўным публіцыстычным падыходам. Сьляды гэтага ёсьць і ў «Шпірдынгу», і дачэпка публіцыстыкі побач іх адразу выявіць, узмоцніць, і твор зазіяе на месца добрымі сваймі якасьцямі больш слабымі месцамі, будзе падчыркнута плякатны, павярхоўны падыход да тэмы, свомы кажнай агітцы. Такое маё перакана624ньне. Але ніхто гэтага не дакажа Віцьбічу, хіба ніякая сіла на сьвеце. Ён, як і ўсе нашыя пісьменьнікі, маюць толькі адзін прынцып, які сьветчыць акурат пра тое, што ў нас няма вялікіх пісьменьнікаў на эміграцыі, ані вялікай літаратуры, а прынцып гэта часта мэханічны: чым больш, тым лепш, тым я буду выглядаць большым пісьменьнікам, якім я ёсьць у запраўднасьці. Адным словам, падыход да мастацкіх пытаньняў з *«аршынам»*.

Гэтых усіх закалотаў, недаразуменьняў часткова можна было-б усьцерагчыся, калі-б альманах прыгатаўляўся паводле згары ўжо намечанага ўстаноўленага пляну ды ўмоваў, у якіх, напр., было сказана, што толькі па адным апавяданьні даецца кажнага пісьменьніка, і канец. Нажаль, альманах паўставаў *«самацёкам»*, і таму кажная спроба накідаць сяньня нейкі лад, парадак, нейкую сыстэму выкліча толькі незадавальненьні зацікаўленых. А друкаваць бязформенай масай усё, што прыйшло праз газэту, таксама нонсэнс, прынамся, моцна абніжае й гонар кажнага выдавецтва, хто гэта будзе рабіць, і твар беларускай літаратуры, і будзе шкодзіць найбольш самым-жа пісьменьнікам, што пабачаць яны, аднак, ніколі ня ў стане, паколькі для іх існуе толькі адзін прынцып: больш, больш, больш.

Цяпер прыходжу да *«эпілёгу»*: Усе вышэй пададзеныя прычыны спрычыніліся да тога, што мы пачалі задумвацца над гэтым, ці наагул магчыма *«памагчы»* й ці гэта ня дасьць больш шкоды, чым карысьці. Стуль і *«фанабэрыі»*. У мінулым тыдні гэтую справу памаглі нам высьніць іншыя. Напэўна, Ты ўжо атрымаў ліст Юхнаўца пра тое, што ён *«засьцерагае правы»* і адмаўляецца ад удзелу ў альманаху[321]. Ёсьць такі -ж ліст (хіба-ж і Табе) і ад Сяднёва[322]. Паколькі яны прышлі амаль адным часам, відаць ясна, што гэта ўжо вынік акцыі супольнай. Можыць паявіцца яшчэ адзін-другі такі ліст. Але хопіць і гэтага, каб для Управы Інстытуту паказаць, што яна ня мае ніякога маральнага права браць удзел, памагаць выданьню кнігі беларускай эміграцыйнай літаратуры. У Сяднёва ёсьць і лёгкі намёк на тое, што ён баіцца, што ягоных рэчаў мала пройдзе ў кнігу. Юхнавец некалькі дзён перад высылкай ліста званіў да мяне, ці запраўды прадбачваецца нейкае скарачваньне ягоных твораў. Я адказаў, хай пытаецца ў Цябе як рэдактара альманаху, а я толькі чуў (што Ты й сам публікаваў у газэце), што скарачэньні будуць неабходныя, дык ён мусіць лічыцца з тым, што і ягоныя рэчы могуць быць скарочаныя (хаця, фактычна, з прапановай увясьці ягоны адзін расказ агульнакалькасьць месца, прысьвечаная яму, зусім не скарачвалася, а павялічвалася). Юхнавец намякнуў пры гэтым, што ёсьць аднак аўтары, якіх хіба скарачаць ня будуць (алюзыя да Арсеньневай, хоць у гэтай справе становішча нашае было — скараціць — за выняткам, зразумела й тыпова, самой аўтаркі).

Хоць у нас ніякога паседжаньня ў гэтай справе цяпер яшчэ ня было, аднак палажэньне цяпер яснае, і таму Твой клопат пра тыя ці іншыя пункты ўмовы зусім ужо неактуальныя.

---

[321] Твораў Янкі Юхнаўца сапраўды не было ў выдадзеным альманаху «Ля чужых берагоў».

[322] Вершы Масея Сяднёва ў альманаху «Ля чужых берагоў» былі надрукаваныя.

Як з гэтага выйсьці Табе, цяжка мне радзіць. Сам лепш зарыентуешся. Калі ня будзе іншага выхаду, прыйдзецца рабіць хіба *«кайзэршніт»*[323] ды зрачыся ўсёй справы, абвесьціўшы, што дзеля цяжкога матар'яльнага палажэньня выданьня альманаху Выдавецтва змушана зрачыся. Гэта будзе перамога Хмары чыстая ды Піравая ўдача ўсіх тых, хто на ягоны павадок ці з сваіх эгаістычных меркаваньняў за *«больш»* страцяць магчымасьць друку ў альманаху. Калі здэцыдуешся на *«кацёл»*, трэба глядзець усё-ж, каб нешта ўратаваць з набору: можа, тады *«пад сілу»* выдавецтву будзе выдаць, напр., хоць малы зборнічак на бачынаў 32 «Абарваныя струны» — выбар паэзіі трох пісьменьнікаў, якіх *«няма між намі»* і якія ні ў чым ня вінаватыя за тыя ці іншыя няўдачы ці інтрыгі, можа, прыйдзецца выдаць зборнічак Салаўя і Арсеньневай — але гэта ўжо справа Выдавецтва «Б».

З майго боку просьба, каб усе дыскусыйныя матар'ялы ў гэтай справе, якія Табе перасылаліся, былі трактаваныя як прыватна-асабістыя парады, а не як матар'ял да нейкай публічнай дыскусіі або дыскусіі ў перапісцы, што непатрэбна будзе вязаць і Інстытут, і мяне асабіста з справаю, да якой мы ня маем — фармальна — ніякога сяньня дачыненьня, а якую толькі прастудыявалі дакладней у сувязі з просьбай *«помачы»*, але ў канчальным выніку не знайшлі магчымым. Калі-б дэцыдаваўся зрачыся з усёй справы, хіба найбольш тактычным было паясьненьне, што малыя разьмеры кнігі дзеля матар'яльных прычынаў не пазваляюць друкаваць усяго (аб чым Ты ўжо папяраджаў у газэце), а рабленьне неабходных скарачэньняў выклікае апор паасобных аўтараў. Дзеля гэтага Выдавецтва змушнае з усёй справы, нажаль, зрачыся. Але ці так, ці не — гэта ўжо толькі Табе дэцыдаваць.

На ўсякі выпадак дасылаю Табе тут яшчэ біяграфічную зацемку пра Люціча, можа часам спатрэбіцца (даныя атрымаў ад жонкі ягонай): радзіўся 25.7.1900 у Барысаўшчыне, ніякіх ссылак ня меў. Зразумела, што да Клішэвіча пісаць ня будзем, як не пісалі й ні да кога іншага.

Дык найшчырэйшыя прывітаньні й пішы пра сваю Зэўсавую апошнюю волю ў гэтай справе.

Твой Тумаш.

15 верасьня 1954 г.

Дарагі Стась!

Што да Купалы: Падпісаць «Уводнае слова» словамі *«Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва»*, калі ўважаеш гэта лепш, можыш падпісваць, хоць можа і бяз подпісу, дзеля таго, што на загалоўных бачынах стаіць назоў Інстытуту як *«рэдактара»*, ды й з тэксту прадмовы — *«уводнага слова»* — відаць, што Інстытут выступае ў ролі гаспадара дый на ўсе бакі раскланьваецца нізка дый усім дзякуе. Але гэта мала-

[323] ***Kaiserschnitt*** (ням.) — кесарава сячэнне.

важна — уважаеш, што лепш, каб быў подпіс — кладзі яго. Я ня пэўны, ці патрэбная прапанаваная Табою дапіска ў уводным слове пра тое, чаму мы не даём нічога з прозы. Паколькі ў падзагалоўку кнігі ёсьць словы *«выбар паэзіі»* — дык гэта само сабой коратка й лякянічна азначае, што мы даем толькі паэзію ў кнізе й зусім няма патрэбы яшчэ тлумачыцца з гэтага чаму, бо інтэлігентны й сам лёгка дагадаецца, а дурняў і так не навучыш. Ня думаю, каб нехта мог наагул рабіць для выдаўцоў закід *«чаму не дабавілі прозы»* пасьля выхаду кнігі, а калі так — няма патрэбы ўводзіць гэтай справы і ў уводнае слова.

Хачу яшчэ на адну драбніцу зьвярнуць вагу: у дасланым Табе машынапісе чарговасьць іншамоўных даведак пададзеная гэтак: ангельская, французская, нямецкая, гішпанская. Думаю, што лепш паставіць нямецкі тэкст перад французскім. Як паказваюць апошнія гады, французам нават кітайцы даюць у зад, колькі толькі ўлезе, і яны поўзаюць ракам перад Масквою. А раз паказалі сваю дзяржаўна-палітычную мізэрноту, гэта найлепшы доказ, што й французкай мове суджаны далейшы пэўны заняпад у ейнай ролі як адна з *«міжнародных»* моваў. Куды лепш паказаліся немцы. Хоць зьбітыя на кіслае яблыка, аджываюць і разрастаюцца ня днямі, а мінутамі. Апрача гэтага, кніга й друкуецца ў Нямеччыне. Дык лёгічна ясна, што французаў трэба паставіць туды, куды яны заслужылі.

Нядаўна прыяжджаў да мяне Віцьбіч з Саўт Рывэру. Галоўная мэта — арганізаваць *«з размахам»* 25-годзьдзе *«літаратурна-грамадзка-навуковай»* дзейнасьці вялікага вучонага й пісьменьніка (які сам аб сваім рамане «Вялікія Дарогі» кажа, што ён роўны Талстою![324]) доктара літаратуры Уладзімера Сядуры. Віцьбіч прапанаваў: сарганізаваць супольна тром арганізацыям — Інстытуту, Крывіцкаму Т-ву й «Шыпшыне» — сьвяткаваньні гэтага выдатнага юбілею ў Ню Ёрку, Саўт Рывэры й Кліўлендзе. Ён пытаўся пра згоду на гэта Крывіцкага Т-ва ў др. Станкевіча[325], і той прынцыпіяльна быццам згадзіўся на ўсё, але бяз удзелу толькі Інстытуту. Быццам Адамовіч згадзіўся на юбілейным сьвяткаваньні прачытаць вялікі рэфэрат пра вялікага чалавека-юбілянта. На гэта я Віцьбічу сказаў, што прынцыпіяльна такую вялікую й вельмі важную справу не магу рашаць ад імені Управы Інстытуту сам, а калі прыйдзе нейкая афіцыяльная прапанова — разгледзім хіба яе на адмысловым урачыстым паседжаньні. Аднак ад сябе асабіста магу сказаць: 1. Паколькі гэты нягоднік Спадар[326] зрывае супольны фронт трох арганізацыяў, дык ці не найлепш абыйсьці ўсе турботы гэтак, каб ладзіла ўсё шырокае сьвяткаваньне як галоў-

---

[324] **Леў Талстой** (рус. *Лев Толстой*, 1828–1910), рускі пісьменнік, мысляр, публіцыст.

[325] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[326] Янка Станкевіч.

ны гаспадар сама «Шыпшына», якой юбілянт быў найдаўжэйшы час галоўнай падпораю, іншым-жа прыпала-б зусім належнае ім другое, менш паважнае, месца — быць толькі скромнымі гасьцямі. 2. Матар'яльную помач на гэткае шумнае сьвяткаваньне (пра якую прасіў Віцьбіч) напэўна пакрыюць з энтузыязмам самі ўдзельнікі сьвяткаваньня й зусім няма патрэбы пакрываць яшчэ гэта з касы Інстытуту. 3. Зьвярнуў увагу, што ў пляне сьвяткаваньня вельмі-ж скромныя назначаныя межы — усяго тры мясцовасьці: Нью Ёрк, Кліўленд, Саўт Рывэр[327]. Праца юбілянта й заслугі бязумоўна сталі цэннаю спадчынаю ня толькі гэтых трох асяродкаў, а ўсёй беларускай эміграцыі і ўсяго беларускага народу. Паколькі, на вялікі жаль, сяньня паганыя бальшавікі не дазволяць беларускаму народу адпаведнымі сьвяткаваньнямі выразіць сваю ўдзячнасьць юбілянту за ўсе дабрадзействы, дык можа гэта зрабіць аднак уся беларуская эміграцыя на вольным дэмакратычным сьвеце, і «Шыпшына» павінна пераняць ініцыятыву ладзіць такія-ж сьвяткаваньні і ў Чыкаго, Дэтройце, Каліфорніі, Канадзе і іншых краінах Амэрыкі, Эўропы, Аўстраліі.

Абмеркаваўшы грунтоўна найважнейшую справу, перашлі часткова й на іншыя, менш важныя, на якія ня шмат засталося й часу. Віцьбіч паведаміў, што Сяднёў напісаў ліст аб зрачэньні з удзелу альманаху пад уплывам плётак пра тое, што ў кніжку пушчаецца быццам усяго 3 ягоныя вершы. Калі гэта аднак ня праўда — Сяднёў даў слоўнае даручэньне Віцьбічу як старшыні згуртаваньня «Шыпшына»ануляваць выхад. Я адказаў, што ў гэтай справе хай Віцьбіч ці лепш сам Сяднёў піша да выдавецтва «Бацькаўшчыны» як ініцыятара, рэдактара й выдаўца альманаха, бо Інстытут ані яго рэдагуе, ані выдае. Інстытут толькі на роспачны крык аб помачы разгледзіў як найгрунтаўней пытаньне, прастыдуяваў і матар'ялы, перадаў нават некаторыя свае заўвагі ў гэтай справе Выдавецтву — аднак усёбакова абмеркаваўшы ўсё дый пералічыўшы да гэтага вельмі скромныя свае матар'яльныя запасы, змушаны быў зь вялікім жалем ад прапанаванага сувыдавецтва зрачыся.

Столькі словаў ад *«карыфэя»*. Цяпер пераходзячы да альманаху з боку Інстытута — з розных гледзішчаў грашовая дапамога ад Інстытуту не пад сілу й немагчымая. 1. У касе Інстытуту сяньня існуе толькі сума, дастатковая на пакрыцьцё чарговага нумару «Конадняў» і 7-га «Запісаў»[328]. Выдзеліць з гэтай сумы дапамогу на выданьне альманаху, гэта практычна значыць забіць адзін з гэтых часапісаў Інстытуту, бо ніякіх далейшых дапамогаў пакуль што не прадбачыцца. Накш кажучы, Інстытут павінен загубіць сваё-ж дзіцё, каб ратаваць суседава.

---

[327] Нью-Ёрк, Кліўленд (Агаё) і Саўт-Рывер (Нью-Джэрсі) на той час мелі найбуйнейшыя беларускія асяродкі ў ЗША.

[328] «Запісы БІНіМ» № 1 (7) былі выдадзеныя ў Мюнхене толькі ў 1962 г.

Гэта нагадвала-б індускую самаахвярнасьць з Купалавай «Магабграты»[329], дзе птушка кідаецца ў вагонь, каб ратаваць галоднага госьця. Хіба-ж ніхто ня можа гэтага ад Інстытуту вымагаць. З другога боку, мы маем пісаную й падпісаную ўмову з фордаўскім фондам пра тое, што мы забавязваемся за атрыманую суму выдаць найменш 2 нумары літаратурнага часапісу і 4 «Запісаў». Дык выдаць іх і з гэтага гледзішча мы мусім. Калі аднак мы ўсё-ж шукалі некалі магчымасьці помачы, дык разьлічвалі на нейкі даход у гэтым часе з выдавецтваў, а некалі, з часам, і з альманаху (хоць з продажы яго напэўна не вярнулася-б зразу й палова, а ўсё хіба за нейкіх гадоў 5) — бралі на ўвагу запраўды магчымасьць гібелі важнай кнігі. Тымчасам намер Выдавецтва выдаваць далейшыя ня меншыя, а нават і большыя кніжкі дый не адну («Сымон Музыка» і г. д.) паставіў гэтае пытаньне ўжо ў іншай плошчы: няма толькі грошай на альманах, але яны ёсьць на іншыя (нават і менш важныя) кнігі. Гэта ўжо значна адменная сытуацыя. Пры такой пастаноўцы пытаньня ня думаю, каб было маральнае права змушаць Інстытут на самагубнае выкладаньне грошаў на гэта, які з усіх выдавецтваў найбяднейшы. Хіба-ж куды больш было-б адпаведна паставіць такое канкрэтнае дамаганьне да Крывіцкага Т-ва, якое атрымала больш як тры разы за Інстытут (а якое, напэўна, ні фэнінга на кнігу й ня дасьць, як не дало на Ластоўскага[330]). Да ўсяго гэтага даходзіць яшчэ вельмі прыкры той факт, што Інстытут замест падзякі за самаахвярнасьць будзе яшчэ біты за гэта ўсімі незадаволенымі аўтарамі, якім адзін ці два вершы акажуцца абрэзанымі, як гэта ўжо паказалі апошнія тыдні. (Ты непатрэбна, напр., пажаліўся ў лісьце Адамовічу, што Інстытут прапануе адкінуць Шакуна; той — Адамовіч — адразу пусьціў гэта *«ў абарот»*; Шакун, тымчасам, сябра Інстытуту — і ўжо чакае толькі, ці будзе ён, ці не; справы рэдагаваньня нечага трэба заўсёды трактаваць як прафэсыйны сакрэт, падобны да сакрэту прафэсійнага лекарскага ці духоўнага; кажны адыход ад гэтага прынцыпу прыносіць толькі непатрэбныя клопаты, бо сама толькі дыскусія над пытаньнем прыймаецца ўжо за факт дакананы й падыймаецца шум; хоць усе ў Ню Ёрку й гавораць, што ў кажнай справе Ты нешта робіш толькі пасьля парады з Адамовічам — піша гэта й Ліманоўскі — але прашу не рабіць гэтага коштам Інстытуту; усе заўвагі пра альманах яшчэ раз прашу трактаваць як прыватныя нашы парады, зь якіх можна карыстаць і не карыстаць і пра якія дыскутаваць зь іншымі лепш толькі без падаваньня аўтара прапановаў; калі ходзіць пра Шакуна, дык у маім лісьце было й напісана, што гэта становішча перадусім маё асабістае, іншыя ня зусім

[329] Маецца на ўвазе верш Янкі Купалы «Паляўнічы і пара галубкоў (Легенда з індыйскай кнігі Магабгарата)».

[330] Маецца на ўвазе кніга: Власт (Вацлаў Ластоўскі). Творы. Мюнхэн: выдавецтва «Бацькаўшчына», 1956. — 111 с.

пэўныя, ці гэта правільна). Дык агульны вывад — дабрадзейнасьць і самаахвярнасьць непаплатныя нават і ў adносінах да *«солі зямлі»* пісьменьнікаў. Падстаўляцца пад незаслужаныя ўдары дабравольна й яшчэ на свой кошт — выглядала-б на нейкае аскетычнае самабічаваньне.

З другога боку для Інстытуту было-б ніяк немагчыма саступаць з прынцыпу, каб альманах выйшаў зь нейкім плянам, а перадусім, каб у яго ня ішлі слабыя ці нават і бязграматныя літаратурна рэчы толькі дзеля таго, каб некага *«не ўгнявіць»*. Такія ўступкі можа ў некаторай меры яшчэ рабіць Выдавецтва (якому ніхто не забароніць выдаваць, напр., і соньнікі Васілеўскага[331], і ніхто ня мае права рабіць за гэта закіды выдаўцу, але Інстытут — адразу сябе такім крокам палажыў-бы на лапаткі). Дык Выдавецтва «Бацькаўшчына» ў гэтым пытаньні ў куды выгаднейшым стратэгічна палажэньні, чым Інстытут.

Ёсьць яшчэ й некаторыя іншыя аспэкты пытаньня, якія пацьвярджаюць, што такое становішча, а ня іншае, Інстытут павінен пасьля ўсяго заняць, але пра якія ўжо ня варта гаварыць, бо за шмат гэта займае часу й месца. Думаю, што Ты аднак не павінен гневацца ні на мяне, ні на Ўправу Інстытуту за пачаткавыя ініцыятывы й нэгатыўны канцавы, ня з нашай віны вынік. Ня гледзячы на ўсё — мы ўклалі вельмі шмат увагі й працы ў гэта, асабліва я асабіста. Само напісаньне *«дванаццацібачыннага»* ліста ды плюс масу да гэтага залучнікаў на амэрыканскія ўмовы вартыя больш 100 даляраў (прыймаючы пад увагу патрачаны час і працу). Гэта можаш прыняць прынамся за довад нашай найлепшай інтэнцыі, што зусім ня значыць, каб з дасланых заўвагаў ці радаў меў карыстаць — гэта ўжо Твая справа. Трэба пагадзіцца з тым, што ёсьць рэчы не пад сілу й нам.

Пасьля гэтага расчулага мінорнага афіцыяльнага фіналу хачу перайсьці цяпер да маіх чыста асабістых разважаньняў і думак: што рабіць далей? Па-мойму, трэба за ўсякую цану альманах выдаць. Тваё заданьне павінна быць: *«хоць на галаву стаць, а выдаць!»*. З справы альманаху пачалі рабіць некаторыя справу палітычную — тымважней, каб ён не заламаўся, а вышаў, і каб тыя, хто чакаюць ягонага правалу, прайгралі. Калі Сяднёў (ці Віцьбіч ад ягонага імені) адкліча свой адыход — усе дзіры фактычна залатаваныя й паўніня захаваная. Няпрысутнасьць Юхнаўца якасна не аслабіць кнігу, а яе ўзмацуе. Калі-б ён таксама *«адклікаў»* сваю *«памылку»* — маеш дзьве магчымасьці: або напісаць, што, нажаль, з тэхнічных прычынаў ужо запозна, або найменш у вадным мейсцы яго выпусьціць зусім — у прозе ці паэзіі — пад прэтэкстам, што запозна. Хай вучыцца далікатнейшага абыходу з выдаўцамі, якія стараюцца дый зусім бязінтэрэсоўна працуюць над

[331] **Віктар Войтанка-Васілеўскі** (1912–1972), грамадскі і рэлігійны дзеяч, лекар.

тым, каб раздабыць і сродкі, і скласьці дый пракарэктаваць ягоную пісаніну. Ён нядаўна быў у мяне, але, нажаль, ня было магчымасьці пагаварыць зь ім на гэтую тэму дый даць настаўніцкія павучэньні, бо прыйшлі іншыя й перашкодзілі.

Аднак выдаючы кнігу, трэба ўсё-ж канечна выдаць і зборнік Арсеньневай дый скараціць ейныя вершы тады ў кнізе на палову. Гэта перадусім ахоўвае пісьменьніцу ад зайздросных вылазак іншых (ты-ж хіба джэнтэльмэн!), гэта ахоўвае Цябе ад закіду рэдагаваньня кнігі паводле *«партыйнага ключа»*, але гэта мае і іншае яшчэ важнае значэньне. Ужо каля дзесяці гадоў Арсеньнева стаіць верна й працавіта як пісьменьніца на эміграцыі на пазыцыях, якія рэпрэзэнтуе й бароніць «Бацькаўшчына», стаіць ад самых пачаткаў самой «Б» усёй сваёй творчасьцяй. Сяднёвым ды кавылём «зарубежнікі» здабыліся выдаць аж па два зборнікі[332], «крывічы» Арсеньневай ніводнага, хоць ляжаць гатовыя два з эміграцыйных толькі вершаў. Гэта маральна забіваюча дзеіць на пісьменьніцу, гэта няпрыгожа й з грамадзкага гледзішча. Гэта ўжо пачынаюць падчыркваць і зарубежнікі. Калі давалі абвестку пра зборнік Кавыля ў «Конадні», прапанавалі зьмясьціць таму, што пазьней выдадуць яны й зборнік Арсеньневай! А тымчасам, кажны гэта ведае, выдавецкія рэсурсы «зарубежнікаў» у прыраўнаньні да такіхжа «крывічоў» хіба ў дзесяць разоў мізэрнейшыя (і больш таго). Каму тады ахвота й пісаць? Абрамчык, калі быў тут, думаў пра гэта, як выдаць хоць адзін зборнік Арсеньневай, ня думаю, каб перастаў думаць і цяпер. Раджу зь ім пра гэтую справу паважна пагаварыць, бо заладжаньне гэтага так, як я прапанаваў, дае карысьці з так многіх гледзішчаў, што неабходна так, а ня накш справу заладзіць.

Пробваў, вельмі далікатна, Віцьбічу *«паясьніць»*, што пусканьне ў кнігу побач ягонага расказу й публіцыстыку, яго толькі аслабіць. Ня ведаю, ці гутарка гэтая дасьць нейкі вынік — зможыш гэта хіба вычуць зь ягоных лістоў.

А цяпер да справы галоўнай — скуль узяць грошы? У дадзены мамэнт, нажаль, не магу ў гэтай справе дапамагчы Табе радаю. Мусіш ужо нейк сам выкруціць зь некуль, хоць *«чорту душу прадаць»*, перадумаць разоў дзесяць усе магчымыя магчымасьці. Думаў і я ўжо пра гэта, каб пакрыць іх з прыватнай кішані. Нажаль, у мяне грошы ніякіх, ніякога запасу, няма. Працую на Купалы ды альманахі ды «Запісы» тымчасам, ды на хлеб штодзенны, а не на грошы. Аднак думаю ўсё-ж пра гэта й можа й за некалькі тыдняў удасцца скалаціць нейкую сотню й хоць у форме пазычкі падкінуць Табе на дапамогу. Дык за ўсякую цану ня кі-

332 Ад пачатку палітычнага расколу ў 1948 г. у Масея Сяднёва пабачыў свет зборнік «Спадзяванні» (Рэгенсбург, 1948) і рыхтаваўся да друку «Ля ціхай брамы» (Нью-Ёрк, 1955). У Міхася Кавыля пабачыла свет кніга вершаў «Пад зорамі белымі» (Нью-Ёрк, 1954)

дай яшчэ ў кацёл (хоць можыш выкінуць усё тое, што ясна ўжо ў кнігу ня пойдзе, каб зьменшыняць колькасьць заблякаванага мэталю). Можа тымчасам адкрыюцца і іншыя магчымасьці.

Дзеля розных тактычных меркаваньняў можа й варта напісаць Віцьбічу ў лісьце, што, нажаль, па ўсіх даных выглядае, што прыйдзецца ў альманаху зрэзыгнаваць дзеля адной прычыны — няма грошай на кнігу. Вельмі цікава, што ён на гэта тады запяе. На маю думку, кажны з удзельнікаў *«аж пішчыць»*, каб пабыць у кнізе, уключна з Віцьбічам. Усе церці паўстаюць больш за тое, каб якнайбольш месца там заняць і дзеля адмыслова ведзенай акцыі з боку Хмары.

У пару словах закрану яшчэ некаторыя іншыя справы з Твайго ліста. Зь беларускім «Весьнікам»[333] напэўна клопату будзе дзеля нястачы матар'ялу, аднак трэба пробаваць яго скалаціць, бо накш праваліцца ўвесь наш і Твой аўтарытэт у Інстытуце СССР. Знаю з практыкі з «Запісамі», што з добрым матар'ялам у нас вельмі цяжка. Праўда, Ты знаходзішся ў куды лепшым палажэньні, бо маеш магчымасьць плаціць ганарары. Гэта значна падгоніць і добрых працаўнікоў, а асабліва значна гультаёў, аднак гэта ня ўставіць мазгоў тым, хто іх мае скупа на тое, каб быць добрым супрацоўнікам. А людзей з добрымі навуковымі мазгамі, на жаль, у нас ня шмат. Гуткоўскага матар'ял[334], думаю, можым проста «сканфіскаваць» для беларускага «Весьніка» пад пратэкстам, што ён быў пісаны тады, калі яшчэ беларускага ня было, таму па-расейску, а цяпер аўтар згаджаецца даць у беларускі ў перакладзе назад у беларускую мову. Ня думаю, каб Ізыдар мог напісаць каму, што ён не згаджаецца даваць у беларускае выданьне «Весьніка».

Тое, што Ты ўспамінаеш, што магчыма матар'ял Спадара[335] дойдзе да амэрыканцаў і да зарубежнікаў — магу Табе заручыць, што ён ня толькі дойдзе, але ўжо й туды й туды й зайшоў, бо на гэта ён і быў выданы. Прыпіска *«для сяброў Рады»* гэта толькі спроба адхіліць фармальна магчымасьць, каб за гэта маглі яго выкінуць з Рады. Подласьць і ў перакручваньні цыфраў на свой подлы намер. Камісія не знайшла ніякой крымінальнай, найменшай справы, правяраючы грошы. Дыскусія ішла толькі пра некаторую сумніўную мэтазгоднасьць некаторых выдаткаў, што, ясна, кажны чалавек, як і кажная камісія зрабіла-б

---

333 У Інстытуце вывучэння СССР пад рэдакцыяй Станіслава Станкевіча ўрэшце выдаваўся не «Весьнік», а «Беларускі зборнік» (1955–1960), а таксама англамоўнае *«Belorussian Review»* (1955–1960).

334 Магчыма, маецца на ўвазе тэкст: Менскі, Язэп. Чаму ды як была ўтвораная Беларуская ССР // Беларускі зборнік. № 1. 1955. С. 3–33.

335 Маецца на ўвазе брашура, прысвечаная канфлікту вакол выдання і фінансавання газеты «Беларус»: Станкевіч, Янка. Толькі сябром Рады Б.Н.Р. Да сяброў Рады Б.Н.Р. Нью Ёрк, 1953. — 15 с.

накш (на густы няма адзінакавых)[336]. Мяне да справы прыплёў толькі на тое, каб нейк падважыць Інстытут, бо я ў ім найбольш дзейны. Я ня быў ані ў камісіі, якую інж. Абрамчык вызначыў для гаспадараньня грашыма[337], ані ня быў у рэдкалегіі «Беларуса». Тыпова подла патрактаваная й справа Галіны Ганчарэнкі[338] (Ты некалі пра яе пісаў — тут маем добрую ілюстрацыю да пытаньня). Спадар падае, што за працу над экспэдыцыяй двух нумароў ёй плацілася 50 даляраў, хоць сам якнайлепш ведае, бо чуў гэта ў справаздачах, што экспэдыцыя ўся каштавала столькі, г. зн. паштовыя маркі, якія прыблізна забіралі 30 даляраў на месяц, і за экспэдыцыю Ганчарэнка даставала толькі 20 дал., па 10 дал. за нумар, дый узялася за гэта тады, калі ніхто не хацеў забаўляцца гэткай мізэрнай сумай, усе, хто працуе, а яна вучылася, на працу не магла хадзіць, і ёй кажны даляр быў дарагі. І вось за гэтыя чэсна заробленыя 10 даляраў Спадар хоча цяпер публічна, фальшуючы суму й факты, зрабіць зь дзяўчыны грамадзкага злодзея, лічачы на тое, што людзі, рассыпаныя па сьвеце, не даведаюцца праўды. Чаму? А бо пасварыўся некалі за кватэру зь ейнай цёткай[339]. Гэтага хапае, каб зрабіць нявіннай дзяўчыне подласьць, якую толькі ў сілах. Гэткі сэнс усяго ягонага матар'ялу з маральнага гледзішча. Бязумоўна, што 6000, якія ён сугэруе, што атрымаў Інстытут, Інстытут і ў вочы ня бачыў, ня бачыў і дзясятай часткі гэтага. Некалі пазычыў толькі на выданьне аднаго нумару «Запісаў», і зь іх частку ўжо зьвярнуў. Чаму, аднак, гэта ён піша, хоць добра ведае, што было ня гэтак? Каб скрыць сваіх 8000 дал., якія скарыстаў амаль для сябе аднаго.

26 кастрычніка 1954 г.

Дарагі Стась!

Доўга не пісаў, дык сабралася шмат справаў. Пачнём па чарзе.

1. Калі яшчэ ня кончыў артыкулу для Купалавай кнігі, дык за тыдзень вышлю Табе *«новае выданьне»* сваёй біяграфіі Купалы — можа нешта зь яе скарыстаеш. Наколькі зацеміў, у першым сваім шкіце[340] я толькі намагаўся пазьбіраць усё, аж да драбніцаў, пра Купалу. Гэта толькі мала яшчэ спарадкаваныя выпіскі зь іншых біяграфічных жаролаў. Цяпер я ўсё перарэдагаваў і выправіў стылістычна, паправіў і крыху нават дапоўніў новымі дэталямі, якія давялося знайсьці. Дык

336 Больш пра гэта гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 218–319.

337 Грашыма, атрыманымі на выданне газеты «Беларус», распараджаўся Франц Кушаль, як тагачасны кіраўнік Беларуска-Амерыканскага задзіночання.

338 **Галіна Ганчарэнка** (Грыбава, Руднік; нар. 1931), грамадска-культурная дзяячка, журналістка, перакладчыца. У 1950–1954 гг. жыла ў ЗША.

339 Маецца на ўвазе Барбара Вержбаловіч.

340 ***Szkic*** (польск.) — накід.

з гэтай біяграфіі можна будзе ўжо браць даслоўныя кускі, у меру патрэбы, бо яны з боку стылю й мовы выгладжаныя. Добра было-б, калі напішаш сваё *«арцыдзела»*, каб прыслаў для перагляду й заўваг — напэўна не пашкодзіць, а сёе-тое ўдасцца ўдасканаліць. Калі «Ўводнае слова» яшчэ не надрукаванае, дык у ім мо' зрабі маленькую папраўку: на трэцяй бачыне сказ *«Разьдзел "Для Яе" дае лірыку каханьня — адзіны матыў, які, побач нацыянальна-грамадзкага…»* — трэба дапоўніць гэтак, каб было *«адзіны матыў, які, побач нацыянальна-грамадзкага і сялянска-сацыяльнага»*. Гэтак лепш, бо ў Купалы бязумоўна ў пачатках творчасьці вельмі моцна выступае, нават дамінуе над усім іншым вёскова-сацыяльны матыў. Накш можа нехта закінуць, што мы тушуем сацыяльны бок ягонай творчасьці.

Другая рэч пра Купалаву кнігу — я знайшоў яшчэ пару недаглядаў-памылак, якія хіба варта паправіць. На бачыне 70 у радку *«Божа! гэткі сьвет тут Моц стварыла твая!»* — слова *«твая»*, як бачыш, з малой літары, хоць гэта ідзе пра Бога. Выпала гэтак таму, бо ў савецкім выданьні, ясна, Бога пісалі ўсюды з малой, я гэта ўсюды адпраўляў, але тутака прапусьціў. Дык мо гэта зазначыць у памылках ды выпраў, каб нашыя інквізытары не загадвалі пазьней выразаць бачынку ножніцамі. Другая памылка, таксама перанятая аўтаматычна зь менскага выданьня, гэта на бачыне 214 пасьля заканчэньня верша «Прыстаў ня жыць» пастаўлены год 1914. Тымчасам гэты верш з «Шляхам жыцьця»[341], а «Ш. Ж.» вышла з друку ў 1913 г., дык у ім ня мог быць верш з 1914 г. У папраўках трэба падаць *«1914 вычыркнуць»*.

2. Арсеньневай вершаў з альманаху хопіць выпусьціць нейкіх 10 бачынаў, тады застанецца бачынаў 28–30, значыцца, на 5 бачынаў больш, чым іншыя пісьменьнікі з найбольшай колькасьцяй бачынаў. Хай гэтым будзе падчыркнутая, што яна тут найстарэйшая векам і заслугамі на літаратурным полі. Буду пробваць пра гэта гаварыць зь ёю, але баюся — сам знаеш, што дабравольна *«абразацца»* ніхто з пісьменьнікаў за нішто ня хоча. Пабачым, што скажа. Скажу й пра зборнік.

3. Зьвязаная справа з альманахам і пытаньне, хто гэта *«падбухторыў»* Сяднёва. Пробую тут дабрацца *«па нітцы да клубка»*. Напісаў у гэтай справе ліст Сяднёву, копію якога гэтта дасылаю, пакольки й Цябе гэтая справа абыходзіць і цікавіць. Гэтымі днямі Арсеньнева атрымала ліст ад Віцьбіча, у якім напісана й падпісана, што гэта Юхнавец прыяжджаў ды гаварыў пра *«тры вершы»*. Магчыма, так, хоць Віцьбічу таксама ня ўсё можна верыць. Калі Юхнавец гэтак і зрабіў, дык, па-мойму, таксама толькі па нечым нагаворы, і вось я спрабую тут дайсьці да таго, хто тут быў *«злым духам»* у гэтай справе. Маю падазрэньне, але шукаю пацьверджаньняў. Як атрымаю адказ ад Сяднёва, тады пастаў-

---

341 **«Шляхам жыцця»** — трэці зборнік вершаў Янкі Купалы, выдадзены ў Санкт-Пецярбургу ў выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца» ў 1913 г.

лю справу рубам перад Юхнаўцом (калі й Сяднёў падцьвердзіць, што Юхнавец тут замяшаны). Адным словам, як бачыш, хоць ад справы выдаваньня альманаху нейк перад Табой і адбараніўся, дык з гэтым далёка яшчэ не закончыліся ўсе клопаты, нажытыя праз альманах. А як ён выйдзе, дык напэўна іх і яшчэ прыбавіцца.

4. Цяпер ад справаў літаратурных зьвернем да палітычных. Некалькі тыдняў таму Адамовіч мне казаў, што Ты ў лісьце ўжо абяцаў *«стукнуць»* па Каханоўскім за *«ягоны»* артыкул у «Беларусе»[342] пра АБН[343]. Я тады яму сьмяяўся, што гэта даволі камічна выглядае: Адамовіч рэдагуе газэту, а б'юць за яе Каханоўскага. Гэтак фактычна і ёсьць. Каханоўскі ў газэту нічога не пісаў, хоць ягоны дэлегат у рэдкалегіі і ёсьць, ды намінальна нават галоўны рэдактар. Аднак галоўны інтэлектуальна ў рэдкалегіі бязумоўна Адамовіч, і ён перадусім за яе і адказны. Твой выстрал ня зусім па адрысу і таму, што артыкул пра АБН пісаны не Каханоўскім (як выглядае з Твайго артыкулу[344]), а Галяком[345], тымсамым Галяком, каторы, калі быў сам рэдактарам «Беларуса», напісаў і зьмясьціў (хіба помніш) артыкул пра ўкраінцаў, у якім дзяліў на *«галічанаў»* і на *«не галічанаў»*, адным словам, выступіў супроць усяго ўкраінскага народу ў спосабах і моваю, якою раней гаварылі толькі маскалі пра ўкраінцаў. Гэта тады выклікала тут вялікае абурэньне супроць Галяка, ён нават паддаўся дзеля гэтага да дымісіі. Сяньня-ж Галяк выступае ў ролі абаронцы тады, калі Ты зачапіў толькі адзін асколак адной толькі ўкраінскай групы. Гэта адна справа мэдалю. Другая, гэта тое, што ён дае бязумоўна фальшывую раду чытачом — падтрымлівайце АБН. Калі я яго пытаўся нядаўна вусна, чаму ён піша няправільныя рэчы пра АБН і не патрапіў наагул даць для чытача правільны адказ: як быць з АБН — трэба яго падтрымліваць нам ці не, дык ён мне адказаў: *«Я гэтага й сам ня знаю! Мне хадзіла толькі, каб ня вытыкаць пальцам у даношчыцкі спосаб "фашыстых"»* і г. д. Дык вось хто аўтар і якая пастаноўка пытаньня зь ягонага боку. Пішу

---

342 Відаць, маецца на ўвазе артыкул: Пяткевіч, В. Як гэта разумець // Беларус. № 3 (49). 1 жніўня 1954. С. 6. У гэтым артыкуле выказваецца нязгода з апісаннем падзеяў у Антыбальшавіцкім блоку народаў, публікаваным у газеце «Бацькаўшчына» цягам колькіх нумароў 1954 г.

343 **Антыбальшавіцкі блок народаў (АБН)** (укр. *Антибільшовицький блок народів*, англ. *Anti-Bolshevik Bloc of Nations*) — створаная ўкраінскімі нацыяналістамі ў 1943 г. і структурна афармленая ў Мюнхене ў 1946 г. арганізацыя, што стала каардынацыйным цэнтрам антыкамуністычнай дзейнасці эмігрантаў на Захадзе.

344 Маецца на ўвазе артыкул: (-іч). На ідэялягічным бездарожжы // Бацькаўшчына. № 35 (217). 29 верасьня 1954. С. 3–4.

345 **Леанід Галяк** (1910–1980), грамадскі дзеяч, юрыст. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў ды першы рэдактар газеты «Беларус» (1950–1951).

пра гэта наагул таму, каб усьвядоміць Цябе пра тутэйшыя фактычныя спружыны й каб не страляў зусім у другі бок.

5. У «Беларускім Слове»[346] Астроўскага памешчаны вельмі дурны артыкул Попкі[347] пра сьветчаньні Абрамчыка[348]. Паколькі, нажаль, не адзін Попка малаграматны ў матэматыцы, ёсьць такіх і сярод нашых, і паколькі мэта артыкулу падарваць аўтарытэтнасьць сьветчаньня (там ёсьць далей і чыстыя даносы пра камунізм), дык неабходна вартасьць ягоных аблічэньняў выясьніць коратка й моцна. Ня выцярпеў і накінуў кароткую зацемку пра гэта, якую тут спасылаю разам для газэты. Але, калі наагул будзеш памяшчаць, дык друкуй яе ў самым канцы газэты на самым апошнім месцы. Там толькі можна яшчэ гаварыць пра такіх «паноў», як Попка, ды й зацемка пісаная такім стылем, які надаецца толькі на «задавіцу», а не на «перадавіцу»[349].

6. Магчыма, зацемка пра Попку ўжо і неактуальная, магчыма, ужо нешта ў «Б» пра гэта й надрукавана, бо я цяпер атрымліваю газэту звычайнай поштаю й позна. Некалі прапанаваў разьлічыцца ў такі спосаб, што выдадзеныя мною 30 даляраў на справы кнігі Купалы (вярнуць якія абяцаў Абрамчык) перадаць у Выдавецтва «Б», адлічыўшы на кошт клішэ Вержбаловіч і на кніжку «Нядоля Заблоцкіх», засталося-б яшчэ больш 20 даляраў. Тымчасам да гэтай пары кніжкі ніякой не атрымаў, а замест разьліку з «Б» — газэту адразу пачалі высылаць звычайнаю поштаю. Відаць, адміністрацыя разважае вельмі проста: калі піша, што туга з грашыма, бедны — дык няхай чакае на газэту. Калі дзеля нейкіх прычынаў разьлік з 30 даляраў такой дарогай, якою я прапанаваў, немагчымы, дык напішы мне, і я накірую ўвесь разрахунак беспасярэдня інж. Абрамчыку — хай ён ужо з Вамі расплачваец-

[346] **«Беларускае слова»** — беларуская газета, якая выдавалася прыхільнікамі БЦР ад 17 снежня 1948 г. да чэрвеня 1958 г. Спачатку выходзіла ў Нямеччыне, а ад 1956 г. — у ЗША. Рэдактарамі былі: Аляксандр Русак, Юрка Віцьбіч, Юры Сабалеўскі.

[347] **Юры Попка** (1912–1990), літаратар, выдавец, грамадскі дзеяч. Жыў у Ляймэне (Нямеччына). Аўтар кніг: «Сын» (1950), «Праз слёзы» (1951), «Песня салаўя» (1955, 1963), «Аднагалоссе» (1961), «Кошык» (1961), «Расказы» (вып. 1–3, 1961), «У санаторнай белі» (1961), «Журавель» (1962), «Па чужых кутках» (1962), «Сын» (1962), «Свеціць у тумане» (вып. 1–3, 1962), «Умелы падыход» (1962), «З вінтоўкай у руках» (1963), «Пушча шуміць» (1963), «Новая хата» (1964), «Носьбіт ідэі» (1964).

[348] Маецца на ўвазе атрыкул: Попка, Юры. Хлестакоўшчына і сьвядомая правакацыя // Беларускае Слова. № 5 (19). Жнівень — верасень 1954. С. 1–2. У тэксце даводзіцца няслушнасць пададзеных М. Абрамчыкам у часе выступу перад Камісіяй Керстэна лічбаў беларусаў-ахвяраў савецкага генацыду.

[349] Зацемка была апублікаваная як: Дакаціўся да Попкі: Як Астроўскі апраўдвае бальшавікоў // Бацькаўшчына. № 43–44 (225–226). 28 лістапада 1954. С. 6.

ца. Але прашу кіраваць газэту лётнай поштай, бо часам мае істотнае значэньне.

7. Хоць газэту й перавялі на звычайную пошту, аднак далей дамагаешся дасылкі «У палескай глушы», за што таксама трэба-ж мне плаціць. Хіба пачнем выстаўляць рахункі тады адзін другому? З кніжкаю справа гэткая: старой, віленскага выданьня, кнігі не паслаў, і як аказалася, вельмі добра зрабіў. Нядаўна купіў «Збор твораў» Я. Коласа, нядаўна выданы ў Менску — 7 тамоў[350], у якіх ёсьць, ясна, і «У Палескай глушы». ПерагляНуў пару дзясяткаў бачынаў, і зь іх відаць, што мову Колас значна выправіў. Значыцца, нонсэнс цяпер друкаваць стары непапраўлены тэкст, а калі друкаваць, дык толькі тэкст новы. Дык вось той том, у якім памешчаная аповесьць, я гатоў Табе адразу выслаць (ён ляжыць у мяне ўжо спакаваны), але пад гэткімі ўмовамі: а. вышлю яго, як толькі атрымаю ад Цябе Купалавы аўтаграфы. Проста не разумею, чаму знарок робіш мне зь імі прыкрасьць, хоць столькі разоў пра гэта пісаў (хіба ня менш дзесяці); б. вышлю, калі абяцаеш, што кніга будзе зьвернутая *«ў першабытнай чысьціні»*, адным словам, каб даваў некаму перапісаць, і машынапіс даваў у друкарню, а не самую кнігу, якая, прайшоўшы праз зэцэрскія[351] рукі, заўсёды выглядае, як мурзаты кот. Накш мне сапсуеш увесь даволі прыгожы камплект, які разам каштуе больш дзесяці даляраў (Можа, часам у Мюнхэне ў савецкай кнігарні знойдзеш і купіш, тады справа з перасылкай наагул адпадзе?).

8. Як зар’ентуешся з дасланага тут абежніка, Цябе й Твой Інстытут падтрымліваем тут актыўна й за супрацоўніцтва зь ім агітуем. Шмат на каго націскаў я і асабіста вусна й пісьменна, не адзін зь іх ужо з Табой у кантакце ў справах Інстытуту СССР. Праўдападобна, ад новага году зробім яшчэ некаторыя пераарганізацыі ў нашых выданьнях, каб датарнавацца да Твайго Інстытуту й Твайго «Весьніка». Калі ўжо пачнеце паважна рэдагаваць «Весьнік», магу сёе-тое падаслаць з партфэлю «Запісаў» — матар’ял, які для «Запісаў» ня зусім падыходзіць, а для «Весьніка» хіба больш адпаведны. Калі захочыш, можа напішу для першага нумару і адну рэцэнзыю на некалькі бачынаў. На большыя рэчы не разьлічай, бо цікаўлюся й займаюся ня гэтым. Наагул зь «Весьнікам» будзеш мець і клопату — маю ў гэтай справе *«ікспір’енс»*[352] па «Запісах» і ведаю, што добрых супрацоўнікаў і добрага матар’ялу цяжка ў нас раздабыць. Праўда, Ты маеш вялікі козыр: грошы-ганарар. Але й грошы ня зробяць з партача навукоўца, а з бязграматнага — пісакі.

---

350 Гл.: Колас, Якуб. Збор твораў: у 7 т. / Рэдкал. П. Броўка і інш. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1952–1954.

351 ***Zecer*** (польск.) — наборшчык.

352 ***Experience*** (англ.) — досвед.

З другога боку, рамкі часапісу, звужаныя да толькі савецкіх пытаньняў[353], таксама абразаюць крыху лік супрацоўнікаў. Але нягледзячы на гэта, трэба зрабіць — будзе месца, дзе працаўнікі змогуць вучыцца й гадавацца.

9. Цяпер справа апошняя, але найдаўжэйшая. Ведамы гэтак добра Табе й мне Панькоў паслаў ліст у Ваш Інстытут (ці не да Мільлера) з прапановай апрацаваць паказьнік беларускай прэсы, калі Інстытут дасьць на гэта стыпэндыю й згодзіцца прапанаваную кнігу выдаць друкам. Адначасна ён прасіў, каб я напісаў пра справу Табе, выясьніў усё ды *«выклапатаў»* Тваё падтрыманьне. Дык вось за выясьненьне справы тут і бяруся.

Панькоў ад пару ўжо гадоў вядзе картатэку прэсы — усёй прэсы беларускай, ці лепш беларускага пэрыядычнага друку, ад «Мужыцкай праўды»[354] пачынаючы. Я цяпер праглядаў гэтую картатэку. Яна абыймае каля 1300 назоваў, лічачы ад 1862 да 1952 году, значыцца, за круглых 90 гадоў. Яна абыймае ўжо хіба больш 90 % пэрыядычных выданьняў, якія ў нас былі ці ёсьць. У картотэцы ёсьць недкладнасьці, прабелы, адналітасьці. Але належна над ёю папрацаваўшы ды пасядзеўшы яшчэ ў бібліятэцы, можна было-б сапраўды зрабіць неблагую рэч. Перапісаўшы ўвесь матар'ял, выправіўшы ды спарадкаваўшы адпаведна для друку кнігаю, будзе недзе, напэўна, каля 12 аркушоў друку самога паказьніка. Да гэтага плянуецца (і яны патрэбныя) дадаткі сьпераду: кароткі нарыс гісторыі беларускай прэсы, у канцы кнігі — храналягічны паказьнік, паказьнік мясцовасьцяў, паказьнік асабовы, картаграма, дыяграма, жаролы. Разам сабралася-б матар'ялу на цэлых 16 аркушоў друку, ці кніга на нейкіх 256 бачынаў. Калі матар'ял належна апрацаваць — кніга выйдзе даволі імпазантная. Ніхто сяньня й ня думае ў сьвеце, што мы можам пахваліцца пэрыядычным друкам з ледзь не паўтара тысяча назоваў. У такой вялікай кнізе ня кажны й зарыентуецца, што больш 50 % гэтых друкаў гэта бальшавіцкія агіткі. Але для бібліяграфіі гэта ня мае значэньня, ці яны такія, ці гэткія — паказьнік будзе паказьнікам. Ці падыходзіць гэтая тэма для Вашага Інстытуту? Думаю, так. Трэба не забывацца, што з гэтых 1400 назоваў няма нават і 50, якія былі ўжо перад бальшавіцкай рэвалюцыяй. Уся рэшта — ужо пазьнейшыя выданьні, значыцца, уваходзіць у рамкі выданьняў Вашага Інстытуту. Другая справа і другое пытань-

---

[353] Беларускі аддзел Інстытута вывучэння СССР меўся займацца вывучэннем БССР, і публікацыі ў яго выданнях канцэнтраваліся менавіта на савецкай беларускай дзяржаўнасці.

[354] **«Мужыцкая праўда»** — нелегальная газета, якая выдавалася лацінкаю ў 1862–1863 на Гродзеншчыне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Першая беларускамоўная газета.

не — ці Панькоў належна выканае працу? Я пераглянуў усё даволі ўважна і пра гэта маю гэткія думкі: калі да чаго Панькоў надаецца, дык найбольш да калекцыйнай, біяграфічнай[355] працы. Адну працу тут, як ведама, выдалі ўжо за грошы Гарвардзкага Ўнівэрсытэту[356]. Калі-б ён атрымаў нейкую стыпэндыю ды пасядзеў над усім яшчэ належна, дапоўніў (я яму падаў некаторыя й жаролы, скуль можна дапоўніць бібліяграфію выданьняў у Зах. Беларусі), дык напэўна мог-бы зрабіць магчыма галоўную, аснаўную бібліяграфічную частку, як і ўсе канцавыя паказьнікі ды дадаткі. Аднак на ягонай працы заўсёды вычуваецца й некаторая, свомая яму, неакуратнасьць, недацяжкі, зусім лішнія, непатрэбныя зрывы, якія лёгка выправіць (ёсьць яны і ў надрукаваным паказьніку). Каб усе гэтыя заганы *«характару»* выраўнаць ды выправіць, каб працу падцягнуць да належнай якасьці — можна было-б і зрабіць і такі выхад (як часта ў такіх выпадках усюды й практыкуецца): БІНІМ гатовы ўзяцца вызначыць і даручыць нейкім двум асобам пераглянуць дадатна ўсю працу, каб парабіць свае папраўкі, дадаць дапаўненьні і г. д. Адзін зь іх будзе з БССР, які знае добра з жыцьця савецкія выданьні, другі з Зах. Беларусі, які практычна ведае тамтэйшыя выданьні. Вось прайшоўшы праз перагляд такой *«Камісіі»*, праца напэўна пазбылася-б бальшыні Паньковавых слабасьцяў і значна памацнела-б якасна. Зразумела, за гэткую дарадчую працу Ваш Інстытут мог-бы для такіх сяброў Камісіі па нейкіх 100 даляраў і заплаціць (што заўсёды таксама ўсюды ў сьвеце робіцца). Я сам пераглядаў першыя бачыны Паньковага машынапісу й пераканаўся, што на кажнай бачыне можна й трэба даць найменш па некалькі паляпшэньняў, удасканаленьняў. Апрача таго зацеміў (ды некаторыя назовы яму ўжо й падаў) і некаторую колькасьць пропускаў з часапісаў Заходняй Беларусі, якія я даволі добра знаю.

Дык вось аснаўную частку можна было-б напэўна спарадкаваць, а прапусьціўшы праз рэдакцыю яшчэ двох дадатковых чалавек — ня было-б і наагул шмат ёй закінуць. Застаецца аднак справа з уступам-нарысам. На гэта ўжо патрэбная іншая галава, не калектарская. У гэтым Панькоў ужо моцна слабы, і трэба яму прызнаць, нават сам гэта ўсьведамляе, бо прасіў мяне, каб, калі праект пройдзе, напісаў яму нейкія два аркушы ўступнага нарысу пра гісторыю беларускага пэрыядычнага друку. Я ад гэтага адмовіўся.

---

[355] Так у арыгінале. Мабыць, мелася быць: бібліяграфічнай.

[356] Магчыма, маецца на ўвазе: Панькоў, М. Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945–1950 гг. = Bibliography of Whiteruthenian (Byelorussian) Refugees for 1945–1959. Whiteruthenian Bibliography service. Ню Ёрк: выданьне Крывіцкага Навуковага Таварыства Праньціша Скарыны = New York: Francis Skoryna Kryvian (Whiteruthenian) Society of Arts and Sciences in the U.S., 1952. — 64 с.

Дык агульны вывад: за аснаўную частку, аркушоў 12, можна ручацца, яна можа быць зробленая, картатэку яе нават ужо сам асабіста бачыў — як ёсьць *«чарнавік»* — лацьвей па ім рыхтаваць ужо й *«чыставік»*. З апошнімі перадавымі артыкуламі кнігі можна яшчэ справу так ці накш выясьніць. Калі-б дзеля нейкіх прычынаў яна ня была-б выкананая, дык і так кніжку можна выдаваць — сам паказьнік і бяз прадмовы. Паколькі мне ведама, паводля прынятай схэмы ў Вашым Інстытуце, за атрыманую стыпэндыю вымагаецца прыблізна 4 аркушы манускрытпу за 3 месяцы. На прыгатову да заканчэньня тагды ўсёй гэтай працы трэба было-б лічыць круглы год (16 аркушоў). Ці праца вартая друку зь беларускага гледзішча? Бязумоўна, так. Лепш хай Інстытут друкуе гэткую рэч, чым тамамі расейскія розныя, часам куды горшыя, выданьні. Амэрыканскіх грошаў хіба на гэта хопіць. Інстытут выдае грошы на куды горшыя рэчы, проста бязграматныя. Яшчэ ў мінулым годзе бачыў адно выданьне Інстытуту, у якім нейкі расеец апрацаваў *«бібліяграфію» «эміграцыйных»* выданьняў, як расейскіх, гэтак і нерасейскіх. У ім зь беларускіх рэчаў хопленыя толькі зусім некаторыя ды прыпадковыя рэчы. Але найбольш пікантна тое, што ў *«эміграцыйныя»* друкі гэты *«господін»* упёр і віленскія беларускія выданьні! Зразумела, чаму — для яго Вільня ўжо эміграцыя, дык ён думаў, што тое-ж павінна быць і ў «кроўных брацьцяў» беларусоў! Гэткі спэц гатоў і «Нашую Ніву» ўвапхаць у *«эміграцыйныя»* выданьні. І вось на гэткую лабуду Інстытут ня толькі даваў стыпэндыі, але яшчэ на свой стыд і аўтара надрукаваў гэты шэдэўр (калі часам быў-бы патрэбны назоў кнігі, у якой гэткая бібліяграфія Інстытуту надрукаваная, магу расшукаць назоў і надаслаць Табе).

Другі прыклад: ляжыць перада мной выданьне таго-ж Інстытуту *«Списки новых поступлений Библиотеки Института», № 5, Август 1954*. Выданы, значыцца, ужо пасьля апошняй асамблеі. У выданьні сьпіс кніг пададзены на аснаўныя разьдзелы: книги *на русском языке* і *книги на иностранных языках*. І вось у аддзел *«книги на русском языке»* сапханыя ўсе ўкраінскія кнігі (беларускіх наагул няма). Пакажы гэта ўкраінцам, што яны на гэта скажаць.

Дык вось, калі даюцца грошы на друк гэтых расейскіх недарэчнасьцяў і проста дзівосаў, дык могуць сьмела даць грошы й на куды саліднейшую нават Панькова апрацоўку бібліёграфіі беларускай пэрыёдыкі. Чорт іх за гэта ня возьме й ня зьбяднеюць.

Але гэта толькі адна старана мэдалю. А ёсьць, нажаль, і другая, горшая. Чуюся ў маральным абавязку Цябе ўсведаміць і папярэдзіць, каб знаў ведаў (магчыма, ужо й ведаеш), што Панькоў, нажаль, па сваім характары мае шмат вельмі слабых свомасьцяў. Апошнімі месяцамі, нажаль, ня лепшае, а горшае. Гэтымі тыднямі тут выкрылася, што ён займаецца ня чым іншым, як работай *«цюцька-у-цюцьку»* такой-жа, як Попка там у Вас. Можа, і Табе падаслалі ратартарны шэдэўр «Наш

кліч»[357], на якім напісана, быццам ён выдадзены ў Англіі. А як выясьнілася, запраўды біты ў Нью Ёрку, на Панькова машынцы. І вось у гэтым «Клічы» ліюцца памыі, выдумкі, маны і на Раду БНР, якога ён сам да гэтай пары афіцыяльны сябра. І ня тое блага, што гэта апазыцыя, але што гэта самы звычайны найгоршага гатунку бруд, звычайны бруд, ніякой пазытыўнай творчай ідэі — мана, мана, мана. Калі маеш гэтае выданьне й калі маеш пару лістоў ад Панькова — параўняй машынку — пабачыш поўную ідэнтычнасьць. І вось гэты *«навуковец»* займаецца справамі, за якія брацца ня выпадае нават і звычайнаму, але чэснаму грамадзяніну. Тое, што ён Хмараў *«агэнт»*, усе знали даўно, але што ён на ягоны загад, ня выступіўшы афіцыяльна з Рады, возьмецца за самую брудную работу — гэтага ўжо ніхто не дапусьціў.

Дык вось Табе й *«паднаготная»* кандыдата ў *«навукоўца»*. Рабі цяпер, як ведаеш. Зразумела, што гэтыя ўсе мае інфармацыі строга *«поўфныя»*[358], і толькі для Твайго ведама й карыстаньня. Адным словам, пачаў за *«здравие»*, а кончыў *«за упакой»*.

Прывітаньні!

27 красавіка 1957 г.

Дарагі Войча Леў[359]!

Дзякую за Вялікодныя прывітаньні, ліст, кніжкі. Пару дзён таму атрымаў пачку зь дзьвюма кніжкамі: «Беларуская літаратура другой паловы XIX ст.» і «Восточнославянский этнографический сборник»[360]. Абедзьве кнігі добрыя, хоць і маюць свае савецкія *«гарбы»*: у зборніку нагвалт нацягваюць усходнеславянскае культурнае й этнаграфічнае *«единство»*. А ў літаратуры XIX ст. не абыйшлося без канфіскатаў паасобных твораў і нават цэлых аўтараў. Няма, напр., Ельскага[361] зусім, няма нічога Пчолкі[362]. Некаторыя Багушэвічавы вершы выпушчаныя (дакладна не правяраў усяго, але зацеміў, што нема верша, які пачы-

---

[357] Відаць, маецца на ўвазе **«Народны кліч»** — часопіс Беларускай народнай грамады ў Вялікабрытаніі, першы нумар якога пабачыў свет у жніўні 1954 г. з пазнакай месца выдання — Лондан. Усяго выйшла 2 нумары. Аднак насамрэч рэдактарам гэтага перыёдыка быў не Мікола Панькоў, а Міхась Іскрыцкі.

[358] ***Poufny*** (польск.) — канфідэнцыйны.

[359] **Леў Гарошка** (1911–1977), рэлігійны дзеяч, педагог, публіцыст. У 1947–1957 гг. у Парыжы выдаваў рэлігійна-грамадскі часопіс «Божым шляхам».

[360] Восточнославянский этнографический сборник: Очерки народной материальной культуры русских, украинцев и белорусов в XIX — начале XX вв. Москва: АН СССР, 1956. — 806 с.

[361] **Аляксандр Ельскі** (1834–1916), гісторык, краязнавец, публіцыст, збіральнік беларускіх рукапісаў.

[362] Відаць, маецца на ўвазе **Аляксандр Пшчолка** (1869–1943), празаік, публіцыст, этнограф, педагог.

наецца словамі *«Жыд і немец дзеці аднэй маткі — адна ў іх мова і адны ўхваткі»*[363], і наагул усе вершы, дзе чапаюць жыдоў). Але наагул — як на таварышоў — кніга неблагая й карысная. Мне да камплекту «Полымя»[364] за мінулы год не хапае самага першага нумару. Калі-б у Парыжы ў кнігарні знайшоўся нейкі лішні экзэмпляр — захапеце для мяне.

Мы тут арганізуем летам адну важную справу. У Нью Ёрку, як ведама, ёсьць самая галоўная бібліятэка, г. зв. Нью Ёрская Публічная. Па вялічыні яна другая ў Амэрыцы (пасьля Кангрэсавай Бібліятэкі ў Вашынгтоне), а па значэньні першая, пакольکі Нью Ёрк куды большы за Вашынгтон. І вось наш Інстытут дамовіўся ўжо з кіраўніцтвам Славянскага Аддзелу Бібліятэкі, каб зладзіць у гэтай бібліятэцы першую беларускую выстаўку — першую ў гэтай бібліятэцы, у ЗША і хіба на ўсім Амэрыканскім кантынэнце. Паколькі Публічная Бібліятэка ў Нью Ёрку важны мазгавы цэнтр усёй Амэрыкі, дык і выстаўкі тут, добра прыгатаваныя, маюць важнае значэньне. За тэму выстаўкі мы запрапанавалі «Галоўныя вехі беларускага пісьменства»[365], г. зн. галоўныя, найважнейшыя памяткі беларускае пісьменнасьці ад прыходу пісьма на беларускія землі аж да нашай пары. У пляне паказаць хоць на пару прыкладаў-узораў аб: першыя пісаныя памяткі на землях Беларусі (Супрасьльскі летапіс[366], Тураўскае Эвангельле[367]), Апрасіня Полацкая, першыя самастойныя аўтары на Беларусі, галоўныя памяткі юрыдычнае літаратуры (ад «Смаленскае праўды»[368] да Статутаў[369]), летапісы, друкаваныя кніжкі (Скарына, Цяпінскі, Будны і інш.), самастойныя пісьменьнікі Залатой Пары, літаратура XIX ст., літаратура пары

---

[363] Маецца на ўвазе верш «Немец», які пачынаецца радком «Не люблю я места (па-расейску — горад)». Згаданыя Тумашам гучаць наступна: «А што жыд да немец — дзеці аднэй маткі // І мова падобна, і адны ухваткі».

[364] **«Полымя»** — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, што выдаецца ў Мінску ад 1922 г.

[365] Выстава «Вехі беларускага пісьменства» адбывалася ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы у часе 16 ліпеня — 16 жніўня 1957 г. Падрабязней пра яе гл.: Р. М. Вехі беларускага пісьменства // Беларус. № 61. 30 верасьня 1957. С. 5.

[366] **Супраcльскі летапіс** — зборнік летапісных тэкстаў першай паловы XVI ст., найбольш поўны спіс другой рэдакцыі беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. Паходзіць з Супрасльскага манастыра. Захоўваецца ў Санкт-Пецярбургскім аддзяленні Інстытута гісторыі РАН

[367] **Тураўскае Евангелле** — рукапіснае Евангелле, створанае ў XI ст., адзін з найбольш старажытных помнікаў ўсходнеславянскага пісьменства. Захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

[368] **Смаленская гандлёвая праўда** — дагавор Смаленскага, Віцебскага і Полацкага княстваў з Рыгай і Гоцкім берагам (Готландам) 1229 г.

[369] Маюцца на ўвазе Статуты Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг.

«Нашай Нівы»[370], пазьнейшая літаратура. Разам пару інфармацыяў пра народ, тэрыторыю, мову. Бязумоўна, такую выстаўку магчыма рабіць толькі пры помачы фотакопійных прыкладаў з паасобных рукапісаў, кнігаў, дакумэнтаў, паколькі арыгіналаў Бібліятэка так як і ня мае (з старой пары). Пачынаючы ад XIX ст. ёсьць ужо тое-сёе і ў арыгінале. Працу над камплектаваньнем матар'ялу і апрацоўку аб'ясьніцельнага тэксту ўжо пачалі, яна ў разгары, і думаю, усё пойдзе добра. Калі выстаўка добра будзе зладжаная, дык можна будзе яе перакінуць і ў некаторыя іншыя месцы (Чыкага, Кліўленд, Таронта). Аднак-жа працы шмат, ёсьць і труднасьці. У справе пару тут зьвяртаюся ўжо аб помач і параду. Адна рэч: тутка няма ніводнага экз. «Мужыцкае Праўды» Каліноўскага. А нам для выстаўкі нагвалт патрэбна фотакопія зь нейкага арыгіналу. Спадзяюся, што ў Парыжы павінны яны нейдзе быць — Парыж быў-жа цэнтрам усіх паўстанцаў, і там павінна быць і паўстанцкая літаратура. Дык прашу вельмі разглянуцца за імі, і калі толькі знойдзеце — зрабеце для нас неадкладна фотакопію. Або, калі гэта ня ўдасца, напішэце, у якой кнізе ёсьць яе фатаграфіі, можа, тады яе й тут знойдзем хоць у паменшаным выглядзе. Другая справа: дзе можна знайсьці найлепшы й найбольшы публікаваны партрэт сьв. Апрасіні? Можа ў нейкіх расейскіх выданьнях праваслаўных сьвятых? Нам канечна патрэбны партрэт і якнайбольшы. Мікрафільм адной з кнігаў Скарынавай Бібліі заказалі ў а. Сіповіча[371], каб той зрабіў з экзэмпляру ў Брытыш Музэум[372]. З мікрафільму хочам зрабіць фотокопійны экзэмпляр для выстаўкі — ня ведаю, ці а. Сіповіч гэта зробіць, бо ён вельмі цяжкі да такіх справаў. Шукаем таксама якнабольш літаратуры нашаніўскай пары. Дык чакаем Вашае дапамогі ў справе «Мужыцкае Праўды», сьв. Апрасіні і наагул парадаў у гэтай важнай справе.

Прывітаньні!

---

[370] **«Наша Ніва»** — штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветніцкая і літаратурна-мастацкая газета, што выдавалася ў Вільні ў 1906–1915 гг.

[371] **Часлаў Сіповіч** (1914–1981), рэлігійны дзеяч, стваральнік беларускага рэлігійна-грамадскага асяродку ў Лондане, ад 1960 г. — грэка-каталіцкі біскуп.

[372] ***British Museum*** (англ.) — Брытанскі музей. Тут захоўваюцца арыгінальныя асобнікі Скарынавых выданняў.

16 лістапада 1959 г.

Дарагі Стась[373]!

Ліст Твой і копію ліста Твайго пляменьніка, сына дзядзькі доктара, атрымаў. Вельмі цікавая й хіба добрая вестка, што нехта ў Польшчы рупіцца пра памяць і спадчыну доктара Станіслава Грынкевіча[374]. І думаю тутка ня толькі пра сына, што больш натуральна, але й пра Беластоцкую мэдыцынскую акадэмію. Думаю, што там ёсьць нехта зь ягоных прыяцеляў-калегаў з Харошчы[375], які добра знае яго як чалавека і як лекара-навукоўца. Калі др Дэрэш (ці Дрэшэр?) быў дырэктарам-адміністратарам шпіталю, дык фактычным дырэктарам-душою шпіталю з гледзішча лекарскае навуковае працы быў там др. Станіслаў. Уся мэдыцынская сыстэма, лябараторыя, навукова-дасьледчыя працы, праводжаныя ў Харошчы, вяліся пад пасярэдняю ці беспасярэдняю апекаю яго.

Што да матар'ялаў-успамінаў аб ім — ня шмат з памяці мог-бы дадаць да таго, што некалі пісаў і надрукаваў[376] у нашай «Мэдычнай Думцы»[377]. Там-жа памешчаныя і больш асабістыя ўспаміны[378] доктара Грабінскага[379]. Каб тут на эміграцыі былі недзе гадавікі «Беларускай Крыніцы»[380], «Хрысьціянскай Думкі»[381] ды некаторых іншых віленскіх часапісаў, можна было-б добры артыкул-працу напісаць пра ягоную літаратурную й публіцыстычную дзейнасьць, а таксама пра мэдычнапапулярызатарскую. З гэтых выданьняў можна сабраць амаль усё, што

---

[373] Відаць, ліст адрасаваны **Станіславу Грынкевічу** (1912–1966), грамадскаму дзеячу, што на той час жыў у Кліўлендзе (ЗША).

[374] **Станіслаў Грынкевіч** (1902–1945), грамадскі і палітычны дзеяч, адзін з лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў Заходняй Беларусі. Знішчаны НКУС.

[375] **Хорашч** (польск. *Choroszcz*) — мястэчка каля Беластоку ў Падляскім ваяводстве Польшчы. Станіслаў Грынкевіч у 1934–1938 гг. працаваў у Хорашчы ў шпіталі для псіхічна хворых.

[376] Маецца на ўвазе тэкст: Рагаза, Максім. Доктар Грынкевіч // Мэдычная Думка. № 3. 1950. С. 29–31.

[377] **«Мэдычная Думка»** — беларускі медычны часопіс, які выдаваўся ў Ватэнштэце ў 1946–1950 гг. Рэдактар Вітаўт Тумаш. Выйшлі 3 нумары.

[378] Гл.: Грабінскі, Б. Успаміны аб доктару Грынкевічу // Мэдычная Думка. № 3. 1950. С. 31–34.

[379] **Баляслаў Грабінскі** (1899–1991), грамадскі дзеяч, лекар. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у ЗША.

[380] **«Беларуская Крыніца»** (ад 1925 г. «Крыніца») — штотыднёвая газета, орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Выдавалася ў Петраградзе, Мінску, Вільні ў 1917–1940 гг.

[381] **«Хрысьціянская Думка»** (*«Chryścijanskaja Dumka»*) — рэлігійны часопіс беларусаў-каталікоў, што выходзіў у Вільні пад рэдакцыяй кс. Адама Станкевіча ў 1928–1939 гг.

ён пісаў пад сваім прозвішчам ці пад ведамымі нам сваімі мянушкамі. Сёе-тое друкавалася і ў «Калосьсі»[382] ды некаторых іншых выданьнях (здаецца, у «Шляху Моладзі»[383]). Вось гэтыя ўсе часапісы можаш назваць для свайго пляменьніка, хай іх пашукае ды хай пашукае ў іх, знойдзе шмат (калі ён наагул умее яшчэ чытаць па-беларуску).

Згодна з абавязваючымі ў былой Польшчы правіламі, кажная друкарня мусела адсылаць 16 экз. кажнага свайго друку ў 16 розных бібліятэкаў Польшчы, у першую чаргу ў ўнівэрсытэцкія бібліятэкі. Бяручы наўвагу нават ваенныя зьнішчэньні, хіба на абшары сучаснай Польшчы павінна быць яшчэ нейкіх 10 бібліятэкаў, дзе гэтыя беларускія газэты павінны быць захаваныя. У першую чаргу ў Варшаве, Кракаве, Пазнані — хай там сын і шукае спадчыны свайго бацькі. Зрабілі-б гэта й мы, ды зь вялікай ахвотай, каб мелі пад рукамі патрэбныя гадавікі нашых віленскіх публікацыяў. Навуковыя мэдычныя працы былі друкаваныя ў польскіх мэдычных часапісах, і сабраць іх хіба лёгка можна ўжо ў Беластоцкай акадэміі мэдыцыны.

Нашыя віленскія грамадзкія дзеячы рабілі некалі адну памылку, што нічога ня слалі з сваіх выданьняў у Амэрыку. І цяпер тут амаль нічога з гэтага ня можна знайсьці. Дзеля гэтага часта прыходзіць думка аб тым, што некалі, пры першай нагодзе, добра было-б выбрацца ў Польшчу, каб раздабыць там у бібліятэках няраз нагвалт патрэбныя тэксты, часам і цэлыя кніжкі, зь якіх, пры сучаснай тэхніцы, даволі лёгка парабіць патрэбныя фотакопіі ці мікрафільмы.

Калі-б Твой пляменьнік часам выбіраўся ў Амэрыку ў госьці, зразумела, не цяпер, а некалі, пасьля сканчэньня свайго пэдагагічнага Інстытуту, дык можна было-б яго папрасіць парабіць нам некаторыя мікрафільмы з тамашніх друкаў, якіх тут нідзе не дастаць.

Разам з гэтым лістом у асобным канвэрце дасылаю Табе той нумар «Мэдычнай Думкі», у якім памешчаныя ўспаміны пра Др. Станіслава Грынкевіча, Твайго дзядзьку. Думаю, што часапіс можаш пераслаць ягонаму сыну — там знойдзе тое-сёе з таго, што шукае, ды будзе мець прынамся першыя вядучыя ніці, па якіх можа, калі схоча, знайсьці й большую рэшту.

Прывітаньні Табе й Тваёй сямейцы.

П. С. Запытайся пляменьніка, ці не засталося часам нешта недрукаванае па ягоным бацьку — літаратурай ён заўсёды любіў займацца. Хай прышле — надрукуем.

---

[382] **«Калосьсе»** — літаратурна-навуковы часопіс, што выдаваўся ў Вільні ў 1935–1939 гг.

[383] **«Шлях Моладзі»** — моладзевы грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс, што выходзіў у Вільні ў 1929–1939 гг.

14 сьнежня 1959 г.

Вельмі Паважаны Доктару[384]!

Разам з Каляднымі і Навагоднімі прывітаньнямі і пажаданьнямі, як кажны год, высылаю паштовым пераводам $5 на «Зьніч»[385]. Але да гэтага разам у лісьце хачу перадаць Вашай ласкавай увазе і апецы і адну важную справу.

У сваім абнаглелым русыфікатарскім наступе Масква намагаецца русыфікаваць ня толькі сяньняшнюю Беларусь, але і ейную прышласьць, ейную гісторыю. Адзін гэтага прыклад — Скарына ў іх ужо не Франьцішак, а Георгій, хоць гэтым іменем сам Скарына ніколі сябе ні ў вадным друку сваім не называў. Хрышчаны ён быў Юрыем, але з імені гэтага не карыстаў. Да волі Скарыны мелі пашаны й расейскія царскія аўтары, і ў сваіх працах яны заўсёды менавалі яго Франьцішкам, а не Георгіем. Шавінізм чырвоных расейскіх аўтараў у гэтым выпадку аказаўся куды горшы за царскіх. Ім ужо імя Франьцішак ніяк праз горла не пралазіць, бо з гэтага самога імені адразу бачна, што ён не расеец. І гэта яны накідаюць і нашым менскім навукоўцам, якія мусяць за імі таксама выкідаць імя Франьцішак.

У сувязі вось з гэтым нам на волі неабходна большы націск зрабіць акурат на доктара Франьцішка. У рамах нашага Інстытуту я ўжо пачаў збор усяго, што ёсьць пра Скарыну: перадусім канцэнтруем мікрафільмы з усіх 25 друкаваных ім кнігаў. Зроблены ўжо мікрафільмы з чатырох кнігаў Царстваў ды віленскага Апостала (Апостальскія дзеяньні ды апостальскія лісты). Далей зьбіраю ўсе адкрытыя на сяньняшні дзень дакумэнты пра Скарыну, якіх сабралася ўжо каля 20, але яны разсыпаныя па розных друках XIX і XX стагодзьдзяў. Бальшыня іх ужо ёсьць тут. Рэшта паволі сканцэнтруецца. Далей зьбіраю ўсю бібліяграфію аб доктару Францішку ды ягоных друках, якой ёсьць колькі сот пазыцыяў, пачынаючы ад 1776 г., калі Бахмэйстар[386] першы *«адкрыў»* для навукі і сьвету нашага Скарыну[387]. Адным словам, канцэнтруецца ўся Скарыніяна, і справа гэтая даволі далёка заангажаваная.

---

[384] Відаць, ліст адрасаваны а. **Пётру Татарыновічу**, які жыў у Рыме, дзе абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную Кірылу Тураўскаму.

[385] **«Źnič»** — рэлігійны часопіс, што выходзіў у Рыме ў 1950–1975 гг. пад рэдакцыяй а. Пётры Татарыновіча.

[386] **Іаган Бахмейстар** (1732–1788), бібліёграф. Ад 1756 г. працаваў бібліятэкарам Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу.

[387] Маецца на ўвазе кніга: Bacmeister, Jean. Essai sur la Bibliothèque et le Cabinet de curiosités et d'histoire naturelle de l'Académie des sciences de Saint Petersbourg. Saint Petersbourg, 1776. — 254 p. У кнізе быў зроблены вопіс Пяцікніжжа Маісея з Скарынавага выдання, асобнік якога захоўваецца ў Пецярбургскай акадэміі навук.

Гэта ўсё аднак ня робіцца толькі на тое, каб сабранае трымаць у архіве. Мэта ёсьць канкрэтная: пара пісаць новага Владзімірава[388]. Гавару гэтта пра манаграфію Владзімірава «Доктор Франциск Скорына», якую аўтар надрукаваў у 1888 годзе, а якая й па сяньня застаецца адзінай манаграфіяй, хоць і даўно перастарэлай[389]. Пахвала Владзіміраву, што ён маючы да дыспазыцыі толькі кнігі Скарыны ды ўсяго 3–4 дакумэнты пра яго жыцьцё, напісаў вялікую, як на тую пару, грунтоўную працу і імені Франьцішак ня выпусьціў нават у загалоўку кнігі. Владзіміраву няведамыя былі нават акты Падуанскага Унівэрсытэту пра слаўныя экзаміны Скарыны. Яны былі адкрытыя *Windakiewiczam*[390] тры гады пазьней. Дык пісаць новага Владзімірава ўжо даўно пара. На гэта матар'ялы ў Інстытуце й канцэнтруюцца. У новай сучаснай манаграфіі пра доктара Франьцішка, на маю думку, павінна быць дакладная, на аснове сучасных дакумэнтаў, біяграфія; далей дакладны агляд ягонай працы ды друкаў, на фоне эпохі; далей трэба надрукаваць па магчымасьці дакладныя тэксты ўсіх ягоных прадмоваў і пасьлясловаў; даць шмат зь ягоных гравюраў; далей памясьціць усе знойдзеныя на сяньня дакумэнты аб ягоным жыцьці — памясьціць у лацінскім арыгінале, даючы разам пераклады; далей памясьціць усю бібліяграфію пра Скарыну, усю так лічную Скарыніяну. Такі плян, над якім праца ўжо ідзе. Кніга выпадзе немалая й па вялічыні, і па сваёй навуковай вазе. Вось у сувязі з гэтым праэктам і гэты мой ліст да Вас, Доктару.

Толькі Вы, толькі Вам найлягчэй раздабыць да гэтай мэты нам тое, што ёсьць аб Скарыне ў Італіі. Ходзе мне пра Падуанскія акты, ходзе мне пра Падуанскі Скарынавы партрэт.

Падуанскія акты, як я ўспамінаў ужо, першы адкрыў паляк *Windakiewicz S.*, у 1891 г. ён апублікаваў весткі пра гэта ў сваёй працы: *Materialy do historyi Polakow w Padwie. Archiwum dla dziejow literatury i oswiaty w Polsce. Tom VII. Krakow, 1891*. Ці там надрукаваныя і тэксты падуанскіх актаў аб Скарыне, гэтага ня ведаю, бо тут *Windakiewicza* працы ў Нью Ёрку знайсьці не магу. У тым-жа 1891 годзе расеец Шляпкін[391], дачуўшыся аб адкрыцьці *Windakiewicza*, адразу пагнаўся ў Падую, расшукаў акты, адпісаў іх і апублікаваў у журнале Міністэрства Народнага Прасьвяшчэнія, Нр. 4. 1892 г. у працы пад загалоўкам: Шляпкин И. К биографии Франциска Скорыны, бачыны 382–385. Гэ-

---

[388] **Пётр Уладзіміраў** (руск. *Пётр Владимиров*, 1854–1902), рускі гісторык літаратуры, ад 1880-х гг. прафесар універсітэта Св. Уладзіміра ў Кіеве.

[389] Маецца на ўвазе кніга: Владимиров, Петр. Доктор Франциск Скорина: его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888. — 351 с.

[390] **Станіслаў Віндакевіч** (польск. *Stanisław Windakiewicz,* 1863–1943), польскі навуковец, даследчык гісторыі польскай літаратуры, прафесар Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве.

[391] **Ілля Шляпкін** (руск. *Илья Шляпкин,* 1858–1918), рускі філолаг, палеограф, гісторык старажытнарускага мастацтва.

тая праца тут ёсьць, фотакопію яе маю перад сабою. Там побач уводнай зацемкі апублікавана па-лацінску тры дакумэнты-пратаколы з Скарынавых экзамінаў на Падуанскім Унівэрсытэце. У ўводнай зацемцы Шляпкін кажа, што акты ён знайшоў у архіве Падуанскага Унівэрсытэту, у кнізе актаў бяз нумару, але пад назовам: *«Liber Sacri Collegii dominorum doctorum et artistarum»*. Думаю, што працы *Windakiewicza* і Шляпкіна ў Рыме можна знайсьці.

Для задуманых нашых патрэбаў копіі Шляпкіна мала. Канечна, трэба было-б раздабыць фотакопіі, ці яшчэ лепш фатаграфіі гэтых трох дакумэнтаў, каб іх можна было і дакладней прастудыяваць, каб выключыць некаторыя памылкі Шляпкіна пры капіяваньні ды дзеля іншых важных прычынаў. Напр., Шляпкін у канцы трэцяга дакумэнту падае, што дакумэнт падпісаны 24 прысутнымі, але подпісаў гэтых скапіяваць ён, зразумела, ня мог, ані, праўдападобна, ня мог шмат зь іх і расчытаць. Фотаграфія нам дасьць усе гэтыя подпісы ўва ўсёй іхнай сярэднявечнай красе і арыгінальнасьці. Подпісы маючы, можна будзе і спрабаваць выясьніць, што за вучоныя крыюцца пад гэтымі імёнамі. Маючы фатаграфіі, можна будзе і апублікаваць дакумэнты фатаграфічна — гэта навукова вельмі важна. Адным словам, з кажнага гледзішча трэба раздабыць нам фотакопіі ці лепш нават вострыя фатаграфіі гэтых дакумэнтаў.

Зрабіць гэта, ясна, можна толькі адмыслова паехаўшы ў Падую і пару дзён на гэта патраціўшы (пры шчасьці можа гэта ўдацца і за дзень). Едучы, можна было-б ужо адным захадам зрабіць і другую справу: наняць добрага фатографа ды афатаграфаваць добра той партрэт Скарыны, што знаходзіцца ў ваднэй з саляў Унівэрсытэту. Фатаграфія гэтая таксама вельмі была-б патрэбная для нашай працы. Пакульшто існуюць толькі мізэрныя тэхнічныя фатаграфіі др. Грабінскага ды айца Маскаліка[392].

Вось просьба мая памагчы неяк гэтыя дзьве справы ў Падуі ў будучым годзе — раней ці пазьней — гэта ня так важна, заладзіць. Зьвязаныя з гэтым тэхнічныя кошты можна было-б пакрыць з Амэрыкі. Ня ведаю, што гэта каштуе ў Італіі, але тут — гэта цэнты (фатакопіі). Крыху даражэй каштуюць ужо фатаграфіі. Дык галоўны кошт быў-бы сама паездка ў Падую.

Такія мае «навагоднія» пажаданьні й просьбы да Вас, Ойча! Спадзяюся, што для вялікай памяці і славы нашага Доктара Франьцішка не адмовіце дапамагчы нам і фатакопіі актаў, і фатаграфію партрэту раздабыць.

У вялікай пашане.

---

[392] Магчыма, маецца на ўвазе **Кастусь Маскалік** (1918–2010), рэлігійны дзеяч. У 1947–1955 гг. ён вучыўся ў Рыме.

14 сьнежня 1962 г.

Дастойны Война[393]!

Па традыцыі, раз у год дакучаю. Разам зь сьвяточнымі прывітаньнямі маю й свае канкрэтныя навагоднія пажаданьні — ізноў пра таго-ж нашага Доктара Франьцішка! Праца аб ім паволі, марудна, але пасоўваецца наперад. Марудна не з мае віны. Блізу год ужо як адзін эпізод Скарынавых прыгодаў — ягонае падарожжа ў Маскву, дзе вялікі князь маскоўскі кнігі ягоныя сканфіскаваў ды спаліў — я дэтальна дасьледзіў ды апісаў, але праца чакае на друк, бо ў гэты нумар нашых Інстытуцкіх «Запісаў» ужо ніяк няўтоўпілася (займае каля двух аркушоў друку)[394]. Ёсьць і пару іншых гатовых да публікацыі рэчаў, як аб новым варыяньце Скарынавага партрэту, які ўдалося ў тракце досьледаў адкрыць. Але памалу, раней-пазьней, дойдзем і да друку. Тымчасам-жа зерне па зерні далей зьбіраю ўсякую магчымую Скарыніяну. Самой бібліяграфіі ёсьць ужо больш 700 пазыцыяў. Гэтымі днямі адкрываецца тут выстаўка аб доктару Скарыне, каб шырэй папулярызаваць ягонае імя і спадчыну[395].

Мае навагоднія *«пажаданьні»* гэтым разам зводзяцца да двух малых скромных пытаньняў:

1. У вадным з падуанскіх дакумэнтаў аб Скарыне кажыцца аб тым, што віцэпрыёр Тодар Муссаті гаварыў, што Скарына прышоў у Падую *«з-за 4000 ці больш міляў»*. У Італіі хіба куды лягчэй даведацца, якую меру даўжыні прадстаўляла гэтая італінская *«міля»* каля 1512 году. Колькі гэта будзе прыблізна, калі перавесьці гэтую мілю на нашую сучасную мэтрычную сыстэму? З Вамі разам жывуць, здаецца, дастойныя й немаладыя ўжо духоўнікі, італінцы. Пры іхным даволі ўжо *«антычным»* веку і, што разам ідзе, шырокім дазнаньні хіба нехта зь іх павінен ведаць дакладна, што гэта старая італінская міля выражае. Пры нагодзе прасіў-бы вельмі разьведаць ды мне напісаць. Гэта вельмі дробная, але цікавая дэталь. Цікава ведаць, як Муссаті запраўды выбражаў, як далёка Скарынаў Полацак ад Падуі.

2. Другое пытаньне: у апошнім, адкрытым цяпер дакумэнце, ёсьць слова *«Дацыя»* — *«сакратар караля Дацыі»*. Што, паводле італінскіх слоўнікаў сярэднявечнае лаціны (калі яны ёсьць) каля 1512 году значыла назва *«Дацыя»* ў Італіі? Якая краіна разумелася пад гэтым? У якім слоўніку можна знайсьці вытлумачэньне гэтага? Ня можа-ж ха-

---

393 Ліст адрасаваны а. Пётру Татарыновічу.

394 Тэкст быў апублікаваны як: Брага, Сымон. Доктар Скарына ў Маскве // Запісы БІНіМ. № 2 (8). Мюнхэн, 1963. С. 9–36.

395 Маецца на ўвазе выстава, што адчынілася 2 лістапада 1962 г. у Беларускім грамадскім цэнтры ў Нью-Ёрку. Пра гэта гл.: Р. М. Шляхамі Доктара Скарыны. Пры нагодзе Скарынавай выстаўкі // Беларус. № 81. Сьнежань 1963. С. 3.

дзіць тут пра антычную гістарычную Дацію[396], якая за Скарыны ўжо не існавала. Пад гэтым іменем мусіць скрывацца нейкі іншы край (калі наагул скрываецца). Што пра гэта кажуць італінскія адпаведныя слоўнікі сярэднявечнае лаціны й Вашыя *«антычныя»* і высока дазнаныя сужыхары?

Вось адказы на гэтыя пытаньні мне патрэбныя ўсяго да *«шчасьця»* ў 1963 годзе. Калі зможаце крыху праясьніць мне гэтыя цёмныя справы, Войча, буду вельмі ўдзячны.

Паводле штогодняй традыцыі даў малую суму й сёлета на «Зьніч», але гэтым разам пасылаю грошы не беспасярэдня, але знайшліся тут людзі добрае волі, якія зьбіраюць усе грошы ў вадну кучу ды вышлюць (ці выслалі ўжо) усё разам — каб быў большы матар'яльны й маральны эфэкт!

У глыбокай пашане.

11 студзеня 1964 г.

Вельмі Паважаны Сп. Сяднёў!

Вашыя каштоўныя заўвагі пра Коласа атрымаў і накіраваў артыкул ужо да набору. Пойдзе ён на *«культурную»* бачыну, хіба ў падвал[397]. Гэта якраз матар'ял *«вышэйшага»* ўзроўня, пра які Вы пісалі, і напэўна шмат каму спадабаецца арыгінальнасьцяй свае думкі. З майго боку знайшоў у ім адзін сказ, які найскарэй трапіў праз недагляд, у пісьменьніцкім *«разгоне»*, а пайменна, пасьля таго, як згадваеце пра тое, што Коласава палеская трылёгія перакладзеная на польскую мову, ёсьць у Вас сказ: *«мяне гэта дзівіць, пакольki Колас антыпанскі паэта»*. З гэтага, калі разумець гэты сказ даслоўна, вынікала-б, што на польскую мову *«антыпанскіх»* рэчаў нармальна не павінна перакладацца, бо гэта *«панскі»* народ. Гэта нейкае непаразуменьне. Навет і за часоў міжваеннае *«панскае»* Польшчы ў Польшчы выходзілі польскія й чыста *«антыпанскія»* творы Ясеньскага Бруно[398], Бранеўскага[399], Кручкоўскага[400] (чыста

---

[396] Маецца на ўвазе **Дакія** — гістарычны рэгіён у Цэнтральна-ўсходняй Еўропе паміж Карпатамі, Дунаем, Цісай і Днестрам. Як каралеўства існавала ўжо ў II ст. да н. э., як рымская правінцыя (*Dacia Romana*) — у 106–271 гг. н. э.

[397] Тэкст быў апублікаваны як: Сяднёў, Масей. Перачытваючы Якуба Коласа // Беларус. № 83. Люты 1964. С. 2.

[398] **Бруна Ясеньскі** (польск. *Bruno Jasieński,* сапр. *Wiktor Zysman*, 1901–1938), польскі і савецкі пісьменнік, паэт, драматург.

[399] **Уладзіслаў Бранеўскі** (польск. *Władysław Broniewski,* 1897–1962), польскі паэт, перакладчык, прадстаўнік рэвалюцыйнай лірыкі.

[400] **Леан Кручкоўскі** (польск. *Leon Kruczkowski,* 1900–1962), польскі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч, прадстаўнік літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

марксысцка абаснаваны раман «Кордыян і хам»[401]), дык пагатове друкуюцца й выдаюцца *«антыпанскія»* рэчы ў Польшчы сучаснай, сатэлітнай ды *«народна-дэмакратычнай»*, і ў ёй Коласава трылёгія з боку ідэялёгічнага якраз на месцы, шкада, што яна ня гэтак моцная з боку літаратурнага, асабліва кампазыцыйна.

Разумею, што ў Беларусі паўстала даволі шырокае агульна-народнае паймо аб паляках як народзе *«панскім»*, паколькі ў нас палякі былі пераважна або паны, або ўрадоўцы, або нейкія іншыя з *«вышэйшае»* клясы, хоць хапала ўжо й польскага пралетарыяту ў спольшчанай Вільні. Дык калі гэткі пагляд у нас мае сваё некаторае гістарычнае абаснаваньне, дык ня можна яго ўжо ніяк расьцягваць на Польшчу этнаграфічную, якая ў 90 %, найменш, працэнтаў складалася зь беднага сялянства або мясцовай бедната.

Да гэтае тэмы прыпамінаецца мне арыгінальная зьява з канца XX ст.: адна старэйшая жанчына-сялянка, матка аднаго з нашых беларускіх дзеячоў, зусім няграматная, бо ў ніякія школы не хадзіла, нідзе ў сьвеце па-за бліжэйшым мястэчкам не бывала, мела цьвёрдае перакананьне, што ня толькі ў ейнай і суседніх валасьцёх, але й на ўсім сьвеце *«простыя»* людзі гавораць *«па-просту»*, паны — па-польску, урднікі й маскалі — па-маскоўску, а жыды — па-жыдоўску. Пра ніякія іншыя мовы й народы яна нічога ня ведала й з сваім упрошчаным сьветаглядам пражыла аж да самае познае сьмерці.

Паколькі гэты сказ яўна будзе канфузіць чытача — зь яго вынікае, што аўтар выабражае, што ўвесь польскі народ *«панскі»* ды складаецца з самых паноў, я палічыў на месцы даючы ў друк манускрыпт, сказ гэты выпусьціць, каб усьцерагчыся непатрэбнай пазьней *«крытыкі»*. Але калі я мыляюся, калі знайшоўся ён не празь недагляд пры *«разгоне»* пяра, а дадзены сьведама — тады можна яго ў кажны мамэнт вярнуць у тэкст[402]. Нумар будзе друкавацца яшчэ за пару тыдняў, і, калі атрымаю ад Вас падобнае пажаданьне, сказ будзе вернуты ў тэкст, хоць з свайго боку ня раджу гэта рабіць.

Што да добрага Вашага вершу «Стрыманасьць», да якога ня можна мець ніякога закіду, а толькі пахвалу, з боку паэтычнага, па сваей любоўнай тэме не зусім у *«унісон»* з нашай палітычна-грамадзкай газэтай, а не літаратурным часапісам ці хоць літаратурнаю бачынаю. Дзеля гэтага рэдакцыйная калегія *«шэрсьціцца»* супроць яго ды ўважае, што ён больш адпаведны або ў часапіс літаратурны, або — моладзі, каханьне для якой — справа палючае вагі! Дык чакаем на больш вершаў ды іншыя тэмы!

У глыбокай пашане.

---

[401] **«Кордыян і хам»** (польск. *«Kordian i cham»*) — раман Леона Кручкоўскага, выдадзены ў 1932 г.

[402] У апублікаваны варыянт артыкула гэты сказ не ўвайшоў.

20 сьнежня 1964 г.

Дарагі Прафэсару[403]!

Вінаваты моцна, што на Ваш ліст колькі месяцаў таму адказваю толькі цяпер. Хоць нейкую частку цяжкое віны магу спакінуць на — *«марку БНР з партрэтам Скарыны»*[404], якое Вы прасілі ў тым лісьце. Рабіў стараньні, каб марку гэтую раздабыць ды Вам, найпазьней на Каляды, перасьлаць як сьвяточны падарунак. Але пакульшто з гэтага нічога ня вышла. Дык тыдзень таму заказаў зрабіць фотаадбіткі з майго камплекту марак БНР 1918 году[405], каб выслаць для Вашага збору хоць фотаграфічныя рэпрадукцыі да часу, пакуль удасцца раздабыць арыгіналы. Але тут мяне падвялі, бо ўсяго пяць дзён да Каляд, а яшчэ зьнімка не гатовая. Дык ліст ідзе і бяз гэтага з надзеяй, што яшчэ на гэты новы год пасьпею даслаць Вам усё-ж фотаадбіткі, каб маглі мець уяву аб выглядзе марак.

Марка, пра якую пішу ў «Конаднях»[406], нічога ня мае супольнага з маркамі БНР, пра якія Вы ўспамінаеце (Карта Беларусі, Пагоня, Крэчэўскі, Захарка). Сэрыя, якая ў Вас ёсьць, гэта не арыгінальныя маркі БНР, а маркі, выдадзеныя ўжо на эміграцыі пасьля гэтае вайны, і яны толькі гістарычны адбітак «культу» БНР нашае пары[407]. Сэрыя беларускіх паштовых марак БНР, сярод якіх ёсьць і марка з партрэтам Скарыны, была выдадзеная ў Менску ў 1918 г., нейдзе каля месяца травеня. Гэта «першая сэрыя» БНР марак. Другая, што паказалася за гады два, гэта шырэй ведамая марка з надпісам «Асобны атрад БНР»[408]. Паколькі мне

[403] Ліст адрасаваны **Янку Садоўскаму** (1926–1982), гісторыку, грамадскаму дзеячу. На той час ён жыў у Лондане і пачаў рыхтаваць дактарат філасофіі ў галіне рускай мовы і літаратуры ў Школе славянскіх і ўсходнееўрапейскіх студый Лонданскага ўніверсітэта. Янка Садоўскі спецыялізаваўся ў гісторыі ўсходнеславянскіх моваў і падрыхтаваў дысертацыю на тэму «Лінгвістычны аналіз Чатырох Кніг Царстваў, надрукаваных Францыскам Скарынам у 1518 г.» (абараніў яе ў 1967 г.).

[404] Маецца на ўвазе марка з выявай Францыска Скарыны (цёмна-рудога колеру, наміналам 2 рублі), выдадзеная Урадам БНР у 1918 г.

[405] У камплект марак БНР 1918 г., акрамя маркі з выявай Ф. Скарыны, уваходзілі таксама марка з выявай беларускага аратага на фоне ўзыходзячага сонца (намінал 5 рублёў) і марка з выявай Пагоні (намінал 3 рублі).

[406] Маецца на ўвазе артыкул: Брага, Сымон. Партрэты доктара Скарыны // Конадні. № 7. Ню Ёрк — Мюнхэн, 1963. С. 138–151.

[407] Маюцца на ўвазе маркі, выдадзеныя з ініцыятывы Прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка ў Нямеччыне ў 1949–1950 гг. Мастак — Уладзімір Шыманец.

[408] **Марка «Асобны атрад Б.Н.Р.»** была выдадзена з ініцыятывы Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі для патрэбаў атраду С. Булак-Балаховіча. Аўтар праекта — Р. Зарыньш. Маркі (сіняга, рудога, чырвонага, зялёнага, фіялетавага колераў розных наміналаў у зубцовым і беззубцовым варыянтах) былі надрукаваныя ў Латвіі ў 1920 г.

ведама, першая сэрыя, праўдападобна, не была ў практычным паштовым абароце, бо да гэтага не дапускалі нямецкія акупацыйныя ўлады. Марка-ж «Асобны атрад БНР» калі й ня мела шырэйшага, дзяржаўнага ўжытку, дык была ў карыстаньні для патрэбаў гэтага якраз «Атраду»[409].

На сэрыю першую складаюцца тры маркі: з партрэтам Скарыны, з Пагоняй і артаём. На ўсіх надпіс: *Беларус — Почта*. Марка з партрэтам Скарыны цёмна рудога колеру. На ёй рысунак Скарыны паводля ягонага партрэту ў Бібліі, толькі пад Скарынавым гэрбам дададзены надпіс: *Франьцішак Скарына з Полацка 1517–1917*, а ў левым ніжнім куце — 2 р. (2 рублі). Марка з Пагоняй, выкананая ў двух колерах — сінім і чырвоным. У ніжніх кутох яе вартасьць — 3 р. Марка з артаём у двух колерах — сінім і жоўтым. Вартасьць яе — 5 р. Пра марку з партрэтам Скарыны ў 1918 годзе ўвосені паведамлялася навет у Пецярбурскім часапісе беларускіх бежанцаў «Чырвоны Шлях»[410], які тут у Нью Ёрку ёсьць (хоць ніякага там успаміну аб выхадзе дзьвёх другіх марак). Дык гэта будзе бадай і ўсё, што магу падаць аб «Скарынавай» марцы БНР. Спадзяюся, што ўжо хутка атрымаеце яе фотаадбіткі, а некалі, магчыма, і самую марку.

Як маглі крыху ўжо заўважыць з друкаванага апошнімі гадамі, досьледы над жыцьцём і працай першага ведамага беларускага доктара мэдыцыны Франьцішка Скарыны сталі маім *«нэбэнляйдэншафт»*[411]. У пошуках за новым і няведамым аб імператрасаю бібліятэкі і архівы Эўропы і Амэрыкі. Дзякуючы мадэрнай тэхніцы мікрафільмаў і фотастатаў, седзячы ў Нью Ёрку, было магчыма раздабыць фотаадбіткі архіўных аб ім дакумэнтаў у Падуі і Кенігсбэргу, пры тым, ёсьць дакумэнты, нікому дагэтуль невядомыя, новаадкрытыя, з новымі ў іх зьвесткамі аб Скарыне (сёе-тое пра гэта ў чародным нумары «Запісаў»). Ператрос і вялізную аб ім літаратуру — каля 1000 пазыцыяў, якія часта таксама можна было раздабыць толькі з Эўропы пры помачы мікрафільмаў. Маю на мікрафільмах і каля 60 % ягоных арыгінальных кнігаў (надрукаваў ён усяго каля 4000 бачынаў). Гэта кнігі, што ляжаць у бібліятэках Эўропы або Ленінграду. Адным словам, у «скарыніяну» ўграз па вушы.

Скарыне, і некаторай іншай навукова-дасьледчай працы, аддаю ўвесь мой вольны час, якога вельмі мала, бо мушу увесь час і даволі шмат працаваць на *«хлеб штодзенны»* для сям'і. Да таго ўвесь час і роз-

---

409 Пра маркі БНР гл. больш: Карповіч, Лявон. Беларуская паштовая марка: ад вытокаў да эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 20–85.

410 **«Чырвоны Шлях»** — грамадска-палітычны і літаратурны часопіс, выдаваўся ў Петраградзе Беларускім аддзелам Наркамата па справах нацыянальнасцяў Саюза камун Паўночнай вобласці ў ліпені — снежні 1918 г.

411 ***Nebenleidenschaft*** (ням.) — тут: дадатковае захапленне.

ныя клопаты ды беды, пра якія хіба нешта Вам раскажа сп. Конюх[412], калі давядзецца пабачыцца зь ім падчас сёлетніх ягоных аб'ездаў з хорам. Асабліва востра адчуваецца нястача часу — можна было-б рабіць і друкаваць шмат, але калі робіцца гэта толькі ўрыўкамі вольнага ад працы часу, усё ідзе вельмі марудна. Хатнія справы таксама займаюць шмат сілаў — *«Малыя дзеткі — малыя й бедкі, падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі»* — кажа народная пагаворка. Дый пра гэтыя ўсё клопаты няварта і пісаць — кажны мае іх даволі сваіх.

Прывітаньні Вам усім!

31 сьнежня 1966 г.

Вельмі Паважаны Сп. Белямук[413]!

Найперш — мая падзяка за гэткую раскошную, свае собскае высокамастацкае фотавытворчасьці калядную картку[414]. Надзеюся, што тымчасам разьвіталіся ўжо на добра й із сваёй грыпай. А цяпер — да «Віцяў»[415].

Агульна беручы толькі, пажадана, каб беларусаведных часапісаў было якнайбольш. Багатыя навуковымі працаўнікамі й фінансамі народы маюць адмысловыя часапісы для археалёгіі й дагісторыі, часоў старадаўных і сярэднявечча, пары адраджэньня, часоў навейшых і сучасных. Ніхто зь беларусаў ня можа не жадаць, каб столькі-ж, ці й больш, падобных часапісаў было й прысьвечаных гісторыі беларускага народу, пад адзінаю зразумелаю ўмовай, каб яны зьмяшчалі матар'ял навукова салідна апрацаваны. Але калі ад гэтага агульнага сьцьверджаньня пярэйдзем да канкрэтыкі практычных магчымасьцяў беларусаведных выданьняў на эміграцыі, дык яны, ясна, будуць моцна ад іх розьніцца й дзеля нястачы адпаведных навуковых кадраў, і дзеля фінансавых, вельмі-ж ужо сьціплых, блізу ніякіх, магчымасьцяў.

Вось дзеля гэтага ніхто на эміграцыі як дагэтуль ня думаў выдаваць часапісы гісторыі Беларусі, абмежаваныя нейкімі порамі. Калі нейкі час і выходзіў часапіс, абмежаны толькі да савецкае пары жыцьця беларускага народу, дык былі гэта межы, накінутыя звонку чужымі выдаўцамі дый абумоўленыя кароткатрывалымі палітычнымі зацікаўленьнямі. Матар'яльных і навуковых сілаў у нас проста замала, каб выдаваць гістарычна-спэцыялізаваныя часапісы. Незважаючы на

[412] **Пётра Конюх** (1910–1994), грамадскі дзеяч, спявак. Удзельнік хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам С. Жарава. Ездзіў з гастролямі па Еўропе і Амерыцы.

[413] **Міхась Белямук** (1924–2014), грамадскі дзеяч, выдавец, гісторык. Ад 1954 г. быў старшынёй Згуртавання беларускай моладзі ў Кліўлендзе.

[414] Згуртаванне беларускай моладзі ў Кліўлендзе ў 1950-я гг. наладзіла выпуск беларускіх паштовак, што былі вельмі папулярныя сярод суродзічаў.

[415] **«Віці»** — моладзевы часопіс, выдаваны ў Нью-Ёрку Згуртаваннем беларускай моладзі і Беларускім студэнцкім таварыствам у ЗША ў 1952–1957 гг.

гэта, калі каму небудзь канечна хочацца гэта рабіць — хай выдае. Пад умоваю саліднага навуковага падыходу да справы, і ад гэтага будзе толькі карысьць.

Новы аргумэнт патрэбы гэткага часапісу — большыя магчымасьці пашырэньня за зялезнай заслонай — вельмі спрэчнае й сумліўнае вагі. Пэўна-ж, выкалацыўшы часапіс з усякага, навязваючага да сучаснасьці, зьместу, тэарэтычна перашкодаў пашырэньню такога часапісу ў СССР нібы й не павінна быць. Дый практыка паказвае нешта зусім іншае. У самой БССР да беларускага народу не дапускаюцца навет і савецкія беларускія творы ці то праз адмову іх друку дзеля нястачы *«фондаў і паперы»*, ці шляхам выдаваньня такімі малымі тыражамі, што ўжо за колькі дзён яны — бібліяграфічная рэдкасьць. Усе народы сьвету, навет і самыя прымітыўныя, маюць гэткія выданьні, як каляндар. Права на свой каляндар пазбаўлены сяньня беларускі народ — каляндар, незважаючы на ягоны зьмест. Дык ідзе тут зусім не пра тое, што і як пішыцца, а пра тое, каб ня былі пісаныя й друкаваныя па-беларуску, каб лягчэй было праводзіць ідэю й праграму царскіх чорнасоценцаў і савецкіх сучасных партыйцаў пра *«зьліцьцё ў рускае мора»* народу беларускага.

Другі бок мэдалю — думаць наіўна, што і часапіс навет нейкае археалёгіі Беларусі ці дагісторыі можа быць сяньня салідна рэдагаваны й не кранаў сучаснасьці. З мэтаю асыміляцыі беларусоў Масква на ўсю гісторыю беларускага народу, на ўсе яе поры (як і гісторыі іншых народаў імпэрыі) накідае свае вялікадзяржаўныя канцэпцыі. І салідна навукова працуючы, ніхто ня можа зь імі не сутыкнуцца, іх не заўважаць, іх абмінаць. Трэба-ж заняць становішча й выявіць ненавуковую, чыста палітычна-прапагандную мэту тэзы, для прыкладу, што ўсе народы сьвету мелі ў сваю пару й сваіх фэўдалаў, сваіх *«паноў»*, але адзін беларускі быў нейкім калекам, бо меў заўсёды толькі сваё сялянства, паны -ж былі або польскія, або лятувіскія, і дзеля гэтага *«вялікі рускі народ»* пад загадамі Івана Грознага *«вызваляў»* яго *«ад нацыянальнаг гнёту»*, выразаючы дзясяткі тысячаў палачанаў у 1563 годзе ды жыхароў шмат іншых местаў і сёлаў Беларусі. І гэта ўсё адбывалася яшчэ да Люблінскае вуніі — тэма Вашых «Віцяў». Падобнымі вялікадзяржаўнымі канцэпцыямі абстаўлена ўся гісторыя Беларусі й навет яе дагісторыя і археалёгія. Вось дзеля гэтага думаць пра магчымасьць выдаваньня нейкага навукова саліднага беларусаведнага часапісу старое гісторыі, часапісу, які не ўваходзіў-бы ў канфлікт з сучаснымі — і спрадвечнымі — вялікадзяржаўнымі тэзамі Масквы, гэта і наіўна, і нерэальна.

Наіўна таксама думаць, каб часапіс можна было шырэй распаўсюджваць за зялезнаю заслонаю. Пайсьці яго ў СССР можа мала больш гэтага, колькі дазволяць *«адпаведныя дзейнікі»* ў Маскве. Тое самае й пад Польшчаю, дзе беларусы ня то што выпісваць беларускія эміграцыйныя выданьні баяцца, але баяцца па-беларуску навет гаварыць

падчас падарожжа ў цягніку ці аўтобусе. З другога боку, і «Запісы», і «Конадні», і туды й туды ўсё-ж даходзяць. Апошні нумар «Конадняў» быў кінуты за зялезную заслону ў ліку каля 200 экзэмпляраў (толькі на адрасы часапісаў і ўстановаў, не на прыватныя адрасы), і ёсьць зусім пэўныя дадзеныя на тое, што і ў БССР яны ў нейкай найменш часьці дайшлі, былі чытаныя дый скарыстаныя (навет у друку).

Па-трэцяе, няправільна думаць, што тыя беларускія суродзічы з-за зялезнае заслоны, якія рады чытаць-бы беларусаведныя эміграцыйныя выданьні, будуць якраз цікавіцца выданьнямі, *«выхалашчанымі»* пад густ савецка-маскоўскага рэжыму. Наадварот, калі каго зь іх цікавяць гэтыя выданьні, дык цікавяць найперш тым, чаго няма й ня можа быць у выданьнях падсавецкіх. Важна толькі тое, каб пададзеныя думкі й факты былі салідна навукова абгрунтаваныя, а ня нейкія звычайныя эміграцыйныя агіткі.

Гістарычнае заданьне беларускае, як і кажнае іншае палітычнае эміграцыі, тварыць і публікаваць найперш тое, што чужы антынародны палітычны рэжым не дазваляе рабіць на землях бацькаўшчыны. Яно ў гісторыі не загіне й будзе мець сваю вартасьць. Рабіць-жа наадварот — гэта значыць не разумець сэнсу свайго існаваньня на эміграцыі й сваіх заданьняў — а гэтага ўжо гісторыя ніколі не даруе. Калі зводзіць сваю навуковую дзейнасьць за межамі СССР толькі да таго, што дазваляе савецка-маскоўская цэнзура ў СССР — губляе яна ўсякі сэнс. Гэта зробяць і нашы суродзічы пад ботам Масквы, і часта лепш за нас, бо маюць сякі-такі беспасярэдні доступ да жаролаў. Найбольшы націск на АН БССР і Маскву можа рабіць салідная навуковая праца й праца, незалежная ды непадстрыжаная пад густы сучасных савецкіх цэнзараў. Сіла-ж *«націску»* выданьняў, падведзеных пад лінію гэтае Масквы, — ніякая, нуль.

А цяпер у справе *«Франьцішак — Георгі»*. Пра гэта ў «Беларусе» я ніколі не пісаў. Пісаў там як справаздачу з майго рэфэрату ў Інстытуце на гэтую тэм нехта іншы. Напісаная на гэтую тэму праца, падмураваная жароламі й літаратурай, друкуецца (ці мо’ ўжо надрукаваная) у чароднай кніжцы «Запісаў»[416]. Выйдзе яна і асобнаю адбіткаю, кніжыцаю бачынаў каля 40[417]. Дастане яе і АН БССР, усе іншыя важнейшыя ўстановы й часапісы БССР. Дык я ўжо напісаў і друкую ўсё, што ў гэтым пытаньні ўважаю за важнае й патрэбнае, і больш пісаць, паўтарацца ня бачу сэнсу. Калі-ж нехта ўважае за патрэбнае папулярызаваць факты й думкі гэтае працы — можа рабіць гэта на падставе мае працы,

---

416 Маецца на ўвазе тэкст: Брага, Сымон. Пытаньне імя Доктара Скарыны // Запісы БІНіМ. № 4 (10). Мюнхен, 1966. С. 184–216.

417 Гл.: Брага, Сымон. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. У 450-я ўгодкі беларускага друку. Ню-Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1967. — 38 с.

пішачы большыя ці меншыя скароты, пераказы, дапаўненьні ці й зусім незалежныя меркаваньні.

Дый побач актавага й фактаграфічнага насьвятленьня пытаньня, разгледжаная гісторыя таго, скуль і чаму зьявілася падсавецкае настырлівае перахрышчэньне Скарыны з Францішка ды ў Георгія. Зь якіх меркаваньняў і для якое мэты гэта робіцца. А гэта ўжо — сучаснасьць, вельмі важная і актуальная сучаснасьць, якая ў рамкі Вашых «Віцяў» ніяк не ўкладаецца. Адразаць гэта, каб дагаджаць валадарам сьвету зачыненага за залезнаю заслонаю, не зьбіраюся. Калі нехта іншы хоча гэта зрабіць — гэта ягоная справа. Дый думаю, што й падсавецкага чытача гэта якраз таксама вельмі цікавіць.

Вось дзеля ўсяго гэтага, хоць, паўтараю, усякае новае салiднае навукова выданьне — і ў сьвеце вольным, і ў межах савецкае імпэрыі — трэба толькі вітаць, дык да думкі выдаваньня нейкага часапісу, адмыслова дастасаванга да цэнзуры антынароднае савецкае дыктатуры, стаўлюся становўка нэгатыўна. У навуковай працы існуе толькі адно галоўнае й найважнейшае вымаганьне: апірацца на дакумэнтах, актах, фактах і выяўляць праўду. Ці гэтая праўда дагаджае сучасным чырвоным царом Беларусі, ці не — гэта іхная справа, мы-ж да яе абавязаныя. На гэта мы маем тут свабоду слова, друку, хоць, нажаль, мізэрныя матар’яльныя магчымасьці, і з гэтае свабоды маем абавязак скарыстаць.

Вось бадай будуць і ўсе важнейшыя мае *«меркаваньні»*, зьвязаныя з кранутаю Вамі тэмаю.

З пашанаю да Вас

22 лютага 1967 г.

Высокапаважаны Спадару Рэдактару[418]!

Найперш дазвольце выказаць маю падзяку Вам і Вашай Паважанай Спадарыні за ветлае прыняцьцё і разам перапрасіць, што аж гэтак доўга ў Вас замарудзіў. Спадзяваўся прабыць усяго пару гадзінаў, ды ў цікавай гутарцы й неагледзіўся, як прасядзеў увесь божы дзень. Другім разам пастараюся папрaвіцца.

Мушу таксама сказаць, што з аднаразовага *«знаёмства»* з Вашым сэрцам, незважаючы на крыху павялічаны ціск, маю добрае ўражаньне. Ногі, затое, відавочна будуць яшчэ ня раз прычынаю клопатаў: курэньне трэба зрэдукаваць і найлепш да нуля. Яно заўсёды вельмі блага адбіваецца на цыркуляцыі, і асабліва ног.

Удзячны вельмі за дасланую «Кропку над І»[419] — яна вельмі на часе, і вельмі важкая трагэдыя беларускае літаратуры й беларускага наро-

[418] Гэты і наступныя лісты з аналагічным зваротам адрасаваныя Юрку Віцьбічу.

[419] Артыкул не ідэнтыфікаваны.

ду. Удзячны таксама за выпіску цікавае ацэны Гарэцкага апавяданьня Хурсіка пра Скарыну дый удакладненьне месца выхаду «Надзьвіньня»[420]. Выбачайце, што мушу ізноў зьвярнуцца з новым пытаньнем да тае самае *«памяці»*: ходзе пра прозьвішча мастака таго, зьнішчанага, гіпсовага бюсту Скарыны, што быў у Віцебскім Музэі, а фатаграфію якога мне ласкава пазычылі. У брашуры «Каталёг 1-й Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі», Менск, 1925 г., пададзена: *«Бразэр Абрам Маркавіч*[421]*, радз. у Кішэнёве ў 1892 г. — Бюст Францышка Скарыны. Гіпс»*. Пра нейкую падобную скульптуру Азгура[422] згадкі ў каталёзе няма. У 1926 г. у Менску вышла навет і брашура тагосамага А. Бразэра «Першы беларускі друкар Францішак Скарына». Вось дзеля гэтага й мая просьба, каб праверыць у *«памяці»*, ці на фатаграфіі бюст Скарыны напэўна Азгура, ці, часам, можа гэта работа А. Бразэра, які моцна цікавіўся ўжо ад 1925 году Скарынам, што ня толькі стварыў гіпсовы яго бюст, але выдаў пра яго й кніжку.

Што да прошаных Вамі інфармацыяй пра фотазборы актаў аб Скарыну, дык гэта мо’ ўжо само-сабой заладзілася, бо хіба-ж гэтым часам дайшоў да Вас чародны «Абежнік БІНіМ»[423], дзе даведка пра гэта. Усё-ж, на ўсякі выпадак, падаю тут інфармацыю крыху шырэйшую. Буду рады, калі прыдасцца:

Тры ўнівэрсытэцкія падуанскія запісы з 1512 г. адкрыў, яшчэ ў 1892 г., польскі дасьледнік італіянскіх архіваў др. Станіслаў Віндакевіч. Дазнаўшыся пра гэта, у тым-жа годзе перапісаў іх і тэкст апублікаваў дасьледнік расейскі І. Шляпкін. Дык адкрытыя яны ўжо 75 год таму. БІНіМ мікрафільмы іх атрымаў з Падуі яшчэ ў 1960 годзе (пры помачы й пасярэдніцтве рэдактара «Зьніча»[424], які *«па дарозе»*, не пытаючыся згоды, перадрукаваў іх у сваім часапісе). Ужо ў 1963 годзе фатаграфіі актаў гэтых былі на Скарынавай выстаўцы БІНіМ у Нью Ёрку. У тым-

---

[420] *«У першым зборніку віцебскае філіі Маладняка “Наддзьвіньне” (1926 г.) зьмешчана даўгое апавяданьне Хурсіка “Францішак Скарына”. Яно вызначаецца ўжо тым, што гістарычнае, бо гістарычных твораў у беларускай літаратуры вельмі мала. Апісваецца тут 1580 год Вільні. Сюжэт у ім вельмі цікавы, тыпы выразныя, гістарычны тон даволі вытрыманы. Недахопы: грубы натуралізм і вульгарнасьць некаторых месцаў, залішняя шаржыроўка ў апісаньні жыцьця манахаў і некаторая, ня зусім мастацкая, тэндэцыйнасьць у аўтарскім падыходзе наогул»* (Гарэцкі, Максім. «Маладняк» за пяць гадоў. 1923–1928. Менск, 1928. С. 116).

[421] **Абрам Бразер** (1892–1942), скульптар, графік, жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

[422] **Заір Азгур** (1903–1995), скульптар, народны мастак Беларусі і СССР.

[423] **«Абежнік. Беларускі інстытут навукі й мастацтва»** — інфармацыйны бюлетэнь, рэдагаваны Вітаўтам Тумашам, што выходзіў у Нью-Ёрку у 1953–1969 гг.

[424] Маецца на ўвазе Пётра Татарыновіч.

самым 1960-м годзе, у выніку пошукаў, праведзеных зь ініцыятыву БІНіМ, былі ў Падуі знойдзены і тры іншыя архіўныя запісы пра Скарыну, перад тым нікому невядомыя, запісы ў архіве Падуанскай біскупскай курыі. Пра гісторыю адкрыцьця Скарынавых падуанскіх актавых запісаў даведку можна знайсьці ў маёй працы «Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны», б. 11–12 і 17–18[425]. Калісьці я Вам яе дасылаў.

Апрача падуанскіх актаў, у зборах «Скарыніяны» БІНіМ ёсьць і мікрафільмы ды фатаграфіі і 4-х лістоў прускага герцага Альбрэхта пра доктара Скарыну з 1530 году, якія калісьці перахоўваліся ў архіве ў Кёнігсбэргу. Тэксты іх ужо ў 1918 г. апублікаваў Мілавідаў[426], але фатаграфіі арыгінальных запісаў нідзе не публікаваліся й наўрад ці нехта іх меў (гл. тамсама, б. 12–13).

У студзені-ж селётняга году із старасховаў Польшчы атрыманыя фатаграфіі й неапублікаваныя нікім й нідзе (хоць пра існаваньне іх і было ведама, гл. б. 14) яшчэ 14 актавых запісаў пра доктара Скарыну. Дык у зборах БІНіМ сяньня ёсьць мікрафільмы ці фатаграфіі звыш дваццаці актавых запісаў пра доктара Скарыну, шмат з чаго нідзе неапублікавана, а некаторыя й цяпер толькі адкрытыя.

Вось бадай і ўсё важнейшае, што коратка можна сказаць пра сучасную фатаграфічную калекцыю актаў пра доктара Скарыну ў нашым Інстытуце. Калі будуць патрэбныя нейкія дадатковыя інфармацыі — рад буду імі служыць.

Прывітаньні Вам і Вашай Паважанай Спадарыні!

У глыбокай пашане Ваш

28 лютага 1967 г.

Вельмі Паважаны Рэдактару!

Удзячны за Ваш ласкавы ліст з 24.2.67, багаты думкамі й справамі. Найперш мая шчырая падзяка за дасланую выпіску із гісторыі Шчарбакова[427]. У маім вялікім зборы «скарыніяны», якая набліжаецца да паўтары тысячы, яе якраз яшчэ нехапала сярод усяе іншае бібліяграфіі пра Скарыну. А цяпер да *«справаў»*.

---

[425] Брага, Сымон. Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1965. — 31 с.

[426] Гл.: Миловидов, А. Новые документы, относящиеся к биографии Франциска Скорины // Известия Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. Т. 22. Петроград, 1918. С. 221–226.

[427] **Васіль Шчарбакоў** (1898–1938), гісторык, доктар гістарычных навук, правесар. Тут маецца на ўвазе выданне: Шчарбакоў, В. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мінск, 1934. — 240 с. Сярод іншага, тут пісалася: *«Скарына й да яго падобныя на кастрах не спальваліся й якіх-небудзь ганеньняў з боку пануючага класа на іх мы ня ведаем. Гэта значыць, што іх ідэі ня йшлі ў разрэз з інтарэсамі гэтага класа»* (С. 164–166).

Вашую фатаграфію бюсту Скарыны аддаў нашым адмыслоўцам для *«рэстаўрацыі»*, і гэта зойме крыху часу. У справе мастацкага аўтарства скульптуры магу сяньня пацьвердзіць, што Вашая памяць у найлепшым тут парадку: натрапіў на вопіс гэтае скульптуры ў самога Азгура. Ён у сваіх успамінах (Заір Азгур. Незабыўнае. Дзяржаўнае Выдавецтва БССР. Мінск, 1962, б. 241–242) піша: *«У 1925 годзе я працаваў... над партрэтам Георгія Скарыны. Мае ўяўленьні аб гэтым чалавеку складаліся на аснове іконаграфічнага й літаратурнага матар'ялу. Што я шукаў у яго абліччы і ў самой лепцы? Я ведаў, што Георгій Скарына і вучоны, і мастак, і сьмелы шукальнік, які ня ведаў ні стомы, ні перашкод у сваёй навуковай дзейнасьці. Таму, лічыў я, твар ягоны павінен быць крыху фанатычны, трэба паказаць агонь, які гарэў у яго ў вачах, мэту, якую ён бачыў. А па форме гэта мусіў быць зьбіральны вобраз. У ім павінен быў відаць Полацк, грамадзяне гэтага горада, сярод якіх ён рос, якіх ён бачыў і ў якіх вучыўся быць Скарынай. Такім я ўяўляў сабе Скарыну».*

Столькі Азгур. З гэтых словаў вынікае, што ў 1925 г., калі ён над скульптурай працаваў, відаць, яна яшчэ ня была гатоваю, каб зьявіцца на Ўсебеларускай мастацкай выстаўцы, і дзеля гэтага каталёг выстаўкі згадвае толькі скульптуру Бразэра.

Што да гісторыі раскрываньня архіўнае «скарыніяны», дык Пічэтава[428] «Скарыніяна»[429] запраўды вельмі вартасная, але і яна мае свае *«але»*. Найперш той расейскі пераклад зь беларускага арыгіналу ў «Чатырохсотлецьці беларускага друку», што зьмешчаны ў кнізе «Белоруссия и Литва»[430], мае пропускі. Для прыкладу, перакладнікі ўважалі за патрэбнае выпусьціць зусім крытычныя заўвагі Пічэты пра выказваньні аб Скарыну Ігнатоўскага і Ластоўскага, яўна дзеля таго толькі, што абодва гэтыя аўтары ў БССР яшчэ ўсё не *«рэгабілітаваныя»*. Другое *«але»* гэта тое, што Пічэтава «Скарыніяна» канчаецца годам свайго напісаньня — 1926 годам — а пачынаючы ад гэтага самага году зьявіліся новыя архіўныя адкрыцьці і вельмі паважныя — ад 1926 году да сяньня выяўлена каля 20-ці новых архіўных дакумэнтаў і летапісных запісак пра Скарыну, пра якія Пічэта яшчэ нічога ня ведаў. Ня шмат пра іх знаюць і сучасныя *«падсавецкія»* аўтары — Васілёнак[431], Галёнішчаў-

[428] **Уладзімір Пічэта** (1878–1947), гісторык, археолаг, педагог, заслужаны прафесар БССР, акадэмік АН БССР.

[429] Гл.: Пічэта, У. Scoriniana. 1776–1926 // Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925. Менск, 1926. С. 284–327.

[430] Гл.: Пічэта, У. Scoriniana. 1776–1926 // Пичета, В. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. Москва, 1961. С. 731–788.

[431] **Сяргей Васілёнак** (1902–1982), літаратуразнавец, гісторык, фальклярыст. Сярод іншага апублікаваў артыкул: Василенок, С. Георгий Скорина // В мире книг. № 5. Москва, 1965. С. 41, дзе робіць акцэнт на тым, што Скарына *«называет себя русским, и говорит, что пишет русским языком для пользы и просвещения русского народа»*.

Кутузаў[432], Барысенка[433], а некаторыя факты й сьведама прамоўчваюць, як, прыкладам, пра выяўлены факт спаленьня Скарынавых кнігаў князем маскоўскім Васілём Іванавічам[434] (пра гэта шырэй у маёй працы «Доктар Скарына ў Маскве»[435]). Толькі пара падсавецкіх аўтараў асьмелілася тымчасам пра гэта згадаць. Дзякуючы новым архіўным адкрыцьцям, а найбольшыя заслугі ў гэтай галіне належаць праскаму прафэсару А. Флароўскаму[436] і — БІНІМ'у — шмат «белых плямаў» жыцьцяпісу доктара Скарыны запісаныя ўжо канкрэтнымі фактамі. Пра працяг Пічэтавай «Скарыніяны» — *Scoriniana nova* — скарыніяны за гады 1926–1965 я чытаў рэфэрат у БІНІМ пры канцы 1965 г. (справаздача гэтага ў «Беларусе»[437]). Сёлета, праўдападобна, гэты агляд новае скарыніяны будзе надрукаваны ў скарынінскім зборніку БІНІМ, які плянуецца[438]. З другога боку, пры канцы мінулага году на тую самую тэму артыкул напісаў і А. Флароўскі (зь якім я ў перапісцы[439]). Ягоны артыкул мае друкавацца ў скарынінскім зборніку АН БССР[440], хоць, як аўтар піша, ён няпэўны, што зь яго менскія рэдактары й цэнзары ня выкінуць і ня *«изымуть»* ягонае паведамленьне пра новыя архіўныя адкрыцьці ў галіне скарыніяны БІНІМ'у. Вельмі кароткі, але мадэрны агляд новае архіўнае скарыніяны дадзены ў маёй «Лякалізацыі»[441] (разам з гісторыяй і старых адкрыцьцяў), хоць і яна, пісаная блізу 3 гады таму, у некаторых фактах ужо крыху *«перастарэла»*, бо за гэты час зьявіліся й новыя дакумэнты, пра якія я яшчэ ня ведаў.

---

[432] **Ілля Галянішчаў-Кутузаў** (1904–1969), рускі і савецкі філолаг, паэт, перакладчык, даследчык літаратуры эпохі Рэнесансу. Сярод іншага пісаў пра гуманізм ва ўсходніх славянаў, дзе згадваў Францыска Скарыну.

[433] Маецца на ўвазе **Васіль Барысенка** (1904–1984), літаратуразнавец, крытык, педагог, акадэмік АН БССР.

[434] **Васіль III Іванавіч** (1479–1533), вялікі князь маскоўскі (1505–1533), бацька Івана IV Грознага.

[435] Брага, Сымон. Доктар Скарына ў Маскве. Нью-Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1963. — 32 с

[436] **Антон Флароўскі** (1884–1968), гісторык, славіст. Ад 1920-х гг. жыў і працаваў у Празе. Доктар гістарычных навук Чэхаславакіі.

[437] Гл.: Б. С. 425 год ад сьмерці доктара Скарыны // Беларус. № 104–105. Лістапад — сьнежань 1965. С. 7.

[438] Насамрэч згаданы агляд быў апублікаваны пазней. Гл.: Тумаш, Вітаўт. Skoriniana nova 1926–1966 // Запісы БІНіМ. № 5. Мюнхэн, 1970. С. 145–180.

[439] Ліставанне Вітаўта Тумаша з Антонам Флароўскім было апублікавана. Гл.: Антон Флароўскі й Вітаўт Тумаш. Скарыніяна ў ліставаньні. Лісты 1965–1968 гг. // Запісы БІНіМ. № 18. Нью Ёрк, 1988. С. 26–82.

[440] Гл.: Флароўскі, А. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск: АН БССР, 1968. С. 389–433.

[441] Маецца на ўвазе публікацыя: Брага, Сымон. Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісаў доктара Скарыны // Запісы БІНіМ. № 3. Мюнхэн, 1964. С. 9–34.

Вось уся новая актавая літаратура выясьніла ўжо колькі важных, раней спрэчных пытаньняў скарынавага жыцьцяпісу дый запоўніла колькі *«белых плямаў»*, а між імі і кінула некаторае сьвятло на тое, дзе Скарына быў і што чыніў у гадох перад 1512 годам. Як падаецца ў нававыяўленым БІНІМ'ам падуанскім акце, перад сваім прыездам у Падую ён быў *«сакратаром караля Даніі»* (першая вестка пра гэта ў маёй «Лякалізацыі...», б. 17–18). Далей ведама сёньня напэўна, што ў Вільні друкарня Скарыны ніколі не гарэла й не згарэла, як часта можна сустрэць у ранейшай скарынаведнай літаратуры (гэта, здаецца, паўторана і ў Вашым каштоўным нарысе «Вялікі сын...»; на жаль, тэксту яго ня маю, хоць ён і друкаваўся ў розных часапісах колькі разоў[442], — цьвержу гэта з памяці, хоць яна ў мяне часта й моцна кульгае!), і як любяць усюды падаваць сучасныя *«падсавецкія»* аўтары, хоць, адначасна, пра паленьне кнігаў Скарыны ў Маскве ня згадваюць ні слова. Дрэварытныя дошчачкі й шрыфты Скарыны перахоўваліся дбайна ў Вільні пры Сьвятатраецкай царкве (той самай, якую з удзячнасьцю за перамогу над *«супастатам веры хрысьціянскай»* пад Воршай гэтман вялікі літоўскі Канстантын Астроскі[443]) і пачынаючы ад 1595 году ізноў скарыстоўваюцца пры друку кнігаў, выдадзеных Сьвятатраецкім Брацтвам (да прыкладу, «Лексіса»[444] Зызанія, дый іншых), скарыстоўваюцца заставіцы навет із арыгінальным Скарынавым гэрбам — маладзіку ў сонцы. Дык Скарынавай друкарні, ані кнігаў, за ягоным жыцьці ніхто ў Вільні не паліў, яны там тады не гарэлі, хоць гарэлі, публічна, з адчытаньнем анатэмы царкоўнай, у Маскве. Нававыяўленыя матар'ялы не адкідаюць магчымасьці й сустрэчы Скарыны зь Лютэрам. Гэта праўда, што ў 1525 г. было гэта немагчыма, але, як сам Лютэр кажа, другі раз да яго зьявіўся нейкі вучоны доктар з усходу *«сем-восем год пазьней»*, ці каля 1533 г., а тады якраз Скарына быў і ў Познані, і ў Кракаве, непадалёк ад Вітэмбэрга, дык адкідаць становішча гэтага ня можна, хоць, тымчасам, не хапае й пацьверджаньня сустрэчы (і пра гэта ў маёй «Лякалізацыі...», б. 21–23). Нейкая канфіската Скарынавых кнігаў напэўна адбылася ў Вроцлаве, гэта таксама новае ў Скарынавай біяграфіі («Лякалізацыя...», б. 23–26).

---

442 Маецца на ўвазе тэкст: Вялікі сын вялікага народу (Францішак Скарына) // Літаратура і Мастацтва. 17 травеня 1941; Беларуская газэта. № 40 (238). 20 травеня 1944; № 41 (239). 24 травеня 1944; Раніца. № 30–31 (192–193). 30 ліпеня 1944; № 32 (194). 6 жнівеня 1944; № 34 (196). 20 жнівеня 1944; Шыпшына. № 4. 1947. С. 31–35; Аб'еднаньне. 1949.

443 **Канстанцін Астрожскі** (1460–1530), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, вялікі гетман літоўскі (1497–1500, 1507–1530), пад кіраўніцтвам якога была атрымана перамога ў бітве пад Оршай (1514).

444 Маецца на ўвазе кніга Лаўрэнція Зізанія «Лексис…», выдадзеная ў Вільні ў 1596 г.

Што да году нараджэньня Скарыны, думка Вашая правільная, што *«Шчакаціхін меў рацыю»*, гаворачы аб 1486 г.[445] Праўда, сам Шчакаціхін пазьней адрокся свае гіпатэзы пра сувязь гэтага нараджэньня з зацьменьньнем сонца ў гэтым годзе, але гэта не перашкаджае таму, што ён напэўна быў куды бліжэй праўды з сваім годам 1486-м, як сучасныя падсавецкія аўтары з 1490-м. Гэты год — вынік з хвальшывае інтэрпрэтацыі Валадзімірава[446], які казаў толькі, што год 1490-ы найпазьнейшы магчымы, але ніколі ня цьвердзіў, што гэта і ёсьць год нараджэньня. І пра гэта я меў ужо рэфэрат тут (якім людзям вушы ўжо намазоліў, гаворачы ўсё пра Скарыну[447]), і ў сялетнім зборніку мае друкавацца й мой артыкул «Калі нарадзіўся й памёр доктар Скарына»[448]). Калі год сьмерці ўжо выясьнены, 1540-ы, другая палова году, дык у справе нараджэньня я трымаюся азначэньня *«1485?»*. Гэта блізу той самы час, пра які думаў і Шчакаціхін, толькі закруглены да пяцёркі, паколькі, пры нястачы дакладнага году правіла закругліваньня вымагае трымацца або пяцёрак, або дзясятак, а ня іншых лічбаў. Вось дзеля гэтага ў сваіх артыкулах пра Скарыну я трымаюся заўсёды датаў: 1485?—1540.

Дык, калі агульны абраз Скарыны як выдатнага дзеяча культуры й застаўся ў васнове тойсамы, які быў сорак год таму, за часоў Пічэтавай «Скарыніяны», толькі яшчэ падрос і змагутнеў, дык у часьці фактаграфічнай існуе значны поступ і шмат чаго раней няведамага сёньня выясьнена, і ў гэтым наш БІНІМ бясспрэчна наперадзе за АН БССР, якая валачэцца далёка ззаду. У гэтым трагічны адбітак тае сталінскае пары, калі пра Скарыну, *«ворага народу»* і *«нацдэма»*, і згадваць было небясьпечна. У выніку, ад 1928 г., калі Скарына быў паддадзены партыйнай анатэме, у Маскве, не зьявілася ніводнай адмысловае працы, навет артыкулу пра Скарыну, у цэлым СССР ня было выяўлена ня толькі ніводнага, датычнага яго, акту, але і ніводнага жыцьцяпіснага новага факту. Менск займаецца цяпер, пасьля зьняцьця анатэмы, толькі новым прапагандным перажоўваньнем старых, даўно ведамых, фактаў дый убудоўваньнем Скарыны ў свае вялікадзяржаўныя канцэпцыі *«адзінства»* з рускім народам. Пра ўбудаваньне яго ў *«марксысцкія»*

[445] Маецца на ўвазе публікацыя: Шчакаціхін, Мікола. Калі радзіўся Францішак Скарына // Полымя. № 5. 1925. С. 148–151.

[446] Магчыма, маецца на ўвазе згадваная вышэй праца Пятра Уладзімірава *«Доктор Франциск Скорина: его переводы, печатные издания и язык»* (СПб., 1888).

[447] Пра рэферат В. Тумаша «Калі нарадзіўся й памёр доктар Скарына» было напісана: Б. С. У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва // Беларус. № 110. 1966. С. 1.

[448] Публікацыя артыкула з гэткай назвай не выяўленая.

догмы дбаецца апошнім часам куды менш — ня гэта сяньня важна для Масквы. Калі *«скарыніяна»* ўсё-ж далей расла, гэта найперш дзякуючы гэткім вучоным, замежным, як Флароўскі. Сёе-тое апошнімі гадамі робіцца праз БІНІМ. АН БССР тут напэўна ў хвасьце. Навет і пра падуанскі партрэт Скарыны даведаліся ў Менску толькі дзякуючы БІНІМ. Падчас побыту ў Нью Ёрку Глебкі[449] яму была ўручаная апошняя кніга «Конадняў», дзе рэпрадукцыя падуанскага партрэту. Глебка вельмі гэтым зацікавіўся й сказаў, што пры першай нагодзе папросіць, каб нехта, едучы ў Італію, сфатаграфаваў гэты партрэт, што й было зроблена.

Пры канцы даўгога нязвычайна ліста не магу абмінуць маўчаньнем і яшчэ аднаго аўтара і *«аўтарытэта»* пра Скарыну, пра якога згадка ў Вашым апошнім лісьце — сп. Пануцэвіча[450]. Ягоны артыкул у «Б. Ц.»[451], №14[452] мне вельмі добра ведамы. Каб найменш займаць ім часу, зьвярну ўвагу толькі на тры мамэнты: найперш, Пануцэвіч шмат там падае пра Скарынавыя заслугі ў галіне беларускай лексікаграфіі — але гэта ўсё, пераважна слова ў слова, перапісана з працы: Суднік, М. Р. Гісторыя ўзьнікненьня і этапы разьвіцьця беларускай лексыкаграфіі старажытнай пары. Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Выпуск IV. Мінск, 1957, б. 62–122, хоць аўтар «Б. Ц.» сьпісаных бачынаў ня толькі не бярэ ў чужаслоў, але не дае й ніякое бібліяграфічнае зноскі, скуль сьпісана. Каб аўтар, Суднік[453], жыў у нашым заходнім сьвеце, а не сваім *«савецкім»*, які сябе паставіў вонка ўсякіх міжнародных аўтарскіх умоваў, дык ён меў-бы права падаць рэдактара «Б. Ц.» у суд за чысты плягіят, а да гэтага яшчэ і абязьвечаньне свае каштоўнае працы гэткімі недарэчнымі дадаткамі ўжо самога Пануцэвіча, як, для прыкладу, тое, што расейскае слова *«крогля»* выводзіцца не ад слова *«крыць»*, а ад *«крыві»*! Далей перапішчык чужых працаў з падобнай аўтарытэтнасьцяй, як Алексютовіч[454] пра «Эгрэгіюс», заяўляе, што мова Скарыны — не беларуская мова: *«Гаварыць, што Скарына пераклаў біблію на беларускую мову... ня прыходзіцца»*. Тымчасам Карскі, аўтарытэт бясспрэчны ў

[449] **Пятро Глебка** (1905–1969), паэт, драматург, перакладчык, акадэмік АН БССР. У 1964 г. удзельнічаў у працы Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку, калі і атрымаў згаданы асобнік альманаха «Конадні» (№ 7).

[450] **Вацлаў Пануцэвіч** (да эміграцыі **Папуцэвіч**, псеўданім **Мікола Волацiч**, 1910–1991), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог. Ад 1949 г. жыў у Чыкага (ЗША). Быў рэдактарам часопісаў «Беларуская Царква», «Літва».

[451] **«Беларуская Царква»** — рэлігійны часопіс, што выходзіў у Чыкага ў 1956–1965 гг. пад рэдакцыяй Вацлава Пануцэвіча.

[452] Маецца на ўвазе тэкст: Пануцэвіч, Вацлаў. Некаторыя заўвагі да мовы Пранціся Скарыны // Беларуская Царква. № 14. Чыкага, 1959. С. 27–42.

[453] **Міхаіл Суднік** (1910–1995), мовазнавец, заслужаны дзеяч навукі БССР.

[454] **Мікалай Алексютовіч** (1921–1967), гісторык, аўтар кнігі «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд» (Мінск, 1958).

галіне мовы й беларускай, і царкоўнаславянскай, і адначасна абвешаны залатымі мэдалямі ня толькі за свае каштоўныя працы, але бясспрэчна й за вернасьць царскаму ўраду й Расеі, і якому закінуць ніяк ня можна, што ён нагінаў праўду да густаў *«беларускіх сэпаратыстаў»*, пра гэтую самую мову Скарыны вось што кажа: *«аснова мовы народная, беларуская»*. Скарына, міжіншым, выдаваў літургічнага ўжытку кнігі й па-царкоўнаславянску, як, для прыкладу, «Псалтыр», «Апостала», малітвы акафіста ў Малой падарожнай кніжыцы, хоць мова гэтых кнігаў закрашаная моцна беларушчынай. Але гаварыць пра мову біблійных кнігаў, што яна царкоўславянская, можа толькі той, хто мовы царкоўнаславянскай ня ведае. Дый і гэта яшчэ не найгоршае ў артыкуле рэдактара «Б. Ц.», бо-ж падобна пісалі й некаторыя іншыя аўтары, хоць-бы, для прыкладу, антыбеларускі Вакар[455]. У гэтым самым артыкуле ён піша таксама: *«Скарына выконваў даручэньне ўраду В. Кн. Літоўскага, накіраванае на ўсход у часе агульнай заходнеэўрапэйскай і папскай кампаніі, уключыць Маскву ў антытурэцкую лігу ды з’яднаць Маскоўшчыну з каталіцкай Літвой»*! Гэтак Скарына зьведзены да мізэрнай ролі агэнта папы й Ватыкану (праз урад ВКЛ) да справы «наварачваньня» на каталіцтва Масквы — агента вуніі! Гэты чыкагскі перапішчык чужых працаў ня першы, пэўне-ж, раз зводзіць усё да свае вуніі — гэтак зрабіў і із Скарынам. Калісьці, гадоў ці ня дзесяць таму, калі чытаў трэцюю частку трылёгіі М. Клімковіча[456] «Георгій Скарына», кінуў яе, не дачытаўшы, калі дайшоў да тога месца, як прысланы ў Вільню дзяк маскоўскага прыказу Іван Фёдароў, ён-жа пазьнейшы маскоўскі першадрукар, дае Скарыну даручэньне падчас прабываньня ў Прусіі правесьці патрэбны Маскве разьведачны шпіянаж пра тамашнія настроі. Скарына заданьне прыймае і абяцае *«далажыць»* аб патрэбным у Маскву. Гэткі *«мастацкі»* задум паказаць выдатнага першадрукара Маскоўшчыны ў ролі нейкага *«шэфа»* замежнае разьведкі, а Скарыну ў ролі ягонага агента, да нейкай меры зразумелы ў мазгох Клімковіча, гадуна тае, прасякнутае агентамі і агентурамі сыстэмы ў сталінскую асабліва пару, ад якое пацярпеў і сам Клімковіч, застаўшыся на ўсё жыцьцё з нясьцетрым кляймом — рубцом на падрэзанай шыі[457]. Дый Клімковіч рабіў гэта ў выкананьні партыйнага абавязку зьвязаць беларускі народ і Скарыну ў вялікадзяржаўнае *«адзінства»*

---

[455] **Нікалас Вакар** (англ. *Nicholas P. Vakar*, 1894–1970), амерыканскі даследчык, аўтар працы *«Belorussia: The Making of a Nation»* (Harvard U. Press, 1956).

[456] **Міхась Клімковіч** (1899–1954), паэт, драматург, празаік, крытык, аўтар драматычнай трылогіі «Георгій Скарына».

[457] Вядома, што ў 1937 г. Міхась Клімковіч спрабаваў скончыць жыццё самагубствам.

зь *«вялікім рускім народам»*. Ніколі я не чакаў, што нехта будзе пробаваць у падобны спосаб зводзіць да аналягічнага *«адзінства»* Скарыну й на вольным сьвеце, адзінства з папай і Ватыканам, ды выводзіць яго ў ролі звычайнага прапаганднага агента іхнай тагачаснай *«кампаніі»*! Праўда, у гісторыі «скарыніяны» і гэта не навіна. Як Пічэта ці ня ў той самай сваей Скарыніяне, падчырквае, што яшчэ ў 1868 годзе нейкі аўтар з кругоў чарнасоценна-праваслаўных, «Белорусс» выводзіў Скарыну таксама як агента караля Жыгімонта[458]! Гэта той самы, здаецца, аўтар, які пісаў пра імя «Георгі» ў Крестным календары 1873 г.[459], пісаў ананімна.

У Айнштайнавай канцэпцыі сфэрычнае будовы сусьвету, сусьвету закончанага, але неабмежаванага, прыймаецца цьверджаньне, што калі зь нейкага пункту сусьвету два касманаўты накіруюцца ў касьмічнае падарожжа ў дыямэтральна супроцьлежным кірунку, дык, пасьля безьлічы сьветлавых гадоў часу сустрэнуцца ізноўка ў нейкім іншым пункце гэтага-ж сусьвету. Нешта падобнае й з тымі аўтарамі, што цягнуць быццам у дыямэтральна супроцьлеглыя бакі — адны на Усход, другія на Захад. Раз-за-разам даводзіцца ім, у лабавым судары і із зьдзіўленьнем пераканацца, што ў запраўднасьці стаяць яны на тых самых пазыцыях. Істота гэтага адзінства ясная: і тыя, і тыя выходзяць не самастойна з фактаў і запраўднасьці гісторыі беларускага народу, а з усприняйтых рабскіх заходніх ці ўсходніх чужых канцэпцыяў. Стуль і Скарына і тым, і тым ня нейкая свая беларуская веліч, а ўсяго раб-«агент» ці то Усходу, ці Захаду. Сьляпні гэтыя ня ў стане навет і асэнсаваць таго, што ня гэта гістарычная запраўднасьць, а гэта толькі люстравы й дакладны адбітак іхнае-ж рабскае псыхалёгіі і ідэалёгіі.

Гэтымі меркаваньнямі пра ведамага чыкагскага вучонага й закончу свой гэты ліст. Вінаваты, што ліст гэтак выдаўжыўся, што займе Вам поўдня часу, калі наважыце яго прачытаць да канца. Ізноў абяцаю на будучыню паправіцца. А тымчасам мае прывітаньні зь Нью Ёрку Вам і Вашай Спадарыні!

З пашанаю

---

[458] **Жыгімонт I Стары** (1467–1548), вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1506–1548).

[459] У складзенай Вітаўтам Тумашам бібліяграфіі «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны XVI–XX» (Ню Ёрк, 1989) ёсць пазіцыя: [Гатцук, А.] Франциск Скорина, первопечатник русский // Крестный календарь на 1873 год. Москва, 1873. С. 47.

5 сакавіка 1967 г.

Высокапаважаны Рэдактару!

За апошні ліст і копію «Пакет из Польши»[460] (надрукаваны ўжо ў НРС[461]) дзякую. Зразумела, што чытаў і ліст папярэдні[462] — абодва вельмі на часе, *«юбілейныя»*, добра нэўтралізуюць савецкую прапаганду пра доктара Скарыну, а што найважнейшае — прапагуюць ведамкі пра яго сярод чытачоў НРС, сярод якіх шмат і нашых суродзічаў. Дзеля гэтага Вашыя, дасканальныя з журналістычнага гледзішча, артыкулы й допісы маюць вельмі важнае значэньне, большае куды, чым друкаваны ў нейкім беларускім часапісе, хоць-бы дзеля таго, што НРС мае тыраж найменш дзесяць разоў большы за кажнае беларускае пэрыядычнае выданьне.

Што да газетных зацемак пра «Пакет з Падуі» ў беларускай падсавецкай прэсе[463], дык, на Вашую просьбу, дасылаю гэтта фатакопію весткі ў «Чырвонай зьмене» з 14 студзеня 1967 г, дзе зьмешчанае паведамленьне БЕЛТА. Маю перад сабою й тэкст «Пакет из Италии» ў маскоўскай «Правде» з 23.1.67[464]. Усе яны напісаныя на адзін манер, але зь некаторымі варыяцыямі, якія вынікаюць з таго, што калі дырэктар Інстытуту мовазнаўства АН БССР М. Р. Суднік атрымаў фатастаты (якія былі прысланыя яму на ягоную просьбу), дык пад уражаньнем свайго вялікага дасягненьня запрасіў карэспандэнтаў газэтаў у свой Інстытут, паказаў ім фатастаты, даў некаторыя інфармацыі. Кажны карэспандэнт пісаў посьле ад сябе — стуль варыяцыі ў іх пры падаваньні самое весткі. Аб працах С. Брагі, калі гэта патрэбна, бязумоўна можна падаваць[465]; думаю, што нічога ня будзе мець супроць згадкі ягонага прозьвішча й др. Грабінскі[466].

---

460 Маецца на ўвазе тэкст Юркі Віцьбіча: Пакет из Польши // Новое Русское Слово. 4 марта 1967.

461 **«Новое Русское Слово»** — рускамоўная газета, што выходзіла ў Нью-Ёрку ў 1910–2010 гг.

462 Маецца на ўвазе тэкст Юркі Віцьбіча: «Я, Франтишек, Скоринин сын» // Новое Русское Слово. 25 февраля 1967.

463 Гл.: Пакет з Падуі // Голас Радзімы. № 3. Мінск, 1967. С. 7; Звязда. 12 студзеня 1967; Чырвоная змена. 14 студзеня 1967; Новое Русское Слово. Нью-Йорк, 28 января 1967. С. 3.

464 Симуров, А. Пакет из Италии // Правда. Москва, 23 января 1967.

465 Вынікам ліставання Вітаўта Тумаша з Юркам Віцьбічам стаў артыкул: Віцьбіч, Юрка. Знайшлі тапор пад лаўкай // Беларус. № 120. Красавік 1967. С. 3. У гэтым тэксце аўтар рэагаваў на публікацыі ў БССР пра «знойдзеныя» ў Падуанскім універсітэце дакументы і партрэт Ф. Скарыны.

466 У 1950 г. доктар Баляслаў Грабінскі наведваў Падуанскі ўніверсітэт і ўбачыў у «Залі сарака» партрэт Францыска Скарыны, які сфатаграфаваў, і падаў вестку пра знаходку і рэпрадукцыю спачатку ў «Абежнік Аб’еднання

Заўважаная Вамі цікавая фраза *«древним белорусским характером писанная»* сустракаецца часта ў маскоўскіх аўтараў XVI–XVIII стагодзьдзяў. Графічны стыль кірылічнага пісьма на тэрыторыі Беларусі тады быў станоўка адрозны ад маскоўскага, стуль у Маскве і адмысловы назоў *«беларусскі»*. На беларускай рукапіснай кірыліцы апіраўся й Скарына, калі тварыў шрыфт свайго друку, зь яе скорапіснага варыянту выводзіцца кірыліца Друкарні Братоў Мамонічаў[467], якой друкаваны Літоўскі Статут (але не літургічныя кнігі). Іван Хведароў, затое, калі тварыў свой шрыфт, ён апіраўся ўжо на маскоўскім рукапісным шрыфце. Формы беларускае рукапіснае кірыліцы моцна выступілі і ў рэфармаваным пазьней Капіеўскім[468] шрыфце — *«гражданцы»* — якую спачатку шмат якія расейскія аўтары й называлі *«белорусской азбукой»*. Характарыстыку палеаграфічную гэтага беларускага шрыфта даў, хоць і вельмі кароткую, у першай часьці сваіх «Беларусаў» Карскі (б. 49–89).

Кніжыцу пра М. Сматрыцкага[469], калі толькі яшчэ застану, Вам вышлю, таксама адшукаўшы, і тыя «Запісы», у якіх артыкул пра Скарынаў Падуанскі партрэт[470].

Што да *«пратэстаў»* ног на шпарчэйшую хаду, дык найлепшая тут *«тактыка»* і *«палітыка»* ўсё-ж, у межах магчымага, паволі хадзіць і рухацца. Гэтак можа з часам удасцца пашырыць межы іх талеранцыі. Высьцерагацца моцнае хады, як і хадзіць, быць на нагах, зашмат — і тое, і тое — неадпаведнае, можа вясьці да горшага. Дык найбольш разумна — *«сьпяшацца паволі»*.

Мае прывітаньні Вам і Вашай Спадарыні!

Адданы Вам

17.3.1967

Высокапаважаны Спадару Рэдактару!

Найперш мая ўдзячнасьць за апошні ліст і дасланыя, для камплекту, дадатковыя выпіскі із Шчарбакова; яны прыдадуцца й даволі хутка. Пра тое, Азгур ці Бразэр, творца Скарынавай скульптуры, з Вашае рады спрабую дазнацца ад сп. Сядуры. Разам у канвэрце высылаю

беларускіх лекараў на чужыне» (снежань 1950 г.), а потым у часопіс «Божым шляхам» (№ 2. 1951).

467 **Друкарня братоў Мамонічаў** была заснаваная ў 1574 г. у Вільні Пётрам Мсціслаўцам на сродкі магілёўскіх купцоў Мамонічаў.

468 Маецца на ўвазе **Ілля Капіевіч** (1651–1714), кнігадрукар, асветнік. Выдаў першыя рускамоўныя падручнікі па матэматыцы, граматыцы, рыторыцы і інш.

469 **Мялеці Сматрыцкі** (1577–1633), грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, старабеларускі пісьменнік-палеміст, філолаг.

470 Маецца на ўвазе тэкст: Тумаш, Вітаўт. Партрэт Скарыны ў Падуі // Запісы БІНіМ. № 1. Нью Ёрк, 1952. С. 40–44.

й кніжыцу «Мелетий Смотрицкий»[471] ды першую кніжку ньюёрскіх «Запісаў» 1952 г., дзе артыкул «Партрэт Скарыны ў Падуі». Што да вестак у ім пра партрэт, дык да іх трэба ставіцца крытычна і ў гэтай справе лепш кансультавацца інфармацыямі пазьнейшага артыкулу аб гэтым у «Конаднях»[472]. Ідзе пра тое, што партрэту гэтага я сам ня бачыў, а пісаў аб ім толькі па мізэрных фатаграфіях і, галоўна, паводле інфармацыяў тых, што яго аглядалі, якія, як выявілася, былі недакладныя, а часам і зусім памылковыя. Гэтак, ведамка а. Татарыновіча аб тым, што гэта ён гэты партрэт бачыў «першы» яшчэ падчас свайго падарожжа ў Італію ў 1934 г. і аб гэтым быццам пісаў у друку, не спраўдзілася. З часам я расшукаў той нумар віленскага часапісу, дзе а. Татарыновіч друкаваў свае ўражаньні ад падарожжа ў Італію, і там пра партрэт нічагуткі. Пазьней-жа, на маю просьбу, сп. Я. Садоўскі ўстанавіў на аснове італьянскае літаратуры, што ў 1934 г. бачыць гэты партрэт ніхто ня мог, бо яго тады яшчэ ня было! Маляваны ён, як і ўсе іншыя партрэты залі *«дэі кваранта»* (а не *«квадрата»*, як памылкова ў артыкуле) толькі ў 1942 г. Калі колькі год таму а. Татарыновіч наведаў мяне ў Нью Ёрку, ён сам сьцвердзіў, што *«памыліўся»*. Тут айца доктара яўна панясла сьвецкая амбіцыя забясьпечыць за сабою ганаровыя ляўры быць *«першым»*, які партрэт *«адкрыў»*. Добры прыклад таго, што за мізэрнаю славаю дачаснага сьвету гоняцца ня толькі звычайныя сьмяротныя, але і асобы духоўныя.

А цяпер дазвольце перайсьці да тых *«6-ці»*, датычных жыцьцяпісу Скарыны, *«цяжкасьцяў»*, што пералічаныя ў Вашым лісьце. Апошнімі гадамі над выясьненьнем розных падобных цяжкасьцяў якраз працую, трасу дзеля гэтага архівы й бібліятэкі Эўропы і Амэрыкі, і дзеля гэтага рады кажнай нагодзе выказаць свой на іх пагляд, а калі трэба, і падыскутаваць аб гэтым. Сёлета-ж якраз *«юбілейны»* год Скарыны[473], дык тэма асабліва на часе, і шкоды ад гэтага, хіба-ж, нікому ніякае, а найперш нашаму слаўнаму Палачаніну, ня будзе, тым больш, што й пасьля дыскусіі кажны-ж свабодны аставацца пры сваіх паглядах.

1. Год нараджэньня Скарыны тымчасам нікому няведамы, і стуль *«свабода»* кажнаму трымацца ў гэтай справе сваіх меркаваньняў. Я падаю заўсёды не *«1485»*, а *«1485?»* (з пытальным знакам), бо гэта год толькі прыблізны, і запраўдны год можа быць на год пару й ранейшым, і пазьнейшым. *«1485?»* год значыць, што падчас свайго падуанскага экзамену Скарына меў каля 27 год, а напэўна ніжэй трыццаткі, але мог

---

[471] Відаць, маецца на ўвазе кніга: Прокошина, Екатерина. Мелетий Смотрицкий. Минск: Наука и техника, 1966. — 160 с.

[472] Маецца на ўвазе тэкст: Брага, Сымон. Партрэты доктара Скарыны // Конадні. № 7. Ню Ёрк — Мюнхэн, 1963. С. 138–151

[473] Маецца на ўвазе 450-годдзе друку Францыскам Скарынам першай кнігі (1517).

мецьі 25–26 год. Гэты век у кар'еры навуковай усё-ж яшчэ *«малады»*, *«юнацкі»*, асабліва гэтак ён заўсёды выглядае немаладым, сівым і лысым, вучоным прафэсаром, якія маладога дактаранта экзаменуюць. З другога боку, калі прыняць гіпатэтычны, прапагаваны некаторымі, год нараджэньня 1490-ы, тады будзе вынікаць, што перад Сьвятой Калегіяй падуанскае акадэміі ў 1512 г., каб дастаць другі ўжо дактарат, стаяў юнак год 22. У веку ледзь 22 год закончыць два факультэты ды здабыць аж два дактараты, калі і ў межах магчымага, дык усё-ж мала праўдападобна. Скарына, бясспрэчна, быў вельмі здольным юнаком, але вымагаць, каб быў яшчэ й *«вундэркіндам»*, наўрад ці патрэбна. Вось дзеля гэтага ўсе выдатнейшыя скарынаведы не ўважалі, што Скарына радзіўся ў 1490 г. Валадзімераў даў гэты толькі як межавы, як найпазьнейшы магчымы. Пічэта казаў, што хоць астралягічныя меркаваньні Шчакаціхіна[474] аб даце нараджэньня Скарыны й *«вельмі спрэчныя»*, *«дык усё-ж і бясспрэчна правільна прыпушчэньне, што Скарына нарадзіўся некалькі раней»* 1490 году (Пічэта, «Скорыніяна»[475]). Флароўскі да гэтага пытаньня выказваецца: *«родился он... в восьмидесятых годах XV века»*, сярэдняя арытмэтычная якіх — гэта і ёсьць 1585? г. Прафэсар-жа менскага ўнівэрсытэту Ясінскі ў гэтай справе казаў: *«калі дапушчалі... у ўнівэрсытэт у веку "ня менш" як 14 год, то адгэтуль нельга выводзіць, што ў такім веку Скарына ўступіў у ўнівэрсытэт, бо ў тагачасных унівэрсытэтах, побач з маладымі людзьмі, вучыліся й сівыя дзяды»* («400-лецьце беларускага друку», 1926[476]). Гэткія галасы да справы «скарынаведаю».

Да пытаньня можна падыйсьці і з другога боку: калі Скарына нарадзіўся ў 1490 г. і ў 14 год пакінуў Полацак і сваю бацькаўшчыну й на доўгія гады быў цалком адарваны ад свайго нацыянальнага асяродзьдзя й свае моўнае стыхіі, а недзе ўжо ў 1516 годзе бярэцца, ізноў на далёкай чужыне, за вялікую важную справу — пераклад Бібліі, скуль тады ў яго гэткая грунтоўная веда й мовы беларускай й царкоўнаславянскай? Іх-жа на ўнівэрсытэтах Захадаў ня вучылі. Ведаючы ўсе цяжкасьці літаратурнага перакладу, скамплікаванага яшчэ тым, што Біблія ня толькі старавечны, вельмі markdown рознажанравы літаратурны твор, але й кніга рэлігійна-сакральная, проста непраўдападобна, каб зь ведаю й дазнаньнем беларускае й царкоўнаславянскае мовы 14 годняга ледзь хлапца можна было брацца за гэткую справу й мець гэткія вынікі, як у Скарыны. Вось факт глыбокае веды моваў і беларускае й

[474] Шчакаціхін, Мікола. Калі радзіўся Францішак Скарына // Полымя. № 5. 1925. С. 148–151.

[475] Пічэта, У. Scoriniana. 1776–1926 // Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925. Менск, 1926. С. 284–327.

[476] Ясінскі, Антон. З культунае гісторыі Чэхіі пачатку XVI сталецьця // Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925. Менск, 1926. С. 39–58.

царкоўнаславянскае перакладніка й змушае перасунуць час зьяўленьня Скарыны ў Кракаве на ўнівэрсытэце на век на колькі год сталейшы, чым 14 год. Перакладаць гэткі складаны, шматжанравы літаратурна-рэлігійны твор, як Біблія, з моўна-літаратурным беларуска-царкоўнаславянскім багажом і пазнаньнямі, набытымі да веку ледзь 14 год, гэта заданьне яўна не пад сілу навет і для геніяльнага *«вундэркінд»*.

2. Каб Скарына меў *«пасаду каралеўскага сакратара, дык у Падую... прыехаў-бы ў карэце»*. І тое, што ў Падуі Скарына ня меў грошаў, і што ён перад гэтым быў *«каралеўскім сакратаром»*, ня выдуманыя некім *«гіпотэзы»*, а факты, зафіксаваныя ў падуанскіх якраз актах. Калі тагачасныя сьветкі падзеяў у Падуі факты гэтыя запісалі, гэта значыцца, што для іх яны ня выглядалі нейкаю, выключаючай сябе, супярэчнасьцяй. З гэтым цяпер, 450 год пазьней, дагодзіцца лічыцца й пробаваць выясьніць гэта, не адмаўляючы самых, ясна й бясспрэчна, пададзеных фактаў. Найперш, няма падставаў выабражаць сабе, на аснове толькі словаў *«каралеўскі сакратар»*, што гэткае становішча было вельмі важным і даходным. Каб Скарыну, чужынцу, у чужой дзяржаве даручалі вельмі важныя справы, мала праўдападобна. Да гэтага трэба мець на ўвеце, што ў гэтай галіне тады адказнае становішча належала канцлеру, а не сакратаром, якіх было шмат і якія мелі нават не другарадную, а трэцярадную ролю. Гэта канцлер трымаў дзяржаўныя пячаці й вёў дзяржаўную перапіску, маючы сабе ў дапамозе сакратароў. У ВКЛ за часы Скарыны сакратарамі гэткімі, *«пісарамі»*, былі мала каму цяпер ведамыя Копаць, Гарнастай[477] ды колькі іншых. Да гэтага трэба браць на ўвагу факт пэўны, што Скарына якраз перад сваім прыездам у Падую напэўна мусеў студыяваць мэдыцыну, бо ў гэтым быў, як экзамены паказалі, добра прыгатаваны. Па сканчэньні філязофіі на Кракаўскім унівэрсытэце, якая вымагала ня менш 4 год студыяў, часы яму на мэдыцынскія ўнівэрсытэцкія студыі заставалася ўсяго толькі, колькі было канечна патрэбна, і ні году больш. З гэтага лягічны высnaў, што й мэдыцынскія студыі, і *«каралеўскае сакратарства»* муселі адбывацца адным і тымсамым часам. Паколькі-ж студыі вымагаюць сыстэматычнае працы, з гэтага вынікае, што *«сакратарства»* ягонае было больш прынагоднае, выпадковае. Прасілі хіба яго выканаць тыя ці іншыя даручэньні, зрабіць пераклады ці напісаць лісты, у меру патрэбы й, найхутчэй, у галіне справаў, датычных усходу Эўропы, у чым Скарына, зразумела, быў *«спэцам»*. Заработку з гэтага ці было мала, ці й ніякога. Калі праца давала мала грошы, дык затое прыносіла ганаровы тытул *«каралеўскага сакратара»*, які Скарына ў Падуі й падаў. Вось пры гэткім разуменьні справы й *«беднасьць»*, і *«сакратарства»* якнайлепш сумяшчаюцца, і можам зусім абыйсьціся без дарагіх карэтаў. А што каралеўскія службы тады хоць і прыносілі гонар, дый не заў-

[477] Гл.: Будзька, Часлаў. Кніжка аб Івашку Гарнастаю. [Чыкага, 1955]. — 423 с.

сёды грошы й багацьце, найлепшы прыклад гэтага з пары Скарыны на становішчы *«каралеўскага садоўніка»* ў Празе. У 1539 г., год перад сьмерцяй доктара Скарыны, праская каралеўская камора ў лісьце да караля Фэрдынанда (у Вэне) пытае, скуль узяць грошы, каб заплаціць садоўніку Франьцішку. З названае пры гэтым сумы вынікае, што гэта доўг не за месяц-два, а за год ці больш. І калі Скарына ўсё-ж у Празе, паміраючы, пакінуў нейкую маёмасьць, якое яшчэ 12 год пазьней даходзіў ягоны сын Сымон, дык яна сыходзіла яўна зь ягонае лекарскае практыкі, на довад чаго існуюць і ўскосныя паказаньні. Нязгоднае з актавымі дадзенымі й часта ў літаратуры сустраканае цьверджаньне, што Падуанскі ўнівэрсытэт у часе Скарынавых экзаменаў быў закрыты дзеля вайны. Аблога Падуі адбылася ў годзе 1509-м. Далейшая ваенная завіруха ў Італіі Падуі беспасярэдна не кранала. У першай-жа палавіне 1512 г. ваенныя дзеяньні заціхлі з даволі памысным, у канцавым разрахунку, для Вэнэцыі, пратэктаркі Падуі, вынікам. Калі й магчыма, што рэгулярныя заняткі ўвосені гэтага году на Падуанскім унівэрсытэце яшчэ й не пачаліся, дык экзамены й дактарызацыі адбываліся там напэўна. Акты паказваюць, што ў тымсамым месяцы, як Скарына, былі экзаменаваныя і іншыя дактаранты. Пры тым важна мець у памяці факт, што ў Падую Скарына ехаў не вучыцца, гэта яму ня было патрэбна, бо навуку ён меў ужо закончаную. Ён толькі хацеў укаранаваць сваю веду найбольш ганаровым тады ў Эўропе дактаратам у галіне мэдыцынскіх навукаў, дактаратам падуанскім. І ў Падую ён ехаў напэўна добра ведаючы, што там дактарызацыі тады адбываюцца, а не *«навосьлеп»*, на што прабег падуанскіх падзеяў не паказвае.

3. *«Падпал друкарні ў Вільні»* — што Скарынава друкарня ў вялікім пажары Вільні 2 ліпеня 1530 г. не згарэла, гэта ня нейкая *«гіпотэза»*, а факт. Дошчачкі дрэварытаў Скарынавае друкарні скарыстоўваюцца, і ня раз, а шмат разоў, у друках віленскага Сьвятатраецкага брацтва пры канцы XVI стагодзьдзя хоць-бы пры друку кнігаў братоў Зызаніяў («Лексіса» дый іншых). Фатаграфічныя рэпрадукцыі бачынаў гэтых кнігаў із Скарынавымі арыгінальнымі заставіцамі, на якіх навет і ягоныя *«гэрбы»*, апублікаваныя, і таму гэта даведзены факт, а ня нечыя толькі здогады. Можна, праўда, цьвердзіць і тое, што друкарня ўсё-ж згарэла, а дошчачкі дрэварытаў нехта дбайна выхапіў з агню ды ўратаваў, але гэта будзе малапраўдападобная гіпотэза. Каб у Празе скарынава друкарня гарэла — пра гэта ніякіх вестак. Вялікі-ж пажар Прагі 1541 г., ужо па сьмерці Скарыны, у якім трагічна загінуў Скарынаў сын Франьцішак, пачаўся зусім у другім, далёкім ад месца прабываньня й трагічнае сьмерці Франьцішка, квартале. Чэскія летапісцы дакладна падаюць, зь якога месца й навет з чыйго дому гэты пажар пачаўся. Гарэлі затое напэўна Скарынавы кнігі ў Маскве, аб чым далей.

4. У вестцы пра паездку выдаўца Бібліі ў Маскву *«не згадваецца яго імя... Жыгімонт яго ведаў, а не згадваў яго імя... на ўзор Альбрэхта»*.

Пра публічнае паленьне кнігаў Бібліі ў Маскве пісаў у 1553 г. ня сам Жыгімонт (які ўжо даўно быў нябожчыкам), а ягоны сын, Жыгімонт Аўгуст[478], які Скарыны хіба асабіста ня знаў дзеля тае простае прычыны, што калі каля 1534 г. Скарына пакідаў, і назаўсёды, ВКЛ, Жыгімонту Аўгусту было ўсяго 14 год, і грамадзка-дзяржаўнымі справамі ён яшчэ не займаўся. Альбрэхт пісаў для Скарыны рэкамэндацыйныя лісты, і дзеля гэтага ў яго згадваецца, і ня раз, і імя, і прозьвішча Скарыны. Інструкцыя-ж Жыгімонта Аўгуста 1553 году[479], гэта даўжэйшы дыпляматычны дакумэнт, адведзены справе, зусім недатычнай Скарыны — справе кароны Івану Грознаму, і ў гэтым дакумэнце эпізод пра паленьне кнігаў Бібліі ў Маскве, там толькі адзін із шматлікіх довадаў нецалеранцыйнасьці Масквы. Прозьвішча таго, хто спаленую Біблію выдаў, якое папе й так нічога не гварыла-б, для дыпляматычных інтэнцыяў дакумэнту ня мела ніякога значаньня. Важным быў сам факт спаленьня кнігаў толькі за тое быццам, што яны паходзілі з прастораў пад рэлігійнай зьверхнасьцяў Рыму. Да гэтага пытаньня можна падыйсьці й шляхам простага, *«сялянскага»*, разважаньня. Калі, прыкладам, усім добра ведама, што ў вёсцы Сычаўка ёсьць адзін толькі бондар Трахім, а нехта кажа, што *«сычаўскі бондар на кірмаш прывёз прадаваць свае цэбры, кадушкі ды дайніпы»*, дык кажнаму, бяз згадваньня прозьвішча ці імя, ясна, што гэты бондар гэта Трахім, і гэта факт, а не *«гіпатэза»*. Гіпатэзай было-б гэта тады, калі-б у тойсамай Сычаўцы былі два або тры бондары, бо тады былі-б патрэбныя яшчэ дадатковыя довады на тое, што на кірмашы быў якраз Трахім, а ня нехта іншы. Дакладна гэтаксама выглядае й справа спаленьня ў Маскве кнігаў Бібліі таго выдаўца, прозьвішча ні імя якога ня згадваецца, але, як усім ведама, у тую пару быць яно магло толькі адно, Скарынавае, бо ніякое іншае друкаванае Бібліі *«рускай»*, ці царкоўнаславянскае, тады не існавала. Падобных прыкладаў, *«ананімных»*, але пэўных зьвестак пра Скарыну, ці ягоныя кнігі, актавая літаратура дае нам шмат больш: у сваей «Духоўніцы» 1522 г. сьвятар віленскае царквы сьв. Юрага (на падвешанай да дакумэнту пячаці *«Юрій»*, а не *«Георгій»*!!!) Мацьвей *«выбойную кнігу Царства»* з свае бібліятэкі адказваў *«Воскресенскому попу Федору»*. *«Выбойная»*, значыцца *«бітая»*, друкаваная[480]. Хоць у духоўніцы й ня кажыцца, хто гэту кнігу надрукаваў, кажнаму скарынаведу ясна, што гэта кніга Скарынавага друку, бо гэтым часам друкаваная

---

[478] **Жыгімонт II Аўгуст** (1520–1572), вялікі князь літоўскі (1544–1572) і кароль польскі (1548–1572), сын Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы.

[479] Маецца на ўвазе копія інструкцыі Жыгімонта II Аўгуста свайму пасланцу ў Рыме Адальберту Крыску, дзе згадваецца пра паленне кніг у Маскве. Гл.: Тумаш, Вітаўт. Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны. Ню Ёрк: БІНіМ, 1989. С. 8 (пазіцыя 51).

[480] Гл.: Тумаш, Вітаўт. Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны… С. 28 (пазіцыя 134).

кніга Царстваў была толькі адна — ягонага перакладу й друку. Калі ігумен Супрасьльскага манастыра Сяргей Кімбар у сьпісе кнігаў манастырскае бібліятэкі 1532 г.[481] адзначае і *«Апостол битый»*, дык, ізноўка, хоць прозьвішча выдаўца й не пададзенае, кажнаму ясна, што гэта Апостал Скарынаў, бо ніякіх іншых *«бітых»* Апосталаў гэтым часам яшчэ ня было. Тоесамае датычыцца й сьпісу кнігаў 1545 году ведамага *«Иосифо-Волоколамскага»* манастыра ў Маскоўшчыне, дзе запісаныя *«два печатных Апостола»*. Той самы выснаў лягічны трэба рабіць і калі мы чытаем у выдадзенай у 1559 г. па-італіянску кніжыцы выдатнага дзеяча рэфармацыі Петро Паолё Вэрджэрыё[482] пра тое, што падчас сваіх наведзінаў Вільні ў 1556 г. там бачыў ён перакладзеную на мову *«Рутэнаё»* друкаваную Біблію[483]. Хоць і тут прозьвішча выдаўца няма, кажнаму ясна, што можа гэта быць толькі Біблія Скарыны, бо ніякой іншай друкаванай у мове *«Рутэнаё»* тады яшчэ ня было., і г. д., і г. д. Дык і падарожжа Скарыны да Масквы дый спаленьне ягоных тамака кнігаў ня *«гіпозэта»*, а факт, вынікаючы зь зьвестак, якія нам перахавалі архівы.

5. Гіпатэзай затое толькі застаецца пакульшто старое *«гістарычнае пытаньне»* Капітара[484]: бачыўся Скарына зь Лютэрам ці не? У гэтай справе памылка Пічэты толькі тая, што ён, ідучы за іншымі аўтарамі (найперш Віктаравам[485]) яго станоўка адкінуў, да дна не праверыўшы. Дзеля гэтага ў ваднэй з маіх працаў я і адвёў гэтаму пытаньню пару бачынаў з мэтаю вярнуць для высьвятленьня ў скарынаведную літаратуру гэтае пытаньне назад. Разьвязаць яго пазытыўна ці нэгатыўна магчыма, аднак-жа, хіба толькі ў Нямеччыне, маючы беспасярэдні доступ да тамашніх архіваў і бібліятэчных збораў.

6. *«Фэрдынанд I.. у запраўднасьці.. аўстрыйскі эрцгерцаг.. які пазьней абвесьціў сябе імпэратарам»*. Гэта правільна, што кар'ера Фэрдынанда I як манархі пачалася ад эрцгерцага, а скончылася імпэратарам. Але між гэтымі двума, выхадным і замыкальным, пунктамі кар'ера гэтая

[481] Гл.: Тумаш, Вітаўт. Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны… С. 29 (пазіцыя 141).

[482] **Петра Паола Верджэрыа** (італ. *Pietro Paolo Vergerio*, 1498–1565), дзеяч італьянскай рэфармацыі.

[483] Тумаш, Вітаўт. Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны… С. 30 (пазіцыя 142).

[484] **Барталамей Копітар** (славен. *Jernej Bartol Kopitar*, 1780–1844), славенскі лінгвіст, адзін з заснавальнікаў славістыкі. У 1839 г. ён апублікаваў меркаванне пра спатканне Францыска Скарыны з Марцінам Лютэрам: Kopitar, Bartholomaeus. Hessychii Glossographi discipulus… Vindobonae, 1839. P. 33–34.

[485] Маецца на ўвазе тэкст: Викторов, Алексей. Замечательное открытие в древнерусском книжном мире // Беседы в Обществе любителей российской словесности при Императорском Московском университете. Вып. 1. Москва, 1867. С. 1–27. Аўтар даказвае, што Францыск Скарына быў праваслаўным, а не каталіком ці пратэстантам.

абымае дадаткова й тры каралеўскія тытулы, што таксама факт. Храналёгія кар'еры Фэрдынанда як валадара гэткая: у 1521 г. ён жэніцца з Ганнай[486], дачкой караля Чэхіі й Вугры, праўначкай нашага Ягайлы[487], і дастае ад брата, тагачаснага *«рымскага імпэратара»*, Карла V[488] сваю частку спадчынных валаданьняў, аўстрыйскія землі, над якімі й пануе як эрцгерцаг. У 1526 г. у крывавай біцьве з туркамі пад Магачом[489] гіне малады й бязьдзетны кароль Чэхіі й Вугоршчыны Людвік, брат Фэрдынандавай жонкі Ганны. Паводле дынастычных правілаў кароны чэская й вугорская аўтаматычна пераходзяць на сястру Людвіка, а Фэрдынандаву жонку, Ганну. Карыстаючы з гэтага, Фэрдынанд падбаў пра тое, каб яшчэ ў тымсамым 1526 годзе ня толькі ягоную жонку, але і яго выбралі й каранавалі і на караля Чэхіі ў Празе і на караля Вугоршчыны ў Вугрыі. Гэтак і паўстала аўстрыйская імпэрыя, у склад якой увайшлі Аўстрыя, Чэхія ды Вугоршчына і якая праіснавала праз блізу 400 год, аж да канца Першае Сусьветнае Вайны. Цікавы для нас у гэтым факт, што пачатак дынастыі аўстрыйскіх Габсбургаў дала, побач Фэрдынанда, і Ганна з нашых Ягайлавічаў. Атрымаўшы, неспадзеўкі, аж два каралеўствы й дзьве каралеўскія кароны, Фэрдынанду, відавочна, нязручна было заставацца толькі эрцгерцагам на сваей спадчыннай Аўстрыі. Каб устанавіць нейкую *«раўнавагу»*, а навет герархічна паднесьці Аўстрыю крыху вышэй, захадамі імпэратара, брата Карлы, у 1531 годзе Фэрдынанда выбіраюць і тады-ж урачыста ў Кёльне карануюць на *«караля рымскага»*, што, у тагачасных умовах, практычна давала пазыцыю заступніка, у патрэбе, імпэратара (што Фэрдынанду ня раз і даводзілася рабіць) і, адначасна, намечанага ягонага наступніка. Ад гэтага часу (ад 1531 г.) ува ўсіх дзяржаўных і дыпляматычных дакумэнтах Фэрдынанд I і тытулуецца гэтымі трыма каралеўскімі тытуламі. Толькі аж у 1558 г., пасьля абдыкацыі[490] Карла V як імпэратара, Фэрдынанда выбіраюць і карануюць на *«рымскага імпэратара»*. Дык у часе, калі Скарына стаў садоўнікам Фэрдынанда, каля 1535 году

---

[486] **Ганна Ягелонка** (або Ганна Багемская і Вугорская, 1503–1547), унучка караля Казіміра VI Ягелончыка, дачка Уладыслава II Ягелончыка, жонка Фердынанда I і старэйшая сястра (і спадчынніца) Людовіка II караля Чэхіі і Вугоршчыны.

[487] **Ягайла** (катал. Уладзіслаў, каля 1348–1434), вялікі князь літоўскі (1377–1392), кароль польскі (1385–1434), заснавальнік дынастыі Ягелонаў.

[488] **Карл V** (лац. *Carolus V*, 1500–1558), кароль Іспаніі (ад 1516 г.), імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі (ад 1519 г.), брат Фердынанда I.

[489] **Бітва пры Мохачы** (вугор. *Mohácsi csata*) адбылася 26 жніўня 1526 г. каля мястэчка Мохач у Вугоршчыне. Войскі Асманскай імперыі нанеслі паразу чэшска-вугорска-харвацкаму войску.

[490] ***Abdicatio*** (лац.) — адрачэнне. Маецца на ўвазе адрачэнне Карла V ад пасады імператара ў 1556 г.

(толькі ў Празе, бо ў Вене Фэрдынанд меў іншага садоўніка, і толькі садоўніка, а ня лекара, бо Фэрдынанд, пакольки жыў пераважна ў Вене, там меў свайго надворнага лекара) Фэрдынанд быў ужо і каралём чэскім, і вугорскім, і аўстрыйскім, хоць фармальна аўстрыйскі тытул азначаўся тытулам *«рымскага караля»*. У па-чэску выстаўленым адкрытым лісьце Фэрдынанда І з 29 студзеня 1552 году Скарынаваму сыну Сымону прыканцы кажыцца: *«дадзена на градзе нашым Праскім... году... 1552-га, а каралянавньня нашага Рымскага дваццаць другога, а іншых дваццаць шостага»*[491] — *«іншых»* тут значыць *«чэскага й вугорскага»*. Важна яшчэ адцеміць, што калі з утрыманьня кароны й каралеўства чэскага Фэрдынанд ня меў паважных клопатаў, дык накш было з каронай вугорскай. Хоць частка вугорскіх магнатаў прызнала яго й выбрала сваім каралём, другая, з патрыятычных мяркаваньняў, выбрала сабе за караля вугра, Яна Запольлю[492], які, каб утрымацца пры кароне, паддаўся пад пратэктарат турэцкага султана. Вынік гэтага — доўгія войны за вугорскую зямлю й каралеўства між Фэрдынандам і Янам Запольле ды султанам, ведамым Сулейманам Пышным[493]. Ужо ў 1529 г. Сулейман был у *«адведзінах»* пад Венаю. Калі Фэрдынанду ўсё-ж удалося ўтрымаць і вугорскую карону і найменш палавіну Вугрыі, дык гэта каштавала яму ўсё-ж шмат клопату і грошаў дзеля вечных войнаў. Дзеля гэтага каралеўскі скарб увесь час пуставаў, і таму таксама праская каралеўская камора задоўжвалася, і не месяцамі, а гадамі, і каралеўскаму садоўніку Франьцішку за належную яму, паводле кантракту, службу. Вось дзеля гэтага яна й пыталася ў караля, скуль узяць грошы, каб выраўнаць доўг. Дык хоць пры канцы свайго жыцьця Скарына і меў прыгожы ганаровы тытул ізноў, тытул каралеўскага садоўніка, сумлеўна вельмі, ці мог сабе ён і гэтым разам дазволіць на разьезды раскошнаю *«карэтай»*. Дык Фэрдынандавы каралеўскія тытулы ведамыя й пэўныя. Калі трэба, можна знайсьці й дакладныя даты кажнага з каранаваньняў. У гэтай справе ў гістарычнай літаратуры няма ніякіх сумлеваў ці спрэчак.

*«Сума-сумарум»*[494] — жыцьцяпіс доктара Скарыны гэткі бурны, багаты драматычнымі прыгодамі й падзеямі, што не патрабуе прыкрашваньня непадмацаванымі фактамі і лягендамі. Даволі аперціся на актах і фактах — матар'ялу хопіць і для добрага раману, і для фільму. Хоць, прызнаць трэба, часам нечакана фантазыя выпярэджвае факты: сто год таму некаторыя расейскія аўтары расьпісваліся аб тым, і зусім

---

491 Гл.: Тумаш, Вітаўт. Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны… С. 8 (пазіцыя 49).

492 **Януш Запалья** (вугор. *Zápolya János*, 1487–1540), трансільванскі князь, у 1527–1540 гг. быў каралём паўднёвай Вугоршчыны.

493 **Сулейман І Пышны** (1494–1566), асманскі султан (1520–1566). У часы яго панавання Асманская імперыя дасягнула піка сваёй магутнасці.

494 ***Summa summarum*** (лац.) — агульны вынік.

без ніякіх довадаў, што Скарынавыя кнігі, падчас іх перавозу з Прагі да Вільні, нейдзе ў Нямеччыне былі сканфіскаваныя й спаленыя. Сяньня выясьняецца, што нейкай канфіскаты яны ў Вроцлаве ўсё-ж, відаць, дазналі.

І ізноў, каторы ўжо раз, ліст сваею даўжынёю перарос меры ўсякае прызваітасьці. І ізноў, яшчэ раз, прашу прабачэньня. І яшчэ раз абяцаю, што *«больш ня буду»*.

Прывітаньні зь Нью Ёрку!

У глыбокай пашане Ваш

ПС. Зьявілася тут цікавая кніга: Л. В. Алексеев. Полоцкая земля. АН СССР. Москва. 1966. б. 296. Пераглянуў яе ўчора — гэта праца аб Полаччыне да XIII ст., праца найперш археалягічная, але багатая літаратурай, ілюстрацыямі, уключна з каляровай рэпрадукцыяй Афрасіневa крыжа й колькібачынным яго апісаньнем. Званіў Запрудніку, каб падышоў да «Four Continents»[495] і захапіў адзін экзэмпляр для Вас!

1.5.1967

Высокапаважаны Спадару Рэдактару!

Колькі словаў адказу на справы, закранутыя ў Вашым апошнім лісьце, які завітаў сяньня, а разам — і некаторыя, датычныя гэтых справаў, матар'ялы. Супроць партыйна накіданае, яшчэ ад часоў Сталіна, *«геаргізацыя»* нашага Скарыны, у БССР выразна ўзьнімаецца пратэст й найперш маладых аўтараў. Тут у канвэрце дасылаю фатастат і рэцэнзыю на таго *«махровіча»*[496], надрукаванае ў ЛіМ'е[497], а напісанае Прашковічам[498]. Наколькі мае на гэта ўплыў і паднятая пару год ужо таму дзейнасьць у гэтым кірунку БІНіМ'у, сказаць цяжка. Але роўна два гады таму, калі тут чытаўся рэфэрат, які сёлета апублікаваны друкам, колькі разоў праз радыё ў Мюнхэне ішлі пра гэта перадачы, з дамаганьнем вярнуць Скарыну імя, якое яму адабралі ў пару *«культу асобы»*. Відаць, гэта памагло, бо ад восені таго году беларускія менскія аўтары й пачалі вяртацца да *«Франьцішка»*, і першы — Прашковіч[499]. Думаю, што ў Менску гэтая справа таксама была добра ведамая паважнейшым аўтарам, толькі раней баяліся яе адкрыта падымаць.

---

[495] ***«Four Continents»*** (англ. «Чатыры кантыненты») — назва кнігарні ў Нью-Ёрку.

[496] Маецца на ўвазе **Сцяпан Майхровіч** (1908–1981), крытык, літаратуразнаўца, аўтар кнігі «Георгій Скарына» (Мінск, 1966).

[497] Гл.: Прашковіч, М. Пра нашага першадрукара // Літаратура і мастацтва. Мінск, 28 жніўня 1967. С. 3.

[498] **Мікола Прашковіч** (1932–1983), крытык, літаратуразнаўца, аўтар кнігі «Францішак Скарына — беларускі першадрукар» (Мінск, 1970).

[499] Маецца на ўвазе публікацыя: Прашковіч, М. Доктар Францішак Скарына // Полымя. № 10. 1965. С. 146–154.

*«Справіўшыся»* із Скарынам, як відаць з артыкулу ў «Полымі», той-жа *«махровіч»* узяўся цяпер і за Буднага, каб спрабаваць і яго *«ўбудаваць»* у вялікадзяржаўныя канцэпцыі маскоўскага *«марксызму»*[500]. Артыкул ягоны пісаны надта-ж надутым, пампатычным стылем, у якім удаваньне нейкае нязвычайнае *«марксысцкае»* глыбіні, якое ў запраўднасьці ні на грош, прыймае позу ледзь не самога Маркса, і ад пісаніны нясе на вярсту *«нядобры пах вялікіх словаў»*, якія самі па сабе яшчэ ня твораць нічога ані навуковага, ані мастацкага. А ўва ўсёй гэтай *«лёгорэі»*, як калісьці мудрыя грэкі айца Пятроўскага[501] казалі, (*«словацёку»*) няма самага істотнага й галоўнага, што пайменна сьветагляд Буднага зусім не залежыў ні ад Маркса, ні ад Энгельса ці Майхровіча, а ад падзеяў у Беларусі ягонае пары, і ўплыў на яго мелі найперш крывавыя масакры беларускага жыхарства гордамі Івана Грознага, масавае мардаваньне палачан у 1563 г., дэпартацыі беларускага жыхарства ў глыб Маскоўшчыны, якіх, як нявольнікаў, гналі з свае зямлі, а на чале іх крочыў скаваны ў ланцугі полацкі архіяпіскап Арсень. Вось пра гэты, першае вагі, гістарычны фактар, які фармаваў сьветапогляд Буднага і іншых нашых суродзічаў тае пары, і дзеля чаго Будны ў лістох да Швайцарыі скаржыўся на маскоўскіх *«барбараў»*, у Майхровіча ні словам. Дзеля гэтага тут у канвэрце й дасылаю карэктурныя адбіткі некаторых зацемак пра Буднага з апошняга нумару *«Запісаў»*[502], што ўжо надрукаваны, але яшчэ ўсё *«плыве»* з Эўропы, і няведама, як хутка прыплыве.

Прывітаньні, усяго найлепшага, а найбольш — здароўя й сілаў, бо яшчэ давядзецца шмат пісаць пра падсавецкія шэдэўры аўтараў тыпу *«махровіча»*!

Адданы Вам

ПС. У НРС[503] прачытаў Ваш дасканальны нарыс «Горит и не гаснет под пеплом жар»[504]. Паўстала думка, што было-б добра даць яго, у беларускай вопратцы, у гэты яшчэ нумар «Конадняў», якія ўжо хутка

---

[500] Маецца на ўвазе артыкул: Майхровіч, С. Сымон Будны // Полымя. № 2. 1967. С. 225–241.

[501] **Ян Пятроўскі** (1905–2001), рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік, выдавец, літаратар, перакладчык. Ад 1953 г. жыў у ЗША. Напісаў і выдаў некалькі дзясяткаў кніг, у тым ліку пераклады з Платона, Марка Аўрэлія, «Клясічны грэка-беларускі слоўнік».

[502] Відаць, маецца на ўвазе публікацыя: Максімовіч, Р. Справа паходжаньня Сымона Буднага // Запісы БІНіМ. № 4 (10). Мюнхэн, 1966. С. 256–259.

[503] «Новое Русское Слово».

[504] Маецца на ўвазе тэкст Юркі Віцьбіча: Горит и не гаснет под пеплом жар // Новое Русское Слово. 23 апреля 1967.

маюць ісьці да друку[505]. Што да цаны «Полацкае зямлі»[506] й «Сматрыцкага»[507], дык каштавалі яны 2.50 і 0.85. Ніякага сьпеху з гэтым няма.

18.VI.1967.

Высокапаважаны Спадару Рэдактару!

Прыкра мне вельмі, што гэтак замарудзіў з адказамі на Вашыя багатыя справамі й зьместам лісты, што гэта змусіла Вас *«падагнаць»* мяне. *«Вольны час»* — толькі адна з прычынаў, і не галоўная: праўда, тут даводзілася займацца паседжаньнямі й рэфэратамі маладога доктара Расьціслава Гарошкі[508], а пасьля старэйшага крыху доктара-прафэсара Глыбіннага[509], далей даводзілася спатыкаць, прыймаць і праводзіць ведамага нам усім добра нашага паэту Майсея Сяднёва, які пару дзён таму адплыў, із усёй сямейкай, у Эўропу для працы ў радыё ў Мюнхэне[510]. Адкладаў я ўсё дзеля таго, што за дзень-два меўся Вам даслаць дадатковыя матар'ялы ў справе Скарынавага імя, якія наш сакратар Інстытуту меўся якраз адбіць (сп. Запруднік) — не адбіў і дагэтуль. Дзеля гэтага тут у лісьце крану толькі некаторыя справы, а рэшту нейдзе ў сярэдзіне тыдня ў другім лісьце разам з тымі матар'яламі й фатастатамі.

Пачну з *«канца»*, з апошняе справы — году сьмерці сьвятое полацкае Афрасіні (і ізноў разнабой нашае неўніфікаванае ніякімі Акадэміямі, тымчасам, мовы, бо Карскі, Тарашкевіч[511], Лёсік пасьпелі пакласьці толькі асновы гэтага нармаваньня; я пішу, бо нейк здаўна так прывык — *Афрасіня*, у Вас-жа — *Эўфросіньня*; я сваю форму выводжу ад Лазара Богшы[512], які на крыжы ўвесь час піша *Офросинья* (акань-

---

[505] Беларускі варыянт тэксту публікаваўся раней у газеце «Бацькаўшчына». Гл.: Віцьбіч, Юрка. Гарыць і ня гасьне пад попелам прысак (Панькоўскабудаўскае паўстаньне) // Бацькаўшчына. № 21 (100). 25 травеня 1952. С. 5–6.

[506] Ідзецца пра кнігу: Алексеев, Леонид. Полоцкая земля: очерки истории северной Белоруссии в IX—XIII вв. Москва, 1966. — 295 с.

[507] Відаць, маецца на ўвазе кніга: Прокошина, Екатерина. Мелетий Смотрицкий. Минск: Наука и техника, 1966. — 160 с.

[508] **Расціслаў Гарошка** (нар. 1938 (?)), грамадскі дзеяч, сын Міколы Гарошкі. У 1948 г. прыехаў з бацькамі ў ЗША. У 1967 г. у Калумбійскім універсітэце ў Нью-Ёрку абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара фізічных навук.

[509] Уладзімір Сядура (Глыбінны) узначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (штат Нью-Ёрк).

[510] Масей Сяднёў працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» ў Мюнхене і быў яе кіраўніком у 1968–1983 гг.

[511] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, перакладчык.

[512] **Лазар Богша**, полацкі майстар-ювелір XII ст., аўтар Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

ня тагачасны правапіс не адзначаў) — што горшае, што лепшае, — і чаму, — хіба ніхто паважна гэтым яшчэ не заняўся). Дык што да году гэтае сьмерці — у абежніку БІНіМ пададзена паводле Гарошкі[513], бо ў нас ніхто не дапушчаў, што сьвятар, які напісаў цэлую кнігу пра Афрасіню[514], справы году сьмерці дакладна не праверыў. Пад вагою Вашых шматлікіх прыкладаў пераконваюся і я, што ці не правільная дата будзе — 1173 г.[515] Але каб быць пэўным, калі за колькі дзён буду ў Бібліятэцы, праверу справу ў некаторых ведамых *«аўтарытэтаў»* і канчаткова Вам напішу.

Пры нагодзе — трымаючыся *«тэмы»* — *«даталёгія»* і *«храналёгія»* — рады служыць даведкаю, што год 1905 як год сьмерці Абуховіча[516] ўжо неактуальны. У мінулым годзе, здаецца, у ЛіМе, быў апублікаваны адмысловы ліст пра знаход на магільніку ў Слуцку магілы Абуховіча[517], і там на крыжы напісана: памёр 10 жніveня 1898 г. (дык на лета будуць прыпадаць 70-я ўгодкі сьмерці!). Дык Абуховіч пісьменьнік ня толькі данашаніўскі, але й пісьменьнік XIX ст. Спосаб знаходу магілы й разам даты сьмерці таксама ўражваючы: аўтар ліста ў ЛіМ ведаў, што дзе гэтая магіла знаў добра ведамы нашанівец Язэп Дыла[518], які, пасьля ссылкі на Сібір, застаўся там дажываць свой век. І вось ад Дылы лістоўна была атрыманая інфармацыя, пры якой дарожцы, лікам каторая магіла Абуховіча. Толькі тады гэтую магілу ўдалося знайсьці, а згробшы зямлю з паваленага крыжа, даведацца й пра дату сьмерці Абуховіча. Дык магілы нашых выдатных пісьменьнкаў гэтак цяпер *«шануюцца»*, што шукаць іх трэба праз сасланых у Сібіры выгнанцаў, якіх не пасьпелі зьнішчыць, а самі ўпарта не паміраюць. Дзякуючы прыпадку, што Яз. Дыла яшчэ жыве, цяпер ведаем дату сьмерці. А, між іншым, Абуховіч, як Вам, падабаецца як пісьменьнік і мне. Маю свой гэткі пагляд, што ён наймацнейшы талентам празаік літаратуры XIX ст., як наймацнейшы драматург — Дунін-Марцінкевіч[519], а найлепшы майстра вершу — хоць не найважнейшы паэта па значаньні творчасьці — Каратынскі[520].

---

[513] Маецца на ўвазе а. Леў Гарошка.

[514] Гарошка, Леў а. Сьв. Еўфрасіньня-Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі. Парыж, 1950. — 77 с.

[515] Сёння больш верагодным годам смерці Еўфрасінні Полацкай лічыцца 1167 г.

[516] **Альгерд Абуховіч** (1840–1898), паэт, перакладчык.

[517] Гл.: Родчанка, Рыгор. Магіла Альгерда Абуховіча // Літаратура і мастацтва. 11 лістапада 1966.

[518] **Язэп Дыла** (1880–1973), празаік, драматург, грамадска-культурны дзеяч. Рэпрэсаваны. Пасля вызвалення жыў у Саратаве.

[519] **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч** (1808–1884), драматург, паэт, заснавальнік беларускай драматургіі, тэатра.

[520] Маецца на ўвазе Вінцэсь Каратынскі.

Калі трымацца цяпер справы магілаў і датаў сьмерці, дык паведамляю, на выпадак, калі нехта іншы Вам пра гэта не паведаміў, што згаданы ў вадным з Вашых лістоў сп. Мікалай Янавіч Дзямідаў[521] — Генэрал-Маёр Беларускіх Збройных Сілаў — як на захаванай у мяне ягонай, патройнае вялічыны ад нармальнай (запраўды генэральскай) візытоўцы напісана, памёр у Чыкага 23.V.67 і там пахаваны. Дык сваю радаводную лінію ад Кастуся Каліноўскага даводзіць ён ужо нябеснаму ключніку Пятру. У мяне ляжыць недзе выразка з аднаго летувіскага часапісу — вялікі артыкул пра нябошчыка генэрала з вялікім ягоным партрэтам, друкаваны гадоў 5 таму. Там журналіст расказвае, што паводле словаў генэрала, гэта няпраўда, што Кастусь Каліноўскі быў павешаны. Калі паўстанцы даведаліся пра прысуд сьмерці, яны, праз сваіх людзей сярод турэмнае абслугі, падмянілі Каліноўскага іншаю асобаю, яго-ж выкралі, і Каліноўскі доўга яшчэ, хоць і нелегальна, жыў, спачатку ў Беларусі, пасьля эміграваў у ЗША, пададзеныя нават месты, у якіх ён жыў ды арганізаваў работніцкія «юньёны»[522]. Пасьля-ж ізноў вярнуўся у Беларусь і аж да сьмерці з маткаю генэрала. Легалізаваць гэтае сужыцьцё, дзеля нелегальнага палажэньня Каліноўскага, было немагчыма. Стуль генэрал Дзямідаў сын калі й ня шлюбны, але ўсё-ж самога Каліноўскага. Пры канцы артыкулу журналіст кажа, што генэрал расказваў гэта ня раз і беларусам, але яны гэтаму ня верацъ ды кажаць, што гэта звычайная радавая лягенда[523]. Ад сябе журналіст на заканчэньне дадае, што калі мо гэта й лягенда — але прыгожая лягенда. Вось такі быў Нябошчык. Думаю, у гэтых *«лягендах»* адбіліся тыя летуценьні пра веліч і славу, якіх не дало жыцьцё ці гісторыя. Між іншым, паводле сьветчаньняў нашых латвійскіх беларусоў, у Латвіі ён сваім часам паклаў вялікія заслугі для справы беларускага школьніцтва[524]. Дык хай лёгкаю будзе яму амэрыканская зямля, зямля, паводле яго, і Каліноўскага.

А цяпер ізноў крыху назад — да Абуховіча. Зь вялікай цікавасьцяй прачытаў Вашыя разважаньні й меркаваньні ў лісьце да мяне й да др. Ст. Станкевіча ў розных справах мовы, розных неспарадкаваных у нас пытаньнях, якіх тымчасам тысячы. Вельмі правільная — заўважыў калісьці гэта і я, ды й некаторыя іншыя, — тэндэнцыя нашых *«з*

[521] **Мікола Дзямідаў** (1888–1967), вайсковы і грамадскі дзеяч, публіцыст. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у Чыкага, уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-Амерыканскай нацыянальнай рады, вёў беларускія радыёперадачы.

[522] ***Union*** (англ.) — прафсаюз.

[523] Паводле сучасных звестак, Мікола Дзямідаў па мацярынскай лініі быў унукам Аляксандра Каліноўскага, брата Кастуся.

[524] Мікола Дзямідаў жыў у Латвіі ад 1923 г. да 1942 г., быў на чале таварыстваў «Беларуская хатка» і «Рунь».

*усходу»* ўцякаць ад мовы расейскае ды трапляць у палянізмы, а *«з захаду»* — уцякаючы ад палянізмаў, грашаць русызмамі. Перад праўдаю хілю сваю грэшную галаву і я: мне ніяк ні праз горла й на паперу не пралазіць яўна польскае *«крэсьліць»* — паколькі мне ведама, беларуская мова, усе яе дыялекты, словаў гэтага польскага карня ня мае. *«Алергію»* маю й да словаў з канчаткамі, частымі ў мове польскай, на *-унак* (гэта польскі германізм, ад нямецкага *-унг*). Косьцяй у горле будзе нам, *«заходнікам»*, станавіцца і Абуховічава *«ружніца»*. Ніяк не магу ўлучыцца ў фронт і супроць слова *«тамашні»*, бо ў той Вялейшчыне, зь якое я паходжу, яно існуе, жыве й *«брыкаецца»*. Вось дзеля гэтага хоць у 90% згаджаюся з Вашымі заўвагамі, у нейкіх 10 % мушу паклікацца як на *«паратунак»* (і ізноў *-унак*!) на формулу Абуховіча. Вось і дзеля гэтага ўніфікацыя не такая простая, лёгкая, а справа вельмі *«далікатная»*, у кажным выпадку яе ня можна праводзіць гэткімі спосабамі й шляхамі, як любіць гэта рабіць ведамы наш мовавед Янка[525]. Адзначыць пры нагодзе мушу афарыстычныя на раз *«прыхваткі»* (Адамовіч!) Вашае палемікі. Вашыя выражэньні *«Мова — вопратка душы, таму хочацца апранацца ў сваю вопратку»*, або пра тое, што *«Падбітаму арлу даводзіцца й ніжэй курэй апусьціцца, але курам ніколі да хмараў ня ўзьняцца»* — калісьці ўвойдуць у нашыя слоўнікі *«крылатых словаў»* (першы гэткі апрацаваў і выдаў у БССР нядаўна, здаецца, Янкоўскі[526]). Калі нармалізацыя часта справа няпростая й нялёгкая, дык рачовая дыскусыя гэтых пытаньняў, напэўна, вельмі карысная, і гэта найлепшы, калі й павольны, шлях да *«ўніфікацыі»* розных няўнармаваных пытаньняў нашае мовы.

Пару яшчэ словаў у гэтым лісьце пра канадыйскага Скарыну (іншыя справы адкладваю да чароднага ліста, які хіба дашлю пры канцы тыдня). Пра яго існаваньне ведаю ўжо ад мінулага году ад Скарыны мэксыканскага (яны дзьве розныя асобы, хоць і спародненыя), зь якім летась пазнаёміўся ў Нью Ёрку. Ніякое дакумэнтацыі пра паходжаньне ад нашага Франьцішка яны ня маюць. Гэтта, быццам, толькі *«радавая традыцыя»*. Скарына канадыйскі, між іншым, *«абураны»* вельмі, чаму гэта яго, *«патомка»*, ніхто не запрашае на Скарынавыя юбілейныя ўрачыстасьці за зялезнай заслонай. Пра гэта прынамся пісалі мне з Прагі. Колькі дзён пасьля атрыманьня Вашага ліста атрымаў ліст ад канадыйскага Скарыны і я, бо яшчэ 19.5.67 выслаў яму адбіткі маіх працаў (на параду з Прагі). Усе цяперашнія *«патомкі»* спалянізаваныя, моваю Франьцішка не гавораць.

---

525 Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

526 Гл.: Янкоўскі, Фёдар. Крылатыя словы і афарызмы: З беларускіх літаратурных крыніц. Мінск, 1960. — 135 с.

21.6.67 г.

Вельмі Паважаны й Дарагі Доктару[527]!

Мая ўдзячнасьць за ласкавы ліст з 30.V.67. Найперш вітаю з далейшымі ўдачамі й перамогамі ў галіне прафэсыйнай — із складзенымі экзаменамі для «Борд сэртыфікайшэн»[528]. Апрача маральнага здавальненьня гэта, пэўне-ж, палепшыць і матар'яльны стан, а ўсё разам, думаю, будзе мецць дабрадзейны ўплыў і на здароўе, на якое крыху ў сваім апошнім лісьце наракаеце. Дык цяпер — найперш добра адпачыць.

Дзякую вельмі й за прыхільны, пахвальны водзыў пра маю апошнюю працу пра нашага першага доктара, пра Скарыну. Прыязнае слова заўсёды падахвочвае да далейшае працы, а яна, мая *«скарыніяна»*, разрастаецца ва ўсе бакі *(«чым больш ведаеш, тым больш ня ведаеш»*) і *«не по дням, а по часам»*. Апошняя мая праца ня столькі мо' і добрая, колькі вычарпальная. Тэма вузкая, але неспадзеўкі ў СССР стала вельмі актуальнаю, і дзеля гэтага намагаўся яе *«вычарпаць да дна»*, каб ня было ўжо ніякіх сумляваньняў. Стуль некаторае «разжоўваньне» драбніцаў, што ў іншых выпадках лішняе, але тут патрэбнае, каб адсекчы ўсе магчымасьці перахрышчваньня Скарыны ў *«Георгія»*[529]. У БССР яе ўжо маюць, адзін адмысловы экзэмпляр высланы заказным на Акадэмію Навук БССР Кандрату Крапіве[530], які старшыня камітэту юбілейных Скарынавых там урачыстасьцяў. Высланыя кніжыцы і ўсім важнейшым беларускім часапісам БССР. І як практыка папярэдняя паказвае — яны даходзяць.

Ды ёсьць ужо і *«рэха»*. На гэтую тэму я чытаў тут рэфэрат два гады ўжо таму, у травені 1965 г. Тады-ж пра гэта было паведамленьне ў нашай тут прэсе[531] й для БССР па радыё, з заўвагай, каб вярнулі ў канцы Скарыну тое імя, якое яму адабралі ў пару Сталіншчыны. Увосені таго -ж году ў друку БССР паказаліся першыя артыкулы з *«Франьцішкам»* Скарынам, і першая заўвага, што *«Георгій»* — памылковае. Сёлета, у часапісах БССР, ужо пару разоў атакавалі Майхровіча, чаму ён сваю кнігу 1966 г. назваў «Георгій Скарына», хоць Скарына сябе гэтым імем ніколі

---

527 Ліст адрасаваны Янку Садоўскаму.

528 ***Board certification*** (англ.) — працэс пацвярджэння прафесійных кваліфікацый. Праз колькі месяцаў, у лістападзе 1967 г. Янка Садоўскі абараніў у Лонданскім універсітэце доктарскую дысертацыю «Лінгвістычны аналіз «Чатырох кніг Царстваў», надрукаваных Скарынам у 1518 г.» (*A linguistic analysis of the Four Books of Kings printed by Skaryna in 1518*).

529 Маецца на ўвазе тэкст: Брага, Сымон. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры // Запісы БІНіМ. № 4 (10). Мюнхэн, 1966. С. 184–215; Тоесамае адбітка: Ню Ёрк — Мюнхэн, 1967. — 39 с.

530 **Кандрат Крапіва** (1896–1991), пісьменнік, паэт, драматург, перакладчык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік БССР. У 1956–1982 гг. быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР.

531 Пра гэта гл.: А. Н. Імя доктара Скарыны // Беларус. № 100. 1965. С. 2.

не называў. У травені-ж адбылося адмысловае паседжаньне Акадэміі Навук, адведзенае гэтаму пытаньню. Справу вырашылі кампрамісам: мае быць Францыск (Георгій) Скарына. Дык з Георгіем партыйныя кругі адступілі на *«другую лінію фронту»* ды схаваліся за дужкі! У рэакцыі на гэтую пастанову БІНІМ выдае свой *«камунікат»*, прысьвечаны гэтай справе, які ў Менску таксама дастануць. Дык *«вайна»* ідзе, і праўда напэўна на нашым баку.

У Вас, Доктару, між іншым ёсьць адна *«скарынава»* рыса характару — любіце, як і ён, падарожнічаць. Праўдападобна сёлета наведаеце й канадыйскую выстаўку ЕХПО 67[532] у Монтрэалі (тамака, у савецкім павільёне, выстаўлена й Кніга Ёвы Скарынавага выданьня). Вось у тымсамым Монтрэалі жыве й дзеіць адзін *«патомак»* Скарыны (радня Скарыну мэксыканскаму). Гэта Станлей Скарына, доктар мэдыцыны й прафэсар унівэрсытэту МкГілл[533] у Монтрэалі, пару гадоў таму быў навет і дэканам факультэту. Аж з Прагі пра яго мне пісалі, што ён робіць *«скандал»* — чаму гэта зьбіраюцца сьвяткаваць Скарынавы юбілей ды бязь яго — яго, *«патомка»*, не запрашаюць! Дык у яго моцна вера ў патомнасьць *«па простай лініі»* ад нашага Франьцішка, хоць яна абаснаваная толькі на сямейнай традыцыі, бо ніякой дакумэнтацыі на гэта няма.

Станлей Скарына актыўны вельмі й на полі навуковым. Ён дырэктар «*Жалудачна-кішачнае дасьледнае лябараторыі*», а тры гады таму, у 1964, зь ягонае ініцыятывы й пад ягоным кіраўніцтвам адбылася вялікая інтэрнацыянальная навуковая экспэдыцыя пад пратэктаратам ЮНЭСКО на Вялікодныя Атокі Ціхага Акіяну[534]. Дык па прафэсіі й па характару ён запраўды падобны на *«пратаплясты»* доктара Франьцішка — рухавы, кідкі, энэргічны. Маю зь ім і перапіску ў справах ягонага *«прадзеда»*. Запрашаў прыехаць на выстаўку ды пры нагодзе адведаць і яго. Сумняваюся, каб да гэтае мае паездкі дайшло. Вось дзеля гэтага можа было-б і добра, каб, калі будзеце ў Монтрэалі, спробвалі да яго зазваніць ды пазнаёміцца. Як свой адрыс ён падае *«Дырэктар Гастро-Інтэстыналь Рысарч Ляборатори»* оф МкГілл Юневэрсыты. У тэлефоннай кнізе хіба можна было-б знайсьці і ягоны прыватны тэлефон. Пазнаёміцца хіба зь ім варта. Ягоную *«сямейную традыцыю»*,

---

[532] Маецца на ўвазе **Сусветная выстава 1967 г.** (фр. *Exposition universelle de 1967*), што адбывалася ад 27 красавіка да 29 кастрычніка 1967 г. у Манрэалі. Гэта была самая паспяховая з усіх папярэдніх аналагічных выставаў. У ёй бралі ўдзел 62 дзяржавы, павільёны наведалі больш за 50 мільёнаў чалавек.

[533] **Універсітэт Макгіла** (англ. *McGill University*) — найстарэйшы і найбольш вядомы ўніверсітэт у Канадзе. Заснаваны ў 1821 г. і адчынены ў 1929 г. у Манрэалі.

[534] Згадку пра гэтую экспедыцыю гл.: Стипп, Дэвид. Новый путь к долголетию // В мире науку. 2012. № 3. http://www.sciam.ru/journal/catalog/article/novyj-put-k-dolgoletiyu.

правільная яна ці не, лепш шанаваць, як кажную сямейную традыцыю. Ён, як і Скарына Юры мэксыканскі, спалянізаваны, бо іхны род ад колькіх пакаленьняў жыў у Польшчы. Здаецца, ягоны дзед меў у Варшаве хвабрыку млынавых каменьняў. Калі-б да нейкае сутычнасьці зь ім дайшло — можаце перадаць ад мяне прывітаньні. Між іншым, ён, як і наш доктар Франьцішак, дакладна таксама мае два дактараты: М. Д. і Ф. Д.[535], а філязофіі доктар!

Дык, пры нагодзе, можа і ўдасцца й Вас *«упрагчы»* ў *«скарынаведную дасьледную працу»*.

У мяне і ў нас наагул новага асаблівага нічога. Здароўе, пакульшто, клопатаў паважных ня робіць. Увесь час *«трасу»* на адлегласьці архівы й бібліятэкі Эўропы ў пошуках новае нязнанае Скарыніяны. *«Сьняцца сны»* пра магчымасьць паехаць калі-небудзь на колькі тыдняў у архівы Аўстрыі, дзе, як мае знакі *«на небе й зямлі»* паказваюць, ляжаць яшчэ гурбы нікім некранутых і няведамых актаў і дакумэнтаў пра *«пратаплясту»* беларускае мэдыцыны — нашага доктара Франьцішка. Пакульшто на гэта не пазваляе мой *«міністар фінансаў»*.

Прывітаньні зь Нью Ёрку!

Адданы Вам

23.6.1967 г.

Вельмі Паважаны Рэдактару[536]!

Магу ўрэшце выслаць тое, што меўся выслаць ледзь ня месяц таму: матар'ялы пра далейшы ход справы зь імем доктара Скарыны. Тут шлю фатастат зь «Зьвязды» артыкулу Жураўскага[537], дзе пададзеная пастанова *«Бюра акадэміі»* ў справе імя Скарыны[538], а адначасна фатастатычнае выданьне рэакцыі БІНіМ на гэтую пастанову[539]. Яе наш сакратар «друкаваў» ледзь ня месяц. Рассылаецца яна толькі нашым часапісам на эміграцыі й беларускім часапісам Менску. У скарачэньні зьмест яе перадаваўся й па радыё.

Як заўважыце, сэнс пастановы *«бюра»* ў тым, што з *«Георгіем»*, пад напорам фактаў, кругі, што яго прапагуюць, муселі адступіць зь першае лініі фронту, але намагаюцца захаваць яго хоць ззаду, хоць у дужках. Але й Франьцішак не дапускаецца, на яго месца мае ісьці *«Францыск»*. Гэтак, відавочна, імя Скарыны будуць сёлета даваць на юбілейных мэдалёх ды каваць на памятніку ў Полацку (пры нагодзе

---

[535] Маюцца на ўвазе званні: *Doctor of Medicine (MD)* і *Doctor of Philosophy (PhD)*.

[536] Гэты і наступныя лісты з такім зваротам адрасаваныя Юрку Віцьбічу.

[537] **Аркадзь Жураўскі** (1924–2009), мовазнавец, доктар філалагічных навук.

[538] Гл.: Жураўскі, А. Як называць Скарыну? // Звязда. 11 мая 1967. С. 4.

[539] Маецца на ўвазе: Імя доктара Скарыны. Нью Ёрк: БІНіМ, травень 1967. — 4 с.

вось яшчэ адзін падсавецкі кур'ёз із Скарынам: ЛіМ чорным друкам і ў дзьве шпальты падаў вестку пра тое, што *«ў гонар 540-годзьдзя беларускага кнігадрукаваньня выканком Шаркаўшчынскага пасялковага Савета дэпутатаў працоўных Віцебскай вобласьці перайменаваў адну з вуліц гарадзкога пасёлка ў вуліцу Скарыны»*!!! Шаркаўшчына, гэта, здаецца, тая самая, скуль паходзіць паэта Міхась Машара[540], і бясспрэчна, пастанова была шчыраю. Але калі падумаць пра тое, што шануюць людзі Скарыну ў нейкіх пасёлках, але нічога не чуваць пра вуліцу Скарыны (і навет завулак, як калісьці *«ўшанавалі»* Купалу) у сталічным Менску — гэты юбілей выглядае на кпіны над Скарынам, беларускаю культураю й беларусамі. Але — можа яшчэ паправяцца.

Што да пастановы *«бюра»* ў справе імя Скарыны, дык характэрна вельмі, што хоць пра яе пададзена ў партыйнай «Зьвязьдзе» ўжо тыдняў таму шэсьць — зігнараваная нейк гэта пастанова зусім і дагэтуль у ЛіМ'е, там — ні слуху, ні гуку. У пары дробных згадак пра Скарыну, якія за гэты час у ЛіМ'е былі, імя яго абыходзяць скаротам: «Ф». Выглядае, што рэдактром ЛіМ'у пастанова *«бюра»* не па душы. Ці яны ўсё-ж з мусу падпарадкуюцца — трэба будзе прыглядацца. Пастанова, у кажным выпадку, напэўна не здаволіла Прашковіча і іншых аўтараў, якія на справу імя Скарыны маюць ясны пагляд.

Гэтымі днямі трапіла мне ўрэшце ў рукі Майхровічава кніжыца пра «Георгія»[541]. Графічна выдадзеная беззаганна — пахвала мастаку й менскім друкаром, якія стыду Скарыну не зрабілі. Але зьмест — мізэрная агітка. Ад пачатку да канца кляне, разоў дваццаць, каталіцкіх і праваслаўных цемрашалаў, наагул *«цемрашаліць»* праз усю кніжыцу (ублытаўся ў гэтае слова!). Намаганьне вывесьці Скарыну навет у атэістыя, але аргумэнтамі й разважаньнямі атэістага з запасам довадаў камсамольскага недарослага агітатара. Чытаючы некаторыя разьдзелы, ствараецца ўражаньне, што пісака *«тварыў»* пад узьдзеяньнем добрае дозы алькаголю; ня раз, а разоў колькі ён выразна забываецца, што сам пісаў ня толькі на папярэдняй бачыне, але навет у папярэднім сказе. Ад усяе кніжыцы нясе *«нядобрым пахам вялікіх словаў»*, словаў бязь зьместу.

А цяпер да справы больш паважнае — да нашае Сьвятое ці, як Скарына пісаў, *«Сьвятыцы»* — да Афрасіні Полацкае. Справы гэтае ня высьніў да дна, але сёе-тое магу напісаць. Як мне цяпер выглядае, пытаньне можна ўняць у тры пункты: 1. У тых колькі дакумэнтах, якія здолеў пераглянуць, нідзе не натрапіў на год сьмерці 1167. 2. Бадай усе аўтары XIX ст. гавораць пра год 1173 як год сьмерці. 3. Найнавей-

---

540 **Міхась Машара** (1902–1976), паэт, празаік, драматург, перакладчык. Паходзіць з хутара Падсосна (сёння Шаркаўшчынскі раён).

541 Майхровіч, Сцяпан. Георгій Скарына…

шыя паважнейшыя расейскія жаролы яшчэ царскае пары перад самаю Першаю Сусьветнаю вайной выразна адступаюць ад году 1173-га як пэўнага году сьмерці, а пераходзяць на азначэньне *«памерла ў гадох 1173–1175»*. Гэтак пададзена, між іншым, у «Новый энциклопедический словарь» (гэта другое папраўленае выданьне згаданае Вамі энцыкляпэдыі Брокгаўза і Эфрона, выданьне няскончанае дзеля вайны[542]). Тое-ж самае і ў «Русская энциклопедия»[543]. Пазьнейшыя інфармацыі абрываюцца — за савецкім часам біяграфіямі сьвятых у СССР ніхто не займаўся.

Вывад з гэтага такі, што калі няма пацьверджаньня на год 1167, дык, выяўляецца, і год 1173 няпэўны. У гэткім палажэньні трэба было -б ісьці да *«жаролаў»*, але — дзе яны. Прынамся я гэтага ня ведаю. Думаю, што калі паважна падыходзіць да пытаньня, трэба было-б усё-ж правесьці далейшую праверку за пошукамі *«грунту»* датаваньня.

Важна было-б таксама напісаць да а. Гарошкі ліст з просьбаю падаць тое *«жарало»*, на чым ён абапірае свой год сьмерці сьв. Афрасіні — можна будзе тады гэтае *«жарало»* праверыць. На жаль, я ад год пяці ніякое перапіскі ані кантакту з а. Гарошкам ня маю. Можа, маглі-б Вы напісаць? Без праверкі гэтага ня можна ўсё-ж катэгарычна адкідаць і ягонага году.

Разам як пішу гэты ліст, на стале ў мяне ляжыць новы нумар мэдычнага часапісу, а ў ім вестка, каторая будзе й Вас цікавіць: праведзеныя досьледы з пацыентамі з благой цыркуляцыяй крыві ў нагах выказалі, што тыя зь іх, якія падчас лячэньня стараюцца ў меры магчымасьці хадзіць, маюць пасьля колькіх месяцаў куды лепшыя вынікі лячэньня, як тыя, што ня ходзяць, а толькі прыймаюць тыя ці іншыя лекі (якіх уплыў вельмі сумніўны). Спадзяюся, што ногі Вашыя ў паправе.

Прывітаньні зь Нью Ёрка!

26.6.1967 г.

Вельмі Паважаны Спадару Рэдактару!

Сяньня завітаў Ваш чародны ліст. Каб паправіць папсаваную *«рэпутацыю»* — сяньня-ж адказваю, хоць тры дні таму выслаў Вам ужо і ліст, і *«матар'ялы»*. Прышлі, зразумела, і грошы. Рады, што задаволены вельмі з кнігі «Полацкая зямля»[544]; калі нешта падобнае трапіцца — зразумела, заўсёды захаплю. Але ў Нью Ёрку цяпер гэта рэдка

---

[542] ***«Новый энциклопедический словарь»*** выходзіў у 1911–1916 гг. Усяго пабачыла свет 29 тамоў з запланаваных 48.

[543] ***«Русская энциклопедия»*** выходзіла ў 1911 г. пад рэд С. Адрыянава і іншых. Было запланавана выдаць 20 тамоў, але свет пабачылі толькі 11.

[544] Алексеев, Леонид. Полоцкая земля: очерки истории северной Белоруссии в IX—XIII вв. Москва, 1966.

здараецца. Самое кніжкі прачытаць яшчэ ня меў часу, але некаторыя разьдзелы пераглянуў, дый — канцавыя выснавы, дзе між іншым пішацца: *«Полоцкое княжество представляло наиболее самостоятельную политическую единицу древней Руси, обладавшую к тому же и оригинальной культурой»* — адным словам, тое, што даўно пісалі й пішуць беларускія *«нацдэмы»*, а што рэдка асьмеляцца напісаць цяпер менскія беларускія аўтары. Пра гэта адкрыта можна пісаць хутчэй у Маскве.

Удзячны вельмі й за дасланыя копіі лістоў. Артыкулу «Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая...»[545] не пасьпеў прачытаць. Пасьля Вашае грунтоўнае *«аналізы»* бачу, што гэта й не канечна. Што да Вашых заўвагаў пра гэты артыкул, маю дзьве зацемкі: у справе году сьмерці сьв. Афрасіні — калі год 1167 невядома скуль узяты (а. Гарошкам), дык і год 1173 няпэўны, а толькі прыблізны. Пра гэта я ўжо пісаў у папярэднім лісьце. Другая рэч — Вашая фраза *«князь (!) Іван Люты ў 1563 г. вывез...»*. Дагадваюся прычыну Вашага клічніка пасьля слова *«князь»*. У нашага Уладыкі[546] яно, зразумела, прыпадкова пастаўлена за нейкім іншым аўтарам. Але ёсьць аўтары, якія пра Івана Грознага пішуць якраз так — *«князь»*, між імі і я, і пры нагодзе хачу выясьніць чаму. Гэта праўда, што пад час свайго каранаваньня (ці не ў 1547 г., прыводжу з памяці) Іван Грозны, ці «Люты», прыняў тытул цара, і для расейскіх гісторыкаў ад гэтае пары пачынаюцца *«цары»* замест папярэдніх князёў. Але прайшло колькі дзясяткаў год, пакуль гэты тытул быў прызнаны й за межамі. Нашыя прашчуры за ягоных часоў станоўка й кансэквэнтна яму гэтага тытулу адмаўлялі. І ўсякія перамовы з Масквою пасланцаў Вялікага Княства Літоўскага, як і наадварот, пасланцоў Масквы ці ў Вільні, ці на полі частых тады войнаў з Масквою, пачыналіся з доўгатрывалых баталіяў за гэты тытул, якога Масква дамагалася, а Літва (і Польшча) кансэквэнтна адмаўляла. Вось таму ўва ўсей старабеларускай літаратуры тае пары Іван Грозны — толькі князь. Зацеміць гэта можна і ў загалоўку «Навінаў грозных»[547] ды падобных заходнеэўрапэйскіх выданьнях тае пары, дзе Іван — толькі князь. Ці пад канец свайго жыцьця хоць раз Іван Грозны дамогся ад Літвы афіцыйнае тытуляцыі *«цар»*, ня помню, хіба не, але падчас захопу Полацку ў 1563 г.

[545] Маецца на ўвазе артыкул: Васіль, архіяпіскап. Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая — Патронка Беларусі // Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 1.

[546] Маецца на ўвазе ўладыка Васіль (Тамашчык).

[547] Маецца на ўвазе тэкст: *«Навіны грозные а жалостлівые о нападе княжаті Московского Івана на землю русску, которі то князь паленьнем, тыранством, мордованьнем мест, замков добываньнем веліку і знаменіту шкоду вчыняет. З доданьнем релацый Его Мілості Гетмана ВКЛ княжаті Радзівілла о поражцы места Полоцкого, 1562»*. Аналіз гэтай крыніцы зрабіў Вітаўт Тумаш у артыкуле: Максімовіч, Р. «Навіны Грозныя» 1563 году // Запісы БІНіМ. № 4 (10). Мюнхэн, 1966. С. 247–250.

яго напэўна ніхто ў нас царом не назваў. Толькі пад канец стагодзьдзя, пры нейкім крутым ваенным і дыпляматычным палажэньні, дыплямацыя Літвы здала гэтыя свае пазыцыі і стала князёў маскоўскіх называць ужо царамі. Дык, калі павінна з свайго гледзішча маскоўскія гісторыкі называць Івана Грознага царом, дык правільныя і ўсе тыя беларускія гісторыкі, якія яго вялічаюць толькі князем, бо яны трымаюцца свае гістарыяграфічнае традыцыі. Гэта сяньня, пэўна-ж, справа й малаважная, але ў гэтым няма ніякога гістарычнага *«анальфабэтызму»* ці *«анахранізму»*. Калі Жыгімонт Аўгуст у 1553 г. пісаў сваю інструкцыю пасланцу пры папе ў Рыме, інструкцыю, у якой згадваецца пра паленьне кнігаў Бібліі ў Маскве, выдадзеных падданым *«нашага Нябошчыка бацькі»*, дык там якраз абураўся, што маскоўскі князь набраўся такое нагласьці, што дамагаецца, каб яго ўжо імпэратарам звалі (цар перакладалі тады як *«цэсар»*).

З другое Вашае *«эпісталярнае»* копіі бачу, што ў Вас тымчасам адкрыўся *«фронт»* з а. Пятроўскім. Пару тыдняў таму і я атрымаў ад яго ліст ды не разумеў, чаму ў ім ён неабаснавана зласьлівы раптам стаў і да мяне, хоць да падобнае *«тытуляцыі»*, якою ён *«ушанаваў»* сп. Адамовіча, яшчэ, праўда, і не дагаварыўся. За пару тыдняў адкажу яму і я — не вялікі пан, пачакае — хоць адкажу каротка. Бяручы на ўвагу тое, што ён перад сваім імём і прозьвішчам ставіць *«а.»*, па-ангельску *«рэвэрэнд»*[548] — пераход раптам на *«слоўнік»* «Голасу радзімы»[549] — асабліва ўражвае й нясмачны.

Наіўна ён думае й пра тое, што слова *«спадар»* наш філёляг Янка *«выдумаў»*. На свае арыгінальныя выдумкі якраз др. Я. Ст.[550] і слабы, і гэта ў яго вельмі рэдка здараецца. Характэрная асаблівасьць Янкавае філялёгіі ня творчыя *«выдумы»*, а тое, што без належнага, часта, адчуваньня пхае ён словы й формы мовы старое або дыялектаў (а часам навет і чужыя, прыкл., чэскія) там, дзе яны зусім не падыходзяць. Доктар і айцец Пятроўскі, хоць знае мову грэцкую, зразумела, ня ведае таго, што слова гэтае сустракаецца ў нашых летапісах (ці словы, паходныя ад яго), у юрыдычнай літаратуры, што ўжывае яго ўжо адзін зь першых нашых паэтаў — Андрэй Рымша[551], што здараецца яно ці раз навет у сучаснай народнай мове. Пэўне-ж ён ня ведае й таго, што

---

[548] ***Reverend*** (англ.) — «вялебны» — пазнака прыналежнасці да святарскага сану.

[549] **«Голас Радзімы»** — інфармацыйна-асветная газета для беларусаў замежжа, што выдаецца ад 1955 г. Да 1960 г. мела назву «За вяртанне на Радзіму». Выкарыстоўвалася для прапаганды савецкага ладу жыцця.

[550] Янка Станкевіч.

[551] **Андрэй Рымша** (каля 1550 — 1599), паэт-панегірыст, адзін з асноўных прадстаўнікоў старажытнай беларускай паэзіі другой паловы XVI — пачатку XVII ст.

ў вадным чэскім слоўніку — глёсарыі 1587 году, у якім падаюцца розныя словы з розных славянскіх краўнаў у чэскім перакладзе, напісана даслоўна вось што (даю ў беларускім перакладзе): *«у белай Русі падданы свайму княжаці скажа: Спадару княжа ня лжы!»*. Паколькі гэты слоўнік укладаўся на поўдні Чэхіі, і якраз у той мясцовасьці, дзе гэтым самым часам жыў і лекарам практыкаваў Скарынаў сын Сымон Скарына, дык маю моцнае падазрэньне (хоць ніякіх пакульшто на гэта довадаў), што аўтар слоўніка Бэнэшоўскі даведку пра гэта, як падданы ў Беларусі патрапіць зьвярнуцца да свайго князя на *«Спадар»*, даведаўся якраз ад яго.

Цяпер, прачытаўшы Ваш ліст да а. Пятроўскага, разумею, што ўся злосьць у яго да мяне гэта найперш паводле тае лёгікі, як бывае ў жыцьці, калі муж, пасварыўшыся з жонкаю, са злосьці таўчэ вокны свайму нічога нявінаватаму суседу. Бо галоўная яго абраза ў лісьце тая, чаму ў друкаванай калісьці (і зусім непадпісанай мною — хоць ён правільна дагадаўся, што аўтар яе я) у «Беларусе» зацемцы пра Парацэльса[552] я пісаў *«Піліп Тэафрас Бамбаст Парацэльз»*, а не *«правільна»* — *«Пілінус Тэафрастус Бомбастус Парацэльзус»*! Здаецца, давядзецца напісаць яму, што адвяду дарагі час на гэта, каб паважна й грунтоўна высьніць, *«чаму»*, але толькі тады, як ён свой «Сьветач Хрыстовае навукі»[553] перамянуе на *«Сьветач Хрыстосавае навукі»*. Трэба-ж быць пасьлядоўным.

Адданы Вам Ваш

11 ліпеня 1967 г.

Вельмі Паважаны Спадару Рэдактару!

Пацьвярджаю атрыманьне ліста з 29.6.67, а разам і маё прыкрае спазьненьне з адказам. Вашае ліставаньне з а. П.[554] крыху нагадвае спробу нейкага *«перавыхаваньня»* асобы духоўнае, што заўсёды справа асабліва цяжкая, бо характар і натура чалавека мяняюцца ня лёгка. У кажным выпадку шчыра зычу Вам удачы ў бясспрэчна добрым пачыне!

Маю і я да Вас пытаньне ў справе сьв. Афрасіні, але іншага ўжо характару. Пераглядаю якраз цяперачы Скарынаў каляндар, памешчаны ў ягонай Малой Падарожнай Кніжыцы. У месяцы верасьні — *месець септебри зовемы вресень* — дня 25-га, напісана: *«Преподобныя матери*

---

552 **Парацэльс** (сапр. Філіп Аўрэол Тэафраст Бамбаст фон Гагенхайм, лац. *Philippus Aureolus Theophrastus Bombast von Hohenheim*, 1493–1541), алхімік, лекар, акультыст.

553 **«Сьветач Хрыстовае Навукі»** — евангелісцкі часопіс, выдаваны Янам Пятроўскім у ЗША ў 1961–1966 гг. як працяг віленскага выдання, што пачало выходзіць у 1932 г.

554 Ян Пятроўскі.

*нашея Эуфросиніи»*. Ці гэта ідзе пра сьв. Афрасіню Полацкую — на што быццам паказваюць словы *«матери нашея»* — ці пра нейкую іншую? Пакульшто ня маю часу капацца ў гэтай справе ў бібліятэцы. У праваслаўных-жа календарох, што ў мяне пад рукою, столькі розных сьвятых Афрасіняў ды столькі розных датаў, што яны нічога не паказваюць, а толькі бянтэжаць. У Вас справы царкоўныя павінны выглядаць заўсёды ясьней і прасьцей, і за каштоўны камэнтар буду ўдзячны.

Што да «Літвы»[555], дык гэта праўда, што Пануцэвіч *«адкрыў»* фронт супроць аўтараў «Запісаў» — недарма празваў сябе *«Волацічам»*[556]: аднэй рукой распраўляецца, *«качаючы»*, з П. Урбанам, другою — з А. Адамовічам. У кірунку трэцім б'е пакульшто не беспасярэдня, а *«наўкасы»*, *«з-за вугла»*, ударяючы па справе важнасьці й прымату гістарычнага друкарскага пачыну др. Скарыны. Я таксама ня меў часу новае прадукцыі гэтак шматбаковага аўтарытэту ўва ўсіх галінах навукі ўважна пераглядзіць, але яна, бясспрэчна, ня столькі *«навука»*, колькі адбітак аўтаравае мэнтальнасьці. Калі ходзіць пра працу П. Урбана[557], перабегшы калісьці яе, я меў таксама ўражаньне, што хоць награмаджана тамака вельмі шмат фактаў і матар'ялу, ды аўтар ўсё-ж яшчэ *«за дрэвамі лесу дарогі ня бачыць»*. У кажным выпадку, гэта працавітая спроба награмадзіць факты і зь іх рабіць правільныя высновы — шлях навукова найбольш правільны, і толькі гэты шлях зможа давесьці — калі не адразу, дык пазьней — і да правільнае разьвязкі пытаньняў. Дык мэтад Урбана, мэтад г. зв. дэдукцыі, рабленьне вывадаў з фактаў, і ён кардынальна супроцьлежны мэтаду П[ануцэвіча] — мэтаду індукцыйнаму, які згары прыняты пагляд накідае й фактам[558], і для гэтага іх адпаведна падбірае, падтасоўвае, калі трэба — падстрыгае, і бяда фактам, калі яны пярэчаць яму: у Пракруставым ложку свае канцэпцыі, калі яму трэба, ён адрэжыць ім ня толькі ногі, але й галаву!

Падобны спосаб і ў дыскусіях з А. Адамовічам: тут ён патрапіць пісаць зусім адваротнае тому, што сам сьцьвердзіў, і вельмі аўтарытэтна, яшчэ колькі год таму. У Нр. 14 «Беларускае Царквы» з 1959 г.[559], у тым самым артыкуле, дзе ён Скарыну зводзіць да ролі палітычнага

---

[555] **«Litva»** — часопіс, які пазіцыянаваўся як «навуковы», выдаваны Вацлавам Пануцэвічам у Чыкага ў 1967–1973 гг.

[556] **Волаціч** — псеўданім Вацлава Пануцэвіча.

[557] Магчыма, размова пра працу: Урбан, Павал. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага і гістарычны тэрмін «Літва». Мюнхэн: БІНіМ, 1964. — 55 с.

[558] Вітаўт Тумаш памыляецца ў вызначэнні метадаў дэдукцыі і індукцыі. Дэдукцыя прадугледжвае вывядзенне прыватнага з агульнага, а індукцыя — наадварот, агульнага на падставе прыватных выпадкаў.

[559] Маецца на ўвазе тэкст: Пануцэвіч, Вацлаў. Некаторыя заўвагі да мовы Пранціся Скарыны // Беларуская Царква. № 14. Чыкага, 1959. С. 27–42.

агента ўраду й папы, напісана, як вол: *«Гаварыць, што Скарына пераклаў біблію на беларускую мову... не прыходзіцца»*. Цяпер, калі захацеў *«расправіцца»* з А. Адамовічам, ён сам піша: *«Наша літаратура... можа ганарыцца... раньнім перакладам Бібліі на старабеларускую мову»*!!!(б. 227)[560]. Для патрэбаў дэмагогіі хамэлеонаў абарот на 180º.

Што да Фэоля, дык ведамы кожны факт, што ён піянер усяго славянскага кірылічнага друку, а гэтым самым і друку беларускага. Дзеля гэтага й падчас Скарынавае выстаўкі тут 1963 г. ягоныя друкі красавалі ў разьдзеле *«папярэднікі й пасьлядоўнікі Скарыны»*. І дзеля гэтага ў кажнай гісторыі беларускага друку і пра яго вестка павінна быць з паданьнем характару ягоных друкаў і іх гістарычнага значаньня. У інфармацыйнай даведцы, дадзенай на выстаўцы пра Фэоля, я пісаў: *«Фэолявы кнігі — кнігі царкоўна-славянскія. Беларускія ў іх толькі кароткія канцавыя прыпіскі — каляфоны. Выдаваў Фэоль літургічныя праваслаўныя кнігі найперш з гандлёва-прыбытковых меркаваньняў. Дык Фэолявы кнігі, друкаваныя не беларусам, не па-беларуску, не на беларускай зямлі, а толькі — для беларусаў, як і ўсіх праваслаўных Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы. Скарынавыя-ж кнігі й моваю, і паходжаньнем іх выдаўца, і — віленскія — месцам свайго друку маюць ужо поўнае права называцца беларускімі першадрукамі, і дзеля гэтага доктару Франьцішку Скарыну й прыпадае заслужана гонар засноўніка друкарства ў Беларусі»*.

Да ўсяго трэба дадаць, што дзеля таго, што Фэоля кнігі былі накіраваныя бясспрэчна ня толькі для беларусаў, але й для ўкраінцаў, дык прэтэнсыі да яго маюць і ўкраінцы (а навет і расейцы і ўжо зусім без аніякіх падставаў). Некаторыя ўкраінскія аўтары й пішуць проста, што гэта *«ўкраінскі першадрукар»*, а знайшліся й гэткія дасужыя аўтары, што яго навет зрабілі *«русіна-лемківского походжэння — Святополком Фіолем»*. На гэта, ясна, няма аніякіх канкрэтных дадзеных, гэта чысьцейшая фантазія. Справу мацнейшага ўвязаньня Фэоля й ягоных друкаў з народам беларускім ці ўкраінскім пазволіла-б выяўленьне дэталяў, хто за ягоны капітал выконваў рэдакцыйную працу — выбар тэксту, ягоную рэдакцыю, карэкту і г. д. Але і ў гэтай справе пакульшто ніякіх дадзеных. Сама беларуская мова канцавых прыпісак (геніяльны П[ануцэвіч] сьведама ці нясьведама хвальшуе подпісам пад рэпрадукцыяй Фэолева «Осмогласьніка» факты: гэта не пачатковая бачына, а самая апошняя, канцавая; толькі Скарына першы ў кірылічным друку завёў загаловачныя бачыны) — таксама не зьяўляецца вырашаючай у гэтым пытаньні, і ня толькі дзеля таго, што ўкраінцы ня проста яе залічаюць за мову сваю, а галоўна дзеля таго, што гэтаю самаю літаратурнаю моваю тады пісалі граматныя людзі ня толькі на

---

560 Маецца на ўвазе тэкст: Panucevič, Vaclau. Da pytańnia pra miesca Francisia Bahuševiča u history biełaruskaj litaratury // Litva. № 1. Chicago, 1967. S. 226–230.

тэрыторыі Беларусі, але й земляў Украіны, і ўстанавіць дакладна месца паходжаньня — беларускае ці ўкраінскае — аўтара гэтае прыпіскі проста немагчыма; дзеля яе караціні ды добрай граматнасьці аўтара ў гэтак кароткім тэксьце праявіцца нейкія лёкальныя дыялектныя асаблівасьці не пасьпелі. Сам-жа царкоўнаславянскі тэкст кнігаў недастаткова дагледжаны, каб па яго характары можна было станоўка казаць, ці гэта рэдакцыя з тэрыторыі беларускай ці ўкраінскай.

У выніку, не адмаўляючы піянерскае ролі ў гісторыі кірылічнага друку Фэолю й прызнаючы яго за бясспрэчнага папярэдніка навет і друку Скарынавага, зарана тымчасам яшчэ ставіць яму памятнікі ў Менску як беларускаму друкару. Пануцэвіч сваімі *«довадамі»* і сам не заўважае, што ён ліе ваду на млын гіпотэзы ўкраінскіх вытокаў фэолевага друку. Учапіўся ён за нібы выяўлены факт, што быццам гэтая друкарня знаходзілася ў доме, які быў уласнасьцяй князёў Астроскіх. Але-ж Астроскія з валынскага Астрогу зьвязаныя заўсёды былі найперш з Украінай, і ўкраінцы за гэты аргумэнт рады будуць ухапіцца. Толькі тыя з князёў Астроскіх, што займалі высокія дзяржаўныя становішчы гэтмана ці ваяводы віленскага, мелі сваю часовую сядзібу і ў Вільні як сталіцы дзяржавы. Ведамы пагромца Масквы пад Воршай гэтман Канстантын Астроскі хоць будаваў цэрквы і ў сталічнай Вільні, ды ў сваёй *«духоўніцы»* загадаў пахаваць сябе ў Кіеве, куды цела ягонае й павезьлі. Што П[ануцэвіч] справу падобную падымае якраз у Юбілейным Скарынавым годзе, гэта ідзе па лініі ягонага зводжаньня Скарыны да нейкага *«агента»*. Ведамы Сартр[561] у сваіх біяграфічных нарысах «Слова»[562] піша, што калі ён быў малым хлопчыкам ды ў часе ўрачыстага рэлігійнага настрою ў царкве прыглядаўся, як людзі набожна жагнаюцца, пры ўваходзе памачыўшы пальцы ў сьвятой вадзе, дык чамусьці часам карціла ўзьлезьці на край каменнае пасудзіны ды насцаць у сьвятую ваду... Той самы інстынкт відавочна бытуе і ў дарослага ўжо геніяльнага чыкагскага вучонага.

Вітаю!

*Вітаўт Тумаш*.

30 ліпеня 1967 г.

Высокапаважаны Спадару Рэдактару!

Маруджу ізноў з адказам — віна мая. Удзячны Вам за ліст з 14.7.67 і дасланую копію Вашых цікавых заўвагаў пра ўспаміны а. Гэрмановіча[563]. Агульны пагляд той самы й мой, які калісьці, падчас майго доў-

---

[561] **Жан-Поль Сартр** (фр. *Jean-Paul Charles Aymard Sartre*, 1905–1980), французскі філосаф, пісьменнік, літаратуразнавец, прадстаўнік экзістэнцыялізму.

[562] Маецца на ўвазе аўтабіяграфічная аповесць Жана-Поля Сартра «Словы» (*Les Mots,* 1964).

[563] Гэрмановіч, Язэп. Кітай — Сібір — Масква. Мюнхэн, 1962. — 292 с.

гага гасьцяваньня ў Вас, я й выказаў: гэта паважны й гістарычны, і літаратурны здабытак нашага пісьменьніка ў адваротнасьць пісаных данашаніўскаю манерай паэтычных шэдэўраў Він. Адважнага[564].

Што да пытаньня году нараджэньня сьв. Афрасіні, дык усё-ж давядзецца зьвярнуцца па выясьненьне да а. Гарошкі, які, як выяўляецца, адзінае жарола памылкі (калі гэта памылка). Пры першай нагодзе раздабуду ягоны адрас ды перашлю для Вас — хай айцец духоўны тлумачыцца й даводзіць, і тады можна будзе рабіць канчатковыя высновы.

Ня думаю затое, што Скарына меў на ўвазе сьв. Афрасіню Александрыйскую[565] ў сваім календары. Ён выразна падчырківае, што гэта сьвятая — *«маці нашая»*. Пра нейкую сьвятую далёкае Александрыі гэтак гаварыць няма ніякіх асноваў, пры іншых сьвятых нейкіх падобных дапісак няма. Дык, думаю, ідзе тут якраз пра сьв. Афрасіню Полацкую, якую ў Скарынаву пару адзначалі ў той самы дзень, відавочна, што й другую сьв. Афрасіню — Александрыйскую, як пасьля на тойсамы дзень Масква дадала і Афрасінію Суздальскую[566]. Пазьней даты *«сьвятцаў»* зьмяніліся, бо-ж мяняліся яны ня раз. Пакульшто гэта толькі *«гіпотэза»*, бо ня меў часу заглянуць у бібліятэку ды пакапацца ў адпаведнай літаратуры, каб справу канчаткова выясьніць.

Што й сучасны *«стоўп»* праваслаўя, уладыка Апанас[567], займаецца выясьненьнем тапанімікі паводле прынцыпу *«народнае этымалёгіі»* — *«карасіна»* бо з *«карася»* — гэта бадай і ня гэткае дзіва пры адначаснай прысутнасьці падобнага іншага *«этымалёга»*, бясспрэчна куды больш начытанага ў гістарычнай літаратуры, што выводзіць *«кровлю»* ад *«крыві»*, назовы тыдняў — нашыя нядзелі, панядзелкі ды аўторкі — ад славянскае паганскае міталёгіі ды *«мэтадам карася»* керзае шмат іншых *«філялягічных»* дзівосаў — ведамага этымалёга Чыкагскага[568]. Трапляюцца прыклады падобнае наіўнае этымалёгізацыі навет і ў сучаснай навуковай літаратуры. Прыкладам, паважны вельмі расейскі этымалёгічны слоўнік прафэсара (ад колькіх год ужо

---

564 **Вінцук Адважны** — псеўданім айца Язэпа Германовіча.

565 **Еўфрасіння Александрыйская** (пам. каля 470), хрысціянская святая, што жыла ў манастыры пад выглядам мужчыны.

566 **Еўфрасіння Чарнігаўская** (сапр. княжна Феадулія Міхайлаўна Чарнігаўская, 1212–1250), праваслаўная святая.

567 **Апанас** (свецк. Антон Мартас, 1904–1984), рэлігійны дзеяч, архіепіскап, магістр тэалогіі. У той час жыў у Аргенціне. Архіепіскап Буэнас-Айрэскі і Аргенцінска-Парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу *«Белорусь в исторической государственной и церковной жизни»* (прадмова па-беларуску).

568 Маецца на ўвазе Вацлаў Пануцэвіч.

нябожчыка) Фасмэра[569], вельмі выдатнага славістага, паўтарае паважна погляды з XIX ст., што Наваградзкія Карэлічы гэта нейкі старавечны пасёлак фінскіх *«карэлаў»*; ну, бо ёсьць-жа над Белым морам нейдзе і Карэлія, і Карэльская паўатока. Справа-ж лёгка выясьняецца куды прасьцей — ёсьць-жа беларускія народныя словы і *«кара»*, і *«карэлы»*. Ваколіцы ўраджайнае карэліцкае зямлі поўныя дубовых гаёў, зь якіх дралі кару для патрэбаў гарбарскага скуранога промыслу. Прыгадваецца пры гэтай нагодзе й зухаватая прыпеўка дзяцюкоў мае Вялейшчыны: *«Ах ты мілая мая, каб цябе халерыя, колькі мыла ня купляў, а ты ўсё карэлая»*.

Напэўна, дасталі ўжо абежнік Інстытуту Нр. 12, дзе шмат пра нашую «скарыніяну»[570]. Да гэтае тэмы: 28.IX.66 выслаў у Прагу ліст, у якім, міжіншым, пісаў: *«У 1925/26 акадэмічным годзе на Карлавым праскім унівэрсытэце, пад апекаю прафэсараў Махаля й Францэва, дактарызаваўся Ігнат Дварчанін*[571]*. Тэма дысэртацыі: (па-чэску, гл. у абежніку). Нумар дысэртацыі ў архіве ўнівэрсытэту: АУК, Нр. 1331. Цікава было-б з гэтай працай пазнаёміцца... Як найпрасьцей і найлягчэй мікрафільм дысэртацыі з архіву дастаць?»*.

На гэты мой ліст атрымаў хутка паведамленьне, што мікрафільм будзе неўзабаве зроблены й высланы. Ня маю яго й дагэтуль, бо ўсё былі нейкія *«перашкоды»*, хоць няма і адмовы, што гэта аказалася немагчымым. Затое дзевяць месяцаў пазьней, у канцы чэрвеня сёлета, у менскай прэсе зьявілася паведамленьне прэсавае агенцыі (БелТА) пра знаход *«савецкімі вучонымі»* невядомае дысэртацыі пра Скарыну Дварчаніна[572]. Пэўна-ж, бываюць прыпадкі й *«зьбег»* прыпадкаў, хоць гэта заўсёды выняткова. Эвалюцыйны працэс падзеяў гісторыі і жыцьця наагул адбываецца ўсё-ж найперш па ланцугу кансэнквэтных прычыновых сувязяў: *«прычына — вынік — прычына — вынік»*. Вось дзеля гэтага, мне здаецца, што цяперашняе *«адкрыцьцё савецкіх вучоных»* — гэта толькі вынік зробленых, паводле ініцыятывы зь Нью Ёрку, допытаў у праскім архіве пра мікрафільм Нр. 1331. Дык Нью Ёрк адкрывае і для *«бэсэсэраўскага»* Менску; для самое славы выдатнага Палачаніна пэўна-ж ня мае ніякага значаньня, *«хто»* і *«калі»*.

---

[569] **Макс Фасмер** (ням. *Max Julius Friedrich Vasmer*, 1886–1962), нямецкі мовазнаўца, лексікограф, славіст, даследчык усходнеславянскай тапанімii і антрапанімii. Аўтар слоўніка: Russisches etymologisches Worterbuch. Heidelberg, 1950–1958; рускі пераклад: Фасмер, Макс. Этимологический словарь русского языка. Т. 1–4. Москва, 1964–1973.

[570] Гл.: Праца Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва ў галіне «Скарыніяны» // Абежнік БІНіМ. № 12. Ню Ёрк, 1967. С. 2–4.

[571] **Ігнат Дварчанін** (1895–1937), дзеяч беларускага нацыянальнага руху, паэт, літаратуразнавец.

[572] Гл.: Работа адшукана ў Празе // Звязда. 22 чэрвеня 1967. С. 3.

Гэткае вось апошняе *«здарэньне»* на юбілейным фроньце *«Скарыніяны»*.

У глыбокай да Вас пашане, вітае зь Нью Ёрку адданы

11 жнівеня 1967 г.

Высокапаважаны Рэдактару!

Пытаньням беларускай антрапанімікі, найперш справе пісаньня й вымаўляньня імяў у беларускай мове ў Вашым апошнім лісьце з 6.8.67 адведзена значнае месца. Да гэтае тэмы тут дасылаю фотастат ліста ў менскі ЛіМ Ул. Юрэвіча[573], прысьвечаны выясьненьню пытаньня, як правільна акцэнтаваць і вымаўляць прозьвішча доктара Скарыны[574]. Ягоныя вывады супадаюць з пададзенымі ў маёй апошняй працы пра імя доктара Скарыны (б. 34, пачатак апошняга разьдзелу[575]). Адзначыць трэба тут і той абзац Юрэвічавага ліста, у якім з настальгіяй згадваюцца часы, калі *«ў кажнай пачатковай школе на сьцяне вісеў партрэт беларускага першадрукара»*, што значыць таксама, што сяньня ў беларускіх школах гэтых партрэтаў няма, бо іх у пару перасьледу беларускае культуры ў БССР пад клічам змаганьня з *«нацдэмаўшчынай»* зьнішчылі. Склалася гэтак, што цяперашні юбілейны год выясьніць паважна адзін дробны аспэкт «скарыніяны» — пытаньне імя й прозьвішча Скарыны. Гэтай справе адведзеная мая апошняя праца, займалася гэтым пытаньнем нядаўна АН БССР, цяпер узьнімае голас да гэтае справы і Юрэвіч. Лёгка зацеміць, што некаторы акцэнт юбілейнага году на ўсьведамленьне сабе дакладна запраўднага імя і прозьвішча доктара Скарыны, гэта ў вялікай меры рэакцыя на савецкую *«геаргізацыю»* апошніх год нашага выдатнага Палачаніна.

Прыкра вельмі, што, як Вы крытычна падцемілі, заява Інстытуту ў справе імя тэхнічна выпала недасканала; хоць сакратар перапісваў яе, і ня раз, напісаць без памылкі ня даў рады. Ды экзэмпляры, якія ён рассылаў, былі карэктаваныя больш дыскрэтна, як зрабіў гэта я ў дасланым Вам экзэмпляры. Горш тое, што за НРС забыліся пра Ваш каштоўны артыкул у нашым «Беларусе»[576] пры рэдагаваньні апошняга «Абежніка», за што вельмі перапрашаем. Будзем старацца ў будучыні паправіцца.

---

[573] **Уладзімір Юрэвіч** (1916–2005), пісьменнік, літаратуразнаўца.

[574] Юрэвіч, У. Скар*ы*на ці Скарын*а* // Літаратура і мастацтва. 25 ліпеня 1967 г.

[575] Маецца на ўвазе кніга: Брага, Сымон. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. У 450-я ўгодкі беларускага друку. Ню-Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1967. — 38 с.

[576] Маецца на ўвазе тэкст: Віцьбіч, Юрка. Знайшлі тапор пад лавай // Беларус. № 120. Красавік 1967. С. 3.

Некаторыя камэнтары насоўваюцца да Вашых словаў *«Спадабалася й прапанова Юхо*[577]*, каб перавыдаць усе кнігі Скарыны»*. Думка гэтая бясспрэчна правільная. Але…

У сьнежні 1965 г. падчас рэфэрату ў БІНіМ дакладна тое самае, і шмат больш, казаў і я (пры адначаснай рэпліцы ведамага Вам нашага гісторыка, сп. Паланевіча[578], сэнс якое — гэта нерэальныя фантазіі). А дзесяць месяцаў таму, у лісьце з 5.10.66 да праф. Флароўскага ў Прагу, найвыдатнейшага сучаснага *«скарыністу»*, на ягонае пытаньне, што варта й трэба было-б зрабіць на маю думку ў галіне «скарыніяны» (з гэтым пытаньнем, відавочна, да яго зьвярталіся і з АН БССР праз Мажэйку), я пісаў: *«каб стварыць салідную базу для грунтоўнага вывучэньня Скарыны і ягонае культурна-духовае спадчыны, неабходна, на маю думку, прыгатова й публікацыя гэткіх сямі фундамэнтальных для ўсяе «скарынаведы» выданьняў: 1. Зборніка ўсіх ведамых аб ім актаў. 2. Бібліяграфію ўсяе скарыніяны XVI–XX ст. ст. 3. Зборніка ўсяе арыгінальнае творчасьці Скарыны (прадмовы, паслоўі). 4. Альбому ўсіх гравюраў, заставіцаў, ініцыялаў і шрыфтоў Скарынавых выданьняў. 5. Тому мадэрнае біяграфіі Скарыны. 6. Слоўніка мовы Скарыны. і 7. Акадэмічнае перавыданьне ўсіх Скарынавых кнігаў — 8 тамоў прыблізна па 500 бачынаў друку — разам 4000 бачынаў»*. І ў тым самым лісьце далей: *«завяршыць і “ўкаранаваць” усё… юбілейным восьмітомным перавыданьнем усяе Скарынавае друкаванае спадчыны. Выданьне гэткае сваімі памерамі й дыяпазонам навуковага значаньня запраўды годнае нацыянальна-навуковых заданьняў Беларускае Акадэміі Навук. Гэта «аснова-асноваў» для ўсебаковага вывучэньня спадчыны Скарыны, патрэбнае вельмі спэцыялістам мовы, літаратуры, мастацтва, тэалёгіі, кнігаведы, гісторыкам друку. Падобныя перавыданьні важнейшых старадрукаў на Захадзе цяпер робяцца часта, паколькі тэхніка фатадруку шмат таньнейшая й практычнейшая за набор. ...Вось заклаўшы падобны салідны фундамэнт, можна будзе “пачынаць” запраўдныя скарынаведныя студыі»*.

Столькі ў маім лісьце, дзе толькі паўтарэньні тога, што гаварылася ў 1965 г. на рэфэрацэ. Ня думаю, што тая самая думка Юхо мае нейкую сувязь з маім гэтым лістом і Фларoўскім, бо калі Мажэйка (які цяпер *«адкрыў»* быццам дысэртацыю Дварчаніна[579]), бываў у Фларoўскага ў Празе, дык нічога падобнага ня чуў я пра Юхо. Гэта, найхутчэй, адналі-

---

[577] **Язэп Юхо** (1921–2004), гісторык права, доктар юрыдычных навук, заснавальнік першай навуковай школы дзяржавы і права Беларусі.

[578] Маецца на ўвазе Гіпаліт Паланевіч.

[579] Дысертацыя Ігната Дварчаніна мела назву *«František Skorina jako pracovnik a humanista na beloruske pûde»* («Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве») і была абароненая ў Карлавым універсітэце ў 1925 г. Арыгінал захоўваецца ва ўніверсітэцкім архіве. Тэкст у перакладзе на беларускую быў перавыдадзены ў Мінску ў 1991 г.

тасьць думак, спрычыненая самым падыходам да таго самага пытаньня. Ды, зразумела, зусім малаважная справа, хто першы сказаў «а» — куды важней, каб думка была зрэалізаваная. А пра тое, хто першы сказаў «а», вось што піша ў Нр. 7 ліпнёвым «Полымі» М. Алексютовіч[580], у першым абзацы свайго артыкула пра Скарыну:

*«...у 1917 годзе, адразу-ж пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у Мінску было створана навуковае таварыства імя Скарыны, адной з задач якога павінна было стаць перавыданьне кніг першадрукара (падчыркненьне маё, В. Т.). Тады-ж дзеля ўвекавечаньня памяці выдатнага вучонага-гуманіста было вырашана зрабіць памятны мэдаль зь яго адбіткам і назваць яго імем адну з вуліц беларускай сталіцы. Цяпер пра гэта амаль ніхто ня ведае. Архіўныя-ж матар'ялы сьведчаць, што народ беларускі ў першыя-ж дні палітычнай свабоды не забыў свайго вялікага сына»*[581].

Столькі Алексютовіч. Справа ясная, што хоць і *«пасьля Кастрычніцкай»*, але не яна, не партыя, якая тады стаяла цалком яшчэ толькі на базе *«Западнай вобласьці»*, рупілася тады пра Скарынаву памяць. Нр. 12 «Вольнай Беларусі»[582], які выйшаў недзе ў пачатку сьнежня 1917 г. у Менску, быў адведзены ўвесь доктару Скарыну, гэта быў нумар юбілейны з нагоды 400-годзьдзя беларускага друку. Пра Скарыну ў нумары пісалі М. Гарэцкі, Р. Зямкевіч[583], Я. Лёсік. Яны, зразумела, найперш і закладалі і скарынава таварыства ды думалі ўжо й пра перавыданьне ўсяе выдавецкае спадчыны Скарыны. Дык сёлета можна ўжо адзначыць *«юбілей»* думкі: перавыдаць Скарыну. Ёй ужо найменш 50 год, хоць, нажаль, 50 год бязь ніякое рэалізацыі. І назад да Алексютовіча.

Пад артыкулам у «Полымі» ёсьць рэдакцыйная прыпіска: *«Гэта апошні артыкул, які незадоўга да свае сьмерці напісаў для нашага часапісу аўтар»*. Дык — Алексютовіч, здаецца, яшчэ даволі малады, ужо ня жыве. Ні ў ЛіМ'е, ні ў іншых газэтах БССР ня было ніякае перад гэтым весткі пра ягоную сьмерць. Ці гэта дзеля тае бязувагі да чалавека, тыповае для савецкага рэжыму, дзе гаворыцца толькі пра партыю ды яе *«правадыра»*, ці — магчыма — передчасная сьмерць мела нейкую трагічную прычыну. Як-ніяк Алексютовіча шкада. У БССР ён найлепш быў знаёмы з скарынаведнаю літаратурай. Вышаў ён не з гісторыкаў ці гісторыкаў літаратуры, а з — марксысцкіх *«філязофаў»* і быў выразна кіраваны і адукацыяй, і пазьнейшымі заданьнямі на аднаго з

---

580 **Мікалай Алексютовіч** (1921–1967), гісторык, кандыдат філасофскіх навук.

581 Алексютовіч, М. Імя яго гучыць у стагоддзях // Полымя. № 7. С. 170–184.

582 **«Вольная Беларусь»** — грамадска-палітычная, эканамічная і літаратурная газета, што выходзіла ў Мінску ў 1917–1918 гг. пад рэдакцыяй Язэпа Лёсіка.

583 **Рамуальд Зямкевіч** (1881–1943/1944), бібліёграф, публіцыст, гісторык беларускай літаратуры, перакладчык.

*«палітрукоў»* для падсавецкае беларускае інтэлігенцыі. Кляймо ягоных студыяй на факультэце *«філязофіі»* марксызму адчуваецца яшчэ выразна на ягонай кніжцы пра Скарыну, выдадзенай у 1958 г.[584]. Але з далейшым *«урастаньнем»* у факты гісторыі Беларусі Алексютовіч выразна адыходзіў ад схалястычнай дагматыкі падсавецкага, маскоўскага марксызму. Калі ў мінулым годзе партыя павяла на чале з органам каляніяльнае расейскае адміністрацыі на Беларусі «Советской Белоруссияй» наглую атаку супроць нацыянальных пазыцыяў М. Прашковіча[585], стаць у ягоную абарону артыкулам у «Полымі» асьмеліўся якраз Алексютовіч, і бараніў яго найперш з тых самых нацыянальных пазыцыяў. У цяперашнім-жа артыкуле пра Скарыну ў Алексютовіча ёсьць гэткая фраза: *«Вопыт гісторыі паказвае, што дэмакратыі заўсёды спадарожнічаў бурны росквіт навукі і асьветы, філязофіі і мастацтва... І наадварот, — там, дзе панавалі тыранія й дэспатызм, утвараўся застой у рзьвіцьці літаратуры, мастацтва, філязофіі і навукі»*. І з кантэксту ясна, што ён тут гавора пра *«буржуазную»* якраз дэмакратыю, з чаго ясна таксама, што ў *«тыранію і дэспотыю»* залічвае калі мо' ня сяньняшнюю, дык былую сталінскую дэспотыю савецкую.

Калі для скарыністы як ужо трэба паміраць, дык і прыгожа памерці, і якраз *«юбілейным»* годзе, Алексютовіч яўна быў замалады на гэткую пачэсную сьмерць. Шкада, што Алексютовічы адыходзяць перадчасна, а застаюцца — Майхровічы. Мне навет крыху прыкра, што ў сваей апошняй працы бачыны дзьве адвёў даволі грунтоўнай крытыцы памылковага пагляду Алексютовіча ў справе *«Георгія»*. У друкаваным цяпер яго артыкуле, які займае 15 бачын, па імі Скарына ні разу не згадваецца!

Эвалюцыя паглядаў Алексютовіча нагадвае мне падобную эвалюцыю калісьці з Карскім. І яго рыхтавалі ў сьвет як *«общерусского»* навукоўца. Адна з тэзаў ягонага дактарату, гэта цьверджаньне, што *«беларуская мова — дыялект вялікарускай»* (1885 г.). І Карскі тады гэта даводзіў. Але калі пазьней глыбей унікнуў у беларусаведную і, найперш, моваведную дасьледную працу, дык, хоць паглядамі і застаўся нейкім беларусам-западноруссом, ды ўсёй сваёй працай, найперш манумэнтальнымі «Беларусамі», падмураваў нешта зусім адваротнае —

[584] Алексютовіч, М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958. — 146 с.

[585] У 1966 г. Мікола Прашковіч апублікаваў у часопісе «Полымя» крытычную рэцэнзію на кнігу Аляксандра Коршунава, прысвечаную Афанасію Філіповічу. Гэтая рэцэнзія выклікала адмоўную рэакцыю з боку найбольш ганараванага на той час гісторыка Лаўрэнція Абэцэдарскага і стала падставай адмысловай навуковай дыскусіі ў Акадэміі навук па пытаннях беларускай дзяржаўнасці, ацэнцы ролі царкоўна-рэлігійнай уніі і інш. Значна пазней, у 1974 г., Мікола Прашковіч быў абвінавачаны ў нацыяналізме і звольнены з АН БССР.

самастойнасьць ня толькі беларускае мовы, але беларускага народу. Прыклад таго, як *«матар'ял»*, факты накідваюць пагляды іншыя ад навязаных вялікадзяржаўных, казённых.

Мімаволі — ізноў шмат вельмі месца адвёў Скарынавым прыемным і непрыемным справам. Дзеля гэтага буду скарачацца ў іншых. Найперш, асьмелюся яшчэ раз на *«рэпліку»* ў справе сьв. Афрасіні Скарынавага календара, хоць гэта ўсё тымчасам чыста *«акадэмічная»* з майго боку спрэчка, бо заглянуць глыбей у пытаньне ня меў яшчэ ўсё часу. Калі ў той самы дзень сьвятое Афрасіні Александрыйскае суздальцы маглі аддаваць чэсьць якраз сьвятое Афрасіні свае, чаму не маглі рабіць гэтак і Палачане?

Зразумелая й Вашая рупнасьць пра нейкую ўніфікацыю правапісу нашае *«антрапанімікі»*, справы дзеля розных прычынаў вельмі цяжкое, скамплікаванае, і, асабліва, калі ходзіць пра імі й прозьвішчы, перанятыя з чужых розных моваў — славянскіх, германскіх, раманскіх, грэцкае, лацінскае і г. д. Гэтага пытаньня ня даў рады калісьці спарадкаваць Тарашкевіч, ні навуковыя ўстановы на сваёй зямлі; ім ня была дадзеная і магчымасьць. Куды цяжэй гэта парадкаваць на чужыне, дзе ўсякія пастановы практычна нікога не абавязваюць. У сяньняшнім якраз нумары ўкраінскае «Свабоды»[586] ёсьць вялікі артыкул пра тое, як па-ўкраінску называюць *«ЗША»*. Хоць украінскі друк і прэса ў Амэрыцы існуюць ужо тры чвэрці стагодзьдзя, у справе назову *«ЗША»* існуюць у практычным ужытку, і як прапанаваныя варыянты, аж 17 адменнасьцяў! Гадоў ужо 15 як вядзецца ў гэтым пытаньні ў прэсе дыскусія. І не зважаючы на тое, што тут-жа існуе і свая Акадэмія Навук, і Навуковае Таварыства Шаўчэнкі, пытаньне й да гэтае пары ня вырашанае. Пішу пра гэта ўсё не дзеля гэтага, каб пра гэта ня рупіцца ды нічога не рабіць, а каб падчыркнуць тыя цяжкасьці, якія з такой, на першы пагляд быццам простай справай, зьвязаныя.

Няпрыемна, што Вашыя ногі ўсё-ж *«бунтуюцца»* і далей. Магчыма, на добрыя лекі натрапіў якраз доктар Васілеўскі[587], і *«газаліна»* пацячэ лепей. Ціск, у кажным выпадку, неблагі. Дзякую вельмі й за запросіны адведзінаў — хоць яны можа й жартам, але чаго добрага загляну й навет яшчэ хіба ў гэтым месяцы, толькі-ж не на восем гадзін ужо!

У глыбокай пашане Ваш

21.9.1967

Вельмі Паважаны Спадару Рэдактару!

Мой гэтак спозьнены адказ не дзеля нейкіх *«крыўдаў»*, а насьпелых колькі важных справаў — нейк ніколі няўдаецца гэтак *«ашатацца»*, каб чуцца свабодна, лёгка, бяз націску нешта чароднае выканаць. Я ў

[586] **«Свабода»** — украінская газета ў ЗША. Выходзіць ад 1893 г.

[587] Маецца на ўвазе Віктар Войтанка-Васілеўскі.

гэткім ужо веку, што гэтак хутка ня крыўджуся, ды справа ў папярэднім Вашым лісьце закранутая мяне й ня крыўдзіла, а крыху бянтэжыла: на Вашую зацемку, што *«спадабалася прапанова Юхо, каб перавыдаць усе кнігі Скарыны»*, я адразу й выскачыў, *«як Пiлiп з канапель»*, каб пахваліцца, што ўжо два гады таму тое самае й я казаў, ды гэтак перабраць сабе й Вашую пахвалу для Юхо (калі забыцца пра яшчэ ранейшых нашых суродзічаў тае самае думкі, пра якіх паведаміў нябошчык Алексютовіч). Тымчасам у другім лісьце ўсю сваю пахвалу забіраеце і ад мяне, і навет ад Юхо, бо салідарызуецеся з нашым гісторыкам сп. Паланевічам, што гэта *«нерэальная фантазія»*!!! Я падчас свайго рэфэрату і ў лісьце да Вас выразна зазначыў, што пра гэта ня думаю на эміграцыі, што гэта заданьне *«сваімі памерамі й дыяпазонам навуковага значаньня запраўды годнае нацыянальна-навуковых заданьняў Беларускае Акадэміі Навук»*, дык значыць павінна быць зроблена ў Менску, а не ў Нью Ёрку, а гэтак — гэта зусім ніякая нерэальная фантазія, а якраз нацыянальнае ды навуковае заданьне ды абавязак. І пры сучаснай фотатэхніцы гэта заданьне простае й таньнейшае за звычайны друк, ды справа зусім простая і аднаму добраму навукоўцу, а не 20–30, бо-ж ідзе толькі пра тэхнічна адпаведна выкананую фатакопію кнігі, што Акадэміі Навук захаду цяпер і робяць вельмі часта. 20–30 навукоўцаў патрэбна было-б на выкананьне ўсяго майго *«пляну»* працы ў галіне скарыніяны, але не пра гэта думаў Юхо ды пісаў я ў папярэднім лісьце. Дык тут зусім ніякая *«нерэальная фантазія»* ці нейкая іншая недарэчная *«сымонава брага»*[588]! Гэта адзін будзе пункт абароны не *«сакрата»*, а звычайнае эгаістычнае самаабароны.

Другі — ляжыць ужо ў плошчы Вашага прыгаданьня таго, што па-за Скарынам існуюць важныя справы і юбілеі, і што плянуе зрабіць у гэтым БІНіМ? Найперш у поўнасьці пацьвярджаю іх важнасьць і патрэбу рабіць усё, што магчыма, і абсалютную правільнасьць Вашага ў гэтым становішча. Але дзеля свае-ж і тае самае *«эгацэнтрычнае»* самаабароны хачу й некаторыя справы прыгадаць ды выясьніць: пра юбілей Усебеларускага Кангрэсу ды 25 сакавіка асабіста і думаў і помніў ужо ў 1962 г. Тады гэта я зьвярнуўся да сп. Запрудніка з прапановаю пачынаць збор ды публікацыю матар'ялаў спачатку да Усебеларускага Кангрэсу, а пазьней 25 сакавіка, БНР і г. д. Улічаючы тое, што сп. Запруднік якраз працуе над дактаратам ды мусе зарабляць і *«на хлеб»* ды перагружаны яшчэ й грамадзкімі заданьнямі, я й *«знайшоў»* яму тэму *«лёгкае»* працы — канцэнтрацыі й перадрукаў гістарычных матар'ялаў, ды хіба ня менш палавіны (асабліва ў апошнім нумары[589]) я фактычна знайшоў яму ды перадаў, як таксама і ўспаміны ў нумары мінулым

[588] Ад псеўданіма В. Тумаша Сымон Брага.

[589] Маецца на ўвазе публікацыя: Запруднік, Янка. Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 году // Запісы БІНіМ. № 4 (10). Мюнхэн, 1966. С. 217–246.

напомніў, што яны ёсьць і трэба іх перадрукаваць (успаміны Макара Косьцевіча[590] ды Я. Гладкага[591]). У выніку вось гэтае дакумэнтацыі й зьявіўся артыкул Круталевіча[592] ў «Полымі», выразна з даручэньня адпаведных партыйных дзейнікаў. Дык тут БІНіМ быў *«акцыяй»*, а Круталевіч і *«што за ім»* — *«рэакцыяй»*. Гэта дакумэнтацыя будзе вясьціся й далей згодна майго пляну: 25 Сакавік — БНР — БНР на эміграцыі і г. д. Дык пра гэта і думаем, і робім, што можам, бяда толькі тая, што рабіць няма бадай каму — людзей шмат, а чалавека, як заўсёды, трэба ізь сьвечкай шукаць. У кажным выпадку і апякуны Круталевіча зарыентаваліся, што з публікацыяй дакумэнтаў БІНіМ ня можна ўжо задаволіцца друкам розных казачак пра тое, як *«нямецкі агент»* Езавітаў[593] па Менску разьяжджае на белым кані ды намагаецца *«вярнуць»* паноў на Беларусь. Выпусьцілі відавочна зь віду й тое, што ў самым першым нумары новых «Запісаў», ды і асобнаю адбіткаю, была выдадзена ўжо ў 1962 годзе адна з найважнейшых працаў — працаў асабліва на часе ўсіх *«кастрычніцкіх»* юбілеяў — праца пра жудасныя дэмаграфічныя страты беларускага народу зь віны найперш Масквы савецкае за ўвесь час яе панаваньня[594]. Паколькі дэмаграфія ўваходзіць і ў навуку мэдыцыны — статыстыка лічбаў нараджэньня, сьмерці, прыросту і г. д. — і яе вучаць на вышэйшых курсах мэдычных факультэтаў, ды таму, што ніхто іншы гэтым не займаўся й ня думаў займацца — з канечнасьці мусеў узяцца за гэта я, і праца пайшла ўжо ў навуковую *«цыркуляцыю»*, яе цытуюць, дыскутуюць ня толькі ў Эўропе, а навет і ў Азіі (Ізраіль!) і яна захавае сваё значаньне на час не кароткі.

Далей, хоць не юбілейнае, але ўсё-ж мае сваё значэньне і вартасьць і выданьне «Прыказкі Лагойшчыны»[595]. Яна — плод працы рупнага А. Варлыгі, але ў такім стане, як яна была напісаная (рэдакцыйна-

---

[590] **Макар Краўцоў** (сапр. Косцевіч, 1891 — пасля 1939), паэт, публіцыст, перакладчык, дзеяч нацыянальнага руху.

[591] **Язэп Гладкі** (псеўд. Адам Варлыга, 1890–1872), грамадскі дзеяч, педагог, выдавец, этнограф, мовазнаўца.

[592] **Вадзім Круталевіч** (1922–2006), юрыст, гісторык, сацыёлаг, доктар юрыдычных навук.

[593] **Кастусь Езавітаў** (1893–1946), вайсковы і грамадскі дзеяч. У Першую сусветную вайну праводзіў актыўную тлумачальную і арганізацыйную работу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту, быў абраны намеснікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэса ў снежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камендант Мінска.

[594] Багровіч, Андрэй. Жыхарства Беларускае ССР: у сьвятле перапісу 1959 году. Нью Ёрк-Мюнхэн, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, 1962. — 88 с. Багровіч — псеўданім Вітаўта Тумаша.

[595] Варлыга, Адам. Прыказкі Лагойшчыны. Нью Ёрк — Мюнхэн: Выданьне Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, 1966. — 112 с.

стылістычна) друкаваць яе было немагчыма. Пры тым была пісаная лацініцай ды складзеная паводле лацінічнага альфабэту. Разумеючы яе трывалую вартасьць ды на просьбу аўтара, я перапісаў усё кірыліцай разам з выпраўленьнем стылістычных ягоных камэнтароў да кажнае прыказкі, а што найгорш — гэта геркулесава праца бадай — нанава мусеў ператасаваць на іншы, кірылічны лад. Самі запісы былі ўсё-ж яшчэ ня гэткія эфэктоўныя, каб ня даць да яе ўводнае прадмовы, а пры канцы — бібліяграфіі нашае парэміяграфіі[596], паўнейшае за якую нідзе пакульшто няма. Разам цяпер выданьнем гэтым ня стыдна паказацца і ў навуковым сьвеце ды яно стае трывалкім здабыткам ды паважным у галіне нашай парэміяграфічнай літаратуры.

Ды й гэткі здавалася-б далёкі сваёю эпохай Скарына, пададзены быў так, што хоць працы быццам і пра XVI ст, а яны як-жа актуальныя цяпер і якраз для *«кастрычніцкага»* юбілею, для прыкладу, хоць-бы «Скарына ў Маскве»[597] ці апошняя — пра імя Скарыны[598]! Дык Вашыя словы *«ў нас нічога рашуча ня зроблена ў гэтай галіне»*, калі ідзе канкрэтна пра БІНіМ, усё-ж ня зусім адказваюць запраўднасьці. Сёе-тое рабілася, робіцца й будзе рабіцца, але, на жаль, усяго пару людзьмі. Некаторыя з тых, што нешта рабілі для Мюнхэнскага Інстытуту СССР і пра якіх Вы згадвалі, рабілі гэта, на жаль, дзеля тых мізэрных аўтарскіх ганарараў, якія Інстытут гэты плаціў. Як толькі ганарары спыніліся — і яны замоўклі. Сумна гэта, але факт, і, памінаючы на ўсе слабасьці, мушу прызнаць адно за сп. Сядурам, што ён да падобных *«даляровых»* навукоўцаў не належыць і што можа — блага ці добра, але піша.

Выбачайце за гэтых колькі словаў *«самаабароны»* (бо бараніць ніхто іншы ня будзе) і сябе, і БІНіМ. Гэта, зразумела, зусім не мяняе слушнасьці Вашае ў тым, што патрэбаў, і то палючых, балючых, ёсьць шмат, іх сотні, і трэба за іх брацца — ды хто будзе рабіць? Кажны год і ня раз апаноўвае пачуцьцё нейкае блізу поўнае адзіноты ў намаганьнях у меру магчымасьці ўзьнімаць беларускую задзірванелую навуковую ніву. Людзей з вышэйшаю асьветаю, здаецца, і ня мала, а нешта робіць — усяго пара чалавек! Парадзьце, што на гэта парадзіць!!!!...

Аддаўшы столькі месца *«крыўдам»* — ня шмат месца застаецца на іншае. Але — у справе *«клопатаў»*, як назваць *«марожанае»*, ці ня будзе правільна *«марозіва»*, аналягічна да *«малодзіва»*? Барашкі[599] арты-

---

[596] **Парэміяграфія** — тэорыя і практыка складання тлумачальных слоўнікаў прыказак.

[597] Брага, Сымон. Доктар Скарына ў Маскве. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1963. — 32 с.

[598] Брага, Сымон. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. У 450-я ўгодкі беларускага друку. Ню-Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1967. — 38 с.

[599] **Іляры Барашка** (1905–1968), пісьменнік.

кулу ў «ГР»[600] яшчэ ня бачыў, але напэўна ведама, што ніякіх вестак пра імя «Георгі» пры хрышчэньні няма. Затое *«кірмашы»* ў Полацку за Скарыны хіба былі — ды й калі іх ня было. Існавалі ў Беларусі за Скарыны ўжо й брацтвы, ведамыя навет іх назовы. Затое ніякіх *«уплываў»* Фэоля на Скарыну не знайсьці, хоць Скарына кнігі ягоныя напэўна ведаў. Ён абсалютна самастойны і як выдавец, і як творца зусім новага шрыфта. Дасылаю тут разам пры нагодзе фотаадбіткі праектаў Скарынавага мэдаля ды разам артыкул «Маладосьці»[601] пра Скарыну.

Выбачайце за мае *«крыўды»*. Ды таксама, каб часам не пакрыўдзіліся!

Адданы Вам

14.10.1967

Дастойны Спадару Рэдактару!

У вадказе на Ваш, як заўсёды, зьмястоўны, багаты думкамі ліст ды справы ў ім закранутыя:

Што да прыказак Варлыгі: мусеў за іх адрэдагаваньне ўзяцца, хоць парэміяграфія не дэмаграфія, і ў кола мэдыцынскае веды ўжо ніяк не ўваходзіць, бо калі-б гэтага не зрабіў, не ўзяўся-б за гэта і ніхто іншы, і яны не паказаліся-б у друку. Нажаль, каштоўныя матар'ялы Варлыгі, без адпаведнае рэдакцыі, не да друку, прынамся не да друку пад фірмаю БІНіМ, бо яны *«сырыя»* ў сваім стылі. Калі пісаў прадмову да прыказак, быў сьведамы Вашых перастрэлак за іх, ці з нагоды іх, з завяртанцамі, і таму знарок увёў, на падставе запісаў Даля[602], абзац пра прыказкі каляніяльных народаў імпэрыі пра Маскву, каб прыказкі пяклі рукі і язык Прокшы[603] ці іншага маскоўскага брахунка[604]. З Варлыгавым слоў-

---

[600] Маецца на ўвазе артыкул: Барашка, Іlары. Слова пра Скарыну // Голас радзімы. 1967. С. 6.

[601] Маецца на ўвазе артыкул: Макарэвіч, Алесь. Гуманіст, асветнік, патрыёт // Маладосць. № 8. 1967. С. 102–104.

[602] **Уладзімір Даль** (рус. *Владимир Даль*, 1801–1872), расійскі навуковец і пісьменнік, вядомы як аўтар *«Толкового словаря живого великорусского языка»*.

[603] **Леанід Прокша** (1912–1994), пісьменнік, журналіст, у 1956–1972 гг. — галоўны рэдактар часопіса *«Коммунист Белоруссии»* і рэдактар газеты «Голас Радзімы».

[604] *«Што гістарычна-палітычныя перамены ў жыцьці народу знаходзяць хутка свой яскравы адбітак і ў прыказках, відаць гэта добра із запісаў Валадзімера Даля. Даль у першай палове XIX стагодзьдзя сабраў каля 30 000 расейскіх прыказак. Запісаў ён адначасна й шмат прыказак нерасейскіх народаў імпэрыі, а між імі й многа беларускіх. У ягоных запісах шмат прыказак у якіх падбітыя Масквою народы кляймуюць бязьлітасна ненасытную яе захопнасьць. Вось колькі гэткіх прыказак із зборніка Даля: "Масква сьлёзам ня верыць", "Масквы не расквеліш", "Масква па нашых бедах ня плача", "Жыві, жыві, рабята, пакуль Масква не праведала", "Ад маскаля хоць полы абрэж дый бяжы",*

нікам[605] таксама бяда: сваім матар'ялам ён таксама каштоўны (каля 8000 словаў), але складзены без знаёмасьці і ўсваеньня элемэнтарных вымаганьняў сучаснае лексыкаграфіі. Дзеля гэтага я прапанаваў адрэдагаваць яго да друку нашым двум моваведам, адначасна і літаратураведам — др. С. Станкевічу ці праф. А. Адамовічу. Абодва за гэта спачатку хапіліся, др. СС навет у пачатковым энтузыязьме перапісаў аж 3 бачыны *«на чыста»*, і на гэтым усё кончылася. Справа ў тым, што толькі адрэдагаваць і перапісаць гэткі слоўнік вымагала-б добрых колькі месяцаў часу, на што ніхто сабе гэта ня мог тут пазволіць. Ды ходзе тут не пра ператасоўку ягонага альфабэтычнага ладу з лацініцы на кірыліцу — што вельмі скамплікаваная справа. Выходзячы з таго, што гісторыя беларускага друку лацініцу ведае, можна было-б пакінуць пры друку яго і ў лацінічным арыгінале, але ідзе пра спосаб паданьня словаў, у чым сучасная лексікаграфія мае свае агульна прызнаныя сярод навукоўцаў вымаганьні, а якіх аўтар сам прытарнаваць ня ў стане. У выніку — слоўнік наважыўся, здаецца, выдаць сам аўтар, за свае грошы й пад сваей выдавецкай фірмай ды ў друкарні Вашага добрага знаёмага др. Пятроўскага, ды, відаць, пры ягонай мовазнаўчай кансультацыі. Істоты свае вартасьці ад гэтага ня згубіць, але, дзеля свайго нефаховага ўкладу, ня будзе мець належнае аўтарытэтнасьці ў колах зацікаўленых гэткім матар'ялам навукоўцаў.

Для высьвятленьня пытаньня, былі ў часы Скарыны ў нас брацтвы ці не, дасылаю тут разам фатастат *«духоўніца»* сьвятара Юр'яўскай Рускай царквы ў Вільні Мацьвея духоўніцы з 1522 г., у якой згадваецца брацтва «Прачыстае Багамацеры». У актавай літаратуры ведамыя дадзеныя пра існаваньне брацтва віленскіх залатароў у 1495 г., а ў віленскіх кушняроў у 1538 г. Дык брацтвы ў Беларусі існавалі найменш ад XIV ст., брацтвы й царкоўныя, і цэхавыя, і яны зьявіліся ў нас не ў пару рэлігійных змаганьняў пры канцы XIV ст. і не дзеля іх, а шмат раней вырасьлі натуральна з эканамічна-рэлігійных і культурных абставінаў і патрэбаў тагачаснага беларускага жыцьця. Пры канцы XIV ст. зьмянілася толькі іхная функцыя ды заданьні, бо яны сталі авангардаю абаронных сілаў праваслаўных традыцыяў, а часта і ваяўнічаю іх авангардаю ў абліччы наступу каталіцызму. Перасылаю фотастат усяго дакумэнту таму, што ён вельмі цікавы сваім зьместам, і ня толькі дзеля таго, што ў ім згадваецца Скарынава *«выбойная Кніга Царства»*, але гэта багаты фактамі дакумэнт пра маемасьць і справы тагачаснага беларускага сьвятара, што раздае на ўсе бакі копы літоўскіх і *«лядскіх»*

---

*“Ад чорта адхрысьцішся, а ад маскаля й дубінай не адаб’ешся”, “Тату, тату, лезе чорт у хату! — Дарма, сынку, абы не маскаль”»* (Максімовіч, Р. Беларускія прыказкі // Варлыга, Адам. Прыказкі Лагойшчыны. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1966. С. 4).

[605] Відаць, маецца на ўвазе «Краёвы слоўнік Лагойшчыны» Адама Варлыгі, які выйшаў у 1970 г. у Нью-Ёрку.

грошаў, сабалёвыя, куньнія, лісіныя, кролікавыя, баранія шубы, масу серабра ды сваю бібліятэку, што складалася з каля 20-ці *«малых і вялікіх»* кнігаў рукапісных разам з аднэй ужо друкаванай — Скарынавай «выбойнай». А разам з кажухамі ды кнігамі бібліятэкі трымаў пад рукою сьвятар і колькі шабляў ды ручніцаў, каб у патрэбе бараніцца ад ворага. Дакумэнт нязвычайна калярытны, цікавы ня толькі гісторыку, але й добры матар'ял пісьменьніку, які наважыў-бы пісаць повесьць з жыцьця Вільні тае пары. Пад дакумэнтнаю вагою гэтае духоўніцы давядзецца зьмяніць Ваш ранейшы пагляд на час пачаткаў у нас брацтваў, і ня толькі таму, што довад канкрэтны, актавы, і што як святар Мацьвей на яе пачатку кажа *«пішу сію маю духоўніцу сваім цэлым розумам і поўнаю памяцьцю»* — дык памылкі тут ня можа быць, і значыцца брацтвы ў 1522 г. у Вільні, за часоў Скарыны былі — але, што куды важней, яшчэ й таму, што *«А хто бы меў сюю маю духоўніцу па маім жываце рушыці, тот рассудзіцца са мной перад міласьцівым Богам на страшном судзе»*!!!

За гэткі *«цяжкое вагі»* довад правільнасьці тэзы хапаюся гэтым разам таму, што даводзіцца мне, і ўжо колькі разоў, цярпець дакоры за тыя грахі, якімі я ніколі не грашыў: ні ў дыскусыі з сп. Паланевічам (які надойчы быццам атрымаў назначэньне на дырэктара адной з Публічных Бібліятэкаў Брукліна), ні ў лістох да Вас я ніколі не казаў, што за перавыданьне кніг Скарыны павінен брацца БІНіМ; я заўсёды казаў, што гэта заданьне беларускае Акадэміі Навук. Ды БІНіМ ня мае й камплекту Скарынавых выданьняў, патрэбных на гэта. Дык ніякага *«грэху»* я тут ня ўчыніў, ня вінаваты, і ўсе дакоры за гэта беспадстаўныя. А што перавыдаць кнігі Скарыны, зь меркаваньняў навуковых, варта й трэба (хоць ня БІНіМу) — гэтую думку, якую Вы калісьці прызналі за добрую, пахвалілі ў Юхі[606], я выказаў за колькі год перад Юхай — за гэта я вінаваты, але ў гэтым ніякога грэху — і над усім можна паставіць: Амін! — каб больш да гэтага не варочацца.

Між іншым, у тутэйшай кнігарні саветыкі зьявілася кніга *«Белоруссия»* — ілюстраваны томік на бачынаў 300. Гэта адзін з 22 тамоў геаграфічнага апісаньня расейскае савецкае імпэрыі, зробленага на ўзор такога-ж колішняга апісаньня імпэрыі царскае Семенова[607], і сучасная «Белоруссия»[608] гэта адпаведнік IX тому «Рассіі» з 1905 г. Семенова,

[606] Маецца на ўвазе Язэп Юхо.

[607] **Веніямін Сямёнаў-Цян-Шанскі** (рус. *Вениамин Семёнов-Тянь-Шаньский*, 1870–1942), расійскі і савецкі географ, статыстык, адзін з аўтараў шматтамовіка *«Россия. Полное географическое описание нашего отечества: настольная и дорожная книга для русских людей»* (1901–1913, выйшлі 11 тамоў з 22).

[608] Белоруссия / В. П. Бородина [и др.]; отв. ред. Лукашев К. И. Москва: Мысль, 1967. — 308 с. Частка серыі геаграфічных апісанняў у 22 кнігах «Советский Союз», што выходзіла ў 1967–1972 гг.

што вышаў пад назоваю «Верхнее Поднепровье и Белоруссия»[609]. Савецкае *«описание»* Беларусі меншае й фарматам, і напалавіну лікам бачынаў, куды бяднейшае фактычным матар'ялам, асабліва гістарычным — пра тое, як цар Пётр[610] паліў масты Беларусі тут ужо нічога ня знойдзеш, — але ён побач прапаганды мае ўсё-ж некаторыя сучасныя матар'ялы й статыстычныя факты і гэтым самым у некаторай меры дапаўняе адпаведны том Сямёнава. Кніжка каштуе 3 дал., варта яе мець. Узяў-бы адну й для Вас, ды ня быў пэўны, ці ўжо ня недзе ня купілі. Калі не — напішэце мне ці сп. Запрудніку, які бліжэй ад кнігарні, — адразу яе вышлем.

Мае прывітаньні.

У глыбокай пашане Ваш

П. С. Усё-ж ня вытрываю, каб не *«завярнуць»* і да свае *«скарыніяны»*, якая, не зважаючы на ўсё, крочыць наперад. У Вашым лісьце згадка пра тое, як Скарына «*пяхтуром прыйшоў у Падую*». Калісьці, за іншымі аўтарамі, пісаў (мо' і ня раз) гэтак і я. Цяпер якраз рыхтую да друку пераклады падуанскіх актаў пра Скарыну, разам з камэнтарыямі да іх. Учытаўшыся добра ў тэкст арыгіналаў, бачу, што пра падарожжа *«пяхуром»* там ані слова. Гэта лягенда нашых папярэдніх скарыністаў. Таксама ні слова пра просьбу дапусьціць да экзаменаў бясплатна! У гэтай справе звычайнае памяшаньне лацінскага слова *«грацiя»* — *«ласка»* з *«гратіс»* — *«дарма»*. Дык і тут — старая легенда. І зусім ня выключана, што правільная Ваша думка пра тое, што ў Падую *«сакратар караля Даніі»* прыехаў у карэце!!!

15.11.1967

Вельмі Паважаны Рэдактару!

Віна мая за гэтак позны адказ. Гэтым разам галоўная прычына — ЧАС. Трэба-ж было наладзіць нейкае афіцыйнае паседжаньне Інстытуту, адведзенае 450-годзьдзю друку і адначасна ў нейкай меры *«зачыніць»* угодкі. Як заўсёды, блізу ўсё лягло на мяне ўлучна з галоўным рэфэратам. На хуткую руку была наладжаная і невялікая выстаўка, а галоўна — партрэт Скарыны мастака Міpановіча[611] (іншы ды лепшы варыянт, чым быў рэпрадукаваны ў «Беларусе»[612]). Толькі цяпер, *«закончыўшы»* (тое, чаго ніколі ня кончу), парадкую залеглае ліставаньне.

[609] Россия. Полное географическое описание нашего Отечества: настольная и дорожная книга для русских людей. Т. 9: Верхнее Поднепровье и Белоруссия / составили: В. П. Семенов и др. Санкт-Петербург: А. Ф. Девриен, 1905. — 620 с.

[610] **Пётр I** (1672–1725), маскоўскі цар і першы імператар Расійскай імперыі.

[611] **Пётра Міpановіч** (1902–1990), мастак. Ад 1950 г. жыў у Нью-Ёрку. Партрэт Ф. Скарыны П. Міpановіч напісаў у 1967 г.

[612] Партрэт быў рэпрадукаваны ў: Беларус. № 126. Кастрычнік 1967. С. 1.

Найперш дзякую за дасланыя выразкі з *«Известие»*. Усё пра Скарыну мяне цікавіць — навет і гэткія малыя выразкі, як характэрныя для тога, колькі ўвагі прыдзяляе Масква для гэтак важных гістарычных угодкаў. Зусім ня прыпадкам, а напэўна ўжо знарочна, ніхто з цэнтру імпэрыі, Масквы, не зьявіўся і на ўгодкавае паседжаньне АН БССР у Менску. Пацьвердзіў мне гэта і праф. Флароўскі, якому, як я яму пісаў, давялося рэпрэзэнтаваць і Прагу, і Маскву. А што да *«Георгія»* ў маскоўскай газэце і Майхровіча — абодва рупары чорнасоценнага кірунку савецкае Масквы. Ня гэтак даўно ў мае рукі трапіла й Майхровічава кніжыца[613]. У ёй столькі ня толькі фактаграфічных, але чыста лягічных бяссэнсіц і недарэчнасьцяў, што ў мяне цьвёрдае перакананьне, што пісаў яе з бутэлькай на стале — выконваў насьпех *«сацыяльны заказ»*. Ня ведаю толькі, як гэтую маю *«гіпотэзу»* пацьвердзіць — якія на гэта патрэбныя *«тэсты»*. Дзякую за даведку пра кнігу «Города Белоруссии»[614]. Пакульшто мне ў рукі ня трапіла, але буду мець на яе вока.

А што да *«Георгія»*, дык ёсьць і *«адказ»* Крапівы (яму была кніжыца высланая калісьці заказным як старшыні юбілейнага камітэту), у гэткіх словах ягонага артыкулу ў «Звяздзе» (15.8.67): *«Нямала спрэчак выклікае імя Скарыны. Сам ён называў сябе Францыскам. Гэта імя побач з прозьвішчам Скарына стаіць на ўсіх яго працах. А што ў яго было яшчэ і другое імя — Георгій, наконт гэтага бясспрэчных доказаў няма. Тым ня менш, ёсьць некалькі друкаваных прац, прысьвечаных Скарыне, дзе ён называецца толькі Георгіем. Таму, відаць, мэтазгодна, побач зь імем Францыск ставіць у дужках і імя Георгій, каб відаць было, што Францыск і Георгій Скарына гэта адна гістарычная асоба»*[615]. Дык хоць падставы няма, ды ўсё-ж *«мэтазгодна»*, бо-ж беспадстаўна самі калісьці перахрышчвалі!

Між іншым, праф. Флароўскаму, якога артыкул мае ісьці ў юбілейным зборніку АН БССР, абрэзалі канец гэтага артыкулу, дзе пераказ новага пра Скарыну ў працах Брагі. На запытаньне чаму, яму адказалі, што прозьвішча гэтага ў БССР *«произносить нельзя»*. Не зважаючы на гэта, у друку БССР паволі пранікаюць (з таго-ж артыкулу Флароўскага, зь яго манускрыпту, які ляжыць у АН БССР) весткі пра Скарыну як *«сакратара караля Даніі»*. Згадваецца гэта ў артыкуле Алексютовіча[616] й Жураўскага[617], абодва разам з поклікам на таго-ж Флароўскага.

---

[613] Відаць, маецца на ўвазе кніга: Майхровіч, С. Георгій Скарына. Мінск, 1966. — 188 с.

[614] Маецца на ўвазе кніга: Богданович, Анатолий. Города Белоруссии: краткий экономический очерк. Минск: Наука и техника, 1967. — 184 с.

[615] Крапіва, Кандрат. «Людем посполитым к доброму научению». Да 450-годдзя беларускага кнігадруку // Звязда. 15 жніўня 1967. С. 2.

[616] Відаць, маецца на ўвазе артыкул: Алексютовіч, М. Імя яго гучыць у стагоддзях // Полымя. № 7. 1967. С. 170–184.

[617] Нявысветлена, які менавіта артыкул Аркадзя Жураўскага маецца на ўвазе.

Я сам тымчасам зьбянтэжаны моцна лістом з Аўстраліі, фатастат якога Вам разам дасылаю. Гэта карэспандэнцыя ў газэту, тэкст якое прыпадкам трапіў мне ў рукі. Аўтар — Лаўрыновіч — добра Вам ведамы — др. Малецкі[618]. Прачытаўшы яго, я *«аж жахнуўся»* — на адной бачынцы й столькі недарэчнасьцяў пра Скарыну, улучна з новым другім імем *«Рыгор»*! І сам цяпер ня ведаю, ці брацца пісаць другую дысэртацыю пра імя *«Рыгор»*, ці наагул усю працу над Скарынам кінуць, бо і так нічога не памагае, і неяк ніяк да мазгоў *«не даходзіць»*. Калі на аднэй бачынцы столькі недарэчнасьцяў, колькі-ж іх было ва ўсім рэфэраце? Ці ня вынікі гэта дваццацігодняга *«суіснаваньня»* з аўстралійскімі кангуру? І пры тым, што ўсё гэта начоўплена з самых лепшых ды патрыятычных інтэнцыяў!

Заўвагу Вашую пра пагарджальныя тэрміны ў дачыненьні да нашае-ж гісторыі ды пра *«глум з Франьціішка Скарыны»* магу, нажаль, і далей разьвіць! Наш тутэйшы «Беларус» у юбілейным жнівеньскім месяцы ня толькі не заікнуўся пра Скарыну, а адвёў аж дзьве бачыны ў гэтым якраз часе Барадуліным[619], хоць з гэтым можна пасьпець было і пазьней. Мала таго, як і ў студзеньскім нумары, рэдактар[620] увесь час тарнуе пагардлівае *«Скарынаўскі»*, *«Скарынаўскі юбілей»*. Калі-б нехта пра самога рэдактара гаварыў *«Станкевічаўскі»* — артыкул, юбілей і г. д., толькі тады хіба ён адчуў-бы, што гэтак нікога не ўшаноўваюць, а паніжаюць. Да рэдактара гэта нейк ніяк *«не даходзіць»*! Гэта толькі падцьвярджае ведамую даўно, зь Вільні яшчэ, тэзу, што ўсе з роду Станкевічаў тугія на вуха, ды асабліва на тонкасьці мовы. І ізноў — ня думаю, што робіцца гэта знарок — гэта ўсё з шчырага патрыятызму!

Мушу скарыгаваць Ваш пагляд у справе зборніка прыказак А. Варлыгі[621]: *«ягоны зборнік прыказкаў не зьяўляецца цалком ягонай уласнай працай»*. Гэта ня так, найменш, недакладна: істота зборніка — перахаваныя ў памяці і пададзеныя нам каля 2000 прыказак, гэта галоўнае, і ў гэтым, у тэкстах самых прыказак ніхто аўтару не зьямніў ня толькі ніводнага слова, але й ніводнай літары — гэта ягоны каштоўны твор. Зьмены рэдакцыйныя датычылі толькі камэнтароў, і ізноў-жа, ня зьместу, ня думак іх, а толькі іх формы, дадзенае было пры гэтым больш кампактнае выказаньне думак. Да гэтага дайшлі некаторыя фармальныя, чыста рэдакцыйныя дадаткі, для ўляпшэньня карыстаньня з

[618] **Язэп Малецкі** (1906–1982), грамадскі дзеяч, лекар. Ад 1949 г. жыў у Сіднэі.

[619] Маецца на ўвазе публікацыя вершаў паэта **Рыгора Барадуліна** (1935–2014): Барадулін, Рыгор. Вершы: 1. Паэты пачынаюць думаць. 2. Адам і Ева. 3. Баляда пра Мянеска. 4. Неруш. Біяграфічная даведка. Легенда пра Мянеска // Беларус. № 123–124. Ліпень — жнівень 1967. С. 6.

[620] Станіслаў Станкевіч.

[621] Маецца на ўвазе: Варлыга, Адам. Прыказкі Лагойшчыны.

кнігі (заведзеная, прыкладам, нумарацыя прыказак). Дайшла да ўсяго яшчэ прадмова ды пры канцы — бібліяграфія. Калі рэдакцыйныя папраўкі ды дадаткі й надалі кніжцы больш навуковы лад, дык усё-ж істота яе — прыказкі беларускага народу — пераказаныя нам бясспрэчна самым сп. Варлыгам. Ніхто ніводнае прыказкі яму не дадаў.

Што да сп. Паланевіча, дык і мы ведаем тымчасам ня больш Вас, ці ён прыняў прыхільна прывітаньні, ці мо і зазлаваўся. Даўно яго не давялося бачыць і справы ня мог выясьніць. Адразу пасьля паявы Абежніка, у якім сп. Запруднік даў прывітаньне, некаторыя гадалі, што можа рэакцыя будзе й непрыязная, паколькі жонка маладая, дык мо' ня гэтак прыемна, як прыпамінаюць, што гады тымчасам плывуць. Як давядзецца спаткацца, спрабую асьцярожна *«пытаньне»* выясьніць.

У глыбокай пашане Ваш

ПС. Зьвяртаю ўвагу на паэму К. Кірэенкі[622] ў Нр. 8 «Полымя» — «Сьлёзы Раданы». Гэта якраз Вашая тэма, бо пра цара Пятра, якога паэта называе *«Цар Пятрок»*. Насуперак гістарычным фактам пра нішчэньні царом спрадвечных беларускіх местаў, пра што гэтак шмат дае матар'ялу якраз IX том Сямёнава «Расія», Кірэенка прадстаўляе цара Пятра як вызвольніка й ледзь не патрыёту Беларусі ды навет нейкага свайго роду *«незалежніка»*. У ваднэй сцэне крывавы кат Беларусі навет у наіўна-мэлядраматычнай позе становіцца на калені перад асірочанай беларускай (б. 116 — *«Стаў перад ёю на калені і ў сьветлы лоб пацалаваў»*!!!). Гэта твор Кірэенкі для *«50-годзьдзя»* рэвалюцыі — характэрна, што хваласьпеў Маскве не як *«сталіцы пралетарыяту»*, а як царскай імпэрыі. Рука чэшыцца, каб зрабіць выпіскі хоць-бы з таго самага Сямёнава, ці фатастаты ды выслаць Кірэенку ад нейкага наіўнага Антона Бурбалкі з наіўным запытаньнем, як гэта ён патрапіў гэткага паважанага руйнавальніка беларускае зямлі перагрымаваць у беларускага народнага казачнага героя!

2.12.1967

Вельмі Паважаны Рэдактару!

Удзячны за багаты закранутымі справамі ліст і дасланыя цікавыя матар'ялы. А што да *«справаў»*, дык найперш адзначу Вашую строгую крытыку партрэту Скарыны П. Мірановіча. Нажаль, зь ёю даводзіцца згадзіцца. І апошні варыянт партрэту грэшыць тымі самымі хібамі. Заміж дынамічнага, эўрапейскага дыяпазону беларускага дзеяча — нейкая постаць з пары *«нашаніўства»* і навет *«народніцтва»*. З свайго боку ўвесь час прыгадваў мастаку, каб галоўны націск класьці на адданьне гістарычна правільнае духовае існасьці доктара Скарыны як дзеяча туга навітага энэргіяй, кідкога, наважанага. Цяжкасьці пры

[622] **Кастусь Кірэенка** (1918–1988), паэт, у 1962–1972 гг. быў галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка», у 1972–1986 гг. — часопіса «Полымя».

маляваньні мастак меў вялікія і, як сам кажа, найперш таму, што не знайшоў сам, і я не патрапіў яму даць, нейкі добры жывы мадэль, зь якога мастаком заўсёды лягчэй маляваць. Вы, пэўна-ж, знайшлі ўжо тымчасам кватэрантаў на Бруклін доктару Я. Ст.[623] — цяпер, пры нагодзе вольнага часу можа маглі-б аказаць дапамогу мастаку й мастацтву знаходам адпаведнага мадэлю для партрэту выдатнага Палачаніна! Маляваць партрэт нанава, думаю, трэба.

Вашая заўвага *«ня сумляваюся ў дабрыні рэфэратаў»* патрабуе ўдакладненьня. Хоць згодна з заяваю прэлегентаў на паседжаньні Інстытуту месяц перад гэтым, на юбілейным паседжаньні мелі быць чатыры рэфэраты ды, як аказалася, у тэрміне самое падзеі два наўчоныя дактары (др. СС[624] і др. Кіпель[625]), прыхаваўшы два дакторскія дыплёмы пад пазухай, *«далі драла ў кусты»*, і на арэне засталіся толькі два рэфэрэнты — праф. Адамовіч і я. Дык, толькі ўдвох, зашмат пра доктара Скарыну ўжо ніяк не маглі мы нагаварыць, за што ў Вашых апошніх лістох адчуваецца выразная трывога.

Навязваючы да Вашае згадкі пра Майхровіча, дасылаю тут фатастат радыёвае рэцэнзыі на ягоную кніжыцу. І ў кніжцы разьвіваецца тая самая тэма, што і ў артыкуле «Голасу»[626], — Царква хавае факт, што кнігі Бібліі пісалі людзі, а ён, вось, гэта *«адкрывае»*. Што ў артыкуле Скарына называецца ўжо «Францыскам», гэта можа й рэдакцыйная папраўка. Тое самае, магчыма, і з стылем, які там даведзены да нейкага ладу. Тымчасам і ў кніжцы маса і стылістычных, і лягічных недарэчнасьцяў. Для прыкладу: «*Яго (Скарыны) прыналежнасьць да беларускай народнасьці неабвержна ўстаноўлена гістарычнай навукай і ставіць скарыніяну на трывалыя тэарэтычныя асновы*». Які тут сэнс у гэтай бяссэнсіцы? І падобныя сказы можна знайсьці ледзь не на кажнай бачыне кніжыцы. Маю *«цьвёрдае пераканаНньне»*, што пісаў ён яе з бутэлькаю на стале, хоць усё яшчэ не магу прыдумаць спосабу, як пацьвердзіць гэтую маю *«гіпотэзу»*.

А цяпер некаторыя *«карэктуры»* ў пытаньні, нашыя пагляды на якое *«палярна супрацьлеглыя»*. На Вашае *«ня маеце рацыі, калі закідаеце «Беларусу», што ён блага адгукнуўся на 450-годзьдзе беларускага друку»*, мушу найперш зарэагаваць некаторым удакладненьнем: «Беларус» ня толькі не адгукнуўся, а татальна й грунтоўна яго прамаўчаў. У нумары газэты, на якім стаіць азначэньне часу яго выхаду *«жнівень»* — месяц гістарычных угодкаў, — рэдактар ня даў аніводнае згадкі ні пра ўгодкі друку, ні пра доктара Скарыну. Угодкі падзеі, што пачынала цэлую новую эпоху беларускае культуры, рэдактар пакінуў

---

[623] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.
[624] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.
[625] Маецца на ўвазе Вітаўт Кіпель.
[626] Маецца на ўвазе газета «Голас радзімы».

бязь ніякое ўвагі, зігнараваў яе, празь яе *«пераскочыў»*. Толькі праз два месяцы, аж у кастрычніку, пад ціскам матар'ялаў з Канады і юбілейных абыходаў у БССР, рэдактар здабыўся на некаторую справаздачу таго, што рабілі іншыя. Не зважаючы на тыя тармазы, якія Масква паклала на юбілейныя скарынінскія сьвяткаваньні ў БССР (самыя ўрачыстасьці ў Маскве былі наагул збайкатаваныя — ніводнага прадстаўніка з Масквы, ні партыйнага, ні навуковага на юбілейных абыходах ня было, хоць былі зь блізу дзесяці іншых рэспублікаў), ды ўсё-ж усе часапісы ў БССР у жнівені месяцы, хай сабе па-свойму, але юбілей адзначылі, уключна навет з *«Комунист Белоруссии»*. Адзін др. СС гэтым самым часам глядзеў зусім у іншы бок — у савецкія «Даляглады»[627] ды празь юбілей проста перакрочыў, як праз мала важнае здарэньне. Ці зрабіў гэта з свае собскае ініцыятывы й натхненьня, ці пад уплывам свайго чыкагскага ідэйнага аднадумца — гэта рэч другарадная.

Зьвяртаю ўвагу й на супярэчнасьць Вашага *«не замала, а можа нават...»* з сказам у чародным ужо абзацы пра тое, што ці ня БІНіМ вінаваты за тое, што *«занядбаў адпаведнае інфармаваньне суродзічаў»*. Так мне ня ясна, *«замала»* ці зашмат. Ідзе абодва разы пра Скарыну!

Некаторую карэкту чуюся ў абавязку ўнесьці і ў сьцьверджаньне, што *«дагэтуль нічога ня чуваць»* пра ўгодкі Усебеларускага Кангрэсу. БІНіМ пра гэта думаў ужо колькі год таму, і ня толькі думаў. У апошніх трох кніжках «Запісаў» памешчана каля 60 дакумэнтаў, артыкулаў, успамінаў ды іншых матар'ялаў, датычных Усебеларускага Кангрэсу[628]. Там разам 100 бачынаў тэкстаў пра Кангрэс і, як пакульшто, БІНіМ адзіны, што ў сваёй дзялянцы нешта ў гэтым ужо даў. Тымчасам у вапошнім нумары «Беларуса» пададзена, што чародны, сьнежаньскі нумар газэты будзе ізноў адведзены «Даляглядам»! Пра ўгодкі Кангрэсу — ні гуку! Ня зьдзіўлюся, калі й празь іх рэдакцыя проста *«пераскочыць»*, як праз мала важнае здарэньне. Вашыя напамінкі пра гэтыя важныя і гістарычна, і палітычна ўгодкі, бясспрэчна, абсалютна правільныя, і зразумелая трывога за тое, каб іх усё-ж адпаведна адзначыць. Нажаль, бяда тая, што пераважна ўсё даводзіцца рабіць колькі й тым самым асобам: брацца і за Скарыну, і за дэмаграфію, і за парэміяграфію — і за дзесяць іншых справаў. Ёсьць нейкая, ня зусім мне ясная, *«філязофія жыцьця»* ў тым, што вымагаюць заўсёды працы найперш ад тых, хто й так увесь час нешта робіць. Усім-жа іншым, а іх у нашым выпадку тысячы, нейк ніколі на нішто не стае часу.

---

[627] **«Даляглyды»** — рубрыка ў газеце «Беларус», дзе публікаваліся творы пісьменнікаў з БССР.

[628] Маецца на ўвазе публікацыя: Запруднік, Янка. Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 году // Запісы БІНіМ. № 2 (8). Мюнхэн, 1963. С.181–204; № 3 (9). Мюнхэн, 1964. С. 131–176; № 4 (10). Мюнхэн, 1966. С. 217–246.

Дасылаю разам для зазнаямленьня й фатастат майго ліста ў польскі лёнданскі тыднёвік «Вядомосьці»[629]. Гэта вялікага фармату літаратурна-грамадзкі й палітычны часапіс інтэлектуальнае эліты польскае эміграцыі, у якім друкуюцца найвыдатнейшыя літаратурныя й журналістычныя эміграцыйныя таленты. У вадным з папярэдніх нумароў часапісу адзін з супрацоўнікаў, Гіртых, выказаў вялікую радасьць з таго, што быццам паводле савецкіх картаў Віленшчына — пераважаюча польская. Пробваў лістом выліць вядро халоднае вады на польскую гарачую патыліцу. Ды рэдакцыя ня вытрывала, каб не абрэзаць *«кінці»* зацемцы перад яе друкам. Выглядае, польская цэнзура ня горшая за цэнзуру НРС[630], зь якою даводзіцца мець Вам дачыненьне. Вычыркнутае рэдакцыяй на фатастаце пададзена зь левага боку машынапісным пісьмом. Як бачыце, за Вашым прыкладам *«дыялёгаў»* з суседам ды *«братам»* усходнім прабую *«дыялёг»* з суседам ды *«братам»* заходнім.

Прывітаньні!

Адданы Вам

ПС. І яшчэ адна маленькая *«карэктура»* ў сувязі з Вашай заявай у вадным з папярэдніх лістоў пра тое, што за часоў Скарыны ў Полацку ня было брацтваў, даю тут выпіску з другога выданьня Гарошкавага «Беларусь у ліках...»[631], бач. 9. Там пададзена, пад годам 1143/1159 *«першы ўспамін аб брацтве ў Полацку»*. З гэтага вынікала-б, што брацтвы існавалі й за часоў сьв. Афрасіні. На якім жароле вестка гэтая абапертая, мне невядома, але ня думаю, каб а. Леў яе *«вычытаў із столі»* ці *«выссаў з пальца»*. Цікава было-б даведацца пра гэтае жарола.

21.12.67

Высокапаважаны Спадару Рэдактару!

Падзяка за ліст і дасланае! І гэтым разам пачну з мастацтва — партрэтаў Скарыны. Геруса[632] як мастака крыху знаю. Ягоная, памешчаная ў Нр. 10 маскоўскае *«Полиграфии»*[633] 1965 г., імітацыя ведамага выдатнага абраза майго добрага знаёмага П. Сяргіевіча[634] «Скарына

---

[629] ***«Wiadomości»*** — польскі эміграцыйны грамадска-культурны тыднёвік, што выдаваўся ў Лондане ў 1946–1981 гг.

[630] «Новае Рускае Слова».

[631] Каваль, Пракоп. Беларусь у датах, ліках і фактах. Выд. 2. Парыж: выданьне «Моладзі», 1953. — 108 с.

[632] **Сямён Герус** (1925–1998), мастак-графік.

[633] ***«Полиграфия»*** — часопіс, прысвечаны пытанням выдання разнастайнай друкаванай прадукцыі. Выдаецца ў Маскве ад 1924 г.

[634] **Пётра Сергіевіч** (1900–1984), беларускі жывапісец, графік, заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы.

ў друкарні»[635], нязвычайны прымітывізм. Нешта больш недарэчнае цяжка сабе і выабразіць. Не згаджуся з Вашаю ацэнай і ягонага партрэту Скарыны, перадрукаванага ў «Божым шляхам»[636]. На ім *«молодой человек о прыятной наружности»* з саладкаватай, як у *«красной девицы»*, усьмешкай, за якою — духовая пусьціня. Сказаць пра духовыя глыбейшыя вартасьці гэтак важнае ў гісторыі постаці, мастак нічога не сказаў. Да тэмы магу дакінуць, што *«ін стату нацэнды»*[637] і яшчэ адзін юбілейны партрэт доктара Скарыны — Тамара Стагановіч-Кольба[638] працуе над графічна выкананым партрэтам доктара Скарыны. Для гэтага мастачка пазычыла ў мяне альбомы фатаадбіткаў дрэварытаў і графічных аздобаў з кнігаў Скарыны[639]. Пабачым, што з гэтага выйдзе. Партрэт мае быць паказаны на скарынавай выстаўцы ў Публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку.

Ваш дакор для БІНіМ, у абарону др. СС[640], аналёгіяй, што і Інстытут адзначыў юбілей Скарыны толькі ў лістападзе, быў-бы пераконлівы, калі-б Інстытут між жніўнем і лістападам ладзіў нейкія іншыя навуковыя паседжаньні ці імпрэзы. Тады можна было-б гаварыць пра тое, што і Інстытут грэбліва *«пераскочыў»* праз юбілейны месяц, як зрабіў гэта дасужы рэдактар «Беларуса», калі ў нумары, на якім пастаўлены месяц жнівень, пра Скарыну і ўгодкі ані заікнуўся, навет і сваім пагардлівым *«Скарынаўскі юбілей»*. Дзеля малога ліку нашых суродзічаў у Нью Ёрку летні сэзон для падобных імпрэзаў *«мёртвы»*, і нешта паважна ладзіць немагчыма. У кажным выпадку прыемна адзначыць Вашыя няштодзённыя здольнасьці як *«абароньніка»*, хоць абарона ў дадзеным выпадку датычыць і асобы ня гэткага фармату й вялічыні, як Сакрат[641]!

Наконт-жа таго, што *«шмат за шмат»* пра Скарыну, прызнаюся й каюся, што мне ніколі і ў галаву ня прыйшло, што можна й магчыма зашмат гаварыць пра нашага выдатнага Палачаніна ў ягоным юбілейным годзе ды падчас юбілею ледзь не паўтысячнага адрэзку часу, а ня нашых тых, што азначаюцца кажныя пяць год. Гэтак, відавочна, адчу-

---

635 Карціна Пётры Сергіевіча «Скарына ў друкарні» была напісаная ў 1957 г. Яе рэпрадукцыя была змешчаная ў часопісе «Конадні» (№ 7. Ню Ёрк — Мюнхэн, 1963. С. 103).

636 Гл.: Герус, С. Партрэт Скарыны. Літаграфія. 1967 // Божым Шляхам. № 5. Лёндан, 1967. С. 1.

637 ***In status nascendi*** (лац.) —у стане нараджэння.

638 **Тамара Стагановіч-Кольба** (нар. 1930), мастачка, грамадская дзяячка, дачка Аляксандра і Марыі Стагановічаў.

639 Стагановіч-Кольба, Тамара. Доктар Франьцішак Скарына. Партрэт. Дрэварыт. 1967. ЗША.

640 Станіслаў Станкевіч.

641 **Сакрат** (469–399 да н. э.), старажытнагрэцкі філосаф.

вае й нашая грамадзкасьць, бо хай сабе й сьціплая, але заля Фундацыі Крэчэўскага[642] была біткoм набітая.

Ды некаторым усё-ж выдаецца, што пра Скарыну станоўка зашмат, як, прыкладам, рэдактару «Беларуса». Аж даводзіцца спагадаць яму ў ягонай бядзе, калі на кароценькую зацемку пра юбілейнае паседжаньне Інстытуту далейшага, ніжэйшага й сьціплейшага месца ў васьмібачынным часапісе знайсьці ён ня мог — бо яго ўжо й не магло быць. Зацемка памешчаная на апошняй восьмай бачыне ў самым ніжнім правым куце, пад клепсыдрамі ды нэкралёгамі[643]. Месца, пэўна-ж, найменш істотная рэч, ды ўсё-ж характэрна тое, што зацемка пра Купала-Коласавую акадэмію, галоўным героем якое быў сам рэдактар, у тымсамым нумары памешчаная на бачыне другой[644]. Каб у Вас часам не паўстала памылковае ўражаньне пра зьмяшчэньне юбілейнае заявы пра Скарыну А. Флароўскага[645], паведамляю, што яна, перасланая даўно да друку нашымі канадыйскімі суродзічамі, была адкінутая і толькі на паўторныя дамаганьні ды націск канадыйскіх сувыдаўцоў ды рэдактароў «Вестак з Канады»[646] наканец змагла пабачыць у часапісе сьвет; дык за зьмяшчэньне яе рэдактар аніякое адказнасьці не паносіць.

Што да апошніх трох кнігаў «Запісаў», дзе матар'ялы пра Усебеларускі Кангрэс, дык калі іх у Вас няма — прычына гэтага гэткая: выдаўцом, гаспадаром і кальпартэрам сучасных «Запісаў» зьяўляецца нямецкі аддзел БІНіМ, і дзеля гэтага й рэдактарам яго — старшыня гэтага аддзелу др. СС[647]. Таму-ж рассылка ды кальпартаж у руках Мюнхэну, а на прасторы Амэрыкі — у руках др. СС. Хоць абавязак Мюнхэну быў перасылаць хоць колькідзесят экзэмпляраў для БІНіМ у Нью Ёрку, ды іх, за выняткам кнігі 1-ай, мы тут не даставалі. Прыходзіла ўсяго колькі экзэмляраў на паказ ды аўтарскіх, і тыя звычайна з звыш паўгадовым спазьненьнем. Таму гэтай вясною Управа БІНіМ у Нью Ёрку

[642] **Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага** была заснавана ў Нью-Ёрку ў 1958 г. з мэтай падтрымкі беларусаведных даследаванняў. У лістападзе 1964 г. фундацыя змагла набыць некалькі будынкаў, дзе меліся размясціцца бібліятэка, архіў, грамадская заля для імпрэзаў.

[643] Маецца на ўвазе тэкст: На 450-ыя ўгодкі беларускага друку // Беларус. № 128. Сьнежань 1967. С. 8.

[644] Маецца на ўвазе тэкст: Р. Б. Угодкі Янкі Купалы й Якуба Коласа // Беларус. № 128. Сьнежань 1967. С. 2.

[645] Гл.: Фларо ўскі, А. Скарыну — слава! // Беларус. № 128. Сьнежань 1967. С. 5.

[646] **«Весткі з Канады»** (або «Канадыйскія навіны») — раздзел у газеце «Беларус», што друкаваўся ад лістапада 1963 да снежня 1968 г. сябрамі Згуртавання беларусаў Канады.

[647] Станіслаў Станкевіч да 1963 г. жыў у Мюнхене і таму быў кіраўніком мясцовай філіі БІНіМа. Пазней выехаў у ЗША, але праз нейкі час працягваў кіраванне беларускімі выдавецкімі справамі ў Нямеччыне.

была змушаная выслаць да Мюнхэна ў гэтай справе ўльтыматыўны ліст з пагрозаю спыніць усякае супрацоўніцтва, калі Управа ня будзе мець найменш па 100 экз. кажнае кнігі. У выніку дэмаршу даслана было колькідзесят экзэмпляраў, але толькі апошняга нумару. Як з Вашага ліста бачу, і галоўны прадстаўнік «Запісаў» на ЗША ды рэдактар часапісу пра належную рассылку хоць важнейшым асобам ня дбаў. Таму ня трапіў часапіс да Вас. Дык і гэтае пытаньне зводзіцца да аднаго й таго самага *«супольнага назоўніка»* — др. СС. Прашу напісаць, каторых кнігаў «Запісаў» Вам да камплекту не стае — пастараюся іх нейк *«змабілізаваць»* ды выслаць.

На заканчэньне — ізноў вінаваты ды грэшны — вяртаюся да... Скарыны. Ведаю, што некаторым і запраўды гэтая *«Сымонава брага»* ўжо надаела. Для свайго апраўданьня й самаабароны гэтым разам прыкрыюся яшчэ шчытом *«юбілейнага году»*, які канчаецца толькі за дзён дзесяць. У годзе 1968 буду ўжо высьцерагацца! Ідзе тут пра *«рэцэнзыю»* на маю апошнюю кніжыцу пра імя доктара Скарыны, дадзеную ў Нр. 2 «Літвы» ведамым В. П.[648]. Хіба часапіс дайшоў і да Вашых рук, і на рэцэнзыю зьвярнулі ўжо ўвагу. Не ў прыклад нумару папярэдняму, у якім чыкагскі *«Волаціч»* адным часам качаў ды лупцаваў аж двух аўтараў, што былі яму не да спадобы — адной рукой праф. Адамовіча, а другой сп. Урбана — гэтым разам дачакаўся я аўтарытэтнага паклёпваньня па плячы й навет *«пахвалы»* за тое, што *«ў аснаўным добра вывязаўся з свайго заданьня, прыводзячы ведамыя факты...»*!!! Чаго добрага й на нейкі вуніяцкі *«ў усходнім абрадзе»* мэдаль заслужыў-бы, каб...

Каб не дапусьціў страшэннае *«абмылы»* — нічога не сказаў, што доктар Скарына быў вуніятам! Аўтар рэцэнзыі спрэчнае й дагэтуль у скарынаведнай літаратуры пытаньне веравызнаньня доктара Скарыны разьвязаў вельмі проста: паводле яго, ад 1439 году, ад Флорэнтыйскай вуніі[649], праваслаўная царква Беларусі падлягала ў істоце Рыму, і за часоў Скарыны ў нас *«толькі навонкі ўтрымліваліся віды незалежнасьці праваслаўнай Царквы, каб зьбіць маскоўскую прапаганду й дывэрсыю»* (б. 253). Стуль ясна й проста, што й доктар Скарына

---

[648] Маецца на ўвазе тэкст: V. P. [Вацлаў Пануцэвіч]. Symon Braha — Pytańnie imia doktara Skaryny ŭ śviatlie aktaŭ i litaratury, 1967 // Litva. № 2. Chicago, 1967. S. 249–254.

[649] **Фларэнційская унія** — заключаная ў 1439 г. на Ферара-Фларэнційскім усяленскім саборы (1438–1445) дамова паміж Каталіцкай царквой у асобе Папы Рымскага Яўгена IV і заходніх царкоўных іерархаў ды візантыйскай Праваслаўнай царквой у асобе канстанцінопальскага імператара Івана VIII Палеолага і ўсходніх царкоўных іерархаў. Дамова прадугледжвала арганізацыйнае злучэнне Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў пад уладай Папы Рымскага, прызнанне Праваслаўнай царквой некаторых каталіцкіх догматаў узамен на дапамогу ў барацьбе з Асманскай імперыяй. Унія не была прынятая значнай часткай і каталіцкага, і праваслаўнага духавенства.

быў *«усходняга славянскага абраду»* (б. 254). Дык усе мітрапаліты і япіскапы Беларусі тае пары, улучна з выдатным і асьвечаным сучасьнікам Скарыны мітрапалітам Солтанам[650], ашукваючы сваіх вернікаў, толькі *«ўдавалі»*, што яны *«праваслаўныя»* ды прызнаюць аўтарытэт канстантынопальскага патрыярха, а ў запраўднасьці былі каталікамі *«ўсходняга абраду»* ды слухалі Рыму!

Як бачыце, рэцэнзэнт і адначасны рэдактар так і ня вытрываў, каб і доктара Скарыну ня ўпісаць у прыход свае чыкагскае *«беларускае царквы»* ўсходняга абраду! Ён выбражае сабе, што й праваслаўная Царква Вялікага Княства Літоўскага XV—XVI ст. ст. была падобным няшчырым удаваньнем, як і сучасная *«беларуская царква»* ў Чыкага, дзе жменька каталікоў удае *«ўсходні абрад»*. Праз гэткія крывыя, вузка парахвіяльныя, акуляры свае рэальнае сучаснасьці аўтар бачыць і ўсё мінулае Беларусі. Хай сабе й карыкатурнае, але якое-ж дасканальнае пацьверджаньне ведамае тэзы *«дыялектычнага матар'ялізму»* аб тым, што *«Бытие определяет сознание»*[651].

Прывітаньні!

У глыбокай пашане Ваш

17 сакавіка 1968 г.

Вельмі Паважаны Калега![652]

Калядамі, здаецца, дастаў ад Вас паведамленьне, што прошаныя калісьці мною зьнімкі з выстаўкі ў Чыкага, і асабліва выстаўкі да ўгодкаў Скарынавага друку, гатовыя, і па Калядах іх мне вышлеце. Не атрымаў іх дагэтуль, і затое — высылаю тут матар'ял пра выстаўку беларускага друку ў Нью Ёрку[653]. Разам у канвэрце паменшанае выданьне плякату, які, мэтровай вышыні, на картоне, выстаўлены перад франтонам тутэйшай Публічнай Бібліятэкі на 5-ай Авэню. Калі мець на увеце, што гэта цэнтр Мангатэну й Нью Ёрку, ды што колькі блёкаў далей знаходзіцца будынак Задзіночаных Нацыяў, дык можна бачыць,

---

[650] **Іосіф Солтан** (? — 1521/1522), рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, епіскап Смаленскі, ад 1507 г. — мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі.

[651] *«Бытие определяет сознание»* — выраз з прадмовы да працы Карла Маркса *«К критике политической экономии»* (1859). Дакладна выраз гучыць: *«Не сознание людей определяет их бытие, а, наоборот, их общественное бытие определяет их сознание»* (Маркс, К. К критике политической экономии // Маркс, К. Сочинения. 2-е изд. Т. 13. Москва: Политиздат, 1959. С. 7).

[652] Ліст адрасаваны **Вітаўту Рамуку** (1914–2010), грамадскі дзеяч. Ад 1956 г. жыў у Чыкага. Быў актыўным удзельнікам беларускага жыцця, сябрам Беларускага каардынацыйнага камітэта ў Чыкага.

[653] Пра выставу ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, прысвечаную Францішку Скарыну і гісторыі беларускага друку, гл.: Чатырыста пяцьдзясят год беларускага друку // Беларус. № 131. Сакавік 1968. С. 2.

што наш доктар Франьцішак у самым цэнтры ня толькі ньюёрскіх, але сусьветных справаў і падзеяў. Плякаты пра выстаўку вывешаныя і ўва ўсіх аддзелах бібліятэкі, якіх звыш 60-ці, ды ва ўсіх кварталах места. На выстаўку складаецца звыш 200 экспанатаў, пераважна кніжак, але ёсьць і партрэты ды рэпрадукцыі розных малюнкаў ды гравюраў. Выстаўка будзе трываць да канца чэрвеня, магчыма, будзе нагода Вам яе адведаць. Наракаць на тое, што мы тут у Нью Ёрку адзначаем угодкі нашага друку й нашага доктара Франьцішка засьціпла, хіба-ж не даводзіцца.

Але ліст гэты пішу да Вас не дзеля справаў выставак, а зь іншае канкрэтнае прычыны. Ідзе пра тое, што ў другой палавіне жнівеня мае ў Чыкага прыбыць з Англіі разам зь сям'ёй (жонка й дачка) Ваш хіба знаёмы, др. Янка Садоўскі. Ён атрымаў у Чыкага становішча прафэсара-асыстэнта, будзе выкладаць у сваёй галіне (славістыка), і таму пераяжджае зь Лёндану ў Чыкага[654]. Ня ведаю, ці Вам ведамы *«летапіс»* ягонага жыцьця апошніх год, магу ў яго ўвесьці: на рымскім унівэрсытэце колькі год таму ён здабыў дактарат у галіне літаратуры (на аснове доктарскае дысэртацыі пра доктара Скарыну). Летась увосені на ўнівэрсытэце ў Лёндане абараніў другую дысэртацыю — пра мову Бібліі доктара Скарыны — ды атрымаў другі дактарат з галіны філялёгіі. Пачынаў свае студыі калісьці як тэалёг, хоць сам і праваслаўны, кіраваўся на каталіцкага сьвятара. Ды пасьлей у Англіі ня вытрываў абавязку цэлібату, ажаніўся з ангелькай, мусеў, зразумела, пакінуць сьвятарства ды вярнуўся да свае праваслаўнае веры. Пасьля ўсіх гэтых бурных прыгод пачынае цяпер кар'еру прафэсара вышэйшых навуковых установаў, мае вялікія навуковыя здольнасьці, вельмі працавіты, мае вялікія навуковыя пляны[655].

Пішу пра гэта ўсё да Вас дзеля гэтага, што ў апошнім лісьце ён канкрэтна паведаміў аб сваім пераезьдзе ў Чыкага ды прасіў дапамагчы ў дзьвёх справах: знайсьці ў Чыкага нейкіх суродзічаў, якія дапамаглі-б яму ці адразу пасьля прыезду ці навет і раней знайсьці нейкае, хай сабе часовае, памешканьне для яго і ягонай сям'і. Другая рэч — калі-б аказалася гэта патрэбным, пазычыць патрэбную суму грошаў на пражыцьцё на тых пару тыдняў, пакуль пачне даставаць сваю плату. Ідзе пра тое, што з Англіі цяпер, дзеля фінансавага крызісу, вельмі

[654] Янка Садоўскі ў 1968–1969 гг. выкладаў рускую мову і літаратуру ў Ілінойскім універсітэце ў Чыкага.

[655] Больш пра біяграфію і скарынаведную працу Янкі Садоўскага гл.: Гардзіенка, Наталля. Да біяграфіі скарыназнаўцы Янкі Садоўскага // Віленскія выданні Францыска Скарыны ў кантэксце эпохі Адраджэння: да 490-годдзя кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім: матэрыялы IV Скарынаўскіх чытанняў (Мінск, 27 красавіка 2012 г.) / пад рэд. І. Багдановіч. Мінск: Кнігазбор, 2014. С. 97–105.

цяжка дастаць дазвол вывозіць з сабой грошы, і ён ня пэўны, ці зможа патрэбную суму з сабой прывесьці. Сам ён ня ў бядзе, жонка мае нават собскі дом, але валютныя труднасьці могуць першыя тыдні быць. Калі справа грашовая ня гэтакая важная, бо, калі-б дзеля нейкіх прычынаў не ўдалося заладзіць яе ў Чыкага, пару сот даляраў можам падкінуць і зь Нью Ёрку, дык у справе помачы ці парады пра памешканьне можна лічыць толькі на нашых чыкагскіх суродзічаў.

Канкрэтнае маё пытаньне такое: ці маглі-б у належным часе (улетку) дапамогу гэтую аказаць вы, або, калі не, хто ў Чыкага мог-бы гэтым заняцца? Можа маглі-б парадзіць у гэтай справе? Ведаючы, да каго зьвяртацца, можна будзе зьвязаць прафэсара Садоўскага беспасярэдне, і гэтая справа залагодзілася-б.

Хоць часу яшчэ маем і даволі, але буду рады на Ваш пагляд на гэтую справу, чакаю на Ваш ліст.

Прывітаньні Паважанай Спадарыні і ўсёй Сямейцы зь Нью Ёрку!

У глыбокай пашане.

Ваш

7 травеня 1968 г.

Дастойны Войча-Доктару![656]

Паведамляю, што надышла якраз Вашая каштоўная, прысланая для Інстытуту, праца «Гісторыя ды сучасны стан беларускае бібліяграфіі»[657]. Адразу-ж накіраваў яе туды, дзе яна й павінна быць — на паказ! (*«Новае сітца на калочку вісіцца»*). Справа ў тым, што ад пачатку сакавіка Публічная Бібліятэка Нью Ёрку адкрыла вялікую выстаўку 450-годзьдзя беларускага друку. У галярэі бібліятэкі на 13-ці сталох раскладзена ды разьвешана на сьценах звыш 200 экспанатаў, датычных да *«гісторыі ды сучаснага стану»* беларускага друку. Апошні стол, трынаццаты, адведзены якраз беларускай бібліяграфіі. Там маюць пакласьці Вашую кніжку, і будзе там яна красавацца да канца ліпеня, калі выстаўка закрываецца.

Усю гэтую дэманстрацыю беларускага друку вядзе, зразумела, наш доктар Франьцішак. З шасьці сталоў, адведзеных старому беларускаму друку, яму прызначаны тры. Картонны, мэтровай вышыні, плякат пра выстаўку з партрэтам доктара Скарыны зь ягонае Бібліі, узьнімаецца на галоўнай рэпрэзэнтацыйнай восі Мангатэну — Пятай Авеню.

---

[656] Ліст адрасаваны а. **Аўгену Смаршчку** (1914–1984), святару, педагогу, перакладчыку, які жыў у Бельгіі, выкладаў рускую мову ў Вышэйшай фламандскай школе перакладчыкаў у Антверпене, як святар кіраваў парафіяй БАПЦ.

[657] Smoršček, Eugène. Historique et état actuel de la bibliographie Biélorussienne: Langue — Littérature — Histoire. Bruxelles: Univ. Libre de Bruxelles, AnnéeAcademique 1965–1966. — 93 p.

Галоўны шэдэўр выстаўкі — арыгінал добра захаванага *«напрестольнага»* Эвангельля, што было ў 1575 годзе выдадзенае ў Вільні Пётрам Мсьціслаўцам ды Мамонічамі. Калі ўзяць на ўвагу, што непадалёк будынак Задзіночаных Нацыяў, дык можна сказаць, што й доктар Скарына, і беларускі друк, а цяпер — і Вашая кніжка — у цэнтры ўвагі ня толькі Нью Ёрку, але й сьвету!

Перад перадачаю на выстаўку, зразумела, перагляднуў Вашую працу — робіць добрае ўражаньне. Але як *«скарыністы»*, ды ня толькі, як Вы пішаце, *acharne*[658], але й зайздросны, ня вытрымаю, каб не зьвярнуць увагу на тое, што беларускую бібліяграфію выпадала-б закончыць ня цытатаю *«Маскавіціна»* Фёдарава, а Палачаніна Скарыны: *«А в чем бых ся омылих — разумнейшие поправте, прошу вас для Бога и для посполитого доброго»* (прадмова *«во всю Библию»*, Прага, 1519 г.).

Уражае няпрыемна й тое, што Скарына ў нарысе з навязаным яму беспадстаўна й назольліва ў СССР імём, якім сам сябе ён ніколі не называў, — расейскім *«Георгіем»*. Гэтаму пытаньню адведзеная мая апошняя друкаваная праца, якую, разам зь некаторай іншай маёй *«скарыніянай»* ды *«міцкевічыянай»*, як маё прызнаньне Вашаму выдатнаму пачыну ў галіне беларусаведы, у васобным канвэрце, як друк, Вам высылаю. Там-жа й некаторыя выданьні бібліятэкі пра выстаўку беларускага друку ды афіцыйны *«прэсс рэлійс»*[659] пра яе. Паменшанае выданьне плякату выстаўкі мае даслаць Вам бібліятэка — пакінуў там на гэта Ваш адрыс.

Ці ня можна атрымаць хоць яшчэ адзін экзэмпляр Вашае працы, бо толькі аднаго на Нью Ёрк і Амэрыку — замала. Добра было-б адну кніжку накіраваць і ў тутэйшую бібліятэку.

Прывітаньні!

У глыбокай пашане

7.6.1968

Дарагая Раіса[660]!

Дзякую за дасланыя лісты й копію артыкулу, які, як і трэба было спадзявацца, рэдактар паддаў апэрацыі *«абразаньня»*. Ня думаю, што трэба моцна гэтым пераймацца, а хутчэй толькі *«дзівіцца»* ды — прывыкаць. Паміная розныя іншыя *«ўдасканаленьні»* рэдактара, мне заімпанавала ягоная перапраўка *«напрэстольнага»* Эвангельля на *«настольнае»* Эвангельле!!! Так і відаць, што каталік, і назоваў пра-

---

658 ***Acharné*** (фр.) — тут: апантаны, палкі, жарсны.

659 ***Press release*** (англ.) — прэс-рэліз, паведамленне для прэсы.

660 Гэты і наступныя лісты з такім зваротам адрасаваныя **Раісе Жук-Грышкевіч** (дзяв. Жукоўская; 1919–2009), грамадскай дзеячцы, што жыла ў Канадзе. Была актыўнай сяброўкай Згуртавання беларусаў Канады. У 1965 г. заснавала і ўзначаліла Згуртаванне беларускіх жанчын у Канадзе.

васлаўных літургічных кнігаў ня ведае. З царкоўнаславянскага *«престола»* зрабіць звычайны сялянскі стол.

Усё-ж добра, што хоць вельмі позна, калі выстаўка ідзе ўжо да канца, але нешта наканец пра яе напісана й надрукавана[661]. Тымчасам з выстаўкай зьявіліся іншыя справы й праблемы, пра якія й пішу і да Цябе, і асобны ліст да Вінцука[662]. Хоць Скарыну на Пятай Авэню і пільнуюць два ільвы (якіх гэтак слаўна апела Н. Арсеньнева ў вершы «Ільвы», «Конадні», Нр. 7, б. 33–35[663]), ды ўсё-ж на яго гэтымі днямі распачалася

[661] Маецца на ўвазе артыкул: Жук-Грышкевіч, Раіса. Даніна Скарыну ад Нью Ёрку // Беларус. № 133. Травень 1968. С. 5.

[662] Маецца на ўвазе **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903–1989), грамадскі дзеяч, педагог.

[663] Дзень
залаты, як мёд пчаліны.
Яму б —
васковая вуза
палёў асеньніх, дзераза
дарог і вогнішчы асінаў,
а не муры,
граніт сівы,
што сочаць ночна і надзенна
два львы на цокалях каменных,
із німбам грыў ля галавы.
Ім прыкра… горка… Лапай шэрай
сьляпыя вочы не накрыць,
ня рынуць глыбаю згары
на мора каркаў,
каб стамерна
сплаціць бяздумнай грамадзе,
што пнецца,
топчацца па пятах —
вось-вось сьляпыя кацяняты —
за ўсё —
за гон, за гуд, за дзень…
Мінаюць вёсны… Сушыць сьпека
бэтонны горад, ажно дно
відаць… Ураз кульгае зноў
аднекуль восень злым калекам…
Ледзь сьвет канчае асянец —
зіма,
і ў каменныя шыі
вянкі ўгрызаюцца важкія,
як зь церняў, ведамы, вянец…
Ільвы ж —
на варце: мур за імі —

атака. Адразу пасьля адкрыцьця выстаўкі пару чалавек з старое чорнасоценнае расейскае эміграцыі заходзіла ў бібліятэку з сваймі пратэстамі, чаму *«падтрымліваюць сэпаратыстых»*. Калі гэта не зрабіла ніякага ўражаньня, пад канец травеня была сарганізаваная супольная ліставая атака. На працягу колькіх дзён зьявілася аж 5 лістоў з розных канцоў Нью Ёрку, і ўсё на адну тэму: выстаўка *«русафобская»*, бо

---

вулей, дзе людскіх думак мёд
зьбірае сьвет па годзе год,
аж сам ізь імі не загіне.
Няхай! Каменьню — што па ім?
Парой,
як рупны бацька сына,
злупцуе дождж рудыя сьпіны,
пакінуць галубы ўспамін,
парой
нялетняя дурніца
падыдзе з кніжкай пад руку
і ў пысу пусьціць дыму скрут
цару зьвяроў… І трэ карыцца…
Парой…
Ды ўсё ж бывае й ноч.
Не, не такая, як на сьвеце,
зь мігценьнем зор, ізь цёмным вецьцем,
ізь цішай…
але ўсё-ткі ноч.
Ільвы адны… Сьцяж камяніцаў,
як рэбры скал… Зубоў ашчыр
шырэй… дзічэй… У цемры — жыр,
мчыць лёгкі статак навальніцай!
І прорвы ляпаў ловяць дых
зямлі сухое і гарачай,
сьціскае цяглiцы удача,
яны ня ў месьце —
ля вады!
Адлі сьцюдзёны камень грываў
у пальцах ветру не шасьціць,
ня пахне тропамі ў трысьці,
трапёткай, цёплаю спажывай.
Няма
ні лётных антылоп,
ні скал, апырсканых крывёю.
Над мескай пожняю сівою
цягае восень сонца сноп…

*Наталля Арсеннева. «Ільвы».*

ў паясьненьнях да стала б гаворыцца пра нейкую *«русіфікацыю»* беларускае мовы!!! Беларуская мова, толькі адзін з дыялектаў мовы расейскае, і таму гаварыць тут пра нейкую *«русіфікацыю»* могуць толькі *«русафобы»*, бо як гэта магчыма русіфікаваць *«рускі»* дыялект!!!

У сувязі з гэтым, канечна, трэба даць маральнае падтрыманьне бібліятэцы і арганізатарам выстаўкі, кіруючы на дырэктара Публічнай Бібліятэкі Нью Ёрку лісты з пахвальнымі водзывамі пра выстаўку ды падзяку за яе наладжаньне на гэтак высокім акадэмічным узроўні. На кажны дасланы ліст расейскае чорнае сотні трэба накіраваць на рукі дырэктара бібліятэкі найменш два лісты, якія іх касавала-б сваёй пахвалой. Як гэта зрабіць і з Канады — сёе-тое пішу ў лісьце да Вінцука. Бязумоўна, накіраваныя будуць лісты і зь Нью Ёрку ды Амэрыкі наагул. І трэба іх высылаць не чакаючы, ужо цяпер.

Прывітаньні!

Твой

7.7.1968

Дарагая Раіса!

Выбачай, што загружаны рознай тэрміновай пісанінай позьнюся з адказам. Дзякую за лісты, накіраваныя ў бібліятэку, — яны сваё робяць, нэўтралізуюць нэгатыўныя лісты расейскіх чорнасоценцаў. Ня ведаю, колькі дакладна бібліятэка ўжо атрымала, але, думаю, расейскія, якіх было сем, яны ўжо лікам перавысілі, і гэта добра. Гэтымі якраз днямі зарэагаваў пазытыўна на выстаўку й Менск — была кароткая вестка ў радыё, а пасьля вестку памясьціла й «Советская Белоруссия» (фатастат дасылаю)[664]. Самае цікавае ў «СБ» гэта месца, дзе пішацца, што Дзяржаўная Бібліятэка БССР імя Леніна выслала экспанаты на выстаўку! Ніякіх экспанатаў яны ня высылалі, ніхто ў іх і не прасіў, дык *«Ленін»* тут нічога не памагаў. Гэта толькі спроба прыпісаць і сабе заслугу за выстаўку — *«пад'ехаць на чужым хвасьце»* — відавочна, з намерам пахваліцца перад Масквой з свае дасужасьці. Зьмясьціў рэпрадукцыю плякату разам з інфармацыяй і паважны польскі часапіс літаратурна-навуковы ў Лёндане «Вядомосьці» (фатастат далучаю)[665] — хоць гэтага не зрабіў др. СС у сваім беларускім часапісе[666]. Далі вялікі артыкул пра выстаўку славакі[667]. Адным словам, водзывы з усіх бакоў пазытыўныя й нэўтралізуюць усе *«пратэсты»* расейскае

[664] Маецца на ўвазе тэкст: Почта библиотеки // Советская Белоруссия. 14 июня 1968. С. 4.

[665] Маецца на ўвазе тэкст: 450 lat druków białoruskich Wiadomości. № 21. Londyn, 26.05.1968. S. 4.

[666] Маюцца на ўвазе Станіслаў Станкевіч і газета «Беларус».

[667] Маецца на ўвазе тэкст: Staško, Jozef. 450 rokov bieloruskiej tlače // Slovak v Amerike. № 594. 19.06.1968.

чорнае сотні. Бібліятэка на *«пратэсты»* адказала ўсім стандартным лістом, у якім, міжіншым, напісана, што тэрміну *«русіфікацыя»* ўжывалі да беларускіх земляў і за царскіх часоў навет Сьвяшчэнны Сынод расейскай праваслаўнай царквы ды Дзяржаўная Дума, дык няма падставаў баяцца гэтага слова й цяпер. Дык выстаўка дабудзе да канца, пад аховай ільвоў, і *«сілы пекла»* яе не скрануць. Усё-ж такі вельмі паказальная расейская мэнтальнасьць — намаганьне забараніць навет амэрыканцам на сваёй амэрыканскай зямлі ўжываць слова, якое адбівае абсалютную гістарычную праўду, на довад чаго хопіць прыпомніць хоць-бы забарону беларускага друку. Ня думаю, каб нешта пашкодзіла, калі ад аднае арганізацыі зьявіцца навет і пару лістоў пра выстаўку, толькі тады лепш, каб яны мелі адпаведны дыстанс у часе ды былі крыху рознага зьместу. Свае пагляды на выстаўку ня шкодзіць, каб выказалі й звычайныя гледачы, а ня толькі нейкія *«акадэмікі»*, бо-ж і бібліятэка якраз не спэцыяльна акадэмічная, а *«публічная»*, і ладзіць часта й вельмі папулярныя выстаўкі для народу. Затое нічога лепш, каб ня было ў зьмесьце ліста, што паказвала-б, што арганізацыя ведае пра рэакцыю расейцаў, бо тады будзе выглядаць, што ліст не спантанны, а на нечыю просьбу. Хіба расейцы выступяць недзе публічна ў друку з сваімі *«пратэстамі»* — тады іншая справа: на пратэсты можна адказаць *«пратэстамі»*.

Шкада, што не змагла прыбыць на бяседу ў чэсьць дактарату Алы Орса[668], а разам і разьвітацца й з Скарынай ды ягонай выстаўкай. Бяседа прайшла вельмі ўдала. Найбольшая сэнсацыя яе — гэта калі быў прачытаны ліст пра наданьне ганаровага сяброўства для мужа Алы, др. Фрэнка Романо, дык ён, амэрыканец італіанскага паходжаньня, устаў ды на знак падзякі сказаў пяцімінутную прамову <u>па-беларуску</u>, за што ізноў яму пазьней пяць мінут білі брава.

Я з свайго боку дзякую за мілую падзяку Агульнага Зьезду Згуртаваньня Беларусоў Канады[669] за маю дапамогу пры наладжаньні выстаўкі ў Таронта. Дапамог я дык толькі матар'яламі, *«душой»*-жа арганізацыі самое выстаўкі быў *«сакратар»* Галоўнае Ўправы ЗБК[670], спадзяюся, што не забыліся падзякаваць і яму! <…>

Прывітаньні Абаім!

Твой

---

[668] **Ала Орса-Рамана** (нар. 1936), грамадская дзеячка, доктар хімічных навук, дачка Аляксандра і Наталлі Орсаў.

[669] **Згуртаванне беларусаў Канады** — першая і найбольш уплывовая арганізацыя беларусаў у гэтай краіне, заснаваная 28 лістапада 1948 г.

[670] Сакратаром Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Канады ў той час была сама Раіса Жук-Грышкевіч.

29 сакавіка 1969 г.

Вельмі Паважаны Спадару Прафэсару[671]!

Удзячны вельмі за ласкавы ліст, весткі ды дасланыя фатастаты пра Вашыя найнавейшыя дасягненьні. Матар'ял будзе скарыстаны, фатастаты далучаныя да актаў. Прошаны плякат выстаўкі спакаваны, але выслаць яго ўдасца толькі нейдзе аж у аўторак, бо ў панядзелак, дзеля паховінаў генэрала Аўзэнгаўзэра[672], пошта будзе закрытая.

Буду вельмі ўдзячны за дасланьне на нейкі час кнігі «450 год беларускага кнігадрукаваньня»[673], бо хоць на яе ўжо даўно палюю, ды няведама, калі дастану, а магчыма, што яна й зусім міне Нью Ёрк. У Нью Ёрку, дзеля нядаўняга страйку докераў, ужо трэці месяц няма ніякіх новых савецкіх кніжак.

Што ў юбілейным зборніку АН БССР у артыкуле Флароўскага[674] ўсякія згадкі пра БІНІМ і яго скарыназнаўчую працу ды публікацыі С. Брагі будуць вычыркнутыя, я ведаў ужо даўно. Пра гэта пісаў мне яшчэ ўвосені 1967 г. нябошчык праф. Флароўскі. У часе ягонай бытнасьці ў Менску яму паказалі ягоны артыкул у карэкце, і тады ён заўважыў, што артыкул абрэзаны на 1960 г. — усё далейшае выкінутае. На ягонае пытаньне, чаму, яму адказалі, што згадваць прозьвішча Брагі ў БССР немагчыма, бо ён быў у Менску падчас нямецкае акупацыі[675]! Не зважаючы на гэта, колькі дзён пазьней праф. Флароўскі падчас свайго дакладу на ўрачыстым угодкавым паседжаньні АН БССР пра ўсе найнавейшыя дасягненьні скарыніяны БІНІМ і мае адкрыцьці гаварыў — бо гэта і адзінае новае, што ў гэтай галіне апошнім часам зьявілася — але ня згадваючы ўжо ніякіх прозьвішчаў, ані ніякіх арганізацыяў. Слухалі яго зь вялікай увагай уся лічная прысутная аўдыторыя, бо ён адзін нешта новае й на тэму гаварыў. Усе іншыя прамовы — стандартныя партыйныя прывітаньні й хваласьпевы *«савецкаму буйнаму разьвіцьцю беларускага друку»* бязь ніякое блізу й згадкі пра доктара Скарыну. Гэткая рэляцыя праф. Флароўскага.

Хоць нашую, *«заходнюю»*, скарыніяну ў БССР і канфіскуюць, але зь ёю ўсё-ж лічацца. Апошні прыклад: ад нейкага часу ў БССР накручваюць фільм пра Скарыну паводля ведамага раману Садковіча[676] й Львова, раману, напісанага на партыйны заказ і з грашовымі субсыдыямі

---

[671] Ліст адрасаваны, відаць, Янку Садоўскаму.

[672] **Дуайт Эйзенхаўэр** (англ. *Dwight David Eisenhower*, 1890–1969), амерыканскі дзяржаўны і вайсковы дзеяч, 34-ы прэзідэнт ЗША. Памёр 28 сакавіка 1969 г.

[673] 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск: АН БССР, 1968. — 436 с.

[674] Маецца на ўвазе тэкст: Флароўскі, А. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск: АН БССР, 1968. С. 389–433.

[675] Вітаўт Тумаш ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўніком цывільнай адміністрацыі Мінска, пакуль не з'ехаў з Беларусі ў Нямеччыну.

[676] **Мікола Садковіч** (1907–1968), кінарэжысёр, драматург, пісьменнік.

партыі[677]. Заказ (як сам Садковіч гэта добра апісаў) даў яму сакратар ЦК КПБ Гарбуноў[678] улетку 1944 г. у Маскве. І хоць раман называецца «Георгій Скарына», дык фільм мае называцца «Я, Францыск Скарына»[679]. Дык зьмену муселі правесьці ў самым загалоўку!

Адна заўвага што да *«Дыкшыёнары оф інтэрнэйшанал байографі»*[680] — мала ведаю гэтую ўстанову, і хоць ганаровым старшынём калісьці быў нядаўна памерлы французскі акадэмік Кокто[681], дык усё-ж, калі летась у месяцы травені атрымаў запросіны, каб падаць да гэтага слоўніка сваю біяграфію, дык прапанову зігнараваў, фармуляраў не адаслаў, пакінуў усю справу бяз адказу, і ня толькі таму, што не прыдаю вялікага значэньня для рэклямы, але й крыху не давяраю — на якога ліха некаму спатрэбілася мая біяграфія?

Малая навіна: Вера Рыч[682] пераклала даволі добра й надрукавала Багдановічаў «Апокрыф» (надрукавала ў сваім часапісе «Мэніфолд»[683]).

Прывітаньні!

25 студзеня 1970 г.

Дастойны Войча[684]!

Фатастатычных адбітак з прошанай кнігі, дзе бібліяграфія перакладаў беларускіх літаратурных твораў на ангельскую мову, усё яшчэ не магу зрабіць, бо чакаю, калі кніга ў бібліятэцы будзе закаталягізаваная й даступная да выпазычэньня. Пра гэты Ваш заказ усё-ж помню, і як толькі будзе можна — выканаю.

---

677 Садкович, Николай; Львов, Евгений. Георгий Скарина: исторический роман. Минск, 1966. — 464 с.

678 **Цімафей Гарбуноў** (1904–1969), партыйны і грамадскі дзеяч, гісторык, у 1955–1963 гг. — Старшыня Вярхоўнага Савета БССР

679 «Я, Франциск Скорина» (1969, Беларусьфільм). Рэжысёр Барыс Сцяпанаў. Ролю Скарыны выканаў Алег Янкоўскі. Здымаліся таксама Расціслаў Янкоўскі, Стафанія Станюта, Уладзімір Дзядзюшка, Здзіслаў Стома, Марыя Захарэвіч.

680 ***«Dictionary of Internatonal Biography»*** (англ.) — «Міжнародны біяграфічны слоўнік». Магчыма, маецца на ўвазе адно з выданняў Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (*International Biographical Centre*) — прыватнага выдавецтва ў Кембрыджы, што спецыялізуецца на выданні біяграфічных даведнікаў. Каб трапіць у гэты даведнік, асоба мае заплаціць пэўныя грошы, з чаго і жыве выдавецтва.

681 Відаць, маецца на ўвазе **Жан Както** (фр. *Jean Maurice Eugène Clément Cocteau*, 1889–1963), французскі пісьменнік, мастак, рэжысёр.

682 **Вера Рыч** (англ. *Vera Rich*, 1936–2009), англійская паэтка, перакладчыца, сябра Англа-беларускага таварыства.

683 ***«Manifold»*** — паэтычны часопіс, заснаваны Верай Рыч у Лондане ў 1962 г.

684 Ліст, відаць, адрасаваны а. **Аляксандру Надсану** (да эміграцыі Бочка, 1926–2015), грэка-каталіцкаму святару, грамадскаму дзеячу, кіраўніку Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

У польскім лёнданскім літаратурным тыднёвіку «Вядомосьці», у нумары з 9 лістапада мінулага году надрукаваны вялізны артыкул Цыммэра[685] «Польске друкі кірыліцке»[686]. Гэта артыкул пра кракаўскія друкі Фэоля, у ім каля дзесяці вялікіх рэпрадукцыяў з гэтых друкаў. Пачынаецца ён з згадкі пра Скарынаву выстаўку ў Публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку. Пры канцы артыкулу цікавыя ягоныя меркаваньні пра культуру Вялікага Княства Літоўскага як у васнове культуру беларускую. Беларусом ён прызнае й Фэолявы друкі. Згадваецца там ці раз і Скарына. Вось гэты нумар часапісу дзеля гэтага артыкулу мне вельмі патрэбны. Фатастаты зь яго рабіць дзеля вялізнага фармату часапісу вельмі нязручна. А купіць у Нью Ёрку няма дзе — тут палякі жывуць гэтак культурна, што на ўвесь Нью Ёрк ня маюць ніводнай сваёй кнігарні, якая-б прадавала-б польскія газэты й часапісы. Дык ці не маглі -б гэты нумар купіць мне ў Лёндане, можа нават і ў самой адміністрацыі часопісу? Буду вельмі ўдзячны й пакрыю кошты. Думаю, што не зашкодзіць адзін экзэмпляр мець і ў бібліятэцы Вашага Беларускага Лёнданскага Музэю[687], бо артыкул напэўна варты таго, каб яго мець. За куплю й дасыланьне часапісу буду гатовы прыдбаць нешта Вам патрэбнае ў Нью Ёрку.

Іншага зусім характару другая справа: надоячы наткнуўся на цікавую заўвагу адной маскоўскай дасьледніцы старадрукаў, А. С. Зярновай[688] аб тым, што выдадзены ў 1614 і 1619 гадох Мамонічамі ў Вільні Літоўскі Статут[689] у польскім быццам перакладзе (гэтак уважаецца дагэтуль у адпаведнай літаратуры) у запраўднасьці ня ёсьць ніякім перакладам на польскую мову, а ў ім *«толькі беларускія словы, надрукаваныя гатычным шрыфтом»*. Дасьледніца гэтая вельмі салідная й, выглядае, свой высноў зрабіла на беспасярэднім аглядзе арыгіналаў. Калі гэта праўда — гэта было-б рэвэляцыяй[690], і трэба справу падаць у друк. Для гэтага трэба найперш расшукаць хоць адзін арыгінал з гэтых *«польскіх»* перавыданьняў Статуту Мамонічаў. У Нью Ёрку арыгіналаў Статуту я не знайшоў. Праглядаў каталёг Брытанскага Музэю ў Лён-

---

685 Маецца на ўвазе **Шчэпан Зімер** (англ. *Szczepan Karol Zimmer*, 1903–1984) — даследчык-славіст. Аўтар манаграфіі *«The Beginning of Cirillic Printing in Cracow, 1491. From the Orthodox Past in Poland»* (New York, 1983), у якой выкарыстана шмат беларускіх матэрыялаў, у тым ліку з прац Вітаўта Тумаша, і выказваецца падзяка а. Аляксандру Надсану. Ганаровы сябра БІНіМа.

686 Маецца на ўвазе тэкст: Zimmer, Szczepan. Polske druki cyrylickie // Wiadomości. Londyn, 09.09.1969. S. 4–6.

687 Маецца на ўвазе Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны, афіцыйнае адкрыццё якой адбылося ў 1971 г.

688 **Антаніна Зярнова** (рус. *Антонина Зернова,* 1883–1964), расійскі гісторык кнігі, бібліёграф, супрацоўніца Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі.

689 Маецца на ўвазе выданне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.

690 ***Revelatio*** (лац.) — адкрыццё.

дане — не знайшоў яго й там. Вы, здаецца, часта бываеце ў Парыжы, было-б важна й добра, каб праверылі ў Парыжы, у бібліятэках, у якіх такая кніга магла-б быць. Калі-б удалося кнігу знайсьці і калі-б аказалася, што тэкст Статуту ўсё-ж перакладзены, на гэтым можна было-б паставіць і пункт. Калі-б-жа аказалася, што праўда Зярновай, і што сам тэкст Статуту надрукаваны па-беларуску, а толькі *«гатычным шрыфтам»*, тады просьба моцная: зрабеце мне з усёй кнігі мікрафільм! Пытаньне гэта цікавае й важнае, хіба будзе цікавіць і Вас як навукоўца, і прашу вельмі праверыць адпаведныя бібліятэкі Парыжа й Лёндана. Кошт мікрафільму, зразумела, пакрыю.

Маю і яшчэ адно *«навуковае»* пытаньне, у якім можа мне нешта паможаце: у пэрыёдыку *«Литовские епархиальные ведомости»*[691], год 1883, б. 366–368, які хіба выдаваўся ў Вільні, быў надрукаваны тэкст актавага запісу пра судовую справу Мсьціслаўца з Мамонічамі за друкарню ў Вільні. Гэтага часапісу ня маюць ні бібліятэкі Нью Ёрку, ні Кангрэсавая ў Вашынгтоне, ні Брытанскага Музэю ў Лёндане (правяраў па каталёгах). Вы як царкоўная асоба можа ведаеце, дзе, у якой можа парыскай бібліятэцы, гэты часапіс можна было-б знайсьці, каб з адпаведных бачынаў зрабіць фатастаты? Мне поўны тэкст патрэбны да аднае, ужо блізу гатовае працы[692]. Гэты дакумэнт вельмі важны для гісторыі беларускага друку XVI ст. Калі-б удалося раздабыць — удзячнасьць мая ня будзе мець межаў!!!

У друку даўно, і за пару месяцаў у канцы маюць выйсьці ў сьвет дзьве важныя кнігі з галіны «скарыніяны» — юбілейны зборнік Інстытуту, бачынаў каля 300[693], ды мая праца «Скарына ў Падуі»[694]. З удзячнасьці за дапамогу, калі-б вынікі пошукаў аказаліся-б і нэгатыўнымі, кнігі гэтыя адразу пасьля іх выхаду Вам накірую.

У глыбокай пашане.

Ваш

10 лютага 1970

Дарагая Раіса!

Дзякую вельмі за ліст з крытычнай і прыязнай ацэнай нарысу пра Скарыну ў Падуі, і асабліва, што пісаная ацэна, дзеля грыпы, была пісаная, *«калі фізычнае самапачуцьцё ня надта было спрыяльнае»*. Магчыма, што гэта пад уплывам грыпы ды тэмпэратуры і ацэна выпала

---

691 ***«Литовские епархиальные ведомости»*** — выданне Віленскага праваслаўнага Святадухава брацтва, што выходзіла ў 1863–1924 гг., спачатку ў Вільні, а ад 1916 г. у Маскве.

692 Магчыма, маецца на ўвазе пазнейшы артыкул: Тумаш, Вітаўт. Друкарня Пётры Мсьціслаўца // Запісы БІНіМ. № 13. Нью Ёрк, 1975. С. 3–29.

693 Запісы БІНіМ. № 5 (11). Мюнхэн, 1970.

694 Тумаш, Вітаўт. Скарына ў Падуі = Doctor Skaryna in Padua. Ню Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1970. — 53 с.

пазытыўная, бо я сам ня зусім задаволены, і меў-бы ахвоту ўсё яшчэ раз нанава, перапрацаваўшы, перапісаць (гэткае ўражаньне маю пераважна аб кожным надрукаваным сваім нарысе), бо цяпер віджу шмат месцаў, дзе можна тое-сёе й паправіць, і дапоўніць. Ды на гэта, каб перапісваць колькі разоў большую рэч, не хапае й часу. Што паправіць шмат што хацелася, гэта й дзеля таго, што першы накід да нарысу быў напісаны ўжо пяць гадоў таму, калі я чытаў пра гэта рэфэрат у нашым тут БІНІМ'е. Пару-ж гадоў пазьней паўстала й сучасная рэдакцыя, якая ляжала ў Нямеччыне ў друкарні два гады.

Калі чытаючы некаторыя разьдзелы майго нарысу Табе прыйшла думка браць пэндзаль у рукі ды маляваць, дык гэта не мае заслугі, а хутчэй самога Скарыны, ягонага, багатага драматычнымі прыгодамі й падзеямі, жыцьцяпісу, які як-жа просіцца на каляровы фільмовы экран, кінуты туды здольным рэжысерам-мастаком. Красачныя сцэны падчас экзаменаў у Падуі, на фоне тагачаснае маляўнічае Падуі, яе архітэктуры, твораў Джыёто[695] ды Донатэльлі[696], драматычныя сцэны на Краснай ці нейкай іншай плошчы Масквы, калі пасьля адчытанае духоўнымі анатэмы на ягоныя *«гарэтычныя»* кнігі, гарыць у вагні сьціртa ягоных кнігаў; зьняволеньне ў падзямельлях пазнанскае ратушы, родны Полацак, Вільня пары каралевы Боны[697] ды Жыгімонта Старога, Кракаў пары Мікалая Каперніка, канфіската кнігаў у Вроцлаве, засноўваньне парку ў *«Залатой Празе»* й сьмерць далёка ад роднага Полацку — гэта сцэны, якія проста просяцца й на палотны абразоў здольных мастакоў, і на бачыны эпічнага раману, і на каляровы фільмовы экран — мастакі не патрабуюць нічога й выдумляць, бо сама біяграфія дае ўсё гатовае, толькі твары! Нешта-ж круцілі ў БССР, і напэўна нічога людзкага, а мізэрную агітку, як звычайна там робіцца, калі ідзе пра беларускую тэматыку.

Падабаецца й мне, што Табе падабаецца разьдзел пра Скарыну лекара. Мог-бы, пэўне-ж, ён быць і лепшым, каб пісаў яго цяпер, а не колькі гадоў назад. Але пра Скарыну як лекара ў навуковай літаратуры няма блізу нічога — гэта першы шырэйшы разгляд гэтае тэмы з паданьнем усім цяпер ведамых фактаў. Праўда, у апошнім скарынінскім менскім юбілейным зборніку ёсьць цэлы артыкул нейкага

---

[695] Маецца на ўвазе **Джота ды Бандонэ** (італ. *Giotto di Bondone*, 1267–1337), італьянскі мастак, прадстаўнік Протарэнесансу, які працаваў пераважна ў Падуі ды Фларэнцыі.

[696] Маецца на ўвазе **Данатэла** (італ. сапр. *Donato di Niccolò di Betto Bardi*, 1386–1466), італьянскі скульптар эпохі Рэнесансу, які працаваў у Фларэнцыі, Падуі і Сіене.

[697] **Бона Сфорца** (італ. *Bona Sforza d'Aragona*, 1494–1557), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, другая жонка Жыгімонта I Старога, маці Жыгімонта II Аўгуста.

Р. Р. Кручка[698] «Аб медыка-біялягічнай дзейнасьці… Ф. Скарыны»[699], але пісаны ён без прастыдуяваньня асноўных ведамых фактаў біяграфіі Скарыны, толькі самымі, нічога негаворачымі абагульненьнямі. Ды ня толькі разьдзел пра Скарыну як лекара, але ўвесь нарыс пра Скарыну ў Падуі належыць якраз да лекарскага боку ягонай біяграфіі, боку найменш дагэтуль у літаратуры разгляданага. Буду рады, калі пасьля прачытаньня мае «Падуі» партрэт Скарыны, што вісіць у Тваім доме, набярэ больш яскравых, рэальных рысаў.

Твой

6 сакавіка 1970 г.

Дастойны Войча[700]!

Гэтымі днямі атрымаў высланыя Вамі мне ласкава «Вядомосьці»[701] й фатастаты бачынаў Літоўскага Статуту з 1619 г. і вельмі за іх дзякую. Статут, пэўна-ж, друкаваны па-польску, а не па-беларуску, як думала Зярнова. Наагул яна даволі акуратная дасьледніца, і тут хіба прычына памылкі тая, што яна ня ведала польскае мовы. Ды яна згадвае, што гатычным лацінічным шрыфтом, але па-беларуску, надрукаванае й выданьне Статуту 1614 г. Мамонічаў. Дык усё-ж застаецца магчымасьць тая, што можа першае лацінічнае выданьне 1614 г. мае тэкст ня польскі, а беларускі, бо ў літаратуры ведама, што выданьне 1619 рыхтавалі іншыя рэдактары, як выданьне 1614. Дык каб часам *«не празяваць слана»*, варта ўсё-ж пры нагодзе праверыць гэтае пытаньне й на першым лацінічным выданьні Статуту Мамонічаў, як толькі трапіць яно ў рукі. Хоць вялікі знавец Статуту І. І. Лаппо[702] нічога ня згадвае пра падобную *«камбінацыю»* — лацініцай, але па-беларуску — але ўсё-ж, каб памылкі не зрабіць, пытаньне пры нагодзе праверыць варта.

Удалося мне ўрэшце зрабіць фатастаты тых бачынаў бібліяграфіі твораў славянскіх літаратураў у ангельскім перакладзе[703], на якіх паказьнік перакладаў зь беларускае літаратуры. Іх Вам гэтымі днямі звычайнай поштай высылаю. Там ёсьць тры бачыны, на якіх паказьнік, загаловачная бачына ўсёй кнігі, канцавая бачына прадмовы аўта-

[698] **Рыгор Кручок** (1917–1987), лекар, кандыдат медыцынскіх навук. Аўтар прац па гісторыі беларускай медыцыны.

[699] Кручок, Р. Аб медыка-біялагічнай дзейнасці і прыродазнаўча-навуковых поглядах Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск: АН БССР, 1968. С. 373–386.

[700] Ліст адрасаваны а. Аляксандру Надсану.

[701] Маецца на ўвазе лонданскае польскае выданне *«Wiadomości»*.

[702] **Іван Лапо** (рус. *Иван Лаппо*, 1869–1944), расійскі гісторык, даследчык гісторыі і культуры Вялікага Княства Літоўскага XVI—XVII стст.

[703] Магчыма, маецца на ўвазе выданне: Lewanski, Richard. A Bibloigraphy of Slavic Dictionaries. Vol. II: Belorussian, Bulgarian etc. New York: The NYPL, 1962. — 366 p.

ра і, дадаткова, напісаная мною на машынцы бачына з паясьненьнямі ўжытых скаротаў на трох беларускіх бачынах кнігі, без чаго карыстацца зь бібліяграфіі немагчыма. Разам будзе камплект. Міжіншым, кніга пашла гэтак добра ў прадажы, што складальнік яе, Леванскі, атрымаў ад выдавецтва прапанову рыхтаваць да друку выданьне другое, папраўленае й дапоўненае, і хіба за пару гадоў яно выйдзе

Шкада, што не знайшлося *«Литовских епархиальных ведомостей»*. Няма іх, як мне піша а. Татарыновіч (гэтага гадавіка) і ў бібліятэцы Ватыкану. Шукаю цяпер гэтага часапісу ў бібліятэках Польшчы.

Маю цяпер яшчэ й другую сьпешную патрэбу — шукаю выдадзенае ў 1938 г. у Вільні па-польску працу Т. Ільляшэвіча «Друкарня Дому Мамонічаў»[704]. Ня маюць яе ні бібліятэкі Нью Ёрку, ні Кангрэсавая ў Вашынгтоне, ні Брытанскага Музэю ў Лёндане. Можа, прыпадкам, ёсьць у бібліятэцы Вашай? Калі-б была — прашу ці даслаць заказным на часовае карыстаньне, ці зрабіць мне мікрафільм усяе кнігі. Калі-ж няма ў сваёй бібліятэцы — прашу пры нагодзе разглянуцца ў тых, дзе яна можа быць, а якія Вам даступныя (найхутчэй у бібліятэках Парыжа) ды заказаць мне на мой кошт мікрафільм кнігі. За дасланыя «Вядомосьцы» разьлічуся пры першай нагодзе.

У глыбокай пашане.

15.VII.1970

Дарагая Раіса!

На Твае два лісты, пасланыя ў вадным канвэрце, сьпяшаюся адказаць да Вашага выезду *«на курорт»,* з аднаго боку, дзеля таго, каб на мне не ляжаў тыднямі грэх маруднасьці з адказам, а з другога, пакольку адказ будзе крыху даўжэйшы — у частцы дыскусыі аб *«оговорках»* Фляроўскага — і часу цяпер будзеш мець мала на яго чытаньне, дык можна будзе яго забраць з сабой ды прачытаць пазьней.

Што да ліста да МакМіліна[705]: і ліст правільна напісаны, і па зьмесьце й па *«форме»*, і маеш поўную рацыю, што лепш было-б заакцэнтаваць БІНІМ, але ўсё-ж гэта невялікая справа і, думаю, лепш не высылаць. Каб справа гэтая падымалася яшчэ перад друкам зацемкі ў хроніцы і ад ліста залежыла-б зьмена тэксту зацемкі — тады-б быў-бы сэнс высылкі ліста. Цяпер-жа запозна. А калі-б у рэакцыі на ліст МакМілін у нейкім чародным нумары часапісу даў нейкую папраўку — выглядала -б тады, што нехта й запраўды чапляецца да драбніцаў. І дзеля гэтага думаю, што меў усё-ж рацыю й Вінцук, калі ліст пасылаць адрадзіў.

---

704 Iljaszewicz, Teodor. Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie (1575–1822). Wilno, 1938.

705 **Арнольд Макмілін** (англ. *Arnold Barratt McMillin*, нар. 1941), брытанскі беларусіст, доктар славянскай філалогіі, даследчык беларускай літаратуры, сябра Англа-беларускага таварыства і рэдактар *«The Journal of Byelorussian Studies»*.

Цяпер пра артыкул Флароўскага[706] — рады, што ўважна яго прачытала й крытычна разглядаеш ягоныя *«оговорки»*. Паколькі ў лісьце ёсьць і выклік да мяне «заняць становішча», гэта раблю й шырэй. Як *«заядлы скарыністы»* (гэтак мяне адзін аўтар назваў у друку), на скарынаведныя тэмы пісаць і дыскутаваць рады, ды матар'ялу для гэтага ў мяне заўсёды хопіць! Тымбольш мушу гэта зрабіць, бо адчуваю, што пад уплывам Флароўскага адрадзіліся ў Цябе сумневы, што ў некаторых, найменш, пытаньнях у маёй працы больш загадкаў, як довадаў. І дзеля гэтага разгледжу дэтальна пункт па пункце засьцярогі й закіды Флароўскага. Чаго добрага, і зь Цябе зраблю *«заядлага скарыністага»*.

Перш чым прыступіць да справы, трэба выправіць некаторыя памылкі фактычныя ў Флароўскага. Пісаў ён свой артыкул на дзявятым дзясятку жыцьця й, відаць, верыў у сваю памяць, што заўсёды рызыкоўна. Дык — імя Онкава не Барыс, а Багдан. Год напісаньня акту не 1552, а 1553. У самым акце ня кажацца, што кнігі, спаленыя ў Маскве, *«были изданы лицами»* (множны лік), а выразна толькі адным выдаўцом, адной асобай, і што выдавец сам павёз кнігі ў Маскву. Гэтая апошняя недакладнасьць Флароўскага грае важную ролю ў ягоных дапушчэньнях, што ў Маскву маглі езьдзіць і пасланыя Скарынам іншыя сувыдаўцы кнігаў. Памылковая Флароўскага й ведамка, што Онкаў у другой палавіне 20-х гадоў (XVI ст.) у Маскве быў. Акты кажуць, што ён да Масквы ехаў, але не даехаў. Па дарозе яго ў Маскоўшчыне абрабавалі, забралі грошы й маёмасьць. Дык што якраз Онкаў мог быць гэтым выдаўцом, што ў Маскву кнігі Скарыны завёз — дадзеных у актах ніякіх — гэта нічым неабгрунтаванае дапушчэньне Флароўскага.

Правільная *«тэза»* Флароўскага, што з кароткае актавае весткі я выцягнуў *«масимум даных»*. Гэта, міжіншым, і *«тэза»* Твая, калі Ты мне пісала калісьці пра «Скарыну ў Падуі», што ў мяне разгляд дакумэнтаў гэткі дэталічны, як добры разгляд рэнтгенічнае зьнімкі. Пры скупасьці актаў іншага выхаду й няма — зь іх трэба *«выціснуць»* усё магчымае, і гэтую асаблівасьць маіх дасьледваньняў Флароўскі правільна падмеціў.

І вось з дакладнага разгляду зьместу кароткае актавае ведамкі пра паленьне Скарынавых кнігаў у Маскве (што гэта былі кнігі Скарыны, у гэтым і Флароўскі не сумлеваецца) вынікае абсалютна пэўна, што павёз іх у Маскву сам той выдавец, які іх надрукаваў у розных *«мясцох»*. Ведамка кажа пра *«мясцы»* (множны лік!), бо кнігі Скарына друкаваў і ў Вільні, і ў Празе. Ні Онкаў, які памагаў выдавецтву ў Празе, але нічога

[706] Відаць, маецца на ўвазе артыкул: Флоровский, А. Франциск Скорина и Москва // Литература и общественная мысль древней Руси. — Труды Отдела Древнерусской литературы. Т. 24. Ленинград: АН СССР, 1969. С. 155–158. Гэта рэцэнзія на тэкст Сымона Брагі «Скарына ў Маскве» (Нью-Ёрк — Мюнхен, 1963).

няведама, каб меў нейкае дачыненьне да выдавецтва Скарыны ў Вільні, ні Якуб Бабіч, які ў Вільні даў Скарыну для карыстаньня дармова пад друкарню свой дом, але ня грошы, ды які да праскага выдавецтва Скарыны ніякога дачыненьня ня меў — тут ніяк не падыходзяць, бо ніводзін зь іх не памагаў выдаваць у дзьвюх мясцовасьцях (множны лік — *«лёці»*). У дзьвюх мясцовасьцях друкаваў толькі адзін Скарына, і пра яго толькі ідзе гутарка ў актавым дакумэньце.

Дык сумлявацца на той толькі падставе, што самога прозьвішча Скарыны ў вестцы не пададзена — няма асноваў. Ідзе тут пра яго. Калі, да прыкладу, у вёсцы Сычавічах жыве з залатымі рукамі мастак-бондар, які робіць слаўныя на ўсю ваколіцу дзежкі ды кадушкі, ды нехта скажа, што *«Сычаўскі бондар прывозіў кадушкі ў Пружану на кірмаш»* і не назаве пры гэтым ягонага імя — кажнаму ясна, пра каго тут ідзе гутарка, хто быў на кірмашы, і бяз названьня імя. Тое самае й з тым выдаўцом, што павёз кнігі ў Маскву. Крытычны разгляд фактаў, пададзеных у ведамцы, абсалютна пэўна паказвае на Скарыну й на зрабленьне гэткага лягічнага пэўнага вываду. Зьмест весткі дае дастаткова грунту й сумлявацца няма асноваў.

Што да *«агаворкі»* Флароўскага: *«Едва ли... можно согласиться з Брагой, который представляет поездку Скорины как весьма громоздкую экспедицию со значительным запасом изданных книг, с набором шрифтов, едва ли не со всем техническим оборудованием типографии и т. д.» «...катастрофой в Москве С. Брага склонен об'яснять утрату <u>всего</u> тиража книг Скорины и их сравнительную редкость»*. У маёй працы пра кнігі я пішу: *«Калі Скарына наважыўся ехаць да далёкае Масквы, дык хіба-ж браў ён із сабою не адну-дзьве кнігі, а большы іх лік. Зьнішчэньне іх у Маскве і ёсьць аднэю з прычынаў вялікае цяпер іх рэдкасьці»*. Гэта мае словы, і яны правільна й моцна абаснаваны пастулят звычайнай лёгікі, зь якім *«не согласиться»* проста няма магчымасьці. Флароўскі падважвае яго толькі гэтым, што зьменьвае мае словы *«большы іх лік»* на свае *«утрату <u>всего</u> тиража»*, аб чым я не гавару, і гэта стварае ўражаньне, што я мыляюся, бо-ж што ня ўвесь тыраж згарэў у Маскве, справа ясная — найменш па колькі кнігаў Скарыны захавалася й да нашых дзён. Дык і гэта — выснаў лёгікі з дакумэнту, а не *«смелые допушения, для которых акт... едва ли дает достаточно оснований»*. Другая рэч, мая гіпатэза пра магчымасьць забраньня з сабою ў Маскву друкарскае снасьці ды яе там гібелі. Я ў сваёй працы кажу: *«а можна было-б дапушчаць, што едучы да далёкае Масквы Скарына мог узяць із сабою й шрыфты ды патрэбныя друкарскія прылады, калі-б там знайшліся адпаведныя ўмовы для разгарненьня друкарскае справы»*. Дык у мяне выразна адзначаецца, дзе факты й выснавы лёгікі, а дзе гіпотэзы й дапушчэньні. Адных другімі я ў сваёй працы не падменьваю, а раз так — ніякога грэху й у гэтай справе. Флароўскі

тымчасам зьмяшаў адно з другім і гэткім спосабам навязвае чытачу думку, што й справа гібелі ў Маскве кнігаў *«большым ліку»* — гэта мая нічым не абгрунтаваная фантазія.

Ня мае рацыі Фляроўскі і ў спробе падважыць мой пагляд, у дадзеным выпадку дапушчэньне, што жывым з Масквы Скарына мог вярнуцца, дзякуючы існуючай тады ўмовы паміж Літвой і Масквой аб свабодным прыезьдзе ды ад'езьдзе купцоў, гваранцыі іх незачэпнасьці, бо-ж, паводля Фляроўскага, паездка Скарыны з кнігамі выхадзіла далёка за рамкі *«торговых сделок»* ды кранала справы веры і ідэялёгіі.

Што факт паездкі з кнігамі ў Маскву меў шырэйшыя, чым гандлёвыя, аспэкты, гэта правільна, і якраз я гэта й цьвердзіў. Але гэта не павінна закрываць факту, што Скарына прыехаў усё-ж і з канкрэтным таварам — кнігамі, якіх не зьбіраўся дарма раздаваць масквічом — на гэта ён быў забедны, а спадзяваўся іх, і хіба-ж за добрую цану, прадаць. І гэта чыста гандлёвы бок справы, які цалком падпадаў пад ахоўныя пункты ўмовы пра незачэпнасьць купцоў. (Тут Фляроўскі Цябе крыху *«пераканаў»* — бо Ты дапушчаеш, што ў мяне думка была пра нейкія іншыя тавары, каб зарабіць *«на хлеб насушчы»* — пра гэта ў мяне ніякага й намёку.)

Правільна затое Фляроўскі зацеміў, што ў мяне *«дынамічнасьці й драматычнасьці»* шмат, а навет *«зашмат»*. Што яна ёсьць, факт, але каб было *«зашмат»*, я не ўважаю. У навуковага характару працах важна, каб факты й высновы былі правільныя. Затое ў ніякім Каране не напісана, што ня можна пісаць жыва, вобразна, *«дынамічна»*, *«драматычна»*. Наадварот, калі зроблена гэта ўдала — не ўважаецца за загану, а звычайна за *«плюс»*. Праца тады лягчэй чытаецца й больш даступная шырэйшым колам чытачоў. Дзесяцітомная гісторыя цывілізацыі амэрыканскага аўтара Дзюранта[707] напісана гэтак жыва й *«дынамічна»*, што трэба толькі зайздросьціць ягонаму ў гэтым таленту. Што ў дадзеным канкрэтным выпадку *«драматызую»* якраз сярэднявечную цемнату й неталерантнасьць Масквы ды што гэта крыху будзе разіць расейскага чытача — гэта таксама лёгка зразумела. Але адмовіць правільнасьці майго насьвятленьня гэтае справы Фляроўскі й ня пробуе, бо я знарок на гэта скарыстаў і прывёў толькі расейскія жаролы й расейскіх аўтараў — каб нехта не падумаў, што нехта варожы Маскве яе *«ачэрнівае»* беспадстаўна. У гэтай справе Фляроўскі толькі знайшоў магчымасьць закінуць, што я замоцна *«ідэалізую»* другі бок — Літву, ды што бадай няправільна, каб Скарына ня знаў, якое палажэньне ў Маскве — *«на Литве, конечно, хорошо тогда знали, как в Москве относились ко всем проявлениям западноевропейских культурных веяний»*.

[707] Маецца на ўвазе выданне: Will and Ariel Durant. The Story of Civilization. 11 vol. MJF Books, 1993.

Знаць то можа й шмат хто знаў, але Скарына знаў недастаткова, бо накш з кнігамі туды, каб іх там спалілі, ён бы напэўна ня ехаў.

Сумуючы: важна тое, што Флароўскі ў поўнасьці прызнае факт прывозу да Масквы Скарынавых кнігаў і іхнага там спаленьня. Ён толькі не гатовы яшчэ пагадзіцца з тым, што напэўна Скарына кнігі туды павёз — бо мог быць і нейкі ягоны сувыдавец, *«полпрэд»*[708]. Як вышэй ужо выясьніў, у актавым дакумэньце на гэткае якраз дапушчэньне няма ніякіх паказаньняў. Там выразна кажацца, што паехаў той, хто кнігі сам у розных мясцох выдаваў, значыцца, Скарына. Становішча ў гэтай справе Флароўскага тыпова расейскае — акт спаленьня кнігаў усё-ж, цяпер мы ўважаем, паступак барбарскі, ганарыцца ім няма падставаў, і дзеля гэтага маральны абавязак расейца бараніць хоць таго, што можа быў гэта не сам Скарына, а нейкі ягоны *«дэлегат»*, бо на гэта ўсё-ж ёсьць нейкая зачэпка — нязгадваньне імя Скарыны ў актавай вестцы. Пэўна-ж, Флароўскі відны гісторык, добры навуковец, і дзеля гэтага ягоная спроба хоць частковае абароны Масквы за барбарскі паступак праведзены інтэлігентна, у рамках розных акадэмічных *«агаворак»* ды сумляваньняў. Што пры гэтай нагодзе ён фактычна папулярызуе самую справу паленьня Скарынавых кнігаў у Маскве, гэта таксама факт, факт пазытыўны, бо пра гэта ў расейскай літаратуры дагэтуль вельмі мала калі згадвалася.

На заканчэньне пра Флароўскага: калі Ты нейдзе заўважыла ў мяне *«дынамічна-лірычны патрыятызм»* — у навуковага характару нарысах, — дык гэта запраўды загана. Прынамся я сам *«лірызму»* ў меру магчымасьці стараюся высьцерагацца. У гэткага характару артыкулах і працах ён паслабляе, а не ўзмацняе тэзы, довады ў праўду.

Выбачай за даволі хаотычную маю *«дыскусыю»* зь нябошчыкам ужо, сымпатычным Флароўскім. Пісаў сьпяшаючыся, стуль і стыль, і мова няважная, але думаю, сэнс маіх думак зразумелы.

Не зусім правільная Твая думка, што мае працы *«беларусам на Бацькаўшчыне недаступныя»*. Невялікаму кругу яны там усё-ж даступныя, дастаюць яны іх living рознымі шляхамі. Пісаў мне й Флароўскі, што ў Менску, як ён пераканаўся, тыя, што Скарынай цікавяцца, мае працы знаюць. Ды й сам знаю ўжо каля дзесяці выпадкаў у савецкім друку, дзе перанятыя з маіх працаў факты й думкі аўтары падаюць за свае, ніколі не падаючы, скуль яны ўзятыя. Адна з апошніх — у вадным з нарысаў С. Александровіча[709] згадваецца пра факт канфіскаты інквізыцыяй Скарынавых кнігаў у Вроцлаве. Гэты факт толькі я выявіў і пра яго пісаў, а ніхто іншы, і ён ці чытаў мае працы, ці даведаўся пра

---

[708] ***Полпрэд*** — ад рус. *«полномочный представитель»*.

[709] Магчыма, маецца на ўвазе тэкст: Александровіч, С. З майго падарожжа // Полымя. № 8. 1969. С. 169–199.

гэты эпізод Скарынавае біяграфіі з таго артыкулу Флароўскага, які ён паслаў у Акадэмію Навук у Менск, а які яму сцэнзуравалі ў разьдзелах, дзе ён рэфэраваў працы *«Брагі»*. Дык хай сабе марудна, але *«даходзіць»*, і з часам усё дойдзе, бяда толькі тая, што замала пішам і друкуем, бо — няма грошай.

Пры канцы хачу вярнуцца яшчэ да пачатку — да лёнданскага «Белорушын журнал»[710]. Правільна ацэньваеш у сваім пісьме гэты журнал як вартасны сваім зьместам і карысны. Ды гэта ўсё-ж ніколі не апраўдвае таго, што ў часапісе, выдаваным пад імем біскупа Сіповіча, і ня раз, ды зусім бязь ніякое абсалютна патрэбы, стаўленьнікі Масквы ў БССР вялічаюцца *«эксцэленцыямі»*. Пра Абрамчыка[711] там гэтак ніколі не пісалі. З гэтага ясна, якую беларускую ўладу і дэ факто, і дэ юрэ рэдактары ды выдаўцы «Журнал» прызнаюць, якой па пояс кланяюцца. Пішу пра гэта тут, таму што ў кароткай гутарцы падчас паховінаў Уладыкі[712] Ты мне сказала, што біскуп Сіповіч гэта *«вытлумачыў»*, што так трэба, можна, і добра, што Ты з гэтым і пагадзілася (нешта прыблізна гэткае гаварылася). Ня думаю, што гэта патрэбна, добра й разумна — гэта толькі адбітак мазгоў і *«хрыбта»* аўтараў ці аўтара гэткіх зваротаў.

Прывітаньні Абаім!

Твой

11.V.1971

Вельмі Паважаны Спадару Дэ Пікарда[713]!

Вельмі ўдзячны за Вашыя пахвальныя словы пра скарынінскі юбілейны зборнік БІНіМ. Выбачайце, што адпісваю па-беларуску. Мая веда ангельскае мовы ў пісьме далёка недасканалая, а ад праф. Адамовіча знаю, што мова беларуская Вам добра зразумелая. Будзе Вам прыямней чытаць ліст па-беларуску, чым маёй няўклюднай ангельшчынай. З свайго боку, калі-б ізноў пісалі да мяне, пішэце па-ангельску.

А цяпер да *«марак»*. Маю дуплікаты скарынінскае маркі Беларускага Камітэта Самапомачы ў Нямеччыне[714], нажаль, толькі колераў

---

710 ***«The Journal of Byelorussian Studies»*** — англамоўны навуковы часопіс, орган Англа-беларускага таварыства, выходзіў у Лондане ў 1965–1988 гг. Адноўлены ў 2013 г.

711 Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.

712 Маюцца на ўвазе паховіны ўладыкі Васіля (Тамашчыка), які памёр у Нью-Ёрку 9 чэрвеня 1970 г.

713 **Гай Пікарда** (англ. *Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931–2007), брытанскі беларусіст, юрыст, даследчык беларускай музыкі, кнігадрукавання, гісторыі беларускай прысутнасці ў Вялікабрытаніі і інш., сябра Англа-беларускага таварыства,

714 **Беларускі камітэт самапомачы** быў заснаваны ў Берліне ў 1940 г. Міколам Шкялёнкам.

рудога й зялёнага, і тут іх Вам перасылаю. Былі яны надрукаваныя яшчэ ў колерах чырвоным, фіялетавым, сінім і сьветла-сінім. Як можна бачыць з дасланых тут фатастатаў, апрача марак з Скарынам былі выдадзеныя й маркі з Пагоняй (сінія), зь Віленскім замкам (рудыя), князем Альгердам (зялёныя), князем Вітаўтам (сінія) ды вобразам дзяўчыны з хлопцам (залёныя й фіялетавыя). Ці гэтыя маркі, як і скарынінская, былі выдадзеныя і ў іншых колерах — гэтага ня помню. Дык было выдадзена сем, рознага рысунку, марак. Яны выдаваліся як паквітаваньне за ўплачаную складку ці ахвяру. Фактычны ініцыятар выданьня — тагачасны старшыня Цэнтралі БКС інж. Мікола Абрамчык. Рысункі для марак былі выкананыя ў Лодзі тамашнім сябрам БКС Зэнанам Зянкевічам. Маркі былі надрукаваныя ў 1942 г. у Бэрліне. Нейкі іх запас хіба павінен быць у архівах прэз. М. Абрамчыка. У каго маглі захавацца яны яшчэ — ня ведаю[715].

Гэта, бадай, і ўсё, што ведаю пра маркі. Маю пры нагодзе просьбу і з свайго боку: у Бадлейскай бібліятэцы ў Оксфордзе ў аддзеле рукапісаў перахоўваецца арыгінал пісанага 4.V.1574 г. па-лацінску ліста Сымона Буднага да дзеяча ангельскае рэфармацыі Джана Фокса[716] — Rawl. letters, 107 K., pp. 97–100.

Ці ня было-б магчыма пры бліжэйшай нагодзе заказаць і накіраваць на маё імя і адрас мікрафільм гэтага ліста? Зь Лёндану гэта лягчэй і прасьцей зрабіць, як з ЗША. Зьвязаныя з гэтым кошты, зразумела, будуць пакрытыя. Ліст Буднага цэлы тэалягічны трактат і вельмі цікавая памятка беларуска-ангельскіх культурных сувязяў XVI ст. Да гэтага ён пісаны рукою самога Буднага ды мае пры канцы ягоны арыгінальны подпіс!!! Дык з кажнага гледзішча гэта вельмі цікавая і важная гістарычная памятка хіба й для Беларускага Музэю ў Лёндане, а ня толькі для мяне ў Нью Ёрку. Тэкст ліста лацінскі ў 1936 г. перадрукаваў С. Кот: Stanislaw Kot. Zrodla do historji propagandy Braci Polskich w Anglji (Reformacja w Polsce, 1935 — 36. Warszawa, 1936. pp. 316–323).

Буду вельмі, вельмі ўдзячны за дасланьне мікрафільму!

У глыбокай пашане.

---

[715] Выявы марак можна пабачыць у: Беларускія эміграцыйныя калекцыі на http://kamunikat.org/bek/.

[716] **Джон Фокс** (англ. *John Foxe*, 1516/1517–1587), англійскі гісторык, аўтар працы, прысвечанай гісторыі хрысціянскіх пакутнікаў Еўропы «Кніга пакутнікаў Фокса» (*«Actes and Monuments»* або «*Foxe's Book of Martyrs»*).

21 чырвеня 1971 г.

Дастойны Война[717]!

Удзячны вельмі за цікавы ліст і за дасланыя матар'ялы з галіны *«скарыніяны»*, якія ўжо надышлі. Што ў Маскве Скарына яшчэ ў 1938 г. быў Франьцішкам, гэта зразумела — *«перахрышчваньне»* Скарыны было запачаткаванае толькі з пачаткам 1944 г., калі наважана было вярнуць яго назад беларускаму народу як дзеяча *«прагрэсыўнага»*, а не абзываць яго *«сярэднявяковым манахам»*. Зразумела, што ў меру магчымасьці буду перасылаць Вам розныя беларусаведныя матар'ялы, якія трапяць пад рукі ў парадку нашага *«культурнага абмену»*.

Дзякую вельмі за зьвернутую ўвагу, што Лескар[718] ня быў аўтарам, а толькі перакладнікам[719]. Каля 10 % мае бібліяграфіі скарыніяны пададзена не «дэ візу», а з другой рукі, пакольні раздабыць іх мне не ўдалося. Да іх належыць і публікацыя Лескара. Буду вельмі ўдзячны за дасланую дуплікату на рахунак нашага «кнігаабмену». Каб-жа не заставацца «вінаватым» за самую папраўку, зьвяртаю ўвагу, што ў дасканала апрацаваным Вашым нарысе пра «Нашую Ніву» («Б. Журнал», нр. 3, 1967, б. 189)[720] памылкова пададзенае імя Ўласава[721] Аляксей — ён не Аляксей, а Аляксандр; шкада што з талентам напісанага артыкулу ня выдалі асобнай адбіткай ды ў большым тыражы — ён добра ўводзіць кажнага ў пачаткі нашага культурна-нацыянальнага «адраджэньня».

Мая падзяка й за дасланую брашурку пра Ваш Музэй. Пасылаю разам каталёг мастацкае выстаўкі нашае Галіны Русак[722].

Пакульшто прафэсара Альтбаўэра[723] ў Нью Ёрку ня чуваць.

У глыбокай пашане

---

[717] Ліст адрасаваны а. Аляксандру Надсану.

[718] Маецца на ўвазе **Луі Лескёр** (фр. *Louis Zozime Elie Lescoeur*, 1825–1910), французскі каталіцкі святар, багаслоў, доктар мастацтвазнаўства і права.

[719] Маецца на ўвазе выданне: La persécution de l'église en Lithuanie: Et particuliérement dans le diocèse de Vilna. Traduction du polonais revue et précédée d'une préface by Louis Lescoeur. Paris, 1873. — 160 p.

[720] Nadson, Alexander. Naša Niva // The Journal of Byelorussian Studies. Vol. I. № 3. London, 1967. P. 184–206.

[721] **Аляксандр Уласаў** (1874–1941), грамадска-палітычны і культурны дзеяч, публіцыст, рэдактар-выдавец газеты «Наша Ніва».

[722] **Галіна Русак** (дзяв. Родзька, 1928–2000), грамадская дзеячка, мастачка. Экспанавала свае жывапісныя працы ў прэстыжных мастацкіх галерэях ЗША.

[723] **Мошэ Альтбаўэр (**англ. *Moshe Altbauer*) — габрэйскі даследчык, сярод іншага быў аўтарам прадмовы і каментараў да выдання «*The Five Biblical Scrolls in a Sixteenth Century Jewish translation into Belarusian (Vilnius Codex 262)»* (Jerusalem, 1992).

16 кастрычніка 1971

Высокадастойны Ўладыка![724]

Замарудзіў з адказам на Ваш апошні ліст зь 1 верасьня ў надзеі, што змагу адначасна паведаміць, што копія Малой Падарожнай Кніжкі ўжо для Вас высланая. Нажаль, і сяньня не магу яшчэ гэтага напісаць. Бібліятэка[725] й дагэтуль яшчэ нейдзе не спарадкавала, не скаталягізавала тых Скарынавых Апокрыфаў і Канонаў, якія я ёй перадаў, а якія дапаўняюць мой дэфэктны экзэмпляр (зразумела, на мікрафільме). Дзеля гэтага ўжо тыдні тры таму перадаў другі мікрафільм, што ў мяне, сп. А. Шукелойцю[726], каб той зрабіў зь яго копію мікрафільму ў прыватнай на Мангатэне (дзе я жыву, у квартале Бронкс, падобных фірмаў няма). Ды, як аказалася, і там нейкія перашкоды, і яшчэ патрывае некалькі дзён, а мо й тыдняў, пакуль копію мікрафільму мне зробяць, і тады яе адразу вышлю Вам. Дапаўненьні, іх ня гэтак і шмат, можна будзе зрабіць пазьней, як другі мікрафільм зьверне мне Публічная Бібліятэка. У першым мікрафільме не хапае чарытох картак тэксту й таксама Пасхаліі. Але Пасхаліі яшчэ ніхто нідзе не знайшоў, дык гэта й ня брак.

Вельмі мне непрыемна, што доўга маруджу з маёй копіяй МПК[727] і тымбольш, што дастаў ужо ад сп. Акулы[728] фотакопійную рэпрадукцыю Кнігі Быцьця Скарыны. Яна вельмі акуратна зробленая, і хоць гэта не арыгінал, каштоўнае дапаўненьне да тутэйшага нашага збору тэкстаў арыгінальнае скарыніяны. Мушу аднак-жа згары сказаць і перапрасіць, што гэткіх раскошных копіяў з свайго боку не змагу выканаць, бо тут гэта вельмі каштоўная рэч, і на гэта не пазваляе наш *«міністар фінансаў»*. Рады буду служыць толькі мікрафільмовымі копіямі ўсіх тых кнігаў, якія Вам будуць патрэбныя, а якія ў мяне ёсьць.

Дасланы фотакапійны экзэмпляр ужо праверыў — Кніга Быцьця там у камплекце. Маю аднак-жа да яго некаторыя свае заўвагі, зь якімі тут дзялюся, бо яны могуць быць цікавыя для Вашага Музэю-Бібліятэкі. Найперш, трэцяя картка-балонка (нумараваная літарай «г») вельмі цёмная, мае забруджаны тэкст і зьнішчаныя, *«зьлістаныя»* берагі, асабліва правы ніжні рог. Прынішчаныя берагі й колькі далейшых балонак. У адваротнасьць гэтаму, загаловачная балонка й другая з пачатку балонка чыстыя, бяз прынішчаных ад гартаньня бялюгоў. З гэтага можна меркаваць, што ў арыгінале бібліятэкі экзэмпляр

[724] Гэты і наступныя лісты з такім зваротам адрасаваныя біскупу Чаславу Сіповічу.

[725] Маецца на ўвазе Нью-Ёркская публічная бібліятэка.

[726] **Антон Шукелойць** (нар. 1915), грамадска-культурны дзеяч. Ад 1952 г. жыў у Нью-Ёрку. Сябра Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага задзіночання.

[727] «Малой падарожнай кніжкі».

[728] Кастусь Акула жыў у Таронта.

арыгінальнае кнігі пачынаецца толькі з трэцяе зьнішчанае балонкі. Дзьве-ж першыя балонкі і партрэт Скарыны былі ці рупнымі бібліятэкарамі, ці папярэднім собсьнікам кнігі дакамплектаваныя фатаграфічна зь нейкага іншага экзэмпляру гэтае кнігі, у якім гэтыя першыя балонкі захаваныя. Таму яны чыстыя, бязь зьнішчаных берагоў. Але пры дакамплектоўваньні былі дапушчаныя сьведама ці не, але некаторыя дэфармацыі арыгіналу. Найперш, як падае Каратаеў[729], які апісаў кнігі «дэ візу» (1883 г., б. 29)[730], дрэварыт зь Сьвятой Тройцай ды боем ангелаў зь нечысьцяй далавах памешчаны на адвароце загаловачнае балонкі, балонкі першай. Толькі пасьля гэтага ўшытая ненумараваная балонка з партрэтам Скарыны, пустая на боку адваротным. Пасьля гэтага толькі ідзе балонка, нумараваная літарай «в».

Зь якога экзэмпляру якое бібліятэкі былі зробленыя фатаграфіі першых балонак для дакамплектаваньня дэфэктнага экзэмпляру, цяжка сказаць, але — пра што мне тут найбольш ходзіць — фатаграфія партрэту Скарыны зробленая наагул не з арыгіналу, а зь ведамай, і вельмі благой, перарысоўкі XIX ст. Ал. Флорава[731]. Яшчэ ў мінулым стагодзьдзі Д. Ровінскі вельмі далікатна зганіў яе[732] словамі *«даволі мерная»*. У запраўднасьці гэтая перарысоўка паганая, а калі прыгледзіцца да твару Скарыны на ёй і на фатаграфіі з арыгіналу, яна проста агідная. І таму зь яе не карысталі знаўцы справы ні той-жа Ровінскі, ні Валадзіміраў, ні Шчакаціхін. Копію-перарысоўку Флораў рабіў на заказ у 1830-х гадох мінулага стагодзьдзя, калі клішовая тэхніка яшчэ была слаба разьвітая, а фатаграфіка наагул не існавала. Сучасная навука вымагае, каб карыстацца не зь перарысовак, а з добрых фотарэпрадукцыяў з самых арыгіналаў. Каб усьведаміць, якая розьніца між копіяй Флорава і арыгіналам дрэварыту ў Скарынавай Бібліі, перасылаю гэтта адбітку гэтага партрэту, перанятую ад Шчакаціхіна ў ягоным артыкуле ў зборніку 1926 году «Чатырохсотлецьце беларускага друку»[733]. Гэта якраз варыянт з Кнігі Быцьця (хоць і арыгінальныя варыянты Кнігі Сыраха ды Кнігі Царстваў вельмі яму блізкія). Шчакаціхін

[729] **Іван Каратаеў** (рус. *Иван Каратаев*, 1817–1886), расійскі бібліяфіл і бібліёграф.

[730] Маецца на ўвазе публікацыя: Каратаев, Иван. Описание славяно-русских книг напечатанных кирилловскими буквами. Т. 1: С 1491 по 1652 г. // Сборник Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. Т. XXXIV. № 2. Санкт-Петербург, 1883. С. — 554 с.

[731] **Аляксандр Флораў** (рус. *Александр Флоров*, 1784 — пасля 1830), гравёр па медзі, працаваў пры музеі Маскоўскага ўніверсітэта.

[732] Маецца на ўвазе: Ровинский, Д. Материалы для русской иконографии. Вып. III. Санкт-Петербург, 1884. С. 3 (рэпрадукцыя партрэта Ф. Скарыны, вопіс і згадка пра копію А. Флорава).

[733] Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925.

рэпрадукцыю гэтую рабіў фатаграфічна і якраз з экзэмпляру кнігі ў Ленінградзкай Публічнай Бібліятэцы, толькі ня гэтага, фатакопія якога ў Вашым Музэі. Хопіць затрымаць зрок толькі на колькі сэкундаў на дасланай тут рэпрадукцыі, на твары Скарыны, і на твары на перарысоўцы, каб зацеміць, якая вялізная розьніца. У Флорава выраз твару Скарыны ня нейкага інтэлігента, ня доктара, а проста — ідыёты. І дзеля гэтага ня дзіва, што з паважнейшых аўтараў, хто знаў, што гэта няздарная толькі перарысоўка, а не арыгінал, гэтае перарысоўкі ніхто не паўтараў — ні Ровінскі, ні Валадзіміраў, ні Шчакаціхін. Паўтараем яе, нажаль, толькі мы тут і нашыя суродзічы ў БССР. Справа партрэтаўарыгіналаў Скарыны добра асьветленая ў згаданым вышэй артыкуле ў кн. 7 «Конадняў»[734], дзе й фатаграфічныя рэпрадукцыі трох ведамых варыянтаў. Для праверкі справы можаце заглянуць туды. Там-жа і адпаведная літаратура. Нажаль, дзеля таго, што скарыніяна доўгі час была ў загоне ў СССР, загубілася сьведамасьць арыгіналаў і неарыгіналаў партрэту Скарыны і ў БССР. Навет Акадэмія ў сваіх выданьнях падае не рэпрадукцыі з арыгіналаў, а нейкія перарысоўкі (ня Флорава, іншыя). Пакуль з справаў ня быў знаёмы, паўтараў недарэчную копію Флорава і я ў выданьнях Беларускага Лекарскага Таварыства[735].

Вось дзеля гэтага ў дасланым Вамі экзэмпляры фотакопіі раблю гэткія зьмены: дрэварыт з Тройцай пераношу на адваротны бок загаловачнае бачыны (згодна з Каратаевым ды іншымі аўтарамі). Заміж пададзенага там партрэту-перарысоўкі памяшчаю фатарэпрадукцыю фатаграфіі з арыгіналу, і якраз Кнігі Царстваў, як яе падаў Шчакаціхін (копію друкаваную тут разам перасылаю). Думаю, што партрэт лепш зьмяніць і ў Вашым музэйным экзэмпляры-фотакопіі. Нашто паўтараць ды публічна паказваць нездарную копію гравера мінулага стагодзьдзя пасьля таго, як уся справа ўжо навукова выясьненая.

У глыбокай пашане

---

734 Маецца на ўвазе артыкул: Брага, Сымон. Партрэты доктара Скарыны // Конадні. № 7. Ню Ёрк — Мюнхэн, 1963. С. 138–151.

735 Маецца на ўвазе **Аб'яднанне беларускіх лекараў на чужыне**, створанае Вітаўтам Тумашам у Нямеччыне ў другой палове 1940-х гг. і якое выдала ў 1953 г. ужо ў Нью-Ёрку паштоўку з выявай Ф. Скарыны.

11.XII.1971

Высокадастойны Ўладыка!

Вашае прывітаньне для нашае Паэткі[736] на ейны ЗАЛАТЫ юбілей прышло на час і было публічна адчытанае на ўгодкавай акадэміі, на якой была й сама Юбілярка[737].

Сьпяшу паведаміць, што колькі дзён таму выслаў лётнаю поштай ды заказным пачку зь мікрафільмам Малой Падарожнай Кніжкі. І ў прыватных фірмах Нью Ёрку зрабіць копію не ўдалося, бо фільм такога разьмеру, для якога яны ня маюць адпаведнае апаратуры. Давялося вярнуцца да бібліятэкі ды праз знаёмасьці, пабочна, зрабіць копію, якую й выслаў — *«лепш позна, як ніколі»*! Трапіць да Вас хіба якраз на Калядныя Сьвяты. Копія зробленая на самым мадэрным, вельмі трывалым, амэрыканскім фільме, гэткім моцным, што праляжыць вякі — ня менш як Скарынавыя арыгіналы. Разарваць-жа яго напэўна не патрапіць і, здаецца, моцны ў рукох Дастойны Дырэктар Вашага Музэю[738].

Мэтрыку сфільмаванага экзэмпляра кнігі знойдзеце на пачатку мікрафільму. Калі на копіі не заўсёды выразны друк, дык гэта ня віна амэрыканскае тэхнікі, а савецкага мікрафільму, зь якога копія зробленая. Няясна асабліва выходзяць радкі, надрукаваныя Скарынам чырвонаю, цынобравай хварбай, што мо й добра, бо лёгка пазнаць, якія радкі Скарына даваў чырвоным.

Зьвяртаю ўвагу, што экзэмпляр кнігі, зь якога зроблены мікрафільм, дэфэктны. Апрача Скарынавае Пасхаліі пры канцы, якое яшчэ ніхто нідзе не знайшоў, не хапае ў ёй і іншых 4-х балонак (8-мі бачынаў), а пайменна: балонкі 1-ае з загаловачнай бачынай Часаслоўца; 1-ае і 2-е балонкі Канону Иоану Предтечи з дрэварытам *«Святый Іоан предтеча крещает воиордани... Христа»*, і 1-е балонкі апошняе кніжыцы Акафістаў і Канонаў — *«Стихеры Господу Ісусу певлемы со акафістом»* з дрэварытам *«Ісус во храме навчает...»* (гл. маю Бібліяграфію Скарыніяны, б. 197, Нр. 6 і 16 Акафістаў і Канонаў).

Зь нехапаючых балонак тры апошнія маю на мікрафільме іншага экзэмпляру Акафістаў і Канонаў, які ўсё яшчэ ляжыць нейдзе ў бібліятэцы. Як яго мне вернуць — тады копіі адпаведных бачынаў Вам дашлю. Балонкі-ж першай, загаловачнай Часаслоўца, трэба яшчэ нейдзе шукаць.

---

[736] Маецца на ўвазе Наталля Арсеннева, чые 50-ыя ўгодкі творчай дзейнасці БІНіМ святкаваў 21 лістапада 1971 г.

[737] Пра падзею гл.: Залатыя ўгодкі Натальлі Арсеньневай // Беларус. № 176. Сьнежань 1971. С. 3.

[738] Маецца на ўвазе а. Аляксандр Надсан.

Што да згаданае Вамі з захапленьнем бібліяграфіі Г. Я. Галенчанкі[739], дык мікрафільм яе ўжо колькі гадоў як мае тутэйшая Публічная Бібліятэка. Працу гэтую і ейную вартасьць я знаю, яна ўлічаная ў маёй Бібліяграфіі Скарыніяны пад Нр. 812[740]. Гэта студэнцкая яшчэ праца аўтара перад заканчэньнем унівэрсытэту ды ў падрыхтове да дысэртацыі на кандыдата гістарычных навук (гл. Нр. 1083 мае бібліяграфіі)[741]. Ёю я зусім не захоплены. Мінаючы розныя недакладнасьці ды тэхнічныя хібы (назовы кнігаў аўтар часта падае ў скароце, здэфармаваныя), пропускі ў ёй аграмадныя. Пару прыкладаў з самага пачатку: чатырох Фіёлевых друкаў — кірылічных інкунабулаў — якія калі куды залічаць, дык толькі ў беларускія друкі — навет і не згадваюцца. Мсьціславец у Вільні, паводле аўтара, надрукаваў толькі адно Эвангельле, хоць ён там выдаў тры кнігі, і г. д. Вось дзеля гэтага передрукоўваць яе — лішняя трата грошаў, хоць карыснае сёе-тое й знойдзецца, найперш некаторымі даведкамі, дзе некаторыя экзэмпляры ўлічаных кнігаў цяпер знаходзяцца, ды і яны далёка не камплектныя. Гэта не праца арыгінальная, а спроба сабраць весткі іншых аўтараў у данай галіне, нажаль, вельмі і ў гэтым пляне няпоўная. Калі ўжо выдаваць — дык давайце будзем выдаваць творчасьць новую, арыгінальную. Навязваю тут я да выданьня кнігі твораў Натальлі Арсеньневай. Вашую думку, выказаную ў Вашым ёй прывітаньні, БІНІМ рыхтуе да рэалізацыі ўжо даўно. На ўгодкі гатовая ўжо да друку кніга на поўтысячу бачынаў, фармату «Спадчыны» Купалы выданьня Інстытуту[742]. Гэта, праўда, ня *«поўны збор твораў»* ейных, што Вы прапанавалі — на гэта замізэрныя сродкі, але ўсё-ж усё найлепшае, выбранае самой Паэткай. Гэта будзе выданьне саліднасьцяй акадэмічнае, кніга ў цьвёрдай вокладцы, на добрай паперы[743]. Англія і канкрэтна Ваш Музэй мог-бы выдатна памагчы гэтым у выданьні, каб заказаў нейкіх

---

[739] **Георгій Галенчанка** (нар. 1937), гісторык-медыевіст, кнігазнаўца, скарыназнаўца. Тут маецца на ўвазе выданне: Библиографический список белорусских старопечатных изданий 16–17 вв. / сост. Г. Голенченко. Минск: Государственная библиотека БССР им. В. И. Ленина, 1961. — 132 с.

[740] Нумарацыя, якую В. Тумаш падае ў лістах, зробленая паводле публікацыі: Тумаш, Вітаўт. Бібліяграфія Скарыніяны // Запісы БІНіМ. № 5 (11). Мюнхэн, 1970. С. 181–268.

[741] Гл.: Голенченко, Г. История белорусского книгопечатания XVI—XVIII веков (кирилловского): автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата исторических наук. Москва: Московский государственный архивный институт, 1965. — 18 с.

[742] Маецца на ўвазе выданне: Купала, Янка. Спадчына. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1955. — LXVI + 497 с.

[743] Маецца на ўвазе выдадзены значна пазней збор: Арсеньнева, Натальля. Між берагамі: Выбар паэзіі. Нью Ёрк — Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

50 хоць-бы экзэмпляраў у парадку перадаплаты й па цане сабекоштаў (10.00 дал.) з адначасным пераймом манаполю прадажы кнігі ў Англіі. Па ліку бачынаў кніга будзе блізу два разы большаю за анталёгію беларускае паэзіі ў перакладзе Веры Рыч[744], дык цана 10 дал. — ледзь не палавіна цаны ў продажы гэнае кніжкі.

У глыбокай пашане!

Прывітаньні зь Нью Ёрку.

28 сьнежаня 1971 г.

Высокадастойны Война[745]!

Дзякую за ласкавы ліст і сьвяточныя пажаданьні. Пішу, бо якраз надарылася нагода адудзячыцца ў нейкай меры за дасыланую скарыніяну. У асобным канвэрце, як *«друк»*, выслаў Вам фатастатычную копію кніжыцы *«Чепко В. В. Общественная и культурная деятельность Георгия Скорины. Белорусский государственный университет. Минск, 1953»*. Гэта аўтарэфэрат дысэртацыі аўтара пад такім-жа назовам на навуковую ступень *«кандыдата гістарычных навукаў»*. Заказаны быў у Маскве мікрафільм самое дысэртацыі — дасталі толькі *«аўтарэфэрат»* (сама дысэртацыя вялічыні больш 350 б. друку, адцемленая ў маёй Бібліяграфіі скарыніяны пад Нр. 690). Падчыркненьні на фатастаце залёныя мае, а чорным — нейкага чытача кніжцы ў Маскве.

Кніжыца тым цікавая, што пісаная яшчэ за Сталіным, што яскрава відаць з пачатковай яе фразы: *«В светле сталинского учения…»* або з ацэны выданьня «Чатырохсотлецьце беларускага друку»: *«Сборник 400-лецьце беларускага друку», вышедший в 1926 г., содержит ряд статей, явно националистических и враждебных по характеру, и не может служить научным пособием при изучении деятельности Скорины»*!!!

У глыбокай пашане

23.1.1972

Высокадастойны Ўладыка!

Учора акурат дастаў Ваш цікавы ліст, «Божым Шляхам», камунікат пра сьмерць Д. Аніські[746] — за ўсё шчыра дзякую. Згодна з Вашай просьбай камунікат яшчэ ўчора перадаў др. Ст. Станкевічу. Дзякую вельмі й за высланыя мікрафільмы Скарынавых кнігаў. На іх надыход давядзецца, пэўне-ж, пачакаць.

---

744 Маецца на ўвазе выданне: Rich, Vera. Like Water, Like Fire: an anthology of Byelorussian poetry from 1828 to the present day. London, Allen and Unwin, 1971. — 347 p.

745 Ліст адрасаваны а. Аляксандру Надсану.

746 **Дамінік Аніська** (1888–1971), грамадскі і рэлігійны дзеяч. Ад 1949 г. жыў у Лондане.

Знаход даўно шуканае Скарынавай Пасхаліі ды артыкул а. Надсона[747] запраўды *«сэнсацыя»*, і найперш для мяне, бо як *«скарыністы»* асабліва востра адчуваю вялікае значаньне і ўсе кансэквэнцыі[748] знаходкі для гісторыі беларускага друку. *«Вінаватым»* за знаход запраўды належыцца як узнагарода залаты Скарынавы мэдаль, якога мы яшчэ не адбілі. Сабе-ж на сьціплую пахвалу магу прыгадаць, што праўдападобнасьць выхаду Малой падарожнай кніжкі перад Апосталам я усьведамляў і пра гэта пісаў («Запісы», кн. 5, б. 24 угары)[749]. Неспадзеўкі хутка гэтая дагадка, дзякуючы нашаму працавітаму беларускаму Лёндану, спраўдзілася, і яму за гэта СЛАВА!

Дык час пачатку віленскае выдавецкае дзейнасьці Скарыны цяпер перасоўваецца з 1525 году на год 1522, а гэта значыць, што сёлета, а не ў 1975, як мы думалі, прыпадаюць 450 угодкі паўстаньня першае друкарні на беларускай зямлі, і што трэба іх нейк адзначыць. Што, каб наш Лёндан зладзіў падобную рэпрэзэнтацыйную выстаўку юбілейную ў Брытыш Музэюм, як была наладжаная 4 гады таму ў Публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку? Можаце пры нагодзе адпаведнаму кіраўніцтву Брытыш Музэюм паказаць у апошніх «Запісах» і фатаграфію з падобнае выстаўкі ў Нью Ёрку — калі для нашае бібліятэкі быў гэта гонар, ня будзе стыду й для Брытыш Музэюм. А гэткая выстаўка ўкаранавала-б і факт знаходкі Пасхаліі, і належна ў навуковым сьвеце разрэклямавала-б беларускую навуковую працу. Патрэбнымі матар'яламі паможам і зь Нью Ёрку.

Да адзначэньня Скарынавага юбілею ў 1975 г., паколькі мне ведама, ужо рыхтуюцца ў Вільні летувісы ды зьбіраюцца іх адзначыць як угодкі *«пачатку друкарскае справы ў Ліцьве»* ды як угодкі *«паўстаньня першае друкарні на тэрыторыі ўсяго СССР»*. Цяпер гэта ўсё перакульваецца *«дагары нагамі»*: або яны мусяць ладзіць насьпех гэткае адзначэньне яшчэ сёлета ўвосені, або зь яго наагул зрэзыгнаваць, бо шумець пра ўгодкі ў 1975 г., пасьля апублікаваньня дакумэнтальных довадаў таго, што ўгодкі тады не прыпадаюць, будзе немагчыма.

Паколькі знойдзеную Скарынавую Пасхалію Вы ў Лёндане ўжо навукова распрацоўваеце, было-б добра, каб разам спобавалі й дайсьці да *«мэтрыкі»* экзэмпляру Малой падарожнай кніжкі Капэнгаскай бібліятэкі: выясьніць, як, скуль, ад каго яна туды трапіла. Паколькі мы цяпер ведаем, што Скарына быў *«сакратаром караля Дацыі»*, дык ёсьць магчымасьць, што сам Скарына й накіраваў гэтую кніжку ней-

---

747 Надсон, Аляксандар а. Кніга Скарыны ў Капэнгагене // Божым Шляхам. № 5. Кастрычнік — сьнежань 1975. С. 9–11.

748 ***Consequentia*** (лац.) — наступства, вынік.

749 Гл.: Брага Сымон. Доктар Францішак Скарына // Запісы БІНіМ. № 5 (11). Мюнхэн, 1970. С.11–33.

каму свайму прыяцелю ў Даніі. Гэткую магчымасьць на ўвеце трэба мець і яе праверыць.

Паколькі маеце цяпер у Лёндане два мікрафільмы Падарожнай кніжкі — мой і капэнгаскі — дык магчыма, разам склаўшы, і ўдасца Вам укамплектаваць што да балонкі ўсю гэтую кніжку. Калі-б аказаліся ўсё-ж нейкія бракі — пішэце, дашлю нехапаючыя балонкі з трэцяга мікрафільму — які пакульшто часова *«заграз»* у нашай тут бібліятэцы.

Для скамплектаваньня гэтае кніжкі мне, апрача новазнойдзенай Пасхаліі, патрэбная з вашага мікрафільму толькі адна балонка — першая загаловачная балонка Часаслоўца. Само-сабой патрэбныя й сем балонак Пасхаліі. Вельмі прашу, пры першай нагодзе зрабіць фотаадбіткі з адпаведных 8 балонак ды пераслаць мне. Ужо ад двух гадоў у мяне ляжыць гатовая да друку праца «Скарынаў каляндар» (каля 50 б. друку)[750]. Пасьля знаходкі Пасхаліі безь яе перагляду пускаць гэтую працу ў друк не выпадае.

Пераходзячы ад Скарыны да… Арсеньневае.

Зборнік паэзіі падрыхтавала да друку сама паэтка. Усе вершы з «Родных гоняў», якія Вы называеце, у ім ёсьць. Калі ў справе дапамогі на выданьне кнігі працягваецца рука *«праз акіян»*, дык не дзеля гэтага толькі, што дапамога на друк кнігі зусюль патрэбная, але й таму, што колькі гадоў таму, падчас сваіх наведзінаў Нью Ёрку, Вы быццам заявілі, што справу выданьня гэткае кнігі Вы горача падтрымліваеце, і ў выпадку патрэбы гатовыя на гэта ахвяраваць навет 500 дал. Сказана гэта было ці ня ў прысутнасьці самое Паэткі, прынамся яна пра гэта ведае. Вось у сувязі з гэтым і *«рука праз акіян»*. Ведаючы пра падобную заяву, мы ніяк не маглі абмінуць нагоды, каб не паведаміць пра канкрэтную рэалізацыю выданьня. Грошы, хоць і паволі, плывуць з трох кантынэнтаў. Не пашкодзіць, калі нешта будзе й зь ня гэткай ужо беднай Англіі.

У глыбокай пашане і з прывітаньнем зь Нью Ёрку!

26 студзеня 1972 г.

Вельмі паважаны спадару Прафэсару![751]

Днямі дастаў ад а. А. Надсана паведамленьне зь Лёндану аб новым важным адкрыцьці ў галіне скарыніяны: у экзэмпляры «Малой падарожнай кніжкі» Каралеўскае бібліятэкі ў Капэнгазе ён выявіў нідзе дагэтуль нязнойдзеную Скарынаву Пасхалію. На падставе-ж яе ўдалося

---

[750] Тэкст быў апублікаваны ўжо пасля таго, як Вітаўт Тумаш быў паралізаваны і спыніў сваю дзейнасць: Тумаш Вітаўт. Скарынаў каляндар і каляндарная сыстэма Беларусі яго пары // Запісы БІНіМ. № 18. Нью Ёрк, 1988. С. 96–121.

[751] Ліст адрасаваны Янку Садоўскаму, які на той час ужо жыў у Канадзе, выкладаў рускую мову і літаратуру ў Квінс-універсітэце ў Кінгстане (правінцыя Антарыя).

ўстанавіць час выхаду Падарожнай кніжкі — 1522 год. Дык яна першы віленскі друк Скарыны, а не Апостал 1525 году (магчымасьць гэткую браў і я на ўвазе, «Запісы», кн. 5, б. 24). Пра знахадку А. Надсан ужо даў артыкул у «Божым шляхам». Дык дату пачатку Скарынавага друку ў Вільні давядзецца цяпер і ў артыкуле маім пра канфіскату Скарынавых кнігаў у Вроцлаве, калі б да яго друку дайшло[752].

Як Вы паведамлялі ў Вашым перадкалядным лісьце, ужо ў гэтым месяцы мелаісьці ў друк Вашая дысэртацыя[753]. Вітаю Вас з удачай! Яшчэ на адну важную й каштоўную пазыцыю ў скарынаведнай літаратуры будзе больш.

Пры гэтай нагодзе перадаць хачу й пару маіх заўвагаў пра друкаваную ў «Запісах» частку дысэртацыі — можа нешта з гэтага прыдасца пры апошняй рэдакцыі. Калісьці, калі былі прысланыя да друку ў «Запісы» «Лексычныя асаблівасьці»[754], я заўважыў у іх хіб тэхнічнага характару, ды ўсё-ж пусьціў у друк, *«каб толькі хутчэй»* кніга друкавалася. Гэтае *«хутчэй»*, як ведама, зацягнулася пазьней ледзь не на тры гады! Ідзе пра тое, што ў тэксьце Вашага артыкулу ёсьць аж колькісот поклікаў на два слоўнікі — Насовіча[755] ды Крапівы[756]. І два гэтыя прозьвішчы, што ўвесь час паўтараюцца, падаюцца кажны раз у поўным іх напісаньні. У гэткіх выпадках куды практычней адзначыўшы гэта пры пачатку, далей даваць скароты, хапіла-б самой першай літары гэтых прозьвішчаў — Н і К. Гэткі спосаб ашчаджае час, месца, грошы. Паводле майго шацунку, пры тарнаваньні скаротаў артыкул быў-бы на бачыны 4 карацейшы й друк яго адпаведна быў-бы танейшым.

Рэч другая: «Лексычныя асаблівасьці» былі-б моваведам куды цікавейшыя й навукова куды мацнейшыя, калі-б пры кажным Скары-

---

[752] Гл.: Тумаш, Вітаўт. Канфіската ў Вроцлаве кнігаў Бібліі Скарыны // Запісы БІНіМ. № 12. Нью Ёрк, 1975. С. 3–13.

[753] Янка Садоўскі так і не змог выдаць сваю дысертацыю, ды наогул вынікі скарыназнаўчай працы. У архіве даследчыка захаваўся англамоўны машынапіс падрыхтаванай манаграфіі *«Doctor Francis Skaryna: Life, Works and Language»* («Доктар Францыск Скарына: Жыццё, працы і мова»). Тэкст займае 290 старонак. Падрабязней пра гэта гл.: Гардзіенка, Наталля. Да біяграфіі скарыназнаўцы Янкі Садоўскага // Віленскія выданні Францыска Скарыны ў кантэксце эпохі Адраджэння: да 490-годдзя кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім: матэрыялы IV Скарынаўскіх чытанняў (Мінск, 27 красавіка 2012 г.) / пад рэд. І. Багдановіч. Мінск: Кнігазбор, 2014. С. 97–105.

[754] Гл.: Садоўскі, Янка. Лексычныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Скарыны // Запісы БІНіМ. № 5 (11). Мюнхен, 1970. С. 91–112.

[755] **Іван Насовіч** (1788–1877), мовазнаўца, лексікограф, фалькларыст. Тут маецца на ўвазе яго праца: Словарь белорусского наречия. Санкт-Петербург, 1870. — 756 с. (перавыданне: Мінск: БелСЭ, 1983. — 756 с.).

[756] Гл.: Беларуска-рускі слоўнік: каля 90 000 слоў / пад. рэд. К. Крапівы. Масква, 1962. — 1048 с.

навым слове быў дадзены заўсёды хоць-бы адзін прыклад з тэксту — зварот ці сказ — з гэтым словам. Гэта памагае вельмі лепш асэнсаваць тое значаньне, у якім дадзенае слова Скарына ўжыў.

Не магу стрымацца, каб пры нагодзе ліста не падзяліцца некаторымі маімі меркаваньнямі, не датычнымі ўжо дысэртацыі, але — мовы Скарыны. Пераказваю іх не для нейкае дыскусыі, а толькі ў парадку сяброўскага абмену паглядамі. Зь некаторых Вашых выказваньняў падчас нашых кароткіх сустрэчаў ведаю, што ў гэтым пытаньні пагляды ў нас даволі розныя. Вось дзеля гэтага я пачуваюся да абавязку сказаць, чаму мае якраз гэткія, а ня іншыя.

Ідзе тут пра ў скарынаведнай літаратуры старое пытаньне: якая мова Скарынавых перакладаў — беларуская ці царкоўнаславянская? Калі ў сваіх біяграфічных ці бібліяграфічных нарысах я трымаюся пагляду, што яна беларуская, дык у запраўднасьці толькі стаю на пазыцыях найбольшага ў беларускай моваведзе аўтарытэту — Аўхіма Карскага, — які ў гэтай справе даў сваю, добра ведамую, формулу, што ў Скарыны *«аснова мовы народная беларуская»*[757].

Па шырыні й грунтоўнасьці вывучэньня беларускае й старое, і сучаснае мовы раўні Карскаму пакульшто няма. Для дадзенага пытаньня важна тое, што Карскі знаў дасканальна як мовавед ня толькі мову беларускую, але й царкоўнаславянскую. Гадоў колькідзесят яе ён выкладаў з унівэрсытэцкае катэдры. Ягоная граматыка мовы царкоўнаславянскае да 1917 г. мела 19 выданьняў[758]. Таму калі хто, дык Карскі быў дакладна дасканала падрыхтаваны і аўтарытэтны на тое, каб даць адказ на пытаньне, якая нацыянальная аснова мовы Скарынавых перакладаў.

Калі ўсё-ж у справе характару мовы Скарыны паўстаюць у моваведаў і немоваведаў сумлевы й засьцярогі, ёсьць на гэта колькі розных прычынаў. Галоўная зь іх тая, што Скарына ў сваіх выданьнях ня зрываў кардынальна з царкоўнаславяншчынай, а наадварот, шмат элемэнтаў гэтае мовы пакідаў, помнячы, відавочна, тое, што чытачы звыклыя да кольківяковае ўжо традыцыі панаваньня гэтае мовы ў рэлігійнай літаратуры ды ў царкоўным ужытку, прывыклі да яе, і раптоўны зрыў быў бы не пажаданым — можна было-б *«адарвацца ад чытача»*. Ці з тых ці іншых меркаваньняў, але мова ягоных перакладаў побач элементаў беларускіх мае й вельмі шмат захаванае царкоўнаславяншчыны і маем тут у запраўднасьці своеасаблівы стоп дзьвюх моўных стыхіяў, што пазваляе адным уважаць яе за мову беларускую, другім — за

---

[757] Гл.: Карскій, Е. Бѣлорусы. Т. III. Очерки словесности бѣлорусскаго племени. 2. Старая западнорусская писменность. Петроград, 1921.

[758] Гл.: Карский, Евфимий. Грамматика древнего церковнославянского языка сравнительно с русским (курс средних учебных заведений). Вильна, 1888–1900; Варшава, 1901–1916; Сергиев Посад, 1917.

ц.-славянскую. У абодвух выпадках гэта значыць толькі што дадзеная моўная стыхія ўважаецца дамінуючай. Складанае пытаньне азначэньне элемэнту дамінуючага камплікуецца, да гэтага, яшчэ featureнымі іншымі аспэктамі праблемы, на некаторыя зь якіх зьвярну тут увагу.

Найперш, ня ўсе аўтары, што пытаньне гэтае кранаюць, бяруць на ўвет, што мова выданьняў Скарыны не аднолітая. У тэкстах некаторых кнігаў ён сьведама захоўваў мову ц.-славянскую, у кнігах характару багаслужэбнага — Псалтыры, Апостале, Часаслоўцы, Акафістах і Канонах, Шэстаднеўцы. Як ён сам пісаў, мовы гэтых, літургічнага характару тэкстаў ён *«ня рухаў»*. І тэксты гэтых кнігаў напэўна царкоўнаславянскія, хоць і яны маюць даволі беларускіх асаблівасьцяў, каб пазнаць, што паўсталі на беларускай моўнай тэрыторыі. Здараюцца ў Скарыны й ц.-славянскія цытаты ў кнігах перакладных — яны таксама бясспрэчна не беларускія, а ц.-славянскія. Вось некаторыя аўтары, нясьведамыя таго, што Скарына выдаваў тэксты й ц.-славянскія, мяшаюць у вадзін *«кацёл»* перакладанае зь неперакладаным і, даходзяць да хвальшывых выснаваў.

Не аднолітая мова Скарыны й у кнігах, тэкст якіх ён *«рухае»*, перакладае. Аснаўная розьніца выступае ў тым, што ў мове перакладаў выразна шмат больш захоўваецца царкоўнаславяншчыны, як у арыгінальных тэкстах самога Скарыны — прадмовах, паслоўях, камэнтарах, і гэта *«канфузіць»* некаторых аўтараў пры спробе азначэньня, якога элемэнту ў яе больш — беларускага ці небеларускага. У мове-ж прадмоваў дамінуючая бясспрэчна беларуская моўная стыхія, хоць і ў ёй Скарына захоўвае больш традыцыйнае для рэлігійных кнігаў царкоўнаславянчшыны, як яе тады-ж было ў беларускай пісьменнасьці сьвецкай, актавай. А ёсьць аўтары, што навет і мову арыгінальных тэкстаў Скарыны залічаюць у ц.-славяншчыну, хоць трэба дзівіцца, як можна ц.-славянскімі называць мову, прыкладам, у прадмове да Кнігі Другога Закону: *«Толико в том хотят ся згожати, абы были права их, или закон, почтивый, справедливый, можный, потребный, пожыточной, подле прирожения подлуг обычаев земли, часу и месту пригожий, явный, не имея в собе закритости, не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаный»*. Або з Кнігі Царстваў: *«Протож я, Франциско Скорина, меновал есми ту вси тыи письма зособна, абы есте ведали, иже на сторонницах кажных книг моего тружания пописаны суть светки или згоды кратце имени сих вышейменованых писм»*.

Вось для лепшага абгрунтаваньня свае канцэпцыі Жураўскі й уціскае нагвалт усю мову ўсіх Скарынавых выданьняў у сваю ц.-славяншчыну «беларускае рэдакцыі»[759], што бясспрэчна памылкова. Да яе

---

[759] Маецца на ўвазе артыкул: Жураўскі, А. Мова друкаваных выданняў Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск: АН БССР, 1968. С. 277–304.

належаць толькі тыя выданьні, ц.-славянскае мовы якіх, як сам Скарына кажа, ён *«ня рухаў»*. Не падыходзіць-жа напэўна да яе мова ягоных прадмоваў і паслоўяў. — Што й колькі ц.-славяншчыны маюць, для прыкладу, прыведзеныя цытаты? Падганяць іх пад ц.-славяншчыну гэта гвалт над фактамі. Мова-ж перакладаў, паколькі гэта двумоўны ў істоце стоп, дае некаторую магчымасьць Жураўскаму падводзіць яе пад свой трафарэт *«ц.-сл. мовы бел. рэдакцыі»*, як дае падставу называць яе і проста мовай у сваёй аснове беларускай іншым аўтарам. Жураўскі ўжо гадамі асабліва рупна шукае тых ц.-славянскіх фанэтычных ці марфалагічных асаблівасцяў Скарынавае мовы, што пераважаюць у яго над беларускімі й заўсёды цешыцца зь іх знаходу. З другога боку, ён заўсёды памяншае ролю элемэнту беларускага ў гэтым стопе, забываецца пра тысячы чыста беларускіх іх словаў, пра чыста беларускі яе сынтаксычны лад, на што зьвярталі ўвагу моваведы ўжо мінулага стагодзьдзя. Што-ж да лексыкі, дык трэба не забывацца, што, паводле некаторых моваведаў, у сучаснай ангельскай мове засталося ўсяго каля 25 % англасаскіх словаў, усё іншае-ж чужое, і не зважаючы на гэта мову гэтаю ўсё-ж і цяпер завуць англасакскай.

У сваім разгоне ўціснуць за ўсякую цану ўсю мову выданьняў Скарыны ў рамкі ц.-славяншчыны, Жураўскі *«забываецца»* навет заўсёды прывесьці, хоць бы для акадэмічнае саліднасьці, кардынальна супроцьлежны пагляд найвыдатнейшага майстры беларускае мовы А. Карскага, які ведаў, што ў гэтым пытаньні гаворыць, і які бачыў у Скарыны ц.-славяншчыну. Перад сваёй фармулёўкай ён навет адзначае, што ў Скарыны *«яшчэ ня рэдкасьць аорысты, імпэрфэкты… і іншыя ц-славянскія асаблівасьці ў мове… але ўсё ж аснова мовы народная беларуская, з тымі асаблівасьцямі, якія характарызуюць стае яе звод у Літоўскай дзяржаве»*. Жураўскі, з сваёй слабейшай, за Карскага, ведай ц.-славянсшчыны і асабліва слабейшым вычуваньнем розьніцаў між ёю і старой беларускай мовай, не адчувае й тога, што асэнсоўваў добра яшчэ на пачатку XIX ст. начытаны добра й у ц.-славяншчыне, і ў мове старых летапісаў Карамзін[760], які ўжо тады заўважыў, што Скарына *«пісаў моваю свае пары й свае бацькаўшчыны»*[761].

Вось, у скароце, тыя галоўныя матывы й мяркаваньні, дзеля якіх я застаюся пры сваіх (і Карскага) паглядах на мову Скарыны, не зважаючы на той ці іншы *«акадэмічны»* разнабой у адпаведнай сучаснай літаратуры.

Прывітаньні зь Нью-Ёрку!

У глыбокай да Вас пашане

---

[760] **Мікалай Карамзін** (рус. *Николай Карамзин*, 1766–1826), расійскі гісторык, пісьменнік, публіцыст, Аўтар 12-тамовай *«Истории государства Российского»* (1803–1826).

[761] Гл.: Карамзин, Николай. История государства Российского. Т. 1. Санкт-Петербург, 1816. С. 213–216.

28.1.1972

Дарагая Раіса!

Навязваючы да нашае гутаркі ў Нью Ёрку пра выказваньні праф. Я. Садоўскага аб тым, што ён *«пакажа й дакажа»*, якая ў істоце мова Скарыны, пасылаю тут для дыскрэтнага зазнаямленьня копію майго ліста да яго, у якім даю крыху шырэй пагляд мой на гэтую справу[762]. Падаю гэта ў выглядзе майго быццам тумачэньня, чаму я ў гэтым пытаньні трымаюся пагляду Карскага, а ў запраўднасьці для тога, каб ён, публікуючы сваю дысэртацыю, быў асьцеражнейшым з галаслоўнымі выказваньнямі, а пытаньне разглядаў шырэй, ува ўсіх складаных яго аспэктах. Тады й вывады будуць больш цэнныя. Лепш, зразумела, каб ніколі не давала да зразуменьня, што копію майго ліста маеш і пра яго наагул ведаеш, каб не крануць амбіцыі нашага маладога прафэсара.

Як з пачатку ліста да Я. Садоўскага можаш бачыць, А. Надсан зрабіў важнае адкрыцьцё ў галіне скарыніяны, знайшоўшы нідзе дагэтуль няведамую Скарынаву Пасхалію, а на падставе яе ўдалося і ўстанавіць, што першы віленскі друк не Апостал 1525 г., а Малая падарожная кніжка 1522 г. З гэтага вынікае, што ня ў 1975 г., а сёлета ўжо прыпадаюць 450-я ўгодкі выхаду першага віленскага Скарынавага выданьня, ці 450-я ўгодкі пачатку друку на беларускай зямлі, і ўгодкі гэтыя трэба нейк адзначыць. А гэта ізноў значыць, што да справаў, адзначаных на зьезьдзе беларусоў Паўночнае Амэрыкі[763], давядзецца й гэтым угодкам адвесьці 15–20 мінут часу. З гэтага вынікае таксама, што Табе ці ня прыйдзецца выняць з свайго нейдзе складу той Скарынавы выставовы матар'ял, які, здаецца, маеш, ды, зьмёўшы зь яго пыл, разглянуцца аб тым, што з гэтага даць падчас Зьезду на выстаўку для адзначэньня гэтых угодкаў (побач плянаванае ўжо выстаўкі нашых двух канадзкіх мастакоў)[764].

Новае адкрыцьцё паблытала й мае ўсе пляны. На 1975 год маю падгатаваны ў апошнім чарнавым нарысе цэлы зборнік пра беларускі друк XV–XVI ст. (Фіёль — Скарына — Будны — Хадкевіч — Мсьціславец — Гарабурда — Мамонічы — Цяпінскі — Друкарня Віленскага Брацтва і г. д.). Мела гэта быць кніга ня менш за апошні скарынінскі зборнік. Час друку 1974, каб пасьпець на 1975 г. Цяпер гэта ўсё кардынальна мяняецца, і што ды як удасца зрабіць для адзначэньня ўгодкаў,

---

762 Маецца на ўвазе ліст, змешчаны вышэй.

763 Маецца на ўвазе 10-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбывалася 2–4 верасня 1972 г. у Таронта.

764 Тэма 10-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі была — «Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых дзён», і 450-годдзе друку было адзначанае на ёй адмыслова. Падрабязней пра гэта гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. 10-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі // Беларус. № 186. Кастрычнік 1972. С. 1–2.

яшчэ й сам ня ведаю. Адным словам — клопат, хоць адначасна й вельмі добра, што даўно шуканая Паскалія знайшлася.

Збор грошаў на фонд выданьня кнігі Арсеньневай пасоўваецца, хоць і паволі, наперад. На банкавым коньце ляжыць ужо больш 1000 даляраў, каля 500 яшчэ ўжо задэкляравана. Да патрэбнае сумы, 4500 дал., яшчэ далекавата. Маючы на коньце каля 3000, можна толькі пачынаць справу друку.

«Жаночай поштай», ад Нюры, даведаўся, што пасьля павароту зь Нью Ёрку Табе давялося адхварэць грыпу. Гэта, відаць, таму, што ў Нью Ёрку падчас сьвятаў зашмат цалавалася, ну й набралася ўсякіх *«вайрусаў»*. Добра, што ўжо па грыпе, ужо паправілася.

Прывітаньні Абаім зь Нью Ёрку!

Твой

29.1.1972

Дастойны Войча[765]!

Удзячны за вельмі ласкавы ліст ды за дасланы Ваш артыкул пра кнігу Скарыны ў Капэнгазе. Выяўленьне даўно шуканае Скарынавае Пасхаліі бясспрэчна навуковая рэвэляцыя, а ў адпаведнай храналёгіі й датах й цэлая *«рэвалюцыя»*. Устанаўленьне году выхаду Малой падарожнай кніжкі на 1522 год перастаўляе храналёгію віленскіх выданьняў Скарыны ды на тры гады перасоўвае назад сам час пачатку друкарскае справы ў Вільні, у Беларусі й на прасторы ўсяе ўсходняе Эўропы. Калі Вашая Лёнданская бібліятэка прыняла ганаровае імя доктара Скарыны ў сваю назву, дык гэтым адкрыцьцём гэтае імя цяпер сябе апраўдала, на яго заслужыла, і дзякуючы якраз Вам. Сабе-ж за сьціплы гонар магу прыпісаць тое, што колькі гадоў таму на магчымасьць падобнае храналягічнае перастаноўкі зьвярнуў увагу (апошнія «Запісы», б. 24), яе прадбачыў. Хоць у «Запісах» я канкрэтна паклікаўся на думку Зярновай, ды ў скарынаведнай літаратуры гэта старое пытаньне, падобныя меркаваньні выказваліся ці раз і раней.

Да рачова ды кампактна напісанага артыкулу маю толькі адну дробную засьцярогу: як з памешчаных пры артыкуле рэпрадукцыяў кніжкі відаць, сам Скарына апошнюю частку свайго календара ўвесь час кансэквэнтна называе Паскаліяй, а не Пасхаліяй. Думаю, што трэба ягоную аўтарскую ды выдавецкую волю й нам шанаваць ды ўсюды там, дзе ягоная Паскалія згадваецца, і пакідаць гэтую назву ў ягоным арыгінальным правапісе, а не падводзіць пад нейкія іншыя правапісы.

З зробленага важнага адкрыцьця трэба парабіць і ўсе практычныя высновы, а адзін зь іх важны й тэрміновы, гэта той, што гэта сёлета ўвосені прыпадаюць 450-я ўгодкі віленскага Скарынавага друку, пачаткаў друку на беларускай зямлі. І гэтыя ўгодкі трэба па-магчымасьці

765 Ліст адрасаваны а. Аляксандру Надсану.

адзначыць, *«адшумець»*, каб гэтым самым і зьвярнуць увагу сьвету на важную новую знахадку з галіны гісторыі беларускага друку.

У лісьце да Уладыкі Часлава я суліў, каб у Лёндане спробваць намовіць Брытыш Музэюм наладзіць у канцы году адпаведную Скарынаву выстаўку, падобную вялічынёй і размахам, як мы тут наладзілі ў Бібліятэцы Публічнай. Важна было-б адзначыць угодкі і адмысловымі выданьнямі. У гэтай галіне падсавецкія навукоўцы далёка за намі ззаду, і ня шкодзіць выданьнямі ды выстаўкамі, на дабро беларускае навуковае працы, гэта заакцэнтаваць.

У глыбокай пашане

11.2.1972

Дарагая Раіса!

Пасьля ліста *«мінорнага»* ды *«непатрэбнага»* сяньня дастаў і ліст другі, *«мажорны»*. Добра, што Сустрэча ладзіцца ня ў Слуцку[766] — дзе ў доме можа памясьціцца 20–30 чалавек, а ў Таронце, дзе й выстаўка магчымая. Рэфэрат пра ўгодкі друку на беларускай зямлі нехта, пэўне -ж, прачытае, можа й Ваш, свой, канадыйскі, скарыністы, праф. Садоўскі — пры сустрэчы ў Канадзе трэба-ж найперш пахваліцца сваймі адмыслоўцамі[767].

Што да выстаўкі, дык хоць і сьціплую, а наладзіць трэба. Але гэта ня значыць, каб закідаць добрую ідэю паказаць творы Вашых канадыйскіх мастакоў — двух Сурвілаў[768]. Найменш адну сьцяну адвесьці трэба ім — маладым дарога — каб ня выглядала, што доктар Скарына замінае каму шлях да творчае дзейнасьці.

Учора якраз трапіў мне ў рукі каталёг *«заявак»* на савецкія кнігі 1972 г., у якім ёсьць і паведамленьне, што сёлета, ужо ў 2-м квартале, мае выйсьці ў выданьні выдавецтва «Беларусь» кніга: *Гравюры Франциска Скарины. Колектив авторов. На белорусском и русском языках. 22 л., 3000 экз. Цена 3 руб. 05 коп*. Да гэтага дадзеная беларуская анатацыя: *«Альбом дае яркае ўяўленьне аб сваесаблівым таленце Ф. Скарыны. Мастацка выкананыя фатаграфіі ўзнаўляюць лепшыя графічныя работы беларускага першадрукара. Выданьне разьлічана на шырокае кола чытачоў»*[769].

---

[766] Маецца на ўвазе беларускі **адпачынкавы цэнтр «Слуцак»** ў правінцыі Антарыа, на поўнач ад Таронта.

[767] Рэферат, прысвечаны Ф. Скарыну, на сустрэчы чытаў Вітаўт Тумаш.

[768] На сустрэчы была наладжаная выстава твораў **Івонкі Сурвілы** (дзяв. Шыманец, нар. 1936), мастачкі, грамадскай дзяячкі. Пазней, ад 1997 г., яна стала Старшынёй Рады БНР.

[769] Напэўна, ідзецца пра выданне: Гравюры Францыска Скарыны / уступны артыкул, сістэматызацыя гравюр і мастацтвазнаўчы аналіз Л. Баразны. Мінск: Беларусь, 1972. — 148 с.

Кніга гэтая ўжо даўно рыхтавалася да друку. Калі запраўды выйдзе сёлета ў 2-м квартале — было-б добра й важна мець яе на выстаўцы. Гэта ўсё-ж том на 350 б. друку. Баюся толькі, каб рэпрадукцыі не былі мізэрна выкананыя, паменшаныя, недарэчна рэтушаваныя, як ёсьць у іншых менскіх выданьняў гравюраў Скарыны (у «Пaслоўях»[770] ды кнізе юбілейнай[771]). Пішу пра гэтае выданьне Табе, бо прыйшла мне думка, ці не магла-б напісаць пра яе Ларысе[772], каб яна выслала Табе гэтую кнігу адразу пасьля яе надрукаваньня. Тады можа пасьпее на Сустрэчу. Разам можна было-б напісаць і пра іншае: кнігі Прашковіча пра Скарыну[773], хоць яна была надрукаваная ледзь ня год таму, нідзе тут і дагэтуль няма. Можа зусім і не паявіцца, бо беларускія выданьні ў БССР, як ведама, выдаюцца ў мізэрных тыражох. А трэба было-б зь ёю ўсё-ж пазнаёміцца. Кнігу гэтую, ад самога аўтара, і хіба зь ягонай дэдыкацыяй, мае Ларыса[774]. Ці не магла-б яна прыслаць, пазычыць на пару месяцаў для прачытаньня, ды, калі-б была патрэба, для зрабленьня копіі на зэроксе? Пасьля гэтага кнігу можна было-б адаслаць назад.

Што да Твайго запытаньня, *«Ці Малая падарожная кніжка й Паскалія гэта адно й тое?»*. Паскалія — гэта канцавая частка Скарынавага календара, які становіць складовую частку апошняга разьдзелую Малой Падарожнай Кніжкі. У Паскаліі Скарына падае каляндар сьвятаў на гады 1523–1542, значыцца, сьвятаў, зьвязаных зь Вялікаднем, *«Пасхаю»*, стуль Паскалія. Там і весткі пра зацьменьні сонца й месяца, пра рух плянэтаў і г. д.

Да тае самае тэмы — да скарыніяны — перасылаю разам і фатастат артыкулу польскага дасьледніка Шчэпана Цымэра з Лос Анджэлес, майго знаёмага. Ён рыхтуе цяпер якраз для друку працу пра першага нашага і ўсяго кірылічнага друкара кракаўскага Швайпольта Фіёля[775]. Таму я яму паслаў і фатастат артыкулу А. Надсана ў «Божым Шляхам» пра знаходку Скарынавай Паскаліі, з сугэстыяй, ці ён не падаў-бы гэтую сэнсацыю да ведама польскіх навукоўцаў, паслаўшы вестку пра гэта да лёнданскага тыднёвіка «Вядомосьці». За колькі ужо дзён

---

770 Скарына, Францыск. Прадмовы і пасляслоўі. Мінск: АН БССР, 1969. — 240 с.

771 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск: АН БССР, 1968. — 436 с.

772 Маецца на ўвазе Ларыса Геніюш, да якой Вітаўт Тумаш, нягледзячы на добрае знаёмства, асцерагаўся пісаць, каб не нашкодзіць ёй.

773 Прашковіч, М. Францішак Скарына — беларускі першадрукар. Мінск, 1970. — 93 с.

774 Мікола Прашковіч быў добра знаёмы з Ларысай Геніюш.

775 Zimmer, Szczepan K. The beginning of Cyrillic printing in Cracow, 1491: from the Orthodox past in Poland. A Polish Institute of Arts and Sciences of America book. Boulder, Colo.: Social Science Monographs; New York: Distributed by Columbia University Press, 1983.

дастаў ад яго тэкст артыкулу, які ён туды выслаў. Ці артыкул гэты надрукуюць, а калі так, ці яго не абрэжуць дасужыя рэдактары, асабліва апошні яго сказ, дзе аўтар піша, што ў часы Скарыны *«культура беларуская іграла наймениш тую-ж ролю, як польская»,* — пабачым[776]. Для мяне ў артыкуле важна тое, што ён там узьняў тую справу, якую ў маёй зь ім гутарцы крануў я: чаму гэта польскія навукоўцы часта *«недабачваюць»* старое беларускае культуры й Скарыны? Калі Падуанскі ўнівэрсытэт гардзіцца Скарынам, і ягоны партрэт вісіць там у залі *«сараку»* найвыдатнейшых гадунцоў унівэрсытэту, дык Ягелёнскі Кракаўскі ўнівэрсытэт пра Скарыну, свайго выхаванка, навет і не заікнецца, негаворачы ўжо пра нейкі партрэт Скарыны ў вадной з актавых заляў унівэрсытэту. Вось у выніку гэтае мае заўвагі й дадзены ў артыкуле абзац пра Скарынаў партрэт у польскіх музэях. «Вядомосьці» — гэта ворган польскіх тутэйшых інтэлектуалаў эміграцыі. Яго чытаюць уважна і ў Варшаве ды Кракаве — можа, *«мэсэдж»* гэтак дойдзе да Кракаўскага ўнівэрсытэту, пра гэта падумаюць, і за гадоў 10–20 возьмуць прыклад з Падуі.

Што да Тваёй прапановы надрукаваць маё *«пасланіе»* да др. Садоўскага ў пытаньні мовы Скарыны, дык у падобным выглядзе друкаваць яго напэўна ня можна. Гэта звычайны ліст, пісаны на закладзеную ў машынку паперу, і таму там яшчэ шмат хаосу, стылістычных розных грахоў, недаказаў і паўтарэньняў. Адно важнае пытаньне там і знарок прапушчанае, пытаньне аб няправільным, але часта тарнаваным мэтадзе пры падыходзе да ацэны мовы Скарынавых перакладаў. Ня згадваў гэтага, каб лішне не дражніць нашага прафэсара[777], бо на справу гэтую калісьці ўжо зьвярнуў яму ўвагу пры друку ягонага артыкулу ў «Запісах», і зразумеў, што гэта яму не спадабалася, яго нэрвавала. Ідзе пра тое, што пры ацэне мовы Скарыны часта да ц.-славяншчыны прыдзяляецца татальна ўсё тое, што ў ёй супольнае для моваў і беларускай, і славянскай. Пры гэткім мэтадзе, прыкладам, словы *кніга, дзень, вада, рука, белы, чорны, муж, ліст, ты, мы, сто, нага, і, так, на, свет, сам, сабе* — і тысячы, тысячы іншых, напэўна больш палавіны скарынавай лексыкі, зусім беспадстаўна і аўтаматычна запісваецца на конта ц.-славяншчыны, асабліва калі словы гэтыя й правапісам крыху розьняцца ад нашага сучаснага правапісу. Падыход гэткі да мовы Скарыны, беларуса-палачаніна, напэўна няправільны. Трэба было-б падыходзіць якраз наадварот: толькі тое ўважаць за ц.-славянскае, чаго няма ў мове беларускай, а не наадварот. А гэткім якраз мэтадам зроблены выбар *«беларускіх»* словаў Скарыны ў артыкуле Садоўскага,

---

776 Артыкул быў надрукаваны. Гл.: Zimmer, Szczepan K. 400-lecie (sic!) pierwszej drukarni cyrylickiej w Wilnie // Wiadomości. № 42. Londyn, 1972. S. 3.

777 Маецца на ўвазе Янка Садоўскі.

які надрукаваны ў «Запісах», а які становіць разьдзел ягонай дысэртацыі. Маючы на ўвазе, што і ў сучаснай беларускай мове маса словаў у нас супольных з ц.-славянскай (як і іншымі славянскімі мовамі), для прыкладу, *хлеб, два, тры, для лес, бес* і г. д., дасужы *«дасьледнік»* мог-бы налічыць і ў нашай сучаснай мове больш 50 % ц.-славяншчыны! Вось гэты няправільны мэтад — аснова хвальшывых выснаваў і няправільных паглядаў на мову перакладаў Скарыны, і гэтага, нажаль, шмат хто недабачвае.

Папярэдні свой доўгі ліст пачынаў *«рэвеляцыяй»*, гэты-ж, ня менш доўгі, кончу сэнсацыяй: дэлегацыя БССР у ЮНЭСКО заблякавала прадажу ангельскае анталёгіі беларускае паэзіі Веры Рыч і дамагаецца яе зьнішчэньня дзеля неадпаведнае абгорткі (Пагоня!) і прамовы (з падзякаю для дзеячоў беларускае эміграцыі, з згадкаю 25 сакавіка і г. д). ЮНЭСКО прапануе *«кампраміс»* — гатовае надрукаваць на свой кошт новую абгортку з дубовым лістом заміж Пагоні, ды даць на ёй і на адвароце загаловачнае балонкі зацемкі, што выказаныя ў прадмове думкі толькі самое Веры Рыч!!![778].

5 красавіка 1972 г.

Высокадастойны Ўладыка[779]!

Навязваю сяньня да справы, што пару гадоў таму была кранутая Вамі ў лісьце — Скарынавае маркі. У маім адказе тады на Ваш ласкавы ліст я зьвярнуў увагу на тое, што чарговым адпаведным добрым часам на захады ў справе выданьня Скарынавае маркі будзе год 1975-ы, калі будуць прыпадаць 450-я ўгодкі паявы першае Скарынавае кнігі ў Вільні ды заснаваньне першае ў Беларусі і ўсёй усходняй Эўропы друкарні.

Дата гэтых угодкаў неспадзявана зьмянілася. Як хіба зацемілі зь весткі, пададзенай у лютавым нумары «Беларуса»[780], на аснове знойдзенага ў Каралеўскай Бібліятэцы Капэнгазе экзэмпляру Скарынавай Малой падарожнай кніжкі, цяпер устаноўлена й бяз усякіх сумлеваў, што гэтая кніжка была першым Скарынавым віленскім выданьнем ды надрукаваная яна была каля пачатку верасьня 1522 году. Значыцца, у верасьні сёлета прыпадаюць ужо 450-я ўгодкі пачатку друку на беларускай зямлі. А гэта значыць, што сёлета адпаведны час і на захады ў справе выданьня Скарынавае маркі.

---

778 Пра гэтую сітуацыю гл.: Будзіч, А. Савецкая канфіскацыя анталёгіі ЮНЭСКА // Беларус. № 179. 1972. С. 3.

779 Ліст мог быць адрасаваны ўладыку Андрэю (Крыту) у Кліўленд.

780 Маецца на ўвазе тэкст: Год 1522 — пачатак друку на Беларусі // Беларус. № 178. Люты 1972. С. 5.

Ці варта рабіць захады ў Амэрыканскім Кангрэсе ды Паштовых Уладаў у Вашынгтоне ў справе выданьня Скарынавае маркі — гэта трэба разважыць. Як ведама, украінцам дабіцца маркі Т. Шэўчэнкі[781], незважаючы на іхныя ўпорыстыя захады, ня ўдалося. Але напэўна можна й варта выдаць гэткую марку беларусом на эміграцыі. Хоць гэта будзе марка й не паштовая дзяржаўная, тым ня менш яна мае важнае нацыянальна-прапаганцкае значаньне. Філятэлістыка цікавіцца й гэткімі маркамі, а ёсьць і гэткія калектары, якія цяпер зьбіраюць толькі маркі неафіцыйныя.

На выдаванай сёлета Скарынавай марцы, зразумела, давядзецца акцэнтаваць і самую ўгодкавую падзею. Апрача імя й прозьвішча самога Скарыны, на ёй маглі-б быць напісы: 450 гадоў пачатку друку ў Беларусі. 1522 — Вільня — 1972[782].

Ці іншыя падобныя. Згадаць Вільню важна, паколькі яна цяпер улучана Масквой у межы Летувіскай ССР і, паколькі мне ведама, у годзе 1975 падсавецкія лятувісы плянавалі ў Вільні адзначыць 450-я ўгодкі *«пачатку друку ў Летуве»*.

Праекты маркі могуць быць, пэўна-ж, розныя, але калі-б на ёй быў скарыстаны партрэт Скарыны зь ягонае Бібліі, дык вельмі важна, каб партрэт гэты рэпрадукаваўся з фатаграфічнае рэпрадукцыі арыгіналу, пададзенае ў Нр. 5 «Запісаў», бач. 61, а ня зь яго тых ці іншых няўдалых перарысовак, што пераважна падаюцца ў сучасным падсавецкім друку, ды што была, на жаль, скарыстанай пры друку Скарынавае паштовай карткі ў 1953 г. у Нью Ёрку, якую тут разам далучаю. Зьвярніце ўвагу, які няўдалы, дэфармаваны выраз твару Скарыны на гэтай картцы!

Дык Шчасьці Божа!

Прывітаньні зь Нью Ёрка!

У глыбокай пашане Ваш

---

781 **Тарас Шаўчэнка** (укр. *Тарас Шевченко*, 1814–1861), украінскі пісьменнік, мастак, грамадскі дзеяч; заснавальнік новай украінскай літаратуры.

782 На выдадзенай Вітаўтам Тумашам у 1972 г. марцы былі надпісы: *«450-я ўгодкі друку ў Беларусі»*, *«Вільня 1522–1972»*, *«Малая падарожная кніжка»* і *«Др. Фр. Скарына 1485(?) — 1540»*.

8 ліпеня 1972 г.

Дарагая Натальля[783]!

Чуюся ў абавязку даць *«справаздачу»* з фонду выданьня Вашае кнігі. На 1.8.72 агульная сума на контах у ЗША і Канадзе на пару даляраў перакрочыла якраз мяжу 2000. Акцыя збору праводзіцца галоўна лістоўна. Тэмпа павальнее, бо хто ахвотна дае — ужо даў, а зь іншых трэба выціскаць. Пра абяцаныя біскупам Сіповічам 250 дал. тымчасам *«ні слуху, ні духу»*. Пры сучасным тэмпе прыплыву сумаў сумняваюся, каб ужо на *«Лайбор Дай»*[784] было магчыма даваць кнігу ў друк, як раней меркаваў.

Ёсьць і рэдакцыйныя перашкоды. Згодна з Вашым зычэньнем ужо колькі разоў прыгадваў сп. Адамовічу, што пара брацца за перагляд машынапісу, а галоўна — за пісаньне артыкулу, агляду творчасьці. Адмаўляўся усё, тымчасам моцна заняты нечым іншым. Калі колькі дзён таму ізноў успомніў пра гэта, адказ той самы, але з заўвагай, што ён ня пэўны, ці Вы і самі гэтага якраз хочаце (каб рэдагаваў ён) і што лепш было-б, каб Вы яму пра гэта напісалі асабіста. У часе вашых *«юбілейных»* наведзінаў Нью Ёрку думаў якраз пра гэта і я, каб Вы аб усім зь ім пагаварылі асабіста. Але выйшла нашая сустрэча гэткая куртатая, што пра гэта ўрэшце я забыўся. Дык напішэце!

Думаю таксама, што ў адрознасьць ад Купалавай «Спадчыны», у гэтай кнізе лепш будзе, ды больш *«мадэрна»*, даць артыкул, агляд творчасьці не перад паэзіяй, а пасьля, пры канцы кнігі. Гэтак зборнікі падобнага складу, *«сумарычныя»*, цяпер саліднымі выдавецтвамі выдаюцца — каб *«не засланяць»* галоўнага, самога паэты і ягонае творчасьці крытычнымі заўвагамі таго ці іншага аўтара. Бо-ж у гэтым выданьні галоўнае не *«агляды»*, а самая творчасьць. Гэта таксама дае нам больш часу для напісаньня падобнага артыкулу. Але брацца за яго ўжо пара, і Антося лістом *«падганіце»*.

У глыбокай пашане

Ваш

---

783 Ліст адрасаваны Наталлі Арсенневай.

784 ***Labor Day*** (англ.) — дзяржаўнае свята ў ЗША, якое адзначаецца ў першы панядзелак верасня.

5 жніўня 1972 г.

Вельмі Паважаны Высокадастойны Войча[785]!

Найперш дзякую за дасланыя фатастаты, якія ўсе маюць сваю цікавасьць. Для мяне былі-б патрэбныя й фатастаты артыкулу Анічэнкі[786] ў «Русская речь», Нр. 2, 1970[787], і М. С. Рыўкіна Вывучэньне гісторыі БССР[788]. Часапісу «Русская речь»[789] нашая тут бібліятэка ня выпісвае, няма ў ёй і кнігі Рыўкіна. Для мяне асабіста асабліва цікавы дасланы Вамі артыкул Галенчанкі «Партрэты першадрукароў» («Помнікі гісторыі й культуры»)[790]. Аўтар, бясспрэчна, пішучы яго, карыстаўся маім артыкулам «Партрэты доктара Скарыны» («Конадні», кн. 7, б. 138–151), хоць гэтым і ня хваліцца. Гэта там я падаў і пра знаход варыянту партрэту Скарыны ў ягонай кнізе ў Бібліятэцы Брытанскага Музэю ў 1957 яшчэ годзе (б. 142), і пра пазьнейшыя заўвагі Зярновай. Больш нідзе аб гэтым ніхто не пісаў. Цікава для мяне й тое, што Галенчанка, нібы адмысловец гісторыі старога беларускага друку, піша пра партрэты Скарыны, але і дагэтуль не арыентуецца, што арыгінал, а што няўдалая перарысоўка. Памешчаны ў ягоным артыкуле ў рэпрадукцыі партрэт Скарыны — гэта якраз не фатарэпрадукцыя з арыгіналу, а перадрук паганай вельмі ручной перарысоўкі гэтага партрэту, зробленай яшчэ на пачатку XIX ст. расейскім граверам Флоравым. Нажаль і дагэтуль, на вялікую крыўду й для Скарыны, і для ягонага гравера-мастака, гэты мізэрны фальсыфікат і дагэтае пары ўсё паўтараюць у друку і ў СССР, і замежамі. Нажаль, трапіла гэтая перарысоўка й на плякат выстаўкі Публічнай Бібліятэкі Нью Ёрку, бо перад выкананьнем не парадзіліся са мной аб гэтым (хоць радзіліся ў іншых справах, зьвязаных з выстаўкай), друкаваў яе і Ваш «Белорашэн Журнал» пры артыкуле Пікарды пра гравюры Скарыны[791]. Рэпрадукаваў гэтую мізэрную копію гадоў 20 таму назад і я, калі яшчэ ня быў сьведамы таго,

---

[785] Ліст адрасаваны а. Аляксандру Надсану.

[786] **Уладзімір Анічэнка** (1924–2001), мовазнаўца, доктар філалагічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР.

[787] Маецца на ўвазе артыкул: Аниченко, В. Франциск (Георгий) Скорина // Русская речь. № 3. Москва, 1970. С. 77–82.

[788] **Міхаіл Рыўкін** (1931–2001), гісторык. Маецца на ўвазе публікацыя: Рыўкін, М. Вывучэнне гісторыі БССР у VII—VIII. Мінск, 1968. С. 76–79. Тут пададзены метадычныя рэкамендацыі па вывучэнні Ф. Скарыны ў школе.

[789] ***«Русская речь»*** — навукова-папулярны часопіс, які выдаецца ў Маскве ад 1967 г.

[790] Галенчанка, Г. Партрэты першадрукароў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. № 1. Мінск, 1972. С. 26–28.

[791] Гл.: Pichura, G. The Engravings of Francis Skaryna in the Biblija Ruska (1517–1519) // The Journal of Byelorussian Studies. Vol. 1. № 3. London, 1967. P. 147–167.

што арыгінал, а што толькі паганая перарысоўка. У сувязі зь сёлетнімі ўгодкамі намагаюся на гэтую памылку зьвярнуць увагу ў друку ды, галоўна, пашырыць фатарэпрадукцыю арыгіналу, найлепшага яго варыянту, з Кнігі Быцьця. Дзеля гэтага выдаў ужо і ўгодкавую паштоўку з рэпрадукцыяй гэтага партрэту, якую тут разам пасылаю[792]. Пасылаю разам і паштоўку з рэпрадукцыяй паганае перарысоўкі, выдадзеную 20 гадоў таму. Хопіць затрымацца на пару сэкундаў на твары Скарыны арыгінальнага дрэварыту і пасьля на на ягонай твары на перарысоўцы, каб заценіць, што ў першым выпадку мастак перадаў нам партрэт інтэлігентнага, вучонага мужа, а на другім — выпаў твар нейкага прытаўсьцелага прыдуркаватага чалавека.

За дасыланыя Вамі рэпрадукцыі гэтымі днямі вышлю на Вашае прозьвішча для бібліятэкі нейкіх 200 экз. угодкавых паштовых картак для іх пашырэньня й тут, і пры першайнагоднае для перасылкі ў БССР пры той ці іншай карэспандэнцыі. Калі-б пазьней аказалася, што яны вам прыдатныя й трэба іх больш — магу даслаць.

Як бачыце з выдадзенае паштоўкі, я тут пачаў ужо *«абыходзіць»* угодкі друку на беларускай зямлі. Прапхаў гэтую тэму й на Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, хоць не бяз бою — былі й пратэсты!!! Думаю, паколькі ўгодкі гэтыя — вынік Вашага адкрыцьця — будзеце адзначаць іх і ў Лёндане. Трэба, бо ў СССР ці раз ужо пішуць, што Скарына пачынальнік друку Літвы, бо-ж друкаваў у *«Вільнюсе»*! Ці не маглі-б перадаць сп. Пікардзе ідэю, каб ён парупіўся выдаць пры нагодзе юбілейную марку Скарыны для адзначэньня гэтых угодкаў. Для гэткага дасужага філятэліста, які патрапіў сарганізаваць беларускую пошту ў Брытаніі[793], гэткая справа лёгкая, дробная рэч. А і паштовая марка[794] (ды яшчэ з гатовай паштовай карткай) маюць сваё значаньне, і памогуць нашым беларускім патрыётам у БССР рабіць націск на каляніяльныя ўлады рэспублікі, каб выдалі ўсё-ж калі-небудзь і марку для Скарыны. Масква свайго Івана Фёдарава рэклямавала на паштовых марках ужо дзясяткі разоў.

Прывітаньні зь Нью Ёрку!

У глыбокай пашане Ваш

---

792 Маецца на ўвазе паштоўка «Доктар Франьцішак Скарына» з выявай партрэту з гравюры. Выдадзеная Беларускім інстытутам навукі і мастацтва да 450-х угодкаў беларускага кнігадрукавання. Нью-Ёрк, 1972.

793 Маецца на ўвазе арганізаваная з ініцыятывы Гая Пікарды ў часе паштовага страйку «Пошта ЗБВБ». Падрабязней пра гэта гл.: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 220–223.

794 Марка была выдадзена самім Вітаўтам Тумашам ад імя БІНіМа ў 1972 г.

19 жніввеня 1977 г.

Дарагая Раіса!

Даходзілі да мяне чуткі, што Ты *«прыхварэла»*, бо *«прастудзілася»*. Зь ліста Валі[795] толькі сяньня даведаўся, што было нешта шмат паважнейшае за прастуду, бо праляжала ў ложку аж два тыдні. Запаленьне лёгкіх хіба ці нейкае іншае нядобрае ліха. Быццам і цяпер яшчэ ня вельмі моцная. І пра ўсё гэта Ты ні слова не напісала, відаць — ня было сілаў пісаць. Я рады чуць, што найгоршае ўжо мінула ды паволі варочаешся да свайго заўсёды маладога нармальнага выгляду. Найважнейшае цяпер направіцца так грунтоўна, каб ніякіх *«хвастоў»* не засталося. Дык даглядай сябе, пільнуйся, дужэй.

Паправіцца хутка патрэбна й на тое, каб за месяц магла паехаць да Нью Ёрку. 20 верасьня прыяжджаюць сюды на выступы «Песьняры»[796], маюць прабыць больш двух тыдняў. Разам зь імі ў праграме і яшчэ нейкія ансамблі. Але «Песьняры» будуць даваць быццам паважную частку праграмы. Пра дэталі паведамлю, як будзем іх знаць.

Разам перасылаю, каб не забывалася пра Скарыну й скарыністых — і сьціплы падарак, адбітку аднае мае працы. Драматычная гісторыя гэтае адбіткі, *«мэтрыка»* яе нараджэньня гэткая: калі друкавалася скарынінская кніжка «Запісаў» у 1970 г, у друкарні я заказаў адбітку з працы «Скарына ў Падуі». Гэта першая так грунтоўна дакумэнтаваная ды шырэй напісаная праца пра Скарынаву лекарскую дзейнасьць і асабліва пра вельмі яскравы яе пачатак — экзамены ў Падуі ды ўрачыстае прамоцыі на *«доктара лекарскіх навук»*. Падобных працаў у скарынаведнай літаратуры няма. Пасьля таго, як адаслаў друкарні апошнія карэктурныя адбіткі кніжыцы, з друкарняй абарваліся ўсякія кантакты. Толькі з часам даведаўся, быццам было гэта ў выніку вялікага адміністрацыйна фінансавага краху, дырэктар парабіў аграмадныя даўгі ды расьпіўся. У мяне аднак-жа захавалася адна копія карэктурнае адбіткі кніжкі, цяпер гэта ўнікат скарыніяны XX ст. Каб часам і з гэтым *«унікатам»* нешта ня сталася ды каб і ён бясьсьледна не загінуў — зрабіў колькі зэрасных копіяў[797]. Адну ўжо мае тут Публічная Бібліятэка, адна-ж — у Тваіх руках з ласкавай просьбай прыязна сустрэць гэтага нечаканага госьця.

Ды цяпер найважнейшае, каб Ты хутка папраўлялася, дужэла ды магла паказацца за месяц у Нью Ёрку й ня толькі паслухаць, але пабачыць «Песьняроў». Хіба ўжо й час напісаць колькі словаў пра сябе, пра сваю ліхую хваробу ды як чуешся. Чакаю!

---

[795] Маецца на ўвазе **Валянціна Пашкевіч** (дзяв. Жукоўская, 1916–2004), грамадская дзяячка, педагог, сястра Раісы Жук-Грышкевіч.

[796] **«Песняры»** — вакальна-інструментальны ансамбль, створаны Уладзімірам Мулявіным у Мінску ў 1969 г.

[797] Маюцца на ўвазе ксеракопіі.

Прывітаньні Абаім!
Твой

2.10.1977

Дарагая Раіса!

З адказам на Твае лісты затрымаўся, чакаў весткі, што ўжо вярнулася з Атава Рывэр[798]. Прывёз гэтую вестку Бортнік[799]. Цешуся, што Ты ўжо вярнулася да добрага здароўя ды да свае пэрманэнтнае маладосьці. Непрыемная прыгода з хваробай напамінае патрэбу больш дбаць пра сваё здароўе.

Што да Песьняроў — Твой прагноз правільны, што *«будуць рабіць маскоўскую работу»* (хоць гэтым разам гэта й не ўдалося) ды спраўдзіліся Твае словы, што лепш бадай заставацца нам зь Песьнярамі першае патэфоннае пліткі.

Быў на першым выступе 20.09, на прэм’еры. Заля, на нейкіх 1200 месцаў, была блізу поўная. У першым радзе сядзеў, абсаджаны *«телохранітелямі»*, савецкі амбасадар Дабрынін[800]. Нашых было пад чалавек 100. Білеты ў цане 8.00–17.50, буднімі іншымі днямі — 7.00–15.00. Праграма была на 2 гадзіны, падавалася пад агульным назовам «Эстрада», складзеная зь нейкіх 7 вельмі розных выканаўцаў. У вакальнай галіне — Песьняры ды грузінскі ансамбль Орэра[801] зь сьпявачкай, балетныя нумары давалі пачынаючыя танцоры маскоўскага «Бальшога»[802], даходзілі да гэтага розныя нумары цыркавыя, акрабатычныя, жанглёрскія, пантынамічныя ды камічныя. Адным словам, *«як у жыдоўскай краме»*. З праграмы выглядала, што маскоўскія мантатары «Эстрады» ды ейныя кіраўнікі ня ставілі сабе нейкіх высокіх мастацкіх заданьняў, тварылі паказ тыпу *«варыетэ»*.

Заданьні паказу палітычныя былі выразныя: пачынаўся выступ з усімі ўдзельнікамі на сцэне, якія пяюць «Падмасковыя вечара»[803], песьню, якая і ў Нью Ёрку даўно выйшла з моды. Фінальная-ж сцэна — гэта таксама супольная ўсіх песьня сталінскіх яшчэ часоў — *«я другой та-*

---

[798] ***Ottawa River*** (англ.) — рака Атава ў Канадзе, у правінцыях Антарыя і Квэбэк.

[799] **Уладзімір Бортнік** (1910–1988), грамадскі дзеяч, журналіст. Выдавец газеты «Бацькаўшчына», нязменны старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Нямеччыне.

[800] **Анатоль Дабрынін** (рус. *Анатолий Добрынин*, 1919–2010), савецкі дыпламат, у 1962–1986 гг. — амбасадар СССР у ЗША.

[801] **«Орэра»** — грузінскі вакальна-інструментальны ансамбль, створаны ў Тбілісі ў 1958 г.

[802] Маецца на ўвазе Вялікі тэатр оперы і балета ў Маскве.

[803] ***«Подмосковные вечера»*** (рус.) — папулярная савецкая песня паваеннага часу. Створана ў 1955 г. Музыка Васіля Салаўёва-Сядова, словы Міхаіла Матусоўскага.

*кой страны не знаю, где так вольно дышет человек»*[804]. Дык дадзенае «Эстрадзе» прапаганднае заданьне — паказаць, як шчасьліва жывуць, пяюць, танцуюць народы імпэрыі пад уладаю савецкае Масквы.

Пасьля «Падмасковых вечароў» ды нейкага цырковага нумару расейскі танец «Корабейнікі», выкананы танцоркамі «Бальшога», якія далі й колькі іншых нумароў першае часткі праграмы. Танцоркі зь іх слабые, слабое й выкананьне, часам бывае ўражаньне нейкае неарганізаване мітусьні на сцэне, а не прафэсійнага балету.

Тады зьявіліся Песьняры, сустрэтыя нашымі авацыямі. Выканалі толькі чатыры песьні — тры беларускія і адну ангельскую. Выглядам, касьцюмамі паказаліся няблага. Але ўсе беларускія песьні нам нічога новага — усе зь першае іхнае пліткі: «Ой, рана на Івана», «А ў полі вярба», «Александрына». Пасьля кажнае песьні нашыя рабілі галас, шум, падбадзёрвалі па-беларуску, і Песьняры адчулі, што маюць на залі падтрыманьне ад сваіх, падобных авацыяў ня было іншым выканаўцам. Пяялі і ігралі дзёрска, з тэмпэрамэнтам, ды, нажаль, зь віны іхнае ці галасьнікоў залі, бразгат ды грукат іхнае апаратуры заглушаў часта й самую мэлёдыю ды моцна падсякаў музычны эфэкт. Як Ты й здагадвалася, выпалі яны горш на сцэне, як на першых маскоўскіх патэфонных плітках, наіграных у зацішным студыё, выпраўленыя, збалянсаваныя, адшліфаваныя. Яшчэ большага галасу нарабіла пазьней грузінская Орэра з праграмай нейкай цыганска-кабэрэтнай, уключна з расейскай сталінскае пары песьняй «Сердце»[805]. Найбольш дасканалая выпала пара цыркавых нумароў з цудамі эквілібрыстыкі, ды гэта ўжо зусім іншае мастацтва. У цэлым праграма аказалася нізкаякаснай, найгорш у балетнай і вакальнай частцы, хоць Песьняры зь іх яшчэ найлепш выпалі, але ўсё іншае і іх пацягнула моцна ўніз, і гэтага нью ёрская крытыка ім недаравала. «Ню Ёрк Таймс»[806] назаўтра пісаў, што ўся «Эстрада», за выняткам паасобных цыркавых нумароў, да нічога, адны Песьняры яшчэ выпалі крыху лепш, але і яны горш сябе паказалі, як у часе сваіх папярэдніх выступаў. Усё-ж іншая прэса ў Нью Ёрку, уключна з «Новым Русским Словом», татальна зганіла, назвала «Эстраду» трэцяраднага ўзроўню паказам.

Пасьля гэткага *«прывітаньня»* прэсы ў дні наступныя заля на выступах «Эстрады» пачала пусьцець, а часам была й зусім пустая, і ў суботу ўжо, на пяты дзень, быў дадзены апошні выступ, хоць мелі

---

[804] Маецца на ўвазе ***«Песня о Родине»*** (або *«Широка страна моя родная»*), напісаная ў 1936 г. для кінастужкі «Цырк» Васілём Лебедзевым-Кумачом і Ісакам Дунаеўскім.

[805] Маецца на ўвазе песня ***«Сердце»*** (*«Сердце, тебе не хочется покоя»*). Словы Васіля Лебедзева-Кумача, музыка Ісака Дунаеўскага. Стала вядомай у выкананні Леаніда Уцёсава ў кінастужцы *«Весёлые ребята»*.

[806] ***«The New York Times»*** — трэцяя па папулярнасці пасля *«The Wall Street Journal»* і *«USA Today»* газета ў ЗША. Заснаваная ў 1851 г.

выступаць у Нью Ёрку да 10.10, а пасьля тры месяцы езьдзіць па іншых местах ЗША. Адным словам, татальны правал, хоць Песьняры то крытыку ўлічылі і ў далейшыя дні гралі-пяялі бяз гэткага галасу, але «Эстрады» ўжо ня выратавалі. Пасьля тыднёвага зьбянтэжанага чаканьня, што загадае Масква рабіць далей, прышоў урэшце загад — вяртацца дамоў. Заўтра адлятаюць.

Дзякуючы таму, што ўвесь тыдзень сядзелі *«бесработнымі»*, зь Песьнярамі навязалі кантакт нашыя суродзічы, галоўна др. Запруднік, Данчык Андрусышын[807] і «дзяўчаты» сэкстэту «Гоман». Колькі разоў спатыкаліся ды гутарылі зь імі ў гатэлі, дзе яны затрымаліся, гасьцілі іх у сябе — у Андрусышыных, у Романо, Заморскіх. Прыходзіла пераважна па 3 чалавекі, без кіраўніка Мулявіна[808], шмат пілі, елі, пяялі, гутарылі. Па-беларуску гавораць ня ўсе. Мулявін, паводле ягоных словаў, народжаны ў Расеі, але з бацькоў беларусаў, якія там засталіся як бежанцы ў Першую Сусьветную вайну, бацькі паходзяць нейдзе з-пад Баранавічаў. Ягоная беларуская вымова ў сьпеве дасканалая, але гутарыць толькі па-расейску. Усіх іх уразіла, што ў Нью Ёрку ёсьць беларусы, і не адзін, што ўсе гавораць лепш па-беларуску, як у Менску, слухалі й дзівіліся. Калі нехта *«раіў»*, каб як будуць ехаць іншым разам на выступы ў ЗША, крыху падвучыліся ангельскае мовы, Мулявін на гэта кінуў рэпліку, што ў першую чаргу ім трэба яшчэ добра навучыцца па-беларуску.

Нашыя, разьмякчаныя выпіўкай, наважылі ськівуцца на падарак — нейкі вельмі важны ды мадэрны электранічны кантрольны інструмэнт, патрэбны для ансамбля, які каштаваў 700 дал. Купілі таксама шлюбны падарак для Вольгі Корбут[809], шубу, з тае прычыны, што адзін зь Песьняроў пасьля павароту мае браць зь ёю шлюб (калі не раздумаецца ды ня *«выкруціцца»*, гэта Лявон Барткевіч[810], ужо раз разьведзены).

Сума-сумарум: палітычна няма што шкадаваць, што «Эстрада» правалілася, хоць праз яе пацярпелі й Песьняры. Мулявіну падаравалі «Спадчыну» Купалы Інстытуту ды «Край мой васільковы» Зубковіч[811].

---

807 **Багдан Андрусышын** (**Данчык**, нар. 1958), народжаны ў Нью-Ёрку беларускі спявак, журналіст, грамадскі дзеяч.

808 **Уладзімір Мулявін** (1941–2003), народны артыст Беларусі, кампазітар, заснавальнік вакальна-інструментальнага ансамбля «Песняры».

809 **Вольга Корбут** (нар. 1955), гімнастка, чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка.

810 **Леанід Барткевіч** (нар. 1949), спявак і музыка, удзельнік «Песняроў». У 1977 г. ажаніўся з Вольгай Корбут.

811 **Эльза Зубковіч** (дзяв. Пілеман, 1895–1983), спявачка, піяністка, кампазітар, педагог. Жыла ў ЗША. У 1972 г. выйшаў яе зборнік рамансаў «Край мой васільковы» — на вершы Я. Коласа, А. Гаруна, М. Кавыля, Н. Арсенневай.

Сам ён казаў, што *«Купала — ягоны паэта»*. Нью Ёрскія кантакты хіба падмацуюць Песьняроў і маральна, і нацыянальна.

На разьвітаньне — дасканала захаваўся сымбаль Канады, чырвоны лісток клёну. Восень насоўваецца ўжо і ў нас, а за ёй і зіма. Даглядай сябе добра, каб ізноў не прастудзілася.

Твой

21.10.1977 г.

Дарагія![812]

Ваш ліст празь Яню[813] дастаў. Рэфэрат пра Гусоўскага[814] плянуецца на 5 лістапада. Было-б добра дастаць да таго часу ці ўступ, ці нейкі іншы адрывак ягонае «Песьні» ў Вашым перакладзе, каб прысутныя маглі мець лепшае ўяўленьне й пра паэму Гусоўскага, і аб вашым перакладзе.

*«Лішніх»* 70 радкоў расейскага перакладу «Песьні»[815] немагчыма знайсьці, бо яны не дапісаныя ў нейкім адным ці колькі мясцох, а паўсталі таму, што зьмест радкоў лацінскіх перакладчыкам ня тоўпіўся ў той самы лік радкоў іхных, і сям-там стуль паўсталі дадатковыя радкі, якія раськіданыя па ўсёй паэме. У гэтай справе кансультавацца добра перакладам польскім Каспровіча[816], які строга трымаўся ліку радкоў арыгіналу ды й самыя радкі даў навет крыху карацейшымі, дзеля гэтага ягоны пераклад больш *«кампактны»*, бязь ніводнага лішняга радка.

Справа выданьня «Між берагамі»[817] зацягваецца немагчыма доўга зь вялікай маральнай шкодай для Інстытуту, Аўтару й нашай тут літаратуры, і ўсё яшчэ не відаць, калі гэта ўсё скончыцца.

Прывітаньні.

Ваш

---

[812] Гэты і наступныя лісты з аналагічным зваротам адрасаваныя Наталлі Арсенневай.

[813] Маецца на ўвазе сяброўка Наталлі Арсенневай **Яніна Каханоўская** (дзяв. Шабуня, 1905–2005), грамадская дзяячка, пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, першая жонка Аўгена Каханоўскага. Жыла ў Нью-Ёрку.

[814] **Мікола Гусоўскі** (каля 1470 — 1533), паэт, гуманіст, дзеяч эпохі Адраджэння. Найбольш вядомы яго твор — паэма «Песня пра зубра», напісаная на лацінскай мове.

[815] Відаць, маецца на ўвазе пераклад Віктара Дарашкевіча, Якава Парэцкага, Язэпа Семяжона.

[816] **Ян Каспровіч** (польск. *Jan Kasprowicz*, 1860–1926), польскі паэт, драматург, літаратурны крытык. У 1914 г. пераклаў на польскую мову паэму Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра».

[817] Маецца на ўвазе збор паэзіі Наталлі Арсенневай.

1.3.1978 г.

Дарагія!

Хіба ўжо вярнуліся з-пад сонца Флярыды ды ў сьнягі Рачэстэру[818], і час цяпер адказаць на Ваш апошні ліст. Найперш — пра Гусоўскага.

Што Каспровічаў пераклад мала паэтычны, гэта праўда, і гэта часткова якраз таму, што пераклад ягоны пэдантычна дакладны. Гайнэ[819] калісьці пісаў, што зь перакладам паэзіі нешта падобнае, як з жанчынамі: калі праўдзівы, дык брыдкі, калі-ж прыгожы, дык хвальшывы. Хоць здараецца, пэўна-ж, што і ў Каспровіча сям-там нешта пры перакладзе выпадзе, ды галоўная прычына таго, што шмат чаго ў яго няма, што ёсьць у перакладзе расейскім, гэта тое, што там перакладчыкі шмат чаго дапісалі і ад сябе. Таму расейскі пераклад на 70 радкоў даўжэйшы за арыгінал. Памылка будзе малая, прыняўшы за правіла, што ўсё, чаго няма ў Каспровіча, а ёсьць у перакладзе расейскім, гэта *«сачынілі»* ды дапісалі Гусоўскаму перакладчыкі. Асабліва дасужы з дапісваньнем аўтарам рознае свае *«адсябяціны»* Семяжон[820].

Што да *«тэхнікі»* перакладаньня *«пад імпэт»*, дык гэта часта бадай правіла агульнае пры ўсякім пісаньні, навет і публіцыстычных артыкулаў: калі ёсьць настрой, пісаць, накідаць якнайхутчэй, ня стрымліваючыся над тым ці іншым няўдалым словам ці выказваньнем. Але апрацоўваць пасьля сыры накід, *«адшліфоўваць»*, трэба паволі, уважна, не шкадуючы на гэта часу й працы.

Што да *«сабатажніка»*[821]: у студзені быў ён колькі тыдняў у Эўропе ды парабіў там сабе фатастаты з «Калосься», «Летапісу» ды іншых заходня-беларускіх выданьняў рэцэнзыйных артыкулаў пра Вашу паэзію. Цяпер гэта ўсё *«вывучае»* ды зьбіраецца днямі *«пачаць»* пісаць, і трэба яму даць на гэта час. Яшчэ перад адлётам у Эўропу быў навет накінуўшы колькі бачынаў алавіком ды хацеў слаць Акуле[822] для набору. Я параіў з наборам колькіх бачынаў пачакаць, пакуль будзе гатовая цэласьць, бо тады найчасьцей даводзіцца зьмяняць яшчэ раз і пачатак, каб усё разам добра *«іграла»*. Дык, выглядае, трэба і яшчэ крыху пачакаць, а ну-ж урэшце зьявіцца даўно чаканае *«натхненьне»*.

Ваш

---

818 Наталля Арсеннева ад сярэдзіны 1960-х гг. жыла ў Рочэстэры (штат Нью-Ёрк) разам з сынам і ўнукамі. Аднак на зіму часам выязджала ў Фларыду.

819 Маецца на ўвазе **Генрых Гейне** (ням. *Christian Johann Heinrich Heine*, 1797–1856), нямецкі паэт, публіцыст, крытык.

820 **Язэп Семяжон** (1914–1990), перакладчык і паэт. У 1973 г. зрабіў пераклад «Песні пра зубра» на беларускую мову.

821 Маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

822 Кастусь Акула працаваў у друкарні і меў магчымасць набіраць кнігі для друку.

24.10.1978

Дарагія!

Шлю, як прасілі, пачатак «Песьні пра зубра». Добра, што справа перакладу зьбліжаецца да канца. Пасьля канчатковае адшліфоўкі цэласьці можна будзе думаць і пра друк.

Што да кнігі «Між берагамі»: Акула пачаў набіваць артыкул Адамовіча, але якраз пачаўся страйк канадыйскіх паштавікоў, і на нейкі час паштовая сувязь з Канадай абарвалася. Немагчыма перасылаць ні карэкты, ні іншых матар'ялаў. Гэта справу выданьня кнігі ізноў замарудзіць на тыдні, а можа й на месяцы.

Яня[823] перадала Вашую просьбу, каб зьмяніць апошні радок вершу «Палеглым», — гэта будзе зроблена. Пасьля загаловачных бачынаў кнігі, на б. 5 маеісьці Ваш партрэт, маляваны Мірановічам[824], пасьля-ж пустой бачыны 6-й, на б. 7-й будзе дадзена *«энцыкляпэдычная»* даведка па-ангельску пра аўтара кнігі ды ейную творчасьць (пісаная не Адамовічам). Яна ўжо перакладаецца на ангельскую мову, як будзе перакладзеная — перашлем для апрабаты.

Для кнігі рыхтуецца й бібліяграфія: публікацыя Вашых твораў (зборнікі, друкаваныя цыклі вершаў); творы, пакладзеныя на музыку (лібрэты опэраў, песьні); пераклады вершаў на іншыя мовы — ангельскую, польскую, украінскую); Вашыя пераклады твораў іншых паэтаў — Гётэ[825], Міцкевіча, Гаўптмана[826], Кляйста[827], Лабадоўскага[828] ды іншых; вашыя пераклады опэрных лібрэта і — нарысы, артыкулы, рэцэнзіі на Вас і Вашыя творы.

Гэткая бібліяграфія дадасьць выданьню *«акадэмічную»* сьцісласьць. Для рыхтаванае бібліяграфіі патрэбная й Вашая дапамога: ці не маглі-б падаць усё, што Вамі было перакладзена з опэрных лібрэтаў для менскага тэатру. Што з гэтага праўда, а што толькі «лягенда», што перакладзеныя Вамі тады былі лібрэты: «Вясельле Фігара»,

---

823 Яніна Каханоўская.

824 Пётра Мірановіч.

825 **Ёган Вольфганг фон Гётэ** (ням. *Johann Wolfgang von Goethe*, 1749–1832), нямецкі пісьменнік, навуковец.

826 **Герхард Гаўптман** (ням. *Gerhart Johann Robert Hauptmann*, 1862–1946), нямецкі драматург, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1912 г. Наталля Арсеннева пераклала яго казачную драму «Затонуты звон».

827 **Генрых фон Кляйст** (ням. *Bernd Heinrich Wilhelm von Kleist*, 1777–1811), нямецкі драматург, паэт, празаік. Наталля Арсеннева пераклала яго камедыю «Разбіты кубак».

828 **Юзаф Лабадоўскі** (польск. *Józef Łobodowski*, 1909–1988), польскі паэт. Наталля Арсеннева пераклала яго верш «Эротык».

«Чарадзейная Жалейка» Моцарта[829], «Сэвільскі цырульнік» Расіні[830], «Вольны стралец» Вэбэра[831], «Кармэн» Бізэ[832], «Аўген Анегін» Чайкоўскага[833], «Гэнзэль і Грэтэль» Гумпэрдынка[834], «Цыганскі барон» Штраўса[835].

Гэта ўсё згадвалася ў розных пра Вас артыкулах. Папраўце (што няправільнае, дапоўніце, што прапушчана). Разам напішэце, якія Вам ведамыя пераклады Вашых вершаў на іншыя мовы, ды дзе яны друкаваліся. Сёе-тое з гэтага ў нас ёсьць, але лепш было-б нічога не прапусьціць.

Прывітаньні.

Ваш

12 сьнежаня 1979 г.

Дарагія!

Спадзяюся, што пераклад «Песьні пра зубра» ўжо блізкі да завяршэньня. Надоячы ў «Нёмане»[836] зьявіўся артыкул менскага лацініста Я. Парэцкага[837] пра некаторыя асаблівасьці мовы й вобразнасьці Гусавяніна ў «Песьні пра зубра». У артыкуле Парэцкі дае колькі цытатаў у сваім новым, вельмі ўжо дакладным перакладзе на расейскую мову.

---

[829] **Вольфганг Амадэй Моцарт** (ням. *Wolfgang Amadeus Mozart*, 1756–1791), аўстрыйскі кампазітар. Наталля Арсеннева пераклала лібрэта яго опер «Вяселле Фігара» і «Чароўная жалейка» для Мінскага гарадскога тэатра ў 1942–1943 гг.

[830] **Джаакіна Расіні** (італ. *Gioacchino Rossini*, 1792–1868), італьянскі кампазітар, адзін з найбольш значных оперных кампазітараў XX ст. Яго оперу «Севільскі цырульнік» Наталля Арсеннева не перакладала.

[831] **Карл Марыя фон Вебер** (ням. *Carl Maria von Weber*, 1786–1826), нямецкі кампазітар, дырыжор, піяніст. Наталля Арсеннева пераклала лібрэта яго оперы «Вольны стралец» для Мінскага гарадскога тэатра ў 1942–1943 гг.

[832] **Жорж Бізэ** (фр. *Georges Bizet*, 1838–1875), французскі кампазітар, аўтар аркестравых твораў, рамансаў, фартэпіянных п’ес, а таксама опер. Наталля Арсеннева пераклала лібрэта яго найбольш вядомай оперы «Кармэн» для Мінскага гарадскога тэатра ў 1941 г.

[833] **Пётр Чайкоўскі** (рус. *Пётр Чайковский*, 1840–1893), расійскі кампазітар, дырыжор, педагог. Наталля Арсеннева пераклала тэксты арый яго оперы «Яўген Анегін».

[834] **Энгельберг Гумпердынк** (ням. *Engelbert Humperdinck*, 1854–1921), нямецкі кампазітар. Лібрэта яго твораў Наталля Арсеннева не перакладала.

[835] **Ёган Штраўс-сын** (ням. *Johann Strauß*, 1825–1899), аўстрыйскі кампазітар, дырыжор, скрыпач, «кароль вальса». Лібрэта яго аперэты «Цыганскі барон» Наталля Арсеннева пераклала для Мінскага гарадскога тэатра ў 1942 г.

[836] **«Неман»** — літаратурна-мастацкі і грамадска-публіцыстычны часопіс на рускай мове, што выдаецца ў Мінску ад 1945 г.

[837] **Якаў Парэцкі** (1913–1992), літаратуразнаўца, перакладчык, мовазнаўца.

Гэтыя цытаты ў артыкуле я пападчырківаў, бо яны могуць быць у Вашай працы цікавымі й могуць часам прыдацца.

Якраз учора дастаў зь Вільні, празь Яню[838], кніжку-пераклад «Песьні пра зубра» на літоўскую мову Б. Казлаўскаса[839]. Пераклад вельмі дакладны — радок у радок — хоць менш паэтычны за пераклад на мову расейскую. Дзеля свае дакладнасьці ён карысны (хто ведае лятувіскую мову!) для кансультацыі месцаў няясных.

Ужо ў ліпені выслаў Вашую з аўтографам кнігу[840] для Л. Геніюш, выслаў паветранаю поштаю, заказным — яна не дастала яе й дагэтуль. Просіць у лісьце, калі кніга вернецца, захаваць яе ды пры нагодзе пераказаць унукам (у Польшчы). Ясна, што адсылаць савецкая пошта ніколі не адашле.

Прывітаньні!

Ваш

10 студзеня 1980 г.

Дарагія!

Апошняя частка перакладу «Песьні пра зубра» надыйшла. Добра, што ўрэшце закончаная галоўная, аснаўная праца, хоць перад друкам добра будзе яе яшчэ раз пераглянуць. Пераклад бязумоўна добры з паэтычнага боку і з гледзішча мовы, якая багатая, *«чыстая»*; рытмічны бок перакладу вытрыманы, настрой паэмы XVI ст. добра перададзены. Калі-б гэта быў пераклад з арыгіналу, сям-там сёе-тое падправіўшы, *«адшліфаваўшы»*, можна было-б даваць і ў друк. Але паколькі даводзілася перакладаць у васнаўным зь перакладаў, давядзецца ўвесь тэкст яшчэ ўважна пераглянуць, каб у меру магчымасьці выэлімінаваць зь яго тое, што ўведзена ў паэму ў перакладзе расейскім, а чаго няма ў арыгінале. Лікам радкоў пераклад выпаў добра, бо толькі на 32 радкі даўжэйшы ад арыгіналу (расейскі пераклад даўжэйшы на 72 радкі).

У сувязі з закончанаю працаю над перакладам доктару Запрудніку я даў беларускі пераклад «Песьні» Я. Семяжона[841] з просьбаю, каб ён зрабіў фатастатычную копію ды Вам выслаў. Будзе цікава Вам яе прачытаць. Характарыстыку ды ацэну Семяжонавага перакладу я даў у апошняй 15-й кнізе «Запісаў»[842], хіба гэта там чыталі. Месцамі

838 Яніна Каханоўская.

839 Husovianas, Mikalojus. Giesmė apie stumbrą / iš lotynų kalbos vertė Benediktas Kazlauskas. Vilnius: Vaga, 1977. — 104 p.

840 Маецца на ўвазе толькі выдадзены збор паэзіі Наталлі Арсенневай «Між берагамі» (Нью-Ёрк — Таронта, 1979).

841 Гл.: Гусоўскі, Мікола. Песня пра зубра / пераклаў з лацінскай мовы Я. Семяжон. Мінск: Мастацкая літаратура, 1973. — 94 с.

842 Маецца на ўвазе тэкст: Максімовіч, Р. Мікола Гусоўскі. Песьня пра зубра. Пераклад Я. Семяжона. Мн., 1973. [Рэц.] // Запісы БІНіМ. № 15. Нью Ёрк, 1977. С. 103–109.

ён навет неблагі, але як цэласьць немагчымы, бо гэта ў заўпраўднасьці не пераклад наагул, але палітычная пераробка, а месцамі й проста хвальшаваньне паэмы XVI ст.

Што да далейшае працы над *«дасканальваньнем»* перакладу, дык калі толькі Ўладыка Часлаў[843] нешта заўважыць, што задалёкі адыход ад лацінскага арыгіналу, з такіх заўвагаў добра, пэўне-ж, скарыстаць, калі яны абаснаваныя.

З свайго боку я скора пачну пераглядаць уважней увесь тэкст, супастаўляючы яго з тэкстам лацінскім, з мэтаю выявіць, што перакладчыкі на расейскую мову ўвялі лішняе ці замоцна зьмянілі ды што трапіла і ў пераклад беларускі, каб гэта пастарацца выэлімінаваць і якнайбольш *«адарвацца»* ад тэксту расейскага перакладу. Для гэтае мэты пастараюся перапісаць часткамі ўвесь Ваш пераклад рэдкімі радкамі, і дзе заўважу яскравыя адхіленьні ад арыгіналу пад уплывам перакладу расейскага, падам Вам лацінскі тэкст арыгінальны з падрадкоўнікам, каб, у патрэбе, перарэдагаваць гэтыя радкі, абапіраючыся на тэкст арыгіналу. Асабліва важна дакладная перадача некаторых месцаў паэмы, як, прыкладам, характарыстыка князя Вітаўта, заўвага паэты пра чытаныя ім пісаныя беларускаю моваю старавечныя кнігі ды падобнае.

Прывітаньні!

Ваш

19.1.1980 г.

Дарагія!

Хіба тыдзень таму была высланая Вам фатастатычная копія беларускага перакладу «Песьні пра зубра» Я. Семяжона — хіба яна ўжо ў Вас. Дні два таму высланая й другая рэч — машынапіс успамінаў Ю. Дубейкаўскай[844]. Гэта на просьбу др. Раісы Жук-Грышкевіч.

Успаміны Ю. Дубейкаўскай у архіўных матар'ялах Інстытуту ляжаць ужо даўно[845]. Частка зь іх — пра Цётку[846] — калісьці ў «Конаднях» і друкавалася[847]. Рэшту надрукаваць пры жыцьці аўтара ды галоўнага

[843] Маецца на ўвазе біскуп Часлаў Сіповіч.

[844] **Юльяна Дубейкаўская** (дзяв. Менке, 1886–1969), настаўніца, грамадская дзеячка, мастацтвазнаўца. Пасля Другой сусветнай вайны жыла ў Нюрнбергу (Нямеччына). Напісала мемуары пад назвай «Мае ўспаміны», прысвечаныя Івану Луцкевічу.

[845] Рукапіс успамінаў Юльяны Дубейкаўскай быў перададзены Яніне Каханоўскай у ЗША.

[846] **Цётка** (сапр. Алаіза Пашкевіч, 1876–1916), паэтка, грамадская дзеячка, публіцыст.

[847] Маецца на ўвазе тэкст: Вітан-Дубейкаўская, Юльяна. Cor ardens. Успаміны пра А. Пашкевічанку-Цётку // Конадні. № 3. Нью Ёрк, 1955. С. 49–54.

«героя»[848] ўспамінаў не ўважала за адпаведнае сама сп. Дубейкаўская. А пасьля, у выпадку друкаваньня, яна выказала пажаданьне, каб рэдакцыя тэксту была ў Вашых руках (гэта вынікае з аднаго зь ейных лістоў).

Яня КахаНоўская даўно марыць пра тое, каб успаміны нейк надрукаваць[849]. Раіса цяпер згадзілася дапамагчы ёй у справе мабілізацыі патрэбных на гэта грашовых сродкаў ды ў гэтай справе зьвярнулася да канадыйскага Згуртаваньня[850]. Там у яе запатрабавалі апініі Інстытуту на пісьме, што ўспаміны варта й трэба друкаваць. У ўправе БІНІМ тымчасам пануе пагляд, што такую апінію можна выдаць толькі пасьля таго, як Вы адрэдагуеце машынапіс, каб ён быў гатовы да друку. Справа ў тым, што, на нашую думку, патрэбная рэдакцыя ня толькі правапісная ці моўная, але шмат грунтаўнейшая.

Успаміны маюць шмат каштоўнага фактычнага й гістарычна важнага біяграфічнага матар'ялу пра Івана ды Антона Луцкевічаў[851], пра Цётку, самую аўтарку, пра беларускае жыцьцё ў Вільні ў часе першае нямецкае акупацыі Вільні. Але літаратурная падача гэтага важнага гістарычна матар'ялу не заўсёды на такім узроўні, каб друкаваць так, як напісана. Розныя дробныя будзённыя справы ды асабіста-інтымныя сцэны часта апісаныя наіўна, зь літаратурнага гледзішча даволі прымітыўна. І гэта трэба або *«падцягнуць»* рэдакцыйна, або ціраз мо й зусім выпусьціць дробныя, малаважныя справы, перарэдагоўваць якія не аплачваецца.

Вось гэта пры рэдагаваньні манускрыпту трэба ўзяць на ўвагу, каб захаваць важнае, істотнае, а дробнае, журналістна няўклюдна пададзенае ці падцягнуць, ці выэлімінаваць. Пасьля гэтага будзе відаць, што застанецца, колькі гэта будзе бачынаў друку, што гэта будзе каштаваць.

Пішу гэты ліст, каб зарыентаваліся, пра што ў дадзеным выпадку ход. Пасьля заканчэньня рэдакцыі просьба адаслаць машынапіс, і тады будзе відаць, што рабіць.

Прывітаньні.

Ваш

---

848 Успаміны Юльяны Дубейкаўскай прысвечаны яе рана памерламу каханаму — палітычнаму і грамадскаму дзеячу **Івану Луцкевічу** (1881–1919).

849 Успаміны былі выдадзеныя толькі ў 1994 г. у Вільні. Рукапіс цяпер захоўваецца ў фондзе БІНіМа ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

850 Маецца на ўвазе Згуртаванне беларусаў Канады.

851 **Антон Луцкевіч** (1884–1942), палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, выдавец.

8 лютага 1980 г.

Дарагія!

Сяньня шлю ізноў кнігу 15-ю «Запісаў», у якой рэцэньзія пра Семяжонаў пераклад «Песьні пра зубра». Спадзяюся, што гэтым разам «Запісы» дойдуць. Супярэчнасьці з арыгіналам ёсьць і ў расейскім перакладзе «Песьні», але іх там няшмат ды яны і не яскрава-прапагандавага характару. Пераклад Семяжонаў — гэта звычайнае палітычнае хвальшаваньне выдатнае паэмы XVI ст.

Тымчасам вазьмеце на ўвагу рады Уладыкі Часлава, у дадзеным выпадку як хіба добрага *«лаціністы»*, калі ён зацеміў у Вашым перакладзе нейкія паважнейшыя водхіны ад лацінскага арыгіналу. Крыху пазьней дашлю заўвагі свае.

Калі ход пра ўспаміны сп-ні Дубейкаўскай, дык перад друкам іх трэба салідна перарэдагаваць ды выэлімінаваць усё слабое, няўклюднае зь літаратурнага гледзішча, часта проста бездапаможнае. Найлепшы выхад з «Успамінамі» будзе хіба гэткі: тымчасам толькі зарыентуйцеся, якія часткі з гэтых успамінаў важна, каб захаваць, і — чакайце. Я тымчасам папрашу Яню[852], каб яна зрабіла ды выслала Вам фатастаты з тых частак успамінаў, якія ўжо друкаваліся ды былі калісьці перад друкам адрэдагаваныя. Да іх належаць успаміны пра Цётку, пра «Нашу Ніву»[853], пра «Гоман»[854], што друкаваліся ў «Конаднях» і «Запісах». Пару ейных артыкулаў пра Івана Луцкевіча друкавалася калісьці і ў «Бацькаўшчыне»[855]. Усё гэта ёсьць і ў машынапісе ўспамінаў.

Калі гэта ўсё атрымаеце — будзе відаць, што яшчэ важнейшага з машынапісу трэба дадаць да гэтага матар'ялу, ужо рэдакцыйна гатовага. Такі спосаб рэдагаваньня кнігі ў дадзеным выпадку хіба найбольш мэтазгодны. Міжіншым, ёсьць ліст сп-ні Дубейкаўскай, у якой справаю рэдакцыі мовы, і тэксту ўспамінаў яна просіць, каб занялися Вы.

З прывітаньнямі,
Ваш

---

[852] Яніна Каханоўская.

[853] Гл.: К. Вітан. «Наша Ніва» і Іван Луцкевіч // Конадні. № 7. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1963. С. 133–137.

[854] Гл.: Кветка Вітан. Газэта «Гоман» // Запісы БІНіМ. № 13. Нью Ёрк, 1975. С. 67–69.

[855] Гл.: Вітан-Дубейкаўская, Юльляна. «Рыцар Пагоні». (На 75-ыя ўгодкі нараджэньня Івана Луцкевіча. 28.05.1881 — 26.08.1919) // Бацькаўшчына. № 22 (304). 27 травеня 1956. С. 3–4; № 23 (305). 3 чырвеня 1956. С. 2–3; У 35-ую гадавіну сьмерці. Іван Луцкевіч // Бацькаўшчына. № 30–31 (212–213). 15 жнівеня 1954. С. 3.

8 студзеня 1981 г.

Дарагія!

Спадзяюся, што ўжо вярнуліся з-пад сонца Флярыды з сьвежым загарам, новымі сіламі, новым запалам да працы. «Успаміны» Дубейкаўскай — першая палавіна — пэўне-ж надышлі. Чакаем на далейшае.

Што да «Песьні пра зубра»: ня пісаў пра гэта, бо ўсё чакаў, калі закончыцца клопат з выданьнем кнігі паэзіі Салаўя[856], зь якое сталася падобна, як з Вашай кнігай — *«трапіла ў нерат, ні ўзад, ні ўперад»*! Тэкст даўно набраны, чакаем усё на мудрае ўводнае слова праф. Адамовіча, якое мела быць гатовае на пачатку 1980 г., а ўжо маем пачатак 1981!!! Гэта тут нам моцна замінае, і калі пачатую справу ўдасца закончыць — ніхто ня ведае.

Зь перакладам «Песьні пра зубра» ёсьць адна паважная праблема, якую трэба будзе нейк пробаваць паправіць перад здаваньнем перакладу да друку. Справа вось у чым: калісьці, апрача тэксту арыгіналу лацінскага, перасылаў Вам я й колькісот першых радкоў «Песьні» ў перакладзе польскім Каспровіча ды пераклад расейскі, з радаю, калі ход пра зьмест песьні, арыентавацца на пераклад Каспровіча, бо ён, хоць менш паэтычны, але вельмі дакладны — радок у радок, а навет слова ў слова. Калі-ж ход пра паэтычны бок, разьмер вершу, за ўзор можа быць расейскі пераклад.

У Вашым добрым перакладзе трапілі ўсё-ж некаторыя словы й звароты з расейскага перакладу, якіх ня мае тэкст арыгіналу. І менскім крытыкам гэта адразу кінецца ў вочы, асабліва самім менскім перакладнікам — *«ад нас перанята»*! Трэба будзе спобаваць падобныя выпадкі зь перакладу выэлімінаваць. Хіба, недзе ў лютым, спадзяюся, буду мець крыху часу, каб пераклад дакладней сканфрантаваць з лацінскім арыгіналам і больш яскравыя падобныя мясцы выявіць. Перашлю іх Вам, каб перарэдагаваць ды якнайбольш адарвацца ад менскага расейскага перакладу. Мая веда лацінскае мовы, нажаль, абмежаная, асабліва калі ход пра паэзію, абапертая галоўна на слоўніках, і таму падобная праца для мяне вельмі марудная, але спрабую нешта зрабіць. Пастараніўшы ў меры магчымасьці чужы для арыгіналу элемэнт перакладу расейскага, пераклад можна будзе даваць у друк.

З прывітаньнямі!

Ваш

[856] Маецца на ўвазе выдадзеная пазней кніга: Салавей, Алесь. Нятускная краса: збор твораў. Нью Ёрк — Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

15.5.1981

Дарагія!

Пішу даўно абяцаны ліст пра праблемы зь перакладам «Песьні пра зубра», пішу пасьля грунтаўнейшага супастаўленьня тэкстаў паэмы лацінскага, расейскага ды Вашага беларускага. Пераклад Ваш, калі чытаць яго, ня думаючы пра арыгінал ды пра пераклад расейскі, з паэтычнага боку быў-бы бадай бязь нейкіх паважнейшых закідаў і з боку мовы, і паэтыкі — беларускі тэкст плаўна ўкладзены ў рытм і рамкі элегічнага гэкзамэтру. Калі-ж супаставіць усе тры тэксты, узьнікаюць паважныя праблемы, якія перад публікацыяй перакладу трэба выэлімінаваць. Галоўная зь іх — неабходна ў перакладзе зусім *«адарвацца»* ад нейкіх сьлядоў і ўплываў расейскага перакладу ды асабліва выэлімінаваць усё тое, што ў расейскім перакладзе *«адсябяціна»*, чаго няма ў Гусавяніна.

Калісьці, калі слаў Вам тэксты расейскага й польскага перакладаў паэмы, як матар'ял для перакладу беларускага, я зьвяртаў увагу на тое, што хоць паэтычна расейскі пераклад лепшы, ды, калі ход пра зьмест, лепш кансультавацца зь перакладам Каспровіча, бо ён, зроблены радок у радок, даволі дакладна перадае зьмест арыгіналу. Тады аднак і я ня меў добрае ўявы, наколькі расейскі пераклад *«свабодны»*, аб чым толькі цяпер пераканаўся, калі ўважней прыраўняў яго да арыгіналу. З Вашага перакладу бачу, што на тэкст Каспровіча Вы бадай і наагул не зьвярталі ўвагі, усё ў ім паводле перакладу расейскага. Ды перакладу Каспровіча й маем толькі першых радкоў 300. Далей у Вас быў толькі расейскі пераклад. І, нажаль, гэта пераклад далёка не дакладнасьці *«падрадкоўніка»*, пераклад вельмі *«вольны»*, а ціраз і *«самавольны»*. Стуль цяпер паўстаюць клопаты, бо ўсе *«вольнасьці»* расейскага перакладу, якія зь яго трапілі, трэба выявіць ды выэлімінаваць.

Для арыентацыі, якія вялікія розьніцы ад арыгіналу трапілі ў беларускі пераклад праз пераклад расейскі, шлю тут тры тэксты першых 50-х радкоў паэмы:

1. Лацінскі тэкст гэтых радкоў — каб, у выпадку патрэбы, маглі паасобныя месцы, пры дапамозе слоўніка, самі спраўдзіць.

2. Ваш пераклад — з зазначэньнем важнейшага таго, у чым ён адыходзіць ад арыгіналу ды што перад публікацыяй трэ' было-б зьмяніць ці і зусім ціраз выэлімінаваць.

3. Пераклад, блізкі да даслоўнага — радок у радок, гэтых самых 50-х радкоў, зроблены мною (але не гэкзамэтрам).

Радкі ўсіх трох тэкстаў нумараваныя, каб лягчэй было, калі трэба, знаходзіць радкі, якія хацелі-б параўнаць. Паясьненьні маіх заўвагаў да Вашага перакладу дадзеныя, для зручнасьці, на асобным лістку.

Справа цяпер у гэтым, каб тэкст беларускага перакладу перад друкам гэтак адрэдагаваць, каб ён быў якнайбольш самастойным. Гэта, пэўне-ж, будзе вымагаць працы ў перарэдагаваньні паасобных зваро-

таў, радкоў, элімінацыі іншых. Калі Вы гатовыя гэтую апошнюю рэдакцыю тэксту перакладу зрабіць, я з свайго боку магу дапамагчы ў справе знаходу тых словаў і месцаў, якіх у лацінскім арыгінале няма, а якія ў беларускі тэкст трапілі праз тэкст расейскі. Для мяне гэта карпатлівая праца, бо мая веда лацінскае мовы абмежаваная, зашмат мушу абапірацца на слоўнікі, прыходзіцца ўвесь час кансультавацца перакладамі Каспровіча, добрым перакладам літоўскім. Але іншага выхаду няма, добрага лацініста пад бокам тут няма. Уладыка-ж Сіповіч, выглядае, хоць і абяцаў, але Вам у гэтай справе нічога не дапамог.

Мог-бы перасылаць Вам па нейкіх 100 перагледжаных радкоў адразу як матар'ял, падрыхтаваны для параўнаньня з тэкстам лацінскім і расейскім, каб бачылі, што трэба выэлімінаваць ды як найлепей. Цяперашнія 50 радкоў, гэта першыя пробныя, арыентацыйныя, што ды як можна было-б і давядзецца рабіць.

Міжіншым, пра Гусавяніна і ягоную паэму ёсьць цікавыя навіны. Паэма робіцца папулярнай у інтэрнацыянальным літаратурным сьвеце. Перакладзеная яна ўжо, хоць і ненадрукаваная, і на мову чэскую. У ліку выдатных дзеячоў славянскае культуры, угодкі якіх прыпадалі ў 1980 г., ЮНЭСКО назвала й Міколу Гусавяніна (500 гадоў ад нараджэньня). З гэтае прычыны пры канцы леташняга году ў Менску ладзілася акадэмія, спалучаная з выстаўкай новаствораных на скорую руку мастацкіх твораў пра Гусавяніна, ягоных сучасьнікаў (Скарыну), зубра (каля 200 экспанатаў).

Да ўгодкаў была перавыдадзеная ў Менску й паэма «Песьня пра зубра». Выданьне вялікага фармату, даволі раскошнае, добра ілюстраванае, мае тры тэксты паэмы: лацінскі, беларускі пераклад Семяжона, пераклад расейскі Парэцкага-Семяжона. Пры канцы ў кнізе добра напісаны, бязь нейкае назольлівае партыйнае прапаганды інфармацыйны артыкул пра паэту і ягоную паэму Дарашкевіча[857]. Тэкст расейскага перакладу тойсамы, якім Вы карысталіся, але падпраўлены ды ўжо на радкоў 40 карацейшы, ці бо лікам радкоў зьбліжаны да арыгіналу.

І беларускі пераклад Семяжона падпраўлены ды на радкоў 60 скарочаны. Ды ўсё-ж пераклад беларускі найслабейшае месца няблага выдадзенае кнігі. Семяжон цяпер павыкідаў з свайго перакладу ўсіх *«германцаў»*, *«тэўтонцаў»*, *«немцаў»*, якіх ён Гусавяніну падапісваў у паэму пры публікацыі дзьвюх першых рэдакцыяў свайго перакладу, ці бо тое, на што я зьвярнуў увагу ў маёй рэцэнзіі на пераклад у «Запі-

---

[857] Маецца на ўвазе выданне: Гусоўскі, Мікола. Песня пра зубра: на лацінскай, беларускай, рускай мовах / пераклад на беларускую мову Я. Семяжона; пераклад на рускую мову Я. Парэцкага, Я. Семяжона; пераклад прысвячэння паэмы Боне Сфорца, пасляслоўе, каментарыі і бібліяграфія В. Дарашкевіча; ілюстрацыі Я. Куліка. Мінск: Мастацкая літаратура, 1980. — 183 с.

сах». Выправіў і некаторыя іншыя, хоць ня ўсе, недарэчнасьці свайго перакладу, на якія я зьвярнуў увагу ў рэцэнзіі. Ды ўсё-ж у перакладзе паэмы вялічыні 1072 радкоў ён і цяпер дапісаў Гусавяніну больш за 400 радкоў сваіх — у яго выйшла 1481 радок. Хай-бы ён спробаваў перакласьці «Аўгена Анегіна», дапісваючы яму на 40 % радкоў больш — яго толькі высьмяялі-б, перакладу ніхто ніколі не публікаваў-бы, але з Гусавянінам зь Беларусі, ды яшчэ ў правінцыяльным Менску, гэткія штукі дазваляюцца. Падымаліся ў БССР у друку галасы, каб гэткі хвальшаваны пераклад не передрукоўваць. Семяжон бараніўся гэтым, што ён *«перакладчык-мастак»*, і перакладае ня *«літару»*, а *«сэнс»*, *«мастацкую ідэю»*, і што гэта якраз *«марксісцка-ленінскі»* мэтад добрага паэтычнага перакладу.

10 чырвеня 1981 г.

Дарагія!

Шлю далейшую частку перакладу «Песьні пра зубра» — да 236 радка. У патрэбе раджу кансультавацца й польскім перакладам Каспровіча, але лепш зусім не заглядаць, лепш пра яго й забыцца, калі ход пра пераклад расейскі.

Гэтым разам пасылаю толькі свой беларускі пераклад без канфрантацыі яго зь перакладам з расейскае мовы, бо шкада на гэта часу — столькі ў ім розных зусім лішніх зьменаў, ды найгорш — знарочных дадаткаў. У двух больш важных мясцох над беларускім тэкстам затое надпісаў тэкст лацінскага арыгіналу. Гэта радкі, якія перакласьці трэба асабліва ўважна, бо сваім зьместам для беларускага перакладу яны асабліва важныя. Пра іх даю і колькі заўвагаў:

с. 73: *Roxanis* — раксанамі гэнай парой у пісаных па-лацінску творах часта называлі жыхароў земляў заходніх беларускіх і ўкраінскіх, хоць часьцей па-лацінску іх называлі *«рутэнамі»*. Гэтае арыгінальнае слова я пераклаў словам *«русічы»*, а не *«рускія»*, каб ня было ніякае блытаніны з сучасным значаньнем гэтага слова *«расейцы»*, *«вялікаросы»*.

с. 75: *«гукі мовы роднае»* — у арыгінале па-лацінску — *patrios... sonos* — *«гукі бацькоў»*, *«айчынныя гукі»*.

с. 119–120: *«рымскім паэтам паляк не раўня»* — слова *«паляк»* — *Polonus* — тут, адзін раз, у паэме здараецца, і яго ў перакладзе лепш захаваць, каб не вінавацілі ў хвальшаваньні арыгіналу. Чаму паэта, які ад маленства гадаваўся і паляваў у пушчах над Дняпром, у Рыме назваў сябе палякам — гэтае пытаньне можна будзе разгледзіць у камэнтарох да паэмы, але выкідаць яго, скрываць, як зроблена ў расейскім перакладзе, няварта.

У радкох 212–216, ды і ў некаторых іншых мясцох лацінскага арыгіналу, думка аўтара выказаная вельмі няясна, і таму гэтае месца кажны перакладае, як задумае. Словы гэтага месца я намагаўся давесьці да нейкага лягічнага ладу.

Маючы пераклад празаічны, справа ўжо Вашая даць яму багацейшую, больш вобразную, паэтычную мову ды ўціснуць тэкст у тугі карсэт элегічнага гэкзамэтру.

Як скончыце — прышліце пераклад, я-ж пастараюся падрыхтаваць тады ды выслаць далейшую частку «Песьні».

Прывітаньні.

Ваш

8.10.1981 г.

Дарагія!

У адказ на ліст з 21.9.81:

Выслаў Вам менскае выданьне «Песьні пра зубра», бо працуючы над перакладам, добра мець яе пад рукою. Разьлічвацца за яе ня трэба — хай будзе падарункам на ўгодкі нарадзінаў[858]!

Крыху пазьней выслаў і фатастат артыкулу П. Садоўскага[859], надрукаванага ў «Полымі». У ім даволі вострая, і правільная, крытыка Семяжонавага перакладу «Песьні». Прыемна, што аўтар артыкулу цалком згодны з маёй ацэнай гэтага перакладу. Дык і ў Менску бачаць, што добрае, а што не.

Што да кнігі Салаўя: уся затрымка, пэўне-ж, і цяпер з артыкулам сп. Адамовіча. Ён абяцаў напісаць яго да лютага 1980 г., але кончыў толькі ў жнівені 1981 г. Ды й тады выявілася, што напісана ня тое, што патрэбна для кнігі: вышла ў яго цэлая «манаграфія» на 300 машынопісных бачынаў. Столькі ў кнігі, зразумела,ісьці ня можа. Месяцы два ён рыхтаваў новую, кароткую вэрсыю свайго вялікага *«опусу»*. Вышла на 80 бачынаў і ўжо набіраецца. Цяпер з кнігай засталіся галоўна справы тэхнічныя — заканчэньне набору, друк, інтралігатар. Кніга будзе мець ня менш 400 бачынаў. Можа выйсьці ўжо ў лютым 1982 г.

Спагадаю з усімі бедамі й клопатамі з Вашым *«унукам»*. Прыгадваецца старая пагаворка: *«Малыя дзеткі — малыя й бедкі; падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі»*.

Прывітаньні.

Ваш.

---

[858] Наталля Арсеннева святкавала народзіны 20 верасня.

[859] **Пётра Садоўскі** (нар. 1941), мовазнавец, палітык і дыпламат, кандыдат філалагічных навук.

## «ЛЮБЛЮ МОЦНЫХ ЛЮДЗЕЙ»: ЮРКА ВІЦЬБІЧ

Юрка Віцьбіч меў свае ўлюбёныя тэмы і любімых герояў. Найперш гэта ўдзельнікі антыбальшавіцкіх паўстанняў, Булак-Булаховіч, пісьменнікі даваеннага часу, расстраляныя, закатаваныя; з даўнейшых гістарычных асобаў — Рагнеда, Еўфрасіння Полацкая. Але і Скарыну не мог прамінуць, зразумела: артыкулы пад аднолькавай назвай «Вялікі сын вялікага народу» друкаваліся ў газеце «Раніца» (1944. 30 ліпеня. № 30–31 (192–193); 1944. 6 жнівеня. № 32 (194); 1944. 20 жнівеня. № 34 (196)), часопісах «Шыпшына» (№ 4. 1947) і «Аб’еднаньне» (№ 17. 1949); гэты ж артыкул быў перакладзены Аляксандрам Ружанцом на літоўскую мову. У газеце «Новое Русское Слово» былі надрукаваныя «Я, Францишек, Скоринин сын» (25.02.1967), «Пакет из Польши» (04.03.1967), «Францишек, сын Лукаша из Полоцка» (19.03.1967). У «Беларусе» № 120 (Красавік 1967) быў змешчаны фельетон «Знайшлі тапор пад лавай».

У лістах Віцьбіч піша пра Скарыну вальней і — цікавей:

*«Глыбокапаважаны спадар доктар Тумаш!*

*Вельмі ўдзячны за ветліва дасланую Вамі працу “Доктар Скарына ў Маскве”. Шкадую, што ня прысутнічаў на Вашым рэфэраце “Францішак Скарына — агароднік караля Фэрдынанда”.*[860] *І ўдзячны, і шкадую з тае прычыны, што сам здаўна й дагэтуль замілаваны вялікай асобай Францішка Скарыны. Ён для нас, беларусаў, па свайму культурнаму значаньню, па свае, прабачце, удзельнае вазе тое, што для ангельцаў, прыкладам, Шэксьпір. Даволі значная ва ўсіх адносінах адлегласьць ад Скарыны да… Булак-Балаховіча. Аднак “аз грэшны” астатнім часам пішу вылучна пра апошняга. <…> Скарына й… Булак-Балаховіч? Люблю моцных людзей»*[861].

Наогул, у ліставанні з Тумашам постаць Скарыны як бы нязменнай, канстантай — незалежна ад таго, пра што ішла размова:

*«Бракуе людзей? Пэўна-ж дапамога толькі з боку нашага добрага Спадара Запрудніка ня выйсьце з гэтага прыкрага становішча, бо, магчыма, ён мае аж зашмат працы ў радыё “Свабода”*[862]*. Ня выратуе сытуацыі й Спадар Сядура з прычыны свае плыткасьці. Хоць Вы супрацьстаўляеце яго “даляравым” навукоўцам, навуковы спрыт якіх натхняецца вылучна ганарарамі, дык усё-ж такі пры ўспаміне аб Сядуры згадваецца крылоўскае аб музыках: “Они немножечко дерут, зато в рот хмельного не берут”. Трэба як*

[860] Рэферат быў прачытаны на пасяджэнні БІНіМа ў Нью-Ёрку 4 чэрвеня 1964 г. Гл.: Скарынаў парк на Градчанах // Беларус. № 88. Ліпень 1964. С. 6.

[861] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 06.06.1964. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[862] Янка Запруднік працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» / «Свабода» спачатку ў 1954–1957 гг. у Мюнхене, потым, у 1957–1991 гг., у Нью-Ёрку.

*сьлед прысароміць нашых “тараканаў у саладусе”*[863]*. Трэба прыгадаць ім пра тыя “грошы” ў сваіх кішэнях, што меў юнак з Полацку, калі пяхтуром прыйшоў у Падую, пра “чэкавыя кніжкі” Кастуся Каліноўскага, пра “маёнткі” Янкі Купалы і Якуба Коласа, пра “мільёны” Крэчаўскага і Захаркі*[864] *ды шмат, шмат іншых. А што, калі я прыгадаю ім аб гэтым недзе ў друку? Праўда, аб гэтым акурат пісаў калісьці Кастусь Акула, але, спадзяюся, што ў мяне атрымаецца больш гостра й пераканальна.*

*Дазвольце перайсьці да іншага. Два тыдні таму, дзякуючы Спадару Запрудніку, пазнаёміўся нарэшце зь цікавым артыкулам Міколы Алексютовіча “Імя яго гучыць у стагодзьдзях” (“Полымя”, № 7, 1967 г.)*[865]*, аб якім Вы раней ня раз згадвалі. Цудоўны артыкул, і ад душы шкада, што аўтар ня жыве. Ён шмат якія пытаньні з “скарыніяны” падсумаваў, выпукліў, а шмат якія высунуў, парушыў для тамтэйшых досьледаў. Добра, што скарыстоўваючы Пляханава й марксызм-ленінізм як камуфляж, ці “фунты Крамля”, ён даводзіць, што Беларусь “выпрацавала свае адносіны” пад уплывам Захаду, ці што “дваранская дэмакратыя” Рэчы Паспалітай ў 16 ст. “мела ня толькі свае мінусы, але і плюсы”, або што не Масква ўплывала ў культурным сэньсе на Беларусь, а наадварот.*

*Што датычыць артыкулу Іларыга Барашкі ў “Голасе Радзімы”*[866]*, аб якім згадваў у мінулым лісьце да Вас, дык гэта ўвогуле вельмі плыткі чалавек, каб асабліва праймацца з прычыны ягоных дзівосных выказваньняў. У тым-жа № 7 “Полымя” яго добра ахарактарызаваў Максім Лужанін*[867] *у сваім “Дванаццаць вячорных вогнішчаў” (стар. 9), дзе стары крымскі татарын кажа: “Дзесяць барашкаў маем”. “Аж дзесяць барашкаў? І ўсе яны пішуць, — роблена зьдзіўляецца Сяргей. Пісьменьніка з падобным прозьвішчам ён выкпівае пры кажным зручным і нязручным выпадку”.*

*Цалкам далучаюся да думкі маіх колішніх сяброў па “Ўзвышшы” Лужаніна й Дарожнага*[868]*.*

---

[863] ***«Тараканы ў саладусе»*** — пашыраны ў эміграцыйным асяроддзі выраз для пазначэння суайчыннікаў, занятых выключна матэрыяльнымі клопатамі. Пайшоў ад назвы п’есы Кастуся Акулы, напісанай у 1957 г.

[864] **Васіль Захарка** (1877–1943), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, у 1928–1943 гг. — прэзідэнт Рады БНР.

[865] Гл.: Алексютовіч, М. Імя яго гучыць у стагоддзях // Полымя. № 7. 1967. С. 170–184.

[866] Маецца на ўвазе артыкул: Барашка, Ілары. Слова пра Скарыну // Голас радзімы. 1967. С. 6.

[867] **Максім Лужанін** (сапр. Аляксандр Каратай, 1909–2001), паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык.

[868] **Сяргей Дарожны** (сапр. Сяргей Серада, 1909–1943), паэт, грамадска-культурны дзеяч.

*А цяпер крыху аб розным. Мне здаецца, што добрыя знаўцы беларускае мовы незабытныя С. Некрашэвіч і М. Байкоў*[869] *мелі рацыю, калі ў сваім багатым і каштоўным слоўніку, як той маўляў, кананізавалі “марожанае”. Хоць В. РамаНоўскі ў сваёй вядомай кніжыцы*[870]*, ідучы ў гэтым напрамку ў сьлед за М. Клімковічам, М. Лыньковым*[871]*, А. Александровічам*[872] *і закідае мне “засьмечваньне” ў 30-х гадох беларускае літаратурнае мовы, але толькі не новатворамі. Не зразумеюць нашыя нават спрактыкаваныя чытачы прапануемае Вамі “марозіва”, хай сабе й на ўзор “малодзіва” створанае.*

*Што датычыць кірмашоў і брацтваў у Полацку за часы Скарыны, якія згадвае Іллары Барашка. Грош цана таму міжнароднаму гандлю і нават унутранаму, які базуецца толькі на кірмашох, нібы той вандроўны цырк, а між тым паводля Іларага гэты гандаль у Полацку зьяўляўся вылучна кірмашовым. Што датычыць брацтваў, дык на падставе тых паважных крыніцаў, якія тут у сабе маю, за скарынінскія часы Беларусь ня мела яшчэ праваслаўных брацтваў — у іх яшчэ ня мелася патрэба, бо ніхто праваслаўных за тыя часы не перасьледваў.*

*На жаль, ня ў стане пагадзіцца з Вамі, што для перадруку ўсіх твораў Скарыны патрэбны адзін толькі навуковец, бо калі абмежавацца адным тэхнічным бокам гэтае справы, дык нават аніякага навукоўца не патрэбна — хопіць, выстарчыць аднаго тэхніка. Аднак калі да гэтага перадруку, каб ён стаўся здабыткам больш-менш шырокіх колаў, а ня сотні фахоўцаў, дадаць прадмову-ключ ды пасьлямову-высновы, спадарожныя кароткія заўвагі ды шырэйшыя ад іх камэнтары, тлумачальны слоўнік паасобных тэрмінаў і паказальнік імёнаў, назоваў і г. д., дык відавочна, што аднаго навукоўца забракне. А ці ня будзе ўвогуле зьяўленьне гэткае працы тут зусім непатрэбным дубляваньнем тае-ж працы там? Асабліва калі яшчэ ўзяць пад увагу адсутнасьць у нас адпаведных і даволі вялікіх сродкаў. А потым, даруйце, зноў я за старое — ці не занадта ўвогуле мы тым самым адрываемся ад сучаснасьці, ад беспасярэдняе місіі свае палітычнае эміграцыі, ад адзначэньня ня толькі 450-годзьдзя беларускага друку, але й 50-годзьдзя Акту 25 Сакавіка й папярэдняга яму Ўсебеларускага Кангрэсу?»*[873].

У ліставанні з дырэктарам БІНіМа знаходзіў Віцьбіч і тэмы для новых фельетонаў.

[869] **Мікола Байкоў** (1889–1945), мовазнаўца, педагог. Аўтар прац па літаратуразнаўстве, крытыцы і педагогіцы, укладальнік слоўнікаў: «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (1924), «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925), «Расійска-беларускі слоўнік» (1928, абодва з С. Некрашэвічам).

[870] Маецца на ўвазе гісторык, доктар гістарычных навук **Васіль Раманоўскі** (1918–1992) і яго кніга «Саўдзельнікі ў злачынствах» (Мінск, 1964).

[871] **Міхась Лынькоў** (1899–1975), пісьменнік, народны пісьменнік БССР.

[872] **Андрэй Александровіч** (1906–1963), паэт, перакладчык, публіцыст.

[873] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 28.09.1967. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*Юрка Віцьбіч*

## Знайшлі тапор пад лавай[874]

Бадай надысь тамтэйшыя савецкія газэты, а менавіта «Чырвоная зьмена» ад 14.1.67, маскоўская «Правда» ад 23.1.67 ды плыткі завяртанскі «Голас радзімы» за мінулы студзень падалі да ведама сваіх чытачоў, што акадэмікі БССР атрымалі з архіву Падуанскага Ўнівэрсытэту фотакопіі дакумэнту аб беларускім першадрукару Францішку Скарыне. Пасьля гэтага мімаволі робіцца ўражаньне аб вылучным дасягненьні кагадзе менаваных акадэмікаў у галіне «Скарыніяны». І асабліва яшчэ калі ўзяць пад увагу, што дастаўшы, паводле свае просьбы, пакет з Падуі, дырэктар Інстытуту мовазнаўства АН БССР М. Суднік адразу запрасіў да сябе карэспандэнтаў усіх газэтаў і часапісаў, каб празь іх пазнаёміць савецкіх грамадзянаў з бліскучай перамогай падпарадкаванае яму акадэмічнае дзялянкі. Між тым аніякіх рашуча падставаў для тае ганарлівасьці няма, бо атрыманьне сьветчыць хіба аб значным заняпадзе АН у справе пошукаў і дасьледваньняў.

У 1891 годзе польскі гісторык Станіслаў Віндакевіч у сваёй працы, прысьвечанай Падуанскаму ўнівэрсытэту, згадвае пра Францішка Скарыну. Відаць, расейцаў гэта навіна мала цікавіла, бо толькі пасьля прыпаміну прафэсару Бэрлінскага ўнівэрсытэту вядомага славіста А. Брукнэра[875] дасьледнік І. Шляпкін адшукаў у Падуі тры дакумэнты, што датычуць Скарыны, што й апублікаваў у 1892 г. у другарадным часапісе міністэрства асьветы[876]. Ніякіх далейшых досьледаў у Падуі й па-за ёю Расейская Імпэратарская Акадэмія Навукаў не рабіла. І калі цяпер, аж праз 75 год, фотакопіі падуанскіх дакумэнтаў аб Скарыне нарэшце трапілі ў АН БССР, дык гэта зусім не выпадкова. Яшчэ ў 30-х гадох імя *«доктара наук вызваленых і лекарскіх из славного града полоцька»* Францішка Скарыны сустракалася толькі ў вабвінавачвальных дакумэнтах ДПУ па справах беларускіх нацдэмаў, а цяпер, з дазволу Масквы, ён у БССР рэгабілітаваны.

Каб пазьбегнуць закідаў у безгрунтоўнасьці, уважаю за патрэбнае прывесьці тут вытрымку з кнігі акадэміка доктара В. Шчарбакова «Нарыс гісторыі Беларусі», выдадзенае АН БСРР у 1934[877], а ўласьне:

---

[874] Друкуецца паводле: Беларус. № 120. Красавік 1967. С. 3.

[875] **Аляксандр Брукнер** (польск. *Aleksander Brückner*, 1856–1939), польскі славіст, гісторык літаратуры і культуры. Маецца на ўвазе публікацыя: Brückner, A. Wo promovierte Skorina? // Archiv für Slavische Philologie. B. XIII. Berlin, 1892. S. 468.

[876] Шляпкин, И. К биографии Франциска Скорыны // Журнал Министерства Народного Просвещения, № 4. Санкт-Петербург, 1892. С. 382–385.

[877] Гл.: Шчарбакоў, В. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мінск, 1934. — 240 с.

*«Беларускія гісторыкі нацыянал-дэмакраты з захапленьнем пісалі аб такіх правадніках культуры таго часу [16 стагодзьдзе —* ***Юр. В.****], якім зьяўляўся сын полацкага купца Францішак Скарына, аб Васілі Цяпінскім, Сымоне Будным. Яны абмалёўвалі гэтых людзей як самых перадавых, самых ідэальных людзей ня толькі свайго часу, а наагул у гісторыі Беларусі, называючы іх гуманістамі, асьветнікамі, носьбітамі лепшых чалавечых ідэалаў».*

Зусім слушна — так, а ня йнакш запраўдныя беларускія гісторыкі называлі Скарыну, Цяпінскага, Буднага і ў змрочных катавальнях ДПУ, як так, а ня йнакш, называюць іх і цяпер, апынуўшыся ў вольным сьвеце. Аднак ці ня йдуць сёньня сьледам за гэтымі пасьлядоўнымі дарэшты гісторыкамі акадэмікі БССР, калі прыгадаць, што ў гутарцы з журналістамі М. Суднік назваў Скарыну *«вядомым беларускім асьветнікам»* і *«выдатным беларускім гуманістам»*? Ці не нагадваюць тыя самыя акадэмікі, калі параўняць В. Шчарбакова з М. Суднікам, акрабатаў? І ці ня значна апярэдзілі іх навукоўцы на чужыне ў вывучэньні жыцьця вялікага сына беларускага народу Франьцішка Скарыны?

Ужо ў 1962 г. у пашыраным беларускім часапісе «Зьніч» (Рым) былі ня толькі апублікаваныя, але й рэпрадукаваныя фотакопіі тых трох падуанскіх дакумэнтаў, якія АН БССР атрымала аж у 1967 г. БІНіМ (Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва), што мае свой цэнтр у Нью Ёрку, ужо пяць год таму дастаў з Падуі кагадзе адзначаныя дакуманты, а ў 1963 г. прадэманстраваў іх на адмысловай выстаўцы, якую АН мяркуе наладзіць увосені. Акрамя таго ў сёлетнім студзені БІНіМ атрымаў акружным шляхам праз Скандынавію вялікі пакет гістарычных дадзеных аб Скарыне з архіваў Польшчы. У ім былі фотастаты 25 старонак актавых кніжкаў, на якіх былі 12 запісаў, напісаных па-лацінску й панямецку. Ні адна зь іх дагэтуль нідзе ня была рэпрадукаваная. А ўвогуле ў «Скарыніяне» БІНіМ налічваецца сёньня 20 фотаадбіткаў з дакумэнтаў. У дадатак БІНіМ, акрамя артыкулаў у спэцыяльных часапісах, выдаў тры каштоўныя навуковыя працы дасьледніка Сымона Брагі аб Скарыне, а між іншым, АН — усяго адну — кніжку літаратуразнаўцы С. Майхровіча[878].

Дарэчы, ня менш паказальная гісторыя з падуанскім партрэтам доктара Францішка Скарыны, што знаходзіцца ў унівэрсытэцкай «Залі Сараку». Яна атрымала свой назоў ад створаных тэмпэрай на палатне партрэтаў сараку найбольш вядомых абсэльвэнтаў гэтага старадаўняга семсотгадовага ўнівэрсытэту. Яшчэ ў верасьні 1950 г. Беларус доктар Баляслаў Грабінскі пабачыў тут невядомы перад тым партрэт доктара Франьцішка Скарыны. Праваруч ад Скарыны быў партрэт польскага

---

[878] Маецца на ўвазе кніга: Майхровіч, С. Георгій Скарына. Мінск, 1966. — 188 с.

паэты Яна Каханоўскага[879], леваруч — расейскага доктара мэдыцыны Пётры Постнікава[880]. Нацыянальнасьць першага была адзначаная, як — *Ruteno*, другога — *Polacco*, а трэйцяга — *Russo*. Тады-ж — сьпярша ў «Абежніку Аб’яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне» ад сьнежня 1950 г., а потым у № 2 папулярнага беларускага часапісу «Божым Шляхам» (Парыж) за 1951 г. былі пададзеныя першыя рэпрадукцыі знойдзенага партрэту. Пазьней, разам з адмысловымі артыкуламі, ён, выдатна адбіты, быў рэпрадукаваны ў часапісах БІНіМу — «Запісы» (№ 1 за 1952 г.) і «Конадні» (№ 1 за 1963 г.). А што зрабіла АН БССР у гэтай галіне?

Толькі ў № 3 часапісу «Беларусь» (БССР) за 1966 г. зьявіўся жалюгодны допіс супрацоўніка Інстытуту літаратуры АН БССР Алеся Адамовіча[881] — Скарына ў «Залі Сарака», да якога дададзены неахайны фотаздымак, і пры тым не паасобнага партрэту Скарыны, а кутка залі, дзе гэты партрэт знаходзіцца. Між іншым, што вельмі характэрна, арыентырам у пошуках яму паслужыўся партрэт Постнікава, пасьля якога ён ужо адшукаў і Скарыну. Аднак ці ня лепш паслухаць яго самога?

*«Спачатку Джуліо Віктор’е пазваніў у райком камуністычнай партыі. Зусім, як у нас, — райком, папрасіў яшчэ адну машыну. Такая яна, сёньняшняя Італія. Палітычную сучаснасьць адчуваеш і ў старажытным Падуанскім унівэрсытэце. Правая студэнцкая арганізацыя аб’явіла нешта накшталт забастоўкі — на сьценах плякаты. Можа таму, што субота й вечар, але акрамя вельмі інтэлігентнага з выгляду вартаўніка нікога мы ва ўнівэрсытэце не знайшлі. Ён нам адчыніў і павёў»*.

Дастаўшыся гэткім камуністычным або чорным ходам да «Залі Сараку» ды нечакана пабачыўшы, пэўне, з навуковай дапамогай вартаўніка, нішто іншае, як… фрэскі, на якіх *«другім ад кутка»* быццам прытуліўся… *«Георгій Скарына»*, Алесь Адамовіч зрабіў агульны фотаздымак з 10 партрэтаў, паміж якімі ня можна навет спазнаць беларускага першадрукара. Зразумела, што ён не адважыўся адзначыць пра надпіс — Franciscus Scoryna, як і пра тое, што Беларусь займела свайго доктара мэдыцыны на 142, а першадрукара на 46 год раней за Расею. За тое ў выснаве гэтае акадэмічнае замежнае камандзіроўкі, магчыма, назаўжды ўвойдзе ў навуковы здабытак АН БССР *«клапатлівы апякун»* Джуліо Віктор’ё.

---

[879] **Ян Каханоўскі** (польск. *Jan Kochanowski*, 1530–1584), польскі паэт эпохі Адраджэння.

[880] **Пётр Постнікаў** (рус. *Пётр Постников*, 1667–1703), першы ў Расіі доктар філасофіі і медыцыны, які атрымаў адукацыю ў Заходняй Еўропе (у Падуанскім універсітэце).

[881] **Алесь Адамовіч** (1926–1994), пісьменнік і грамадскі дзеяч. Маецца на ўвазе артыкул: Адамовіч, Алесь. Скарына ў «Зале Сарака» // Беларусь. № 3. Мінск, 1966. С. 27.

АН БССР і БІНіМ. З аднаго боку — дзяржаўная ўстанова, неабмежаваныя матар’яльныя сродкі для досьледаў і залежных ад іх экспэдыцыяў і камандзіроўкаў, вялізныя бібліятэка й музэй, вялікія аклады й ганарары, час, прызначаны цалкам для навуковае працы й г. д., і г. д. З другога боку — нічога гэтага няма, акрамя неабдымнае любові да роднае краіны й да свайго народу. І зусім натуральна, што калі згадваеш аб пакеце, атрыманым ардэнаноснымі акадэмікамі БССР з Падуі, дык адразу-ж згадваецца вядомая народная прымаўка: *«Знайшлі тапор за лавай»*.

# ПОСТАЦЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ НА СТАРОНКАХ ГАЗЕТ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» І «БЕЛАРУС»

Як XVI стагоддзе, Скарынаў час — залаты век Беларусі, гэтак зорны час скарынаведы на эміграцыі, у прыватнасці ў ЗША, — гады дзейнасці Вітаўта Тумаша (1910–1998), заснавальніка і дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк). Пры ягоным кіраванні інстытутам «Запісы БІНіМ» нездарма называлі *«скарынаведнымі»*: большая частка матэрыялаў прысвячалася беларускаму першадрукару. Пераважна гэта былі арыгінальныя артыкулы-доследы самога Тумаша або шматлікія рэцэнзіі, агляды літаратуры, якія ён змяшчаў пад псеўданімамі Сымон Брага, Рыгор Максімовіч.

Адной з вяршыняў навуковай дзейнасці Тумаша сталася бібліяграфія «Пяць стагоддзяў Скарыніяны»[882], якую даводзіў да ладу й друкаваў ужо Вітаўт Кіпель, замяніўшы цяжка хворага аўтара на пасадзе дырэктара БІНіМа.

Пазней была зробленая спроба абнавіць Тумашаву бібліяграфію, выдаўшы яе працяг[883], але далейшага развіцця ідэя не атрымала, на жаль.

Імя Францыска Скарыны можна сустрэць бадай ці не ў кожным перыёдыку, што выдаваўся на эміграцыі. Датычыць гэта і газет «Бацькаўшчына» і «Беларус», якія можна назваць цэнтральнымі выданнямі дыяспары. Бібліяграфія выдрукаваных на іхных бачынах артыкулаў, зацемак, прысвечаных Скарынавай постаці і ягонай спадчыне, і прапаноўваецца ўвазе чытачоў.

* * *

**1. 1967 год — юбілейны год беларускага друку. Да ўгодкаў вялікага пачыну доктара Франьцішка Скарыны** // Беларус. № 117. Студзень 1967. С. 1.

**2. А. Б. Беларускія календары** // Беларус. № 143. Сакавік 1969. С. 3.
*Рэферат В. Тумаша «Каляндарная сістэма Беларусі Скарынавай пары. Каляндар Скарыны. Календары Беларускага Адраджэньня».*

**3. Акула, К. Скарынаведная канфэрэнцыя** // Беларус. № 328. Студзень — сакавік 1986. С. 1–4.

**4. Акула, К. Франьцішак Скарына паводле «роднай партыі» [Драма]** // Беларус. № 251. Сакавік 1978. С. 1.

**5. Б. С. Рэфэрат В.Тумаша ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва «Калі нарадзіўся і калі памёр доктар Скарына?»** // Беларус. № 110. Травень 1966. С. 1.

**6. Б. С. 425 год ад сьмерці доктара Скарыны** // Беларус. № 103–104. Лістапад — сьнежань 1965. С. 7.

---

[882] Тумаш, Вітаўт. Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны: XVI–XX.

[883] Францыск Скарына: жыццё і дзейнасць; паказальнік літаратуры; дадаткі за 1530–1988 гг., 1989–1993 гг. / складальнікі В. Грышкевіч і Л. Юрэвіч. Мінск: Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, 1995. — 189 с.

**7. Белы, Анатоль. Скарынаведная кніга «Запісаў». *«Запісы» № 18. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк, 1988.*** [Рэц.] // Беларус. № 366. Студзень 1990. С. 3, 6.

**8. «Братский вестник» пра Ф. Скарыну** // Беларус. № 377. Студзень 1991. С. 4.

*Артыкул В. Канатуша «Асьветнік і рэфарматар Францыск Скарына. Да 500-годзьдзя ад дня нараджэньня» («Месячнік Саюзу Евангельскіх Хрысьціян Баптыстаў». № 4. ЗША, 1990).*

**9. Бэрд, Том. Скарынаўске лета [Менск]** // Беларус. № 371. Чырвень — ліпень 1990. С. 7.

**10 В. З. Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. На Радгерскім унівэрсытэце** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 6.

**11. В. З. Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. У Ньюёркскай публічнай бібліятэцы** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 4.

**12. Власт (Вацлаў Ластоўскі). Адзінокі. Эпізод з жыцьця Франьцішка Скарыны** // Бацькаўшчына. № 1–2 (231–232). 7 студзеня 1955. С. 6–7.

**13. Выстаўка прысьвечаная Скарыну. [Нью Ёрк, Квінскі каледж]** // Беларус. № 377. Студзень 1991. С. 4.

*Арганізатар — праф. Томас Бэрд.*

**14. Да скарынаўскага юбілею ў БССР** // Беларус. № 117. Студзень 1967. С. 3.

**15. Да скарынінскага юбілею. [Менск]** // Беларус. № 352. Кастрычнік 1988. С. 7.

**16. Дуж-Душэўскі, Сьцяпан. Вільня сьвяткуе Ф.Скарыну** // Беларус. № 376. Сьнежань 1990. С. 3.

**17. Дынглі, Джэйм і Пікарда, Гай. На Скарынаўскіх сьвяткаваньнях [у Менску й Полацку]** // Беларус. № 375. Лістапад 1990. С. 4.

**18. Жук-Грышкевіч, Раіса. 500-годзьдзе Франьцішка Скарыны. [Чыкага]** // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 4.

**19. Жук-Грышкевіч, Раіса. Да 500-х угодкаў ад нараджэньня Ф. Скарыны. (Скарочаны даклад)** // Беларус. № 328. Студзень — сакавік 1986. С. 1, 4.

**20. Жук-Грышкевіч, Раіса. Даніна Скарыну ад Нью Ёрку** // Беларус. № 133. Травень 1968. С. 5.

*Выстава «450 год беларускага друку» ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы.*

**21. Жук-Грышкевіч, Раіса. Ф. Скарына ня меў нявольніцкае псыхалёгіі. Ліст у рэдакцыю** // Беларус. № 375. Лістапад 1990. С. 4, 7.

**22. Жук-Грышкевіч, Раіса. Юбілейны год Скарыны ў Канадзе** // Беларус. № 328. Студзень — сакавік 1986. С. 1.

**23. З. К. Важныя кнігі для беларускіх кнігазбораў. (Ignacy Dworczanin białoruski polityk i uczony / Ihnat Dwarcznin biełaruski palityk i wuczony. Wydawnictwa Uniwersytetu Warszwskiego. Warszawa, 1990, 101 s. І. С. Дварчанін. Франьцішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст**

**на беларускай ніве. Пераклад з чэскай мовы Тамары Кароткай. Мінск, 1991, 186 с.)** // Беларус. № 383. Кастрычнік 1991. С. 8.

**24. Загорны, А. «Зьвязда», ТАСС і мова Ф. Скарыны** // Беларус. № 274. Люты 1980. С. 6.

*Газета «Звязда» абвясціла, што Скарына выдаў першую кнігу на літоўскай мове.*

**25. Загорны, А. Непрыстойнасьць «Коммуниста Белоруссии»** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 2.

*«Коммунист Белоруссии» змясціў даследванне В.Тумаша «Скарынаў каляндар і каляндарная сістэма Беларусі яго пары» («Запісы БІНіМ». № 18) без спасылкі на аўтара.*

**26. Загорны, Арсень. «Скарына і наш (зрусыфікаваны) час»** // Беларус. № 276. Красавік 1980. С. 5.

*Водгук на кнігу Вячаслава Шалькевіча «Скарына і наш час» (Мінск, 1979).*

**27. Запруднік, Янка. Даклад у БІНіМ пра кнігі Скарыны** // Беларус. № 120. Красавік 1967. С. 5.

**28. Зубкоўскі, В. Белыя плямы Скарынаведы** // Беларус. № 355. Студзень 1989. С. 5.

**29. Імя Доктара Скарыны. Афіцыйны камунікат БІНіМ, перасланы ў АН БССР, Менск, на рукі пісьменьніка Кандрата Крапівы, старшыні Арганізацыйнага Камітэту сьвяткаваньня 450-ых угодкаў беларускага друку** // Беларус. № 126. Кастрычнік 1967. С. 2.

**30. Канфэрэнцыя, прысьвечаная Ф. Скарыне. [Варшава]** // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 4.

*Ад БІНіМа запрошаны д-р В. Кіпель, праф. Т. Бэрд.*

**31. М. К. Біблія Скарыны ў расейскіх стараверaў** // Беларус. № 13 (19). 18 кастрычніка 1952. С. 4

**32. Мальдзіс, Адам. Запаветы Скарыны** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 1, 7.

**33. Н. А. Імя Доктара Скарыны** // Беларус. № 99. Чырвень 1965. С. 2.

**34. Н. К. У сьвятле архіўных знаходак** // Беларус. № 98. Травень 1965. С. 5.

*Пошукі матэрыялаў пра Францыска Скарыну.*

**35. Новае пра Скарыну** // Беларус. № 84. Сакавік 1964. С. 3.

**36. Новыя дакумэнты пра Ф. Скарыну** // Беларус. № 119. Сакавік 1967. С. 3.

**37. П. У. Новае пра Франьцішка Скарыну** // Бацькаўшчына. № 9 (343). 3 сакавіка 1957. С. 2.

**38. Падрыхтоўка да Скарынаўскага юбілею** // Беларус. № 117. Студзень 1967. С. 2.

*Перадрук з: «Літаратура і мастацтва», 25 лістапада 1966.*

**39. [Паштоўка з Франьцішкам Скарынам выйшла ў выданьні БІНІМ у Нью Ёрку]. (Што чуваць?)** // Беларус. № 184. Жнівень 1972. С. 6.

**40. Пікарда, Гай. На Скарынаўскіх сьвяткаваньнях. (Пераклад на беларускую мову Яна Запрудніка)** // Беларус. № 375. Лістапад 1990. С. 2; № 376. Сьнежань 1990. С. 2–3; № 377. Студзень 1990. С. 4.

**41. Піянер кірылічнага друку** // Беларус. № 192. Красавік 1973. С. 1.

*Рэферат В. Тумаша «Скарынаў папярэднік Швайпольт Фэоль – пачынальнік усяго кірылічнага друку».*

**42. «Подзьвіг Скарыны». «L'impresa di Skarina»** // Беларус. № 398. Люты 1993. С. 7.

*Прамова міністра замежных спраў Беларусі П. Краўчанкі на адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар Ф. Скарыны ў Падуанскім універсітэце.*

**43. Пр. М. «Зь беларускага каменнага будаўніцтва XI–XIII ст.» З Крывіцкага Навуковага Таварыства Праньціша Скарыны** // Бацькаўшчына. № 49 (383). 8 сьнежаня 1957. С. 4.

**44. Пра Доктара Скарыну на Міжнародным Кангрэсе Гісторыі Мэдыцыны** // Беларус. № 118. Люты 1967. С. 2.

**45. Пра скарынаведную працу Сымона Брагі ў СССР** // Беларус. № 160. Жнівень 1970. С. 5.

**46. Прысутны. Даклад пра Рыгора Хадкевіча [БІНіМ]** // Беларус. № 151. Лістапад 1969. С. 5.

*Даклад В. Тумаша «Гетман Рыгор Хадкевіч як ідэйны пасьлядоўнік др. Франьцішка Скарыны».*

**47. Р. М. Кніга дакумэнтаў пра Скарыну. (В. І. Дарашкевіч. Францыск Скарына. Зборнік дакумэнтаў і матар'ялаў. Мінск, 1988, 250 с.)** // Беларус. № 354. Сьнежань 1988. С. 6.

**48. Р. М. Шляхамі Доктара Скарыны. Пры нагодзе Скарынавай выстаўкі [у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Нью Ёрку]** // Беларус. № 81. Сьнежань 1963. С. 3.

**49. Рэфэрат аб Скарыне й выстаўка** // Беларус. № 81. Сьнежань 1963. С. 6.

**50. Рэфэрат В. Тумаша пра жыцьцё й дзейнасьць Франьцішка Скарыны. [Нью Брансьвік]** // Беларус. № 110. Травень 1966. С. 6.

**51. С. Б. Паюбілейны юбілей** // Беларус. № 225. Студзень 1976. С. 1.

*Замоўчванне Масквой юбілею Скарыны.*

**52. С. С. Новая публікцыя (*Guy Picarda. The Allegorical Heraldry of Francis Ckarina, London, 1992, 68 p.*)** // Беларус. № 388. Сакавік 1992. С. 6.

*Аналіз скарынаўскіх гравюраў.*

**53. Скарына ў Маскве (*Сымон Брага. Доктар Скарына ў Маскве. БІНіМ, Нью Ёрк — Мюнхэн, 1963, 32 с.*)** // Беларус. № 85–86. Травень 1964. С. 8.

**54. Скарынаведная кніга «Запісаў» БІНіМ № 18** // Беларус. № 355. Студзень 1989. С. 5.

**55. Скарынаў парк на Градчанах** // Беларус. № 88. Ліпень 1964. С. 6.

*Даклад В. Тумаша «Скарына – садоўнік караля Фэрдынанда» (БІНіМ, Нью-Ёрк).*

**56. Скарынаўская ўрачыстасьць у Падуі. Франьцішку Скарыну — у сьвятыя** // Беларус. № 395. Лістапад 1992. С. 5.
**57. Скарынаўскі міжнародны маршрут** // Беларус. № 368. Сакавік 1990. С. 5.
*Падарожа па тых мясцінах, дзе бываў Ф. Скарына.*
**58. Скарынаўскія чытаньні ў Полацку** // Беларус. № 428. Кастрычнік 1995. С. 5.
**59. Скарыніана. Інфармацыйная нататка пра Ф. Скарыну ў лёнданскай каталіцкай The Tablet (6.10.1990)** // Беларус. № 376. Сьнежань 1990. С. 3.
**60. Скарыніана. Факсімільнае выданьне Скарынавае Бібліі рыхтуе выдавецтва «Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі»** // Беларус. № 361. Жнівень 1989. С. 3.
**61. Скарынінская выстаўка ў Атаве. Асамблея Канадзкай Этна-Культурнай Рады** // Беларус. № 329. Красавік — жнівень 1986. С. 4.
**62. Скарынінскі вечар у Варшаве** // Беларус. № 225. Студзень 1976. С. 1.
**63. Скарынінскі год** // Беларус. № 325. Студзень 1985. С. 1.
**64. Скарынінскі год на календары** // Беларус. № 367. Люты 1990. С. 6.
**65. Скарыніяна** // Беларус. № 376. Сьнежань 1990. С. 3.
*Скарынаўскі рубель выпушчаны ленінградскай манетнай фабрыкай у колькасці 3 мільёны.*
**66. Скарыніяна ў БІНіМе** // Беларус. № 75. Сакавік 1962. С. 4.
*Рэферат В. Тумаша «Скарына ў Маскве» і паведамленне пра сабраныя кнігі і дакументы пра Скарыну.*
**67. Скрабатун, Уладзімер. Скарынаўскі юбілей у Рызе** // Беларус. № 478. Люты 1991. С. 4.
**68. Станкевіч, Ст. Цені й блескі Скарынаўскага юбілею ў БССР** // Беларус. № 126. Кастрычнік 1967. С. 1.
**69. Тумаш, В. «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны, XVI–XX ст.», выд. БІНіМ** // Беларус. № 363. Кастрычнік 1989. С. 5.
**70. Урбан, П. Дзіва вартыя высновы ўкраінскага навукоўца** // Бацькаўшчына. № 42–43 (577–578). 22 кастрычніка 1961. С. 3–4.
*Францішак Скарына – «украінскі першадрукар».*
**71. Усё яшчэ «Георгій» Скарына** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 7.
**72. Ф. Скарына: праваслаўны ці не?** // Беларус. № 361. Жнівень 1989. С. 5.
**73. Фляркоўскі, А. Скарыну — слава!** // Беларус. № 128. Сьнежань 1967. С. 6.
*Перадрук з: «Літаратура й мастацтва», 15.08.1967. Артыкул расійскага даследчыка-скарыназнаўцы.*
**74. «Чатырыста пяцьдзясят год беларускага друку»** // Беларус. № 131. Сакавік 1968. С. 2.

*Выстава ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, прысвечаная Францішку Скарыну і гісторыі беларускага друку.*

**75. Шарупіч, Раман. Угодкавы Скарынінскі зборнік БІНіМ** // Беларус. № 171. Ліпень 1971. С. 2.

**76. Шляхам Скарыны** // Беларус. № 325. Студзень 1985. С. 1, 6.

**77. Я. З. Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. Госьці зь Менску ў Фундацыі П. Крэчэўскага** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 4.

**78. Я. З. Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. Квінскі каледж ушаноўвае Скарыну** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 4.

**79. Я. З. Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. У Аб’яднаных Нацыях** // Беларус. № 374. Кастрычнік 1990. С. 4.

# БІНІМАЎСКАЯ КУПАЛІЯНА

## І. Кнігі і рукапісы[884]

Архівы Беларускага інстытута навукі і мастацтва за 50 гадоў існавання натуральным чынам назапасілі каштоўныя архіўныя матэрыялы што да гісторыі інстытута і эміграцыі наогул.

Захаваліся[885] таксама рукапісы і рэчы, якія, бясспрэчна, маюць агульнабеларускую каштоўнасць, як, да прыкладу, арыгінал рукапісу «Тастамента» Уладзіміра Жылкі. Да змешчанага ў «Запісах БІНіМ» рукапісу падаецца наступны *provenance*: *«Рукапіс “Тастамэнту” Ул. Жылкі ў такой форме, у якой ён быў перададзены Яўхіму Кіпелю ў сакавіку 1933 г. у гор. Налінску»*[886].

Мае права ганарыцца інстытут і рукапісамі Янкі Купалы.

Першы з іх — факсіміле рукапісу верша «О так! Я пралетар» — у нядаўна выдадзеным каталогу «Рукапісная спадчына Янкі Купалы» падаецца з гэткім подпісам: *«Рукапіс верша прывезены беларускім пісьменнікам Янкам Запруднікам са Злучаных Штатаў Амэрыкі і падараваны Дзяржаўнаму літаратурнаму музею Янкі Купалы. 1988»*[887]. Калі не звяртаць увагі на адну драбязу — аўтограф Янка Запруднік перадаў ад імя БІНіМа, — усё слушна.

От жа з другім Купалавым аўтографам атрымалася прыкрая недарэчнасць, якой лёгка было б пазбегнуць — запытай укладальніца кнігі або навуковы рэдактар В. Рагойша, знаўца Купалавых рукапісаў, у адміністрацыі БІНіМа.

На старонцы 344 зазначанага каталога напрыканцы пазіцыі, прысвечанай аўтографам паэмы «Безназоўнае» ў Беларусі, паведамляецца наступнае: «*У архіве Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку захоўваецца чарнавы рукапіс першых трох раздзелаў паэмы. Пад першым стаіць дата: “22/ІІІ”, пад трэцім — “22/ІІІ-24”. Тэкст рукапісу гэтых частак адрозніваецца ад тэксту паэмы, якая захоўваецца ў фондах музея»*[888].

Прыкра, што пры гэтым не зазначаецца, скуль узятая *памылковая* інфармацыя, але здагадку выказаць можна: з таго самага нумара «Запісаў» з Жылкавым «Тастаментам». Бо акурат перад ім былі змешчаныя тры першыя раздзелы Купалавай паэмы[889]. Толькі тры!

---

[884] Гэтая частка тэксту ўпершыню была апублікаваная ў: Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 432–438.

[885] Згаданыя далей рукапісы Уладзіміра Жылкі і Янкі Купалы, а таксама Купалавы нож сёння захоўваюцца ў фондзе БІНіМа ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

[886] З архіваў БІНІМ // Запісы БІНіМ. № 20. Нью-Ёрк, 1992. С. 143.

[887] Рукапісная спадчына Янкі Купалы: каталог / уклад. А. У. Бурбоўская; навук. рэд. В. П. Рагойша. Мінск, 2008. Уклейка паміж с. 330 і 331.

[888] Рукапісная спадчына Янкі Купалы: каталог. С. 344.

[889] Гл.: З архіваў БІНІМ // Запісы БІНіМ. № 20. Нью-Ёрк, 1992. С. 137–142.

Зрэшты, можна было б і не навязваць лучнасць з БІНіМам: даволі было проста зазірнуць у бібліяграфію «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе»[890], дзе раздзел сёмы, «З рукапіснае спадчыны Янкі Купалы», распачынаецца менавіта «Безназоўным»:

*«Рукапіс 7-мі вершаў з цыклю “Безназоўнае” — 11 балонкаў. 8 балонкаў малога памеру й 3 балонкі вялікага памеру. Пісаныя Купалавай рукой. На апошняй балонцы іншым чарнілам подпіс, Янка Купала. 5 вершаў датаваныя 22/III-24 г. Папраўкі Купалавай рукой іншым чарнілам або алавікам. Вершы надрукаваныя ў зборніку “Безназоўнае” ў 1925 годзе й пазьней у зборніку “Спадчына”, Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1955. Рукапіс перахоўваецца ў архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва»*[891].

Мюнхенская «Спадчына», згаданая ў бібліяграфіі Кіпеляў, — адно з найбольш фундаментальных выданняў газеты «Бацькаўшчына», укладалася і рэдагавалася няпроста і таксама не вольная ад памылак, пра што красамоўна сведчыць ліст Аўгена Калубовіча да Вітаўта Тумаша:

*«Шаноўны спадар др. В. Тумаш,*

*Пераглядаючы карэктарскія аркушы зборніка Я. Купалы “Спадчына”, я заўважыў нявыпраўленыя памылкі, але не хацеў аб гэтым Вам пісаць, бо ўжо позна іх выпраўляць, калі кніга надрукаваная. Аднак сёньня я дайшоў да санэту “Наша гаспадарка” (бал. 99–100), і мяне прост ашарашыла скандальная памылка ці няўважлівасьць, якая ня можа ня быць выпраўленай, бо ня толькі асьмяшыць Інстытут наш, які выдае зборнік, але гэтага вымагае нашая памяць да спадчыны вялікага паэты. Вось жа санэт гэты, толькі раз друкаваны ў БССР у зборніку “Спадчына” ў 1922 г. (у наступных ягоных зборніках ён цэнзураю выпускаўся), канчаўся так:*

*І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам*
*Варшава панская і ……………………………!?*

*Канчатак апошняга радка выкрасьліла цэнзура. Дакумэнтальна ніхто ня ведае, што там было ў Купалы. Але апошняе слова можна ўстанавіць беспамылкова: гэтым словам было — “Масква”. Па-першае, дзеля таго, што яно мусіла, згодна вымогі санэту, рыфмавацца із словам “трава” (апошняе слова папярэдняга трохрадкоўя), рыфма тут мужчынская, таму ў ёй рыфмуецца толькі апошні (націскны) склад: трава — Масква; па-другое, слова “Масква” вымагаецца словам “Варшава” (сымбалі Польшчы й Расеі — абодвых паднявольнікаў Беларусі); па-трэцяе, каб гэта была не “Масква”, то бальшавіцкая цэнзура яго ня выкрасьліла б, толькі гэтае слова й змусіла яе выкрасьліць. Што ж да эпітэту да слова “Масква”, то тут могуць быць толькі лягічныя здогады. Паданы тут эпітэт “царская” — поўнае непаразуменьне, пазбаўленае ўсялякае лёгікі: па-першае, ні 7.XI.1918 г. (дата*

---

[890] Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе: бібліяграфія / уклад. Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1985. — 350 с.

[891] Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе: бібліяграфія. С. 137.

*напісаньня вершу — і ў зборніку яна падаецца), ні 1922 г. (першая дата апублікаваньня вершу) “царскае” Масквы ўжо не было, яна пала ў лютым 1917 — на паўтара году раней ад даты напісаньня вершу; па-другое, каб тут быў эпітэт “царская”, то для бальшавіцкае цэнзуры ня толькі не было б патрэбы выкрэсьліваць гэтых двух слоў (“царская Масква”), але яна гэта толькі б вітала, бо ўсялякі выступ супраць царскай Расеі, асабліва ў тым часе, ёй быў на руку, яшчэ трывала змаганьне супраць розных дзенікінаў, якія яе хацелі адрадзіць; па-трэцяе, стылістычна эпітэт “царская” не дапасуецца да эпітэту “панская” (Варшава). У Купалы маглі быць два словы, згодна вымогі рытмічнага мэтру: або слова “чырвоная”, або “хамская”. Першае зь іх, аднак, стылістычна не адказвае слову “панская”, другое падыходзіць з усіх гледзішчаў — Варшава панская (у ёй уладу ў рукі ўзялі паны), а Масква хамская (у ёй уладу ў рукі ўзялі бальшавікі); да таго ж эпітэт “хамская”, як і “панская”, мае шырокае значаньне нават без адношаньня да часу (і перад расейскай рэвалюцыяй, і пасьля яе), чаго й вымагае ідэя вершу. Таму найпраўдападобней — у яго было слова “хамская”. Зноў жа, ставячы тут гэнае “царская”, мы адбіраем у Купалы ягонае выказваньне аб тым, як ён спаткаў бальшавіцкую рэвалюцыю, што будзе пярэчыць іншым ягоным вершам і прамове на сваім 15-гадовым юбілеі ў 1920 г. Адным словам, з кожнага гледзішча Купалаў твар і ідэалягічны, і паэтычны пры гэтых “царская Масква” будзе скрыўлены»*[892].

Але ж вернемся да «Безназоўнага».

*Provenance* рукапісу і Купалавага сцізорыка[893] раскрываецца ў прынагодным успаміне дырэктара БІНіМа д-ра Вітаўта Кіпеля, запісаным адмыслова для гэтае публікацыі:

*«У даваенны час, г. зн. перад Другой сусьветнай вайной, сярод менчукоў быў укарэнены пагляд — хаты Коласа й Купалы былі даступныя “звычайнаму чалавеку”. Спрыяла такому пагляду тое, што ў хатах Коласа й Купалы бывала шмат моладзі: школьнікі з розных нагодаў, мясцовая дзятва. Прыкладам, мая будучая жонка Зора*[894]*, якая жыла тады на Першамайскай вуліцы, бывала ў хаце Коласа з сваім братам Лёдзікам, які вучыўся й сябраваў з сынам Коласа. У хаце ж Купалы Зора й Лёдзік былі зачастую, бо Апалёнія Радкевіч*[895]*, маці Зоры й Лёдзіка, сябравала з Уладзяй Францаўнай*[896] *ад*

---

[892] Ліст Аўгена Калубовіча да Вітаўта Тумаша ад 13.06.1957. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

[893] Гл.: Юрэвіч, Л. Людзкая памяць, архівы свае й чужыя ды Купалаў сьцізорык // Запісы БІНІМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 318–326.

[894] **Зора Кіпель** (дзяв. Савёнак, 1927–2003), грамадская дзяячка, бібліёграф, літаратуразнаўца, жонка Вітаўта Кіпеля.

[895] **Апалонія Савёнак** (дзяв. Радкевіч, 1901–1982), педагог, пісьменніца, жонка Лявона Савёнка, маці Зоры Кіпель.

[896] **Уладзіслава Луцэвіч** (1891–1960), літаратуразнаўца і культурная дзяячка, жонка Янкі Купалы.

*дваццатых гадоў, а калі сп-ня Ўладзя працавала ў дзіцячым садку, дык усе дзеці бывалі гасьцьмі Купалаў*[897]*. З маіх сяброў у хаце Купалаў бывалі Туся Куліковіч-Шчаглова*[898]*, у доме Коласа — Чэсік Запольскі.*

*У вайну дамы Купалы й Коласа згарэлі, а пагарэлішчы былі парослыя высачэзнай лебядой й лапухамі. Праўда, на Коласавым пагарэлішчы, што было непадалёк ад гарадзкога саду, я й мае сябры неаднойчы "капаліся", як і на іншых пагарэлішчах "важных шышак", альбо на пагарэлішчы "Дому спэцаў" ці доміку РСДРП, шукаючы незгарэлых арытмомэтраў (пазьнейшых калькулятараў), якія ў Менску перад вайной уваходзілі ва ўжытак, а ў часе вайны іх добра можна было прадаць на рынку, зарабіўшы й на хлеб і на сала!*

*Прызнаюся: я ніводнага арытмомэтра не знайшоў і думаю, што гэта была адна з урбаністычных легендаў ваеннага Менску.*

*Наплылі мне гэтыя ўспаміны ў часе аднае неардынарнае падзеі ў эміграцкім культурна-грамадзкім жыцьці. Падзея гэтая — прэзэнтацыя кнігі Міхася Кавыля "Міжагнёўе", што адбылася напрадвесьні 1991 г.*

*Праходзіла прэзэнтацыя ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры. Было вельмі шмат народу — Міхась Кавыль вельмі папулярны паэт і адданы грамадзкі працаўнік. Пасьля выступленьняў і аналізаў творчасьці Кавыля, зробленых рэдактарамі кнігі Зораю Кіпель і Янкам Запруднікам, выступаў сам паэт. Ягоная прамова скончылася нечым нештодзённым: Міхась Кавыль дастаў з свае пісьменьніцкае тэчкі бліскучую мэталёвую "штучку", перавязаную стужкаю зь беларускім арнамэнтам, і сказаў: "Як дар за прабленую над маёй кнігаю працай, перадаю Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва капэртаадчыняльнік, якім дзесяцігодзьдзі карыстаўся Янка Купала й, прыпушчаю, якім ён спрабаваў зрабіць сабе харакіры".*

*Міхась Кавыль уручыў гэтую прыладу, на выгляд падобную на кінжал — срэбны, бліскучы. Аўдыторыя спачатку замерла, а потым зашумела, заварушылася: Купалава рэч? якім чынам? Вытварылася канфузьлівая нязручная сытуацыя.*

*Для выясьненьня Міхась Кавыль распавёў:*

*"Гэтую прыладу перадаў мне ў сярэдзіне 1950-х гадоў сп. Юры Сабалеўскі*[899] *— вядомы дзеяч, а знайшоў ён гэтую прыладу на пагарэлішчы дому Янкі Купалы ў часе вайны. Тады ж у Менску прыладу ідэнтыфікаваў шмат хто з тых, хто бываў у кабінэце Купалы й бачылі гэты кінжал на стале паэты, улучна з сп. Аўгенам Калубовічам".*

---

[897] Гл. таксама: Юрэвіч, Л. Зацемкі на маргінэсе найноўшай гісторыі // Запісы БІНІМ. № 24. Нью-Ёрк, 1999. С. 169–180 [Апалёнія Радкевіч. Прыпамінаю].

[898] **Наталля (Туся) Шчаглова** (у замустве **Кушаль**, 1929–1967), дачка кампазітара Міколы Шчаглова-Куліковіча, жонка Уладзіміра Кушаля (нявестка Наталлі Арсенневай).

[899] **Юры Сабалеўскі** (1889–1957), грамадскі дзеяч, адзін з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады у 1924–1926 гг.

*Міхась Кавыль працягваў: “Ці карыстаўся Купала гэтым кінжалам пры харакіры — няведама, аднак думка выказвалася. Юры Сабалеўскі перахоўваў гэтую рэч, а пазьней перадаў яе мне”.*

*Вось пры такіх акалічнасьцях мне, Вітаўту Кіпелю, давялося пачуць гісторыю прылады з Купалавага стала.*

*Дадам: пазьней пераглядаючы розныя каталёгі ювэлірных майстроў Расеі, мы знайшлі й майстру, і прадпрыемства, дзе нож быў зроблены. Сп. Чэслаў Будзька*[900] *падказаў, што нібыта гэтую прыладу Купалу падаравалі ў Вільні перад Першай сусьветнай вайной, ды на некаторых фотаздымках Купалавага кабінэту гэты капэртаадчыняльнік бачны на стале паэты.*

*Цяпер аб манускрыптах Янкі Купалы, якія перахоўваюцца ў БІНіМ. Пару было перададзена праз біскупа Ч. Сіповіча ў Скарынінскую Бібліятэку ў Лёндане, а верша “Я пралетар” доктарам Янкам Запруднікам у Музэй Янкі Купалы ў Менску.*

*Прыпушчаю, што ўсе Купалавы манускрыпты трапілі на Захад у часе вайны, калі шмат кнігазбораў, архіўных матэрыялаў былі вывезеныя немцамі зь Менску ў Нямеччыну й пэўны час знаходзіліся, а дакладней, былі зваленыя ў склад у горадзе Раціборы ў Сылезіі. Немцы для парадкаваньня тых нарабаваных друкаваных каштоўнасьцяў набралі групу працаўнікоў, у складзе каторых былі й Апалёнія й Зора Савёнкі.*

*У нейкім часе ўбачыўшы ў тых купах Купалавы манускрыпты, як і некаторыя іншыя, нехта з тае групы беларускіх працаўнікоў вынес іх, і яны апынуліся ў сям’і Савёнкаў. Манускрыпты былі перахаваныя, і калі па вайне пачалося выданьне “тоўстых” літаратурных часапісаў, прыкладам, “Сакавік”, або збор паэзіі Купалы “Спадчына”, манускрыпты пачалі часткова апісвацца й выдрукоўвацца»*[901].

Да БІНіМаўскай купаліяны належаць таксама і значкі, паштовыя карткі, партрэты, плакаты. Найбольш папулярным, напэўна, быў жэтон, выкананы мастачкаю Ірынай Рагалевіч-Дутко і выдадзены БІНіМам у 1982 г. — было зроблена 500 такіх значкоў.

Немалое месца ў БІНіМаўскай купаліяне займаюць кнігі — прыжыццёвыя паэтавы выданні, эміграцыйныя друкі. Ёсць унікальныя кнігі і ўжо нашага часу.

У 1982 г. да паэтавага стагоддзя выдавецтва «Мастацкая літаратура» накладам у 10 000 асобнікаў выдрукавала зборнік «А хто там ідзе?» у перакладзе на 81 мову свету (укладалі кнігу В. Рагойша і Я. Раманоўская). Кніга распачыналася беларускамоўным арыгіналам, а за ім ішлі ў алфавітным парадку — абазінская мова, аварская, англійская… Сярод перакладаў выдаўцы забыліся змясціць славацкі, адмыслова замоўлены Зорай Кіпель

---

[900] **Часлаў Будзька** (1913–1985), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог.
[901] Рукапіс успаміну захоўваецца ў аўтара.

вядомаму славацкаму пісьменніку[902]. Але галоўная праблема выдання была не ў гэтым. Рускамоўны пераклад мясціўся паміж румынскім і русінскім.

Скандал ва ўладзе быў настолькі вялізны (рускамоўны верш у агульным шэрагу!), што ўвесь наклад пусцілі пад нож. Па сведчанні Барыса Сачанкі, цудам выратавалі 5–7 асобнікаў.

Праз год, у 1983, выйшла выданне-блізнятка: вокладка, анатацыя, наклад, але пасля арыгінальнага верша ішоў рускамоўны пераклад, а вось далей — ужо па алфавіце…

Зразумела, у другім выданні не было і згадкі пра выданне мінулагодняе. Але гісторыя і архівы захоўваюць усё.

## II. Версіі: смерць Янкі Купалы[903]

Адной з найбольшых таямніц дзейнасці эміграцыі 1950-х гг. можна лічыць яе кантакты з Беларуссю. От жа існавалі нейкія сцежкі, па якіх невядомыя нам сёння *«госці»* дабіраліся ў Нямеччыну ды добра ведалі, каго і дзе там шукаць.

Вось што ў лісце да Аўгена Каханоўскага пісаў тагачасны прэзідэнт Рады БНР Мікола Абрамчык:

*«В. Паважаны Спадар Старшыня, атрымаў сёньня сьвяточны нумар “Бацькаўшчыны”. Артыкул*[904] *пра “Чорнага Ката”*[905] *пададзены* [неразб.] *в. неабярэжна.*

*Выглядае напроста правакацыяй нейкай. Падаецца столькі непатрэбных рэчаў, дэмаскаваныя кансьпірацыі і г. д. На якое-ж ліха падаваць такіе сьляды, як “партызаны жывуць у калхозах, займаюць становішчы” ды чуць не адрас вілы Вітушкі*[906]*. Выходзіць, што такіх нямецкіх бегляцоў не варта выпускаць зь Беларусі.*

*Думаю, што Вам абавязкова патрэбна на гэта зьвярнуць увагу тых 2-х хлопцаў, каб яны аб гэтым усім пераказалі там каму патрэбна.*

---

902 Гл. пра гэта: Купала, Янка. А хто там ідзе? У перакладзе на славацкую мову // Беларус. № 306–307. Лістапад — сьнежань 1982. С. 3.

903 Гэтая частка ўпершыню была апублікаваная як самастойны тэкст у: Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей: зборнік памяці Віталя Скалабана. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 362–373.

904 Маецца на ўвазе тэкст: У службе «Чорнага Ката». Успаміны нямецкага палоннага // Бацькаўшчына. № 2 (62). 25 сакавіка 1950. С. 3.

905 **«Чорны Кот»** — антысавецкая партызанская арганізацыя, якая дзейнічала ад 1944–1945 гг. да пачатку 1950-х гг. пад кіраўніцтвам Міхася Вітушкі. (Гл.: Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944–1956. Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.)

906 **Вітушка, Міхась** (1907–?), вайсковы дзеяч, кіраўнік Беларускага Рэзістансу ў другой палове 1940–1950-х гг. (Гл.: Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944–1956. Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.)

*3.4. я Вам выслаў ліст, у якім выказаў некулькі сваіх думак, якіе варта-б было туды накінуць праз гэтых хлопцаў.*

*Цяпер, чытаючы “Бацькаўшчыну”, прыйшла мне яшчэ адна. Ці не маглі-б яны гэтага “Чорнага Ката” назову — перамяніць на такі нацыянальны назоў, які-б акрэсьліў ясьней ідэйна палітычны характар нашага змаганьня. Было-б в. добра, каб яго замянілі на “Варту Б.Н.Р.” ці “Гвардыю Б.Н.Р.”. Або калі нельга ў цэласьці зьліквідаваць гэты назоў “Чорны Кот”, то прынамсі часьць іх, скажым, лепшыя адзінкі-аддзелы назваць “Вартай Б.Н.Р.” — а калі й гэтага нельга, то новую зрабіць фармацыю пад гэтым назовам.*

*На гэтым-бы мы в. выйгралі палітычна. Гэта-б магутнейшым рэхам абыйшлося ў сьвеце і лягчэйшымі-б былі нашыя сукцэсы дыпляматычныя. А то “Чорны Кот” хто яго ведае што такое нацыянальнае гэта наша, ці нейкае інтэрнацыянальнае, ці нешта хоць і беларускае, але без акрэсьленага палітычнага аблічча, ось нешта анты бальшавіцкае і ўсё.*

*Потым было-б в. добра, калі Вам удасцца празь іх перакінуць з “Бацькаўшчыны” нашага Маніфэсту*[907]*, некулькі пастановаў Рады, апошні сьвяточны № “Бацькаўшчыны”»*[908].

[907] Маніфэст Рады Беларускай Народнай Рэспублікі // Бацькаўшчына. № 9 (12). 25 сакавіка 1948. С. 1.

[908] Ліст М. Абрамчыка да А. Каханоўскага ад 12.04.1950. На лісце — штамп *«Kanc. Uradu B.N.R. No 91 Data AHIZSINSIWVIPRIDS»*. Захоўваецца ў архіве БІНІМа. На гэты ліст А. Каханоўскі адказаў:

*«Шаноўны Спадар Прэзыдэнт! На Вашыя лісты ад 3.4.1950 і 12.4.1950 г. я адказваю із спазьненьнем галоўным чынам дзеля таго, што спадзяваўся хуткага спатканьня із нашым кур’ерам з Бацькаўшчыны, каб мецьь беспасярэднія ад яго больш падрабязныя і канкрэтныя інфармацыі, чымся ягоныя асьцярожныя й толькі агульныя інфармацыі ў лістох. Аднак гэтае спатканьне зь незалежных ад нас і яго прычынаў затрымалася. Цяпер мы маем пратакол перaслуханьня яго нашымі прыяцелямі, дастаўлены нам кур’ерскаю поштаю, і надзею хуткага пабачаньня. Болей аб гэтым пісаць Вам ня буду, бо хутка Вы спаткаецеся ў Нью Ёрку з ген. Ф. Кушалем, які Вам зложыць аб гэтым дакумэнтальную справаздачу. Калі-ж Ф. Кушэль выедзе зь Мюнхэну ў ЗША яшчэ на гэтым тыдні і ня зможа бачыцца з нашым кур’ерам, то пры сваім спатканьні зь ім я сам пастараюся праінструктаваць яго аб Вашых прапазыцыях, а пры спатканьні з Вамі дапоўню Вам справаздачу Ф. Кушэля. Тое, што Вы чулі ў гэтай справе ад В. Русака, нічога супольнага з нашай акцыяй ня мае: там мова йшла аб нязнаным нам перабежчыку-беларусу з Беластоку, які жыве цяпер пад амэрыканскім наглядам у Мюнхэне, прыяжджаў двойчы да нас і пасьля ўважлівага пераслуханьня яго зрабіў на нас уражаньне чалавека, да якога мы ня маем даверу. Што-ж да артыкулу ў «Бацькаўшчыне», перадрукаванага зь нямецкай газэты «Райнішэ Цайтунг», то ён ня зробіць нашым партызанам ніякае шкоды, бо, паводля нашых верагодных інфармацыяў, ад травеня месяца 1948 г. пасьля выпадкаў правакацыі польскіх партызанскіх аддзелаў, якія перайшлі ў Беларусь з Польшчы, нашая партызанка так рэарганізавана й закансьпіравана, што яе здэкансьпіраваць цяжка. А немец*

Што падобныя кантакты былі не адзінкавыя, што сувязь існавала больш-менш пастаянная, сведчыць наступны дакумент:

*«Беларуская Народная Рэспубліка*
*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі*
*Канцылярыя Прэзыдэнта*
*Гаспода, 7 чэрвеня 1950 г.*

*Дэкрэт*

*У імені Беларускага Народу, Мы, Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі гэтым пастанаўляем:*

*I. Узнагародзіць за выказаны героізм у змаганьні з акупантам за Волю Бацькаўшчыны:*

*1. Маёра Ноч — галоўнага Камандзіра беларускіх партызанаў і Камандзіра Ўсходняе групы — “Ордэнам Пагоні” 1-ае клясы і вайсковаю рангаю гэнэрал-маёра.*

*2. Усіх Сяброў Галоўнага Штабу партызанаў “Ордэнам Пагоні” 2-ое клясы.*

*3. Камандзіра Палескае групы партызанаў надлейт. Саху — “Ордэнам Пагоні” 2-ое клясы.*

*4. Камандзіра Налібоцкае групы партызанаў маёра Маланку — “Ордэнам Пагоні” 2-ое клясы.*

*5. Афіцэра сувязі Галоўнага Штабу Партызанаў маёра Дуба — “Ордэнам Пагоні” 2-ое клясы.*

*6. Камандзіраў спэцыяльных адзьдзелаў СВС і “Чорнага Ката” — “Ордэнамі Пагоні” 2-ое клясы.*

*II. Усе камандзіры партызанаў узнагароджаныя «Ордэнам Пагоні» паклікаюцца ў склад сяброў Рады БНР.*

*III. Гэнэрал Ноч прызначаецца віцэ-старшынёй Ураду БНР із спэцыяльным заданьнем кіраваць Вызвольным змаганьнем у Бацькаўшчыне.*

*IV. Віцэ-Старшыні Ураду БНР гэн. Ноч надаецца паўнамоцтва ўзнагароджваць за заслугі ў беларускім партызанскім руху “Ордэнамі Пагоні” ўсіх 3-х клясаў і павышаць у вайсковыя рангі да ступені палкоўніка ўключна.*

*V. За выказаную вынаходлівасьць, энэргію і гэроізм пры выконываньні цяжкога заданьня Ураду БНР сп. Д. (М) узнагароджваецца “Ордэнам Пагоні” 2-ое клясы.*

*Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Мікола Абрамчык»*[909].

---

*у сваіх успамінах, праўдападобна апавядаючы аб партызанскай дзейнасьці, увагу бальшавікоў адводзіць у бок»* (Ліст А. Каханоўскага да М. Абрамчыка ад 06.05.1950. Захоўваецца ў архіве БІНіМа).

[909] На дакуменце — штамп *«Kanc. Uradu B.N.R. No 108 Data AHIZSINSIWVIPRIDS»*. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

Хоць дэкрэт падпісаны Міколам Абрамчыкам, тэкст быў складзены Аўгенам Каханоўскім. У лісце ад 30.05.1950 ён пісаў:

*«Яго Эксцэленцыі Прэзыдэнту Беларускае Народнае Рэспублікі Спадару Інж. Абрамчыку Мікалаю.*

*Выходзячы з атрыманае мною поўнае справаздачы аднаго з нашых спэцыяльных кур'ераў з Бацькаўшчыны Д(М), які 8.7.1948 г. быў высланы Ўрадам БНР на Бацькаўшчыну із заданьнем устанавіць сталую сувязь зь беларускім партызанска-падпольным рухам і перадаць ягоным кіраўнікам адпаведныя інфармацыі і інструкцыі, а 17.5.1950 г. па выкананьні свайго заданьня дастаўся назад у раён сядзібы Ўраду, аб чым поўную справаздачу зложыць Вам у Нью Ёрку пры асабістым спатканьні ген. Ф. Кушэль, — прашу Вас узнагарадзіць за выказаны гераізм у партызанска-падпольным руху на Бацькаўшчыне»*[910]. Далей ішоў тэкст прыведзенага вышэй дэкрэта.

Пакінем убаку пэўную сенсацыйнасць звестак, праўдзіць якія тым часам не ўяўляецца магчымым, як і адказаць на пытанне, кім насамрэч былі тыя хлопцы — удзельнікамі антысавецкага змагання ці супрацоўнікамі органаў (што не выключана), адно канстатуем: кантакты былі.

Выглядае, што дзесьці на пачатку 1959 г. у Нямеччыну дабраўся новы *«госьць»* і навязаў лучнасць з Міколам Абрамчыкам. Хто гэта быў, прэзідэнт схаваў нават ад сваіх паплечнікаў, сябраў Рады БНР — Антона Адамовіча (1909–1998) і Вітаўта Тумаша (1910–1998). Чалавек, як можна зразумець з ніжэй прыведзенага ліста, цалкам меў давер Абрамчыка — і да сябе, і да звестак, якія ён (ці яна) паведамілі.

Звестак пра смерць Янкі Купалы.

Сёння дзякуючы кнігам Барыса Сачанкі[911] і Георгія Коласа[912] абставіны Купалавай смерці шмат у чым насветленыя, і таму лёгка заўважаюцца недакладнасці ў паведамленні Абрамчыка. Разам з тым, паколькі застаюцца пытанні і няма адзінай кананічнай версіі — няшчасны выпадак ці забойства, мэтазгодна апублікаваць ліст Абрамчыка да Антона Адамовіча і Вітаўта Тумаша і адказ Тумаша яму.

*«17.2.1959*[913]*.*
*Вільпант.*

*Дарагі Прафэсару й дарагі Доктар,*

*Прашу вас выбачыць, што адказваю вам супольным лістом, да таго з такім запазьненьнем. Раблю гэта дзеля таго, што, па-першае, вашые да мяне лісты закранаюць тыя самыя пытаньні, або я падобна аналёгічныя*

---

[910] На лісце — штамп *«Kanc. Uradu B.N.R. No 104 Data AHIZSINSIWVIPRIDS»*.

[911] Гл.: Сачанка, Барыс. Сняцца сны аб Беларусі: літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск, 1990. — 332 с.

[912] Колас, Георгій. Карані міфаў: жыццё і творчасць Янкі Купалы. Мінск, 1998. — 346 с.

[913] Ліст М. Абрамчыка да А. Адамовіча і В. Тумаша ад 17.02.1959. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*маю да вас справы, а па-другое, у мяне вельмі скупа з часам, мушу досьць часта даяжджаць да Мюнхэну ды залішне часта пачалі вязацца розныя хваробы. Вось-жа прашу не злавацца.*

*1. Перадусім у справе філіі нашай Акадэміі*[914] *ў Н. Ёрку, хто-б з вас меў нас там прадстаўляць? Праф. Адамовіч у сваім лісьце мяне амаль пераканаў, што лепш было-б д-ру Тумашу. Але атрымаўшы затым ліст ад др. Тумаша, быў схілен гэтулькі-ж згадзіцца, што лепей Адамовічу. Зразумела, што ня мог я таму іначай паступіць, як падаць нашаму прэзыдэнту, праф. Марынеску, вашые абедзьве кандыдатуры (ён дамагаўся ад мяне), зазначыўшы, што абодвы поўнасьцю нас задаволяць, хто-б толькі зь іх ні згадзіўся прыняць на сябе гэтыя абавязкі. Ён так і меў напісаць Галецкаму*[915]*. Спадзяюся, што да гэтага часу пытаньне гэтае вы ўжо разьвязалі, а калі не, то прынамсі згадзіцеся хадзіць па чарзе. Згадзіцеся з тым, што пляцоўка гэта для нас вельмі важная.*

*2. У справе сьмерці Купалы. Я затрымаўся зь пісаньнем свайго артыкулу ў "Бацькаўшчыну" (хоць пачаў быў ужо) не таму, што вы мяне пераканалі, а таму што спадзяюся пераканаць вас у памылковасьці занятай вамі пазыцыі ў гэтым пытаньні.*

*Я перакананы, што разыходжаньні ў нашай ацэне атрыманых вестак выплываюць толькі з таго, што вам ня ведамы настолькі факты і крыніцы атрыманых намі вестак. Што гэта іменна так, пераконвае мяне прыклад з Стасем*[916]*. Стась у Н. Ёрку быў згодны з вамі, тут ён цяпер стаіць за тое, каб як найхутчэй апублікаваць гэта, ды цісьне на мяне як хутчэй пісаць. Тут безумоўна нічога так не гарыць, месяц раней ці пазьней, але*

---

[914] З ліста М. Абрамчыка да А. Адамовіча і В. Тумаша ад 25.11.1958: *«Рэч будзе аб Міжнароднай Акадэміі Навук, сябрамі якой вы зьяўляецеся. Як вам ведама, Акадэмія заснаваная ў Парыжы, лепш кажучы, легалізавана, у 1950 г. на легальным, калі так можна сказаць, францускім* [неразб.] *была ўвесь час актыўная. Заўсёды чыталіся даклады, на якіх прысутнічалі выдатныя францускія навукоўцы, а штогоду адбываліся канфэрэнцыі нешта кшталту канфэрэнцыяў Мюнхэнскага інстытуту. Амбіцыі Акадэміі былі заўсёды вялікія, і нельга сказаць, што беспадстаўныя, бо запраўды ўсё-ж такі гэта адзіная ў эміграцыі інстытуцыя, якая групуе запраўды навуковую, а часткова і палітычную эліту эміграцыі народаў цэнтральнай Эўропы»*. Захоўваецца ў архіве БІНІМа. Да беларускай групы, якую ўзначальваў М. Абрамчык, таксама належалі Станіслаў Станкевіч, а. Леў Гарошка, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Мікола Куліковіч, Янка Станкевіч, Дарашэвіч.

[915] **Оскар Галецкі** (*Халецкі, Halecki, Chalecki*, 1891–1973), польскі гісторык, прафесар. Ад 1940 г. жыў у Нью-Ёрку. Арганізаваў Польскі інстытут навукі і мастацтва імя Ю. Пілсудскага ў Нью-Ёрку. У 1944–1961 гг. узначальваў кафедру гісторыі Усходняй Еўропы ва ўніверсітэце ў Фордхаме, выкладаў таксама ва ўніверсітэтах Нью-Ёрка, Манрэаля, Лос-Анджэлеса, Берклі, Рыма. Быў старшынёй Урада Нью-Ёркскага аддзела згаданай у лісце акадэміі.

[916] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.

*перад гадавінай сьмерці Купалы, найпазьней за месяц перад тым, трэба вырашыць, падаем ці не. Я не хацеў-бы, каб мы тут, ці лепш Мюнхэн, зрабіў гэта супроць абсалютнага вашага супраціву. Таму хачу вас трохі шырэй зарыентаваць. Не магу, на жаль, падаць вам лістоўна некаторых рэчаў, магу аднак вас запэўніць, што крыніцы, зь якіх мы атрымалі гэтыя весткі, абсалютна выключаюць якія будзь сумлевы ў праўдзівасьці іх, а тым больш падозраньні, што нехта мог нам падсунуць як выгаднейшую для сябе версію. Вось-жа як было. Напярэдадні забойства Купалы, увечары 27 чэрвеня ў Маскве адбывалася сходка беларускіх пісьменьнікаў. Сход насіў вельмі бурны характар, і ўся бура круцілася навокал справы Купалы. Ад Купалы вымагалася актыўнейшай працы і паручалася яму адно канкрэтнае заданьне, ад якога Купала катэгарычна адмовіўся. Па выхадзе з сходкі на двары Купалу два “цывільныя”, шапнуўшы яму нешта, адвялі ўбок. Сцэнку гэту бачылі некалькі пісьменьнікаў. На гэтым і прапаў сьлед. Да хаты тае начы К. НЕ ВЯРНУЎСЯ. На заўтрае рана энкавэдэ паведаміла пару бліжэйшых Купалу асоб, што К., вяртаючыся ўчора да дому, трохі падвыпіўшы, зваліўся па сходах СВАЙГО гатэлю й забіўся. Прычым так зуродаваўся, што энкавэдэ вырашыла нікому цела пакойнага не паказваць, каб не пакінуць так прыкрых успамінаў. ТАКІМ ЧЫНАМ МЁРТВЫМ КУПАЛУ НІХТО НЯ БАЧЫЎ, уключаючы і жонку Купалы. Аб саміх паховінах К. таксама шырока не паведамлялася, і беларускія пісьменьнікі ў паховінах удзел ня бралі. За магілай К. ішло толькі (як, зрэшты, і перадавалася тагды па радыё) каля 12 чалавек.*

*У кругох, блізкіх да К. людзей, пражываючых тагды ў Маскве, маецца АБСАЛЮТНАЕ перакананьне, што К., забраўшы з вуліцы, энкавэдыстыя замардавалі тае ночы ў НКВД, прычым сьляды забойства відочна настолькі выяўлялі факты вонкавага насільля, што паказаць труп нябошчыка было не магчыма. Выснавы такіе робяцца з наступных фактаў:*

*1. Адвод энквэдыстых, што К. забіўся на сходах свайго гатэлю, груба абсурдная выдумка. Гатэль, у якім К. займаў на 2-м паверху адзін пакой з жонкай, быў заселены амаль выключна беларускімі пісьменьнікамі як бежанцамі зь семьямі, і калі-б К. запраўды, вяртаючыся са сходкі, мог паваліцца і так, коцячыся па сходах, зуродавацца, то абсалютна выключана, каб ніхто з суседзяў ня выйшаў з свайго памешканьня на помач ці прынамсі дворнік дому не заалярмаваў жонцы Купалы, калі-б нават і дапусьціць, што ўсе, вярнуўшыся са сходу, пісьменьнікі непрабудна заснулі і калі так спозьнена вяртаўся адзін сам Купала. На які-ж гэта тагды алярм і скуль зьявіліся энкавэдыстыя, што падабралі так зуродаванае цела К., не пакінуўшы ні капелькі крыві на тых фатальных “сходах”, а ў гатэлі аб страшным здарэньні даведаліся толькі на заўтрае ад энкавэдыстых.*

*Усе гэтыя так грубыя выкрунтасы чэкістых, як і іхні цынізм у праяўленай імі “чульлівасьці” аб захаваньні не благога ўражаньня аб нябожчыку, тлумачыцца толькі адным — у іх самаўпэўненасьці, што ні жонка нябожчыка, а тым балей ніхто іншы не паважацца дамагацца правядзеньня сьледства таго містычнага шляху, на якім згінуў наш прарок. У савецкіх умовах аднак*

*выяўляюцца рэчы і бязь ніякіх фармальных сьледстваў. Блізкія Купалу людзі ведаюць, што забраны па выхадзе са сходу Купала быў завезены ў НКВД і тае-ж ночы там замардаваны.*

*2. Чаму цела Купалы не дазваляюць перавезьці ў Беларусь? Па закончаньні вайны пры пабудове ў Менску памятніка К., жонка нябошчыка зьвярталася з просьбай перавесьці дамавіну К. у Менск. Адмоўлена. З наступленьнем “Адлігі” просьба была паўторана пры падтрымцы Саюза б. пісьменьнікаў — нанова адмоўлена. Чаму? Чаму энкавэдэ так пільна хоча аберагаць магілу так заслужанага бел. народнага песьняра ў сябе пад бокам, у Маскве, а не перавесьці яе пад апеку беларускага народу, у Край, перад якім, нат згодна-ж і іх савец. рэжыму, К. так заслужыўся? Дзе імем Ягоным называюцца вуліцы, тэатры, калхозы і т. п.? Прычына ня ў тым, што гэта вымагала нейкіх вялікіх выдаткаў. На сваёй тэрыторыі гэта проста нуль у параўнаньні зь перавозам зь Нью Ёрку Вышынскага[917]. І ня ў тым, што Купалу й беларусам робіць большую чэсьць мець магілу прарока ў Маскве, ці гэтай Маскве ня ведамы запавет Купалы, ягоны тэстамэнт, быць пахаваным у Беларусі, што ў праціўным выпадку цень Купалы ўстане з магілы, на крыж абапрэцца і ў той бок глядзець будзе век нязводна, дзе ляжаць загоны Беларусі роднай[918]. ПРЫЧЫНА АДМОВЫ АДЗІНАЯ — ГЭТА СТРАХ маскоўскіх чэкістых перад выяўленьнем іх жудкага крыму[919], СТРАХ ПЕРАВЯЗЕНЬНЯ СВАЕ АХВЯРЫ НА ТЭРЫТОРЫЮ З ПУНКТУ ГЛЕДЖАНЬНЯ СТРАТЭГІЧНАГА НЯПЭЎНУЮ, пабойваньне магчымага паўтораньне выпадку з Катынам[920].*

*У людзей, блізкіх Купалу, маюцца нат прыпушчэньні, што ў дамавіне Купалы паложаны ня труп Купалы. Што Купала пахаваны дзесь у іншым, засакрэчаным мейсцы або проста спалены ў падвалах НКВД, а на мейсцы К., у ягоную труну паложана іншая ахвяра НКВД, таму гэты труп нікому і не паказаны.*

*3. Нам перадана, што блізкія Купалу людзі незадаволены, што эміграцыя фальшыва камэнтуе сьмерць Купалы. Купала НЕ пакончыў самагубствам, Яго замардавалі НКВДыстыя.*

---

[917] **Андрэй Вышынскі** (1883–1954), савецкі дзяржаўны дзеяч. Памёр у Нью-Ёрку, дзе працаваў прадстаўніком СССР у ААН.

[918] Верш «Я ад вас далёка» (1910) заканчваецца наступнымі радкамі:

*А хоць дасьць мне доля ў дамавіне мейсца, —*
*Ўстане цень зь зямлі мой, на крыж абапрэцца*
*І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,*
*Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.*

[919] **Крым** — тут ад англ. *crime* — злачынства.

[920] Маецца на ўвазе **Катынь** — вёска ў Смаленскім раёне Смаленскай вобласці Расіі, за 18 км на захад ад Смаленска. Стала вядомая дзякуючы масавым забойствам каля 4,4 тысячы польскіх грамадзянаў (пераважна палонных афіцэраў польскага войска), якія ажыццяўлялі супрацоўнікі НКУС СССР у лесе каля вёскі ў 1940 г.

*Цяпер думка Нью Ёрку, насьцярожанасьці, ці не падсовывае нам нехта хітра вэрсыю аб забойстве К. як выгаднейшую бальшавікам вэрсыю, чым самагубства. Адносна пэўнасьці крыніц і людзей я сказаў ужо. Мушу аднак прызнацца, што мяне зьдзівіла, як гэта Н. Ёрк можа тлумачыць, што замардаваньне К. НКВДыстамі зьмяшнае іх крым у параўнаньні з самагубствам? Звычайна, дагэтуль уважалася ў сьвеце, што морд палітычнага праціўніка ёсьць найвялікшае злачынства, асабліва калі такі морд робіцца ўпотайкі. Толькі замардаваныя за ІДЭЮ прызнаваліся МУЧАНІКАМІ ўсеагульна. Самагубства, гэта толькі пратэст, скрайні пратэст, але як форма пратэсту не ўсімі ў грамадзтве апраўдваўся. Наадварот, многія ў акце самагубства ўважаюць як праяўленьне слабасьці людзкай волі, як капітуляцыю, як ухіленьне ад найтруднейшага, сьвядомасьці ў сваёй нядольнасьці перанесьці найтруднейшае. Пэўная-ж частка грамадзтва, і то не абы якая — Хрысьціянская Царква — напроста ў акце самагубства, якія-б яно ня мела прычыны, уважае самапраступства, дзеля чаго каталіцкая і праваслаўная асабліва цэрквы не дазваляюць самагубам хавацца на супольных хрысьціянскіх магілках. Няхай сабе гэта толькі рэлігійныя догмы, але-ж апінія такая існуе ў грамадзтве. Зрэшты не адзін гэта толькі бок філёзофскі, аб якім можна спорыць і даводзіць за і проці. У даным выпадку нам ходзіць, ці Масква зьяўляецца адказнай за* <u>*беспасярэдняе*</u> *забойства ідэёлага і прарока беларускага вызвольнага руху, ці яна адказна толькі* <u>*пасярэдне*</u>*, фактам стварэньня нязноснага рэжыму для людзей. Вось-жа ў першым выпадку крым яе бясспрэчны і ніколі нікім ня будзе апраўданы. У другім выпадку гэта ўжо ня крым, бо тут рэжым ня зьнішчыў Купалу фізычна, а што маральна на яго рабіліся рэпрэсыі, то рэжым мае на гэта свае маральныя апраўданьні — савецкі рэжым імкнецца да рэалізацыі камунізма, "найідэальнейшай формы, найсправядлівейшага сацыяльнага ладу". Ну дык што-ж яны вінаватыя, калі той ці іншы праціўнік іх ідэй, іх сыстэмы праводжаньня запратэставаў самагубствам.*

*Зусім не падыходзячы Ваш прыклад забойства Бэрыя*[921]*, або "намаганьні бальшавікоў скамэнтаваць самагубства Масарыка — забойствам"*[922]*. У першым выпадку гэта толькі барацьба пэрсанальная за ўладу, у другім якраз наадварот, не бальшавікі так камэнтавалі, а чэскія патрыёты. Бальшавікі якраз наадварот, яны сілай выкінулі Масарыка праз вакно, каб сымуляваць "самагубства". Я ў той час якраз меў в. добрыя кантакты з чэхамі ў Парыжу. Якраз чэхі анты-бальшавікі дэмаскавалі бальшавіцкі крым, што Масарыка забілі бальшавікі.*

---

[921] **Лаўрэнцій Берыя** (рус. *Лаврентий Берия*, 1899–1953), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з галоўных арганізатараў сталінскіх рэпрэсій.

[922] **Ян Масарык** (чэш. *Jan Garrigue Masaryk,* 1886–1948), сын чэшскага прэзідэнта Тамаша Масарыка. Па вайне працаваў міністрам замежных спраў Чэхаславакіі. Пасля прыходу ў гэтай краіне да ўлады камуністаў быў знойдзены мёртвым пад вокнамі сваёй кватэры. Паводле адной з версій, да гэтага спрычыніліся супрацоўнікі савецкіх спецслужбаў.

*Рэзюмуючы: Нам перададзены абсалютна аўтарытэтныя весткі аб бессумліўным забойстве бальшавікамі Купалы. НКВД зрабіла гэта праступства в. груба і для Масквы бяз сумліву будзе страшней, калі мы гэта вынесем у сьвет, і давядзем да ведама аб гэтым беларускаму народу праз радыё і нашу прэсу, якую чытаюць беларусы ў Польшчы й часткова нат "Там". На рэакцыю бальшавікоў, я пераконаны, чакаць доўга не давядзецца. На нашы камэнтары аб самагубстве К. бальшавікі не рэагавалі. Тое, што мы былі ўведзеныя ў блуд аб самагубстве К., маюцца для нас апраўданьня.*

*Цяпер яшчэ пару слоў што да Кулакоўскага*[923]*. Як мне перадаваў Стась, Нью-Ёрк зноў-жа: "Барані Божа, каб не справакаваць", "угробіце людзей". Прыпамінаецца мне, як падчас майго апошняга побыту ў Н. Ё. Цэлеш*[924] *ці яшчэ хтось з абурэньнем нападалі на працу Адамовіча "аб супраціве саветызацыі"*[925] *— "Правакацыя", "угробіце людзей". Я-ж адказаў, што ўгробленых ня можна больш угробіць, іх можна хіба абыйсьці моўчкі, або паставіць сьвечку. І ад гэтага ім ніколі не пацяжэе, а палягчэць можа, прынамсе для душы, ці лепш для душаў. Справа ў тым, што фактам падкрэсьліваньня "грахоў" антысавецкасьці мы не дапамагаем бальшавіком "разаблачыць" таго ці іншага пісьменьніка. Бальшавікі дасканала і в. тонка самі, без чыесь помачы, разьбіраюцца, дзе і наскольки іх вораг. У 1930–1940-х гадох зусім без "дапамогі" эміграцыі яны вылавілі нам сотні і тысячы… Таксама не страшны бальшавіком і нашы спачуваньні іхнім ахвярам, як такія, як СПАЧУВАНЬНІ, бо яны в. добра ведаюць, што кожнай бальшавіцкай ахвяры спачувае ня толькі эміграцыя, а і амаль увесь народ, але бал. робіцца, як бачно зусім не абыяковым, калі мы, эмігранты, адпаведна на гэта рэагуем, а не астаемся ў маўклівым спачуваньні толькі, як той падняволены наш народ. Яны тагды падымаюць крык і "разаблачаюць нашу брахню". І вось доказ: Адамовіч зусім не "ўгробіў" ні Дубоўкі, ні Пушчы, хоць як ён іх "ня гробіў", а выходзіць, што разгробіў іх, бо — ці ня брэша А. — "глядзіце, вярнуліся і блажэнствуюць". Яшчэ яскравей выглядае з Кулакоўскім. Пэўне-ж вы чыталі ягоны ліст у "За павертаньне на Радзіму"*[926]*, "Ліст да Зямлякоў у Эміграцыі". "Брэшуць, кажа, фашыстоўскія прыхвасьнікі ў "Бацькаўшчыне", што мяне перасьледуюць. Вось друкую новую кнігу, падгатаўляю другую, трэйцюю затым… і т. д. і т. д. Вось вы пабачыце, будзеце бачыць, што буду і як буду працаваць". Выходзіць, што памаглі чалавеку трохі адгробіцца. Як там надоўга, хто ведае, але-ж факт, што чалавек быў ужо запраўды угроблены, а цяпер прынамсі запэўнены працай на нейкі час. Зрэшты з Кулакоўскім справа скончылася ў нас, так што пакуль Стась*

[923] **Аляксей Кулакоўскі** (1913–1986), пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» да 1958 г., калі надрукаваў там сваю аповесць «Дабрасельцы».

[924] Маецца на ўвазе Мікола Целеш.

[925] Adamovich, A. Opposition to sovietization in Belorussian literature, 1917–1957. New York: Scarecrow Press, 1958. [Munich : Institute for the Study of the USSR].

[926] Маецца на ўвазе газета «За вяртанне на Радзіму».

*вагаўся, што рабіць з накладам, раскідаць набор ці адбіць, узяць дапамогу на выданьне кнігі ці не, зацікаўленыя людзі пры помачы ЦОПЭ*[927] *выдаюць “Дабрасельцы” ў расейскім перакладзе. На гэтым канчаю і чакаю адказу.*

*Прывітаньні сям'і.*

*Твой Мікола».*

*«2 сакавіка 1959 г.*[928]

*Дарагі Мікола!*

*Ліст, скіраваны мне й сп. Адамовічу, атрымаў. У справах, там закранутых, маю заўвагі гэткія:*

*1. Справа прадстаўніцтва ў Інтэрнацыянальнай Акадэміі пакуль што заладваецца так, як прапануем: запросіны на арганізацыйны сход, які мае адбыцца 4 красавіка, атрымалі мы абодва. Будзе рэпрэзэнтаваць той, каму выпадае выгадней.*

*2. У справе часопісу Парыскага Блёку*[929] *нічога не магу сказаць, паколькі мы яшчэ яго ня маем.*

*3. Аповесьць Кулакоўскага друкаваць, па-мойму, можна, калі можна будзе раздабыць зьнекуль на гэта адмысловыя грошы, бо свае выдаваць, пасьля таго, як яна й так друкавалася ў “Бацькаўшчыне”*[930]*, ня думаю, што варта*[931]*. Пры друку толькі трэба канечна дадаць уводную прадмову на колькі бачынаў, каб было ясна, чаму яна друкуецца і якую яна крытыку выклікала ў БССР.*

*4. У справе Купалы Ты пішаш аб “паглядах Ню Ёрку”. Мушу зазначыць, што я ў гэтай справе нікому ніякіх пагдядаў ня выказваў проста дзеля таго, што гэтую справу вельмі мала знаў, чуў пра яе толькі сёе-тое здалёк. Пер-*

---

[927] ***Центральное объединение послевоенных эмигрантов*** было створанае ў 1952 г. пры непасрэдным удзеле амерыканцаў. У 1957 г. «послевоенных» было замененае на «политических». На пачатку 1960-х гг. абвясціла пра самароспуск, у першую чаргу праз спыненне фінансавання.

[928] Ліст В. Тумаша да М. Абрамчыка ад 02.03.1959. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[929] Маецца на ўвазе часопіс ***«Problems of the Peoples of the USSR»***, выдаваны заснаванай М. Абрамчыкам арганізацыяй Ліга вызвалення народаў СССР (Парыжскі блок).

[930] Гл.: Кулакоўскі, Аляксей. Дабрасельцы // Бацькаўшчына. № 31 (417). 17 жніўня 1958. С. 2–3; № 32 (418). 24 жніўня 1958. С. 2–3; № 33 (419). 31 жніўня 1958. С. 2–3; № 34 (420). 7 верасьня 1958. С. 2–3; № 35 (421). 14 верасьня 1958. С. 2–3; № 36 (422). 21 верасьня 1958. С. 2–3; № 37 (423). 28 верасьня 1958. С. 2–3; № 38 (424). 5 кастрычніка 1958. С. 2–3; № 39 (425). 12 кастрычніка 1958. С. 2–3; № 40 (426). 19 кастрычніка 1958. С. 2–3; № 41–42 (427–429). 2 лістапада 1958. С. 1–7; № 43 (429). 9 лістапада 1958. С. 2–3; № 44 (430). 16 лістапада 1958. С. 2–3; № 45–46 (431–432). 30 лістапада 1958. С. 2–3.

[931] Кніга была выдадзеная. Гл.: Кулакоўскі, Аляксей. Дабрасельцы: аповесьць. Мюнхэн: Выдавецтва «Бацькаўшчына», 1959. — 110 с.

*шы раз знаёмлюся з пытаньнем з Твайго ліста. Па-мойму, падаць у друку гэтую новую вэрсыю можна й варта хоць-бы з публіцыстычнага абавязку. Уся справа ў тым, толькі, “як”. Думаю, найлепш, каб ні газэта, ні нехта іншы, падаючы факты (ці новую вэрсыю) не займалі свайго канкрэтнага становішча, пакідаючы рабленьне вывадаў самым чытачом, а праверку справы гісторыі. З гледзішча на асобу самога Купалы самагубства вэрсыя мацнейшая (памінаючы рэлігійныя матывы, якія хіба ня маюць ніякага значэньня). З боку абвінавачваньня за сьмерць Купалы бальшавікоў, ясна, што вэрсыя ягонага забойства ёсьць вінои большай, ёсьць крымінальным праступкам і таму, калі-б гэтую вэрсыю ўдалося належна даказаць, яна больш можа рабіць клопату Маскве. Хоць і з гэтага маюць яны цяпер вельмі просты выхад: зрабіў гэта імпэрыялістычны агэнт Бэрыя. Сумуючы — думаю, што варта друкаваць і пусьціць праз радыё*[932] *новую вэрсыю хоць-бы дзеля таго, каб на справу сьмерці Купалы [паглядзець] нанава і яшчэ раз накіраваць грамадзкую ўвагу ды падчыркнуць віну за яе ці маральную (першая вэрсыя) ці фактычную (другая) бальшавікоў. Паколькі гэта аднак-жа вельмі важная й далікатная справа, было-б няблага, каб напісаны матар’ял перад друкам перакінуць і сюды ў Ню Ёрк, каб мы маглі зь ім пазнаёміцца і мо тое ці іншае парадзіць удасканаліць, зьмяніць (з гледзішча на форму паданьня, ня фактаў).*

*5. З справы Купалы дагадваюся, што паявіўся нейкі новы “госьць”, які гэтыя весткі (старыя) пераказаў, можа нават падае сябе за сьветкуачавідца некаторых зьвязаных з гэтым фактаў. Гэта можа быць. З свайго боку я моцна яшчэ раз раджу быць вельмі, вельмі асцьярожным з усякімі “госьцьмі”, пакідаючы іх больш нашым іншым, менш адказным дзеячом. Чаму, лёгка зразумееш, калі прыпомніш сабе апошні акт жыцьця ўкраінскага палк. Канавальца*[933]*. Асьцярожнага й Бог сьцеражэ.*

*Прывітаньні!*

*Твой В. Тумаш».*

---

[932] Маецца на ўвазе Радыё «Свабода».

[933] **Аўген Канавалец** (1891–1938), палкоўнік Арміі УНР. Загінуў у выніку тэракта ў Ротэрдаме, здзейсненага агентам савецкіх спецслужбаў П. Судаплатавым. Судаплатаў здолеў упэўніць Канавальца, што ачольвае антысавецкае падполле на Украіне. Карыстаючыся даверам, агент перадаў Канавальцу бомбу, замаскаваную пад бляшанку з цукеркамі, як падарунак *«ад сяброў»*.

# БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА І МУЗЕЙ ІМЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Пасля пуцяводніка *«The Francis Skaryna Byelorussian Library and Museum, 1971–1991»* (London, 1991) і манаграфіі Наталлі Гардзіенкі «Беларусы ў Вялікабрытаніі» (Мінск, 2010) ды тытанічнай спробы апісаць бібліятэчныя архівы[934], дадаць новае штосьці пра гэтую ўстанову даволі складана. Толькі хіба паўтарыцца: бібліятэка — адно з найбольшых дасягненняў за ўвесь час існавання эміграцыі, якое з часам сталася здабыткам усіх беларусаў у свеце, а яе шматгадовы захавальнік, дырэктар і бібліятэкар айцец Аляксандар Надсан — той самы Праўдзівы Айцец, шчасце і гонар мець якога зведваюць толькі абраныя народы.

У афіцыйнай назве — бібліятэка і музей — відавочна прапушчаны яшчэ адзін важны складнік: друкарня. За час існавання Скарынаўкі, ад 1971 года, тут выдаваўся не толькі адзін з найцікавейшых эміграцыйных часопісаў — «Божым Шляхам», але і ладная колькасць кніг, арыгінальных прац і перакладаў. Асобныя з і іх да сёння застаюцца фактычна невядомымі беларускаму чытачу, як, напрыклад, дзве за аўтарствам Гая Пікарды — *«The allegorical Heraldica of Francis Skaryna»* і *«Francis Skaryna and the Cabala»* (абедзве 1992).

Каб напісаць пра ўсе выданні, патрэбная асобная кніга. Згадаю тут толькі чатыры з усіх, да якіх найчасцей звяртаюся.

Пра першыя дзве яскрава гаворыць іхнае аўтарства і назвы: «Выбраныя малітвы з Малой падарожнай кніжкі. Пераклад на сучасную беларускую мову і каментары Аляксандра Надсана» (1992) і ягоная ж «Святы Кірыла Тураўскі» (2001).

Пра трэцюю — «Беларускую друкарню імя Францішка Скарыны ў Вільні» (1991) Станіслава Цыпрыяновіча (Язэпа Найдзюка) — у «Ад выдаўцоў» (хутчэй за ўсё, таго ж айца Аляксандра) гаворыцца наступнае: *«У пашырэньні роднага друкаванага слова сярод шырокіх масаў насельніцтва ўласная друкарня мае станоўчае значаньне, даючы незалежную матар'яльную базу і свабоду дзеяньня. Гэта некалі зразумеў Францішак Скарына; гэта зразумеў на пачатку гэтага стагодзьдзя Марцін Кухта*[935]*, калі закладаў сваю друкарню, у якой друкавалася "Наша Ніва". Гэта зразумелі беларускія сьвятары Адам Станкевіч, Андрэй Цікота*[936] *і іхнія супрацоўнікі, калі ў 1926 годзе ў Вільні закладалі Друкарню імя Францішка Скарыны.*

---

[934] Гл.: Гардзіенка, Натальля. Архівы Беларускай бібліятэкі й музэю імя Францішка Скарыны // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 65–71.

[935] **Марцін Кухта** (літ. *Martynas Kukta*, 1875–1941/1942), друкар, выдавец кніг на беларускай, польскай, літоўскай мовах.

[936] **Андрэй Цікота** (1891–1952), рэлігійны і грамадскі дзеяч, каталіцкі святар усходняга абраду, адзін з творцаў беларускага хрысціянскага руху XX ст.

*Маленькая манаграфія, якая цяпер выпускаецца на сьвет, кідае шмат сьвятла на гісторыю гэтай установы і яе ролю ў жыцьці Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд. Аўтарам працы ёсьць шматгадовы кіраўнік друкарні Язэп Найдзюк*[937]*, больш ведамы як аўтар падручніка гісторыі "Беларусь учора і сяньня" (Менск, 1944). Жыцьцё ягонае, як і многіх шчырых беларускіх патрыётаў, складалася нялёгка ў пасьляваенны пэрыяд: яму прыйшлося аж да сьмерці (памёр у 1983 г.) хавацца пад прыбраным прозьвішчам у Польшчы. Трэба спадзявацца, што гісторыя аддасьць справядлівасьць памяці гэтага сьціплага, але выдатнага працаўніка на нацыянальнай ніве.*

*Гэтая манаграфія была напісаная ў канцы 80-х гадоў, калі аўтар яшчэ ня мог выявіць свайго сапраўднага прозьвішча. Яна выдаецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Некаторыя думкі аўтара, асабліва адносна Францішка Скарыны, могуць сёньня выдацца наіўнымі. Тым ня менш, выдаўцы вырашылі друкаваць тэкст працы бязь зьменаў, захоўваючы таксама моўныя асаблівасьці аўтара. Гэта ў ніякім выпадку не памяншае гістарычнай і бібліяграфічнай вартасьці працы»*[938].

Чацвёртая кніга — «Беларускія кніжныя пазнакі ў зборах Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане» (2001) Юрася Лаўрыка. Напэўна, гэта першая ў нашым кнігазнаўстве праца, дзе разглядаліся б пазнакі: аўтарскія і чытацкія паметы, дарчыя і дэдыкацыйныя запісы, экслібрысы, пячаткі, уладальніцкія надпісы. У невялічкай, менш за 60 старонак, кнізе сабраны і апісаны ўнікальны матэрыял, аповед пра які суправаджаецца не менш рэдкімі ілюстрацыямі.

І ўжо бадай не дзівішся, чытаючы: *«Найранейшыя з аўтарскіх (ці, у дадзеным выпадку, хутчэй — выдавецкіх) нататак, а, бадай, і ўвогуле, з беларускіх пазнакаў на кнігах у зборах Бібліятэкі, з'яўляецца ўжо даволі вядомы ў кнігазнаўчай літаратуры надпіс, які ў некалькіх розных варыянтах сустракаецца на ранніх друках Скарыны»*[939].

[937] **Язэп Найдзюк** (1909–1984), грамадскі дзеяч, гісторык, выдавец. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Польшчы пад імем Юзафа Александроўскага.

[938] Цыпрыяновіч, Станіслаў [Найдзюк, Язэп]. Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926–1940). Лёндан: Выдавецтва «Божым Шляхам», 1991. С. 3.

[939] Лаўрык, Ю. Беларускія кніжныя пазнакі ў зборах Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Лёндан, 2001. С. 5.

*Аляксандар Надсан*

## Кніга Скарыны ў Капэнгагене[940]

У чэрвені гэтага году наведаў Бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Лёндане прафэсар Гэбрайскага ўнівэрсытэту ў Ерусаліме Мошэ Альтбаўэр. Ён паведаміў, што бачыў у Каралеўскай бібліятэцы ў Капэнгагене няведамы да гэтага часу экзэмпляр «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны. Гэтая вестка выклікала зразумелае зацікаўленьне, і кіраўніцтва Бібліятэкі імя Францішка Скарыны пастаралася адразу дастаць мікрафільм кніжкі.

«Малая падарожная кніжка», гэты своеасаблівы малітоўнік для сьвецкіх людзей, належыць да віленскага пэрыяду дзейнасьці Скарыны. Сярод дасьледчыкаў жыцьця беларускага першадрукара, пачынаючы ад Уладзімерава, замацаваўся погляд, быццам гэтая кніга была ягоным другім — і апошнім — віленскім выданьнем пасьля «Апостала» 1525 г. Толькі зусім нядаўна, у 1959 г., расейская дасьледчыца А. С. Зярнова на аснове параўнаньня заставіц у абедзьвюх кнігах выказала думку, што «Апостал» быў пазьнейшым выданьнем і што трэба аднесьці «Малую падарожную кніжку» да 1523–1524 гг. Усё гэта, аднак, былі меркаваньні, слушнасьць якіх немагчыма спраўдзіць пры адсутнасьці канкрэтных доказаў. «Малая падарожная кніжка» захавалася ў дрэнным стане, і ва ўсіх ведамых да апошняга часу экзэмплярах не хапала «Пасхаліі», пры дапамозе якой было б можна вызначыць год выданьня: сам Скарына ў пасьляслоўях да розных частак кнігі нічога пра дату не гаворыць.

Капэнгагенскі экзэмпляр «Малой падарожнай кніжкі», як і ўсе іншыя ведамыя экзэмпляры, некамплетны[941]. Зь пяці разьдзелаў кнігі захаваліся толькі чатыры: «Псалтыр», «Часасловец», «Акафісты й каноны» й «Царкоўнае сабраньне» (Каляндар) — зь якіх толькі першы й апошні — поўныя. Не хапае цэлага чацьвёртага разьдзелу — «Шасьцідзёньніка», — а таксама трох апошніх аркушаў са зьместам кнігі. У першай частцы «Часаслоўца» няма аркуша 18 з заканчэньнем «Першага часу», а ў другой — чатырох пачатковых аркушаў з «Канонам пакаяльным». Няма таксама першага аркуша «Акафіста Багародзіцы» з гравюрай Дабравешчаньня й — як выглядае зь мікрафільму — апошняй часткі Эвангельля паводле Яна пасьля «Акафіста Крыжу».

---

[940] Першая публікацыя артыкула: Божым шляхам. № 5 (128). Лёндан, 1971. С. 9–11. Тут друкуецца паводле выпраўленага аўтарам варыянта, апублікаванага ў: Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 153–155.

[941] Апісанне «Малой падарожнай кніжкі» (без Пасхаліі) гл.: Коршунаў, А. Кароткі каментарый да выданняў Францыска Скарыны // Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мінск: Навука і тэхніка, 1969. С. 222–232; Тумаш, В. Бібліяграфія скарыніяны // Запісы БІНіМ. № 5. Мюнхэн, 1970. С. 196–197.

Аднак нягледзячы на сваю некамплетнасьць, капэнгагенскі экзэмпляр «Малой падарожнай кніжкі» зьяўляецца ўнікальным, бо ў ім адным цалкам захаваўся апошні, каляндарны, разьдзел з «Пасхаліяй», якую да апошняга часу лічылі згубленай. Разьдзел складаецца з 20 аркушаў з асобнай пагінацыяй. На пярэдняй старонцы першага аркуша зьмешчаны ў рамках наступны загаловак: *«Последование церковнаго събрания въселетънаго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви»*. Каляндар нерухомых сьвятаў (г. зв. *«сьвятцы»*) пачынаецца на адвароце першага аркуша й канчаецца на пярэдняй старонцы трынаццатага. На адвароце трынаццатага аркуша знаходзіцца прадмова да «Пасхаліі», а далей ідзе сама пасхалія на 1523–1543 гг. Разьдзел сканчаецца наступным пасьляслоўем, зьмешчаным у самым нізе на адвароце дваццатага аркуша: *«Доконаны суть сие вократце светци и поскалия, доктором Франциском Скориною, во славном месте виленском»*.

Вось пачатак «Пасхаліі» зь весткамі на 1523 год[942]:

*«В лѣто 7 тысещ 31, круг солнцу 3, луне 1, Рож[е]ство Хр[и]ст[о] во в чет[вер], лѣт по нароженіі Хр[и]ст[о]ве полторы тысещи 23, индик[т] 11, мяса ясти 6 недел[ь] 4 дни, триодь нач[инается] ген[варя] 25, мясоп[у]ст фев[раля] 8, 40 муч[еников] 4 недели посту в понеделок, Благовещ[ение] в среду 6 недели посту, Хр[и]стиа[нская] пасха април[я] 5, Георгия в четвер 3 недели по пас[це], воступление на небеса Г[о]с[по]дьне 14 маія, сошествие Св[е]т[а]го Духа 24 маія, Петров мяс[опуст] 31 маія, Петрова посту 4 неде[ли], Петра в понеделок.*

*Гибель месеца всего всего будеть 1 дня марта пол 9 годины по полудни. Другая гибель всея луны августа 25, по полнощи 3 годи[ны]»*.

Апрача гэтага пачынаючы ад 1524 г. Скарына падаваў спачатку, ці год быў высакосным (*«лѣто преступное или висекст»*), а калі не, то якім па ліку пасьля высакоснага.

Як відаць з вышэй прыведзенага тэксту, «Пасхалія» Скарыны была своеасаблівым календаром, дзе чытач, побач з датамі Вялікадня й іншых рухомых сьвятаў і зьвязаных зь імі пастоў, мог знайсьці весткі пра дні тыдня, у якія ў дадзеным годзе выпадалі некаторыя найважнейшыя нерухомыя сьвяты, а таксама пра розныя астранамічныя зьявы, як зацьменьне сонца ці месяца.

Найбольш цікавыя астранамічныя весткі на 1524 год:

*«Сего году не будетъ гибели солнца или месеца, но будетъ соитие всех седми звезд блудящих во знамени небесном в рибах, они же напотом, естли Господь Бог допуститъ, великое пременение царств, зако-*

[942] Словы, напісаныя ў Скарынавым тэксце ў скарочаным выглядзе, падаюцца поўнасцю. Дадаными часткі, якіх няма ў арыгінале, узяты ў квадратныя дужкі. Пры перадачы Скарынавых тэкстаў захаваныя правілы, прынятыя А. Коршунавым (гл.: Скарына, Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 5).

*нов, людей и всех на земли и во водах родящихся бытии знаменуютъ, яковое ж предтым не бывало»*.

У 1530 г. павінна было быць частковае зацьменьне сонца:

*«Гибель всего месеца будеть октоврия 16 дня, шестое годины по полнощи. Другая гибель солнца, большая половина, 28 марта, пол 6 годины пред полуднем»*.

Для азначэньня гадоў у «Пасхаліі» Скарына ўжывае, побач зь летазьлічэньнем ад нараджэньня Хрыста, традыцыйнае летазьлічэньне *«ад стварэньня сьвету»*. Наагул ён прытрымліваецца тут традыцыйнага ўсходняга царкоўнага календара, паводле якога новы год пачынаецца не 1 студзеня, а 1 верасьня. Такім чынам, Скарынаў 1523 год адпавядае, паводле сёньня агульнапрынятага летазьлічэньня, пэрыяду ад 1 верасьня 1522 г. да 31 жніўня 1523 г.; а Каляды 1523 г., весткай пра якія пачынаецца «Пасхалія» — Калядам 1522 г. «Малая падарожная кніжка» павінна была выйсьці з друку перад гэтай апошняй датай, бо інакш вестка пра Каляды 1522 г. была б неактуальная. З другога боку, Скарына напэўна ня выдаў яе ў 1521 г., бо тады ён замясьціў бы ў «Пасхаліі» весткі на 1522 г. Трэба таму думаць, што «Малая падарожная кніжка» была выдадзена ў 1522 г., хутчэй за ўсё перад 1 верасьня, г. зн. перад новым царкоўным годам[943].

Дзякуючы знаходцы ў Капэнгагене сёньня ўжо ведамы поўны тэкст «Малой падарожнай кніжкі» й вырашана канчаткова пытаньне храналёгіі Скарынавых выданьняў. Цяпер ужо можна з пэўнасьцю сказаць, што «Малая падарожная кніжка», а не «Апостал» была першым выданьнем Скарыны ў Вільні. Такім чынам, у біяграфіі беларускага першадрукара стала адной *«белай плямай»* менш.

[943] Год 1522 адносіцца да цэлай кнігі. Вельмі верагодна, што некаторыя яе часткі, у прыватнасці «Псалтыр» і «Акафісты», Скарына выдаў раней асобна, а пасля злучыў іх у адно цэлае. На карысць такога погляду гаворыць тое, што многія часткі «Малой падарожнай кніжкі» маюць свае тытульныя аркушы, пасляслоўі і нумарацыю старонак. Больш пра гэта гл.: Коршунаў, А. Літаратурна-публіцыстычная спадчына Францыска Скарыны // Скарына, Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 192.



# *Частка IV*
# СКАРЫНАВА СПРАВА НА ЭМІГРАЦЫІ: КАЛЕНДАРЫ, КНІГІ І ІНШАЕ

## КАЛЕНДАРЫСТЫКА

Як ведама, *«Паскалія»*, заключная, пятая частка Скарынавай «Падарожнай кніжкі», ёсць першым беларускім друкаваным календаром. Вітаўт Тумаш у сувязі з гэтым пісаў: *«Скарынаў каляндар — першы беларускі ды і ўсходнеславянскі друкаваны каляндар. Першы расейскі каляндар быў надрукаваны ў 1702 годзе. І друкаваўся ён не ў Расеі, але ў Галяндыі. Склаў і выдаў яго з даручэньня цара Пётры І Ільля Капіевіч-Капіеўскі, беларус-случчанін. Толькі ад 1708 году на загад цара Пётры ў Расеі пачалі перавыдаваць перакладзеныя зь нямецкае мовы календары Фохта*[944]*. Перакладныя толькі календары выдаваліся ў Расеі, у Маскве й Пецярбургу, ажно да 1728 г.*

*Першы польскі друкаваны каляндар быў выдадзены гадоў шэсьць перад календаром Скарынавым, у 1516 годзе ў Кракаве. Выдаваліся календары ў Кракаве й перад гэтым, але лацінскія»*[945].

Каляндар — выданне найперш утылітарнае, і з гэтага пагляду цікава зірнуць, што лічылі неабходным змяшчаць у эміграцыйных календарах выдаўцы-ўкладальнікі. Пра некаторыя з іх і пойдзе гаворка, але пачнецца яна, хоць тое можа падацца дзіўным, з *«Русского народного календаря на 1929 год»*.

Каляндар, выдадзены ў Чыкага Рускім народным праваслаўным таварыствам, быў укладзены і рэдагаваны не кім іншым, як Язэпам Варонкам. У прадмове ад выдавецкай камісіі, куды акрамя былога старшыні Народнага Сакратарыята БНР уваходзілі нехта Дзм. Варабей, Дзм. Міхальчык і Дзм. Слезнік, зазначалася: *«Теперь, как известно, представляемое нами в настоящем издании Русское Народное Православное Общество возрождается к новой большой деятельности в колонии и становится двигателем общенационального объединения. Этой последней и, по нашему разумению,*

---

944 **Ёган Генрых Фохт** (ням. *Johann Henrich Voigt*, 1613–1691), нямецкі матэматык, астраном.

945 Тумаш, Вітаўт. Скарынаў каляндар і каляндарная сыстэма Беларусі тае пары // Запісы БІНіМ. № 18. Нью Ёрк, 1988. С. 120.

*главной цели существования народной организации должен служить и наш альманах. Не беремся убеждать читателя в том, что настоящий Русский Народный Календарь действительно исчерпывающе может ответить на все запросы близких нам масс колонии. <…> Много нового можно было бы еще внести в наш альманах — и это несмотря ня то, что настоящее издание по своему об'ему уже является одним из крупнейших в ряду подобных изданий русского рассеяния»*[946].

Што ж прапаноўваў каляндар чытачу на сваіх 226 старонках?

У атачэнні тузіна рэкламаў напачатку і напрыканцы *(«Василий и Мария Музыка. Русское похоронное бюро», «Мясная и бакалейная лавка Трофима З. Михальчика», «Б. Пелехович, русский адвокат», «Единственный в Чикаго русский фармацевт и владелец аптеки Викентий В. Данильчик», «Иван Бобей поставляет оркестры на концерты, балы и другие надобности»*) каляндар сапраўды выглядае на літаратурны альманах: перадрук твораў А. Пушкіна, М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага, Л. Талстога, Ф. Салагуба, артыкулы пра пісьменнікаў. Сярод твораў эмігрантаў — вершы самога Варонкі, падпісаныя *Юрий Вегов*: *«Рождественское», «Мичиган», «На Немане», «Пасхальное»*.

Беларускасць укладальніка заўважаецца рэдка, хіба ў «Памятных днях»: сакавік — *«Провозглашение независимости Белоруссии»* і *«Присоединение Западной Белоруссии к России»*, ліпень — *«Присоединение Восточной Белоруссии к России»*, снежань — *«Первый Всебелорусский Съезд в Минске»*. Зрэшты, у параўнанні з іншымі расійскімі эміграцыйнымі календарамі, гэта ўжо нямала.

Самае, напэўна, важнае ў календары для нас сёння — гэта сабраныя матэрыялы па гісторыі Рускага народнага праваслаўнага таварыства, дзе, як выглядае па прозвішчах сяброў, у кіраўніцтве было нямала беларусаў. Інакш наўрад ці паступіла б і была б прынятая наступная прапанова: *«Конвенция* (ідзецца пра 17-ю Канвенцыю Таварыства. — *Л. Ю.*) *выслушала поступившее предложение — присоединиться к протесту против виленского процесса над белорусскими депутатами Польского Сейма и др. деятелями Белорусской Селянско-Работницкой Грамады (С. Рак-Михайловским, Брониславом Тарашкевичем и др.). Конвенция РНПО, среди членов которого имеется много выходцев из б. б. Гродненской, Виленской и Минской губ., находящихся ныне "под Польшей", приняло предложение протеста против виленского процесса над белоруссами — к сведению»*.

Шырака распаўсюджаным быў выдадзены ў паваеннай Нямеччыне *«Biełaruski kalandar na 1947 hod (r.-kat. i pravasł.)»*. Пачынаўся ён «Малітвай Беларуса» — вершам Наталлі Арсенневай «Магутны Божа». На цотных старонках у дзве калонкі размяшчаліся каталіцкія і праваслаўныя святы, а на няцотных — рэпрадукцыі карцін ці здымкі (Беларуская дзяржаўная гімназія ў Вільні, Базыльянскія муры) і цытаты з вершаў або прыказкі. Да

[946] Русский Народный Календарь на 1929 год. Чикаго, 1928. С. 5.

студзеня разам з прыказкай *«Што ўвесну ножкаю коп, то ўзімку ручкаю хоп»* быў надрукаваны і вершык:

З Новым Годам, Краю мой родны!
Прывітаньні шлю Табе,
Шлю з далёкае краіны,
Дзе так сумна, сумна мне.

Далей па месяцах: *«Пытае люты, ці добра абуты?»; «Які сакавік, такі і красавік»; «Поле роўна ляжыць, ды гуляць не вяліць»; «У маі зелянеюць гаі»; «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйдзе Ільля — ападуць два»; «Чуецца говар мне сьпелае нівы — ціхая жальба палёў»; «У прочкі зьбірайся, а жыта сей»; «Зацьвіў верасок — аглядаў на зіму вульлёк»; «З поўначы цёмнае, сіверу дальняга нудная восень прыйшла»; «Студзень прыблудзе — дзень прыбудзе»; «Здароў, марозны звонкі вечар, здароў, скрыпучы мяккі сьнег»*.

На апошняй старонцы — чатырохрадкоўе Галляша Леўчыка *(«Хто адрокся сваіх і стыдацца нас стаў, хто прыліп да чужых, каб ён сьвету ня знаў»*) і верш Якуба Коласа «Да працы»:

Браты! вялікая дарога
Чакае нас і родны край.
Настала жніва, працы многа,
Навукі зерня засявай!
Нясецца сьвет, у змроку дрэмле
Наш мілы край, наш родны кут.
Няхай уваскрэснуць нашы землі,
Няхай асьвеціцца наш люд!

Таксама ў Нямеччыне выдавецтвам «Веды» быў надрукаваны «Каляндар-нататнік» на 1949 год. І ён пачынаўся вершам — «Пад Новы год» Масея Сяднёва:

Новы Год… Пэўна, там на радзіме аселіцы
Сірацеюць, што нас не стае.
Толькі вочы заплюшчу —
Завеямі сьцеляцца
У задуме палі Беларусі мае.
Ня сумуй, Беларусь,
Ты блакітнаю казкаю
і сьнягамі ў палёх ня імжы —
да Цябе яшчэ прыдзем,
каб сілаю наскаю
здолець тых,
што распялі Цябе на крыжы.

Другая старонка нехарактэрная для календара, але, відаць, была зручнаю ва ўмовах лагераў *DP*: *Імя і Прозьвішча; Дзень, месяц, год і месца*

*нараджэньня; Месца жыхарства; Нумар беларускага пашпарту; Нумар ДП-карткі; Калі-б мне што здарылася, прашу паведаміць; Вага; Рост; Гадзіньнік №; Радіо №; Ровар №; Матацыкль №.*

Як часта ў календарах, падаваліся «Назовы месяцаў у чужых мовах» (беларуская, англійская, нямецкая, руская, французская); «Вялікдзень» (ад 1946 г. да 1966, па *«ўсходнім»* і лацінскім календарах); «Як устанавіць пэўны дзень паміж 1801 і 1980 г.», а таксама «Англо-амэрыканскія меры» (*«даўжыні, паверхні, абыйма, плыук*[947]*, вагі»*).

Сам каляндар, кішэннага фармату, сапраўды больш нагадваў нататнік: кожная старонка прызначана пад адзін тыдзень, унізе — народныя прыкметы або важныя даты: *«9.2.1852 г. пастаўлена беларуская опера "Сялянка" В. Дуніна-Марцінкевіча. Пачатак новага, беларускага тэатру»; «На Стрэчаньне зіма зь летам сустракаецца»; «Калі на Благавешчаньне вада спала, дык лета будзе сухім, а калі паднялася — дык мокрым»; «6.8. (ст. ст.) 1517 др. Ф. Скарына выдаў 1 бел. друк. кнігу — Біблію», «20.8.1919 памёр беларускі дзеяч і заснавальнік Беларускага Музэю ў Вільні Іван Луцкевіч».*

А вось «Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год», выдадзены ў Кліўлендзе, падобны, хутчэй, да Варонкавага альманаха: такі самы кніжны фармат, 169 старонак, немалая колькасць здымкаў.

Паколькі каляндар юбілейны, *«выданы ў 500-тыя ўгодкі Аб'яўленьня Цудадзейнага Абраза Божае Маці ў Жыровічах»*, як зазначана на тытульнай старонцы, ён утрымлівае не толькі характэрныя для такога выдання «Беларускі праваслаўны каляндар на 1970 год», «Скарочаны пералік беларуска-славянскіх асабовых імёнаў», «Памятныя гадавіны на 1970 год», але і прынагодныя матэрыялы: «Малітву да Жыровіцкае Богамаці на Чужыне» і верш Наталлі Арсенневай «Малітву да Жыровіцкае Божае Маці», «500-годзьдзе зьяўленьня Цудадзейнага Абраза Жыровіцкае Божае Маці» С. Кліма і А. Асіповіча, «470-годзьдзе зьяўленьня Цудадзейнага Абраза Менскае Божае Маці» Юркі Віцьбіча, «Мая ўдзячнасьць Жыровіцкай Божай Маці» А. Асіповіча і яго ж, падпісаны ініцыяламі А. А. «Жыровіцы як месца паломніцтва беларусаў».

Багата матэрыялаў да гісторыі БАПЦ, эміграцыі і Беларусі наогул: *«Byelorussian Autocephalic Orthodox Church»*, «Беларускія праваслаўныя мітрапаліты», «Солтан Александровіч у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага», «Знамянальныя даты з гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы», «Парафія Жыровіцкай Божае Маці ў Кліўлендзе, ЗША», «Парафія Жыровіцкай Маці Божае ў Гайлянд парк, Нью Джэрсі», «Першы беларускі дом у Брадфордзе, Англія», «Парафія Сьв. БАПЦ у Мэльбурне, Аўстралія», «Парафія Сьв. Духа ў Дэтройце», «Аўстралія й Беларусы» ды іншыя падобныя.

Літаратурная частка прадстаўлена легендай Сяргея Хмары «Ўслонім-Гарадок», а таксама адзінымі сведчаннямі задуманай Юркам Віцьбічам анталогіі — раздзеламі «Рэлігійнае ў беларускай мастацкай творчасьці» і

[947] Магчыма, маецца на ўвазе аб'ём сыпучых рэчываў.

«Рэлігійнае ў народнай творчасьці». У першым з іх выдрукаваныя творы ці ўрыўкі з твораў не толькі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Цішкі Гартнага, Язэпа Фарботкі, Сяргея Палуяна, Андрэя Зязюлі, Уладзіміра Жылкі, Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, Рыгора Крушыны, Масея Сяднёва, Міхася Кавыля, Янкі Золака, але і *«падсавецкіх»* аўтараў: Алеся Звонака, Веры Палтаран, Уладзіміра Караткевіча, Дануты Бічэль-Загнетавай, Янкі Брыля.

Ушаноўвалася памяць мітрафорнага протаіерэя Сцяпана Войтанкі, мітрафорнага протаіерэя айца Хведара Данілюка і айца Яўфімія Якіменкі.

Не абышлося і без такой *«каляндарнай»* тэмы, як «З гісторыі каляндара», а таксама «Лекарскіх зацемак» Віктара Васілеўскага (Войтанкі).

Адным словам, атрымалася змястоўнае, карыснае, годна надрукаванае выданне, перэпетыі ажыцьцяўлення якога і спадарожныя тому эмоцыі ды прынагодныя разважанні — у лістах Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша:

*«<...> Дазвольце перайсьці да асабістага. Наразе больш-менш адсунуўшы ў бок кагадзе прыгаданыя папкі, працую над складаньнем каляндару БАПЦ на 1970 г. Праца для літаратара зусім ня ўдзячная — яна забірае ладне часу, бо каб знайсьці праўду й тым самым ня пацьвердзіць думку гэроя Грыбаедава[948] “Все врут календари”[949], трэба поркацца ў розных крыніцах, якія часам супярэчаць адна аднэй. А таксама, што галоўнае, няўдзячная й таму, што ні адзін навуковец не спашлецца потым на каляндар як на крыніцу ці проста аўтарытэт, таксама й пісьменьнік не падкрэсьліць, што ягоны твор надрукаваны ў гэткім календары за гэткі год. І тым ня менш працую.*

*Папрасілі мяне аб гэтым нашыя Ўладыкі — Васіль[950] і Андрэй[951], а. Васіль Кендыш[952], а таксама др. Васілеўскі. Можа, я-б і адмовіўся ад гэтае ветлівае прапановы, спаслаўшыся на запраўды паважныя прычыны, але калі пабачыў дасланыя мне “матар’ялы”, падрыхтаваныя ВВВ[953], дык вырашыў дапамагчы. Між іншым, у складзеным ім зьмесьце ёсьць адмысловы артыкул, прысьвечаны 75-годзьдзю Др. Я. Станкевіча. Слоў няма, мы мусім адзначыць у друку ды па-за ім гэтыя ўгодкі, але ўсё-ж прычым тут праваслаўны каляндар, прызначаны галоўным чынам абыходу 500-годзьдзя цудадзейнага абразу Жыровіцкае Богамаці. Прыблізна ў такім-жа пляне і ўсе іншыя “матар’ялы”, у якіх адзін з разьдзелаў распачынаецца “вершам” ВВВ пад дужа характэрным псэўдонімам — Гарагляд.*

---

[948] **Аляксандр Грыбаедаў** (рус. *Александр Грибоедов*, 1785–1829), расійскі пісьменнік, дыпламат.

[949] ***«Все врут календари»*** — словы старой Хлястовай з камедыі Аляксандра Грыбаедава *«Горе от ума»*.

[950] Маецца на ўвазе ўладыка Васіль (Тамашчык).

[951] **Андрэй** (свецк. Аляксандар Крыт, 1901–1983), рэлігійны і грамадскі дзеяч, мітрапаліт БАПЦ.

[952] **Васіль Кендыш** (1908–2003), грамадскі і рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар. Жыў у ЗША.

[953] **ВВВ** — Віктар Войтанка-Васілеўскі.

*Вось таму й працую цяпер над каляндаром. Складаючы разьдзел “Рэлігійнае ў беларускай мастацкай літаратуры”, яшчэ раз пераканаўся ў глыбокае й шчырае рэлігійнасьці нашае цудоўнае Натальлі Арсеньневае. Толькі яна магла стварыць “Магутны Божа”, а, напрыклад, ейная “Малітва да Жыровіцкае Божае Маці” таксама зьяўляецца пэрлам. Наступным за ёй у гэтай галіне (дый увогуле, як на мой погляд) Алесь Салавей. А распачынаю гэтую частку зь Янкі Купалы, ёсьць у мяне далей і бадай унікальны рэлігійны твор… Цішкі Гартнага*[954].

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*П. С. Дасылаю Вам адначасна копію юбілейнага каляндару на 1970, прызначанага для каляндару БАПЦ на 1970 г. Ён пэўна-ж ня гарантаваны зусім ад хібаў з лічбамі. Што датычыць самых датаў, як юбілейных, дык яны разьлічаныя на шырокае кола чытачоў з рознымі густамі і г. д. — гэта значыцца, што каму-небудзь зь іх тая ці іншая дата здасца залішняй, а другому акурат прыдасцца. Адсюль і памер юбілейнага каляндару»*[955].

*«Вельмі ўдзячны за Ваш ветлівы ліст ад 26.5.69, хоць наўмысьля, даруйце, позьнюся з адказам на яго, каб дастаткова астыгнуць, каб кіравацца ў ліставаньні халодным розумам, каб ня пісаць пад першым уражаньнем, з гарачкі. А між тым мне адразу хацелася зьвярнуцца з просьбай да Ўладыкі Андрэя, каб ён зьвярнуў мне дасланыя мной матар’ялы (60–70 старонкаў друку) да каляндару БАПЦ на 1970 год, а потым каб Архіяпіскап Васіль, Япіскап Андрэй і Доктар Васілеўскі зьвярнуліся да Вас з просьбай даслаць ім свае матар’ялы. Аднак прычым тут добрая БАПЦ, калі паміж Сп. Доктарам Тумашам і Ю. Віцьбічам паўсталі сія-тыя разбежнасьці? І пэўне-ж, крый Божа я не сьцьвярджаю, што Вы сьвядома імкнецеся да таго, каб забіць у самым пачатку каляндар БАПЦ.*

*Дасылаючы Вам 25.4.69 г. юбілейны каляндар, я кіраваўся найлепшымі меркаваньнямі, спадзеючыся, што ён больш-менш прыдасца ў часе складаньня адпаведнага каляндару БІНіМ на тэй-жа год. Дасылаў, зразумела, не дзеля зусім ня выпадковае ў такім выпадку адказнае падзякі, але ўсё-ж не спадзяваўся дастаць за яго… нагонку. Няўжо Вам здаецца, што тыя крыніцы, паводля якіх Вы выправілі даты ў маім каляндары, адзіныя слушныя, бо яны абраныя Вамі, а, значыцца, маюць агульнаабавязковы характар? Вы нават да аднае выпраўлянае Вамі даты дадаяце: “Калісьці ў лісьце да Вас я паведамляў, што дакладны год сьмерці…”. Прабачце, але скуль гэткі мэнтарскі тон? Свае даты я браў не са столі. І калі зойдзе ў гэтым патрэба, дык у друку давяду сваю слушнасьць.*

---

[954] **Цішка Гартны** (сапр. Зміцер Жылуновіч, 1887–1937), пісьменнік, паэт, перакладчык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч.

[955] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 25.04.1969. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*Асабліва мяне зьдзівіла вашая перасьцярога, што прыгадваньне ў каляндару БАПЦ 70-годзьдзя Уладзімера Дубоўкі й 60-годзьдзя Ларысы Геніюш зможа ім вельмі пашкодзіць у савецкіх умовах як савецкім грамадзянам. Сумляваюся, бо яны належаць усяму народу, але справа ня ў гэтым. Калі Вы ўжо забыліся, дык дазвольце Вам прыгадаць, што ў 1967 г. БІНіМ выдаў кніжку "Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў"*[956]*, у якой згадваецца больш за 100 імёнаў тамтэйшых савецкіх літаратараў. Прычым прыгадваюцца не ў адным радку, як у мяне, з прычыны гадавіны, а разглядаецца іхная творчасьць ды часам бярэцца пад абарону ад сталіністых. Адсюль можна зрабіць адзіны выснаў: што даравальна для Юпітэра, тое не прабачальна для быка, дапушчальнае для БІНіМ, забаронена для БАПЦ, магчымае для доктара, злачынства для хвершала*[957]*.*

*Не пашанцавала таксама й маёй табліцы для календару БАПЦ — "Век гарадоў Беларусі", якую даслаў Вам для ласкавага азнаямленьня. Вам нават з гэтае прычыны згадаліся радкі Францішка Багушэвіча: "Ня люблю я места, па-расейску горад"*[958]*.*

*А Горадня, Гарадок Саламярэцкі, Гарадок Астрашыцкі, Давід-Гарадок, Гарадок, Гарадзея ды нязьлічоныя на Беларусі гарадзішчы? Няўжо Вам здаецца, што гэта расейцы іх гэтак ахрысьцілі, а ня крывічы, дрыгавічы й радзімічы? Потым, як на сёньня, пры шалёным наступе абмаскаленьня, дык нам лепш ужо абараняць ня "места", а "мястэчка", што там зьіначанае на "городской поселок".*

*І зноў-жа, не бяручы нават пад увагу розьніцу ў стылі, Вы адзначылі памылкі ў датах, і тут, каюся, я з Вашымі папраўкамі й тут ня згодны. Мне толькі шчыра шкада таго значнага часу, які Вы згубілі на марна, поркаючыся ў розных шматлікіх крыніцах, абы толькі, прыпушчаю, дапячы Віцьбічу. Апошняе мэты Вы не дасягнулі, хоць спачатку (пад першым уражаньнем) мне й хацелася спакінуць БІНіМ — верабей не напарнік арлам.*

*Я, грэшны, зусім не гарантаваны ад сіх-тых памылкаў, а таму толькі ўдзячны, калі хто-небудзь, выходзячы зь сяброўскіх меркаваньняў, зьвярне маю ўвагу на іх. Аднак, канчаючы мой ліст грыбаедаўскай цытатай "Врут все календари", Вы знарок падкрэсьлілі сваю акадэмічную пагарду да маіх высілкаў, пакладзеных на складаньне каляндару БАПЦ на 1970 год. З гэтае акурат прычыны, хоць і чуюся Вам удзячным за ліст, але не за Вашую праўку»*[959]*.*

*«Удзячны за Ваш ветлівы ліст ад 19.7.69 г., а што крыху спазьніўся, даруйце, з адказам, дык на гэты раз зусім ня з прычыны нейкае патрэбы ў*

[956] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў. Нью Ёрк: БІНіМ, 1967.

[957] Фельчар.

[958] ***«Не люблю я места (па-расейску — горад)»*** — першы радок верша Францішка Багушэвіча «Немец».

[959] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 11.06.1969. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*адмысловым ахалоджваньні тэмпэрамэнту. Паважаю Вас як шчырага й дзейнага патрыёту, уважаю Вас за аднаго з найлепшых нашых навукоўцаў і асабліва ў нявычарпнай для дасьледнікаў пачэснай галіне Скарыніяны дый увогуле шаную як добрага чалавека, зь якім вельмі прыемна мець беспасярэднюю або лістовую лучнасьць. Пэўне-ж, мне ўласьціва некаторая, прабачце, зьедлівасьць, але-ж і Вам яе не бракуе. Асабіста я цешуся з таго, што мы ў часе нашага цікавага ліставаньня ўсё-ж больш-менш ня перабіраем мерку, як, напрыклад, у ліставаньні сп. В. Пануцэвіча з сп. др. Ст. Ст.*[960]*, дзе першы інкрымінуе другому маскоўскую дывэрсыйную працу на абшарах ЗША, здраду Акту 25 сакавіка і запаветам Беларускага Кангрэсу 1917 г. Авохці-ж мне!*

*Вы маеце рацыю, што з усіх шматлікіх пражэктаў ВВВ каляндар БАПЦ на 1970 год ёсьць бадай больш карысным для грамадзкасьці ды найбольш рэальным у сэньсе свайго ажыцьцяўленьня, але… Не зьяўляюся аматарам усіх каляндароў увогуле — пакуль яшчэ жывы, сьпяшаюся пазнаёміцца з больш каштоўнай літаратурай. Таму не падзяляю погляд Архіепіскапа Васіля, ВВВ, Асіпчыка*[961] *ды іншых, што гэты каляндар зьяўляецца нейкай агульнаэміграцыйнай заваёвай ды, быццам, красамоўна сьведчыць аб нашых агульных дасягненьнях. Як на мой погляд, дык сталася куды-б лепш, каб вялікія грошы, прызначаныя на ягонае выданьне, пайшлі-б на павялічэньне памеру “Голасу Царквы”*[962] *або на падтрымку “Беларуса”. Вось чаму я й рашуча адмовіўся, калі мяне папрасілі яго рэдагаваць, але затое ўзяў чынны ўдзел у складаньні ягоных паасобных разьдзелаў.*

*Дазвольце цяпер перайсьці да тэрміну “горад” і “места”. Мне здаецца, што гэта сынонімы нашае багатае мовы, якія маюць аднолькавае права на сумеснае існаваньне. Я толькі рашуча супрацьставіўся накідваньню апошняга тэрміну, што прапануе др. Я. Ст.*[963]*. Тут маем, з аднаго боку, з Багушэвіча “Ня люблю я места, па-расейску горад”, а з другога, назоў цудоўнага вершу Янкі Лучыны (Няслухоўскага)*[964]*: “Што думае Янка, вязучы дровы ў горад”.*

*Вось затое аніяк ня ў стане пагадзіцца з др. Я. Ст., што трэба адкінуць “мястэчка”, а ўжываць “ме́стачка”. Між тым адразу згадваецца з народнае: “У мястэчку Берастэчку каманда стаяла” (Шэйн*[965]*, “Жаўнерскія песьні”), а зь літаратурнае:*

---

[960] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.

[961] **Аляксандр Асіповіч-Асіпчык** (1909–1990), грамадскі і царкоўны дзеяч. Жыў у ЗША.

[962] **«Голас Царквы»** — рэлігійна-грамадскі часопіс, які выдаваўся ў Нью-Ёрку Царкоўнай Радай БАПЦ у 1955–1993 гг. Рэдактарамі ў розныя часы былі: уладыка Васіль, Міхась Міцкевіч, Пётра Манькоўскі.

[963] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[964] **Янка Лучына** (сапр. Іван Неслухоўскі, 1851–1897), паэт.

[965] **Павел Шэйн** (1826–1900), педагог, этнограф, фальклярыст, збіральнік беларускай народнай творчасці.

*“Дзядзька Тодар, два Праньцішкі,*
*Сват Гілёрык, кум Тамаш*
*У мястэчку Зацьвілішкі*
*Насьмяшылі ўвесь кірмаш” (Алесь Гарун, «Спрэчка»).*

*Грэшны чалавек, запытаўся я ў др. Я. Ст., а можа і ад каровы нам трэба адмовіцца з прычыны ейнага, нібы, польскага націску? Відаць пакрыўдзіўся, нічога не адказаў»*[966].

*«Спадабаўся мне Ваш артыкул “Беларускаму каляндару 450 гадоў” (“Беларус”, № 188)*[967]*, для якога характэрныя — зьместоўнасьць і абгрунтаванасьць. Даруйце ўвогуле за гэткае параўнаньне, але як выгодна ён розьніцца ад, напрыклад, артыкулу А. Коршунова «Знойдзена «Пасхалія» ў № 1267 “Голасу радзімы”, дзе акцэнт падае на “чарговыя дасягненьні савецкіх скарынаведаў”*[968].

*А вось затое не спадабаўся артыкул “БССР і Беларускі каляндар” у № 189 “Беларуса”*[969]*. Калі за часы Скарыны календары зьяўляліся бадай энцыкляпэдыяй для шырокага кола чытачоў, дык у 1973 г. яны належаць да другараднае літаратуры, разьлічанае галоўным чынам на поўінтэлігентаў*[970]*. Таму зусім ня варта лезьці проста на сьценку з тае прычыны, што ў БССР ня выдаюцца каляндары ды аб гэтым зьмяшчаць артыкул аж на першай старонцы. Затое трэба з нумару ў нумар крычэць (толькі ня ў далікатным стылю Радыё Свабоды) аб страшэнным асыміляцыйным уціску, аб зьмяншэньні колькасьці друку на беларускай мове, аб разбурэньні нацыянальных помнікаў, аб гістарычных падробках абэцэдарскіх, аб сталым маскоўскім наступе на ўсё нашае запраўды нацыянальнае. За прыкладамі далёка ісьці ня трэба. У № 12266 таго-ж пагарджанага “Голасу радзімы” чытаем:*

---

[966] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 11.08.1969. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[967] Гл.: Брага, С. Беларускаму календару 450 гадоў // Беларус. № 188. Сьнежань 1972. С. 6.

[968] Маецца на ўвазе артыкул: Коршунаў, А. Знойдзена «Пасхалія» // Голас Радзімы. № 5. 1973. С. 8.

[969] Агнявіца, М. БССР і беларускі каляндар // Беларус. № 189. Студзень 1973. С. 1.

[970] Параўн. з заўвагаю расійскага даследчыка А. Рэйтблата: *«Характерно, что одной из немногих широко распространенных в крестьянской среде книг был календарь, охватывающий (и даже предсказывающий) события года (подобный календарь включал также многочисленные сведения хозяйственного, медицинского и т. п. характера и служил универсальным справочником). Последняя треть XIX в. отмечена (после отмены монополии Академии наук на их издание) появлением большого числа разных календарей, издававшихся большими тиражамі <...> Метафорически можно сказать, что календарь был функциональным эквивалентом газеты в крестьянской среде»* (Рейтблат, А. От Бовы к Бальмонту. Москва, 2009. С. 127).

*“Мінск сёння. Кінатэатар “Сучаснік” на вуліцы Харкаўскай”, а на шыльдзе ягонае, на здымку, які пададзены побач, чытаем “Современник”»*[971].

*«Вы маеце цалкам рацыю, што календары для народу патрэбныя, але якія. Мімаволі згадваюцца настольныя каляндары расейскае імпэрыі, зь якімі быў добра азнаёмлены і нават, нягледзячы на свой тагачасны дзіцячы век, бадай захапляўся. У іх, добра тэхнічна выдадзеных, мелася пакрысе ўсё для ўсіх ды прытым бяз прапаганды. Прыгадваюцца таксама розныя календары беларускіх губэрняў, у якіх мелася ладне нашага нацыянальнага аж да паасобных твораў на беларускай мове. Уважаю, дарэчы, і за дасягненьне БАПЦ выданьне Ёй аж двох календароў, да якіх і сам належным чынам зпрычыніўся, але…*

*Набыў я неяк праз Камкіна адзін сучасны тамтэйшы каляндар маскоўскага выданьня ды амаль адразу закінуў яго на сваё падстрэшша. Над усім ды скрозь пануюць там Чапаевы*[972]*, Далярэс Ібаруры*[973]*, “братишки” Будзённыя*[974] *ды іншыя, ня кажучы ўжо пра “дарагога” Ільліча. Дык ці варта плакаць у “Беларусе” аб адсутнасьці гэткіх (іншыя наразе вылучаюцца) каляндароў у БССР? Яны яшчэ больш засьмечваюць людзкія мазгі. Лепш, калі гэткіх каляндароў зусім ня будзе, чым гэтак рупіцца аб іх зьяўленьні. Вось чаму вылучна мне й не спадабаўся артыкул аб каляндарох»*[975].

Напрыканцы застаецца дадаць, што пазней падобныя календары-альманахі болей не выдаваліся, а таксама зазначыць, што традыцыя звычайных эміграцыйных календароў была адноўленая ў 2007 г. Маратам Клакоцкім, рэдактарам «Вестак і паведамленьняў» і заснавальнікам і выдаўцом альманаха «Беларус», — насценныя і перакідныя.

---

[971] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 13.02.1973. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[972] **Васіль Чапаеў** (рус. *Василий Чапаев*, 1887–1919), начальнік дывізіі Чырвонай арміі, удзельнік Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў.

[973] **Далорэс Ібаруры Гомес** (ісп. *Dolores Ibarruri Gomez*, 1895–1989), дзеячка іспанскага і міжнароднага камуністычнага руху.

[974] Маецца на ўвазе **Сямён Будзённы** (рус. *Семён Будённый*, 1883–1973), савецкі военачальнік, удзельнік Грамадзянскай вайны, камандуючы Першай Коннай арміяй, адзін з першых маршалаў Савецкага Саюза.

[975] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 04.03.1973. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

# КНІГАРУКАПІСЫ МІКОЛЫ ПАНЬКОВА[976]

Гісторыя сусветнай кнігі мае два перыяды, падзяляе якія вынаходніцтва чалавека, чыё поўнае імя было *Johannes Gensfleisch zur Laden zum Gutenberg*, а мы клічам скарочана: Ёган Гутэнберг. Дзесьці паміж 1450 і 1455 гадамі ім была выдадзеная Біблія з 42 радкамі на кожнай старонцы — і ўпершыню друкам. Ад таго часу кніга змянілася назаўжды. Яе кошт — таксама[977].

Карысць ад вынаходніцтва была відавочнаю: хуткасць, аднастайнасць тэксту, параўнальная таннасць. Праз кароткі час прэсы для друку стаялі па ўсёй Еўропе: 1465 — Італія, 1470 — Францыя, 1472 — Іспанія, 1475 — Англія. Даўжэйшы час узяла дарога да Новага Свету: 1533 — у Мексіка-Сіці, 1638 — у Кембрыджы, штат Масачусетс. Францішак Скарына выдрукаваў «Псалтыр» у 1517 годзе. Кнігі друкаваліся, як апісана ў Шэкспіравай «Зімовай казцы», *«для мужчын, або кабет, усіх памераў»*[978].

Тыя інкунабулы[979], як і манускрыпты, рукапісныя кнігі, што папярэднічалі ім, сёння з’яўляюцца найбольш рэдкімі і, адпаведна, дарагімі кнігамі, за якімі палююць бібліятэкі, універсітэты, прыватныя калекцыянеры.

З коштамі на кнігі, выдадзеныя пазней, у наступныя стагоддзі, не ўсё адназначна. Сам па сабе час друку не робіць кнігу дарагой. Улічваюцца значнасць тэксту, фізічны стан кнігі, яе рэдкасць, а таксама запатрабаванасць грамадствам.

Гэта слушна і працуе для антыквараў і бібліяфілаў усіх нацыянальных кнігаў, за выняткам, напэўна, адно кнігі беларускай.

У межах невялікага тэксту немагчыма разгледзець праблему ўсебакова, а таму зрэдуцырую яе да кнігі эміграцыйнай, нават яшчэ вузей — зробленай у лагерах *DP* адным чалавекам — Міколам Паньковым[980].

Кнігавыданне — і не толькі беларускае, але і польскае, чэшскае, украінскае ды іншыя — у Нямеччыне ў 1944–1950 гг. бы вярнулася ў дагутэнбергавы часы: друкаваных выданняў, асабліва напачатку, было вобмаль,

---

[976] Тэкст публікуецца паводле: Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: вывучэнне і захаванне. Мінск, 2012. С. 145–151.

[977] Сама Біблія Гутэнберга, толькі 21 цэлы асобнік якой захаваўся, застаецца адной з найбольш дарагіх кніг у свеце — разам з «Кодэксам Лестэра» Леанарда да Вінчы, «Птушкамі Амерыкі» Джона Джэймса Аўдзюбона, «Першым Фоліа» Шэкспіра, «Геаграфіяй» Пталемея і некаторымі іншымі.

[978] Shakespeare, William. The Winter’s Tale. Act IV. Scene 4.

[979] ***Incunabula*** (лац.) — пачатак. Так называюць кнігі, выдрукаваныя да 1 студзеня 1501 г.

[980] Мікола Панькоў у снежні 1944 г. у лагеры *DP* у Ольдэнбургу заснаваў «Беларускую бібліяграфічную службу». Ён уклаў «Слоўнік замежных словаў беларускай мовы» пад рэдакцыяй Антона Адамовіча (1948–1949). Пра яго гл. болей: Юрэвіч, Лявон. Сувой жыцьця Міколы Панькова // Хроніка беларускага жыцьця на чужыне. Мінск, 2001. С. 5–17.

што тлумачылася як нястачаю адпаведнай тэхнікі, грошай, гэтак і бюракратычнымі праблемамі, якія ставілі акупацыйныя ўлады — амерыканцы, англічане, французы — перад выдаўцамі.

Часцей за ўсё часопісы, улёткі, брашуры набіраліся на машынцы, а пасля выдаваліся ратататарным спосабам. Мікола Панькоў жа прадукаваў рукапісную кнігу. Зробленыя ім кнігарукапісы па ўсіх параметрах мусяць каштаваць сёння немалыя грошы, але — няма той самай запатрабаванасці грамадствам, якая і вызначае кошт і каштоўнасць.

Кнігарукапісы трэба разглядаць не толькі як унікальныя выданні, але і як артэфакты, сведчанні кніжнай культуры ў лагерах *DP*, а таксама як дакументы, што адлюстроўваюць праблемы, якія займалі, прынамсі з пункту гледжання Панькова, галовы беларусаў.

Паколькі цалкам магчыма, што сабраныя ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва (Нью-Ёрк) кнігі захаваліся ў адзіным асобніку, трэба тут падаць іх кароткае бібліяграфічнае апісанне.

Размова ідзе перш-наперш пра створаную Міколам Паньковым «Бібліятэку сучаснасьці». Усе дайшоўшыя да нас асобнікі аднаго памеру: 15 см × 10,5 см. Гэта самаробныя сшыткі з нелінавай паперы, вокладкі зробленыя з каляровай паперы або з кардону. Тэксты напісаныя атрамантам чорнага ці сіняга колеру або алавіком. Кнігі ілюстраваныя выцінкамі з газет, што выклікае пытанне пра афармленне іншых копій тае самае назвы: ці меў Панькоў некалькі асобнікаў таго самага нумара газеты, ці кожная копія зборніка мела сваё адмысловае афармленне? Зрэшты, наклад выданняў «Бібліятэкі сучаснасьці» зусім невядомы; можна нават прыпусціць, што асобныя з іх былі зробленыя ў адзіным асобніку.

Першы з серыйных зборнікаў у калекцыі БІНіМа мае нумар 4 — «Мы і яны ў Сібіры». Хоць назва на тытульнай старонцы напісаная кірылічнымі літарамі, самі тэксты напісаныя беларускай лацінкай. Кніга мае 23 нумараваныя старонкі, 24-я — чыстая. На чацвёртай старонцы вокладкі пячатка: *«K. Wurdemann. Buchhandlung. Oldenburg i. O. Staustrase 19»*.

Змест наступны: *M. Karen* (псеўданім Міколы Панькова). *My i Jany u Sibiry; J. Dalniaja* (псеўданім жонкі Панькова, Ніны). *Pamiatajmo tocna; M. Volny* (псеўданім Міколы Панькова). *Žachlivyja nočy*. На старонцы 20 змешчаны заклік: *«Biełaruse! Tvoj narod nia zhinuй za 200 hod niavoli. Kali tocnyja ducham pojdziem złučano praz pieražyvajemy čas z jaho ciažaram, tvoj narod i nia zhinieć — jon paŭstanie da novaha žyćcia!»*.

Наступны з захаваных — нумар 7, «Pravadyry i palityki. Ludzi našych dzion. Ukłała Ado» (псеўданім нявысветлены). На тытульнай старонцы стаіць год — 1946, пазначана як *«Vydaviectva «Bielaruś»*. 40 старонак.

Змест: *Džems Berns; Hen. Eizenhauer; Maršał Monthomery; Amin Al Husein, Vialiki mufsty Jeruzalemu; Žorž Bido; Dr. Ivet; Hen. Čarl de Gol; Dr. Tryhvie Li; Pandyt Neru; Mahamed Ali Džyna; Fieldm. Jan Chrystyjan Smat; Kanstantyn Tsaldarys; Karol Hrecyi Hryhor II.*

Кніга праілюстравана чорна-белымі партрэтамі Эйзенхаўэра, Мантгомеры, муфтыя Аміна Аль Хусэйна, дэ Голя, д-ра Івета, д-ра Лі, Махамеда Алі Джынакараля Грыгора ІІ, К. Цалдарыса.

Нумар 9 мае кніга «Usie kažuć. Fieljetony» аўтарства Сумнага (псеўданім Міколы Панькова). У кнізе 35 старонак, 34 — нумараваныя, але толькі 26 з іх з тэкстам. На другой старонцы напісана: *«Śmiejsia, bracie, nad svajoj durnotaj!»*.

Змест наступны: *Infarmacyjny schod. Čutki. Kupalle. Śpiakota. Refierat. Niešta ab atambombie. Voz. U Ameryku. Dovadaй niama. Pokličy minuйščyny, ciaperaščyny i budučyni. Rakiety. Złačynstva i kara. Himn*.

Пад нумарам 11 — «Aktualnaści. Zbornik «Ahladčyka». *«Vydaviectva «Bielaruś»*, 1946. 34 старонкі.

Змест: *Uł. Tondryk* (псеўданім нявысветлены). *Zakony raйnavahi. M. P. Totalnaja zakonnaść. Uł. Tondryk. Chmary navalnicy nad Iranam. Uł. Tondryk. Niepakoj śviatoj ziamli. M. P. U čas atambombu.*

Падвойны нумар, 12–13, мае перакладная кніга: «Praŭda ab Maskvie. Uryŭki z knihi Viljama Bulita «The Great Globe Itself». Pierakład N. Zmaharki» (псеўданім жонкі Міколы Панькова). Унізе тытульнай старонкі — *«Rukapisnaje vydaviectva «Bielaruś»*, 1946. 48 старонак, 47 — нумараваных.

Як паведамляецца ў кароткай прадмове ад выдавецтва *«Bielaruś»*, аўтар — былы дыпламат ЗША ў Маскве выдаў кнігу, вялікія ўрыўкі з якой змясцілі часопісы *«Reader Digest», «Time»*. Тут жа падаецца скарочаны пераклад другой часткі.

Таксама падвойны нумар, 16–17, мае зборнік «Paryskaja kanferencyja 1946 hodu. Zbornik artykułaŭ ukłaŭ M. Kareń» (псеўданім Міколы Панькова). *«Vydaviectva "Bielaruś"»*, 1946. Гэта адзіная кніга з серыі, якая мае ілюстраваную вокладку: малюнак з выяваю зямной кулі, голуба з пальмаю ў дзюбе і стужкаю з надпісам *«Conference de Paris, 1946»*. 70 старонак, багата ілюстрацый.

Зборнік распачынае прадмова «Ad układčyka»: *«Парыская канфэрэнцыя спакою пачалася. Побач афіцыйнай інфармацыі дапішчыкі вялікіх выданьняў падаюць свае ўражаньні аб дэлегацыях асобных дзяржаваў, настроях на канфэрэнцыі, рацы камісыяў і г. д., і г. д. Каб даць беларускаму бясправўнаму ДП зірнуць на гэтую гістарычную канфэрэнцыю, выдавецтва "Беларусь" наладзіла выданьне гэтай кніжачкі, дзе скарыстаныя ўсе даступныя нам крыніцы. Дзеля сваіх артыкулаў скарысталі мы інфармацыю Лёнданскага радыё (BBC), "New York Herald Tribune" (NYHT), "Cont. Daily Mail" (CDM), "Tribune des Nations" (TN), "Le Monde" (LM), "L'Epoque" (L'E), "Figaro" (F), "New York Times" (NYT), "Point de Vue" (PV), "Samedi-Soir" (SS) і іншыя, якія будзе магчымасьць здабыць. У канцы падамо храналягічны сьпіс выступленьняў папіхача Крэмлю К. Кісялёва*[981] *ад імя Беларусі»*.

---

[981] **Кузьма Кісялёў** (1903–1977), палітык і дыпламат. Ад 1944 г. быў наркамам (пазней міністрам) замежных спраў БССР.

Змест: *Hetak pačałasia kanferencyja spakoju. Tam časta vyrašaŭsia los Eŭropy. Karta novaj Eŭropy. Tydzień deklaracyjaŭ skončany. Technika vialikaje kanferencyi. Ci kanferencyja perapynicca? Što zatrymlivaječ pracu kanferencyi? Čaho mnohija nia bačuć. Usie žadajuć tolki spakoju. Zaklik da zhody. Paślia Paryžu — Nju-Jork. Apošni tydzień u Liuksemburskim palacy. Dyplomaty zadavoleny. Kolki kaštavala kanferencyja francuskamu uradu. Haloŭny źmiest 5 traktataŭ spakoju. Kanferencyja spakoju paśla I Suśvietnaje vajny.*

Пад нумарам 21 — «Друк» М. Карэня. 1946 год, 36 старонак. Артыкулы: *Siomaja vialikaja dziaržava. Druk daŭniej i ciaper. AP [Associated Press]. Redaktary daŭniej i siońnia. Uzornaja kraina druku. Naviny ŭ žyćci anhielskikh hazetaŭ. Druk na Paryskaj kanferencyi.*

Упершыню ў «Зьмесьце» пералічаныя ілюстрацыі: *Časapiscy na Niurnberhskim pracesie. AP pracuječ. Niekalki «haloŭ» anhielskikh hazetaŭ. Jak robiuć hazetu.*

1946 годам таксама пазначана кніга пад нумарам 22: «Śviet i liudzi. 2». 32 старонкі, але толькі 15 з іх нумараваныя і запоўненыя тэкстам. Змест: *Dunajskija krainy. Havaja — 49 štat ZDA*[982]. *Špicberhen. Partuhalija. ZDA. Kanada.*

Нумар 24 — кніга «Technika siońnia. Zbornik ukladzieny na asnovie anhielskikh krynicaŭ». Аўтар — Ул. Сакол (псеўданім Міколы Панькова). *«Rukapisnaje vydaviectva «Bielaruś»*, 1946. 37 старонак, нумараваных і з тэкстам — 36. Зборнік ілюстраваны малюнкамі, чарцяжамі і выцінкамі з газет.

Змест: *Technika paviatranaj vajny. Anhielski radyjafon. Technika skarystańnia atamenerhii. Paravoz budučyni. Dzivy chvalami hukaŭ. Technika radyo vajny. Naviny techniki.*

Апошні з вядомых серыйных зборнікаў у калекцыі БІНіМа мае падвойны нумар 25–26 — «Belaruski kalendar Vyhnanca na 1947 hod. Hod vyhnańnia 2-hi. Ukłaŭ M. Kareń. Vydaviectva «Bielaruś». 1946».

Пасля тытульнай старонкі ўклеены друкаваны «Каляндарык на 1947 год», на адным баку якога — каляндар з пералікам важнейшых святаў, на другім — вершы Максіма Багдановіча «Пагоня» і «Рушымся, брацьця, хутчэй». На наступнай старонцы — урывак з «Тастамента» Уладзіміра Жылкі:

Бывай, надзей сардэчны ўздым!
Бывайце сны і слодыч вёснаў!
І вы, сьнягі, завеі зім!
На зломе дзьвюх эпох злавесных,
У няспрыяльным ветры злым,
Сваё жыцьцё прайшоў я чэсна:
Пясьняр, змагар, бядняк празь век, —
Быў перш за ўсё я чалавек.

---

[982] **ЗДА** — Задзіночаныя Дзяржавы Амерыкі — ЗША.

Наступныя старонкі, ад 4-й да 27-й, займае каляндар, дзе пазначаны толькі назвы месяцаў; на 28-й старонцы — *«Афіцыйна сьвяточныя дні»*.

Далейшы змест каляндара.

На старонках 30–32 пералічаныя беларускія арганізацыі ў Нямеччыне, Аўстрыі, Францыі, Італіі.

На старонках 33–35: меры вагі (у параўнанні — нямецкія, англійскія, маскоўскія), меры плошчаў, меры адлегласці, табліца параўнання мераў адлегласці, табліца параўнанняў мераў плошчы, паштовы тарыф у Нямеччыне.

Бібліяграфія «Беларускі друк у Нямеччыне да 30 сьнежня 1946 г.» займае старонкі 35–40[983], пасля якога ідуць табліцы: *«Колькасьць калёрыяў і вітамінаў у харчах», «Калі ў Нямеччыне поўнач», «Наша плянэта», «Вялікшыя гарады сьвету», «Нармальны фармат паперы», «Дыяграма ўжываньня калёрыяў да вайны і сёньня»*.

На старонцы 50 — адзіннаццаць *«радаў выгнанцам»*.

Лёгка заўважыць, што каляндар (увесь *«наклад»* ці менавіта гэты асобнік) няскончаны: большасць старонак некранутыя, на адной з іх — толькі назва *«Беларусь. Геаграфічны нарыс»*. Бліжэй да канца — чатыры артыкулы: *«Навуковае супрацоўніцтва народаў», «Радар», «Гісторыя нагароды Нобля», «Carl von Ossletzky»*.

Невядома, колькі ўсяго было выдадзена зборнічкаў у «Бібліятэцы сучаснасьці» і колькі захавалася асобнікаў і ці захавалася наогул: у апошнія гады няпростага жыцця Панькова калекцыя прыйшла ў заняпад, расцярушылася, так што нават яго ўласныя выданні дырэктар БІНіМа Вітаўт Кіпель мусіў шукаць у зборах сяброў кніжніка (калег па працы над «Летапісам беларускай эміграцыі» — Васіля Шчэцькі, удавы Леаніда Галяка Раісы). Усё гэта робіць сабраныя ў інстытуце выданні ўнікальнымі артэфактамі — сведчаннямі культурна-выдавецкага жыцця ў лагерах *DP* у Нямеччыне і — тэарэтычна — мо аднымі з самых дарагіх беларускіх кніг 1946 года.

983 Мікола Панькоў быў першым бібліёграфам эміграцыйных выданняў. На сёння найбольш поўнай бібліяграфіяй з’яўляецца наступнае выданне: Kipel, Vitaut & Zora. Belarusian Publishing in the West: a bibliography. Edited by Jerzy Garbinski & Liavon Yurevich. Нью Ёрк — Варшава, 2006. — 714 с.

# ТАМТЭЙШЫ САМВЫДАТ, або ГІМН ДРУКАРЦЫ

Хоць колькі словаў, але абавязкова трэба сказаць пра выданні, *«набітыя на друкарцы»*. Прычым не пра ўлёткі-аднадзёнкі часоў лагераў *DP*.

Друкарка ў 1940–1950-я гг. для эмігранта з комплексам Скарыны, з прагаю да выдання была рэччу надзвычайнай каштоўнасці. Каштавалі яны багата, дый знайсці з кірылічнымі літарамі было няпроста, а да ўсяго трэба было адшукаць і адмыслоўца, які б у *«расійскую»* ці *«ўкраінскую»* дадаў неабходныя беларускія літары.

Вось вытрымкі з двух лістоў Аляксандра Ружанцова. Першы — ад 15.II.1953 г.:

*«Да В. Пав. беларускіх навуковых установаў. Пасылаю сьпіс літ. пэрыяд. выданьняў, якія надаюцца да абмену на белар. выданьні. Выбачайце, што пішу алоўкам праз кальку, але-ж мая старая машынка сапсулася, мушу яе пачыніць. Меў машынку — ня меў часу, маю крыху часу — ня маю машынкі. Жыве Беларусь!*».

Другі — ад 23.1.1959 г.: *«На вялікі жаль маю толькі “лацінскую” машынку, аб іншай ня магу мроіць, бо ўсім ведама, што з пэнсіі яе не набудзеш, каштуе мусі быць больш як 100.00»*.

Друкарак у беларускай грамадзе было настолькі няшмат, што шрыфты, адметнасці кожнай з іх добра ведалі ды імгненна вылічалі выдаўца, нават калі б той і хацеў застацца інкогніта.

Вышукванне аўтараў надрукаванага часам прымала зусім не жартоўныя формы, хоць мо і не варта іх параўноўваць з тымі, якія КДБ рабіла ў справе палявання на самвыдатаўскую літаратуру ў СССР, дзе нават трэба было рэгістраваць друкаркі. Дастаткова згадаць справы з лістоўкай «Загад старое казы барабаншчыка», выдадзенай Юркам Віцьбічам[984], або сітуацыю вакол альманаха эміграцыйных пісьменнікаў «Ля чужых берагоў», пра што і пісаў той самы Віцьбіч да Вітаўта Тумаша:

*«Заўчора наведаў мяне сп. Рыгор Крушына. Яшчэ месяц таму, завітаўшы да сп. Адамовіча, я амаль, дзеля Хрыста, прасіў пазбавіць мяне ад візытаў сп. Крушыны. Нават прыгадаў пры тым: “Па сходах спушчаюць толькі разумных, а яму запрапаную сыйсьці самому”.*

*Аднак мне ўсё-ж чагосьці забракла. Праўда, наўсуперак нашай нацыянальнай якасьці — гасьціннасьці — я не запрапанаваў сп. Крушыне ні прысесьці, ні ськінуць паліто. У дадатак яшчэ спаслаўся на мой галаўны боль, які патрабуе ложку. Нарэшце, справа ня ў гэтым. Калі сп. Крушыне бракуе пачуцьця чалавецкае годнасьці, дык гэта ягоная асабістая справа.*

*Мне хочацца толькі запэўніць Вас, што мае адносіны да сп. Рыгора Крушыны зусім не супадаюць з маймі адносінамі да Інстытуту або да “Конадні”. Мне здаецца, што паміж гэтымі інстытуцыямі і Віцьбічам існуе*

---

984 Гл.: Юрэвіч, Лявон. Краіна Ды-Пі: замалёўкі побыту й нораваў зь лягерных часоў // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 23–48.

*непасрэдная лучнасьць, каб прыцягваць яшчэ да яе “чиновников особых поручений”.*

*Між іншым, вельмі магчыма, што я памыліўся. Маю на ўвазе маё колішняе прыпушчэньне, што правакацыйны ліст Сяднёву аб тым, нібы толькі 4 ягоныя вершы ідуць у альманаху “Бацькаўшчыны”, напісаў яму Юхнавец. Прыпушчаю цяпер, што пра гэта напісаў яму Крушына. Параўнайце адбітку ліста з машынапісам вершаў Сп. Крушыны»*[985].

З папераю ў Нямеччыне таксама не раскошвалі, пра матэрыял жа на вокладкі і казаць няма чаго, бо не было яго. Тым цікавей, што ў такіх умовах усё ж знаходзіліся апантаныя бібліяфілы, кніжнікі, якія рабілі кнігі. Ды якія! Друкавалі не статуты чароднай наствораннай арганізацыі, не адозвы і не палітычныя бюлетэні, не часопісы (дакладней, усё гэта было: лагеры *DP* перажывалі сапраўдны бум у прадукаванні друкаванага слова, што яшчэ болей абцяжарвала справу вольнай друкаркі ці паперы), а зборнічкі паэзіі. І што асабліва цікава — якіх аўтараў.

Сярод аўтараў кніг *«для сябе»* лідыравалі не Янка Купала з Максімам Багдановічам, як тое можа ўявіцца, а два Уладзіміры — Дубоўка і Жылка.

Аляксандр Асіпчык, чалавек па сваёй натуры нібыта далёкі ад падобнага кшталту паэзіі — рэлігійны, царкоўны, будучы аўтар брашур пра Жыровічы ды пра беларускіх святых, зрабіў як мінімум дзве кнігі Дубоўкі — «Трысьце» і «Наля». Яны надрукаваныя на паперы звычайнага, 11-га, фармату, а цыкл «Плач навальніцы» проста выразаны з газеты «Бацькаўшчына»[986] і наклеены на старонкі. У якасці вокладкі выкарыстаны адваротны бок вокладкі ўласнай кнігі Асіпчыка — «Цудатворны Абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі манастыр» (Баварыя, 1947).

Іншы, Жылкаў, зборнік — «Прыкладзіны. Выбраныя вершы» — быў надрукаваны выдавецкай суполкай «Ускалось» у 1950 г. Невялікая прадмова, падпісаная *«Сучасьнік»*, завяршаецца наступным чынам: *«За колькі дзён да свае сьмерці, у поўнай сьведамасьці таго, што мусіць памерці, паэта напісаў наймацнейшы свой твор — “Тэстамэнт”. Да таго-ж прыблізна таго часу належыць насьледваньне Гарацыеваму “Помнік” — “Прыкладзіны”. Іншыя перадрукоўваныя тут вершы ўзятыя із зборнікаў “На ростані”, “Уяўленьне” і “З палёў Заходняй Беларусі”.*

Абсалютна ўнікальны зборнік Дубоўкі «Credo», зроблены Янкам Золакам. У прадмоўцы «Ад перапісчыка» з датаю 14.XI.66 чытаем: *«Паасобнік зборніка паэзій Уладзімера Дубоўкі “Credo”, зь якога зроблены гэты сьпісак, быў пазычаны мною ў сп. Паўла Куляша. На паасобніку гэтым ня было ні вокладкі, ні тытульнага ліста: пачынаўся ён адразу ад стар. 5. Унізе гэтай старонкі, пад вершам “Сьцежка”, было напісана алавіком:*

---

985 Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 18.01.1955. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

986 Дубоўка, Уладзімер. Плач навальніцы // Бацькаўшчына. № 9 (12). 25 сакавіка 1948. С. 4.

*“Credo” Ул. Дубоўка». Канчаўся гэты паасобнік 52 старонкаю (чыстаю). Перапісчык: Я. Золак*».

Сапраўды перапісчык, бо да 25-й старонкі вершы перапісаныя ад рукі. А на ёй, 25-й, напісана: «*Увага: У паасобніку зборніка, зь якога перапісваюцца гэтыя вершы, два апошнія радкі зачэркнутыя алавіком і, здаецца, рукою Крушыны, дапісана:*

*Імкнешся праз імкненьні сьвету,*
*каб радасьць красавала скрозь.*
*Варожасьць шляху не зачыніць,*
*у перашкодах дух расьце.*
*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цьвет!*

*Мне прыпамінаецца, хоць і цьмяна, што падобную рэдакцыю гэтага верша я чытаў у “Узвышшы” ці ў “Маладняку”. Я. Золак*».

Ад 26-й да апошняй, 52-й старонкі вершы ўжо друкаваныя. Асаблівую цікавасць выклікаюць самі старонкі: паэтавы творы «*набітыя*» на адваротным баку календароў, што выдаваў Золак. Датаваныя яны 1957–1963 гг.

Як тут не пагадзіцца з Жылкавымі радкамі:

Але працоўны дух, разьбіўшы мур турмы,
Здалеў вяковы бруд паганы зьмесьці.
І зь дзіўнай любасьцяй чытаем мы,
Што захавалася на палімпсэсьце.

# КАЛЮМБЫ

Кнігі, выдадзеныя на эміграцыі, можна ўмоўна падзяліць на тры купкі (ідзецца, натуральна, пра кнігі вартасныя, бо аднадзёнак, палітычных памфлетаў, графаманшчыны, *«эміграцыйных агітак»*, як называў такую прадукцыю Вітаўт Тумаш, было надрукавана болей як дастаткова). Першая — значнасць якіх з цягам часу ані не блякне і якія не маюць аналагаў, тут можна назваць бібліяграфіі, укладзеныя Вітаўтам Тумашам, Зорай і Вітаўтам Кіпелямі. Другая купка — арыгінальныя кнігі эміграцыйных аўтараў або забароненых у свой час у Беларусі, творы якіх былі сабраныя і выдрукаваныя ў Мюнхене ці Нью-Ёрку (Максім Гарэцкі, Андрэй Мрый, Лукаш Калюга, Алесь Гарун ды іншыя), пасля перавыдання на Бацькаўшчыне робяцца часткаю гісторыі беларускай кнігі.

А трэцяя купка, найменшая, у якой кнігі — незалежна ад лёсу выдрукаваных у іх тэкстах — не губляюць сваёй вабнасці. Кнігі-артэфакты. І тут перш-наперш варта назваць невялічкі, бо 40-старонкавы, зборнік Янкі Юхнаўца «Калюмбы», выдадзены ў Нью-Ёрку ў 1967 г. Усебеларускім архівам.

Рэдкае для кнігаў, асабліва паэтычных, таго часу прафесійнае афармленне вокладкі. Тут трэба зазначыць, што за лічанымі выпадкамі імёны мастакоў, працаваўшых над кнігамі, не пазначаюцца (згадваецца хіба імя Міхася Наўмовіча).

На вокладцы Юхнаўцовага зборніка змешчана выява скульптуры Францішка Скарыны працы Аляксея Глебава. Але толькі твару, вачыма, скіраванымі наўпрост на чытача. Твару, пра які Сяргей Харэўскі ў кнізе «Сто твораў ХХ стагоддзя» напісаў: *«“Скарына” ў Глебава*[987] *атрымаўся ўзнятым да псіхалагічнага вобразу мысляра-асветніка. <…> Постаць, складана разгорнутая ў прасторы, прадстаўляе друкара ў момант драматычнага, цяжкага роздуму. Эмоцыі хутчэй уласцівыя чалавеку ХХ ст., чым рэнесанснай асобе. Але тым глыбей апынуўся гэты твор, звернуты да беларускага гледача ў 1954 г.»*[988].

На англамоўнай тытульнай бачынцы пазначана: *«Cover by E. Shabunia»*[989].

Эдуард Шабуня — пляменнік Луцкевічаў, брат Яніны Каханоўскай.

Мастацкія здольнасці выявіліся ў яго даволі рана. Ён, гадунец Мінскага палітэхнікума, у лагерах *DP* афармляў бадай усе дэкарацыі для спектакляў тэатра Аўгена Кавалеўскага. Быў улюбёнцам Барыса Шчорса, якога той закідваў самымі разнастайнымі мастацкімі замовамі. На «Лемантары» Апалоніі Радкевіч пазначана, што малюнкі для кнігі рабіў хтосьці Шпак. Гэта таксама Эдуард Шабуня.

---

[987] **Аляксей Глебаў** (1908–1968), скульптар, народны мастак БССР.

[988] Харэўскі, Сяргей. Сто твораў ХХ стагоддзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу. Вільня: Еўрапейскі гуманітарны універсітэт, 2012. С. 212–213.

[989] **Эдуард (Дзюнік) Шабуня** (1915–1990), грамадскі дзеяч, брат Яніны Каханоўскай.

Ён надзвычай ганарыўся сваім шляхетным паходжаннем, быў уступіў нават у «Мінскае брацтва дваран» (і такое існавала), але неўзабаве пакінуў яго: занадта прарасійскія настроі панавалі там. Па-беларуску гаварыў мала, але ж да самога руху ставіўся з сімпатыяй. Ад дзядзькоў, відаць, атрымаў прагу збіральніцтва: быў вялікім аматарам марак і ўладальнікам найцікавейшай калекцыі.

Супраца гэтых двух чалавек, Янкі Юхнаўца і Эдуарда Шабуні, і спарадзіла кнігу, дзе пад філасафічнаю вокладкаю змешчаны хіба найлепшы з ўсёй мастацкай эміграцыйнай скарыніяны, ад «Адзінокага» Вацлава Ластоўскага да «Полацкага дзіва» Уладзіміра Сядуры, твор:

*«— Я ўжо прызвычаіўся да спакою сьмерці, — зьвярнуўся да Чорта, Скарына. — Я люблю мой тленны спачын, як блізу хто-небудзь жывы любіць успамін пра радасьць, пра жаданьне штосьці добрае стварыць для людзей… Можа ў жыцьці я быў эгаістам, аднак жа і жыцьцё было для мяне патрабавальным ды суровым. Яно бязмоўнае, але ўпорыстае, як дуб з карэньнямі ў віхравей… Я жадаў, каб з маёй зямлі пайшло брацтва людзкое… Вось княжа-Барыс на камянёх высякаў Прызывы, і Час да ягоных жаданьняў быў павольны, як той камень без узросту… А мая Сьмерць — Жыцьцё!*

*…а Калюмбам ён не стаўся, твой княжа, — заўважае Чорт.*

*— Але, — згаджаецца Скарына.*

*І Чорт не дае яму гаварыць далей. Ён шмат што памятаў ад вякоў. Усьміхнуўся добрасьцяй.*

*— Можа ўсё, што чалавек жадае, ёсць удачлівым дзеля ягонага жыцьця. Але ўдачным ён будзе тады, калі будзе ў неабмежнасьці сваёй Айчыны…*

*Скарына адчыніў павека собскае дамавіны, вылез зь яе і пайшоў усьцяж дамовак з памерлымі дарослымі і маленькімі. Каля аднае з маленцам ён спыніўся і адчыніў яе. Стуль глядзелі яскрыстыя вочы маленца, галава шызьнела сівымі валасамі. Маленец, відаць, ужо даўно чакаў Боскага і чортавага асуджэньня.*

*Божа, не асудзі яго! Ты ж нарадзіў яго на зямлі нашай.*

*Чорт згроб жменю зямлі і сыпануў на маленцавы вочы, але яны, Скарына бачыў, па-ранейшаму зіхацеліся з-пад жарсьцьвін, і вусны штосьці з усьмехам гутарылі, і быццам маладзік на начным, бясхмарным небе, зь левае рукі і сэрца вясёла брунеў ручай, і недалёка ад дамоўкі ён зьліваўся зноў з самім сабой — з Жыцьцём — ракой — Айчынай»*[990].

---

[990] Юхнавец, Янка. Калюмбы. Нью Ёрк, 1967. С. 9–10.

# КНІГА САДОЎНІКА САДОЎСКАГА[991]

Хоць месца выдання гэтае незафіксаванае ў «Бібліяграфіі» Зоры і Вітаўта Кіпеляў[992] брашуры[993] нідзе не пазначанае, з ускосных фактаў магчыма дапусціць, што аповед пра заснаванне батанічнага саду ў Віцебску быў выдрукаваны ў Бразіліі — менавіта тут апынуўся аўтар успаміну Георгі Садоўскі.

У цалкам рускамоўнай кнізе толькі адзін абзац па-беларуску — выява старонкі з «Беларускай Газэты» 1942 г.: *«Віцебскі батанічны сад быў арганізаваны ў 1919 г. па ініцыятыве агранома Г. М. Садоўскага і меў сваёй задачай пашырэньне батанічных і сельска-гаспадарчых ведаў сярод вучняў гораду»*.

Зазначу адразу, што ў кнізе ёсць і іншыя ілюстрацыі: здымак самога Георгія Садоўскага (1921 г.) ды два ягоныя пасведчанні (абодва 1920 г.). Але не праз тыя ілюстрацыі кніга названая фотааповедам. Як тлумачыць аўтар, ва ўспамінах дакладна схопленая, *сфатаграфаваная* тагачасная рэчаіснасць — назвы мясцовасці, прозвішчы, пасады.

Георгі Садоўскі скрозь увесь тэкст непрыхавана дэманструе свае дзве найгалоўнейшыя жарсці: антыбальшавізм і антысемітызм. Беларусы ні адмоўных, ні станоўчых пачуццяў не выклікаюць — відаць, праз сваю неідэнтыфікаванасць для аўтара, і згаданыя толькі аднойчы: *«На громадном фоне доброжелательного и сердечного отношения между крестьянами и помещиком, когда местные Комитеты деловито исполняли "приказ из губернии", списывали инвентарь и "народное имущество", старались отдать на сохранение тому же помещику, я видел, особенно около городов и местечек, полупьяную банду из деревенской шпаны во главе с сынами трактирщиков и кабатчиков, спаивавших и эксплуатировавших белорусскую деревню, которая уничтожала "народное добро", с улюлюканием издевалась над "панями и паненками", жгла и громила "палацы", с остервенением тащила из горящего зала стильную мебель, разваливалась на ней и расстреливала из винтовок выбегавших породистых собак и "панских" кошек»…»*[994].

Яшчэ ў прадмове Георгі Садоўскі заўважае, што кожны з іх, старых царскіх спецыялістаў, хітраваў як мог пры новай уладзе, абы не трапіць на страту ў ЧК. От жа аўтар і апісвае свае хітрыкі: каб пазбегнуць мабілізацыі, вырашае зарганізаваць калгас (які назваў «Зеленая Палочка» ў гонар Льва

---

[991] Упершыню тэкст быў апублікаваны як: Юрэвіч, Лявон. Выдадзена ў Бразыліі: невядомая публікатка // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 300–304.

[992] Kipel Vitaut, Kipel Zora. Belarusian Publishing in the West. A Bibliography. Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. XVI + 841 p. Abbreviations and Indexes (p. 679–841).

[993] Садовский, Георгий. Витебский Ботанический Сад. 1919–1921. Фоторассказ. 1965. — 28 с.

[994] Садовский, Георгий. Витебский Ботанический Сад. 1919–1921. Фоторассказ. 1965. С. 4–5.

Талстога[995]) разам з былым гарадскім галавой Віцебска латышом Давідам Кірылавічам Вегліным ды — дзеля падстрахоўкі — сябрам Бунду *«тов. Изаакам»*.

З калгаса аўтар успамінаў даволі хутка збег і пасля невялікіх прыгодаў і ўдзелу ў руйнаванні маёнткаў атрымаў прапанову ўзначаліць Губернскі аддзел палявання, так што наступнай авантурай было ладжанне ў Віцебскай губерні паляўнічай гаспадаркі, а ўжо адсюль яго прызначылі загадчыкам сельскагаспадарчай адукацыі пры прафесійна-тэхнічным аддзеле ў *«Витгубнаробраз»*.

Як піша Садоўскі, не было ніякіх дапаможнікаў, матэрыялаў, выкладчыкаў ды проста прагных да авалодання сельскагаспадарчай навукаю. Але…

*«Обдумав всё, я решил, пользуясь существовавшей тогда полной неразберихой и бесправием и опираясь на жестокую власть, послужить своему народу — создать такие ценности, которые в веках помогут ему изучать и осознать окружающую природу… Организую в городе Витебске Зоологический и Ботанический сад.*

*Вечером я собрал к себе в канцелярию идейных специалистов по природоведению: Владимира Владимировича Адамова*[996]*, который в своем имении "Клятцы" создал ботаническую коллекцию из местных растений; Плющик-Плющевского, специалиста по жукам. Он все свое свободное время — он был Витебским Податным Инспектором — отдавал сбору жуков и имел прекрасную коллекцию в 56 000, собранных по всей России; Антона Дворжецкого-Богдановича, помещика имения Яновичи, Витебского уезда и губернии, проводившего большие работы по метеорологии и имевшего прекрасный телескоп; Никольского, преподавателя Естествознания в Витебской гимназии, вечно копавшегося в местных известняках и выискивающего "спириферов"*[997]*; Мишу Навроцкого, быв. Следователя по важнейшим Делам, знавшего прекрасно всю Витебскую губернию; Ивана Мороза из фольварка "Фотынь" Лепельского уезда Витебской губернии, который под руководством своего отца, "белорусского Мичурина", действительно знал нашу Витебскую флору и фауну»*[998].

Тагачасныя ўмовы не дазволілі збудаваць сапраўдны заасад, таму вырашылі абмежавацца нежывой фаўнай. Праз год музей пачаў працаваць у зале былой праваслаўнай семінарыі:

---

[995] У апошнія гады свайго жыцця Леў Талстой выказваў пажаданне, каб яго пахавалі ў лесе Стары Заказ, на месцы «зялёнай палачкі». Легенду пра зялёную палачку будучы пісьменнік пачуў у маленстве ад брата Міколы. Маўляў, існуе таямніца, запісаная на зялёнай палачцы, і калі тую палачку знайсці, людзі перастануць хварэць і паміраць, а ўсе стануцца *«мурашынымі братамі»*.

[996] **Уладзімір Адамаў** (1875–1939), батанік-фларыст, адзін з першых даследчыкаў расліннасці Беларусі, адзін з арганізатараў батанічнага саду ў маёнтку Вялікія Лётцы каля Віцебска.

[997] **Спірыферыды** (*Spiriferida*) — вымерлы атрад класа замковых плечаногіх.

[998] Садовский, Георгий. Витебский Ботанический Сад… С. 9.

*«Теперь… надо вспомнить тех, кто практически в нем поработал. Александра Ивановича Аверковича со своей подругой Сабиной — прекрасно набивали чучела птиц, животных и рыб. Иван Мороз и его братья изготовляли целые биологические картины из крупных животных (волков, рысей, кабана) и, вообще, создавали биологическую обстановку. Самый материал — птичек, пресмыкающихся — добывали мои два сына, Виктор и Леонид, которым и их приятелям я выхлопотал разрешение “на научную охоту” из Витебской Че-Ка»*[999].

Скончыўшы працу над музеем, тым самым калектывам вырашылі стварыць батанічны сад — у садзе Ханны Гурэвіч на Варапаеўскай вуліцы.

Час быў запоўнены працай з землямерамі, нечаканай падтрымкай ад *«бундзісткі»* Сары Шэйдлінай, супрацоўніцы *«Витгубнаробраз»,* нутранымі інтрыгамі з таемнымі чэкістамі і нават уцёкамі на малую бацькаўшчыну, у Латвію, і павяртаннем назад, абмеркаваннямі планаў з настаўнікамі прыродазнаўства, адкрыццём курсаў пчалярства, дзе першым лектарам стаўся Георгі Садоўскі. Пачалі працаваць курсы ў будынку былой праваслаўнай семінарыі, студэнты былі векам ад 16 да 50 гадоў. Да працы над батанічным садам далучаліся і новыя людзі: Сяргей Карпавіч Трубчынскі з Невельскага павета і Барткевіч з сям’і святароў.

На Першае траўня сад меў ужо больш-менш батанічны выгляд: каля раслінаў меліся шыльдачкі з назвамі — латынь і руская мова; высаджаныя дрэвы, разбітыя клумбы, адна з якіх была зробленая ў выглядзе зоркі: *«За это подхалимство перед большевиками я всю моральную ответственность беру на себя. <…> Мне, коренному витеблянину, была прекрасно известна история моего края, через который веками двигались иноземные рати и “огнем и мечем” превращали его в пустыню. Тогда создалась поговорка, — “зол, да не силен — говну брат!”»*[1000].

На вачах багацела аранжарэя, якой кіраваў У. У. Адамаў: пальмы, кактусы, бананавае дрэва, армы, мірты. Большасць проста прыносілі знаёмыя, сябры, насенне адной рэдкай расліны знайшлі ў мясцовага аптэкара. У аранжарэі высадзілі і садавіну, якую і самі спажывалі, і нават нешта атрымлівалася прадаваць. Асобна размясцілі грады, на якіх супрацоўнікі саду ўлучна са школьнікамі высаджвалі доследныя расліны: махорку, кукурузу, экзатычную садавіну.

Пачуўшы пра сад, сюды пачалі прыходзіць сяляне: калі проста глядзелі на гаспадарку, калі крытыкавалі, а калі і самі насенне прасілі. Поспех быў настолькі відавочным, што Георгію Садоўскаму дазволілі ствараць *«показательные хозяйства»*:

*«Первым из них я наметил Фотынь — фольварк Лепельского уезда Витебской губернии, где хозяйничал “старый” Мороз, наш “Белорусский*

[999] Садовский, Георгий. Витебский Ботанический Сад… С. 10.
[1000] Садовский, Георгий. Витебский Ботанический Сад… С. 18–19.

*Мичурин". Он создал благодаря своему широкому и практическому уму самое доходное, "рентабельное" хозяйство во всем Витебском округе»*[1001].

І вось у той час, калі паўстаў заасад, батанічны сад, Сельскагаспадарчы палітэхнікум, калі працавалі ўзорныя гаспадаркі і Садоўскі задумваўся пра наступны крок, яго арыштавалі. Абвінавачанняў не было, як не было і допытаў, але ягоных сукамернікаў штодзень выводзілі на страту. Відаць, пісаў аўтар успамінаў, падобны лёс чакаў бы і яго, але тут, на шчасце, прыйшла вестка пра ўтварэнне Латвіі, і ўсе народжаныя там маглі быць вызваленыя — з умоваю неадменнага выезду туды: *«Радостно возвращаюсь в камеру, жду день, два, освободили — идем с женой домой, на спине вещи наши, на следующее утро, счастливые, идем в Ботанический Сад. Утро погожее, с нами дети, деревья в цвету, солнышко, которое месяцами не видали, светит и греет. Через месяц — 8-ой эшелон в Латвию. Провожают нас два чекиста, Паршин и Покровский, а также две моих сестры, переехали границу, устроился, письмо от Ивана Мороза — просит прислать мою биографию, будут печатать в Белорусской Энциклопедии. Ботанический Сад развивается»*[1002].

Фактычна, на гэтым завяршаецца аповед пра батанічны сад у Віцебску… Ён нагадаў пра сябе Георгію Садоўскаму апошні раз у 1960 г. у Бразіліі, калі, выпадкова сустрэўшыся з маладою віцяблянкаю, той пачуў, што сад існуе, а каля ўваходнай брамы стаіць помнік ягонаму заснавальніку.

---

[1001] Садовский, Георгий. Витебский Ботанический Сад… С. 22.
[1002] Садовский, Георгий. Витебский Ботанический Сад… С. 24–26.

# ПРЫПАВЕСЦІ ЯЗЭПА ГЕРМАНОВІЧА

Ці звярталі ўвагу даследчыкі, што большасць перакладаў Бібліі, у тым ліку псальмаў, асобных яе частак — была зробленая эмігрантамі?[1003]. Вацлаў Ластоўскі («Песнь песняў»), Янка Станкевіч, кс. Пётра Татарыновіч, Ян Пятроўскі, Леанід Галяк, Вітаўт Тумаш, Вацлаў Пануцэвіч, мітрапаліт Мікалай Мацукевіч, мітрапаліт Андрэй Крыт, айцец Язэп Германовіч, брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, Рыгор Крушына («Песня песням Саламона»), Янка Золак («Песні ўзыходжання»), Анатоль Бярозка («Псалом 137»), а. Аляксандр Надсан, Барыс Данілюк. Пераказы рабілі епіскап Апанас Мартас, архімандрыт Мадэст Яцкевіч, Аляксандр Асіпчык.

Псалтыр у перакладзе Язэпа Германовіча застаўся ў рукапісе, захоўваецца ў Бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане, а вось яго ж пераклад «Пакутных псальмаў» вытрымаў нават два выданні: у Рыме ў 1964 г. і ў Полацку ў 2008 г.

Значна меней вядомыя «Прыповесці паводле Евангелля Мацея — Марка — Лукі — Яна», выдадзеныя ў 1970 г. у нямецкай друкарні «Логос», якой карыстаўся і Вітаўт Тумаш для БІНіМаўскіх справаў.

У прадмове да «Прыповесцяў…» (22 старонкі, фармат часопіса «Божым Шляхам») др. Тамаш Падзява пісаў: *«Добра сталася, што аўтар баек і прынагодных вершаў натрапіў на тэму да гэтай пары ў літаратуры (навет і сусьветнай) нявыкарыстаную, а вельмі для цяперашняга стурбаванага сьвету актуальную: даў у сваіх паэтыцкіх камэнтарах — вельмі блізка тэксту Эвангелляў — Хрыстовыя* ***прыповесьці****. Пры гэтым зусім не зьвязаў сябе імі, а выказаў сваім спосабам, стылем, нават з гумарам тое, што найбольш закранае беларускую душу, незалежна ад сьветапагляду ці пераканаьняў»*.

Да гэтай кніжачкі ды добрыя б ілюстрацыі!

**Удовіна ахвяра**

Хрыстос і вучні раз сядзелі —
Адпачывалі дый глядзелі,
Як у сьвятыню плыў народ:
Ішлі-плылі так пачарод
Да ёмістай царкоўнае скарбонкі.
Там золата, ці срэбра, медзь
Шуршэлі ціха, ледзь-ня-ледзь;
Ці то зьвінелі,
Ці бражджэлі,
Калі багатыя з разгонам —
З размахам, шыкам із гамонам, —

---

[1003] Найпаўнейшы спіс перакладчыкаў пачынаючы ад Скарыны гл.: Аўдзяюк, Алесь. Спроба ўкладаньня бібліяграфіі перакладаў Бібліі на беларускую мову // Наша Слова. № 46 (1041). 16 лістапада 2011.

Кідалі важкую манэту —
На дзіва й славу ўсяму сьвету!
Аж падыйшла адна жыдоўка:
З адзетку знаць — была удоўка —
Нябога, як сухар, худая —
Пакорна, скромная, ціхая; —
Яна хусьцінку разьвязала
І дзьве манэткі, як дастала, —
У скрыню скокнулі з рукі
Два медзякі…
Сама яна, відаць, знарок
Нязначна шуснула у бок:
Малітву вуснамі шаптала,
Душой у неба ўзьлятала.
Хрыстос апосталам гавора:
Пабачце вы, як з свайго гора
Вунь тая бабка — супраць тых —
Закасавала іх усіх!
А Пётр казаў: — Так быць ня можа!
Багач вунь золата паложа,
А баба што-ж?
Хрыстос на тое:
— Ну, ты, Сымон, пляцеш другое. —
Яны кідалі з свайго збытку,
Яна-ж дала не ад набытку,
Але ад працы, ад галечы —
Злажыла труд свой чалавечы.
Ахвяра ейна многа значыць —
Бог гэта бачыць!
І на Судзе Бог вам пакажа,
Як медзь ад золата больш важа.

*(Лука 21, 1–4)*

# КАСТУСЬ МЕРЛЯК ПРА ЭМІГРАЦЫЙНЫЯ БІБЛІЯТЭКІ І АРХІВЫ

Толькі вельмі ўпэўнены ў сабе і абраным шляху чалавек можа гэтак назваць уласныя ўспаміны — «Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі: праніклівасць і практычны падыход»[1004]. І аўтар быў менавіта такім.

Яго найбліжэйшы паплечнік, Васіль Шчэцька, у святочным слове з нагоды 85-годдзя сябры казаў:

*«Сп. Кастусь Мерляк нарадзіўся 25 сьнежня 1919 году ў вёсцы Дзетамля, былога Наваградзкага павету, ад бацькоў Ільлі й Вольгі (з дому Ціхановіч). Бацька быў настаўнікам і афіцэрам у царскай арміі. Пасьля І-й сусьветнай вайны вярнуўся ў сваю вёску і жыў на зямлі. Кастусь вучыўся ў польскай пачатковай школе. Пазьней закончыў двухгадовую Ральнічую школу ў Кушалеве ў 1935 годзе. Адразу паступіў у школу кааперацыі, якую закончыў у 1938 годзе. Там спаткаўся із сьведамымі людзьмі, што накіравала сп. К. Мерляка зацікавіцца беларускімі нацыянальнымі праблемамі. А да гэтага, жывучы на вёсцы, пазнаў нашых людзей, прыроду, а праз гэта палюбіў свой край, што засталося ў яго аж да сёньня, юнаком ён сфармаваўся на добрага і сьведамага чалавека.*

*З 1939 году пачынае зарабляць сабе на хлеб як бухгалтар. Працягвае працаваць у гэтым напрамку і з прыходам Саветаў, мяняючы толькі ўстановы ці характар функцыяў. (У 1940 годзе скончыў курсы крэдытных інспэктараў у Беластоку, што павысіла ягонае становішча на працы.) Усё-ж той пераходны пэрыяд, як 1939 год пад Польшчай, савецкае “асвабаджэньне” да 22 чэрвеня 1941 году, як і пачатковая акупацыя немцамі, не спрыяў беларусам прысьвяціць больш увагі сваім нацыянальным праблемам, не спрыяў ён і сп. К. Мерляку ў гэтым напрамку.*

*Калі немцы дазволілі арганізацыю цывільнай адміністрацыі ў Беларусі, сп. К. Мерляк пачаў працаваць у Наваградку ў гарадзкой управе, пасьля ў Самапомачы. У 1942 годзе едзе ён на курсы афіцэраў Беларускай Самапомачы ў Менску, дзе спатыкае большае кола маладых энтузыястых, а таксама бліжэй пазнае тагачаснае беларускае кіраўніцтва і ягоных лідэраў.*

*Пасьля курсаў, як падафіцэр, быў накіраваны ў Ліду, дзе, як ад’ютант капітана Касацкага, меў прычыніцца да арганізацыі беларускага батальёну. Недавер немцаў да гэтай арганізацыі і нязгода даць забесьпячэньне разьвязала гэтую кампанію ў пачатку 1943 году.*

*Вярнуўшыся ў Наваградак працуе кіраўніком адміністрацыі на Салатычы, Воўкавічы, Гарадэчына і Шчорсы (4 месяцы).*

*Увосень 1943 году, калі зарганізаваўся Беларускі эскадрон пад кіраўніцтвам Барыса Рагулі*[1005]*, сп. К. Мерляк, як сяржант, уступае ў яго як*

---

[1004] Першае выданне — Нью-Ёрк, 1992; другое — Мінск, 1994.

[1005] **Барыс Рагуля** (1920–2005), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч, медык. У часе Другой сусветнай вайны арганізаваў і ўзначаліў паліцэйскі

*пастаўшчык, а пасьля і як арганізатар батальёну ў сакавіку 1944 году. Гэтая адзінка была ведамай ня толькі ў абароне вёсак ад чырвонай партызанкі, але і як зарука супраць пасяганьняў немцаў на беларускую моладзь дзеля працы ў Нямеччыне, як і іншых інтрыгаў немцаў альбо даносчыкаў на правы Беларускай Наваградчыны.*

*З наступленьнем Саветаў у 1944 годзе сп. К. Мерляк пакінуў Наваградак 7 ліпеня 1944 году і атрымаўся ў Нямеччыне.*

*Час ад 1942 да 1944 году быў пэрыядам, калі сп. К. Мерляк выпрабаваў свае сілы і здольнасьці як беларус: урадовец, вайскавік, адміністратар і лідар. Сёньня мы бачым, што тое выпрабаваньне загартавала яго на стойкага беларуса-барацьбіта.*

*Канец 1944–1946 гады былі для бальшыні беларусаў у Заходняй Эўропе гадамі валакіты, лягероў, пагрозаў і т. п. Наш юбіляр таксама круціўся ў тым віры. Пасьля вайны апынуўся ў Італіі, дзе беларусы чамусьці не згуртаваліся, як напрыклад у Нямеччыне. У 1947 годзе сп. К. Мерляк выехаў у Аргэнтыну.*

*Ад часу пераезду ў Аргэнтыну сп. К. Мерляк з усёй энэргіяй упрагаецца ў беларускую грамадзкую працу. Дзякуючы яму засноўваецца Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне (1948 год), старшынём якога ён і быў. Дзякуючы ягонай энэргіі й здольнасьці імя беларуса, як і беларуская праблема, робяцца вядомымі ва ўрадовых колах, у радыё і прэсе. Ён цікавіцца таксама, каб беларуская праблема была вырашаная ў Парагваі й Уругваі, куды выяжджаў для яе палагоджаньня. У Аргентыне ўладкаваліся і асабістыя справы — у 1950 годзе ён ажаніўся з Ганнай Губэрт. У выніку гэтага сёньня спадарства Мерляк маюць прыгожую сям’ю: трох дарослых адукаваных сыноў.*

*Пасьля сямі гадоў у Аргэнтыне сп. К. Мерляк із сям’ёю 28.07.1954 году пераехаў у ЗША. Гэты прыезд даволі пасьпяхова адбіўся як на ягоным асабістым жыцьці, так і на жыцьці тутэйшай беларускай грамады ды ўсёй беларускай эміграцыі наагул. Як ведамы арганізатар быў прыняты з адкрытымі рукамі як у царкве, так і ў БАЗА. БАЗА, якая хучэй была арганізацыяй на паперы, патрабавала добрага кіраўніка. Ён за яе адразу-ж і ўзяўся ды паставіў на высокі ўзровень як арганізацыйна, так і аўтарытэтна. Адразу быў старшынём акругі БАЗА ў Нью Ёрку, а пасьля Старшынём Галоўнай Управы БАЗА (1954–1963). Будучы старшынём камітэту набыцьця беларускага народнага дому і царквы (1955–1957) выдатна справіўся і з гэтым заданьнем. На палітычным полі таксама здабыў выдатныя вынікі: як старшыня сэктару і міністар нутраных справаў БНР навязаў сувязі з амэрыканскімі ўрадавымі дзейнікамі; паказаў тым, хто ня ведалі, як навязваць такія сувязі, куды ехаць, з кім спатыкацца.*

*Калі-ж беларускае грамадзкае жыцьцё стала актыўным, БАЗА стала на ногі, царква здабыла свой будынак, беларускія дэлегацыі пачалі езьдзіць у Ва-*

---

батальён № 68, вядомы як Наваградскі эскадрон.

*шынгтон, ды міністры БНР акрэплі матар'яльна — дык пачалі раздавацца галасы асобаў, якія казалі, быццам сп. К. Мерляк надужывае іх прэрэгатывы.*

*Час 1963–1967 гадоў у БАЗА, як і ў БАПЦ, быў часам непаразуменьняў і непатрэбных сварак. У 1964 годзе Ўладыка Васіль падаў у суд на царкоўную раду, бо ў ёй быў сп. К Мерляк. Суду ніхто ня выйграў, але заставацца ў царкве надалей сп. К. Мерляку і тым, хто зь ім супрацоўнічаў, было немэтазгодным. Вялікая частка прыхаджанаў адыйшла і ў 1968 годзе стварылі свой новы прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гілл, Н. Ё., пад юрысдыкцыяй Канстантынопальскага Патрыярха. Яшчэ да царкоўнага суду былыя сябры БАЗА стварылі сваю арганізацыю Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку (06.06.1965 г.)*

*Стварэньне новага прыходу, атрыманьне чартару на яго, купля пляцу пад царкву, знаход сьвятара ды будова царквы — гэта была калясальная праца. У гэтым вялізным прадпрыемстве першую скрыпку іграў сп. К. Мерляк. Як арганізатар, грамадзкі аўтарытэт і кіраўнік ён аб'яднаў грамаду (сваіх і прыяцеляў) да адной мэты — выканаць пастаўлены плян. І выкананьне было даведзена да канца.*

*14.11.1982 году сп. К. Мерляка выбіраюць старшынём царкоўнае ўправы. Сп. Ян Казьлякоўскі*[1006] *застаецца пажыцьцёва ганаровым старшынём. Дагэтуль сп. К. Мерляк быў заступнікам старшыні ў царкоўным кіраўніцтве, хоць у сапраўднасьці выконваў працу старшыні. Гэта рабілася як з пашаны сяброў прыходу, гэтак і сп. Мерляка да асобы сп. Я. Казьлякоўскага, якога ўвесь час выбіралі старшынём царкоўнай рады ці царкоўнай управы прыходу.*

*Наступным здарэньнем, дзе сп. К. Мерляк праявіў свае здольнасьці, было высьвячэньне царквы 30.10.1983 году. Уладыка Мікалай (Сміско)*[1007] *узначальваў высьвячэньне. Арганізацыя і прабег урачыстасьці былі выдатнымі. Аб нашым высьвячэньні даведалася ўся Амэрыка.*

*Апошняй вялікай падзеяй было адзначэньне 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі 31.05.1987 году. Службу ізноў узначаліў Уладыка Мікалай. Ізноў сп. К. Мерляк паказаў, як трэба рэпрэзэнтаваць сваю царкву і беларусаў. Гэта была гучная ўрачыстасьць. За што сп. Мерляку падзяка і пахвала.*

*Сп. К. Мерляк таксама шмат пісаў у прэсе аб беларускіх праблемах, што тычыліся эміграцыі, як і жыцьця на Бацькаўшчыне. (Што і дзе пісаў — адсылаю ў ягоную кніжку "Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі".) Выступаў заўсёды ў абарону правоў беларускага народу ці ў абарону справядлівасьці ў жыцьці нашай эміграцыі.*

*Сп. К. Мерляк ёсьць чалавекам вельмі дакладным у рэгістрацыі часу й дзейнасьці як беларускіх арганізацыяў, гэтак і ягонага ўдзелу ў іх. Ён*

---

1006 **Ян Казлякоўскі** (1894–1991), доўгагадовы старшыня царкоўнай управы прыхода Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле.

1007 **Мікалай** (свецк. англ. *Richard Smisko*, 1936–2011), епіскап Канстанцінопальскай праваслаўнай царквы, мітрапаліт Амiскі, кіраўнік Амерыканскай Карпатарoскай праваслаўнай царквы.

*зьбірае дакумэнты й матар'ялы (наколькі гэта было магчыма) усяго, што адбывалася ў жыцьці беларускай эміграцыі. І ў яго сабраўся цэлы архіў асноўнага, што беларуская палітычная эміграцыя рабіла. У 1990 годзе сп. Мерляк сядае за стол і парадкуе гэты вялікі матар'ял — пачынае пісаць кніжку аб тым, што ён бачыў, што пэражыў, чым кіраваў, і як беларуская эміграцыя пражыла ад 2-е сусьветнае вайны да 1990 году. У 1992 годзе кніжка «Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі» выйшла ў сьвет. Друк аплаціў аўтар.*

*Што да самое кніжкі — дык гэта унікум. Я меў дачыненьне да гэтае працы ў часе падрыхтоўкі яе да друку. І ад першага перагляду я бачыў, што гэта выдатная праца. Выдатная ў тым значэньні, што ў ёй зьмешчаны асноўны матар'ял па гісторыі нашае эміграцыі ад 2-й сусьветнай вайны. Другое, што з Аргэнтыны галоўным месцам падзеяў ёсьць ЗША, дакладней Нью Ёрк. А галоўныя дзейнікі палітыкі нашае эміграцыі былі БНР, БЦР, БАЗА і Кангрэсовы Камітэт, якія мелі свае галоўныя кватэры, пасьля Эўропы Нью Ёрк і Саўт Рывэр, Нью Джэрзі. (Трэцяя сіла ў Канадзе із сп. Хмарай (Зіняк) іграла меншую ролю.) І вось гэты асноўны матар'ял перадаў на разгляд беларускай грамадзкасьці ў сваёй кнізе сп. Мерляк.*

*Я называю кніжку унікум, бо падобнага матар'ялу ніхто іншы ня зможа падаць, бо ніхто яго з дакладнасьцю сп. Мерляка не зьбіраў. А сабраць яго сёньня немагчыма: матар'ял раскіданы, многія людзі памерлі, дый самыя дакумэнты пратаколаў ці пастановаў мала што гавораць, бо там не гаворыцца, як усё выконвалася, няма пры іх і фатаграфіяў і іншых выканаўчых пасьведчаньняў. У сп. К. Мерляка сабрана ўсё, што паказвае пастановы, і як яны выконваліся, як нашыя кіруючыя асобы і людзі дзеялі.*

*Калі я пазнаёміўся з рыхтаванай кніжкай сп. К. Мерляка, дык быў зьдзіўлены, што сп. Мерляк знайшоў час і сілу волі гэтую кніжку падрыхтаваць. Бо трэба было ўпарадкаваць матар'ял і змусіць сябе пісаць вялікую працу акрамя іншых штодзённых абавязкаў. Сп. Мерляк грамадзкі чалавек і мае прыроджаную грамадзкую адказнасьць. Гэта і дазволіла напісаць выдатную кніжку і ахвяраваць яе як падарунак нам, эмігрантам і беларусам на Бацькаўшчыне.*

*Хацелася-б, каб сп. Мерляк напісаў яшчэ адную кніжку, прадаўжэньне першае. Зьяўляюцца галасы, што добра было-б, каб ён удакладніў ужо апісанае, і асабліва, каб больш выказаўся аб добрым баку беларускіх эміграцыйных кіраўнікоў.*

*Тут я пералічыў толькі некаторыя заслугі сп. К. Мерляка. Не гаворыцца тут аб штодзённым, штогадовым укладзе ў будову беларускага жыцьця (грамадзкага і царкоўнага) на эміграцыі. І гэта з 1944 году аж да сёньня сп. Кастусь Мерляк крок за крокам, з дня на дзень стараўся ўнесьці нешта пазытыўнае, каб пашырыць як найбольш у вольным сьвеце імя беларусаў і Беларусі, а праз гэта хоць крыху прыблізіць дзень незалежнасьці Беларусі.*

*А сёньня, калі Беларусь аб’яўлена незалежнай, дык каб яна была ня толькі “аб’яўленая”, але сапраўды незалежная»*[1008].

Святочнае слова вельмі слушна кажа пра актыўнасць, працавітасць і выдатныя арганізатарскія здольнасці Кастуся Мерляка, але ж, зразумела, не згадвае, што імяніннік быў, што называецца, закалотчыкам. Дзе б ні працаваў ён — БНР, БАПЦ ці БАЗА, — усё нязменна заканчвалася сваркамі, скандаламі, сыходам. І не тое, каб праз увесь час Мерляк не меў рацыі, але ўпэўненасць ва ўласнай непамыльнасці, адзінаправільнасці падыходу ніяк не спрыялі палагоджванню справаў.

Тым не менш, на жаль, шмат з чым трэба згадзіцца ў ягоным артыкуле «Беларускія бібліятэкі і архівы», надрукаваным спачатку ў газеце «Беларускі Голас» (№ 225 за верасень 1974 г.), а пазней, троху змененым, выдадзеным асобным адбіткам.

*Кастусь Мерляк*

## Беларускія бібліятэкі і архівы на эміграцыі

### *Беларускія бібліятэкі і архівы*

У абвестцы, паданай у газэце «Беларус», № 204 за красавік 1974 г., гаворыцца, што пры Фундацыі Пётры Крэчэўскага пачалі працу Бібліятэка і Архіў. Далей у абвестцы гаворыцца:

*«Архівы пры Фундацыі Пётры Крэчэўскага маюць ахопліваць у першую чаргу матарыялы зь дзейнасьці беларускіх палітычных, грамадзкіх, рэлігійных і навуковых арганізацыяў на эміграцыі»*.

У канцы абвесткі просьба да ўсіх беларускіх арганізацыяў і паасобных беларусаў, каб зьвязаліся з Фундацыяй дзеля рэгістрацыі, а пазьней перадачы ў Бібліятэку ці Архівы кнігаў і матарыялаў.

Абвестка падпісаная: *«рада дырэктароў Фундацыі Пётры Крэчэўскага»*.

Гэтая абвестка прыпомніла мне ранейшыя абвесткі на эміграцыі пра архівы ды паставіла наступныя пытаньні:

1. Што сталася з бібліятэкамі і архівамі, якія існавалі да гэтага часу?
2. Што-ж гэта за ўстанова Фундацыя Пётры Крэчэўскага?
3. Хто будзя адказны за сабраныя кнігі й матарыялы ды каму будзя дазволена гэтымі матарыяламі карыстацца?

Тутака мы пастараемся па меры магчымасьці адказаць на пастаўленыя пытаньні.

---

[1008] Беларус. № 505. Люты 2005. Кастусь Мерляк памёр 25 лістапада 2007 г.

### *Усебеларускі Архіў і Бібліятэка*

У газэце «Бацькаўшчына» № 159 з датай Нядзеля, 12 ліпеня 1953 г., у артыкуле-абвестцы «Усебеларускі Архіў» чытаем:

*«Выконваючы даручэньне Агульнага Зьезду з 14 сьнежня 1952 г., Управа Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва прыступіла да арганізацыі ў Нью Ёрку Усебеларускага Архіву беларускай эміграцыі.*

*Управа беларускага Інстытуту робіць стараньні, каб так патрэбная ўстанова была як найхутчэй адчыненая і аддадзеная для карыстаньня ўсяму беларускаму грамадзтву бяз розьніцы палітычных пaглядаў ці груповай прыналежнасьці.*

*Усебеларускі Архіў будзе складацца з трох галоўных аддзелаў: архіўнага, музэйнага і бібліятэчнага.*

*Інстытут бярэ на сябе абавязак і адказнасьць за справу аховы збораў ды за даступнасьць іх для навуковых і грамадзкіх патрэбаў.*

*...ды заклікае да перасыланьня ў Усебеларускі Архіў вышэй пералічаных матарыялаў. Просіцца таксама ўсе беларускія выдавецтвы перасылаць найменш 3 экзэмпляры ўсіх выданьняў для Архіву.*

*Лісты, друкі, экспанаты трэба адрысаваць на дырэктара Ўсебеларускага Архіву Міколу Панькова: Mr. Nicolaus Pankou, Director, All-Whiteruthenian Archives, 56-49, 59 Place, Maspeth 78, L. I. N. Y., USA».*

У гэтай абвестцы ёсьць часткавы адказ на пытаньне № 2 і 3. У ёй падана, што Мікола Панькоў ёсьць дырэктарам, і што Беларускі Інстытут бярэ на сябе адказнасьць за справу аховы збораў.

Тутака важна падкрэсьліць, што нават у 1953 годзе Інстытут палічыў за патрэбнае запэўніць беларускае грамадзтва, што яму будзя забясьпечаны доступ бяз розьніцы *«палітычных пaглядаў ці груповай прыналежнасьці».*

У той час, як і цяперака, дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва была ведама, бо пра яе пісалася ў беларускай прэсе або гаварылася на навуковых і псэўда-навуковых агульных зборках, да якіх грамадзтва мела доступ.

Старшынёю, калі няма памылкі, адзін год быў праф. Л. Акіншэвіч і адзін год Ул. Тамашчык (Япіскап Васіль), а ад таго часу да сяньняшняга дня зьяўляецца др. Вітаўт Тумаш. Да ўправы Інстытуту належалі або яшчэ належаць: М. Гарошка, Наталія Арсеньнева-Кушаль, Антон Адамовіч, Антон Шукелайць, др. Я. Запруднік, др. Вітаўт Кіпель, ну і дырэктар[1009] Мікола Панькоў.

Ад 1953 г. дырэктар Панькоў, у прыватнасьці, а Беларускі Інстытут у асаблівасьці, нямала сабралі кнігаў, архіўнага й музэйнага матарыялу, бо беларускае грамадзтва дацэньвала важнасьць гэтай справы,

[1009] Тут маецца на ўвазе менавіта дырэктар Усебеларускага архіва, а не БІНіМа.

набраўшы дасьведчаньня ў вапошнюю вайну, што трэба ўсё зьберагчы для наступных пакаленьняў.

Я асабіста з Аргэнтыны пераслаў нямала матарыялаў, а аснаўную колькасьць прывёз у 1954 годзе й перадаў дырэктару Панькову.

Цяперака мы ставім пытаньне Старшыні БІНІМ др. В. Тумашу, дырэктару Панькову і Ўправе Інстытуту, што сталася з Усебеларускім Архівам, Бібліятэкай і Музэем? Чыёю ўласнасьцяй зьяўляецца бібліятэка, архіў і музэйныя матарыялы, даручаныя Вам пад ахову, якую Вы ўзялі на сябе перад беларускім грамадзтвам? Ці кожны, хто зажадае, можа гэтым матарыялам карыстацца, бяз розьніцы груповай прыналежнасьці?

Коратка мы дамо адказ на пастаўленыя пытаньні, а на падробны адказ пакінем др. В. Тумашу як Старшыні Інстытуту адказаць, чаму ён ня выканаў паўзятага абавязку ахровы матарыялаў ды не апраўдаў даверу беларускага грамадзтва.

Цяперака Бібліятэка, Архіў і музэйныя матарыялы знаходзяцца ў доме сп. Міколы Панькова, 464, 46-я вуліца, Бруклін. Сп. Панькоў уважае, што Бібліятэка, Архіў і музэйныя экспанаты зьяўляюцца ягонай вылучнай уласнасьцяй. Але няведама, прынамсі, мне, якім правам маёмасьць Інстытуту перайшла на ягоную собскасьць.

Факт застаецца фактам, што сп. Панькоў зьяўляецца гаспадаром і мае права распараджацца бібліятэкай, архівам і музэйным матарыялам так, як ён будзя лічыць за карыснае яму асабіста, уключна з правам продажу або перадачы, каму будзя хацець[1010].

### *Архіў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

*«Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, 6/III, 1943, № 546, Прага, Іх міласьці гр. Інж. Міколе Абрамчыку і гр. Ларысе Гэнію́ш. Будучы доўга і моцна хворым, што можа прынясьці, хутчэй, кепскі, чым добры канец майму жыцьцю, я гэтым перадаю Вам, пане інжынер, становішча Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*...Само сабой разумеецца, што ўсе архівы Рады БНР і дакумэнты пераходзяць таксама да Вас. Старшыня Рады БНР В. Захарка».*

Згодна гэтага дакумэнта інж. Мікола Абрамчык пераняў архівы і дакумэнты Рады БНР і перавёз іх ува Францыю. Гэты дакумэнт называўся *«тэстамэнтам»*, які даваў інж. Міколе Абрамчыку канстытуцыйныя правы называць сябе Старшынёю Рады БНР.

Архіў даўжэйшы час перахоўваўся ў памешканьні пры 65 ру дэ Гравілерс, Парыж, Францыя, а пазьней, здаецца, быў перавезены на прыватнае памешканьне інж. Абрамчыка на прадмесьці Парыжа.

---

[1010] Пасля смерці Міколы Панькова сабранае ім трапіла ў БІНіМ.

Ад 1943 году да сьмерці 19 травеня 1970 году інж. Абрамчык зьбіраў і папаўняў Архіў Рады БНР. Людзі, якія давяралі, у тым ліку і я асабіста, перадавалі яму архіўныя матарыялы, асабліва з палітычнае дзейнасьці Рады БНР і грамадзкіх арганізацыяў. Ня раз інж. Абрамчык выказваўся і паклікаўся публічна на дакумэнты, якія знаходзяцца ў архівах Рады БНР.

У апошнія пару гадоў перад сьмерцяй інж. Абрамчыка Ангельскі сэктар Рады БНР намагаўся правесьці інвэнтарызацыю Архіву ды забясьпечыць Архіў належнай аховай; нажаль, Старшыня Рады БНР не ўважаў гэтую справу важнай або меў іншае прызначэньне, каб не дазволіць уліку архіўнага матарыялу.

Пасьля яго сьмерці была пакліканая камісія ў асобах: а. Льва Гарошкі, а. А. Смаршчка і сп. А. Лашука[1011], каб яны перанялі ад сп-ні Ніны Абрамчык[1012], перапісалі Архіў Рады БНР і перадалі яго ў Беларускую Бібліятэку і Музэй Францішка Скарыны ў Лёндане, Англія.

Сп-ня Абрамчык усякімі спосабамі адцягвала перадачу Архіву. Сябры камісіі былі змушаныя ехаць у Парыж некалькі разоў, аж нарэшце сп-ня Абрамчык заявіла, што Архіву Рады БНР яна нікому не перадасьць. Яшчэ зрабіў адну спробу сп. М. Нікан[1013] з Аўстраліі. У жніўні 1973 г. паехаў у Парыж спэцыяльна, каб пераканаць сп-ню Абрамчык, што гэта агульная беларуская маёмасьць, а не пэрсанальная інж. Абрамчыка, якую яна пераняла ў спадку. Яна сп. Нікана не прыняла ў хату. Ён толькі пагутарыў з сынам Альгердам[1014] на ганку.

І вось такім чынам Беларускі Дзяржаўны Архіў няведама ў якіх апынецца руках. Ведама ўсім, што ворагі беларускае незалежнасьці й дзяржаўнасьці заплоцяць усякую суму грошай, каб заўладаць гэтымі дарагімі беларускаму народу дакумэнтамі, каб пазбавіць беларусаў гістарычнае дакумэнтацыі Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі й змаганьня за ажыцьцяўленьня ідэалаў 25 Сакавіка.

Інж. Мікола Абрамчык, які прэтэндаваў на Прэзыдэнта Беларускай Народнай Рэспублікі, ня меў ніякіх якасьцяў дзяржаўнага мужа, гэта пацьвярджае ягоная прымітыўная дзейнасьць палітычная на эміграцыі й сам факт незабясьпячэньня перадачы Дзяржаўнага Архіву свайму наступніку, які ён у свой час атрымаў ад свайго папярэдніка сьв. п. Старшыні Рады БНР Васіля Захаркі.

[1011] **Аляксандр Лашук** (1909–1997), грамадскі дзеяч. Быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Лондане.

[1012] **Ніна Абрамчык** (дзяв. Ляўковіч, 1916–2003), грамадская дзеячка, жонка Міколы Абрамчыка.

[1013] **Мікола Нікан** (1908–1999), грамадскі дзеяч. Ад 1952 г. жыў у Мельбурне.

[1014] **Альгерд Абрамчык** (нар. 1955), сын Міколы Абрамчыка.

### *Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага*

*Kreceuski Foundation, Inc. For Preservation and Study of Byelorussian Culture, 166-34, Gothic Drive, Jamaica, NY, 11432*.

Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага была заснаваная вясною 1960 г. Першымі падпішчыкамі чартэру (рэгістрацыйны дакумэнт) былі: др. В. Тумаш, А. Адамовіч, К. Мерляк, В. Кажан[1015] і Н. Кушаль[1016]; яны-ж былі першымі дырэктарамі Фундацыі.

Ад 1960 да 1964 гг. былі прынятыя ў сябры наступныя асобы: М. Гарошка, Я. Запруднік, А. Шукелайць і В. Кендыш. На агульным сходзе 4 красавіка 1965 г. былі прынятыя яшчэ др. У. Набагез[1017], Ф. Бартуль[1018], М. Тулейка і Я. Гладкі. Ці хто пазьней быў прыняты ў сябры, ці не, нам няведама. Але ведама, што некаторыя сябры Фундацыі былі незадаволеныя з таго, што др. Ст. Станкевіча ў сябры ня прынялі.

Рада дырэктароў Фундацыі ў 1966 г. складалася з наступных асобаў: М. Гарошка, др. В. Тумаш, др. У. Набагез, Я. Запруднік, А. Шукелайць і Ф. Бартуль.

Ад імя гэтае Рады сп. К. Мерляк атрымаў ліст з датай 5 сакавіка 1966 г., падпісаны: *«Я. Запруднік, сакратар»*, наступнага зьместу:

*«Сп. Мерляк, Гэтым паведамляем, што рада Дырэктароў Фундацыі імя П. Крэчэўскага на сваім паседжаньні 5 сакавіка 19 г. пастанавіла ад сяньняшнега дня не ўважаць Вас за сябру Фундацыі імя П. Крэчэўскага»*.

Прычыны, чаму сп. К. Мерляк, закладчык Фундацыі, быў пазбаўлены сяброўства, ня былі паданыя, але аб прычынах скажам пазьней.

У падзагалоўку сказана, што Фундацыя заложаная для Захаваньня й Вывучэньня Беларускае Культуры, але ў чартэры сказана больш, як арганізаваньне і ўтрыманьне бібліятэкі, арганізаваньне і ўтрыманьне архіву, зьбіраньне экспанатаў і ўтрыманьне музэю. Таксама выданьне журналаў і кнігаў, якія абараняюць усякія інтарэсы беларускага народу, а не групоўкі, што на сяньня Фундацыяй, проці статуту, практыкуецца.

На вышэй паданую мэту былі прызначаныя грошы, але ня было адпаведнай арганізацыі, якой-бы даручылі такое важнае заданьне. Навет Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ня быў кваліфікаваны атрымаць прызначаны фонд, дзеля гэтага была заложаная Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага.

---

[1015] **Віталь Кажан** (1916–2004), вайсковы і грамадскі дзеяч. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Шматгадовы скарбнік Рады БНР.

[1016] Маецца на ўвазе Наталля Арсеннева.

[1017] **Уладзімір Набагез** (1919–2011), грамадскі дзеяч, лекар. Ад 1956 г. жыў у ЗША.

[1018] **Францішак Бартуль** (1918–2005), грамадскі дзеяч. Ад 1956 г. жыў у ЗША, у Нью-Ёрку.

Фундацыя на пачатку атрымала суму дал. 32 548,51. Гэта сума вырасла да 14 сьнежня 1964 г. да дал. 37 502,62 (працэнты). У гэты-ж дзень была падпісаная купля чатырох тры фамільных дамоў.

За дамы заплочана 180 000,00 дал. Каб іх купіць, Фундацыя пазычыла 147 000,00 дал., гарантуючы гіпатэкай (моргіч) на 3,5 працэнтаў.

Паводле др. В. Тумаша, дамы павінны былі даць даходу прыблізна 10 000,00 дал. у год, за якія грошы Фундацыя ажыцьцяўляла-б пастаўленыя мэты.

І толькі праз 10 гадоў Фундацыя робіць заклік, каб людзі прысылалі кнігі й матарыялы ў бібліятэку — значыць, пачалі дзеіць! Згодна лікаў др. В. Тумаша, паданых на агульным сходзе 4 красавіка 1965 г., Фундацыя пасьля дзесяці гадоў павінна ўжо мець каля 100 000,00 дал. А дзе гэтыя грошы?

Людзі, якія прывыклі ў сваім жыцьці раскідаць або прысабечываць грошы, якія былі атрыманыя на Беларускую Справу, як напрыклад: Фонд «Беларуса», Фонд «Бацькаўшчыны», Фонд Стыпэндыяльны і другія, бачачы ў Фондзе Фундацыі матарыяльныя карысьці, палічылі неабходным пазбавіць сяброўства Фундацыі сп. К. Мерляка, бо яны добра ведалі, што сп. К. Мерляк ня будзя таляраваць надужываньне матарыяльных сродкаў, як і грамадзкага даверу.

Гэта пацьверджвае факт, бо Фундацыя за 10 гадоў не падала абсалютна нічога да ведама грамадзтва.

Грошы ў Фундацыю імя П. Крэчэўскага не зваліліся зь неба. Яны былі запісаныя беларускімі патрыётамі, якія аддалі сваё жыцьцё за Беларусь, веруючы ў справу і кіраўнікоў, якія, нажаль, іх ганебна здрадзілі, а сяньня самавольна карыстаюцца грашымя, як будто-бы сваімі собскімі.

Прозьвішчы як: Янка Філістовіч[1019], Касьцюк[1020], Острыкаў[1021], К. Арцюшэўскі[1022] ды іншыя на працягу 20-ці гадоў захоўвалі, як-бы іх і ня было на сьвеце[1023].

Але беларускае грамадзтва ня мае намеру забыцца пра іх і пачне дамагацца, каб воля загінуўшых была поўнасьцю выкананая, а іхнія імёны ўпісаныя залатымі літарамі ў кнігу беларускіх гэрояў.

---

[1019] **Янка Філістовіч** (1926–1953 (?)), грамадскі дзеяч, публіцыст. Удзельнік арганізаванага амерыканцамі дэсанту на беларускую тэрыторыю для ажыццяўлення падпольнай антысавецкай дзейнасці.

[1020] **Генадзь Касцюк** (1922–?), удзельнік антысавецкага дэсанту, за што атрымаў 25 гадоў зняволення.

[1021] Маецца на ўвазе **Цімох (Міхась) Вострыкаў** (1922–2007), грамадскі дзеяч, сябра «Дванаццаткі», удзельнік антысавецкага дэсанту.

[1022] Маецца на ўвазе **Міхась Арцюшэўскі** (1925–?), удзельнік антысавецкага дэсанту.

[1023] Больш пра дэсант гл.: Вострыкаў, Цімох. Мая споведзь // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 261–283.

Калі-ж Фундацыя не адкрые свае кнігі й ня дасьць справаздачы з дзейнасьці ад пачатку да 1974 г. і не адкрые доступ усім новым сябрам, дык грамадзтва будзе змушанае зьвярнуцца да тых людзей, якія нясуць адказнасьць за выкананьне волі тых, што запісалі сваю страхоўку на сваё жыцьцё на 10 000,00 дал. кожны на Беларускую Справу, каб яны заглянулі ў кнігі (калі такія ёсьць) і дзейнасьць Фундацыі ды зрабілі адпаведны выснаў.

Гэтага можна будзя ўнікнуць, калі др. Б. Рагуля, гэтым разам не ўцякаючы, выканае паўзяты на сябе абавязак.

### *Беларуская Бібліятэка й Музэй імя Франьцішка Скарыны*

Ад некулькі ўжо год у Лёндане, Англія існуе і выдатна працуе Бібліятэка й Музэй імя Франьцішка Скарыны. Бібліятэка, Архіў і Музэй знаходзяцца ў адпаведным будынку, які абслугоўваецца а. Марыянамі. Юрыдычна Бібліятэка й Музэй імя Франьцішка Скарыны зьяўляюцца незалежнымі ўстановамі, аднак яна ўвязана ў сэтку гарадзкіх бібліятэкаў Лёндану й знаходзіцца пад непасрэднай адміністрацыйнай апекай гораду Лёндан. Гэта дае гарантыю, што падараваныя і набытыя кнігі й матарыялы не загінуць і не пападуць у рукі каму не належыцца, ды забясьпечвае доступ кожнаму жадаючаму на роўні з кожнай бібліятэкай Лёндану.

Фаховае й сталае вядзеньне ды належная перасьцярога прынятых правілаў у гэтай галіне справаў дае гарантыю, што кнігі, архіўныя і музэйныя матарыялы ня будуць надужывацца адной якой-небудзь групоўкай, а будуць служыць усяму Беларускаму Народу[1024].

### *Бібліятэка і Архіў на Амэрыканскім кантынэньце*

Бібліятэка, Архіў і Музэй з такімі якасьцямі, як Бібліятэка й Музэй імя Франьцішка Скарыны, павінна ўжо даўно існаваць і працаваць у Амэрыцы з сядзібай у горадзе Нью Ёрк.

На гэта патрэбнае належнае юрыдычнае афармленьне, належны будынак ды сталае й фаховае кіраўніцтва і абслуга.

Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага адказвае на першыя дзьве вымогі, але, нажаль, трэцяй вымогі Фундацыя ня ёсьць у стане забясьпечыць. Бо-ж хто можа даверыць у аснаўным тым самым асобам, якія загубілі Ўсебеларускі Архіў, Архіў Рады БНР, поўнасьцю прысабечылі Фундацыю ды ігнаруюць волю тых, што запісалі на яе грошы.

---

[1024] Падрабязней пра архіўныя зборы Скарынаўкі гл.: Гардзіенка, Натальля. Архівы Беларускай бібліятэкі й музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 73–100.

Дзеля гэтага беларускія арганізацыі і прыватныя асобы павінны ўстрымацца з высылкай усякіх матарыялаў, пакуль Фундацыя не рэарганізуецца й ня стане ўсеагульнай беларускай установай.

Аднак, калі хто жадаў-бы зараз-жа перадаць матарыялы ў архіў і кнігі ў бібліятэку, дык мы рэкамэндуем перасылаць іх у Бібліятэку і Музэй імя Франьцішка Скарыны ў Лёндане, Англія.

***Беларуская Бібліятэка, Архіў і Музэй у Саўт-Рывэры***

Скончыўшы пісаць гэты артыкул, паявілася абвестка ў «Беларускай Думцы»[1025], № 16–17, 1973–1974, наступнага зьместу:

*«Пры Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры заснаваны Беларуская Бібліятэка, Архіў і Музэй.*

*Просім суродзічаў падтрымаць гэтыя інстытуцыі, дасылаючы беларускія кнігі й друкі, матарыялы ў Архіў і экспанаты ў Музэй, на адрас рэдакцыі»*.

Прачытаўшы папярэднія разьдзелы гэтага артыкулу ды гэтую абвестку, кожны будзя бачыць, што падыход да справы бібліятэкі, архіву й музэю ня ёсьць на ўзроўні свайго заданьня.

Першае ўражаньне, гэта паўтарэньне старое практыкі групавое рывалізацыі; што калі вы, то так і мы.

Належная ўстанова «Беларуская Бібліятэка, Архіў і Музэй» можа існаваць на Амэрыканскім кантынэньце толькі адна, бо беларускае грамадзтва ня будзя ў стане сарганізаваць, належна скамплектаваць матарыялы, утрываць фінансава ды належна абслужыць больш як адну бібліятэку.

Ня ведама, што «Б. Д.» мела на ўвеце, друкуючы гэту абвестку. Калі -ж тутака расходзіцца пра бібліятэку пры прыходзе Беларускае Праваслаўнае царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт-Рывэр як мясцовае бібліятэкі, то гэта абвестка ёсьць на месцы, бо лёс прыходу будзя й лёсам бібліятэкі, а пагэтаму людзі, якія пагаджаюцца з юрыдычным афармленьнем прыходу, могуць падтрымаць гэтае важнае прадпрыняцьце.

Калі-ж хто думаў-бы, што гэта мае быць бібліятэка, адказваючая ўсім вымогам гэтае ўстановы, дык у абвестцы няма адказу на пытаньні, пастаўленыя намі ў гэтым артыкуле.

Перадусім у абвестцы не сказана, што Беларуская Бібліятэка, Архіў і Музэй будуць уласьцівасьцяй прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, а толькі сказана, што пры Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры, які ня ёсьць юрыдычнай установай, а толькі чыстай зьявай фізы-

[1025] **«Беларуская Думка»** — грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаецца ў ЗША (спачатку ў Нью-Ёрку, цяпер у Саўт-Рывеоы) ад 1960 г.

чнай, да гэтага не падана, хто будзя адказны за маёмасьць, ахову і абслугу, не гаворыцца аб гварантыі ўсеагульнага доступу.

Адылі, гэты пачын у Саўт Рывэры таксама не разьвязвае пытаньня Беларускае Бібліятэкі, Архіву і Музэю ў Амэрыцы, і яно надалей стаіць на парадку дня дзейнасьці беларускае эміграцыі на Амэрыканскім кантынэньце[1026].

[1026] Пра сабранае ў згаданай царкве гл.: Гардзіенка, Алег. Архівы царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 65–72.

# MADE IN BNR[1027]: ДА ГІСТОРЫІ МАРАК І КРУЖЭЛАК НА ЭМІГРАЦЫІ[1028]

## I

Здаецца, той заклік у 1948 г. ініцыятара Замежнага саюза беларускіх філатэлістаў Міколы Сільвановіча «Зьбірайма й мы!», як і сам саюз, гэтак і не дайшлі да жыцця. А шкада. У артыкуле аўтар з неўласцівым для паэты акадэмізмам (свае вершы падпісваў Мікола Вярба) рахаваў:

*«Нашыя беларускія паштовыя маркі (бяру ўсё паводле швайцарскага каталёгу Цуштайна за 1947 г.*[1029]*) былі ўпершыню выдадзеныя ў 1919 г., калі на расейскіх марках быў зроблены наш надрук разам зь летувіскім (“літоўскім”) друкам. Кошт на іх сёньня, паводле вышэўспомненага каталёгу, — сэрыя з 9 штук — 90 швайцарскіх франкаў, а на філятэлістычным рынку Нямеччыны — каля 9000 нямецкіх марак. Другая сэрыя была выданая, паводле каталёгу* [неразб.][1030]*, у 1920 г. камандзерам Беларускага армейскага корпусу Беларускай Народнай Рэспублікі генэралам Булак-Балаховічам*[1031] *у колькасьці 5 штук, і сёньня, паводле вышэўспомненага каталёгу, яны каштуюць два швайцарскія франкі, а на рынку ў Нямеччыне даходзяць нештэмпляваныя да 200–250 марак. Трэцяе выданьне ў колькасьці трох паштовых марак зьявілася ў 1922–1923 гг. у Коўні, выданае Эміграцыйным Урадам Беларускае Народнае Рэспублікі. У чужынцаў гэтае выданьне не карысталася ўвагаю, але для нас, беларусаў, яно дарагое, і наш Замежны саюз беларускіх філятэлістых у Нямеччыне плаціць за кажную сэрыю арыгіналу 40 мк. Шмат яшчэ было выдана паштовых марак нашымі камітэтамі на чужыне, аднак жа з прычыны малое рэклямы яны не карысталіся вялікай папулярнасьцю, і сёньня іх цяжка знайсьці, бо яны нідзе не былі зарэгістраваныя»*[1032].

Ёсць што збіраць філатэлістам і з выдадзенага паваеннай эміграцыяй.

---

[1027] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 504–521.

[1028] У аглядзе апісваюцца толькі маркі, выдадзеныя эміграцыйнымі арганізацыямі. Таму чытач не знойдзе тут згадкі пра маркі кшталту выдрукаваных ААН 22 верасня 1983 г.

[1029] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе: Europa: Briefmarken-Katalog Zumstein. Bern: Zumstein & Cie. Або дадатак да яго: Berner Briefmarken-Zeitung. Journal philatélique de Berne. Bern: Briefmarkenhaus Zumstein & Cie.

[1030] Праз невыразны друк газеты расчытаць назву каталога не ўдалося.

[1031] **Станіслаў Булак-Балаховіч** (1883–1940), вайсковы дзеяч, генерал. У 1919 г. стварыў «Асобны аддзел войскаў БНР у Балтыі».

[1032] Сільвановіч, Мікола. Зьбірайма й мы! // Бацькаўшчына. № 4 (7). 15 лютага 1948. С. 3.

Ідэя вядомай серыі марак БНР паўстала напрыканцы 1940-х гг. у Парыжы, дзе жылі ў той час Мікола Абрамчык, Лявон Рыдлеўскі, Уладзімір Шыманец, а ў Амерыцы гэтым займаўся Віталь Кажан.

Маркі былі выдадзеныя ў дзвюх серыях. На першай — старшыні Рады БНР Пётра Крэчэўскі (марка фіялетавага колеру вартасцю тры талеры) і Васіль Захарка (марка чырвонага колеру вартасцю адзін талер), а таксама Дом Рады БНР (марка зялёнага колеру вартасцю 50 грошай); на другой — Пагоня (марка чырвонага колеру вартасцю 25 грошай) і мапа Беларусі (марка сіняга колеру вартасцю 10 грошай). Марка з партрэтам тагачаснага прэзідэнта БНР, што мусіла быць у другой серыі, не выйшла праз пярэчанні самога Міколы Абрамчыка.

Эскізы апошніх трох марак зрабіў міністр фінансаў БНР Уладзімір Шыманец, а вось мастак першай серыі тым часам невядомы. Рассылацца маркі пачалі ў першым месяцы 1950 г.[1033].

У 1960 г. Згуртаванне беларускай моладзі Амерыкі выдала марку ў гонар 40-х угодкаў Слуцкага паўстання. Надрукавалі яе ў чатырох колерах: чырвоным, сінім, зялёным і шэрым.

Намаляваў марку мастак Генрык Архацкі. (У 1950-я газета «Беларус» друкавала рэкламу: *«Pioneer Rubber Engraving Co, Inc. Henryk Archacki абслужыць вас, калі вам патрэбныя — рысункі, рэклямы, дыплёмы, клішы, матрыцы, адлівы, друкі, візытоўкі, пячаткі, фотастаты. Algonquin, 5-8575, 21 E 17 st, NY, NY 3»*.)

У цэнтры маркі — постаць дзецюка з узнятым угору бел-чырвона-белым сцягам з надпісам на ім: *«Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына»*. Тронка сцяга мае форму паходні, на полымі якой надпіс: *«The Slucak Uprising 1920–1960»*, а справа ўнізе іншы надпіс, таксама англамоўны: *«Freedom for Byelorussia!»*. У левым ніжнім куце літары *«БНР»*.

Маркі былі выдадзеныя на аркушах па 20 паасобнікаў; на кожным аркушы надпіс, беларускі і англамоўны: *«Яны памерлі, каб жыла Бацькаўшчына — жывеце вы, каб Бацькаўшчына не памерла! Памажэце замацаваць гісторыю Слуцкага Паўстаньня — злажэце ахвяру на выданьне Слуцкага Альманаху. Наклейвайце гэтыя маркі на лістох і пачках — пашырайце праўду аб Беларусі»*[1034].

Найбольш вядомыя, напэўна, маркі «Пошты ЗБВБ» — Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі. Бо надта ж унікальнаю была гісторыя — не толькі для беларусаў, але і для саміх брытанцаў. Коратка нагадаю яе.

У 1971 г. у Вялікабрытаніі застрайкавалі паштары, і Гай Пікарда ад імя ЗБВБ звярнуўся па афіцыйны дазвол на адкрыццё паштовай службы. Дазвол

---

[1033] Падрабязней гл.: Кажан, Віталі. Маркі Беларускай Народнай Рэспублікі // Беларускі калекцыянер. № 1–2 (12–13). Сакавік 1995. С. 4.

[1034] Запруднік, Янка. Маркі да 40-годзьдзя Слуцкага Паўстаньня (Зь беларускага жыцьця) // Бацькаўшчына. № 15 (499). 10 красавіка 1960. С. 4; Беларускія маркі // Бацькаўшчына. № 34 (518). 4 верасьня 1960. С. 4.

ён хутка атрымаў — спачатку вусны, праз тэлефон, 16 лютага, а на наступны дзень — і пісьмовы. Спрыяла такому простаму дазволу наяўнасць немалой колькасці прыватных кантораў падобнага кшталту ў краіне — больш за 200.

Пікарда сам зрабіў эскіз марак, сам надрукаваў, і ўжо 19 лютага пошта запрацавала з дапамогаю васьмі сябраў ЗБВБ. Паштовыя канторы размясціліся ў памяшканні канцылярыі арганізацыі, у прыватным клубе і ў школе св. Кірылы Тураўскага. Напачатку працы было небагата, але пасля артыкула ў газеце *«The Evening Standard»* ад 24.02.1971, калі пра незвычайны паштовы сэрвіс даведаліся ангельцы, справа пайшла весялей.

Доўжылася гэтая акцыя — карысная для ЗБВБ і з фінансавага гледзішча, і з гледзішча пашырэння інфармацыі пра Беларусь — да 10 сакавіка, калі страйк скончыўся[1035].

Паводле Гая Пікарды, былі выдадзеныя наступныя маркі.

Першая серыя. Малюнак Гая Пікарды накладам 300 паасобнікаў. Друкавалася па адной марцы на аркушы. Тэкст у тры радкі: *«З.Б.В.Б. (10 п. ці 20 п.) Пошта»*. 10 п. — чырвоная на светла-зялёнай паперы; 20 п. — сіняя на светла-зялёнай паперы.

Другая серыя. Выдрукаваныя ў 1920 г. маркі «Асобны атрад» з ручной наддрукоўкай ліловага колеру — у ніжнім правым кутку *«10 п.»*, злева — *«ZBVB Post»*, без зубцоў: 10 п. на 5 кап. — зялёная, 10 п. на 10 кап. — чырвоная, 10 п. на 15 кап. — ліловая, 10 п. на 1 руб. — карычневая. Наклад невядомы.

Трэцяя серыя — віньеткі, выпушчаныя ў Заходняй Нямеччыне ў 1950 г. з наддрукоўкамі, як у другой серыі: 10 п. на 10 грошай — сіняя з выявай скрутку з мапай Беларусі; 10 п. на 25 грошай — аранжавая з выявай Пагоні; 10 п. на 50 грошай — зялёная з выявай Дома Рады БНР у Мінску; 10 п. на талер — чырвоная з партрэтам Васіля Захаркі і надпісам *«В. Захарка 1928–1934»*; 10 п. на 3 талеры — ліловая: *«П. Крэчэўскі 1919–1928»*. Наклад невядомы.

Чацвёртую серыю зрабілі, як першую.

Пятая серыя — з выявамі гістарычных будынкаў. Наклад 1000 паасобнікаў, друкаваліся па 5 марак на адным аркушы. На ўсіх марках унізе надпіс *«Пошта ЗБВБ»* і злева (знізу ўверх) *«Byelorussia»*: 1 п., чорная на светла-жоўтай паперы, *«Полацк»* — царква Хрыста Збаўцы і св. Еўфрасінні Полацкай, XII ст.; 5 п., намінал чорны, сіняя на блакітнай паперы, *«Супрасьль»* — царква Дабравесця XVI ст.; 10 п., намінал чорны, чырвоны на светла-зялёнай паперы, *«Ішкалдзь»* — касцёл XV ст.; 15 п., намінал чорны, зялёная на ружовай

---

[1035] Падрабязней пра пошту ЗБВБ гл.: «Пошта ЗБВБ» — «ZBVB Post» у Ангельшчыне // Беларус. № 167. Сакавік 1971. С. 5; Я. З. Маркі БНР у афіцыйным ужытку ў Ангельшчыне // Беларус. № 172. Жнівень 1971. С. 5; Пра беларускія маркі ў «Новым Рускім Слове» // Беларус. № 191. Сакавік 1973. С. 4; Палчанінаў, Р. Пошта Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі // Беларускі калекцыянер. № 1–2. 1992. С. 5; Pauk, B. The British Postal Strike and the Byelorussian Post // Ukrainian Philatelist. Vol. 44. 1980. P. 28–29; Гардзіенка, Н. «Пошта ЗБВБ» // Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 220–222.

паперы, *«Магілеў»* — гарадская ратуша ў Віцебску XVIII ст., быў памылкова пазначаны як Магілёў; 20 п., намінал чорны, чырвоная на аранжавай паперы, *«Нясьвіж»* — дом XVIII ст. на Рынкавым пляцы.

У якасці гашэнняў ужываліся штэмпелі ліловага, чорнага ці сіняга колеру *«ZBVB Post 4 Mar 1971 London N 7»*[1036].

Паспрабавалі аднавіць працу пошты ў 1978 г., калі ў Лондане 19 жніўня зарэгістравалі незалежнае прадпрыемства *B.Z.P. Dispatch Company* — Беларуская замежная пошта. Мэта службы — забяспечыць дастаўку газетаў, лістоў, бандэроляў паміж беларускімі арганізацыямі і прыватнымі асобамі. Паведамлялася, што БЗП мае канторы не толькі ў Лондане, але і ў Дубліне ды Парыжы і будзе карыстацца ўласнымі маркамі, пячаткамі і налепкамі на беларускай і англійскай мовах[1037]. Ці меліся на ўвазе маркі з 1971 г. або планавалася вырабіць новыя, удакладніць пакуль не атрымалася.

Напрыканцы 1972 г. да 450-х угодкаў з пачатку друку на тэрыторыі Беларусі БІНіМ стараннямі Вітаўта Тумаша выдаў адмысловую марку з партрэтам Скарыны[1038]. Марка вішнёвага колеру, партрэт абведзены рамкаю са словамі *«450-я ўгодкі друку ў Беларусі. Др. Фр. Скарына, 1485?—1540. Малая Падарожная Кніжка. Вільня, 1522–1972»*. Гэтую марку намаляваў Барыс Данілюк.

На аркушах змяшчаўся наступны даведачны тэкст: *«1522–1972. 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі. У 1522 годзе, у тагачаснай сталіцы Беларусі Вільні, з друку паявілася Малая Падарожная Кніжка. Гэта першая кніга, надрукаваная на тэрыторыі Беларусі і ўсяе Ўсходняе Эўропы. Выдаў яе Францішак Скарына з Полацку (1485?—1540), доктар навукаў вызваленых і мэдыцыны, выдатны вучоны гуманісты, перакладнік і выдавец беларускае Біблії. Партрэт доктара Скарыны на марцы рэпрадукаваны з дрэварыту ягонае Біблії»*[1039].

Гісторыя з'яўлення гэтае маркі ды наогул пра Скарыну на марках — у лістах Вітаўта Тумаша.

*«Высокадастойны Ўладыка!*

*Прыемна было атрымаць ад Вас ласкавы ліст з 29 красавіка с. г., у якім зацікаўленьне справаю не малое вагі — выданьнем паштовае маркі ў гонар доктара Франьцішка Скарыны. Вітаю створаны для гэтае мэты адмысловы Камітэт і зычу яму поўнае ўдачы ў дасягненьні пастаўленае сабе мэты.*

---

[1036] Гл.: Пікарда, Гай. Сьпіс марак. Гашэньні. Брытаніі // Беларускі калекцыянер. № 1–2. 1992. С. 5.

[1037] Беларуская Замежная Пошта // Беларус. № 259–260. Лістапад — сьнежань 1978. С. 8.

[1038] Вітаўт Тумаш і раней спрабаваў выдаваць маркі. Гэтак, у 1955 г. «Абежнік БІНіМу» (№ 5) паведамляў пра планы Управы выдаць адмысловыя маркі да юбілеяў «Нашай Долі» і «Нашай Нівы». Праект двухкаляровай серыі меў складацца з трох марак: «Нашай Долі», «Нашай Нівы» ды з партрэтам братоў Луцкевічаў.

[1039] Угодкі друку адзначаныя маркай // Беларус. № 189. Студзень 1973. С. 3.

*З свайго боку хачу падзяліцца тут сваімі меркаваньнямі да гэтага пытаньня, паколькі яно мне ня новае, думаў пра гэта я ўжо навет колькі гадоў таму. З другога боку, і біяграфіяй ды літаратурнай спадчынай доктара Скарыны займаюся ўжо ці мала гадоў, аддаў гэтаму ці мала працы. Дзеля гэтага на пастаўленае мне Вамі пытаньне пазволю сабе даць адказ крыху даўжэйшы, ды пачну з "гісторыі".*

*Доктар Скарына на марках.*

*Як ведама, першая паштовая марка з партрэтам Скарыны была выдадзеная Ўрадам Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ ў 1918 годзе, ці першым годзе паўстаньня БНР, у сэрыі марак рэспублікі з надпісам «Беларусь Почта»*[1040]*. Паколькі мне ведама, дзеля наступу Чырвонае арміі, маркі гэтыя ня было часу пусьціць у практычны паштовы ўжытак. Ды іх усё ж рэгіструюць некаторыя паважныя філятэлістычныя каталёгі, як, для прыкладу, Michel Briefmarken Katalog 1953. Munchen, 1953. б. 61*[1041]*. Другую марку з партрэтам Скарыны, не паштовага ўжо характару, выдаў у 1942 (?) годзе ў Бэрліне Бэрлінскі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне.*

*Юбілей 1967 году й справа маркі.*

*Яшчэ два гады перад юбілейным скарынінскім 1967 г. я меў на ўвазе, што было б няблага пробываць дамагацца ад амэрыканскіх адпаведных уладаў выданьня маркі з партрэтам Скарыны да ўгодкаў, паколькі дэпартамэнт пошты выдаў маркі да юбілейных гістарычных датаў некаторым іншым народам за зялезнай заслонай, напр. чэскіх, польскіх. Адначасна я ўважна сачыў за вынікамі масавых дамаганьняў украінцаў, арганізавана праводжаных колькі год, каб была выдадзеная паштовая марка для ўшанаваньня стагодзьдзя ад сьмерці Тараса Шаўчэнкі. Ня ведаю, якія прычыны й перашкоды, але маркі гэтае ўкраінцы так і не дабіліся. Перад пачынаньнем нейкае акцыі ў справе маркі Скарыны было б важна й карысна даведацца ў кампэтэнтных украінскіх дзеячоў, якія, паводле іх, былі галоўныя прычыны іхнае няўдачы. Гэта магло б дапамагчы з самага пачатку пачынаць акцыю, маючы на ўвазе гэтыя якраз перашкоды, ведаючы якія лягчэй было б іх і перамагчы. Вось беручы на ўвагу нэгатыўныя вынікі ўкраінцаў, а галоўна, неспрыяльную вельмі агульную палітычную атмасфэру ў часе амэрыканска-савецкіх фліртаў, ды ня маючы побач і ніякога ў гэтым падтрыманьня, я справы гэтай у сваім часе й не заініцыяваў, хоць у поўнасьці ўсьведамляў, што й пры нэгатыўным выніку акцыі сам зварот у гэтай справе ў Вашынгтон ды прапаганда пра гэта ў друку былі б карыснымі зь беларускага нацыянальнага гледзішча, пра што і ў Вас, як бачу зь ліста, думка тая самая.*

*Сучасныя пэрспэктывы выданьня маркі Скарыны*.

---

[1040] Падрабязней гл.: Васілеўскі, Юрка; Сёмуха, Алеся. Да гісторыі сэрыі марак «Беларусь. Почта» // Беларускі калекцыянер. № 1–2 (12–13). Сакавік 1995. С. 3.

[1041] Напэўна, Вітаўт Тумаш мае на ўвазе выданне: Michel Briefmarken-Katalog. Leipzig: Verlag des Schwaneberger Album, 1953.

*Так ці інакш, юбілейны 1967-мы год для справы выданьня маркі быў прапушчаны, пытаньня гэтага ніхто ў сваю пару не падняў. Сяньня, два гады па часе, да гэтага юбілею навязваць выданьне маркі было б немэтазгодна, гэта хутчэй канфузіла б і сваіх, і чужых. І міжнародная атмасфэра за гэты час не палепшала, а хутчэй пагоршала. Дзеля гэтага пачынаць у дадзеным якраз мамэнце акцыю — ня думаю, каб было б разважна, вынік яе згары ведамы. Але гэта ізноў жа ня значыць, што справу трэба пакінуць. Наадварот — рыхтаваць ужо цяпер трэба ўсё неабходнае да падобнае акцыі, каб у кажны мамэнт яе можна было б пачынаць шырокім фронтам. Можна ўжо рыхтаваць і плянаваную Вамі брашуру, а таксама, знайшоўшы адпаведных мастакоў, навет і праекты марак для выданьня Камітэтам для сваіх мэтаў і прапагандовых патрэбаў. Розныя маркі паасобныя арганізацыі вельмі часта выдаюць, ніколі не пашкодзіць, калі зробіць гэта й Камітэт.*

*<u>Арыентацыйны тэрмін</u>.*

*Што паўстаньне Камітэту й заданьне яго зусім на часе будзе кажнаму зразумела, калі мы сабе ўсьведамім, што ў сакавіку 1975 г. прыпадае другі важны юбілей у гісторыі беларускага [друку] — 450 год ад заснаваньня доктарам Скарынам <u>першае друкарні на беларускай зямлі й выхаду першае друкаванае кнігі на тэрыторыі Беларусі і ўсходняй усёй Эўропы — ад выхаду ў Вільні Скарынавага Апостала</u>[1042]. А раз так, дык пры канцы 1973 году, а найпазьней напачатку году 1974-га й трэба пачынаць энэргічную акцыю ў справе выданьня маркі Вашынгтонам і на гэты час усе гатовыя для гэтага матар'ялы павінны ўжо быць.*

*Зразумела, што калі б нехта хацеў, можна было б выдаць сваімі сіламі й коштам тую ці іншую марку з партрэтам Скарыны й цяпер, і навет сёлета, марку не зьвязаную зь нейкім юбілеем, а для адмысловых мэтаў, для прыкладу, марку, што скарыстоўвалася б прапагандна кажны год да "месяца беларускае кнігі й прэсы" ці чагосьці падобнага. І марка бэрлінскага выданьня не была юбілейнага характару. Але дамагацца выданьня цяпер маркі ў Вашынгтоне — гэта значыць пачынаць добрую справу ў самы неадпаведны на гэта час. За колькі гадоў, магчыма, і палітычная атмасфэра для нас зьменіцца на лепшае.*

*Дык, мая думка, калі цяпер якраз, у дадзены момант, публічнае акцыі не мэтазгодна пачынаць, аднак жа, ужо цяпер, трэба рыхтавацца да яе, каб на час усё было гатова. Між іншым, пры нагодзе паведамляю, што ў Радыё Свабоды прыйшоў летась з СССР ананімны ліст з запытаньнем нейкага слухача аб тым, дзе й калі маркі Скарыны былі выдадзеныя. Спэцыяліст ад філятэліі Радыя даў у перадачы адказ з паведамленьнем пра маркі БНР 1918 году ды што ў часе цяперашняга юбілею ніякіх марак на Захадзе ніхто ня выдаў. Дык ёсьць і за зялезнай заслонай людзі, што пра марку Скарыны думаюць.*

---

[1042] Ліст напісаны яшчэ да таго, як быў удакладнены год выдання «Малой падарожнай кніжкі».

*Дык найпазьней на пачатак 1972 г. трэба мець гатовыя праекты й сваіх юбілейных марак, каб на юбілейны 1975-ы год яны былі ўжо надрукаваныя й разасланыя ўва ўсе беларускія асяродкі сьвету для іх прадажы й пашырэньня.*

*Справа інфармацыйнае брашуры.*

*Само сабой зразумела, што для належнага запачаткаваньня акцыі з маркай будзе адразу патрэбная й адпаведная па-ангельску брашура. І апрацоўваць яе трэба ўжо цяпер. На жаль, мушу сказаць, што мне ўзяцца за гэта цяпер немагчыма, бо маю колькі тэрміновых важных іншых працаў, што рыхтую да друку. Але магу паведаміць, што ў Мюнхэне ўжо ў наборы скарынінскі юбілейны зборнік Беларускага інстытута навукі й мастацтва, кніга каля 300 бачынаў друку. Уся кніга адведзеная доктару Скарыну й ягонай выдавецка-літаратурнай спадчыне. У ёй друкуецца й кароткая, на бачынаў больш 20-ці, мадэрная, паводле найнавейшых актавых знаходак, біяграфія Скарыны. Пісаная яна, праўда, не спэцыяльна папулярна, а больш "акадэмічна", і для простага перакладу не надаецца. Але на падставе яе і ўсяго зборніка нехта, зь лёгкай да пяра рукой, і ў Кліўлэндзе зможа напісаць кароткую, з адмысловай арыентацыяй на марку, брашуру. Найпазьней напачатку восені кніга павінна ўжо быць на амэрыканскім кантынэнце й яна будзе да дыспазыцыі Вашага Камітэту як дапамога ў рыхтаваньні адпаведнае акцыі. Між іншым, у кнізе мае ісьці й рэпрэзэнтацыя маркі БНР з партрэтам Скарыны.*

*Паколькі тэрмін угодкаў яшчэ "за гарамі", і вельмі моцна сьпяшацца няма прычынаў, дык і раджу пачакаць на гэтую кнігу як на дапаможны матар'ял аўтарам будучае брашуры. Не забывацца трэба й на выдадзеныя раней брашуры Інстытуту пра доктара Скарыну, выкарыстаць можна й іх.*

*Вось гэткія мае меркаваньні ў справе Скарынавае маркі. Спадзяюся, што яны будуць карыснымі пры плянаваньні далейшае дзейнасьці Камітэту. У выпадку нейкіх паўсталых пытаньняў і патрэбаў у сувязі з гэтым у будучыні буду рады служыць усім, чым магу.*

*У глыбокай пашане»*[1043].

*«Вельмі Паважаны Спадару Дэ Пікарда!*

*Вельмі ўдзячны за Вашыя пахвальныя словы пра скарынінскі юбілейны зборнік БІНіМ. Выбачайце, што адпісваю па-беларуску. Мая веда ангельскае мовы ў пісьме далёка недасканальная, а ад праф. Адамовіча знаю, што мова беларуская Вам добра зразумелая. Будзе Вам прыямней чытаць ліст па-беларуску, чым маё няўклюднай ангельшчынай. З свайго боку, калі б ізноў пісалі да мяне, пішэце па-ангельску.*

*А цяпер да "марак". Маю дуплікаты скарынінскае маркі Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, на жаль, толькі колераў рудога й зялёнага, і тут іх Вам перасылаю. Былі яны надрукаваныя яшчэ ў колерах чырвоным,*

---

[1043] Ліст Вітаўта Тумаша да ўладыкі Андрэя (Крыта) ад 10.05.1969 г. Усе падкрэсленні належаць аўтару ліста. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*фіялетавым, сінім і сьветла-сінім. Як можна бачыць з дасланых тут фотастатаў, апрача марак з Скарынам былі выдадзеныя й маркі з Пагоняй (сінія), зь Віленскім замкам (рудыя), князем Альгердам (зялёныя), князем Вітаўтам (сінія) ды вобразам дзяўчыны з хлопцам (зялёныя й фіялетавыя). Ці гэтыя маркі, як і скарынінская, былі выдадзеныя і ў іншых колерах — гэтага ня помню. Дык было выдадзена сем, рознага колеру, марак. Яны выдаваліся як паквітаваньне за ўплачаную складку ці за дадзеную ахвяру. Фактычны ініцыятар выданьня — тагачасны старшыня Цэнтралі БКС інж. Мікола Абрамчык. Рысункі для марак былі выкананыя ў Лодзі тамашнім сябрам БКС Зэнанам Зянкевічам. Маркі былі надрукаваныя ў 1942 г. у Бэрліне. Нейкі іх запас павінен быць у архівах прэз. М. Абрамчыка. У каго маглі захавацца яны яшчэ — ня ведаю» <…>*[1044].

*«Дарагі Войча*[1045]*!*

*Сяньня якраз пошта прынесла Ваш “калядны падарак” — кніжку Гарэцкага. Вельмі за яе дзякую, а разам з падзякай шлю адразу сяньня ж надрукаваныя Скарынавы ўгодкавы маркі. Паколькі за гэта не ўзяліся нашыя філятэлісты, давялося справу заініцыяваць і давесьці да друку самому. Пасьля розных нечаканых перашкодаў марка, якая мела быць гатоваю на час Сустрэчы ў Канадзе, надрукаваная была толькі сяньня.*

*Марка выдадзеная лістамі, па 20 марак на лісьце, ды з інфармацыйнай даведкай уверсе ліста ў мовах ангельскай і беларускай. Усе маркі аднаго колеру; побач дзіркаваных будуць, для жадаючых, і недзіркаваныя. Цана за ліст — 2.0 дал., за адну марку — 10 цэнтаў. Яшчэ друкарня не пасьпела зрабіць дзіркаваньне. Як будуць гатовыя — вышлю колькі аркушоў для патрэбы вашага музэю.*

*З надпісаў на марцы лёгка зацеміць, што ўскладзена на яе колькі заданьняў. Першае й найважнейшае — адзначыць важныя культурна-гістарычныя ўгодкі. Рэч другая — адзначыць угодкі, дата якіх выяўленая працаю беларускіх навукоўцаў за межамі свайго краю. Трэцяе — прыгадаць, што дайшло да гэтага ў тагачаснай сталіцы Беларусі, у Вільні, ды што Вільня — беларускае места. Чацьвёртае — паказаць для “рэспублікі”, БССР, што маркі ў патрэбе можа выдаць і эміграцыя, хоць сама рэспубліка з сваёй “сувэрэннасьцю” гэтага зрабіць ня мае й права, калі б і хацела б. Гэта мо змусіць дзеячоў БССР дамагацца ад Масквы, каб пры першай нагодзе Скарынаву марку ўсё ж выдалі б і ў СССР; Івану ж Фёдаравічу выдалі ўжо колькі. Пятае — на марцы даць рэпрадукцыю арыгіналу з партрэту Біблії, а не няўдалае яго прарысоўкі, як гэта зроблена на скарынінскай марцы БНР 1918 году.*

---

[1044] Ліст В. Тумаша да Гая Пікарды ад 11.05.1971 г. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1045] Ліст адрасаваны айцу Аляксандру Надсану.

*Дык на марку ўскладзены вялікі ідэйна-прапагандовы нацыянальны “багаж”. Тое-сёе з гэтага яна напэўна зробіць. Пра марку плянуецца перадача ў СССР праз радыё Свабода. Пра яе маюць друкавацца артыкулы ў чужамоўным, філятэлістычным і нефілятэлістычным друку.*

*У глыбокай пашане,*

*Ваш»*[1046].

У 1985 г. у калабарацыі Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка (ідэя маркі) і вядомага філатэліста, бадай, найбуйнейшага калекцыянера беларускіх марак у Амерыцы Багдана О. Павука (малюнак) была выдрукаваная марка, як паведамляў надпіс на аркушах, да тысячагоддзя навяртання беларусаў у хрысціянства. Побач з надпісам стаялі даты: 988–1988. Марка ўяўляе з сябе цёмна-чырвоную выяву Еўфрасіннеўскага крыжа з датаю 988, ахопленую полымем, а наўкола крыжа надпіс: *«Bielarusia's Millennium Christianity»*. Марку надрукавалі з перфарацыяй і без яе — па тысячы паасобнікаў.

Напрыканцы кароткага агляду варта таксама зазначыць, што маркі з беларускай тэматыкай выдаваліся і небеларускімі арганізацыямі. Гэтак, у 1983 г. украінскае філатэлістычнае таварыства ў Амерыцы (Бафала, штат Нью-Ёрк) з ініцыятывы Багдана Павука надрукавала марку з выяваю абраза Жыровіцкае Божае Маці[1047].

У параўнанні з афіцыйнымі маркамі (хоць і пералічаныя вышэй нельга цалкам аднесці да гэтае катэгорыі) значна больш было выдадзена віньетак (ад франц. *vignettes*, ці, як звычайна іх называюць на Захадзе, *cinderellas*). Яны наклейваліся на капэрты побач з афіцыйнымі маркамі і або ўяўлялі з сябе копіі старых беларускіх марак (прыкладам, «Асобны атрад»), або былі адмыслова зробленыя да ўгодкаў ці адлюстроўвалі пэўныя сімвалы: Пагоня (1975, 1980), Вітаўт і дата 1430, «Гадавіна 1-га сьцягу ў Ватэнштэце, 1945–1947», Анёл і словы «Раство», «Byelarus» (Чыкага, 1979), скаўцкі знак з словамі «Bielaruskija Skauty» (1984). Большасць з іх зрабілі згаданы вышэй Багдан Павук і Біл Леш з Каліфорніі, таксама збіральнік беларускай філатэліі. У справе выдання яны кантактавалі з Аляксандрам Асіпчыкам, Сяргеем Хмарам, Аляксандрам Лашуком[1048].

## II

Кружэлкі, ці, як іх яшчэ менавалі, «пліткі», нейкім дзіўным чынам дасюль не прыцягнулі ўвагі ані даследчыкаў культуры эміграцыі, ані аматараў

---

1046 Ліст Вітаўта Тумаша да айца Аляксандра Надсана ад 22.12.1972 г. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

1047 Гл.: Ікона на паштовай марцы // Беларус. № 315. Студзень 1984. С. 4.

1048 Пра эміграцыйныя маркі гл. таксама: Карповіч, Лявон. Беларуская паштовая марка: ад вытокаў да эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 85–131.

музыкі, ані па-добраму прагматычных выдаўцоў кшталту працаўнікоў Беларускага музычнага архіва.

Першыя паваенныя эміграцыйныя кружэлкі звязаныя з Беларускім студэнцкім хорам у Лювене.

У чэрвені 1950 г. з Нямеччыны ў Лювен прыехаў Мікола Равенскі і адразу заняўся арганізацыяй хору. Вывучылі песні, у першую чаргу свецкія, а таксама рэлігійныя, бо трэба было спяваць у царкве — у а. Роберта Тамушанскага, а крыху пазней у а. Аўгена Смаршчка; рэлігійныя песні спявалі і падчас канцэртаў. З верасня 1950 г. спеўкі адбываліся штовечар, так што праз тры месяцы хор выступаў на вельмі прыстойным узроўні.

Мікола Равенскі нядоўга быў са студэнтамі: ён памёр 9 сакавіка 1953 г. Але дзейнасць хору на гэтым не спынілася — са спевакамі далей працавалі Алесь Карповіч ды Кастусь Кіслы.

Зварот да грамадства па фінансавую дапамогу ў справе выдання кружэлак студэнцкага хору надрукавала газета «Бацькаўшчына» ў 1951 г.: *«Ня раз ужо гаварылася ды пісалася аб патрэбе насьпяваньня грамафонных плітак зь беларускімі песьнямі як дзеля карыстаньня самое эміграцыі, гэтак і дзеля прапагаваньня нашае нацыянальнае справы між чужынцамі. <…> У сучасны мамэнт можа ў найлепшых умовах дзеля гэтага знаходзіцца студэнцкая група ў Лювэне, дзе ўжо больш як год працуе ды годна рэпрэзэнтуе Беларусь Студэнцкі ансамбль беларускае народнае песьні й танцу, заарганізаваны й кіраваны кампазытарам праф. Міколам Равенскім. Вось гэты ансамбль і ўзяўся за нялёгкае заданьне — насьпяваць яшчэ ў гэтым годзе грамафонныя пліткі. Заданьне нялёгкае, бо ягонае зрэалізаваньне патрабуе даволі вялікіх грашовых сумаў. <…> Камплект гэткі, на пачатак 6 плітак, каштаваў бы 400 бэль. франкаў (8 амэр. даляраў) безь перасылкі»*[1049].

Першы пробны запіс на кружэлкі студэнцкі хор зрабіў у Брусэлі ў студыі *Decca* 4 лютага 1952 г. Запісванне доўжылася да 23 чэрвеня; агулам наспявалі 19 песняў: «Ні агонь гарыць», «Пасеяў гурочкі», «Слуцкія ткачыхі», «Хмель лугамі», «Халімон», «Чаму ж мне не пець», «Пагоня», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі!», «Паляса», «Вярба», «Бабка», «Камар», «Вечарком», «Магутны Божа», «Іжэ херувімы», «Верую», «Отче наш», «Достойно», «Во царствии Твоем».

Як ішоў працэс запісаў, з гумарам праз газету інфармаваў *«карэспандэнт з Бэльгіі»*[1050].

І вось нарэшце ліпеньскі нумар «Бацькаўшчыны» абвясціў пра пачатак продажу грамафонных плітак:

*«Частка плітак ёсьць меншага разьмеру (25 цм), а частка большага разьмеру (30 цм). Пліткі меншага памеру з'яўляюцца наступныя:*

---

[1049] Да Беларускага Грамадзянства. Дарагія Суродзічы! // Бацькаўшчына. № 76. 18 лістапада 1951. С. 4.

[1050] А. С. Яшчэ аб грамафонных плітках // Бацькаўшчына. № 13 (92). 30 сакавіка 1952. С. 4.

*1. “Ні агонь гарыць” і “Пасею гурочкі” — дзьве беларускія народныя песьні ў выкананьні Студэнцкага хору. Солё: В. Шчэцька*[1051]*.*

*1а. “Бабка” і “Камар” — дзьве народныя гумарыстычныя песьні ў выкананьні хору. Солё: Ю. Сенькоўскі*[1052]*.*

*2. “Беларускі Нацыянальны Гымн” у выкананьні хору.*

*2а. “Пагоня”, словы М. Багдановіча ў выкананьні хору.*

*3. “Чаму ж мне ня пець” — народная песьня ў выкананьні хору.*

*3а. “Хмель лугамі” і “Халімон” — дзьве народныя песьні ў выкананьні хору.*

*4. “Паляса” — народная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.*

*4а. “Вечарком” — народная песьня ў выкананьні хору.*

*5. “Магутны Божа” — беларускі рэлігійны гымн, словы Н. Арсеньневай, у выкананьні хору.*

*5а. “Достойно есьць” — царкоўная песьня ў выкананьні хору.*

*6. “Верую” (I) — царкоўная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.*

*6а. “Верую” (II) — царкоўная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.*

*Пліткі большага разьмеру (30 цм):*

*7. “Слуцкія ткачыхі” — словы М. Багдановіча, у выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.*

*7а. “Вярба” — народная песьня ў выкананьні хору.*

*8. “Іжэ Хэрувімы” (I) — царкоўная песьня ў выкананьні хору.*

*8а. “Іжэ Хэрувімы” (II) й “Отчэ наш” — царкоўныя песьні ў выкананьні хору.*

*Усе песьні з’яўляюцца кампазыцыі праф. М. Равенскага за выключэньнем песьні “Ні агонь гарыць”, якая ёсьць кампазыцыі Чуркіна, і Беларускага Нацыянальнага Гымну»*[1053]*.*

Праца над запісам песняў ішла далей, і праз два гады Камунікат студэнцкага ансамбля паведамляў:

*«Стараньнямі ЦБАА наш Ансамбль насьпяваў колькі новых плітак, якія ўжо хутка (праз колькі тыдняў) выйдуць з прадукцыі:*

*Пліткі 30 цм: “Дарагая мне староначка”, “Полька Янка”, “Падняты родны сьцяг дзяржавы” — у вык. Хору.*

*Пліткі 25 цм: 1. “Лявон”, “Палыночак” — у вык. ведамага баса Пётры Конюха (выйдзе троху пазьней).*

---

[1051] **Васіль Шчэцька** (1923–2011), грамадскі дзеяч. Скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювенскага ўніверсітэта. Пасля таго выехаў у ЗША, у 1959–1988 гг. працаваў у бібліятэцы Калумбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку.

[1052] **Юры Сянькоўскі** (1926–1995), грамадскі дзеяч, журналіст. У 1950–1956 гг. вучыўся ў Лювенскім універсітэце на эканамічным факультэце. Па сканчэнні ўніверсітэта пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне / Свабода».

[1053] Кожнаму беларусу – родная песьня // Бацькаўшчына. № 27 (106). 6 ліпеня 1952. С. 4.

*Рамансы: 2. “Лявоніха”, “Каханая” — у вык. мужчынскага дуэту, 3. “Восеньская песьня”, “І трэба было ж здарыцца” — у вык. солё.*

*Музыка першага рамансу А. Туранкова, словы М. Багдановіча. Да апошніх трох музыку напісаў наш ведамы кампазытар Алесь Карповіч на словы С. Ясеня. Гэта рэчы лёгкія да сьпяваньня, і спадзяемся, што яны хоць крыху запоўняць прабел у беларускай музыцы гэтага жанру. <…>*

*Гэтак жа хутка выйдзе з прадукцыі плітка Longplaying з мантажом “Змагарны шлях” (прыбл. 40 хвілін). Гэта гісторыя змаганьня беларускага народу за незалежнасьць у прыгожай, жывой мастацкай форме, пераплеценая паэзіяй і шматлікімі песьнямі»*[1054].

Пaступова запісам кружэлак пачалі займацца і ў іншых асяродках, дзе існавалі свае ансамблі і хоры.

У 1955 г. Кліўлендскі аддзел Згуртавання беларускай моладзі ў Амерыцы выдаў наспяваныя хорам пад кіраўніцтвам Міколы Куліковіча-Шчаглова тры кружэлкі з песнямі «Што за месяц» (выканаўца Надзея Градэ), «Ой, борам, борам» (хор), «Васількі» (выканаўца Надзея Градэ), «Вол бушуе» (дзявочы ансамбль), «Як я была маладая» (хор), «Ой, рэчанька, рэчанька» і «Вось і паў ужо змрок» (выканаўцы Ірэна Каляда і Р. Шыкалюк)[1055].

У 1956 г. выдавецкі аддзел пры Галоўнай управе Беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта мог прапанаваць наступныя песні, найграныя хорам пад кіраўніцтвам Вячаслава Селях-Качанскага (акампанемент Пётры Нядзвецкага), вытворчасці Студыі «Ар-Сі-Эй». Віктар: «Гэй, сябры ўдалыя» (мел. Уладзіміра Тэраўскага, гарм. Вячаслава Селях-Качанскага); «Люблю наш край» (словы Канстанцыі Буйло, гарм. Вячаслава Селях-Качанскага, сола Н. Сіцько), «Каліна-маліна» (гарм. Міколы Равенскага), «А ў садзе рэчанька» (мел. Уладзіміра Тэраўскага), «Міма садзіка» (гарм. Міколы Равенскага), «Вечарам за рэчкаю» (гарм. Міколы Равенскага), полька «Янка» (мел. Уладзіміра Тэраўскага, гарм. Вячаслава Селях-Качанскага), «Пайшоў мілы лужком» (гарм. Вячаслава Селях-Качанскага), «Ці не быстрая рэчка» (мел. Уладзіміра Тэраўскага), «Лявоніха» (гарм. Нікалаевіча), «Сваток» (народная, сола Л. Г. Янушкевіч-Нядзвіга), «Хлопец пашаньку пахае» (народная, сола Л. Г. Янушкевіч-Нядзвіга), «Чаму ж мне не пець» (народная, сола Л. Г. Янушкевіч-Нядзвіга)[1056].

Відаць, фінансавая база камітэта была на той час досыць трывалаю, бо налета выйшла другая серыя кружэлак з наступнымі песнямі: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (муз. Уладзіміра Тэраўскага), «Падняты родны сцяг дзяржавы» (апрацоўка Вячаслава Селях-Качанскага), «Хор сялянаў» (з оперы «Кастусь Каліноўскі»; муз. Міколы Равенскага), «Песні волі» (муз. Вячаслава Селях-Качанскага, словы Масея Сяднёва), «Поле, поле» (муз. Дзмітрыя

---

[1054] Бацькаўшчына. № 23 (205). 13 чырвеня 1954. С. 4.

[1055] Бацькаўшчына. № 34 (264). 21 жніўня 1955. С. 4.

[1056] Беларус. № 56. 5 ліпеня 1956. С. 8; Бацькаўшчына. № 17–18 (299–300). 29 красавіка 1956. С. 8.

Верасава, словы Міхася Кавыля), «Беларусь перадусім» (муз. Стэповіча), «Ой, не кукуй, зязюленька» (муз. Уладзіміра Тэраўскага, сола К. Яцэвіч), «Ой, ты мароз» (муз. Міколы Равенскага, сола К. Яцэвіч), «Бульба» (апрац. Вячаслава Селях-Качанскага), «Не рыч, карованька» (муз. Міколы Равенскага), «Сняжкі белыя, пушыстыя» (апрац. Вячаслава Селях-Качанскага)[1057].

Мінуў год, і свет пабачыла трэцяя серыя — запісаныя ў той самай студыі, але ўжо з іншым кіраўніцтвам хору, цяпер ім апекаваўся Дзмітры Верасаў. Да Пётры Нядзвецкага далучыўся Ксаверы Барысавец, а таксама хор «Жалейка» (І. Казачка): «Марш Беларускай Вызвольнай Арміі» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы Міхася Кавыля), «Лявоніха» (гарм. Нікалаевіча), «Ой да ты, калініца» (гарм. Уладзіміра Тэраўскага, хор «Жалейка», сола П. Паўлік і М. Мартын), «Вазёры спяць» (муз. Фэйла, хор «Жалейка», сола Б. Лапко), «Раса» (муз. Ксаверыя Барысаўца, словы Алеся Салаўя, вык. хору і сола Н. Сіцько), «Твой партрэт» (танга; муз. Дзмітрыя Верасава, словы Міхася Кавыля, Алег Махнюк у суправодзе хору), «Прыгажуня» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы Міхася Кавыля, вык. Людмілы Махнюк з хорам), «Падае снег» (раманс; муз. Дзмітрыя Верасава, словы Масея Сяднёва, сола Алега Махнюка), «Песня пра месяц» (раманс; муз. Дзмітрыя Верасава, словы Масея Сяднёва, сола Алега Махнюка), «Маю толькі шлях адзін» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы Алеся Змагара, дуэт Пётры Нядзвецкага і Алега Махнюка), «Дзень блакітны» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы А. Валожкі, дуэт Н. Сіцько і Р. Касцюк), «Купалінка!» (народная, выконвае жаночы ансамбль пад кіраўніцтвам Пётры Нядзвецкага)[1058].

У 1958 г. выдавецкі аддзел Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта выпусціў пяць (замест планаваных шасці) новых плітак: «Вазёры спяць»(муз. Фэйла, хор «Жалейка», дыр. І. Казачок, сола Б. Лапко), «Лапці» (гармонік Алеся Карповіча, хор «Жалейка», дыр. І. Казачок, сола П. Паўлік і М. Мартын); «Ой да ты калініца» (гарм. Уладзіміра Тэраўскага, хор «Жалейка», сола П. Паўлік і М. Мартын), «Лявоніха» (гарм. Нікалаевіча, хор пад кір. Вячаслава Селях-Качанскага, акамп. Пётры Нядзвецкага); «Снег» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы Масея Сяднёва, сола Алега Махнюка), «Ліст» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы Масея Сяднёва, сола П. Касцюк); «Маю толькі шлях адзін» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы Алеся Змагара, дуэт Алега Махнюка і У. Шульжыцкага), «Песня пра месяц» (муз. Дзмітрыя Верасава, словы Масея Сяднёва, сола Алега Махнюка); «Цераз садвінаград» (гарм. Алеся Карповіча, хор «Жалейка», дыр. І. Казачок), «Міма садзіка» (гарм. Міколы Равенскага, хор пад кір. Вячаслава Селях-Качанскага, акамп. Пётры Нядзвецкага)[1059].

---

[1057] Беларус. № 57. 15 кастрычніка 1956. С. 8; Бацькаўшчына. № 39 (321). 23 верасьня 1956. С. 4.

[1058] Беларус. № 61. 30 верасьня 1957. С. 8.

[1059] Бацькаўшчына. № 24–25 (410–411). 29 чэрвеня 1958. С. 4.

Пазней у Саўт-Рыверы быў створаны жаночы хор «Каліна» кампазітара Ксаверыя Барысаўца, які таксама выдаў некалькі кружэлак.

На адной запісаны песні «Васількі», «Ля рэчкі», «Сцежка палявая», «Ой, бяда ж мая», «Белыя кветкі», «Нашто бабе агарод», «Не веру», «Гнула вішаньку», «У невядомую даль», «Вясна прыходзіць зноў», «Я іду дарогаю», «Каля Нёману», «Юнацкае сэрца».

На іншай, 1971 г., было найграна дванаццаць песняў: «Краю родны», «Ручнікі», «Жураўлі», «Жыццё нібы мора», «Бабуленька», «Ліст сына», «У полі вярба», «Мяцеліца», «Шумяць лясы», «Сонейка», «25-ы Дзень Сакавіка», «У тваім каханні»[1060].

Геаграфія выдання пашыралася: у Лондане выйшла пяць кружэлак з дзесяццю песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага («Конь бяжыць, зямля дрыжыць», «Ой рана, рана куры запелі»; «Шчука рыба ў моры», «Ляціць сарока, белае вока»; «Чаму мне не пець», «Малады дубочак»; «Лявоніха», «Як памёрла матулька»; «А ў лесе, лесе», «Рабіна рабiначка»)[1061].

У Таронта з ініцыятывы Антона Маркевіча і Кастуся Акулы быў зарганізаваны Беларуска-канадыйскі выдавецка-мастацкі клуб «Пагоня». З кружэлак — ужо не на дзве песні, а доўгаграная — першай выйшла з творамі ў выкананні Міхася Забэйды-Суміцкага (запіс 1936 г., Варшава)[1062]: «Як памёрла матулька», «Рабіна, рабіначка», «Чаму ж мне не пець?», «Малады дубочак», «А ў лесе, лесе», «Лявоніха», «Конь бяжыць, зямля дрыжыць», «Шчука-рыба ў моры», «Ой, рана-рана куры запелі», «Ляціць сарока»[1063].

Кружэлка называлася «Скарбніца беларускіх народных песняў — I», а на капэрце падаваўся англамоўны тэкст з кароткай інфармацыяй пра Беларусь.

Наступнай «Пагоня» выдала кружэлку «Беларускія танцы»[1064], найграныя аркестрам «Мэлёдыя» з Ашавы пад кіраўніцтвам Баляслава Лішчонка («Менскі вальс», «Завіруха» (полька), «Зорка Венера — Зорачкі» (вязанка вальсаў), «Вязанка» (полька), «Лявоніха», «Крыжачок», «Васілёчкі», «Васількі» (танга), «Бульба», «Бывайце здаровы» (беларускі абразок)[1065].

Трэцяя — «Беларускія народныя і сучасныя песні»[1066] — змяшчала творы ў выкананні Барбары Вержбаловіч пад акампанемент Міколы Куліковіча («Пасею ж я», «Антон казу вядзе», «Цераз сад-вінаград», «Ой ты, саду», «Вярба-вярба», «Ой, ды жала я», «Хлопец пашаньку пахае») і Сяргея Шульгі (акампанемент З. Лаўрышына) («Не забуду я Алесю», «Штой за месяц», «Ды ўжо сонейка», «Дзе ты, чарнавокая», «Песня Данілы з оперы «Кветка шчасця», «Беларусь, мая песня», «З другам», «Кінь вечны плач»)[1067].

---

[1060] Беларус. № 259–260. Лістапад — сьнежань 1978. С. 8.
[1061] Бацькаўшчына. № 40 (474). 6 кастрычніка 1957. С. 4.
[1062] QC 386 33.3 r.p.m.
[1063] Беларус. № 114. Кастрычнік 1966. С. 6.
[1064] QC 463 33.3 r.p.m.
[1065] Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 8.
[1066] QC 543 33.3 r.p.m.
[1067] Беларус. № 161. Верасень 1970. С. 3.

Яшчэ адной ад клуба «Пагоня» сталася кружэлка манрэальскага хору «Жалейка»[1068] (кіраўнік І. Казачок, сола П. Паўлік, М. Мартын, Б. Лапко) з песнямі «Лапці», «Вазёры спяць», «Цераз сад-вінаград», «Ой да ты калініца», «Марш теларускіх партызанаў», «На выгнанні», «Драўляны дом», «У саду гуляла»[1069].

У 1977 г. ансамбль *«Nova»* выдаў кружэлку з песняй «Нёман» (муз. Н. Сакалоўскага, словы А. Астрэйкі, вакаліст Аляксей Мартыновіч).

У пазнейшы час, у 1980-я гг., эміграцыйныя кружэлкі звязаныя з адным толькі імем — Данчыка (Багдана Андрусышына)[1070].

Гаворачы пра беларускія песні на кружэлках нельга не згадаць факта запісу гімна «Магутны Божа» ў выкананні Пётры Конюха і хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам Жарава ў нямецкай фірме «Дойчэ Грамафон Гэзэльшафт»[1071].

Відавочна, што тут далёка не ўсе кружэлкі згаданыя, да таго ж большасць апісанняў зроблена не *de visu*. Таму просьба да ўсіх, хто можа дадаць ці выправіць напісанае пра кружэлкі (а таксама і пра маркі), пісаць на zapisybinim@gmail.com.

---

[1068] QC 895 33.3 r.p.m.

[1069] Беларус. № 174. Кастрычнік 1971. С. 5.

[1070] Новая кружэлка Данчыка // Беларус. № 328. Студзень — сакавік 1986. С. 5; Водгукі на Данчыкаву кружэлку // Беларус. № 329. Красавік — жнівень 1986. С. 6; Наступная Данчыкава кружэлка // Беларус. № 330. Верасень 1986. С. 3; Песьні Данчыка // Беларус. № 342. Сьнежань 1987. С. 5; Новыя песьні Данчыка й Леаніда Барткевіча // Беларус. № 360. Ліпень 1989. С. 5; Новая касэта Данчыка // Беларус. № 389. Красавік 1992. С. 7.

[1071] Беларус. № 160. Жнівень 1970. С. 6; Беларус. № 173. Верасень 1971. С. 6.

## *Частка V*
# ПАСЛЯДОЎНІКІ СКАРЫНЫ

## КНІГАНОША ВІТАЎТ КІПЕЛЬ

Зрабіць і выдаць кнігу — толькі палова справы, і мо найменшая. Рэалізаваць наклад, раздаўшы яго, а тым больш паспрабаваць прадаць — праблема ў Беларусі. А што ўжо казаць пра эміграцыю!

Як ніхто іншы ведае гэта дырэктар БІНіМа доктар Вітаўт Кіпель, які ініцыяваў, сабраў фінансы і дапамог выдаць, не кажучы ўжо пра ўласныя кнігі, ладную бібліятэчку. От-жа пра тое, як прадавалася кніга на эміграцыі, — у ягоным успаміне-артыкуле[1072]:

*«Пачну з удакладненьняў. Першае — гэтыя нататкі ахопліваюць часы па 2-ой Сусьветнай вайне на Захадзе: Нямеччына, Бэльгія, Францыя, ЗША, Канада і інш. Пэрыяд блізу 70-гадовай цягласьці, але мне добра знаёмы, у якім я, як гаворыцца, “быў удзельнікам”.*

*Па-другое: нататкі — гэта асабістыя ўспаміны, а не дасьледваньне, у якіх могуць быць недакладнасьці, пропускі, няведаньне дэталяў, фактаў. Мае ўспаміны-разважаньні — хутчэй, канва для будучага вывучэньня важнае тэмы.*

*Задакумэнтаваны, ведамы факт, што беларускае арганізацыйна-палітычнае жыцьцё, дзейнасьць эміграцкая па 2-й Сусьветнай вайне, г. зн. пасьля капітуляцыі нацыстоўскай Нямеччыны 8–9 траўня 1945 году, пачалася летам таго-ж году ў старадаўнім баварскім горадзе Рэгенсбургу.*

*У Рэгенсбургу ў чэрвені 1945 году быў заснаваны і адчынены прызнаваны амэрыканскімі вайсковымі ўладамі Беларускі Нацыянальны Камітэт як прадстаўніцтва беларусаў — арганізацыя антысавецкая, статутова дзяржаўна незалежная. Бясспрэчна, падзея значная й важная, бо фактычна гэта быў пачатак даўгатрывалае-дасюляшняе дзейнасьці, у тым часе новай, беларускай эміграцыі. А да гэтае значнае падзеі дадам яшчэ й невялічкую дэталь, амаль нікім не заўважную і не ўспамінаную.*

---

[1072] Тэкст напісаны адмыслова для гэтае кнігі. Рукапіс захоўваецца ў прыватным архіве Л. Юрэвіча.

*У тым-жа Рэгенсбургу восеньню 1945 году ўпершыню па вайне зьявілася ў продажы й беларуская кніга. Месца, дзе мне давялося ўбачыць беларускую кнігу на выстаўцы (у продаж), было незвычайнае, называлася яно «Абшчынная сталоўка», а ў скароце «Абшчына». Была гэта вялікая заля, застаўленая сталамі й лаўкамі зь невялікім прарэзам-акном у кухню, у старым-старым, колькісот гадовым будынку ў цэнтры Рэгенсбургу. Будыніна з каменным падмуркам нагадвала, хутчэй, манастырскія склепы, бо над “сталоўкай” быў яшчэ паверх, але неўжываны, а на ваконцах другога паверху можна было бачыць сілуэты крыжоў.*

*“Абшчына” была вельмі жывое месца для парутысячнае масы ўцекачоў-“аўсьляндэраў” (тэрмін “DP” яшчэ не ўжываўся), якія не жадалі варочацца на “радзіму” пасьля разгрому Нямеччыны. У “Абшчыне” “злучаліся”, “знаходзіліся” расьцярушаныя сем’і, сустракаліся-абдымаліся землякі, было поўна радасьных сьлёзаў людзей, перажыўшых вайну. У “Абшчыне” быў суровы парадак, алькаголю ані нюху, часта ў сталоўку заходзілі амэрыканскія “МР”*[1073]*, была крыштальная чысьціня. Гэтая ўстанова была арганізаваная амэрыканскім войскам для харчаваньня тых, хто не хацеў вяртацца на радзіму. Амэрыканцы спачатку дзівіліся такому стану, аднак, відаць, ім было вытлумачана — дадзеныя “азы” палітыкі ў дачыненьні саюзьніка Саветаў, і яны ставіліся да справы прыхільна: вайсковыя ўлады забясьпечвалі харчамі.*

*У Рэгенсбургу ў той час дзеілі нацыянальныя камітэты, зацьверджаныя вайсковымі ўладамі, і тыя асобы, хто рэгістраваўся ў камітэце, атрымоўвалі квіткі на абеды й вячэры ў “Абшчыне”. Беларусаў у “Абшчыне” бывала каля сотні часамі, ды й Беларускі Камітэт знаходзіўся ў кварталах 6-ці.*

*Каб паказаць амэрыканцам інтэрнацыянальнасьць установы, нехта з адміністрацыі (адміністрацыя была шматнацыянальная) наладзіў у сталоўцы выстаўку этнічных вырабаў і разнамоўнага друку: кніжкі, газэты і пад. І ў гэтай выстаўцы былі дзьве беларускія кніжкі: «Сымон-Музыка» (Прага, 1942) і «Сьпеўнік крывіцкіх песьняў» укладаньня В. Русака*[1074] *(Прага, 1939). Выстаўка дзеіла пару тыдняў. Экспанаты з выстаўкі ці то былі падараваныя амэрыканцам, якія прывозілі прадукты ў «Абшчыну», ці прададзеныя. Беларускія кнігі нехта купіў, а я хоць і моцна жадаў тыя кнігі мець, купіць іх ня мог, бо ня меў ні капейкі грошай!*

*Пад канец 1945 году, калі большасьць уцекачоў з гораду была перасеrange ў селішча Gendhofer Sieddlung, “Абшчына” паступова зачынілася.*

[1073] ***MP — Military Police*** (англ.) — вайсковая паліцыя.

[1074] **Васіль Русак** (1896 — пасля 1946), палітык, выдавец. Ад 1922 г. жыў у Празе, фундатар часопіса «Іскры Скарыны». У 1945 г. арыштаваны савецкімі ўладамі і праз год асуджаны да 10 гадоў лагераў. Далейшы лёс невядомы.

*У меру ўпарадкаваньня адміністрацыяй UNRRA-IRO ўцекачоў, гуртаваньня іх у селішчы арганізоўваліся нацыянальныя і інтэрнацыянальныя лягеры, адчыняліся школы, наладжвалася царкоўнае жыцьцё, друк. У другой палове 1945 году беларускія арганізацыі выдавалі газэту “Беларускія навіны”*[1075] *(Парыж), літаратурны часапіс “Пагоня”*[1076] *(Зальцбург), а ў Мюнхэне выходзілі “Беларускія Студэнцкія Весткі”*[1077]*. У верасьні 1945 году адчыніліся беларускія школы ў Рэгенсбургу і ў ангельскай акупацыйнай зоне. Відавочна, паўстала патрэба падручнікаў, школьнай літаратуры. Беларускі Нацыянальны Камітэт у Рэгенсбургу і Беларускі Дапамаговы Камітэт у Ватэнштэце заняліся гэтай справай. Настаўнікаў сярод уцякацкай масы было вельмі шмат, і камітэты зьвярнуліся да іх, каб тыя падрыхтавалі літаратуру для школаў. Настаўнікі адгукнуліся на заклік, і ў кароткі час былі апрацаваныя школьныя чытанкі, лемантары, падручнікі, а беларускія арганізацыі дапамаглі іх выдаць. Такім парадкам, арганізацыі сталіся першымі распаўсюднікамі школьнай літаратуры.*

*Вядомая справа, што для распаўсюджваньня карысталіся й нямецкай поштаю, пад восень 1945 г. нямецкая пошта дзеіла, хоць і зь перабоямі — дзеля адсутнасьці раўнамэрнага транспарту. Аднак арганізацыі яшчэ ня мелі сваіх картатэкаў з адрасамі, толькі пачыналі зьбіраць. Эміграцкая маса ў той час яшчэ была разрозьненая, найбольшая канцэнтрацыя была ў лягерах, дзе кнігі раздаваліся дзецям у школах. Падручнікамі былі забясьпечаныя ўсе вучні ў малодшых клясах, а ў старэйшых было 5–10 экзэмпляраў. Падручнікі былі створаныя амаль па ўсіх прадметах, а найбольш пашыраныя былі аўтары: М. Міцкевіч*[1078]*, Я. Гладкі*[1079]*, А. Радкевіч*[1080]*, А. Каханоўскі*[1081]*,*

---

[1075] **«Беларускія навіны»** — газета, што выходзіла ў Парыжы ў 1945–1947 гг. Рэдактар Лявон Рыдлеўскі.

[1076] **«Пагоня»** — мастацка-літаратурны часопіс, які выдаваўся ў Зальцбургу ў 1945–1946 гг.

[1077] Відаць, маюцца на ўвазе **«Студэнцкія Весткі»** — часопіс Беларускага студэнцкага згуртавання, што выдаваўся ў Мюнхене ад 1945 г. У 1946 г. змяніў назву на «Крывіцкі Сьветач», а ў 1947 г. — на «Студэнцкі Кліч».

[1078] **Міхась Міцкевіч** (1897–1991), грамадскі і рэлігійны дзеяч, пісьменнік, педагог, наймалодшы брат Якуба Коласа. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Нямеччыне, а таксама Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, дзе працаваў настаўнікам. Аўтар чатырох чытанак для дзяцей. Ад 1950 г. жыў у ЗША.

[1079] Язэп Гладкі ў лагерах *DP* настаўнічаў ды займаўся выданнем падручнікаў (каля 10 кніг), для чаго на ўласныя грошы заклаў выдавецтва «Заранка».

[1080] Апалонія Савёнак (Радкевіч) была выкладчыцай у беларускай гімназіі ў Остэргофене, аўтарка некалькіх падручнікаў для дзяцей.

[1081] Аўген Каханоўскі выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. У 1946 г. у Рэгенсбургу ён выдаў «Выпісы з крывіцкае літаратуры. Падручнік для сярэдніх школаў. Сшытак І».

*С. Коўш*[1082]*, Ч. Будзька*[1083]*. Школьная літаратура раздавалася дзецям бясплатна, а кошты выданьня аплочвалі беларускія арганізацыі.*

*Падобная да школьнай літаратуры назіралася зьява і з скаўцкай літаратуры. Трэба сказаць, што моладзі ў веку 15–20 гадоў сярод эміграцкай масы было шмат, пры тым ня толькі беларусаў, але і іншых нацыянальнасьцяў. Беларускі скаўтынг пачаў арганізоўвацца ўвосень 1945 г. Цяжкасьці, зь якімі сустрэліся энтузіасты-арганізатары, былі: неасьведамленасьць беларускага грамадзтва з скаўтынгам і поўная адсутнасьць беларускамоўнай скаўцкай літаратуры. І адну, і другую праблему трэба было разьвязваць-вырашаць, адначасна арганізуючы моладзь у скаўцкія адзінкі. Беларускі скаўцкі рух пачаў хутка разьвівацца й крэпнуць, бо было ладна ідыёва настроеных людзей, якія пачыналі свой удзел у маладзёвым руху ў СБМ і з захапленьнем аддаліся арганізацыі новага руху, у якім беларускасьць магла прысутнічаць. Тыя энтузіясты падаліся на розныя кіраўнічыя курсы, сэмінары, пайшлі ў скаўцкія аддзелы да латышоў, літоўцаў, эстонцаў, каб пазнаць, навучыцца, апанаваць працу ў скаўцкім руху. (З асабістага дадам: я скончыў некалькі кіраўнічых курсаў міжнацыянальных й найвышэйшы скаўцкі кіраўнічы курс у латышоў “Garezers”.)*

*Пачала перакладацца скаўцкая літаратура, апрацавалі некалькі скаўцкіх дапаможнікаў, былі надрукаваныя мэтадалягічныя тэксты. Выдатную ролю адыграў Вацлаў Пануцэвіч, галоўны кіраўнік беларускіх скаўтаў у тым часе. Літаратура раздавалася скаўтам. Трэба сказаць, што было яе шмат. Друк скаўтаў меў перавагу над другімі тэматычнымі друкамі колькасна таму, бо ў скаўтаў “завяліся” грошы. Усе скаўцкія кіраўнікі забавязаліся нешта недзе зарабляць і ладную частку заробку аддаваць на арганізацыю. З дасьведчаньня працы ў скаўтынгу ў Міхельсдорфе прыпомню такое: каб “поўнай парай” мець магчымасьць друкаваць скаўцкую літаратуру (Выдавецтвы “А. Б. М.” — Алесь Бута*[1084] */ Марговіч*[1085] *і “Крыніца”), кіраўнікі працавалі для амэрыканцаў — разгружалі саставы. Заробак амэрыканцы плацілі гатоўкай — мылам для мыцьця бялізны. Такі заробак — пару скрынак мыла — аддалі ў скаўцкую касу. Мыла было тады вельмі хадавы й дарагі тавар!*

---

[1082] **Святаслаў Коўш** (1917–1997), рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар. У паваеннай Нямеччыне быў камендантам беларускага лагера ў Ватэнштэце. Ад 1949 г. жыў у ЗША.

[1083] Часлаў Будзька па сканчэнні вайны жыў у лагеры *DP* у Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў мясцовай беларускай гімназіі.

[1084] **Алесь Бута** (1923–1998), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Быў кіраўніком беларускага скаўтынгу ў амерыканскай зоне Нямеччыны, аб’яднанага ў штандар “Баварыя».

[1085] **Алесь Марговіч** (1927–1967), журналіст, грамадскі дзеяч, выдавец. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва «Крыніца», дзе выходзіў часопіс «Напагатове!».

*У распаўсюджаньні скаўцкай літаратуры карысталіся поштай як нямецкай, так і поштай IRO, а таксама скаўцкімі кантактамі. Кантакты былі значныя: удзелы ў зьлётах, джамбуры, спаборніцтвы і т. п. Бывалі імпрэзы, дзе з цэлае Нямеччыны зьяжджалася каля 200–250 беларускіх скаўтаў. Дык абмен літаратураю быў выдатны.*

*Скаўтынг як шырокае зьявішча сярод беларускай эміграцыі перастаў дзеіць у пачатку 1950-х гадоў, калі бальшыня ўцекачоў зь Нямеччыны параехалі ў ЗША, Канаду, Аўстралію, дзе былі заснаваныя маладзёвыя беларускія арганізацыі. За акіянам гэтыя арганізацыі таксама адзначаліся дынамізмам у друку ды ягоным распаўсюджваньні. Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА) выдала, прыкладам, некалькі сьпеўнікаў кампазытара Міколы Куліковіча-Шчаглова, рэлігійныя сьпеўнікі Канстанціна Кіслага*[1086]*, некалькі твораў Натальлі Арсеньневай. Саюз Беларуска-Амэрыканскай Моладзі (СБАМ) выдаў творы У. Клішэвіча, некалькі клясычных п’есаў. ЗБМА мела свой кіёск друку-сувэніраў і выдала нават “Каталёг друкаў” (1962), улучаючы пераважна эмігранцкія кнігі. Арганізацыя спрабавала ў 1960-х гадох наладзіць “кніга поштай”, нешта падобнае на абанэмэнтную бібліятэку, але была гэта толькі кароткатрывалая спроба. Добрым распаўсюджвальнікам беларускай кнігі была ў Францыі Арганізацыя Беларускай Моладзі, якая таксама выдавала часапіс “Моладзь”. Бясспрэчна, арганізацыі моладзі добра дапамагалі распаўсюду кнігі — як эміграцыйнай, гэтак і айчыннай прадукцыі.*

*Рэлігійны друк займеў і займае вельмі значнае мейсца ў эміграцыйным асяродзьдзі. Тут важна адзначыць, што для распаўсюду гэтага друку былі сталыя мясьціны — цэрквы, а таксама, што беларускую рэлігійную кнігу распаўсюджвалі ня толькі беларускія ўстановы. Гэтак, кнігі а. Льва Гарошкі, а найбольш малітоўнік “Божым Шляхам” (Рым, 1946) можна было набыць у шмат якіх украінскіх цэрквах. У міжнацыянальных установах прадаваліся таксама “Новы Запавет Госпада Нашага Ісуса Хрыста” ў перакладзе А. Луцкевіча (Лёндан, 1948). Кніга Уладыкі Апанаса “Беларусь в исторической государственной и церковной жизни” (Буэнас Айрэс, 1966) прадавалася ў розных кніжных крамах, як і календары БАПЦ ды памінальныя кнігі. Беларускія рэлігійныя кнігі такіх аўтараў, як а. А. Надсон, а. Л. Гарошка, Уладыка Мікалай*[1087]*, а. М. Лапіцкі*[1088]*, Уладыка Ч. Сіповіч, а. Я. Германовіч, а. П. Татарыновіч, пастар Я. Пятроўскі знайшлі месца ў дзясятках буйных дасьледчых бібліятэк.*

---

[1086] **Кастусь Кіслы** (1898–1980), грамадска-культурны дзеяч, хормайстар. Ад 1948 г. жыў у Бельгіі. Пасля смерці кіраўніка лювенскага Беларускага студэнцкага хору М. Равенскага быў запрошаны дырыжыраваць хорам. У траўні 1956 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліўлендзе.

[1087] **Мікалай** (свецк. Міхась Мацукевіч, 1917–2002), рэлігійны дзеяч, мітрапаліт БАПЦ.

[1088] **Мікалай Лапіцкі** (1907–1976), рэлігійна-грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, педагог.

*Вядомая справа, што друкі адукацыйныя, моладзевыя, рэлігійныя, гаворачы мовай бібліятэкара, гэта друкі спэцыяльныя, прызначаныя для акрэсьленае катэгорыі карыстальніка, хоць, бясспрэчна, такія друкі важныя й для шырокага чытача, дасьледніка. На эміграцыі, аднак, друкавалася, і то вельмі шмат, літаратуры, як той казаў, для чытача, "для душы", літаратуры мастацкай, гістарычнай, мэмуарыстыкі, перакладной. І, ясна, кнігі з гэтых галінаў шырока разыходзіліся сярод чытачоў, ішлі ў бібліятэкі, адукацыйныя й дасьледчыя ўстановы. Распаўсюджваньнем гэткае кнігі займаліся эміграцыйныя арганізацыі, выдавецтвы, мастацка-літаратурныя клюбы, камэрцыйныя супалкі і — найбольш энэргічна — самыя аўтары.*

*Вядучую ролю ў распаўсюджаньні беларускай мастацка-літаратурна-гістарычнай кнігі адыграла ў першае паваеннае чвэрцьстагодзьдзя, гады 1940–1960-я, выдавецтва "Бацькаўшчына", якое знаходзілася й дзеіла ў Мюнхэне. Аб выдавецтве і аднайменнай газэце "Бацькаўшчына" (1947–1966), зь якой разьвівалася выдавецтва, ёсьць адмысловае дасьледваньне*[1089]*. Да яго дадам толькі пару разважаньняў, успамінаў, дэталяў.*

*Зьяўленьне газэты "Бацькаўшчына" 31 кастрычніка 1947 г. я асабіста ўважаю за найбольшую падзею ў эміграцыйным жыцьці пасьля заснаваньня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Рэгенсбургу ў 1945 г. На мой пагляд, газэта адыграла выдатную ролю ў кансалідацыі беларускай эміграцыі й дакумэнтацыі ейнай дзейнасьці. Газэта "Бацькаўшчына" спрычынілася найбольш да "выхаду-ўваходу" беларусаў у міжнацыянальны палітычны рух. Пачынаючы ад невялікіх аб'ёмам брашур Н. Недасека*[1090]*, газэта стварыла выдавецтва, якое шматлікімі сваймі выданьнямі заклала аснову саліднага нацыянальнага выдавецтва па-за Беларусьсю.*

*Кнігі выдавецтва "Бацькаўшчына" распаўсюджваліся пераважна кальпартэрамі. Кальпартэры вялі асобныя разрахункі за кнігі і былі абавязаныя распаўсюджваць кнігі ня толькі чытачам газэты, але і ў бібліятэкі. Мінісклады выдавецтва былі ў Бэльгіі, Даніі, Францыі, ЗША, Канадзе.*

*"Бацькаўшчына" была, бясспрэчна, найбольшым выдавецтвам на эміграцыі, але й меншыя выдавецтвы ладна спрычыніліся да выданьня й распаўсюджваньня беларускае кнігі на эміграцыі. Такія былі: "Беларускі Сьвет"*[1091]*, "Божым Шляхам", "Žnič", "Баявая Ўскалось", "Шыпшына", Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд, "Беларуская Думка". У шмат якія бібліятэкі ЗША й Канады беларуская эміgranцкая кніга трапіла праз іх.*

*Пачынаючы ад 1960-х гадоў найбольшым распаўсюджвальнікам беларускай эміграцкай кнігі становіцца Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. БІНіМ — гэта амэрыканска-беларуская навукова-дасьледчая арганізацыя,*

---

[1089] Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» і «Беларус» (1947–2000). Мінск, 2006. — 256 с.

[1090] **Н[ічыпар] Недасек** — псеўданім Антона Адамовіча.

[1091] **«Беларускі Сьвет»** — грамадска-культурны часопіс, што выходзіў у 1963–1991 гг. у Дэтройце, пазней у Гранд Рапідсе намаганнямі рэдактара і выдаўца Міколы Пpускага.

*заснаваная ў 1951 г. Ад самага пачатку мела на мэце гуртаваць інтэлектуальныя беларускія сілы па-за БССР, займацца распрацоўкай беларускіх тэмаў, крытыкаваць "саветчыну" ў беларусаведных тэмах, выдаваць "Запісы", знаёміць Захад зь Беларусьсю і г. д. і г. д.*

*Праз "Запісы" й кантакты з Захадам БІНіМ спасьцярог, што нашыя кнігі інтэлектуальнага зьместу тут амаль невядомыя, у бібліятэках практычна адсутнічаюць. І, наколькі магчыма, БІНіМ гэты прабел імкнуўся запоўніць. Інстытут унёс у сваю праграму дзейнасьці распаўсюджваньне кнігі, найперш і найбольш эміграцыйнай, але калі што было вартаснае, то й кнігі з БССР. БІНіМ зьвярнуўся да ўсіх беларускіх выдавецтваў на эміграцыі, каб дасылалі ў інстытут кнігі для распаўсюджваньня. Пачаў таксама выдаваць каталёгі з назовамі тых кнігаў, якія можна набываць праз арганізацыю. Гэтыя каталёгі (1972, 1978, 1979, 1982, 1983 гг.) дапаўняліся спэцыяльнымі сьпісамі новых кніг і рассылаліся ў дзясяткі каледжаў, унівэрсытэтаў, дасьледчых установаў. У выніку амаль усе навукова-дасьледчыя эміграцыйныя выданьні траплялі ў бібліятэкі. У дадатак да кнігараспаўсюдніцкай праграмы БІНіМ дзеіў як выдавецтва, распачынаючы сэрыі "Беларускія паэты й пісьменьнікі на эміграцыі", "Бібліяграфічная сэрыя", "Да гісторыі беларускай эміграцыі" ды дзясятак кніг па-за сэрыйнымі выданьнямі. З упэўненасьцю можна сьцьвярджаць, што БІНіМ выдаў найбольш кніг па эміграцыі, чым іншыя выдавецтвы, ды распаўсюдзіў тысячы кніг эмігранцкай літаратуры. Кнігавыдавецкая й кнігараспаўсюджвальная дзейнасьць БІНіМу працягваецца.*

*На эўрапэйскім кантынэнце падобнай дзейнасьцю ў пэўнай мэры займалася Англа-Беларускае таварыства ды англамоўны часопіс "The Journal of Byelorussian Studies" (1965–1988).*

*Значную ролю ў распаўсюджваньні беларускай кнігі на эміграцыі адыгралі й камэрцыйныя прадпрыемствы: яткі-шапікі, кнігарні, кніжныя агэнцтвы. Адным зь першых "прадпрыемстваў" трэба згадаць "шапік" Уладзімера Пелясы*[1092] *ў лягеры Міхельсдорф. Там можна было купіць "усё", а кніга займала пачэснае месца як на вітрыне, гэтак і ў дзейнасьці: спадар Пеляса літаральна "дастаўляў" у "шапік" усе тагачасныя беларускія друкі. З пераездам у ЗША "шапік" відавочна зьліквідаваўся, але ягоны гаспадар быў першым, хто арганізаваў "Беларускае выдавецтва Ўл. Пелясы" ў ЗША.*

*"Шапікі", дзе можна было купіць беларускую кнігу ў Нямеччыне, дзеілі ў лягеры Ватэнштэт, у Майнлёйзе пры каапэратыве "Раніца", у Шляйсгайме.*

*Пачынаючы ад сярэдзіны 1950-х гадоў у Лёндане пачало дзеіць камэрцыйнае прадпрыемства "Беларускае Кальпартажнае Агенства" А. Лашука. Агенства было сапраўды кнігапашыральнае. Спадар Лашук рэгулярна выдаваў і шырака разсылаў каталёгі агенства, а ў выпадку патрэбы дасылаў дадатковую інфармацыю пра аўтараў кніг, дзейнасьць і г. д. Пры гэтым у*

---

[1092] **Уладзімір Пеляса** (1918–2004), грамадскі дзеяч. У 1950-я гг. у ЗША заснаваў уласнае выдавецтва, у якім выдрукаваў за ўласны кошт некалькі кніг беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў.

*каталёгах часта рабіліся тэматычныя падборкі, кнігі па краінах выданьня, моўныя падзелы. Агэнцыя А. Лашука мела вельмі шырокую кліентуру: індывідуальных падпішчыкаў, бібліятэкі, установы. Агэнцыя Лашука была дзейная па-над чвэрць стагодзьдзя й спрычынілася да шырокага распаўсюджаньня беларускае эміграцыйнае кнігі. Ён быў адным з тых, хто ўкладаў душу ў распаўсюд беларускай кнігі, а фінансавую спадчыну тэстамэнтова празь БІНіМ завяшчаў на выданьне "Архівы БНР", што й было зроблена.*

*У гадох 1960-х у Канадзе аформіўся Беларускі Мастацка-Выдавецкі Клюб "Пагоня", асноўная мэта якога было дапамагаць беларускім літаратарам на эміграцыі ў працы й выданьні іх твораў. Клюбам кіравалі два адданыя беларускай справе дзеячы — пісьменьнік Кастусь Акула і грамадзкі актывіст Антон Маркевіч*[1093]*. Клюб "Пагоня" выдаваў таксама кружэлкі, рабіў сувэніры, ювелірныя вырабы. Але найбольшых вынікаў Клюб дасягнуў у распаўсюджваньні беларускай кнігі. Клюб рэгулярна даваў у прэсе камунікаты аб кнігах, друкавалі каталёгі, разсылалі спэцыяльна прыгожа аформленыя рэклямныя лістоўкі. Усё гэта разсылалася панад 500 падпішчыкам і панад 100 бібліятэкам.*

*Беларуская эміграцкая кніга распаўсюджвалася й небеларускімі прадпрыемствамі. Выданьні БІНіМ можна было набыць праз кнігарню "Szwede" (Каліфорнія), празь Віктара Камкіна*[1094]* ў Вашынгтоне, агенства "Тройка" ў Таронта, "Кубан і Загнэр" у Нямеччыне. У Нью Ёрку ў 1950–1980-х гг. была дзейная амэрыканская кніжная карпарацыя "International Literary Circle", якая распаўсюджвала найперш эміграцкія кнігі ў СССР. На кніжных складах гэтае ўстановы былі сотні расейскіх выданьняў, а таксама беларускія кнігі, такія як "Між берагамі" Н. Арсеньневай*[1095]*, "Нятускная краса" А. Салаўя*[1096]*, "Міжагнёўе" М. Кавыля*[1097]*.*

*Адыгралі прыкметную ролю ў прапагандзе й пашырэньні беларускага эміграцыйнага друку (як і Беларусі наагул!) тысячы выставаў, у якіх бралі ўдзел беларускія арганізацыі. Пачынаючы ад "Абшчыны", нашая эміграцыя ва ўсіх краінах не прамінула нідзе магчымасьці браць удзел у выставах, якія былі з шмат якіх нагодаў. Былі вялікія й малыя. Арганізаваныя беларусамі й міжнародныя, скаўцкія й вэтэранскія, мастацкія й літаратурныя, выставы*

---

[1093] **Антон Маркевіч** (1925–2009), грамадскі дзеяч. Жыў у Ашаве (Канада). Разам з Кастусём Акулам арганізаваў выдавецкі клуб «Пагоня». Уваходзіў у кіраўніцтва Згуртавання беларусаў Канады, быў сябрам рэдкалегіі старонкі «Весткі з Канады» газеты «Беларус».

[1094] **Віктар Камкін** (рус. *Виктор Камкин*, 1902–1974), расійскі кнігавыдавец, кнігагандляр, у 1953 г. адчыніў у Нью-Ёрку першую краму рускай кнігі.

[1095] Маецца на ўвазе кніга: Арсеньнева, Натальля. Між берагамі: Выбар паэзіі. Нью Ёрк — Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

[1096] Маецца на ўвазе кніга: Салавей, Алесь. Нятускная краса: збор твораў. Нью Ёрк — Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

[1097] Маецца на ўвазе кніга: Кавыль, Міхась. Міжагнёўе: Выбраныя творы. Нью Ёрк, 1990. — XXI+344 с.

*спадчыны й выставы "Беларусь сёньня". Але асабліва важныя для друку былі выставы прафэсыйных арганізацыяў, як Амэрыканскія Дасьледчыкі Славяназнаўства і падобныя. Бязьмежна важныя выставы ўнівэрсытэцкія: у ЗША ў Прынстане, Гарвардзе, у Аўстраліі — Монаскі Ўнівэрсытэт, дзе выдалі каталёг "Беларусь і яе кнігі", у Канадзе ва ўнівэрсытэце Кінгстану, Таронта, Атаве. На такіх выставах англамоўныя прафэсары, як звычай, замаўлялі дзясяткі беларускіх эміграцыйных выданьняў. Упэўнены, што ў будучыні знойдзецца энтузіяст-беларусавед, які складзе сьпіс выставаў, у якіх удзельнічала беларуская эміграцыя. Іх будуць тысячы!*

*Вядомая справа, што й бібліятэкі зьяўляліся рэклямнікамі беларускай кнігі, і ня толькі эміграцыйнае, але й з Бацькаўшчыны. Чытач часта знаёміўся з кнігаю ў бібліятэцы, а затым замаўляў яе й набываў. Беларускіх кнігазбораў у замежных бібліятэках ёсьць парадачна, пры гэтым ня толькі ў такіх, як Нью Ёркаўская Публічная ці бібліятэкі Прынстанскага, Гарвардзкага ці Стэнфардзкага ўнівэрсытэтаў. Беларускія калекцыі ёсьць і ў гарадзкой бібліятэцы Кліўлэнду, Чыкага, Дэтройту. З асабістага дасьведчаньня ведаю, што ў Кліўлэндзкай Публічнай бібліятэцы загадчыца аддзелу іншамоўнай літаратуры спадарыня Н. Бязуглава ціраз зьвярталася да БІНіМу, каб паведамлялі, калі выходзяць новыя беларускя эміграцыйныя кнігі. І што вельмі важна ў цяперашнім часе ў амэрыканска-канадыйскіх бібліятэках, гэта злучаныя ў сеткі каталёгі паасобных бібліятэкаў; яны даюць добрае ўяўленьне як аб стане калекцыі беларусікі, гэтак і аб новых паступленьнях.*

*Аднак адну з замежных бібліятэкаў з гледзішча беларусікі трэба вылучыць. Гэта Беларуская бібліятэка імя Скарыны ў Лёндане ці, як у абыходзе яе называюць, "Скарынінка". Гэтая бібліятэка, хоць пакуль ня ўлучаная ў электронную сеціўную сыстэму, тым ня менш адыгрывае выдатную ролю ў пашырэньні беларускай кнігі, улучна з эміганцкай, і ведаў аб ёй. Бібліятэка захоўвае ўсё, што ёй прысылаюць, ды дадаткова вядзе інтэнсыўную праграму кнігаабмену. Гісторыя й дзейнасьць бібліятэкі грунтоўна дасьледавана ў кнізе Натальлі Гардзіенка "Беларусы ў Вялікабрытаніі" (Мінск, 2010, с. 425–449).*

*Вядучае месца ў сыгналізацыі новае эміганцкае кнігі адыгрываў і адыгрывае беларускі эміграцыйны друк — прэса. У большых газэтах, як "Бацькаўшчына" і "Беларус", рэгулярна друкаваліся старонкі-агляды новых кнігаў, а ў меншых пэрыёдыках і бюлетэнях, камунікатах заўсёды даваліся абвесткі пра новыя друкі. Эміграцыйны пэрыядычны друк быў важны ў пашырэньні кнігі й тым, што даходзіў да аддаленага чытача, расьцярушанага на эміграцыі. Дзясяткі беларускіх эмігрантаў разбудавалі свае кнігазборы, дзякуючы пэрыядычнаму друку.*

*Матор стварэньня кнігі — аўтар. Ён-жа, аўтар, зусім абаснавана й лягічна найбольш зацікаўлены ў пашырэньні кнігі. Аўтар ці то выбірае выдавецтва, якое ён уважае за больш аўтарытэтнае і энэргічнае, ці то сам арганізоўвае сетку распаўсюджваньня. Калі аўтары на эміграцыі ня мелі вялікага выбару выдавецтваў, дык затое вызначаліся энэргіяй у распаўсюд-*

*жваньні свае кнігі. Задоўга да выхаду кнігі аўтары разсылалі рэклямныя лісткі, падаючы зьмест кнігі, падавалі ўмову, як кнігу можна набываць. Для кніг большых у БІНіМе ладзіліся вечары кнігі й прыяжджалі такія аўтары, як Ул. Сядура, Л. Акіншэвіч, Я. Садоўскі і дзясяткі іншых.*

*Новы беларускі эміграцыйны друк — працэс панад стогадовай даўнасьці. Аднак, на вялікі жаль, ён доўгі час зусім не ўлічаўся ды аб ім наагул амаль ня было ведама. Дзеля гэтага акрэсьліць статыстыку ці, тым больш, зрабіць падзел на выданьні кніжныя ці іншыя, амаль немагчыма. Праўда, спробы такой рэгістрацыі пачаў у гадох 1920-х (вядома зь літаратуры і ад сьведкаў) у Празе др. Тамаш Грыб, але ягоны "Беларускі Загранічны Архіў", у якім, праўдападобна вялася картатэка ўліку эмігранцкага друку, загінуў у 1945 г.*

*Мікола Панькоў аднавіў рэгістрацыю. У сваёй публікацыі "Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945–1950" (Нью Ёрк, 1951) рэгіструе 189 асобных выданьняў (пераважна кніг і брашур) і 120 пазыцыяў ephemera: улёткі, адозвы статуты, разам панад 300 назоваў плюс пэрыёдыка.*

*Панад паўстагодзьдзе пазьней, у 2003 і 2006 гадох, Вітаўт і Зора Кіпелі выдаюць бібліяграфію "Беларускі друк на Захадзе", у якой улічаныя 4500 "асобных друкаў" і 446 пэрыёдыкі. У гэтай бібліяграфіі кніга як бібліяграфічна-бібліятэчна акрэсьлены твор ня выдзеленая, але, прыпушчальна, складае адсоткаў 40–50.*

*Відавочна, у будучыні колькасьць эмігранцкіх выданьняў будзе павялічвацца: будуць знаходзіцца прапушчаныя старыя друкі й напэўна будуць зьяўляцца друкі новыя. Будучым беларускім бібліёграфам працы хапаць будзе!*

*На сёньня-ж на аснове дасьведчаньня ў карыстаньні кнігай і ейным пашырэньні выкажу такія разважаньні.*

*Беларускамоўная, а часам і іншамоўная беларусаведная кніга на эміграцыі ствaралася з шматгранным прызначэньнем:*

*1. Задаволіць патрэбы эмігранцкай грамады ў адукацыйна-выхаваўчым працэсе: падручнікі, чытанкі, казкі, малітоўнікі і пад.*

*2. Кнігі-дасьледваньні тварыліся з мэтай узбагаціць беларусазнаўства новымі аналізамі, навуковым падыходам да гісторыі, разьвіцьця нацыі, культуры, адкідаючы й дэмаскуючы саветызацыю-русыфікацыю дасьледчага працэсу, які накідаўся й быў абавязковы ды адзіна дазволены ў творчым жыцьці Беларусі.*

*3. Інфармацыйная кніга пра Беларусь тварылася на аснове тысячагадовай гісторыі Беларусі, з улікам-сьведчаньнем народагубчае палітыкі Расейскай імпэрыі ў дачыненьні да беларускага народу.*

*4. Пісьменьнікі, паэты, літаратурныя крытыкі тварылі беларускую мастацкую, аналітычную літаратуру пад духовым натхненьнем, жыцьцёва-чэсную-чыстую, без абавязлівых аглядах на вымогі галоўліту, партыі ці кіруючай бюракратыі.*

*Тварылася й пашыралася беларуская кніга на эміграцыі з духовай патрэбай, мэтай унесьці ў культурна-жыцьцёвую скарбніцу нацыі нацыянальны, глыбака пачуцьцёвы кампанэнт. Кніга, увесь эміграцыйны друк тварыўся й распасюджваўся з пачуцьцём гонару, адказнасьці й адданасьці Беларусі».*

# ЯН ПЯТРОЎСКІ, ПЕРАКЛАДЧЫК І ДРУКАР

З ўсёй эміграцыйнай мемуарыстыкі ўспаміны Яна Пятроўскага «Мемуары. Стагоддзе ў рэтраспекце» (1988–1997) — і найбольшыя памерам (тры тамы, 347+367+365 старонак), і разам з тым найменш вядомыя ды ўжываныя. Тлумачыцца гэта можа як пэўнай рэдкасцю выдання, асабліва апошняга, трэцяга тома, так і своесаблівасцю зместу, дзе палова прысвечаная тэмам небеларускім, ды нелінейнасцю аповеду. У кнігі Ян Пятроўскі дадаваў уласныя артыкулы з часопіса «Сьветач Хрыстовае навукі», развагі пра старажытнагрэцкую літаратуру і філасофію. Усё гэта надае ўспамінам троху хаатычны выгляд — і сэнсавы, і нават вонкавы, бо прафесійны друкарскі шрыфт ранейшых артыкулаў суседнічае побач з шрыфтам друкаркі Пятроўскага, на якой ён працаваў у апошнія гады жыцця.

Падобнае дадаванне аўтарам у кнігу жыўцом узятых дакументаў з простым наддрукаваннем унізе старонкі яе нумара спрычынілася да таго, што мне фактычна выпала стацца суаўтарам трэцяга тома.

У 1996 г., плануючы пісаць кнігу пра літаратуру ўсяго беларускага замежжа, разаслаў пісьменнікам — Наталлі Арсенневай, Янку Юхнаўцу, Кастусю Акулу, Масею Сяднёву, Янку Золаку ды некаторым іншым — невялічкі ліст з пытаннямі пра кнігі, творы, асобаў. Адказалі бадай усе — хто большым лістом, хто карацелькаю. Ян Пятроўскі ж апублікаваў свае адказы ў трэцім томе — разам з фотакопіяй апытальнага ліста, угістарыўшы тым самым маю поўную паразу з так і не зробленаю кнігаю.

У сваім адказе — на мае пытанні ці ўласныя думкі — Пятроўскі напісаў, дакладней, надрукаваў наступнае:

*«27 чырвеня 1996.*

*Гэтак, як я чытаю — незразумелым да канца, або зразумелым. Людзі тыя самыя — нашчадкі Вялікага Княства Літоўскага — з прычыны аднае вайны, расейскае рэвалюцыі і яшчэ аднае вайны на розных кантынэнтах, і ў розных краінах. Нават калі яны ня бачаць адзін аднаго, тым ня меней палітычна думкі іх недзе зьбягаюцца разам. Выражэньне гэтых думак розьніцца ў той прапорцыі, у якой ступені розьняцца лады палітычныя.*

*Болей сьведамыя й культурныя адзінкі на эміграцыі прысьвячаюць сваю працу і сваё жыцьцё справе Незалежнасьці свае Бацькаўшчыны. Атмасфэра аднак сама ў сабе па абедзьвюх старонах акіяну яшчэ не разьвеелася. Бо як можна зарызыкаваць сьцьверджаньне, што пісанае тут упадабняецца да споведзі і, я разумею, людзі маўчаць, як гэта кажацца, “ради страха іудейского”.*

*Мне ведамым ёсьць толькі адзін, зь імем Ян Пятроўскі, каторы апублікаваў два томы сваіх “Мэмуараў”, а трэйці том знаходзіцца на выканчэньні, і ёсьць надзея, што ў гэтым годзе яшчэ здадзеным будзе ў друкарню.*

*Ня вельмі выразным для мяне выступае выражэньне: “беларуская мастацкая літаратура эміграцыі”. Калі-б яна мела быць пісанаю кімколечы без мамэнту палітычнага, была-б вельмі нуднаю ў чытаньні.*

*2. Я ня думаю так*[1098]*. Жыцьцё чалавека, як і народу, мае свой бег і знаходзіцца па-за нашым узьдзеяньнем.*

*3. Сам факт адбыцьця эміграцыі яшчэ нічога не гаворыць. Але выэміграваць у ЗША — гэта нешта вялікае, іншае… З пункту гледжаньня навуковага, палітычнага, як я гэта бачу, немагчыма знайсьці прасторнае краіны. Тут свабода як гэткая; свабода думкі і слова; свабода прадпрыняцьця ў галіне эканамічнай. Пачынаючы ад хлеба, вопраткі й жыльля з транспартацыяю і канчаючы кажнаю неабходнасьцю ў дадзенай працы — усё абясьпечана.*

*Калі чалавек сьведамы гэтага, тады крочыць ён праз жыцьцё поўны радасьці. Я часта чую: як гэта вы, жывучы на эміграцыі, далёка ад Бацькаўшчыны, маглі гэтак многа стварыць? І я адказваў: Затым я шматлікае і стварыў, што жыў у Амэрыцы, бо дома ня было й сяньня няма гэткіх выгодаў. Там усё яшчэ пануе страх, зьвярыны страх са сваім доўгім ценем, зь якога ўсё ўцякае, што ўцячы яшчэ можа.*

*Згэтуль выснаў: эміграцыя "дала" мне — шмат "дала".*

*4. У маім выпадку трэба мець на ўвазе, што я эмігрую пасьля аднае вайны, пасьля — расейскае рэвалюцыі і другое вайны. Калі ў 1919 годзе я асеў у Вільні, дык гэта быў толькі іншы кавалак зямлі, але Бацькаўшчына тая самая. Калі прыйшла пара жыць у Варшаве, польская мова ішла разам зь беларускім і наадварот. (Адзін раз было гэткае судырэньне дзьвюх моваў. На рагу круглага забудаваньнямі Пляцу Збавіцеля зайшоў я ў краму спажывецкую купіць цукру. Я сказаў: Прошэн о кілёграм цукру. Крамнік пытаецца: Якего цукру? Мой адказ: Пяску. Крамнік спыніўся, павярнуў галаву да мяне і глядзіць. Тут я сьцяміў, што дзьве мовы спаткаліся.)*

*Мая жыцьцёвая філязофія вяла мяне па шляху зьінчваньня паглядаў ад аднаго да другога. Згэтуль на працягу гадоў (1914–1996) мой пагляд на ўсё пісанае беларускае і смак зьіначваліся і прагрэс гэты працягваецца. Гэта значыць, як я разумею, сама адукацыя паглыбляецца.*

*Зь пяром у руцэ першы раз выступіў я недзе ў 1931 г., калі быў выдрукаваны мой першы пратэстанцкі часапіс "Сьветач Хрыстовае Навукі". Ягонае абыймо — 4 бачыны. Апошні нумар ягоны з 36 бачынамі выйшаў у 1939 годзе коратка перад выбухам Другое сусьветнае вайны. На працягу 6 гадоў вайны я практыкаваўся, як трымаць пяро ў руцэ. Зараз пасьля вайны ў Лінцу над Дунаем (Аўстрыя) выйшлі з-пад прэсу першы Ангельска-беларускі — Беларуска-Ангельскі два слоўнікі, каторыя разам у хворме аднае невялічкае кніжачкі пасьля 47 гадоў, бо ў 1993 г. выйшлі з друку ў сталічным месьце Беларусі — Менску*[1099]*. Гэтым актам спраўдзілася выслоўе "чым-бы дзіця ня цешылася, абы ня плакала". У філязофіі гэта называецца "нормаю духа", што ў інтэрпрэтацыі дае вобраз: майстра любіць рэч,*

---

[1098] Я запытаўся, ці можна, на яго думку, 1995 год (умоўна) лічыць канцом беларускай літаратуры на эміграцыі.

[1099] Гл.: Пятроўскі, Ян. Ангельска-беларускі слоўнік. Беларуска-ангельскі слоўнік = English-byelorussian dictionary. Byelorussian-english dictionary. Мінск: Тэхналогія, 1993. — 169 с.

*якую ў даным часе вырабляе. Але калі рэч выступае выраблена́ю, запал майстры астывае — цяперака ён хоча мець такую самую рэч, але лепшую.*

*Вы пішаце, што адведваючы паэтэсу Н. Арсеньневу, бачылі мой твор "Тарас Сайка"*[1100] *і называеце яго "праблематычным". Калі зірняце вокам на дадзеную рэч, вокам старажытнага грэка, тады даведаецеся, што "перш праўда, а пасьля сяброўства".*

*Калі гутарка зайшла пра сяброўства, дык звычайна думаецца пра дактароў, прафэсараў, літаратараў, ну і паэтаў беларускіх, некаторыя зь іх нават і лёзунг стварылі для сябе: я ведаю ўсё! Калі я чую іх, я зайздрошчу ім. О, як-бы я хацеў ведаць хоць-бы палову іхняга "ўсяго". Але мне ня дадзена. Я ведаў аднаго зь іх. Калі ён хацеў што-небудзь сказаць, ён заўсёды пачынаў: "Я як былы вучыцель…".*

*І вось здарылася, што ўсе гэтыя ведаючыя й вельмі ведаючыя паклікалі да жыцьця хітрую й разумную арганізацыю, імя яе: Беларускае Таварыства Узаемнае Адарацыі. З паняцьцем у іх цесна вяжацца канцэпт салідарнасьці, пахвалы… Напрыклад, калі хто-небудзь зь іх нешта разумнае зробіць, тады чутна толькі пахвала ў слове, у друку і ўзнагарода ў хворме, напрыклад, тытулу Доктара. А калі што-небудзь дрэнна зробіць, тады ўсё разам асланяюць крыкам пахвалы і ўзнагародаю. Гэта толькі скромныя два прыклады, і калі хто-небудзь пачне выражаць нездаволеньне, што мала прыкладаў, дык я магу прывесьці іншыя, якія могуць выклікаць прысутнасьць дэфініцыі канцэпту этыкі і эстэтыкі.*

*Мяне цікавіць: калі вы далей вядзеце працу пра Скарыну, якую выконваў раней Др. Тумаш, ці Вы, як дагэтуль, у Вашым апрацаваньні ўспамінаеце гістарычную сцэну спатканьня Скарыны па дарозе зь Вільні з прадстаўнікамі Сьвятое Інквізыцыі і што пры гэтым сканфіскаванымі былі Скарынавыя аркушы выдрукаванае ім Бібліі або частку яе?*

*Цікавае здарэньне, пад кожным кутом гледжаньня, павінна быць успомнута тут, з а. Аляксандрам Надсанам (Я думаю, Вы спатыкаліся зь ім?).*

*Пару дзён перад гэтым атрымаў я тут зь Лёндану невялічкую рэцэнзыю адносна майго перакладу дыялёгаў Плятона ў ангельскай мове, аўтарам якое ёсьць нехта Дінглей*[1101] *(магчыма, і яго Вы спатыкалі?).*

*Усё, што я магу сказаць пра яго водклік, гэта што пісаў яго інтэлігэнтны чалавек, абазнаны з прадметам, ангельскі джэнтэльман. Галоўнае ва ўсім гэтым вось дзе:*

*Назаўтра я і а. Надсон сядзелі мы вечарам за сталом, і нікога вечарам ня было ў хаце. У бегу гутаркі сьвятар Надсон, зьвяртаючыся да мяне, сказаў:*

---

[1100] Маецца на ўвазе кніга: Пятроўскі, Ян. Тарас Сайка — ініцыятар і галоўны фінансавы ахвярадаўца на рэч перакладу і друку Бібліі на літоўскай мове = Taras Sajka — initiator of translation and publication of the Bible in Greatlitvanian. Gainesville: Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд, 1995. — 103 с.

[1101] **Джэймс Дынглі** (англ. *James Dingley*, нар. 1942), брытанскі беларусіст, шматгадовы старшыня Англа-Беларускага таварыства.

*— Калі вы будзеце супрацоўнічаць з намі, тады мы будзем далей пісаць гэтак, як тут напісана.*

*Я проста ня верыў у тое, што я чую: з вуснаў гэтага слугі праслаўутага Ігната Ляёлі*[1102] *зь мянушкаю Кульгавы (браў удзел у крыжовым паходзе). Ён нават не здагадваецца, што ён абражае мяне, ставячы гэтакае гнуснае асьведчаньне. Няўжо ён глядзіць на ўсіх беларусаў, як на белых неграў?*

*Вельмі магчыма, што ватыканская Курыя ўжо тады — у часох кантр-рэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, навучылася, што на беларуса трэба толькі громка крыкнуць ці запрапанаваць шляхэцтва або даць яму доктарскі паперак з ад-гок*[1103] *створанае школы, і ён пойдзе ў кажным напрамку, куды толькі Ватыкан загадае*[1104]*. У мінулай вайне на Лідчыне сярод белага дня палякі (вуніяты ўчарашняга дня) зь пісталетаў на вачох прысутных людзей забівалі на месцы тых беларусаў, каторыя змагаліся за свабоды свае Бацькаўшчыны. (Беларуская Думка).*

*Ужо тады, калі выйшаў з друку мой артыкул п. т. "Літва, твая згуба ў Рыме"*[1105]*, нашыя вуніяты адказалі і панурым рыкам, а праваслаўныя абрадаваліся.*

*Цяперака, думаў я, калі ня прыйму ягонае прапазыкі, вуніяты адкажаць глухім маўчаньнем, і ў Нью Ёрку недапушчаньнем да Пятроўскага кажнага прыбылага з Эўропы ці іншага кантынэнту. Гасп. Акула, згубіўшы панаваньне над сабою, разам зь Язэпам Сажычам*[1106] *адбывае падарожжы ў Аўстралію, каб там падбухторваць нашых людзей супроць дыялёгаў Плятона і перакладчыка іх на беларускую мову. Я пытаюся, у імя чаго робіцца гэта?*

*Наколькі нашыя людзі адукаванымі зьяўляюцца і ў якім напрамку, няхай паслухаюць наступнае: Было гэта ў тым часе, калі радыё Свабода пачала надаваць весткі ў Беларусь на беларускай мове. Здарылася, што ў гэтым часе я знайшоўся ў беларускім Полацку*[1107] *з прычыны нейкае ўрачыстасьці. Недалёка ад мяне на дарозе група цікаўскіх акружыла Яна Запрудніка, бо даведаліся людзі, што ён гаворыць у гэтым радыё.*

*Чую, нехта кажа: а скажы, у якім часе ты будзеш гаварыць, каб гэта паслухаць. І тады сьпікер адказвае — не, вы ня можаце слухаць, бо гэта такія спэцыяльныя хвалі, тут немагчыма чуць іх, яны ідуць на ўсход. Слухачы гаварылі адумысным тонам, а, а, а. І ніхто яго тут ніколі і ня чуў. Я, аднак, гэтым не задаволіўся. З гэтае пары пачаў я шукаць каротка-хвалёвага радыё. Затым што амэрыканцы ня шмат цікавяцца гэткімі рэчамі, астаўся*

[1102] **Ігнат Лаёла** (ісп. *Ignacio López de Loyola*, 1491–1556), каталіцкі святы, заснавальнік Таварыства Ісуса (ордэна езуітаў).

[1103] ***Ad hoc*** (лац.) — дзеля гэтай мэты, дзеля гэтага выпадку.

[1104] Сваё «доктарства» Ян Пятроўскі атрымаў ад створанай Уладзіславам Рыжым-Рыскім псеўданавуковай арганізацыі — Інстытута імя Льва Сапегі.

[1105] Пятроўскі, Ян. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Кніга трэйцяя. Слуцак — Гэйнсвіль, 1997. С. 191–196.

[1106] **Язэп Сажыч** (1917–2007), вайсковы і грамадскі дзеяч. У 1982–1997 гг. — старшыня Рады БНР.

[1107] Маецца на ўвазе беларускі цэнтр «Полацак» у Кліўлендзе.

*я зь нічым. Аднойчы, аднак, натрапіў я на радыё, якога шукаў. Я ўжо бачыў раней гэтакія апараты, але тыя, што прадавалі, ніколі ня ведалі, як радыё працуе. Але цяперака прадаўца за прылаўкам стаяў студэнт з гай скул*[1108]*. На маё пытаньне: можна чуць Нямеччыну? О, так, адказаў, дойтшэ вэлэ*[1109]*! І зараз задэманстраваў галасы шматлікіх краінаў. Я тут-жа забраў яго.*

*З гэтае пары слухаў я сваё новае каротка-хвалёвае радыё. Слухаючы яго, я вывучаў яго. Аказалася, што іншыя поры, як дня, ночы, вымагаюць для сябе іншыя часткі апаратуры.*

*Пасьля цярплівасьці і павольнага шуканьня паміж усіх галасоў і знойдзеньня падобнага гуку да беларускае мовы, і знайшоў. Трэба цяперака разлажыць усё на расплянаванай паперы. Каб памагчы сабе, расьцягнуў над дахам антэну. Кажны голас тут мае для сябе маленькую сталую шчылінку, празь якую можна пачуць тое, што шукаеш. Гэтакі голас гэтаксама шукае сабе іншага часта месца, магчыма, дзеецца гэта з прычыны тэхнічнае, праўдападобна, каб ухіліцца яму ад таго некага, хто стараецца заглушыць яго.*

*Натуральна, я маў даволі працы, якая мяне заўсёды цікавіла. Аднойчы каля гадзіны адзінаццатае я ўключыў маё радыё.*

*— Аліса, Аліса! — пачаў я, — Хадзі хуценька сюды! паслухай!*

*Голас Яна Запрудніка быццам у нашым пакоі знаходзіцца, гэтак громка і выразна гаворыць ён.*

*Ягоная тэма была — бібліятэкі і архівы сярод беларусаў у Злучаных Штатах. Пачынае называць арганізацыі і іхныя бібліятэкі і эвэнтуальна архівы пры іх. Усіх разам было іх можа зь пяць. Як ня было што сказаць, дык успомніў нейкую царкву, ведамую мне, у якой было пару малітвеньнікаў. Але пра тое, што існуе ў Амэрыцы Беларускі Харатыўна-Адукацыйны Фонд (інкорпорэйтэд) Яна і Аліцыі Пятроўскіх, Запруднік ані слова. Нейк інтэлігэнтныя людзі ўмеюць уладжвацца — Богу сьвечка і чорту агарак: падаючы бібліятэкі і архівы, — "служыць" краю, у якім жыве, а прамоўчваючы — служыць ідэі Сьвятое Інквізіцыі, якая даўно памерла.*

*5. Вы пытаецеся, "колькі працэнтаў Вашых твораў на сёньня ня выдрукавана"?*

*Розных памераў 30 маіх працаў выдадзена "друкам". Я ўжыў двухкосьсе, бо тыраж 500, а часам і меней нялможна называць выданьнем. І гэта ня толькі ў маім выпадку. Даслоўна, усе чыста інстытуцыі, арганізацыі ці хто прыватна церпяць на гэтую самую хваробу. Час, аднак, робіць сваё: Беларусь сталася ведамаю на ўсім сьвеце, і ўладыкі на Бацькаўшчыне не запруць межаў для друкаванага беларускага слова. Сусьветная пошта будзе трымаць сваё вока; публічная апінія сьвету мае сваю сілу й моц.*

*Нямецка-беларускі слоўнік — 1/3 яго мусіць быць яшчэ даробленаю. Рэзультат? — Будзе слоўнік з 1000 бачынамі! Але хто гэта даробіць? У якую бібліятэку ці рукі спрыяючыя нам трэба здаць, каб пільнавалася.*

---

[1108] ***High school*** (англ.) — вышэйшая школа.

[1109] ***Deutsche welle*** (ням.) — Нямецкая хваля — дзяржаўная нямецкая тэлерадыёкампанія.

*Усе дадзеныя ёсьць, што старажытнагрэцкі-беларускі слоўнік можна падвоіць абыймо ад таго, які ўжо пабачыў сьвет. Ці мы, беларусы, прапраўнукі Вялікага Княства Літоўскага, ня маем права часамі быць першымі сярод славянскіх народаў? Мая бібліятэка, архіў і патрэбнае ўладжаньне да гэтага важыць якіх зь дзьве тоны для ахвочых рук.*

*Трэба ўспомніць Ангельска-беларускі слоўнік і наадварот, Беларуска-ангельскі. Слоўнікі чакаюць свайго выданьня. Калі бралі да друку мой цяперашні, англа-беларускі (цяперашні), дык падвойна большы не хацелі, кажучы, што прафэсар сказаў, што гэтага хопіць. Так, панявольнік ня хоча, каб паняволены пачынаў здымаць зь сябе путы! Так, асьвета гэта адзіны ў нас шлях да свабоды.*

*6. Паэтычная творчасьць паэтаў, успомнутых Вамі ў шостым пункце, няведамы для мяне, апрача Ларысы Генію ш і Лявона Случчаніна*[1110]*, каторых імёны толькі чуў. Пры гэтым хацеў-бы дакінуць, што калі пачынаецца гутарка пра беларускую паэзыю, я дазнаю алергію. Верш безь філязафічнага падложжа зьяўляецца толькі поўпустым, прыгожа або меней прыгожа выражаным словам. Захопліваюцца ім тыя толькі, каторыя сіляцца ўтрымаць для беларусаў той культурны стан, у якім яны цяперака знаходзяцца. Ёсьць выпадкі аклямаваньня некага паэтам, бо ў дадзеным часе няма паэты наагул.*

*Трэба тут сказаць яшчэ й тую праўду, што ўсе мае прыяцелі, прыбыўшыя ў Злучаныя Штаты з пасьведчаньнямі аб заканчэньні тае ці іншае навукі, прыбылі неабгаблёванымі. Мэтадызм, як гэткі, розным ёсьць у розных краінах.*

*Са мною справа мелася інакш: была восень 1928 году. Пры спатканьні з Мар’янам Пяцюкевічам*[1111] *я быў ім заведзены да нейкіх, як ён казаў, мэтадыстых. “Пяюць тут, братка, прыгожыя беларускія песьні”. Усё тут было для мяне новае, пачынаючы ад абставінаў вонкавых, слова пачутага і дзьвюх амэрыканскіх місіянерак. Пазьней, прыбыўшы ў Клярысэв пад Варшаваю, я апынуўся ў малой Амэрыцы.*

*Мэтадызм спрыяў разьвіцьцю мае думкі. Пратэстантызм, як гэткі, у розных краінах мае differentнае захварбаваньне.*

*Ня можна ў людзкое зборышча сыпаць Пэрлы. Бо адны падымуць з удзячнасьцю, а іншыя патопчуць нагамі. З гэтага выснаў трэба зрабіць, што рэлігійны пагляд і пагляд філязафічны недзе там на канцы зыходзяцца.*

*Імі ёсьць Этыка і Эстэтыка, Навука.*

*Нягледзячы на тое, што я са сваіх раньніх гадоў меў схільнасьць у бок рэлігіі, гэта зусім не перашкаджала ўзяць з рук Місс Браўн кнігу Л. Талстога “Круг чтенія”*[1112] *і чытаць з захопленьнем.*

*Пасьля спатыканьня розных амэрыканскіх япіскапаў, падарожжы і асабліва падарожжа ў пратэстанцкую Данію, частыя пропавядзі і адчыты*

---

[1110] Згадваў таксама Тодара Лебяду і Вольгу Таполю.

[1111] **Марыян Пецюкевіч** (1904–1983), этнограф, педагог, мемуарыст.

[1112] ***«Круг чтения»*** — рэлігійна-філасофскі твор рускага пісьменніка Льва Талстога, складзены з афарызмаў пісьменнікаў розных часоў.

*на польскай мове і беларускай, пасьля час ваенны, Нямеччына, Аўстрыя — узбагацілі маю нямецкую мову, падарожжа ў Злучаныя Штаты разам са сваімі перашкодамі — усё гэта ўзятае разам напэўна ўзбагацілі маё дасьведчаньне і маю веду. Філязофія, словы і пераклады — гэта своесаблівая школа!*

*Гэтаксама даходзіць сюды дасьведчаньне з пазнаньнем старажытнагрэцкае мовы, што да якое я не магу сказаць, што я ляпей гавару на ёй, чымся Плятон, але чытаючы і ўспамагаючы сябе грэцкім слоўнікам, мы, людзі нашага дваццатага веку, можам паразумецца зь ім, каторы жыў доўгія сталецьці перад намі.*

*У гісторыі нямецкае філязофіі ведамымі зьяўляюцца выпадкі, калі пастары вывучалі грэцкую філязофію і друкавалі свае кнігі, якія па сягоньняшні дзень уважаюцца ўзорам гэтае надзвычайна цікавае спадчыны грэцкае даўнасьці. І гэта дзеілася тады, калі вуніяцкая царква пад караю цяжкога грэху забараняла (і сягоньня свайго правіла трымаецца) і не дазваляе сваім вернікам чытаць пісаньняў неахрышчаных людзей!*

*У павязаньні з тэмаю, будзе аграмаднаю здабычаю ў асьвеце, калі кожны беларус возьме першую лепшую энцыкляпэдыю і прачытае жыцьцяпіс і працу Галілео Галілеі. Грэкі ў сваім часе ня ведалі слова інквізыцыя — былі шчасьлівымі!*

*І гэтак, як сягоньня на нашых вачох тухне навука Карла Маркса*[1113]*, гэтак пакаленьне людзей перад намі былі сьведкам і адважным, каб бачыць заняпад сьвятое інквізыцыі. У рэзультаце гэтакае ўмысловае цясноты ў пары рэфармацыйнага разьвіцьця на Захадзе, у нас разьвівалася пад уплывам езуітызму цемра і разам зь ёю паралельна зьнішчэньне Вялікага Княства Літоўскага.*

*І сягоньня тое, што творыцца на нашых землях, гэта жніво таго зла, якое вышэйшыя культурна ад нас італіянцы пад кіраўніцтвам Ватыканскае Курыі залілі наш край.*

*Тое, што адбылося ўчора і пазаўчора (сягоньня — 7.19.1996), можа стварыць сытуацыю, што раніцаю аднаго дня ўключым нашыя слухавыя апараты і пачуем, што расейская армія на працягу мінулае ночы заняла Беларусь і Польшчу аж да ўсходніх межаў Нямеччыны. Праўда, на Захадзе выбухне громкі пратэст. На наступны дзень громкасьць гэтая ня будзе так громкаю, як учора. І гэтак з дня на дзень, і спасьцеражэм, што сонца на небе гэтаксама ўзыходзіць, як рабіла яно на працягу безьліч раніцаў; гэтак будзе і з захадам. А людзі гандлю на Захадзе будуць далей сьпяшацца, як-бы хутчэй зрабіць добры бізнэс з добраю Расеяю.*

*Усё, што мы цяперака можам зрабіць на эміграцыі, — гэта паглыбляць нашу адукацыю, але не ў вуніяцкіх касьцёлах, але ў старажытных сьценах грэцкае цывілізацыі.*

*7. На што-б Вы абавязкова зьвярнулі ўвагу пры напісаньні Гісторыі літаратуры на эміграцыі? (у супроцьстаўленьні да літаратуры на*

---

[1113] **Карл Маркс** (1818–1883), нямецкі філосаф, эканаміст, грамадскі дзеяч, стваральнік ідэалогіі, на якой заснаваныя сацыялістычны і камуністычны рухі.

*Бацькаўшчыне?) — за выключэньнем мовы, патрыятызму і іншых натуральных рэчаў. Гаворка ідзе пра мастацкі бок.*

*На гэткае пытаньне ў пытаньні цяжка знайсьці які-небудзь лягічны адказ. Калі мы гаворым пра гарэх, немагчымым ёсьць распадзяліць хвормы (прыгажосьць) ад зьместу.*

*Кажны паэтычны твор, усё-роўна, як прыгожым ён ёсьць, мусіць мець зьмест, як гэткі. Да гэтае пары (магчыма ёсьць іншага асартымэнту беларуская паэзыя, якая не дайшла да мяне) зьмест носіць характар лёкальны. Як я гэта бачу: зьмест філязафічны г. зн. агульналюдзкі. Напрыклад:*

Жыў да быў дзед і баба,
*У іх была курка раба;*
*Курка зьнесла яйцо —*
*Не прастое, а залатое.*
*Дзед біў, біў — не разьбіў.*
*Баба біла — не разьбіла.*
*Бегла мышка, хвосьцікам*
*Зачапіла і разьбіла.*
*Дзед у рык, баба ў плач*
*Ды за дзяркач.*
*І давай мышку гнаць… і г. д*

*Можна сказаць, літаратурны твор казачнага жанру. Ёсьць іншы падобнага жанру твор. Аўтарам ягоным ёсьць Пушкін.*

*Жил старик со своей старухай*
*У самого синяго моря і г. д.*

*Зьмест нам ведамы. Розьніца тут у тым, што творы маюць свае філязафічныя тэмы.*

*Тую самую мэту, якую Пушкін нам прадстаўляе, Л. Талстой выражае тую самую тэму ў сваім павяданьні п. т. “Колькі чалавеку зямлі патрэбна”. Праўда, сама тэма або тэматыка твору грамадзіць каля сябе лічныя інтэрпрэтацыі і крочыць далей у сьвет абстракцыі. (Тут я мушу дакінуць, што хутка пасьля таго, як на эміграцыі пачала выходзіць газэта “Бацькаўшчына” — бадай поўны камплект яе я маю, — зьявілася кароткае апавяшчэньне: Абстрактная думка гэта нішто іншае, як нейкае бля, бля, бля! Прачытаўшы гэта, чыўся я ашарашаным да гэткай ступені, што зараз-жа безадкладна напісаў аб гэтым добрым знаёмым у Канаду. Пішу тут пра гэта, каб паказаць, як даляка ў адукацыі Захаду мы знаходзімся.)*

*Эміграцыйная паэзія жыла і ўсё яшчэ жыве пад страхам.*

*8. Галоўная адметнасьць Вашае творчасьці, на Вашу думку? Хто з Вашых крытыкаў (тут ці там) наблізіўся да разуменьня Вашае творчасьці?*

*Усе крытыкі ў васнаўным разумелі маю творчасьць, і тут, і там — “там” кніжку маю цалавалі, “там” мяне самога цалавалі. А “тут” я сам дзівіўся — каталіцкія ксяндзы не маглі даволі нахваліцца маімі працамі.*

*А а. Я. Гэрмановіч, аўтар лічных прыгожых гістарычных твораў, прысылаючы сюды свой апошні ліст, сваім зьместам давёў мяне да сьлёз, дзякуючы, што яму давялося на старасьці гадоў чытаць маю літаратуру, і шкадуе, што іншыя каталіцкія ксяндзы зь філязафічнаю схільнасьцю ня могуць сустрэць мяне, бо бальшавікі замучылі іх на сьмерць. Тут а. Я. Гэрмановіч мае на ўвазе а. Архімандрыта Фабіяна Абрантовіча*[1114]*, каторага Курыя ватыканская выслала, разам з другімі беларускімі сьвятарамі на далёкі Усход, і Архімандрыта Андрэя Цікоту.*

*Абсальвэнт Варшаўскага Унівэрсытэту Сакратас Яновіч*[1115] *зь Беластоку з пару дзесяткаў пачак з маею літаратураю пераказваў на Беларусь.*

*Галоўная адмэтнасьць мае творчасьці, як я яе бачу, гэта філязофія і паходжаньне яе з наплывам новых і нячуваных часта ў нас словаў, а згэтуль — канцэптаў.*

*Тут няма ніякое патрэбы натужвацца і падыходзіць бліжэй. Яе мова ёсьць простаю, разумнаю й глыбокаю. Яна вучыць чалавека думаць.*

*Крытыкі, пра якіх вы гаворыце, сталіся крытыкамі, бо яны разумеюць мяне і Плятона. Інакш яны ня былі-б крытыкамі.*

*Натуральна, зайздрасьць ніколі ня дрэмле.*

*Аднойчы, жывучы яшчэ ў Сыракузах, штат Нью Ёрк, ішоў я вуліцамі гэтага места і, дзіўна, спаткаў на ходніку чалавека — ну, адыстар Плятон. Мне хацелася падыйсьці да яго, але я саромеўся. Нарэшце, перамагаючы сорам, я затрымаў яго.*

*— Дзіўна, — сказаў я да яго. — Вы зусім, як Плятон, выглядаеце, той Плятон, каторы калісьці навучаў людзей у Атэнах, і быў Гэльленам.*

*— Гэта-ж я і ёсьць тым Плятонам.*

*— О, — абрадаваўся я і сказаў яму: — Калі ты той самы, дык хадзі да нас; я беларус, і мы хутка будзем мець беларускі сход, і ты мецімеш нагоду прамаўляць да нас. Усе мы будзем рады паслухаць цябе.*

*— Але я, — сказаў ён, — ня ведаю вашае беларускае мовы.*

*— О... гэта нічога — ты гавары, а я буду сказ за сказам перакладаць цябе.*

*— Добра, — згадзіўся ён.*

*Вось з тае пары ён гаворыць, а я перакладаю.*

*І дайшло да таго, што пра гэты наш акт загаварыла і пачало паказваць карцінкі Менская тэлевізыйная станцыя, друкаваць тыднявік "Літаратура і мастацтва", пасьля тыднявік слонімскі "Праца", "Голас Радзімы", гродзенская газэта "Пагоня", штодзённая газэта "Гэйнсвілл Сан", Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва "Абежнік", Пётр Кравченко "Три горячих месяца в Нью Ёрке", "Божым Шляхам", "Слуцкі край", "Беларус" № 407, "Свабода" № 13, "Ніва" № 12, 1992, "Наша Слова" № 13, 1992,*

---

[1114] **Фабіян Абрантовіч** (1884–1946), рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, каталіцкі манах-марыянін, святар усходняга абраду, місіянер.

[1115] **Сакрат Яновіч** (1936–2013), беларускі пісьменнік у Польшчы, старшыня Клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку.

*“Ніва” № 39, 1989, “Культура” № 28, 19 ліпеня 1993, “Усьмешка са спадчыны, захаваў Ян Пятроўскі”, “Слонімскі Веснік”, № 1, 1992, “Ніва”, “Слова яднае з Бацькаўшчынаю”, аўтар — Вітаўт Мартынэнка, “Беларускія Пісьменьнікі — Бібліяграфічны слоўнік”, Том 5, Мінск, 1995, “Беларуская Думка”, № 25–26.*

*Апрача беларускае прэсы (часамі друк у расейскай мове), ведамымі зьяўляюцца паважныя друкі і ў ангельскай мове, гэтак у Злучаных Штатах, як і ў Англіі. Ілюстрацыі залучаю. <...>*

*Вы бачыце, якая аграмадная розьніца паміж Адукацыяй і Цемраю?*

*У нас кніжкі мае паляць, а мяне хочуць пабіць. І гэта ў тым самым часе, калі ў Амэрыцы называюць мяне “вартым пашаны”, а ў Англіі — “чалавекам асягненьня”, і ў сваіх кнігах “чужынцы” выпісваюць маё імя й тое, што я асягнуў, а сярод нас пад уплывам нейкіх рымлянаў, прыбыўшых на нашыя землі, сварацць нас, каб у мутнай вадзе рабіць з нас вуніятаў, г. зн. тых людзей, каторыя сягоньня крычаць беларускі нацыяналізм, каб у наступным пакаленьні забіваць нас, бо мы патомкі Вялікага Княства Літоўскага і дамагаемся палітычнае Незалежнасьці»*[1116].

Гэты ліст-адказ Яна Пятроўскага хоць наўрад ці цалкам спраўдзіў мае чаканні, але сам па сабе надзвычай паказальны: ён красамоўна дэманструе мову і стыль выкладання думкі перакладчыкам, яго фобіі (змовы не толькі сусветныя, але і скіраваныя асабіста супроць яго), а таксама нянавісць, не менш, да каталіцтва і вуніяцтва, да Рыма і Папы, бы працягваючы ідэі Тамаша Грыба. Такім і пабачыў яго ў час нашага знаёмства, калі прыляцеў на два дні ў Гейнсвіл: падазрона да ўсяго і ўсіх настаўленым, ва ўсім шукаючы інтрыгі *«езуітаў і жыдоў»*. Я ж чакаў спаткаць у асобе суразмоўцы *«прапаведніка ад Бога, энцыклапедыста паводле абсягу ведаў, паліглота»*[1117]. Бо даробак Яна Пятроўскага насамрэч унікальны.

У 1947 г. у Лінцы (Аўстрыя) ім была пакліканая да жыцця «Канцылярыя Душпастарства для Беларусаў-Эвангелікаў», якая дапамагала беларусам (без розніцы веравызнання) вопраткай, ежай, часам грашыма (сам Пятроўскі меў там курыную ферму). Тут ён выдаў свой англа-беларускі і беларуска-англійскі слоўнікі, дзве паштоўкі (адна з іх з Францыскам Скарынам).

У ЗША, куды ён прыехаў у 1953 г., заснаваў «Яна і Аліцыі Пятроўскіх Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд», а пазней — «Беларускую Друкарню». У першым нумары «Абежніка» друкарні (кастрычнік 1962 г.) пісалася: *«Зь першых дзён свайго побыту ў гэтым краю сьведамая сваіх мэтаў беларуская супольнасьць адчувала адсутнасьць свае беларускае друкарні, якая адказвала-б усім вымаганьням і ўзрастаючым зь дня на дзень патрэбам беларускае культурнае думкі. <...> Нехта сказаў, што “друкарства*

---

[1116] Пятроўскі, Ян. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Кніга трэйцяя. Слуцак — Гэйнсвіль, 1997. С. 259–274.

[1117] Скобла, Міхась. Дзярэчынскі дыярыуш: Гістарычны нарыс. Артыкулы. Эсэ. Мінск, 1999. С. 123.

*зьяўляецца маткаю прагрэсу". Беларускае друкарства зьяўляецца маткаю беларускага прагрэсу».*

У гэтай друкарні Пятроўскі выдаваў свае пераклады Платона — «Абарона Сакратаса», «Крытон», «Сімпазіён», «Файтон», «Іён», «Горгіяс», Протагорас», «Гіпіяс вялікшы», «Парменідас», «Палітэя», надрукаваў «Роздумы» Марка Аўрэлія ў перакладзе Міхася Кавыля, трохтамовік «Лепшыя думкі чалавека», пераклад працы Гумбальдта «Унутраная форма мовы» і ўласную «Старажытная грэцкая класіка», адноўлены часопіс «Светач Хрыстовае навукі» і бюлетэнь «Анаграмы», а таксама два тамы «Грэцка-беларускага слоўніка».

Працы былі сустрэтыя эміграцыяй больш як прахалодна.

З ліста Яна Пятроўскага да Вітаўта Тумаша:

*«<...> Або Вы пішаце, што Вам не падабаецца, што Грэцка-беларускі слоўнік далучаны да кніжкі дыялёгаў*[1118]*, бо, каб ён быў выдадзены асобна, тады мог-бы прыгожа красавацца на паліцы бібліятэкі. Не, паважны Старшыня БІНіМ'у, гэта ня тое, што Вы павінны былі сказаць. Вашым абавязкам (так, абавязкам!) было зьвярнуцца да ўсяго жывога беларускага з заклікам карыстацца выдрукаваным слоўнікам і гэтым самым паглыбіць свае веды і выраўнаць тую адсутнасьць, якая знаходзіцца паміж намі і іншымі народамі ў прадмеце культуры. Але Вы гэтага не зрабілі і праўдападобна ня ўчыніце.*

*Або возьмем дыялёгі Плятона. Беларуская інтэлігэнцыя кінулася ў напрамку найболей паддатнага месца — бо ў напрамку транскрыпцыі імёнаў уласных і назоваў геаграфічных, зводзячы гэтым самым усю справу да таго, быццам Плятон якраз гэта і меў на ўвазе, калі тварыў сваю несьмяротную спадчыну для нас. А тое, што Плятон вучыць нас пра цэлы рад рэчаў, пра якія мы, беларусы, даведваемся фармальна ўпяршыню — пра гэта ані Вы, ані хто-небудзь іншы зь беларускае інтэлігэнцыі ня ўспомніў аніводным словам. Віцьбіч нават патрапіў, разам з Акулавым экзэмплярам, свой экзэмпляр адаслаць зласьліва назад мне! Браво!*

*На мой пагляд, тут знаходзіцца нейкая аналёгія паміж шаснаццатым і XX стагодзьдзямі. У шаснаццатым стагодзьдзі беларуская інтэлігэнцыя, мусіць, высьмеяла Скарыну, што ён, як Піліп з канапель, выскачыў са сваею моваю, са сваімі запазычанымі на Захадзе манерамі. Праўдападобна, гэта атруціла Скарыне жыцьцё, і ён "уцёк" з краю і забыты ўсімі і няведама дзе і памёр*[1119]*.*

---

[1118] Гл.: Плятон. Сымпозыён. Іён = Symposiym (The Banduet). Ion: Выбраныя дыялёгі / з грэч. тэксту на беларус. мову пер., папярэдзіў уводз. і агледзіў камент. Ян Пятроўскі. Б. м.: Беларуская друкарня ў Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі, 1970. — 220 с.

[1119] Дакладная дата смерці і месца пахавання Яна Пятроўскага таксама невядомыя, але гэта асобная тэма.

*Маючы гэта на ўвазе, замерам маім ёсьць — гэтак многа Плятона майго разаслаць па замежных бібліятэках, колькі гэта магчымым можа быць»*[1120].

І ў іншым лісце: *«Разасланьне беларускага Плятона ў розныя бібліятэкі сьвету — гэта была мая думка, каб, з аднае стараны, гэткім спосабам ратаваць нашага Плятона, падобна, як Скарынавыя пераклады пераважна ацалелі, дзякуючы наяўнасьці іх у бібліятэках іншаземных, а з другое, каб уратаваць ад зьнішчэньня эвэнтуальна прышлае атамнае вайны»*[1121].

Для Яна Пятроўскага асоба Скарыны была, відаць, больш як проста постаць беларускай гісторыі, у разуменні яго і зробленага ім выразна адчуваецца асабістае — паралель з самім сабою:

*«Пра суадносіны беларускага народу да культурнага разьвіцьця старажытных грэкаў мы можам пачаць гаварыць ад дня нарадзінаў у Полацку і хуткага выступу на арэну гістарычна-культурную чалавека з імем і тытулам Др. Францішак Скарына.*

*Калі мы прыймем, што Скарына жыў у гадох 1490(?)–1550, дык нейкі даволі даўгі час з гэтага, пра які мала ведаем, жыў і працаваў ён у Празе чэскай, а пра ягоных супрацоўнікаў гэтаксама мала ведаем, а калі гэтакіх ня было, дык выходзіць, што Скарына ў перакананьні важнасьці прадпрынятае ім справы працуе сам адзін. Прамежжа часу паміж надыходам Рэнэсансу, калі будзе гэта 1300, а пачаткам навукі і дзейнасьці Скарыны, скажам, год 1500, дык вобраз нашага культурнага прабуджэньня запозьнены аж на 200 гадоў. <…>*

*Калі Скарына знаходзіўся ў падарожжы ў Падую, Захад у атмасфэры культурнага Рэнэсансу ўжо значна быў узмужнелы.*

*Гэтакім узмужнелым мусіў вярнуцца дадому Францішак Скарына і, ажыўлены пражытым на Захадзе, энэргічна ўзяўся за сваю працу. І што аказалася? Ён, асьвечаны на Захадзе, вярнуўся ў свой бязграматны народ, каторы не разумеў яго, ані ягоных друкаў, ані нейкае няведамае ім кнігі, якую ён называў Біблія. Зноў-жа тыя, каторыя былі ўжо граматнымі, паддаваліся ўплывам варожым для літоўцаў. Гэтая культурная няроўнасьць сярод розных народаў і ў розным часе замацоўвала перакананьне, якое ў рымлянаў выражалася кароткім сказам: cuius regio eius religio — і гэта значыць: чыё панаваньне — таго і рэлігія. Прынцып гэты быў шкодным для людзей неасьвечаных, а сярод беларускага народу стаўся яшчэ адною прычынаю заняпаду Вялікага Княства Літоўскага і астаўся хранічнаю хваробаю аж да нашага часу»*[1122].

---

[1120] Ліст Я. Пятроўскага да В. Тумаша ад 16.06.1972. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1121] Ліст Я. Пятроўскага да В. Тумаша ад 28.04.1972. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1122] Пятроўскі, Ян. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Кніга трэйцяя. Слуцак — Гэйнсвіль, 1997. С. 93, 96.

# КАЛЕКЦЫЯНЕР З БЕЛАРУСКІМІ КАРАНЯМІ: РАСЦІСЛАЎ ПАЛЧАНІНАЎ

Імя Расціслава Палчанінава было добра вядомае сталым чытачам рускамоўнае газеты «Новое Русское Слово», дзе ён меў свой «Куток калекцыянера» і пісаў пра рэдкія эміграцыйныя кнігі, паштоўкі, маркі. З тых матэрыялаў пазней склалася кніга «Заметки коллекционера» (Лондон (Канада): Заря, 1988). Знаны быў ён і як гісторык (і актыўны ўдзельнік) скаўцкага руху, пра што таксама выдаў кнігу: «Молодежь Русского зарубежья: воспоминания, 1941–1951» (Москва: Посев, 2009).

Для нас Палчанінаў цікавы — у адрозненне ад мноства іншых расійскіх дзеячаў на эміграцыі — тым, што, магчыма, дзякуючы сваім беларускім караням (хоць і нарадзіўся ў 1919 г. у Новачаркаску ў сям’і палкоўніка Белай арміі; яго продкі паходзілі з Полацка, і прозвішча было Палачанін) нярэдка ў «Кутку» змяшчаў матэрыялы з нашае гісторыі. Так былі надрукаваныя «Иностранная почта в Белоруссии, 1916–1919» (25.03.1973), «Минское издание 1918» (01.04.1973), «Пошта ЗБВБ» — менавіта так, па-беларуску (30.05.1971)[1123]. Друкаваўся і ў газеце «Беларус»[1124].

На просьбу газеты «Беларус» Расціслаў Палчанінаў падрыхтаваў тэкст пра маркі, які пераклаў Янка Запруднік. Праўда, з невядомых прычынаў скарыстаным ён так і не быў і таму публікуецца ніжэй. Другі тэкст — пра маркі «Свободной России» — аўтар даслаў мне сам у лютым 2013 г.

*Расціслаў Палчанінаў*

## Філатэлістычная гісторыя Беларусі[1125]

Як вядома, земская рэформа 1864 г. ахапіла толькі частку губерняў Еўрапейскае Расіі, а на Беларусі пашырылася ў 1911 г. на тры губерні: Менскую, Магілёўскую і Віцебскую.

Паколькі ў 1911 г. не было патрэбы ў адчыненні мясцовых земскіх поштаў, дык і не было патрэбы ў выпуску мясцовых земскіх паштовых марак. Першая марка на Беларусі з’явілася толькі ў 1916 г. у Беластоку, горадзе, які паводле савецка-польскай дамовы аб дзяржаўных межах 16 жніўня 1945 г. адышоў да Польшчы.

---

[1123] У перапрацаваным выглядзе артыкул друкаваўся ў маскоўскім часопісе «Филателист» (жнівень 2007, с. 38–40).

[1124] Палчанінаў, Р. Адраджэньне скаўтынгу ў СССР // Беларус. № 361. Жнівень 1989. С. 4.

[1125] Тэкст публікуецца ў сучасным правапісе.

***Беласток 1916 года***

Улетку 1915 г. Беласток акупавалі нямецкія войскі генерала фон Гіндэнбурга[1126]. Немцы тады захапілі заходнюю частку Беларусі з гарадамі Беластокам, Горадняй і Берасцем, дайшоўшы да лініі Нёман — Буг.

Цяжка цяпер сказаць, што мелі наўвеце немцы, ствараючы ўстанову дзеля пошукаў сваякоў за межамі, але гэткая ўстанова паўстала ў Беластоку 3 ліпеня 1916 г. на загад нямецкіх вайсковых уладаў пад назвай *«Нахріхтенферміттлюнгсштэльле»*[1127]. Былі надрукаваныя адпаведныя анкеты і маркі-квіты ў цане 25 пфенінгаў, што наклейваліся на анкеты і гасіліся ў залежнасці ад абставінаў пячаткамі з розным тэкстам і колерамі (чырвоным, чорным і фіялетавым).

За перасылку дадаткова плацілася 1 марка.

Маркі-квіты былі надрукаваныя 3 ліпеня 1916 г. у цмяна-ружовым колеры *«кляйнбогенамі»*[1128] па 4 штукі, з гербам Беластока пасярэдзіне, надпісам зверху *«Брыффэрміттлюнг»*[1129] і знізу — *«Беласток»*. Пячатка на іх была чорная з надпісам у два радкі *«25 пфенінгаў»*. Частка марак была з подпісам нямецкага чыноўніка — *Б. Фольфзона*. Іншыя, зноў жа, мелі перавернутыя надрукаванні, прычым існуюць маркі з перавернутым надрукаваннем і подпісам чыноўніка. Усе маркі былі з зубчыкамі 11½ , але сустракаліся і без зубчыкаў, і без подпісу.

18 кастрычніка 1916 г. маркі вартасці 25 пфенігаў былі наддрукаваныя новым наміналам — 1 марка — у адзін радок і дзвюма грубымі лініямі, што перакрэслівалі стары намінал. Гэтыя наддрукаванні ставіліся як на марках з подпісам, гэтак і на марках без подпісу. Прычым толькі на марках з подпісам існуюць перавернутыя наддрукаванні, затое ў другім выпуску няма марак без зубчыкаў.

1-ы выпуск 25-пфенігавых марак меў тыраж 4600 экзэмпляраў, а другі (1 марка) — 1470. Стандартныя каталогі Скота[1130], Мінкуса[1131],

---

[1126] **Пауль фон Гіндэнбург** (ням. *Paul Ludwig Hans Anton von Beneckendorff und von Hindenburg*, 1847–1934), нямецкі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, галоўнакамандуючы нямецкай арміяй на Усходнім фронце ў час Першай сусветнай вайны, рэйхспрэзідэнт Нямеччыны ў 1925–1934 гг.

[1127] ***«Nachrichten Vermittlungsstelle»*** (ням.) — «Цэнтр паведамленняў».

[1128] ***«Kleinbogen»*** (ням.) — у філатэліі — малы аркуш.

[1129] ***«Briefermittlung»*** (ням.) — штамп, які паведамляў, што надрукаваныя маркі прызначаліся для лістоў.

[1130] **Каталог «Скот»** (англ. *The Scott Catalogue*) — штогадовы англамоўны каталог паштовых марак, што выдаецца ў Нью-Ёрку ад 1840 г. выдавецтвам *«Scott Publishing Company»*.

[1131] **Каталог «Мінкус»** (англ. *The Minkus catalogue*) — амерыканскі каталог паштовых марак, што выдаваўся фірмай *«Krause Publications»* у 1974–2004 гг.

Гібанса[1132] ды Івера[1133] аб гэтых марках не згадваюць таму, што лічаць іх за маркі мясцовага значэння, але нямецкі каталог Міхель[1134] дае пра іх падрабязную інфармацыю не толькі ў спецыяльным каталогу Нямеччыны, але і ў стандартным. Швейцарскі каталог на нямецкай мове — Цумштайн[1135] — успамінае толькі беластоцкія маркі, 10-й арміі, гродзенскую нямецкую пошту, але саміх марак не пералічае.

***10-я армія***

У лютым 1918 г., пасля таго, як Троцкі[1136] ў Берасці абвясціў немцам, што міру ён не падпіша, але і ваяваць не будзе, немцы хутка і без ніякага супраціву занялі ўсю Беларусь. Генерал Фалькенгайн[1137], камандуючы 10-й арміяй, кіраваў усёй тэрыторыяй Беларусі з занятымі ў 1915 г. Баранавічамі і Наваградкам уключна, а штаб арміі знаходзіўся ў Менску.

1 ліпеня 1918 г. генерал фон Фалькенгайн загадаў зарганізаваць спецыяльную кур'ерскую пошту для жыхарства. Пошта складалася з 28 паштовых кантораў. Для перасылкі быў вызначаны наступны тарыф: паштоўка ў межах Беларусі для адпраўніка каштавала 30 пфен., лісты — 60 пфен., адрасат жа даплачваў за паштоўку 20 пфен., а за ліст — 40 пфен.

Замежнай карэспандэнцыяй уважаліся лісты і паштоўкі, што высылаліся ў неакупаваную немцамі Расію і акупаваную Прыбалтыку і Украіну. Замежная карэспандэнцыя дадаткова аплочвалася нямецкімі маркамі (з краявідам Нямеччыны і без наддрукавання), цана якіх была або 10, або 20 пфен.

Старшыня таварыства *«Россика»* Курт Адлер апісаў у часопісе таварыства (№ 73, 1967) два лісты і адну паштоўку з Баранавічаў і Пагосту за межы Беларусі з нямецкімі маркамі, пагашанымі расійскімі паштовымі пячаткамі.

---

[1132] **Каталог «Стэнлі Гібанс»** (англ. *Stanley Gibbons*) — універсальны англамоўны каталог паштовых марак, што выдаецца ад 1865 г. у Лондане фірмай *«Stanley Gibbons Limited»*.

[1133] **Каталог «Івер і Тэлье»** (фр. *Le catalogue Yvert et Tellier*) — франкамоўны каталог паштовых марак, што выдаецца ад 1895 г. у Парыжы аднайменнай фірмай.

[1134] **Каталог «Міхель»** (ням. *MICHEL-Briefmarken-Katalog*) — найбуйнейшы нямецкамоўны каталог паштовых марак, што выдаецца ад 1910 г.

[1135] **Каталог «Цумштайн»** (ням. *Zumstein*) — каталог паштовых марак Еўропы, што выдаецца на нямецкай і французскай мовах ад 1909 г. у Берне.

[1136] **Леў Троцкі** (рус. *Лев Троцкий*, сапр. *Бронштейн*, 1879–1940), дзеяч міжнароднага камуністычнага рэвалюцыйнага руху, першы савецкі народны камісар замежных спраў.

[1137] **Эрых Фалькенгайн** (ням. *Erich Georg Anton von Falkenhayn*, 1861–1922), нямецкі генерал, які ў 1918–1919 гг. камандаваў 10-й нямецкай арміяй.

Лісты цывільнага жыхарства аплачваліся адмысловымі *«кантрольнымі знакамі»*, якія замянялі маркі.

Першы выпуск быў надрукаваны ў жніўні 1918 г. і складаўся з двух наміналаў: 30 пфен. і 60 пфен., надрукаваных з стэрэатыпаў вайсковай друкарні 10-й арміі, на белай шчыльнай паперы, на рускай мове, старым правапісам, у два радкі: *«Контрольный знак / цена 30 пф.»* або *«60 пф.»*. Уздоўж паперы — бясколерны арнамент 14 мм шырынёй, з зубчыкамі 11½. Наклад кожнага наміналу — 50 000 экзэмпляраў.

Гэтага ж году быў зроблены і другі выпуск для кантролю аплаты за дастаўку. Тут былі выкарыстаныя маркі 1-га выпуску і на іх былі пастаўлены ручное наддрукаванне чырвона-фіялетавага колеру ў тры радкі *«За доставку (40 пф.) уплачено»* і дзве грубыя лініі, што перакрэслівалі стары тэкст.

У звароце былі толькі *«контрольные знаки»* 40 пфен. на 30 пфен., у той час як *«контрольные знаки»* 40 пфен. на 60 пфен. не былі выкарыстаныя.

Як паказана ў спецыялізаваным каталогу Міхеля, пасля падпісання Берасцейскага міру ў сакавіку 1918 г., на працягу кастрычніка — снежня, некаторыя населеныя пункты і паштовыя канторы былі аддадзеныя бальшавікам.

Каталог Міхеля не згадвае, але ў вышэй успомненым часопісе *«Россика»* ёсць нататка рэдактара А. Кроніна да артыкула Курта Адлера пра маркі-грошы *«10-га армейскага корпуса»*. У сваёй калекцыі Кронін мае наступныя маркі-грошы:

1 пфен. — у фіялетавым колеры, 10 пфен. — у чырвоным, 20 пфен. — у сінім, 50 пфен. — у карычневым і 1 марка — у зялёным.

А. Кронін не цвердзіць, што гэтыя маркі-грошы былі выпушчаныя ў 1918 г. і хадзілі на Беларусі, аднак уважае гэта за зусім магчымае.

Апрача *«контрольных знаков»* 10-я армія выпусціла для патрэбаў паштовае абслугі паштоўкі без марак, з рускім тэкстам у старой арфаграфіі ў 7 радкоў, якія займалі вонкавы бок паштоўкі, пакідаючы месца для паведамлення на адвароце.

### *Менск-1918*

Яшчэ 18 снежня 1917 г. Усебеларускі кангрэс заявіў пра непрызнанне савецкай улады, але быў разагнаны савецкімі чырвонагвардзейцамі, і толькі 19 лютага 1918 г., пасля таго, як Менск пакінула савецкая ўлада, быў арганізаваны беларускі ўрад. Урад гэты, у ліку розных мерапрыемстваў, пастанавіў выпусціць паштовыя маркі, пра якія сказана ў каталогу Міхеля (1953 г.): *«Беларусь. 1918. Розныя малюнкі. Літаграфія Менскае Дзяржаўнае друкарні, зуб. ½, 2 Р цёмна-цынамонавыя, Скарына, 3 Р сіняя і чырвоная — Св. Юрыя, 5 Р сіня-зялёная і охра — араты»*.

У Міхеля маркі гэтыя маюць арабскія парадкавыя нумары, гэта значыць, што маркі былі выпушчаныя *«прызнанаю ўладай»*.

Іншыя стандартныя каталогі — Мінкус, Скот, Івер, Гібанс — пра маркі гэтыя наогул не згадваюць, а Цумштэйн, змясціўшы гэтую серыю сярод марак Расіі часоў Грамадзянскай вайны, заве яе *Spekulationserzeugmisse*.

Няма прычыны не верыць інфармацыі каталога Міхеля, што серыя марак была надрукаваная літаграфскім спосабам у 1918 г. у Менскай дзяржаўнай друкарні, але трэба адзначыць, што апрача марак з зубчыкамі 11½ існуюць і маркі без зубчыкаў, а ў калекцыі Ю. Марковіча ёсць яшчэ і пробны адбітак маркі на 5 рублёў, адбіты на шчытнай шурпатай паперы без зубчыкаў. Да апісання ў каталогу Міхеля трэба дадаць: марка на 2 рублі з напісам унізе лацінкаю *«Францішак Скарына з Полацка, 1517–1917»* і на 3 рублі — малюнак не св. Юрыя, а Пагоні.

Урад БНР, які надрукаваў гэтую серыю марак, у сувязі з заняццем 7 снежня 1918 г. Менску Чырвонай арміяй выехаў у Коўна і вывез з сабою ўвесь тыраж марак. Як відаць, маркі былі гатовыя незадоўга перад эвакуацыяй і затым не маглі быць выкарыстаныя поштаю.

Першая марка ў першай серыі БНР была прысвечаная доктару Францішку Скарыну, які ў 1517 г. пачаў друкаваць у Празе Чэшскай асобнымі кніжкамі Біблію ў старабеларускай мове. Палітычныя падзеі перашкодзілі святкаваць 400-годдзе гэтае выдатнае падзеі ў 1917 г., але на марках усё ж была адзначаная юбілейная дата *«1517–1917»*. На марцы была рэпрадукаваная гравюра з партрэтам доктара Францішка Скарыны, што была памешчаная ў ягонай Бібліі. Ёсць тры варыянты гэтае гравюры, якія друкаваліся ў розныя гады, але заўсёды з датаю *«1517»*. Апрача партрэтаў Францішка Скарыны, выгравіраваных у 1517, 1518 і 1519 гг., існуе яшчэ і копія гэтага партрэта, зробленая гравёрам А. Флоравым, што была змешчаная ў зборніку Паўла Строева *«Палеографические снимки шрифтов»* (Москва, 1836). У ніжнім ражку копіі пастаўленыя ініцыялы гравёра: *«Гр. Ал. Фл.»*. Копія А. Флорава наогул адпавядае арыгіналу, толькі яму не ўдалося дакладна скапіяваць выраз твару Францішка Скарыны, і копія выйшла горшай за арыгінал.

Не зважаючы на гэта, копія А. Флорава сталася шырака ведамай, бо была больш даступная, як унікальныя гравюры, надрукаваныя самым Скарынам. І таму, калі на адной з паштовых беларускіх марак было пастаноўлена змясціць партрэт Скарыны, дык трапіла туды копія Флорава, а не арыгінальная гравюра.

Колькі гадоў беларускі ўрад на выгнанні захоўваў у Менску маркі, спадзеючыся, што здолее іх выкарыстаць, але на пачатку 20-х гадоў прадаў увесь тыраж гандлярам марак.

У 1924 г. пра гэта яшчэ не было ведама ані ўпаўнаважанаму па філатэліі і бонаў у СССР, ані ВОФ, ані рэдакцыі часопіса *«Советский*

*филателист»*. У красавіку — ліпені 1924 г. у гэтым часопісе быў апублікаваны «Спіс фальшаў, жульніцкіх і неафіцыйных выпускаў» па-руску, па-англійску, па-французску і па-нямецку, але серыя, надрукаваная ў Менску ў 1918 г., там не згадвалася. Толькі ў лістападзе 1927 г. у часопісе *«Советский филателист — Радио дэ Филинтэрн»*[1138] у артыкуле па-англійску была згаданая першая серыя беларускіх марак, названая фантастычнай, з зазначэннем, што яна была выпушчаная ў 1921 г. Гэткая ж інфармацыя ў тым самым 1927 г. была пададзеная ў каталогу Ф. Г. Чучына[1139] — марак перыяду грамадзянскае вайны ў Расіі. Гэтая няправільная інфармацыя паўтаралася пасля шмат якімі аўтарамі.

***Горадня 1919 г. — беларуска-літоўскі выпуск***

Аб гэтым выпуску ў каталогах пададзеныя супярэчлівыя весткі. Міхель (1953): *«Мясцовы выпуск — паўдзённая Літва (бецірк Горадзен) 1919 г., 4 сакавіка. Расейскія маркі з наддрукаваннем у пяць радкоў па-літоўску і па-руску “Litawen 50 skatiku” без вадзянога знака № I В і 5 В, іншыя наміналы з зубчыкамі 14½. Кожны намінал мае тыраж 500 штук»*.

Цумштайн (Zumstein) (1966): *«Расейская акупацыя: паўдзённая Літва (Горадзен). Адмысловы выпуск. Паштовыя маркі 1919 г., расейскія маркі з наддрукаваннем у пяць радкоў, чорнага колеру № 3 і чырвонага — № 5»*.

Іверт Тэлер (Ivert et Telier) (1968): *«Паўдзённая Літва, 100 скатыкаў — 1 марка, 1919 — Горадзенскі выпуск. Расейскія маркі 1909–18 гг. з наддрукаваннем на дзвюх мовах (рускай і літоўскай)»*.

Трэба адзначыць, што ў бальшыні каталогаў зусім памылкова пададзена, быццам маркі былі выпушчаныя *«ў акупаванай расейцамі»* паўдзённай Літве. Самое паняцце *«Літва»* ў дачыненні да Горадні (па-літоўску — Гардынас (*Gardinas*)) вельмі ўмоўнае, і куды лепш было б тут ужыць назву *«літоўскае кіраўніцтва»*.

Тэкст наддрукаванняў, безумоўна, літоўскі і беларускі, а не рускі, як памылкова паказана ў шэрагу каталогаў.

Як гэта ні дзіўна, але і малюнкі наддрукаванняў правільныя толькі ў каталогах «Гібанс» і «Мінкус», рэшта ж — у іншых каталогах — няправільная.

Дзякуючы паведамленню старшыні Нью-Ёркскага літоўскага таварыства і рэдактара «Бюлетэня» гэтага таварыства Уолтэра Нортана

---

[1138] **«*Советский филателист*»** — савецкі філатэлістычны часопіс, што выдаваўся ў Маскве ў 1924–1932 гг. ***«Radio de Filintern»***— адзін з раздзелаў згаданага часопіса, тэксты тут публікаваліся на розных мовах.

[1139] **Фёдар Чучын** (рус. *Фёдор Чучин*, 1883–1942), партыйны і савецкі дзеяч, адзін з арганізатараў савецкай філатэліі, рэдактар часопіса *«Советский филателист»*.

я меў магчымасць упершыню напісаць артыкул пра цыкл беларуска-літоўскіх марак, што былі выпушчаныя ў Горадні 4 сакавіка 1919 г. і змясціць яго ў газеце «Новое Русское Слово» (25.02 і 04.03.73).

Уолтэр Нортан цвердзіць, што ў Горадні 30 снежня 1918 г. літоўскага войска не было. Там было войска нямецкае і невялікія беларускія аддзелы, якія пасля прыходу палякаў у лютым 1919 г. вымушаныя былі пакінуць горад.

Уолтэр Нортан, спецыяліст у справе выпуску беларуска-літоўскіх марак, да якога я звярнуўся з шэрагам пытанняў, паведаміў, што названае ў каталогу Скота падвойнае наддрукаванне на трохкапейкавай марцы — зусім не фантазія, а што ў ягонай калекцыі ёсць адзін сапраўдны экзэмпляр гэтае рэдкае маркі. Я вельмі ўдзячны спадару Нортану за інфармацыю аб марках для гэтага артыкула.

Уолтэр Нортан цвердзіць, што 30 снежня 1918 г. у Горадні была адчыненая для жыхарства літоўская пошта. Загадчыкам пошты быў Арцем'еў, і ў яго былі літоўскія маркі віленскага выдання ў 10, 15, 20 і 30 скатыкаў з гумовай пячаткай у адзін радок — *«Гродно»* (лацінкаю). На пяты дзень для гашэння марак была атрыманая круглая гумовая пячатка з рускім надпісам па акружыне *«Гродненская почтово-телеграфн.»*, а пасярэдзіне — дзвюма папярэчнымі лініямі, вялікімі літарамі *«КАНТОРА»*.

Гэтая пячатка ўжывалася ад 3 студзеня 1919 г. аж да прыходу польскага войска, і гэтай пячаткай фіялетавага колеру гасіліся беларуска-літоўскія маркі, выпушчаныя 4 сакавіка 1919 г.

Беларуска-літоўскія маркі былі выпушчаныя не мясцовай паштовай канторай. Кантора не мела паштовых марак у 50 скатыкаў, якія лёгка можна было б замяніць камбінацыяй 2 і 3 літоўскіх марак, што былі на пошце, і таму прыватныя асобы, скарыстаўшы тое, што на пошце няма патрэбнага наміналу, з дазволу мясцовых паштовых уладаў выпусцілі беларуска-літоўскія маркі для спекуляцыі на сваю карысць. Магчыма, што арганізатары выпуску беларуска-літоўскіх марак — пастар з Латвіі Пламш і мясцовы жыхар Ісак Мюлер — падзялілі свой заробак з загадчыкам горадзенскае пошты Арцем'евым, але тым часам нічога пэўнага сказаць нельга. Вядома толькі, што 90 % усіх марак (каля 4000) было налеплена на гэткую ж колькасць капэртаў па адной марцы, пагашаныя паштовай пячаткай ды адпраўленыя адрасатам. Асаблівасць гэтых марак у тым, што ўсе капэрты з імі могуць уважацца за *«капэрты першага дня»*, а маркі гэтыя былі ў звароце ўсяго адзін дзень. Усе лісты з беларуска-літоўскімі маркамі былі пасланыя вялікай берлінскай марачнай фірме — філіі Косак і Ко, адрас якой быў надрукаваны на капэртах.

Магчыма, што літоўскае паштовае міністэрства было незадаволенае выпускам у Горадні беларуска-літоўскіх марак. Магчыма таксама, што Арцем'еў тлумачыў гэта нястачай патрэбнага наміналу ў

50 скатыкаў у горадзенскай канторы, але вядома, што неўзабаве пасля гэтага на пошце ў Горадні з’явіліся паштовыя маркі ўсіх наміналаў да 60 скатыкаў улучна (№ 1–22 у Міхеля).

Вышэй апісаная круглая пячатка Горадзенскае паштова-тэлеграфнае канторы не мела даты. Звычайная пошта адсылалася без даты, а на заказных лістах дата пісалася ад рукі.

Існуе шмат фальшывых наддрукаванняў. Некаторыя з іх лёгка можна пазнаць з дапушчаных памылак. Гэтак, на некаторых фальшывых марках заміж літары «Ш» фігуруе перавернутая лацінская літара «М». Больш небяспечная другая фальшывая марка, на якой заміж літары «Э» пастаўленая літара «Е». Небяспека для калекцыянераў якраз у тым, што ў каталогах Міхеля і Івера заміж сапраўднага тэксту пададзены гэты фальшывы варыянт. Правільную рэпрадукцыю наддрукавання і праўдзівую інфармацыю дае толькі адзін амерыканскі каталог — Мінкус. У ангійскім каталогу Гібсана дадзеная правільная рэпрадукцыя, але самі маркі названыя расійскімі і акупацыйнымі, а каталог Скота падае толькі сам тэкст рэпрадукцыі, але на ім няма лініі, што раздзяляла літоўскі тэкст ад беларускага. Маркі там таксама названыя *«расійскімі акупацыйнымі»*, без падання месца выпуску, што яшчэ больш заблытвае і без таго супярэчлівыя весткі пра гэтую серыю марак.

Сапраўдных нягашаных марак можа быць не больш як па 50 перфараваных, а марак без зубчыкаў яшчэ менш. Таму трэба быць вельмі асцярожным, купляючы чыстыя маркі, нават калі яны і маюць спецыяльную пячатку з гарантыяй або спецыяльны атэстат.

Паводле вестак Нортана, існуе вельмі ўдала падробленая круглая фіялетавая пячатка з тэкстам *«Гродненская почтово-телеграфная контора»* і другая з фантастычным і цяжка чытэльным тэкстам па акружыне: зверху *«АРІА»*, а знізу *«АМО»* і пасярэдзіне ў два радкі праз лінію *«І-21»*. Адразу відаць, што гэтая пячатка зробленая чалавекам, які ніколі не бачыў сапраўдных пагашаных беларуска-літоўскіх марак.

Пра гістарычныя падзеі, на фоне якіх адбыўся выпуск серыі беларуска-літоўскіх марак у Горадні, я атрымаў ад беларускага гісторыка Я. Запрудніка шэраг цікавых дакументаў, паводле якіх зусім зразумела, чаму на марках тэксты літоўскі і беларускі ды чаму некаторыя каталогі ўважаюць, што маркі гэтыя выпушчаныя як мясцовыя ў паўдзённай Літве.

З дакументаў відаць, што Горадня знаходзілася пад акупацыяй адыходзячага нямецкага войска і што на патрабаванне маршала Фоша[1140] ад 25 студзеня 1919 г. немцы павінны былі гэтую тэрыторыю аддаць палякам, якія тады ваявалі з бальшавікамі. Дакументы пачатку 1919 г. сведчаць, што Горадзенская губерня з губернямі Сувальскай, Вілен-

[1140] **Фердынанд Фош** (фр. *Ferdinand Foch,* 1851–1929), французскі вайсковы дзеяч часоў Першай сусветнай вайны, ад 1918 г. — маршал Францыі.

Другая складанасць палягала ў памежавым становішчы: у навуковай працы адначасна і з украінскай гісторыяй, і з беларускай. Зразумела, што шэраг аспектаў закранаў мінулае абедзвюх краінаў, і тут эміграцыйныя гісторыкі асаблівай талерантнасці не выяўлялі. Янка Станкевіч, Часлаў Будзька, Вацлаў Пануцэвіч наўпрост вінавацілі Акіншэвіча ў русафільстве, украінафільстве і ледзь не здрадзе беларускай нацыянальнай ідэі.

Гісторык гэта бачыў і няблага ўсведамляў, а яшчэ баяўся стацца прычынаю непрыемнасцяў для дырэктара БІНіМа: *«Я памятаю пра Вашую прапазыцыю прачытаць даклад. Можа змагу падрыхтаваць на канец траўня. Але пакуль што гэта для мяне няясна. Хацелася-б сказаць нешта пра “ролю беларускага народу ў гісторыі Ўсходняе Эўропы”, але — думаю, што ў мяне такі даклад мог-бы выйсьці контравэрсыйным. А калі маеш справу з аўдыторыяй, якая ўкладаецца ў становчую ідэалёгію аднэй партыі (ці — аднаго кірунку), дык страшна стае паставіць спрэчныя пытаньні. Страшна не за сябе і не за рэакцыю слухачоў, а за тое, што сумлеў у правільнасьці той ці іншай думкі можа некага прымусіць сумлявацца і ў іншых. А гэтага ніхто — а я найлепш — ня хоча. Можа возьму нешта іншае…»*[1182].

Ды што навука?! І ў больш простых формах супрацоўніцтва Акіншэвіч, далёкі ад дыпламатычных тонкасцяў паміж featurizedрознымі групоўкамі, аказваўся без віны вінаватым: *«Ці Вы бачылі рэцэнзыю на “Запісы” у № 8 “Украіны” І. Баршчака*[1183]*? Вельмі паскудная рэцэнзыя. Мне гэта справа асабліва непрыемная, дзеля таго, што я быў “ініцыятарам” гэтае рэцэнзыі: угаворваў Вас надаслаць “Запісы” да “Украіны” і прасіў І. Баршчака падтрымаць новае выданьне (што ён і абяцаў зрабіць).*

*Цяжка сказаць, чаму ён напісаў як раз супроць “Запісаў”, якія ўсё ж ня менш “навуковы”, чымся ягоны журнал. Ня выключана, што ён мусіў гэта зрабіць з прымусу. Справа ў тым, што “Украіна” выдаецца на Ватыканскія грошы. А гэтыя колы маглі думаць, што “Запісы” (з маім удзелам) нешта канкурэнтнае Станкевічавай “Ведзе”*[1184] *і ўжо дзеля гэтага супраць іх трэба змагацца. Як бы там ні было — справа гэта непрыемная»*[1185].

Магчыма, гэта няпэўнае становішча Акіншэвіча — *паміж* — і змусіла яго змяніць характар і тэмы сваіх працаў — ад архіўна-даследніцкіх да гісторыка-бібліяграфічных ці артыкулаў, што падагульнялі б паасобныя гістарычныя працэсы. Да тэмы беларускага казацтва ён апошні раз вярнуўся яшчэ ў лагерах *DP*, выдрукаваўшы артыкул у часопісе «Сакавік» у 1948 г.[1186].

---

[1182] Ліст Л. Акіншэвіча да В. Тумаша ад 20.04.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1183] **Ілько Баршчак** (укр. *Ілько Борщак*, 1892–1957), украінскі эміграцыйны гісторык.

[1184] Маецца на ўвазе часопіс «Веда» (*Veda*) Янкі Станкевіча.

[1185] Ліст Л. Акіншэвіча да В. Тумаша ад 05.08.1954. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1186] Гл.: Акіншэвіч, Л. Крывіцкае казацтва ў XVII ст. // Сакавік. № 1 (2). 1948. С. 43–47.

Дарэчы, у гэтым жа «Сакавіку» ён пад псеўданімам Л. Вароніч змясціў урывак з аповесці «Прakляты стэп» — пра ўцёкі праз бязводны стэп сасланага на прымусовыя работы ў Казахстан[1187].

У ЗША ў 1952 г. у «Запісах» з'явілася ягоная праца «Парламент беларускае зямлі»[1188]. Гэта была спроба вызначыць асноўныя вехі развіцця і найбольш істотныя структуры парламенцкай сістэмы Беларусі. Матэрыял падаваўся на гістарычным фоне і ў параўнанні з эвалюцыяй парламенцкай двухпалатнай сістэмы ў Англіі, Францыі, Нямеччыне, Польшчы.

У артыкуле былі адзначаныя і адрозненні парламенцкай сістэмы Вялікага Княства Літоўскага ад тагачасных заканадаўчых сістэмаў заходніх краінаў. Галоўная з іх заключалася ў тым, што ў першай было прадстаўніцтва толькі аднаго стану жыхарства, стану шляхецкага, ды што не было прадстаўнікоў местаў. У гэтым і была крыніца слабасці сістэмы, што фатальна адбілася на лёсе дзяржавы.

Праз год у «Запісах» была надрукаваная другая значная праца Льва Акіншэвіча, напісаная пад уплывам канцэпцый Арнольда Тойнбі — менавіта яна выдрукаваная ў анталогіі «Беларуская думка XX стагоддзя»: «Пра "цывілізацыйныя асновы" беларускага гістарычнага працэсу»[1189].

На думку Акіншэвіча, у X–XIII стст. беларускі народ знаходзіўся пад уплывам славяна-візантыйскага (усходняга), а не заходняга культурна-цывілізацыйнага цыкла. У XIV–XVIII стст. на беларускіх землях адбываецца працэс «вестэрнізацыі», культурнага «азаходнення» сацыяльна вышэйшых слаёў народа, калі заходняя культура прышчэпліваецца да культурна іншага пня. Але гэты працэс не ідзе шырэй — у народныя масы, нейкага гарманічнага сінтэзу дзвюх культур не адбываецца. Апошняе, на думку аўтара, і стала падставаю канфліктаў, якія спрычыніліся да паслаблення Вялікага Княства Літоўскага, што ўрэшце *«стала лёгкай здабычай Расеі»*.

Пытанне стварэння нейкай аднолітнай «цывілізацыйнай базы» паўстала перад беларускім народам і ў час нацыянальнага адраджэння ў XIX–XX стст. Але ж гістарычныя падзеі, як і дагэтуль, не далі часу і ўмоваў для вырашэння гэтага гістарычна важнага задання.

Троху ніякавата робіцца ад усведамлення, што артыкул мог бы наогул не быць выдрукаваным:

*«Вельмішаноўны спадар доктар!*

*Абдумаўшы справу з маім артыкулам да часапісу, які Вы рыхтуеце, я бачу, што гэта ня была добрая думка даць Вам мой артыкул пра*

---

[1187] Гл.: Вароніч, Л. Пракляты стэп. З аповесьці // Сакавік. № 1 (2). 1948. С. 12–13.

[1188] Гл.: Акіншэвіч, Л. Парлямэнт беларускай зямлі // Запісы БІНіМ. № 1. Нью Ёрк, 1952. С. 3–17.

[1189] Гл.: Акіншэвіч, Л. Пра «Цывілізацыйныя Асновы» беларускага гістарычнага працэсу // Запісы БІНіМ. № 2 (4). Нью Ёрк, 1953. С. 70–79.

*гістарычныя канцэпцыі Тойнбі*[1190]*. Ён ня падыходзіць да выданьня, якое будзе выхадзіць перш-на-перш* *<u>для беларускае эміграцыі</u>*[1191]*, і якое будзе выдавацца па-беларуску.*

*Цераз гэта я прашу Вас зьвярнуць мне яго (я буду друкаваць гэты артыкул в "Анналах" Укр. Акадэміі Навук, якая просіць мяне аб гэтым).*

*Гэта ня трэба разглядаць як нейкую здраду для журналу нашага Інстытуту. На справе — пытаньне ёсьць толькі ў мэтазгоднасьці.*

*Што гэта ёсьць так, можа Вам давесьці тое, што я пры гэтым надасылаю Вам артыкул пра "беларускі парлямэнт". Гэты апошні далёка больш спадабаецца чытачам журналу, які як-ніяк будзе мець, відавочна, патрыятычны характар»*[1192].

Выглядае, Акіншэвічу было завузка, зацесна — і ў БІНіМе, сябрам якога ён быў ад самага пачатку, ад 1951 г., і наогул сярод беларусаў:

*«Вельміпаважаны спадар доктар!*

*Вельмі ўдзячны за Ваш цікавы ліст. Што да дакладу ў суботу 8.03, дык Вы надта позна мяне спавясьцілі, і я ўжо абяцаў быць на канфэрэнцыі УВАН*[1193]*. Просьба прачытаць Ваш даклад.*

*Наагул-жа на такой шырокай тэме, як тэорыя Тойнбі (назоў рэфэрату "Ўсход Эўропы ў канцэпцыі гісторыі А. Тойнбі») можна "зарабіць», і было-б нядобра звадзіць такі даклад да "Беларускай Хаткі»*[1194] *зь яе вузкім колам прысутных.*

*Прашу мяне зразумець. Калі я пішу "зарабіць», маю на ўвазе — навуковы аўтарытэт БІНІМ. Адылі яго ніхто яшчэ ня ведае. Яму трэба "выхадзіць у людзі». Дзеля гэтага такія шырокія праблемы дакладаў маюць мець пайсьці ў іншай абстаноўцы і з больш шырокім складам прысутных (ня толькі беларусаў).*

*Я пішу пра сваю тэму так, бо маю на гэта права. Пра гэты даклад мяне прасілі і Ўкраінская Акадэмія Навук, і Польскі Інстытут Навукі і Культуры. У абоіх выпадках яго-б праслухалі якісь дзьве соткі слухачоў. Шкада была-б утраціць нагоду і для БІНІМ. Я лічу, што лепш з гэтым дачакаць, наняць пасьлей якуюсь залю (напр., Украінскага Літаратурна-Мастацкага Клюбу), спавесьціць пра яго, паслаць запросіны да ўкраінскіх і можа польскіх установаў, на дакладзе зрабіць зборку грошай. Калі-б пра мой даклад было агалошана, прыкладам, у "Свабодзе"*[1195]*, я-б лічыў на 50–100 украінскіх слу-*

[1190] **Арнольд Тойнбі** (англ. *Arnold Joseph Toynbee,* 1889–1975), брытанскі гісторык, культуролаг, сацыёлаг, адзін са стваральнікаў цывілізацыйнай тэорыі, аўтар дванаццацітамовай працы «Спасціжэнне гісторыі».

[1191] Падкрэслена аўтарам ліста.

[1192] Ліст Л. Акіншэвіча да В. Тумаша ад 04.01.1952. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1193] **УВАН** — Украінская вольная акадэмія навук.

[1194] **«Беларуская хатка»** — кватэра ў Брукліне, дзе збіраліся на імпрэзы і даклады ў 1950-я гг.

[1195] Маецца на ўвазе ўкраінская газета «Свабода».

*хачоў, бо мяне добра ведаюць. Вось як можна было-б “зарабіць” і зарабіць… А так усё амаль упустую»*[1196].

У тым самым 1953 г. была апублікаваная па-англійску праца Акіншэвіча *«The law of Grand Duchy of Lithuania: Background and Bibliography»*[1197], дзе ў кароткай форме (на 53 старонках) падаваўся агляд гісторыі права Вялікага Княства Літоўскага ды літаратуры пра яго, найперш пра тры Статуты ВКЛ.

У гэтай працы Акіншэвіч пісаў, што характэрнай асаблівасцю Княства было тое, што князі неславянскага паходжаньня кіравалі княствам, прынялі мову, якая тады звалася рускай і якая ў ВКЛ базавалася на мове беларускай, беларускіх княстваў, якія, у сваю чаргу, значна раней за ўкраінскія і рускія княствы ўвайшлі ў склад ВКЛ. Звяртаў увагу аўтар і на мову Статутаў, называючы яе беларускай.

У 1955 г. у мюнхенскім «Беларускім зборніку» Леў Акіншэвіч апублікаваў крытычны агляд савецкай літаратуры па гісторыі Беларусі: «Гісторыя Беларусі ў працах савецкае гістарыяграфіі расейскаю моваю»[1198]. У нарысе дадзена крытычная ацэнка савецкіх публікацый больш як 30 аўтараў. Вынікі свайго агляду аўтар падсумаваў у пяці пунктах:

1. Мы не сустракаем у гэтым часе вялікіх манаграфій тыпу даследаванняў такіх прадстаўнікоў *«западно-русской»* расійскай гістарыяграфіі дасавецкага часу, як М. Любаўскі, І. Лапо, М. Уладзімірскі-Буданаў і цэлае плеяды іншых. Найвызначнейшыя працы савецкага перыяду не могуць усё ж параўняцца з глыбокай і шырокай творчасцю папярэднікаў.

2. Большасць працаў — гэта невялікія аглядавыя, апісальныя, а не даследчыя артыкулы, якія закранаюць вузкія пытанні.

3. Савецкая расійская гістарычная навука так і не здолела перамагчы ў сабе поглядаў старой расійскай імперскай ідэі.

4. У сваіх працах 1940–1950-х гг. гістарычная навука, наадварот, выразна стала на шлях расійскага нацыяналізму і імкнецца, дастасоўваючы пад свае тэорыі гістарычныя факты, звесці гісторыю беларускага народа выключна да *«адвечнага імкненьня яго да задзіночаньня з народам расейскім»*.

5. Пазіцыі савецкай навукі 1940–1950-х гг. у поглядах на беларускі народ як частку рускага і ў той жа час у канстатаванні таго, што ён аформіўся ў асобную народную, а пазней і нацыянальную адзінку, несумесныя між сабою і не вытрымліваюць крытыкі.

---

[1196] Ліст да В. Тумаша ад 05.03.1952 г. Рэферат усё ж адбыўся. Гл.: У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва (Зь беларускага жыцьця) // Беларус. № 3 (9). 30 травеня 1952. С. 4; Я. Я. Гісторык Тойнбі аб Усходняй Эўропе // Бацькаўшчына. № 22 (101). 1 чырвеня 1952. С. 4.

[1197] Гл.: Okinshevych, Leo. The law of the Grand Duchy of Lithuania: Background and Bibliography. New York: Research Program on the U.S.S.R., 1953.

[1198] Вароніч, Л. Гісторыя Беларусі ў працах савецкай гістарыяграфіі расейскаю моваю // Беларускі зборнік. № 3. Мюнхэн, 1955. С. 131–164

Агульная выснова аўтара палягала ў тым, што ў 1955 г. ужо няма ніякай істотнай розніцы паміж беларускай і расійскай савецкімі гістарычнымі навукамі.

Вясною 1954 г. для Акіншэвіча пачаўся новы этап, які ён і абазначыў у сваім афіцыйным, што абмінаў шматлікія дэталі жыцця даваеннага, *«Curriculum Vitae»*[1199]:

*«Окіншэвіч, Леў А. Нарадзіўся 25 студзеня 1898 г. у Пецярбургу, Расія, у сям'і юрыста. Мая сям'я пасля некалькіх гадоў у Пецярбурзе пераехала ў Кіеў, дзе я скончыў сярэднюю школу (1916) і юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэту (1921). Два гады (1916–1917) я быў у расійскай арміі.*

*Ад 1921 да 1933 я быў сябрам Камісіі па вывучэнні гісторыі заходнерускага і ўкраінскага права ў Кіеўскай акадэміі навук.*

*У 1933 г. я быў прызначаны прафесарам рускай гісторыі ў Нежынскім інстытуце. Гады 1934, 1935, 1936 працаваў юрыстам на прамысловых будоўлях у Казахстане. Ад 1937 да 1941 працаваў юрысконсультам для шэрагу дзяржаўных бізнэсустановаў у Смаленску (Расія).*

*У 1941–1942 гг. я працаваў у Кіеўскім даследчыцкім інстытуце.*

*У 1943 г. я працаваў у Публічнай бібліятэцы гораду Станіслаў (Заходняя Украіна). У 1941*[1200]*, пасля некалькіх месяцаў у лагеры Heidebrelk у Obesilesia, я атрымаў дазвол выехаць у Чэхаславакію (паколькі мая нябожчыца маці паходзіла адтуль*[1201]*). Украінскі вольны ўніверсітэт у Празе узяў мяне працаваць на факультэт права. З гэтым Універсітэтам я пераехаў у Мюнхен, дзе і працаваў у 1945–1949 гг. як прафесар і дэкан факультэту права.*

*У чэрвені 1949 г. я прыехаў у ЗША згодна Акту DP. Першыя два гады працаваў рабочым у дзвюх шпіталях Нью-Ёрку. У 1951 атрымаў стыпендыю ад Праграмы па даследванню СССР Фундацыі Форда, дзе працаваў да 1 сакавіка 1954 г. Ад 1 сакавіка 1954 працую ў Бібліятэцы Кангрэсу.*

*Амаль усё маё жыццё я быў звязаны з працаю ў бібліятэках. Працаваў як даследчык у розных бібліятэках і быў бібліятэкарам у бібліятэцы Станіслава ў 1943 г.*

*Чытаю, разумею і размаўляю па-англійску, руску, украінску, беларуску, нямецку, польску і чэску; магу чытаць па-французску і на латыні».*

Акіншэвіч пачаў працаваць у аддзеле каталагізацыі кірылічных выданняў і сышоў на пенсію праз пятнаццаць гадоў з пасады старшага каталагізатара і перакладчыка Кірылічнага бібліяграфічнага праекта.

За час працы ў Бібліятэцы Кангрэса ён бадай не падтрымліваў сувязі з БІНіМам, ягонае імя ці, хутчэй, псеўданімы амаль знікаюць са старонак беларускага друку, хоць навуковай, бібліяграфічнай працы Акіншэвіч не

---

[1199] Дакумент быў напісаны на англійскай мове.

[1200] Відавочная абдрукоўка. Мусіць быць 1944 г.

[1201] Маці Льва Акіншэвіча, Лізавета Ярыш, паходзіла з чэшска-ўкраінскай сям'і.

пакідаў: падрыхтаваў і выдаў шэраг важных для амерыканцаў працаў[1202], займаўся і гісторыяй Украіны[1203].

А за некалькі гадоў да смерці ён даслаў у БІНіМ сваю бібліяграфію, адбіткі асобных артыкулаў і атрымаў ад Вітаўта Тумаша прапанову зрабіць адмысловую публікацыю.

У адказ Акіншэвіч пісаў:

*«Студзень 31, 1976*[1204].

*Вельмі Паважаны й дарагі Спадару Доктару!*

*Вельмі ўдзячны за Ваш мілы й дружны ліст ад 30 студзеня. Дужа ўдзячны за прапазыцыю надрукаваць сьпісак маіх друкаваных трудоў з нагоды 50-лецьця майго першага артыкулу ў беларускай мове.*

*Не думаю, каб гэта трэба-б было рабіць. Я надаслаў гэты сьпіс для архіву дзеля магчымых даведак і інфармацыі. Калі-б Вы ўсё-такі хацелі яго даць, лепш надрукаваць яго як дадатак да нэкралёгу.*

*Але наагул зроблена дзеля беларускай навукі так нямнога, што ня варта і гэтага рабіць.*

*Хіба толькі, каб паказаць, што нямногія адарваныя ад Беларусі, ці нават народжаныя ад беларускіх бацькоў (у мяне толькі ад беларускага бацькі) па-за Беларусьсю (у мяне — Пецярбург) усёж-такі не “адбеглі і не адракліся” ад сваёй радзімы. І нешта намагаліся зрабіць дзеля беларускае справы.*

*Я хацеў напісаць кароткую біяграфічную зацемку для архіву, але ня знаю, ці змагу зрабіць гэта. Я ўжо 7 ці 8 гадоў хворы на Паркінсонаву хваробу і цяпер яна перайшла ў больш цяжкую форму. Я не магу ні пісаць, ні друкаваць правай рукой, а левая стала такой слабай, што кожную літару даводзіцца адбіваць некалькі разоў. Гэта цяжкая й пакутлівая праца.*

*Паколькі мая жонка таксама хворая (лейкемія), мы думаем, што час нам падумаць пра “nursing home”* [1205]. *На жаль, большасьць із ніх недаступная нам па сваёй цане.*

---

[1202] Latin America in Soviet writings, 1945–1958: a Bibliography / Compiled by Leo O. Okinshevich and Cecilia J. Gorokhoff. Edited by Nathan A. Haverstock. Washington, D.C. Slavic and Central European Division and the Hispanic Foundation, Reference Dept., Library of Congress, 1959; Latin America in Soviet writings: a Bibliography / Compiled by Leo Okinshevich. Edited by Robert G. Carlton. Baltimore, Published for the Library of Congress by the Johns Hopkins Press [1966]; United States history & Historiography in Postwar Soviet Writings 1945–1970 / Compiled by Leo D. Okinshevich. Santa Barbara, Calif.: Clio Books, 1976.

[1203] Okinshevych, L. Ukrainian society and government, 1648–1781. Munich: Ukrainian Free University, 1978.

[1204] Ліст адбіты на друкарцы. У іншым сваім лісце да В. Тумаша (ад 24.02.1976) Акіншэвіч піша: *«Прашу прабачыць мяне, што буду пісаць “правапісам”, устаноўленым Кангрэсовай бібліотэкай для трансьлітэрацыі беларускіх выданьняў. Беларускай лацінкай мне ніколі не давадзілась пісаць, і я раблю памылкі»*.

[1205] ***Nursing home*** (англ.) — дом для старых.

*Калі я думаю пра nursing home, ці яшчэ раней пра збавеньне ад хваробы й пераходу ў лепшы сьвіт, я думаю, што я мушу зрабіць са сваёй бібліятэкай. Я хацеў-бы спытаць, ці хацела-б і ці магла-б бібліятэка імя Крычэўскага забраць мае кнігі, калі яны ўжо ня будуць мне патрэбныя.*

*На жаль, я ня ведаю іхнага адрасу.*

*Прашу прабачыць за хаатычны від майго ліста. Мая хвароба робіць мяне мінімальна працаздольным.*

*З прывітаньнем і пашанай Л. Акіншэвіч*».

7 лістапада 1980 г. Леў Акіншэвіч памёр, а 11-га быў пахаваны на ўкраінскім праваслаўным могільніку ў Нью-Джэрсі. Адпявалі яго святар украінскай парафіі ў Ірвінгтоне а. Сяргей Напрэль і беларускі святар а. Ян Бруцкі, будучы мітрапаліт Ізяслаў.

На пахаванні сябра Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі доктар Яраслаў Падох, укладальнік бібліяграфіі працаў Акіншэвіча, сказаў, што, згодна з ягоным падлікам, з 101 працы гісторыка — 27 былі надрукаваныя на беларускай мове, а наогул 36 з іх датычыліся беларускай гісторыі[1206].

*Леў Акіншэвіч*

## Да праблемаў беларускае гісторыі[1207]

Людзі родзяцца роўнымі. Узьнятая на прынцыповую вышыню перадавымі імкненьнямі *«прасьветнага»* руху XVIII стагодзьдзя, узгадаваная змаганьнямі перадавых колаў эўрапэйскае і паўночнаамэрыканскае грамады ў канцы XVIII і на пачатку XIX веку, гэтая праўда ў наш час уваходзіць станоўкай асновай сьветаразуменьня сучаснага культурнага сьвету. У сваёй існасьці гэтая формула ў першую чаргу мае справу з падзелам людзкасьці ў межах кожнае нацыянальнае грамады на вышэйшыя *«шляхотныя»* і на ніжэйшыя *«подлыя»* ці *«нізкія»* ўгрупаваньні. У свой час людзкія грамадзкія і дзяржаўныя арганізацыі ўсе былі падзеленыя і парэзаныя на асобныя катэгорыі, адменныя адна ад другое сваім праўным (у першую чаргу), а далей маёмасным, асьветным, бытавым і г. д. палажэньнем. Адменныя звычаі дзялілі гэтыя грамадзкія групоўкі адну ад другой; адменнай была вопратка і нават мова.

У гэты час станавых ці (на ўсходзе) каставых падзелаў унутры кожнае грамады і дзяржавы формула людзкое роўнасьці вызначала сабою вялікі крок наперад і кірунак глыбока пазытыўнага руху.

Гэты рух і гэты кірунак, для нас, ацэньваючых яго з воддалі мінулых вякоў, выяўляецца ажыцьцяўленьнем хрысьціянскае маралі і рэлігіі,

---

1206 Свабода. № 245. 21.11.1980.

1207 Тэкст быў апублікаваны як: Л. А-ч. Да праблемаў беларускае гісторыі // Божым Шляхам. 1950. № 4–5. С. 4–6.

якая ў вучэньні Хрыста не рабіла розьніцы між знатным і нізкім, багатым і бедным, адукаваным і няпісьменным. Значыць формула людзкое роўнасьці ў сваёй ідэйнай аснове дапамагала людзтву ступіць на чыстыя і сьвятыя шляхі запаведныя ў Эвангельскім вучэньні.

Людзі родзяцца роўнымі. Гэтая формула можа быць узята і ў нашай плашчыне: у плашчыне роўнасьці ці няроўнасьці між сабою асобных плямёнаў, народаў, нацыянальнасьцяў. Мы ведаем спробы адмоўнага адказу на гэтую формулу. Узьнесеныя на вышыню прынцыповага пастуляты ў тэарэтычных і арганізацыйна-тактычных пазыцыях (і большасьці іншых падобных) нацыянальна-сацыялістычнага руху, гэтыя пастуляты няроўнасьці павялі за сабою мільёны людзей, каб у выніку нечуванай паразкі пераканаць людзтва ў іх арганічнай няпраўдзе.

Людзі родзяцца роўнымі паміж сабою і тады, калі яны падзеленыя на асобныя нацыянальныя грамады. Гэтая формула і ў гэтым варыяньце ў поўнай меры асноўваецца на вялікіх прынцыпах і ідэях хрысьціянскае веры, асноўнік якое ня ведаў і не казаў рабіць розьніцы *«паміж эльлінам і іудэям»*.

Калі так, дык ці можна адсюль вывесьці вынік поўнай аднолькавасьці паасобных між сабою і — у свой чарод — асобных народаў і нацыяў паміжсобку? Для нас ясна, што гэта ня так. Асабліва гэта ясна, калі йдзе мова аб асобных людзкіх істотах, якія, як мы ведаем, адрозьніваюцца між сабою яснымі рысамі індывідуальных адмен. Але можна згадзіцца, што ў такой-жа меры гэтыя адмены наяўныя і ў дачыненьні да асобных народных грамадаў. Іх дзеляць між сабою ня толькі адменныя мовы, звычаі, вопратка, сьпеў і пад. Іх падзяляюць ня толькі рэлігійныя вераваньні; ня толькі розны стан адукацыі і асьветы, праўных паглядаў і палітычнай арганізацыі, але ў якойсьці меры і ўвесь характар усяго агульнага тыпу кожнага народу.

Наяўнасьць гэтых розьніц — бясспрэчная. Яны існуюць і ў нашы часы, хоць безумоўна цяпер выяўляецца тэндэнцыя і магчымасьць зьменшаньня гэтых розьніц і нівэляцыі асаблівасьцей кожнага народу ў выніку ўзьдзеяньня на іх аднолькавых культурна-асьветных фактараў.

Наяўнасьць гэтых адменных рысаў прыводзіць да таго, што гістарычнае разьвіцьцё кожнага асобнага народу ішло ў пэўнай меры асобнымі і сваесаблівымі шляхамі.

Пры гэтым, калі гаворым пра сваесаблівасьці ў гістарычным шляху кожнае нацыі, ставім гэтае правіла ў пэўныя межы. Аднак ёсьць пэўныя асноўныя кірункі разьвіцьця і прагрэсу цэлых комплексаў людзкіх саюзаў. Гэтыя комплексы прыводзілі да супольных рысаў у гістарычным разьвіцьці эўрапэйскае групы народаў, азіяцкае, амэрыканскае і г. д. Аднак супольныя рысы давалі толькі зусім агульныя падобнасьці, не замінаючы гістарычнаму разьвіцьцю кожнага асобнага чалавека

эўрапэйскае, азіяцкае і ўсякае іншае грамады мець тысячы асобных розьніц у сваім канкрэтным выяўленьні асноўных і супольных рысаў агульнага паступовага руху.

Якраз так паўстае асобная гісторыя кожнае нацыі і якраз так яна мае дасьледавацца, вывучацца і выкладацца. Увага да асобных і своесаблівых адменаў і рысаў чыста нацыянальнага характару робіць такое вывучэньне, дасьледаваньне і выкладаньне адзіна правільным і глыбока цікавым ня толькі для сяброў данае нацыянальнае грамады, але і для іншых, якія ў свой чарод могуць лепш пазнаць і лепш ацаніць гістарычны шлях свайго народу, параўняўшы яго з гістарычным разьвіцьцём іншых народаў. Разуменьне супольнасьці агульных рысаў і кірункаў разьвіцьця для цэлых народных і міжнародных комплексаў дае магчымасьць не зблудзіць у падкрэсьліваньні асобных рысаў, але праўдзіва і адпаведна зразумець і ацаніць гэтыя рысы, паставіўшы кожную зь іх на сваё, адпаведнае мейсца.

І яшчэ — і гэта менавіта важна — такое комплекснае вывучэньне сувязі і ўзаемнага зьвязку гістарычнага разьвіцьця належачых да супольных комплексаў народаў, даюць магчымасьць намеціць асноўны шлях і кірунак іх будучага стану. Калі кажны зь іх крок па кроку пераходзіў і перамагаў этапы папярэдняга стану, якія этапы мае прайсьці ён цяпер, за што мае цяпер змагацца, якія перашкоды стаяць на ягоным шляху і якія пэрспэктывы, ды якія надзеі іх перамагчы? І — нарэшце — куды пойдзе гэты (і іншы) народ далей, для чаго ён змагаецца, для чаго праліваюць кроў людзкія пакаленьні, што маюць яны дасягнуць у будучыні, калі найцяжэйшыя перашкоды будуць пераможаны? І ці гэтая будучыня прыблізіць людзства да тых асноваў сьвятое маралі, якую прапаведаў Божы Сын, прышоўшы на многапакутную і многагрэшную зямлю, каб уратаваць людзства, даўшы кірунак для шляху вызваленьня і ратунку?

Толькі ў сувязі ўсіх гэтых праблемаў можна правільна адказаць і на праблемы гісторыі Беларусі. Трэба пашкадаваць, што да гэтага часу ў гэтай частцы мала што зроблена ў дасьледаваньні беларускае гісторыі. Тымчасам перад правільным разуменьнем гэтае гісторыі і беларускага народу стаіць цэлы шэраг пытаньняў і праблемаў, якія валадарна дамагаюцца адказу і разьвязкі. Сапраўды: ці гісторыя Беларусі ёсьць зусім асобная і непадобная да гістарычных шляхоў іншых народаў, ці наадварот — яна ёсьць часткаю шырэйшага комплексу агульнага гістарычнага разьвіцьця часткі людзкасьці эўрапэйскага комплексу? Калі так, дык якое мейсца займае гісторыя Беларусі ў гэтым разьвіцьці? Калі гэтае мейсца неаднолькавае і этапы іншыя, дык якія ёсьць адмены ў гэтым палажэньні? І якія этапы ёсьць агульнымі ў разьвіцьці беларускае нацыі і іншых эўрапэйскіх нацыяў? Ці быў на Беларусі *«родавы быт»*, *«пляменныя дзяржавы»*, фэадалізм, станавая грамада, мадэрны *«капіталістычны»* лад і г. далей? Якія характэр-

ныя адмены ў беларускім фэадалізьме, станавой грамадзе ды іншых этапах разьвіцьця ў параўнаньні з адпаведнымі этапамі гістарычнага прагрэсу іншых эўрапэйскіх народаў? Ці знала Беларусь уздымы магутных ідэйных рухаў, якія ўскалыхвалі эўрапэйскі сьвет моцнымі ўзбуджаньнямі і як гэтыя рухі тут выяўляліся? Якія, нарэшце, рысы чыста індывідуальна-народных адзнакаў былі характэрнымі для беларускіх гістарычных дзеячоў? Чаму, напрыклад, беларуская гісторыя ня ведае постацяў на ўзор Івана Грознага, ці Людвіка XI, ці, скажам, Багдана Хмяльніцкага[1208]?

І такіх пытаньняў можна было-б паставіць яшчэ нямала. Адказ на іх ёсьць неадменным, калі мы сапраўды хочам пазнаць Беларусь, яе народ, ягоную культуру і гісторыю, ягонае мейсца ў грамадзе эўрапэйскіх (а далей і сусьветных) народных супалак.

Мы верым, што поўны і абаснаваны адказ на гэтыя асноўныя праблемы будзе магутным і незапярэчным довадам прынцыповай роўнасьці беларускага народу з усімі іншымі людзкімі грамадамі сьвету, і — калі так — ягонае права на асобны і вольны шлях у дасягненьні супольных для ўсяго людзтва вялікіх заданьняў.

---

[1208] **Багдан Хмяльніцкі** (укр. *Богдан Хмельницький,* 1595–1657), украінскі гетман, дзяржаўны дзеяч, дыпламат.

# «В ПОРЯДКЕ ИСКЛЮЧЕНИЯ»: АЛЯКСАНДР РУЖАНЦОЎ

Як добра сфармуляваў аўтар найпаўнейшага на сёння жыццяпісу Аляксандра Ружанцова Андрэй Антонаў, *«яе [біяграфіі] рысы даволі тыповыя для жыццяпісу гуманітарыяў, што асноўным вектарам сваёй дзейнасці абіралі ўзвядзенне мастоў паміж народамі. Праца, якую суправаджае недавер, неразуменне з лёгкім адценнем рэўнасці з абодвух бакоў, памножанае на нежаданне пaглядзець на сябе і свой плён збоку, чужымі вачыма»*[1209].

Адным з лічаных беларусаў, з кім кантактаваў Ружанцоў, — наколькі дазваляе сцвярджаць захаваўшаеся мізэрнае ліставанне, — быў Вітаўт Тумаш. З ім чалец «Літоўскай бібліяграфічнай службы» найперш раіўся адносна біяграфій беларускіх дзеячаў для бостанскай «Літоўскай Энцыклапедыі», магчыма, гэта менавіта ён падштурхнуў Ружанцова да перакладу Віцьбічавага нарыса «Францішак Скарына» на літоўскую мову.

Адзін з выпускаў «Літоўскай Бібліяграфічнай Службы», за нумарам 70, выдрукаванае ў 1963 г., называецца «Др. Францыск Скарына ў артыкулах «Lietuvių Enciklopedija» (Boston, Mass., 1953–1962)», дзе ў прадмоўцы за подпісам *«Вольша Ружанец (калісь Алесь Смаленец)»* гаворыцца:

*«Усе ніжэй друкуемыя выпісы ўзятыя зь «Lietuvių Enciklopedija”, якая выдаецца ў Boston’ie, Mass, пачынаючы ад 1953 г.*

*М. А. Алексютовіч у сваёй студыі “Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд” (Менск, 1958) піша: “Цяпер Скарына вядомы далёка за межамі нашай радзімы, а літаратура аб ім у выглядзе асобных дасьледваньняў, шматлікіх артыкулаў і некалькіх мастацкіх твораў прадстаўлена на многіх мовах сьвету: рускай, беларускай, украінскай, польскай, чэскай, нямецкай, французкай, англійскай, літоўскай і інш.»*.

*Мушу падкрэсьліць, што артыкул гісторыка праф. Zenona Ivinskas’a ў XXVIII т. “L. E.” (Boston, 1963)*[1210] *ці-ж ня будзе першы за час ад 1945 г., калі ўзяўся я рэгістраваць выданьні па-літоўску ў Эўропе (у лягерох ДП), а ад 1950 г. у вольным сьвеце. Магчыма, што ў 1925 г. у літоўскай прэсе незалежнай Літвы былі артыкулы аб Скарыне, але-ж у тыя часы літоўскай бібліяграфіяй займаўся с. п. праф. др. Vaclovas Biržiška (1884–1956). Матэрыялы для літоўскай бібліяграфіі 1918–1926 гг. загінулі падчас апошняй вайны, так сама і за час ад 1911 да 1917 гг. Цяпер Кніжная Палата ЛітССР мусіць сабраць увесь гэты матэрыял зь Дзяржаўнай Бібліятэкі ў Коўне і бібліятэкі Ковенскага палітэхнікуму (раней унівэрсытэту Вітаўта Вялікага), пры якой ад 1924 г. быў заложаны Літоўскі Бібліяграфічны Інстытут.*

---

[1209] Антонаў, Андрэй. Аляксандр Ружанцоў: Накіды да біяграфіі // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 16. 2009. С. 512.

[1210] Маецца на ўвазе артыкул: I. Z. Skorina Francišak // Lietuviu enciklopedija. T. 28. Boston, 1963. P. 71–73.

*Матэрыялы аб Скарыне сабраны для паважнага дасьледчыку творчасьці і дзейнасьці першага друкара ВКЛ — др. мэд. Вітаўта Тумаша. Ведаючы добра, што літоўская мова для яго не чужая (калісь вучыўся ў літоўскай пачатковай школе), выпісы падаў па-літоўску, нічога не зьмяняючы ў тэксьце»*.

Да сабранага Андрэем Антонавым пра паэта, вершы якога Максім Гарэцкі акрэсліў як моцныя думкаю і арыгінальныя формаю, бібліёграфа, выдаўца і перакладчыка — у колькіх лістах Аляксандра Ружанца да Вітаўта Тумаша.

## Лісты Аляксандра Ружанцова да Вітаўта Тумаша

*Danville, Ill.* 15.VIII.1953.

Вельмі паважаны й дарагі Спадару Доктару й Віцэстаршыня[1211]!

Шчыра дзякую за прывітаньні ад Вашаці асабіста і ад Інстытуту. Прасіў-бы, калі гэта магчыма, перадаць маю глыбокую падзяку Яго Магніфіцэнцыі Спадару Старшыні Я. Ліманоўскаму і Спадарыні Сакратару Н. Кушэль-Арсеньневай.

На жаль, так нямнога зрабіў я праз усё сваё жыцьцё для Беларускага Народу. І радзіўся ў Вязьме на самай мяжы Беларусі і Маскоўшчыны. Адкуль тамака Ружанцы-Ружанцовы павяліся, ня мог дазнацца, пакуль быў яшчэ малоды (дый дурны!), але-ж толькі адзін зь дзядоў казаў, што падвойная хворма прозьвішча (адны пісалі *Руженцев*, другія — *Ружанцев*, трэція — *Ружанцов*) гаворыць за тое, што калісь нейкі супольны наш прапрапрадзед паходзіў з чэхаў і зваўся *Ruźenec*, магчыма, што трапіў ён на ўсход за часоў Вялікага Вітаўта ці пазьней, калі чэскія ваяры былі ведамыя як добрыя ландскхнехты. Казаў другі дзед, што былі калісьці дзяды нашыя панцэрныя ці путныя баяры. Хто ведае? Толькі-ж службісты Р. былі вялікія. За часоў Імпэрыі Расейскай столькі зь іх было сьвятароў праваслаўных (ад бабкі аднэй чуў, што раней вуніяцкіх таксама было ў нашым раду), вайскоўцаў, урадоўцаў, асабліва падабалася паліцыйная служба... Дзядзька мой Дзімітры з войска трапіў у Асобны Корпус Жандараў, быў у Царыцына (Сталінград цяперака, каб на яго ліха!) начальнікам аддзелу на чыгунцы. Цяжка была яму даказаць сваё шляхецтва. Бо бацька й дзед былі звычайныя сьвятары. Але-ж даказаў, да палкоўніка даслужыўся і загінуў пад час рэвалюцыі 1917 г. дзесь на мяжы з Іранам. Успамінаю бацьку, дзядоў, маці; бабкі былі розныя, нават з польскіх радоў і ўкраінскіх. Таму й пісаў колісь пра сябе: *«хто-ж ведае, ці а паляк, ці я маскаль, ці ўкраінец? Але-ж здарылася неяк так, што іншы я абраў гасьцінец, і кіравацца стаў у жыцьці трапой нятоптанай а вузкай. Я не зблудзіў зь яе ані, я іду па тропцы беларускай»*. Дык-жа я з той тропкаю ня стаў на шлях. Магчыма, праз тое, што ўсе гэтыя дзядзькі й дзяды былі толькі ўсяго *«западно-русские люди»*? Аб беларусох першы раз даведаўся з геаграфіі

[1211] Вітаўт Тумаш на той час быў намеснікам старшыні БІНіМа.

С. Меца (здаецца, што было нямецкага паходжаньня, і трэба пісаць S. Mietsch ці Metsch). І было на аднэй бачыне надрукавана: Белоруссия. А пад тэй назвай старым звычаем, г. з. з *ятем* і *твердым знаком*, стаяла: *«куковала зязюля ў садочку, приложивши галовушку к листочку»*. І выкладаў навуку гэту Пічынскі. Ах, столькі было ў нас у Вяземскай гімназіі тых западно-рускіх вучыцелёў: Зерноўскі, Сокольскій, Конолоцін, і вучняў: Засецкій, Полесско-Сьціплло, Пенязев, Сарно-Сарнелевіч, Лызла, і нашага роду заўсёды некалькі, пры мне нават у аднэй клясе двух: Аляксандар і Сяргей. Род наш абраў сабе тры губерніі; Смаленскую, Магілёўскую й Віцебскую. І тамака жылі, жаніліся і пладзіліся. І чамусьці ўспамінаецца напаўзабыты верш аб чортавым зельлі, за які ў 1918 г. ставілі да сьценкі: *«сыночка он послал до Орши, а внуков в Гомель и Лады, оттуда по земному шару распространяются жыды»*… І з гэтым народам жылі мы ўсе ў ладу. У аднаго дзядзькі яшчэ ў 1907–1909 гг. жылі старыя *«немой і дурочка»*, былые *«крепостные люди»* яго бацькі. Не пайшлі яны на волю, засталіся ў добрага пана, пасьля сын іх трымаў аж да сьмерці.

Зь беларусамі шчырымі спаткаўся ў Імпэратарскім войску, служыў у *«4 пех. Копорском генерала графа Коновицина, ныне Его величества Короля Саксонского полку»* ад 1914 да 1918 гг. Гэты поўк прастаяў у Вязьме, пасьля Смаленску ад 1878 да 1914 гг., стаўся сваім родным, столькі беларусаў была ў ім з губерняў Усходней Беларусі.

Сапсулася мая старая машынка[1212]. І гэта можа быць добры знак, і перашкаджае хтось, што ня трэба аб сабе нічога пісаць.

12 лістапада 1954 г.

Дарагі Спадару Доктару!

Перш за ўсё аб праўдзівым нябошчыку: с. п. Усевалад Боеў[1213] памёр 26 кастрычніка ў Чыказе. Аб гэтым сьведчыць нэкралёг, напісаны празь летувіскага адваката *R. Skipitis*'а ў *«Naujienos»*[1214] 28.X, Нр. 254, бач. 5. Мне здаецца, што ў *«L. Enc.»* праз памылку *«Горадзенская Земская Ўправа»* названа *«gudu seimu»*[1215]. Сколькі памятаю з паездкі да Горадні ў траўні 1919 г. прад сваім раззбраеньнем 1 Горадзенскага Бел.

---

[1212] Папярэдне ліст друкаваны лацінкаю, ад гэтага сказа — рукапісны, таксама лацінкаю.

[1213] **Усевалад Боеў** (?—1954), грамадска-палітычны дзеяч, адвакат. Заснавальнік таварыства «Бацькаўшчына» ў Гродне каля 1918 г. На пачатку 1921 г. — загадчык аддзела расійскіх справаў пры літоўскім урадзе. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у ЗША.

[1214] ***«Naujienos»*** (літ.) — «Навіны» — першая штодзённая літоўская газета ў ЗША, выходзіла ў Чыкага ў 1914–1986 гг.

[1215] *«Gudų seimu»* (літ.) — «Беларускі сойм».

п.[1216], была гэта часовая краёвая ўстанова, у якой бралі ўдзел ня толькі беларусы, але іншыя нацыянальнасьці. Нічога няма і аб тым, што нябошчык спаўняў нейкія абавязкі ў гэтай управе, аб чым пазьней напісаў успаміны ў гадавіку Летувіскага Мін. Унутр. Спраў.

Што да *«сізіфавай працы»* ў кірунку ці напрамку беларуска-летувіскіх суадносінаў, дык мне здаецца, хвароба мая скончылася, і разам з той мусі быць прыгожай беларускай дзяўчынай магу зь лёгкім сэрцам запець: *«любіць ня любіла, кахаць не кахала, я такімі дуракамі сраку падціралa»*. І — *«переходим к очередным делам»*, як пішацца ў маскоўскіх пратаколах. ...Але рэцэнзыя Вашаці на *L. Enc.* (першыя 3 томы) была-б як раз на часе і навучыла-б новага рэдактара больш лічыцца із суседзямі. І зноў крыху з народнай творчасьці. Як глядзяць летувісы на беларусаў. Як на бедных суседзяў, падупаўшую радню. А да такой радні часамі кажуць, калі яна стараецца даказаць сваё радство: *«у майго бацькі авін гарэў, а твой бацька прыйшоў дый сраку пагрэў»*.

Аб стыпэндыях Мюнхэнскага Інстытуту я ўжо чуў ад Я. Станкевіча, дастаў нават ліст з Інстытуту, пасылаю *«Kn. L.»*. Каб яны згадзіліся на тое, што фактычна Летува цяпер знаходзіцца ў складзе СССР і дапамаглі-б вясьці далей летувіскую бібліяграфію, быў-бы гэта такі *«нумар»*, што лепш ня трэба. Цяпер я дастаю на ўсё 1000 дал. штогод. На друк выходзе каля 500 дал. (6 нумароў па 8 бач. 500 экз. тыраж), на экспэдыцыю 60 дал., на канвэрты 30 дал., рэдактару 300 дал., на *Letuvu B.* службу 72 дал. Мала надзеі на тое, каб *VLIK*[1217] у далейшым здалеў-бы прызначыць хаця-б і меншую субсыдыю. Амэрыканскі *LLK* (Камітэт Вольнай Летувы)[1218] нічога ня можа даць, бо яму на гэта гаспадары ня даюць, *Amerikos Lietuviu Taryba*[1219] ня займаецца культурнымі справамі наагул. І *«ў 7 няняў дзіцё бяз вока».*

Часамі чытаеш аб тым, што далі грошы на такія й такія досьледы. Мне здаецца, што сучасная мая праца гэта даволі добрая дакумэнтацыя падзеяў у летувіскай эміграцыі. І досыць матар'ялаў аб савецкай Літве! Калі-ж гэтая прапазыцыя не падыйдзе, застаецца толькі інфармацыі аб тым, як асьвятляюць сучаснае жыцьцё ў акупаванай Летуве тыя,

---

1216 Маецца на ўвазе **Першы Гродзенскі пяхотны полк**, створаны як беларуская частка ў складзе літоўскага войска. Існаваў у 1918–1919 гг.

1217 **Найвышэйшы камітэт вызвалення Літвы** (літ. *Vyriausiasis Lietuvos išlaisvinimo komitetas — VLIK* ) — літоўская арганізацыя, створаная ў 1943 г. дзеля змагання за аднаўленне незалежнасці Літвы. Ад 1945 г. дзейнічала ў эміграцыі (у Нямеччыне і ЗША), уважала сябе за правамоцны літоўскі ўрад на выгнанні.

1218 **Камітэт вольнай Літвы** (літ. *Lietuvos laisvės komitetas — LLK*) — літоўская палітычная антыкамуністычная арганізацыя, заснаваная ў ЗША ў 1952 г.

1219 **Амерыканска-літоўская рада** (літ. *Amerikos Lietuviu Taryba*) — палітычная арганізацыя амерыканскіх літоўцаў, заснаваная ў 1940 г.

хто адтуль прыехаў, найчасьцей былыя нямецкія палонныя. Напрыклад, у Англіі выйшла кніжка *Daubaras, Br. Duonos bejieškant*[1220] (вельмі цікавыя ўспаміны аднэй маладой нямецкай дзяўчыны аб яе жыцьці ў Летуве з 1945 аж да 1951 гг.).

У асабістым жыцьці нічога новага. Бывае часамі, што праца ў краме здаецца зацяжкая, але-ж калі добра адпачнеш (за карткамі, не за картамі ў нядзелю), дык і працаваць лягчэй. Машынку гэтую дастаў я як падарунак ад летувіскага міністра *P. Žadeikis*'а[1221] з Вашынгтону. Гадуем із жонкай унучку, ужо 15 месяцаў мае, і дужа зь яе цешамся. У вагародзе яшчэ працую ў нядзелю, разсадзіў маліну, пачысьціў усё. Але-ж старасьць ужо больш аб сабе прыпамінае.

Вельмі добра, што *Kairys-Kaminskas*[1222] напісаў успаміны аб Цётцы. Буду старацца і я свае скончыць. Але-ж мушу прасіць аб карэктуры, бо здаецца мне, што чым дальш, тым больш псуецца мая мова. І чаго чакаць ад смаленца, гэта-ж *«исключение из правила»*, бо нашых лічаць расейцамі й нават і… беларусы (часам і ня ўсе).

Бывайце здаровы. Жыве Беларусь!

А. Ружанец-Ружанцоў.

14.XII.65

Вельмі паважаны й дарагі Спадару Доктару!

Яшчэ 28 жніўня паслаў Вашаці 4 кніжкі, зьбіраўся напісаць і апынуўся ў лекарскім *«палону»*. Перш зваліў мяне грып, пасьля прывязалася анемія, а закончылася ўся мая адысэя ў шпіталю, дзе прабыў нават 35 дзён і перанёс апэрацыю. Выразалі мне паліп, які абаснаваўся дзесь каля ныркоў, і штодня вазілі да *x-ray*[1223] сэкцыі, мусі быць выжыгалі тое, што засталося ад паліпа. Цяжка была пасьля апэрацыі, але-ж бяз дыеты збавіў вагу з 200 аж да 173[1224]!

---

1220 **Бронюс Даўбарас** (сапр. літ. *Bronius Daunoras*, 1906–1985), літоўскі журналіст. Тут маецца на ўвазе кніга: Daunoras, Bronius. Duonos bejieškant. [London] Nida, 1954. — 121 p.

1221 **Повілас Жадзейкіс** (літ. *Povilas Žadeikis,* 1887–1957), літоўскі дыпламат, шматгадовы амбасадар Літвы ў ЗША (1934–1957).

1222 Маецца на ўвазе **Стэпонас Кайрыс** (літ. *Steponas Kairys*, ад 1944 г. *Juozas Kaminskas*, 1879–1964), літоўскі палітычны дзеяч, сацыял-дэмакрат, інжынер, адзін з падпісантаў Акта аб незалежнасці Літвы 1918 г. У 1943–1945 гг. узначальваў Найвышэйшы літоўскі камітэт вызвалення. Стэпонас Кайрыс быў мужам Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Яго ўспаміны пра жонку друкаваліся ў часопісе «Конадні» (№ 2. 1954), а пазней у зборніку «На суд гісторыі» (Мінск, 1994).

1223 ***X-ray*** (англ.) — рэнтген.

1224 Вага падаецца ў фунтах. 200 фунтаў прыблізна роўныя 90 кг, 173 фунты — каля 78 кг.

З кніг найважнейшая *«Musu Lietuva»*[1225]. Здаецца, што яна апыніцца абавязкова на мірнай канфэрэнцыі, калі мы яе дачакаем. Здаецца з кніжкі, што ўся Віленшчына гэта сапраўды шчыра летувіскі край, аб беларусах зусім мала. Трэба рэцэнзыю добрую напісаць.

Аўтар вершаў *«Kristaliniame karste» Jonas Aistis* (сапраўды Александравічус[1226], здаецца, што зь літоўскіх татараў) не спадабаўся летувіскім крытыкам, *«Nekad tau laime nebuvo praźydus»* верш разьвенчвае захопніцкую палітыку летувісаў, якія лезьлі ўсюды, дзе маглі, а пасьля ўсе гістарычныя падзеі на забраных землях апісваюць як летувіскія. Каб хто зь беларускіх песьняроў пераклаў бы гэны і іншыя вершы! Дзеля іхняй шчырасьці. *J. Aistis* працуе ў *Library of Congress*.

Да БІНІМ пасылаю ўвесь час *«Knygų Lentyna»*[1227], на жаль, нічога адтуль ня маю, але-ж здаецца, што выйшлі з друку 2 і 3-я кніжкі «Конадняў»?

Памёр у Брукліну прыяцель беларусаў сябра Камітэту Вольнай Летувы сац.-дэм. Кіпрас Белініс[1228], сын найвялікшага зь летувіскіх кніганошаў царскіх часоў. Ён пазнаёміўся ў Коўні із Ластоўскім, Крычэўскім. У камітэце зьбіраў дакумэнты аб сучаснай Беларусі і яе эміграцыі. Быў ягоным неафіцыйным супрацоўнікам ад 1951 г. Але-ж для большасьці летувіскіх палітыкаў беларусы — вораг Нр. першы!

*«Lietuvių Enc.»* ужо амаль закончаная, маю 33 т. (*Va-Vi*), 34 выйдзе ў студзені 1966. Рыхтуецца выдаваць *J. Kapocius*[1229], калі закончыцца *LE*, яшчэ 6 тамоў у ангельскай мове, але-ж з падпіскай ціхутка: старыя на пэнсыі ўжо, а маладым хапае *Enc. Britanica*[1230], *Enc. Americana*[1231] і г. д.

---

1225 Маецца на ўвазе выданне: Kviklys, Bronius. Mūsų Lietuva: krašto vietovių istoriniai, geografiniai, etnografiniai bruožai. 4 vol. Boston: Lietuvių enciklopedijos leidykla, 1964–1968.

1226 **Ёнас Айсціс** (сапр. літ. *Aleksandravičius*, 1904–1973), літоўскі паэт. Тут маецца на ўвазе кніга: Aistis, Jonas. Kristaliniam karste; eilės. [Brooklyn], 1957. — 45 p.

1227 ***«Knygų Lentyna»*** (літ.) — «Кніжная шафа» — часопіс Літоўскай бібліяграфічнай службы, што выдаваўся ў Дэнвіле (Ілінойс, ЗША).

1228 **Кіпрас Белініс** (літ. *Kipras Bielinis*, 1883–1965), літоўскі грамадска-палітычны дзеяч, сацыял-дэмакрат, сын Юргіса Белініса (1846–1918), публіцыста і прафесійнага кніганошы.

1229 **Юозас Капочус** (літ. *Juozas Kapočius*, 1907–1996), літоўскі выдавец.

1230 **Энцыклапедыя «Брытаніка»** (англ. *Encyclopaedia Britannica*) — найпаўнейшая і найстарэйшая ўніверсальная энцыклапедыя на англійскай мове. Першае выданне ў выглядзе трохтамовага энцыклапедычнага слоўніка пабачыла свет у 1768–1771 гг.

1231 **Энцыклапедыя «Амерыкана»** (англ. *Encyclopedia Americana*) — адна з найбуйнейшых англамоўных універсальных энцыклапедый, выдаецца ў Нью-Ёрку. Першае выданне ў 16 тамах пабачыла свет у 1903–1904 гг.

Адгукніцеся, калі ласка, пасьля сьвятаў прышлю кніжку, дзе знаходзіцца горад з Вашым прозьвішчам *«Тумаш»*.

Дык жа вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году Вашай Міласьці і сям'і.

Жыве Беларусь!

Ваш

[Недатаваны, напісаны на каляднай паштоўцы]

Вялікі дзякуй за ліст і навіны аб Скарыне. Летувісам не падабаецца першы віленскі друкар, і ось, напрыклад, у сац.-дэм. *«Keleivis»*[1232] (Boston, Mass) г. г. 23 ліст., нр. 48 Ё. Вілкайтіс[1233] піша ў артыкуле аб Скарыне, які можа быць і чэх быў??? Далей няма куды ісьці!

Спачуваю Вашым пошукам, шкадую, што часу брак, але-ж разам і гляджу на гэта як навучаны амэрыканскім жыцьцём. Трэба найперш працаваць дзеля хлеба штодзённага, а іншае — гэта хоббі. Зразумела, што іначай з прафэсарамі і навукоўцамі, іхнія хоббі: працаваць у кухне, саду й гародзе, каля садавіну й гародніны, рашчыняць цеста і г. д. Гэткай працы і я трымаўся, пакуль быў 100 % пэнсыянэр. Але-ж цяпер усё інакш, бо працую па 4 гадзіны штодня і больш маю ў кішэню. Калі закончыў працаваць ў краме ў 1958 г, даставаў 58 дал. на рукі (выпісваюць 66), цяпер атрымваю каля 50. Радуецца найбольш мая пані, бо можна падтрымаць унука-студэнта. Ён мусіць закончыць навукі (*Business*) праз паўгода. Менш часу на бібліяграфію. Хацеў-бы больш улажыць для беларусаведы, але будзе цяжка пазычыць камплекты часапісаў. Дзе й што робіць сп. М. Панькоў, ці артыкул аб «Усебеларускім Архіве» ў «Бацькаўшчыне» гэта аб ім? Меў ягоны адрас, але засунуў кудысь!

Ага, дзе-ж працую? У харчэўнай краме, як і ў 1950–1958 гг., пакую садавіну і гародніну, выконваю абавязкі *«чэкістага»* (ад *check* — калі прыймаю малако, хлеб, *coca-cola* і інш), апроч таго — ключар, пільную дзьвер у складзе. Лёгкая праца!

Што да паказьніку зьместу беларускіх выданьняў. Сьв. п. Ластоўскі лічыў, што для гэтакіх працаў валей карыстаць лацінку. Успомніў і ягоны слоўнік, і зьмены імёнаў у беларусоў: Вольцік-Алесь-Аляксандар-Альгэрд-Вольша. І пачаў ужываць Вольшу!

Выбачайце, што пішу пяром, бо ўжо позна, а машынкай можна толькі ўдзень. Апроч таго, замілаваньне да *«кірыліцы прыгожай»*.

Ваш Вольша Ружанец.

---

[1232] ***«Keleivis»*** (літ.) — «Падарожнік» — літоўская эміграцыйная газета, што выходзіла ў 1905–1979 гг. у Бостане (ЗША).

[1233] Магчыма, маецца на ўвазе **Ёнас Вілкайціс** (літ. *Jonas Vilkaitis,* 1888–1975), літоўскі грамадска-палітычны дзеяч, сацыял-дэмакрат. Жыў у ЗША.

# ІПАСТАСІ ВАЦЛАВА ПАНУЦЭВІЧА

У Вацлава Пануцэвіча (1911–1991)[1234] можна налічыць некалькі іпастасяў у яго дзейнасці на эміграцыі (што было да адʼезду з Беларусі, да сёння застаецца да канца не высветленым і даволі контраверсійным).

Першая — гэта роля скаўтмайстра і аўтара такіх падручнікаў, як «Праца ў звязе» (Нямеччына, 1948), «Вытычныя для кіраўнікоў скаўтаў: старэйшыя хлопцы» (Нямеччына, 1949).

Другая — роля настаўніка (быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Максіма Багдановіча ў лягеры *DP* у Ватэнштэце), адукатара, укладальніка і аўтара падручнікаў-чытанак: «Чытанка: падручнік да чытання для клясы II» (Чыкага, 1958), «Прыгоды Лісічкі й Ваўка: беларуская народная казка» (Чыкага, 1959), «Першая чытанка» (Чыкага, 1959), «Мая чытанка» (Чыкага, 1963).

Займаўся таксама перакладамі літургічных тэкстаў («Служба Божая, або св. Літургія святога Яна Хрызастома», Чыкага, 1958) для зарганізаванай ім у Чыкага беларускай грэка-каталіцкай царквы.

Аднак найбольш увагі аддаваў ён, заснавальнік і рэдактар часопісаў «Беларуская Царква» (1956–1965) і «Літва» (1967–1973), гісторыі Беларусі. Саматужна выдаў кнігі «Жамойдзь і Літва: розныя краіны й народы» (Чыкага, 1953–1954), «Крывіцкая (беларуская) этнаграфічная прастора» (Чыкага, 1958), «Пачаткі хрысціянства на нашых землях да часоў Усяслава» (Чыкага, 1959), «Апавяданні з гісторыі Беларусі» (Чыкага, 1960), «Крывіцкія старадаўнасці» (Чыкага, 1960), «Паўстанне 1863–1864 на Беларусі» (Чыкага, 1963), «Св. Язафат, Архіепіскап Полацкі, 1623–1963» (Чыкага, 1963), «З гісторыі Беларусі або Крывіччыны-Літвы» (Чыкага, 1965), «375 угодкі Берасцейскай вуніі, 1596–1971» (Чыкага, 1972).

Пра запатрабаванасць у грамадстве гэтых кніг гаворыць пазнака на добрай палове з іх: *«том I»*. Працягу, наступных тамоў ніводная з іх не займела.

Друкаваў артыкулы ў газеце «Бацькаўшчына», якія потым выразаў, наклейваў на аркушы паперы, укладаў у самаробныя вокладкі. Так зʼявіўся яшчэ шэраг публікатак[1235].

---

[1234] Гл.: Гардзіенка, Алег; Гардзіенка, Натальля. Беларуская гістарычная навука ў эміграцыі й Вацлаў Пануцэвіч // Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк — Менск, 2004. С. 152–154.

[1235] Пануцэвіч, В. Сьв. Афрасіня Полацкая — патронка Беларусі // Бацькаўшчына. № 6 (442). 8 лютага 1959. С. 2–3; № 7–8 (443–444). 22 лютага 1959. С. 4–6; Пануцэвіч, В. Плян Агінскага ў 1811 годзе аб узнаўленьні Вялікага Княства Літоўскага // Бацькаўшчына. № 35 (471). 20 верасьня 1959. С. 2–3; № 36 (472). 27 верасьня 1959. С. 2–3; № 37 (473). 4 кастрычніка 1959. С. 2–3; № 38–39 (474–475). 18 кастрычніка 1959. С. 3; Пануцэвіч, В. Кракаўскі Унівэрсытэт і перадскарынаўскія Крывічы з навуковымі тытуламі. (З нашай мінуўшчыны) // Бацькаўшчына. № 20 (504). 15 травеня 1960. С. 3; № 21 (505). 22 травеня 1960. С. 3–4, (подпіс: Мікола Волаціч); Пануцэвіч, В. Горадзеншчына ў нацыянальным руху 1918–1919 гадох // Бацькаўшчына. № 3–4 (617–618). Сакавік 1964. С. 4–7;

Крытычна падыходзячы да зробленага ім (і тое яшчэ мусяць зрабіць гісторыкі), усё ж варта зазначыць, што шэраг пытанняў з мінулага Беларусі ён уздымаў першым ці адным з першых і што яго спадчына вартая прынамсі ўважлівага прачытання.

*Вацлаў Пануцэвіч*

## Зь гісторыі вышэйшых школаў у Беларусі

### *Віленская Акадэмія (1578–1780)*[1236]

Гэтым артыкулам я хачу распачаць агляд беларускага вышэйшага, унівэрсытэцкага тыпу, школьніцтва ў мінуласьці, закранаючы найважнейшыя пытаньні разьвіцьця асьветы й навукі ў Беларусі ды зьвязаныя зь імі нацыянальна-палітычныя справы. Гэты цыкль артыкулаў, думаю, хоць часткова запоўніць тое пустое месца, якое кідаецца ў вочы ў працы Г. Нямігі «Інстытут Беларускай Культуры — Беларуская Акадэмія Навук — Акадэмія Навук Беларускай ССР», Мюнхэн, 1957, выд. Інстытуту дзеля вывуч. СССР[1237], у якой першы разьдзел вельмі абыякава разглядае названае пытаньне.

Разьвіцьцё школьніцтва і асьветы ў Беларусі прыпадае на 16 век ды стаіць у цеснай сувязі з гаспадарчым росквітам Вялікага Княства Літоўскага, нашай старой ды слаўнай дзяржавы, а таксама з тагачасным рэфарматарскім рухам ды езуіцкай супрацьдзейнай акцыяй. Аб гаспадарчым росквіце Вялікага Княства Літоўскага будзе гутарка ў асобным артыкуле. Тут толькі зацемім, што на гаспадарчы росквіт ВКЛ складаўся вельмі ажыўлены нутраны й замежны ды масавы вываз тавараў сельскай і лясной гаспадаркі, як збожжа, лёну, мёду, рагатай жывёлы, скураў, смалы, сплаўнага дзерава й г. д. у заходня-эўрапэйскія краіны, галоўным чынам у Англію й Нямеччыну. У сваю чаргу заходнія краіны прывозілі ў ВКЛ свае тавары, як соль, мэталёвыя вырабы, тканіны, прадметы роскашы й г. д. Усё гэта ажыўляла зносіны нашай краіны з Захадам ды давала магчымасьць нашай моладзі выяжджаць туды ў пошуках навукі, асабліва вышэйшай, бо собскіх школаў акадэмічнага ўзроўню ў нас ня было ў першай палавіне 16 ст.

---

№ 5–6 (619–620). Травень 1964. С. 2–7; № 7–8 (621–622). Ліпень 1964. С. 2–7; № 9–10 (623–624). Жнівень 1964. С. 4–5.

[1236] Друкуецца паводле: Бацькаўшчына. № 29–30 (415–416). 10 жніўня 1958. С. 3–7; № 31 (417). 17 жнівеня 1958. С. 3.

[1237] Маецца на ўвазе праца: Няміга, Г. Інстытут Беларускай Культуры — Беларуская Акадэмія Навук — Акадэмія Навук Беларускай ССР. Мюнхэн: Інстытут для Вывучэньня СССР, 1957. — 162 с. (Досьледы й Матар’ялы; Сэрыя 2. Вып. 63).

Поўна было нашай моладзі нашай моладзі на ўнівэрсытэтах у Італіі, Францыі, Чэхіі, а найбольш у Нямеччыне. Сьледам за багацейшымі ішлі й беднякі, часта пеша з кійком і торбачкай на плячох, праглыя навукі, яны наведвалі розныя ўнівэрсытэцкія заходня-эўрапэйскія месты ў пошуках прафэсараў, каб, здабыўшы веду, вярнуцца назад на бацькаўшчыну й працаваць на розных духовых і сьвецкіх становішчах.

Як сьцьвярджае польскі дасьледнік Я. Бялінскі[1238] («Унівэрсытэт Віленскі» 1579–1831, Кракаў, 1899, т. I, 25–26[1239]), наша моладзь, шукаючы навукі на захадзе, старанна амінала блізкую Кракаўскую Акадэмію, а галоўнай прычынай гэтага быў *«палітычны партыкулярызм»*, інакш кажучы, адсталасьць Кракаўскай Акадэміі ў параўнаньні з заходнімі ўнівэрсытэтамі, парваўшымі сувязь зь сярэднявечнай схалястыкай ды вышаўшымі на больш свабодную дарогу ў шуканьні навуковай праўды.

Вось гэтая культурна-адраджэнская плынь Заходняй Эўропы вабіла да сябе беларускую моладзь, а разам з гэтым часта паланіла яе ідэямі Лютара, Кальвіна ды іншых рэфарматараў. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну з навуковымі ступенямі, гадунцы заходня-эўрапэйскіх унівэрсытэтаў кідалі першыя зёрны рэфарматарскага руху й на родную беларускую глебу, арганізуючы розныя сярэднія й вышэйшыя школы, і гэтым самым разгарнулі культурны ўздым Беларусі, у падмогу якому прышло беларускае друкарства, запачаткаванае ў 1525 г. у Вільні слаўным нашым першадрукаром др. Францісём Скарынай.

Найстарэйшай нашай вышэйшай школай у Вільні, аднак ня ўнівэрсытэцкага тыпу, але падрыхтаваўчай да заходня-эўрапэйскіх высокіх школаў, была «Школа Катэдральная», заснавана за Казіміра Ягайлавага[1240]. Гэта была каталіцкая школа сярэднявечнага тыпу дзеля першай падрыхтоўкі кандыдатаў у стан духоўны. Яна была ў 1522 г. зрэфармавана Віленскім біскупам Янам[1241] у духу заходня-эўрапэйскага гуманізму ды праіснавала аж да маскоўскага *«патопу»* ў другой палавіне 17 веку.

Другой вышэйшай школай у Вільні была *«Сьвятаянская»* пры касьцёле сьвятога Яна, заснованая ў 1566 г. Заданьнем яе была падрыхтоўка кандыдатаў да дзяржаўна-адміністрацыйнай службы ў Вялікім

---

[1238] **Юзаф Бялінскі** (польск. *Józef Bieliński*, 1848–1929), лекар у расійскім войску ў Вільні, аўтар дзвюх шматтамовых працаў, прысвечаных універсітэтам: Віленскаму і Варшаўскаму.

[1239] Гл.: Bieliński, Józef. Uniwersytet Wileński (1579–1831). T. I. Kraków, 1899. S. 25–26.

[1240] **Казімір IV Ягелончык** (1427–1492), вялікі князь літоўскі (1440–1492) і кароль польскі (1447–1492).

[1241] Маецца на ўвазе **Ян «з княжатаў літоўскіх»** (1499–1538), пазашлюбны сын Жыгімонта I Старога, віленскі біскуп у 1512–1536 гг.

Княстве з галоўным націскам на вывучэньне беларускага абавязваючага права. Яна праіснавала да 1571 г., калі яе перанялі езуіты ды на яе асновах стварылі сваю Калегію, што потым сталася Віленскай Акадэміяй. Рэктарам гэтай школы быў слаўны гішпанскі прафэсар права Пётра Ройзіюш[1242].

Ад 1529 г. сталі засноўваць свае вышэйшыя школы пратэстанты, лютэраны й кальвіны ў шматлікіх мясцовасьцях Беларусі, як у Вільні, Кейданах, Слуцку, Біржах, Нясьвежы, Семятычах, Берасьці, Шыдлове ды Заблудаве. Сярод іх найслаўнейшай сталася Кальвінская Акадэмія ў Вільні, што паўстала ў 1539 г. Яе заснавальнікам быў Абрам Кульва[1243], а знамянітай тэалягічнай славай быў Андрэй Валян[1244]. Галоўным апякуном Кальвінскай Акадэміі лічыўся Радзівіл Чорны, прызначыўшы на яе ўтрыманьне багатае забясьпечаньне. Пасьля сьмерці Радзівіла школа гэтая пачала хіліцца да заняпаду, аб чым ніжэй наша гутарка. Ад 1563 г. зьявіліся былі яшчэ арыянцкія школы ў Вільні ды іншых мясцовасьцях.

Як бачым, у сярэдзіне 16 веку Беларусь пакрылася даволі густой сеткай сярэдніх і вышэйшых школаў, прычым Вільня як сталіца гаспадарства сталася галоўным асяродкам навуковага руху.

Разьвіцьцё рэфармацыі ў Беларусі сярод каталіцкага й праваслаўнага насельніцтва выклікала супрацьдзеяньне. Такой сілай у тым часе быў закон «Таварыства Езуса», або, як паўсюдна ведамы, закон езуітаў. Першыя крокі дзеля пасяленьня езуітаў у Вільні былі зробленыя віленскім біскупам Валерым Пратасэвічам[1245] і Жыгімонтам Аўгустам, каралём і вялікім князем, у 1565 г. Тады Жыгімонт Аўгуст перадаў на Калегію і Акадэмію свой палац у Вільні й прасіў генэрала езуітаў Ляйнэза[1246], *«каб прыслаў у Вільню здольных прафэсараў тэалёгіі, філязофіі, матэматыкі і іншых даступных навукаў»* (Станіслаў Залускі. Езуіты ў Польшчы. Кракаў, 1908, 10[1247]).

---

[1242] **Пётр Ройзіуш** (лац. *Peter Roisius*, 1500–1571), лацінамоўны паэт, правазнаўца.

[1243] **Абрам Кульва** (лац. *Abraham Culvensis*, 1509–1545), дзеяч Рэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, педагог, доктар права.

[1244] **Андрэй Волан** (лац. *Andreas Volanus*, 1530–1610), палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, філосаф, ідэолаг рэфарматаў-евангелістаў, літаратар.

[1245] **Валяр’ян Пратасевіч** (1509–1579), дзяржаўны і рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага,ад 1556 г. — віленскі біскуп.

[1246] Відаць, маецца на ўвазе Ігнат Лаёла.

[1247] Маецца на ўвазе **Станіслаў Залескі** (польск. *Stanisław Załęski*, 1843–1908), гісторык, святар, езуіт. Тут маецца на ўвазе другое выданне яго пяцітамовай працы: Załęski, Stanisław. Jezuici w Polsce. Kraków: W. L. Anczyc, 1908. — 369 s.

Аднак у 1565 г. не ўдалося ажыцьцявіць задуманага пляну. Галоўнай перашкодай была вайна з Масквой. Новыя стараньні былі праведзеныя тым-жа Віленскім біскупам В. Пратасэвічам чатыры гады пазьней, у 1569 г. Тады правінцыянал езуітаў у Брунсбэргу (Нямеччына) згадзіўся паслаць у Вільню двух айцоў — Бальтазара Гаставінуса і Юрага Фрыза (Немцы) ды двух братоў. Гэтыя першыя езуіты прыбылі ў Вільню ў канцы 1569 г. пад вайсковай аховай (дзеля вялікага пратэстанцкага засільля ў Вільні) ды занялі прызначаныя езуітам будынкі.

2 травеня 1570 г. прыехалі з Пултуска (Польшча) першыя прафэсары з Станіславам Варшавіцкім[1248] на чале, а 8 травеня т. г. адбылося адкрыцьцё езуіцкай школы ў прысутнасьці Віленскага біскупа й Капітулы. Спачатку ў школе выкладаліся прадметы, зьвязаныя з рыторыкай (граматыка, літаратура, лёгіка, красамоўства, дыдактыка і інш.), але ўжо 10 дзён пазьней (18 травеня 1780[1249]), у гадавіну інгрэсу[1250] (высьвячэньня й пастаўленьня) Віленскага біскупа на катэдру, школа паднесена да ступені Калегіі ды былі адчынены аддзелы (факультэты): філязофіі й тэалёгіі, апрача існуючай рыторыкі.

Заснавальнікі Віленскай езуіцкай Калегіі адразу забясьпечылі яе так у матарыяльныя сяродкі, як і ў навуковыя дапаможнікі ды высокаадукаваным прафэсарскім пэрсаналам. Галоўнымі пратэктарамі калегіі былі кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст, Віленскі й Жамойцкі біскупы ды каад'ютар Віленскага біскупа князь Юры Радзівіл[1251]. Аднoй з галоўных патрэбаў Калегіі была арганізацыя бібліятэкі. Ужо ў 1570 г. жамойцкі біскуп Юры[1252] ахвяраваў Калегіі ўсё сваю бібліятэку. Яна зьявілася асновай кніжнага фонду, які перайшоў пасьля ў Акадэмію. Нажаль, мы ня маем ніякіх вестак адносна ліку ды прадметнасьці перададзеных кніжак (Міхаіл Брэнштэйн. Бібліятэка Унівэрсытэцкая ў Вільні да 1833 г. Вільня, 1925, I, па-поль[1253]).

Другім важным падарункам была бібліятэка караля й Вялікага Князя Жыгімонта Аўгуста, якую ён перадаў Калегіі 6 травеня 1571 г.

---

[1248] **Станіслаў Варшавіцкі** (польск. *Stanisław Warszewicki*, 1530–1591), польскі пісьменнік, дзеяч контррэфармацыі, у 1570–1572 гг. арганізоўваў езуіцкі калегіум у Вільні.

[1249] Так у арыгінале. Відаць, мае быць 1570 г.

[1250] Ад лац. *ingressus* — прыход, прыбыццё.

[1251] Юры Радзівіл, сын Мікалая Радзівіла Чорнага, у 1581–1591 гг. быў віленскім біскупам.

[1252] Маецца на ўвазе **Юры Пяткевіч** (?—1574), рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, жмудскі біскуп у 1567–1574 гг.

[1253] **Міхал Брэнштэйн** (польск. *Michał Eustachy Brensztejn*, 1874–1938), гісторык, бібліятэкар Універсітэцкай бібліятэкі ў Вільні. Тут маецца на ўвазе яго праца: Brensztejn, Michał. Bibljoteka Uniwersytecka w Wilnie do roku 1832-go. Wilno, 1925.

Бібліятэка гэтая знаходзілася ў віленскім замку, і пачынаючы ад 1547 г. на працягу 25 гадоў паступова павялічвалася рознымі каштоўнымі рэчамі (У. Пічэта. Пытаньне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым. Працы Бел. Дзярж. Унів. У Менску, № 19, 1928[1254]).

У часе *«патопу»* цэнны збор кніжак Жыгімонта Аўгуста быў разабраны рознымі асобамі ды наезьнікамі, і толькі некаторыя кніжкі знойдзеныя ў польскіх, маскоўскіх і швэдзкіх бібліятэках.

Першыя пачаткі навуковай дзейнасьці езуітаў у Вільні ня былі лёгкімі. Зламаць няпрыхільнае настаўленьне пратэстантаў удалося цераз дабрадзейную ды міласэрную працу ў часе страшнага памору ў 1573 г. Тады езуіты выявілі свае высокія хрысьціянскія якасьці, як ахвярнасьць, бескарыснасьць, чуласьць да няшчасных ды высокую духовую культуру. Праявілася таксама вельмі добра й Калегія. Пад умелым кіраўніцтвам моладзь Калегіі сваімі публічнымі дыспутамі, паказамі, выстаўкамі, прадстаўленьнямі, канцэртамі, парадамі (вулічнымі паходамі) і г. д. зьвярнула ўвагу так баярства, як і мяшчанства, бо-ж усё гэтая дзейнасьць гучэла ў тон рэнэсансу сваім блескам, духовым парывам, і таму была да спадобы тагачаснаму ўзварушанаму заходня-эўрапэйскімі ідэямі грамадзтву.

Сьмерць Жыгімонта Аўгуста ў 1572 г. не дазволіла яму ўстанавіць задуманай Акадэміі ў Вільні. Зрабіў гэта Сьцяпан Баторы[1255]. На прапанову Віленскага біскупа Валерага Пратасэвіча й каад'ютара Юрага Радзівіла выдаў ён 7 ліпеня 1578 г. у Львове першую грамату, у якой Віленскую езуіцкую Калегію падносіў да годнасьці Акадэміі, зраўноўваючы яе ў правох і прывілеях з Кракаўскай Акадэміяй. Іншым лістом зь дня 1 красавіка 1579 г. Сьцяпан Баторы дазваляў Акадэміі свабоднае навучаньне тэалёгіі, філязофіі і сьвецкіх навукаў за выключэньнем мэдыцыны ды права. Адначасова за Акадэміяй прызнавалася поўная аўтаномія, вызваленьне ад судовай і адміністрацыйнай падуладнасьці, а таксама вольнасьць ад данінаў і мытаў. Нараўні з заходня-эўрапэйскімі ўнівэрсытэтамі Акадэмія мела права даваць вучоныя ступені, мець выбраную адміністрацыю з Рэктарам і прафэсарскай Калегіяй на чале. Папа Рыгор XIII[1256] бульляй 29 кастрычніка 1579 г. зацьвердзіў Віленскую Акадэмію з усімі яе правамі. Урэшце варшаўскі сойм 1583 г. з свайго боку зацьвердзіў каралеўскія наданьні, а кароль на тым-жа сойме (23 лютага) перадаў Акадэміі

---

[1254] Маецца на ўвазе артыкул: Пічэта, У. Пытаньне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым // Працы БДУ. № 19. Менск, 1928. С. 13–18.

[1255] **Стафан Баторы** (венг. *Báthory István*, 1533–1586), кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1576–1586), князь трансільванскі (1571–1576).

[1256] **Рыгор XIII** (лац. *Gregorius PP. XIII*, 1502–1585), Папа Рымскі ў 1572–1585 гг.

гаспадарскі маёнтак Тракелі каля Вільні. Урачыстае адкрыцьцё Акадэміі адбылося на пачатку акадэмічнага 1580 г. Першым рэктарам быў выбраны Пётра Скарга.

Вось гэтая першапачатковая Акадэмія складалася з двух факультэтаў (аддзелаў): філязофія й тэалёгія. На першым аддзеле выкладалася: лёгіка, фізыка, мэтафізыка, рыторыка, паэтыка, матэматыка, геаграфія, старыя мовы — гэбрайская, грэцкая й лацінская, а таксама новыя мовы — беларуская, італьянская, гішпанская, нямецкая й польская. На другім аддзеле былі такія прадметы: сьв. Пісьмо, тэалёгія схалястычная, палямічная й маральная, казуістыка, кананічнае права й старыя мовы (И. И. Лаппо. Виленская Академия, 8[1257]).

У складзе двух факультэтаў Віленская Акадэмія праіснавала да 1641 г., калі Уладыслаў Ваза[1258] 11 кастрычніка 1641 г. выдаў грамату аб праве Акадэміі на адкрыцьцё двух новых факультэтаў: права й мэдыцыны. Аднак недахоп прафэсараў ды навуковых уладжаньняў не даваў магчымасьці на адкрыцьцё мэдыцыны яшчэ на працягу доўгага часу. Практычна ад 1641 г. заіснаваў толькі юрыдычны факультэт. Вялізныя заслугі ў арганізацыі яго палажыў сын славутага канцлера Льва Сапегі — Леў Казімір Сапега[1259]. Ён ахвяраваў 12 500 залатых чыстымі грашыма на ўтрыманьне 4 прафэсараў права. Апрача гэтага ён абяцаўся даваць яшчэ 25 000 зал. Ды выплочваць кватэрныя грошы для сьвецкіх прафэсараў (Лаппо, 9).

У далейшым каралі пацьвярджалі граматы Сьцяпана Баторага й Уладыслава Вазы. Зрабіў гэта Ян Казімір[1260] 9 лютага 1649 г. і Аўгуст II[1261] у 1726 ды 1736 гг.

Што датычыць разьвіцьця бібліятэкі Акадэміі, то як ведаем, яна пераняла кніжны збор Калегіі. У канцы 16 веку бібліятэка Акадэміі павялічылася падарункам вучня гэтай Акадэміі др. Лукаша Краснадэбскага, які ў 1594 г. запісаў ёй свае тэалягічныя кнігі на італьянскай і гішпанскай мовах. Гэты падарунак быў тым больш каштоўны, што ў канцы 16 і на пачатку 17 ст. за рэктарства Пятра Скаргі многія прафэсары Акадэміі былі чужаніцамі, як гішпанцы, партугальцы, італьянцы ды іншыя.

---

[1257] Спасылка не ідэнтыфікаваная.

[1258] **Уладыслаў IV Ваза** (1595–1648), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1632–1648 гг., некаранаваны цар маскоўскі ў 1610–1613 гг.

[1259] **Казімір Леў Сапега** (1609–1656), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, сын Льва Сапегі, ад 1645 г. — падканцлер літоўскі.

[1260] **Ян II Казімір Ваза** (1609–1672), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1648–1668 гг., апошні з дынастыі Ваза.

[1261] **Аўгуст II Моцны** (1670–1733), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1697–1706 і 1709–1733 гг.

Наступна бібліятэка атрымала цэнныя зборы беларускага кардынала Юрага Радзівіла, які памёр у 1600 г., ды Віленскага суфрагана й біскупа Жамойцкага Мікалая Паца[1262] (пам. 1619 г.) прыбылі зборы Віленскага біскупа Эўстахага Валовіча[1263], а ў 1630 г. пісара польнага В. К. Л. Крыштафа Міколы Сапегі[1264].

Павялічываліся таксама матэрыяльныя сяродкі на бібліятэчныя й навуковыя ўладжаньні. Так, 13 верасьня 1623 сакратар В. Княства Андрыян Вярбіцкі перадаў Акадэміі свае маёнткі ў Віленскім ваяводзтве з умовай, каб з прыбыткаў іх 1000 зал. трацілася на палепшаньне акадэмічнай бібліятэкі (Брэнштэйн, 10[1265]).

Такім чынам Віленская Акадэмія да сярэдзіны 17 веку, гэта значыць да часу маскоўскай навалы ў 1654–55 гг., прадстаўлялася, як сьцьвярджае дасьледнік Я. Бялінскі (назв. Пт. Т. III, 509[1266]), знамяніта, прафэсараў мела 75 ды студэнтаў 700.

Маскоўская навала ў 1654–55 гг. (пасьля пераходу Хмяльніцкага) пры падтрымцы жудасных крывавых зьнішчэньняў казацкіх войскаў Залатарэнкі[1267] сталася запраўдным *«крывавым патопам»* Беларусі. Усе чыста беларускія гарады былі разбураны, спалены, а насельніцтва, якое не пасьпела ўцячы, было *«пушчана пад меч»*. У далейшым швэдзкая інтэрвэнцыя, барацьба беларускіх войскаў кн. Януша Радзівіла[1268] ды Паўлы Сапегі[1269] з маскоўскай ды швэдзкай акупацыяй, голад, эпідэміі й маскоўскія высяленьні жыхарства ў Расею абязьлюднілі поўнасьцю Беларусь. Загінула тады амаль ¾ усяго насельніцтва.

---

[1262] **Мікалай Пац** (1570–1624), рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, суфраган віленскі, біскуп Жамойцкі ў 1610–1618 гг.

[1263] **Яўстафі Валовіч** (?–1630), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, падканцлер літоўскі, віленскі біскуп ў 1616–1630 гг.

[1264] Маецца на ўвазе **Мікалай Крыштоф Сапега** (1613–1639), пісар польны літоўскі ў 1637–1639 гг.

[1265] Brensztejn, Michał**.** Bibljoteka Uniwersytecka w Wilnie do roku 1832-go**.** Wilno, 1925. S. 10.

[1266] Bieliński, Józef. Uniwersytet Wileński (1579–1831). T. III. Kraków, 1899–1900. S. 509.

[1267] **Іван Залатарэнка** (?–1655), нежынскі казацкі палкоўнік, наказны гетман Запарожскага войска (1654–1655).

[1268] **Януш Радзівіл** (1612–1655), дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, гетман польны літоўскі (1646–1654), ваявода віленскі (1653–1655), гетман вялікі літоўскі (1654–1655).

[1269] **Павал Ян Сапега** (1609–1665), дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, вялікі гетман літоўскі ў 1656–1665 гг.

Вось як апісвае Г. Масьціцкі[1270] (у кнізе «Вільно», Варшава, 1924, 21–24[1271]) тагачасныя падзеі пры штурме беларускай сталіцы:

*«У пачатак жніўня 1655 г. трыстатысячная армія заняла Літву (чыт. Беларусь), набліжалася сярод пажарышчаў і зьнішчэньняў да Вільні. Вялікі страх агарнуў места. Хто мог, уцякаў у лясы, заграніцу; біскуп з мошчамі сьв. Казіміра ў Каралевец, за ім манахі з цудоўным абразом Маці Божае (Вострабрамскай). Мяшчане рыхтаваліся да абароны пры мескіх брамах, у хатах, у манастырох, цэрквах, касьцёлах і бажніцах. Але не хапала войска й правадыроў. Раніцою 8 жніўня падышоў вораг да сталіцы. Апаясана места заставамі, каб ніхто ня ўцёк, узьнята трывогу, пачаўся штурм. Жудасьць агарнула наймужнейшыя сэрцы. Ніхто не хацеў здавацца, а аб абароне ня было гутаркі. Уварваліся ў места казакі, мігам узялі брамы, цьвярдыні-дамы, касьцёлы, шалёную пачалі разьню. Выцягівалі з памяшканьняў няшчасных, каб сярод расп'янелай сваволі замучыць іх выдумоўванымі мукамі. Хутка вуліцы былі засьцелены страшна змасакраванымі трупамі, бяз адзеньня, у адной жудаснай масе кінутых у балота, бязкшталтных, аднак яшчэ дрыгаючых апошнімі спазмамі жыцьця... Кажуць, што ў тым адным дні зьгінула 25 тысяч людзей»*.

Віленская Акадэмія як нацыянальная скарбніца, на падабенства мошчаў сьв. Казіміра й Вобразу Вострабрамскае Маці Божае, была вывезена ў Прусы, у Каралевец. Туды перанесьліся ў бальшыні прафэсары й студэнты. Вывезеныя былі таксама найбольш каштоўныя кніжныя зборы акадэмічнай бібліятэкі. Частка аднак акадэмічнай кніжніцы трапіла ў рукі Швэдаў ды была зьвернена на аснове Аліўскага дагавору[1272].

У 1661 г. Масква прымушаная была пакінуць Вільню ды Беларусь па Дняпро. У спаленую ды абязьлюдненую сталіцу пачалі вяртацца недабіткі. Вярнуліся мошчы сьв. Казіміра, цудоўны абраз Маці Божае Вострабрамскай, вярнулася і Акадэмія. Аднак ужо да канца існаваньня Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць да канца 18 ст., сталіца Беларусі — Вільня ня здолела залячыць нанесеных ранаў. Не змагла заззяць нанова й Віленская Акадэмія, хоць пачала сваю дзейнасьць зараз пасьля вызваленьня заходнядняпроўскай Беларусі. Абяднелая краіна

---

1270 **Генрык Масціцкі** (польск. *Henryk Stanisław Mościcki*, 1881–1952), польскі гісторык, прафесар Варшаўскага і Ягелонскага ўніверсітэтаў.

1271 Відаць, маецца на ўвазе кніга: Mościcki, Henryk. Wilno. Warszawa: Hoesick, 1922. — 72 s.

1272 Маецца на ўвазе **Аліўскі мір** — мірная дамова паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай з яе саюзнікамі Аўстрыяй і Брандэнбургам, падпісаная 3 мая 1660 г. у Аліўскім манастыры паблізу Гданьска пры пасярэдніцтве Францыі. Паводле дамовы кароль Рэчы Паспалітай Ян II Казімір адмовіўся ад прэтэнзій на шведскую карону.

не змагла згуртаваць у Акадэміі, як раней, найлепшых навуковых сілаў заходняй Эўропы ды вытварыць сваіх кадраў. Аднак ня трэба думаць, што панаваў поўны заняпад. Цяжкасьць заключалася ў тым, што трэба было адбудоўваць усё нанава.

Разграбленая Віленская бібліятэка ўкамплектоўвалася новымі фундацыямі. Перш за ўсё цяпер у яе ўлілася так зв. *«бібліятэка Сапегі»* — сына славутага канцлера, які яшчэ ў 1644 г. запісаў свае навуковыя цэннасьці Акадэміі. Яна налічвала каля 3000 назоваў. За Сапегай пайшлі іншыя. У 1677 г. перадаў Акадэміі сваю бібліятэку канцлер Віленскай курыі Казімір Войнаровіч. У 1722 г. перайшла ў акадэмічную бібліятэку кніжніца Віленскага біскупа Казіміра Брастоўскага[1273]. Гэта таксама зрабіў ягоны наступнік Мацей Язэп Аўкута[1274]. У палове 18 ст. браты Казімір і Міхась Вярбіцкія перадалі Акадэміі каля 16 000 залатых на абсталяваньне бібліятэкі, была таксама падараваная камяніца, даходы зь якой (200 зал.) прызначаныя былі на патрэбы бібліятэкі (Брэнштэйн, 17[1275]). Дзякуючы гэтым фундацыям Акадэмія зноў сталася галоўным асяродкам вышэйшай асьветы ў Беларусі.

Кінем цяпер вокам на прафэсарскі склад Акадэміі ды на важнейшыя навуковыя дасягненьні.

На аснове вывучэньняў Растоцкага, Браўна[1276], Прайшофа і іншых Бялінскі (назв. пр. т. III, 16–22, 107–366[1277]) называе ў часе між 1579 а 1662 гг. 24 рэктараў і 63 прафэсараў Акадэміі. Паводля краінаў паходжаньня так рэктары, як і прафэсары былі рознай нацыянальнасьці. Гэткае так сказаць *«міжнароднае»* аблічча Акадэміі было магчымае таму, бо выкладовай мовай яе была мова лацінская, мова міжнародная сярэднявечча й навейшых часоў.

Вось-жа паводля краінаў паходжаньня рэктары былі наступныя:

а. Беларусы: Паўла Бокша, Адам Брокус, Ян Гружэўскі, Войцях Віюк Каяловіч, Казімір Віюк Каяловіч, Сымон Ніклевіч ды Міхась Гіньковіч.

---

1273 Маецца на ўвазе **Канстанцін Казімір Бжастоўскі** (польск. *Konstanty Kazimierz Brzostowski*, 1644–1722), рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, віленскі біскуп у 1687–1722 гг.

1274 Маецца на ўвазе **Мацей Юзаф Анцута** (польск. *Maciej Józef Ancuta*, ?—1723), рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, віленскі біскуп у 1722–1723 гг.

1275 Brensztejn, Michał**.** Bibljoteka Uniwersytecka w Wilnie do roku 1832-go**.** Wilno, 1925. S. 17.

1276 Braun, Józef. Biblioteka pisarzów assystencyi polskiéj Towarzystwa Jezusowego powiększona dwoma dodatkami, z których pierwszy zawiera polskie i rossyjskie tłomaczenia, drugi wydania pisarzy Towarzystwa Jezusowego do innych assystencyi należących w Polsce i Rossyi. Poznań, L. Merzbach, 1862. — 501 s.

1277 Bieliński, Józef. Uniwersytet Wileński (1579–1831). T. III. Kraków, 1899–1900. S. 16–22, 107–366.

б. Выхадцы з Польшчы: Пётра Скарга, Якуб Вуяк, Станіслаў Влошак, Фрыдэрык Баршч, Сымон Угнеўскі, Ян Вісковец, Войцях Цецішэўскі, Ян Півоцкі ды Ян Рывоцкі.

в. Немцы: Леанард Крокер, Піліп Фрузіюс, Мэльхіяр Шмэлінг, Рыгор Гінц і Рыгор Шэнгоф.

г. Гішпанцы: Алабанус Гарзіяс, Міхал Ортыз і Бэнэдыкт дэ Соксо[1278].

Гэтаксама й прафэсарскі склад Акадэміі быў рознанацыянальны, і ня можа быць ніякай гутаркі, як гэта часам распаўсюджвае варожая прапаганда, быццам Віленская Акадэмія шырыла палянізацыю. Ніякай палянізацыі ня было. Ішла хутчэй *«лацінізацыя»*. Выкладалася таксама ў Акадэміі, як і ва ўсіх езуіцкіх школах, дзяржаўная беларуская мова. Не палянізацыю насельніцтва ставяць у віну езуітам нат' найбольш ярыя расейскія праціўнікі езуітаў, а акаталічваньне ды *«лацінізацыю»*. *«Мертвое наречие древних римлян вытеснило и заменило собою в иезуитской школе живую польскую речь»* — піша дасьледнік гэтай справы І. Я. Мітрашэнка (Іезуиты въ восточной части Белоруссии съ 1579 по 1772 г. Полоцко-Витебская Старина, вып. II. Віцебск, 1912[1279]).

Прафэсары Акадэміі былі, як ніжэй:

а. Беларусы: Ян Андрэйкавіч, Мікола Дзіцюс, Ільля Даўнаровіч, Юры Эльгер (зь Лівоніі), Мікола Кміціч, Ян Яхновіч, Пётра Віюк Каяловіч, Жыгімонт Лаўксьмін, Андрэй Новак, Каспар Савіцкі, Валянтын Сковід, Канстантын Шырвід, Максім Вайцяхоўскі, Лукаш Залускі, Андрэй Зіневіч, Мікола Ланчыцкі, Марцін Латэрна.

б. Палякі: Мікалай Бялкоўскі, Ян Бялецкі, Ян Хондзынскі, Юры Домброўскі, Сымон Гурскі, Станіслаў Гродзіцкі, Марцін Гіньча, Адам Камінскі, Адам Каханьскі, Станіслаў Касіньскі, Марцін Лашч, Юры Мокрскі, Александар Алізароўскі, Якуб Альшэўскі, Ян Пачапоўскі, Тамаш Пажэцкі, Войцях Расьцішэўскі, Мацей Сарбеўскі, Марцін Сьміглецкі, Геранім Стэфаноўскі, Войцях Тылькоўскі ды Марцін Вітускі.

в. Італьянец — Ян Андрыяні.

г. Швэды: Лаўрэн Богер, Марка Грабэніус.

д. Ангельцы: Якуб Босгрэйф, Артур Фонтні.

е. Датчанін — Агерсон Гаргоніус.

ж. Фляманец — Ян Лянс.

з. Нарвэг — Лаўрэн Ніколяс.

і. Партугалец — Эмануіл дэ Вэга.

й. Аўстрыяк — Квірын Кноглер.

к. Немцы: Сымон Дыльгер, Якуб Грэтцэр, Карл Крэйтц.

---

[1278] Біяграфічныя звесткі рэктараў Віленскага ўніверсітэта гл.: Bieliński, Józef. Uniwersytet Wileński (1579–1831). T. III. Kraków, 1899–1900. S. 12–92.

[1279] Маецца на ўвазе праца: Митрошенко, И. Иезуиты въ восточной части Белоруссии съ 1579-го по 1772-й год. [Витебск, 1912]. — 120 с.

л. Выхадцы з Усходніх Прусаў: Ян Аляндус, Лаўрэн Бартыліус, Мацей Бэмбус, Ян Брандт, Валентын Фабрыц, Тамаш Клягэ, Андрэй Клінгер, Юстын Рабэ, Андрэй Розэнвальд[1280].

Вялікі працэнт рэктараў і прафэсараў Акадэміі — выхадцаў з замежных краінаў сьветчыць, з аднаго боку, аб недахопе сваіх кваліфікаваных прафэсарскіх кадраў. Гэта пацьвярджае яшчэ й тая акалічнасьць, што аж да канца 18 ст. зь недахопу прафэсарскіх сілаў нельга было адчыніць пры Акадэміі мэдычнага факультэту, хоць закон у гэтай справе быў выдадзены ў 1641 г. З другога боку, Акадэмія старалася абсадзіць усе катэдры найлепшымі тагачаснымі сіламі.

З пасярод прафэсараў Акадэміі занялі выдатныя месцы:

Пётра Скарга, аўтар шматлікіх твораў, як «Аб еднасьці Касьцёла Божага» (1577)[1281], «Жывоты сьвятых» (1579)[1282], «Сем філяраў»[1283] і іншых палямічных працаў.

Мацей Сарбеўскі (1595–1640), выдатны лацініст, званы «Гарацым Сармацкім», здабыў эўрапэйскую славу лацінскай лірыкай, за што атрымаў лаўрыновы вянок ад папы Урбана VIII. У маладосьці ён быў настаўнікам езуіцкай Калегіі ў Крожах, потым прафэсарам Віленскай Акадэміі. Ягоныя «оды» былі перакладзеныя на розныя мовы: ангельскую, французскую, нямецкую, італьянскую, фляманскую, чэскую, польскую. Вось невялічкія ўрыўкі ягонай паэзіі ў маім перакладзе:

Даўно ўжо грудзёй вясны цёплай дыхнуў на палі павеў маёвы
Й вясеньняй красою адзеліся сенажаці, лугі ды дубровы.
Вілія, засланая грузам жытнім, цераз палі коціцца ціха,
А тут з узгорка цячэць птушак напеў гучлівы, шуміха
І там на кургане вяселіцца. Гэта хлапчук на дудцы йграе
А вецер яму на Вільні ў ветразі ўторыць, зь весьляром сьпявае…
А вось шчыт Лукішак зелень спавіла! Дубы носіць магутны, асілак…
Адтуль зь верхавіны, адтуль з паднябесься сьцеліцца Вільня пад намі,
І Вілія яе туліць навокал крутымі шляхамі…
І замак Гэдымінга, што старожай стаіць на магутных стоках,
Сталіца Літвы — вось башты й вежы, што гінуць у аблоках…!

[1280] Біяграфічныя звесткі прафесараў Віленскага ўніверсітэта гл.: Bieliński, Józef. Uniwersytet Wileński (1579–1831). T. III. Kraków, 1899–1900. S. 107–365.

[1281] Маецца на ўвазе твор Пятра Скаргі *«O jedności Kościoła Bożego pod jednym Pasterzem i o greckim od tej jedności odstąpieniu»* (Wilno, 1577).

[1282] Маецца на ўвазе твор Пятра Скаргі *«Żywoty świętych»* (Wilno, 1579).

[1283] Маецца на ўвазе твор Пятра Скаргі *«Siedem filarów, na których stoi katolicka nauka o Przenajświętszym Sakramencie Ołtarza»* ([Wilno], 1582).

Агулам Сарбеўскі напісаў каля 58 твораў. Да аднаго зь іх слаўны Рубэнс[1284] намаляваў вокладку ў 1632 г.

Мікола Ланчыцкі, слаўны тэалёг, нар. 1574 г. у Нясьвіжы, памёр 1652 у Коўні. У моладасьці кальвінскіх пераконаньняў, уступіў у закон езуітаў у Рыме, дзе скончыў высокія навукі. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, быў прафэсарам тэалёгіі й гэбрайскай мовы ў Віленскай Акадэміі. Апублікаваў ён многа працаў з галіны тэалягічных навукаў, якія ўважаныя былі за клясычныя й перакладаліся на нямецкую й францускую мовы (Браўн. Бібліятэка пісьменьнікаў Тав. Езуса. Пазнань, 1862, 252–255, поль.[1285]).

Марцін Лятэрна нар. у Драгабычы ў 1553 г., адбыў езуіцкі навіцыят у Брунсбэргу, вучыўся ў Віленскай Акадэміі, дзе атрымаў ступень доктара тэалёгіі. Потым стаўся там парфэсарам вымовы. У часе падарожжа із Швэцыі ў 1598 г. быў швэдамі ўкінены ў мора. Выдаў знамянітую кніжку-маліцьвеньнік «Духоўная гарфа»[1286] (Пам. Варшавскі 1829[1287]).

Яўхім Хрэптовіч, нар. 1729 г. у Шчорсах. Акадэмічныя навукі скончыў у Вільні й Брунсбэргу быў пасьля вялікім рэфарматарам школьніцтва пасьля касацыі езуітаў[1288].

Марцін Пачабут-Адляніцкі нар. 1728 г. у Саломянцы каля Горадні. Вучыўся ў Горадзенскай Калегіі й Віленскай Акадэміі, а потым спэцыялізаваўся заграніцай у матэматыцы ды астраноміі. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, пераняў Віленскую астранімічную абсэрваторыю, існуючую ад 1753 г. Ягоныя астранамічныя працы прынясьлі яму эўрапэйскую славу. У 1780 г. Пачабут стаўся рэктарам Віленскай Акадэміі. Памёр у 1810 г. (Сьнядэцкі. Жыцьцё Пачабута. Вільня, 1810[1289]).

Давід Пільхоўскі нар. 1735 г. у Руткішках каля Аўгустова, скончыў Віленскую Акадэмію, а потым быў прафэсарам у Шляхоцкім Канвікце. Пасьля скасаваньня езуітаў быў прафэсарам літаратуры ў Галоўнай

[1284] **Пітэр Пауль Рубенс** (гал. *Pieter Paul Rubens*, 1577–1640), фламандскі мастак. Тут маецца на ўвазе намаляваная ім вокладка да кнігі Мацея Сарбеўскага *«Lyricorum Libri»* (Antwerp, 1632).

[1285] Braun, Józef. Biblioteka pisarzów assystencyi polskiéj Towarzystwa Jezusowego powiększona dwoma dodatkami, z których pierwszy zawiera polskie i rossyjskie tłomaczenia, drugi wydania pisarzy Towarzystwa Jezusowego do innych assystencyi należących w Polsce i Rossyi. Poznań, L. Merzbach, 1862. S. 252–255.

[1286] Маецца на ўвазе кніга: Laterna, Marcin. Harfa duchowna. 1585.

[1287] Відаць, недакладная спасылка. Перыёдыкі з назвай *«Pamiętnik warszawski»* выходзілі ў Варшаве ў 1815–1823 і 1929–1931 гг.

[1288] Яўхім Храптовіч памёр у 1812 г.

[1289] Маецца на ўвазе кніга Яна Снядэцкага *«Żywot uczony i publiczny Marcina Odlanickiego Poczobuta. Czytany na publicznem posiedzeniu Imperatorskiego Wileńskiego Uniwersytetu przy zamknięciu rocznego biegu nauk dnia 30. Czerwca R. 1810»* (Вільня, 1810).

Школе Літоўскай. У гадох 1780–1787 быў візытатарам школьніцтва. Выдаў шмат выдатных працаў[1290] (Курыер літоўскі, 1803, № 97[1291]).

Тамаш Гусарэўскі, нар. у 1732 у Варшаве. Быў прафэсарам Віленскай Акадэміі ад 1780 г. і палажыў асновы пад навейшую гістарычную школу. Лелявэль[1292] быў ягоным вучням. Памёр у 1807 г.

Міхаіл Карповіч найслаўнейшы красамоўца 18 ст., нар. 1744 г. каля Берасьця. Вучыўся у езуіцкай Калегіі ў Берасьці, потым у Рыме. Пакліканы на катэдру тэалёгіі дагматычнай у Акадэміі ў Вільні, славіўся красамоўнасьцяй сваіх выкладаў ды прамовамі на зьездах шляхты й паседжаньнях Літоўскага Трыбуналу. Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі пераехаў у Прусы, дзе быў біскупам у Віграх. Памёр у 1805 г. Пакінуў па сабе слаўныя трыбунальскія й соймавыя казаньні. («Пшыяцель люду», 1837, № 22[1293]).

Францісь Міліконт-Нарвойш, нар. 1742 г. на Беларусі, вучыўся у Віленскай Акадэміі, дзе стаўся прафэсарам матэматыкі. Працаваў таксама як інжынэр над рэгуляцыяй Нёмана ды над картаграфіяй Беларусі. Памёр у Вільні ў 1819 г. (Дзеньнік Віленскі, 1820, III[1294]).

Геронім Страйноўскі нар. на Валыні ў Хадачкове ў 1752, наведваў піярскія школы. У 1781 г. назначаны быў прафэсарам права й палітычнай эканоміі ў Віленскай Акадэміі. Ад 1799 быў рэктарам Акадэміі, потым Віленскім біскупам. Памёр у 1815 г. Напісаў выдатную працу «Навука натуральнага права»[1295] (Рудоміна. Жывот Г. Стройновскего. Вільня, 1839[1296]).

Вайцех Віюк Каяловіч, прафэсар і рэктар Акадэміі, напісаў двутамовую гісторыю Беларусі на лаціне й выдаў яе ў Гданску (1650) і ў Антвэрпэне (1669)[1297]. Праца гэта пазьней была перакладзена на ня-

---

[1290] Давід Пільхоўскі памёр у 1803 г.

[1291] Спасылка на газету: Kurier Litewski. № 97. 1803.

[1292] **Яўхім Лялевель** (польск. *Joachim Lelewel*, 1786–1861), польска-беларускі гісторык і грамадскі дзеяч.

[1293] Спасылка на тыднёвік: Przyjaciel Ludu, czyli Tygodnik Potrzebnych i Pożytecznych Wiadomości. № 22. 1837.

[1294] Спасылка на перыёдык: Dziennik wileński. T. III. 1820.

[1295] Маецца на ўвазе праца Гераніма Страйноўскага *«Nauka Prawa Przyrodzonego, Politycznego, Ekonomiki Politycznej i Prawa Narodów… Dla pożytku uczniów i słuchaczów do druku podana*, *powst. 1780*» (Wilno, 1785).

[1296] Rudomina, Jan Gwalbert. Żywot Hieronima Strojnowskiego rektora Cesarskiego Wileńskiego Uniwersytetu, biskupa wileńskiego. Wilno: [s. n.], 1839. — 42 s.

[1297] Маюцца на ўвазе працы Войцеха Віюк-Каяловіча: *«Historiae Lithuanae pars prior, de rebus Lithuanorum ante susceptam Christianam religionem conjunctionemque… cum regno Poloniae»* (Danzig, 1650) і *«Historiae Lithuanae pars altera a conjunctione cum Regno Poloniae ad unionem corum Dominiorum libri octo»* (Antverp, 1669).

мецкую мову, а выдавец яе Людвік Шлецэр пісаў, што *«Каяловіч у 17 веку быў адным зь першаклясных гісторыкаў у Эўропе»*.

Прыблізна сто гадоў пазьней (1758) як вынік разьвіцьця гістарычнай навукі паявіцца знаменіты навукова-апрацаваны твор Мацея Дагеля[1298] «Кодэкс дыпляматычны Каралеўства Польскага й Вялікага Княства Літоўскага», друкаваны ў Вільні. У гэтым часе разьвілося ў Беларусі часапісьменства, на чале якога пры ўдзеле Віленскай Акадэміі паставіць можна Віленскія «Вядомосьці літэрацке»[1299].

Агулам пры ўдзеле Віленскай Акадэміі за час яе існаваньня апублікавана ў Вільні больш 500 пераважна навуковых і арыгінальных працаў у лацінскай мове. Некаторыя зь іх былі перакладаныя на беларускую й польскую мовы.

Віленскай Акадэміі ў самым месьце Вільні падлягалі наступныя навуковыя адзінкі:

а. Віленская акадэмічная Калегія, яе падрыхтаваўчая школа да Акадэміі;

б. Бурсы (інтэрнаты) для мяшчанскай моладзі з фундацыі біскупа Валерага Пратасэвіча з 1577 г., Хадкевіча[1300] з 1588 г., Войны[1301] з 1601 г.;

в. Калегія папская А. Пасавіна[1302] ўсходня-славянскага абраду для 30 студэнтаў Беларусаў, заснаваная за Баторага ў 1581 г. Пасьля навуковыя стыпэндыі выкарыстоўвалі лацінскія клерыкі аж да 1751 г.;

---

[1298] Маецца на ўвазе **Мацей Догель** (1715–1760), вялікалітоўскі гісторык-архівіст, правазнаўца. Укладальнік працы: *Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae, in quo pacta, foedera, tractatus pacis, mutuae amicitiae, subsidiorum, induciarum, commerciorum, nec non conventiones, pactiones, concordata, transactiones, declarationes, statuta, ordinationes, bullae, decreta, edicta, rescripta, sententiae arbitrales, infeudationes, homagia, pacta etiam matrimonialia et dotalia, literae item reversales, concessionum, libertatis, immunitatis, donationum, erectionum, obligationum, venditionum, emptionum, permutationum, cessionum, protestationum, aliaque omnis generis publico nomine actorum et gestorum monumenta nunc primum ex archivis publicis eruta ac in lucem protracta exhibentur.* T. 1–5. Wilno, 1758–1764.

[1299] ***«Wiadomości Literackie»*** (польск.) — «Літаратурныя паведамленні» — дадатак да перыёдыка *«Kuryer Litewski»*. Выходзілі ў Вільні ў 1760–1763 гг.

[1300] Відаць, маецца на ўвазе **Ян Караль Хадкевіч** (1560–1621), вайсковы і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, гетман вялікі літоўскі ў 1605–1616 гг., віленскі ваявода ў 1616–1621 гг.

[1301] Магчыма, маецца на ўвазе **Бенедыкт Война** (?—1615), рэлігійны і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, ад 1600 г. — віленскі біскуп.

[1302] Маецца на ўвазе **Антоні Пасевіна** (лац. *Antonius Possevinus*, 1534–1611), сакратар генерала ордэна езуітаў, папскі легат ва Усходняй Еўропе.

г. Духоўная сэмінарыя, заснавана біскупам Юрым Радзівілам у 1581 г.;

д. Бурсы для беднай моладзі, што наведвалі Акадэмію, зарганізаваныя а. канонікам Бэйнартам у 1602 г. і б. Міколай Корсакам у 1618 г.;

е. Конвікт для шляхоцкай моладзі, адчынены ў 1742 г. як асобная навуковая ўстанова з собскай праграмай. Прафэсар матэматыкі й фізыкі езуіта Тамаш Жаброўскі[1303] меў тут габінэт фізычна-астранамічны;

ж. Акадэмічная друкарня, падараваная Радзівілам Сіроткай[1304] у 1580, потым разбудавана коштам Віленскага біскупа Белазора[1305] ў 1665 г. ды рэктарам Бразоўскім у 1756 г.;

з. Акадэмічная бібліятэка, аб якой была гутарка вышэй.

Па-за Вільняй сетка езуіцкіх школаў пакрывала так заходнюю, як і ўсходнюю Беларусь, на якія ў той ці іншай меры мела ўплыў Віленская Акадэмія. На першае месца высоўваецца Полацкая Акадэмія, заснаваная Баторым у 1581 г., аб якой будзе асобны артыкул. Далей ідуць езуіцкія вышэйшыя школы — Калегіі з рознай праграмай навучаньня. Да найважнейшых належалі:

1. Калегія ў Нясьвіжы, заложаная кн. Радзівілам Сіроткай у 1582 г. ды разбудаваная ў 1584 г. разам з усім местам ды касьцёлам Цела Божае. Першым рэктарам быў Мраскоўскі, які кіраваў спачатку ніжэйшай школай, а ад 1587 г. гуманістыкай і рэторыкай. Катэдру філязофіі ўстанавіў рэктар Андрэй Люшкоўскі ў 1641 г. Апрача пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школаў тут існаваў ад 1620 г. Конвікт для шляхоцкай моладзі ды бурса для сялянскай моладзі, утрымоўваная коштам Радзівіла. Студэнтаў налічвалася 300 і больш.

У часе маскоўскага *«патопу»* ў канцы верасьня насельніцтва Нясьвіжа было выразанае казакамі, а школы спаленыя. Хутка былі адбудаваныя, але ў 1706 у часе швэдзкай вайны Кароль XII, узяўшы штурмам места, разбурыў яго і апустошыў. Нанова ўзнавілі навучаньне езуіты ў 1710 г. Місійныя касьцёлы й пачатковыя школы, падпарадкаваныя Нясьвіскай Калегіі існавалі ў Малькавічах і Лахве.

2. Калегія ў Горадні, заснаваная ў 1585 г. Баторым ды забясьпечана наданьнем маёнтку Кундзін ды грашыма 30 тыс. зал. Сьмерць Баторага перашкодзіла на адкрыцьцё Калегіі, і гэта наступіла аж у 1622 г. Год перад гэтым староста Горадзенскі Станіслаў Касабудзкі запісаў Ка-

---

1303 **Тамаш Жаброўскі** (1714–1758), рэлігійны дзеяч, матэматык, архітэктар, выкладчык Віленскай езуіцкай акадэміі.

1304 **Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка** (1549–1616), дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мецэнат, пісьменнік, сын Мікалая Радзівіла Чорнага.

1305 **Юры Белазор** (?—1665), дзяржаўны і рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, віленскі біскуп у 1661–1665 гг.

легіі яшчэ вёску Сухую Балю, а ў 1647 Дальмат Ісакоўскі маёнткі ў Сьвіслачы ды збудаваў тамака прыгожы касьцёл і сярэднюю школу. Сойм 1667 г. зацьвердзіў фундацыю Ісакоўскага, пабольшаную Крыштапам Халецкім запісам маёнткаў Гарастова і Каўбасін ды маёнткам езуіты Гераніма Дзевалтоўскага ў Шупенях. Такім чынам Калегія як вышэйшая школа пачала працу ў 1664 г. пры езуіцкім фарным касьцёле ў Горадні. У Калегіі былі катэдры: рыторыкі (ад 1645), філязофіі (1710) і тэалёгіі (1762). Да яе належала таксама публічная аптэка з аптэкарскім аддзелам. Місійныя школы былі ў Мэрэчы, Дуброве, Ваўкавыску і Котры, а сярэдняя ў Сьвіслачы.

3. Калегія ў Ломжы, заснаваная ў 1614 г. Першым рэктарам быў Адам Калаземскі. Існавала тут толькі рыторыка й катэдра філязафічных навукаў. Вучняў было да 250 чалавек. Школа місійная была ў Мышынцы.

4. Калегія ў Смаленску, адчынена ў 1621 г., дзейнічала да 1632, калі Смаленск быў узяты Масквой. Пасьля вызваленьня ў 1634 г. заняткі былі ўзноўленыя з рыторыкі й казуістыкі, а ў 1644 г. паўсталі катэдры філязофіі, матэматыкі й фізыкі. Лік вучняў даходзіў да 700. Маскоўская навала ў 1654 г. і трывалае заняцьцё Масквой Смаленска палажылі канец Калегіі.

5. Калегія ў Берасьці ад 1623 г. зь сярэднімі навукамі. Катэдра рыторыкі адчынена ў 1636 г. пры рэктары Рафале Янчынскім, філязофіі — у 1757, рэктарат Міхаіла Арлоўскага. Школы місійныя былі ў Прыжанах[1306] і ў Кодзені.

6. Калегія ў Наваградку, заложаная ў 1626. У 1655 г. у часе маскоўскай навалы Наваградак быў спалены й разбураны, насельніцтва выразанае або вывезенае. Рэктар Калегіі Рыгор Рафаловіч быў засечаны, а праф. Андрэй Кавачынскі[1307] высланы зь іншым жыхарствам у капальні ў Сібір, адкуль пасьля 10 гадоў вярнуўся калекай і памёр у Нясьвіжы ў 1667. У часе паўторнага маскоўскага заняцьця Наваградка ў 1660 г. у Калегіі жылі расейскія ахвіцэры. Нанава пачала працу Калегія ў 1665 г. з пачатковымі школьнымі прадметамі, потым з паэтыкай і рыторыкай. Ад 1705 г. існаваў тут Конвікт шляхоцкі з асобнай праграмай навучаньня, а ад 1714 г. Калегія сталася запраўды вышэйшай школай, бо адчынены былі катэдры філязафічных навукаў. У 1736 г. пачала выклады катэдра матэматыкі, а 1743 г. — фізыкі. У часе касацыі езуітаў у 1773 г. Калегія мела 40 студэнтаў.

7. Калегія ў Пінску. Заснаваная ў 1638 г. цяжка пацярпеўшая разам зь местам у часе маскоўскай навалы 1655 г. і 1657–1660. Адпружаньне прыйшло толькі ў 1675, калі Калегія пачала зноў ажыўленую

---

[1306] Відаць, маюцца на ўвазе Пружаны.

[1307] Маецца на ўвазе **Андрэй Кавячынскі** (?—1667), езуіт, педагог, быў намеснікам рэктара Наваградскага калегіума.

дзейнасьць, асягнуўшы стан свайго росквіту ў 1710 г. Было тады ў Калегіі 10 прафэсараў ды тры катэдры: тэалёгіі, філязофіі й рыторыкі. Школы місійныя знаходзіліся ў Лагішыне, Тэлеханах і Стасанах, а ў Тураве ад 1631 сярэдняя школа. У часе маскоўскай навалы тут быў замучаны выдатны прафэсар і місіянер Андрэй Баболя[1308] (1657).

8. Калегія ў Віцебску. Заснаваная ў 1640 г., але ў часе *«патопу»* спалена разам зь Віцебскам. Пасьля міру ў 1667 г. школа пачала заняткі. У 1676 прыбыла рыторыка й бурса для сялянскае моладзі, у 1682 — філязофія. Новы будынак над Віцьбай збудаваў рэктар Валентын Гарманоўскі ў 1691 г. У 1697 г. пры Калегіі адчыненая была аптэка. У часе «Паўночнай вайны» горад быў спалены (1708). Калегія была адбудавана ў 1738 г. з катэдрамі філязофіі і тэалёгіі маральнай. У 1756 г. адчынена была сэмінарыя для беднай шляхты. Пажары ў 1757 і 1761 зьнішчылі школьныя будынкі, якія былі нанава адбудованы ў 1765 г.

9. Калегія ў Драгічыне на беларускім Падляшшы была заснавана ў 1661 г. Курс граматыкі ў 1667 г., паэтыкі — 1674, рыторыкі — 1683 г. У 1700 адчынены быў Конвікт для беднай шляхты. Катэдры філязофіі й тэалёгіі маральнай установленыя былі ў 1713 г.

10. Калегія ў Менску пачала сваю дзейнасьць у 1714 г., навучаньне граматычных прадметаў пачалося раней, ад 1672. Сярэдняя школа з бурсай для беднай моладзі адчыненая ў 1686 г. Поўны курс філязофіі пачаўся ў 1729 г. Школа місійная існавала ў Блоні.

11. Калегія ў Слуцку. Пачатковыя й сярэднія школы былі заснованы ў 1704 г. Філязофія й дапаможныя навукі — у 1714 г.

Апрача гэтага існавалі пачатныя й сярэднія школы ў Бабруйску, у Мсьціслаўлі, у Жодзішках, Слоніме, Сьніпішках каля Вільні ды іншых місійных пунктах, аб чым яшчэ будзе гутарка ў нашых далейшых артыкулах.

Што датычыць структуры езуіцкага школьніцтва, то яна прадстаўлялася прыблізна наступна. Ніжэйшыя школы (адпаведнікі сярэднявечных трывіум) падзеленыя былі на 5 або 6 клясаў і займалі 6–8 гадоў навукі. Тут былі ступені: ніжэйшая, сярэдняя й вышэйшая, адпаведна да граматычнай этымалёгіі, сінтаксісу й стылістыкі. Апрача лацінскай мовы сюды даходзіла грэцкая, беларуская мовы й пачаткі арытмэтыкі. У сярэдняй школе (супэр'ёра) навука займала 7 гадоў. Тут выкладаліся матэматыка з геамэтрыяй і стэрэамэтрыяй, лёгіка, літаратура, вышэйшая стылістыка, рыторыка. Курс філязофіі й тэалёгіі займаў 4 гады і абымаў выклад філязофіі сьв. Тамаша з Аквіну[1309] з адхіленьнямі ў бок

---

[1308] **Андрэй Баболя** (польск. *Andrzej Bobola*, 1591–1657), каталіцкі сьвяты, пакутнік; за сваю місіянерскую дзейнасць празваны «Апосталам Палесся» ды «Пінскім апосталам».

[1309] **Фама (Тамаш) Аквінскі** (лац. *Thomas Aquinas*, 1225–1274), тэолаг і філосаф-схаласт, настаўнік Царквы, прылічаны да сьвятых Каталіцкай царквой.

грэцкіх філёзафаў, дагматыку, тэалёгію маральную й палемічную, сьв. Пісьмо ды гэбрайскую мову. Такім чынам поўны курс езуіцкага навучаньня займаў прыблізна 15 гадоў, гэта значыць роўны для цяперашняй школьнай сыстэмы. Нічога дзіўнага, што гадунцы езуіцкіх школаў вырозьніваліся агульнай агладай[1310], шліфоўкай мазгоў, валоданьнем чужымі мовамі, энцыкляпэдычнымі ведамі ды вастрынёй у палеміцы. Да гэтага трэба дадаць, што ўся езуіцкая школьная сыстэма была даступная кажнаму, навучаньне было бясплатнае, а ў большасьці выпадкаў пры школах існавалі дармовыя інтарнаты з поўным утрыманьнем для беднай моладзі[1311].

[1310] Так у тэксце.

[1311] З планаванага працягу артыкулаў пра гісторыю вышэйшых школаў у Беларусі Вацлаў Пануцэвіч выдрукаваў толькі адзін: Галоўная Школа Вялікага Княства Літоўскага. 1775–1803 // Бацькаўшчына. № 38–39 (474–475). 18 кастрычніка 1959. С. 4–5.

## «Я-Ж ПІСАЦЬ НЯ ЎМЕЮ»: ЧАСЛАЎ БУДЗЬКА

Швагер Вацлава Пануцэвіча Часлаў Будзька таксама меў замілаванне да гістарычных пошукаў, але найперш быў ён усё-ж друкаром. Антон Шукелойць у пасмяротным успаміне піша:

*«Часлаў Будзька нарадзіўся 29-га чырвеня 1913 г. у Вільні ў сям'і ведамага беларускага нашаніўскага дзеяча й пачынальніка каапэратыўнага руху на Беларусі Адварда Будзькі*[1312]*. Нябожчык скончыў Віленскую беларускую гімназію і аддзел гісторыі гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту ймя Сьцяпана Баторага.*

*Ня маючы магчымасьці дастаць працу ў сваёй прафэсыі з увагі на дзейнасьць у Беларускім Студэнцкім Саюзе, Часлаў Будзька скончыў каапэратыўныя курсы ды працаваў у адміністрацыі Саюзу каапэратываў "Сполэм" спачатку ў Варшаве, а пасьля быў пераведзены ў Кельцы, дзе яго засьпела вайна.*

*У час вайны спачатку пры савецкай акупацыі Вільні працаваў пры выдавецтве, а ў пэрыядзе нямецкай акупацыі — на фізычнай працы ў Нямеччыне.*

*Па вайне сям'я Будзькаў апынулася ў ангельскай зоне, і Часлаў працаваў настаўнікам гісторыі ў Беларускай гімназіі ў Беларускім лягеры ДП у Ватэнштаце. Апрача настаўніцкай працы Нябожчык займаўся выдавецтвам гістарычных і літаратурных твораў для моладзі, заўсёды прыгожа аформленых, хоць і пры рататарнай тэхніцы. Досыць прыгадаць для прыкладу "Апокрыф" Максіма Багдановіча*[1313]*.*

*У 1948 г. Часлаў Будзька выехаў зь сястрой у Ангельшчыну, а ў 1951 г. перабраўся да сям'і ў ЗША ды, асеўшы ў Чыкага настала, у вольны ад працы на хлеб штадзённы час займаўся гісторыяй і мастацтвам, асабліва праектаваньнем вышыванак і дываноў у беларускім народным стылі»*[1314].

У тым лагеры Ватэнштэт акром згаданага Шукелойцем «Апокрыфа» М. Багдановіча Будзька выдаў таксама кнігу Райнгольда Гайдэнштэйна[1315], сакратара Сцяпана Батуры, «Пад Полацкам дадждзы. Запіскі з 1579 году» (1946) ды «Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году (Выняткі)» (1947).

Пра сваё жыццё, пра заняткі гісторыяй ужо ў Чыкага — у вытрымках з Будзькавых лістоў да Вітаўта Тумаша.

*«У мяне наогул нічога новага. Ад чатырох гадоў хварэю. Цяпер ужо трэці месяц сяджу дома і лячуся. Лякарствы, аднак, ня столькі памагаюць, колькі*

---

[1312] **Эдвард (Адварды) Будзька** (1882–1958), грамадскі дзеяч, паэт, публіцыст, выдавец, бацька Часлава Будзькі.

[1313] Гл.: Багдановіч, Максім. Апокрыф. Ватэнштэт, 1946. — 12 с.

[1314] Шукелайць, А. Сьв. памяці Часлаў Будзька // Беларус. № 328. Студзень — сакавік 1986. С. 7.

[1315] **Рэйнгальд Гейдэнштэйн** (ням. *Reinhold Heidenstein*, 1553–1620), нямецкі і польскі дыпламат, юрыст і гісторык, у 1582–1612 гг. — даверааны сакратар польскіх каралёў Стафана Баторыя і Жыгімонта III

*шкодзяць. Др. Ермачэнка*[1316] *(ён прыяжджаў сюды на мэдычны кангрэс) радзіў майму доктару застасаваць новы мэдычны вынахад, доктар аднак сказаў, што гэты новы вынахад (нейкі атамны) стасуюць толькі ў найбольш крытычных выпадках, што найлепшым сродкам ёсьць усё-ж апэрацыя. А наогул мне ўжо ўсё надаела, і жыву толькі, абы дзень пражыць»*[1317].

*«Два тыдні я ўжо адпрацаваў. Працую цяпер на фабрыцы, якая вырабляе розныя рэчы з дроту. Мая работа палягае ў тым, каб круціць дрот, ці лепш кажучы — сачыць за тым, каб дрот круціўся. На рукі дастаю 44 даляры за 6 дзён. У суботу працую да 11 гадзін. Гэта найгорш мяне грызе, бо ня вельмі пазваляе разьбівацца па бібліятэках»*[1318].

*«Для інфармацыі таксама дадам, што ў Чыкаго жыве Вацлаў Студніцкі*[1319]*, быўшы кіраўнік віленскага архіву. Ён жывець пры дзецях, не працуе. Ён, халера, дастаў дазвол з унівэрсытэцкай бібліятэкі браць кніжкі да хаты. Гэтая акалічнасьць мне спаць не дае. Ты мог-бы мне таксама памагчы, каб мне пазволілі браць кніжкі да хаты?»*[1320].

*«<...> А цяпер у справе "гатовага матэрыялу". Калі ідзе аб пісаньне наогул, дык мне лягчэй напісаць цэлую кніжку, як малую рэцэнзыю. Я-ж, як кожнаму ведама, пісаць ня ўмею. Апошнія гады ў мяне такі застой, шо я нават не адказваю на лісты. Адзіны чалавек, якому я яшчэ адпісваю, гэта Ты. Адным словам — два слова: калі Ты маеш надзею, што я калісь нешта напішу, дык гэта надзея цалкам безнадзейная.*

*Я Табе на самым пачатку пісаў, што калі хочаш мець зь мяне нейкую карысьць, дык напішы канкрэтна, чаго Ты хочаш, і я па меры магчымасьцяў матарыял дастану, але ў ніякім выпадку матарыял гэты ня будзе гатовым (да друку).*

*У нас на эміграцыі ёсьць людзі, якія ўмеюць пісаць, але ня маюць магчымасьці рыцца па бібліятэках, з другога боку-ж ёсьць людзі, што рыюцца па бібліятэках, але пісаць ня ўмеюць. У такіх выпадках асоба рэдактара павінна быць пасрэднікам паміж аднымі й другімі.*

*Калі Ты чытаў Аляксея Талстога "Пётр Першы"*[1321]*, Ты напэўна заўважыў, што разьдзел аб В. Кн. Літоўскім гэта адзін з найбольш жудасных разьдзелаў усёй гэтай трылёгіі. Наколькі Талстой Пятра выбяліў, настолькі*

[1316] **Іван Ермачэнка** (1894–1970), грамадскі дзеяч, лекар.

[1317] Ліст Ч. Будзькі да В. Тумаша ад 12.07.1952. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1318] Ліст Ч. Будзькі да В. Тумаша ад 27.02.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1319] **Вацлаў Студніцкі** (польск. *Wacław Studnicki*, 1874–1962), польскі гісторык і архівіст.

[1320] Ліст Ч. Будзькі да В. Тумаша ад 06.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1321] **Аляксей Талсты** (рус. *Алексей Николаевич Толстой*, 1882/1883–1945), расійскі і савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Яго твор «Пётр Першы», распачаты ў 1929 г., не быў скончаны (цалкам напісаныя толькі дзве кнігі).

*Літву ён ачарніў. І вось паўстае пытаньне, адкуль Талстой набраў столькі чорных хварбаў для сваей пэцканіны. Нядаўна я праглядаў кніжку Кітовіча "Вопіс абычаяў за часы Аўгуста ІІІ»*[1322]*. У сваіх успамінах Кітовіч падае, што за часоў Аўгуста Трэцяга*[1323] *(Саса) у Польшчы было трох вялікіх п'яніцаў, а ў Літве адзін (Радзівіл*[1324]*). І вось за Кітовічам, Талстой узяў гэтых двух п'яніцаў з Польшчы, перанёс іх у Літву і пры помачы іх намялаваў такі жудасны абраз п'яной панскай Літвы. Справа гэтая напрашываецца, каб зь яе зрабіць адпаведны ўжытак. Калі-б Ты тэмай гэтай зацікавіў каго-небудзь з нашых пісакаў, я-б мог Кітовіча Табе прыслаць (кніжку Талстога, думаю, можна лёгка дастаць).*

*У наступным годзе міне трыста гадоў ад часу вялікага маскоўскага патопу на Беларусі. "Юбілей" гэты будзе цягнуцца даўжэйшы час, з увагі на што варта было-б сканцэнтраваць увагу нашых гісторыкаў і публікатараў на падзеях таго часу. Бальшавікі ўжо кратаюцца. Я маю артыкул нейкага А. Н. Мальцева пад цікавым тытулам "Война за Белоруссию и освобождение Смоленска в 1654 г." ("Исторические записки", № 37, 1951 г.).*

*У зьвязку з гэтымі ўгодкамі напрошваецца некалькі тэмаў:*

*1. Апублікаваць тэкст невядомага аўтара да смаленскага ваяводы Абуховіча, які прадаў Смаленск маскалём*[1325] *(ліст гэты па стылю вельмі падобны да прамовы Мялешкі*[1326]*).*

*2. Напісаць біяграфію накознага гэтмана Залатарэнкі, які агнём вызваляў Беларусь ад панскага іга. (Украінцы рэклямуюць Залатарэнку як нашага вызвольніка. Па-мойму, большага бандыты ад Залатарэнкі сьвет ня бачыў.)*

*3. Прадставіць нанава справу Палонскага. Акіншэвіч у "Сакавіку" ўжо пісаў аб ім, але не зь беларускага пункту гледжаньня.*

*4. Справа "Белай Русі".*

*5. Радзівіл і швэды.*

---

[1322] **Енджэй Кітовіч** (польск. *Jędrzej Kitowicz*, 1727/1728–1804), польскі гісторык, мемуарыст, святар. Тут маецца на ўвазе праца «*Opis obyczajów i zwyczajów za panowania Augusta III*» (Poznan, 1840).

[1323] **Аўгуст III Сас** (польск. *August III Sas*, 1696–1763), курфюрст саксонскі, кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1733–1763 гг.

[1324] Тут маецца на ўвазе **Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку** (1734–1790), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, ваявода віленскі, вялікі мечнік літоўскі, нясвіжскі і алыцкі ардынат, адзін з найбагацейшых еўрапейскіх арыстакратаў, герой шматлікіх анекдотаў свайго часу праз разгульны лад жыцця.

[1325] Маецца на ўвазе **«Ліст да Абуховіча»** — помнік беларускай літаратуры XVII ст., напісаны ананімным аўтарам у 1655 г. з нагоды падзення Смаленскага гарнізона перад наступам войскаў Маскоўскага княства ў часе вайны 1654–1667 гг.

[1326] **«Прамова Мялешкі»** — помнік беларускай літаратуры 1-й пал. XVII ст., напісаны ў форме прамовы на сейме, прыпісанай смаленскаму кашталяну І. Мялешку. Належыць да гумарыстычна-парадыйных і сатырычных твораў аратарскай прозы.

*6. Іншыя справы»*[1327].

*«Я рыхтую да друку найтаўсьцейшую кніжку, якая была выдана на эміграцыі. За гэтыя месяцы прырыхтаваў ужо каля 300 бачын, а канца яшчэ не відаць. Кніжка мае называцца “Кніжка аб Івашцы Гарнастаю”*[1328]*, у якой будуць зьмешчаны ўсе дакуманты, якія можна дастаць тут на эміграцыі і якія адносяцца да 45 гадовай дзейнасьці Гарнастая (1513–1558 гг.) на розных урадах і дастойнасьцях. Пераважна будуць гэта дакуманты зь Літоўскай Мэтрыкі, але будуць і іншыя дакуманты, не ахопленыя Літоўскай Мэтрыкай, як прыватная перапіска, а таксама матарыялы з маскоўскіх крыніц, якія асьвятляюць галоўным чынам уплыў Гарнастая на замежную палітыку Вял. Кн. Літоўскага. Для малой ілюстрацыі маскоўскіх крыніц дам маленькую цытату: “И июня же в 5 день (1551 г.), в пятницу, Яков Остафьев из Литвы к Москве приехал. И сказал царю и великому князю, что он у короля был в Кракове, поклон правил и грамоту подал. И король (Жыгімонт Аўгуст) звал его ести, и он у короля ел. И на третий день велели ему быти у короля, и он у короля был. И король его отпустил, и грамоту ему дали, и на подписи подписано: “великому князю”, а “царя” не написано. И он грамоты не взял, а говорил, что име царя и великого князя не сполна написано, и он того для грамоты не возмет. И король посылал по панов, и думал о том много, как написати, а его держали за тем четыре недели”. И слышал, сказывает, от многих людей, паны приговаривали, чтоб написати “царем”, и Горностай отговорил всем, что писати непригоже». <...>*

*Пару слоў аб “Слове”*[1329].

*Перадрук “Слова” ў тым выглядзе, як Ты гэта праектуеш, я ўважаю, як Ты й дадумваешся, — за шкодны.*

*Я, як Ты помніш, і сам калісь праектаваў выдаць “Слова”, але я гэта меў рабіць з цалком іншай мэтай.*

*Для ілюстрацыі маёй думкі зраблю тут малое адступленьне. Я маю, напрыклад, першае выданьне Ігнатоўскага “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”*[1330]*. Кніжка гэтая наскрозь гнілая. Але я задаволены, што яе маю. Думаю, што й Ты хацеў-бы яе мець, таксама, магчыма, хацелі-б яе мець і іншыя, якія цікавяцца і працуюць над беларускай гісторыяй. І нічога ня было-б благога, каб хто гэтую ехідную кніжку выдаў на ратапары ў агранічанай колькасьці экзэмпляраў для агранічанай колькасьці людзей. Але, каб нейкая*

---

[1327] Ліст Ч. Будзькі да В. Тумаша ад 16.06.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1328] Маецца на ўвазе кніга: Будзька, Часлаў. Кніжка аб Івашку Гарнастаю. Т. 1. Чыкага, 1955. — 423 с.

[1329] Маецца на ўвазе «Слова пра паход Ігаравы» ў перакладзе Янкі Купалы.

[1330] Маецца на ўвазе кніга Усевалада Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (першае выданне: Менск, 1919), якая выкарыстоўвалася як школьны падручнік па гісторыі і мела пяць перавыданняў.

*навуковая інстытуцыя захацела-б выдаць Ігнатоўскага друкам у вялікім тыражы, я-б уважаў гэтую справу шкоднай, думаю, што й Ты згадзіўся-б у гэтым з маім пунктам гледжаньня.*

*Таксама выглядае й справа із “Словам”. Пераклад Купалы вельмі слабенькі, а галоўнае няправільны. І ў гэтым ён горшы за расейскія пераклады. Я спэцыяльна падкрэсьліваю, што Купалаў пераклад горшы за расейскія пераклады таму, што мы ўважаем, што “Слова” ёсьць нашае, а значыць, наш пераклад мусіць быць лепшы, і наагул, чужынцы павінны вучыцца ў нас, як перакладаць “Слова” і як яго разумець. Павінны былі-б, але пакульшто гэта толькі marzenie ściętej głowy[1331].*

*Адзіным апраўданьнем існаваньня навуковых таварыстваў ёсьць — пры помачы свайго калектыву — расчышчэньнем дарогі для развою навукі. Для навукі над “Словам” зусім аднак непатрэбна “Слова” выдаваць друкам. Зусім дастаткова было-б выдаць “Слова” на ратаtар у агранічанай колькасьці з тым, каб у будучыні прыступіць калектыўна для падрыхтоўкі “Слова” друкам з новым перакладам. Каб гэта зрабіць, трэба сьпярша правесьці дыскусыю над цэласьцю “Слова”, а таксама і над дэталямі. Каб гэтую дыскусыю праводзіць, трэба, каб кожны зацікаўлены меў пад рукой “Слова”. Для гэтага аднак ня трэба такога выданьня, якое Ты хочаш. Тваё -ж выданьне прызначаецца не для мэтаў навуковых, прызначаецца яно не па тое, каб палажыць пачатак шырэйшаму вывучэньню “Слова”, а фактычна зводзіцца к таму, каб замацаваць у шырокай публіцы гэрэтычныя думкі, з другога-ж боку, скампраміітаваць нас перад чужынцамі.*

*Я калісь у сваім выданьні праектаваў нават улучыць і расейскі пераклад, з чаго Ты ехідна сьмяяўся, але я тады больш цьвяроза думаў, чымся Ты сягоньня з сваім выданьнем “Слова”»[1332].*

*«Гэты ліст я ў свой час ня скончыў, бо маю шмат клопатаў са сваёй кніжкай аб Гарнастаю, якая адбірае мне ўвесь час, а галоўна вычэрпвае нэрвы (не заўсёды ўдаецца знайсьці тыя кніжкі, якія патрэбныя мне на зарэз). Учора, напрыклад, я быў так расстроены, што ўвесь дзень блудзіў па горадзе, да хаты прышоў позна ноччу, раніцой меў страшэнны кацэнямэр[1333], і ў гэтым часе прыйшоў якраз Твой ліст, ён мяне так узьбясіў, што я ледзь не пабіўся з усімі.*

*Цяпер ноч, я, як бачыш, ужо ўспакоіўся. Толькі што скончыў чытаць Твой артыкул[1334], чытаў яго зусім бяз нэрваў, заўтра, думаю, Табе адпішу.*

---

[1331] ***Marzenie ściętej głowy*** (польск.) — нязбытная мара.

[1332] Ліст Ч. Будзькі да В. Тумаша ад 09.02.1954. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1333] ***Katzenjammer*** (ням.) — пахмелле.

[1334] Праўдападобна, ідзецца пра публікацыю: Максімовіч, Р. Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі // Запісы. № 2 (6). Нью Ёрк, 1954. С. 65–84.

*Тэма Твая мяне мала абходзіць, у дыскусыю з Табой я залазіць ня буду, маю толькі некаторыя заўвагі.*

*Як я скончыў чытаць Твой артыкул, я паставіў сабе пытаньне: ці Ты завёў туды, куды хацеў завесьці? Бо што Ты ў канцы канцоў хацеў даказаць, ці тое, што мы эўрапэйцы, ці тое, што мы “тожэ эўрапэйцы”?*

*Калі ўважаць, што сьвет дзеліцца на Усход і Захад, а людзі на эўрапэйцаў і азіятаў, дык трэба адразу паставіць і ўсьведаміць сабе ясна, што такое эўрапэец, а што такое азіят?*

*Гэтыя рэчы, што праўда, мне чужыя, на падобныя тэмы я-б ніколі не пісаў-бы, але ўжо калі аб тым ідзе, скажу і я пару слоў на гэтую тэму.*

*Вось-жа, на мой пагляд, розьніца паміж эўрапэйцам і азіятам палягала-б у тым, што эўрапэец жыве сваім розумам, а азіят — чужым.*

*Я заўсёды ўважаў, што беларус па сутнасьці сваёй, без увагі на тое, якія ўплывы дзеілі на яго, быў заўсёды і астаўся эўрапэйцам, і не дзеля таго, што ён жыў у Эўропе, а што ён з прыроды ёсьць такім.*

*Ты таксама гаворыш можа тое самае, але пісаньнем сваім Ты забіваеш гэта. Аб гэтым можаць сьведчыць увесь разьдзел аб уплывах Бізантыі.*

*Што такое была Бізантыя? Па духу Бізантыя была Азіяй. Бізантыйскія іконы — гэта-ж ня была Эўропа. Эўрапэец (чалавек, які жыве сваім розумам) ня можа прызнаваць ніякіх канонаў ні догмаў! А бізантыйцы-ж выдумалі й трымаліся закасьцянелага канону ў маляваньні іконаў. Ікона для іх гэта ня быў абраз, а толькі сымбаль. Сымбаль, які меў выглядаць так, і толькі так, а ня інакш. Усякія вольнасьці ў гэтай галіне ўважаліся за ерась. І гэтая азіяцкасьць траплялася ня толькі ў справе іконаў, я гавару тут аб іконах толькі, як аб маленькім прыкладзе.*

*І калі мы гаворым аб уплывах на нас, эўрапэйцаў, азіяцкай Бізантыі, мы мусім здаваць сабе ясна справу, аб чым мы гаворым. Ці дзякуючы Бізантыі зрабіліся мы азіятамі, ці не? А калі мы азіятамі ня сталі, дык ці наогул можна гаварыць аб азіяцкіх уплывах? У чым гэтыя ўплывы праявіліся?*

*Бізантыя ўважала ўсякія ўхілы ад прынятай нормы за ерась. Ці яны нас, эўрапэйцаў, навучылі гэтаму? Ці яны нас, эўрапэйцаў, адвучылі самастойна думаць?*

*Усе памяткі нашай старажытнай архітэктуры і мастацтва, здаецца, пярэчаць гэтаму. І не таму мы ня сталіся азіятамі, што Кіяў быў заваёваны татарамі, а Канстантынопаль туркамі, а таму, што для нас, эўрапэйцаў, бізантыйскія паняцьці былі чужымі, і мы на бізантыйскія каноны плявалі.*

*Вышуківаньне датаў на заканчэньне бізантыйскага “іга” — гэта ёсьць насьмешка над нашай гісторыяй. Па-Твайму-ж так выглядае, што мы толькі пад уплывам ветру з Захаду навучыліся ламаць каноны.*

*Па-мойму-ж, вецер з Захаду ці вецер з Усходу — гэта тое самае, што вада на гуся. Ні Усход не навучыў нас шанаваць канонаў, ні Захад не вучыў нас ламаць канонаў, мы па прыродзе сваёй, як супэр-эўрапэйцы, ніколі ня ўмелі шанаваць канонаў. А калі ідзе аб ламаньне іх, дык мы гэтай справе*

*вучылі суседзяў. Глінка*[1335] *церабіў новыя сьцежкі ў Расеі, Манюшка*[1336] *й Міцкевіч у Польшчы. І ня толькі яны. Але ўсе яны мелі адну эўрапэйскую натуру — цывільную адвагу ісьці новымі сьцежкамі.*

*І справа ня ў тым, што на ўсходняй мяжы канчаецца Эўропа, а што Эўропа тая, якая пачынаецца на заходняй нашай мяжы, — вельмі сумліўная Эўропа. Бо-ж грэкі былі таксама эўрапэйцамі, можа нават у свой час — адзінымі эўрапэйцамі. Але калі павеяў на іх вецер з Усходу, яны сталіся бізантыйцамі, ці інакш кажучы, барбарамі. А колькі разоў ужо заходне-эўрапэйцы трацілі эўрапэйскае аблічча?»*[1337].

Часлаў Будзька памёр у 1985 г., праз 30 гадоў пасля выхаду першага тома «Кніжкі аб Івашку Гарнастаю», так ніколі і не зрабіўшы яго працягу, як не напісаў і кнігі, якую ўважаў конча нам патрэбнай, — пра назвы *Беларусь* і *Русь*, як і не агораў зрабіць шырэйшую працу з калісьці выдрукаванага ў «Беларускай газэце» (Мінск, 1942), а потым выдадзенага асобнай публікаткаю ў Ольдэнбургу (Нямеччына, 1947) свайго *«канспэкта»* — «Да гісторыі нацыянальнага ўсведамлення».

## Два лісты

Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку.

Дарагія Спадары!

Калісь нейкі мастак быў намаляваўшы паштоўку «Гэрбы беларускіх ваяводзтваў». Гэтую паштоўку нехта перавыдаў тут на эміграцыі. Фотаздымкі гэтай паштоўкі перадрукоўваліся таксама і БАЗАй (*«Byelorussian's Independence Day»*, 1958, *«For Freedom and Independence of Byelorussia»*, 1960). Пабольшаныя каляровыя копіі гэтай паштоўкі можна пабачыць у залях беларускіх арганізацыяў (Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкага), а таксама на вуліцы (Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў парадзе Ляяльнасьці ў Нью Ёрку, «Бацькаўшчына», № 33/506).

Апошнім часам у кніжцы, выданай БЦР («За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі»)[1338] каляровай рэпрадукцыі гэтай паштоўкі даецца нават афіцыйны характар, у вачох БЦР-у такім чынам гэта ўжо ня нейкая там паштоўка, а гістарычны дакумант.

---

[1335] **Міхаіл Глінка** (рус. *Михаил Глинка*, 1804–1857), расійскі кампазітар беларускага паходжання, стваральнік рускай класічнай музыкі.

[1336] **Станіслаў Манюшка** (1819–1872), кампазітар, дырыжор, стваральнік польскай нацыянальнай оперы, меў дачыненне да станаўлення беларускай музычнай культуры.

[1337] Ліст Ч. Будзькі да В. Тумаша ад 23.06.1954. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1338] Маецца на ўвазе выданне: За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі. Лёндан: БЦР, 1960. — 198 с.

З увагі на ўсё вышэй сказанае думаю, што ўжо настаў час, каб паставіць пытаньне: наколькі гэтая паштоўка гістарычна праўдзівая?

1. На мой пагляд, напіс пад паштоўкай: *«Гэрбы беларускіх ваяводзтваў»*, не адказвае праўдзе. (Напіс бэцээраўскі: *«Гэрбы некаторых былых удзельных княстваў»* — яшчэ менш праўдзівы). Павінна было-б быць: *«Сьцягі беларускіх ваяводзтваў»*.

2. Сярод гэтых сьцягоў беларускіх ваяводзтваў няма чамусьці сьцягу ваяводзтва Падляскага (Паветы — Дарагіцкі, Мельніцкі, Бельскі. Сьцяг — жоўтагарачы, у белым полі гэрб). Адсутнасьць гэтага памежнага ваяводзтва на паштоўцы, прызначанай для палітычнай прапаганды, мае палітычную вымову.

3. На ўсіх ваяводзскіх сьцягох (вакол якіх, як ведама, гуртаваліся й пад якімі ішлі на вайну збройныя сілы даннага ваяводзтва) — быў дзяржаўны гэрб Пагоня. На паштоўцы, аднак, сьцяг Смаленскага ваяводзтва ня мае чамусьці Пагоні, і факт гэты, на маю думку, вельмі блага сьветчучы аб дакумэнтальнай вартасьці гэтай паштоўкі, ня можа таксама сьветчыць і аб нейкай палітычнай мудрасьці падобнай прапаганды.

4. Усе ваяводзкія сьцягі былі двукалёрныя. На паштоўцы-ж — толькі адзін сьцяг ваяводзтва Менскага нарысованы правільна (колеры, аднак, як і на большасьці сьцягоў, неадпаведныя).

5. Перадаць на каляровай паштоўцы кожны сьцяг у адпаведным колеры (з увагі хаця-б на фінансавыя магчымасьці нашых выдаўцоў) справа нялёгкая. Аднак, калі на паштоўцы чырвоны сьцяг Полацкага ваяводзтва паказаны белым, а сінія сьцягі (Троцкі й Берасьцейскі) чырвонымі, трудна згадзіцца, што такое разьвязываньне праблемы колераў зьяўляецца тэхнічна апраўданым, як трудна таксама згадзіцца, каб такая каляровая паштоўка, з так давольна дабранымі колерамі, магла быць бліжэйшай да гістарычнай праўды ад паштоўкі некаляровай.

Ніжэй падаю выпіску з Літоўскай Мэтрыкі ў справе колераў ваяводзкіх сьцягоў (няма тут Смаленскага ваяводзтва, бо сьпісак паходзіць з 1565 году):

Ваяводзтва Віленскае: харугаў чырвоная, у белым полі гэрб.

Ваяводзтва Троцкае: харугаў лазуровая, у белым полі гэрб.

Ваяводзтва Полацкае: харугаў сікоража, у белым полі гэрб.

(М. Бэз-Карніловіч[1339]: *«Хоругвь воеводства Полоцкого была красная: по средине, в белом поле, герб Великого Княжества Литовского»*).

Ваяводзтва Наваградзкае: харугаў пялістая, у белым полі гэрб.

Ваяводзтва Віцебскае: харугаў зялёная, у белым полі гэрб.

Ваяводзтва Падляскае: харугаў жоўтагарачая, у белым полі гэрб.

---

[1339] **Міхаіл Без-Карніловіч** (1796–1862), гісторык, краязнавец, этнограф, ваенны тапограф, статыстык, генерал-маёр.

Ваяводзтва Берасьцейскае: харугаў блакітная, у чырвоным полі гэрб.

Ваяводзтва Мсьціслаўскае: харугаў жоўтая, у чырвоным полі гэрб.

Ваяводзтва Менскае: харугаў гвозьдзіковая, у белым полі гэрб.

Староства Жамойцкае: харугаў белая, у чырвоным полі гэрб.

Ваяводзтва Кіеўскае: харугаў папужковая, у чырвоным полі гэрб.

(М. Любавскій. Литовско-русскій сейм. Москва, 1900, б. 336–338; Гісторыя Беларусі ў дакумэнтах і матэрыялах. Т. І. Менск, 1936, б. 407–410).

З пашанай, Ваш Часлаў Будзька.

Чыкаго, 25.VI.1960 г.

Чыкаго, 29.VI.64 г.

Дарагі Леонідас![1340]

Гэтым квітую з атрыманьня двух нумароў «Беларускай Думкі» і адначасна дзякую за памяць.

Я цяпер маю вакэйшэн[1341], з гэтай нагоды пішу гэты ліст. Я хацеў бы тут зьвярнуць Тваю ўвагу на рэцэнзыю М. Кавыля, у якой ён паміж іншым піша: *«Аповесьць "Драбы"*[1342]*, ачышчаная ад русіцызмаў, мусіць стацца настольнай кнігай кожнага беларуса, асабліва нашае моладзі»*[1343].

*«Пра аповесьць "Драбы" я чуў шмат водгукаў. Дрэнных ня чуў»*[1344].

Калі М. Кавыль нічога дрэннага аб «Драбах» ня чуў, дык значыць, што і Ты, як і Кавыль, уважаеш, што гэта кніжка — «Драбы» — можна — і трэба! — толькі хваліць. Гэта-ж — клясычны твор! Таленавіта! Цудоўна!

На мой погляд, гістарычная повесьць пішацца па тое, каб зьблізіць чытача да сівой мінуўшчыны, каб чытач (г. зн. шырокая публіка) лепш разумела гісторыю. З увагі на гэта ад аўтара, апрача літаратурнага таленту, вымагаецца — гістарычная веда й гістарычны *«слух»*, аўтар мусіць ня толькі ведаць гістарычныя факты, але й разумець іх.

Калі ідзе аб аўтара «Драбаў», дык ён якраз піша аб рэчах, аб якіх сам ня мае зялёнага ўяўленьня. З увагі на гэта я не магу зразумець, якім чынам нехта можа ўважаць, што бязграматны аўтар можа напісаць добрую гістарычную повесьць. На мой погляд, дыскусія можа быць

---

1340 Ліст адрасаваны Леаніду Галяку.

1341 ***Vacation*** (англ.) — вакацыі.

1342 Маецца на ўвазе кніга: Случанскі, Уладзімер. Драбы: гістарычная аповесьць. Мэльбурн, 1958–1960. — 272 с. Передрук: Эквівалент. Зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы. Мінск, 2005. С. 175–407.

1343 Кавыль, Міхась. «Драбы» У. Случанскага // Беларуская Думка. № 6. 1964. С. 25–26.

1344 Кавыль, Міхась. «Драбы» У. Случанскага.

толькі, ці Случанскі[1345] напісаў благую гістарычную аповесьць, ці папросту — шкодную макулатуру.

Найбольшай гістарычнай падзеяй таго году, які апісаны ў «Драбах» — гэта Ворскля[1346]. Як ня дзіўна, але аўтар гістарычнай аповесьці аб Ворсклі ведае менш ад вучня пачатковай школы. Аўтар ня ведае нават, хто такі быў Цімур Кульгавы[1347]. Называючы Цімура Кульгавага ханам Залатой Арды, ён путае яго зь Цімурам Кутлукам[1348], а гэта тое самае, што спутаць Напалеона[1349] і Швэйка[1350]. Не патрабую тут зазначаць, што Цімур Кульгавы ня толькі ня быў ханам Залатой Арды, але якраз быў тым, які на пару гадоў перад Ворскляй — разьбіў гэтую Арду, усе залатаардынскія гарады спаліў і зраўнаў зь зямлёю, а татараў паразганяў на ўсе чатыры вятры. У выніку гэтага Цімуравага разгрому Залатая Арда ня толькі не магла перад Ворскляй пагражаць Эўропе, але сама, будучы купай руінаў, была лёгкай здабычай для суседзяў, г. зн. — для Літвы. (Цімур Кульгавы, разграміўшы Залатую Арду і кінуўшы яе на ласку або не ласку Вітаўта, сам пайшоў паходам не на Эўропу, а на Індыю.)

Случанскі піша, што перад бітвай на Ворсклі ў Ліцьве было поўна татараў, у чым ён не мыляецца, аднак татары гэтыя гэта ня былі перадавыя часьці Залатой Арды, якія прыходзілі грабіць нашыя землі, гэта былі тагачасныя дэпісы[1351], якія, схаваўшыся ў нас ад Цімуравага разгрому, шукалі (са сваім ханам Тахтамышам[1352]) абароны й пратэкцыі ў Вітаўта. Аб нападах татарскіх перад Ворскляй і мовы не магло быць, бо пасьля адыходу Цімура Кульгавага ў Азію на залатаардынскім стэпе зараз-жа паказаліся перадавыя аддзелы літоўскага войска, якія хадзілі сабе па татарскім стэпе ўздоўж і ўпоперак, як па сваёй зямлі. І ня дзіва, што калі там зьявіўся новы хан (Цімур Кутлук), Вітаўт запрапанаваў яму, каб на новых залатаардынскіх манэтах быў партрэт Вітаўта.

[1345] **Уладзімір Шнэк** (псеўд. **Случанскі**, 1927–1995), грамадскі дзеяч, пісьменнік. Ад 1950-х гг. жыў у Мельбурне.

[1346] Маецца на ўвазе **бітва на рацэ Ворскла** (сёння Палтаўская вобл. Украіны), што адбывалася 12 жніўня 1399 г. паміж саюзным войскам вялікага князя Вітаўта і хана Тахтамыша з аднаго боку і войскам Залатой Арды на чале з ханамі Цімур-Кутлукам і Эдыгеем — з другога.

[1347] Маецца на ўвазе **Тамерлан**, ён жа **Цімур Кульгавы** (1336–1405), сярэднеазіяцкі дзяржаўны дзеяч і палітык, заснавальнік дынастыі Цімурыдаў, эмір 1370–1405 гг.

[1348] **Цімур Кутлуг** (туркм. *Kutlug Timur*), хан Залатой Арды ў 1385–1399 гг.

[1349] **Напалеон Банапарт** (фр. *Napoléon Bonaparte*, 1769–1821), французскі дзяржаўны дзеяч, імператар у 1804–1814 гг.

[1350] **Швейк** — салдат, сатырычны персанаж, прыдуманы чэшскім пісьменнікам Яраславам Гашакам.

[1351] Ад *DP*, уцекачы.

[1352] **Тахтамыш** (?–1406), залатаардынскі хан, саюзнік князя Вітаўта.

І Залатая Арда ўрэшце сталася-б літоўскім сатэлітам, калі-б Вітаўт і ягоная армія ня былі-б такія занадта самапэўныя, но і калі-б сярод татараў не зьявіўся вайсковы геній (Эдыгей[1353]), які на гэтай раздутай літоўскай самапэўнасьці пабудаваў стратэгічны плян разгрому Вітаўта пад Ворскляй.

Адносіны Случанскага да Ворсклі гэта ягоныя адносіны да гісторыі наогул. Калі ён ня знае, што ёсьць у школьным падручніку, дык трудна вымагаць ад яго, каб ён знаў тое, чаго ў падручніку няма.

М. Кавыль у сваёй рэцэнзыі піша: «*Ніякі, нават найстражэйшы крытык, ня можа зганіць "Драбы", бо ў іх няма нічога, за што-б можна было "зачапіцца"*».

У гэтай *«цудоўнай»* гістарычнай аповесьці, пад якой няма гістарычнага грунту, сапраўды няма за што *«зачапіцца»*, бо ўсё высасана з пальца. Возьмем да прыкладу такую блізкую для Случанскага рэч, як Слуцак.

*«Удзельны Князь Слуцкі, з слаўнага роду Алелькавічаў, — у недалёкім мінулым вялікі рубака і нястомны наезьднік, а зараз ужо стары і аслабеўшы, сівы, як лунь...»*.

Алелькавічы гэта, як ведама ўсім, апрача Случанскаму, былі патомкі Алелькі, Альгердавага ўнука. У 1399 годзе аб Алелькавічах яшчэ не магло быць мовы, бо сам Алелька быў яшчэ шчанюком.

Выдумаўшы Слуцкага князя, аўтар выдумляе і іншыя так званыя гістарычныя асобы, напрыклад, Полацкага князя Брачыслава, Смаленскага князя Яраслава і Жамойцкага князя Скірвойла. Справа з гэтымі князямі не палягае аднак у тым, ці ў запраўднасьці яны называліся так, ці гэтак, бо ў запраўднасьці ані ў Жамойці, ані ў Полацку, ані ў Смаленску ўдзельных князёў ужо ня было: у Смаленску й Полацку сядзелі гаспадарскія намесьнікі, а Жамойць — адданая Ордэну — сваіх удзельных князёў і перад тым ня мела. (Між іншага, Жамойць аўтар называе *«Жмудзяй»*, ні словам ня здрадзіўшы, ці гэта запазычаньне ў яго з польскай ці расейскай мовы.)

У аповесьці як *«гістарычная»* асоба выступае таксама і праваслаўны мітрапаліт, якога аўтар, тытулуючы *«мітрапалітам маскоўскім і наваградзкім Фоціем»*, прадстаўляе як маскоўскага агента. Ня трудна дагадацца, што было якраз наадварот: не маскоўскі гэта агент сядзеў тады ў Ліцьве, але літоўскі агент сядзеў у Маскве, і называўся ён ня Фоціем, але Кіпрыянам[1354], ня кажучы ўжо аб тым, што мітрапаліты тытулаваліся тады не Маскоўскімі, але Кіеўскімі.

---

[1353] **Эдыгей** (1352–1416), цемнік (военачальнік) Залатой Арды, уплывовы палітык.

[1354] **Кіпрыян** (1330–1406), мітрапаліт Кіеўскі, Рускі і Літоўскі (1375–1380), мітрапаліт Малай Русі і Літвы (1380–1389), мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі (1389–1406).

Случанскі ня ведае таксама, якая розьніца паміж Крыжацкім Ордэнам у Прусіі і Ордэнам Мечаносцаў у Лівоніі. Уважаючы Лівонію літоўскай чамусь — ці правінцыяй (б. 267[1355]), Крыжацкі Ордэн ён называе Ордэнам мечаносцаў (30), а на наступнай бачыне — яшчэ раз падумаўшы — піша: *«Яны загінулі, але гэтым павялічылі славу й магутнасьць Вялікага Ордэну Мяча, ці Крыжа — як хочаце!»*.

Гэтае *«як хочаце»* адносіцца ім і да тагачаснага нашага назову: *«Пройдзе час, прызвычаіцеся й вы, і палюбіце Літву, ці Белую Русь, называйце як хочаце»* (126). Аўтар як быццам ня ведае, што ягонае *«як хочаце»* гэта пустыя словы: у старыну нашая бацькаўшчына *«Белай Русяй»* не называлася, а дазваляць называць яе так ён ня мае права, бо *«Белай Русяй»* тады называліся маскоўскія землі. (Ад тых часоў астаўся ў навейшыя часы толькі *«белы цар»*.)

Случанскі ня ведае таксама, калі пачаўся гусыцкі рух у Чэхіі. У тым часе сам Гус яшчэ ня быў гусытам. А наогул ня Вітаўт тады меў зносіны з чэхамі, а Ягайла, якому чэхі якраз у гэтым часе памагалі арганізаваць унівэрсытэт у Кракаве.

На б. 230 у аповесьці ўжо зьяўляецца яшчэ ненароджаны і *«нікому яшчэ не знаёмы Архірэй Рыгор Цамблак»*[1356], хоць Ф. Скарыны — трэба прызнаць — яшчэ няма.

Паколькі ведама з гістарычных дакумэнтаў, старастам у Крэве быў у той час Андрэй Гаштаўт[1357]. Замест гэтага гістарычнага Гаштаўта аўтар садзіць на ягонае месца мітычнага Станіслава, паляка па нацыянальнасьці, якому й даручае мітычнае заданьне стварэньне польскай банды з мэтай ваеннай дывэрсыі на тылох Вітаўтавай арміі, той арміі, у радох якой быў і польскі аддзел на чале з Кракаўскім ваяводай, і якая пайшла ў стэп — паводле аўтара — бараніць ад татарскай навалы Эўропу, а значыць і Польшчу. Каб у вачох чытачоў з’агідзіць гэтага паляка яшчэ больш, аўтар прыпісвае яму згладжаньне Кейстута, хаця — згодна зь літоўскім летапісам — Кейстутавым[1358] душагубам быў Прокша[1359], імя якога сягоньня ведама цэламу сьвету, што

---

[1355] Нумарацыя старонак адпавядае першавыданню твора: Случанскі, У. Драбы: гістарычная аповесьць. Мэльбурн, 1958.

[1356] **Рыгор Цамблак** (1364–1420), дзеяч Праваслаўнай царквы, мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі, мітрапаліт Малдава-Валашскі, пісьменнік.

[1357] **Андрэй Гаштальд** (Гаштаўт) (?—1410?), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, намеснік віленскі (1386) і крэўскі (ад 1390), адзін з найбольш уплывовых паноў радных.

[1358] **Кейстут** (1297–1382), вялікі князь літоўскі (1381–1382), сын Гедзіміна, бацька Вітаўта.

[1359] Паводле «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», князь Кейстут быў задушаны каморнікамі Ягайлы, сярод якіх быў нехта з імем Прокша.

праўда, зь іншай, але ня менш бруднай прычыны (рэдактар Леанід Прокша[1360]).

Паколькі аповесьць «Драбы» можна назваць аповесьцяй антыпольскай, пастолькі аўтара можна назваць палянафілам, бо ён глёрыфікуе палякаў. Ён уважае, што палякі былі тады нацыянальна сьведамымі і палітычна граматнымі, што не адпавядае праўдзе. Даволі параўнаць, што ў гэтай справе пішуць польскія гісторыкі. Аб антылітоўскай апазыцыі ў Польшчы пад канец жыцьця Ягайлы Прохаска[1361] піша: *«Іх маладушна, дробносткова і карловата політыка зродзіла заздросьць і завісьць до Літвы і Вітольда — длятэго, жэ Вітольд водл Літвэн геніальных торэм велькей політыкі, жэ тылько окружамі свэй славы осланял іх нэндзон мернотэн. В зарузмялосьці свэй сондзон оні, жэ обэцне вызвалі Вітольда до бою, подчас гды сон марыенэткамі з ласкі Зыгмунта Люксэмбурскего і нажэндзямі его інтрыгі».*

У дачыненьні да гісторыі У. Случанскі зьяўляецца тыпічным сынам народу, які доўгі час пражыў у няволі: на сваіх суседзяў ён глядзіць зьнізу і хоць ня любіць, але глёрыфікуе іх, бо як чалавеку з выпаласканымі гістарычнымі традыцыямі, яму здаецца, што яны заўсёды былі вялікімі й сільнымі. Хочучы-ж выскачыць зь нявольніцкай скуры, ён кідаецца на бакі й сам сабе супярэчыць: з аднаго боку, ён піша, што *«нават у самім Кракаве лічылася за добры тон гутарыць па-літоўску»* (96), з другога-ж боку (270), цьвердзіць, што Ягайла сьцягіваў *«дзяцей Беларускіх магнатаў і шляхты»* на навуку ў Кракаў, каб там у ліцьвінскіх школах гэтага нямецкага тады гораду іх *«апалячыць»*. (Рэй[1362], які першы сказаў, што палякі ня гусі й сваю мову маюць, сказаў гэта сто гадоў пасьля сьмерці няшчаснага Ягайлы.)

Маскоўскі прадстаўнік у аповесьці — баярын Лука Рацішчаў — чалавек *«крэпка граматны»* ў пісьме і палітыцы — не раўнуючы — як рымскі сэнатар, што і ня дзіўна, паколькі тагачаснае Маскоўскае княства мярэшчыцца ў вачох аўтара, як нейкая Рымская імпэрыя. Затое Крыжацкі камандор, у параўнаньні з маскоўскім баярынам, выйшаў даволі бледна, хоць здавалася-б, што гэты прадстаўнік Крыжацкага Ордэну (адзінага месца ў тагачаснай Эўропе, дзе запраўды цікавіліся й займаліся палітыкай), мусіў-бы быць больш палітычна вышкалены.

Адзінай гістарычнай асобай у аповесьці быў-бы бадай ці ня Вітаўт, калі-б ён хоць крышачку быў на сябе падобны, бо ў аповесьці калі ён да

---

[1360] Леанід Прокша ў 1956–1972 гг. быў галоўным рэдактарам часопіса *«Коммунист Белоруссии»* і газеты «Голас Радзімы».

[1361] **Антоні Прахаска** (польск. *Antoni Prochaska*, 1852–1930), гісторык. Тут маецца на ўвазе яго праца *«Król Władysław Jagiełło»* (Kraków, 1908).

[1362] Маецца на ўвазе **Мікалай Рэй** (польск. *Mikołaj Rey*, 1505–1569), польскі пісьменнік, першы з вядучых прадстаўнікоў рэнесансавай літаратуры ў Польшчы.

каго й падобны, дык таму далёка яшчэ да Вітаўтавага ценю, што й зразумела, паколькі адзіным вялікім чалавекам, якога аўтар у жыцьці сваім бачыў, гэта быў камэндант дыпіўскага лягеру. Даволі адным толькі вокам кінуць на разьдзел «Нарада» (69–79), каб адразу пабачыць, што гэта не ваенная нарада Вітаўта з панамі-радай, але звычайная сходка лягернага кацыка з сваімі драбамі. Калі адзін з паноў-рады спытаўся ў вялікага князя, куды ён іх вядзець, той адказаў: *«калі-б сарочка мая ведала аб гэтым, я спаліў-бы сарочку»*. Гэта анекдот, але ён куды бліжэйшы праўды, як Случанская «нарада». А наагул у нас часта забываюцца, што Вялікае Кн. Літоўскае было манархіяй абсалютнай, і што толькі ад 1492 году інстытуцыя паноў-рады набрала нейкі сэнс, калі Аляксандар[1363] даў ім права вольнага выказваньня сваіх думак.

Зьмест гэтай гістарычнай аповесьці можна было-б коратка перадаць словамі аднаго з гэрояў: *«Там, дзе я прайшоў, там няма ўжо паноў і падпанкаў. Кроў і попел асталіся на іх месцы»*.

Калі ўзяць пад увагу, што Літва за часоў Вітаўта, так як і за часоў Альгерда, а нават і Казіміра[1364], гэта быў адзін вялікі ваенны абоз, дык ідэалёгія аўтара *«прэч з шляхтай»* зьяўляецца негістарычнай, бо шляхта зрабілася паразітам толькі тады, калі прысвоіла сабе палітычную ўладу і перастала займацца сваім фахам, г. зн. абаронай дзяржавы. Але гэта сталася пару сот гадоў пазьней.

З другога боку, аўтар некансэквэнтны[1365]. На кожнай бачыне маніфістуючы сваю нялюбоў да паноў і падпанкаў, ён свайму герою — купецкаму сыну Васілю Копыльскаму дае ад Вітаўта родны ягоны Копыль, інакш кажучы — свайго на свой спосаб добра роджанага героя робіць у канцы кніжкі праклятым панам. І зусім бяз патрэбы, бо каб нагарадзіць заслужанага рыцара, не абавязкова-ж даваць яму на ўласнасьць аж цэлы горад, дастаткова было-б зрабіць яго намесьнікам там альбо старастай. Іншая справа, што Вітаўт ня меў ніякага права распараджацца Копылем, бо Копыль належыў не да гаспадарскіх гарадоў, а да Слуцкага княства. А нават калі-б Копыль і ня быў прыватнай уласнасьцю удзельнага Слуцкага князя, дык і так такая бяздумная шчодрасьць вялікага князя ня толькі ня сьветчыла-б аб ягонай мудрасьці (іншы герой аповесьці Кандрат Тур атрымаў з той-жа лёгкай рукі маёнтак у Быстрыцы), бо пераход гаспадарскай уласнасьці ў прыватныя рукі вёў да абядненьня гаспадарскага скарбу, а гэтым самым і да аслабленьня ваеннай сілы Вялікага Княства. Максімум, што мог вялікі князь даць свайму ваяку на ўласнасьць і што фактычна даваў, гэта пару валок зямлі. Але тут то й зарыты сабака, бо гэтыя валокі

---

1363 Маецца на ўвазе вялікі князь Аляксандр Ягелончык.

1364 Маецца на ўвазе вялікі князь Казімір Ягелончык.

1365 **Некансеквентны** (ад лац. *consequens*) — непаслядоўны.

Случанскаму сьмярдзяць шляхоцкім засьценкам, а шляхту ён не пераварвае горш, як паноў, уважаючы іх польскай выдумкай.

Бязумоўна, чалавек з такой мэнтальнасьцю, з такім антыгістарычным падыходам да мінуўшчыны не павінен быў брацца за пісаньне гістарычнае повесьці, бо ягоная повесьць — пры такім настаўленьні — будзе ня што іншае, як бальшавіцкім соцрэалізмам. Бальшавіцкая повесьць — сацыяльная па зьместу, нацыянальная па форме — розьніцца ад повесьці Случанскага толькі тым, што повесьць Случанскага і па форме не нацыянальная.

А цяпер пару драбніц. Называючы гаспадарскую раду *«Гаспадарамі Радай»*, аўтар гэтым сьцьвярджае, што ён ня вельмі разумее, што азначаў тады тэрмін *«гаспадар»* у нас, а пазьней у нашых суседзяў. Валадары-ж Масковіі, Малдавіі і Мультанаў, запазычаючы ад нас гэты тэрмін, напэўна рабілі гэта не таму, што так называўся ў нас кожны жук і жаба (як напэўна-ж не таму гэты тэрмін лучыў і ў замежныя энцыкляпэдыі). У блуд аўтара ўвёў — трэба думаць — сягоньняшні бэцээраўскі звычай тытулаваць сябе ўзяемна *«Гаспадарамі»*. Не разумее аўтар таксама і значэньне тэрміну *«гасудар»*. Называючы Маскоўскага князя *«гасударам»*, ён на перакор гісторыі падцягвае таго за вушы на ўзровень амаль зь Вітаўтам. Памінаючы той факт, што Маскоўскія князі сьпярша, чым называцца *«гасударамі»*, называлі сябе на літоўскі ўзор *«гаспадарамі»*, за часоў аднак Вітаўта яны як уроджаныя мангольскія васалы ня былі й ня чуліся яшчэ ані гаспадарамі, ані гасударамі (хоць, што праўда не за гарамі ўжо быў той час, калі акажыцца, што навука Вітаўтавай дачкі Сафіі[1366] ў лес не пайшла).

Аўтар таксама бяз патрэбы ўводзіць у сваю родную Случчыну халопскую тытулятуру, запазычаючы яе ў мангольскай Маскоўшчыне. Напрыклад, на б. 16 знаходзім такія красачкі, як *«Княжа, прабач твайму халопу»* або *«Устань, верны халоп!»*.

А наогул, уся аповесьць засьмечана цэлай літаніяй кітайскіх ветлівасьцяў, няведама, на што і адкуль запазычаных: *«яснавяльможны пане»*, *«ваша сьветласьць»*, *«ваша высокасьць»*, *«ваша вялікасьць»* (*«Яго Высокасьць жадае бачыць Вашу Сьветласьць»*, б. 245), і г. д, і г. д.

У адной зь Ягайлавых грамат чытаем:

*«Паводле старадаўняга звычаю ваенны паход застаецца абавязкам рыцара, які выконваецца ўласнымі стратамі й расходамі. У тым-жа выпадку, калі давядзецца прасьледаваць ворагаў, непрыяцеляў нашых, якія-б уцякалі з нашай літоўскай зямлі, дык для гэтага роду прасьледаваньня, якое па народнаму называецца* ***пагоня****, абавязваюцца ад-*

---

[1366] **Соф'я Вітаўтаўна** (1371–1453), вялікая княгіня, жонка маскоўскага гаспадара Васіля I, маці Васіля II.

*праўляцца ня толькі рыцары, але й кожны мужчына, якога-б ён ні быў стану ці становішча, толькі-б ён быў здольны насіць ваенную зброю»*.

Інакш кажучы, тое, што магло-б называцца *«рыцары Пагоні»*, гэта нямецкі фольксштурм[1367]. Случанскі, выдумаўшы польскую банду, якая дзеіла на Беларусі, здавалася-б мусіў-бы паказаць, як на практыцы дзеіла ў нас тое, што тады называлася пагоняй. Аднак гэтай пагоні, народнага ўздыму, у аповесьці няма. Паказана толькі фікцыйная банда Сыча, якая ратуе Літву ад польскай дывэрсыйнай банды. Гэтым Случанскі хацеў паказаць, што Літоўская імпэрыя, будаваная Вітаўтам, магла-б быць развалена некалькімі палякамі.

Фантастычная гісторыя польскай банды, што выпаўняе сабой гэтую аповесьць і якая быццам была разгромлена ў Камянцы, канчаецца ня менш фантастычным эпілёгам (229): *«Ад сёньня (кажа Вітаўт, даведаўшыся аб гэтай гісторыі) і на вякі Камянец будзе звацца Літоўскім: Камянец Літоўскі!»*. Аб гэтым самым Камянцы пісаў у свой час і Ю. Віцьбіч («Плыве». 32[1368]): *«Тут, як і ў суседніх Берасьці Літоўскім ды Высокім Літоўскім, ніколі ня жылі Летувісы, а назоў іх тлумачыцца тым, што нашая Бацькаўшчына Літва падкрэсьліла на сваім прыграніччы прыналежнасьць гэтых гарадоў да яе»*. Тэорыя аднак Віцьбіча гэта палка з двумя канцамі. Менск і Наваградак таксама называліся Літоўскімі, дык на якім пагранічччы яны стаялі? Камянец быў прызваны Літоўскім у вадрозьненьне ад іншага Камянца — Падольскага. Літоўскасьць-жа іншых нашых гарадоў была такая самая, як і Камянца: Наваградак называлі Літоўскім у вадрозьненьне ад Навагрaдка Северскага, Менск ад Менска Мазавецкага, Берасьце ад Берасьця Куяўскага і Высокае ад Высокага Мазавецкага. Усе гэтыя назовы паходзяць з пазьнейшых часоў, ужо пасьля Люблінскай вуніі.

Між іншага, як сябра польскай дывэрсыйнай банды, у аповесьці выступае таксама й польскі ксёндз, якому аўтар даручае арыгінальную функцыю: зьдзіраньне са сьцен праваслаўных ікон (240). Вось-жа, калі-б я пісаў гэтыя фантастычныя гісторыі, дык гэтаму ксяндзу я даў-бы іншую функцыю — не зьдзіраць, але завешваць абразы рушнікамі, каб Бог ня бачыў, што гэтая банда будзе вычвараць у хаце. Бо, каб зьдзіраць праваслаўныя абразы, польскі ксёндз — на маю думку — без патрэбы прыяжджаў аж да нас: у самой-жа Польшчы — у Чэнстахове — ёсьць арыгінальная праваслаўная ікона Багародзіцы. А наагул, калі-б польскія ксяндзы запраўды так ненавідзелі праваслаўныя

1367 ***Volkssturm*** (ням.) — атрады народнага апалчэння Трэцяга рэйха, створаныя ў апошнія месяцы перад капітуляцыяй для абароны нямецкай тэрыторыі.

1368 Тут ідзе спасылка на працу: Віцьбіч, Юрка. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мюнхэн, 1956. — 96 с.

абразы, дык якім гэта чынам удалося-б Ягайле прывесьці ў Польшчу праваслаўных мастакоў зь Літвы і паразмалёўваць польскія касьцёлы на праваслаўны манер? Гаворучы аб іконах, ня трэба забывацца, што супроць іконаў выступалі не духоўныя асобы, але народ, ад гэтуль і тагачасная сярод праваслаўных ерась стрыгольнікаў[1369], у Польшчы -ж — шляхта шаблямі парэзала чэнстахоўскі абраз, і Ягайла мусіў яго аднаўляць.

Случанскі прадстаўляе Ягайлу як польскага халуя, які ад часоў ужо амаль Альгердавых апекаваўся польскімі агентамі ў Ліцьве. Бязумоўна, тут няма патрэбы спрачацца аб гэтых выдумках, але нельга не параўнаць гэтага з тым, што аб Радзівілах сказана ў прадмове: *«Для беларусаў гэтыя Радзівілы зьяўляюцца нацыянальнымі героямі, якія выкарыстоўваючы разгром Польшчы Карлам XII*[1370] *Каралём Швэцкім, хацелі адбудаваць незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага»*. Карл XII, зразумела, тут ні пры чым (за часоў Карла XII швэцкая партыя ў Ліцьве падтрымлівала Лешчынскага[1371], а ў гэтым трудна дагледзіць нейкія *«адбудовы незалежнасьці»*). Радзівілы-ж перайшлі на бок швэдаў на 50 год раней, але й тады трудна штось пабачыць *«незалежнага»*, бо-ж перайшлі яны ў часе, калі швэцкі кароль заняў бяз выстралу Польшчу і агаласіў сябе польскім каралём. Дык што фактычна зьмянілася? Адзін швэд замяніў другога швэда, з той толькі розьніцай, што даўней дзяржаўная маёмасьць была вылучнай собскасьцю літоўскіх грамадзян, а цяпер яна пераходзіла на ўласнасьць швэдаў.

Але ў даным выпадку мяне цікавіць штось іншага. Першым чалавекам, як ведама, які адважыўся на паседжаньні паноў-рады загаварыць да Жыгімонта Аўгуста па-польску — быў Радзівіл. Нават Будны ў сваёй прадмове пад'ехаў Радзівілам, што, шануючы чужыя мовы, трэба шанаваць і сваю. Радзівілы-ж вялі прапаганду пратэстантызму ў польскай мове. Яны былі першымі палянізатарамі. І за гэта іх уважаецца *«нацыянальнымі героямі»*. Ягайла-ж, які да сьмерці не навучыўся польскай мовы, уважаецца палянізатарам.

Ліст гэты без патрэбы расьцягнуўся, дык трэба канчаць. На заканчэньне яшчэ адна цытата з прадмовы: *«...дык калі будуць крытыкі з пасярод гэтых паклоньнікаў Кунцэвіча*[1372]*, дык магчыма не падзеляць пагляды У. Случанскага на падзеі, разгорнутыя ў аповесьці "Драбы"»*.

---

[1369] Стрыгольнікі — рэлігійны рух XIV ст. на Русі, прадстаўнікі якога выступалі супраць царкоўнай іерархіі, продажу царкоўных пасадаў.

[1370] **Карл XII** (швед. *Karl XII*, 1682–1718), кароль Швецыі ў 1697–1718 гг.

[1371] **Станіслаў Ляшчынскі** (1677–1766), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1704–1706 і 1733 гг.

[1372] Маецца на ўвазе **Язафат Кунцэвіч** (1580–1623), царкоўны і палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, актыўны прыхільнік і распаўсюднік уніі, за што і быў забіты, прылічаны да святых Каталіцкай царквой.

Паводле С. Пасечнага[1373], такім чынам, толькі паклоньнікі Кунцэвіча *«не падзеляць»* брэдняў Случанскага. Гэта — мусіш прызнаць — напісаць мог-бы толькі зацяты езуіт.

Прывітаньні!

Твой Часлаў Будзька.

П. С. Гэты ліст пакажы М. Кавылю, каб не казаў, што дрэнных водгукаў ня чуў.

[1373] Маецца на ўвазе аўтар прадмовы да «Драбаў».

# ПІСЬМЕННІК БЕЗ БІЯГРАФІІ: ПЯТРО ПАЛЯГОШКА[1374]

Бывае ж такое: кніга ёсць, а аўтара бы няма. Нічога пра яго невядома. І гэта не які-небудзь аўтар старажытны, ці нібы той Паўлюк Багрым, а эмігрант, памерлы, як часта пішуць, у самым беларускім гарадку Амерыкі — Саўт-Рыверы.

Леанід Маракоў у даведніку «Рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячоў Беларусі. 1794–1991. Том II» піша каротка і без зазначэння крыніцаў інфармацыі: *«Рэпрэсаваны ў 1930-х г. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у бел. адміністрацыі ў Смалявічах і Рудзенску. З 1944 на эміграцыі. У 1968 у Нью-Йорку выдадзены ягоныя мемуары»*[1375].

Сапраўды, «Успаміны з жыцця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу» былі выдадзеныя ў 1968 г., толькі, хутчэй за ўсё, не ў Нью-Ёрку, а ў тым самым Саўт-Рыверы, дзе, як пішацца ў прадмове, *«дня 14 кастрычніка 1961 году ў Саўт Рывэры, штату Нью Джэрсі ў ЗША, памёр Пётра Палягошка, прыхаджанін мясцовай Беларускай Праваслаўнай Царквы імя Сьв. Эўфрасіньні Полацкай»*.

На дзіва, гэткая аўтарытэтная і непамыльная, усёахопная *by definition* база дадзеных *Social Security Death Index* інфармацыі пра смерць Палягошкі наогул не мае.

Няшмат расказваецца ў прадмове пра даэміграцыйнае жыццё аўтара ўспамінаў: *«Ад пачатку акупацыі Беларусі Савецкай Расеяй у 1917 г. і да 1944 г. ён пражываў у Ўсходняй Беларусі. З собскага горкага дасьведчаньня ён поўнасьцю пазнаў бальшавіцкую ўладу. На твары гэтага ціхага і спакойнага чалавека была выпісана бездань прасьледаў, пакутаў і цярпеньняў, якія ён ператрываў за гэту пару бязь ніякага поваду са свайго боку. Адзіным ‟праступствам” яго было тое, што праваслаўнае беларускае сумленьне не дазваляла яму стацца камуністым і бязьлітасна зьдзеквацца і вынішчаць беларускіх сялян, зь якіх ён сам паходзіў»*. Відаць, і самі выдаўцы ведалі небагата.

Згадвае Пятра Палягошку ва ўспамінах і Алесь Змагар (Яцэвіч) — там, дзе размова ідзе акурат пра Смалявічы: *«Падчас абмяркоўваньня справы арганізацыі раённай управы да Пятровіча зьявіўся ўцякач з салавецкай высылкі Палягошка з просьбаю матэрыяльнай дапамогі. Пятровіч зьвярнуўся да мяне па параду. Перагаварыўшы з Палягошкам і даведаўшыся, што ён знаёмы з адміністрацыйнаю працаю, я зараз жа вызначаю яго на заступніка старшыні раённай управы, а заадно і ў якасьці кіраўніка зямельмага аддзелу, Беразоўскага вызначаю кіраўніком тэхнічнага аддзелу, куды ўвахо-*

[1374] Упершыню апублікавана ў: Асоба і час. Вып. 5. Мінск, 2013. С. 113–119.
[1375] http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-ii?id=19701.

*дзілі млыны і рыбная прамысловасьць. Раённая ўправа пачала нармальна працаваць, а я заняўся школьнай працай, выклікаў настаўнікаў, прызначыў на школы, выдзеліў аднаго з іх інспэктарам ды выехаў назад у Менск да Астроўскага»*[1376].

Дадатковыя звесткі падае Юрка Віцьбіч, але ж трэба ведаць, дзе шукаць. У сваёй кнізе «Антыбальшавіцкія паўстанні й партызанская барацьба на Беларусі» на пачатку кожнага раздзела ён шыфруе людзей, што дзяліліся з ім успамінамі. У частцы, прысвечанай Барысаўскаму галоднаму бунту, чытаем: *«П. П., беларус, пры Саветах спачатку служачы Барысаўскага ваенкамату, потым рэпрэсаваны, прабыў у канцэнтрацыйным лягеры 5 гадоў, сьведка бунту, у час якога меў 39 гадоў (1894 году нар.)»*.

Гэты *П. П.* і ёсць Пятро Палягошка. Толькі з годам нараджэння Віцьбіч наблытаў: на магільным помніку выбіта іншая дата — 9 ліпеня 1893 г.

Як успамінае Вітаўт Кіпель[1377], Палягошка выехаў на эміграцыю адзін: сям'я — жонка і дзве дачкі — жыла ў Мінску, і яны не паспелі злучыцца. Па заканчэнні вайны старэйшая дачка Вара як сяброўка СБМ была засуджаная на 25 гадоў лагераў. А сам Палягошка апынуўся ў лагеры *DP* у Рэгенсбургу, дзе быў вельмі дзейным у адміністрацыі, працаваў кватармайстрам, актыўна ўдзельнічаў у пабудове царквы Св. Еўфрасінні. З пераездам лагера ў Міхельсдорф пачаў працаваць па сваім старым, *«лагерным»* фаху — бухгалтарам, дапамагаў Вячаславу Селях-Качанскаму арганізоўваць тэатральную групу.

Апынуўшыся ў Саўт-Рыверы, грамадскай дзейнасці не пакінуў: браў удзел у стварэнні Кангрэсовага Камітэта і Аб'яднання беларусаў — вязняў савецкіх канцэнтрацыйных лагераў.

На выданне ўспамінаў пакінуў грошы — гэтаю справаю заняліся Мікалай Сіцько і а. Мікалай Лапіцкі, а калі дачка Вара нарэшце была вызваленая, Сіцько адшукаў яе і праз Польшчу перасылаў пачкі з рэчамі.

Вось фактычна ўсё, што вядома на сёння пра аўтара «Успамінаў з жыцця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу», якая стаіць у адным шэрагу з кнігамі Ф. Аляхновіча «У кіпцюрах ГПУ», С. Підгайнага «Беларусы на Салаўках» ці публікацыямі кшталту «Беларусы ў савецкіх канцэнтрацыйных лагерах у Нямеччыне»[1378].

Троху інфармацыі дадаюць два лісты Пятра Палягошкі, напісаныя ім, тады жыхаром Дэтройта, да Віцьбіча — як усходніка да ўсходніка ў акружэнні спрэс беларусаў-заходнікаў, і дасланыя разам з невялікімі ўспамінамі пра падзеі ў Барысаве і ваколіцах.

---

1376 Сцежкі-дарожкі. Успаміны Алеся Змагара // Arche. № 2. 2001. http://arche.bymedia.net/2001-2/zmaha201.html.

1377 Вуснае паведамленне В. Кіпеля ад 04.10.2011.

1378 Бацькаўшчына. № 69. 31 жнівеня 1951. С. 4.

## Лісты Пятра Палягошкі да Юркі Віцьбіча

14.II.52.

В. Паважаны Юры Аляксандравіч!

Ахвотна стараюся дапамагчы Вам у карыснай і вельмі патрэбнай працы. Точныя даты даць немагчыма — забываюся, але прыблізна пару, у якую гэта адбывалася, памятаю так: паўстаньне мабілізаваньня ў Барысаве адбылося ў глыбокую восень 1918 г.

Сапраўднае прозьвішча былога старшыні *«чрезвычайки»* жыдок Шленскі, прозьвішча Громаў прысабечыў сабе для большага гонару і павагі.

Цягнік семянюкоўцамі быў спушчаны ў адкос вясной у пачатку мая 21 г. Арыштавана было поўнасьцю ўсё насельніцтва м. Талонскічы, в. Ранное і іншых бліжэй ляжачых 6 вёсак.

Адначасова дасылаю заметку аб галодным буньце ў Барысаве 3 мая 1933 г.

Працую на адным месцы ўжо другі год. Праца не цяжкая, але за тое маю толькі 1 даляр на гадзіну. Утрымліваюць *taxes* кожную нядзелю 5.50. На рукі маю 33.30, для аднаго хватае і яшчэ што-небудзь застаецца ў рэзерве. Летам у часе адпачынку, калі будзе магчымасьць, хачу пабываць там у Вас у *S. Ryvery* і *Passaic*, убачыцца са сваімі, а то тут акрамя Скуратовічаў нікога няма. Напішыце, ці далёка Вы ад Ньюёрку і як туды дабрацца. Можа магчыма там у Вас набыць пішучую машынку патрыманую і недарагую.

Прывітаньне і добрые пажаданьні сям'і і ўсім знаёмым.

Даруйце, напісаў нябрэжна, сьпяшаюся на працу.

Ваш П. Палягошка.

Галодны бунт у Барысаве 3.5.33 г.

Пасьля ліквідацыі НЭПа і з пачаткам калектывізацыі пачалася і галадоўка. Ад 1928 да 1933 уключна хлеб выдаваўся па карткам, насельніцтва для атрыманьня хлеба было падзелена на 4 катэгорыі: 1. камуністы-партработнікі і вельмі цяжка працуючыя атрымоўвалі 1 кг хлеба на дзень; 2. рабочыя, якія выконвалі сярэдняй цяжкасьці працу, атрымоўвалі 500 гр хлеба на дзень; 3. рабочыя лёгка працуючыя — 300 гр; 4. служачыя — 150 гр, а іждзівенцы і дзеці толькі 100 гр хлеба на дзень.

У канцы апрэля 1933 г. атрымалася дырэктыва з Масквы зьменшыць норму выдачы хлеба, як што: 1 катэгорыя — 500 гр, 2 — 300, 3 — 150, 4 — 100, а іждзівенцам і дзецям у выдачы хлеба зусім было адмоўлена.

3.5.33 г. у Барысаве іждзівенцы-жанчыны і дзеці выйшлі на вуліцу дамагацца хлеба і ў гэты час спаткалі вазы з хлебам для памянутых катэгорый. Натоўп галоднага народу застанавіў вазы і пачалі раздаваць

хлеб пераважна галодным дзецям. А 2 гадзіне дня змучаны галодны народ падышоў да магазынаў з хлебам і, разьбіўшы вокны, пачаў даставаць хлеб і даваць дзецям. Натоўп галоднага народу разагнала міліцыя і НКВД. Конныя атрады НКВД коньмі лезьлі на людзей і давілі людзей і дзяцей капытамі. Многа было пакалечаных пад капытамі коней. НКВДысты і міліцыя хадзілі ўвесь час з адчыненай зброяй у руках, але яшчэ не стралялі.

У дзьвярах магазына з хлебам стаялі 2 міліцыянэры, якія ўтрымоўвалі натоўп ад разлому дзьвярэй. І адзін з гэтых міліцыянэраў, зьвярнуўшыся да жанчын, голасна сказаў: *«Жанчыны, нашто вы мучаецеся і без карысьці калечыцеся самі і калечыце дзяцей, ідзіце дамоў і вядзіце сваіх мужоў з фабрык, няхай ямы стануць у вабарону сваіх галодных дзяцей і жанок і тады скарэй будзе толк»*.

У гэту хвіліну 2 нквдыстыя, пачуўшы зварот міліцыянэраў да народу, пачалі страляць у міліцыянэраў з крыкам: *«рукі ўверх»*. Адзін зь міліцыянэраў даў два стрэлы ў напрамку нквдыстаў і кінуліся ўцякаць, але ўцячы не змаглі, т. я. народам былі забітыя ўсе вуліцы і завулкі. Абодва былі схваченыя нквдыстамі, закруцілі ім рукі назад і пацягнулі ў НКВД.

Абураны натоўп народу, які складаўся больш 20 тысяч, рынуўся к гмаху НКВД і іншым савецкім установам. Кругом НКВД густой сьцяной стаялі нквдыстыя зь вінтоўкамі ў руках наперавес з прымкнутымі штыхамі, а ззаду іх стаялі нквдыстыя з аўтаматамі, пагражаючы адчыніць агонь, калі натоўп асьмеліцца падыйсьці да гмаху НКВД.

У гарадзкой управе не засталося ніводнага ўрадоўца, усе пахаваліся, баючыся расправы галоднага народу.

Абураны народ не разыходзіўся, і толькі праз гадзіну выйшаў начальнік НКВД і сказаў, што ў Масквы атрымана тэлеграма, дазваляючая даваць хлеб так, як і раней давалі.

Народ разышоўся па дамам.

Ноччу НКВД пачало сваю працу... Па горадзе пайшлі сталінскія чорныя вораны (машыны, у якіх возяць вязьняў) па ўсіх, хто лічыўся ў сьценах НКВД ненадзейнымі. У адну ноч было арыштавана 1400, і ўсе высланыя бяз суду ў канцэнтрацыйныя лягеры па пастанове тройцы НКВД. Чалавек 200 было расстраляна. У ліку расстраляных у першую чаргу былі былы галава гораду Паўлоўскі, ксёнзд-дзекан Барысаўскага касьцёла М. і іншыя.

15.3.52. 2½ ночы.

В. Паважаны Юры Аляксандравіч!

Дзякую за ліст. Атрымаў учора і адразу стараюся адказаць. Пішу ў часе працы, ня маючы пад рукой чарніла, алавіком. Даруйце за гэта. Я наогул пішу паскудна, але хоць з дапамогай лупы прачытаеце.

Трэба прызнацца, што памяць слабее, тым больш помніць даты за 30 год таму назад цяжка, аднак будучы ў Барысаве пасьля адыходу немцаў у зіму 18 г. (ад XII.18 да V.19 я працаваў там пры ваенкамаце) і добра памятаю, што ў часе бунту мабілізаваных ужо Бяроза была замёрзшая і ляжаў сьнег і прыходзілася пераходзіць раку па лёдзе. Гэта было зімой 19 г.

Звольніўшыся ад службы ў Барысаве ў маі 19 г., я вярнуўся дамоў у Смалявічы і папаў пад нямецкую акупацыю.

Што тычыцца галоднага бунту ў Барысаве, даты падазеныя мной пэўныя, бо гэта мне перадаў Скуратовіч, будучы навочным сьведкай, і даты, як ён мяне запэўніў, ён добра памятае. Бачыце, гэта быў бунт рабочага народа, якім не маглі забараніць пячы хлеб, бо ў іх пячы ня было чаго. Падавіўшы гэты бунт, нідзе ні слова аб гэтым не ўспаміналася, і народ баяўся заікнуцца аб гэтым. А што Вам казаў былы супрацоўнік газэты «Зьвязда», так гэта было штось іншае. Гэта відавочна была рэпрэсія на сялян, якія не выконвалі хлебанарыхтовак.

Я Вам пісаў, што ў часе нападу ня цягнік Семянюка ў жывых ня было, і магчыма гэта была работа Моніча[1379]. Аднак людзі па прыбыцьці казалі, што гэта работа семянюкоўцаў.

Вы ўспомнілі аб 1001 паседжаньні міністраў. Так адбываючыеся ў вас паседжаньні міністраў маюць больш-менш выразную лінію. Тутжа ў Дэтройце апошнія часы такое паскудства разводзіцца, што проста застаўшыеся ў мяне 1/3 часткі жывата ня могуць пераварыць і ня выпіўшы не разьбярэш як то: тут зьявілася 2-х «дактароў» Мазуро[1380] і Сажыч[1381] (швагер). А што шляхціц, то і *«дохтар»*. Ну й залажылі Беларускі камітэт, на самой справе крывіцкі, і спачатку былі сабралі чалавек 17, а посьле, як сталі даведвацца, з кім маюць справу, адкінуліся й застаўся толькі ўрад ды *«дахтары»*.

Бачачы, што справа ня клеецца, яны выклікаюць «сьвяціцеля» Тамашчыка[1382], каб памаліўся аб дараваньні пабеды, улезьлі ў Украінскую царкву, дзе моліцца пазбаўлены сану нейкі стары баця. Я сходзіў паглядзеў, як гэты палітычны клоўн выконвае ролю епіскапа. Маліўся па-ўкраінску, па-беларуску і славянску, а як бабы цалуюць руку, улыбка да вушэй — вот падла!

---

[1379] **Юрка Моніч** (1890–1924), паўстанец-атаман. Кіраваў антыбальшавіцкім рухам у цэнтральных раёнах Беларусі ў 1919–1924 гг., быў кіраўніком штаба I партызанскага беларускага аддзела войскаў БНР.

[1380] Маецца на ўвазе **Юрка Мазура** (1917–1990), грамадскі дзеяч, ён не меў закончанай вышэйшай адукацыі і не меў тытула *«доктар»*, але сапраўды сцвярджаў пра свае шляхецкія карані і называў сябе нашчадкам беларускай арыстакратыі.

[1381] Маецца на ўвазе Язэп Сажыч, ягоная жонка Барбара была сястрою Юркі Мазуры.

[1382] Маецца на ўвазе Уладыка Васіль (Тамашчык).

Гэта ня ўсё — тут выдаецца польская рэакцыйная газэта, якая ўвесь час трубіць, што Беларусь можа будавацца толькі ў межах польскіх, і палякі кажуць, што ні аб якой Беларусі і рэчы быць ня можа. Раптам прыматаўся Абрамчык[1383], робіць інтэрв'ю прадстаўніку гэтай газэты як *«прэзыдэнт»* і стараецца запэўніць аб прыкрасных адносінах беларускага народа да польскага. Вот іуда сукін сын. Палякі ад радасьці наляпалі яго морду ў газэце. Якія прыгоды былі ад палякаў у часе акупацыі для заходніх беларусаў, што папалі пад Польшчу, вядома Вам добра.

Ага, чуць не забыўся — надыходзіць час сьвяткаваньня 25 сакавіка. Так *«прэм'ер міністар»* Каханоўскі[1384] прыедзе сюды з Кліўленду са сваім штабам і сам будзе чытаць рэфэрат.

Адным словам, прахвосты і больш нічога сказаць нельга.

Добра, што прыехаў мой сусед, я яго шкадаваў. Тут ужо мусіць няма часу спаць 30 часоў у суткі. А я яго папярэджваў, што ад гэтакага сну могуць мазгі высахнуць.

У прошлым годзе, дзякуючы таму, што ня было куды дзявацца, адмовіўся ад адпачынку ды працаваў, а сёлета, калі дажыву, абавязкова пастараюся прыехаць да Вас. Толькі буду прасіць напісаць мне, як да Вас ехаць, дзе распаложаны *S. River*. Я калі буду ехаць, дык аўтобусам, бо ж. д. дорага каштуе.

Статейка аб Семянюку добрая[1385], постаць яго і характар як змагара паказаны добра. Я яго асабіста знаў і ў гутарцы яго вычувалася рашучасьць да змаганьня.

Напісаў вельмі многа ды так паскудна, баюся, што будзеце, чытаючы, мяне лаяць.

Прывітаньні сям'і і ўсім сябрам.

Ваш П. Палягошка.

[Барысаўскае паўстаньне. Лукаш Семянюк]

Барацьба беларускага народа за сваё вызваленьне ад камуністычнай тыраніі пачалася ад пачатку захопу ўлады бальшавікамі. Яшчэ ў 1918 г. як толькі камуністы прыйшлі да ўлады, у павятовым горадзе Барысаве ў першую чаргу былі сфарміраваныя ўстановы: 1. ЧК (чрэзвычайная камісія па барацьбе з партызанамі, контррэвалюцыяй, спекуляцыяй, г. д.). На чале яе стаяў жыдок Шленскі, прысабечыўшы сабе больш грознае рэвалюцыйнае прозьвішча «Громов»; 2. Вайсковы

---

[1383] Маецца на ўвазе прэзідэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.

[1384] Маецца на ўвазе Аўген Каханоўскі, які ад канца 1940-х гг. да сярэдзіны 1950-х быў кіраўніком Урада БНР.

[1385] Віцьбіч, Юрка. Дзякуй, Лукаш Семянюк! // Бацькаўшчына. № 11–12 (90–91). 25 сакавіка 1952. С. 3.

камісарыят, на чале якога стаяў былы фельдфебель малапісьменны латыш Бенгер; 3. Палітбюро, на чале якога стаяў камсамолец Пушкарчук; 4. Камдез (камісія па барацьбе з дэзэртырамі), на чале з камуністам, амаль непісьменным матросам Ядлоўскім.

Пад прэсам гэтых установаў і садыстых, якія ўзначальвалі гэтыя ўстановы, далей замацоўвалася ў Барысаўскім павеце камуністычная ўлада.

Так як з пачаткам гаспадараньня бальшавікоў пачалася галадоўка, быў сфармаваны Упродком (Уездный продовольственный коміссаріат), на чале якога стаў камуніст Баршай.

Пачыналася вайна з палякамі. Па загаду зь Мінска Народнаму Ваенкамату трэба было мабілізаваць вайскова абавязаных за 10 год. Трэба падкрэсьліць, што нічога да мабілізацыі не было падрыхтавана — адсутнічаў мабілізацыйны план, які ўкласьці гэтыя верхаводы не маглі, т. я. ня ведалі, з чаго пачаць, а ўсё хацелі зрабіць *«па-бальшавіцку»*.

Усяго для харчаваньня людзей на перасыльным пункце мелася некалькі дзясяткаў пудаў аўса. Казармы былі разваленыя, кухні таксама. Нарадаў адпраўляць людзей ня было, а калі-б і былі нарады, так транспарт таксама быў развалены і чакаць падачы эшалонаў своечасова не было надзеі. Ня гледзячы на ўсё гэта, мабілізацыя пачала праводзіцца па-бальшавіцку.

Па загаду Военкомата на паперы дзесь выклікаліся мабілізуемыя з 2-х вобласьцей. Для хуткага прыёма былі сфармаваныя 2 прыёмныя камісіі. Людзі прыбывалі кожны дзень. Прымалася тысячы людзей, адсылаліся на перасыльны пункт у халодныя і непрыгодныя баракі. Карміць ня было чым. Запрацаваў Баршай з сваім Упрадкомам, пачалася грабілаўка (па савецку рэквізіцыя) прадуктаў у насельніцтва. Так само адбіралася пасуда ад мясцовага насельніцтва і г. д. Адным словам, пачалася грабілаўка і падняўся гвалт сярод насельніцтва. Сабраныя на перасыльны пункт тысячы мабілізаваных убачылі, што іх трымаюць галоднымі і халоднымі, а іх сем'і рабуюць, забіраючы апошні хлеб, заатакавалі Упродком і патрабавалі спыніць грабілаўку.

Камісар Баршай з усім сваім штабам уцёк і пачалася разруха. Чрэзвычайка на чале з Громавым таксама ўцякла. Прызыўныя камісіі разьбегліся.

У распараджэньні вайсковага камісара Бенгера быў караульны батальён, які складаўся з прызваных беларусаў, і загаду Бенгера прыняць удзел у ліквідацыі паўстаньня не падпарадкаваўся, а перайшоў на бок паўстаўшых. Другой вайсковай сілы, якая-б прыняла ўдзел у ліквідацыі паўстаньня, ня было.

Такім парадкам былі разагнаныя ўсе савецкія ўстановы, а прызваныя на мабілізацыю і караульны батальён разышліся па дамам і далей служыць савецкай уладзе не хацелі.

Многа мясцовых жыхароў, западозраных як *«зачыншчыкі»* паўстаньня, былі без суда расстраляныя, прычым ролю палача заўсёды выконваў сам вайсковы камісар Бенгер.

Убачыўшы, што яны бездапаможныя весьці далейшую барацьбу з адмоўна настаўленым насельніцтвам, Камдез (Камісія па барацьбе з дэзертырамі) абвясьціла дабраахвотную яўку дэзерціраў, інакш кажучы, абяцала не караць тых, хто дабраахвотна зьявіцца служыць у войску. Часткова зь некаторых валасьцей сталі зьяўляцца. Толькі ніхто рашуча не зьяўляўся з Халопеніцкага і Красналукскага раёнаў. Там актыўную барацьбу з камунізмам узначальваў мясцовы селянін з Халопеніч Семянюк Лукаш. Ён, адмовіўшыся служыць у Чырвонай Арміі, сфармаваў моцны атрад, і літаральна паралізаваў усякую работу камуністаў. Мейсца дзейнасьці яго было два раёны, Халопенічы і Красналукі. Ніякія савецкія ўстановы там працаваць не маглі. Ніякай грабілаўкі ён там не дапушчаў, і многія партыйцы, пасланыя туды на працу, назад не вярталіся.

Для барацьбы з паўстаўшымі ў гэтых раёнах у Барысаве быў сфармаваны карацельны атрад ЧОН (атрады ЧОН складаліся толькі з камуністаў). Некалькі разоў гэты атрад хадзіў у гэтыя раёны на *«паляваньне»* за *«бандытамі»*, але кажды раз зьвярталіся назад, не далічыўшыся сваіх партыйных ваякаў. Хаця часта па дарозе захватвалі з сабой ні ў чым не павінных сялянаў і іх усё роўна расстрэльваў на батаргах ваенком Бенгер (батарэі — мейсца каля р. Бярэзіны, умацаванае ўнізе ў часе францускае вайны і заросшае лесам).

Летам 1919 г. палякі акупавалі заходнюю частку Беларусі і дашлі да ракі Бярэзіны. Семянюк са сваім атрадам партызанаў, які вырас у магутную баявую арганізацыю, працягваў нураўнае змаганьне з Чырвонай Арміяй у тых самых раёнах, але сьцягнутыя больш моцныя ваенныя часткі Чырвонай Арміі к фронту прынудзілі Семенюка заставіць мейсца барацьбы, посьле чаго ён прабіваецца праз чырвоны фронт і пераходзіць на тэрыторыю, занятую палякамі, і адгэтуль працягваў барацьбу з камунізмам.

Летам 20 г. посьле няроўнага бою з Чырвонай Арміяй прыжаты к рацэ Бярэзіне, ён кінуўся ў раку і стаў пераплываць на другі бераг, але куля на вадзе абарвала яго жыцьцё. І так барацьбіта за волю не стала.

Але бунтарны дух і жаданьне далей змагацца за волю застаўся сярод насельніцтва і яго партызанаў.

Так, вясной 21 г., у маі, даведаўшыся, што з Масквы ў Менск будзе праходзіць кур'ерны цягнік з важнымі паперамі, семянюкоўцы спусьцілі гэты цягнік пад адкос.

Узварушылася й Масква. Крэмль хутка выслаў з Масквы асабовы карацельны атрад ГПУ. У працягу аднаго дня было арыштавана пагалоўна ўсё насельніцтва, ня выключая жанчын і дзяцей бліжэй ляжачых 8 вёсак, і пад канвоем НКВД загнана ў Барысаў.

Вуліцы ў Барысаве, па якіх праводзілі тысячы арыштаваных, былі звольненыя ад мясцовага насельніцтва. Загнаўшы ў цюрму, пачалася інквізіцыя. Разьдзетых клалі на падлогу, накрывалі мокрымі прасьцінямі і білі да няпрытомнасьці, пакуль ахвяры ня прызнаваліся *«вінаватымі»*. Расстралялі бяз суда больш 200 чалавек і яшчэ больш было саслана ў канцлягеры.

Так гінулі адважныя змагары, баронячы волю Беларускага Народа.

# ДЗВЕ ДУШЫ МАРГІНАЛЬНАГА БЕЛАРУСА: КАСТУСЬ ЯКУБ-ПТАХ[1386]

Дваццатае стагодзьдзе падаравала беларускай ідэі новую, незвычайна плададайную прастору, — нацыянальны маргінэс. Заваёўнік яго авалодвае й палітычнай воляй Беларусі. Маргінэс як зьява тым больш цікавая й вартая адмысловай увагі, што нацыянальнаму руху часта закідаюць сталічную сухотнасьць і непрыжыласьць у жывым народным целе, — гэткае рыцарскае, але марнае змаганьне зь ветраком сьвятой трыадзінаславянскай рускасьці. Тым часам беларуская нацыянальная ідэя ўжо на пачатку XX ст. выйшла з абалонкі чыстай тэорыі й пачала інтэрпрэтавацца й спажывацца ня толькі вузкім колам адукаваных этнафілаў і рамантыкаў.

*Юры Васілеўскі, Алеся Сёмуха*[1387]

У беларускай эміграцыйнай прасторы заўсёды існавалі свае мэйнстрымы і, як кожная плынь, яны мелі сваю адметнасць — плыткасць.

Калі ў канцы 1940 — пачатку 1950-х мэйнстрымам у палітыцы былі дзве партыі, Рада БНР і БЦР, а на маргінэсе беларускага жыцця існавала *«трэцяя сіла»*, дык цягам 1970-х БЦР, у сваю чаргу, сышла на маргінэс, а *«трэцяя сіла»* перастала быць заўважнай.

Мэйнстрым культурніцкага жыцця адметны большай стабільнасцю: тут былі і ёсць, нават пасля сваёй смерці, Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Юрка Віцьбіч, Часлаў Сіповіч, а ў XXI стагоддзі ён вызначаецца імёнамі Зоры і Вітаўта Кіпеляў на адным беразе і айца Аляксандра Надсана — на другім. За імі — дзве дзейныя найбуйнейшыя навукова-асветныя ўстановы эміграцыі: Беларускі інстытут навукі і мастацтва ды Скарынаўская бібліятэка.

Маргінэс жа беларускай эміграцыі — гэта зусім недаследаваны, але надта цікавы, разнастайны і сакавіты бок будзённага жыцця, шчыльна заселены мінакамі. Відавочна, панятак маргінэсу разглядаецца з пазіцый нейкага *ўмоўнага* цэнтра. Але чалавек, які не належыць да мэйнстрыму, пачувае сябе аўтсайдарам, што знаходзіцца на перыферыі грамадскага жыцця; ён

[1386] Упершыню апублікавана ў: Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 321–342.

[1387] Васілеўскі, Ю.; Сёмуха, А. Літаратурны акалот: Антон Беларусаў-Скалка // Запісы БІНіМ. № 23. Нью-Ёрк, 1999. С. 149.

заўважае, што сацыяльная прастора фармуецца не вакол яго як цэнтра. Гэта падштурхоўвае да стварэння ўласнага цэнтра — часта з ссунутай сістэмай каштоўнасцяў.

На маргінэсе эміграцыйнага жыцця апыноўваліся праз уласныя амбіцыі, няздольнасць ці нежаданне працаваць у грамадзе (то бок ва ўжо наяўных установах, выданнях), або праз геаграфічную аддаленасць, або ў звязку з уласнымі, адрознымі ад агульнапрынятых поглядамі на пэўныя з’явы жыцця (моўныя, царкоўныя etc.).

Для прадстаўнікоў маргінэсу характэрным было заснаванне ўласных арганізацый, куды ўваходзілі часта толькі самі ўтваральнікі. Гэткім быў створаны Юрыем Попкам Інстытут беларусаведы або Беларуска-амерыканскі літаратурна-навуковы цэнтр Уладзіміра Сядуры — заўважанага ў амерыканскіх акадэмічных колах прафесара, але малавядомага шырокаму беларускаму грамадству пісьменніка. Паказальна, што нават прадмовы да ўласных твораў яны пісалі самі — пад псеўданімамі (Язэп Белавескі — у выпадку Попкі, Кастусь Старажоўскі — Сядуры).

Фактычна аднаасабовымі былі Інстытут найноўшае гісторыі Беларусі Яна Станкевіча, Усебеларускі архіў Міколы Панькова. Іх дзейнасць прыпынілася са смерцю заснавальнікаў.

Распаўсюджанаю з’яваю — і больш небяспечнаю за ўтварэнне міфічных навуковых установаў — сталася прапаганда прадстаўнікамі маргінэсу новых цэркваў. Гэтак, Людвіг Зарэчны (Галубовіч) разам з Уладзіславам Рыжым-Рыскім стварылі Беларускі артадаксальны каталіцкі касцёл, Віктар Войтанка-Васілеўскі прапагандаваў ідэю Беларускага народнага каталіцкага касцёла, Эмігідзіюш Рыжы-Рыскі назваў сябе ўладыкам Усясветнага амерыканскага патрыярхату Беларускай народнай праваслаўнай царквы.

Што яднала беларусаў на маргінэсе з мэйнстрымам — дык гэта вызнанне ідэй 25 Сакавіка. Натуральна, што такія групы як, напрыклад, беларусы-федэралісты (то бок прыхільнікі добрасуседскіх дачыненняў з расійскімі чыннікамі) знаходзіліся ў яшчэ большай аддаленасці ад цэнтраў жыцця эміграцыі (царкоўнай залі, рэдакцыі выдання, управы арганізацыі). Падобная аддаленасць парадаксальным чынам правакавала на актыўную дзейнасць. Неабходна толькі зазначыць, што да выціскання на маргінэс у немалой ступені спрычыніліся дзеячы мэйнстрыму.

От жа гэты бок жыцця і постаць аднаго з прадстаўнікоў — ці ахвяраў? — Кастуся (Канстанціна) Якуба (Якубава) Птаха і ёсць зместам аповеду.

Адлік трэба весці ад лагераў *DP*, адкуль бяруць свае пачаткі не толькі палітычныя і царкоўныя закалоты, але і чалавечыя канфлікты. Вядомая ацэнка Наталлі Арсенневай настрою ў лагерах: *«...людзі зрабіліся й шэрыя, і нудныя, і благія, спадлелі, за лішнюю банку кансэрваў ці фунт мукі адракаліся й свайго сумленьня, і свае людзкое годнасьці»*[1388].

---

[1388] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1999. С. 257.

Варта таксама зацытаваць ліст другога пісьменніка, Міхася Кавыля, як сведчанне агульнага маральнага стану ў *DP*, стасункаў паміж людзьмі і справы палітычнага і царкоўнага яднання:

*«Добры дзень, глыбокапаважаны Юры Аляксандравіч*[1389]*!*

*Другі раз бяруся за напісаньне гэтага ліста й ня ведаю, ці дапішу да канца: рукі трасуцца як у трасцы, галава рассыпаецца ад болю, сэрца вось-вось, здаецца, адарвецца, і я правалюся ў бяздоньне… "Ліха маёй беднай галаве", як сказаў Масей Сяднёў, а я дабаўлю — дурной. Ды гэта ж толькі падумаць! Дзесяць месяцаў трымаўся, у рот ня браў, нават паху* *яе* (вылучэнне М. Кавыля) *баяўся, а на адзіннацатым, як кажуць, кілёмэтры спатыкнуўся й скруціў сабе голаў. А ўсё гэтыя жанчыны вінаваты: адну (Тоньку Гулак) замуж за "міністра" Галубовіча*[1390] *выдаваў, а другая (не скажу хто) мне мазгі закруціла, і па прычыне гэтых дзьвюх жанчын я не ўтрымаўся й прагуляў цэлую нядзелю. Калі не пападу ў шпіталь, будзе добра. Чую сябе вельмі дрэнна. А таму прашу прабачыць, што шмат не змагу напісаць. Ды няма чым асаблівым і хваліцца. Агульнымі словамі, сымбалем, ці праявай Рыскага трактату, сягоньня ў нашым лягеры стаў начальнік паліцыі Розмысл*[1391]*. Ахвярай "польскага" выхаваньня ўпаў (яшчэ жывы, але…) "калгасьнік" Ткач. Справа пайшла ў вайсковы суд. "Крывічы" гэты момант выкарыстоўваюць для перабраньня кіраўніцтва лягеру ў свае рукі. Прыяжджаў Кунцэвіч*[1392]*. "Заснаваў гурток сваіх прыхільнікаў", — як сказаў адзін чалавек. Быццам кіраўніком усяго гэтага "крывіцкага" зброду зьяўляецца Любачка*[1393]*. Я зь ім сёньня гутарыў. Ён адмаўляецца ад усіх закідаў. Гаворыць, што і Астроўскі, і Абрамчык — гнільлё й што ён толькі ня можа пагадзіцца з "польскім выхаваньнем" Шчорса*[1394] *й яго Бэрыя — Розмыслам. Ня веру. Штосьці ня так. Вы ўжо, мабыць, ведаеце аб завешаньні нашага й аб прызнаньні "крывіцкага" прадстаўніцтва. Сягоньня езьдзілі сп. сп. Лапіцкі, Саковіч, Манькоў*[1395] *і Бэнэдзікт*[1396] *у Бад-Кісінген*

---

[1389] Ліст адрасаваны Юрыю Сабалеўскаму.

[1390] Маецца на ўвазе **Людвік Галубовіч** (на эмігр. Зарэчны, 1915–1964), вайсковы і грамадскі дзеяч.

[1391] **Сяргей Розмысл** (1905–1969), грамадскі дзеяч. Ад 1950-х гг. жыў у Мельбурне (Аўстралія).

[1392] Відаць, маецца на ўвазе **Мікола Кунцэвіч** (1907–1985), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны быў старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта ў Нямеччыне.

[1393] **Іван Любачка** (1915–1977), гісторык, педагог.

[1394] Відаць, маецца на ўвазе **Барыс Шчорс** (1916–1975), грамадскі дзеяч, які ў паваеннай Нямеччыне быў камендантам беларускага лагера *DP* у Міхельсдорфе, а Сяргей Розмысл тамсама быў кіраўніком лагернай паліцыі.

[1395] Маецца на ўвазе **Палікарп Манькоў** (1910–1999), грамадскі дзеяч.

[1396] Маецца на ўвазе **Венедыкт** (свецк. Васіль Бабкоўскі, 1876–1951), епіскап Рускай праваслаўнай царквы, ад красавіка 1942 г. — архіепіскап Гарадзенскі і Беластоцкі Беларускай праваслаўнай царквы, экзарх Усходняй Прусіі.

*па гэтай справе. Вынікі дрэнныя. Сказаў дырэктар, што да таго часу, пакуль ня будзе ўладжана справа з нашым епіскапатам, гутаркі ніякай і быць ня можа. Бэнэдыкт (ня ведаю яго сану) паабяцаў, што ён зробіць па прыезьдзе ў Мюнхэн выдзяленьне беларускага епіскапату з "зарубежнай". А пакуль што — пшык»*[1397].

Калі гэткі роспач, духоўную пустэчу адчувалі пісьменнікі, што мелі ўсё ж выступы перад чытачамі, творчы занятак (пра яго таксама піша Наталля Арсеннева), былі бліжэй знаёмыя з фігурантамі беларускага жыцця яшчэ з ваеннага часу, лепей арыентаваліся ў сітуацыі з БАПЦ, дык можна толькі ўяўляць тую разгубленасць, безвыходнасць і расчараванне, якія бачылі перад сабой іншыя, падобна да нашага героя:

*«Добры дзень, дарагі й слаўны, родны мой зямляк Юрка Віцьбіч!*

*Даўно ўжо я зьбіраўся Вам напісаць і ўсё ніяк ня мог выбраць часу. І сапраўды так, дарагі мой Віцьбіч! Амаль кажны дзень я ўспамінаю Вас, з гонарам, з надзеяй, што ёсьць наша апора на эміграцыі, жыве й здраўствуе наш дарагі Юрка Віцьбіч на зло ўсім нягоднікам і ворагам нашай Маці-Беларусі, хароніць яго Гасподзь Бог! Дарагі Юрка Віцьбіч! Ды хіба можна Вам напісаць пісьмо. Хіба можна выліць у адным лісьце тое, што хочацца расказваць цэлыя дні й ночы й тыдні, выліваць усю крыўду й боль набалеўшай душы й нянавісьць. Лепей ужо й ня брацца за ліст, і можаце мне паверыць у шчырасьць маіх слоў, што я амаль кожны дзень думаю аб Вас, а напісаць ліст не магу сабрацца.*

*Дарагі й слаўны Юрка Віцьбіч! Піша гэта Вам Кастусь Птах, альбо Кастусь Якубаў. Як гасьціў тут у нас Масей Сяднёў, дык заходзіў ён да мяне на часінку, і трошкі пагутарылі мы аб тым аб сім. Ён, напэўна, Вам трошкі расказваў. У мяне аб ім засталіся самыя найдарагія, цёплыя ўспаміны. І скажэце, як гэта так бывае: у жыцьці ні разу ня бачыўся з чалавекам, першы раз сустрэліся, і здаецца, нібы былі знаёмыя з самага дзяцінства, нібы былі заўсёды сябрамі, нават болей таго, роднымі братамі. І ён у мяне стаіць заўсёды ў галаве. Слаўны й добры патрыёт і Сын сваёй Маці-Беларусі. Перадайце яму шчырае прывітаньне, пацалуйце яго за мяне. Як хацелася б зноў пабачыцца, сустрэцца дзе-небудзь у цёплай сяброўскай кампаніі разам з Вамі й ім.*

*Дарагі мой слаўны Юрка Віцьбіч! Гордасьць Вы Маці-Беларусі! Ня крыўдзіцеся, што я Вас так называю, вы гэта сапраўды заслугоўваеце й зьяўляецеся такой. Ня буду я Вам шмат пісаць у гэтым лісьце. Вы мяне й так трошкі ведаеце. Хопіць ужо таго, што я 5 гадоў адсядзеў на Варкуце за нацыянальную контррэвалюцыйную працу. Пішу Вам зараз аб трагедыі сваёй душы, як я, марыўшы аб заходніх беларускіх нацыяналістых, сустрэў-*

[1397] Ліст М. Кавыля да Ю. Сабалеўскага ад 18.11.1949. Захоўваецца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча.

*шыся зь імі, пазнаў у іх апошніх нягоднікаў, шкурнікаў, сволачаў і падляцоў. Пішу Вам, сколькі выцягнута ў мяне крыві, надарвана здароўя. Сволачы яны, апошнія сволачы. І яны яшчэ думаюць панаваць над намі, над усім Беларускім Народам. Дык гэта была б у сто разоў зьлейшая дыктатура, чым Сталінская. Праклятыя галякі! Крывічы нягодныя! Я іх пытаў не адзін раз, кажу, хто Вам бліжэй, палякі ці рускія? Адказваюць — палякі. А куды б Вы пайшлі б, каб удалося збудаваць самастойную Беларусь — у Польшчу ці Расею? Адказваюць — у Польшчу. Ах, дарагі слаўны Юрка Віцьбіч! Што там Вам пісаць. Гэта трэба цэлую кнігу напісаць, каб паказаць, хто яны й што яны: тут і рэлігійнае пытаньне, і сацыяльнае, і нацыянальнае, і адносіны да народу, і г. д. і г. д. Што Вам пісаць, калі Вы іх ведаеце, як і я.*

*Я Вам хачу трошкі пра другое напісаць. Дарагі Юрка Віцьбіч! Хіба з крывіцкай рэакцыйнай ідэалёгіяй можна перамагчы бальшавізм? Ніколі! І далей. Хіба не ўскладаецца на нас усіх адказнасьць, дарагі Віцьбіч, за нашую беларускую справу, за нашую Маці-Беларусь? Хіба ня думаюць з надзеяй пра нас тыя, што там засталіся? Хіба мы калісьці таксама не жывем гэтай надзеяй?*

*Больш чым на каго адказнасьць ускладаецца на Вас, дарагі Юрка Віцьбіч! Вы наш ідэёвы правадыр, Вы запраўды гордасьць запраўдных беларусаў. Вас я ведаю ня толькі з эміграцыі. Вас я ведаю даўно, хоць і ня меў шчасьця бачыцца з Вамі ў твар! Няўжо ж мы зараз апусьцім рукі, дамо загінуць нашай справе вызваленьня нашага Народу й Краіны? Няўжо нас пераможуць крывічы? Крывічы — яны ўсе заходнікі. Здаецца, сярод іхнай інтэлігенцыі дык зусім немагчыма знайсьці чалавека. Панкі, панкі, панкі. Сволачы, здраднікі свайго народу й краіны. Трэба плюнуць на іх усіх. Хай адчэпяцца ад нас і робяць што хочуць. Трэба будаваць сваю арганізацыю. Ні гэта будзе нейкая дапаможная, чыста туманная, ні гэта будзе нейкая партыйная, але трэба будаваць сваю арганізацыю, свой цэнтр. Падумайце над гэтым. Ня трэба марудзіць часу. Ня думайце, што нас мала. Мы — гэта ўсе ўсходнікі плюс народная маса Заходняе Беларусі. Хай Вам ня думаецца нічога падазронага ў гэтым падзеле на ўсходнікаў і заходнікаў. Хіба ж не яны, гэтыя паганыя езуіты крывічы, падзялілі першыя на заходнікаў і ўсходнікаў, трактуючы нас як непаўнаважных людзей, унтэрмэншаў. Чакайце. Прыйдзе час расплаты. Нашую крыўду ніхто з нас не забудзе, ніхто з нас не даруе.*

*Далей такая справа. Ваш рэлігійны часапіс "Зьвіняць званы сьвятой Сафіі". Дарагі Юрка Віцьбіч! Вы чалавек глыбока рэлігійны. Я ведаю Вас добра. Не ідзіце ж на павадку ў гэтых усіх праклятых бязбожнікаў заходнікаў і прочае дрэні. Давайце разважаць па-рэлігійнаму, старацца ўгаджаць сьпярша Богу, а потым людзям, шукаць сьпярша Царства Нябеснага. Рэлігійны часапіс павінен сьпярша служыць рэлігійным задачам, а не наадварот. Трэба зрабіць гэты часапіс дасягненьнем шырокіх масаў, запраўды веруючых людзей, а ня кучкі нацыяналістаў, вельмі халодных да веры. Для гэтага патрэбна пастарацца, каб у ім час ад часу зьмяшчалі нешта нашыя сьвяшчэньнкі, нашыя япіскапы. Патрэбна для гэтага ўжываць такія*

*царкоўныя тэрміны, якія ўжывае Епіскапат. Ён у гэтым аўтарытэтны, а ня хто-небудзь яшчэ, нават і Ластоўскі. Нашто мне такія журналы, дарагі Юрка Віцьбіч, калі я буду маліцца, чуць у царкве і ўсюды: "Амінь", а Вы друкаваць "Аман", маліцца "благаславі", а Вы друкаваць "багаславі", маліцца "Ўцешыцель", а Вы друкаваць "Пацяшыцель".*

*Магчыма, Вашыя тэрміны й больш беларускія, але прывіць іх такім чынам не прыўеш. У справах рэлігійных вышэйшым аўтарытэтам зьяўляецца толькі Епіскапат. Ведаю я, што Вы паборнік аўтакефаліі, што асуджаеце япіскапаў за тое, што яны ўвайшлі ў склад Расейскае Зарубежнае Царквы. Дарагі Юрка Віцьбіч! Я сам быў калісьці заняты аўтакефалісты, аж пакуль не пажыў у ўкраінскім лягеры, не пазнаў, што гэта такая за аўтакефалія. Як бы добра выглядала, цікава, што б сказалі беларускія аўтакефалісты, запраўды веруючыя людзі, каб ў гэткай аўтакефальнай царкве пачалі камандаваць бязбожнікі, людзі зусім чужое веры — католікі й вуніяты. А так жа ёсьць у ўкраінцаў. Досыць Вам назваць адно прозьвішча Галяка (Вы яго напэўна ведаеце). Чалавек, якому на ўсё напляваць, а хоча быць заправілам — "магістар". Ды хіба адзін Галяк? Такая, скажам, Жукоўская й г. д. Дарагі Юрка Віцьбіч! Нам патрэбен рэлігійны часапіс, як раней калісьці выдаваўся "Воскресное чтение". Каб было што веруючаму чалавеку пачытаць у сьвяты: там і рэлігійнае, і вершы, і нешта з катэхізісу і маральнага ўзгадаваньня. Падумайце над гэтым. Вас благаславіць сам Гаспод Бог і дапаможа Вам у гэтай працы. Што за карысьць, што Ваш часопіс вельмі граматна напісан па-беларуску, але чытаюць яго нешырокія колы, галоўным чынам інтэлігенцыі. Калі б ён быў напісаны можа й ня так граматна па-беларуску, але правільна па-царкоўну, якую б ён адыграў вялікую ролю ня толькі рэлігійную, але й нацыянальную. Яго б чыталі й выпісвалі б нават з Францыі, Англіі й Амэрыкі.*

*Падумайце над гэтым, дарагі Юрка Віцьбіч! Я Вас вельмі прашу. Узьвешце ўсё. Са сваёй стараны я абяцаў бы Вам самую моцную падтрымку пісаць і распаўсюджваць Ваш часопіс. Я маю даволі багатыя матар'ялы рэлігійныя як жыцьці сьвятых на кажны дзень, кое што Іоанна Златоуста*[1398]*, Васіля Велікого*[1399] *й другія. Наогул мы б зьмяшчалі ў гэты часапіс усё найбольш цікавае й добрае…*

*Я ўпэўнены, што вынік адразу б сказаўся.*

*На заканчэньне я хачу сказаць Вам, што ня толькі інтэлігенты, але й сьвяшчэньнікі япіскапы носяць на сабе гэты самы праклятый заходніцкі дух. У большасьці гэта жрацы, а не сьвяшчэньнікі, прасьці Госпадзі. І думаюць яны, што толькі на Захадзе людзі верылі ў Бога й любілі царкву, а на ўсхо-*

---

[1398] **Іаан Златавуст** (каля 347–407), архіепіскап Канстанцінопальскі, багаслоў, шануецца як адзін з трох Сусветных свяціцеляў і настаўнікаў разам з Васілём Вялікім і Рыгорам Багасловам.

[1399] **Васіль Вялікі** (каля 330–379), свяціцель, архіепіскап Кесарыі Кападакійскай, царкоўны пісьменнік і багаслоў.

*дзе — гэта бязбожнікі. Можа, адчулі Вы гэта (як мне здаецца), дарагі мой Юрка Віцьбіч, на сабе й на сваім журнале. А я скажу, што на захадзе ўжо хто астаўся веруючым у Бога, сапраўды веруючыя. Для поўнай характарыстыкі хочацца абрысаваць Вам некалькі тыпаў, зь якімі я меў сутычку на гэтай ангельскай зоне.*

*Галяк, Жукоўская*[1400]*, Будзька, Папуцэвіч і г. д. — гэта хеўра крывічоў, вельмі агранічаных і дробных людзей, здольных на ўсякія подласьці й пакасьці.*

*Другі лягер — Коўш, Ільляшэвіч і Шыла*[1401]*. Пра Ільляшэвіча ня ведаю й казаць ня буду. Шыла — вельмі добры п'яніца, а таму ўжо не заслугоўвае ўвагі. Коўш — разумны й прытрымліваецца даволі правільнай палітыкі, але вялікі жулік і падлец. Сумленнасьці ні на грош. Усе яны й тыя й другія канчаткова абанкроціліся на эміграцыі. Яны паказалі сапраўдны свой твар: нягоднікаў, казнакрадаў і народных ліхадзеяў і абкрадальнікаў. У які б (не барані толькі) рог яны загналі б людзей, каб ім сапраўды давялося "восседать" на міністэрскім крэсьле. Не, сволачы! Ня бачыць вам гэткіх крэслаў, як сваіх асьліных вушэй.*

*Дарагі Юрка Віцьбіч! Куды Вы думаеце эміграваць і ці думаеце кудынебудзь эміграваць наогул? Напішэце мне, дайце адказ. А мо лепей і зусім нікуды ня ехаць, сядзець тут? Як хацелася б толькі не разлучацца з Вамі.*

*Ну, затым усяго Вам добрага ў жыцьці. Храні Вас Госпадзь на шчасьце Радзімы. Шчырае прывітаньне ўсёй Вашай сям'і. Шчырае прывітаньне дарагому Масею Сяднёву.*

*Ваш Якубаў»*[1402].

Гэта адзіны з вядомых сёння лістоў за подпісам Кастуся Якуба, а таму і надрукаваны ён цалкам. Бо іншае, змешчанае ім у часопісах, пераважна падавалася ад імя няісных асобаў-масак. Акрамя таго, у лісце, на які, хутчэй за ўсё, Юрка Віцьбіч не адказаў (бо не трываў, калі хтосьці намагаўся даць яму ўказанні, нават у самай лагоднай і добразычлівай манеры, што да ягонага пісьменніцтва ці рэдактарства[1403]), Якуб выкладаў уласнае бачанне

[1400] Відаць, маецца на ўвазе Раіса Жук-Грышкевіч (дзяв. Жукоўская).

[1401] **Мікола Шыла** (1888–1948), грамадскі і культурны дзеяч, журналіст, рэдактар.

[1402] Недатаваны ліст К. Якубава да Ю. Віцьбіча захоўваецца ў Фундацыі Пётры Крэчэўскага.

[1403] Працяг гісторыі з лістом апісвае ў сваіх успамінах Леанід Галяк: *«Маім суседам у бараку быў Кастусь Якуб — нібы пісьменьнік, хоць я нічога зь ягоных твораў не чытаў, па прафэсіі сельскі настаўнік і ў даволі моцнай ступені рэлігійны й расейскі сымпатык. Ён напісаў ліст да Віцьбіча ў амэрыканскую зону з прапановай стварыць арганізацыю савецкіх Беларусаў, дзе б не было заходняй погані. Пра Каўша напісаў, што гэта чалавек разумны, але вялікі падлец, Шыла толькі п'яніца, а пра Ільляшэвіча напісаў, што нічога ня ведае (бо ведаў, што Ільляшэвіч быў у кантакце зь Віцьбічам). Віцьбіч, атрымаўшы ліст, зараз жа пераслаў копію да ведама Каўшу (такія звычаі між сяброў). Коўш,*

рэлігійнага часопіса. І гэта істотна, бо, не знайшоўшы разумення, ён засноўвае ўласныя выданні, якіх было нямала: «Беларускія былі», «Белая Русь», «Голас Беларуса — *Belorussian Voice*», «Праваслаўны Беларус», «Сборник. Религиозно-нравственные рассказы», «Літаратурна-мастацкі зборнік»[1404], «Детство во Христе», «Русская быль», «Христианская православная семья», «Православный Миссионер», «Житейская Мудрость», «Православные картинки», «Детские сказки», *«Happy Family»*, *«Wisdom for Life»*.

Зрэшты, ініцыятываў у Кастуся Якуба было яшчэ болей: выдавецтва «Родны Край» (у 1980–1990-я гг. гэтак, відаць, называлася друкарка, на якой *«выдаваўся»* «Літаратурна-Мастацкі Зборнік» — максімальным накладам у дваццаць асобнікаў) і суполкі тае самае назвы, Беларускі дэмакратычны камітэт; Беларускі праваслаўны камітэт; Таварыства беларускай літаратуры і паэзіі; кніжная серыя «Вечная несмяротная слава змагаром за Беларусь».

Але не тое самае цікавае — як зазначалася вышэй, маргінэсу ўласціва павышаная актыўнасць: шматлікія прапановы закладання арганізацый, выдаванне адозваў, заснаванне новых і новых друкаў. Цікава іншае: пры параўнанні гэтых — спынімся адно на датычных Беларусі — часопісаў немагчыма сказаць, што ў іх адзін і той самы рэдактар.

Калі «Белая Русь» (1950–1955) — гэта рускамоўны *«орган Национально-освободительного комитета»*, дык недатаваныя «Беларускія былі» (а Якуб да гэтага жанру быў вялікім аматарам) выходзілі пад лозунгам *«Няхай жыве БНР! Няхай жыве адзіная Беларуская Сям'я!»*.

Дзеля *«рэлігійнага й маральнага ўзгадаваньня беларусаў на чужыне»* прызначаўся «Праваслаўны Беларус — Православный Белорус» (1948–1954). Гэты рэлігійна-грамадскі часопіс пачаў выходзіць пад неафіцыйным наглядам беларускіх епіскапаў, што перайшлі да Расійскай праваслаўнай царквы за мяжой. Праграмным тэкстам для ўсяго выдання і светапоглядным для самога аўтара можна лічыць Якубаў артыкул у трэцім нумары — «Аб Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы»: *«Мы ведаем, што сярод беларускіх аўтакефалістаў ёсьць шмат ідэйных людзей — беларускіх нацыяналістаў. Але яны ў імя сваёй ідэі хочуць прынесьці ў ахвяру найвышэйшую каштоўнасьць — ісьціну, веру й Праваслаўную Царкву, якая стаіць на цьвёрдых канонах сьвятых айцоў і Ўсяленскіх Сабораў. Яны хочуць скарыстаць Ца-*

---

*карыстаючыся з таго, што там вельмі лаялася беларуская інтэлігенцыя, зрабіў шмат копіяў і пусьціў іх па лягеры. Адзін паасобнік трапіў і да Будзькаў, а там зараз жа зрабілі копію й добра, бо Коўш, відаць, перачытаўшы ліст яшчэ раз, з абегу яго забраў. Якуб быў як бы расчараваны, што Коўш не прыдаў ніякага значэньня ягонаму лісту, адно толькі выказаў думку, што, відаць, прывык пісаць лісты ў адпаведныя ўстановы, а ў цяперашніх абставінах, ня ведаючы мовы, дык напісаў хоць Віцьбічу»* (Галяк, Л. Успаміны. Кн. ІІ. ЗША: Выдавецтва «Летапіс», 1983. С. 83–84).

[1404] Падрабязную характарыстыку гэтых выданняў гл.: Kipel V., Kipel Z. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography. New York — Warsaw, 2006. — 841 p.

*ркву Хрыстову як сродак для дасягненьня сваіх ідэяў. Хіба ж не адвяргаюць яны гэтым самым сьв. Евангельле й словы Хрыста Спасіцеля: “Шукайце ўперад усяго Царства нябеснае, а астатняе ўсё прыкладзецца да вас”»*[1405].

Выданне Беларускага дэмакратычнага камітэта «Голас Беларуса» (заснаванае ў 1948 г. у Нямеччыне, з 1952 да 1959 г. выдавалася ў хаце ў Кастуся Якуба) за сваю мэту абрала *«абнародаваньне думак розных колаў беларускай эміграцыі, хоць рэдакцыя “Голасу Беларуса” стаіць на пэўных і станоўчых пазыцыях нацыянальнага будаўніцтва»*, як паведамлялася ў першым нумары часопіса. З пасланнем архіепіскапаў Венядзікта, Філафея і епіскапа Афанасія «Да духавенства й веруючых праваслаўных беларусаў на эміграцыі» (*«лічачы за дакумэнт як скарб душы праваслаўнай, адкуль можна чэрпаць сілы да далейшае барацьбы за веравызнаньне, праўду й дабро»*, — пісаў Якуб) суседнічаюць матэрыялы пра Булак-Балаховіча, Слуцкае паўстанне; за Дэкларацыяй Беларускай народнай партыі, мэта якой — стварэнне Беларускае незалежнае дзяржавы, друкавалася паведамленне пра заснаванне Беларускага праваслаўнага камітэта, дзе, праміж іншага, пісалася: *«Нацыянальны гістарычны сьцяг, пад якім змагаліся нашыя продкі за сваю волю й незалежнасьць, ёсьць Белы сьцяг сьвятога Георгія Пабеданосца»*[1406].

Часопіс аддаваў належнае і літаратуры: з другога нумара друкавалася з працягам аповесць Антона Вярбіцкага (няма дастаткова доказаў, але прыпушчаю, што аўтарства таксама належыць Якубу: у «Літаратурна-Мастацкім Зборніку» адзін з ягоных псеўданімаў — Аўхім Вярбіцкі) «У крывіцкім засьценку. Гістарычная аповесьць з часоў панаваньня крывічэй шавіністых у лягерох УНРРА і DP», а ў нумары 17 рэзка крытыкаваліся вершы Янкі Юхнаўца.

Душа рэдактара і выдаўца дваілася нават на старонках аднаго выдання.

«Літаратурна-Мастацкі Зборнік» (1970–1993) быў, відаць, найбольшым і асабістым аўтарскім праектам. *«Мэта гэтых зборнікаў*, — паведамлялася ў першым нумары, — *даць духовую ежу людзям малаадукаваным, але каторыя валодаюць беларускай мовай і любяць чытаць па-беларуску. Мы будзем старацца іх пазнаёміць з клясыкамі беларускай мастацкай творчасьці, і пераважна з творчасьцяй эміграцкіх паэтаў і пісьменьнікаў, бо савецкая ўлада й пры жаданьні тыя кніжкі лёгка купіць і даволі танна. Мы будзем друкаваць розныя малюнкі з прыгожых краявідаў Беларусі, будзем друкаваць партрэты вялікіх і малых беларускіх палітычна-грамадзкіх народных дзеячаў (хто пажадае гэтага й прышле свой здымак). Хоць на эміграцыі й шмат антаганізму паміж намі, і шмат розных спрэчак і нават злобы ў адной, здавалася б, дружнай беларускай эміграцыйнай сямейцы, але ня трэба ніколі забывацца на тое, што бальшавікі й “астроўшчыкам”, і “абрамчыкамцам”, і “зарубежнікам”, і іншым адразу б накінулі на шыю пятлю, каб*

[1405] Праваслаўны Беларус — Православный Белорус. № 3. 1948.
[1406] Голас Беларуса. № 10. 1952.

*толькі ўдалося каго-небудзь зь іх злавіць. <…> Мы будзем таксама друкаваць розныя дыскусійныя артыкулы без усякіх зьменаў»*[1407].

Не ўсё атрымалася, як задумвалася. Калі ў першым нумары сапраўды змяшчаліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Андрэя Зязюлі, Язэпа Лёсіка, Галляша Леўчыка, Сяргея Пеюна, Міхася Кавыля, дык з кожным новым *«лістком»* прастору ўсё болей заваёўвалі артыкулы, допісы, былі.

За выняткам двух рэальных імёнаў, акрамя самога Якуба, — Аляксандра Асіпчыка і Віктара Войтанкі-Васілеўскага (аўтараў, дарэчы, паказальных — таксама каларытных насельнікаў маргінэсу), астатнія матэрыялы падпісаныя псеўданімамі і крыптанімамі — пераважна шматлікімі маскамі Кастуся Якуба-Птаха: Самусь Апенка, Цішка Баравік, Раман Альшанскі, Янка Парэцкі, Антон Смародзін, Антось Чырык, Уладзімер Выдра, А. Вярба, Аўхім Вярбіцкі, М. Калько, Тарас Зарэчны, Тарас Ласун, Лесавік, Алесь Суржык, Самусь Клёцка, Сымон Міронаў, Антось Чырык, Антось Рамашкін, Аўхім Заблоцкі, Сымон Канопляў, Сымон Букаты, Цвіркун ды іншыя і іншыя, што мелі сцвердзіць шырокую падтрымку ідэй рэдактара чытацкай аўдыторыяй і зацікаўленасць часопісам.

Насамрэч Кастусь Якуб быў самотным у беларускай справе. Пасля яго не засталося — калі тое і збіралася — архіваў, ліставання, яго не ўпісвалі ў гісторыю эміграцыі, не згадвалі ва ўспамінах. На сёння жыццёвы шлях гэтага беларуса азначаны ў кароткім прыпаміне Янкі Запрудніка так: *«Нейкі Якуб (можа й Птах) жыў у Трэнтане й выдаваў лісткі са сваёй пісанінай (крыху праваслаўнай, крыху графаманскай). <…> Ён быў такі ваяка, абаронца нейкай ідэйнай чысьціні. Рабіў ён сваю справу, безумоўна, з патрыятычных матываў, але ў мяне не было чамусьці стымулу разьбірацца ў ягонай місіі. Я зь ім ніколі не сустракаўся. Думаю, што ён быў ваяка-адзіночка»*[1408].

Паспрабуем, трымаючы ў руках чатырох-васьмістаронкавыя, рэдка болей, аркушы «Літаратурна-Мастацкага Зборніка» ды рускамоўны машынапіс успаміну *«Как создавался “Православный Белорус” и “Белая Русь”»*, зірнуць на свет маргінальнага беларуса з дзвюма душамі; як напісаў ён, відаць пра сябе, *«хай ведаюць усе, што мы беларусы і ў той жа час мы рускія людзі»*[1409].

Археалагічныя росшукі біяграфіі маюць лёгкі дэтэктыўны прысмак. Справа ў тым, што сам Кастусь Якуб не проста пазбягаў падрабязных сяганняў ва ўласнае мінулае, аддаючы перавагу апісанням краявідаў маленства, але раз-пораз апавядаў пра сябе як пра другую асобу ад імя трэцяй. Гэтак, у артыкуле «Малыя акалічнасці — вялікія справы» за подпісам Раман Альшанскі ён абараняе Віктара Войтанку ад абвінавачанняў Сяргея Хмары ў незаконным спароне, зробленым у Нямеччыне, і піша пра самога ж сябе, мянуючы *«рэдактарам»*: *«Я з’яўляюся маленькім супрацоўнікам выдавецтва “Православная Христианская Семья”. Гэта выдавецтва друкуе невялічкія*

---

[1407] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 1. 1970.
[1408] Электронны ліст Я. Запрудніка да Лявона Юрэвіча ад 22.10.2007.
[1409] Голас Беларуса. № 13. 1957.

*кніжкі на расейскай мове з рэлігійна-ўзгадаваўчымі апавяданьнямі й рэдкімі малюнкамі на Евангельскія тэмы. Іншы раз я трачу нейкую гадзіну на якую-небудзь пісаніну ці ўпакоўку надрукованага й таму знаходжуся “ў курсе тамашніх спраў”. Апрача кніжак, яны яшчэ прадаюць маленькія, адбітыя на рататары журналікі “Православный Миссионер” і “Белая Русь”. У “Праваслаўным Міссіянеры” пішацца пра розныя рэлігійныя й філязофскія пытаньні, а ў “Белай Русі” больш палітычныя й грамадзкія пытаньні агульна расейскага ці маскальскага зьместу, а пра беларусаў там нават і не ўспамінаецца (беларускімі пытаньнямі гэта “Белая Русь” займалась у Нямеччыне, але гэта было вельмі даўно й шмат вады сьцякло ў рэках з таго часу). Журналікі гэтыя выдавецтва не друкуе, а толькі прадае. Але купцоў на іх знаходзіцца няшмат; ну, можа, сем, можа, дзесяць чалавек. Праўда, іншы раз купляюць мітрапаліты, архіяпіскапы, сьвятары. А на зборнікі было чалавек са сто падпішчыкаў, і сярод іх шмат дактароў мэдыцыны, прафэсараў, настаўнікаў, сьвятароў і наогул вучоных людзей. Дактароў мэдыцыны было чалавек з восем. Выдавецтва друкавала кніжкі больш за 17 год, і ўсе, хто чыталі іх, вельмі хвалілі й зычылі дабра й здароўя Рэдактару ды выдаўцу гэтых зборнікаў. І вось трапілася так, што Рэдактар і выдавец захварэў. <…> Рэдактар і выдавец зборнікаў хацеў ведаць дакладны пераклад заключэньня рэнтгеноляга, які быў напісаны па-ангельску. Рэдактар быў беларусам і ведаў беларускую прыказку: адна рада добра, а дзьве ці тры яшчэ лепей. Маючы столькі ў сабе падпісчыкаў дактароў мэдыцыны, ён усім паслаў копіі для перакладу й свае асабістыя просьбы. І паслаў таксама й доктару Васілеўскаму, які ня быў ні падпісчыкам, ні нават знаёмым, проста знайшоў абвестку ў газэце “Беларус” і вось напісаў яму просьбу (зразумела, па-беларуску). І што Вы думаеце? Першы пераклад прыйшоў ад доктара Васілеўскага. Бачыце: доктар Васілеўскі належаў да Беларускай Аўтакефальнай Царквы, якая ў вачох артадаксальнага праваслаўнага рэдактара была неканані́чнай, а сам доктар і сьвятар Віктар Васілеўскі быў нейкім гарэцікам, зь якім і сустракацца, па канонах, як бы нельга»*[1410].

Ва ўспаміне *«Как создавался “Православный Белорус” и “Белая Русь”»*, скіраваным да расійскіх епіскапаў і айца Мікалая Лапіцкага, Якуб быццам пісаў гісторыю хаджэнняў нейкага безыменнага *«православного белоруса»*, таксама маючы на ўвазе самога сябе. Відаць, так ямчэй было асацыяваць сябе з біблейскім Захарыем у аповедах, які запрашаў да сябе ў хату святароў.

Што вядома пра жыццё Кастуся Якуба?

У некралогу, надрукаваным у газеце *«Times»* 16 лютага 2005 г., паведамлялася наступнае:

*«Канстанцін Кіравіч Якуб, 88, памёр у панядзелак у мэдычным цэнтры Сьв. Францыска.*

*Народжаны ў Віцебску, Беларусь, спадар Якуб прыехаў у Злучаныя Штаты ў 1951 г. і ад таго часу жыў у Трэнтане.*

---

[1410] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 2. 1970.

*Ён быў рэдактарам 10 пэрыёдыкаў, якія сам выдаваў, зь іх найбольш значныя “Мудрасьць Жыцьця” й “Хрысьціянская сям’я”. <...>*

*Сп. Якуб быў таксама прэзыдэнтам Амэрыканскай Праваслаўнай Місіі»*.

З некралогу даведваемся імёны бацькоў, Кіра ды Пелагеі Зінаіды Якуб, жонкі — Вольгі, дзвюх дачок і трох унукаў.

Пахаваны на могілках св. Уладзімера (*Hamilton Township).*

Насамрэч нарадзіўся Якуб 16 снежня 1916 г. у вёсцы Нізы, за пяць кіламетраў ад мястэчка Лёзна. Бацька рана памёр, і маці адна даглядала дзяцей: акрамя Кастуся, былі яшчэ два хлапцы і дзве дачкі. Яна, паводле згадак Якуба, хадзіла да царквы штодзень, нягледзячы на надвор’е, і насіла з сабой малога Кастуся; у царкве маці заўсёды стаяла да канца службы, пасля чаго біла паклоны каля кожнага абраза і кожную ікону цалавала.

У 1924 г. пайшоў у школу, што адкрылася ў суседняй вёсцы Малыя Сутокі. Усяго дзяцей было 40 ці 50, разбітых на два класы, першы і другі. Займаліся ў адным памяшканні — звычайнай сялянскай хаце. Якуб піша, што *«школы сталі беларускія, настаўнікі вучням пачалі казаць, што яны не расейцы, а беларусы. Хтосьці з бацькоў з гэтым не згаджаўся, хтосьці пратэставаў, але на тое ўвагі не зьвярталася. Ну, калі мы беларусы — няхай будзем беларусамі. Калі б настаўнікі сказалі, што мы — манголы, мы б згадзіліся зь імі, што мы ёсьць манголы»*[1411].

Далейшыя здарэнні Якубавага жыцця вядомыя толькі з ягоных словаў.

Відаць, вучылі настаўнікі няблага, і нацыянальная свядомасць Кастуся ўзрастала — разам з пагаршэннем сітуацыі ў Беларусі. Калі Якубу было 16 гадоў, яго выключылі ўжо з іншай школы, за *«беларускі буржуазны нацдэмакратызм»* — неасцярожнае выказванне ў абарону гісторыка Усевалада Ігнатоўскага.

20 красавіка 1935 г. у Ленінградзе яго, дзевятнаццацігадовага студэнта, арыштавалі і засудзілі на два гады. Са словаў Якуба, першыя восем месяцаў знаходзіўся ў лагеры Сінявін пад Ленінградам. Паколькі Якуб неяк праміж іншага згадаў, што навучаўся ў Горы-Горацкай акадэміі, можна дапусціць, што ў Ленінградзе ён наведваў сваю сястру Валю, якая студыявала ў Медыцынскім інстытуце.

Быў пераведзены ў Вяземлаг.

15 студзеня 1937 г. атрымаў дадатковы тэрмін, тры гады, пасля чаго быў накіраваны ў лагер Бабыніна пад Калугаю.

15 студзеня 1940 г. Кастуся Якуба выпусцілі з Севжелдорлагу, дзе зняволеныя будавалі чыгунку Котлас — Варкута. Ён вярнуўся ў сваю вёску.

Ваенны час Якуб у сваіх «Зборніках» не закрануў ніводнага разу, таму дзе ён быў, чым займаўся — пакуль невядома. Свядома ці несвядома абмінаючы факты сваёй біяграфіі, ён зноў і зноў вяртаўся да апісанняў побыту

[1411] Как создавался «Православный Белорус» и «Белая Русь» [машынапіс]. С. 1. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

зняволеных у Гулагу, умоваў працы, ствараў маральныя партрэты перастрэтых ім людзей па абодва бакі калючага дроту, шмат разважаў пра святароў, ацэньваў іх маральныя паводзіны і, галоўным чынам, шукаў сваю царкву.

Свет Кастуся Якуба, яго пошукі, што вялі найперш да канфліктаў, не зразумець, калі не даць слова яму самому. Нягледзячы на тое што ўспамін *«Как создавался…»* напісаны па-руску, на мой погляд, варта даць невялікія ўрыўкі на мове арыгінала, бо гэта дапаможа ўбачыць стыль нашага героя, а праз яго — самога Якуба:

*«Во главе Православной Церкви Белоруссии стал доблестнейший Исповедник Святого Православия, украшение всего православного мира, слава и краса всего Белорусского народа Высокопреосвященнейший Митрополіт Пантелеймон*[1412]*, а его помошником не менее стойкий и доблестнейший в защите Святого Православия Архиепископ Венедикт. Были открыты сотни храмов, освещены оскверненные и поруганные безбожниками святыни, налажено Богослужение, посвящены в Священники многие и многие достойные люди. Плакал народ, когда вновь, после невозможного передать никакими словами страшного надругательства безбожников над верой и растаптыванием всего святого, что было у народа, вновь он услышал хвалу Богу Всевышнему. <…>*

*Какие-то католики, униаты, “общественные деятели”, которых немцы насадили в свои Управы, и просто безбожники стали мешаться в дела Православной Церкви, надругаться над Епископами, преследовать Священников, угнетать верующих. Они стали требовать введения какой-то «Автокефалии Белорусской Церкви», чтобы Священники в проповедях начали восхвалять Кривию или Белоруссию и тому подобное, одним словом, чтобы Церковь стала служить их политике. Когда доблестнейший Митрополіт Пантелеймон воспротивился этому, его сослали в заточение под надзор полиции в деревушку Ляды Барановической области. Было созвано какое-то совещание, которое всеми этими католиками, униатами и безбожниками, именовавшими себя “общественными деятелями” и которым немцы дали какую-то власть, было об’явлено Собором, который якобы об’явил “Автокефалию Белорусской Церкви”.*

*Белорусс в этих действиях усмотрел насилие над своей старушкой матерью»*[1413].

У лагерах *DP* Кастусь Якуб займеў сваю адысею — з аднаго лагера ў другі ў пошуках сваёй царквы. Ён быў на службах ва Украінскай аўтакефальнай царкве і на службах грэка-каталікоў, але называў іх спевы *«сапсаванымі»*. Украінскі ксёндз казаў Якубу: *«Ты белорусс, а почему говоришь по-русски? Говори по белорусскому языку, и тебя будут все любить. А я этому не при-*

---

[1412] **Панцеляймон** (свецк. Павел Ражноўскі, 1867–1950), епіскап Рускай праваслаўнай царквы; ад восені 1942 г. — Экзарх Беларусі, архіепіскап (пазней мітрапаліт) Мінскі і Беларускі.

[1413] Как создавался «Православный Белорус» и «Белая Русь». С. 4.

*давал значения. Я, конечно, прекрасно владел литературным белорусским языком. В школе по белорусскому языку я был первый ученик. Но я жил не только в Белоруссии, я жил везде. Я любил читать московские, центральные газеты, которые сообщали более подробно о событиях во всей стране и во всем мире. Я любил Белоруссию, но одновременно я любил и всю Россию. И мне абсолютно никто не запрещал говорить на каком угодно языке»*[1414].

Падобныя думкі, выказаныя ўслых, змаганне за сапраўдную царкву перад чужымі абразамі прыводзілі да канфліктаў, і Кастусь Якуб часта літаральна мусіў ноччу, разам з жонкаю і малым дзіцем, ратавацца ўцёкамі. Ён бег з украінскага лагера, бег з літоўскага і латышскага, бег з польскага. Бег ён і з беларускага лагера ў Ватэнштэце.

Пры кожным такім пераездзе, на які няпроста было атрымаць афіцыйны дазвол, гублялася назбіранае, руйнавалася свая малая гаспадарка. Грошай не было зусім, але Якуб пастанавіў распачаць выданне часопіса — як сродак змагання з крывічамі. Дзеля гэтага яго жонка мусіла ездзіць у аддаленыя лясы збіраць арэхі, з якіх выраблялі алей, і здаваць немцам.

*«Был создан Комитет Православных Христиан Белоруссов. “Православный Белорус” печатался на белорусском языке. Но большинство, кто любил белорусский язык, белорусская интеллигенция была или враждебна к линии, занятой “Православным Белорусом”, или индифферентно и безбожно настроена к церкви. Эти люди не могли поддержать “Православный Белорус”, а для издателей дорог был каждый пфенінг. Тогда “Православный Белорус” стал одновременно печататься и на русском языке, чтобы дать возможность тем белоруссам, которые либо не знали белорусского языка, либо предпочитали говорить и читать по-русски, чтобы и они имели возможность знать, каким нападкам подвергается их Архиереи и Священники. Вскоре выяснилось, что много белоруссов не интересуется церковными вопросами, но что они не разделяют политической линии сепаратистов. Тогда был создан журнал “Белая Русь” как чисто общественный орган, в котором могли сотрудничать и католики, и униаты, и верующие, и неверующие. Но были противники сепаратистов, но одновременно любившие белорусский язык, а “Белая Русь” печатался на русском языке. Они создали журнал “Голас Беларуса” на белорусском языке. Все эти журналы совершенно независимые друг от друга. Комитет Православных Христиан Белоруссов был переименован в Комитет Ревнителей Святого Православия»*[1415].

Царква, праваслаўе, нязгода з аўтакефаліяй былі тымі тэмамі, да якіх Кастусь Якуб звяртаўся бадай і ў кожным нумары амерыканскага «Зборніка», пры любой нагодзе. Але тон з часам зрабіўся спакайнейшым, а вось нацыянальная пазіцыя змянілася моцна:

*«Уваход беларускіх япіскапаў і мітрапаліта Панцеляймона ў склад Расейскай Зарубежнай Царквы ня быў нейкім ашуканствам для хутчэйшай русі-*

[1414] Как создавался «Православный Белорус» и «Белая Русь». С. 8.
[1415] Как создавался «Православный Белорус» и «Белая Русь». С. 16.

*фікацыі беларусаў, як аб гэтым думаюць некаторыя беларусы й некаторыя расейцы, нават і япіскапы. Уваход Беларускай Мітраполіі ў склад Расейскай Зарубежнай Царквы быў часовы (временно) і на правах Мітраполіі. Нават я быў зьдзіўлены словам "часовае" (временное) уваходжаньне й запрашаў Архіяпіскапа Венядзікта, чаму часова? Ён адказаў так: па вельмі шмат якіх прычынах, што вытлумачыць у лісьце цяжка, скажам, Расейская Зарубежная Царква аб'явіла б сябе аўтакефальнай, альбо прыняла б нейкі антыкананічны ўчынак, і тагды Беларуская Мітраполія мела б поўнае права выйсьці зь яе складу, альбо Беларусь аказалася б свабоднай ад бальшавізму, ці нешта іншае. Гэты ліст я цытую па памяці, каб дакладна яго прывесьці, трэба перагледзіць увесь архіў. Дакумант аб часовым уваходзе быў зьмешчаны ў часопісе "Праваслаўны Беларус". Я хачу падкрэсьліць вельмі вялікае значаньне гэтага дакуманту. <...>*

*Што датычыцца мяне асабіста, то я ні ў якім прыходзе не лічуся запісаным. Справа ў тым, што па прыезьдзе ў Амэрыку я ўдзельнічаў у арганізацыі беларускага прыходу ў Трэнтане пад назоваю "Ўведзеньне ў Храм Прасьвятое Багародзіцы", але рознымі махінацыямі, і вельмі несумленнымі (доўга аб гэтым распавядаць ды і мала каму цікава) Епархіяльная ўлада гэты прыход зачыніла. <...> Мае спробы на працягу амаль 25 год зварачацца да вышэйшых царкоўных уладаў аб справядлівасьці ні да чаго не прывялі. <...>*

*Я хачу толькі падкрэсьліць, што расейцы, ці лепш сказаць па-беларуску, маскалі й беларусы — гэта поўная процілегласьць, і ўжыцца ім разам проста немагчыма. Калі раней я чытаў у беларускіх газэтах выразы як "расейска-маскоўскі бальшавізм", то мне здавалася гэта беларускім, каталіцкім* (sic! — *Л. Ю.*) *шавінізмам. Але добра пазнаёміўшыся з расейцамі, я пераканаўся, што такія выразы маюць пад сабой падставу»*[1416].

Кастусь Якуб не зусім дакладна выказаўся: ён не *ўдзельнічаў* у арганізаванні прыхода, ён яго ініцыяваў — і не адзін раз. Першы раз гэта было ў 1950–1951 гг. з дапамогаю айца Іаана Карася (на загад Бенядзікта), але пры спробе парафіян дамагчыся аўтаноміі ў Расійскім Сінодзе, на загад Нікана (Ракіцкага) парафія была зліквідаваная, а а. Карасю забаронена служыць у Трэнтане.

Трэнтан па-ранейшаму не меў беларускай царквы, што вымушала мінакоў у нядзелю і на святы ездзіць у Саўт-Рывер, дзе знаходзілася царква пад юрысдыкцыяй Канстанцінопаля айца Мікалая Лапіцкага. З ім Якуб і пачаў перамовы пра адкрыццё прыхода ў Трэнтане, якіх айцец Лапіцкі пазбягаў. Можна было б знайсці памяшканне сярод каталікоў, але тыя запатрабавалі афіцыйнага ліста ад епіскапаў БАПЦ — да цэркваў Канстанцінопальскага патрыярхату ставіліся яны непрыхільна. На просьбу да прадстаўнікоў Аўтакефальнай царквы напісаць падобны ліст Якуб атрымаў адказ, што, паколькі царква арганізуецца ў грэцкай юрысдыкцыі, дапамагчы яны не могуць.

---

[1416] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 23. [Б. д.].

Тады Якуб памяшканне наняў самастойна, запрасіў на службу з Саўт-Рывера архімандрыта Язэпа і рэгента Рымка. Акрамя самога ініцыятара прыйшлі яшчэ тры асобы — пра рэкламу Кастусь Якуб не надта паклапаціўся. Тым не менш служба адбылася — першая беларуская служба ў Трэнтане. І апошняя. Бо нягледзячы на пагалоску, што пайшла па горадзе і па-за ім, а мо і дзякуючы ёй, з Саўт-Рывера больш ніхто ніколі не прыехаў. Версія Якуба: айцец Лапіцкі спалохаўся канкурэнцыі.

Трэцюю спробу пабудовы беларускай царквы зрабіў Якуб, калі ў Трэнтан пераехаў жыць васьмідзесяцігадовы архімандрыт Юллян (Троцкі), беларус са Слоніма, і набыў хату, прыдатную для багаслужбаў. Але ён належаў да Амерыканскай праваслаўнай царквы і, як выйшаў за штат, склаў афіцыйную просьбу да сваёй епархіяльнай улады. Яму было адмоўлена, і нават болей: калі б беларуская царква ў Трэнтане ўсё ж была б заснаваная, Юллян імгненна пазбаўляўся б сану. Сляпы на адно вока, не маючы ніякай дапамогі і дагляду, ён, тым не менш, не наважыўся заставацца ў Трэнтане без адпускной граматы і, прадаўшы хату, выехаў са сталіцы Нью-Джэрсі.

Гэтыя падзеі моцна пазбавілі веры Якуба ў расійскае праваслаўе, але і Саўт-Рыверу ён не мог дараваць адсутнасць якой-кольвечы дапамогі: адміністратар а. Коўш адмовіўся прымаць Юлляна без дазволу АПЦ[1417]. БАПЦ жа для Якуба па-ранейшаму заставалася шкоднаю выдумкаю палітыкаў.

Што ж адбывалася з Кастусём Якубам на працягу ягонага жыцця? Раздвоенасць паміж жыццём у зрусіфікаванай вёсцы і навучаннем у школе ў час беларусізацыі; звычка з маленства да службы ў расійскай праваслаўнай царкве і незнаходжанне знаёмага ў БАПЦ; усведамленне сваёй нацыянальнасці ў лагерах *DP*, прага дзейнасці ў беларускай справе і амаль поўная ігнарацыя з боку беларускай грамады.

Напрыканцы Якубава жыцця беларуская душа перамагала — мо не ў царкоўным пытанні, але прынамсі ў стаўленні да беларускіх нацыяналістаў, да *«заходнікаў»*, гэтак спляжаных ім некалі ў лісце да Юркі Віцьбіча: *«Я заклікаю ўсіх прысылаць кароткія зьвесткі пра ўсіх беларусаў, жывых і памершых, палітычных і грамадзкіх дзеячаў, хоць вялікіх, хоць і не вялікіх, паэтаў, пісьменьнікаў зь іх фатаздымкам і кароткім жыцьцяпісам. Вось вельмі хацелася б адзначыць такіх шчырых, вядомых мне беларусаў, як доктар Янка Станкевіч, доктар Станіслаў Станкевіч, Шыла, Хвёдар Ільляшэвіч, Шнэк*[1418]*, а. Сьвятаслаў Коўш, доктар Вітаўт Тумаш, доктар Вітаўт Кіпель, Яўген Пілецкі й сотні й тысячы беларусаў, якіх адразу не ўспомніш»*[1419].

Варты памяці і шчыры ў сваіх пошуках і памылках мала каму вядомы Кастусь Якуб, што ўсвядоміў сябе ў Амерыцы беларусам.

---

[1417] Маецца на ўвазе Амерыканская праваслаўная царква.

[1418] Відаць, маецца на ўвазе **Сцяпан Шнэк** (1900–1952), грамадскі і вайсковы дзеяч.

[1419] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 116. 1993.

## З «Літаратурна-Мастацкага Зборніка»

Газэта «Беларус» не апраўдвае тых затрат, што зьбіраюць беларусы на яе выданьне. Не савецкіх паэтаў і пісьменьнікаў трэба друкаваць у нашых газэтах, а трэба стварыць Літаратурны Фонд, зь якога даваць падтрымку беларускім эміграцкім паэтам і пісьменьнікам, плаціць ім хоць невялічкія ганарары, каб заахвоціць больш тварыць. Мы павінны прыкласьці максымум высілкаў, каб дапамагчы разьвіцьцю Свабоднай Беларускай Літаратуры на Эміграцыі. Тут павінны аб'яднацца ўсе: хоць крывіч, хоць зарубежнік, а калі вершы піша добра, то гэта пойдзе ў залатую скарбніцу Беларускай Літаратуры, і таму патрэбная падтрымка. Р.[1420].

Ініцыятыўная група людзей зварочваецца да беларускіх палітычных эмігрантаў з прапановай стварыць Беларускі Палітычны Цэнтр. Мэта такой арганізацыі — ідэалягічнае выхаваньне беларусаў. Кожны належачы да арганізацыі плаціў бы нейкія маленькія сяброўскія ўзносы. Да арганізацыі маглі б належаць ня толькі беларусы па паходжаньню, а наогул усе людзі, якія спачуваюць вызвольнай барацьбе беларусаў. Цэнтар ладзіў бы сходы, з'езды сяброў з дакладамі на розныя палітычныя тэмы, але без алкаголю, танцаў, баляў і выбараў *«каралёў»*, што вельмі падрывае ідэалягічны стан беларусаў. Такая арганізацыя вельмі патрэбная. Гэта не падрыў і не падкоп пад існуючыя ўжо беларускія арганізацыі і Ўрады, а зусім новае, таварыскае. Р. П.[1421].

Да беларусаў я маю дзьве прапановы. 1. Пачаць выдаваць нейкі лісток выключна для абмену думкамі. Прычым артыкулы там ня могуць падлягаць ніякай цэнзуры. Хай кажны выказвае поўнасьцю ўсё тое, што ён хоча сказаць. Гэта вельмі карысна й цікава. У Ангельшчыне ў Лёндане ў нейкім парку маецца трыбуна, зь якой кожны можа прамаўляць. Вось так і мы створым падобную трыбуну. У вялікіх беларускіх калёніях як Саўт-Рывэр, там не адчуваецца вельмі моцная патрэба ў такой трыбуне, бо беларусы, зышоўшыся ў царкву пасьля службы, могуць абменьвацца сваімі думкамі адзін з другімі. Але тыя, што жывуць далёка, ня могуць мець такой магчымасьці, а ехаць за 30 і больш міль, каб толькі пагутарыць, то дорага каштуе. Таксама немагчыма поўнасьцю друкаваць лісты ў газэтах, бо друк каштуе дорага. А так, у выглядзе *«офсэта»*, можна было б лёгка выдаваць. А калі б набралася чытачоў за 100, то быў бы нават прыбытак.

2. Другая прапанова: пачаць выдаваць часапіс ці газэтку (на беларускай ці расейскай мове), дзе друкаваць толькі паліцыйную хроніку,

[1420] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 3. 1970.
[1421] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 4. 1970.

суды, бандыты, гвалты й гэтак далей. Гэта вельмі цікава й патрэбна для тых, хто не валодае добра ангельскай мовай. Такую газэтку пачалі б выпісваць і ўкраінцы, і беларусы нават і кепска валодаючы беларускай мовай, і нават некаторыя расейцы. Гэта прадпрыемства можа прынесьці прыбытак. А ўсьлед па такіх чытачах (па іх адрасах) можна пасылаць і нацыянальную, ідэалягічную літаратуру (калі хто мае ахвоту, але гэта рабілі б ужо іншыя арганізацыі). Для пачатку ня трэба шмат грошай. Можна друкаваць пакуль што толькі ў 200 экзэмплярах[1422].

Пастанова Беларускага Праваслаўнага Камітэту. З прычыны жорсткага перасьледу на працягу амаль 50 год праваслаўных беларусаў з боку расейскіх зарубежных япіскапаў, у прыватнасьці, разбурылі царкву праваслаўных беларусаў у Трэнтане безь ніякіх падстаў, сказаўшы *«Вы нам надаелі!»*, Беларускі Праваслаўны Камітэт пастанаўляе: 1. Беларускай Праваслаўнай Мітраполіі выйсьці са складу Расейскай Зарубежнай Царквы 2. Прасіць мітрапаліта Менскага і ўсяе Беларусі ўзяць духовую апеку над Беларускай Праваслаўнай Мітраполіяй у дыяспары. 28/15 Мая 1992 г. Горад Трэнтон, Злучаныя Штаты Амэрыкі[1423].

Думкі

Наконт сьцяга: бел-чырвона-белы. Доктар Янка Станкевіч пісаў, што гэты сьцяг не беларускі. Беларускі нацыянальны колер гэта: зялёны й белы. Ён быў тагды на паседжаньні Беларускай рады, калі прымаўся сьцяг. Стужка чырвоная — гэта была даніна рэвалюцыйнасьці, якая захапіла ўсіх. <…>

Гісторык Хвёдар Клязовіч (Беларус) у журналах «Белая Русь» за 1948–1949 гады даводзіў, што гістарычны сьцяг беларусаў ёсьць белы з малюнкам сьвятога Юрыя Пераможца. І сапраўды, як кабеты *«юрылі»* на поле каля жыта: яечню жарылі, гарэлку пілі і весяліліся, бедны той мужчына, калі пападаўся ім у той час у рукі. <…>

А што трэба рабіць, каб беларуская літаратура мела новых Якубаў Коласаў і Цішкаў Гартных? Трэба стварыць фонд дапамогі разьвіцьця клясычнай беларускай літаратуры. Трэба арганізоўваць беларускую эміграцыю. На эміграцыі ёсьць сотні тысяч беларусаў, і проста мільёны, а арганізаваных толькі жменька.

Вось ёсьць такі *«пісьменьнік»* Ян Пятроўскі. Ён зрабіў пераклад з грэцкай мовы й надрукаваў за свой кошт кніжку: «Філёзофія Сакра-

---

[1422] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 74. 1984.
[1423] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 105. 1992.

та»[1424]. Тая *«філязофія»* патрэбна беларусам, як сабаку пятая нага, той Сакрат жыў за 2000 год да нараджэньня Хрыста…

Альбо ўзяць доктара Вітаўта Тумаша. Ён таксама траціў сотні й тысячы даляраў на выданьне кніжак пра друкара Скарыну, пра канцлера Літоўскага Сапегу й наогул далёкую мінуўшчыну, што было 500 таму назад. Каму гэта патрэбна? Гэта патрэбна хіба толькі нейкаму прафэсору-загадчыку кафэдры гісторыі пры нейкім Інстытуце. Беларускай народнай масе гэта непатрэбна. Быў такі друкар Скарына ці канцлер Сапега — ну й добра, гэта адышло ў гісторыю[1425].

Былі

На сьцяне вісіць партрэт Сталіна. Дакладчык чытае рэфэрат аб Сталіне. Хор пяе песьню аб Сталіне. Артысты дэклямуюць вершы аб Сталіне. Што гэта такое? Адказ: гэта вечар, прысьвечаны творчасьці Якуба Коласа[1426].

Калі ў 1940 годзе бальшавікі *«вызвалілі»* заходніх беларусаў і ўкраінцаў, то ў народзе хадзіў такі сказ: мы выцягнулі братом з заходу рукі, а ногі яны самі выцягнуць[1427].

Пасьля вайны ў Менску праходзіў конкурс праектаў на помнік Янку Купале. Усе праекты былі адкінутыя. Тагды адзін скульптар зьвярнуўся да камісіі конкурсу: Мой праект напэўне будзе прыняты. Скульптар падвёў камісію й гледачоў да свайго праекту й зьдзёр коўдру. Помнік паказваў Сталіна, які стаяў на вялікім пэдэстале й трымаў у руках маленькую кніжку вершаў Янкі Купалы. Гэты праект камісія конкурсу зацьвердзіла, але ён ня быў зрэалізаваны, бо хутка Сталін памёр і яго Хрушчоў *«разьвенчаў»*[1428].

---

[1424] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе кніга: Плятон. Выбраныя дыялёгі / пераклад Я. Пятроўскага. Гэйнсвіль, 1987. Першая частка ў ёй — «Абарона Сакрата».

[1425] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 115. 1993.

[1426] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 10. 1972.

[1427] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 11. 1972.

[1428] Літаратурна-Мастацкі Зборнік. № 11. 1972.

## СКАРЫНАВЫМ ШЛЯХАМ: АЛЯКСАНДР ОРСА

Ён не пакінуў па сабе ўласнай кнігі, але менавіта яму прысвечаная манаграфія Яна Максімюка пра беларускую гімназію ў Нямеччыне[1429]: *«Першаму дырэктару д-ру Аляксандру Орсу й настаўнікам Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы»*.

Аляксандр Орса нарадзіўся 24 ліпеня 1896 г. у мястэчку Нягневічы, дзе таксама жыў пасол сойма Аляксандр Стагановіч[1430]. У 1913 г. скончыў гарадское вучылішча ў Наваградку і паступіў на двугадовыя курсы настаўнікаў пачатковых школаў, пасля сканчэння якіх быў узяты ў школу прапаршчыкаў. Праслужыўшы два гады, быў звольнены з войска ў рангу капітана.

Вярнуўшыся ў 1918 г. на Наваградчыну, Орса кароткі час працаваў настаўнікам у вёсцы Гараб’евічы. Адначасна яго выбралі прадстаўніком ад Наваградчыны для размеркавання харчовай дапамогі з ЗША пацярпелым у вайну. Але агрэсіўная антыбеларуская дзейнасць польскіх уладаў вымусіла Аляксандра Орсу бегчы ў Прагу. Пра гэта ён расказаў ва ўспамінах, што друкуюцца ніжэй.

У 1929 г., жанатым, ён вярнуўся ў Беларусь, дзе атрымаў пасаду настаўніка прыродаведы ў Наваградскай беларускай гімназіі — да канца яе існавання, калі ў 1932 г. яна была перайменаваная ў Беларускую філію польскай дзяржаўнай гімназіі імя А. Міцкевіча, а ў 1934 г. канчаткова зліквідаваная. Орсу часова прызначылі ў польскую пачатковую школу ў Наваградку, а ў 1938 г. яго перавялі ў гімназію ў Коньскае Келецкага ваяводства.

З пачаткам Другой сусветнай вайны сям’я Орсаў вярнулася дадому, працаваў настаўнікам у беларускай дзесяцігодцы і ў Наваградскім педагагічным вучылішчы. Пасля акупацыі немцамі Беларусі быў абраны на пасаду школьнага інспектара Наваградскай акругі, на якой заставаўся да 1944 г.

Дзейнасць у Нямеччыне — славутая беларуская гімназія — тэма згаданай вышэй кнігі Яна Максімюка. Тамсама чытач знойдзе інфармацыю пра амерыканскія гады Аляксандра Орсы, старшыні Нью-Ёркскага сектара Рады БНР.

Памёр доктар Орса даволі рана — 2 лістапада 1959 г. Магчыма, гэткая ранняя нечаканая смерць не дазволіла яму ўпарадкаваць свае ўспаміны. Застаўся апублікаваны ў газеце «Бацькаўшчына» невялікі тэкст — пра Прагу, асвечаную імем Францішка Скарыны.

---

[1429] Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. 1945–1950. Нью-Ёрк — Беласток, 1994. — 196 с.

[1430] Для напісання біяграфіі скарыстаны ўспамін Васіля Плескача: Др. Аляксандар Орса // Беларускі Сьвет. № 18 (47). 1986. С. 4–10.

*Аляксандр Орса*

## Шляхам Д-ра Францішка Скарыны[1431]

Няўжо нас не аб'ясьніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны,
Кліч бураломны — вызваленьне з пут?

*Я. Купала*

Мінула ўжо 35 гадоў ад таго мамэнту, калі беларуская моладзь змушана была ўцякаць з роднага краю ў пошуках навуковых установаў з мэтаю студыяваньня з былое тады Польшчы на захад і ўсход. Гэта ня быў свабодны выезд з заграмнічным пашпартам, гэтак, як практыкавалася й практыкуецца цяпер паміж гаспадарствамі ў форме абмену студэнтамі або выезду на ўласнае жаданьне й свае сродкі. Гэта было стыхійнае нелегальнае вандраваньне, што было абумоўлена, з аднаго боку, бязьмерным жаданьнем прадаўжаць асьвету, каб здабыць спэцыяльнасьць гэтак патрэбную ў сучасным практычным жыцьці, а з другога — нявольнічымі адносінамі тадышняе польскае ўлады да беларускага народу і ягонае моладзі.

Польскі ўрад забраў у першую чаргу ад няпольскіх памешчыкаў іхныя маёнткі на Беларусі й распарцаляваў іхную зямлю паміж насланымі з цэнтру Польшчы асаднікамі й такім чынам пазбавіў Беларусаў ад надзелаў уласнаю зямлёю, якую яны спрадвеку аблівалі сваім потам. Маёнткі другіх паноў, што ў часе Першае сусьветнае вайны былі занядбаныя, ніяк не маглі вярнуцца да былога матарыяльнага стану і, займеўшы значныя даўгі, змушаныя былі паступова ліквідавацца. Дзеля таго, што ахвотнікаў на куплю маёнткаў у цэласьці амаль ня было, дык беларускія сяляне, якія празь некалькі паваенных гадоў адбудавалі свае куртатыя гаспадаркі бязь вялікае ўрадавае дапамогі, здабывалі цяжкою працаю і ашчаднасьцю грошы на прыкуп зямлі й гэтым ратавалі свой благі матарыяльны стан. Але польскі ўрад, імкнучыся праводзіць палітыку хуткае палянізацыі Беларусі, нарэшце дадумаўся ўстрымаць куплю зямлі Беларусамі адмысловаю пастановаю,

---

[1431] Негнявіцкі, А. Шляхам Доктара Франьцішка Скарыны // Бацькаўшчына. № 20–21 (354–355). 26 травеня 1957. С. 5; № 22 (356). 2 чырвеня 1957. С. 3–4. Аляксандру Орсу належыць аўтарства публікацыі: Негнявіцкі, А. Негнявічы — мой родны кут. Успаміны // Бацькаўшчына. № 37 (319). 9 верасьня 1956. С. 2–3. Жонка А. Орсы Наталля таксама пакінула ўспаміны: Орса, Натальля. Успаміны: Вайна й паездка ў Янавічы й Маскву. Павестка. Паварот на Бацькаўшчыну. Прага // Беларус. № 411. Сакавік 1994. С. 4–5, № 415. Жнівень 1994. С. 4–5; № 418. Лістапад 1994. С. 4–5.

што забараняла без дазволу польскае ўлады такую куплю, а з другога боку, Палякам дапамагала куляць гэтую нерухомую маёмасьць.

Беларускае сярэдняе й пачатковае школьніцтва ня толькі не падтрымоўвалася матарыяльна польскаю ўладаю, але было брутальна зьліквідавана ёю. Абітурыенты беларускіх сярэдніх школаў не маглі падацца ў польскія высокія школы, бо іх пасьвечаньні сьпеласьці ня прызнаваліся польскаю школьнаю ўладаю. Старэйшая па веку беларуская інтэлігенцыя не магла дастаць ніякае ўрадавае працы й таму змушана была шукаць ратунку й прыпынку на пакінутых калісьці беларускіх гаспадарках, а малодшая — больш рухлівая — шукала выхаду з тупіка ў нелегальным вандраваньні з Польшчы.

Да гэтага матарыяльнага й духовага ўціску далучаўся яшчэ ўціск паліцэйскае самаволі, што базаваўся на варожасьці да беларускага нацыянальнага быту ў форме прыдзірлівых пратаколаў і застрашваньня. Беларускі народ у Польшчы быў тады на сваёй зямлі ў ролі загнанага пасынка, і трэба дзівіцца, што польскія ўрадавыя колы так борзда забыліся аб уціску *«маскаля»* й самі пераняли іх каляніяльныя мэтады. У сваёй шасьцітомнай працы аб Другой сусьветнай вайне В. Чэрчыль[1432], прызнаючы Палякам гэройскія імкненьні ў здабываньні і абароне свае незалежнасьці, назваў іх адначасна *«сьцервятнікамі»* за акупацыю Заользя й прылучэньня яго да Польшчы ў часе акупацыі Гітлерам Чэхаславаччыны. У дадзеным выпадку В. Чэрчыль вельмі трапна заўважыў у характары Паляка гэтую адмоўную рысу, і шкада толькі, што ён не заўважыў гэтага сьцярвятніцтва ў польскай улады пасьля Першае сусьветнае вайны, калі яна з большым усходнім сьцярвятнікам разрэзала жывое цела Беларусі, каб забіць яе ўскрошанае жыцьцё.

У 1932 г. на пачатку майго эгзамену пры Варшаўскім Унівэрсытэце пасьля студыяў у Чэхіі я наведаў праф. Ленцэвіча[1433], каб атрымаць інфармацыі ў справе пісьмовага й вуснага эгзамену. На маё пытаньне ў гэтай справе праф. Ленцэвіч у першую чаргу адказаў мне таксама пытаньнем: *«Поцо пан ехал до тых Пэпікув?»* (Пэпікі — мянушка Чэхаў). Такое езуіцкае пытаньне праф. Ленцэвіча абурыла мяне да глыбіні душы, бо ён добра разумеў, што матарыяльная й духовая няволя на Беларусі змушала беларускую моладзь уцякаць з роднага Краю да *«Пэпікаў»*, якія далі матарыяльную дапамогу й магчымасьць вучыцца ў іх высокіх школах.

---

[1432] **Уінстан Чэрчыль** (англ. *Sir Winston Leonard Spenser-Churchill*, 1874–1965) — брытанскі палітычны дзеяч, прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1940–1945 і 1951–1955 гг.

[1433] **Станіслаў Лянцэвіч** (польск. *Stanisław Lencewicz,* 1889–1944), польскі географ, педагог.

Да гэтага ліку моладзі судзіў лёс належаць і мне. Пасьля прыгатаваньня да вандраваньня на ўсход адбыўся раптоўны паварот на 180 градусаў, каб крочыць шляхам нашага слаўнага гуманістага й вучонага Д-ра Фр. Скарыны, які 450 год таму назад вандраваў у заходнім кірунку й вучыўся ў Кракаве, а пасьлей у Італіі, дзе атрымаў у Падуанскім Унівэрсытэце навуковы тытул *«у лекарскіх навуках доктара»*. У Празе чэскай Др. Фр. Скарына наладзіў сваю друкарню й выдаваў беларускаю моваю кніжкі й пазьней пераехаў у Вільню й друкаваў кніжкі далей. Дзейнасьць Д-ра Фр. Скарыны згуляла выдатную ролю ня толькі ў разьвіцьці беларускае культуры, але ўсіх славянскіх народаў.

Урад Беларускае Народнае Рэспублікі, пасьля нядоўгага кіраваньня сваім гаспадарствам, апынуўся на выгнаньні. У Чэхаславацкай Рэспубліцы быў тады беларускім паслом сьв. памяці М. Вяршынін[1434], які жыў у Празе й добра быў паінфармаваны аб тым, што чэскія высокія школы прызнаюць пасьветчаньні сьпеласьці ня чэскіх гімназіяў і дапамагаюць матар’яльна студэнтам з былое царска-расейскае імпэрыі. На заклік М. Вяршыніна частка беларускае моладзі, што прымала ўдзел у Слуцкім паўстаньні, ды абітурыенты беларускіх гімназіяў у Польшчы рознымі шяхамі падаліся ў Прагу. Моладзь Наваградчыны мела два шляхі: празь Літву й Нямеччыну ў Прагу і праз Кракаў у Прагу. Мне давялося вандраваць другім шляхам і аднаму. Сталася гэта таму, што, адправіўшы сваіх сяброў у Прагу, я меў замер ехаць на ўсход з часткаю другіх сяброў, але час праходзіў, і мы неяк паволі зьбіраліся, адкладаючы тэрміны нашага выезду. Тым часам першыя сябры даехалі да Прагі й напісалі ліст аб сваім падарожжы й магчымасьцях вучобы ў Празе. Я пачаў намаўляць сваіх сяброў ехаць у Прагу, але ў выніку доўгіх разважаньняў яны паехалі на ўсход, а я ў Кракаў і нарэшце да недалёкай ад польска-чэскай граніцы станцыі Падчырвонай (гэтак ехалі мае калеі). Пераначаваўшы ў ваднаго Украінца, я яшчэ да дня накіраваўся ў кірунку граніцы, каб употай перайсьці яе й далей крочыць да Чэскае станцыі Твардошын, што была ў вадлегласьці каля 15 клм. Чуць сьвет я дайшоў па гарыстай мясцовасьці да самае граніцы, што абазначалася пагранічнымі слупамі з польскім арлом і чэскім львом. Мімаволі мой псыхічны стан даходзіў да найвышэйшага напружаньня, і кожны шорах інстынктыўна змушаў мяне прытаіцца, каб у стане нерухомасьці ўсьвядоміць яго прычыну. Надыйшла прыгожая восеньняя раніца. Сонца пачало выходзіць з-за гораў, і я ўбачыў першых людзей, што ішлі й ехалі на хурманках і самакатах, але баючыся быць

---

1434 **Мікола Вяршынін** (1878–1934), грамадскі дзеяч, прафесар. Консул БНР у Чэхаславакіі, у 1918–1925 гг. — упаўнаважаны БНР у справах ваеннапалонных беларусаў у Чэхаславакіі. У 1921 г. як консул БНР дамогся ад чэхаславацкага ўрада больш за 100 стыпендый для студэнтаў-беларусаў.

злоўленым, я іх абмінаў і кіраваўся не дарогамі, а сьцежкамі ў заходнім кірунку. Паволі дайшоў я нарэшце да жаданае станцыі. Ніхто мяне не затрымаў і, купіўшы білет да Прагі, я пад вечар сеў у цягнік. Празь нейкі час кандуктар спраўдзіў мой білет і сказаў, што дзесь трэба будзе перасядаць (так я зразумеў, але перапытаць баяўся). Пад раніцу зьявіўся ўжо другі кандуктар, і, спраўдзіўшы мой білет, сказаў, што я еду не ў Прагу. *«О, ліха, думаю, цяпер то я ўжо папаўся»*. Кандуктар забраў мой білет і штось сказаў, чаго я ў страху не зразумеў. Сяджу ў вагоне й мяркую, як гэта будуць перадаваць польскай уладзе й як яна будзе караць мяне. Бядую, што не давялося даехаць да Прагі. Нарэшце цягнік пачаў паволі прыпыняць свой рух і збліжацца да вялікага гораду. Кандуктар зноў прыйшоў у мой вагон і, калі цягнік стаў, павёў мяне на станцыю. Празь некалькі хвілін бачу зьдзіўлена, што ён прывёў мяне да дзяжурнага станцыі. Кандуктар штось сказаў дзяжурнаму, і апошні ўзяў мой білет і адбіў на ім штамп. Пасьля гэтага той-жа кандуктар завёў мяне на другую плятформу станцыі, аддаў мне білет і сказаў, што борзда надыйдзе цягнік, які завязе мяне ў Прагу. Я неяк ня мог верыць яму й, толькі апынуўшыся ў Празе, зразумеў, што кандуктар меў найшчырэйшае жаданьне памагчы мне, а не перадаць паліцыі. Нарэшце я ў Празе! Мне выдавалася, што тут паліцыя абавязкова зловіць мяне, і я як мага абмінаў паліцыянтаў, шукаючы Вэнзыгова вуліцу дом 4[1435]. Мусіць не памылюся, калі скажу, што ня было ў Празе беларускага студэнта, які-б не адведаў кватэру ў выменeным доме пасла Сьв. памяці М. Вяршыніна й ня быў-бы прыласканы ягонаю жонкаю — Чэшкаю зь вельмі чульліваю душою й залатым сэрцам. Яна была надзвычайнаю жонкаю-маткаю і таму адносілася да ўсіх беларускіх студэнтаў, як матка, і марыла аб тым, што яна разам зь сям’ёю паедзе на Беларусь, каб пазнаёміцца зь ёю й народам. Сьв. памяці М. Вяршынін быў родам зь вёскі Панямоньне Шчарсоўскай воласьці Навагрadзкага павету. Ён пасьля 1905 году як палітычны эмігрант асеў быў у Англіі, а пасьлей пераехаў у Чэхію. Тут ён ажаніўся й меў дачку Вольгу, якая вучылася ў Чэскай настаўніцкай сэмінарыі й пазьней была настаўніцаю. Вольга вышла замуж за Беларуса К.

М. Вяршынін прыгожа гаварыў беларускаю мовай і апрача сваёй палітычнай дзейнасьці займаўся апісаньнем Налібоцкай пушчы, аб якой любіў гаварыць і чытаць свае рукапісы ўспаміны. Будучы ўжо ў пажылым веку і правёўшы большую частку свайго жыцьця на чужыне, М. Вяршынін захаваў шчырую любоў і адданасьць да свае Бацькаўшчыны, што перадаў сваёй жонцы і дачцы. Памёр ён у 1934 годзе й пахаваны ў фамільным склепе жонкі на Вышаградзкіх могілках у Празе. У гэтай-жа Празе знайшлі месца вечнага супачынку нашыя прэзыдэнты БНР і сьв. пам. Пятро Крэчэўскі, і Васіль Захарка, і некалькі студэн-

[1435] Па адрасе *Wenzigova, 4* у Празе знаходзілася кватэра Міколы Вяршыніна.

таў: сьв. пам. Міхась Каберац[1436], Хвёдар Дзялендзік (Слуцкія паўстанцы), П. Яноўскі, доктар Тамаш Грыб і г. д. Прага Чэская зьяўляецца Пантэонам нашых дзяржаўных мужоў і Слуцкіх паўстанцаў — сьветкаў чужацкай няволі на Беларусі.

У Празе прышлося мне гэтак, як і другім сябрам, перажыць тыя неспадзеўкі, што былі зьвязаныя зь нелегальным пераходам граніцы і атрыманьнем часовага дакуманту на права жыцьця ў Чэхіі. Часова я затрымаўся ў чэска-ўкраінскім студэнцкім інтэрнаце на Сьміхаве. Адзін студэнт-Беларус як праўны сябра інтэрнату меў ложак, а побач зь ім жыло некалькі *«зайцаў»*, да грамады якое далучыўся і я. Спалі мы на гэтым ложку дзень і ноч па чарзе і па некалькі асобаў зараз. У інтэрнаце жылі і ўкраінскія зайцы, якія ўкладаліся спаць на доўгіх сталох вучэльнага пакою пасьля 12 г. ночы. Кіраўнікам інтэрнату быў Чэх, які ня любіў зайцавага парадку і стараўся пазбыцца іх паліцэйскаю праверкаю дакумэнтаў. Пасьля кароткага майго побыту неспадзявана адбылася такая праверка, і мяне як зайца бязь ніякіх дакумантаў паліцыя засадзіла за краты і, згодна паліцэйскаю пастановаю, мусела вярнуць мяне ў Польшчу.

Прызначаны канваір вывез мяне за Прагу і сказаў, каб я ехаў сам. Сьледам за канваірам вярнуўся і я ў Прагу ў той самы інтэрнат. Пасьля гэтага выпадку, што штурхануў нашага пасла больш энэргічна апэляваць да міністэрства замежных спраў, якое й хутка выдала мне дакумант на права жыцьця ў Чэхіі. Адначасна Украінскі Пэдагагічны Інстытут імя М. Драгоманава[1437] ў Празе павядоміў мяне аб залічэньні ў лік студэнтаў з запэўненьнем атрыманьня стыпэндыі.

Заставалася яшчэ пару тыдняў да пачатку вучобы ў інстытуце. Каб папоўніць сваю грашовую касу, я пайшоў у заработкі. Прынялі мяне на работу пры будове новых дамоў і прызначылі ў памочнікі да старога Чэха, які прыпраўляў вапну для мураваньня дамоў. Ня маючы практыкі ў такой працы, я па сваёй беларускай натуры, як мага, пачаў падвозіць тачкаю пясок да скрыні, у якой Чэх паволі мяшаю сваёй качаргою вапну. Назіраючы маю працу, Чэх нарэшце пачаў сварыцца й вучыць, як трэба працаваць. Ён меў спрыт, абапёршыся на сваю качаргу, удаваць працуючага, і мая руплівасьць была супярэчная тэмпу яго працы. На гэтай першай працы й навуцы Чэха скончыліся мае вольныя й нявольныя перажываньні перад сыстэматычнаю навукаю ў высокіх школах Прагі.

---

[1436] **Міхась Каберац** (1902–1931), грамадскі і культурны дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання.

[1437] **Украінскі вышэйшы педагагічны інстытут імя М. Драгаманава** — вышэйшая навучальная ўстанова ў Празе, заснаваная ў 1923 г. пры падтрымцы чэшскага ўрада. Дзейнічаў да 1933 г.

Прага Чэская зьяўляецца адным з старэйшых гарадоў цэнтральнае Эўропы й найгалаўнейшым палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам. Геаграфічнае палажэньне Прагі ў цэнтры чэскай катлавіны пры скрыжаваньні найстарэйшых галоўных шляхоў на рэчцы Валтаве паміж вусьцямі яе даплываў Бэронкі й Сазавы ды пры недалёкім яе ўпаданьні ў Лабу (Эльбу) — спрыяла разьвіцьцю й ператварэньні яе ў цэнтр чэскай дзяржаўнасьці. Ужо ў 9-м веку Прага была значным эканамічным і культурным цэнтрам, што быў у Вышаградзе — рэзыдэнцыі чэскіх князёў. З 10-га веку рэзыдэнцыяй чэскіх князёў стаў замак Градчаны. Рэчка Валтава зь яе 13-цю мастамі зьяўляецца галоўнаю восьсю Прагі, што разьляглася па абодвых баках ракі. На левым беразе на ўзвышшы высіцца 1000-годні град Градчаны — цяперашняя рэзыдэнцыя прэзыдэнта. На поўдзень ад яго — багатая архітэктурнымі помнікамі Мала-Страна. На правым беразе Валтавы знаходзіцца Старэ-Места. Градчаны й Старэ-Места злучае мост Карла 4-га. На поўдзень ад Старога-Места знаходзіцца Новае-Место з шырокімі вуліцамі, вялікімі гатэлямі, рэстаранамі, унівэрсальнымі магазынамі, Вацлаўскім праспэктам з помнікам Вацлаву й народным музэем. Усе гэтыя кварталы разам з Вышаградам каля Новага Места твораць ядро Прагі, што вядома пад народным назовам Злата Прага. Не дарма чэскі народ назваў сваю сталіцу залатою, бо бадай найгалоўнейшым залатым аб'ектам яе быў праскі ўнівэрсытэт, што афіцыйна называецца ўнівэрсытэтам Карла 4-га ў Празе. Гэты назоў паходзіць ад імя яго заснавальніка чэскага караля Карла 4-га ў 1348 г. У працягу гісторыі Чэхіі ўнівэрсытэт Карла 4-га згуляў найбольшую ролю ў вызваленьні чэскага народу ад нямецкае няволі пасьля 1-ае сусьветнае вайны.

Яшчэ ў сярэдніх вякох унівэрсытэт Карла 4-га быў цэнтрам чэскага нацыянальнага руху. Асабліва войстрыя формы прыняў гэты рух на пачатку 15-га веку, калі рэктарам гэтага ўнівэрсытэту выбіраўся 2 разы Ян Гус. У вапошніх 2-х чвэрцях 19-га стагодзьдзя найбольшую ролю ў вадраджэньні чэскага народу, які ў гэтым часе дасягнуў апагею ў сэньсе нямецкае асыміляцыі й пераважна карыстаўся ў жыцьці нямецкай мовай, згуляў Фр. Палацкі[1438] — бацька чэскага адраджэньня. Ён напісаў і выдаў гісторыю Чэхіі чэскай мовай. Чэскі народ паставіў яму помнік — статую ў Пантэоне чэскага музэю. Вучням і пасьлядоўнікам Фр. Палацкага быў праф. філязофіі ўнівэрсытэту Карла 4-га Т. Масарык — першы прэзыдэнт чэхаславацкае рэспублікі з 1918 г. да 1937. Унівэрсытэт Карла 4-га ў Празе зьяўляецца старэйшаю высокаю школаю цэнтральнае Эўропы й першым славянскім унівэрсытэтам.

Чэскія ўнівэрсытэты ня мелі загадзя вызначанай сыстэмы навучаньня для кажнага сэмэстру гэтак, як тэхнічныя й другія спэцыяль-

---

[1438] **Францішак Палацкі** (чэш. *František Palacký*, 1798–1876), чэшскі гісторык, літаратар, палітык і грамадскі дзеяч, бацька чэшскай гістарыяграфіі.

ныя школы. Унівэрсытэты кажны год выдавалі кніжку (сэзнам пшэднашэк), у якой падаваліся прозьвішчы прафэсараў з вымененым іхным навуковым матарыялам і лікам тыднёвых гадзінаў. Кажны студэнт факультэту ўкладаў сабе сам сыстэму, гэта значыць запісваў у свой індэкс тыя навуковыя лекцыі, якія неабходна было праслухаць на працягу мінімум 4-х год з выбранае ім спэцыяльнасьці. Апрача тэарэтычных лекцыяў, абавязкова трэба было (я маю на ўвазе прыродаведны факультэт) адрабіць і здаць лябараторныя практыкаваньні, прасэмінары й сэмінары. Без залічэньня гэтых абавязковых дысцыплінаў студэнт ня мог атрымаць абсалюторыі й прыступаць да дзяржаўных экзаменаў. Таму тыя студэнты, якія зь якіхсь прычынаў не змаглі ўкласьці свае сыстэмы, згодна з вымогамі ўнівэрсытэту трацілі больш часу, а некаторыя пападалі ў лік доўгастудыюючых або залезных студэнтаў. Пры такой сыстэме ня было выразнага падзелу студэнтаў па ліку гадоў навучаньня. На лекцыях заўсёды сустракаліся студэнты з розных курсаў і навет з розных факультэтаў. Тэарэтычныя лекцыі можна было не наведваць. Згодна з вымогамі ўнівэрсытэту на пачатку й канцы кажнага сэмэстру прафэсары сьцьвярджалі сваімі ўласнымі подпісамі ў індэксах запісаны й праслуханы матарыял. Часта студэнты ў канцы сэмэстру шукалі прафэсара, каб узяць ягоны подпіс, і таму здараліся камічныя выпадкі. Для прыкладу прыпомню адзін. На прыродаведным факультэце быў ведамы ў цэлым навуковым сьвеце прафэсар батанікі сьв. пам. Вэленоўскі[1439], які ў тым часе быў кіраўніком батанічнага ўнівэрсытэцкага саду. Як навуковец і кіраўнік саду ён, асабліва перад сваімі лекцыямі, у рабочым халаце й кепкаю на галаве штось рабіў у садзе. Аднаму студэнту, які ні разу ня быў на лекцыях, трэба было ў канцы сэмэстру здабыць подпіс праф. Вэленоўскага. Гэты студэнт загадзя прыйшоў на лекцыю й, разглядаючы аб'екты ў батанічным садзе, напаткаў праф. Вэленоўскага й думаў, што гэта звыклы работнік. Таму, што ў студэнта была думка аб праф. Вэленоўскім, дык ён пачаў аб ім гутарку. — *Скажэце, калі ласка, ці вы добра ведаеце праф. Вэленоўскага? — Чаму-ж ня ведаць,* — адказвае Вэленоўскі. — *Як вы думаеце, ці падпіша мой індэкс, бо я ні разу ня быў на яго лекцыях? — Думаю, што падпіша. Калі ласка, наведайце ягоную лекцыю, якая хутка пачнецца ў аўдыторыі гэтага гмаху. — Вы курыце? Калі ласка, вазьміце сыгарэту. — Не, я не куру, дзякую,* — адказаў прафэсар. Якое-ж было зьдзіўленьне ў студэнта, калі ён убачыў работніка ў ролі праф. Вэленоўскага. Дзьве гадзіны прыйшлося сядзець яму лекцыі. Нарэшце лекцыя скончылася й праф. Вэленоўскі пачаў падпісваць студэнтам індэксы. Жаданьне мець подпіс перамагло страх і ў студэнта, які падсунуў праф. свой індэкс. Праф. Вэленоўскі глянуў на яго і, падпісваючы ін-

[1439] **Ёзаф Веляноўскі** (чэш. *Josef Velenovský*, 1858–1949), чэшскі батанік, філосаф і пісьменнік.

дэкс, сказаў — *Я-ж гаварыў вам, што праф. Вэленоўскі падпіша індэкс.* Чырвоны, як рак, засаромлены студэнт борзда ўзяў падпісаны індэкс і як мага выскачыў з аўдыторыі.

Другою навуковаю ўстановаю, што на працягу 4-х год прышлося наведваць мне, быў Украінскі 4-х гадовы Пэдагагічны Інстытут імя М. Драгаманава ў Празе з аддзеламі: філялагічным, гістарычным, фізыка-матэматычным, прыродаведным і мастацкім. У першыя два гады навучаньня, апрача спэцыяльных дысцыплінаў, выкладаліся для ўсіх студэнтаў пэдагагічныя дысцыпліны й пасьля праслухоўваньня іх адбывалася пасыўная і актыўная практыка ў украінскай гімназіі. Інстытут карыстаўся аўдыторыямі і лябараторыямі ўнівэрсытэту Карла 4-га. У канцы кажнага школьнага году былі абавязковыя эгзамены, а пасьля атрыманьня абсалюторыі студэнты падавалі пісьмовую працу й складалі вусныя эгзамены перад камісіяй інстытуту і атрымоўвалі дыплём з тытулам пэдагога сярэдніх школ. Лепшым пэдагогам сярэдніх школаў прызначаліся доктарскія стыпэндыі, што стваралі ўмовы далейшага студыяваньня й здабыцьця тытулу доктара. Разам з другімі высокімі ўкраінскімі школамі ў Чэхіі інстытут згуляў немалую ролю на шляху адраджэньня Украіны, а нам, Беларусам, што скончылі яго, даў веду для працы на беларускай ніве.

Пасьля рэвалюцыі ў Расеі й захопу бальшавікамі ўлады ў Прагу надыйшло шмат эмігрантаў розных нацыянальнасьцяў, уключаючы й Беларусаў. Урад чэхаславацкае рэспублікі арганізаваў матарыяльную дапамогу эмігрантам у форме арганізацыі нацыянальных і сярэдніх школаў ды стыпэндыяў студэнтам, якія наведвалі чэскія высокія школы. Такім чынам паўсталі высокія й сярэднія ўкраінскія й расейскія школы. Украінцы, зь якімі Беларусы мелі найцясьнейшую сувязь, арганізавалі наступныя школы: унівэрсытэт, пэдагагічны 4-гадовы інстытут імя М. Драгаманава зь гімназіяй і матуральнымі курсамі ў Празе й сельска-гаспадарчаю акадэмію ў Падэбрадах. Для студэнтаў, што студыявалі ў чэскіх высокіх школах, былі арганізаваныя чэскаю ўладаю 2 камітэты: Чэска-Украінскі і Чэска-Расейскі. Гэтыя выдавалі студэнтам стыпэндыі й кантралявалі іх пасьпяховасьць у форме штогадовага мінімуму, які патрэбны быў для далейшага атрыманьня стыпэндыі. Студэнтам, якія не маглі выказацца гэтым мінімумам пасьпяховасьцей, стыпэндыі прыпыняліся. Абсалютная большасьць беларускіх студэнтаў студыявала ў чэскіх высокіх школах і атрымоўвала стыпэндыі ад Чэска-Украінскага камітэту, ды толькі нязначная колькасьць была ва ўкраінскіх высокіх школах. Да ліку апошняй групы належыў і я. Пасьля першага году студыяў у пэдагагічным інстытуце імя М. Драгаманава я падаўся ў Праскі ўнівэрсытэт Карла 4-га на прыродаведны факультэт. Падвойнае наведваньне адбывалася аж да сканчэньня ў першую чаргу інстытуту, а пасьля і ўнівэрсытэту.

Залежнасьць вучобы ад стыпэндыі змушала студэнтаў да інтэнсыўнае й сталае працы ў працягу цэлага часу, што неабходны быў для сканчэньня навукі і атрыманьня дыплёму. Умовы па-за школамі для студэнтаў былі добрыя. Звычайна недалёка ад высокіх школаў былі спэцыяльныя дамы, што прызначаліся для студэнтаў, з сталовымі, вучэльнямі галоснымі й ціхімі, пакоямі для адпачынку й чытаньня газэтаў з цэлага сьвету й пакоямі з рознымі гульнямі. Кажны студэнт аплачываў сяброўскія складкі й карыстаўся ўсімі выгадамі такога дому. Для прыкладу ўспомню студэнцкі дом, што быў пабудаваны ІМКА -й недалёка прыродаведнага факультэту Праскага ўнівэрсытэту Карла 4-га. Праўныя сябры гэтага дому кажны год выбіралі студэнцкую ўправу, якая выконвала адміністрацыйную працу, дбала аб парадку й прыстасаваньнях дому да вымогаў студэнтаў. Студэнцтва праводзіла шмат часу ў гэтым доме, асабліва зімою, бо нанятыя для жыцьця пакоі не абаграваліся й таму там студэнты толькі спалі, даўшы нырца пад халодную ўзімку чэскую пярыну. Абеды й вячэры — часамі й бяз гэтае прыемнасьці — былі ў сталовай студэнцкага дому або іншых. У чэскіх сталовых да абеду не падаваўся хлеб, і таму нашыя студэнты часта хадзілі ў эмігранцкія сталовыя, каб зьесьці талерку баршчу й цэлую капу хлеба, што ставіўся на стале. Стыпэндыя атрымоўвалася, але вельмі часта не хапала грошаў да канца месяца, і студэнты былі паўгалоднымі. Бясспрэчна, што стыпэндыя была ў вабрэз і не магла задаволіць патрэбы студэнта, які да гэтага ня меў яшчэ чэскай або нямецкай вырахавальнасьці, таму змушаны быў у часе летніх вакацыяў зарабляць грошы фізычнаю працаю. Чэскія інжынэры пры будовах дамоў добра разумелі матарыяльны стан студэнта і ахвотна, калі маглі, прымалі яго часова на работу. Прыпамінаецца, як-бы ўчора гэта было, мая фізычная праца разам зь сябрамі ў вымураваных ужо дамох. Інжынер прызначыў нас на начную працу развозіць ваганеткамі сухі шпур у пакоі над маючую слацца падлогу. Да 12-е гадзіны ў ночы праца адбывалася нармальна. Затое пасьля гэтае гадзіны й перапынку на пасілкаваньне нашая здольнасьць да працы была слабейшаю. Часта ваганеткі наляталі адна на другую, у выніку чаго ня толькі рассыпаўся шпур, але прыходзілася й нам самім набіваць сінякі. З надыходам раніцы мы, змучаныя ад няпрывычнае начное працы, адпачывалі днём, каб з новымі сіламі працаваць у наступную ноч. Цяжкая была праца, але прыемна было ў канцы тыдня атрымаць так патрэбныя чэскія кароны, што стваралі магчымасьць куплі вопраткі, абутку, больш сыстэматычнага ўжываньня абеду.

Дэмакратычныя ўмовы чэхаславацкае рэспублікі дазвалялі ўсім нацыянальным групам эмігрантаў тварыць свае арганізацыі, што, як незалежныя рэспублікі ў рэспубліцы, жылі сваім нацыянальна-культурным і палітычным жыцьцём. Нацыянальнае жыцьцё беларус-

кае калёніі ў Празе і існуючая сувязь яе зь Беларусамі ў Польшчы й БССР спрыялі хуткаму росту нацыянальнае сьведамасьці, і хоць рэдкія прыезды ў Прагу беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў дадавалі студэнтам энэргіі ў сыстэматычнай навуковай працы, каб хутчэй вярнуцца да роднага краю і ўключыцца ў працу — барацьбу за поўнае вызваленьне Беларусі. Вельмі добра рэпрадукуецца прыезд у Прагу беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў зь Менску ў асобах: Янкі Купалы з жонкаю, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота[1440] і М. Зарэцкага[1441]. Фатаграфічная картачка паэтаў і пісьменьнікаў з групаю студэнтаў зьяўляецца гістарычнаю памяткаю й заўсёды прыпамінае, што ўсе яны трагічна загінулі ў бальшавіцкім раю пад апекаю старэйшага брата — Каіна. Другая візыта была з Польшчы ў васобе сэнатара Базыля Рагулі, які езьдзіў у Жэнэву да Лігі Нацыяў у справах палітычных і, вяртаючыся дамоў, затрымаўся ў Празе. Спатканьне з Б. Рагуляю было ня менш прыемным, як зь пісьменьнікамі й паэтамі, бо ён быў маім суседам у краю й супольным працаўніком на ніве беларускай. Невялікая беларуская калёнія, што складалася з старэйшага грамадства на чале з Радаю БНР і студэнцтва, ня мела гэтак, як Украінцы і Расейцы, сваіх школаў, і таму ўся культурна-палітычная праграма праводзілася ў арганізацыях і палітычных партыях. Студэнты былі падзеленыя на дьзве аснаўныя палітычныя групы: незалежніцкую й зьменавехаўскую. Да незалежніцкай групы належалі партыя сацыял-рэвалюцыянэраў і партыя сялянская. Студэнты першае групы ўтварылі Аб’еднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (АБСА), што належала да міжнароднае арганізацыі студэнтаў. Партыя сацыял-рэвалюцыянэраў на чале зь сьв. пам. Др-ам Т. Грыбам пры актыўным удзеле сяброў партыі Др. сьв. пам. Чарнэцкага[1442] і інжынэра Бусла[1443] была найбольш актыўнаю й вяла сыстэматычную палітычную працу ня толькі ў межах свае нацыянальнае групы, але прымала актыўны ўдзел у міжнацыянальным маштабе. Др. Т. Грыб, будучы душою гэтае партыі, адзначаўся сваімі палітычнымі здольнасьцямі й красамоўствам. Прадчасны ягоны адыход у вечнасьць зьяўляецца вельмі балючым для беларускага грамадзтва ў барацьбе за незалежнасьць Беларусі.

Да групы зьменавехаўцаў належалі тыя студэнты, якія мелі наўвеце пасьля сканчэньня студыяў свой ад’езд у БССР. Каб здабыць пашпарт на права павароту, дык вымагалася ад гэтых кандыдатаў ня толькі

---

[1440] **Міхась Чарот** (сапр. Кудзелька, 1896–1937), паэт, драматург, празаік, публіцыст.

[1441] **Міхась Зарэцкі** (сапр. Касянкоў, 1901–1937), празаік, драматург, перакладчык, крытык.

[1442] **Мікола Чарнэцкі** (1899–1944), грамадскі і палітычны дзеяч, інжынер, педагог.

[1443] **Сяргей Бусел** (1901 — пасля 1939), грамадскі і палітычны дзеяч.

асабістая іх споведзь і абяцаньні нязломнай веры ў камуністычную ідэю і яе жывых памерлых прарокаў, але трэба было публічна апаганіць усё, што супярэчыла бальшавіцкай догме. На чале гэтае групы былі студэнты камуністыя Цьвяткоў[1444] і Бабровіч[1445], якія стараліся, як кажуць бальшавікі, перавасьпітаць зьменавехаўцаў на бальшавіцкі лад. Пазьней, пасьля службовага ад'езду з Прагі Цьвяткова й Бабровіча, кіраўнікамі былі студэнты Верамей[1446] і Каўцэвіч, якія разам з другімі студэнтамі выехалі ў Менск. Усе яны былі закатаваныя бальшавікамі, якія скінулі маску прынады й выявілі свой запраўдны драпежніцкі рэфлекс. Загінулі наступныя інжынэры: Каўцэвіч, Верамей, Рагуля, Тананка, Станкевіч, Муха, Дварчанін[1447] (родны брат пасла ў польскі сойм Др. Дварчаніна, які таксама загінуў на Салоўках), Бусел і паэта У. Жылка. Інжынэру Л. Мэнке[1448] нейкім цудам удалося з жонкаю ўцячы з Савецкага раю празь Фінляндыю й вярнуцца ў Вільню да сваіх бацькоў. Беларускія інжынэры, што думалі будаваць Беларусь, зьяўляюцца тымі ахвярамі, якія з таго сьвету сьветчаць аб расейска-бальшавіцкім гнёце й перасьцерагаюць усіх эмігрантаў ад прываблівага вяртаньня на Радзіму.

Канчаючы кароткія аўтабіяграфічныя ўспаміны з Праскага студэнцкага жыцьця, жадаў-бы, каб жывыя ўдзельнікі гэтага жыцьця адгукнуліся ў сэньсе паўнейшага апісу беларускае калёніі ў Празе і каб шлях нашага слаўнага Д-ра Францішка Скарыны да навукі быў далейшым узорам для нашага маладога пакаленьня на карысьць вызваленьня Беларусі з путаў.

---

[1444] Маецца на ўвазе **Пятро Цвяткоў** — студэнт Карлава ўніверсітэта, савецкі таемны агент у студэнцкім асяродку.

[1445] **Ян Станіслаў Бабровіч** (1902–1943), палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, сябра КПЗБ.

[1446] Маецца на ўвазе **Мікалай Верамей** (1898–1937), грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст, сябра КПЗБ.

[1447] Маецца на звазе Гіляр Дварчанін.

[1448] Магчыма, маецца на ўвазе **Лявон Дубейкаўскі** (1869–1940), інжынер, муж Юльяны Дубейкаўскай (дзяв. Мэнке).

# БЕЛАРУСКІ ЧАС: МІКОЛА ГАРОШКА

Гісторыя сумная, але надта ж характэрная для нашае эміграцыі.

Гэты чалавек быў добрым знаёмцам Міколы Абрамчыка ў Празе. Гэта ён быў першым старшынёй Фундацыі П. Крэчэўскага. Ён у 1949 г. фактычна заснаваў Беларуска-Амерыканскае задзіночанне, найбуйнейшую беларускую грамадскую арганізацыю ў ЗША, і стаўся першым старшынёй яе. Ён жа быў сярод ініцыятараў заснавання газеты «Беларус».

Але нават гісторыкі эміграцыі не адразу згадаюць дэталі яго жыцця. Жыцця Міколы Гарошкі.

Дзейны і практычны (ім была заснаваная *«будаўляна-кантрактная карпаратыва “Нёман”»* (1955) — першая і на даўжэйшыя часы адзіная беларуская бізнесовая арганізацыя), ён не вытрымаў выпрабаванняў нутранога нацыянальнага — дэмакратычнага! — жыцця.

Калі з Нямеччыны ў ЗША пераехаў Стась Станкевіч і з часам заняў пасаду старшыні БАЗА і рэдактара «Беларуса», Гарошка абвясціў вайну. Гарошкі *vs* Станкевічы — тэма не аднаго дзесяцігоддзя на кухнях і ў пачакальнях беларускіх эмігрантаў.

Як толькі Гарошка зразумеў, што прайграў і яму ўжо не вярнуць нават «Беларуса» (Станкевіч здолеў правесці закон, што газета падначальваецца адно Кангрэсу БАЗА — у боязі, каб былы заснавальнік не пераняў яе), ён запачаткаваў новае выданне — *«The Byelorussian Times»*.

Хоць «Беларус» выходзіў даволі нерэгулярна, усё ж ён быў сімвалам стабільнасці ў параўнанні з «Беларускім часам». Але галоўнае, што ў грамадзе газета набыла рэпутацыю, падобную да хмараўскага «Беларускага голасу» — скандальнага, апартуністычнага, шкоднага выдання. Выкарыстоўваліся любыя нагоды, нават апасродкаваныя.

Ліст Станіслава Станкевіча ад 13 лістапада 1979 г.:

*«Да Спадароў Праф. Антона Адамовіча й Др-ра Я. Запрудніка.*

*Калі-б я быў сябрам Рады БНР, пытаньне, закранутае ў гэтым лісьце, я афіцыйна прапанаваў-бы паставіць на парадку дня Сэсіі Рады БНР, што мае адбыцца 24 лістапада 1979 г. у Нью Ёрку. А так я зварачаюся з гэтым лістом да Вас абодвух як маіх найбліжэйшых супрацоўнікаў, нацыянальных аднадумцаў і, калі ходзіць пра праф. Ант. Адамовіча, дасьледавальніка беларускае літаратуры, у тым і творчасьці Купалы, а таксама як да людзей высока аўтарытэтных у колах БНР.*

*У выдадзенай у Нью Ёрку газэце “Беларускі Час” у нумары 19-ым за сакавік 1979, надрукаванае “Прывітаньне” старшыні Рады БНР на 13-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што адбылася ў Таронта ў верасьні 1978 году. У гэтым “Прывітаньні” між іншым чытаем: “Паміж 1923 і 25 годам у Прагу быў высланы Янка Купала, а ў Бэрлін Цішка Гартны, каб намовіць сваіх калішніх сяброў — Крэчэўскага, За-*

*харку, Цьвікевіча*[1449] *й Пракулевіча*[1450] *на ліквідацыю Рады і Ураду БНР і да паввароту іх у Менск”.*

*Гэтае “Прывітаньне” з абвінавачваньнем Янкі Купалы ў ягонай дапамозе ліквідацыі БНР адразу пасьля згаданай 13-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі было перасланае за пасярэдніцтвам д-ра Запрудніка (дарэчы, д-р В. Жук-Грышкевіч і д-р Р. Жук-Грышкевіч у справах газэты “Беларус” ад даўжэйшага часу зьвяртаюцца да д-ра Запрудніка, а не да мяне) у газэту “Беларус” дзеля надрукаваньня яго, якога я, як нязгоднага з праўдай і моцна шкоднага для беларускай нацыянальнай справы, не надрукаваў. Тады д-р Запруднік прыслаў мне перарэдагаваны ім тэкст згаданага “Прывітаньня”, бяз гэнае заўвагі пра ролю Янкі Купалы ў пытаньні ліквідацыі БНР, якога я не надрукаваў таксама, бо-ж у тэксьце “Прывітаньня”, прачытанага на 13-ай Сустрэчы, заўвага гэная была.*

*Вось-жа: ніхто яшчэ зь дзеячоў і сяброў БНР, ніхто з дасьледнікаў творчасьці Янкі Купалы, ніхто зь беларускіх гісторыкаў наагул яшчэ ніколі ня сьцьвердзіў, што быццам Янка Купала памагаў бальшавіком у ліквідацыі БНР. Ніколі ня цьвердзілі гэтага й бальшавікі, бо падобнага кроку, вельмі для іх выгаднага ў іхным змаганьні супраць БНР, Купала ніколі не зрабіў. Затое адзін-адзіны д-р В. Жук-Грышкевіч, выступаючы ад імя Рады БНР як ейны старшыня, ня ведаю, зь якіх матываў і дзеля якіх мэтаў, наважыўся запляміць сьветлае імя Янкі Купалы беспадстаўным сваім зьвінавачваньнем, і гэта, сьвядома ці несьвядома, у ўгоду бальшавіком.*

*Думаю, што Сэсія Рады БНР 24 лістапада сёлета катэгарычна зьняпраўдзіць заяву свайго старшыні пра Янку Купалу, не зважаючы на тое, што гэта было-б поўнай дыскваліфікацыяй і кампрамітацыяй д-ра В. Жук-Грышкевіча. Затое для Рады БНР і ейных сяброў, у бальшыні глыбокіх беларускіх патрыётаў, было-б гэта актам рэгабілітацыі.*

*У выпадку, калі-б Сэсія Рады БНР належна не зрэагавала на шкодныя паклёпы ейнага старшыні на Янку Купалу, тады буду пачувацца змушаным заняць у гэтай справе адпаведную пазыцыю, магчыма і надрукаваць гэты ліст, да чаго мяне змушае сыстэматычная праца над дасьледваньнем творчасьці Янкі Купалы. А гэтыя мае дасьледваньні, зьвязаныя з рыхтаваньнямі да 100-х угодкаў Янкі Купалы, даюць дастаткова матарыялаў і фактаў на тое, што Янка Купала ніколі ня быў і ня мог быць на ўслугах бальшавікоў у іхных намаганьнях ліквідацыі БНР*».

«Час» праз гады пераследваў нібы праклён: калі газету пераняў сын Міколы Гарошкі Расціслаў, яна па-ранейшаму, як бы па інерцыі, намагалася

[1449] **Аляксандр Цвікевіч** (1888–1937), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст. На Другой Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне ў 1925 г. пад уздзеяннем поспехаў і дасягненняў палітыкі беларусізацыі ў БССР прыняў рашэнне аб спыненні дзейнасці Рады міністраў БНР і прызнанні Мінска адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі.

[1450] **Уладзімір Пракулевіч** (1887–1938), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. Ад жніўня 1923 г. быў дзяржаўным сакратаром Урада БНР.

быць апазіцыйнай *«гэнеральнай лініі»*. Аўтараў было небагата, падпісчыкаў, а значыць, і фінансаў — таксама.

Гісторыя газеты не склалася і надалей: прадстаўнік новай хвалі эміграцыі Юрка Чудзін (Васілеўскі) выклікаўся стацца рэдактарам (Расціслаў Гарошка заставаўся выдаўцом), але ягоныя прарасійскія, пралукашэнкаўскія артыкулы выклікалі грамадскае абурэнне і неабходнасць Гарошкі-малодшага не проста адхіліць таго ад рэдагавання, але і выступіць з заяваю, дзе той абвінавачваў Чудзіна ў падмане і хлусні. Троху пазней Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык задэкларавалі жаданне выратаваць газету і, сапраўды, нават выдалі два нумары. На гэтым найноўшая гісторыя «Беларускага часу» перапынілася.

Расціслаў жа Гарошка, тым не менш, не страціў замілавання да друкарскае працы.

Успаміны жонкі Зінаіды пра Міколу Гарошку, а таксама невялікая згадка з ейнага ўласнага мінулага — пра выкладанне ў школе ў Загорыі, друкуюцца паводле публікаткі, выдадзенай іх сынам Расціславам накладам усяго ў 20 асобнікаў[1451].

*Зінаіда Гарошка*

Надыходзіць дзень 11 лютага 1980 году, першая гадаўшчына сьмерці Інжынера Міколы Гарошкі, і ў сувязі з гэтым я хачу падзяліцца з чытачамі некаторымі фактамі з жыцьця гэтага вялікага патрыёта і бескампраміснага барацьбіта за волю сваёй Бацькаўшчыны Беларусі і лепшую долю свайго Беларускага Народу, актыўнага працаўніка ў беларускім грамадзкім і царкоўным жыцьці.

**1. Пачаткі**

Мікола Гарошка нарадзіўся 4-га травеня 1902 году на вёсцы Трашчыцы Наваградзкага павету. Пасьля сканчэньня пачатковай школы вучыўся ў сельска-гаспадарчай школе ў мястэчку Мір недалёка ад Трашчыцаў. Ад 1919 г. да 1921 г. вучыўся ў Наваградзкай беларускай гімназіі, дзе закончыў сем клясаў. Восьмую клясу скончыў пры Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 годзе нелегальна паехаў у Прагу Чэскую, дзе паступіў на Ўнівэрсытэт Карла Вялікага.

**2. Прага — Унівэрсытэт Карла Вялікага**

У той час у Празе ўжо былі беларускія студэнты і Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), якая пераехала туды з Коўна. Таксама жыў у Празе прафэсар М. Вершынік[1452], эмігрант з царскіх часоў, які, ведаючы чэскую мову, памагаў ва ўсіх справах як родным, так і студэнтам.

---

[1451] Мікола Гарошка. Грамадзкі і Царкоўны Дзеяч. 1902–1979. З успамінаў Зінаіды Гарошкі. Нью Ёрк, 2012. — 24 с.

[1452] Так у тэксце. Маецца на ўвазе Мікола Вяршынін.

Для Міколы Гарошкі першая затрымка ў Празе была кватэра прафэсара Мікалая Вершыніка. Гарошка, будучы студэнтам, быў вельмі актыўны ў беларускіх арганізацыях і ў беларускім студэнцкім саюзе. Прымаў актыўны ўдзел у сьвяткаваньнях 25-га Сакавіка, чытаў рэфэраты і быў у цеснай сувязі з Раднымі БНР, асабліва з прэзыдэнтам Крэчэўскім. Калі ў 1926 годзе прыехалі зь Менску ў Прагу беларускія пісьменьнікі Я. Купала, Цішка Гартны, Броўка і другія, якія нагаворвалі студэнтаў, каб па заканчэньні студыяў ехалі ў Менск, то Мікола Гарошка першы выступіў супраць гэтага. Студэнты, каторыя пазьней паехалі ў Менск, усе там загінулі.

Па заканчэньні ў 1928 годзе Палітэхнікі і двух аддзелаў, ляснога й мэліярацыйнага з адзначэньнем, была прапанова Міколе працягнуць навуку, здабыць дактарат і пазьней быць прафэсарам. Міколавы прафэсар на Унівэрсытэце казаў яму: *«Заставайся тут, будзеш мець сталую працу, памятай, што Польшча ня Чэхія»*. (Трашчыцы былі ў Заходняй Беларусі, якая ў той час належала да Польшчы.) Не паслухаў Мікола свайго прафэсара і вярнуўся дадому.

### 3. Паварот на Бацькаўшчыну

Вярнуўся таму, што ня мог забыцца запавету свайго Бацькі, які, выпраўляючы сына да Чэхіі, сказаў: *«Едзь, сынок, вучыся, здабывай навуку, а скончыш, вяртайся і працуй для свайго народу. Едзь»*.

Пасьля павароту на Бацькаўшчыну першую працу Мікола дастаў у Беластоку, дзе быў кіраўніком мэліярацыйнага аддзелу. Пазьней, адбыўшы два гады вайсковай службы ў польскім войску, вярнуўся дадому і пачаў шукаць працу ў дзяржаўных (польскіх) установах. Аднак атрымаць дзяржаўную працу для Міколы было немагчымым. Перашкодаю былі беларуская нацыянальнасьць і замежны дыплём. Віленскі ваявода адкрыта сказаў яму: *«Тут Польшча, а Беларусь на ўсходзе, туды едзьце і там працуйце»*.

### 4. Сыраварня

Мікола навязвае знаёмства з князям Міхайлам Мірскім[1453] (уласьнікам замку). Князь прапануе Міколе становішча галоўнага надлесьнічага ўсіх сваіх лясоў. Аднак для афармленьня надлесьнічага трэба мець дазвол старасты і паліцыі. Князь дазволу не атрымаў, бо Гарошка быў непажаданаю асобаю для палякаў.

Знаёмства з князем трывала далей. Мікола досыць часта адведвае князя, тут пазнаў і князя Васіля[1454]. На просьбу князя, Мікола зрабіў

---

[1453] **Міхаіл Святаполк-Мірскі** (1870–1938), князь, дыпламат, апошні ўладальнік Мірскага замка.

[1454] Маецца на ўвазе **Васіль (Базыль) Святаполк-Мірскі** (?—1974), князь, грамадскі дзеяч. У 1945 г. быў выкрадзены ў Вене савецкімі спецслужбамі,

вялікі праэкт рыбнае гаспадаркі для аднаго зь ягоных маёнткаў, але рэалізаваць плян перашкодзіла вайна.

Аднаго разу падчас размовы з князем Мірскім Мікола запрапанаваў яму адкрыць курсы вырабу літоўскіх сыроў, якія ў той час давалі вялікі прыбытак. Князь пагадзіўся, і ў маёнтку Уша, недалёка ад Трашчыцаў, былі сарганізаваныя такія курсы. Сыравара выпісалі з Чэхіі, дзе малочная гаспадарка стаяла вельмі высока.

Курсы літоўскіх сыраў праходзілі Мікола, князь Васіль і сялянская моладзь. Пасьля заканчэньня курсаў вёска мела сваіх сыравараў, што й было галоўнай мэтаю Міколы пры арганізаваньні гэтых курсаў.

**5. Каапэратывы**

Ведаючы, што ўрадавай працы ён не атрымае, Мікола пастанавіў заняцца грамадзкаю працаю, працаваць для *«свайго народу»*, як некалі казаў Бацька. Добра ведаючы з чэскай школы асновы й карысьці каапэратывы, Мікола пастанавіў залажыць спажывецкую каапэратыву ў Трашчыцах. Быў скліканы сход сялянаў, і на першым сходзе Мікола зрабіў даклад на тэму каапэратывы і яе значэньня ў жыцьці вёскі. Пасьля нядоўгіх разважаньняў і дыскусіяў, на другім сходзе людзі пагадзіліся на адкрыцьцё спажывецкай каапэратывы, якую назвалі «Засеўкі». Старшынёю ўправы каапэратыву быў выбраны Мікола Гарошка. Управа апрацавала статут, устанавіла сяброўскія складкі, якія пачыналіся ад 10 грошаў, але людзі ведалі, што хто больш дасьць, той больш і прыбытку атрымае.

Пасьля рэгістрацыі й зацьверджаньня каапэратывы праз урадавыя ўстановы, управа «Засевак» распачала сваю працу, і найбольшая ўвага спачатку была сканцэнтраваная на прадукцыі літоўскіх сыраў. Быў наняты адзін дом спэцыяльна для сыраваркі і для каапэратыўнага складу, а калі стан касы павялічыўся, управа пачала скупляць у сялян яечкі й збожжа. Увесь свой тавар управа адсылала да гуртоўні ў Баранавічах, кіраўніком якой быў сп. Пятро Орса[1455], хто пазьней выехаў да Амэрыкі. У гэтай-жа гуртоўні ўправа «Засевак» купляла па зьніжанай цане тавары, патрэбныя ў штодзённым жыцьці вёскі.

Першы падзел прыбыткаў паміж сябрамі каапэратывы выклікаў вялікае задавальненьне і падзяку для Міколы, і ад гэтага часу штораз больш сяброў далучалася да «Засевак».

Пры «Засеўках» быў сарганізаваны тэатральны гурток, які са сваімі выступамі разьяжджаў па суседніх вёсках. Уся праграма тэатраль-

дастаўлены ў Маскву, асуджаны на 11 гадоў лагераў. Па вызваленні выехаў на Захад, жыў у Мюнхене.

[1455] **Пётра Орса** (1898–1990), грамадскі дзеяч, брат Аляксандра Орсы. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША), быў актыўным прыхільнікам БЦР.

нага гуртка, так як і вядзеньне каапэратывы, адбываліся ў беларускай мове.

Розгалас працы каапэратывы «Засеўкі» разышоўся далёка, сяляне больш пачалі цікавіцца гэтаю справаю і пачалі прыяжджаць нават з далёкіх вёсак да Мікалая з просьбаю дапамагчы ім у арганізацыі каапэратываў. Мікола ніколі нікому не адмовіў, ехаў заўсёды, куды яго клікалі, рабіў даклады, памагаў адкрываць усё новыя й новыя спажывецкія каапэратывы, усюды спатыкаючы прыхільнасьць і вялікую падзяку.

Усе каапэратывы, заложаныя Міколам, добра працавалі, і колькасьць іх павялічвалася. Мікола бачыў асягненьні ў сваёй працы, працы для свайго народу і быў задаволены, радасьць сына падзяляў і ягоны Бацька.

У той час урад польскі таксама быў зацікаўлены ў пашырэньні каапэратыўнага руху, таму кожная школа павінна была мець сваю каапэратыву, і абавязкам настаўнікаў была арганізацыя каапэратываў у сваіх вёсках. Дзеля гэтага кіраўнік сяміклясавае школы ў Міры запрасіў Міколу зрабіць даклад і памагчы пры арганізаваньні каапэратывы. На даклад Міколы ў школьнай залі, апрача настаўнікаў, былі мясцовыя людзі, была і паліцыя, пад наглядам якое заўсёды быў Гарошка.

Мікола карыстаўся вялікім даверам і вялікаю пашанаю сярод сялянаў, а імя ягонае было добра ведамае далёка ад сваёй вёскі і ад сваёй гміны.

### 6. Выбары Войта — 1935

Надыходзіў час выбараў войта Сухавіцкай гміны, да каторай належалі Трашчыцы. Людзі падалі кандыдатуру Міколы Гарошкі, другога не хацелі. Паколькі для палякаў Мікола Гарошка быў непажаданы кандыдат, паявіліся *«добрыя людзі»* і пачалі радзіць Гарошку не прыймаць той кандыдатуры. Быў вялікі націск радзіць яму выехаць, бо з такою асьветаю ягонае мейсца не на вёсцы. У Гарошкі быў адзін адказ: *«дайце мне працу, і я выеду»*. Каб не дапусьціць Гарошку да выбараў, палякі выклікалі яго ў Стоўбцы і далі яму працу будовы мосту празь Нёман.

Пасьля заканчэньня будовы, якая трывала некалькі месяцаў, плянавалася вельмі ўрачыстае адкрыцьцё таго мосту, на якое палякі Гарошку не дапусьцілі, бо яшчэ перад урачыстасьцяй выслалі яго ў Кросьценка, каля Кракава, там таксама будаваць масты, якія былі зьнесеныя вялікай паводкай. У Кросьценку Міколу Гарошку далі кіраўніцтва будаўнічага аддзелу і будову ў горах пяці мастоў. Будова мастоў цягнулся ад 1934 да канца 1935 году, і пасьля заканчэньня працы адбылося вялікае афіцыйнае адкрыцьцё мастоў з удзелам ваяводы і іншых урадоўцаў. Былі прамовы, пахвалы, падзякі, газэты зьмяшчалі фатаграфіі Гарошкі і пахвальныя артыкулы. На разьвітаньне М. Гарошка атрымаў вялікі альбом са здымкамі будовы і найлепшыя жаданьні ад сваіх

супрацоўнікаў і вярнуўся ў Трашчыцы, бо выбары войта ўжо прайшлі. Гэта быў пачатак 1936 году.

**7. Гаспадарка «Мондзін»**

Вярнуўшыся дадому, Мікола пастанавіў унезалежыцца, асабліва ад польскага ўраду, і заняцца ўласнай гаспадаркай. Спажывецкія каапэратывы, арганізаваныя Гарошкам, працавалі добра і пашыраліся.

Мікола ўзяў у арэнду маёнтак «Мондзін», блізка Сьвітазі, недалёка ад праслаўленага Міцкевічам у «Пане Тадэвушы». Пачатак быў вельмі цяжкі, але пры дапамозе князя Мірскага гаспадарка была наладжаная. Гаспадарку і «Мондзін» Мікола паставіў вельмі высака, галоўную ўвагу зьвярнуў на выраб літоўскіх сыроў. З кожным годам гаспадарка давала ўсё большы прыбытак.

Уладзіліся таксама вельмі добрыя суадносіны зь сялянамі суседніх вёсак, усім Гарошка памагаў, як толькі мог і чым толькі мог. Гэтага людзі ніколі не забыліся. Усе гаварылі па-беларуску.

**8. Савецкая акупацыя**

У 1939 годзе, з прыходам савецкай арміі, пасьля некалькіх гадоў цяжкой працы і калі гаспадарка была даведзена да высокага ўзроўню, калі 800 сыраў былі гатовыя да прадажы, дзесяткі пудоў збожжа ў мяшках чакалі на адпраўку, прыйшло абсалютнае зьнішчэньне, усё прапала. На пачатку савецкія ўлады хацелі расстраляць Міколу, але людзі сталі ў ягонае абароне і выратавалі яго. Пазьней савецкія ўлады прыказалі людзям разграбіць *«буржуя»*. Сяляне адмовіліся. Тады была прысланая паліцыя, якая змусіла людзей *«грабіць»*. Забралі ўсё, жанчыны плакалі, а мужчыны гаварылі Міколе: *«Ня гневайцеся, мы робім гэта супраць сваёй волі і ведаем, што чужая крыўда ня дасьць карысьці»*. Зь цяжкім сэрцам глядзеў Мікола на гэты *«грабеж»*. Потым Мікола павінен быў падзяліць усю сваю зямлю паміж сялянаў. Ён быў зьнішчаны матэрыяльна, але меў маральную падтрымку ўсіх сялянаў суседніх вёсак.

Тады паклікалі Міколу да Наваградка на кіраўніка Лясной Управы, каб *«павучыцца чытаць польскія пляны»*, і адразу там Мікола пачаў гаварыць па-беларуску. На гэта галоўны кіраўнік управы, савецкі камуніст, зьвярнуў Міколе ўвагу, што тут *«не Беларусь»* і *«язык павінен быць рускі»*. Міколе пагражаў вываз у Сібір, але ад гэтага ўратавала вайна, кампанія, званая «Барбароза»[1456]. Прыйшлі немцы, і Мікола, ведаючы нямецкую мову, далей працаваў на старым мейсцы.

Жыцьцё ў Наваградку падчас гэтых дзьвюх акупацыяў, савецкай і нямецкай, было цяжкім, аднак сяляне не забыліся Міколу, заўсёды

---

[1456] **«Барбароса»** (ням. *Barbarossa*) — кодавая назва плана Нямеччыны па вайне з СССР.

прывозілі яму прадукты й навіны. Мікола й цяпер памагаў ім, як толькі мог.

### 9. Выезд з Наваградка

1944 год прынёс вялікія зьмены. Немцы адступалі, надыходзіла савецкая армія, пачалася агульная эміграцыя. Наваградак пусьцеў, выяжджаў хто толькі мог і як толькі мог. Памятаю, гэта было першага ліпеня, прыгожая раніца, прыемны быў запах скошанай травы, сьпявалі жаваранкі высока ў небе, а па дарозе з Наваградка на захад цягнуўся вялікі абоз уцекачоў, ехалі на конях, людзі ехалі наперад далей ад Саветаў, ехалі ў нязнанае, ніхто ня ведаў, ці вернецца дадому. Некаторыя плакалі й маліліся, шмат хто аглядаўся назад, пакуль не схаваліся за гарызонтам руіны Наваградзкага Замку. Па дарозе да нашага абозу далучалася шмат іншых фурманак. Да Гродна ехалі ўсе, потым кожны выбіраў сабе дарогу. Пераезд праз тэрыторыю польскіх партызанаў быў вельмі небясьпечны, быў гэта час варшаўскага паўстаньня, аб якім гаварылі паціху.

Мы ехалі ў кірунку Ўсходніх Прусаў. Па дарозе затрымаліся ў невялікім горадзе, дзе Мікола пайшоў да гарадзкога ўраду шукаць беларусаў, і знайшоў. Недалёка была гаспадарка, гаспадаром якое быў беларус. Там прынялі нас, як родных, далі паесьці, і там-жа быў адзін беларус з Баранавіч, знаёмы Міколы. Мы жылі там два тыдні. Гэтаму гаспадару Мікола прадаў коні, два вазы, і далей мы паехалі цягніком.

### 10. Лягеры

Пасьля некалькіх месяцаў прабываньня на нямецкай тэрыторыі канчаецца вайна і пачынаюцца гады лягернага жыцьця ў так званых лягерох для ўцекачоў ад камунізму, у скароце лягерох ДП (з амэрыканскага *Displaced Persons*). Першы быў Форст, недалёка ад Бэрліну, вайсковыя баракі, людзей было шмат. Другі быў Гоф. Потым Гэле — адкуль раней, перад канцом вайны, мы ўцяклі апошнім цягніком, наступны цягнік быў разьбіты амэрыканскімі бомбамі. Тады быў Аўсбург — вайсковыя баракі. Мікола заўсёды шукаў беларусаў, тут знайшліся сп. Стагановіч[1457], з Амбургу прыехаў сп. Дарашэвіч[1458]. Больш і больш знаходзілася людзей, аднак увосені 1945 г. лягер ліквідуюць, і мы пераяжджаем да Фюсэна, лягер недалёка за горадам, салідныя вайсковыя казармы, абнесеныя сьцяной, пры браме заўсёды была варта, а навокал горы. У лягеры ўсялякія нацыянальнасьці, бальшыня расейцаў

---

1457 Маецца на ўвазе **Аляксандр Стагановіч** (1890–1988), грамадскі дзеяч. Пасол у польскі сойм у 1928 г., падчас нямецкай акупацыі — кіраўнік БНС на Наваградскую акругу. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у ЗША.

1458 Маецца на ўвазе Мікола Дарашэвіч.

і шмат украінцаў. Украінцы маюць гімназію, дзе вучацца Тамара[1459] і Юрка Станкевіч[1460]. Нашы хлопцы таксама ходзяць да ўкраінскай школы. Тут мы перажылі страшныя хвіліны выдачы людзей Саветам, часы «Кемтэпо».

Летам 1946 г. нас перавозяць да Шлясгайму, недалёка ад Мюнхэну, лягер расейска-ўкраінскі ў амэрыканскай акупацыйнай зоне, месьціцца ў драўляных бараках і падлягае амэрыканскаму шэфу з УНРРА. Мікола шукае беларусаў, знаходзіць штораз больш. У Мюнхэне знайшліся беларускія студэнты і інжынер Тамашчык (пазьнейшы Уладыка Васіль). Мікола дапамагае беларусам прыехаць у Шлясгайм зь іншых акупацыйных зонаў (Вадэйкі, Малевіч, Высоцкія, Кіт[1461], Родзькі, Рагуля, М. Кажан, Бортнік і шмат іншых), і ў Шлясгайме арганізуе сваю нацыянальную групу. У Шлясгайме сабралася досыць вялікая група беларусаў, і была сарганізаваная беларуская сэкцыя, зацьверджаная праз амэрыканскую ўладу. Беларусы пасяліліся разам у двух бараках, а старшынёю беларускай сэкцыі быў абраны Мікола Гарошка.

Пачынае тут арганізавацца грамадзкае жыцьцё, адкрываецца беларуская школа, настаўнікамі былі Р. Родзько [1462]і К. Вадэйка[1463], садок вялі сп-ні Н. Рагуля і П. Высоцкая. Урачыста сьвяткуюцца беларускія нацыянальныя сьвяты, адбываюцца нацыянальныя ўрачыстасьці й парады, на якія прыяжджаюць беларусы зь Мюнхэну, абгаворываюцца пляны на будучыню і эміграцыю. Грамадзкае жыцьцё пашыраецца, Мікола чытае рэфэраты ў Шляйсгайме і ў другіх беларускіх лягерох.

Год 1948 быў рашучы, лягер ліквідаваўся, і трэба было вырашыць, куды ехаць. Пераважна ўсе нарады адбываліся ў пакоі Міколы Гарошкі. Прыяжджалі беларусы зь Мюнхэну, парушаліся тэмы будучых нацыянальных арганізацыяў і царкоўных справаў. У той час справа царквы была вельмі трагічная, бо ўвесь беларускі япіскапат перайшоў да Расейскай Зарубежнай Царквы, і паўстаў праэкт шукаць беларускага кандыдата на япіскапа. Такім кандыдатам мог быць толькі інжынер Тамашчык. Пасьля нядоўгіх разважаньняў ён пагадзіўся і паступіў на ўкраінскую тэалёгію. Інжынер Тамашчык потым быў хіратанізаваны і ачоліў беларускую царкву на чужыне. Усе тыя вырашальныя падзеі, дыскусіі, разважаньні й пастановы адбываліся ў Шлясгайме ў пакоі Міколы Гарошкі.

---

[1459] Відаць, маецца на ўвазе Тамара Стагановіч-Кольба.

[1460] **Юрка Станкевіч** (1928–2014), грамадскі дзеяч, сын Янкі і Марыі Станкевічаў.

[1461] **Барыс Кіт** (нар. 1910), навуковец, грамадскі дзеяч.

[1462] Магчыма, маецца на ўвазе **Філарэт Родзька** (1890–1977), грамадскі дзеяч, педагог.

[1463] **Кастусь Вадэйка** (1883–1963), грамадскі дзеяч.

Мікола меў сястру ў Амэрыцы і атрымаў ад яе афідавіт на выезд у Амэрыку. У Шлясгайме быў разьвітальны вечар, усе прасілі Міколу памагчы ў прыезьдзе да Амэрыкі, і ён ім гэта абяцаў. Першага лістапада 1948 году, пасьля прачулага разьвітаньня, мы пакінулі Шлясгайм, падаў дождж, было холадна, настрой быў цяжкі, што там нас чакае, як уложыцца жыцьцё і ці нарэшце скончацца гэткія няпэўныя *«заўтра»*.

**11. Амэрыка**

Пасьля заканчэньня розных афіцыйных фармальнасьцяў мы прыехалі ў Брэмен, Нямеччына. У той час у Амэрыцы быў партовы страйк, і нам прышлося чакаць два тыдні ў Брэмене. Пасьля страйку селі на амаль новы амэрыканскі пасажырны карабель *«Marine Flasher»* і на дарогу атрымалі сандвіч. Мы ехалі першым пасажырным караблём, які перавозіў ДПістаў, добра нас кармілі, але трапілі ў моцную буру, пачалася качка, было і так, што карабель стаяў нейкі час, ня мог плысьці. Дарога наша трывала 10 дзён, і нарэшце ўвечары 28.12.1948 г. мы прыплылі да Нью Ёрку. Першае, што мы ўгледзілі, гэта Статую Свабоды, шмат агнёў і машынаў. На прыстані спаткала нас сястра Міколы, Нюра Сурко, і нарэшце мы апынуліся ў яе доме на Маспэце, і вось тут распачынаецца нашае новае жыцьцё.

Вялікае ўражаньне на Міколу зрабіла Статуя Свабоды, і адразу ён пастанавіў аддаць усе свае сілы на арганізаваньне беларускага жыцьця ў Амэрыцы, працаваць для свайго народу.

Пачаткі жыцьця кожнага імігранта ў Амэрыцы былі вельмі цяжкія. Першая праца Міколы было маляваньне ўсялякіх сувэніраў. Хутка аднак Мікола пераходзіць да будаўніцтва, а пасьля некалькіх гадоў арганізуе супалку беларусаў для будоўлі дамоў. Дзякуючы нясьведамасьці сяброў і неразуменьня амэрыканскае сыстэмы будовы, супалка была разьвязаная, і Мікола арганізуе сваю ўласную будаўнічую фірму, якую цяпер пераняалі сыны.

Праца пры будоўлі не перашкодзіла Міколе заняцца беларускаю грамадзкаю працаю, і ў першую чаргу споўніць сваё абяцаньне дапамагчы ўсім жадаючым у Нямеччыне эміграваць да Амэрыкі. Тут ужо было некалькі беларусаў, як Янка Станкевіч, Ніхаёнак[1464], і пры іхняй дапамозе высылаліся афідавіты для беларусаў у Нямеччыне на прыезд да Амэрыкі. Новых імігрантаў трэба было забясьпечыць кватэраю й працаю. На 110-й вуліцы ў Мангатане нанімаюць кватэру, куды прыяжджаюць усе іміграны, а што да працы, то кожны працуючы павінен быў прасіць там, дзе ён працуе, аб прыняцьці новых. У Маспэце

[1464] **Янка Ніхаёнак** (1920–1986), грамадскі дзеяч. Народжаны ў сям'і беларускіх эмігрантаў у ЗША, вярнуўся з бацькамі ў Беларусь. У чэрвені 1947 г. як амерыканскі грамадзянін ад нараджэння меў магчымасць адным з першых прыехаць у ЗША.

адзін украінец меў невялікую швэйную фабрыку і на просьбу Міколы сказаў: *«Пішы, няхай усе прыяжджаюць да мяне на працу, а пазьней паглядзім, куды іх накіраваць»*.

У Нью Ёрку Мікола залажыў Дапамаговы Камітэт, які памагаў беларусам выехаць зь Нямеччыны да Амэрыкі, і касу дапамогі, каб памагчы грашыма патрабуючым. З часам прыехала да Нью Ёрку значная колькасьць беларусаў, і тады паўстала патрэба арганізацыі, якая-б лучыла ўсіх у нейкае сьведамае беларускае нацыянальнае грамадзтва. У 1949 г. Гарошка арганізуе Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), газэту «Беларус», Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, і таксама дзякуючы ягонай ініцыятывы і працы паўстае Фундацыя Крэчэўскага, якою ён быў першым старшынёй да сваёй сьмерці ў 1979 годзе. Мікола Гарошка быў ініцыятарам і закладчыкам кожнае з гэтых грамадзкіх арганізацыяў[1465].

Па нейкім часе выявілася патрэба прэсы ў ангельскай мове дзеля запазнаньня амэрыканскага грамадзтва і нашае моладзі з гістарычнымі падзеямі Беларусі і інфармацыі аб сучасным беларускім жыцьці. Ізноў, ніхто іншы, а толькі Мікола Гарошка са сваім сынам Расьціславам[1466] у 1975 годзе рэалізуюць выданьне двухмоўнай газэты «Беларускі Час».

Мікола Гарошка шмат працаваў пры арганізацыі царкоўнага жыцьця (БАПЦ). Некалькі разоў быў Старшынёй Парафіяльнай Рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне і ўдзельнічаў у кіраўнічых органах БАПЦ. Апошнім ягоным імкненьнем была будова царкоўнага цэнтру ў Дораты, Нью Джэрзі, там, дзе мітрафорны пратаярэй а. Карп Стар[1467] меў сваю парафію БАПЦ. Пачатковыя меркаваньні й пляны гэтага Цэнтру друкаваліся ў газэце «Беларускі Час» № 11 у 1977 годзе. У апошні дзень свайго жыцьця Мікола ехаў у Дораты да а. Карпа, каб абмеркаваць дакладней плян будовы Цэнтру.

Раптоўная сьмерць Міколы не дазволіла яму выканаць гэты плян і таксама іншы плян нармалізацыі грамадзкага беларускага жыцьця ў Амэрыцы, і ня можа быць сумліву, што каб Мікола Гарошка жыў, ён не дапусьціў бы да таго шкадлівага царкоўнага расколу, які падзяліў царкву пасьля ягонае сьмерці. Мікола Гарошка памёр у госпіталі недалёка ад Дораты, і першыя заўпакойныя малітвы ў тым самым госпіталі прачытаў мітрафорны пратаярэй а. Карп Стар.

---

[1465] Тут Зінаіда Гарошка крыху перабольшвае ролю мужа, асабліва што ў дачыненні да арганізацыі БІНіМа.

[1466] **Расціслаў Гарошка** (нар. 1938 (?)), грамадскі дзеяч, сын Міколы і Зінаіды Гарошкаў.

[1467] **Карп Стар (Старавойтаў)** (1913–2006), рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар. Служыў спачатку ў Гайленд Парку, даўжэйшы час — у Бруклінскім кафедральным саборы БАПЦ, а потым — у Дораці (Нью-Джэрсі).

## З успамінаў Зінаіды Гарошкі (1980)

### 1. Школа ў Загорыі. 1929–1940

Мінула ўжо больш як 50 гадоў ад заканчэньня маёй навукі. Першага чэрвеня 1929 году я закончыла польскую Сэмінарыю ў Нясьвіжы і ад 1-га верасьня ўжо працавала ў адно-клясавай школе ў Загорыі Турэцкай гміны Наваградзкага павету. (У той час Наваградак, як і ўся Заходняя Беларусь, належалі да Польшчы.) Адно-клясавая школа ў польскай сыстэме навучаньня значыць, што адзін настаўнік меў чатыры клясы. З рана вучыліся трэцяя й чацьвёртая, а пазьней, пасьля іх, першая й другая. Навука трывала сем гадоў, ад 7-й гадзіны раніцы да 1-й гадзіны папаўдні.

Будынак школы быў вельмі стары, пакрыты саломаю, перад уваходам ляжаў вялікі камень, які зімою пакрываўся лёдам. У школе была адна вялікая заля у якой стаяла 10 школьных лавак для дзесяці дзяцей кожная. Да школы прыходзілі дзеці з трох вёсак, і менш як 110–120 вучняў ніколі ня было. Для настаўніка быў адзін невялікі пакой. Даўней гэта была царкоўная школа.

У такой школе працаваў мой бацька сем гадоў, ён быў настаўнікам яшчэ за царскіх часоў, а калі я ўжо закончыла Сэмінарыю, то бацьку далі пэнсію, а мяне назначыў інспэктар на вольнае месца. Распачынаць працу ў такіх умовах было вельмі цяжка, аднак маладосьць, энтузіязм і запал да працы ўсё перамаглі.

Памятаю свой першы год працы ў школе. Увосені да 1-й клясы прыйшлі 7-мі гадовыя дзеці, беларусы, якія зусім ня ведалі польскае мовы, а школа польская, то трэба было іх вучыць назоў кожнае рэчы па-польску. Паміж імі была Вера, вельмі разьвітая дзяўчынка. Нармальна вучыліся дзьве клясы разам, калі ў 2-й клясе чытанка, то ў 1-й клясе ціхія заняткі, і я сказала дзецям 1-й клясы нарысаваць, хто што хоча. Пасьля заканчэньня працы з 2-й клясай дала ім ціхія заняткі і перайшла да 1-й клясы на агляд рысункаў. Трэба было абавязкова адгадаць рысунак, то пахваліць, а то паправіць. Дайшла да Веры, а яна нарысавала вялікае акуратнае кола, а па ім 3 меншыя, і вось угадай, што гэта можа быць. Калі я не магла адгадаць, Вера паглядзела на мяне з такім жалем, столькі расчараваньня было ў яе позірку, і кажа, *«а тата казаў, што настаўніца ўсё ведае, гэта-ж ёсьць аладка са скваркамі»*. Шкада мне было Веры, яе першага расчараваньня ў сваёй усёведаючай настаўніцы, і я сказала так: *«так, я не магла пазнаць твайго рысунку, бо я ніколі ня ем аладак са скваркамі»*. Вера падскочыла й запытала: *«а з чым Вы ясьцё?»*. Я кажу, са сьмятанаю. Тут ужо Вера выказала ўсю сваю зьнявагу да сьмятаны, кажа: *«Вось са сьмятанаю дык смаката. Не, пані, памятайце, аладкі трэба ёсьць са скваркамі, ані са сьмятанаю. Кожную нядзелю такія аладкі»*. У наступны панядзелак прыйшла Вера да школы і адразу запытала: *«Пані, а з чым Вы елі ўчора

*аладкі?»* Я кажу, са скваркамі. *«Ну, што, праўда, смачна?»*, яна сказала, я пагадзілася з гэтым, і паміж намі запанавала вялікая прыязьнь.

Мінулі Каляды, Вялікдзень. Першая серада пасьля Вялікадня называецца *«градавая серада»*. У гэты дзень людзі не працуюць на полі, бо вераць, што можа выпасьці град і зьнішчыць усё. Вось у градавую сераду па абедзе, падчас навукі з 1-й і 2-й клясамі надыйшла цёмная хмара, гром і бліскавіца, пачаў падаць град. У клясе зрабілася цёмна, спалоханыя дзеці пачалі плакаць. Тады Вера падышла да мяне, прыказала мне і ўсім стаць на калені, пачала чытаць малітву, а мы ўсе павінны былі паўтараць, маліліся разам. Прайшла хмара, перастаў падаць град, дзеці павесялелі, тады Вера кажа мне: *«Пані, памятайце, не забудзьцеся, заўсёды ў градавую сераду трэба стаць на калені й маліцца»*. На маё пытаньне, хто гэтаму яе навучыў, Вера сказала: *«Гэта баба мая мне сказала, каб я стала так рабіла й другіх вучыла, а як выйду замуж і буду мець дзяцей, то і іх мушу павучыць»*.

Мінула градавая серада, мінулі першыя мае вакацыі, і ўжо пачынаючы з наступнага году пры дапамозе майго школьнага інспэктара я пачала патрабаваць рамонту школьнага будынку. Войт гміны адмовіўся, кажа, няма грошай. Тады я пачала пісаць праз Школьнае Кураторыюм у Вільні да ваяводы. Такая перапіска цягнулася каля 4-х гадоў, і нарэшце войт атрымаў загад зрабіць рамонт школы ў Загорыі і даставіць новыя школьныя лаўкі. Рамонт цягнуўся досыць доўга, але школьны будынак быў адноўлены, страху перакрылі, зьмянілі й пабольшылі вокны й дзьверы. З надворку ашалявалі школу новымі дошкамі, дабудавалі яшчэ адзін пакой і, што самае галоўнае, на мейсцы гэтага вялікага каменя перад уваходам пабудавалі ганак са страхою. На мейсцы старых лавак прывезьлі 30 двух-асабовых новых школьных лавак. Радасьць нашая была вельмі вялікая. Навокал школы вучні пасадзілі кветкі; на вокнах у школе было шмат вазонаў на спэцыяльных падстаўках; стаялі скрыні з флянсамі кветак. Вясною я раздавала флянсы вазонаў і кветак дзецям, і яны садзілі іх пры сваіх хатах, што летам стварала прыгожую дэкарацыю вёскі. <…>

Паміж хлопцамі было 2-х выдатных здольных да рысункаў, Анцух ды Саўка[1468]. Мала таго, што яны рысавалі ў школе, але вяртаючыся да дому, разрысоўвалі ўсе платы й брамы. Дайшло да таго, што гаспадары прыходзілі са скаргамі. Пасьля гэтага я закупіла вялікую колькасьць паперы да рысаваньня, каляровых алавікоў, фарбаў і дазволіла сваім мастакам карыстацца ўсім гэтым. Гаспадары больш не прыходзілі са скаргамі, платы й брамы былі чыстыя, але ў школе паўстаў вялікі архіў рысункаў, якія ўпрыгожвалі сьцены ў клясе, а рэшта складаліся да шафы.

---

[1468] Маецца на ўвазе будучы мастак і рэстаўратар Міхась Саўка-Міхальскі.

Гады 1932–1934 былі пачаткам росквіту гаспадарскіх каапэратываў. У вёсках арганізаваліся каапэратыўныя склепы, якія давалі вялікую падтрымку сялянам, а ў школах арганізаваліся школьныя склепікі. Я сарганізавала такі склепік у сваёй школе, а матэрыялы для склепіку купляла ў Трашчыцкай каапэратыве, заложанай празь Міколу Гарошку. Каапэратыва закупляла патрэбныя матэрыялы ў гуртоўнях, дзе мела вялікую зьніжку, і таму ў нашым склепіку ўсё прадавалася па зьніжаных цэнах. Склепік добра разьвіваўся, усе былі задаволеныя, і праіснаваў ён аж да 1940 г., да польска-савецкай вайны.

На кожныя Калядныя Сьвяты і на заканчэньне школьнага году я рабіла зь дзецьмі прадстаўленьне, што вымагала шмат працы і энэргіі, але заплатаю было задавальненьне як дзяцей, так і дарослых.

Праца настаўніка, асабліва ў 1-й клясе, была вельмі цяжкая, дзясяткі сшыткаў да папраўкі, а на кожную лекцыю трэба было пісаць канспэкты і гатаваць дапамаговыя матэрыялы. Усё гэта займала шмат часу і патрабавала шмат сілы. На асабісты адпачынак трэба было чакаць на вакацыі, але і тады вельмі пажаданым было, каб кожны настаўнік ехаў на летнія курсы, якія адбываліся пераважна ў Вільні або Нясьвіжы.

Апрача школьнай працы, я перажыла пэўныя непрыемныя здарэньні ў сувязі з палянізацыяй школы. На пачатку ў школах на тэрыторыі зь беларускім насельніцтвам была ўведзеная беларуская мова ў такі спосаб: навучаньне рахункаў у 1-й клясе па-беларуску, адна гадзіна сьпеваў і адна гадзіна гімнастыкі па-беларуску ва ўсіх клясах. Здаецца, у 1932 г. прыслалі нам да Стоўпцаў новага інспэктара, польскага фанатыка з цэнтральнай Польшчы. Пасьля гэтага я атрымала распараджэньне склікаць сход бацькоў і вытлумачыць ім, што пакольк зусім няма беларускіх падручнікаў, навучаньне беларускай мовы ў школе ёсьць немагчымым, і каб бацькі падпісалі паперу аб адмове ад беларускай мовы (папера такая была мне прысланая). На сходзе бацькі пасьмяяліся з такога распараджэньня, бо падручнікі былі, але паперу падпісалі, бо навучаньне беларускай мовы ў такі спосаб ніякай карысьці не давала.

У канцы году гэты інспэктар прыехаў да мяне на візытацыю і адразу зьвярнуў увагу на праваслаўную ікону і запытаўся, якую малітву дзеці гавораць перад і пасьля навукі, на што мой адказ быў *«славянскую, бо ўсе дзеці ёсьць праваслаўныя»*. Тады ён загадаў мне навучыць дзяцей каталіцкую малітву, я адмовілася й парадзіла яму прыслаць ксянзда. Пасьля гэтага выпадку нам былі прысланыя каталіцкія крыжы, якімі трэба было замяніць іконы.

Кожны настаўнік пасьля 5-і гадоў працы павінен быў складаць практычны экзамэн у сваёй школе. Перад маім экзамэнам у 1934 г. прыехаў да мяне польскі агэнт, які таксама прадаваў энцыкляпэдыі, і ведаючы, што я ёсьць праваслаўная, радзіў мне зьмяніць рэлігію і перайсьці на

каталіцтва. Казаў, што гэта мне моцна дапаможа пры складаньні экзамэну. Абурэньне маё было так вялікае, што магла толькі адчыніць дзьверы й папрасіць яго выйсьці. Выходзячы, ён сказаў *«пашкадуеце»*. Я экзамэну ў тым годзе не злажыла.

Кожныя 2–3 месяцы адбываліся канфэрэнцыі настаўнікаў нашае Турэцкае гміны. Было нас 29–30 настаўнікаў і інспэктар, які не заўсёды прысутнічаў на канфэрэнцыях. Як парадак, пасьля лекцыі быў рэфэрат, і настаўнікі дзяліліся сваімі цяжкасьцямі пры школьнай працы. На адной з такіх канфэрэнцыяў я расказала пра ўсе мае непрыемнасьці з інспэктарам, што выклікала вялікае абурэньне ў прысутных, і ўсе пастанавілі напісаць аб гэтым да школьнага куратора ў Вільні, сабраўшы подпісы прысутных. З пачаткам новага школьнага году прыслалі нам новага інспэктара.

Мая школьная праца ў Загорыі скончылася з пачаткам вайны і пачаткам савецкай акупацыі. Пасьля разьвітаньня зь дзецьмі, на якім я і дзеці горка плакалі, паехала да Наваградка. За часоў нямецкай акупацыі савецкія партызаны спалілі гэты школьны будынак, зьнішчылі ўсю маю працу. У Загорыі і цяпер няма школы. Да найбліжэйшай школы ходзяць дзеці тры, а то і больш кілямэтраў. Гэта ўжо савецкая школа, а каторая лепшая для нашага селяніна, польская ці савецкая, цяжка сказаць, патрэбная беларуская.

# КАРАЛЕЎСКІ МАСТАК: МІХАСЬ САЎКА

Упершыню я пачуў гэтае імя падчас працы з Барысам Рагулем над ягонаю кнігаю-ўспамінам пра беларускае студэнцтва на выгнанні. Напрыканцы кнігі было вырашана змясціць жыццяпісы студэнтаў — дзе магчыма, на падставе іхных аўтабіяграфій. Міхась Саўка на той час ужо не жыў, і ягоную біяграфію я вымушаны быў пісаць сам:

*«Нарадзіўся 19 ліпеня 1927 году ў вёсцы Загор'е на Наваградчыне. Памёр 10 верасьня 1990 году ў Брусэлі, а пахаваны, па ягонай просьбе, у Лёндане, побач з сынам Маркам, які колькі год перад тым трагічна загінуў у Ангельшчыне.*

*Сярэднюю асьвету Міхась Саўка атрымаў у Баранавічах. Хлапчуком быў вывезены ў Нямеччыну. У 1951 г. паступіў у Лювэнскі Ўнівэрсытэт на факультэт археалёгіі й гісторыі мастацтва, закончыў яго ў 1955 г.*

*Міхась Саўка далучыўся да беларускага руху яшчэ на Бацькаўшчыне. Быў дзейным у Саюзе Беларускай Моладзі ў Бэльгіі. Пісаў артыкулы для часапісу "Наперад!", газэты "Бацькаўшчына".*

*Закончыўшы ўнівэрсытэт, Саўка застаўся ў Бэльгіі і ўладкаваўся на працу мастаком-рэстаўратарам у Каралеўскі Інстытут Мастацкае Спадчыны ў Брусэлі.*

*У 1963 г. атрымаў бэльгійскае грамадзянства, быў залічаны ў склад сталых працаўнікоў Інстытуту. У 1969 г. пасьля адпаведных экзаменаў заняў пасаду адміністрацыйнага сакратара, а ў 1982 г. — кіраўніка працаў Інстытуту. Шмат друкаваўся, выязджаў на археалягічныя раскопкі ў Грэцыю, Турцыю, Алжыр. Дзякуючы выдатным вынікам у працы атрымаў прызнаньне бэльгійскіх мастацкіх колаў і быў пакліканы ў каралеўскі палац, дзе вучыў каралеву маляваньню і рэстаўрацыі.*

*Асабліва шмат новага ўнёс Міхась Саўка ў галіну рэстаўрацыі, быў спэцыялістам па старажытным насьценным росьпісе. Ён распрацаваў спэцыяльную тэхніку рэстаўрацыйнага працэсу; тэарэтычныя асновы і практычныя рэкамэндацыі асьвятліў у шэрагу публікацыяў.*

*Улічыўшы важнасьць навуковых распрацовак Міхася Саўкі, на падставе прапановы спэцыяльнай камісіі, Міністэрства Французскай Культуры Бэльгіі прысвоіла яму званьне доктара мастацтва. Зьява рэдкая й неардынарная.*

*За заслугі ў галіне рэстаўрацыі М. Саўку было прысвоена званьне Кавалера Ордэна Кароны.*

*Нажаль, доктар Саўка рана захварэў — частковы параліч. Апошнія гады свайго жыцьця знаходзіўся ў доме для спаралізаваных.*

*Міхась Саўка быў сябрам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва і арганізаваў некалькі сваіх выстаў пад спонсарствам БІНіМ'у ў Злучаных Штатах Амэрыкі».*

Ад таго часу да асобы Міхася Саўкі, ягонага жыцця ніхто болей не звяртаўся, пра нейкія архівы ў Бельгіі дасюль нічога невядома. Таму зразумела,

якую цікавасць выклікае нядаўняя знаходка: Саўкавы лісты да сваёй настаўніцы, Зінаіды Гарошкі, улучна са стосам рукапісаў вершаў.

*«27.X.79*

*Даведаўся, што ў ліпені гэтага году пахавалі майго тату. Гэта мяне таксама моцна прыдавіла. Ён мяне многім пажытэчным рэчам навучыў.*

*У Вас таксама я многа навучыўся, падзіўляў Вашу ахвярнасьць у цяжкія часы, і заўсёды буду памятаць Вашае чулае сэрца.*

*Міхась.*

*29.XII.79*

*Дарагая і Паважаная Настаўніца!*

*Ліст Ваш з 14.XII.79 атрымаў, але, нажаль, я ўжо прыхварэў (як заўсёды, на сьвяты, калі Родныя Сьвяты залазяць у маю бедную галаву), таму дэтальна на пытаньні Вашы адкажу пазьней.*

*Высылаю яшчэ адну вязанку майго "вершаплётніцтва", якое аднак-жа мяне супакойвае, як зьмяю, якая зьліла сваю атруту.*

*Калі сапраўды Вы думаеце выдаць зборнік, дык прышлю Вам яшчэ адзін тэкст — ён найлепшы — а зборнік трэба назваць "Вада з парашку", так называецца адзін верш, які я прысьвяціў апошняму майму брату Шуры.*

*Цалую Вам, па-сыноўску, руку і жадаю Вам усім добрага здароўя і шчасьця ды плённай працы!*

*Ваш, як заўсёды, Міхась.*

*3.I.80*

*Дарагая і Паважаная Настаўніца!*

*Жадаю Вам і ўсёй Вашай сям'і, а так-жа блізкім і жычліва настаўленым да Вас людзям добрага і шчасьлівага Новага Году, здароўя ды плённае працы.*

*Высылаю пры нагодзе яшчэ некалькі экзэмпляраў вершаплётніцтва, між імі ёсьць пару, у якіх ёсьць думка, — усё гэта недастаткова адшліфавана, але я не прафэсыянал. Адбірайце, што Вам падабаецца, судзіце самі. Вы больш пражылі, як я, і напэўна падобныя рэчы (з закранутых мною) яшчэ інакш адчуваеце. Ва ўсім гэтым мне ходзіць пра нашу этыку.*

*Атрымаў нядаўна з Польшчы тры тамы "Lud Bialoruski"*[1469] *— V, VI і VII. Сколькі ў іх багацтва! Што за фальклёр. Вось калі вывучу ўсё гэта, то хіба сумею лепш і весялей пісаць на родныя тэмы. Для мяне гэта было сапраўднае лекарства! Ужо трэці дзень чытаю аж да 2-ой ночы!*

---

[1469] Маецца на ўвазе шматтамовае выданне: Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materyały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1905. T. 1–8. 1897–1981.

*Хутка напішу Вам больш і перашлю апошнюю кнігу Янкі Брыля*[1470] *— ён крышку пачынае трацiць "самоуверенность".*

*Цалую Вашу руку і астаюся з думкамі пра Вас. Ваш вучань Міхась.*

*Афіны, 12.XI.81*

*Дарагая і Паважаная Настаўніца!*

*Ліст Ваш (15.X.81) атрымаў перад самым ад'ездам у Грэцыю, і таму адказваю Вам ужо з Афінаў, гдзе мяне спаткалі грэцкія калегі і калежанкі. Учора быў у старой цэркві, пакрытай цудоўнымі малюнкамі, прытуліўся да халоднай сьцяны (у Афінах +10°C) і ня мог паўстрымацца ад плачу, плакаў ціха, як старое бяззубае дзіцё, уся нашая гісторыя плыла перад маімі вачыма, і кацілася сьлязамі на мае старыя памятыя шчокі. І гэта мне зрабіла дабро… адышло!*

*Бачыце, грэкі, як мы, яны нешта страцілі, калі іх заваявалі туркі, і больш гэтага страчанага не найшлі, а новага ня выдумалі….*

*Вось так і жывём…*

*Вы пытаеце, што са мной і чаму маўчу? Я не маўчу, са мною добра, дажываю паволі жыцьцё сам, пакінуў жонку, таму што ня мог больш дагаварыцца. Дочка Ірэна пакінула археалёгію, пакінула філялёгію і цяпер ходзіць у Акадэмію, вось такія дзіцячыя забаўкі. Яна разумная, удалая дзяўчынка (21 год), толькі ня мае веры ў сябе, гэтаму жыцьцё навучыць.*

*Пра вашы царкоўныя справы лепш не гаварыць*[1471]*. Стыд і срам! Людзі царквы свараца, як бязбожнікі. Як вы хочаце, каб нехта пасьля гэтага ў Бога верыў? Ён у чыім кармане, гэты Бог?*

*Нам трэба было-бы пабачыцца!*

*Цалую Вашу руку і жадаю Вам здароўя.*

*Ваш Міхась.*

*3.V.82*

*Дарагая і Паважаная Настаўніца!*

*Сёньня атрымаў Ваш ліст, шчыра дзякую за гэткую вельмі прыемную неспадзеўку. Адказваю на Вашыя пытаньні.*

*Дзякую Вам за добрыя саветы, веру, што яны ідуць ад сэрца, якое жадае мне дабра, але ўсёй праўды ў лісьце нельга напісаць. Дзеці стаяць са мною, сын ня хоча больш матку бачыць, а яму больш як 25 год. Вот і ўсё сказана.*

*Пра падтрымку «наўзаем" людзі маюць розныя паняцьці. З маёй стараны ёсьць віна, я жаніўся на ёй другі раз, усё верыў…*

---

[1470] **Янка Брыль** (1917–2006), народны пісьменнік Беларусі. Тут, відаць, маецца на ўвазе кніга: Брыль, Янка. Золак, убачаны здалёк: аповесць. Мінск, 1979. — 120 с.

[1471] Маецца на ўвазе царкоўны падзел, што паўстаў на пачатку 1980-х гг. у БАПЦ у выніку канфлікту паміж ўладыкамі Андрэем (Крытам) і Мікалаем (Мацукевічам).

*Працаю я не перамучаны. Яна мне паволі надаела. Хацеў-бы пісаць… аб чым? Аб жыцьці, якое мне лёс паслаў, пісаць у вершах і прозе…*

*Нэрвы мае ўжо рэпаравалі тры разы, гэта больш ня нэрвы, а проста, як казалі ў нас, знасіўся, як касьцюм, і трэба выкідаць на сьметнік.*

*Бяру таблеткі на сэрца.*

*За царкоўныя клопаты мне прыкра і сумна, проста дзіўна, што Божыя слугі могуць грызьціся між сабою, нібы нашыя добрыя прыяцелі за косьць!?*

*"Час"*[1472] *атрымоўваю, моцна дзякую. Трэба было-бы зьмяшчаць у кажным адзін верш (ня мой), а наогул адзін цікавы верш. У "Беларусе" тое самае, там многа нейкай "сямейнай" хронікі.*

*Перадаю прывітаньні Валентыну і Расьціславу.*

*З дому ніякіх вестак ужо ад пачатку 1981 году.*

*Я вершы пасылаў Ларысе Геніюш, яны ёй спадабаліся, і яна (жыве недалёка ад брата, які жыве ў Слоніме) яму іх перадала. Вершы гэтыя апалітычныя і жыцьцёвыя.*

*5.V.82*

*Перашлю пачку вершаў, і вельмі старых, і апошніх гадоў, часам пішу па рускі, тожа перашлю.*

*Цалую Вас як Настаўніцу і матку, жадаю Вам сто год плённай працы. Не забывайце.*

*Ваш вучань Міхась Саўко.*

*4.I.83*

*Дарагая і Паважаная Настаўніца!*

*Ліст Ваш з 9.XII.82 атрымаў. Нажаль, быў хворы (пнэўмонія) і ня мог адразу адказаць.*

*Пасылаю Вам некаторыя вершы. Зь Беларусі ніякай весткі. А ад мяне наступныя: Міністэрствы Фламандзкай і Францускай культуры далі мне за мае навуковыя працы тытул Доктара. Унівэрсытэт я пакінуў будучы Магістрам, Цэнтральная Рада Культуры за мае заслугі дала мне ўзнагароду і "Кавалер Ордэна Кароны".*

*Вось, пхнулі хлапца, што ледзь ня ўпаў! А яму ні холадна, ні цёпла. Таму што страшэнна! САМ!*

*"Беларус" no. 303-304, 1982 апублікаваў мае тры вершы пад псэўданімам Міхась Ярэміч. Калі Вы такое зробіце?*

*Ваш адданы.*

*Найлепшыя прывітаньні ўсёй Вашай сям'і.*

---

[1472] Маецца на ўвазе «Беларускі Час».

*28.II.83*

*Дарагая і Паважаная Настаўніца!*

*Ліст Ваш, з 21.II.83, атрымаў сёньня — адразу адказваю.*

*Пачнём ад пачатку. У Бэльгію я прыехаў з Польскай арміі Андэрса ў маі месяцы 1947 году і працаваў два гады ў капальні вугля. За гэты час на вечаровых курсах "згамаляваў" мой дыплём з Баранавічскай мастацкай школы. Далі мне за гэта мэдаль гораду (Binche), гдзе была Акадэмія, і фэлісітацыі*[1473] *адказных за экзамены. Ад 1949 да 1950 працаваў дэкаратарам на фабрыцы сьцякла. У 1951 атрымаў "Бурсу" на Лювэнскім Каталіцкім Унівэрсытэце, факультэт археалёгіі і гісторыі мастацтва. Зрабілі мяне "магістрам" археалёгіі і мастацтвазнаўства ў 1956 годзе ў лютым з "distinction"*[1474]*. У сакавіку (24) таго-ж году прынялі мяне на працу ў Каралеўскі Інстытут Кансэрвацыі Памятнікаў Мінуўшчыны, у якім я працую да сягодняшняга дня.*

*Гарызантальна кар'ера мая была многабаковая. Займаўся кансэрвацыяй археалягічных аб'ектаў, быў на высылках у Алжырыі, у Турцыі (Анатолія) і ў Грэцыі, etc.*

*Ад 1960–61 гг. паставілі мяне ў сэктар сьценнага мастацтва, у 1966 зрабілі сакратаром адміністрацыі. Гэта значыць, "ураднікам I катэгорыі". Намінацыю такіх падпісвае кароль. Так нарэшце мяне паднялі вэртыкальна, я пачаў лепш зарабляць.*

*8 красавіка 1979 года міністар французскай культуры са згодай караля Baudouin*[1475]*, "каб высказаць узнаньне за мае працы", прызналі мне ганаровы тытул: Кавалер Ордэна Кароны.*

*Ну а ў прошлым годзе мае навуковыя працы былі параўнаныя Міністэрствам Асьветы Фламандзкай і Французкай як доктарская дысэртацыя. Пасьля чаго зрабілі мяне загадчыкам працы ў Інстытуце ў дэпартамэньце кансэрвацыі.*

*За год, за два, калі Бог дасьць здароўе, дайду да вышэйшай ступені, трэці пасьля дырэктара, але ўсё гэта мне больш нічога не гаворыць. І здаецца мне, што мая дэвіза "маліся й працуй" давяла да таго, што я астаўся сам. Людзям, якія ідуць уверх, навет сумленнай працай, другія людзі зайздросьцяць, і я гэта часам, або мне здаецца, адчуваю, навет ад знаёмых беларусаў, якія жывуць у Бэльгіі. Менш з тым!*

*Гэта ня вынік працы майго жыцьця, гэта вынік здольнасьцей, якімі абдаравалі мяне бацькі! Вечнае ім за гэта дзякуй. Гэта вынік школы, пачынаючы ад Загорскай, ад Вас — добрага і адданага пэдагога, што яшчэ сёньня адчуваю ў Вашых лістах і таму ўважаю Вас як матку.*

*На падставе напісанага можаце напісаць кароткую спраўку, але, нажаль, бяз здымку, бо ня маю пад рукою. Працую інтэнсыўна ў вялікай*

---

[1473] ***Felicitation*** (фр.) — віншаванне.

[1474] ***Avec distinction*** (фр.) — з адзнакай (як дыплом з адзнакай).

[1475] Маецца на ўвазе **Бадуэн I** (фр. *Baudouin I*, 1930–1933), кароль Бельгіі ў 1951–1993 гг.

*каралеўскай бібліятэцы ў Брусэлю ў пошуках матар’ялу пра Літву і Беларусь, хацеў-бы нешта напісаць пра НАС. Гэта нялёгка.*

*Адзінота мяне не бянтэжыць. Ды я не адзін. Кружацца каля мяне кругом кабеты (хіба падобныя на маю жонку), і Ірэна вельмі мяне любіць.*

*Быў у халоднай грабніцы з XV веку, захварэў на запаленьне лёгкіх. Каб ня Ірэна, дык і памёр-бы. Чуць ня кожны дзень была ў мяне, у яе малы аўтамабіль, так што яна незалежная ад транспарту.*

*Дзякую Вам, цалуючы Вашу руку, як маткі, за добрыя лісты і за добрае Вашае сэрца!*

*Ірэна хацела астацца са мной (ёй 23 гады), а я сказаў, што лепш буду жыць на малой кватэры і даваць ёй грошы (кватэры дарагія), а яна хай жыве ў нашым доме з сваёй мамай. На маю кватэру яна мае ключы. Можа прыходзіць, калі ёй падабаецца. Жонка мая ня хоча даваць разводу, але за паўтары года я магу яго браць аўтаматычна і безь вялікіх коштаў.*

*У газэце “Беларус” быў мой “аўтапартрэт” — артыкул пра мяне Шыманца з Францыі*[1476].

*Айца Смаршчка знаю. “Хваліць тое, што хоча прадаць”.*

*Пасылаю Вам некалькі вершаў, друкуйце адпаведныя, людзям трэба паэзыі.*

*Цалую Вас, вітаю Расьціслава і Валентына.*

*Ваш Міхась».*

Зборнік Міхася Саўкі ніколі не быў выдадзены. Яго вершы, падпісаныя псеўданімамі *М. Наваградзкі, М. Гаротны, М. Г-ны, М. Ярэміч*, далёка не самыя бліскучыя старонкі эміграцыйнай паэзіі. І ўсё ж тры з іх друкуюцца тут — як колькі дадатковых мазкоў да аўтапартрэта мастака.

**Macabre**

Шура, браце мой родны!
Прыслаў мне Ты страшныя здымкі…
Сям’я наша карагодам
пад землю сыходзіць
сьмерці ў абдымкі.
Брат Віцік пайшоў перад Мамай…
Ня слыху, ня дыху ня стала…
І Мама пайшла ў дзіцяці сьляды.
А Папа апошні — як заўсягды…
Нібыта Яго «там» не хапала.

---

[1476] **Уладзімір Шыманец** (1911–1977), грамадскі дзеяч. Ад 1948 г. жыў каля Парыжа. Тут, відаць, маецца на ўвазе артыкул: Шыманец, Уладзімер. Два спатканьні зь Міхалам Саўкам-Міхальскім // Беларус. № 171. Ліпень 1971. С. 5.

Ён майстра…
Паправіць Сыну труну.
І калі я да яго дабрыду…
Ён па-бацькоўскі спаткае…
Скажа мне: «я-ж Табе раіў, сынок
не пакідаць роднага Краю».
Запытае: «Які-ж Цябе чорт завалок
адрачыся ад таго, што мы знаем?»
Шкілетам я ўпаду перад Ім!
…і родная Мама пабачыць,
як у чэрапе пустым маім
пустыя вочы заплачуць.
Сьлязу з магілы
прапхне другая…
…на вонкі…
І пакуль узыйдуць
першыя зоркі
на дзярне магільным
магчыма, кветкі ўзыйдуць…
магчыма, трава…
Магчыма…
На магіле ўкленчыць ціха
твой унук і ўнучка мая…

*Бруксела, 12.XI.79*

**Жыцьцёвая філалогія**

Знаю я па-польскі,
Ведаю па-рускі.
А па-чалавечы
ды па-беларускі
разумею рэчы.
Знаю па-нямецкі,
цікавіць ангельскі…
Навошта? Ня знаю.
Просты хлопец сельскі
Мовы вывучаю.
Вывучу французскі.
Вызубру турэцкі.
Пакіну японскі.
Вазьмуся за грэцкі.
Зтуль прыйшла Культура —

вялікае слова —
узбагаціла мову
і нашага люду.
Скажу адным словам:
вывучыўшы грэцкі,
другіх не забуду…
Калі часу хопіць,
падвучу кітайскі.
Вазьмуся — мімаходам —
так-жа за гэбрайскі.
І пашто мне гэта,
у філолагі пнуцца?
Скажу пад сакрэтам:
каб час каратаці!
Ды каб не рэхнуцца!
Жыву на выгнаньні
хутка ўжо паўвеку.
І пара, пара мне
дадому паехаць.
Калі-ж гэта ня ўдасца,
хай усё возьме трасца!
Калі-ж так ня выйдзе,
дык вывучу ідыш.
Прыйдзе пара, прыйдзе,
і адкажу я крыўдзе.
Я даволі плакаў!
Крыўда, нэм дэ закун!
Крыўда, гей какун!

*3.I.80*

**Непатрэбных рэчаў успамін**

Пішу непатрэбныя рэчы.
Я сам непатрэбны на сьвеце!
Ён безь мяне абыйдзецца.
Куды-ж мне падзецца?
У кветкі вясна апранецца.
Так я апранаўся маладым.
Калі маладым я быў?
Калі Мама была. Калі Папа жыў!
Калі з братам басяком
На манеру Эўкліда

Зямлю пяшком мы мералі…
Калі паважным прафэсарам
Ні на грош мы ня верылі…
Мы тагды «сваё» ў жыцьцё нясьлі.
На жаль, з «свайго» нас вытрасьлі,
Нібыта з рэшата мякіну.
Ну, вось, я хутка згіну.
Але мараў дзяцінства не пакіну!
Бо я, як борзы конь,
Люблю мякіну.

*4.III.81*

# МАСТАК ДАДАТНАЙ І АДМОЎНАЙ ПРАСТОРАЎ: МІКОЛА КАЗАК

## *Да 20-х угодкаў смерці*[1477]

Беларуская паваенная эміграцыя ў Італію была большаю як, да прыкладу, у Галандыю, але значна меншаю ў параўнанні з Даніяй, Бельгіяй ці Швецыяй. У гэтай краіне нібыта і існавала некалькі арганізацый — Беларускае студэнцкае згуртаванне ў Рыме, Беларускае каталіцкае акадэмічнае аб'яднанне «Рунь», рэдакцыя часопіса «Зніч», але ва ўсіх быў аднолькавы адрас — *Via della Transportina*, *18*.

Цэнтрам беларускага арганізаванага жыцця ў Рыме быў гаспадар памяшкання — рэдактар «Зніча», пісьменнік, перакладчык, заснавальнік і дырэктар беларускай секцыі Радыё Ватыкана прэлат Пётра Татарыновіч (1896–1978).

Зрэшты, эміграцыя з Беларусі ў Італію ніколі не была масаваю, ехалі сюды Скарынавым шляхам адзінкі — вучыцца. І ў паваенныя гады сітуацыя бадай што не змянілася (калі, натуральна, не лічыць беларусаў у Другім польскім корпусе) — невялікая купка інтэлігентаў, можа з тузін, мо крыху болей.

Газета «Бацькаўшчына» пісала: *«Сяньня беларусаў у Італіі няшмат. Засталіся толькі студэнты, і тыя, якіх не хацела прыняць ІРО пад сваю апеку. Адносіны італьянцаў да беларусаў, наагул, былі і ёсьць добрыя. Аб гэтым сьведчаць факты, калі італьянцы прымалі пад сваю апеку тых, якіх адкінула ІРО і якім урады адмовілі сваю помач. Беларускія студэнты, якія студыююць на італьянскіх унівэрсытэтах у Рыме, хаця жывуць у вельмі цяжкіх матар'яльных умовах, аднак ужо шырака ведамыя ня толькі ў Рыме, але і ўва ўсёй Італіі.*

*Аб іх творчасьці ўжо многа раз пісалі італьянскія газэты і журналы. Гэтак, ведамы беларус — прафэсар малярства сп. Казак сваімі мадэрнымі, рэвалюцыйнымі малюнкамі перавысіў усіх італьянскіх мастакоў. Ягоныя працы цяпер у Італіі цэняцца вельмі высока. Другі мастак, опэрны сьпявак сп. Конюх, хаця яшчэ і ня выступаў як актор, бо яшчэ канчае студыі, але ўжо шырака ведамы. Ягоны бас будзіць вялікія надзеі сярод спэцыялістаў.*

*Што тычыцца беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Італіі, то яно з прычыны дрэнных матар'яльных умоваў на сяньня ня мае магчымасьцяў на шырэйшае разьвіцьцё»*[1478].

Пятро Конюх (1910–1994), як і незадоўга перад ім, у 1930-я гг., іншы знакаміты спявак Міхась Забэйда-Суміцкі, менавіта ў Італіі вырабіўся на сусветна прызнанага прафесіянала. Тут ён запісаўся ў Акадэмію мастацтваў, дзе у 1951 г. атрымаў дыплом спевака, у 1956 г. — музычнага крытыка і ганаровае званне маэстра акадэміі.

Імя іншага новага рымляніна, згаданага ў тым даўнім артыкуле газеты «Бацькаўшчына», — мастака Міколы Казака — мала што скажа сёння бе-

[1477] Тэкст публікаваўся ў: Новы Час. 11 ліпеня 2014. С. 15.

[1478] Бацькаўшчына. № 16 (60). 5 кастрычніка 1949.

ларусу, хоць вядомасць яго была хай і не ўзроўню Хаіма Суціна або Марка Шагала, але непараўнальна большаю, прыкладам, за Міхася Саўкі ці Пётры Мірановіча.

Нарадзіўся ён 4 верасня 1917 г. у вёсцы Лушча (сёння Лунінецкі раён), у 1935 г. атрымаў стыпендыю на навучанне ў школе мастацтваў у Варшаве, па заканчэнні вучыўся ў іншай школе — вядомага польскага мастака Тадэвуша Кулісевіча (1899–1988).

Паехаўшы адведаць сваякоў у Ленінградзе, Казак заспеў там пачатак вайны, але здолеў усё ж дабрацца да Пінска, дзе па-ранейшаму жылі яго сваякі. Тут ён стаўся сведкам страты сястры і яе сям'і.

У 1942 г. Мікола Казак пераехаў у Баранавічы, тут зноў пачаў маляваць, і тут адбыліся першыя выставы ў 1942–1943 гг. 1944 год ён правучыўся ў Вене, а ў 1945-м — выехаў на студыі ў Мастацкую акадэмію ў Рыме.

Рым падзяліў Казакова жыццё на дзве часткі. У Вечным горадзе малады мастак, вядомы сваімі працамі ў рэчышчы традыцыйнага рэалістычнага мастацтва XIX ст., упершыню сутыкнуўся з мастацтвам абстрактным. Маладзёна прыкмеціў і заапекаваўся ім Энрыка Прампаліні — цэнтральная постаць Другога італьянскага Адраджэння. Мастацтва Казака, аўтара напісанага ў Рыме маніфэста *«Physical Art — Action of Positive and Negative»*, параўноўвалі з творамі расійскіх канструктывістаў і Казіміра Малевіча.

Вітаўт Тумаш змясціў у часопісе «Конадні» тэкст мастака «Фізікальнае мастацтва» па-беларуску:

*«Мастацкае дазнаньне й глыбейшае тэарэтычнае дасьледваньне мастацкага твору наагул ды неразьвязаных яшчэ праблемаў антынатуралістычнага (абстрактнага) мастацтва ў асаблівасьці — прывялі мяне — у 1946–47 гг. — да ўводу ў творства "адмоўнае прасторы", як беспасярэдняга кампанэнту, ды аўтаматычна — да станаўкога і апраўданага адхіленьня кансэрватыўнае канцэпцыі прастакутнага вобразу малярства.*

*Каб зрэалізаваць гэты прынцып, я выкарыстаў дадатную прастору (цьвярдую масу) і адмоўную прастору (паветраную прастору) — два спачатныя фізыкальныя элемэнты — як адзіныя й беспасярэднія ўстаноўнікі твору, роля якіх — узаемна абумаўляць існаваньне адзін аднаго ды пластычную ўспрыймальнасьць цэлае рэальнасьці. У першым творы, што я сканструяваў, я ўжыў дзьве прасторы, дадатную і адмоўную, назваўшы яго "канструкцыяй з дадатнай і адмоўнай прасторы"; у другім творы я ўжыў толькі адмоўную прастору, назваўшы яго "канструкцыяй з адмоўнай прасторы". Двупрасторавая кампазыцыя азначае канструкцыю аднаго элемэнту ў другім, тымчасам як аднапрасторавая (адмоўная) кампазыцыя азначае канструкцыю аднаго фактару, толькі пры дапамозе дадатнае — цьвярдое лініі. Я назваў прадукцыю, заснаваную на гэтых элемэнтах, "фізыкальным мастацтвам"; ейны цьвярды кампанэнт я назваў "дадатнай прасторай", а паветраны кампанэнт — "адмоўнай прасторай"»*[1479].

---

[1479] Конадні. № 5–6. 1958. С. 142.

У 1952 г. Мікола Казак пераехаў у Нью-Ёрк. З гэтай нагоды апякун мастака Вітаўт Тумаш змясціў у «Запісах БІНіМ» (раздзел «Хроніка») наступную інфармацыю:

*«У пошуках за магчымасьцямі мастацкай творчай працы пераехаў у Нью-Ёрк наш суродзіч Мікола Касак. Творчы мастацкі шлях Міколы Касака — гэта кансэнквэтная эвалюцыя ад традыцыйнага малярства да малярства безпрадметнага (non-objective painting), якое ставіць сабе за заданьне раскрываць "нутраную духовую гармонію" (Кандыньскі*[1480]*) наскрозь малярскімі спосабамі, бяз насьледваньня формаў навакольнага сьвету. За мінулых 30 гадоў ад свайго паўстаньня малярства гэта дабілася значных асягненьняў, працаю галоўна такіх майстроў, як Кандыньскі, Мондрыян*[1481]*, Малевіч*[1482]*, Клеэ*[1483]*, Баўэр*[1484]*.*

*Праяваю здабытага прызнаньня для гэтага новага мастацтва ёсьць факт, што ў нова збудаваным гмаху Аб'яднаных Народаў у Ню-Ёрку, у галоўнай салі паседжаньняў, нядаўна былі намаляваныя вялізарныя насьценныя абстрактныя малюнкі францускага маляра Лежэра*[1485]»[1486].

Выставы ў Амерыцы, Італіі, Францыі, Аргенціне і нават Савецкім Саюзе чаргаваліся з наведваннямі Беларускай хаткі ў Брукліне, лекцыямі па мастацтве, хоць у грамадскім жыцці быў Казак не надта актыўным.

Не ў апошнюю чаргу спрычынілася да гэтага, напэўна, малая ўвага беларускае грамады да падобных мастацкіх твораў; яна аддавала перавагу рэалістычным працам Пётры Мірановіча, які быў завалены прыватнымі замовамі — як карцінаў з серыі *«жыццё на бацькаўшчыне»*, так і партрэтаў асобных дзеячаў (напрыклад, Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Сядуры). Мірановіч не абмінаў выпадку пакпіць з абстрактнага мастацтва і самога Казака, які чакаў ад землякоў таго ж прызнання, што здабыў сярод небеларусаў. Ён сышоў, пачаўшы падаваць сябе як народжанага ў Расіі або нават як паляка, за што аднойчы быў ледзь не выкінуты з хаты абураным гэтым фактам Уладзімірам Русаком.

---

[1480] **Васіль Кандзінскі** (рус. *Василий Кандинский*, 1866–1944), расійскі мастак, графік і тэарэтык выяўленчага мастацтва, адзін з заснавальнікаў абстракцыянізму.

[1481] **Піт Мондрыян** (нідэрл. *Pieter Cornelis (Piet) Mondriaan*, 1872–1944), галандскі мастак, адзін з пачынальнікаў абстрактнага жывапісу.

[1482] **Казімір Малевіч** (1878–1935), мастак-авангардыст, адзін з заснавальнікаў супрэматызму — кірунку ў абстрактным мастацтве.

[1483] **Пауль Клее** (ням. *Paul Klee*, 1879–1940), нямецкі і швейцарскі мастак, графік, тэарэтык мастацтва, адна з найбуйнейшых фігур еўрапейскага авангарду.

[1484] Магчыма, маецца на ўвазе **Герберт Баер** (англ. *Herbert Bayer*, 1900–1985), аўстрыйскі і амерыканскі мастак, графічны дызайнер, фатограф.

[1485] **Фернан Лежэ** (фр. *Joseph Fernand Henri Léger*, 1881–1955), французскі мастак, адзін з заснавальнікаў кубізму.

[1486] Запісы БІНіМ. № 2. 1952. С. 123.

Казаку сапраўды было што паказаць: выдадзены ім маніфест *«Physical art: action of positive and negative space»* (Rome, 1947–1948, 1955), альбом *«The art of Kasak. With a foreword by Robert Kramer, commentaries by Marcello Gallian and the artist's own manifesto on physical art»* (New York: October House, 1968), кнігу аўтарства *Bowlt, John E. «From action to dynamic silence: the art of Nikolai Kasak»* (Salt Lake City (Utah), 1991).

З нагоды апошняга альбома ўплывовае выданне *«The Russian Review»* змясціла рэцэнзію Міраславы Мудрак, у якой пісалася літаральна наступнае: *«Nikolai Kasak occupies a unique position within the art world today. He is a champion of the spirit that dictated the international geometric avant-garde of the first two decades of the twentieth century»*[1487].

Праз тры гады па выхадзе альбома, 30 верасня 1994 г., Мікола Казак памёр. Яго творы час ад часу выстаўляліся на аўкцыёнах, былі яны і часткаю выставаў, пра якія паведамляла *«New York Times»*.

Як пісалі крытыкі, філасофія Казака больш блізкая да агучанага Казімірам Малевічам супрэматызму, чым да пазнейшых прынцыпаў канструктывізму. Але свае ідэі ён вынайшаў і сфармуляваў для сябе нашмат раней, як пабачыў творы майстроў гэтых плыняў. У трактаце «Фізікальнае мастацтва» Мікола Казак напісаў так: *«Гэтым выказваньнем я не манюся зьняцэньваць годнасьцяў заснавальнікаў філязофіі "канструкцыі ў прасторы", але, кажучы словамі Габо, "як мастак, я маю права адкідаць вобразы сьвету, створаныя маймі папярэднікамі перада мною, ды шукаць новых вобразаў, сутычных зь іншымі аглядамі жыцьця й прыроды, іншымі рытмамі, адпаведнымі новым духовым і пачуцьцёвым працэсам жыцьця ў нас сяньня, ды выяўленьнем гэтых новых вобразаў я маю права прэтэндаваць на іх як на вобразы рэальнасьці"»*[1488].

[1487] The Russian Review. Vol. 53. № 3. P. 435–436.
[1488] Конадні. № 5–6. 1958. С. 143–144.

# БЕРЛІНСКІ СКАРЫНАЗНАЎЦА: НОРБЕРТ РАНДАЎ

У 2012 г. у Беларусі ў рамках Тыдня Нямеччыны ў Нацыянальнай бібліятэцы пачала працаваць выстава «Францыск Скарына: падарожжа на радзіму». Галоўным экспанатам была скарынаўская Біблія, якая захоўваецца ў Верхнялужыцкай навуковай бібліятэцы ў Гёрліцы. Пра падзею пісалі бадай усе газеты, праўладныя і апазыцыйныя. І толькі лічаныя з іх згадвалі, дзякуючы каму ж гэтая Біблія была адшуканая — гэта доктар Норберт Рандаў.

У артыкуле «Скарына ў Гёрліцы» Рандаў так расказвае гісторыю знаходкі: *«Зь верасьня па лістапад 2003 г. у гёрліцкай гарадзкой бібліятэцы ў рамках Году Бібліі праводзілася выстава. Нямецкая фэдэральная пошта з гэтай нагоды выпусьціла спэцыяльную паштовую марку. Экспанавалася некалькі каштоўных Бібліяў, што захоўваліся ў гёрліцкіх бібліятэках. І калі б выставу не наведаў гёрліцкі супэрынтэндант пастар Лобэрс, яна не прыцягнула б да сябе вялікае ўвагі ў Нямеччыне й за межамі краіны й скончылася безвынікова. Дзякуй богу, што ў Гёрліцы старое выслоўе вучоных Slavica non leguntur*[1489] *ня спраўдзілася. Пастар Лобэрс, які вывучаў расейскую мову й доўгі час правёў у Санкт-Пецярбургу, змог расшыфраваць напісаны кірыліцай загаловак адной зь Бібліяў: “Біблія Руска, выложена Доктором Францыском Скоріной із славнаго града Полоцка, Богу ко чті і Людем посполітым к доброму наученію”.*

*Неўзабаве па заканчэньні выставы ў Наумбургу сабраўся сход тэалягічнага таварыства імя Філіпа Мэлянхтона, на які запрасілі й мяне, не-тэоляга, каб зрабіў там даклад пра беларускую літаратуру. Карыстаючыся выпадкам, пастар Лобэрс і паведаміў мне, што ў Гёрліцы ёсьць Біблія Скарыны»*[1490].

Пра самога ж Норберта Рандава народ паспаліты ведае да крыўднага мала, што і прымусіла звярнуцца да яго з пытаннямі[1491].

*Вашыя лісты, якія даводзілася чытаць, напісаныя такой беларускаю моваю, што не даеш веры, каб іх аўтарам быў не беларус. Скуль гэткае веданне мовы?*

***Н. Р.:*** Канчатковым афармленнем маіх лістоў на беларускай мове я абавязаны швагру Уладзіміру Чапегу[1492]. Беларускаю моваю я валодаю не актыўна, а пасіўна, гэта значыць, па-беларуску я чытаю кнігі, часопісы і га-

---

[1489] ***Slavica non leguntur*** (лац.) — «Славянскае не чытаюць», або «Славянскае не вартае чытання».

[1490] Рандаў, Норбэрт. Скарына ў Гёрліцы // Запісы. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 214.

[1491] Інтэрв’ю адбылося ў кастрычніку 2012 г. Прыкладна за год да смерці Норберта Рандава (1929–2013).

[1492] **Уладзімір Чапега** (1939–2014), перакладчык, сябра Саюза пісьменнікаў СССР.

зеты, хоць пры гэтым мне калі-нікалі даводзіцца карыстацца спецыяльнымі дыялектнымі слоўнікамі. А іх я набыў за мінулыя гады нямала. Бо вядомы пяцітомны слоўнік беларускай мовы ў шасці кнігах не заўжды дапамагае пры чытанні літаратурных тэкстаў. Усе слоўнікі з маёй беларускай бібліятэкі пералічыць не так проста, назаву толькі некаторыя з іх:

Слоўнік мовы Скарыны, у трох тамах, Мінск 1977–1994

І. І. Насовіч, Слоўнік беларускай мовы (рэпрынтнае выданне 1870 года), Мінск 1983

Беларуска-рускі слоўнік (К. Крапіва), Масква 1962

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (пяць тамоў у шасці кнігах), Мінск 1977–1984

Белорусско-русский словарь (К. Крапіва, два тамы), Мінск 1988

Гістарычны слоўнік беларускай мовы (дагэтуль выйшаў 31 том), Мінск 1982–2011

Этымалагічны слоўнік беларускай мовы (дагэтуль выйшлі 13 тамоў), Мінск 1978–2010

Я. Станкевіч, Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак, Мінск 1992

Я. Станкевіч, Беларуска-расійскі слоўнік, New York, без указання года выдання, 1305 стар.

М. Байкоў, С. Некрашэвіч, Беларуска-расійскі слоўнік, Менск 1925

В. Ластоўскі, Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік, Коўна 1924

І. К. Бялькевіч, Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны, Мінск 1970

Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парганічча (пяць тамоў), Мінск 1979–1986

Тураўскі слоўнік (пяць тамоў), Мінск 1982−1987

Ніна Гілевіч, Дыялектны слоўнік, Мінск 2005

А. Я. Баханькоў і інш., Тлумачальны слоўнік беларускай мовы для сярэдняй школы, Мінск 1966

Ф. Янкоўскі (выд.), Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы, Мінск 1960

Р. Яўсееў, Маці казала так… З гаворкі Бялыніцкага раёна, Мінск 1978

С. М. Грабчыкаў, Беларуска-рускі слоўнік (трэцяе выданне), Мінск 1991

З. Санько, Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем, Мінск 1991

В. П. Лемцюгова (выд.), Слоўнік мовы «Нашай Нівы» 1906–1915 (у пяці тамах, дагэтуль выйшлі першыя два тамы), Мінск 2003–2007

В. П. Лемцюгова, Украінска-беларускі слоўнік, Мінск 1980

Друцкі-Падбярэскі, Падручны беларуска-польскі слоўнік, Вільня 1929

К. Любецкая, З гісторыі нямецка-беларускай, беларуска-нямецкай лексікаграфіі і тэрмінаграфіі, Мінск 2002

У. І. Марцінеўскі, П. В. Садоўскі (выд.), Нямецка-беларуска-рускі слоўнік (другое выданне), Мінск 1990

М. Кур'янка, Нямецка-беларускі слоўнік, Мінск 2006

М. Кур'янка і інш., Беларуска-нямецкі слоўнік, Мінск 2010

В. Кіпель, З. Саўка, Беларускія слоўнікі й энцыкляпедыі, Нью Ёрк — Менск 2001.

Акрамя таго, у мяне ёсць яшчэ шэраг невялічкіх слоўнікаў да паасобных аўтараў ці паасобных дыялектаў. Без таго ці іншага з вышэйпрыведзеных слоўнікаў я не змог бы перакласці ўсяго, што мною зроблена дагэтуль (большасць маіх перакладаў узнікла ў супрацоўніцтве з маёю сястрою і маім шваграм). Але я, на жаль, пакуль што не набыў некалькіх важных слоўнікаў, якія выйшлі ў 2011 і 2012 гадах.

Так што вашая пахвала ведання мною беларускай мовы тычыцца ў першую чаргу майго швагра. Аднак пасля перакладу на нямецкую мову невялікага рамана А. Кудраўца[1493] «Радуніца» я, напрыклад, атрымаў ад выдавецтва хвалебны водзыў, у якім гаворка ідзе, праўда, пра нямецкую мову перакладу. Выдавецтва напісала мне, што яно ўпершыню мела справу з перакладам, які быў аддадзены імі ў друк без ніякіх рэдакцыйных паправак.

*Хацелася б даведацца пра Вашую сям'ю, пачуць гісторыю Вашага жыцця.*

***Н. Р.:*** Мне здаецца, што ў падрабязным адказе на гэтае Вашае пытанне я мусіў бы расказаць Вам бадай усю сваю біяграфію. А гэта было б болей, чым якісьці раман. Жанаты я з Тэдай, якая родам з горада Фленсбурга на паўночным захадзе Нямеччыны ў непасрэднай блізкасці ад Даніі. Да падзення берлінскай сцяны ў 1989 годзе мы амаль чвэрць стагоддзя жылі асобна па розныя бакі гэтай жахлівай мяжы і ўвесь час верылі, што такое становішча не можа цягнуцца вечна, што ненатуральны падзел Нямеччыны не апошняе слова ў рашэнні так званага нямецкага пытання.

У нас ёсць сын, які нарадзіўся ў Заходнім Берліне і якога я ўпершыню пабачыў толькі праз некалькі дзён пасля яго нараджэння, калі ягоная маці прыехала да мяне ва Усходні Берлін. Сын жыў з маці на Захадзе да аб'яднання Нямеччыны. Сумеснае сямейнае жыццё ў нас было толькі тады, калі яны час ад часу — і за немалую плату — наведвалі Усходні Берлін ці калі мы ездзілі ў Балгарыю, дзе часта жылі месяцамі.

Я інстынктыўна адмоўна ставіўся да нацысцкага панавання і канец вайны ўспрыняў як сапраўднае вызваленне ад нацызму. Я тады верыў, што для пераадолення нацыянал-сацыялізму і адбудовы Нямеччыны мне неабходна стаць членам Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі. Але з цягам часу рэальнасць жыцця ўсё мацней сведчыла, што гэтая вера ілюзорнасць. Я стаў гаварыць аб гэтым адкрыта, што зрабілася вядомым службе бяспекі, і на пачатку 1962 года мяне арыштавалі і прысудзілі да турэмнага зняволення тэрмінам на тры гады.

Раней, у 1949 годзе, я скончыў класічную гімназію ў Нойштрэліцы, дзе мы на працягу васьмі гадоў восем гадзін на тыдзень займаліся лацінскай

[1493] **Анатоль Кудравец** (1936–2014), пісьменнік, перакладчык, кінасцэнарыст.

і шэсць гадзін старажытнагрэчаскай мовамі. Таму ў нас меней вучэбных гадзін адводзілася на фізіку і матэматыку.

Пасля школы я пачаў вывучаць славістыку спачатку ў Ростаку, а потым у Берліне. Скончыўшы вучобу ў Берлінскім універсітэце імя Гумбальта, я стаў аспірантам па спецыяльнасці «Балгарская літаратура» і першы год аспірантуры правёў у Балгарыі. Да 1961 года я кожны год жыў у гэтай краіне некалькі месяцаў.

Пасля турэмнага зняволення ўлады ГДР забаранілі мне працаваць у дзяржаўных установах на любой пасадзе, і асабліва выкладчыкам, таму я быў вымушаны зарабляць на жыццё перакладамі. У гэты час я пераклаў шэраг самых значных твораў балгарскай літаратуры XVIII і XIX стагоддзяў.

Калі ў сярэдзіне 1960-х гадоў мая малодшая сястра выйшла замуж за беларуса, то я, зразумела, захацеў даведацца, з якім народам яна параднілa мяне, і пачаў інтэнсіўна вывучаць беларускую мову і знаёміцца з беларускай культурай і літаратурай. Першай беларускай кнігай, якую я чытаў у арыгінале з дапамогаю майго швагра, была «Мёртвым не баліць» Васіля Быкава.

Такім чынам, забарона мне займаць у ГДР якую-небудзь сталую пасаду прынесла ў выніку процілеглы, чым планавалася ўладамі, эфект. Пачынаючы з 1975 года я некалькі разоў наведваў Беларусь і наладзіў сяброўскія сувязі з пісьменнікамі, вядомымі мне дагэтуль толькі па іх творах: Р. Семашкевічам, А. Мальдзісам, Я. Брылём, Я. Скрыганам, Н. Гілевічам, У. Арловым і некаторымі іншымі. Акрамя таго, я вёў актыўную перапіску з Уладзімірам Дубоўкам, які пасылаў мне ўсе свае творы. Перапісваўся я і з шэрагам беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, у першую чаргу з тымі, што жылі ў ЗША, напрыклад, з Н. Арсеньневай, З. і В. Кіпелямі, Я. Запруднікам і М. Сяднёвым. Некалькі разоў я па запрашэнні беларускага пісьменніка з Польшчы С. Яновіча ўдзельнічаў у канферэнцыях літаратараў, якія той ладзіў на сваёй радзіме ў Крынках. У яго штогодніку «Год беларускі» надрукаваны некалькі маіх артыкулаў і перакладаў. У 1970-я гады у мяне на працягу двух тыдняў гасцяваў А. Мальдзіс с сынам. З Н. Гілевічам я пазнаёміўся ў Балгарыі, і калі мы сустракаемся ці тэлефануем адзін аднаму, то размаўляем паміж сабою на балгарскай мове.

*Што са зробленага Вамі ў беларусістыцы лічыце найбольш важным?*

***Н. Р.:*** Што датычыцца маіх перакладаў, зробленых сумесна з маёю сястрою і маім шваграм, то я адсылаю Вас да «Запісаў беларускага інстытута навукі й мастацтва», нумар 29, 2005 год, стар. 242–257, дзе надрукавана нашая бібліяграфія. Я лічу маёй важнейшай працай у галіне беларусістыкі выданне дзвюх анталогій беларускага апавядання («Буслы над балотамі» ў 1971 годзе і «Малады дубок» у 1987 годзе). У гэтых анталогіях я пазнаёміў нямецкага чытача перш за ўсё з аўтарамі, якія сталі ахвярамі сталінскага тэрору ці ў гады з'яўлення анталогій не былі яшчэ зноў уключаныя ў канон беларускай літаратуры, як, напрыклад, А. Гарун.

*У «Запісах БІНІМ» друкаваўся Ваш артыкул пра знаходку Скарынаўскай Бібліі. Быў працяг гісторыі?*

***Н. Р.:*** Экзэмпляр Скарынаўскай Бібліі, знойдзены мною ў горадзе Гёрліц і не зафіксаваны дагэтуль у ніводнай адпаведнай бібліяграфіі, у сучасны момант знаходзіцца з дырэктарам Гёрліцкай навуковай бібліятэкі на выставах у Мінску і Полацку[1494]. У Нямеччыне я змясціў пра знаходку гэтай Бібліі некалькі артыкулаў у друку і пазнаёміў з ёю навукоўцаў, запрошаных на імпрэзу ў Міністэрства замежных спраў Германіі. У сталіцы Балгарыі Сафіі я прачытаў даклад пра сваю знаходку на міжнароднай канферэнцыі славістаў.

*У пачатку 90-х гадоў Вы пісалі, маючы на ўвазе культуру, што Беларусь у Нямеччыне — terra incognita. Цяпер сітуацыя змянілася?*

***Н. Р.:*** Беларусь цяпер дзякуючы А. Лукашэнку, які з 1994 года займае ў ёй пасаду прэзідэнта, не такая ўжо *terra incognita* ў Еўропе і Нямеччыне. Гэта, аднак, не тычыцца знаёмства немцаў з культурай Беларусі, тут сітуацыя значна не змянілася, хоць, праўда, апошнім часам некаторыя нашыя энтузіясты спрабуюць наблізіць беларускую культуру і літаратуру да немцаў, як, напрыклад, малады славіст Т. Вайлер.

*Ці ўваходзіць сёння беларуская літаратура ў кола Вашых навуковых зацікаўленняў?*

***Н. Р.:*** Беларуская літаратура, зразумела, па-ранейшаму ўваходзіць у кола маіх навуковых інтарэсаў. Я ўвесь час сачу за яе развіццём, што для мяне магчыма дзякуючы дзвюм газетам («Наша Ніва» і «ЛіМ»), некалькім часопісам і важнейшым кніжным навінкам, якія я дзякуючы сябрам і родзічам майго швагра рэгулярна атрымліваю з Мінска. Што тычыцца перакладаў, то ў апошнія гады мы пераклалі раман М. Гарэцкага «Дзве душы», ён гатовы да друку, але, на жаль, мне пакуль што не ўдалося знайсці выдавецтва, якое б надрукавала яго ў Нямеччыне[1495].

*За гады працы ў Вас, напэўна, сабраўся немалы архіў, лісты, фотаздымкі. Вы ж былі знаёмы з В. Быкавым. Не плануеце яго неяк аформіць, мо надрукаваць штосьці?*

***Н. Р.:*** Вы маеце цалкам рацыю, у мяне сабраўся немалы і цікавы архіў лістоў, фатаздымкаў і іншых матэрыялаў, які мае адносіны да Беларусі. Мой балгарскі архіў, напрыклад, з бібліятэкай, якая налічвае каля 10 000 кніг, мноства газет і часопісаў, і лістамі амаль усіх значных балгарскіх пісьменнікаў апошніх шасці дзесяцігоддзяў я перадаў Берлінскаму ўніверсітэту імя Гумбальта, дзе яго апрацуюць згодна з бібліятэчнымі правіламі і потым

---

[1494] Выставы знойдзенай у Гёрліцы Скарынавай кнігі адбываліся ў Беларусі ў кастрычніку 2012 г.

[1495] Нямецкі пераклад аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы» пабачыў свет у 2015 г. у нямецкім выдавецтве «Guggolz».

паставяць у інтэрнэт. На жаль, я дагэтуль яшчэ не знайшоў універсітэта ў Нямеччыне, які згадзіўся б узяць маю беларускую бібліятэку і мой беларускі архіў, адпаведна апрацаваць іх і зрабіць даступным для зацікаўленых асоб.

*Пераклаў з нямецкай на беларускую мову*
*Уладзімір Чапега*

## Лісты доктара Рандава да доктара Кіпеля

Бэрлін, 9.11.91 г.

Шматпаважаны пан Кіпель,

прайшло ўжо пяць месяцаў з таго часу, як я ўпершыню ўбачыў Вас у пана Адама Мальдзіса[1496] ў Менску на Першым кангрэсе міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. А раней Вы і Вашы нью-ёрскія «Запісы» былі для мяне легендаю, дарога да якой была мне зачынена. Павінен прызнацца Вам, што вечар у Адама Мальдзіса, дзе мне пашчасьціла асабіста пазнаёміцца з Вамі і Вашаю жонкаю, зрабіў на мяне моцнае ўражаньне — не ў апошнюю чаргу й таму, што Вы былі знаёмы з маёю сьціплаю працаю па пашырэньню беларускай літаратуры ў Германіі, а гэта зьяўлялася і зьяўляецца моцным стымулам для маёй далейшай працы.

Магчыма, Вы чыталі ў адным з апошніх нумароў «ЛіМ»а ў артыкуле пана Адама пра тыя пляны, якія я маю намер ажыцьцявіць у галіне пашырэньня беларускай літаратуры ў Германіі. Адну рэч толькі забыўся нагадаць пан Адам: мне ўдалося пераканаць радыёстанцыю *Westdeutscher Rundfunk* у Кёльне зрабіць 45-мінутную перадачу аб беларускай лірыцы. Гэтую перадачу даручылі падрыхтаваць мне. У перадачы будзе прадстаўлена па пяць-шэсьць вершаў пяці беларускіх паэтаў, а таксама кароткая размова зь імі пра іх жыцьцё й творчасьць. Дзе такая размова немагчыма — адпаведна мае словы пра тое і другое.

У сувязі з гэтым мая просьба да Вас: адным з пяці аўтараў я хачу ўзяць Натальлю Арсеньневу. Але я ведаю толькі нямногія яе вершы; я ведаю яе ўспаміны, якія зьявіліся ў газэце «Бацькаўшчына», я ведаю рэцэнзію на яе першы зборнік вершаў, якая ў свой час зьявілася ў Германіі, але, на жаль, я ня ў стане зрабіць вывады аб усёй яе творчасьці. Ці не маглі-б Вы прыслаць мне яе кнігу, якая некалькі гадоў таму назад выйшла ў Нью-Йорку[1497]? Яна была-б для мяне тою асноваю, на якой я мог-бы рыхтаваць радыёперадачу. Я ня ведаю, як адчувае сябе пані Арсеньнева — магчыма, яна зможа адказаць мне на касэце на некалькі маіх пытаньняў? Калі Вы думаеце, што яна згодзіцца з гэтым,

---

[1496] **Адам Мальдзіс** (нар. 1932), літаратуразнаўца, гісторык, пісьменнік, журналіст, доктар філалагічных навук, прафесар.

[1497] Маецца на ўвазе кніга: Арсеньнева, Натальля. Між берагамі: Выбар паэзіі. Нью Ёрк — Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

я ласкава папрасіў-бы Вас даць мне яе адрас, каб я сам асабіста змог зьвярнуцца да яе.

І яшчэ адна ў мяне просьба да Вас — магчыма, Вы помніце гэта, бо мы па дарозе дадому ад пана Адама гаварылі пра гэта — мне патрэбна копія рэцэнзіі на маю анталёгію *«Storche uber den Sumpfen»* (1971)[1498]. У ёй, як мне здаецца, гаворка ідзе перш за ўсё пра Я. Коласа. Вы нагадваеце яе, здаецца мне, у Вашай бібліяграфіі «Купала і Колас на Захадзе». На жаль, у мяне гэтай бібліяграфіі няма, няма яе і ва ўсім Бэрліне, як няма кнігі Глыбіннага *«Vierzig Jahre Weisruthenischer Kultur Unter deu Sowiets»*[1499] (Munchen, 1959). Нідзе ў Бэрліне нельга таксама знайсьці і Вашы «Запісы», а яны былі-б вельмі карыснымі для тых нямногіх, хто тут займаецца беларускай літаратурай.

Цяпер я працую над эсэ аб беларускай літаратуры для *Kindlers Neues Literatur Lexikon* (у 20 вялікіх тамах). Энцыкляпэдыю выдае мюнхэнскае выдавецтва Кіндлера. На вялікі жаль, мяне там *«знайшлі»*, калі яны рыхтавалі артыкулы на літару «R», і мне ўдалося яшчэ толькі зьмясьціць артыкулы пра Алеся Разанава і Францыска Скарыну (а яны нават не плянаваліся!). І вось цяпер я пішу, як я ўжо казаў, эсэ пра разьвіцьцё беларускай літаратуры, а ў дадатковым томе зьмяшчу зьвесткі аб пяці ці шасьці беларускіх пісьменьніках. Калі ў Вас знойдзецца магчымасьць даслаць мне некалькі Вашых публікацыяў, я буду Вам выключна ўдзячны.

З найлепшымі ўспамінамі аб Вас, Вашай жонцы і з сардэчным прывітаньнем застаюся шчыра шануючы Вас

*Norbert Randov*

27.12.91

Шматпаважаны спадар Кіпель,

празь некалькі дзён пасьля таго, як я адправіў Вам ліст, у якім падзякаваў за абедзьве прысланыя Вамі мне кніжкі (Глыбіннага і «Беларускі Сьвет»), прыйшоў новы ліст з тым нумарам газэты «Беларус», дзе зьявілася рэцэнзія на «Буслоў над балотамі». І за гэта вялікі дзякуй! А за тое, што гэта сама газэта, а ня копія, я асабліва ўдзячны Вам! Рэцэнзія мне вельмі спадабалася. Як цяжка было надрукаваць пасьляслоўе да кнігі такім, як у маім арыгінале, Вы зразумееце, калі прачытаеце рэцэнзію, заказаную на яго выдавецтвам аднаму вядомаму ў свой час у ГДР славісту. Я пашлю Вам асобна яе копію, якую выдавецтва, слава Богу, не паслала куды-небудзь далей. Тым ня менш я пасьля гэтага быў вымушаны сёе-тое зьмяніць, сёе-тое дадаць — бяз гэтага выда-

[1498] Гл.: Störche über den Sümpfen: Belorussische Erzähler. Berlin: Verlag Volk und Welt/Kultur und Fortschritt, 1971. — 504 s.

[1499] Гл.: Hlybinny, Ul. Vierzig Jahre Weisruthenischer Kultur Unter deu Sowiets. Munchen: Institut zur Erfoschung der UdSSR, 1959. — 145 s.

вецтва не згаджалася друкаваць пасьляслоўе. Гэтыя *«папраўкі»* лёгка пазнаць — і па стылі, і па зьмесьце. Як бачыце, у былой ГДР ня зусім проста было апублікаваць штосьці разумнае і аб'ектыўнае аб разьвіцьці беларускай літаратуры.

Спасылаючыся на Вашую ласкавую прапанову зьвяртацца да Вас, калі мне спатрэбяцца другія працы беларускіх аўтараў у ЗША, я хацеў-бы цяпер спытацца ў Вас, ці нельга яшчэ знайсьці кнігу Ул. Сядуры *«The Byelorussian Theater and Drama»* (New York, 1955). Больш як дваццаць гадоў таму назад я чытаў яе (удалося атрымаць па міжбібліятэчным абмене зь Мюнхэнскай бібліятэкі), але ня мог зрабіць тады падрабязных выпісак. Мне хацелася-б, каб гэтая кніга была ў маім асабістым карыстаньні — яшчэ як і неабходнае дапаўненьне да «Гісторыі беларускага тэатру»[1500] ў трох тамах, якая выдадзена ў Менску некалькі гадоў таму назад.

І, акрамя таго, я хацеў-бы сказаць некалькі слоў у сувязі з рэцэнзіяй спадара Станкевіча, менавіта наконт *«сярэдняга брата»* ў казцы «Дудар». 1. Ці ёсьць выказваньне Якуба Коласа, якое сьведчыць аб тым, што пад *«сярэднім братам»* разумець трэба паляка? 2. Немцам бліжэй тлумачэньне, што тут маецца на ўвазе ўкраінец, бо ўкраінцы ўсё-такі пры Габсбургах дасягнулі даволі высокага ўзроўню матэрыяльнага і духоўнага разьвіцьця. Палякаў у Нямеччыне заўсёды лічылі народам, які ні ў чым не саступаў рускім, ні ў матэрыяльных, ні ў духоўных адносінах, і такім чынам, ня мог лічыцца *«сярэднім братам»*. Па гэтай прычыне — і яшчэ таму, што ўкраінцы як усходнеславянскі народ хутчэй маглі быць *«братамі»* рускіх і беларускіх, чым заходнія славяне палякі. *«Сярэдні брат»* у маім уяўленьні быў украінцам. Канечне, тое, што ён разам са старэйшым братам сьмяецца з малодшага, можа сьведчыць на карысьць паляка, і калі сам Колас дзе-небудзь выказаўся ў тым сэнсе, што пад *«сярэднім братам»* ён мае на ўвазе паляка, — я ахвотна папраўлюся.

З найлепшымі пажаданьнямі здароўя Вам і Вашай жонцы ў новым годзе

Застаюся Ваш *Norbert Randov*

[1500] Маецца на ўвазе выданне: Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Мінск: Навука і тэхніка, 1983–1987.

18.1.92

Шматпаважаны спадар Кіпель,

некалькі дзён таму назад, калі я толькі што пасьля кароткачасовага знаходжаньня ў Сафіі вярнуўся дадому, мяне ўжо чакаў прысланы Вамі вялікі пакунак зь першымі шаснаццацьцю нумарамі «Запісаў БІНІМ». Радасьць сваю я не магу выказаць словамі. Гэта самы дарагі набытак, якім у апошнія гады папоўнілася мая бібліятэка. Шкада толькі, што гэтага багацьця ня было ў маім распараджэньні ўжо раней (ва ўсім Бэрліне нумароў з дванаццатага па дзевятнаццаты пакуль што няма ні ў воднай бібліятэцы, а нумары зь першага па адзіннацаты ёсьць — я тым часам даведаўся — толькі ў розных бібліятэках у былым заходнім Бэрліне!). Але лепш позна, чым наогул ніколі. Бо «Запісы»-ж ня проста абавязкова неабходны карэктыў да ўсяго таго, што з'явілася ў Менску пасьля Другой сусьветнай вайны — у іх, акрамя таго, зьмяшчаецца столькі арыгінальных і важных матэрыялаў, што бязь веданьня іх любая спроба заняцца пытаньнем разьвіцьця беларускай культуры можа прывесьці ўсяго толькі да аднабаковых вынікаў. Гэта датычыцца, між іншым, і лонданскага *«The Journal of Byelorussian Studies»*. І ў вышэйшай ступені сумна, што чагосьці падобнага няма ў Нямеччыне. Застаецца, аднак, спадзявацца, што цяпер, калі аб'яднанай Нямеччыне трэба наладжваць новыя, сяброўскія адносіны са сваімі ўсходнімі суседзямі, цікавасьць да Беларусі будзе расьці, і беларуская культура зойме належнае месца ў сьвядомасьці нямецкага народу. Першыя адзнакі гэтага прынамсі ўжо ёсьць. І ня толькі тое, што ў унівэрсытэтах Мюнстэру, Бэрліну, Кёльну і ў іншых імкнуцца забясьпечыць заняткам беларускай культуры сталае месца, — заплянаванае адкрыцьцё Эўрапэйскага Унівэрсытэту ў Франкфурце на Одэры дазволіць, канечне -ж — і не ў апошнюю чаргу — зьвярнуць асаблівую ўвагу на Беларусь. Вядома, усё гэта будзе залежаць ад палітычнага разьвіцьця ў бліжэйшыя гады і перш за ўсё ад таго, як будзе ісьці ў далейшым цяперашняе Адраджэньне. Як бачыце, я крыху адхіліўся ад тэмы — выказаць радасьць і ўдзячнасьць за Вашу пасылку. Але *«wes das Herz voll ist, des geht der Mund uber»* — як пераклаў гэтае месца з Эвангельля ад Матфея (12, 34[1501]) Марцін Лютэр. Яшчэ раз сардэчны Вам дзякуй за Ваш выключна шчодры падарунак, які — хочацца спадзявацца — дасьць свой плён.

З найлепшымі пажаданьнямі Вашай жонцы й Вам застаюся

Ваш *Norbert Randov*

---

1501 «Ад паўнаты сэрца і вусны гавораць» (Мат. 12:34).

24.1.92 г.

Глыбокапаважаны спадар Кіпель,

і вось нарэшце прыйшоў апошні Ваш пакунак кніжак — усе сем нумароў часопіса «Конадні» і вельмі цікавая для мяне анталёгія «Ля чужых берагоў». Ня ведаю, як Вам і дзякаваць; проста, мабыць, няма для гэтага дастатково моцных слоў. Калі зьніклі неадольныя межы паміж усходам і захадам, дык стаў магчымым і доступ да крыніц, якіх гэтак не хапала мне раней у час маёй працы. І сёньня я асабліва рады, што магу скарыстаць ня толькі «Запісы», але і «Конадні» і анталёгію пры падрыхтоўцы майго артыкулу аб беларускай літаратуры для літаратурнай энцыкляпэдыі Кіндлера.

Для разьвіцьця беларусістыкі ў Нямеччыне пакуль што, на жаль, не хапае многа чаго. Найбольш адчувальны недахоп беларускай літаратуры. Нядаўна мой пляменьнік прывёз мне зь Мінска шэраг мікрафішаў зь беларускіх газэт і часапісаў, зробленых А. Жынкіным, якога Вы, мусіць, ведаеце. Гэтымі матэрыяламі зацікавілася нямецкая дзяржаўная бібліятэка ў Бэрліне. Паступова, як бачыце, у нас узьнікае цьвёрды фундамэнт, на якім мы можам узводзіць добры будынак беларусістыкі ў Нямеччыне.

Праз тры гады ў Бэрліне будзе праводзіцца выстаўка «Балгарыя вачыма немцаў». Цяпер ідзе падрыхтоўка да яе. Гэтая выстаўка прызначана зьвярнуць увагу немцаў да незаслужана забытай краіны, якая доўгі час была надзейным партнёрам Нямеччыны на паўднёвым усходзе Эўропы і цікавасьць да якой у заходняй часцы Нямеччыны ў апошнія сорак гадоў рэзка зьменшылася. Магчыма, пазьней удасца прыцягнуць увагу нашай грамадзкасьці да падобнай выстаўкі аб Беларусі, якая ў Нямеччыне з усіх славянскіх краін, на жаль, застаецца сёньня самай вялікай *terra incognita*. Але пакуль што гэта толькі мара на будучае. Бліжэйшае-ж канкрэтнае дзеяньне — гэта тыдзень беларускай літаратуры ў Бэрліне ў маі гэтага года. На яго запрошаны сем аўтараў. Больш падрабязна аб гэтым напішу крыху пазьней.

Дазвольце мне яшчэ раз шчыра, ад усяго сэрца падзякаваць Вам за Вашу каштоўную пасылку! З найлепшымі пажаданьнямі Вашай жонцы і Вам застаюся

Ваш *Norbert Randov*

16.3.1992 г.

Глыбокапаважаны спадар Кіпель,

найсардэчны Вам і Вашай шаноўнай жонцы дзякуй за яшчэ адзін пакунак з кнігамі. Ён быў для мяне вялікай нечаканасьцю, і пагэтаму я абрадаваўся ўдвайне; карысьць-жа для мяне якраз ад гэтых трох кніжак надзвычайная. Тое, што Вы змаглі знайсьці кнігу Сядуры аб *«The Byelorussian Theater and Drama»*, якая зьявілася ў сьвет 27 гадоў

назад, я лічу проста цудам. Вельмі рады я і *«The Byelorussian Tristan»*[1502]. Нядаўна ў аднаго майго сябра я бачыў кнігу *«Il Tristano Biancorusso» Emanuela Sgambati*, выдадзеную дзевяць гадоў таму назад. Я быў сабраўся ўжо напісаць прафэсару *Picchio*, каб папрасіць яго прыслаць яе мне — і тут вось прыходзіць вельмі сьцісла пераклад Вашай жонкі, які для мяне, зразумела, куды больш прыдатны, чым італьянскі тэкст. Я не моваэнавец, і таму цікавасьць да старажытнага беларускага тэксту ў мяне на другім месцы; пераклад-жа я, зразумела, намнога ахвотней чытаю на мове, якую разумею лепей, чым італьянскую (хоць нядаўна я разабраўся, праўда, зь некаторымі намаганьнямі, у доўгай рэцэнзыі *G. Brodi-Berkoff* на кніжку Я. Парэцкага аб Саламоне Рысінскім[1503]). Вялікая асалода была для мяне чытаць сьціслую зьместоўную прадмову да рамана аб Трыстане. Дый па афармленьню кніга гэтая сапраўдны скарб. І нарэшце складзеная Вамі кніга *«Byelorussian Statehood»*[1504] з ласкавым прысьвячэньнем. Перш за ўсё прачытаў біяграфіі, бо некаторыя імёны ў маёй памяці існавалі як проста схемы (а сёе-тое імя і цяпер яшчэ застаецца схемаю, як, напрыклад, на фатаграфіі на стар. 70 Ладноў[1505], Бяляеў і Дубейкоўскі[1506] — ці мае ён якоенебудзь дачыненьне да Ю. Вітан-Дубейкаўскай з трэцяга нумару часопіса «Конадні»?). Ёсьць у мяне пытаньне і да разьдзела *«Newspapers and Periodicals»*. Нядаўна я атрымаў копію газэты «Звон»[1507] (яе назва сустрэлася мне дагэтуль толькі аднойчы ў двухрадковай заўвазе Антона Адамовіча). Тут я мог бы доўга гаварыць пра навуковападобнасьць літаратуры аб Я. Купале — і ня толькі аб ім, якая выдадзена ў БССР, але цяпер гэтаму, хочацца спадзявацца, прыйшоў канец. Пытаньне ў мяне вось якое: хто такая Ядв. Луцэвіч? У першых пяці нумарах газэты рэдактарам-выдаўцом значыцца Янка Купала, ва ўсіх наступных Ядв. Луцэвіч (Лёсік, між іншым, не). Можа, гэта псэўданім? Ці гэта хто з Купалаўскай сям'і? *«Штодзённая часопісь»* зьяўлялася спачатку з-за недахопу паперы тры разы на тыдзень, і толькі з дваццаць другога нумару яна — у іншым фармаце — пачала выходзіць кожны дзень. Але я, мусіць, не адкрываю Вам Амэрыкі, бо тым часам гэтая газэта ёсьць, мабыць, і ў Вас.

---

[1502] Маецца на ўвазе кніга: Kipel, Zora. The Byelorussian Tristan. New York — London. 1988. — 163 p.

[1503] Маецца на ўвазе кніга: Порецкий, Яков. Соломон Рысинский = Solomo Pantherus Leucorussus: Конец XVI — нач. XVII в. Минск: Изд-во БГУ, 1983. — 156 с.

[1504] Маецца на ўвазе кніга: Byelorussian Statehood. New York, 1988. — 398 p.

[1505] **Яўген Ладноў** (? — пасля 1932), грамадска-палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Беларускага камітэта ў Варшаве на пачатку 1920-х гг.

[1506] Маецца на ўвазе Лявон Дубейкаўскі.

[1507] **«Звон»** — штодзённая палітычна-эканамічная і літаратурная газета, што выходзіла ў Мінску ў 1919 г.

Выключна цікаваю была для мяне хрэстаматыйная частка Вашай кнігі, і я быў рады чытаць гэтыя так добра падабраныя і ясна ўпарадкаваныя матэрыялы.

На днях я скончыў нарыс аб беларускай літаратуры для Кіндлераўскай літаратурнай энцыкляпэдыі. На жаль, я марна шукаў бібліяграфію беларускай літаратуры ў эміграцыі (для бібліяграфіі ў канцы артыкула); я толькі наткнуўся на «Паказьнік беларускіх выданьняў на Чужыне за 1945–1950 гг.», *New York*, 1952, хоць я ніколі не трымаў яго ў руках). Можа, ёсьць больш позьняя бібліяграфія ўсіх беларускіх публікацый у эміграцыі? Шкада, што я не знайшоў і бібліяграфіі кніг і часапісаў, якія выдаваліся ў пэрыяд паміж сусьветнымі войнамі ў Польшчы і ў прыбалтыйскіх дзяржавах. Няўжо яе наогул няма? Мне цяжка ўявіць сабе гэта. Ці не маглі-б Вы тут дапамагчы мне? Аб белетрыстычных выданьнях кніг у паваеннай Польшчы толькі што зьявілася невялічкая бібліяграфія ў 52-м нумары (за 1991 г.) беластоцкай «Нівы»[1508], але гэта Вам, канечне, вядома.

І яшчэ адна ў мяне ёсьць просьба: у Вашай бібліяграфіі «Янка Купала і Якуб Колас на захадзе» я натрапіў пад нумарам 1324 на артыкул Ст. Ст. аб коласаўскай казцы «Дудар»[1509], а пад нумарам 1325 на яго выступленьне па радыё аб Гарэцкім[1510]. Ці не маглі-б Вы прыслаць мне іх копіі? Менавіта ацэнка Ст. Станкевічам Гарэцкага, як гэта сьведчыць з Вашай анатацыі, поўнасьцю супадае з маёю, і пагэтаму гэтае выступленьне мяне вельмі цікавіць.

Яшчэ раз сардэчны Вам дзякуй! З мноствам прывітаньняў Вам і Вашай жонцы застаюся

Ваш *Norbert Randov*

9.10.92

Шматпаважаны спадар Кіпель,

ужо ў які раз Вы даеце мне магчымасьць пачынаць свой ліст з сардэчнай падзякі Вам — некалькі дзён таму назад я атрымаў новы выпуск «Запісаў» разам са старой бібліяграфіяй М. Панькова. Першае, што мне кінулася ў вочы ў «Запісах», дык гэта зьмена ў напісаньні слова *«беларускі»*: з *«Byelorussian»* стала *«Беларусіан»*. У нямецкай мове я пакуль што бачу шэраг праблем з дасягненьнем аднолькавага напісаньня гэтага слова. Выдавецтвы мастацкай літаратуры ў былой ГДР

---

[1508] **«Ніва»** — беларуская газета, што выдаецца у Беластоку (Польшча) ад 1956 г.

[1509] Маецца на ўвазе скрыпт для радыёвыступу: Станкевіч, Ст. Забароненая й сяньня «Казка жыцьця» — «Дудар» // Радыё «Свабода». Нью-Ёрк, НЁБР, 5877. 22 сакавіка 1975. — 5 с.

[1510] Станкевіч, Ст. Трэйці том «Выбраных твораў» Максіма Гарэцкага // Беларус. № 219. Ліпень 1975.

прытрымліваліся напісаньне *«belorussisch»*. У навуковым ужываньні ва ўсёй Германіі ўсталявалася паняцьце *«Weißrussisch»*. Сёньня выдавецтвы ўжываюць або *«Weißrussisch»* або *«Weißruthenisch»* (апошняе было прынята ў дваццатых-трыццатых гадах да 1945 года). І пакуль што не зусім ясна, якой форме будзе аддадзена перавага. Што датычыцца бібліяграфічных даведак пра М. Багдановіча ў Германіі, пра якія Вы пыталіся, то я крыху пазьней напішу Вам спэцыяльны ліст пра гэта. На жаль, матэрыялу пакуль што ня вельмі многа.

Ці буду я чытаць лекцыі ва ўнівэрсытэце, вырашыцца ў сярэдзіне кастрычніка. Вы маеце рацыю: тады ўпершыню ў нямецкім унівэрсытэце будзе чытацца курс беларускай літаратуры.

Асобна пасылаю Вам сёньня два нумары нямецкіх часапісаў, у якіх зьмешчаны творы беларускіх пісьменьнікаў. І ў наступных нумарах гэтых часапісаў будзе прадоўжана друкаваньне беларускіх твораў (у *«Neue Rundschau»*[1511] нямецкай паэтэсай Эльке Эрб[1512] будзе прадстаўлены партрэт А. Разанава[1513], у яе-ж перакладзе і яго вершы. У *«Litfass»* сярод іншых твораў будуць зьмешчаны вершы Н. Мацяш[1514]). Акрамя таго, пасылаю Вам свой артыкул аб «Малой падарожнай кніжцы» Скарыны, які ў гэтай форме, на жаль, ня мог быць зьмешчаны ў Літаратурнай Энцыкляпэдыі Кіндлера, бо артыкул быў ужо надрукаваны, калі я даслаў дапаўненьні ў бібліяграфіі, зробленыя пасьля атрыманьня Вашых кніжак.

У заключэньне хацеў бы яшчэ раз паўтарыць сваё запытаньне: ці ёсьць наогул бібліяграфіі беларускіх публікацый за межамі СССР (асабліва з Заходняй Беларусі) за пэрыяд паміж дзьвюма сусьветнымі войнамі? Дагэтуль я, на жаль, нідзе не сутыкаўся зь імі і адчуваю гэта як вялікі недахоп.

Яшчэ раз вялікі Вам дзякуй. З найлепшымі пажаданьнямі Вашай жонцы і Вам

застаюся шчыра

Ваш *Norbert Randov*

---

[1511] ***«Neue Rundschau»*** — нямецкі літаратурны часопіс, што выдаецца ў Берліне выдавецтвам *S. Fischer Verlag* ад 1890 г.

[1512] **Эльке Эрб** (ням. *Elke Erb*, нар. 1938), нямецкая паэтка, перакладчыца.

[1513] **Алесь Разанаў** (нар. 1947), пісьменнік, перакладчык, паэт-наватар, аўтар новых паэтычных форм.

[1514] **Ніна Мацяш** (1943–2008), паэтка, перакладчыца.

Бэрлін, 22.11.2002 г.

Шматпаважаны спадар Кіпель,

на жаль, зь вялікім спазьненьнем, за якое прашу прабачэньня, я толькі сёньня магу падзякаваць Вам за апошнюю пасылку з трыма кнігамі, сярод якіх хачу асабліва назваць працу Л. Юрэвіча пра «Літаратурны рух на эміграцыі»[1515]. Вы гэтым ня толькі хораша парадавалі мяне, але й далі мне новы штуршок зноў зьвярнуцца да беларускай тэматыкі, якая ў апошнія гады з-за балгарскіх ды македонскіх праектаў моцна адышла на другі плян. Другі штуршок даў мне Уладзімір Арлоў[1516], які гасьціў у мяне на апошнім тыдні. Па запрашэньню Бэрлінскага інстытута імя Ота Зура і Патсдамскага ўнівэрсытэту ён прачытаў тры даклады пра становішча сродкаў масавай інфармацыі на Беларусі. Два зь іх мелі вельмі шмат наведнікаў (кожны раз сабіралася болей за 120 слухачоў), а трэці, у Патсдаме, быў чымсьці накшталт дыскусыйнага раўнда.

На апошнім тыдні ў Бэрлін на дзень прыехаў да нас у госьці Васіль Быкаў[1517] зь Віперсдорфа, дзе ён знайшоў часовы прытулак у Замку Ахіма фон Арніма[1518]. Зь ім, Уладзімерам Арловым, маім швагерам Уладзімерам Чапегам і маёй сястрой адбылася цікавая гаворка пра сучаснае палітычнае і літаратурнае становішча на Беларусі.

Асабліва хачу падзякаваць Вам і за тое, што Вы папрасілі спадара Запрудніка паслаць мне яго выдатную і выключна зьмястоўную кнігу ўспамінаў «Дванаццатка», якую я зараз чытаю зь цікавасьцю і карысьцю для сябе. Не ў апошнюю чаргу гэта выклікана мноствам ілюстрацый у кнізе, якія шмат што праясьняюць, пра што ў мяне дагэтуль было толькі цьмянае ўяўленьне. Пагэтаму ўдзячны Вам удвайне!

З сардэчным прывітаньнем Вашай жонцы і Вам застаюся

шчыра Ваш *Norbert Randov*

*Berlin*, 8.5.2003 г.

Дарагі спадар Кіпель,

толькі што я даведаўся ад Уладзіміра Арлова пра сумны ўдар лёсу[1519], які напаткаў Вас. Прыміце, калі ласка, маю сардэчную спагаду! Хоць я сустракаўся з Вашай жонкай у Мінску ўсяго некалькі разоў, я ўсё-ж такі моцна адчуваў сілу яе чалавечага ўзьдзеяньня, ня кажучы ўжо пра тое, што яе сталая прысутнасьць у беларускай літаратуры на

---

[1515] Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. Менск, 2002. — 244 с.

[1516] **Уладзімір Арлоў** (нар. 1953), пісьменнік, паэт.

[1517] **Васіль Быкаў** (1924–2003), пісьменнік, грамадскі дзеяч.

[1518] **Ахім фон Арнім** (ням. *Carl Joachim Friedrich Ludwig von Arnim*, 1781–1831), нямецкі пісьменнік, прадстаўнік гейдэльберскага рамантызму. Значную частку жыцця правёў у замку Віперсдорф.

[1519] Маецца на ўвазе смерць Зоры Кіпель 14 красавіка 2003 г.

эміграцыі была заўсёды адчувальная для нас у Заходняй Эўропе перш за ўсё празь яе навуковыя і бібліяграфічныя працы. Для беларускай літаратуры эміграцыя, здаецца, усё яшчэ існуе: Васіль Быкаў[1520], Алесь Разанаў, Сьвятлана Алексіевіч[1521], Зянон Пазьняк[1522] і іншыя сёньня таксама ня жывуць болей на сваёй радзіме, якую так моцна любіла Вашая жонка — гэта я мог бачыць дзесяць гадоў таму назад на сумеснай вечарыне ў Адама Мальдзіса, калі Вашая жонка, такая радасна ўсхваляваная, прыехала зь вёскі. Між іншым, заўтра Алесь Разанаў у Вене атрымлівае міжнародную прэмію імя Гердэра, што мяне асабліва радуе. Беларуская літаратура жыве й будзе жыць далей. Калі я чытаў ліст Уладзіміра Арлова, мне нагадаліся радкі верша нямецкага паэта Ганса Каросы: *«Мы ня чуем, калі гучыць боская мэлёдыя, мы ўздрыгваем толькі тады, калі яна замаўкае»*. Гэтае ўздрыгваньне, дарагі спадар Кіпель, я глыбака адчуў, калі даведаўся пра сумную навіну.

Жадаю Вам здароўя і вынасьлівага сэрца.

Застаюся шчыра

Ваш *Norbert Randow*

Бэрлін, 1.06.2004 г.

Дарагі й шматпаважаны спадар Кіпель.

Вярнуўшыся на днях з Баўгарыі, я тут жа атрымаў ад Вас пакет зь дзьвюма кнігамі — «Бібліяграфія беларускага й беларусаведнага друку на Захадзе»[1523] й 27-мы том «Запісаў» — што было для мяне вялікай, нечаканай і прыемнай радасьцю. Вельмі, вельмі ўдзячны Вам. З Баўгарыі я прывёз для Вас і дашлю Вам асобнаю поштаю нумар часопіса «Любословіе», выдадзены філялягічным факультэтам Шумэнскага ўнівэрсытэту імя Канстанціна Прэслаўскага. У ім зьмешчаны артыкул Весяліна Панаётава пра Францыска Скарыну. «Любословіе» — такую назву меў першы балгарскі часопіс, які пачаў выходзіць у Ізьміры ад 1844 г.

Вашая і Вашай жонкі «Бібліяграфія беларускага й беларусаведнага друку на Захадзе» ўразіла мяне багацьцем і разнастайнасьцю зьмешчаных у ёй зьвестак. Але асаблівае ўражаньне на мяне пакінуў 27-мы

---

[1520] Ад сярэдзіны 1990-х гг. Васіль Быкаў доўгі час (амаль да смерці) жыў за межамі Беларусі.

[1521] **Святлана Алексіевіч** (нар. 1948), рускамоўная беларуская пісьменніца. Ад пачатку 2000-х гг. жыла ў эміграцыі: Італіі, Францыі, Нямеччыне.

[1522] **Зянон Пазняк** (нар. 1944), палітык, грамадскі дзеяч, археолаг, фатограф, пісьменнік. Ад 1996 г. жыве па-за Беларуссю.

[1523] Маецца на ўвазе першае выданне кнігі: Кіпель, Вітаўт; Кіпель, Зора. Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе: асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью-Ёрк — Менск, 2003. — 582 с.

том «Запісаў БІНІМ» — сваімі старонкамі, прысьвечанымі сьветлай памяці Вашай жонкі Зоры.

Артыкул Лявона Юрэвіча «Нашыя могілкі»[1524] з цудоўнымі фатаграфіямі падштурхнуў маю сястру (Гундулу Чапега — яна дырэктарка мясцовага архіву) зьдзейсьніць нарэшце даўнюю яе мару — дасьледаваць могілкі ў нашым родным горадзе й зьмясьціць потым вынікі гэтага дасьледаваньня асобным выданьнем. Ці нельга паспрабаваць сабраць зьвесткі пра загінуўшых ці памёрлых — на Беларусі або за яе межамі, напрыклад, у Сібіры — вядомых беларускіх асобаў, дапоўніць іх, наколькі гэта магчыма, фатаграфіямі, каб потым апублікаваць гэта ў адным з нумароў «Запісаў»? Адносіны народу да сваіх нябожчыкаў сьведчаць і аб становішчы культурнай памяці самога народу, і артыкул Лявона Юрэвіча й фатаграфіі да яго зьяўляюцца пераканаўчым прыкладам адносінаў беларускай эміграцыі да вялікіх нябожчыкаў свайго народу.

Вельмі зацікавіў мяне ў «Запісах» і рэпрынт машынапіснага часопіса «Крыніца», перш за ўсё з-за зьмешчанага ў ім апавяданьня Лукаша Калюгі[1525], аўтара, якога я вельмі паважаю.

Артыкул Вацлава Пануцэвіча пра Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву падштурхнуў мяне паслаць Вам маю рэцэнзію на доктарскую дысэртацыю аднаго нямецкага сьвятара, якую ён зьбіраецца абараняць ва ўнівэрсытэце гораду Грайфсвальд. Тэма гэтай працы: «Рэфармацыя на Беларусі». На маю думку, аўтар, крыху перапрацаваўшы гэтую дысэртацыю, надрукуе яе асобнай кніжкай. Яго імя: *Dr. Hans-Christian Diedrich*. Можа, Вы захочаце напісаць яму — ён аўтар цэлага шэрагу працаў пра пашырэньне пратэстантызму на Беларусі.

Дазвольце ў заключэньне звярнуцца да Вас зь яшчэ адной вялікай просьбай: на жаль, у мяне няма 26 нумару «Запісаў». Можа, калінебудзь, Вы знойдзеце магчымасьць прыслаць мне яго? Я быў бы Вам вельмі ўдзячны.

А цяпер хочацца яшчэ раз падзякаваць Вам за дзьве цудоўныя кніжкі й пажадаць Вам здароўя ды ўсяго найлепшага.

Шчыра
Ваш *Norbert Randov*

---

[1524] Гл.: Юрэвіч, Лявон. Нашыя могілкі // Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк — Менск, 2004. С. 224–240.

[1525] **Лукаш Калюга** (сапр. Канстанцін Вашына, 1909–1937), празаік, перакладчык. У згаданым часопісе «Крыніца» было апублікаванае яго апавяданне «Шкодны вісельнік».

# POST SCRIPTUM: ДЗЕЦІ БССР

## І. Рыгор Родчанка[1526]

*У 1969 г. зь вялікай помпаю сьвяткавалася 50-годзьдзе БССР. Тады яшчэ быў жывы Язэп Дыла.*

*Ужо было па 20-м і 22-м зьездах КПСС, якія «асудзілі» «культ Сталіна». Былі абвешчаныя «адліга» й «рэгабілітацыі»… Вы думаеце, па Я. Дылу паслалі самалёт? Каб прывезьці на юбілейныя ўрачыстасьці ганаровага госьця — адзінага, хто застаўся яшчэ ў жывых ізь сяброў 1-га ўраду БССР? І ня блізка!*

*Менск гарэў ад чырвані сьцягоў. Грымелі аркестры. Янычарам Масквы раздаваліся ардэны… А дзесь далёка, на глухой ускраіне чужога Саратава, самотна дажываў свой век (яму было каля 89) апошні «айцец» БССР. Ён пражыў там яшчэ да 1973 г. і на 42-м годзе ссылкі з БССР памёр.*

*Аўген Калубовіч*[1527]

Гэта было падчас сумеснай выцечкі з бацькамі ўлетку 1981 г. у Заслаўе, калі ў мясцовай кнігарні яны набылі — з незразумелым для мяне тады ўзрушэннем і здзіўленнем — томік Язэпа Дылы[1528]. Гэтак і стаяў ён на паліцы нашае кніжніцы поруч са зборнікамі Каруся Каганца і Ядвігіна Ш., вабячы напачатку не столькі сваім зместам, колькі бацькоўскім стаўленнем. Калі ж трэба было рабіць курсавую працу ва ўніверсітэце, асаблівых ваганняў у пошуках кандыдатуры не было: Язэп Дыла пісаў блізу тае тэмы, што захапляла ў творах Караткевіча, у легендарнай «Памяці пра легенды»[1529] і якая пазней прывядзе да творчасці Юркі Віцьбіча («Арцыбіскуп і смерд», «Лшоно Габоо Бійрушалайм»), а ад яго — да ўсяе літаратуры эміграцыі.

Заняўшыся вывучэннем біяграфіі аўтара, я, натуральным чынам, сутыкнуўся з безліччу гістарыяграфічных праблемаў. Людзі, што мелі хоць якое дачыненне да архіваў, да постаці Дылы, упарта адсылалі да энцыклапедый, да картатэкі будучага шасцітамовіка «Беларускія пісьменнікі». Найбольш

---

[1526] Гэтая частка была ўпершыню апублікаваная як: Юрэвіч, Лявон. Дзеці БССР // Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 307–317.

[1527] Калубовіч, Аўген. «Айцы» БССР і іхны лёс // Калубовіч, Аўген. Крокі гісторыі: Даследаванні, артыкулы, успаміны. Беласток — Вільня — Менск, 1993. С. 131.

[1528] Дыла, Язэп. Творы. Мінск, 1981. — 351 с.

[1529] Тарасов, Кастусь. Память о легендах. Минск, 1984. — 143 с.

карыснаю тут надарылася праца Аўгена Калубовіча «Айцы БССР», якая не толькі ўтрымлівала звесткі пра Дылу, але дзіўным чынам паспрыяла больш зацікаўленаму погляду на гісторыю ўласнай сям'і. Штосьці ў маім уяўленні яднала Язэпа Дылу з дзедам, якога ніколі не бачыў і ад каго засталася толькі вялізная «Кулинария», набытая ім для маці за шалёныя як для нашае сям'і на тыя часы грошы — 50 рублёў, ладны кавалак з 800 рублёў — кампенсацыі, атрыманай за 17 гадоў Сібіры. Міне яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў — і дзякуючы гісторыку Наталлі Анофранцы я змагу прачытаць наступны дакумент:

*1. карточка № 1202*
*2. Юревич Казимир Фабианович, 09.05.1889 г.*
*3. место рождения — дер. Вязанка Минского р-на*
*4. национальность — поляк*
*5. образование — незаконченное начальное*
*6. беспартийный*
*7. происхождение (крестьяне, рабочие, дворяне и т. д.) — прочие*
*8. должность — ст. повар*
*9. место работы — фабрика «Октябрь»*
*10. адрес — Газетный пер. 20*
*11. арест — 23.08.38 г.*
*12. осуждён — 14.11.38 г.*
*13. обвинение — польский шпион-двойник*
*14. орган осуждения — «тройка»*
*15. статья — 68 УК БССР*
*16. мера — 10 лет ИТЛ*
*17. место — Лагпункт Островное Архангельской области*
*18. освобождён — ХХ (без даты) 08.48 г.*
*19. реабилитирован — 27.11.54 г.*
*20. до ноября 1954 г. в ссылке в Красноярском крае.*
*21. освобождён полностью 19.01.55 г.*
*22. сведения — В КГБ БССР № дела: 3705-С (архивный номер)*

Расшукваючы звесткі пра Язэпа Дылу, я не мог вызваліцца ад думак пра народжанага ў Вязынцы дзеда-беларуса з лагернаю мянушкаю Стары Урка, адзінаю віною якога было *«польскае»* імя; пра маці, якая да дзедавай *«віны»* дадала ўласную, застаўшыся ў часе вайны на *«акупаваных тэрыторыях»* — у Кушлянах, роднай вёсцы сваёй матулі, маёй бабці, за два дамы ад Багушэвічавай сядзібы; пра тату, выгнанага з філалагічнага факультэта БДУ за касмапалітызм. Пра лёс дзяцей БССР.

У пошуках матэрыялаў пра Язэпа Дылу звярнуўся ў Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР, дзе захоўваўся архіў пісьменніка, і неўзабаве атрымаў афіцыйны рускамоўны адказ за подпісам тагачаснага дырэктара Г. І. Сурмач, што, маўляў, мне як студэнту трэба

мець адпаведны ліст з універсітэта з подпісам прарэктара і тлумачэннем неабходнасці такой працы. Заканчваўся 1987 год.

Тым часам я ўжо быў у кантакце з дачкою Язэпа Дылы, Ганнаю, якая, што праўда, пісала толькі па-руску і мала магла распавесці пра бацьку; з Адамам Мальдзісам, укладальнікам «Твораў» пісьменніка, ад якога безвынікова намагаўся выпрасіць пачытаць Дылавы ўспаміны, толькі ўрывак з якіх быў выдрукаваны. Адам Іосіфавіч відавочна нерваваўся, недагаворваў і абмежаваўся агульнымі энцыклапедычнымі фактамі. Ён быў бы рады адпрэчыць мяне адразу, але асабістая просьба добрага бацькавага знаёмага, на той час дырэктара Інстытута літаратуры Акадэміі навук В. А. Каваленкі не дазваляла тое зрабіць.

Я не асабліва бедаваў, бо паўгода як ліставаўся з Рыгорам Родчанкам, кнігі якога Аляксей Каўка ставіў у адзін шэраг з працамі Адама Мальдзіса і Генадзя Каханоўскага[1530].

*Гор. Слуцак, 12.05.1987.*

*Дарагі Лявон!*

*Калі я прачытаў Ваша пісьмо (ліст), то падумаў. Вось першы малады чалавек, які хоча ўзяцца за Дылу. А ці падніме ён гэтага волата, бо Дыла — гэта не Ядвігін Ш.[1531] і не Мікола Лобан[1532]?*

*Прозвішча Ваша дае падставу меркаваць, што з цягам часу Дылу Вы зможаце падняць (Юрэвіч — тут корань "юр", мора).*

*Калі М. Лобан некалі напісаў рэцэнзію на зборнік Я. Л. Дылы[1533], то я тады ж адразу даў адказ на яе, але ЛіМ яго не надрукаваў, бо Лобан быў ужо цяжка хворы, і мой адказ дабіў бы яго, скараціў бы яго жыццё. Лобан быў таленавіты пісьменнік, мовазнаўца, але ён дзіця ў параўнанні з Дылам.*

*Дыла — заснавальнік гістарычнага жанру ў беларускай літаратуры. Яго раман "На шляху з варагаў у грэкі" — гэта, кажучы словамі Лермантава, геніем распачатая праца, у якой няма канца. Каб Язэп Лявонавіч скончыў гэты свой раман, то ён быў бы не геній, а ўсяго толькі талент. Жыццё не дало яму матэрыялаў для канца рамана. Таму ён і застаўся незавершаны.*

*Растлумачу крыху падрабязней гэту сваю думку. Над раманам "На шляху з варагаў у грэкі" пісьменнік працаваў у 1944—1945 гг., калі "лёд крануўся" (крыгаход ёсць і ў рамане). Тады вызвалялася ад фашыстаў Беларусь. Дыла, відаць, спадзяваўся, што гэта сапраўдная вясна, і ён, як герой яго рамана, вернецца ў Свіслачаны (Менск). Але да сапраўднай вясны для людзей з яго-*

---

1530 Каўка, Аляксей. Жывом! Старонкамі беларускага самапазнаньня. Масква — Менск, 1997. С. 43.

1531 **Ядвігін Ш**. (сапр. Антон Лявіцкі, 1869–1922), празаік, публіцыст, фельетаніст, драматург, паэт, літаратуразнаўца.

1532 **Мікола Лобан** (1911–1984), пісьменнік, мовазнаўца, заслужаны работнік культуры БССР.

1533 Лобан, Мікола. Рэальнасць і вымысел // Полымя. 1982. № 8. С. 218–219.

*ным лёсам было яшчэ далёка. Толькі пасля XX з'езду КПСС многія з лёсам Дылы вярнуліся на радзіму. К таму часу пісьменніку было ўжо 80... Ён быў стары, слабы і вярнуцца не змог. Адсюль і незавершаны раман.*

*Як бачыце, раман пісаўся пра часы Кіеўскай Русі, але адначасова і пра свой час пісаў Дыла. Марксізм, як памятаеце, патрабуе аналіз твора рабіць з улікам часу яго напісання. І гэта адзіная правільная метадалогія.*

*Скажу яшчэ. Той, хто асмельваецца брацца за складаную творчасць Я. Дылы, павінен памыць рукі, пачысціць зубы і прапаласкаць рот, бо ён дакранаецца да творчасці генія. Калі хто асмеліцца стрэліць у Дылу з "нагана", то Дыла стрэліць у яго з гарматы самага вялікага калібру.*

*Геніі і пішуць каструбавата. Мова іх не гладкая, "няправільная". У генія свая граматыка. Таленты ж пішуць гладка, прыгожа, хутка і многа.*

*Улічыце ўсё гэта пры аналізе мовы твораў Язэпа Лявонавіча, але ўлічвайце ўсё гэта далікатна, бо і сярод вучоных знойдуцца такія людзі, якія скажуць: вы перабольшваеце значэнне творчасці гэтага пісьменніка.*

*...У Дылы было вельмі складанае жыццё. Ён быў на 2 гады старэйшы за Купалу і за Коласа, а гісторыю беларускай культуры ён ведаў лепш за гэтых пісьменнікаў. Колас прыслухоўваўся да парадаў старэйшага ад яго Дылы.*

*У мове Дылы няма коласаўскага бляску, няма "правільнасці". І ў гэтым яго сіла. Мова Дылы — магутная. Дый сам ён быў магутным чалавекам, які пражыў 93 гады.*

*Не глядзіце на Дылу па юнацкай звычцы зверху ўніз. Да разумення Дылы трэба дарастаць. Калі Вы ўсур'ёз зацікавіліся ягонай творчасцю, то яе Вам хопіць не толькі на курсавыя і дыпломныя працы, але і на кандыдацкую дысертацыю. Вы першы пачынаеце даследаваць мову Дылы. Першаму заўсёды цяжка, але першы павінен і ганарыцца тым, што ён працуе практычна на цаліне.*

*Для курсавой работы Вам хопіць зборніка Дылы. Для аналізу вазьміце яшчэ ягоныя перакладныя кніжачкі. Іх каля дзесяці. Усе яны ёсць у Ленінскай бібліятэцы. Гэта — п'есы. Кніжачкі выдаваліся пад псеўданімам Назар Быўаеўскі. Вы іх знойдзеце ў бібліятэцы.*

*Выбачайце за мой почырк. Між іншым, у Язэпа Лявонавіча быў у апошнія гады почырк яшчэ горшы за мой. Асобныя яго пісьмы я чытаў па 2–3 гады. Пісьмы Дылы ёсць у Слуцкім краязнаўчым музеі (не ўсе).*

*Жадаю поспехаў у працы. Хацеў бы прачытаць Вашу курсавую працу па творчасці Дылы.*

*З павагай і сяброўскім прывітаннем Рыгор Родчанка (Р. Лінкор).*

*P.S. Лінкор — мой псеўданім, адзін з іх.*

*г. Слуцак*
*17.05.1987.*

*Дарагі Лявон.*

*Для курсавой работы Вам хопіць тых матэрыялаў, пра якія я пісаў: 1. Раздзел у маёй кнізе пра Абуховіча*[1534]*. Бярыце адтуль усё патрэбнае, са спасылкамі, зразумела. 2. З прадмовы А. Мальдзіса да зборніка. 3. У архівах Інстытуту этнаграфіі АН ёсць рукапісы Дылы. Лісты Дылы я часткова перадаў у Слуцкі краязнаўчы музей. Там яны ляжаць. Там ляжыць рукапіс Дылы "Сена пана Гельмунта". Гэты рукапіс прыслаў ён мне. Яго трэба падрыхтаваць да друку. Я не маю часу і сіл. Вазьміцеся, і ў суаўтарстве з Вамі яго надрукуем. Прыедзьце ў Слуцак на 2–3–4 дні. Папрацуйце ў краязнаўчым музеі. Гасцініцу я пастараюся для Вас прабіць. Фота Дылы ёсць у музеі ў Слуцку. Я даваў туды іх. Што датычыцца іншых матэрыялаў, то яны рыхтуюцца. Я збіраюся пісаць нарыс "Язэп Дыла". Кніжку планую напісаць таўсцейшую, чым пра Абуховіча. Там я прайдуся па ўсяму жыццёваму і творчаму шляху Я. Дылы, але мне трэба яшчэ ехаць у архівы Ленінграду, Масквы і ў іншых гарадах.*

*Учора вярнуўся з Мінску. Вазіў свой зборнік вершаў "Дуэль" пад псеўданімам Р. Лінкор. Даў па некалькі вершаў у "Вожык", "Звязду", ЛіМ, "Мінскую праўду", "Беларус". Стаміўся за тры дні так, што рукі зусім не слухаюцца.*

*Не ўсё вядома і мне пра Язэпа Дылу. Гэта быў вялікі канспіратар. Вось і ўчора я патраціў дзень у Ленінскай бібліятэцы на высвятленне аднаго пытання пра Дылу. Але пакуль што рана пра тое гаварыць.*

*Мову Дылы даследуйце з розных бакоў.*

*Жадаю поспехаў.*

*Няма сіл пісаць.*

*З павагай і прывітаннем Р. Родчанка (Р. Лінкор).*

*P.S. Ужо і ў Ленінскай бібліятэцы заведзеныя дзве персанальныя карткі на творы Р. Лінкора. Там на ўліку мая кніжка пад маім прозвішчам, а яшчэ пад маім псеўданімам.*

*P.P.S. У "Сена пана Гельмунта" Дыла піша пра сваё жыццё і дзейнасць у Мінску ў часе рэвалюцыі 1905–1907 гг. Гэта якраз той твор, які можна цяпер надрукаваць. Вы лепш будзеце ведаць Дылу з яго. Бярыцеся яго расшыфроўваць. Так, не чытаць, а расшыфроўваць, бо почырк у пісьменніка быў у апошнія гады неразборлівы, рукі не слухаліся, як у мяне цяпер. Гэта і будзе мая і Вашая публікацыя. Прапануем "Сена…" у "Беларусь" ці ў "ЛіМ"? Са зноскай: падрыхтавана да друку — Р. Родчанкам і Л. Юрэвічам. Поспехаў! Мой аспірант! Дзейнічайце!*

*P.P.P.S. А лісты Дылы да мяне мне друкаваць няёмка. Гэтую публікацыю рабіце Вы самастойна. Я не хачу сябе хваліць.*

---

[1534] Родчанка, Рыгор. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: нарыс жыцця і творчасці. Мінск, 1984. — 134 с.

*Яшчэ адзін P.S. Нашчадкі даруюць нам памылкі, але не даруюць бяздзейнасці.*

*21.05.1987.*

*Добры дзень, дарагі Лявон!*

*Дзякуй за інфармацыю. Як бачыш, я адпачыў і почырк крыху стаў лепшы.*

*Прыязджай у верасні, як плануеш. Праўда, тады будзе позна рыхтаваць да друку "Сена...". Што ж, я сам яго падрыхтую. А пісьмы, якія ў музеі, падрыхтуеш ты. Я даю табе на гэта права, каб у цябе з'явілася самастойная публікацыя, калі яе яшчэ няма. Ці зробім у суаўтарстве.*

*Калі пасля сесіі будзе час — падскоч. Тады падрыхтуем "Сена...". Я некалі яго расшыфроўваў, чарнавікі недзе павінны быць.*

*З якіх ты Юрэвічаў?*

*Пішы, што табе ўдаецца адшукаць.*

*Поспехаў!*

*Рыгор Родчанка.*

*P.S. Мае кнігі: "Абуховіч-Бандынэлі", "Старэйшая школа Беларусі"*[1535]*, "У паходзе"*[1536] *— калектыўны зборнік паэзіі. Астатняе ў зборніках (артыкулы), у перыёдыцы*[1537]*. Я ўсё ж буду, калі змагу, пісаць пра Язэпа Лявонавіча. У мяне сабралася матэрыялаў пра яго даволі шмат.*

*28.05.1987.*

*Добры дзень, Лявон дарагі.*

*Пытанняў ты паставіў шмат, але не маю я цяпер часу на ўсе адказваць.*

*З рэдактарамі спрачацца цяжка. І не заўсёды трэба. Копію "Сена..." мне абяцалі зрабіць у музеі на наступным тыдні. Рукапіс невялікі, менш за "У імя дзяцей"*[1538]*. Дамоўленасці пакуль што няма на друкаванне, але трэба рукапіс. Тады будзе і дамоўленасць.*

*Усё ёсць у Дылы. Сёння разам з тваім лістом атрымаў ліст і ад дачкі Я. Дылы. Я з ёю ў гэтым годзе павінен сустрэцца.*

*Прывітанні!*

*Р. Родчанка.*

---

[1535] Родчанка, Рыгор. Старэйшая школа Беларусі. Мінск, 1985. — 78 с.

[1536] Родчанка, Рыгор. У паходзе // У паходзе: зборнік паэзіі. Мінск, 1985. — 95 с.

[1537] Пазней выйшлі іншыя кнігі: З вечнага: зборнік фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Случчыны / уклад. Р. Родчанка. Мінск, 1990. — 62 с.; Эліксір маладосці: апавяданні, гумарэскі / уклад. Р. Родчанка, Ю. Рыбнікаў; перакл. з укр. Р. Родчанкі. Мінск, 1990. — 302 с.; Родчанка, Рыгор. Слуцкая старасветчына: (Факты і разважанні). Мінск, 1991. — 69 с.

[1538] Аповесць Язэпа Дылы.

*P.S. У мяне шмат напрамкаў у даследаваннях — педагогіка, краязнаўства, літаратуразнаўства, гісторыя, паэзія, публіцыстыка. Для аднаго чалавека гэта зашмат, але ж у мяне сем дыпломаў».*

Неўзабаве я наведаў у Слуцку Рыгора Родчанку. Заплаціўшы за нумар у паўпустым местачковым гатэлі, зазваніў да яго дадому, дамаўляючыся пра час спаткання. Праз якую гадзіну ён сустрэў мяне, седзячы на разабраным ложку, выглядам нагадваючы не Язэпа Лявонавіча, як мне тое ўяўлялася з яго лістоў, а, хутчэй, гісторыка Віталя Скалабана. Маленькі пакой, дзе час застыў нібыта на адной гадзіне — шарай, быў няхлюйна ўпакаваны стосамі паперы, што пад самую столю выціснула рэдкія палічкі з кнігамі. Размова нашая атрымалася не такою, як бачылася студэнту. Магчыма, я быў не ў час ці мо гаспадар пачуваўся нядобра. Так ці інакш, праз кароткі час развітаўся, атрымаўшы, што праўда, у падарунак колькі лістоў Язэпа Дылы і ягоны здымак, і рушыў у музей. У гатэль больш не вяртаўся, бо адразу з музея выправіўся на аўтобус.

З Родчанкам мы яшчэ колькі часу ліставаліся, але без асаблівага імпэту. Потым і гэта спынілася. Я абараніў курсавую, пазней дыпломную і ў Інстытуце літаратуры тэму кандыдацкай дысертацыі з дапамогаю Навуковага савета сфармуляваў як «Творчасць Язэпа Дылы і жанравае развіццё літаратуры першай паловы XX стагоддзя», асобныя раздзелы з якое выдрукаваў[1539].

Ці скончыў Родчанка калі нарыс пра Дылу, невядома. Як невядомы мне і лёс кнігі пра Язэпа Лявонавіча, што нібыта пісаў Яўген Лецка (чуў пра тое ў свой час ад Фёдара Янкоўскага). Здаецца, Адам Мальдзіс летуцеў ідэяй зрабіць другое выданне Дылавых твораў, паўнейшае, без купюраў, толькі і з таго нічога не атрымалася. Копіі «Сена…» музей таксама не зрабіў, спаслаўшыся на тэхнічныя складанасці, у што я, расчытваючы падораны мне слуцкім краязнаўцам Дылаў ліст, ахвотна веру.

---

[1539] Юрэвіч, Лявон. Асаблівасці мовы рамана Язэпа Дылы «На шляху з варагаў у грэкі» // Моўныя адзінкі ў кантэксце: зборнік навуковых артыкулаў. Мінск, 1991. С. 119–129; Юрэвіч, Лявон. Язэп Дыла і яго гістарычны раман «На шляху з варагаў у грэкі» // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. 1991. № 5. С. 103–112; Юрэвіч, Лявон. Гістарычная канцэпцыя рамана Я. Л. Дылы «На шляху з варагаў у грэкі» // Літаратуразнаўства: зборнік навуковых артыкулаў. Мінск, 1992. С. 21–27; Юрэвіч, Лявон. Язэп Дыла // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мінск, 1996. С. 323–324; Юрэвіч, Лявон. «На шляху з варагаў у грэкі»: праблемы гісторыі — праблемы сучаснасьці // Камэнтары: Літаратуразнаўцыя артыкулы. Мінск, 1999. С 49–70.

*«г. Саратаў.*
*10.09.1966.*
*У рэдакцыю газеты “Шлях Ільіча” (г. Слуцак).*
*Паважаны тав. рэдактар!*

*Хаця і са спазненнем, віншую Вас з вялікім святам 850-га юбілею існавання места Слуцку (летапіснага Случэску), аднаго са старэйшых гарадоў Беларусі. Быць рэдактарам слуцкай газеты “Шлях Ільіча” гэта не малы гонар для савецкага журналіста. Ад душы жадаю Вам поўных поспехаў на сваім пасту!*

*Прашу прабачэння, т. рэдактар, за неакуратны “почерк”: мая 86-гадовая рука часта не вытрымлівае доўгага пісьма і пачынае “не слухацца”.*

*Зараз я адзін са старэйшых пісьменнікаў БССР, бо нарадзіўся ў Слуцку ў 1880 г. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі, потым у Юр’еве (зараз гэта г. Тарту Эстон. ССР). За ўдзел у студэнцкім рэвалюцыйным руху быў тры разы звольнены, але назад прыняты, а ў 1902 г. звольнены без права скончыць навуку ў вузах. Супрацоўнічаў у “Нашай Ніве”. У снежні 1918 г. быў прызначаны і па абвяшчэнні БССР працаваў у саставе першага ўраду БССР як нарком працы. У 1921 г. быў прызначаны на сталую працу ў БССР (Менск), то на працу ў гаспадарчыя органы (Цэнтрабелсаюз спажыўкааперацыі, інш.), то, канчаткова, па лініі культуры (лектура, Гостэатр, Белгоскіно). У 1930 г. быў пазбаўлены волі і хаця следчая камісія ў Менску хацела вярнуць мяне на працу, я атрымаў высылку на 5 г. на Урал, але абскардзіў рашэнне і атрымаў палёгку ў сэнсе самастойнага выбару месца пражывання “мінус 12”. А ў 1957 г. Вярхоўны Савет БССР не прызнаў доказу маёй віны і рэабілітаваў мяне. Пазбаўлены бацькаўшчыны, я мог толькі звярнуцца да гістарычнае тэматыкі. За 1931—1934 гг. мною былі напісаны гістарычныя творы з жыцця беларускіх культурнікаў і пісьменнікаў: з жыцця Скарыны, пад назвай “Падуанскі студэнт”, з жыцця Сымона Полацкага — п’еса “Прытча пра блуднага сына”, пра Паўлюка Багрыма пад назваю “Юнак з Крошына”. Апроч таго, мною напісаны гістарычны раман “На шляху з варагаў у грэкі” і гістарычная аповесць для дзяцей і юнацтва з часоў татарскага нашэства на Русь — тэмаю я абраў няўдачу аднае спробы Батыя авалодаць г. Случэскам. Назва аповесці “У імя дзяцей”. Адбылося гэта ў 1240-х гг. пасля заваявання татарамі Чарнігава і Кіева, калі Батый пачаў наступленне на Галіцкае княства, і арда, кінутая ім у абход галіцкіх гарадоў, павінна была авалодаць Случэскам і Туравам. Гераічная абарона Случэска нечакана для татар не дала Батыю магчымасці здзейсніць план і авалоданнем Случэскам і Туравам выйсці “в тыл” галоўным гарадам, нечакана для апошніх.*

*У звязку з юбілеем 850 існавання Слуцку было б патрэбна гэтую патрыятычную кніжку даць моладзі якраз зараз. Выдаць яе латва яшчэ і таму, што памер кніжкі — 8 друкаваных аркушаў — не будзе трудным у сэнсе патрэбы паперы; зараз якраз мяркуецца пачаць прыймо падпіскі на газету на 1967 г. з верасня месяца. Абяцайце гадавым падпісчыкам даць кнігу як прэмію, што было б пажаданым для любой сям’і случан. Што да*

*аўтарскага ганарару, то як ураджэнец Слуцку я пайшоў бы для газеты на саступкі, згадзіўшыся ўзяць пэўную колькасць паасобнікаў кнігі замест грашовага ганарару. А я ж мог бы здаць іх потым на рэалізацыю ў нашыя кніжныя крамы.*

*Робячы вам, таварыш, гэткую прапанову, лічу, што выданне майго твору якраз адпавядала б справе юбілею роднага гораду і было б для савецкай газеты культурнаю заслугаю і перад грамадзянамі роднага ім места.*

*Пры згодзе на маю прапанову я вышлю напісаную на машынцы гістарычную аповесць "У імя дзяцей".*

*З таварыскаю павагаю,*

*Язэп Дыла».*

Пра Язэпа Дылу, «бацьку» БССР, аўтара рамана «На шляху з варагаў у грэкі», п'есы пра Скарыну, ужо льга знайсці звесткі ва ўсіх беларускіх энцыклапедыях. На чарзе — «сын» БССР Рыгор Родчанка:

*«Родчанка Рыгор Віктаравіч,*

*беларускі краязнавец.*

*Нарадзіўся 15.07.1929 г. у с. Няхаева Луганскай вобласці, Украіна.*

*У 1932 г. сям'я пераехала на радзіму маці ў Капыльскі раён. У час Вялікай Айчыннай вайны ваяваў у партызанскім атрадзе (з 1942 г.).*

*Закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. З 1959 г. жыў у Слуцку, працаваў настаўнікам у школе. Аўтар кніг "Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. Нарыс жыцця і творчасці" (1984), "Старэйшая школа Беларусі" (1985), "Слуцкая старсветчына" (1991). Памёр у 1994 г.».*

## II. Маці

Так сталася, што ў пошуках успамінаў, біяграфій невядомых мне дзеячаў эміграцыі, расчытванні і публікацыі іх ліставання, выяўленні недрукаваных твораў я ўсё адкладаў роспыты бацькоў пра сваю ўласную сям'ю. Адкладаў аж да 2 снежня 2006 г., калі маці раптоўна сышла.

Не, я прасіў запісаць — і пра жыццё пад акупацыяй, і складанасці з пачаткам жыцця ў навуцы, ускладненага рэпрэсаваным бацькам, і пра працу з Скарынавымі кнігамі, ягонай моваю, і пра даўгія гады выкладання ў Педагагічным інстытуце імя Горкага, напісаныя там кнігі і падручнікі. Прасіў, але не быў такім настойлівым, як, прыкладам, з Янкам Юхнаўцом, якога літаральна гвалтам прымусіў напісаць аўтабіяграфію. Ды і маці шкадавала часу — адарвацца ад дапамогі з роспісам эміграцыйных газетаў, вычыткаю тэкстаў, праглядам картак будучага англа-беларускага слоўніка Валянціны Пашкевіч.

З *«успаміннага»* засталіся толькі дзве старонкі накіду жыццяпісу ды — выпадкова ў часы электроннай пошты — чарнавік ліста да свайго былога студэнта, Ю. Гарбінскага.

Шчырасьці ад Яна Багаслова,
(што жыцьцём сьпісаныя найлепш, чым ім),
зьніклі ў кагосьці пяшчынай дзеяў, словаў,
бо часінам нашым не стае часін[1540].

*Алена Юрэвіч*

* * *

1954 — год заканчэньня ўнівэрсытэту [БДУ]. Рэкамэндацыя ў асьпірантуру. На разьмеркаваньні — *«недагляд»* КДБ быў выпраўлены, асьпірантура адмянілася. Я ўзяла накіраваньне ў школу на Магілёўшчыну (крыўда захліснула). Дырэктар Інстытуту мовазнаўства Кандрат Крапіва раіў «зачапіцца» на які год у Маладэчне — адмовілася. А Марыя Андрэеўна Жыдовіч[1541], мая ўнівэрсытэцкая настаўніца і апякунша, шукала спосабу *«адваяваць»* мяне для навукі.

Падасьпела рэабілітацыя. Пасьля 17 гадоў катаргі ў паўночных лягерах бацьку апраўдалі (быў 58а артыкул — шпіянаж на карысьць польскай, нямецкай і ангельскай разьведак) і дазволілі вярнуцца ў Менск. Мяне дапусьцілі да экзамэнаў. Здала.

---

1540 Юхнавец, Янка. Калюмбы. Нью Ёрк, 1967. С. 21.

1541 **Марыя Жыдовіч** (1906–1977), мовазнаўца, доктар філалагічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР.

Быў выбар спэцыялізацыі: гісторыя беларускай мовы (кіраўнік М. А. Жыдовіч) і сучасная беларуская мова (кіраўнік М. Г. Булахаў[1542]). Выбрала гісторыю і праз тры гады прыйшла працаваць малодшым навуковым супрацоўнікам у сэктар гісторыі, загадчыцай была Марыя Андрэеўна.

Гады працы ў сэктары (да канца 1967 г.) успамінаюцца па-добраму. Абараніла ў 1960 (мяняліся правілы абароны) дысэртацыю — «Катэгорыя граматычнага роду назоўнікаў у беларускай мове». Кур'ёзны выпадак: напярэдадні абароны, якая павінна была адбыцца летам 1958 г., прыйшла пастанова: трэба было мець ня менш як тры публікацыі па дысэртацыі. І мы з Дз. Бугаёвым[1543] (абараняліся разам) пачалі сьпешна *«публікавацца»* на працягу амаль двух гадоў.

Уключылася ў падрыхтоўку шматтомнага беларускага гістарычнага слоўніка, расьпісвала ўсе гады старажытныя беларускія помнікі. (Колькасьць выпісаных картак дакладна ня помню, яны адзначаны ў «Прадмове» да І тома.)

Па ініцыятыве М. А. Жыдовіч, разам зь ёю і Я. М. Рамановіч[1544] зрабілі першы «Бібліяграфічны ўказальнік па беларускаму мовазнаўству (1825–1958 гг.)» (1960 г.)[1545]. У 1967 г. «Указальнік» дапоўнілі і перавыдалі ўжо з удзелам А. Д. Васілеўскай[1546].

Да юбілею Я. Ф. Карскага разам зь Я. М. Рамановіч падрыхтавалі ягоную бібліяграфію. Прыйшлося перабраць сотню выданьняў у розных кнігасховішчах Менску, Вільні, Масквы, Ленінграду.

Лёгка, зь цікавасьцю працавалася над артыкуламі з гісторыі беларускай лексыкі («Старажытная беларуская метралёгія», «Назвы пошлін і падаткаў у мове помнікаў старажытнай беларускай пісьменнасьці», «Лексіка-сэмантычная група слоў са значэньнем "пасаг" — усе артыкулы[1547] гэтыя ў сааўтарстве зь Яновіч А. І.[1548]).

---

[1542] **Міхаіл Булахаў** (1919–2012), мовазнаўца, доктар філалагічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР.

[1543] **Дзмітрый Бугаёў** (нар. 1929), літаратуразнаўца, крытык, кандыдат філалагічных навук, прафесар.

[1544] **Яўгенія Рамановіч** (нар. 1922), мовазнаўца, кандыдат філалагічных навук.

[1545] Гл.: Жыдовіч, М.; Рамановіч, Я.; Юрэвіч, А. Бібліяграфічны ўказальнік літаратуры па беларускаму мовазнаўству. Мінск: Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна, Інстытут мовазнаўства АН БССР, 1960. — 223 с.

[1546] Гл.: Васілеўская, А.; Жыдовіч, М.; Рамановіч, Я.; Юрэвіч, А. Беларускае мовазнаўства: бібліяграфічны ўказальнік (1825–1965) / пад рэд. Л. Шакуна. Мінск: Навука і тэхніка, 1967. — 416 с.

[1547] Публікацыі Алены Юрэвіч гл.: Бібліяграфія Алены Юрэвіч // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 30–44.

[1548] Алена Яновіч (нар. 1933), мовазнаўца, доктар філалагічных навук.

Зацікавілася фразеалёгіяй старажытнай беларускай мовы, у прыватнасьці ідыёмамі дзелавой пісьменнасьці. Падрыхтавала даклад на канфэрэнцыю ў БДУ. Пасьля настойлівых напамінкаў пэўных асоб пра зацікаўленасьць гэтай тэмай — адступілася.

Мела магчымасьць паглыбіцца ў старажытную беларускую лексыку, убачыць на агромністым фактычным матар'яле кірункі разьвіцьця беларускай мовы, асэнсаваць складанасьць падыходаў і спроб яе нармалізацыі («Праблема двухмоўя ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы», «Эвалюцыя мовы беларускіх друкаваных выданьняў новага пэрыяду» — абодва артыкулы ў саўтарстве зь Яновіч і Крамко[1549]).

У «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» том II (пасьлякастрычніцкі пэрыяд), сааўтары Крамко і Яновіч, стараліся даць новы матэрыял, адыйсьці ад палітызаваных, часта фальсіфікаваных, ацэнак асоб, зьяў і падзей.

Са старонак газэт і часапісаў, навуковых выданьняў, схаваных у бібліятэчных *«спэцхранах»*, паўставалі постаці рэальных, сапраўдных дзеячаў беларускай навукі і культуры. Удалося расказаць пра аднаго зь іх — П. А. Бузука[1550]. Нават дзеці ягоныя ня ведалі, кім быў іхны бацька, чым слаўны ў сусьветнай навуцы, што зрабіў для Беларусі[1551].

Калі пачыналі працу, у канцылярыі АН была пра Бузука толькі адна паперка — даведка пра ягоную сьмерць ад крываўкі ў 1942 г. (па сьведчаньнях людзей, ён разьбіў галаву аб сьцены камэры яшчэ ў турме — ад гэтага і памёр).

Біяграфічныя зьвесткі, рэальныя факты жыцьця й дзейнасьці Бузука мы з Я. М. Рамановіч адшуквалі ў архівах Адэсы, Волагды. Шукалі й распытвалі былых сааўтараў, паплечнікаў, калег, суседзяў Бузука. Юргялевіч[1552] адмовіўся гаварыць пра былога калегу (злыя языкі гава-

---

1549 **Іван Крамко** (нар. 1931), мовазнаўца, кандыдат філалагічных навук.

1550 **Пётр Бузук** (1891–1938), лінгвіст-славіст, літаратуразнавец, паэт, празаік, педагог.

1551 Аляксандра Саковіч у артыкуле «Прафесар Пётра Бузук» піша: *«Разьвязка надыйшла неўзабаве. Праф. Бузук абліўся газай і падпаліў сябе. Яго адратавалі, але арыштавалі ізноў. І ягоная сям'я ўжо нічога аб ім ня чула. У апошнюю вайну мне давялося спаткаць ягоных дзяцей. Іх было трое — дзьве дзяўчынкі і хлопчык. Маці іхная перад самай вайной выехала зь Менску на поўдзень лячыцца, і вайна разлучыла яе зь дзецьмі, якія засталіся зь цёткай. Адна зь дзяўчатак была маёй вучаніцай. Як дзіця, рана пазбаўленае бацькі, яна із пачуцьцём успамінала яго. Але ўсе ейныя апавяданьні аб ім тычыліся галоўным чынам таго, які тата быў вясёлы, як ён любіў гуляць зь імі, як ён вазіў яе малую разам із сястрою на плячох. У мяне было ўражаньне, што дачка блізу нічога ня ведала аб выдатных навуковых працах свайго бацькі і тым, якую каштоўную навуковую спадчыну ён пакінуў па сябе»* (Беларус. № 4 (28). 21 лютага 1953 г. С. 3).

1552 **Пётр Юргелевіч** (1894–1973), мовазнаўца, педагог.

рылі, што Юргялевічава кніжка[1553] — праца Бузука). Віктар Ул. Мартынаў[1554] праз сваіх сяброў дазнаваўся і пераказваў нам самыя драбніцы з жыцьця Бузука, якія ўдалося сабраць у Адэсе і Малдавіі, падказваў публікацыі.

Склалі бібліяграфію, здаецца, больш-менш поўную. І кніжка пра Бузука[1555] сталася першай ластаўкай у шэрагу падобных — наступных.

Зь вялікай прыкрасьцю праз гады, ці не ў 1992, убачылі ў публікацыях Л. Сьмілавіцкага[1556] пра Бузука цэлыя старонкі, *«жыўцом»* выхапаныя з нашай кніжкі, выдадзенай пад грыфам Інстытута Мовазнаўства АН Беларусі. І ніхто зь беларускай навуковай грамадзкасьці не асудзіў плагіятара (больш таго, з ЦК былі званкі-просьбы да Я. М. Рамановіч *«пракансультаваць»* наконт Бузука. Нават кніжку ім, цэкаўцам, перадала яна).

Праца ў АН дала мне многа. Была магчымасьць карыстацца лепшымі бібліятэкамі Саюзу, бываць на прадстаўнічых канфэрэнцыях, слухаць цікавых людзей, пашыраць свой кругагляд — адрывацца ад *«сваёй ваколіцы».*

Але пасьля адыходу зь сэктару М. А. Жыдовіч атмасфэра там зьмянілася, і людзі пачалі *«распаўзацца»*. Мяне запрасіў да сябе на кафедру ў БДУ М. Г. Булахаў, але Ф. М. Янкоўскі[1557] *«перакупіў»*. Сям’я выказалася за кафедру беларускай мовы ў Педінстытуце. Так яно й сталася — у сьнежані 1967 г.

---

[1553] Відаць, маецца на ўвазе кніга: Юргелевіч, Пётр. Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі: Фанетыка, арфаэпія, графіка і правапіс, лексіка і фразеалогія: дапаможнік для студэнтаў філалагічных і гісторыка-філалагічных факультэтаў педагагічных інстытутаў. Мінск: Вучпедгіз, 1958. — 150 с.

[1554] **Віктар Мартынаў** (1924–2013), мовазнаўца, доктар філалагічных навук. У 1962–1990 гг. — загадчык аддзела агульнага і славянскага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства АН БССР.

[1555] Рамановіч, Я.; Юрэвіч, А. Бузук П. А.: нарыс аб жыцці і навуковай дзейнасці. Мінск: Навука і тэхніка, 1969. — 103 с.

[1556] **Леанід Смілавіцкі** (нар. 1955), беларускі і ізраільскі гісторык, спецыяліст па гісторыі габрэяў Беларусі. У 1984–1992 гг. — дацэнт кафедры гісторыі Беларусі, СССР і замежных краін Беларускага ўніверсітэта культуры ў Мінску.

[1557] **Фёдар Янкоўскі** (1918–1989), мовазнавец і пісьменнік, у 1956–1982 гг. — загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута.

## Ліст да Юрася Гарбінскага[1558]

Юра!

Нічога ня маю супраць, каб ты выкарыстаў Дубоўкавы аўтографы пры такой нячастай нагодзе яшчэ раз успомніць добрым словам харошага чалавека. (Хаця ня так даўно Шавыркін[1559] пасьля дзьвюх Лявонавых публікацый у «Родным слове» паабяцаў ніколі больш не пускаць эмігрантаў на старонкі «свайго» часопісу.)

Што да гісторыі нашага завочнага знаёмства з Ул. Дубоўкам, то было так.

Праца над ІІ томам «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» дала мне магчымасьць перабраць схаваныя ў спэцфондзе Ленінкі матар’ялы. Асоба Ўладзімера Дубоўкі, ягоная навуковая дасьведчанасьць, шырокія гуманістычныя пагляды, ягоная роля ў тагачасным адраджэнскім руху, аўтарытэт паэта й тэарэтыка літаратуры вылучаліся нават у тым багатым асьветніцка-пісьменьніцкім асяродзьдзі 20–30 гг. ІІ том «Гісторыі...», як ты ведаеш, меў трох аўтараў. Кожны імкнуўся адлюстраваць на старонках гэтай працы больш новых, раней перакрэсьленых, перакручаных, адкінутых фактаў. Але і рэдактары, і цэнзары па-ранейшаму сачылі за кожным словам, кожнай *«крамольнай»* думкай, хаця і была ўжо *«адліга»*. Такім чынам, у кнігу трапіла мала з таго, пра што хацелі й маглі расказаць. (На жаль, не магу паказаць старонкі, бо ня маю пад рукамі кнігі.)

Калі кніга выйшла, я паслала яе ў Маскву Ул. Дубоўку. Ён быў вельмі зьдзіўлены і ўсьцешаны, што ёсьць яшчэ на Беларусі, якая так і не прыняла яго пасьля зьняволеньня, людзі, якія помняць яго, шануюць, па справядлівасьці ацэньваюць ягоную дзейнасьць. На жаль, гэты першы Дубоўкаў ліст не захаваўся — многа хадзіў па руках, чытаўся акадэмічнымі калегамі і ў некага *«асеў»*.

А потым былі рэдкія віншаваньні й падарункі — кнігі. Пабачыцца так і не ўдалося. Вось і ўся гісторыя нашага знаёмства.

Спадзяюся, што ў цябе знойдуцца патрэбныя словы для ацэнкі свайго выдатнага земляка. Посьпеху табе ва ўсім.

8 сакавіка 2000.

А. К.

---

[1558] **Юры Гарбінскі** (нар. 1963), даследчык рэлігійнай гісторыі эміграцыі, колішні студэнт Алены Юрэвіч.

[1559] Міхась Шавыркін у 1987–2006 гг. быў галоўным рэдактарам часопіса «Роднае слова»; ад 1993 г. у часопісе рэгулярна змяшчаліся матэрыялы пра беларускую літаратуру на эміграцыі.

# ІМЕННЫ ПАКАЗНІК[1]



[1] Імя Францыска Скарыны ў паказнік не ўнесена, бо ён выступае галоўным героем і згадваецца амаль на кожнай старонцы кнігі.

# ЗМЕСТ

